УДК 801.316.4
ББК 81.2 Р-4
Б 90

Рэцэнзент
доктар філалагічных навук *А.Я.Супрун*

Мастак *А.С.Забаўская*

**Булыка А.М.**

**Б 90** Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. Т. 2: М—Я — Мн.: БелЭн, 1999. — 736 с.
ISBN 985-11-0153-2.

Слоўнік з'яўляецца першым у беларускай лексікаграфічнай практыцы даведнікам па іншамоўнай лексіцы. У ім змешчана каля 25 тысяч агульнаўжывальных слоў і найбольш пашыраных тэрмінаў з розных галін ведаў, запазычаных з іншых моў або ўтвораных з іншамоўных лексічных элементаў. Кожнае слова забяспечана даведкай аб яго паходжанні і тлумачэннем. Улічаны і новыя лексічныя адзінкі, якія ўвайшлі ў актыўны ўжытак на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

УДК 801.316.4
ББК 81.2 Р-4

ISBN 985-11-0153-2

# М

**МАА́КІЯ** (н.-лац. maackia) — дрэва сям. бабовых з густой раскідзістай кронай і серабрыстым лісцем, пашыранае ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**МАА́Р** (ням. Maar) — лейкападобная або цыліндрычная ўпадзіна на зямной паверхні, утвораная ў выніку вулканічных вывяржэнняў без вылівання *магмы*.

**МАБІ́ЛІ** [фр. (garde) mobile = рухомая гвардыя] — асобыя часці ўзброеных сіл Францыі другой пал. 19 ст., якія камплектаваліся з беспрацоўных і дэкласаваных элементаў для барацьбы супраць рэвалюцыйных выступленняў народных мас.

**МАБІЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. mobiliser, ад лац. mobilis = рухомы) — праводзіць *мабілізацыю*.

**МАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. mobilisation, ад лац. mobilis = рухомы) — 1) перавод узброеных сіл дзяржавы з мірнага становішча ў поўную баявую гатоўнасць; прызыў ваеннаабавязаных запасу ў армію ў час вайны; 2) *перан.* прывядзенне сіл, сродкаў у актыўны стан, каб забяспечыць паспяховае выкананне якога-н. задання.

**МАБІЛІ́ЗМ** (ад лац. mobilis = рухомы) — геалагічная *гіпотэза*, згодна якой адбываюцца вялікія гарызантальныя перамяшчэнні мацерыковых глыб зямной кары.

**МАБІ́ЛЬНЫ** (фр. mobile, ад лац. mobilis = рухомы) — рухомы, здольны хутка перамяшчацца, неадкладна дзейнічаць (напр. м. атрад).

**МАБУ́Я** (н.-лац. maubia) — яшчарка сям. сцынкавых са стройным целам даўжынёй да 22 см, пашыраная ў Афрыцы, Паўд. Азіі, Паўд. і Цэнтр. Амерыцы.

**МАВЕТО́Н** (фр. mauvais ton) — *уст.* дрэнны тон, нявыхаванасць.

**МАГ** (лац. magus, ад гр. magos) — 1) жрэц у краінах Стараж. Усходу, якія спраўляў рэлігійныя абрады і прадказваў будучае; 2) асоба, якая займаецца *магіяй*, чарадзействам; вяшчун, знахар; 3) *перан.* чалавек, у якога што-н. атрымліваецца спрытна, умела.

**МАГАЗІ́Н** (фр. magazin, ад ар. mahāzin = склады) — 1) прадпрыемства рознічнага гандлю; 2) прыстасаванне ў апараце, прыборы, куды закладваецца некалькі аднародных прадметаў (напр. м. аўтамата).

**МАГАМЕТА́НІН** (ад тур. Muhämmed < ар. Muhammad = Магамет, імя прарока) — устарэлая назва *мусульманіна*.

**МАГАМЕТА́НСТВА** (ад *магаметанін*) — устарэлая назва *мусульманства*.

**МАГА́Р** (венг. mohar) — травяністая расліна сям. злакавых з ланцэтна-лінейным лісцем і густым коласападобным суквеццем, пашыраная ў тропіках, субтропіках і ўмерана цёплых зонах, дзе вырошчваецца як кармавая; на Беларусі расце як пустазелле.

# М

**МАГАРА́ДЖА** (санскр. mahārādža = вялікі ўладар) — *тытул* князя высокага рангу ў Індыі да 1956 г., якому падначальваліся некалькі іншых князёў.

**МАГАРЫ́Ч** (цюрк. mahārig, ад ар. māhariğ) — пачастунак з выпадку заключэння выгаднай здзелкі.

**МАГДА́ЛІС** (н.-лац. magdalis) — жук сям. даўганосікаў, які водзіцца ў лясах, парках і садах, шкодзіць хвойным і ліставым дрэвам і кустам.

**МАГЕ́РКА** (польск. magierka, ад венг. magyar = венгр) — высокая валеная з воўны мужчынская шапка, якую насілі раней сяляне.

**МАГІКА́НІН** (англ. Mohican, або індз. Mo-hi-konnius) — 1) прадстаўнік аднаго з плямёнаў паўночнаамерыканскіх індзейцаў, што былі знішчаны заваёўнікамі; 2) *перан.* апошні прадстаўнік чаго-н.

**МАГІ́СТР** (лац. magister = начальнік, настаўнік) — 1) тытул некаторых службовых асоб у Стараж. Рыме (напр. м. конніцы); 2) высокі прыдворны тытул у Візантыі; 3) кіраўнік сярэдневяковага манаскага або рыцарскага ордэна; 4) першая вучоная ступень у некаторых краінах.

**МАГІСТРА́ЛЬ** (фр. magistral, ад лац. magistralis = галоўны) — 1) асноўная, галоўная лінія ў чыгуначных, водных, паветраных, аўтамабільных і іншых шляхах зносін (напр. гарадская м.); 2) галоўная лінія ў сістэме водаправоднай, электрычнай, тэлефоннай ці іншай сеткі.

**МАГІСТРА́ЛЬНЫ** (лац. magistralis = галоўны) — 1) які мае адносіны да *магістралі* (напр. м-ая шаша); 2) галоўны, асноўны (напр. м. напрамак).

**МАГІСТРА́НТ** (с.-лац. magistrans, -ntis, ад лац. magistrate = вучыць) — асоба, якая рыхтуецца да абароны дысертацыі на ступень *магістра.*

**МАГІСТРА́Т** (лац. magistratus = улада, кіраўніцтва) — 1) прадстаўнік вышэйшай улады ў Стараж. Рыме, напр. *консул, прэтар, трыбун* і інш.; 2) орган гарадскога самакіравання ў некаторых краінах (параўн. *муніцыпалітэт*); 3) ніжэйшая судовая або паліцэйская службовая асоба ў некаторых краінах.

**МАГІСТРАТУ́РА** (н.-лац. magistratura, ад лац. magistratus = улада, кіраўніцтва) — 1) назва вышэйшых дзяржаўных пасад у Стараж. Рыме; 2) судовае ведамства ў некаторых краінах.

**МАГІ́ЧНЫ** (гр. magikos) — 1) які мае адносіны да *магіі*; 2) незвычайны па сіле ўздзеяння, цудадзейны.

**МА́ГІЯ** (лац. magia, ад гр. mageia) — 1) сукупнасць прыёмаў і абрадаў, якія, па ўяўленню забабонных людзей, маюць цудадзейную сілу; чарадзейства, знахарства; ч о р н а я  м. — чараўніцтва з дапамогай пякельных сіл; б е л а я  м. — чараўніцтва з дапамогай нябесных сіл; 2) *перан.* вялікая сіла ўздзеяння на каго-н. (напр. м. мастацкага слова).

**МА́ГМА** (гр. magma = цеста, густая мазь) — расплаўленая вогненная маса, якая ўтвараецца пад уздзеяннем высокай тэмпературы і ціску ў глыбінных зонах Зямлі, а пасля вывяржэння на паверхню застывае.

# M

**МАГМАТЫ́ЗМ** (ад магма) — працэс утварэння, пранікнення ў горныя пароды, вывяржэння і крышталізацыі магмы.

**МАГНА́ЛІЙ** [ад магн(ій) + ал(юмін)ій] — сплаў магнію з алюмініем, які валодае высокай каразійнай стойкасцю і высокай пластычнасцю.

**МАГНАЛІ́Т** [ад магне(зіт) + -літ] — будаўнічы матэрыял з сумесі магнезіяльнага цэменту, драўняных апілак, азбеставых валокнаў і іншых напаўняльнікаў.

**МАГНА́Т** (польск. magnat, ад с.-лац. magnatus = знатны чалавек, вяльможа) — буйны землеўладальнік або прадстаўнік буйнога прамысловага і фінансавага капіталу ў феадальным і капіталістычным грамадствах.

**МАГНЕЗІ́Т** (ад *магнезія*) — мінерал белага або жаўтавата-шэрага колеру, прыродная вуглякіслая соль *магнію*; выкарыстоўваецца для вырабу вогнетрывалых матэрыялаў.

**МАГНЕ́ЗІЯ** (п.-лац. magnesia, ад гр. Magnesia = назва горада ў Малой Азіі) — лёгкі парашок белага колеру, які з'яўляецца вокісам або соллю *магнію*; выкарыстоўваецца ў медыцыне, а таксама як вогнетрывалы матэрыял.

**МАГНЕСІ́Н** [ад гр. magnes = магніт + syn(chronos) = адначасовы] — устройства для кіравання механізмамі на адлегласці і перадачы паказанняў вымяральных прыбораў.

**МАГНЕ́ТА** (фр. magneto, ад гр. magnetes = магнетычны) — электрамагнітны *генератар* пераменнага току для ўтварэння іскры, якая запальвае гаручую сумесь у цыліндрах рухавікоў унутранага згарання.

**МАГНЕТАДЫЭЛЕ́КТРЫКІ** (ад гр. magnetes = магнетычны + *дыэлектрыкі*) — рэчывы (сумесь *ферамагнітных* парашкоў з дыэлектрыкамі), спрасаваныя пад вялікім ціскам і пры высокай тэмпературы ў маналітную масу.

**МАГНЕТАКАЛАРЫ́ЧНЫ** (ад гр. magnetes = магнетычны + *калорыя*); м. э ф е к т — змяненне тэмпературы *магнетыка* пад дзеяннем магнітнага поля.

**МАГНЕТАХІ́МІЯ** (ад гр. magnetes = магнетычны + *хімія*) — раздзел фізічнай хіміі, які вывучае залежнасць магнітных уласцівасцей рэчываў ад іх хімічнай будовы.

**МАГНЕТО́Н** (ад гр. magnetes = магнетычны) — адзінка вымярэння магнітнага моманту (велічыні, якія характарызуе магнітныя ўласцівасці цел і часцінак рэчываў), прынятая ў атамнай і ядзернай фізіцы.

**МАГНЕТРО́Н** (ад гр. magnes = магніт + *-трон*) — двухэлектродная электронная лямпа, якая працуе ў полі электрамагніту або пастаяннага магніту.

**МАГНЕТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. magnétiser) — тое, што і *гіпнатызаваць*.

**МАГНЕТЫЗЁР** (фр. magnétiseur) — *уст.* гіпнатызёр.

**МАГНЕТЫ́ЗМ** (ад гр. magnetes = магнетычны) — 1) здольнасць *магніта*, а таксама праваднікa з электрычным токам прыцягваць да сябе або адштурхоўваць некаторыя целы; 2) вучэнне аб магнітных з'явах і магнітных уласцівасцях цел.

# М

**МАГНЕ́ТЫК** (ад гр. magnes, -etos = магніт) — рэчыва, якое валодае магнітнымі ўласцівасцямі; адрозніваюць *ферамагнетыкі, ферымагнетыкі, парамагнетыкі* і *дыямагнетыкі*.

**МАГНЕТЫ́Т** (ням. Magnetit, ад гр. magnetes = магнетычны) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага колеру, які ўтрымлівае жалеза і валодае магнітнымі ўласцівасцямі; магнітны жалязняк.

**МАГНЕТЫ́ЧНЫ** (гр. magnetes) — які мае адносіны да *магнетызму*.

**МА́ГНІЙ** (рус. магний, ад н.-лац. magnesium < гр. Magnesia = назва горада ў Малой Азіі) — хімічны элемент, лёгкі, коўкі метал серабрыста-белага колеру, які гарыць яркім белым полымем.

**МАГНІ́Т** [рус. магнит, ад гр. Magnetis (lithos) — камень з Магнезіі, старажытнага горада ў Малой Азіі] — 1) кавалак жалезнай руды або сталі, здольны прыцягваць жалезныя і стальныя прадметы, ствараць магнітнае поле (адрозніваюць натуральны і штучны м.); 2) *перан.* тое, што прыцягвае да сябе з незвычайнай сілай.

**МАГНІТА-** (гр. magnetes = магнетычны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «магнітныя з'явы».

**МАГНІТАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *магніта- + біялогія*) — раздзел *біяфізікі*, які вывучае ўплыў магнітнага поля на жывыя арганізмы.

**МАГНІТАГІДРАДЫНА́МІКА** (ад *магніта- + гідрадынаміка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае ўзаемадзеянне рэдкіх металаў, плазмы з электрамагнітным полем.

**МАГНІТАГРА́МА** (ад *магніта- + -грама*) — графічны запіс змен магнітнага поля Зямлі, які атрымліваецца пры дапамозе *магнітографа*.

**МАГНІТАГРА́ФІЯ** (ад *магніта- + -графія*) — рэгістрацыя змен магнітнага поля Зямлі пры дапамозе *магнітографа*.

**МАГНІТАДЫНА́МІКА** (ад *магніта- + дынаміка*) — раздзел навукі аб *магнетызме*, які ахоплівае магнетычныя з'явы, працяканне якіх залежыць ад часу.

**МАГНІТАДЫЭЛЕ́КТРЫК** (ад *магніта- + дыэлектрык*) — ферамагнітны парашок, змешаны з дыэлектрыкам і спрасаваны пры высокай тэмпературы ў маналітную масу.

**МАГНІТАЛО́ГІЯ** (ад *магніта- + -логія*) — навука, якая вывучае магнітнае поле Зямлі.

**МАГНІТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *магніта- + -метрыя*) — раздзел *геафізікі*, які вывучае магнітнае поле Зямлі і яго анамаліі.

**МАГНІТАМЕХАНІ́ЧНЫ** (ад *магніта- + механічны*) — звязаны з адносінамі магнетычнага моманту элементарных часціц з механічным момантам.

**МАГНІТАО́ПТЫКА** (ад *магніта- + оптыка*) — раздзел *оптыкі*, які вывучае ўплыў магнітнага поля на выпрамяненне, пашырэнне і паглынанне святла ў целах, што змешчаны ў гэтым полі.

**МАГНІТАПА́ЎЗА** (ад *магніта- + паўза*) — мяжа *магнітасферы* Зямлі (паміж зямным і міжпланетным магнітнымі палямі).

**МАГНІТАРАДЫЁЛА** (ад *магніта- + радыёла*) — апарат, які

складаецца з радыёвяшчальнага прыёмніка, магнітафоннай панэлі і электрапрайгравальніка.

**МАГНІТАРЭЗІСТЫЎНЫ** (ад *магніта- + рэзістыўны*); м. э ф е к т — змяненне электрычнага супраціўлення праваднікa пад дзеяннем магнітнага поля.

**МАГНІТАСТАТЫКА** (ад *магніта- + статыка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае магнітнае поле нерухомых магнітаў.

**МАГНІТАСТРЫКЦЫЯ** (ад *магніта-* + лац. strictio = нацягванне) — змяненне формы або памераў цел (з нікелю, нікелевага ферыту і інш.) пры іх намагнічванні.

**МАГНІТАСФЕРА** (ад *магніта- + сфера*) — вобласць каляпланетнай прасторы, фізічныя ўласцівасці якой вызначаюцца магнітным полем планеты.

**МАГНІТАТРАПІЗМ** (ад *магніта- + трапізм*) — роставыя рухі раслін пад дзеяннем пастаяннага магнітнага поля.

**МАГНІТАТЭЛУРЫЧНЫ** (ад *магніта-* + лац. tellus, -luris = Зямля); м - а е з а н д з і р а в а н н е — метад разведачнай *геафізікі*, які прымяняецца для вывучэння будовы зямной кары.

**МАГНІТАФОН** (ад *магніта- + -фон*) — апарат для запісу і ўзнаўлення гукаў электрамагнітным шляхам.

**МАГНІТАЭЛЕКТРЫЧНЫ** (ад *магніта- + электрычны*) — звязаны з выкарыстаннем узаемадзеяння поля пастаяннага магніта з электрычным полем.

**МАГНІТНЫ** (ад *магніт*) — 1) які мае адносіны да магніта; 2) які мае ўласцівасць магніта.

**МАГНІТОГРАФ** (ад *магніта- + -граф*) — прыбор для безупыннай рэгістрацыі змен магнітнага поля Зямлі.

**МАГНІТОЛА** [ад *магніта(фон) + (радыё)ла*] — апарат, які аб'ядноўвае радыёпрыёмнік і магнітафон.

**МАГНІТОМЕТР** (ад *магніта- + метр*) — прыбор для вымярэння магнітных велічынь (магнітнай індукцыі, намагнічанасці горных парод і інш.).

**МАГНІТУДА** (лац. magnitudo = велічыня) — умоўная велічыня, якая характарызуе агульную энергію пругкіх ваганняў, выкліканых землетрасеннямі або выбухамі.

**МАГНІФІКАТ** (лац. Magnificat = першае слова песнапення) — шматгалосы твор для хору і сімфанічнага аркестра звычайна радаснага, узнёслага характару на тэкст рэлігійнага каталіцкага песнапення.

**МАГНОЛІЯ** (н.-лац. magnolia, ад фр. Magnol = прозвішча фр. батаніка 17 ст.) — дрэвавая або кустовая расліна сям. магноліевых з буйнымі пахучымі белымі ці ружовымі кветкамі, пашыраная ва Усх. і Паўд. Усх. Азіі, Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МАГОНІЯ** (н.-лац. mahonia) — вечназялёная кустовая або дрэвавая расліна сям. барбарысавых з буйным калючым лісцем і цёмнасінімі або чорнымі ядомымі ягадамі, пашыраная ў Паўн. і Цэнтр. Амерыцы, Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МАГОТ** (фр. magot) — бясхвостая малпа роду *макак*, якая сустрака-

ецца ў Паўн.-Зах. Афрыцы і ў Еўропе (каля Гібралтара).

**МАДА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *мадальны*) — 1) граматычная катэгорыя, якая выражае адносіны зместу выказвання да рэчаіснасці; 2) *лог.* катэгорыя, якая выражае ступень верагоднасці, дакладнасці суджэння; па мадальнасці адрозніваюць *ападыктычныя, асертарычныя* і *праблематычныя* суджэнні.

**МАДА́ЛЬНЫ** (фр. modal, ад лац. modus = спосаб) — які выражае *мадальнасць* (напр. м-ыя дзеясловы).

**МАДА́М** (фр. madame) — ветлівы зварот да замужняй жанчыны ў Францыі і некаторых іншых краінах (звычайна далучаецца да прозвішча).

**МАДАПАЛА́М** (англ. madopollam, ад інд. Madopollam = назва горада ў Індыі) — белая шчыльная баваўняная тканіна, з якой шыюць бялізну.

**МАДО́ННА** (іт. madonna) — 1) старадаўні зварот да жанчыны ў Італіі; 2) Божая маці, багародзіца ў католікаў і яе выява ў скульптуры і жывапісе; 3) *перан.* жанчына, якая ўяўляецца ўвасабленнем прыгажосці, пакорнасці і нявіннасці.

**МАДРЫГА́Л** (фр. madrigal, ад іт. madrigale) — невялікі інтымна-жартоўны верш, што ўключае камплімент, найчасцей адрасаваны жанчыне.

**МАДРЭПО́РЫ** (іт. madrepora) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл класа каралавых *паліпаў*, з шкілетаў якіх утвараюцца каралавыя рыфы.

**МАДУЛО́МЕТР** [ад *мадул(яцыя)* + *-метр*] — прыбор для вымярэння каэфіцыента амплітуднай мадуляцыі.

**МАДУЛЯВА́ЦЬ** (лац. modulari = спяваць, іграць) — 1) *муз.* пераходзіць з адной танальнасці ў другую (напр. м. голасам); 2) змяняць характар ваганняў (напр. м. электрычны ток).

**МАДУЛЯ́ТАР** (лац. modulator = які захоўвае рытм) — прыбор, пры дапамозе якога ажыццяўляецца *мадуляцыя* 2.

**МАДУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. modulation = мернасць) — *муз.* пераход з адной танальнасці ў другую; 2) змяненне характару ваганняў высокай частаты пад уплывам ваганняў больш нізкай частаты (напр. м. святла).

**МАДЫЛЬЁН** (фр. modillon, ад іт. modiylione) — разнавіднасць *кансолі*, звычайна ў форме літары «S», якая падтрымлівае вынасную частку карніза.

**МАДЫ́СТКА** (польск. modystka, ад фр. modiste) — *уст.* жанчына, якая займаецца шыццём моднага жаночага адзення і галаўных убораў.

**МАДЫФІКАВА́ЦЬ** (лац. modificare) — відазмяняць, не закранаючы сутнасці.

**МАДЫФІКА́ТАР** (ад лац. modificare = відазмяняць, мяняць форму) — 1) прыстасаванне, якое мяняе работу, дзеянне машыны; 2) дабаўка да расплаўленага металу, якая садзейнічае змяненню яго структуры.

**МАДЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. modificatio) — 1) відазмяненне прадмета або з'явы, якое не закранае яго сутнасці; 2) прадмет або з'ява, якія падвергліся такому відазмяненню (напр. алмаз — м. вугляроду); 3)

няспадчыннае змяненне арганізма (проціл. *мутацыя* 1).

**МА́ДЫЯ** (н.-лац. madia < ісп. madi, ад індз. madi) — травяністая расліна сям. складанакветных, якую разводзяць у Чылі, Каліфорніі і на поўдні Зах. Еўропы; каштоўная алейная расліна.

**МАДЭЛІ́ЗМ** (фр. modélisme) — канструяванне, пабудова і выпрабаванне мадэлей машын, механізмаў.

**МАДЭЛІ́РАВАЦЬ** (фр. modeler) — 1) даследаваць з'явы і працэсы, якія адбываюцца на пэўных аб'ектах, шляхам пабудовы і вывучэння мадэлей гэтых аб'ектаў (напр. м. электрастанцыю); 2) ствараць мадэль чаго-н. (напр. м. сукенку, м. новую марку аўтамашыны); 3) апрацоўваць паверхню будучай скульптуры, надаючы ёй пэўную форму.

**МАДЭ́ЛЬ** (фр. modèle, ад лац. modulus = мера, узор) — 1) узор якога-н. вырабу, узорны экзэмпляр для серыйнай вытворчасці (напр. новыя мадэлі абутку); 2) схема, макет чаго-н., звычайна ў зменшаным выглядзе (напр. м. ракеты); 3) тып, марка канструкцыі (напр. новая м. аўтамабіля «Масквіч»); 4) тое, што служыць матэрыялам для мастацкага адлюстравання; натура.

**МАДЭЛЬЕ́Р** (фр. modeleur) — спецыяліст па канструяванню новых відаў (*мадэлей* 1) адзення, абутку.

**МАДЭМУАЗЭ́ЛЬ** (фр. mademoiselle) — ветлівы зварот да дзяўчыны ў Францыі і некаторых іншых краінах (звычайна далучаецца да імя або прозвішча).

**МАДЭ́РА** (ісп. madera, ад парт. Madeira = назва вострава ў Атлантыцы) — гатунак моцнага вінаграднага віна.

**МАДЭРА́ТА** (іт. moderato) — 1) *муз.* умераны тэмп, больш хуткі, чым *анданціна*, але павольнейшы за *алегрэта*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**МАДЭРА́ТАР** (лац. moderator = які стрымлівае) — прыстасаванне для прыглушэння гуку ў музычных клавішных інструментах.

**МАДЭ́РН** (фр. moderne = навейшы, сучасны) — 1) стылявы кірунак у еўрапейскім і амерыканскім мастацтве канца 19 — пач. 20 ст., які супрацьпастаўляў сябе мастацтву мінулага; 2) што-н. сучаснае, моднае (напр. стыль-м.).

**МАДЭРНІЗАВА́ЦЬ** (фр. moderniser, ад moderne = навейшы, сучасны) — 1) удасканальваць, абнаўляць што-н. у адпаведнасці з навейшымі патрабаваннямі, густамі (напр. м. абсталяванне); 2) надаваць з'явам мінулага рысы сучаснасці.

**МАДЭРНІЗА́ЦЫЯ** (фр. modernisation, ад moderne = навейшы, сучасны) — удасканаленне, абнаўленне чаго-н.

**МАДЭРНІ́ЗМ** (фр. modernisme, ад moderne = навейшы, сучасны) — агульная назва шматлікіх супярэчлівых кірункаў у літаратуры і мастацтве канца 19 — пач. 20 ст. (*кубізм, дадаізм, сюррэалізм, футурызм, экспрэсіянізм* і інш.), якія ў канчатковым выніку адмовіліся ад традыцый папярэдняй мастацкай культуры, выявілі тэндэнцыю да *ірацыяналізму, суб'ектывізму*, схільнасць да *авангардызму* і *фармалізму* ў галіне мастацкай формы.

# М

**МАДЭРНІ́СТ** (фр. moderniste, ад moderne = навейшы, сучасны) — паслядоўнік *мадэрнізму*.

**МАДЭ́РНЫ** (рус. модерный, ад фр. moderne = навейшы, сучасны) — сучасны, модны; у сучасным, модным стылі.

**МАЕНКА́ЎЗІЯ** (н.-лац. maenkhausia) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў Венесуэле; вядома як акварыумная.

**МАЁЛІКА** (іт. maiolica) — вырабы з каляровай абпаленай гліны, укрытай *глазурай* 1 (абліцовачныя пліткі, кафля, дэкаратыўныя талеркі і інш.).

**МАЁНТАК** (польск. majątek) — 1) від зямельнага ўладання ў феадальную і капіталістычную эпохі; 2) панскі двор разам з зямельнымі ўгоддзямі.

**МАЁР** (польск. major < ням. Major, ад лац. maior = старшы) — афіцэрскае званне ў арміі, вышэйшае за званне капітана.

**МАЖАРДО́М** (фр. majordome, ад лац. maior = старшы + domus = дом) — 1) вышэйшая службовая асоба ў Франкскай дзяржаве (5—8 ст.); 2) дварэцкі, аканом.

**МАЖАРЫТА́РНЫ** (фр. majoritaire, ад majorite = большасць) — які належыць да большасці, заснаваны на большасці; м - а я с і с т э м а — сістэма выбараў, пры якой прымаюцца ў разлік толькі галасы, пададзеныя за кандыдата, што атрымаў большасць галасоў.

**МАЖДЖЭ́Р** (ст.-польск. możdżerz < с.-в.-ням. morsaere, ад лац. mortarium) — 1) металічны таўкач; 2) кароткаствольная гармата, якая была на ўзбраенні войск Вялікага княства Літоўскага; прататып *марціры*.

**МАЖО́Р** (фр. majeur, ад лац. maior = вялікі) — 1) музычны лад, у аснове якога ляжыць вялікае (мажорнае) трохгучча; мае радасную, бадзёрую афарбоўку гучання (проціл. *мінор*); 2) *перан.* вясёлы, радасны настрой.

**МАЖО́РНЫ** (ад *мажор*) — 1) *муз.* які адносіцца да *мажору*, 2) *перан.* бадзёры, вясёлы.

**МАЗ** (фр. masse) — прыбаўка да стаўкі гульца іншым гульцом, што дае апошняму права на долю ў выйгрышы (у картачных гульнях).

**МА́ЗА** (н.-лац. maso) — павук сям. павукоў-пігмеяў, адзін з найменшых павукоў у Еўропе.

**МАЗАЗА́ЎРЫ** (ад лац. Mosa = назва ракі ў Бельгіі + *-заўр*) — гіганцкія вымерлыя марскія яшчаркі, якія існавалі ў *мезазоі*.

**МАЗА́ІКА** (фр. mosaïque) — 1) карціна, узор, арнамент з рознакаляровых кавалачкаў шкла, каменьчыкаў, керамічных плітак, шчыльна падагнаных адзін да аднаго; 2) майстэрства рабіць такія ўзоры і малюнкі; 3) *перан.* злучэнне разнародных элементаў, стракатая сумесь (напр. м. літаратурнага жыцця).

**МАЗАІЦЫ́ЗМ** (ад *мазаіка*) — наяўнасць у мнагаклетачным арганізме клетак рознага *генатыпу*.

**МАЗА́МА** (н.-лац. mazama) — млекакормячая жывёла сям. аленевых з кароткімі, у выглядзе шпілек, рагамі, якая водзіцца ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы; аб'ект палявання.

**МАЗАХІ́ЗМ** (ням. Masochismus, ад Sacher-Masoch = прозвішча

аўстр. пісьменніка) — від палавой ненармальнасці, калі асоба атрымлівае задавальненне пад уплывам болю, які прычыняецца сексуальным партнёрам; апісаны аўстрыйскім раманістам Захер-Мазохам.

**МАЗДЭІ́ЗМ** (ад перс. Ahura-Mazda = імя бога ў старажытных іранцаў) — старажытная рэлігія, пашыраная ў 1 тыс. да н.э. у Мідыі, Персіі.

**МА́ЗЕР** (англ. maser, скар. ад Microwave Amplification by Stimulated Emission of Radiation = узмацненне мікрахваляў пры дапамозе індуцыраванага выпрамянення) — прыбор для атрымання канцэнтраванага пучка мікрахвалевага электрамагнітнага выпрамянення.

**МАЗУ́РКА** (польск. mazurek, mazurka) — польскі народны парны танец, а таксама музыка да гэтага танца.

**МАЗУ́Т, МАЗУ́ТА** (рус. мазут < тур. mazut, ад ар. makhzulāt = адыходы) — астаткі ад нафты пасля адгонкі з яе бензіну, газы і газаліну.

**МАІ́С** (ісп. maiz, ад гаіці mahíz) — тое, што і *кукуруза*.

**МАЙ** (лац. maius) — пяты месяц каляндарнага года.

**МАЙДА́Н** (укр. майдан < кр.-тат. mäidan, ад ар. majdān) — плошча, дзе збіраюцца сходы, адбываюцца базары (у паўднёвых абласцях Расіі і Украіны).

**МА́ЙНА** [іт. (am)maina = убірай парусы] — слова са значэннем «апускай уніз!», уласцівае мове партовых грузчыкаў, будаўнікоў.

**МА́ЙСТАР** (польск. majster < ням. Meister, ад лац. magister = кіраўнік, настаўнік) — 1) спецыяліст у якім-н. рамястве, у якой-н. галіне вытворчасці; 2) кіраўнік асобнага ўчастка вытворчасці (напр. змены м.); 3) чалавек, які дасягнуў высокага майстэрства ў сваёй справе (напр. м. мастацкага слова); 4) званне, якое прысвойваецца спартсменам, якія дасягнулі пэўных вынікаў.

**МАКАДА́М** (англ. J.Mac Adam = прозвішча шатл. інжынера 18 ст.) — дарожнае пакрыццё з двух пластоў шчэбню рознай зярністасці.

**МАКА́КА** (парт. macaco, ад банту makaokoo = малпа) — невялікая малпа надсямейства мартышкападобных, якая водзіцца ў Азіі і Афрыцы.

**МАКА́М** (ар. makam) — музычны лад у прафесіянальнай музыцы арабаў і іранцаў.

**МАКА́МА** (ар. makame = спатканне) — кароткае рыфмаванае гумарыстычна-сатырычнае апавяданне як жанр сярэдневяковых літаратур на арабскай, персідскай і старажытнаяўрэйскай мовах.

**МАКА́О** [1] (кіт. Macao = назва горада ў Кітаі) — род азартнай картачнай гульні.

**МАКА́О** [2] (парт. macao) — бразільскі папугай, які мае яркае апярэнне і доўгі хвост.

**МАКАРАНІ́ЗМ** (фр. macaronisme, ад іт. maccheroni = макароны) — 1) іншамоўнае слова або выраз, якія ўжываюцца ў мове ў нязменным выглядзе; 2) іншамоўнае слова або выраз, уключаныя пісьменнікам у мову твора з захаваннем іх фанетыка-графічнай абалонкі ў стылістычных мэтах; 3) *пеан.* празмер-

нае ўжыванне на пісьме і ў размове іншамоўнай лексікі.

**МАКАРАНІ́ЧНЫ** (іт. maccheronico, ад maccheroni = макароны) — насычаны *макаранізмамі*; м. с т ы л ь — літаратурны стыль, у якім змешваюцца словы і выразы розных моў.

**МАКАРО́НЫ** (іт. maccheroni) — харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак, а таксама страва з такога прадукту.

**МАКАРТЫ́ЗМ** [ад англ. J.McCarthy = прозвішча амер. сенатара (1909—1957)] — палітычная плынь у ЗША у 50-х гадах 20 ст., звязаная з прыняццем антыдэмакратычнага заканадаўства, з узмацненнем «халоднай вайны».

**МАКАСІ́НЫ** (англ. moccosins, ад індз. makisin) — 1) мяккія чаравікі з аленевай шкуры ў паўночнаамерыканскіх індзейцаў; 2) сучасны эластычны абутак з рознымі ўстаўкамі.

**МА́КВІС** (фр. maquis = хмызняк) — зараснік вечназялёных кустоў і невысокіх дрэў, характэрны для краін Міжземнамор'я.

**МАКЕ́Т** (фр. maquette, ад іт. macchietta) — 1) узор чаго-н. звычайна ў паменшаным выглядзе, мадэль (напр. м. будынка); 2) пробны экзэмпляр кнігі, часопіса, газеты.

**МАКІ́** (фр. maquis) — французскія партызаны, удзельнікі руху Супраціўлення ў 1940—1944 гг. супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў; назва паходзіць ад назвы хмызняку (гл. *маквіс*).

**МАКІМО́НА** (яп. makimono) — малюнак на паперы або шоўку з адлюстраваннем гістарычнага або рэлігійнага сюжэта і тлумачэннем; вядомы ў Японіі і Кітаі з 11 ст. як старэйшая форма ілюстраванай кнігі.

**МАКІНТО́Ш** (англ. makintosh, ад C.Mackintosh = прозвішча шатл. хіміка) — лёгкае летняе паліто, часцей прагумаванае.

**МА́КІЯ** (іт. macchia) — тое, што і *маквіс*.

**МАКІЯВЕЛІ́ЗМ** [ад іт. N.Machiavelli = прозвішча палітычнага дзеяча Фларэнтыйскай рэспублікі (1469—1527)] — 1) палітыка, пры якой выкарыстоўваюцца любыя сродкі для дасягнення мэты; 2) *перан.* вераломства, каварства.

**МАКІЯ́Ж** (фр. maquillage) — комплекс касметычных працэдур, звязаных з упрыгожаннем твару памадай, пудрай, ласьёнам і інш.; 2) уменне рабіць знешнюю прыгажосць чалавека з дапамогай касметыкі.

**МА́КЛЕР** (ням. Makler, ад гал. makelaar) — біржавы пасрэднік, які заключае гандлёвыя здзелкі для сябе і за свой кошт у адрозненне ад *брокера*, які заключае здзелкі і для кліентаў за іх кошт.

**МАКЛЕ́Я** (н.-лац. macleya) — травяністая расліна сям. макавых з сэрцападобным лісцем і дробнымі белавата-ружовымі кветкамі ў мяцёлцы, пашыраная ў Кітаі, Японіі, трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; баконія.

**МАКЛЮ́РА** (н.-лац. maclura, ад Maclur = прозвішча амер. вучонага) — дрэва сям. тутавых, пашыранае ў Паўн. Амерыцы; дае аранжавую фарбу; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

# М

**МАКО́МА** (н.-лац. macoma) — марскі двухстворкавы *малюск*, які пашыраны ў халодных і ўмераных водах; з'яўляецца ежай для рыб, крабаў.

**МАКРА-** (гр. makros = вялікі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «вялікі», «буйны», «які адносіцца да вялікіх памераў, велічынь».

**МАКРАБІЁТЫКА** (ад *макра-* + гр. biotikos = які датычыць жыцця) — навука аб спосабах прадаўжэння жыцця.

**МАКРАГАМЕТАЦЫ́ТЫ** (ад *макрагаметы* + *-цыты*) — няспелыя жаночыя палавыя асобіны спаравікоў, якія развіваюцца ў макрагаметы (параўн. *макрагематацыты*).

**МАКРАГАМЕ́ТЫ** (ад *макра-* + *гамета*) — жаночыя палавыя клеткі або асобіны ў прасцейшых, звычайна нерухомыя і больш буйныя, чым мужчынскія (параўн. *мікрагаметы*).

**МАКРАГЛІ́Я** (ад *макра-* + гр. glia = клей) — адзін з відаў нервовай тканкі жывёльных арганізмаў, састаўная частка *нейрагліі*; выконвае апорную і харчавальную функцыі (параўн. *мікраглія*).

**МАКРАГРА́ФІЯ** (ад *макра-* + *-графія*) — даследаванне паверхні металу пры дапамозе фатаграфій або малюнкаў.

**МАКРАКАНТАРЫНХО́З** (ад *макракантарынхус*) — глісная хвароба свіней і драпежных звяроў, якая выклікаецца паразітычнымі чарвямі з роду макракантарынхус.

**МАКРАКАНТАРЫ́НХУС** (н.-лац. macracanthorhynchus, ад гр. makros = вялікі + akantha = калючка + rhynchos = хабаток) — *гельмінт* сям. *алігакантарынхідаў*, паразітуе ў тонкім кішэчніку дзікіх і свойскіх свіней.

**МАКРАКІНЕ́ТЫКА** (ад *макра-* + *кінетыка*) — раздзел кінетыкі, які вывучае ўплыў працэсаў пераносу рэчываў і цяпла на хуткасць хімічных рэакцый.

**МАКРАКЛІ́МАТ** (ад *макра-* + *клімат*) — клімат буйных геаграфічных рэгіёнаў (мацерыкоў, акіянаў); параўн. *мікраклімат*.

**МАКРАКО́СМАС** (ад *макра-* + *космас*) — свет вялікіх адлегласцей і цел (планет, зорак, галактык), Сусвет (параўн. *мікракосмас*).

**МАКРАЛІ́ТЫ** (ад *макра-* + *-літ*) — масіўныя, груба апрацаваныя каменныя прылады (сякеры, кіркі, долаты), якія ўжываліся ў *неаліце* (параўн. *мікраліты*).

**МАКРАМАЛЕ́КУЛА** (ад *макра-* + *малекула*) — малекула *палімера*, пабудаваная з вялікай колькасці хімічна звязаных атамаў.

**МАКРАМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *макра-* + *маркетынг*) — сістэма кіравання дзейнасцю прадпрыемстваў і арганізацый, заснаваная на прынцыпах маркетынгу.

**МАКРАМЕ́РЫ** (ад *макра-* + *-мер*) — буйныя *бластамеры* (параўн. *мікрамеры*).

**МАКРАМІЦЭ́ТЫ** (ад *макра-* + *-міцэты*) — зборная група вышэйшых грыбоў з буйнымі пладовымі целамі; пашыраны па ўсім зямным шары, акрамя Антарктыды; пераважную большасць іх складаюць *базідыяльныя* і сумчатыя грыбы (параўн. *мікраміцэты*).

# М

**МАКРАМЭ́** (ар. makrame = тасьма, карункі, махры) — вырабы, створаныя ў тэхніцы вузялковага ручнога пляцення; від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**МАКРАПО́Д** (н.-лац. macropodus, ад гр. makros = вялікі + pus, podos = нага) — рыба сям. лабірынтавых, здольная дзякуючы наяўнасці асобых дыхальных органаў дыхаць не толькі ў вадзе, але і кіслародам паветра; водзіцца ў неглыбокіх вадаёмах і на рысавых палях Карэі, Кітая, В'етнама; вядома як акварыумная.

**МАКРАПО́ДЫЯ** (н.-лац. macropodia) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які трапляецца на глебе ў лясах або драўніне, якая паглыблена ў глебу.

**МАКРАРАЁН** (ад *макра-* + *раён*) — найбольшая тэрытарыяльная адзінка, у якую пры раяніраванні можна аб'яднаць па якіх-н. прыкметах розныя мясцовасці (параўн. *мікрараён*).

**МАКРА́РГУС** (н.-лац. macrargus) –- павук сям. *лініфіідаў*, пашыраны ў Еўропе.

**МАКРАРЭЛЬЕ́Ф** (ад *макра-* + *рэльеф*) — буйныя формы рэльефу зямной паверхні са значнымі ваганнямі вышынь (горы, пласкагор'і, раўніны і інш.); параўн. *мегарэльеф, мезарэльеф, мікрарэльеф*.

**МАКРАСЕЙСМІ́ЧНЫ** (ад *макра- + сейсмічны*) — звязаны з моцным ваганнем зямной паверхні, якое адчуваецца людзьмі без спецыяльных прыбораў (параўн. *мікрасейсмічны*).

**МАКРАСІСТЭ́МА** (ад *макра-* + *сістэма*) — фізічная сістэма, якая складаецца з макрацел, даступных для ўспрымання органамі пачуццяў (параўн. *мікрасістэма*).

**МАКРАСКАПІ́ЧНЫ** (ад *макра-* + гр. skopeo = гляджу) — бачны простым вокам, без мікраскопа (параўн. *мікраскапічны*).

**МАКРАСПАРА́НГІЙ** (ад *макра-* + *спарангій*) — тое, што і *мегаспарангій*.

**МАКРАСПАРАФІ́Л** (ад *макраспора* + *-філ*) — тое, што і *мегаспарафіл*.

**МАКРАСПАРЫЁЗЫ** (ад *макраспорый*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі роду макраспорый і праяўляюцца ў выглядзе розных па форме, велічыні і афарбоўцы плям; часцей за ўсё пашкоджваюць бульбу і памідоры.

**МАКРАСПО́РА** (ад *макра-* + *спора*) — тое, што і *мегаспора*.

**МАКРАСПО́РЫЙ** (н.-лац. macrosporium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на розных раслінных рэштках, паразітуе на бульбе і памідорах.

**МАКРАСТРУКТУ́РА** (ад *макра-* + *структура*) — структура цвёрдых рэчываў, бачная простым вокам або пры невялікім павелічэнні (проціл. *мікраструктура*).

**МАКРАФА́ГІ** (ад *макра-* + *-фаг*) — клеткі злучальнай тканкі жывёльных арганізмаў, здольныя захопліваць і пераварваць бактэрыі і іншыя чужародныя арганізму часцінкі.

**МАКРАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *макра- + фатаграфія*) — фатаграфічны здымак структуры аб'екта, бачнай няўзброеным вокам (мінералаў, дэталей машын і інш.).

**МАКРАФА́УНА** (ад *макра- + фауна*) — рэшткі выкапнёвых жывёльных арганізмаў, якія можна разгледзець простым вокам.

**МАКРАФІ́Л** (ад *макра- + -філ*) — тое, што і *мегафіл*.

**МАКРАФІ́ТЫ** (ад *макра- + -фіты*) — кветкавыя і споравыя расліны, прыстасаваныя да жыцця ў вадзе.

**МАКРАФЛО́РА** (ад *макра- + флора*) — рэшткі выкапнёвых раслінных арганізмаў, якія можна разгледзець простым вокам.

**МАКРАХЛО́РЫС** (н.-лац. macrochloris) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. гіпнаманадавых, якая трапляецца ў тарфяна-балотных глебах.

**МАКРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. macrocystis) — бурая водарасць, пашыраная ў морах умераных зон; выкарыстоўваецца як угнаенне, сыравіна для атрымання штучнага валакна.

**МАКРАЦЫТО́З** (ад *макра- + -цытоз*) — павышаная колькасць *макрацытаў* у крыві.

**МАКРАЦЫ́ТЫ** (ад *макра- + -цыты*) — *эрытрацыты*, якія памерам большыя за нармальныя (параўн. *мікрацыты*).

**МАКРАЦЭФА́Л** (ад *макра- + -цэфал*) — чалавек з вялікай або падоўжанай спераду назад галавой (параўн. *мікрацэфал*).

**МАКРАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *макра- + -цэфалія*) — празмерная велічыня або падоўжанасць галавы пры нармальных памерах іншых частак цела (параўн. *мікрацэфалія*).

**МАКРАЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (ад *макра- + эвалюцыя*) — працэс эвалюцыі арганізмаў унутры роду, сямейства і іншых сістэматычных катэгорый, вышэйшых, чым від; адбываецца на падставе працэсаў *мікраэвалюцыі*.

**МАКРАЭКАНО́МІКА** (ад *макра- + эканоміка*) — эканамічная навука, якая вывучае ўзаемасувязі і прапорцыі развіцця народнай гаспадаркі ў цэлым і асобных яе галін (параўн. *мікраэканоміка*).

**МАКРАЭЛЕМЕ́НТЫ** (ад *макра- + элемент*) — найбольш пашыраныя 10 хімічных элементаў з атамнымі нумарамі ў інтэрвале ад 8 да 26, якія складаюць 99,92 % масы зямной кары (кісларод, крэмній, кальцый, алюміній, жалеза, магній, калій, натрый, тытан, марганец); параўн. *мікраэлементы*.

**МАКРЭ́ЛЬ** (рус. макрель, ад гал. makreel) — тое, што і *скумбрыя*.

**МА́КСВЕЛ** [англ. J.Maxwell = прозвішча англ. фізіка (1831—1879)] — адзінка магнітнага патоку.

**МА́КСІ** (англ. maxi) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) *максімальнай* даўжыні (параўн. *мідзі, міні*).

**МАКСІЛАПО́ДЫ** (н.-лац. maxillapoda, ад лац. maxilla = сківаца + гр. pus, podos = нага) — падклас ракападобных; пашыраны ў марскіх і прэсных вадаёмах; жывуць свабодна, прымацаваныя да субстрату, ёсць паразіты, драпежнікі; састаўная частка *зоапланктону*, корм для рыб.

**МАКСІ́М** [англ. maxim, ад H.Maxim = прозвішча амер. канструктара (1840—1916)] — станкавы кулямёт, які быў на ўзбраенні многіх армій да 2-й сусветнай вайны.

# М

**МА́КСІМА** [лац. maxima (sententia) = асноўнае правіла, прынцып] — лагічны або этычны прынцып, норма паводзін.

**МАКСІМАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. maximalis = найбольшы) — празмернасць, крайнасць у якіх-н. патрабаваннях, поглядах (параўн. *мінімалізм*).

**МАКСІМАЛІ́СТ** (ад *максімалізм*) — прыхільнік максімалізму.

**МАКСІМА́ЛЬНЫ** (с.-лац. maximalis) — самы вялікі, найбольшы (напр. м-ая глыбіня, м-ая тэмпература); параўн. *мінімальны*.

**МА́КСІМУМ** (лац. maximum = найбольшае) — найбольшая велічыня, найбольшая колькасць, найвышэйшая ступень чаго-н. (напр. м. ападкаў); параўн. *мінімум 1*; 2) *мат.* найбольшае значэнне функцыі ў параўнанні з яе значэннямі ва ўсіх дастаткова блізкіх пунктах.

**МА́КУЛА** (лац. macula = пляма) — група чуллівых клетак унутранага вуха пазваночных; слыхавая пляма.

**МАКУЛАТУ́РА** (ням. Makulatur, ад лац. maculare = пэцкаць) — 1) непрыгодная папера, старыя кнігі, часопісы, газеты, прызначаныя для перапрацоўкі на папяровых фабрыках; 2) *перан.* бяздарныя літаратурныя творы.

**МАК'ЯЁЛІ** (іт. macchiaioli, ад macchia = пляма) — група італьянскіх мастакоў 2-й пал. 19 ст., жывапісу якіх была ўласціва свабодная манера пісьма сакавітымі каляровымі плямамі.

**МАЛА́ГА** (ісп. malaga, ад Malaga = назва горада ў Іспаніі) — сорт дэсертнага вінаграднага віна.

**МАЛАКАЗААЛО́ГІЯ** (ад гр. malakos = мяккі + *заалогія*) — тое, што і *малакалогія*.

**МАЛАКАЛО́ГІЯ** (ад гр. malakion = малюск + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае *малюскаў*.

**МАЛАКАФА́УНА** (ад гр. malakion = малюск + *фауна*) — сукупнасць відаў *малюскаў* пэўнай мясцовасці, краіны або геалагічнага перыяду.

**МАЛАКАФІЛІ́Я** (ад гр. malakion = малюск + *-філія*) — прыстасаванасць некаторых раслін да апылення пры дапамозе смаўжоў (*малюскаў*).

**МАЛАМО́НАС** (н.-лац. mallomonas) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. маламанадавых, якая трапляецца ў чыстых халодных водах, балотах, канавах, сажалках, старыцах, азёрах, рэках; тыповы прадстаўнік *планктону*.

**МАЛА́СЫ** (фр. mollasses, ад лац. mollis = мяккі) — тоўшчы горных парод (*кангламератаў*, пясчанікаў, *мергеляў*, глін), якія адкладваюцца ў міжгорных упадзінах пры разбурэнні гор.

**МАЛАХА́Й** (тат. malachai) — 1) шапка з шырокімі навушнікамі, падбітая футрам; 2) шырокі кафтан без пояса.

**МАЛАХІ́Т** (гр. malachites, ад malache = мальва) — мінерал ярка-зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца для дэкаратыўна-мастацкіх вырабаў.

**МАЛЕІ́Н** (ад лац. malleus = сап) — *прэпарат* для алергічнай дыягностыкі сапу ў коней, аслоў, мулаў.

**МАЛЕІ́НАВЫ** (ад лац. malum = яблык) — звязаны з арганічнай

кіслатой, якая ў форме бясколерных крышталёў выпрацоўваецца сінтэтычна і выкарыстоўваецца для сінтэзу розных хімічных злучэнняў.

**МАЛЕ́КУЛА** (н.-лац. molecula, ад лац. moles = маса) — самая дробная часцінка рэчыва, якая захоўвае яго асноўныя хімічныя ўласцівасці.

**МАЛЕКУЛЯ́РНЫ** (ад *малекула*) — які адносіцца да *малекулы*, звязаны з вывучэннем малекул (напр. м. рух, м-ая фізіка).

**МАЛЕСКІ́Н** (англ. moleskine) — шчыльная бавоўняная тканіна, з якой шыюць рабочае і спартыўнае адзенне («чортава скура»).

**МАЛІБДЭ́Н** (н.-лац. molibdenum, ад гр. molybdos = свінец) — хімічны элемент, серабрыста-шэры цвёрды тугаплаўкі метал.

**МАЛІБДЭНІ́Т** (ад *малібдэн*) — мінерал свінцова-шэрай афарбоўкі з металічным бляскам, з якога атрымліваюць малібдэн.

**МАЛІГНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. malignus = шкодны) — злаякаснае перараджэнне клетак тканак.

**МАЛІЕНЕ́ЗІЯ** (н.-лац. mollienesia) — рыба сям. пецыліевых, блізкая да мечаносцаў, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах паўднёвай часткі Паўн. Амерыкі.

**МАЛІ́ЗІЯ** (н.-лац. mallisia) — сумчаты грыб сям. дэрматэяцавых, які развіваецца на імхах, папарацях, сцёблах траў, лісці дрэў.

**МАЛІНЕ́ЗІЯ** (н.-лац. mollinesia) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах Амерыкі; вядома як акварыумная.

**МАЛІ́НІЯ** (н.-лац. molinia) — травяністая расліна сям. злакавых з доўгім лісцем і суквеццем у выглядзе шматкаласковай мяцёлкі, пашыраная ў субтрапічных і ўмераных зонах; на Беларусі расце на забалочаных лугах, лясных палянах.

**МАЛІ́РАВАЦЬ** (лац. mollire = рабіць мяккім, плавіць) — фармаваць разагрэтую шкляную масу, надаваць ёй пэўную *канфігурацыю*.

**МАЛКАНТЭ́НТ** (фр. malcontent, ад mal = дрэнны + content = задаволены) — чалавек, які незадаволены ўсім, шукае ва ўсім недахопы і адмоўныя бакі.

**МАЛО́Х** [1] (ад. фінік. molek = цар, ад Molek = імя фінікійскага бога сонца, агню і вайны, якому прыносілі ў ахвяру людзей) — *перан.* сімвал бязлітаснай сілы, якая патрабуе мноства чалавечых ахвяр (напр. м. вайны).

**МАЛО́Х** [2] (лац. moloch) — яшчарка сям. *агамаў* з пакрытым калючкамі целам, якая водзіцца ў пустынях Аўстраліі.

**МА́ЛПА** (польск. małpa, ад с.-в.-ням. mūlaffe) — млекакормячая жывёла, якая па будове свайго цела самая блізкая да чалавека.

**МАЛЬБЕ́РТ** (рус. мольберт, ад ням. Malbrett) — падстаўка, на якой мастак мацуе палатно ў час работы над карцінай.

**МА́ЛЬВА** (лац. malva) — травяністая расліна сям. мальвавых з буйнымі белымі або ружовымі кветкамі, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

# М

**МАЛЬВА́ЗІЯ** (іт. malvasia, ад Malvasia = назва горада ў Грэцыі) — салодкае вінаграднае віно, якое выраблясцца на астравах Міжземнага мора і на поўдні Еўропы.

**МАЛЬПІ́ГІЯ** [н.-лац. malpighia, ад M.Malpighi = прозвішча іт. біёлага (1628—1694)] — дрэвавая або кустовая расліна класа двухдольных, пашыраная ў тропіках Амерыкі; некаторыя віды даюць ядомыя плады, падобныя да вішні.

**МАЛЬПО́СТ** (фр. malle-poste) — паштовая карэта, якая выкарыстоўвалася для перавозкі пасажыраў і пошты да правядзення жалезных дарог.

**МАЛЬСЕ́КА** (іт. malsecco, ад male = хвароба + secco = сухасць) — грыбковае захворванне цытрусавых, якое прыводзіць да высыхання раслін.

**МАЛЬТО́ЗА** (англ. maltose) — цукрыстае рэчыва, якое атрымліваецца пры ўздзеянні соладу на крухмал; змяшчаецца ў насенні, пылку і нектары некаторых раслін.

**МАЛЬТО́Н** (фр. molleton) — мяккая баваўняная тканіна, падобная на тоўстую фланель.

**МАЛЬТУЗІЯ́НСТВА** [ад англ. T.Malthus = прозвішча англ. эканаміста (1766—1834)] — тэорыя народанасельніцтва (створаная Т.Мальтусам), згодна з якой становішча працоўных вызначаецца не сацыяльнымі ўмовамі, а хуткім ростам колькасці насельніцтва.

**МАЛЮ́НАК** (польск. malunek, ад malować < с.-в.-ням. mālen) — 1) карціна, ілюстрацыя, рысунак; 2) тое, што можна ўявіць сабе ў канкрэтных вобразах.

**МАЛЮ́СКІ** (фр. mollusque, ад лац. molluscus = мяккі) — беспазваночныя мяккацелыя жывёлы, звычайна пакрытыя ракавінамі; пашыраны ў морах, прэсных водах і на сушы.

**МАЛЯВА́ЦЬ** (польск. malować, ад с.-в.-ням. mālen) — 1) перадаваць прадметы на плоскасці пры дапамозе фарбаў (напр. м. пейзаж); 2) фарбаваць (напр. м. сцены); 3) *перан.* расказваць або апісваць што-н.; мысленна падаваць у якіх-н. вобразах, формах (напр. м. карціны жыцця).

**МАЛЯ́Р** (польск. malarz, ад с.-в.-ням. mālaere) — 1) рабочы, які фарбуе, беліць дамы, памяшканні і інш.; 2) *перан.* бяздарны жывапісец.

**МАЛЯ́РНЫ** (ад лац. moles = маса) — які мае адносіны да канцэнтрацыі раствору, што характарызуецца колькасцю *молей* растворанага рэчыва ў 1 л раствору.

**МАЛЯ́РЫ** (лац. molaris = які служыць жорнамі) — група вялікіх карэнных зубоў, якая служыць для драблення і жавання ежы.

**МАЛЯРЫЁЛАГ** (ад *малярыя* + *-лаг*) — спецыяліст па лячэнню малярыі.

**МАЛЯРЫ́Я** (іт. malaria) — інфекцыйная хвароба, якая выклікаецца *плазмодыямі* 2 і характарызуецца прыступамі ліхаманкі і высокай тэмпературай; перамежная трасца.

**МАМАГРА́ФІЯ** (ад лац. mamma = жаночыя грудзі + *-графія*) — рэнтгеналагічнае даследаванне малочных залоз.

**МАМАЛІЯЛО́ГІЯ** (ад лац. mammalia = млекакормячыя + *-ло-*

*гія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае млекакормячых.

**МАМАЛО́ГІЯ** (ад лац. mamma = жаночыя грудзі + *-логія*) — тое, што і *мамаліялогія*.

**МАМАЛЬІ́ГА** (рум. mamaliga) — каша з кукурузнай мукі.

**МА́МАНТ** (рус. мамонт, ад тунгуск. namendi) — вымерлая млекакормячая жывёла сям. сланоў з доўгай поўсцю і вялікімі біўнямі; жыла ў час ледніковага перыяду.

**МА́МБА** [1] (афр. mamba) — ядавітая змяя сям. *аспідаў*, якая пашырана ў Афрыцы.

**МА́МБА** [2] (ісп. mambo) — хуткі парны танец лацінаамерыканскага паходжання; родпасны *румбе* 1.

**МАМЕЛЮ́К** (ар. mamluk = нявольнік) — 1) воін-раб цюркскага або каўказскага паходжання, з якіх складалася султанская гвардыя ў Егіпце ў 13 ст.; 2) прадстаўнік ваенна-феадальнай касты ў Егіпце ў 13—16 ст.

**МАМЕНТА́ЛЬНЫ** (ад *момант*) — вельмі хуткі, імгненны.

**МАМІЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. mammillaria) — травяністая або кустовая расліна сям. кактусавых з калючкамі і дробнымі кветкамі, пашыраная ў засушлівых абласцях Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МАМО́НА** (гр. mammonas, ад арам. mamona = багацце) — *перан.* прага да нажывы, ненажэрнасць, хцівасць.

**МАМУ́РА** (рус. мамура, ад фін. maamuurain) — травяністая расліна сям. ружавых з трайчастым лісцем і чырвонымі ядомымі пладамі, пашыраная ў тундры і тайзе.

**-МАН** (гр. mania = шаленства; захапленне, цяга) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «заўзяты аматар».

**МАНА-** гл. *мона-*.

**МАНАВЕ́РШ** (ад *мана-* + *верш*) — верш, які складаецца з аднаго радка; аднарадковік.

**МАНАГА́МІЯ** (ад *мана-* + *-гамія*) — 1) аднашлюбнасць, форма шлюбу, якая дазваляе быць у шлюбных адносінах аднаму мужчыне толькі з адной жанчынай (параўн. *палігамія* 1); 2) адносіны паміж жывёламі, калі самец на працягу доўгага часу спароўваецца з адной самкай (параўн. *палігамія* 2).

**МАНАГІ́НІЯ** (ад *мана-* + гр. gyne = жанчына, жонка) — аднажонства.

**МАНАГО́НІЯ** (ад *мана-* + *-гонія*) — бясполае, вегетатыўнае размнажэнне, якое адбываецца без апладнення шляхам аддзялення часткі бацькоўскага арганізма або простага дзялення.

**МАНАГРА́МА** (ад *мана-* + *-грама*) — спляценне некалькіх літар у адзін узор.

**МАНАГРА́ФІЯ** (ад *мана-* + *-графія*) — навуковая праца, прысвечаная ўсебаковаму даследаванню адной тэмы, праблемы.

**МАНА́ДА** (гр. monas, -ados = адзінка) — паняцце, якое абазначае непадзельнае адзінства, пачатак, аснову з'яў у некаторых філасофскіх сістэмах, напр. у ідэалістычнай філасофіі Г.Лейбніца (1646—1716).

**МАНАДАЛО́ГІЯ** (ад *манада* + *-логія*) — вучэнне аб манадах, развітае нямецкім філосафам Г.Лей-

# М

біцам (1646—1716) і яго паслядоўнікамі.

**МАНАДРА́МА** (ад *мана-* + *драма*) — драматычны твор, разлічаны на выкананне адным акцёрам.

**МАНАДЭТА́НДЭР** (ад гр. manos = рэдкі, няшчыльны + *дэтандэр*) — устройства ў выглядзе клапана з *мембранай*, якое паніжае ціск газу, калі яго выпускаюць з балона (часцей пры газавай зварцы).

**МАНАКЛІ́ННЫ** (ад *мана-* + гр. klino = нахіляюся) — які мае адносіны да крышталеграфічнай сістэмы, што аб'ядноўвае тры віды *сіметрыі*.

**МАНАКО́К** (фр. monocoque, ад гр. monos = адзін + фр. coque = корпус) — бескаркасны *фюзеляж* самалётаў, які складаецца толькі з абшыўкі.

**МАНАЛІ́Т** (гр. monolithos) — суцэльная каменная глыба, а таксама прадмет, высечаны з суцэльнага каменя.

**МАНАЛІ́ТНЫ** (ад *маналіт*) — 1) высечаны з суцэльнай каменнай глыбы; 2) *перан.* моцна згуртаваны, з'яднаны.

**МАНАЛО́Г** (гр. monologos) — разгорнутае выказванне адной дзеючай асобы ў літаратурным творы.

**МАНАМА́НІЯ** (ад *мана-* + *манія*) — памяшанне на якой-н. адной ідэі як адзін з відаў псіхічнага захворвання.

**МАНАМЕ́Р** (ад *мана-* + *-мер*) — нізкамалекулярнае хімічнае злучэнне, якое з'яўляецца зыходным матэрыялам для сінтэзу *палімераў*.

**МАНА́НДРЫЯ** (ад гр. monos = адзін + andreios = мужчынскі) — аднамужжа.

**МАНАПАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. monopoliser) устанаўліваць *манаполію* на што-н. (напр. м. знешні рынак).

**МАНАПАЛІ́СТ** (ад *манаполія*) — 1) чалавек, прадпрыемства, што карыстаюцца манаполіяй у якой-н. галіне; 2) прадстаўнік манапалістычнага капіталу.

**МАНАПЛА́Н** (ад *мана-* + *-план*) — самалёт з адной плоскасцю крылаў, размешчанай пад *фюзеляжам* (параўн. *біплан, парасоль, трыплан*).

**МАНАПО́ДЫЙ** (ад *мана-* + гр. pus, podos = нага) — восевы орган расліны, утвораны ў выніку дзейнасці адной верхавіннай *мерыстэмы*, у выніку чаго асноўная вось здольная доўга расці.

**МАНАПО́ЛІЯ** (гр. monopolia) — 1) выключнае права на выраб, продаж або выкарыстанне чаго-н. (напр. м. знешняга гандлю); 2) буйное аб'яднанне, якое ўзнікла на аснове канцэнтрацыі вытворчасці і капіталу з мэтай устанаўлення панавання над якой-н. галіной гаспадаркі і атрымання найбольшых прыбыткаў; 3) сітуацыя на рынку, калі ўсе прапановы тавараў і паслуг засяроджаны ў руках аднаго прадаўца.

**МАНАПО́ЛЬ** (ад *мана-* + *полюс*); м а г н і т н ы м. — элементарная часцінка, якая валодае адным магнітным полюсам (магнітным зарадам, аналагічным электрычнаму зараду).

**МАНАПО́СТА** (ад *мана-* + іт. posto = месца) — адкрыты кузаў гоначнага аўтамабіля, разлічаны на размяшчэнне вадзіцеля ў напаўляжачым становішчы.

**МА́НАР** (англ. manor, ад лац. manere = пражываць) — феадальны маёнтак у сярэдневяковай Англіі.

**МАНА́РДА** (н.-лац. monarda) — травяністая расліна сям. яснотkaвых з падоўжаным лісцем і дробнымі пахучымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МАНА́РХ** (лац. monarcha, ад гр. monarchos) — асоба, якая ўзначальвае *манархію* (цар, кароль, шах і інш.).

**МАНАРХАМА́ХІ** (ад *манарх* + гр. mache = барацьба) — заходнееўрапейскія пісьменнікі другой пал. 16 — пач. 17 ст., якія змагаліся супраць *абсалютызму*.

**МАНАРХІ́ЗМ** (ад гр. monarchos = манарх) — палітычны кірунак, які прызнае *манархію* адзінай формай дзяржаўнай улады.

**МАНАРХІ́СТ** (ад *манархізм*) — прыхільнік манархізму.

**МАНАРХІ́ЧНЫ** (гр. monarchikos) — які мае адносіны да *манархіі*.

**МАНА́РХІЯ** (лац. monarchia, ад гр. monarchia) — форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць адной асобе — *манарху*, а таксама дзяржава з такой формай кіравання.

**МАНАРЫ́М** (фр. monorime) — верш, радкі якога яднаюцца адной рыфмай (*манарыфмай*).

**МАНАРЫ́ФМА** (ад *мана-* + *рыфма*) — рыфма, якая спалучае ўсе радкі вершаванага твора.

**МАНАСКО́П** (ад *мана-* + *-скоп*) — тэлевізійная трубка для перадачы нерухомага адлюстравання (напр. табліцы для праверкі і настройкі тэлевізійнай апаратуры).

**МАНАСО́МІЯ** (ад *мана-* + гр. soma = цела) — адсутнасць у храмасомным наборы клетак арганізма адной з парных *храмасом*.

**МАНАСТЫ́Р** (гр. monasterion) — абшчына манахаў або манашак, якія прытрымліваюцца агульных правіл жыцця і ўтвараюць царкоўна-гаспадарчую арганізацыю, а таксама жылыя памяшканні, царква і тэрыторыя, якія належаць гэтай абшчыне.

**МАНАТАНІ́ЗМ** (ад *мана-* + гр. tonos = тон) — *лінгв.* адсутнасць меладычнай *карэляцыі* ў гукавой сістэме мовы.

**МАНАТАНІ́ЧНЫ** (ад *мана-* + *танічны*) — *лінгв.* які не выкарыстоўвае меладычных адрозненняў для процiпастаўлення *марфем* і слоў (напр. беларуская мова).

**МАНАТО́ННЫ** (ад гр. monotonos = які мае аднолькавае гучанне) — 1) аднастайны па тону, інтанацыі (напр. м. спеў); 2) *перан.* надакучлівы, нудны (напр. м-ае жыццё).

**МАНАТРЫ́ХІ** (ад *мана-* + гр. thriks, -ichos = волас) — *бактэрыі* з адным палярна размешчаным жгуцікам.

**МАНАТЫ́П** (ад *мана-* + *-тып*) — друкарская наборная машына, якая адлівае набор асобнымі літарамі.

**МАНАТЫ́ПІЯ** (ад *мана-* + *-тыпія*) — від друкаванай *графікі*, у якім алейныя фарбы ад рукі пераносяцца на ідэальна гладкую паверхню металічнай друкарскай формы.

# М

**МАНАФА́ГІ** (ад *мана-* + *фагі*) — жывёлы, якія харчуюцца толькі адным відам корму (напр. тутавы шаўкапрад); параўн. *паліфагі, стэнафагі*.

**МАНАФА́ГІЯ** (ад *мана-* + *-фагія*) — крайняя ступень ежавай спецыялізацыі, існаванне жывёлы (*манафага*) за кошт толькі пэўнага віду корму.

**МАНАФО́БІЯ** (ад *мана-* + *-фобія*) — псіхічны стан, пры якім чалавек баіцца застацца адзін.

**МАНАФО́ТА** (ад *мана-* + *фота*) — фотанаборная машына, пабудаваная па прынцыпу манатыпа.

**МАНАФТАНГІЗА́ЦЫЯ** (ад *манафтонг*) — *лінгв.* сцягванне *дыфтонга* ў адну галосную фанему — манафтонг.

**МАНАФТО́НГ** (гр. monophthongos) — *лінгв.* просты галосны гук, які ў працэсе свайго гучання не распадаецца на два элементы.

**МАНА́Х** (гр. monachos = які жыве ў адзіноце) — 1) член рэлігійнай абшчыны, які жыве ў манастыры і вядзе аскетычны спосаб жыцця ў адпаведнасці з манастырскімі правіламі; 2) *перан.* мужчына, які вядзе адзінокі спосаб жыцця.

**МАНАХА́ЗІЙ** (ад *мана-* + гр. chasis = раздзяленне) — цытоіднае суквецце, у якога пад кветкай, што завяршае асноўную вось суквецця, развіваецца бакавая вось таксама з адной кветкай.

**МАНАХО́РД** (гр. monochordon = які мае адну струну) — 1) старажытны грэчаскі аднаструнны шчыпковы музычны інструмент; 2) прылада для вызначэння вышыні *тону* струны; 3) прыстасаванне ў фартэпіяна для перасоўвання клавішнага механізма; 4) назва *клавікордаў* да 18 ст.

**МАНАХРО́М** (ад *мана-* + гр. chroma = колер, афарбоўка) — аднаколерны прадмет.

**МАНАХРО́МІЯ** (ад гр. monochromos = аднаколерны) — 1) аднаколернасць мастацкага твора; 2) *паліігр.* аднаколерны друк.

**МАНАХРО́МНЫ** (гр. monochromos) — аднаколерны (напр. м. жывапіс).

**МАНАЦЫ́КЛ** (ад *мана-* + *цыкл*) — аднаколавы веласіпед, які выкарыстоўваецца ў цыркавых нумарах.

**МАНАЦЫ́ТЫ** (ад *мана-* + *-цыты*) — адна з формаў незярністых *лейкацытаў (агранулацытаў)*; выконваюць у арганізме абарончую функцыю (трапляючы з крыві ў тканкі здольны ператварацца ў *макрафагі*).

**МАНАЦЫЦІ́Н** (ад гр. manos = рэдкі, няшчыльны + kytos = клетка) — антыкаразійнае рэчыва, якое ўяўляе сабой сумесь ваўнянага тлушчу з камфорным алеем.

**МАНАШЫ́ХТА** (ад *мана-* + *шыхта*) — сумесь матэрыялаў, прадукт апрацоўкі шыхты доменных і электраметалургічных печаў.

**МА́НГА** (англ. mango, ад тамільск. mānkāj) — вечназялёнае дрэва сям. анакардыевых, пашыранае ў тропіках, а таксама салодкі духмяны плод гэтага дрэва жоўтазялёнага колеру.

**МАНГА́Л** (кр.-тат. mangal, ад ар. mankal) — жароўня на ножках (на Поўдні і Усходзе).

**МАНГАЛЬФ'Е́Р** (фр. J. і E.Motgolfier = прозвішча французскіх братоў-вынаходцаў 18 ст.) — паветраны шар, напоўнены нагрэтым

паветрам; зрабіў першы палёт у 1783 г.

**МАНГАНАКАНІЁЗ** (ад лац. manganum = марганец + гр. konia = пыл) — захворванне лёгкіх, выкліканае ўдыханнем пылу, у якім змяшчаецца марганец.

**МАНГАНІ́Н** (ад лац. manganum = марганец) — сплаў на аснове медзі з прымессю марганцу і нікелю.

**МАНГАНІ́Т** (ад лац. manganum = марганец) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага або цёмна-бурага колеру; руда марганцу.

**МАНГАСТА́Н** (англ. mangostan, ад малайск. mangustan) — пладовае дрэва сям. клюзіевых, пашыранае ў трапічнай Азіі, а таксама кіславата-салодкі духмяны плод гэтага дрэва.

**МАНГЛЬ** (фр. mangle, ісп. mangle, ад малайск. mangi-mangi) — трапічнае дрэва, якое расце на глеістых берагах і мае паветраныя карані, што ідуць ад ствала і галін у глебу.

**МАНГО́ЛЬД** (ням. Mangold) — травяністая расліна сям. лебядовых, якая культывуецца як агародніная культура; лісцевы бурак.

**МАНГО́РА** (н.-лац. mangora) — павук сям. кругапрадаў, які трапляецца на кустах і траве, у лясах.

**МА́НГРАВЫ** (англ. mangrove); м - ы я л я с ы — зараснікі вечназялёных дрэў і кустоў на затапляемых прылівам трапічных пабярэжжах акіянаў і мораў.

**МАНГУ́СТ** (фр. mangouste) — невялікая драпежная жывёла сям. віверавых, якая харчуецца дробнымі грызунамі, змеямі, птушкамі; пашырана ў Паўд.-Зах. Еўропе, Паўд. Азіі і Афрыцы.

**МАНДАЛІ́НА** (іт. mandolina) — музычны шчыпковы інструмент з чатырма парамі струн, на якім іграюць *медыятарам*.

**МАНДАРЫ́Н** [1] (ісп. mandarin) — вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых, пашыранае ў тропіках і субтропіках, а таксама кісла-салодкі духмяны плод гэтага дрэва.

**МАНДАРЫ́Н** [2] (парт. mandarin, ад санскр. mantrin = саветнік) — дадзеная партугальцамі назва чыноўніка ў феадальным Кітаі.

**МАНДА́Т** (лац. mandatum) — дакумент, які пацвярджае паўнамоцтва каго-н., права на што-н. (напр. дэпутацкі м.).

**МАНДАТА́РЫЙ** (п.-лац. mandatarius) — 1) асоба, якая атрымала *мандат* на выкананне якой-н. функцыі; 2) дзяржава, якая валодае мандатам на кіраванне калоніяй.

**МАНДО́ЛА** (іт. mandola) — 1) струнны шчыпковы музычны інструмент тыпу *лютні* (меншы па памерах); 2) тэнаровая разнавіднасць т.зв. неапалітанскай *мандаліны*.

**МАНДРАГО́РА** (н.-лац. mandragora, ад гр. mandragoras) — травяністая расліна сям. паслёнавых з буйным лісцем і моцным коранем, які нагадвае чалавечую фігуру (у старажытнасці лічылася цудатворнай); пашырана ў Міжземнамор'і, Зах. Азіі і Гімалаях; лекавая.

**МАНДРЫ́Л** (ісп. mandril, ад афр. mwandaru-ll) — вялікая малпа сям. павіянаў, пашыраная ў лясах Зах. Афрыкі.

# М

**МАНЕ́Ж** (фр. manège) — 1) спецыяльны будынак або абгароджанае месца для верхавой язды і трэніроўкі коней; 2) арэна цырка; 3) памяшканне для заняткаў па лёгкай атлетыцы, спартыўных гульняў і інш.; 4) невялікая пераносная пляцоўка з загародкай для дзяцей, якія пачынаюць хадзіць.

**МАНЕКЕ́Н** (фр. mannequin, ад гал. mannekijn = чалавек) — фігура з дрэва або пап'е-машэ ў выглядзе чалавечага тулава для прымеркі і паказу адзення.

**МАНЕ́Р** (польск. manier < ням. Manier, ад фр. manière) — спосаб дзеяння, лад, узор (напр. падабраць што-н. на адзін м.).

**МАНЕ́РА** [1] (польск. maniera, ад фр. manière) — 1) спосаб што-н. рабіць, прыём, прывычка (напр. м. размаўляць); 2) знешняя форма паводзін (напр. м. трымацца); 3) сукупнасць творчых асаблівасцей пісьменніка, мастака, музыканта, яго індывідуальны стыль, а таксама адметныя рысы якога-н. твора мастацтва, чыйго-н. выканання мастацкіх твораў.

**МАНЕ́РА** [2] (гр. moneres = адзінокі) — *біял.* гіпатэтычны бяз'ядзерны кавалачак *пратаплазмы*, з якога ў працэсе гістарычнага развіцця арганізмаў утварыліся клеткі.

**МАНЕ́РКА** (польск. manierka, ад ням. Manöverflasche) — паходная металічная пляшка, а таксама накрыўка да яе, якая ўжываецца замест шклянкі.

**МАНЕ́РНЫ** (ад *манера* [1]) — ненатуральны, пазбаўлены прастаты.

**МАНЕ́ТА** (польск. moneta, ад лац. moneta) — металічны грашовы знак.

**МАНЕ́ЎР** (польск. manewr, ад фр. manoeuvre) — 1) перамяшчэнне войск або флоту з мэтай нанесці ўдар праціўніку (напр. абходны м.); 2) *мн.* тактычныя вучэнні вялікіх груп войск у абстаноўцы, блізкай да баявой (напр. марскія манеўры); 3) *перан.* спрытнае дзеянне, падманны прыём з мэтай перахітрыць каго-н.; 4) перамяшчэнне паравоза і вагонаў на станцыйных пуцях пры састаўленні поезда.

**МАНЕЎРАВА́ЦЬ** (фр. manoeuvrer) — 1) рабіць перамяшчэнні ў баявой абстаноўцы, на чыгуначнай станцыі і інш.; 2) лавіруючы, абыходзіць перашкоду (напр. м. аўтамашынай); 3) *перан.* дзейнічаць так, каб ашукаць, перахітрыць каго-н.; 4) перасоўваць, пераразмяркоўваць што-н. для лепшага выкарыстання.

**МАНЖЭ́ТА** (рус. манжета, ад фр. manchette) — 1) прышыты або прышпілены абшлаг рукава ў сарочцы, блузцы; 2) *тэх.* кольца, якое перашкаджае перацяканню вадкасці, газу ў поршневых помпах, а таксама служыць для змацавання канцоў труб.

**МАНІЕЗІЁЗЫ** (ад *маніезія*) — інвазійныя хваробы жвачных жывёл, якія выклікаюцца маніезіяй.

**МАНІЕ́ЗІЯ** (н.-лац. moniezia) — *гельмінт* класа *цэстодаў*, паразіт авечак, буйной рагатай жывёлы, коз, ласёў, зуброў.

**МАНІЁК** (ісп. manioca, ад індз. mandioca) — 1) вечназялёная кустовая расліна сям. малачаевых з моцным сцяблом і дробнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках; 2) мука з карэння гэтай расліны.

**МАНІ́ЗМ** (фр. monisme, ад гр. monos = адзін, адзіны) — філасофскае вучэнне, якое лічыць асновай быцця адзін пачатак — матэрыю або дух (параўн. *дуалізм, плюралізм* 1).

**МАНІКЮ́Р** (фр. manicure) — чыстка і паліроўка ногцяў на руках, а таксама адпаліраваныя, пакрытыя лакам ногці.

**МАНІЛЁЗ** (ад *манілія*) — хвароба пладовых культур, якая выклікаецца маніліямі; пладовая гніль.

**МАНІЛІ́НІЯ** (н.-лац. manilinia) — сумчаты грыб сям. склератыніевых, які развіваецца ў пладах раслін сям. ружавых.

**МАНІ́ЛІЯ** (н.-лац. monilia) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на семячкавых і костачкавых пладовых пародах, на глебе.

**МАНІЛКА́РА** (н.-лац. manilcara) — дрэвавая або кустовая расліна сям. сапотавых, пашыраная ў тропіках, з соку якой атрымліваюць *балату*.

**МАНІ́ПУЛА** (лац. manipulus = пучок) — старажытнарымская вайсковая адзінка, якая складаецца з дзвюх *цэнтурый* 1.

**МАНІПУЛІ́РАВАЦЬ** (фр. manipuler) — рабіць *маніпуляцыі*.

**МАНІПУЛЯ́ТАР** (фр. manipulateur) — 1) той, хто выконвае *маніпуляцыі* пры ручной рабоце; 2) цыркавы артыст-фокуснік; 3) прыстасаванне для выканання дапаможных аперацый у вытворчых працэсах; 4) прыстасаванне для перадачы тэлеграфных сігналаў.

**МАНІПУЛЯ́ЦЫЯ** (фр. manipulation) — 1) складаны прыём у ручной рабоце, якая патрабуе вялікай дакладнасці; 2) дэманстраванне фокусаў, заснаванае пераважна на спрытнасці рук; 3) *перан.* спрытнае махлярства, махінацыя.

**МАНІ́СТ** (ад *манізм*) — паслядоўнік манізму.

**МАНІ́Т** (ад *манна*) — спірт, які змяшчаецца ў соку ясеня, марскіх водарасцях, грыбах; выкарыстоўваецца ў медыцыне і фармацэўтычнай прамысловасці.

**МАНІТО́Р** (лац. monitor = які перасцерагае) — 1) браніраваны з неглыбокай пасадкай ваенны карабель з буйнакаліберная артылерыяй; 2) тое, што і *гідраманітор*; 3) прыбор для кантролю пэўных параметраў, якія павінны захоўвацца ў зададзеных межах; 4) частка кіруючай праграмы аперацыйнай сістэмы вылічальнай машыны.

**МАНІТО́РЫНГ** (англ. monitoring, ад лац. monitor = які напамінае) — сістэматычнае назіранне і кантроль за станам зямельнага фонду для своечасовага выяўлення змен, папярэджання і ліквідацыі негатыўных працэсаў і тэндэнцый; складаецца з сістэмы дадзеных аб размеркаванні зямлі па ўладальніках і карыстальніках, прадуктыўнасці зямельных рэсурсаў, дэградацыі глеб, засмечвання зямель і г.д.; 2) збор інфармацыі, звестак у сродках масавай камунікацыі, вядзенне радыёперахвату.

**МАНІФЕ́СТ** (фр. manifeste, ад лац. manifestus = яўны) — 1) урачысты пісьмовы зварот урада да насельніцтва з выпадку важнай падзеі; 2) палітычны зварот праграмнага характару; 3) пісьмовы выклад літаратурных або мастацкіх прынцыпаў якога-н. напрамку або групы.

# M

**МАНІФЕСТАВА́ЦЬ** (польск. manifestować, ад лац. manifestare) — прымаць удзел у *маніфестацыі*.

**МАНІФЕСТА́НТ** (лац. manifestans, -ntis = які праяўляецца) — удзельнік *маніфестацыі*.

**МАНІФЕСТА́ЦЫЯ** (польск. manifestacja, ад лац. manifestatio = выяўленне, выкрыццё) — масавае выступленне, вулічнае шэсце для выражэння салідарнасці або пратэсту.

**МАНІХЕ́ІЗМ** (ад перс. Mani = імя персідскага філосафа 3 ст.) — рэлігійнае вучэнне, якое ўяўляе сабой сінтэз *зораастрызму, хрысціянства* і *гнастыцызму*; узнікла ў 3 ст. на Блізкім Усходзе.

**МА́НІЯ** (гр. mania = шаленства, захапленне, цяга) — 1) псіхічна хваравіты стан, пры якім свядомасць і пачуцці сканцэнтроўваюцца на адной якой-н. ідэі (напр. м. велічы); 2) *перан.* моцная цяга, схільнасць да чаго-н. (напр. м. пісаць вершы).

**МАНІЯКА́ЛЬНЫ** (фр. maniacal, ад гр. mania = шаленства, захапленне, цяга) — звязаны з *маніяй* (напр. м. стан).

**МА́НКА** (іт. manco) — недаважванне тавару, недастача ў касавых сумах у выніку памылкі ў запісах або праліку касіра.

**МА́НКІ** (англ. monkey = малпа) — парны танец амерыканскага паходжання з характэрнымі крыўляннямі, якія імітуюць рухі малпы.

**МАНКІ́РАВАЦЬ** (фр. manquer) — нядбайна адносіцца да сваіх абавязкаў (напр. м. заняткамі).

**МА́ННА** (гр. manna, ад ст.-яўр. mān) — 1) ежа, якая паводле біблейскага падання, сыпалася з неба яўрэям у час іх вандравання па пустыні ў «абетаваную зямлю»; 2) густы сок, які выцякае пры пашкоджанні кары некаторых відаў раслін (ясеня, грабеншчыка і інш.); 3) лішайнік сям. леканоравых, які сустракаецца ў засушлівых раёнах Міжземнамор'я.

**МАНО́ДУС** (н.-лац. monodus) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая пашырана пераважна ў грунце, трапляецца ў канавах і лужынах, сажалках, на стрэхах.

**МАНО́ДЫЯ** (гр. monodia = песня аднаго спевака) — *муз.* аднагалоссе, якое не патрабуе суправаджэння.

**МАНО́ЗЫ** (ад гр. monos = адзін) — тое, што і *монацукрыды*.

**МАНО́КЛЬ** (фр. monocle, ад п.-лац. monoculus = аднавокі) — круглае аптычнае шкло для аднаго вока, якое ўжываецца замест акуляраў.

**МАНО́М** (ад гр. monos = адзін + nome = часцінка) — *мат.* адначлен (параўн. *біном, палінам*).

**МАНО́МЕТР** (ад гр. manos = рэдкі + *-метр*) — прылада для вымярэння ціску вадкасцей і газаў.

**МАНО́ЭДР** (ад *мана-* + *-эдр*) — простая крышталеграфічная форма мінералаў, якая мае адну грань.

**МАНПАНСЬЕ́** (фр. montpensier) — сорт фруктовых ледзянцоў.

**МАНСА́РДА** [фр. mansarde, ад F.Mansart = прозвішча фр. архітэктара (1598—1666)] — жылое памяшканне на гарышчы, пад крутым са зломам дахам; паддашак.

**МАНСЕНЬЁР** (фр. Monseigneur = мой пан) — тытул, які ў сярэдневяковай Францыі ўжывалі пры

звароце да герцагаў і іншых прадстаўнікоў вышэйшай знаці, а пазней як зварот да прадстаўнікоў вышэйшага каталіцкага духавенства.

**МАНСТЭ́РА** (н.-лац. monstera) — вечназялёная травяністая расліна сям. ароннікавых з буйным цёмназялёным лісцем і дробнымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Цэнтр. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МА́НТА** (н.-лац. manta, ад ісп. manta = плашч) — рыба сям. мантавых з галаўнымі плаўнікамі, якія нагадваюць рогі; жыве ў верхніх слаях трапічных акіянскіх вод.

**МАНТА́Ж** (фр. montage) — 1) зборка і ўстаноўка машын, абсталявання, канструкцый, збудаванняў у адпаведнасці з планамі і чарцяжамі (напр. м. электрастанцыі); 2) падбор і аб'яднанне розных частак чаго-н. у адно цэлае (напр. м. кінафільма).

**МАНТАЖО́Р** (ад *мантаж*) — спецыяліст па мантажу (у кінематаграфіі, фатаграфіі).

**МАНТАЖЫ́СТ** (ад *мантаж*) — спецыяліст, які манціруе друкарскі набор, стэрэатыпы, клішэ.

**МАНТАНІ́СТЫ** (лац. montanistae < гр. montanistai, ад Montan = імя жраца) — члены хрысціянскай секты, заснаванай у 2 ст. Мантанам, якая выступала супраць канцэнтрацыі ўлады ў руках епіскапаў і заклікала да адмаўлення ад уласнасці.

**МАНТАНЬЯ́РЫ** (фр. montagnards, ад montagne = гара) — 1) рэвалюцыйна-дэмакратычная група дэпутатаў Нацыянальнага канвента ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.; 2) групоўка дробнабуржуазных дэмакратаў у французскім Нацыянальным сходзе 1848—1849 гг.

**МАНТМАРЫЛАНІ́Т** (ад фр. Montmorillon = назва горада ў Францыі) — глiністы мінерал пераменнага саставу; выкарыстоўваецца як *адсарбент*, у ліцейнай вытворчасці і інш.

**МАНТО́** (фр. manteau) — жаночае паліто, пераважна футравае, свабоднага пакрою.

**МА́НТЫКА** (гр. mantike) — майстэрства прадказвання, прадракання.

**МАНТЫ́ЛЬЯ** (ісп. mantilla) — 1) карункавая накідка ў іспанак на галаву і плечы; 2) кароткая накідка без рукавоў у жаночым касцюме 19 ст.

**МАНТЫ́СА** (лац. mantissa = прыбаўка, дабаўленне) — *мат.* дробавая частка дзесятковага *лагарыфма*.

**МА́НТЫЯ** (с.-гр. mantion = пакрывала, плашч) — 1) шырокае доўгае адзенне ў выглядзе плашча (напр. каралеўская м., м. кардынала); 2) складка скуры ў некаторых беспазваночных жывёл (ракаў, малюскаў), якая ахоплівае ўсё цела або яго частку і ўтварае знешні шкілет; 3) абалонка Зямлі, размешчаная паміж *літасферай* і ядром Зямлі.

**МАНТЭЖЎ** (фр. monte-jus, ад monter = паднімацца + jus = сок) — апарат для падачы вадкасці шляхам выцяснення яе сціснутым паветрам; выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці, ва ўстаноўках для рэгенерацыі змазачных маслаў і інш.

**МАНТЭКРЫ́СТА** (фр. Monte-Cristo = прозвішча героя рамана А.

# М

Дзюма «Граф Монтэ-Крыста») — сістэма дробнакаліберных ружжаў і пісталетаў.

**МАНУА́Л** (лац. manualis = ручны) — *клавіятура* для рук у *аргане, клавесіне, фісгармоніі* (параўн. *педаль* 2).

**МАНУА́ЛЬНЫ** (лац. manualis = ручны) — які робіцца, ажыццяўляецца рукамі, уздзеяннем рук (напр. м-ая тэрапія).

**МАНУ́Л** (манг. manuul) — драпежная жывёла сям. кашачых з каштоўным футрам, якая пашырана ў стэпах і паўпустынях Цэнтр. Азіі.

**МАНУМЕ́НТ** (лац. monumentum) — 1) вялікі помнік, архітэктурнае або скульптурнае збудаванне ў гонар выдатнай гістарычнай падзеі або асобы; 2) *перан.* што-н. велічнае, створанае чалавекам, якое застаецца як памяць аб ім.

**МАНУМЕНТА́ЛЬНЫ** (лац. monumentalis) — 1) велічны, грандыёзны (напр. м-ае збудаванне); м - а е м а с т а ц т в а — род пластычнага мастацтва, які ахоплівае помнікі, манументы, жывапіснае і скульптурнае аздабленне будынкаў і інш.; 2) *перан.* грунтоўны, глыбокі па зместу (напр. м-ае даследаванне).

**МАНУСКРЫ́ПТ** (с.-лац. manuscriptum, ад лац. manus = рука + scribo = пішу) — старажытны рукапіс (на папірусе, пергаменце, паперы).

**МАНУФАКТУ́РА** (с.-лац. manufactura, ад лац. manus = рука + facere = рабіць) — 1) пачатковая форма капіталістычнай вытворчасці (16—18 ст.), заснаваная на падзеле працы і ручной рамесніцкай тэхніцы; 2) *уст.* вырабы тэкстыльнай прамысловасці, тканіны.

**МАНЦАНІ́Т** (ад іт. Monzoni = назва гары ў Альпах) — магматычная горная парода, якая складаецца пераважна з каліевага палявога *шпату* і *плагіяклазу*.

**МАНЦЁР** (фр. monteur) — 1) спецыяліст па электраправодцы, электраабсталяванню; 2) спецыяліст па *мантажу* 1 машын, абсталявання.

**МАНЦІ́РАВАЦЬ** (ням. montieren) — рабіць *мантаж* чаго-н. (напр. м. кран).

**МАНЦЫНЕ́ЛА** (ісп. manzanilla) — дрэва сям. малачаевых, пашыранае ў тропіках, лісце і кара якога ўтрымліваюць ядавіты млечны сок.

**МАНЦЫПА́ЦЫЯ** (лац. mancipatio) — урачысты спосаб перадачы права ўласнасці ў прысутнасці сведак у старажытнарымскім праве.

**МАНЧЭ́СТЭР** (англ. Manchester = назва горада ў Англіі) — аксамітная тканіна, разнавіднасць *вельвету*.

**МА́НЫ** (лац. manes) — паводле веравання старажытных рымлян, душы продкаў, якія лічыліся боствамі.

**МАНЬЕРЫ́ЗМ** (іт. manierismo = *літар.* вычварнасць, мудрагелістасць) — плынь у заходнееўрапейскім мастацтве 16 ст., якая адлюстроўвала крызіс гуманістычнай культуры Адраджэння і сцвярджала няўстойлівасць, дысанансы быцця; характарызавалася суб'ектыўнасцю, ускладненасцю поз і кампазіцыі, дэфармацыяй прапорцый.

# М

**МАНЬЯ́К** (фр. maniaque < с.-лац. maniacus, ад гр. mania = шаленства, захапленне, цяга) — чалавек, ахоплены *маніяй*.

**МАПЕ́Д** [ад *ма(тацыкл)* + *(веласі)пед*] — лёгкі матацыкл з педальным прыводам; веласіпед з навесным маторам.

**МА́ПЕТС** (англ. muppets = лялькі) — група лялек, што прыводзяцца ў рух рукамі аднаго або некалькіх акцёраў і паказваюць тыпы жывёл і людзей.

**МАРАБУ́** (фр. marabout, ад ар. murābit = пустэльнік) — вялікая трапічная птушка сям. бусліных, якая водзіцца ў Паўд.-Усх. Азіі і Афрыцы.

**МАРАБУ́Т** (фр. marabout, ад ар. murābit = манах) — член сярэдневяковага мусульманскага ваеннарэлігійнага ордэна *дэрвішаў* у Паўн. Афрыцы..

**МАРАДЗЁР** (фр. maraudeur = грабежнік) — салдат, які грабіць забітых і раненых на полі бою, а таксама мірнае насельніцтва на акупіраваных тэрыторыях.

**МАРА́ЗМ** (гр. marasmos = знясіленне) — 1) стан поўнага ўпадку псіхічных і фізічных сіл чалавека, што развіваецца ў глыбокай старасці або ў выніку працяглай хваробы; 2) *перан.* упадак, разлажэнне.

**МАРА́КАС** (ісп. maracas) — паўднёваамерыканскі ўдарны музычны інструмент, род бразготак; атрымаў пашырэнне ў джазе.

**МАРАКЕ́Н** (фр. maroquin, ад Maroco = Марока) — тканіна са штучнага шоўку, падобная на крэпдэшын; 2) цісняны саф'ян, які раней выкарыстоўваўся для пераплётаў.

**МАРА́Л** (цюрк. maral) — алень з вялікімі рагамі, які водзіцца ў горных лясах Цянь-Шаня і Алтая; разводзяць у гадавальніках для атрымання *пантаў*.

**МАРАЛІЗАВА́ЦЬ** (с.-лац. moralizare, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — прапаведаваць строгую *мараль*; павучаць.

**МАРАЛІЗА́ТАР** (с.-лац. moralisator) — той, хто *маралізуе*.

**МАРАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. moralisation, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — прапаведаванне строгай *маралі*, павучанне.

**МАРАЛІ́СТ** (фр. moraliste, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — той, хто строга прытрымліваецца маральных правіл і павучае іншых, як сябе паводзіць.

**МАРАЛІТЭ́** (фр. moralite, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — павучальная драма з алегарычнымі дзеючымі асобамі ў заходнееўрапейскім тэатры 15—16 ст.

**МАРА́ЛЬ** (фр. morale, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — 1) сукупнасць прынцыпаў і норм паводзін людзей у грамадстве; 2) павучальны вывад з чаго-н. (напр. м. байкі); 3) *перан.* павучанне, настаўленне.

**МАРА́ЛЬНЫ** (польск. moralny, ад лац. moralis = які датычыць звычаяў) — 1) які мае адносіны да *маралі,* адпавядае правілам паводзін у грамадстве (напр. м. учынак); 2) звязаны з духоўнымі перажываннямі чалавека (напр. м-ая падтрымка).

# М

**МАРА́НЫ** (ісп. marranos) — яўрэі і маўры ў Іспаніі і Партугаліі 14—15 ст., якія па прымусу або разліку прынялі *хрысціянства*, але тайна вызнавалі сваю старую веру.

**МАРАСКІ́Н** (фр. marasquin, ад іт. maraschino) — гатунак вішнёвага лікёру.

**МАРАТО́РЫЙ** (п.-лац. maratorius = які замаруджвае) — адтэрміноўка выканання абавязацельстваў, якая ўстанаўліваецца дзяржавай на пэўны тэрмін або да заканчэння якіх-н. надзвычайных абставін (напр. вайны).

**МАРАФЕ́Т** (тур. marifet = майстэрства, спрыт) — лоск, бляск; н а в о д з і ц ь  м. — прыводзіць у парадак свой знешні выгляд, прыбіраць кватэру, горад і г.д.

**МАРАФО́Н** (гр. Marathon = назва паселішча ў Грэцыі) — спаборніцтвы на звышдалёкіх дыстанцыях, напр. у лыжным спорце (50 км), па бегу (42 км 195 м) і інш.; названы ў памяць аб элінскім воіне, які прыбег у Афіны з мястэчка Марафон з весткай аб перамозе над персамі (490 г. да н.э.)

**МАРАФО́НСКІ** (ад гр. Marathon = назва паселішча ў Грэцыі) — звязаны са звышдалёкімі дыстанцыямі (напр. м. бег, м. заплыў).

**МА́РГА** (лац. margo = край, мяжа) — поле, пакінутае для памет, на камерцыйных лістах і іншых дзелавых дакументах.

**МАРГАНАТЫ́ЧНЫ** (лац. morganaticus) — няроўны, неадпаведны; м.  ш л ю б  — шлюб асобы каралеўскай, царскай сям'і з асобай ніжэйшага роду.

**МА́РГАНЕЦ** (ням. Manganerz) — хімічны элемент, серабрыста-белы крохкі тугаплаўкі метал; выкарыстоўваецца ў металургіі, медыцыне і інш.

**МАРГАНІ́ЗМ** [ад англ. T.Morgan = прозвішча амер. біёлага (1866—1945)] — кірунак у *генетыцы*, паводле якога крыніцай зменнасці арганізмаў з'яўляюцца мутацыі генаў або змены іх становішча.

**МАРГАРЫ́Н** (фр. margarine, ад гр. margaron = перл, жэмчуг) — харчовы прадукт з сумесі жывёльнага тлушчу, алею, малака, араматычных рэчываў.

**МАРГАРЫ́ТКА** (фр. marguerite) — травяністая расліна сям. складанакветных з буйнымі рознакаляровымі кветкамі, пашыраная ў Еўропе, Малой Азіі і Паўн. Амерыцы; вырошчваецца як дэкаратыўная; стакротка.

**МАРГІНА́Л** (фр. marginal = пабочны, крайні) — чалавек, які знаходзіцца ў прамежкавым становішчы паміж якімі-н. сацыяльнымі групамі, страціў ранейшыя грамадскія сувязі і не прыстасаваўся да новых умоў жыцця; асоба, якая знаходзіцца на перыферыі грамадства (люмпен, бадзяга і інш.).

**МАРГІНА́ЛІІ** (н.-лац. marginalia, ад лац. marginalis = які знаходзіцца на краі) — 1) паметы чытача на палях кнігі або рукапісу; 2) загалоўкі, змешчаныя на палях кнігі.

**МАРГІНА́ЛЬНЫ** (лац. marginalis) — змешчаны на палях кнігі, рукапісу.

**МАРДАВА́ЦЬ** (польск. mordować, ад с.-в.-ням. morden) — мучыць, таміць, знясільваць.

**МАРДЭ́НТ** (іт. mordente) — *муз.* меладычнае ўпрыгожанне, якое ўтвараецца хуткім выкананнем

пасля асноўнага гуку дапаможнага (верхняга або ніжняга) і паўтарэннем асноўнага (гл. *мелізмы*).

**МА́РЖА** (фр. marge = край, мяжа) — 1) розніца паміж двума пэўнымі паказчыкамі, напр. пры набыцці каштоўных папер — паміж цаной пакупніка і цаной прадаўца; 2) гандлёвая нацэнка, якая ўстанаўліваецца прамысловымі прадпрыемствамі; 3) сума грошай, якія выплачваюцца разліковай палаце брокерам або брокеру кліентамі для пакрыцця неспрыяльных ваганняў у вартасці ф'ючэрснага кантракта (гл. *ф'ючэрс*) пасля яго рэгістрацыі.

**МАРЖЫНАЛІ́ЗМ** (ад фр. marginal — гранічны) — адзін з метадалагічных прынцыпаў *палітэканоміі*, заснаваны на выкарыстанні гранічных велічынь пры аналізе эканамічных з'яў.

**МАРЖЫНА́ЛЬНЫ** (фр. marginal) — *экан.* блізкі да мяжы, амаль стратны.

**МАРЗА́Н** (фр. margine = край, поле старонкі) — *паліг.* металічны брусок, які ўстаўляецца ў наборную форму для запаўнення вольных ад тэксту месцаў, напр. палёў кнігі.

**МА́РКА** [1] (ням. Marke) — 1) паштовы або гербавы знак рознай вартасці, які сведчыць, што дзяржаўны збор заплачаны; 2) знак, кляймо на тавары з абазначэннем вытворцы прадукцыі; 3) гатунак, тып вырабу, тавару (напр. м. сталі).

**МА́РКА** [2] (ням. Mark, фін. markka) — грашовая адзінка Германіі, роўная 100 *пфенігам*, і Фінляндыі, роўная 100 *пені* 2.

**МА́РКА** [3] (ням. Mark) — 1) сялянская абшчына ў сярэдневяковай Зах. Еўропе; 2) пагранічная адміністрацыйная акруга ў Франкскай дзяржаве і сярэдневяковай Германіі на чале з *маркграфам*.

**МА́РКА** [4] (іт. marco) — вызначэнне вартасці манеты па яе вазе, а не па *наміналу*.

**МАРКАЗІ́Т** (с.-лац. marcasita) — мінерал класа *персульфідаў* латунна-жоўтага колеру з металічным бляскам; руда для вытворчасці сернай кіслаты; прамяністы калчадан.

**МАРКГРА́Ф** (ням. Markgraf) — правіцель пагранічнай адміністрацыйнай акругі (*маркі* [3]) у сярэдневяковай Германіі, а пазней тытул некаторых князёў у Германіі, Францыі, Італіі, Іспаніі.

**МАРКЕТРЫ́** (фр. marqueterie) — *інкрустацыя* па дрэве з кавалачкаў металу, розных парод дрэва, слановай косці і іншых матэрыялаў; від *мазаікі*.

**МАРКЕ́ТЫНГ** (англ. marketing = гандаль, продаж) — арганізацыя вытворчасці і збыту прадукцыі на аснове вынікаў інтэнсіўнага вывучэння і прагназіравання попыту, цэн, шырокага выкарыстання рэкламы і стымулявання вытворчасці, прымяненне сучасных спосабаў захавання і транспарціроўкі тавараў, тэхнічнага і іншага абслугоўвання спажыўцоў.

**МАРКЁР** (фр. marqueur) — 1) асоба, якая абслугоўвае більярд і вядзе падлік ачкоў пры більярднай гульні; 2) прыстасаванне ў сеялцы, якім праводзяцца пасяўныя або пасадачныя разоркі ці радкі.

**МАРКІ́З** (фр. marquis) — дваранскі тытул, сярэдні паміж *графам* і *герцагам*, у краінах Зах. Еўропы.

# М

**МАРКІ́ЗА** (фр. marquise) — 1) жонка або дачка *маркіза*; 2) навес над акном, дзвярамі, балконам для засцярогі ад сонца; 3) штора на акно або дзверы, якая апускаецца зверху ўніз.

**МАРКІЗЕ́Т** (фр. marquisette) — празрыстая баваўняная або шаўковая тканіна з тонкай кручанай пражы.

**МАРКІРАВА́ЦЬ** (фр. marquer = адзначаць) — 1) ставіць кляймо, марку на якім-н. тавары, вырабе; 2) праводзіць *маркёрам* 2 разоркі або радкі для пасадкі ці пасеву чаго-н.; 3) адзначаць біткі пры гульні ў карты або ачкі пры гульні ў більярд.

**МАРКІТА́НТ** (ням. Marketender, ад іт. marcantante = гандляр) — дробны гандляр харчовымі прыпасамі і рэчамі салдацкага ўжытку, які суправаджаў армію ў 18—19 ст.

**МАРКСІ́ЗМ** [ад ням. K.Marks = прозвішча заснавальніка вучэння (1818—1883] — вучэнне аб агульных законах развіцця прыроды і грамадства, шляхах пераходу чалавецтва ад класавага да бяскласавага грамадства, ад капіталізму да камунізму, заснавальнікамі якога былі К.Маркс і Ф.Энгельс.

**МАРКШЭ́ЙДЭР** (ням. Markscheider) — горны інжынер або тэхнік, спецыяліст па *маркшэйдэрыі*.

**МАРКШЭЙДЭРЫ́Я** (ням. Markscheiderei, ад Mark = граніца + scheiden = раздзяляць) — галіна горнай навукі і тэхнікі, якая вывучае геадэзічныя і геалагічныя асаблівасці горных разработак.

**МА́РЛЯ** (фр. marli) — тонкая баваўняная тканіна з рэдка пераплеценых нітак; выкарыстоўваецца ў медыцыне, швейнай вытворчасці і інш.

**МАРМЕЛА́Д** (фр. marmelade, ад парт. marmelada) — кандытарскі выраб з фруктова-ягаднага пюрэ з цукрам у выглядзе жэле або цукерак.

**МАРМІ́Т** (фр. marmite) — награвальны апарат для падтрымлівання ў гарачым стане прыгатаванай ежы; звычайна мае выгляд рухомай шафы, дзе знаходзяцца каструлі ў ванне з пастаянна гарачай вадой.

**МАРМО́НЫ** (англ. mormons, ад Mormon = імя ізраільскага прарока) — члены рэлігійнай секты, якая была заснавана ў ЗША Дж.Смітам (у 1830 г. апублікаваў кнігу «Мармона») і ўяўляе сабой спалучэнне элементаў розных рэлігій (*хрысціянства, будызму, ісламу*).

**МА́РМУР** (польск. marmur < лац. marmor, ад гр. maumaros = бліскучы) — крышталічная горная парода, складзеная пераважна з *кальцыту*, радзей *даламіту*, выкарыстоўваецца для ўпрыгожвання будынкаў, стварэння помнікаў, скульптур і інш.

**МАРО́НЫ** (фр. marrons, ад ісп. cimarron = уцякач) — беглыя рабы-негры ў Вест-Індыі і Гвіяне, якія змагаліся супраць *каланізатараў*.

**МА́РПІСА** (н.-лац. marpissa) — павук сям. скакуноў, які жыве на берагах азёр і на забалочаных участках.

**МАРС** (гал. mars) — невялікая пляцоўка на мачце карабля для назірання за гарызонтам і для работы з парусамі.

# М

**МАРСАЛА́** (іт. marsala, ад Marsala = назва горада ў Сіцыліі) — гатунак моцнага дэсертнага вінаграднага віна, якое нагадвае *мадэру*.

**МАРСАНІЕ́ЛА** (н.-лац. marssoniella) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. целасферыевых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, сажалак, вадасховішчаў і рэк.

**МАРСАНІ́НА** (н.-лац. marssonina) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці, часам на сцёблах і пладах бярозы, таполі, ружы, бружмелю і іншых дрэвавых і кустовых раслін.

**МАРСЕЛІ́Н** (фр. marseline) — мяккая шаўковая тканіна, разнавіднасць *тафты*.

**МАРСЕ́ЛЬ** (гал. marszeil) — парус у форме *трапецыі*, які падымаецца над ніжнім галоўным парусам.

**МАРСЕЛЬЕ́ЗА** (фр. Marseillaise, ад Marseille = Марсель) — французская рэвалюцыйная песня, напісаная ў 1792 г. К.-Ж.Ружэ дэ Лілем, якая стала потым нацыянальным гімнам Францыі.

**МАРСІ́ЛЕЯ, МАРСІ́ЛІЯ** (н.-лац. marsilea) — водная папараць сям. марсілеевых з паўзучым карэнішчам і доўгачаранковым плаваючым лісцем, пашыраная ў розных кліматычных зонах, асабліва ў Аўстраліі і Паўд. Афрыцы; на Беларусі культывуецца ў акварыумах, аранжарэях.

**МАРТМА́СА** (ад лац. mortuus = мёртвы + *маса*) — арганічнае рэчыва, створанае і адмерлае ў межах дадзенага *біягеацэнозу, папуляцыі*.

**МАРТЫРАЛО́Г** (ад гр. martys, -yros = пакутнік + *-лог*) — 1) кніга з апісаннем жыцця мучанікаў і святых у хрысціянскай царкве; 2) пералік ахвяр, якія падвергліся ганенням, а таксама пералік перанесеных кім-н. пакут.

**МАРТЫРАЛО́ГІЯ** (ад гр. martys, -yros = пакутнік + *-логія*) — цярпенне, пакуты, звязаныя з ганеннямі.

**МАРТЫ́Т** (ад лац. Mars, -rtis = імя бога вайны ў старажытнарымскай міфалогіі; назва планеты Сонечнай сістэмы) — мінерал, разнавіднасць *гематыту*, утвораны акісленнем *магнетыту*.

**МАРТЭ́Н** [рус. мартен < фр. martin, ад P.Martin = прозвішча фр. металурга (1824—1915)] — асобая печ для выплаўкі сталі; мартэнаўская печ.

**МАРТЭНСІ́Т** [ад ням. A.Martens = прозвішча ням. металазнаўцы (1850—1914)] — структурная састаўная некаторых загартаваных металаў і сплаваў, якая мае ігольчатую будову.

**МАРФАГЕНЕ́З** (ад гр. morphe = форма + *-генез*) — 1) працэс узнікнення і развіцця форм рэльефу зямной паверхні; 2) узнікненне і развіццё органаў і частак арганізма ў час яго індывідуальнага развіцця (*антагенезу*).

**МАРФАГРА́ФІЯ** (ад гр. morphe = форма + *-графія*) — раздзел *геамарфалогіі*, які апісвае і класіфікуе формы рэльефу зямной паверхні і сістэматызуе іх па знешніх прыметах, незалежна ад паходжання.

**МАРФАЛАГІ́ЧНЫ** (ад *марфалогія*) — які мае адносіны да марфалогіі ў біялагічным і граматычным разуменні.

# М

**МАРФАЛА́КСІС** (ад гр. morphe = форма + allaksis = змена) — адна з форм *рэгенерацыі* ў жывёл, пры якой аднаўленне страчаных органаў і тканак адбываецца шляхам іх карэннай перабудовы.

**МАРФАЛО́ГІЯ** (ад гр. morphe = форма + *-логія*) — 1) навука аб будове і форме арганізмаў, рэчываў, а таксама сама будова арганізмаў, рэчываў (напр. м. жывёл, м. глебы); 2) сукупнасць форм слоў у мове, а таксама раздзел *граматыкі*, які вывучае формы слоў.

**МАРФАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. morphe = форма + *-метрыя*) — раздзел *геамарфалогіі*, які вывучае лічбавыя характарыстыкі асобных форм і тыпаў рэльефу зямной паверхні (іх даўжыню, плошчу, аб'ём і інш.).

**МАРФАНАЛО́ГІЯ** [ад *мар(фалогія)* + *фаналогія*] — раздзел мовазнаўства, які вывучае сувязі марфалогіі і *фанетыкі*, гукавую будову *марфем* у залежнасці ад іх узаемасувязей у розных словах.

**МАРФАНЕ́МЫ** (ад гр. morphe = форма + nema = нітка) — сістэма пераплеценых валаконцаў у *цытаплазме* некаторых прасцейшых, якая выконвае апорную ролю і садзейнічае захаванню пастаяннай формы цела.

**МАРФАСКУЛЬПТУ́РЫ** (ад гр. morphe = форма + *скульптура*) — дробныя формы рэльефу зямной паверхні (рачныя даліны, барханы, карставыя формы і інш.), ва ўтварэнні якіх асноўная роля належыць *экзагенным* працэсам.

**МАРФАСТРУКТУ́РЫ** (ад гр. morphe = форма + *структура*) — буйныя формы рэльефу зямной паверхні (нізіны, раўніны, плато, горныя кражы і інш.), асноўныя рысы якіх абумоўлены *эндагеннымі* працэсамі пры ўзаемадзеянні з *экзагеннымі*.

**МАРФАТРАПІ́Я** (ад гр. morphe = форма + *-трапія*) — змяненне крышталічнай структуры хімічнага злучэння пры замене ў яго малекуле аднаго з атамаў на суседні па групе ў перыядычнай сістэме элементаў.

**МАРФАТЭКТУ́РА** (ад гр. morphe = форма + лац. tectura = пакрыццё) — тое, што і *мегарэльеф*.

**МАРФЕ́МА** (фр. morpheme, ад гр. morphe = форма) — частка слова (корань, суфікс, прыстаўка або канчатак), якая мае лексічнае або граматычнае значэнне.

**-МАРФІЗМ** (ад гр. morphe = форма) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да формы, віду.

**МАРФІ́Н** (н.-лац. morphinum, ад гр. Morpheios = імя бога сну ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *алкалоід* опію, наркатычны абязбольваючы і снатворны сродак.

**МАРФІНІ́ЗМ** (ад *марфін*) — хваравітая цяга да марфіну, адзін з відаў *наркаманіі*.

**-МАРФОЗ** (ад гр. morphe = форма) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да формы, віду.

**МАРФО́ЗЫ** (ад гр. morphe = форма) — няспадчынныя змены арганізмаў, якія выклікаюцца дзеяннем знешніх фактараў (радыяцыі, высокіх тэмператур, хімічных рэчываў і інш.).

**МАРЦІ́РА** (гал. mortier, ад лац. mortarium = ступа) — артылерыйская гармата з кароткім ствалом

(карацейшым, чым у *гаўбіцы*) для стральбы па закрытых цэлях.

**МАРЦЫПА́Н** (ст.-польск. marcypan, ад іт. marzapane) — цестападобная маса, прыгатаваная з працёртага міндалю або арэхаў з цукрам, а таксама кандытарскі выраб з гэтай масы; 2) *перан.* што-н. вельмі смачнае, адмыслова прыгатаванае.

**МАРШ** (фр. marche) — 1) пераход войск паходным парадкам з аднаго раёна ў другі, а таксама сам працэс гэтага пераходу; 2) спосаб мернай рытмічнай хадзьбы ў страі (напр. цырыманіяльны м.); 3) музычны твор выразнага рытму, прызначаны для суправаджэння ўрачыстых шэсцяў, паходаў, дэманстрацый (напр. ваенны м.); 4) частка лесвіцы паміж дзвюма пляцоўкамі.

**МА́РШАЛ** (рус. маршал < фр. maréchal, ад ст.-в.-ням. marahscalc = канюшы) — воінскае званне, вышэйшае за генеральскае.

**МАРША́ЛАК** (польск. marszałek < чэш. maršalek, ад ст.-в.-ням. marahscalc = канюшы) — 1) вышэйшая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім і ў феадальнай Польшчы; 2) старшыня сейму ў Рэспубліцы Польшча.

**МАРША́НЦЫЯ** (н.-лац. marchantia) — пячоначны мох сям. маршанцыевых, які трапляецца на нізінных балотах, па берагах лясных рэчак, ручаёў і інш.

**МАРШ-МАНЁ́ЎР** (фр. marche-manoeuvre) — перамяшчэнне вялікіх вайсковых злучэнняў на тэатры ваенных дзеянняў з мэтай перагрупоўкі сіл.

**МАРШРУ́Т** (ням. Marschrute, ад фр. marche = хадзьба + route = шлях, дарога) — загадзя вызначаны шлях руху (людзей, войск, паяздоў, самалётаў і г.д.).

**МАРШРУТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *маршрут*) — арганізацыя грузавых перавозак маршрутнымі паяздамі.

**МА́РШЫ** (ням. Marschen) — паласа нізінных марскіх узбярэжжаў, якая затопліваецца толькі ў перыяд найбольш высокіх прыліваў.

**МАРШЫРАВА́ЦЬ** (ням. marschieren) — 1) хадзіць, ісці *маршам*; 2) ісці мерным шагам, па-ваеннаму.

**МАРЫЁН** [лац. (mor)morion] — мінерал класа *сілікатаў*, чорная разнавіднасць *кварцу*, выкарыстоўваецца ў радыё- і электратэхніцы.

**МАРЫ́МБА** (ісп. marimba, з афр.) — 1) афрыканскі ўдарны музычны інструмент, разнавіднасць *ксілафона*; 2) язычковы шчыпковы музычны інструмент, пашыраны ў Конга і Усх. Афрыцы.

**МАРЫ́НА** (іт. marina, ад лац. marinus = марскі) — твор пейзажнага жывапісу, у якім адлюстраваны марскі краявід.

**МАРЫНАВА́ЦЬ** (фр. mariner) — 1) кансерваваць, прыгатоўваць грыбы, агародніну, рыбу ў марынадзе; 2) *перан.* свядома затрымліваць вырашэнне якой-н. справы або каго-н. у якім-н. стане, званні.

**МАРЫНА́Д** (фр. marinade) — 1) вадкасць з воцатам, алеем і вострымі прыправамі, якой заліваюць прадукты пры марынаванні; 2) марынаваны прадукт.

**МАРЫНІ́ЗМ** (ад лац. marinus = марскі) — імкненне дзяржавы да панавання на моры, якое ажыццяўляецца шляхам павелічэння колькасці ваенна-марскіх баз, марскіх узбраенняў і г.д.

# М

**МАРЫНІ́СТ** (фр. mariniste, ад лац. marinus = марскі) — мастак, які малюе марскія краявіды.

**МАРЫ́СКІ** (ісп. moriscos, ад moros = маўры) — частка маўрытанскага насельніцтва ў сярэдневяковай Іспаніі, якая засталася пасля *Рэканкісты*, прымусова прыняўшы хрысціянства.

**МАРЫ́ТА** (лац. maritus = самец) — дарослы чарвяк-сасун, у якога пераўтвараецца ў канчатковым гаспадары лічынка *адалескарый* або *метацэркарый*.

**МАРЫХУА́НА** (ісп. marihuana, з індз.) — *наркотык*, які здабываецца з індыйскіх канапель.

**МАРЫЯНЕ́ТКА** (фр. marionnette) — 1) тэатральная лялька, якая прыводзіцца ў рух пры дапамозе нітак або металічнага прута; 2) *перан.* чалавек, палітычны дзеяч, які слепа дзейнічае па ўказцы іншых, з'яўляецца паслухмянай прыладай у чужых руках.

**МАРЭ́ЛЬ** (ням. morelle, ад іт. amarella) — пладовае дрэва сям. ружавых, пашыранае пераважна ў субтропіках, а таксама плод гэтага дрэва, падобны да вішні.

**МАРЭ́МА** (іт. maremma) — смуга нізінных забалочаных мясцін на заходнім пабярэжжы Апенінскага паўвострава.

**МАРЭ́НА** (фр. moraine) — скапленне абломкаў горных парод, якое ўтвараецца пры перамяшчэнні ледніка.

**МАРЭ́НГА** (іт. marengo, ад Marengo = назва паселішча ў паўночнай Італіі) — тканіна чорнага колеру з белымі або шэрымі варсінкамі.

**МАРЭО́ГРАФ** (ад лац. mare = мора + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі змянення ўзроўню вады ў моры, возеры, рацэ.

**МАРЭ́СКА** (іт. moresca = *літар.* маўрытанская) — музычна-танцавальная сцэна, род балета.

**МАР'Я́Ж** (фр. mariage) — 1) наяўнасць караля і дамы адной масці ў аднаго гульца ў картачнай гульні; 2) стыкаванне ступеней і асноўных вузлоў ракеты.

**МА́СА** (лац. massa = кавалак, камяк) — 1) фізічная велічыня, адна з асноўных характарыстык матэрыі, што вызначае яе інертныя і гравітацыйныя ўласцівасці; 2) колькасць рэчыва ў якім-н. прадмеце, а таксама само рэчыва, з якога складаецца прадмет (напр. м. планеты); 3) велічыня, якой вымяраецца колькасць рэчыва ў целе; 4) бясформеннае цестападобнае рэчыва (напр. расплаўленая м. металу); 5) вялікая колькасць, мноства чаго-н. (напр. м. абломкаў, м. уражанняў); 6) вялікая група насельніцтва; група людзей з агульнымі інтарэсамі (напр. студэнцкая м.).

**МАСА́Ж** (фр. massage) — расціранне цела з лячэбнымі мэтамі.

**МАСА́КРА** (англ. massacre) — забойства, павальнае знішчэнне, бойня.

**МАСЕДУА́Н** (фр. macédoine) — страва з варанай гароднiны і фруктаў пад соусам.

**МАСІКО́Т** (фр. massicot) — жоўтая разнавіднасць *глёту*, выкарыстоўваецца пры вырабе жоўтай фарбы, свінцовых бяліл.

**МАСІ́РАВАЦЬ** [1] (фр. masser) — рабіць *масаж*.

**МАСІ́РАВАЦЬ** [2] (рус. массировать, ад фр. masser) — сканцэн-

троўваць у адным месцы вялікую *масу* (войск, авіяцыі і інш.).

**МАСІЎ** (фр. massif = цяжкавагавы, ад лац. massa = глыба, камяк) — 1) горнае ўзвышша аднароднай геалагічнай будовы (горны м.); 2) шырокая прастора, аднастайная па якіх-н. прыметах (напр. лясны м.).

**МАСІЎНЫ** (фр. massif) — які мае вялікую масу, аб'ём; цяжкавагавы.

**МАСКА** (фр. masque < ст.-іт. mascara, ад ар. mashara = насмешка) — 1) накладка на твар у форме звярынай морды або чалавечага аблічча, якую надзяваюць у час спектакляў, маскарадаў або проста накладка з прарэзамі для вачэй, каб не быць пазнаным; 2) засцерагальнае прыстасаванне для твару (напр. м. процівагаза); 3) слой накладзенага на твар лекавага саставу, крэму і інш.; 4) *перан.* прытворства, якім спрабуюць скрыць што-н. (напр. м. абыякавасці); 5) адліўка з гіпсу, знятая з твару нябожчыка.

**МАСКАРАД** (фр. mascarade, ад ст.-іт. mascarata) — 1) баль, вечар, на які прыходзяць у масках і спецыяльных касцюмах (напр. навагодні м.); 2) *перан.* ашуканства, прытворства, якое скрывае сутнасць чаго-н. (напр. м. выбараў).

**МАСКАРОН** (фр. mascaron, ад іт. mascherone) — скульптурнае ўпрыгожанне ў выглядзе чалавечага твару або галавы жывёлы, зрэзаных ззаду (як маска).

**МАСКАТЭЛЬ** (іт. moskatello, ад перс. mušk = мускус) — фарбы, клей і іншыя хімічныя рэчывы як прадмет гандлю.

**МАСКІРАВАЦЬ** (фр. masquer) — 1) закрываць, прыкрываць што-н., робячы непрыкметным, нябачным; 2) *перан.* скрываць учынкі, пачуцці чым-н. паказным, штучным.

**МАСКІРОЎКА** (ад *маскіраваць*) — 1) сукупнасць сродкаў і прыёмаў, якія прымяняюцца з мэтай схаваць ад праціўніка свае войскі, ваенныя аб'екты; 2) *перан.* скрыванне сваіх сапраўдных намераў, учынкаў.

**МАСКІТЫ** [1] (ісп. mosquito, ад лац. musca = муха) — сямейства крывасосных паўднёвых насякомых атрада двухкрылых, якія пашыраны пераважна ў тропіках і субтропіках.

**МАСКІТЫ** [2] (англ. mosquito-fleet = маскітны флот, ад ісп. mosquito = маскіт) — сукупнасць невялікіх быстраходных ваенных суднаў, прызначаных для баявых дзеянняў вялікімі групамі.

**МАСКОНЫ** [англ. mass con(centration) = канцэнтрацыя масы] — вобласці над т.зв. месячнымі морамі, у якіх назіраюцца змены гравітацыйнага поля Месяца (дадатковыя анамаліі сілы цяжару).

**МАСКУЛІНІЗАЦЫЯ** (ад лац. masculinus = мужчынскі) — развіццё ў асобін жаночага полу мужчынскіх палавых прымет.

**МАСМІНЫ** [англ. mass mini(fication) = памяншэнне масы] — вобласці аслаблення гравітацыйнага поля Месяца, якія заўважаюцца над шэрагам месячных кратэраў.

**МАСОН** (фр. maçon = *літар.* муляр) — член рэлігійна-этычнага таварыства з містычнымі абрадамі, якое ўзнікла ў 18 ст. у Англіі і пашыралася ў многіх іншых краінах.

**МАС-СПЕКТРАМЕТРЫЯ** (ад *маса* + *спектраметрыя*) — раздзяленне атамаў і малекул па іх

масах пры дапамозе *мас-спектрометра*.

**МАС-СПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *маса* + *спектраскапія*) — сукупнасць метадаў даследавання рэчыва па спектру масаў атамаў і малекул, якія ўваходзяць у яго склад.

**МАС-СПЕКТРО́МЕТР** (ад *маса* + *спектрометр*) — прыбор для раздзялення атамаў і малекул па іх масах.

**МА́СТАБА** (ар. mastaba) — сучасная назва грабніц старажытнаегіпецкай знаці (2800—2250 гг. да н.э.).

**МАСТАГЛО́Я** (н.-лац. mastogloia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў *бентасе* мораў, радзей у прэсных вадаёмах.

**МАСТАДАНАЗА́ЎР** (н.-лац. mastodonsaurus, ад гр. mastos = сасок + odus, -ontos = зуб + sauros = яшчарка) — адзін з самых апошніх гіганцкіх *лабірынтадонтаў*, які жыў у *трыясе*.

**МАСТАДО́НТ** (н.-лац. mastodon, -ntis, ад гр. mastos = сасок + odus, -ontos = зуб) — вялізная вымерлая хобатная жывёла, продак слана; жыла ў *кайназоі*.

**МАСТАІДЫ́Т** (ад гр. mastos = сасок + eidos = выгляд) — запаленне слізістай абалонкі паветраносных ячэек саскападобнага адростка скроневай косці.

**МАСТАПА́ТЫЯ** (ад гр. mastos = сасок + *-патыя*) — група захворванняў малочнай залозы, якая характарызуецца разрастаннем жалезістай або фібрознай тканкі залозы.

**МАСТУРБА́ЦЫЯ** (н.-лац. masturbatio) — тое, што і *ананізм*.

**МА́СТЫКС** (лац. mastix, ад гр. mastiche = жывіца) — смала масцікавага дрэва, якое расце ў Міжземнамор'і; выкарыстоўваецца для вырабу лакаў і ў медыцыне.

**МАСТЫ́Т** (лац. mastitis, ад гр. mastos = сасок) — запаленне малочнай залозы; грудніца.

**МАСТЫХІ́Н** (іт. mestichino, ад гр. mastiche = смала) — тонкая стальная пласцінка ў выглядзе лапатачкі ці нажа для расцірання фарбаў, нанясення грунту, згладжвання мазкоў на карціне ў алейным жывапісе.

**МАСТЭКТАМІ́Я** (ад гр. mastos = грудзі + ektome = выраз) — аперацыя выдалення малочнай залозы ў жанчын пры выяўленні злаякаснай пухліны.

**МА́СУЛА** (н.-лац. massula) — пячоначны мох сям. лафозіевых, які расце ў забалочаных лясах на гнілой драўніне або каранях дрэў, што выступаюць з глебы.

**МАСЦІ́КА** (лац. mastix, ад гр. mastiche = жывіца) — 1) вязкая маса для прыклейвання дэкаратыўных матэрыялаў, насцілу падлогі і інш.; 2) сумесь воску з фарбай для націрання паркетнай падлогі.

**МАСЬЁ** (фр. monsieur = пан) — форма ветлівага звароту да мужчыны ў Францыі, якая звычайна далучаецца да прозвішча.

**МАТ** (фр. mat, ад ар. māt = памёр) — становішча ў шахматнай гульні, калі кароль, які знаходзіцца пад ударам фігуры праціўніка, не можа абараніцца.

**МА́ТА**[1] (польск. mata, ад лац. matta) — подсцілка на падлогу або пляцёнка на вокны, дзверы з саломы, травы і інш.

**МА́ТА** [2] (парт. mato) — тое, што і *матараль*.

**МА́ТАВЫ** (польск. matowy, ад ням. matt) — 1) няяркі, пазбаўлены бляску (напр. м-ае святло, м-ая фотапапера); 2) паўпразрысты, пакрыты цьмяным налётам (напр. м-ае шкло).

**МАТАДО́Р** (ісп. matador) — галоўны ўдзельнік бою быкоў, які наносіць быку апошні, смяртэльны ўдар шпагай.

**МАТАРА́ЛЬ** (ісп. matorral) — згуртаванне хмызнякоў у пераменна вільготных і засушлівых раёнах Паўд. Амерыкі.

**МАТАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *матор*) — аснашчэнне маторамі, механічным транспартам.

**МАТАЦЫ́КЛ** (фр. motocycle, ад лац. motus = які рухаецца + гр. kyklos = кола) — двухколавы або трохколавы транспартны сродак з рухавіком унутранага згарання.

**МАТАЦЫКЛЕ́Т** (фр. motocyclette, ад лац. motus = які рухаецца + гр. kyklos = кола) — *уст.* тое, што і *матацыкл*.

**МАТЛО́Т** (фр. matelote, ад matelot = матрос) — 1) французскі матроскі танец, блізкі да *жыгі*; узнік у 19 ст., у пач. 20 ст. атрымаў пашырэнне як бальны танец; 2) страва з кавалачкаў рыбы ў соусе з чырвонага віна і розных прыпраў.

**МАТО́Р** (ням. Motor < фр. moteur, ад лац. motor = які рухае) — машына, якая ператварае розныя віды энергіі ў механічную; рухавік.

**МАТО́РНЫ** (ад лац. motor = які рухае) — 1) які мае адносіны да *матора*; 2) *фізіял.* рухальны (напр. м-ыя нервовыя цэнтры); параўн. *сенсорны*.

**МАТО́Р-РЭДУ́КТАР** (ад *матор* + *рэдуктар*) — агрэгат, які складаецца з рухавіка і рэдуктара, змешчаных у адным блоку.

**МАТРАКА́Ж** (фр. matraquage) — радыётэлевізійная рэклама ў выглядзе бясконцага паўтарэння лозунга, малюнка, песенькі і г.д. да поўнай знямогі і атуплення слухача або гледача.

**МАТРА́Ц** (польск. materac < іт. materazzo, ад ар. matrah = падушка) — 1) мяккая тоўстая ватовая падсцілка на ложак; 2) частка ложка або канапы са спружынавым каркасам і мяккай пракладкай.

**МАТРО́НА** (лац. matrona, ад mater = маці) — паважаная замужняя жанчына, маці сямейства ў Стараж. Рыме.

**МАТРО́С** (рус. матрос, ад гал. matroos ) — марак, радавы флоту.

**МАТРЫКЛІ́ННЫ** (ад лац. mater, -tris = маці + гр. klino = нахіляю) — звязаны з формай выяўлення спадчыннасці, пры якой у нашчадкаў відавочная перавага ўласцівасцей мацярынскага арганізма.

**МА́ТРЫКС** (лац. matrix, ад mater = аснова; маці) — 1) *біял.* дробназярністае рэчыва, якое запаўняе ўнутрыклетачныя структуры і прасторы паміж імі; 2) *палігр.* адзін са сродкаў вырабу эластычных форм высокага друку.

**МАТРЫ́КУЛ** (лац. matricula = спіс) — 1) *уст.* афіцыйны спіс пэўных асоб, напр. студэнтаў універсітэта, служачых установы; 2) спіс асоб касцельнай парафіі або яе даходаў; 3) запісы актаў грамадзянскага стану.

# М

**МАТРЫЛАКА́ЛЬНЫ** (ад лац. mater, -tris = маці + *лакальны*); м. шлюб — пашыраны пры *матрыярхаце* звычай пражывання мужа і жонкі ў абшчыне жонкі.

**МАТРЫЛІНЕ́ЙНЫ** (ад лац. mater, -tris = маці + *лінія*) — заснаваны на сваяцтве па мацярынскай, жаночай лініі (напр. м. род).

**МАТРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** (лац. matrimonialis) — які мае адносіны да шлюбу, шлюбны.

**МА́ТРЫЦА** (ням. Matrize, ад лац. matrix, -icis = маці) — 1) форма (*штамп1*) для адліўкі друкарскіх літар, стэрэатыпаў, для штампоўкі розных вырабаў; 2) табліца матэматычных велічынь, размешчаных у выглядзе прамавугольнай схемы.

**МАТРЫЯРХА́Т** (ням. Matriarchat, ад лац. mater, -tris = маці + гр. arche = улада) — перыяд у развіцці першабытнаабшчыннага ладу, на працягу якога жанчына адыгрывала кіруючую ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці.

**МАТУА́Р** (фр. matoir ) — інструмент для гравіравання, чакан.

**МАТЧ** (англ. match) — спартыўнае спаборніцтва паміж дзвюма камандамі або двума працаўнікамі.

**МАТЧ-ТУРНІ́Р** (ад *матч* + *турнір*) — спартыўнае спаборніцтва, у якім усе ўдзельнікі (пры кругавой сістэме) сустракаюцца паміж сабой не менш двух разоў.

**МА́ТЫ** (ням. Matte) — высакагорныя лугі ў Цэнтр. і Паўд. Еўропе.

**МАТЫВАВА́ЦЬ** (фр. motiver) — прыводзіць довады, матывы, якія пацвярджаюць, абгрунтоўваюць што-н.

**МАТЫВА́ЦЫЯ** (ад *матыў*) — сістэма довадаў, аргументаў на карысць чаго-н.

**МАТЫ́Ў** (фр. motif, ад с.-лац. motivum = рухомае) — 1) асноўная прычына, падстава да якога-н. дзеяння, а таксама доказ у карысць чаго-н. (напр. м. учынка); 2) прасцейшая адзінка сюжэтнага развіцця літаратурнага твора, тэма твора мастацтва; 3) мелодыя, напеў; найгрыш.

**МАТЭ́** (ісп. mate, ад індз. mate) — 1) напітак з сухіх лістоў паўднёваамерыканскай расліны той жа назвы; парагвайскі чай; 2) маленькая пасудзіна, з якой п'юць гэты напітак у Паўд. Амерыцы.

**МАТЭЛО́Т** (фр. matelot) — самы блізкі, суседні ў страі ваенны карабель.

**МАТЭ́ЛЬ** [англ. motel, ад mot(orists) + (hot)el] — гасцініца для аўтатурыстаў са станцыяй тэхнічнага абслугоўвання, гаражамі, стаянкамі і іншымі відамі паслуг.

**МАТЭМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *матэматыка*) — укараненне матэматычных метадаў і дасягненняў матэматыкі ў іншыя навукі, галіны ведаў і сферы дзейнасці чалавека.

**МАТЭМА́ТЫК** (лац. mathematicus, ад гр. mathematikos = матэматычны) — спецыяліст у галіне *матэматыкі*.

**МАТЭМА́ТЫКА** (лац. mathematica < гр. mathematike, ад mathema = навука, веды) — навука, якая вывучае колькасныя суадносіны і прасторавыя формы навакольнага свету.

**МАТЭМАТЫ́ЧНЫ** (лац. mathematicus, ад гр. mathematikos) — які мае адносіны да *матэматыкі*.

**МАТЭ́РЫЯ** (лац. materia) — 1) навакольны свет, які ўспрымаецца нашымі пачуццямі і існуе незалежна ад іх; 2) рэчыва, з якога складаюцца фізічныя целы; 3) тканіна; 4) *перан.* прадмет размовы.

**МАТЭРЫЯ́Л** (лац. materialis = прадметны) — 1) рэчыва, сыравіна, з якіх вырабляецца, будуецца што-н. або якія прымяняюцца для пэўнай мэты (напр. будаўнічы м., перавязачны м.); 2) розныя звесткі, якія служаць асновай або доказам чаго-н. (напр. ілюстрацыйны м.); 3) тое, што і *матэрыя* 3.

**МАТЭРЫЯЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. matérialiser, ад лац. materialis = рэчыўны) — увасабляць што-н. у канкрэтныя, рэчыўныя формы.

**МАТЭРЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. materialisation, ад лац. materialis = рэчыўны) — увасабленне чаго-н. у матэрыяльную, рэчыўную форму.

**МАТЭРЫЯЛІ́ЗМ** (фр. matérialisme, ад лац. materialis = рэчыўны) — 1) філасофскі кірунак, процілеглы *ідэалізму* 1, які сцвярджае першаснасць матэрыі ў адносінах да свядомасці, мыслення, незалежнасць яе існавання ад людзей і яе пазнавальнасць; 2) *перан.* адносіны да рэчаіснасці з пункту погляду выгады для сябе, карысліваснь.

**МАТЭРЫЯЛІ́СТ** (фр. matérialiste, ад лац. materialis = рэчыўны) — 1) паслядоўнік філасофскага *матэрыялізму*; 2) *перан.* асоба, якая падыходзіць да ўсяго з пункту погляду матэрыяльных выгад для сябе.

**МАТЭРЫЯЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *матэрыяліст*) — 1) які грунтуецца на ідэях *матэрыялізму*, уласцівы яму; 2) вузка практычны.

**МАТЭРЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. materialis = прадметны) — 1) рэчыўны, рэальны, які існуе незалежна ад нашай свядомасці (напр. м. свет); 2) звязаны з маёмасцю, сродкамі для існавання (напр. м-ая зацікаўленасць).

**МАТЭ́Т** (фр. motet, ад mot = слова) — твор вакальнай або вакальна-інструментальнай шматгалосай музыкі.

**МАЎЗАЛЕ́Й** (лац. mausoleum, ад гр. Mausoleion = назва грабніцы карыйскага цара Маўсола) — манументальнае пахавальнае збудаванне.

**МА́ЎЗЕР** (ням. W. і P.Mauser = прозвішча нямецкіх братоў-канструктараў) — сістэма аўтаматычнага *пісталета*.

**МА́ЎРЫ** (лац. Mauri, ад гр. mauros = цёмны) — 1) умоўная назва карэннага насельніцтва Паўн. Афрыкі (акрамя Егіпта) і арабаў, якія ў 8 ст. заваявалі гэту тэрыторыю (а таксама мусульман Пірэнейскага паўвострава); 2) назва насельніцтва сучаснай Маўрытаніі.

**МА́ЎРЫСТЫ** (фр. Mauristes) — члены французскай манаскай *кангрэгацыі* ордэна *бенедыкцінцаў*, удзельнікі *Контррэфармацыі*, якія адыгралі вялікую ролю ў збіранні і публікацыі сярэдневяковых рукапісаў.

**МАФЕ́ТЫ** (іт. mofeta) — струмені вуглякіслага газу і выкіды пары, якія выдзяляюцца з невялікіх расколін на схілах вулкана.

**МАФІЁЗІ** (іт. mafioso) — член *мафіі*.

**МА́ФІЯ** (іт. mafia) — 1) тайная тэрарыстычная арганізацыя, якая ўзнікла ў канцы 18 ст. у Сіцыліі

(Італія); 2) група асоб, якая карыстаецца любымі сродкамі і метадамі для дасягнення ўласных, карыслівых інтарэсаў.

**МАФО́РЫЙ** (гр. maphorion) — шырокая хустка, якая прыкрывае галаву і плечы Багародзіцы на праваслаўных іконах.

**МАХАЙРО́Д** (ад гр. machaira = меч + odus = зуб) — вымерлае млекакормячае сям. кашэчых з вялікімі верхнімі кінжалападобнымі клыкамі; жыло ў *неагене*; шаблязубы тыгр.

**МАХАО́Н** (н.-лац. machaon) — дзённы матыль сям. паруснікаў, які мае прыгожую, жоўтую з чорным малюнкам афарбоўку.

**МАХА́ТМА** (санскр. mahātmā = *літар.* вялікая душа) — 1) сусветны дух, бажаство-звышчалавек у індуісцкай *міфалогіі* і *тэасофіі*; 2) дадатак з адценнем асаблівай павагі, які далучаецца да прозвішча славутых асоб і выдатных грамадскіх дзеячаў у Індыі.

**МАХАЯ́НА** (санскр. mahajana = вялікая калясніца) — адзін з двух кірункаў у *будызме* (побач з *хінаянай*), паслядоўнікі якога лічаць магчымым дасягненне *нірваны* не толькі манахамі.

**МА́ХЕ** [ад ням. G.Mache = прозвішча аўстр. фізіка (1876 — 1954)] — *уст.* пазасістэмная адзінка канцэнтрацыі радыеактыўных рэчываў.

**МАХЕ́Р** (англ. mohair, ад ар. muhayyer) — шэрсць ангорскай казы, а таксама выраб з гэтай шэрсці.

**МАХІ́ЗМ** [ад ням. E.Mach = прозвішча аўстр. філосафа (1838 — 1916)] — тое, што і *эмпірыякрытыцызм.*

**МАХІ́НА** (лац. machina, ад гр. machana) — што-н. вельмі вялікае, груваткае.

**МАХІНА́ЦЫЯ** (лац. machinatio = хітрыкі) — несумленны спосаб дасягнення чаго-н., жульніцтва.

**МАХЛЯВА́ЦЬ** (польск. machlować, ад ням. makeln) — жульнічаць, ашукваць з мэтай нажывы.

**МАХЛЯ́Р** (польск. machlarz , ад с.-в.-ням. mecheler) — жулік, ашуканец з мэтай нажывы.

**МАХО́МЕТР** [ад ням. E. Mach = прозвішча аўстр. філосафа (1838—1916) + *-метр*] — бартавы прыбор самалёта, які паказвае хуткасць палёту.

**МА́ЦА** (іт. mazzo) — набітая конскім воласам скураная падушачка, якая ўжывалася друкарамі для набівання фарбай набору.

**МАЦА́** (ідыш maze, ад ст.-яўр. maccāh) — тонкія сухія праснакі з пшанічнай мукі, якія выпякаюцца, паводле яўрэйскага абраду, да вялікадня.

**МАЦАВА́ЦЬ** (польск. mocować) — 1) трывала прымацоўваць; 2) моцна прывязваць, замацоўваць; 3) *перан.* рабіць моцным, узмацняць.

**МАЦО́НІ** (цюрк. macun) — назва кіслага малака ў некаторых народаў Каўказа.

**МАЦЫЁЛА** (н.-лац. matthiola) — тое, што і *ляўконія.*

**МАЦЫЁН** (ням. Motion, ад лац. motio, -onis = рух) — прагулка з мэтай умацавання здароўя або для адпачынку.

**МАЦЭРА́ЦЫЯ** (лац. maceratio) — размякчэнне раслінных або жывёльных тканак у выніку раставарэння міжклетачнага рэчыва пад

уздзеяннем вадкасці; выкарыстоўваецца пры апрацоўцы валакністых раслін (лёну, канапель), пры вырабе анатамічных прэпаратаў.

**МА́ЧТА** (рус. мачта < с.-в.-ням. mast, гал. mast) — 1) высокі слуп на караблі для мацавання парусоў, а таксама для сігналізацыі, вядзення назіранняў і інш.; 2) высотная канструкцыя для падвешвання электрычных правадоў, антэн радыёстанцый і інш.

**МАЧЭ́ТЭ** (ісп. machete) — вялікі нож, якім высякаюць цукровы трыснёг.

**МАЧЭТЭ́РА** (ісп. machetero) — зборшчык цукровага трыснягу.

**МАШТА́Б** (ням. Maßstab, ад Maß = мера, памер + Stab = палка) — 1) адносіны даўжыні ліній на карце, глобусе, плане да іх сапраўднай даўжыні на мясцовасці; 2) сродак выразнасці архітэктурнай формы; 3) *перан.* велічыня, размах, значэнне.

**МАШТА́К** (цюрк. māsstāk = маленькі) — невялікі моцны конь, іноходзец.

**МАШЫКУЛІ́** (фр. mâchicoulis) — навясныя байніцы ў верхняй частцы сцен і вежаў сярэдневяковых умацаванняў, пазней элемент архітэктурнага дэкору.

**МАШЫ́НА** (ням. Maschine, ад лац. machina) — 1) складаны механізм, які выконвае карысную работу шляхам ператварэння аднаго віду энергіі ў другі (напр. паравая м., вылічальная м.); 2) транспартны сродак, які прыводзіцца ў рух якім-н. механізмам (напр. легкавая м., грузавая м.); 3) *перан.* арганізацыя, якая дзейнічае падобна механізму бесперабойна (напр. ваенная м.).

**МАШЫНА́ЛЬНЫ** (фр. machinal) — міжвольны, аўтаматычны.

**МАШЫНЕ́РЫЯ** (фр. machinerie) — 1) унутраная канструкцыя машыны; 2) прыстасаванне ў тэатры для змены дэкарацыі; 3) *разм.* нескладанае, прымітыўнае прыстасаванне, прылада.

**МАШЫНІ́СТ** (ням. Maschinist) — 1) спецыяліст, які працуе на машыне; 2) той, хто кіруе паравозам, вядзе поезд; 3) спецыяліст, які кіруе абсталяваннем сцэны і заменай дэкарацый.

**МАЭСТО́ЗА** (іт. maestoso = велічны) — *муз.* велічны, урачысты характар выканання.

**МАЭ́СТРА** (іт. maestro = настаўнік, майстар) — 1) ганаровая назва выдатнага кампазітара, музыканта або іншай творчай асобы; 2) званне, якое прысвойваецца за мяжой выдатным шахматыстам.

**МАЮ́СКУЛЫ** (лац. maiusculus = некалькі больш) — вялікія (прапісныя) літары старажытных лацінскай і грэчаскай пісьменнасцей (проціл. *мінускулы*).

**МАЯНЭ́З** (фр. mayonnaise) — *соус* з алею, яечнага жаўтка, воцату, гарчыцы і іншых прыпраў.

**МАЯРА́Н** (іт. maiorana) — травяністая расліна сям. ясноткавых з падоўжана-авальным лісцем і дробнымі белымі або ружовымі пахучымі кветкамі, пашыраная пераважна ў субтропіках; на Беларусі трапляецца рэдка; выкарыстоўваецца ў кулінарыі, медыцыне, парфумерыі.

**МАЯРА́Т** (п.-лац. maioratus, ад лац. maior = старэйшы) — 1) парадак атрымання спадчыны ў феадальным і буржуазным праве, пры

# M

якім маёмасць пераходзіць старэйшаму сыну або старэйшаму ў родзе (проціл. *мінарат*); 2) маёмасць, што перадаецца на аснове такога права.

**МАЯРЫЗАВА́ЦЬ** (ням. majorisieren, ад лац. maior = больш) — выкарыстаць большасць галасоў для адхілення прапаноў меншасці (напр. у парламенце).

**МЕА́НДР** (лац. maeander, ад гр. Maiandros = назва звілістай ракі ў Малой Азіі) — 1) звіліна, лука ў цячэнні ракі, характэрная для раўнінных рэк; 2) геаметрычны *арнамент* у выглядзе выгнутых ліній.

**МЕГА-** (гр. megas = вялікі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «буйны, вялікі», «гіганцкі».

**МЕГАВА́Т** (ад *мега-* + *ват*) — адзінка магутнасці электрычнага току, роўная мільёну ват.

**МЕГАГЕ́РЦ** (ад *мега-* + *герц*) — адзінка частаты ваганняў, роўная мільёну герц.

**МЕГАКАЛО́РЫЯ** (ад *мега-* + *калорыя*) — адзінка колькасці цяпла, роўная мільёну калорый.

**МЕГАКАРЫЯЦЫ́ТЫ** (ад *мега-* + гр. karyon = ядро + *-цыты*) — буйныя клеткі касцявога мозгу, якія ўтвараюць *трамбацыты*.

**МЕГАКО́ЛАН** (ад *мега-* + гр. kolon = тоўстая кішка) — паталагічнае павелічэнне таўшчыні кішкі з наступным развіццём ачаговага запалення і атрафіі слізістай абалонкі.

**МЕГАЛА-** (гр. megas, -alu = вялікі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «гіганцкі».

**МЕГАЛАБЛА́СТЫ** (ад *мегала-* + *бласты*) — чырвоныя крывяныя клеткі зародкаў вышэйшых пазваночных на ранніх стадыях развіцця, буйныя, здольныя да дзялення.

**МЕГАЛАЗА́ЎР** (ад *мегала-* + *-заўр*) — буйны драпежны *дыназаўр* з групы *карназаўраў*, які жыў у *мезазоі*.

**МЕГАЛАМА́НІЯ** (ад *мегала-* + *манія*) — манія вялікасці.

**МЕГАЛАПЛАНКТО́Н** (ад *мегала-* + *планктон*) — самыя буйныя (больш за 1 м) арганізмы планктону.

**МЕГАЛАЦЫ́ТЫ** (ад *мегала-* + *-цыты*) — чырвоныя крывяныя клеткі зародкаў вышэйшых пазваночных на позніх стадыях развіцця, якія ўтвараюцца ў выніку дыферэнцыроўкі *мегалабластаў*.

**МЕГАЛАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *мегала-* + *-цэфалія*) — тое, што і *макрацэфалія*.

**МЕГАЛІ́Т** (ад *мега-* + *-літ*) — старажытнае збудаванне (3 — 2 тыс. да н.э.) з вялізных камянёў, звязанае з пахавальным культам.

**МЕГАЛО́ПАЛІС** (ад гр. megas, -alu = вялікі + polis = горад) — буйная *агламерацыя* гарадоў.

**МЕГА́НТРАП** (ад *мега-* + *-антрап*) — вымерлая вялікая чалавекападобная *малпа* эпохі *плейстацэну*, рэшткі якой знойдзены на востраве Ява і ва Усх. Афрыцы.

**МЕГАПАРСЕ́К** (ад *мега-* + *парсек*) — адзінка вымярэння астранамічных адлегласцей, роўная мільёну парсекаў.

**МЕГАПІ́Р** (ад *мега-* + гр. pyr = агонь) — гарачаўстойлівы сплаў на аснове жалеза.

# М

**МЕ́ГАРАН** (гр. megaron = вялікая зала) — тып старажытнагрэчаскага жылля ў выглядзе прамавугольнай пабудовы з *порцікам* у тарцы, за якім змяшчалася зала з ачагом пасярэдзіне.

**МЕГАРЭЛЬЕ́Ф** (ад *мега-* + *рэльеф*) — самыя буйныя формы рэльефу зямной паверхні (мацерыковыя выступы, акіянічныя ўпадзіны і інш.); параўн. *макрарэльеф, мезарэльеф, мікрарэльеф*.

**МЕГАСКО́П** (ад *мега-* + *скоп*) — аптычны інструмент для разглядання дробных каштоўных камянёў.

**МЕГАСПАРАГЕНЕ́З** (ад *мегаспора* + *-генез*) — развіццё ў разнаспоравых вышэйшых раслін мегаспор.

**МЕГАСПАРА́НГІЙ** (ад *мега-* + *спарангій*) — орган, у якім у споравых і насенных раслін утвараюцца *мегаспоры*.

**МЕГАСПАРАФІ́Л** (ад *мега-* + *спарафіл*) — відазменены ліст вышэйшых разнаспоравых раслін, на якім развіваюцца *мегаспарангіі*.

**МЕГАСПАРАЦЫ́Т** (ад *мегаспора* + *-цыты*) — мацярынская клетка мегаспор разнаспоравых вышэйшых раслін.

**МЕГАСПО́РА** (ад *мега-* + *спора*) — вялікая спора, што ўтвараецца ў *мегаспарангіях* разнаспоравых вышэйшых раслін (параўн. *мікраспора*).

**МЕГАТА́ЙП** (ад *мега-* + англ. tipe = адбітак) — электронная машына для атрымання фотанабору шрыфтамі *кегеляў* ад 6 да 144 *пунктаў*.

**МЕГАТО́НА** (ад *мега-* + *тона*) — умоўная адзінка вымярэння магутнасці ядзернага зарада або выбуху, роўная магутнасці выбуху мільёна тон *трынітраталуолу*.

**МЕГАТЭ́РЫЙ** (ад *мега-* + *-тэрый*) — вымерлая жывёла вялікіх памераў, падобная да сучаснага ляніўца, якая жыла ў *неагене*.

**МЕГАФІ́Л** (ад *мега-* + гр. phyllon = ліст) — ліст папаратнікаў і насенных раслін, які ўзнік са сплюшчанай сістэмы галінак у продкавых груп прымітыўных вышэйшых раслін, што яшчэ не мелі лістоў.

**МЕГАФО́Н** (ад *мега-* + *-фон*) — *рупар* для ўзмацнення гуку.

**МЕГАЦЫ́КЛ** (ад *мега-* + *цыкл*) — мільён цыклаў.

**МЕГАЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (ад *мега-* + *эвалюцыя*) — сукупнасць эвалюцыйных працэсаў, якія вядуць да фарміравання найбольш буйных *таксонаў*.

**МЕГАЭ́РГ** (ад *мега-* + *эрг*) — адзінка працы і энергіі, роўная мільёну эргаў.

**МЕГЕ́РА** (гр. Megaira = імя адной з трох багінь кроўнай помсты ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* злая, сварлівая жанчына.

**МЕГО́М** (ад *мега-* + *ом*) — адзінка электрычнага супраціўлення, роўная мільёну омаў.

**МЕГО́ММЕТР** (ад *мегом* + *-метр*) — прыбор для вымярэння вялікіх электрычных супраціўленняў у мегомах.

**МЕДА́ЛЬ** (фр. médaille) — 1) металічны знак у выглядзе кружка з рэльефным адбіткам і надпісам для ўзнагароды за асаблівыя заслугі; 2) падобны знак як узнагарода за дасягненні ў навуцы, культуры, за поспехі ў вучобе або пе-

# M

рамогу ў конкурсе, спаборніцтве (напр. залатыя алімпійскі м.); 3) падобны знак, выпушчаны ў памяць аб якой-н. гістарычнай падзеі або ў гонар выдатнага дзеяча (напр. юбілейны м. у гонар Ф.Скарыны).

**МЕДАЛЬЕ́Р** (фр. médailleur) — спецыяліст па вырабу форм для адліўкі і чаканкі манет і *медалёў*.

**МЕДАЛЬЁН** (фр. médaillion) — 1) ювелірнае ўпрыгожанне ў форме авальнага або круглага футарала з ланцужком, каб насіць на шыі; служыць для захавання партрэта або якога-н. талісмана; 2) выяўленчая або арнаментальная кампазіцыя ў авальным або круглым абрамленні, што служыць для аздаблення будынкаў, мэблі і інш.

**МЕДЖЛІ́С** [тур. meclis (вым. medžlis), ад ар. madžlis = пасяджэнне, сход] — 1) *парламент* у Турцыі; 2) ніжняя палата парламента ў Іране.

**МЕ́ДЗЬЕ** (венг. megye) — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Венгрыі.

**МЕДЗЯРЫ́Т** (польск. miedzioryt, ад miedź = медзь + ryt = гравюра) — назва гравюры на медзі ў канцы 16 — 17 ст.

**МЕДРЭСЭ́** (ар. madrasa = месца, дзе даюць урокі) — сярэдняя і вышэйшая рэлігійная школа ў мусульман у краінах Блізкага і Сярэд. Усходу.

**МЕДУ́ЗА** (гр. Medusa = імя адной з трох *гаргон* у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — асобіна палавага пакалення *кнідарый*, якая вядзе пераважна свабоднаплаваючы спосаб жыцця; марская кішачнаполасцевая жывёла са студзяністым целам у форме звана або парасона са шчупальцамі па краях.

**МЕДУЗО́ІДЫ** (ад *медуза* + *-оід*) — палавыя асобіны ў калоніі *гідроідаў*, падобныя да медуз.

**МЕДУЛАТЭРАПІ́Я** (ад лац. medulla = касцявы мозг + *тэрапія*) — перасадка касцявога мозгу хворым з расстройствам крывятварэння.

**МЕДУЛЯ́РНЫ** (лац. medullaris) — *анат.* касцёва-мазгавы.

**МЕДЫЕВА́ЛЬ** (фр. médiéval = сярэдневяковы, ад лац. medium aerum = сярэдні век) — друкарскі *шрыфт*, блізкі па малюнку да лацінскіх шрыфтоў эпохі Адраджэння.

**МЕ́ДЫК** (лац. medicus) — спецыяліст у галіне *медыцыны*, урач.

**МЕДЫКАМЕ́НТЫ** (лац. medicamentum) — лячэбныя сродкі, лякарствы.

**МЕДЫНА́Л** (н.-лац. medinal, ад лац. medicina = медыцына) — лячэбны прэпарат, які выкарыстоўваецца як снатворны і заспакойлівы сродак.

**МЕДЫТАТЫ́ЎНЫ** (лац. meditativus = задумлівы) — які мае адносіны да *лірыкі*, што носіць характар роздуму.

**МЕДЫТА́ЦЫЯ** (лац. meditatio) — 1) роздум, самапаглыбленне; 2) форма філасофскай *лірыкі*, у якой паэт выкладвае свае роздумы над праблемамі жыцця і смерці.

**МЕ́ДЫУМ**[1] (лац. medium = сярэдні) — паводле ўяўленняў спірытаў (гл. *спірытызм*), пасрэднік паміж людзьмі і «духамі».

**МЕ́ДЫУМ**[2] (лац. medium = сярэдні) — сярэдні *рэгістр* жаночага пеўчага голасу.

**МЕДЫЦЫ́НА** (лац. medicina) — сукупнасць навук і практычная

дзейнасць, накіраваныя на захаванне і ўмацаванне здароўя людзей, папярэджанне і лячэнне хвароб.

**МЕДЫЦЫНБО́Л** (англ. medicine ball = лячэбны мяч) — скураны мяч з мяккай набіўкай для практыкаванняў у штурханні і кіданні.

**МЕДЫЯВІ́СТ** (фр. médiéviste, ад лац. medium aerum = сярэдні век) — спецыяліст па *медыявістыцы*.

**МЕДЫЯВІ́СТЫКА** (ад *медыявіст*) — раздзел гістарычнай навукі, які вывучае гісторыю сярэдніх вякоў.

**МЕДЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. medialis) — *анат.* які знаходзіцца бліжэй да сярэдняй падоўжанай плоскасці цела (напр. м-ая група мышцаў).

**МЕДЫЯ́НА** (лац. mediana = сярэдняя) — *мат.* 1) адрэзак, які злучае вяршыню трохвугольніка з сярэдзінай процілеглай стараны; 2) велічыня, што знаходзіцца ў сярэдзіне рада велічынь, размешчаных па ўзрастаючай або сыходнай лініі.

**МЕДЫЯ́ННЫ** (лац. medianus) — *анат.* які знаходзіцца ў сярэдняй плоскасці цела, што ідзе спераду назад па яго цэнтру.

**МЕДЫЯ́НТА** (лац. medians, -ntis = які раздзяляе папалам) — трэцяя і чацвёртая ступень *мажорнага* або *мінорнага* ладу, а таксама пабудаваны на адной з гэтых ступеней *акорд*.

**МЕДЫЯСТЫНА́ЛЬНЫ** (ад п.-лац. mediastinum = міжсценне) — *анат.* міжсценневы.

**МЕДЫЯСТЫНАСКАПІ́Я** (ад п.-лац. mediastinum = міжсценне + *-скапія*) — метад даследавання пярэдняга міжсцення пры дапамозе *медыястынаскопа*.

**МЕДЫЯСТЫНАСКО́П** (ад п. - лац. mediastinum = міжсценне + *-скоп*) — металічная трубка з аптычнай і асвятляльнай сістэмамі для даследавання ўнутраных органаў груднай клеткі.

**МЕДЫЯСТЫНІ́Т** (п.-лац. mediastinum = міжсценне) — запаленне клятчаткі міжсцення.

**МЕДЫЯ́ТАР** (лац. mediator = пасрэднік) — 1) тое, што і *плектр*; 2) пасрэднік у гандлёвых, дыпламатычных справах; 3) *біял.* рэчыва, якое перадае нервовы імпульс з нервовых клетак на рабочы орган арганізма.

**МЕДЫЯТЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. mediatus = які выступае пасрэднікам) — ператварэнне ўладальных нямецкіх князёў у падначаленых германскай імперыі, якое адбылося ў пач. 19 ст.

**МЕДЫЯТЫ́ЧНЫ** (ад лац. madiatus = які выступае пасрэднікам) — пасрэдніцкі (напр. пасрэдніцкая роля якой-н. дзяржавы або аўтарытэтнага дзеяча ў міжнароднай спрэчцы).

**МЕДЫЯ́ЦЫЯ** (лац. mediatio = пасрэдніцтва) — спосаб мірнага вырашэння міжнародных спрэчак пры дапамозе садзейнічання дзяржавы, якая не ўдзельнічае ў спрэчцы.

**МЕДЭЛЯ́Н** (польск. medelan, ад іт. Mediolano = Мілан) — паляўнічы сабака, з якім хадзілі на мядзведзя.

**МЕДЭЛЯ́НСКІ** (ад *медэлян*); м. с а б а к а — тое, што і *медэлян*.

# М

**МЕДЭЛЯ́Н** (польск. medelan, ад іт. Mediolano = Мілан) — паляўнічы сабака, з якім хадзілі на мядзведзя.

**МЕДЭЛЯ́НСКІ** (ад *медэлян*); м. сабака — тое, што і *медэлян*.

**МЕЕ́ЗІЯ** (н.-лац. meesia) — лістасцябловы мох сям. меезіевых, які трапляецца на балотах як леднікова-рэліктавы від.

**МЕЁЗ** (гр. meiosis = змяншэнне) — асобы спосаб дзялення клеткі ў жывых арганізмах, пры якім адбываецца змяншэнне (*рэдукцыя*) колькасці *храмасом* у даччыных клетках і пераход клетак з дыплоіднага стану ў гаплоідны (у выніку ўтвараюцца палавыя клеткі); рэдукцыйнае дзяленне.

**МЕЗ-, МЕЗА-** (гр. mesos = сярэдні, прамежкавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае сярэднюю велічыню або прамежкавае становішча чаго-н.

**МЕЗАА́ТАМ** (ад *мезон* + *атам*) — атам, у якім адзін з электронаў атамнай абалонкі замешчаны адмоўна зараджаным мезонам або *мюонам*.

**МЕЗАБЛА́СТ** (ад *меза-* + *-бласты*) — тое, што і *мезадэрма*.

**МЕЗАГЛЕ́Я** (ад *меза-* + гр. glia = клей) — студзяністы слой паміж знешнім (*эктадэрма*) і ўнутраным (*энтадэрма*) слоем клетак, якія пакрываюць цела кішачнаполасцевых жывёл.

**МЕЗАДЭ́РМА** (ад *меза-* + *-дэрма*) — сярэдні зародкавы лісток у мнагаклетачных жывёл (акрамя губак і кішачнаполасцевых) і чалавека, размешчаны паміж *эктадэрмаю* і *энтадэрмаю*.

**МЕЗАЗА́ЎР** (ад *меза-* + *-заўр*) — вымерлы прэснаводны паўзун, які жыў у *палеазоі*.

**МЕЗАЗО́І** (н.-лац. mesozoa) — тып беспазваночных жывёл спрошчанай будовы, якія з'яўляюцца *эндапаразітамі* марскіх беспазваночных; уключае класы *артанектыдаў* і *дыцыемідаў*.

**МЕЗАЗО́Й** (ад *меза-* + *-зой*) — чацвёртая *эра* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, сярэдняя паміж *палеазоем* і *кайназоем*; працягвалася 160 — 170 млн. гадоў.

**МЕЗАЗО́ЙСКІ** (ад *мезазой*); м-ая эра — тое, што і *мезазой*.

**МЕЗАКА́РПІЙ** (ад *меза-* + гр. karpos = плод) — сярэдні слой калякаплодніка раслін (напр. сакавітая мякаць плада гарбуза).

**МЕЗАКАРЫЁТЫ** (н.-лац. mesocaryota) — арганізмы, якія па тыпу арганізацыі ядра і клетак з'яўляюцца прамежкавымі паміж *пракарыётамі* і *эўкарыётамі*.

**МЕЗАКЛІ́МАТ** (ад *меза-* + *клімат*) — мясцовы клімат, кліматычныя ўмовы, уласцівыя пэўнаму абмежаванаму раёну на зямной паверхні.

**МЕЗАЛІ́Т** (ад *меза-* + *-літ*) — прамежкавая эпоха каменнага веку паміж *палеалітам* і *неалітам*.

**МЕЗАЛЬЯ́НС** (фр. mésalliance) — шлюб з асобай ніжэйшага сацыяльнага становішча ў дваранска-буржуазным грамадстве; няроўны шлюб.

**МЕЗАМАЛЕ́КУЛА** (ад *меза-* + *малекула*) — малекула, у якой хімічная сувязь паміж атамамі ажыццяўляецца не электронам, а адмоўна зараджаным *мюонам*.

**МЕЗАМО́РФНЫ** (ад *меза-* + *-морфны*) — які мае прамежкавую форму; м. т ы п — сярэдні тып будовы цела чалавека (паміж *брахіморфным* і *даліхаморфным*).

**МЕЗАНЕФРО́С** (ад *меза-* + гр. nephros = нырка) — першасны орган выдзялення ў пазваночных; у рыб і земнаводных функцыяніруе на працягу ўсяго жыцця, у паўзуноў, птушак, млекакормячых і чалавека толькі на ранняй стадыі зародкавага развіцця, замяняючыся пазней ныркай (*метанефрасам*).

**МЕЗАНІ́Н** (іт. mezzanino) — няпоўны паверх, надбудаваны над цэнтральнай часткай жылога (звычайна невялікага) дома.

**МЕЗАПА́ЎЗА** (ад *меза-* + *паўза*) — пераходны слой *атмасферы* на вышыні 80 — 90 км паміж *мезасферай* і *стратасферай*.

**МЕЗАПІТЭ́К** (н.-лац. mesopithecus) — вымерлая малпа сям. мартышкавых, якая жыла ў канцы *міяцэну* і ў *пліяцэне*.

**МЕЗАРЭЛЬЕ́Ф** (ад *меза-* + *рэльеф*) — формы рэльефу зямной паверхні з амплітудай вышынь да некалькіх дзесяткаў метраў, прамежкавыя паміж *макрарэльефам* і *мікрарэльефам* (рачныя даліны, катлавіны і інш.).

**МЕЗАСАПРО́БЫ** (ад *меза-* + гр. sapros = гнілы + bios = жыццё) — раслінныя і жывёльныя арганізмы, якія жывуць у водах, што ўмерана забруджаны арганічным рэчывам.

**МЕЗАСІДЭРЫ́ТЫ** (ад *меза-* + *сідэрыты*) — жалезна-каменныя *метэарыты*.

**МЕЗАСКА́Ф** (ад *меза-* + *-скаф*) — камера, прызначаная для вывучэння сярэдніх глыбінь акіяна.

**МЕЗАСФЕ́РА** (ад *меза-* + *сфера*) — пераходны слой атмасферы на вышыні 50—80 км паміж *стратасферай* і *іанасферай*.

**МЕЗАТО́РЫЙ** (ад *меза-* + *торый*) — прадукт *радыеактыўнага* распаду торыю; выкарыстоўваецца ў медыцыне, для вырабу святлівых фарбаў.

**МЕЗАТРО́Н** (ад *меза-* + *-трон*) — устарэлая назва *мезона*.

**МЕЗАТРО́ФНЫ** (ад *меза-* + *-трофны*); м - ы я  а з ё р ы — вадаёмы з сярэднім утрыманнем пажыўных рэчываў.

**МЕЗАТРО́ФЫ** (ад *меза-* + *-трофы*) — расліны, якія растуць на ўмераных па ўрадлівасці глебах (параўн. *аліґатрофы, эўтрофы*).

**МЕЗАТЭ́ЛІЙ** [ад *меза-* + *(эпі)тэлій*] — разнавіднасць эпітэлію, які высцілае серозныя абалонкі поласцей цела (брушыну, плеўру і інш.) пазваночных жывёл і чалавека.

**МЕЗАТЭ́НІУМ** (н.-лац. mesotenium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мезатэніевых, якая трапляецца на вільготных скалах, схілах, імхах, рэдка на балоце, у рэках, канавах, лужынах.

**МЕЗАТЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *меза-* + гр. therme = цяпло); м - ы я  р а д о в і ш ч ы — залежы карысных выкапняў, адкладзеныя з гарачых мінеральных раствораў у нетрах Зямлі на глыбіні да 5 км пры тэмпературах 200 — 300°С.

**МЕЗАТЭРМІ́Я** (ад *меза-* + *-тэрмія*) — павышэнне тэмпературы вады ў вадаёме на глыбіні 0,5 — 1,5 м.

**МЕЗАФІ́Л** (ад *меза-* + гр. phyllon = ліст) — асноўная тканка лістоў

раслін (*парэнхіма*), у клетках якой змяшчаецца хларафіл.

**МЕЗАФІ́ЛЫ** (ад *меза-* + *-філ*) — арганізмы, якія нармальна існуюць і размнажаюцца пры сярэдніх тэмпературах (20 — 40° С).

**МЕЗАФІ́Т** (ад *меза-* + *-фіты*) — этап эвалюцыі расліннага покрыву Зямлі, які замяніў *палеафіт* і папярэднічаў *кайнафіту*.

**МЕЗАФІ́ТЫ** (ад *меза-* + *-фіты*) — расліны, якія жывуць ва ўмовах дастатковай увільготненасці; займаюць прамежкавае становішча паміж *гіграфітамі* і *ксерафітамі*.

**МЕЗАЦЭСТАІДЗІ́ДЫ** (н.-лац. mesocestoididae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, якія паразітуюць у тонкім кішэчніку ваўкоў, лісоў, куніц, сабак.

**МЕЗАЦЭФА́Л** (ад *меза-* + *-цэфал*) — *антр.* чалавек, у якога форма галавы мае сярэднія паказчыкі ў параўнанні з *брахіцэфалам* і *даліхацэфалам*.

**МЕЗАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *меза-* + *-цэфалія*) — форма галавы, сярэдняя паміж *брахіцэфаліяй* і *даліхацэфаліяй*; сярэднегаловасць.

**МЕЗЕМБРЫЯНТЭ́МУМ** (н.-лац. mesembryanthemum) — травяністая расліна сям. аізавых, пашыраная ў паўднёвай частцы Афрыкі.

**МЕЗЕНТЭ́РЫЙ** (гр. mesenterion) — складка брушыны, якая прымацоўвае ўнутраныя органы да сценак поласці цела ў чалавека і жывёл.

**МЕЗЕНХІ́МА** (ад *мез-* + *энхіма*) — зародкавая злучальная тканка большасці мнагаклетачных жывёл і чалавека.

**МЕЗЕНХІМО́МА** (ад *мезенхіма* + *-ома*) — *саркома* зародкавай злучальнай тканкі жывёл і чалавека.

**МЕЗО́Н** [ад гр. mesos = сярэдні, прамежкавы + *(электр)он*] — нестабільная элементарная часціца, маса якой большая за масу электрона і меншая за масу пратона.

**МЕЙСТЭРЗІ́НГЕРЫ** (ням. Meistersinger = майстар спеву) — нямецкія паэты-спевакі 14 — 16 ст. з цэхавых рамеснікаў, якія практыкавалі кананічную манеру выканання песень на рэлігійна-дыдактычныя, а пазней і свецкія тэмы; пераемнікі *мінезінгераў*.

**МЕКО́НІЙ** (гр. mekonion = макавы сок) — першародны кал плода і немаўляці.

**МЕКТЭ́Б** (ар. maktab) — пачатковая мусульманская школа для хлопчыкаў.

**МЕЛА-** (гр. melos = песня) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «звязаны са спевамі, музыкай».

**МЕЛАДРА́МА** (ад *мела-* + *драма*) — 1) драматычны *жанр*, п'еса з вострай інтрыгай, ярка выражаным супрацьпастаўленнем дабра і зла, павышанай эмацыянальнасцю; 2) *перан.* падзеі, перажыванні, якія выклікаюць смех сваёй ненатуральнасцю і прыўзнятасцю.

**МЕЛАДРАМАТЫ́ЗМ** (фр. mélodramatisme) — празмерная чуллівасць, ненатуральнасць у паказе чаго-н., уласцівая *меладраме*.

**МЕЛАДЭКЛАМА́ЦЫЯ** (ад *мела-* + *дэкламацыя*) — мастацкае чытанне ў суправаджэнні музыкі.

**МЕЛАЗІ́РА** (н.-лац. melosira) — каланіяльная *дыятомавая* вада-

расць сям. касцыпадыскавых, якая пашырана ў *планктоне* і *бентасе* прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмаў.

**МЕЛАМА́Н** (ад *мела-* + *-ман*) — той, хто вельмі любіць музыку і спевы.

**МЕЛАМА́НІЯ** (ад *мела-* + *манія*) — вялікае захапленне музыкай і спевамі.

**МЕЛАМЕ́Д** (яўр. melammed) — настаўнік у яўрэйскай школе.

**МЕЛАМІ́Н** (ад гр. melas = чорны + *аміны*) — арганічнае злучэнне *гетэрацыклічнага* рада, бясколернае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца ў вытворчасці пластмас, лакаў, клеяў, у тэкстыльнай прамысловасці.

**МЕЛАМПСАРЫ́ДЫЙ** (н.-лац. melampsoridium) — *базідыяльны* грыб сям. мелампсоравых, які развіваецца на лісці вышэйшых раслін.

**МЕЛАМПСО́РА** (н.-лац. melampsora) — *базідыяльны* грыб сям. мелампсоравых, які развіваецца на лісці і парастках травяністых раслін, кустоў і дрэў.

**МЕЛАНАЛЕ́ЎКА** (н.-лац. melanoleuca) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце ў лясах, садах, хмызняках, на лугах; ядомы.

**МЕЛАНАСО́МЫ** (ад гр. melas, -anos = чорны + *сома*) — цытаплазматычныя структуры *меланацытаў* і *меланафораў*.

**МЕЛАНАСПО́РА** (н.-лац. melanospora) — сумчаты грыб сям. меланаспоравых, які развіваецца на жывёльных і раслінных субстратах.

**МЕЛАНАТРАПІ́Н** (ад гр. melas, -anos = чорны + trope = паварот, перамена) — тое, што і *інтэрмедын*.

**МЕЛАНАФО́РЫ** (ад гр. melas, -anos = чорны + *-фор*) — пігментныя клеткі ў *амфібій*, размешчаныя ў *эпідэрмісе* і ўласна скуры.

**МЕЛАНАЦЫ́ТЫ** (ад гр. melas, -anos = чорны + *-цыты*) — пігментныя клеткі жывёл і чалавека, якія сінтэзуюць *меланін*, абумоўліваючы чорную, карычневую, шэрую і рыжую афарбоўку покрываў і ўнутраных абалонак цела.

**МЕЛА́НЖ** (фр. mélange = сумесь) — сумесь валокнаў пражы, афарбаваных у розныя колеры, а таксама тканіна з такой пражы.

**МЕЛА́НЖ-А́КТ** (ад фр. mélange = сумесь + *акт*) — цыркавы нумар, які складаецца з разнастайных трукаў.

**МЕЛАНЖЭ́Р** (фр. melangeur) — машына для змешвання розных субстанцый, якая ўжываецца пры вытворчасці шакаладу, парашкоў, фарбавальнікаў і інш.

**МЕЛАНІ́ЗМ** (ад гр. melas, -anos = чорны) — пераважнае распаўсюджанне цёмнаафарбаваных асобін якога-н. віду жывёл.

**МЕЛАНІ́Н** (ад гр. melas, -anos = чорны) — *пігмент* карычневага або чорнага колеру, які трапляецца ў тканках жывёл і чалавека (у скуры, валасах і інш.).

**МЕЛАНІ́Т** (ад гр. melas, -anos = чорны) — чорны непразрысты мінерал, разнавіднасць гранату.

**МЕЛАНКО́НІЙ** (н.-лац. melanconium) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваец-

ца на галінках і лісці вінаграду, грэцкага арэха і іншых раслін.

**МЕЛАНО́З** (ад гр. melas, -anos = чорны) — залішняе накапленне *меланіну* ў арганізме чалавека.

**МЕЛАНО́МА** (ад гр. melas, -anos = чорны + *-ома*) — злаякасная пухліна, якая развіваецца з клетак, што выпрацоўваюць *меланін*.

**МЕЛАНО́ПСІС** (ад гр. melas, -anos = чорны + opsis = зрок) — *малюск* класа бруха090ногіх, пашыраны ў рэчках з хуткім цячэннем у Сярэд. і Паўд.-Усх. Еўропе.

**МЕЛАНТЭРЫ́Т** (ад гр. melanteria = чорная паста) — мінерал класа *сульфатаў* зялёнага, шэрага, шаравата-чорнага колераў са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для вырабу фарбаў, чарніла.

**МЕЛАНХАЛІ́ЧНЫ** (гр. melancholikos) — 1) які мае адносіны да *меланхоліі*, характарызуецца ўласцівымі ёй рысамі (напр. м. характар); 2) сумны, тужлівы, задумлівы (напр. м. настрой).

**МЕЛАНХО́ЛІК** (гр. melancholikos) — 1) чалавек *меланхалічнага* тэмпераменту; 2) чалавек, схільны да тугі, журботы, задумлівасці; 3) хворы на меланхолію.

**МЕЛАНХО́ЛІЯ** (гр. melancholia) — 1) сумны настрой, туга, задумлівасць; 2) устарэлая назва *дэпрэсіі*.

**МЕЛАПЕ́Я** (гр. melopoiia) — 1) вучэнне аб *мелодыі* ў Стараж. Грэцыі; 2) тое, што і *мелодыка*.

**МЕ́ЛАС** (гр. melos = песня) — агульнае паняцце мелады́чнай, песеннай асновы ў музыцы.

**МЕЛА́СМІЯ** (н.-лац. melasmia) — недасканалы грыб сям. танкастромавых, які развіваецца на лісці дрэвавых і травяністых раслін.

**МЕЛАТЫ́ПІЯ** (ад *мела-* + *-тыпія*) — друкаванне нот друкарскім спосабам.

**МЕЛЕ́НА** (гр. melaina, ад melas, -anos = чорны) — чорны дзёгцепадобны кал як прымета крывацёку ў страўніку або стрававальным тракце.

**МЕ́ЛЕС** (фр. mélasse) — кармавая патака, адходы цукровай вытворчасці.

**МЕЛІЁЛА** (н.-лац. meloila) — сумчаты грыб сям. меліёлавых, які развіваецца на лісці чарніц, брусніц, буякоў.

**МЕЛІ́ЗМЫ** (ад гр. melos = песня) — *муз.* невялікія адносна ўстойлівыя меладычныя ўпрыгожанні (*групета, мардэнт, трэль, фаршлаг*); разнавіднасць музычнай *арнаментыкі*.

**МЕЛІЛІ́Т** (ад гр. melinos = жаўтаваты + *-літ*) — пародаўтваральны *мінерал*, бясколерны або бледнажоўты са шкляным бляскам.

**МЕЛІНІ́Т** (ад гр. melinos = жаўтаваты) — назва *трынітрафенолу* ў Расіі і Францыі ў канцы 19 — пач. 20 ст.; пікрынавая кіслата.

**МЕЛІ́С** (ням. Melis, ад лац. mel, mellis = мёд) — сорт цукру-пяску, які атрымліваюць з белай патакі — пабочнага прадукту цукрарафінаднай вытворчасці.

**МЕЛІ́СА** (ад н.-лац. melisa, ад гр. melissa = пчала) — травяністая расліна сям. ясноткавых з зубчастым лісцем, што мае пах лімона, і дробнымі белымі або ружовымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і і субтропіках Азіі; лекавая і

меданосная, на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МЕЛІТО́ЗА** (ад гр. meli, -itos = мёд) — цукрыстае рэчыва, якое знаходзіцца ў некаторых раслінах, напр. у эўкаліпце, цукровых бураках.

**МЕ́ЛІЯ** (н.-лац. melia) — дрэвавая або кустовая расліна сям. меліевых з перыстым лісцем і дробнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; лісце і карані выкарыстоўваюцца ў медыцыне.

**МЕЛІЯІДО́З** (ад гр. melis = меліда, хвароба аслоў + eidos = выгляд) — рэдкае інфекцыйнае захворванне жывёл і чалавека, якое паражае скуру і ўнутраныя органы; найбольш пашырана ў Паўд.-Усх. Азіі.

**МЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (лац. melioratio = паляпшэнне) — сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне зямельных угоддзяў асушэннем балот, абвадненнем, змяненнем структуры глебы вапнаваннем, пасадкай спецыяльных раслін і інш.

**МЕЛІЯРЫ́ЗМ** (ад лац. melior = лепшы) — ідэалістычны погляд на дабро і зло, прыхільнікі якога лічаць зло немінучым, але прызнаюць магчымым паступова пашыраць сферу дабра.

**МЕЛО́ДЫКА** (гр. melodikos = які адносіцца да мелодыі) — 1) вучэнне аб *мелодыі*; 2) сукупнасць меладычных сродкаў, уласцівых твору, кампазітару, музычнаму стылю або кірунку.

**МЕЛО́ДЫЯ** (лац. melodia, ад гр. melodia = напеў, песня) — 1) паслядоўнасць гукаў, якая ўтварае пэўнае музычнае адзінства; 2) музыкальнасць, меладычнасць (напр. м. верша).

**МЕЛЬДО́МЕТР** (ад гр. meldo = расплаўляю + *-метр*) — прыбор для вызначэння тэмператур плаўлення тугаплаўкіх рэчываў.

**МЕЛЬПАМЕ́НА** (гр. Melpomene = імя апякункі трагедыі, адной з дзевяці муз у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — сімвал сцэнічнага мастацтва.

**МЕЛЬХІЁР** (ням. Melchior < фр. maillechort, ад Maillot і Chorier = прозвішча фр. вынаходцаў) — сплаў медзі з нікелем серабрыстага колеру; выкарыстоўваецца для вырабу пасуды, манет і інш.

**МЕЛЯНО́ПУС** (н.-лац. melanopus) — разнавіднасць цвёрдай пшаніцы з белым зернем.

**МЕМАРА́НДУМ** (лац. memorandum = тое, што трэба помніць) — дыпламатычны дакумент, у якім выкладзены погляды ўрада па якім-н. пытанні.

**МЕМАРЫЯ́Л** (лац. memorialis = памятны) — 1) манументальнае скульптурнае збудаванне-помнік для ўвекавечання памяці аб якой-н. падзеі; 2) *уст.* запіскі, дзённік; кніга для запісу гандлёвых аперацый; 3) спартыўнае спаборніцтва ў памяць выдатных спартсменаў.

**МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. memorialis = памятны) — які служыць для ўвекавечання памяці якой-н. асобы або падзеі (напр. м-ая дошка, м. комплекс).

**МЕМБРА́НА** (лац. membrana = перапонка) — 1) тонкая абалонка, перапонка ў арганізме; тонкая пагранічная структура, размешчаная на паверхні клетак і ўнутрыклетачных часцінак; 2) тонкая мета-

лічная пласцінка, здольная вагацца; выкарыстоўваецца для пера-тварэння электрычных або механічных ваганняў у гукавыя (напр. м. тэлефона, м. радыёпрыёмніка).

**МЕМІ́СТАР** [ад англ. mem(ory) = памяць + (res)istor = які ўтварае апору] — электрахімічная кіруючая апора, здольная запамінаць пададзены на яе сігнал.

**МЕМО́РЫЯ** (лац. memoria = памяць) — выпіска, запіс з кароткім выкладаннем сутнасці якой-н. справы.

**МЕМУА́РЫ** (фр. memoires = успаміны) — літаратурны твор у форме ўспамінаў аб людзях і падзеях, сучаснікам або ўдзельнікам якіх быў аўтар.

**МЕНА́ДА** (гр. mainas, -ados = *літар.* шалёная, раз'юшаная) — жрыца Вакха, *вакханка* ў Стараж. Грэцыі.

**МЕНАЖО́Р** (фр. ménageur) — тое, што і *менеджэр* 2.

**МЕНАНІ́ТЫ** [ад гал. Menno Simons = імя нідэрл. рэлігійнага дзеяча (1496—1559)] — члены пратэстанцкай плыні ў Нідэрландах (дзе была заснавана ў 16 ст.), ЗША, Канадзе, якая прапаведуе пакорлівасць, непраціўленне злу, пацыфізм.

**МЕНАРАГІ́Я** (ад гр. men = месяц + rhegnymi = перапыняюся) — узмацненне менструальных кровацячэнняў пры захворваннях маткі.

**МЕНГІ́Р** (кельц. menhir, ад men = камень + hir = доўгі) — мегалітычны помнік (гл. *мегаліт*) у выглядзе прадаўгаватага каменя, пастаўленага вертыкальна, які ў старажытнасці меў культавае значэнне.

**МЕНДЭЛІ́ЗМ** [ад чэш. J. Mendel = прозвішча чэш. прыродазнаўцы (1822—1884)] — вучэнне аб заканамернасцях спадчыннасці, якое паклала пачатак *генетыцы*.

**МЕНЕГА́ЦЫЯ** (н.-лац. menegazzia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які трапляецца на ствалах і галінках розных дрэў.

**МЕ́НЕДЖМЕНТ** (англ. management) — сукупнасць метадаў, сродкаў і формаў кіравання вытворчасцю, якія прымяняюцца з мэтай павышэння эфектыўнасці вытворчасці і павелічэння прыбытку.

**МЕ́НЕДЖЭР** (англ. manager) — 1) спецыяліст па арганізацыі і кіраванню ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, які валодае пэўнай адміністрацыйна-гаспадарчай самастойнасцю; 2) асоба, якая арганізуе публічныя выступленні артыстаў, спартсменаў.

**МЕНЕДЖЭРЫ́ЗМ** (англ. managerism) — сучасная тэорыя кіравання ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, заснаваная на ўліку навейшых навукова-тэхнічных дасягненняў.

**МЕНЕСТРЭ́ЛЬ** (фр. ménestrel) — 1) вандроўны паэт-музыкант у Францыі і Англіі ў сярэднія вякі, а ў 14 — 18 ст. — музыкант-прафесіянал; 2) *перан.* спявак, паэт.

**МЕ́НЗУЛА** (лац. mensula = столік) — палявы чарцёжны столік, які ў комплексе з *кіпрэгелем* выкарыстоўваюць для тапаграфічнай здымкі мясцовасці.

**МЕНЗУ́РА** (лац. mensura = мерка) — 1) мера рытмічнай працяглласці ў сярэдневяковай многагало-

сай музыцы; 2) лічбавая характарыстыка пэўных параметраў музычных інструментаў.

**МЕНЗУ́РКА** (лац. mensura = мерка) — пасудзіна ў выглядзе высокай вузкай шклянкі з дзяленнямі для дакладнага адмервання вадкасці.

**МЕНІНГІ́Т** (фр. méningite, ад гр. meninks, -ningos = мазгавая абалонка) — запаленне абалонак галаўнога і (або) спіннога мозгу ў чалавека і жывёл.

**МЕНІ́СК** (гр. meniskos = паўмесяц) — 1) выпуклая або ўвагнутая паверхня вадкасці ў капіляры; 2) выпукла-ўвагнутая або ўвагнута-выпуклая *лінза*; 3) *анат.* храстковы *дыск* паміж пазванкамі або ў каленным суставе ў млекакормячых і чалавека.

**МЕНСТРУА́ЛЬНЫ** (лац. menstrualis = штомесячны) — які мае адносіны да *менструацыі*.

**МЕНСТРУА́ЦЫЯ** (н.-лац. menstruatio, ад лац. menstruus = месячны) — штомесячны матачны крывацёк у жанчыны, якая дасягнула палавой спеласці.

**МЕНТАЛІТЭ́Т** (ад лац. mens, -ntis = розум, мысленне) — 1) духоўная дзейнасць чалавека, яго здольнасць думаць, ствараць уласны погляд на аб'екты, уласцівасці і адносіны рэальнага свету; 2) склад розуму, характар пачуццяў і мыслення.

**МЕНТА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *ментальны*) — духоўнасць; характэрны для асобы або грамадскай групы спосаб мыслення, яго сацыяльная і біялагічная абумоўленасць; склад розуму.

**МЕНТА́ЛЬНЫ** (лац. mentalis = разумовы, духоўны) — які датычыць спосабу мыслення, духоўнасці.

**МЕ́НТАР** (фр. mentor, ад гр. Mentor = імя выхавальніка Тэлемаха, сына Адысея) — настаўнік, выхавальнік, дарадчык (з адценнем іроніі).

**МЕНТО́Л** (ням. Menthol, ад лац. mentha = мята + oleum = алей) — арганічнае злучэнне ў выглядзе празрыстага крышталічнага рэчыва з моцным мятным пахам; выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфумерыі і харчовай прамысловасці.

**МЕНУЭ́Т** (фр. menuet, ад menu = маленькі) — старадаўні французскі бальны танец з павольнымі і плаўнымі рухамі, якія складаецца ў асноўным з паклонаў і рэверансаў, а таксама музыка да гэтага танца.

**МЕ́НЦІК** (ад венг. mente = куртка) — кароткая гусарская куртка, абшытая футрам.

**МЕНЮ́** (фр. menu) — 1) набор страў і напіткаў да абеду, снедання і інш., а таксама лісток у сталовай, кафэ, рэстаране з пералікам страў і напіткаў; 2) інфармацыйны пералік магчымых работ або праграм у сістэме, якая ўводзіцца на экран дысплея тэрмінала.

**-МЕР** (гр. meros = частка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «склад», «будова».

**МЕРАГА́МІЯ** (ад гр. meros = частка + *-гамія*) — працэс апладнення ў прасцейшых, пры якім капуліруюць (гл. *капуляцыя*) не цэлыя асобіны, а ўтвораныя ў выніку дзялення апошніх *гаметы*.

# М

**МЕРАЗІГО́ТА** (ад гр. meros = частка + *зігота*) — частковая зігота, якая ўтвараецца ў бактэрый пры ўсіх формах пераносу генетычнага матэрыялу (гл. *трансдукцыя, трансфармацыя* 2).

**МЕРАЗО́ІТЫ** (ад гр. meros = частка + zoon = жывёла + eidos = выгляд) — асобіны некаторых прасцейшых (спаравікі, караняножкі, жгуцікавыя), якія ўтвараюцца ў выніку бясполага размнажэння (*шызаганії*).

**МЕРАКРЫ́НАВЫ** (ад гр. meros = частка + krino = аддзяляю) — які аддзяляе часткі; м - ы я залозы — залозы, у якіх пры ўтварэнні *сакрэту*[2] не гінуць функцыянальныя клеткі, напр. большасць потавых залоз (параўн. *апакрынны, галакрынавы*).

**МЕРАЛО́ГІЯ** (ад гр. meros = частка + *-логія*) — раздзел *антрапалогії*, які вывучае памеры і формы асобных органаў чалавека.

**МЕРАМІ́ЗА** (н.-лац. meromyza) — насякомае сям. злакавых мушак атрада двухкрылых; пашкоджваюць усходы, сцёблы і насенне збожжавых злакаў і злакавых траў.

**МЕ́РГЕЛЬ** (ням. Mergel) — асадачная горная парода, якая складаецца пераважна з карбанатаў (*кальцыту, даламіту*) і глін; выкарыстоўваецца для вырабу цэментаў.

**МЕРКАВА́ЦЬ** (польск. miarkować, ад ням. merken) — 1) разважаць, абмяркоўваючы што-н., думаць; 2) рабіць дапушчэнні, здагадкі; 3) мець намер, план; 4) ацэньваць пэўным чынам.

**МЕРКАНТЫЛІ́ЗМ** (фр. mercantilisme, ад іт. mercante = гандляр) — 1) эканамічная палітыка перыяду ранняга капіталізму (15 — 18 ст.), якая адлюстроўвала інтарэсы гандлёвага капіталу; 2) *перан.* схільнасць да нажывы, гандлярства.

**МЕРКАНТЫ́ЛЬНЫ** (фр. merkantile, ад іт. mercante = гандаль) — 1) уласцівы *меркантылізму* 1; 2) *перан.* да дробязі ашчадны, гандлярскі.

**МЕРКАПТА́НЫ** [ад лац. mer-(carius) = ртуць + captans = які захоплівае] — арганічныя злучэнні, сярністыя аналагі спіртоў непрыемнага паху; выкарыстоўваюцца як паскаральнікі *вулканізацыі* і пластыфікацыі каўчукоў, у сінтэзе лекавых рэчываў.

**МЕРКУ́РЫЙ** (лац. Mercurius = імя бога гандлю, заступніка падарожнікаў у старажытнарымскай міфалогіі) — *перан.* ганец.

**МЕРКУРЫЯЛІ́ЗМ** (ад п.-лац. mercurius = назва ртуці ў алхімікаў) — прафесійнае захворванне, выкліканае хранічным атручваннем ртуццю і яе злучэннямі.

**МЕРЛА́Н** (фр. merlan) — рыба сям. трасковых, якая водзіцца ў Атлантычным акіяне ў прыбярэжнай зоне Еўропы.

**МЕРЛУ́ЗА** (фр. merluz) — рыба атрада трасковых, якая водзіцца ва ўмераных і субтрапічных водах Атлантычнага і Ціхага акіянаў; хек.

**МЕРМІТЫ́ДЫ** (н.-лац. mermithidae) — сямейства чарвей класа *нематодаў*, жывуць свабодна ў вадзе і ў вільготнай глебе; лічынкі — паразіты пчол, матылёў, мух.

**МЕРСЕРЫЗА́ЦЫЯ** [ад англ. J.Mercer = прозвішча англ. хіміка (1791—1866)] — апрацоўка пражы

або бавоўнянай тканіны растворам едкага натру для надання ёй бляску, мяккасці і трываласці.

**МЕ́РТЭЛЬ** (ням. Mörtel, ад лац. mortarium = вапняковы раствор) — сумесь пяску і гашанай вапны; выкарыстоўваецца ў вогнетрывалай кладцы прамысловых печаў і інш.

**МЕРЧЭНДА́ЙЗІНГ** (англ. merchandising) — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб стварыць спрыяльную сітуацыю для пакупніка, забяспечыць максімальную верагоднасць куплі тавару.

**МЕРЫ́ДЫЯН** (н.-лац. meridion) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая трапляецца ў чыстых прэсных водах на камянях, раслінах, нярэдка ў *планктоне*.

**МЕРЫДЫЯ́Н** (лац. meridianus = паўднёвы) — уяўная лінія на паверхні зямнога шара, якая злучае абодва полюсы і ўсе пункты якой маюць аднолькавую даўгату; н я б е с н ы м. — вялікі круг нябеснай сферы, які праходзіць праз *зеніт* і *полюсы* свету.

**МЕРЫДЫЯНА́ЛЬНЫ** (лац. meridionalis) — які мае напрамак з поўначы на поўдзень, па мерыдыяну.

**МЕРЫДЫЯ́ННЫ** (ад *мерыдыян*) — які мае адносіны да мерыдыяна; м. к р у г — астранамічны прыбор для вызначэння моманту праходжання нябесных свяцілаў праз нябесны мерыдыян.

**МЕРЫ́НГІЯ** (н.-лац. moehringia) — травяністая расліна сям. гваздзіковых з белымі кветкамі на доўгіх кветаножках, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы.

**МЕРЫНО́С** (ісп. merinos) — парода танкарунных авечак.

**МЕРЫСМАПЕ́ДЫЯ** (н.-лац. merismopedia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. мерысмапедыевых, якая пашырана пераважна ў прэсных водах.

**МЕРЫСТЭ́МА** (ад гр. meristos = падзельны) — тканка ў раслін, здольная на працягу ўсяго жыцця ўтвараць новыя клеткі.

**МЕРЫТАКРА́ТЫЯ** (ад лац. meritus = дастойны + *-кратыя*) — улада найбольш здольных.

**-МЕРЫЯ** (гр. meros = частка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «расчляненне».

**МЕРЭ́НГА** (фр. meringue) — пірожнае з запечаных узбітых яечных бялкоў і смятанкі з цукрам.

**МЕ́СА**[1] (фр. messe, ад лац. missa) — 1) галоўнае богаслужэнне каталіцкай царквы; 2) многагалосы харавы твор рэлігійнага зместу на тэкст каталіцкага набажэнства.

**МЕ́СА**[2] (ісп. mesa = стол) — невялікія сталовыя ўзвышшы з абрывістымі схіламі, якія ўяўляюць сабой рэшткі вялікіх *плато*.

**МЕСАЛІ́НА** (лац. Messalina = імя жонкі старажытнарымскага імператара Клаўдзія, вядомай сваім уладалюбствам, вераломствам і распустай) — *перан.* распусная жанчына.

**МЕСІДО́Р** (фр. messidor, ад лац. messis = жніво + гр. doron = дар) — дзесяты месяц года (з 19 — 20 чэрвеня да 18 — 19 ліпеня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

# М

**МЕСІ́Я** (лац. messias, ад ст.-яўр. māšiāch = памазанік) — паводле іудзейскага і хрысціянскага веравучэнняў, пасланец бога, які павінен прыйсці на зямлю, каб выратаваць род чалавечы ад зла і ўстанавіць «царства нябеснае».

**МЕСІЯНІ́ЗМ** (фр. messianisme, ад лац. messias < ст.-яўр. māšiāch = памазанік) — 1) рэлігійнае вучэнне аб прыходзе на зямлю пасланца бога (*месіі*) для выратавання роду чалавечага; 2) гісторыка-філасофскае вучэнне аб збавіцельнай ролі якога-н. народа ў лёсе чалавецтва.

**МЕСМЕРЫ́ЗМ** [ад ням. F.Mesmer = прозвішча ням. урача (1734—1815)] — уяўленне аб выпрамяненні планетамі асаблівай магнітнай сілы і аб яе лячэбным уплыве на людзей.

**МЕ́СУР** (ням. Meßuhr) — прыбор для вымярэння малых *дэфармацый* пры выпрабаванні матэрыялаў.

**МЕ́ТА**[1] (іт. meta = палавіна) — здзелка, удзельнікі якой дзеляць папалам прыбыткі і страты.

**МЕ́ТА**[2] (н.-лац. meta) — павук сям. кругапрадаў, які жыве ў траве, хмызняках, рэдка на дрэвах.

**МЕТА-** (гр. meta = пасля, за) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «пасля», «за», «цераз», «сярод», «паводле», што паказваюць на змену, пераўтварэнне, перамяшчэнне чаго-н.

**МЕТАБА́ЗІС** (гр. metabasis = пераход) — *лог.* сафістычны прыём у спрэчцы, калі пытанне, якое абмяркоўваецца, адхіляецца і падмяняецца іншым.

**МЕТАБАЛІ́ЗМ** (фр. métabolisme, ад гр. metabole = змена, пераўтварэнне) — сукупнасць працэсаў *катабалізму* і *анабалізму* ў раслінах, жывёлах, мікраарганізмах; абмен рэчываў.

**МЕТАБАЛІ́ТЫ** (ад гр. metabole = змена, пераўтварэнне) — рэчывы, якія ўтвараюцца ў арганізме ў працэсе абмену рэчываў (*метабалізму*); параўн. *антыметабаліты.*

**МЕТАБАЛІ́Я** (ад гр. metabole = змена, пераўтварэнне) — відазмяненне чаго-н.

**МЕТАБІЁЗ** (ад *мета-* + гр. bios = жыццё) — узаемаадносіны паміж мікраарганізмамі, пры якіх прадукты жыццядзейнасці аднаго віду служаць крыніцай харчавання для іншага віду.

**МЕТАГАЛА́КТЫКА** (ад *мета-* + *галактыка*) — сукупнасць зорных сістэм, даступная сучасным астранамічным метадам даследавання.

**МЕТАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *мета-* + *геаграфія*) — галіна тэарэтычных даследаванняў, якая вывучае месца геаграфіі ў агульнай сістэме навук.

**МЕТАГЕМАГЛАБІ́Н** (ад *мета-* + *гемаглабін*) — прадукт акіслення гемаглабіну некаторымі ядамі (нітратамі, нітрытамі, анілінам і інш.), часам лякарствамі пры паглынанні іх арганізмам.

**МЕТАГЕНЕ́З** (ад *мета-* + *-генез*) — 1) адна з форм чаргавання пакаленняў у жывёл, пры якой пакаленне, што развілося палавым шляхам, змяняецца пакаленнем, якое размнажаецца бясполым шляхам; 2) сукупнасць працэсаў ператварэння асадачных горных парод пры апусканні іх у больш глы-

бокія гарызонты *літасферы* ва ўмовах павышэння ціску і тэмпературы (параўн. *гетэрагонія*).

**МЕ́ТАД** (фр. méthode, ад гр. methodos) — 1) спосаб пазнання, даследавання з'яў прыроды і грамадскага жыцця (напр. эксперыментальны м.); 2) прыём, сукупнасць прыёмаў у практычным ажыццяўленні чаго-н., дасягненні канкрэтнай мэты (напр. м. навучання, мастацкі м.).

**МЕТАДАЛО́ГІЯ** (ад *метад* + *-логія*) — 1) вучэнне аб метадах навуковага пазнання; 2) сукупнасць прыёмаў, метадаў, якія прымяняюцца ў асобных навуках і практычнай дзейнасці (напр. м. моваэнаўчага даследавання, м. навучання).

**МЕТАДО́ЛАГ** (ад *метад* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *метадалогіі*.

**МЕТАДЫ́ЗМ** (англ. methodism, ад гр. methodos = метад) — 1) адзін з кірункаў у *пратэстантызме*, які аддзяліўся ў 1-й чвэрці 18 ст. ад англіканскай царквы; ад прыхільнікаў патрабуецца строгая дысцыпліна, дакладнае выкананне царкоўных абрадаў; 2) паслядоўнасць у рабоце, навучанні, выхаванні.

**МЕТАДЫ́СТ** (англ. methodist, ад гр. methodos = метад) — 1) прыхільнік *метадызму* 1; 2) спецыяліст па *методыцы* выкладання якога-н. прадмета.

**МЕТАДЫ́ЧНЫ** (гр. methodikos) — 1) які мае адносіны да *методыкі* (напр. м. дапаможнік); 2) планамерны, паслядоўны (напр. м. абстрэл).

**МЕТАЗО́А** (ад *мета-* + гр. zoon = жывёліна) — агульная назва ўсіх мнагаклетачных жывёл (параўн. *пратазоа*).

**МЕТАКАРТАГРА́ФІЯ** (ад *мета-* + *картаграфія*) — галіна тэарэтычнай *картаграфіі*, якая вывучае логіка-метадалагічныя асновы картаграфіі.

**МЕТАКІНЕ́З** (ад *мета-* + *-кінез*) — перыяд дзялення клеткі, у час якога адбываецца перамяшчэнне *храмасом* у плоскасць экватара клеткі.

**МЕТАКРЫ́ЛАВЫ** (ад *мета-* + *акрылавы*); м - а я к і с л а т а — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца ў вытворчасці *палімераў*.

**МЕТАКРЫЛА́ТЫ** (ад *мета-* + *акрылаты*) — складаныя эфіры метакрылавай кіслаты або яе солі, з якіх сінтэзуюць *палімеры*.

**МЕТА́Л** (ням. Metall < лац. metallum, ад гр. metallon) — рэчыва, якому ўласцівы бляск, коўкасць, добрая цеплаправоднасць і электраправоднасць; к а л я р о в ы я м е т а л ы — медзь, алюміній, цынк, волава і інш.; ч о р н ы я м е т а л ы — жалеза, сталь, чыгун.

**МЕТАЛАГЕНІ́Я** (ад *метал* + гр. genos = нараджэнне) — раздзел *геалогіі*, які вывучае заканамернасці размяшчэння рудных радовішчаў у зямной кары.

**МЕТАЛАГРА́ФІЯ** (ад *метал* + *-графія*) — раздзел металазнаўства, які вывучае структуру і фізічныя ўласцівасці металаў і сплаваў; 2) друкаванне з металічных друкарскіх форм з паглыбленым малюнкам.

# М

**МЕТАЛАІЗО́Л** [ад *метал* + *ізал(яцыя)*] — воданепранікальны матэрыял, тонкая металічная *фольга*, пакрытая з абодвух бакоў слоем *бітуму*.

**МЕТАЛАКЕРА́МІКА** (ад *метал* + *кераміка*) — матэрыял або вырабы, атрыманыя з металічных парашкоў шляхам прасавання і спякання пры высокай тэмпературы, а таксама працэс атрымання вырабаў такім шляхам.

**МЕТАЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад *метал* + *-метрыя*) — геалагічны метад пошукаў металічных карысных выкапняў, заснаваны на вывучэнні размеркавання хімічных элементаў па плошчы.

**МЕТАЛАО́ПТЫКА** (ад *метал* + *оптыка*) — раздзел оптыкі, які вывучае аптычныя ўласцівасці металаў у залежнасці ад іх крышталічнай структуры.

**МЕТАЛАПЛА́СТ** (ад *метал* + *-пласт*) — матэрыял у выглядзе металічнага ліста з палімерным пакрыццём.

**МЕТАЛАПЛА́СТЫКА** (ад *метал* + *пластыка*) — творы скульптуры, адлітыя з бронзы, алюмінію і іншых металаў, пластыка якіх разлічана на маляўнічы эфект, зіхаценне святлаценяў, выяўленне ўласцівасцей матэрыялу.

**МЕТАЛАПРАДУ́КЦЫЯ** (ад *метал* + *прадукцыя*) — вырабы з металу.

**МЕТАЛАПРАТЭІ́ДЫ** (ад *метал* + *пратэіды*) — комплексы бялкоў з цяжкімі металамі, якія выконваюць ролю дыхальных пігментаў, пераносчыкаў металаў у арганізме, ферментаў.

**МЕТАЛАТЭРМІ́Я** (ад *метал* + *-тэрмія*) — працэс выдзялення металу са злучэнняў з іншымі металамі шляхам павышэння тэмпературы плаўлення (гл. *алюмінатэрмія* і *сілікатэрмія*).

**МЕТАЛАФІ́ЗІКА** (ад *метал* + *фізіка*) — раздзел фізікі, які вывучае будову і фізічныя ўласцівасці металаў і сплаваў, а таксама працэсы пры іх апрацоўцы.

**МЕТАЛАФО́Н** (ад *метал* + *-фон*) — ударны музычны інструмент, у якім крыніцай гукаў з'яўляюцца падабраныя па гучанню ў адпаведным парадку металічныя пласцінкі.

**МЕТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *метал*) — нанясенне металічнага пакрыцця на паверхню вырабу з мэтай надання яму пэўных уласцівасцей.

**МЕТАЛІМНІЁН** (ад *мета-* + гр. limnion = азярцо) — слой вады ў вадаёмах, у межах якога тэмпература летам рэзка паніжаецца з павелічэннем глыбіні, а шчыльнасць вады ўзрастае.

**МЕТАЛО́ГІКА** (ад *метал* + *логіка*) — тэорыя даследавання сістэмы і паняцця сучаснай фармальнай логікі.

**МЕТАЛО́ІД** (ад *метал* + *-оід*) — хімічны элемент, які не адносіцца да металаў; устарэлая назва неметалаў.

**МЕТАЛУ́РГ** (ням. Metallurg, ад гр. metallurgos = рудакоп, металіст) — спецыяліст па *металургіі*.

**МЕТАЛУ́РГІЯ** (ням. Metallurgie < с.-лац. metallurgia, ад гр. metallurgeion = месца апрацоўкі металу) — 1) галіна цяжкай прамысловасці, якая займаецца выплаўкай металаў з руд і іншых матэрыялаў,

іх першаснай апрацоўкай; 2) навука аб спосабах прамысловай выплаўкі і апрацоўкі металаў.

**МЕТАМАРФІ́ЗМ** (ад *мета-* + *-марфізм*) — працэс пераўтварэння структуры і хімічнага саставу горных парод пад уздзеяннем фізічных і хімічных фактараў.

**МЕТАМАРФО́ЗА** (фр. métamorphose < лац. metamorphosis, ад гр. metamorphosis = пераўтварэнне) — 1) *біял.* пераход адной формы развіцця ў другую са змяненнем знешняга выгляду і функцый (напр. м. вусеня ў матыля); 2) значная перамена, істотнае змяненне.

**МЕТАМАТЭМА́ТЫКА** (ад *мета-* + *матэматыка*) — навука, якая вывучае фармалізаваныя матэматычныя тэорыі.

**МЕТАМЕ́РЫ** (ад *мета-* + *-мер*) — падобныя паміж сабой часткі (членікі) цела метамерных (гл. *метамерыя* 1) жывёл; сегменты.

**МЕТАМЕРЫ́Я** (ад *мета-* + *-мерыя*) — 1) тып будовы цела жывёлы, пры якім яно раздзелена на падобныя паміж сабой часткі (*метамеры*), напр. у кольчатых чарвей; 2) *хім.* назва аднаго з відаў *ізамерыі*.

**МЕТАМІ́КТНЫ** (гр. metamiktos = змешаны); м е т а м і к т н ы я м і н е р а л ы — мінералы, якія пад уплывам энергіі радыеактыўнага распаду урану і торыю перайшлі з крышталічнага ў шклопадобны *агрэгатны* стан.

**МЕТА́Н** (фр. méthane) — газ, які атрымліваецца ў выніку злучэння вугляроду з вадародам; утвараецца пры гніенні арганічных рэчываў без доступу паветра; выкарыстоўваецца як паліва і як сыравіна ў хімічнай прамысловасці; балотны газ, рудніковы газ.

**МЕТАНА́ЛЬ** [ад *метан* + *аль(дэгід)*] — тое, што і *фармальдэгід*.

**МЕТАНА́УПЛІУС** (ад *мета-* + *науплiус*) — лічынкавая стадыя ракападобных, якая змяняе стадыю науплiуса.

**МЕТАНЕФРО́С** (ад *мета-* + гр. nephros — нырка) — парны орган выдзяляльнай сістэмы ў паўзуноў, птушак, млекакормячых і чалавека; нырка.

**МЕТАНЕФРЫ́ДЫІ** (ад *мета-* + *нефрыдыі*) — органы выдзялення ў чарвей, малюскаў і некаторых членістаногіх.

**МЕТАНІ́МІЯ** (гр. metonymia) — від *тропа*, замена аднаго слова другім на аснове сувязі іх значэнняў па сумежнасці (напр. «горад прачнуўся» замест «жыхары горада прачнуліся»).

**МЕТАНО́Л** [ад *метан* + *(алкаг)оль*] — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць з характэрным пахам алкаголю, якую атрымліваюць гал. ч. сінтэзам з вадароду і вокісу вугляроду; шырока ўжываецца для сінтэзу *фармальдэгіду* і інш.; метылавы спірт, драўняны спірт.

**МЕТАПІ́ЗМ** (ад гр. metopon = лоб) — наяўнасць у дарослых людзей незарослага шва па сярэдняй лініі лобнай часткі чэрапа.

**МЕТАПЛАЗІ́Я** (гр. metaplasis = пераўтварэнне) — пераўтварэнне дыферэнцыраванай тканкі арганізма ў іншую тканку (напр. храстка ў косць); параўн. *неаплазія*.

**МЕТАПЛА́ЗМА** (ад *мета-* + *плазма*) — састаўная частка *цытаплазмы*.

# М

**МЕТАРХО́З** (ад *меторхіс*) — глісная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца *гельмінтамі* з роду меторхіс.

**МЕТАСАМАТО́З** (ад *мета-* + гр. soma, -atos = цела) — працэс паступовага замяшчэння адных мінералаў горнай пароды другімі ў выніку ўздзеяння на яе магмы, газаў або раствораў, якія цыркулююць у зямной кары.

**МЕТАСАМАТЫ́ЗМ** (ад *мета-* + гр. soma, -atos = цела) — тое, што і *метасаматоз*.

**МЕТАСЕКВО́Я** (н.-лац. metasequoia) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. таксодыевых, якое трапляецца ў горных лясах Цэнтр. і Зах. Кітая; культывуецца як дэкаратыўная расліна.

**МЕТАСТАБІ́ЛЬНЫ** (ад *мета-* + *стабільны*); м. с т а н — адносна ўстойлівы стан, з якога цела можа перайсці ў больш устойлівы стан пад уздзеяннем знешніх фактараў або самаадвольна.

**МЕТАСТА́З** (фр. metastase, ад гр. metastasis = перамяшчэнне) — 1) перанясенне крывёю або лімфай узбуджальніка хваробы ў арганізме з аднаго месца на другое; 2) месца захворвання, якое ўзнікла ў выніку перамяшчэння такога ўзбуджальніка.

**МЕТАСТАТЫ́ЧНЫ** (гр. metastatikos) — звязаны з *метастазам*.

**МЕТАСТРАНГІЛЁЗ** (ад *метастрангіліды*) — глісная хвароба дзікоў і свойскіх свіней, якая выклікаецца метастрангілідамі.

**МЕТАСТРАНГІЛІ́ДЫ** (н.-лац. metastrongulidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у бронхах і лёгкіх дзікоў, свойскіх свіней.

**МЕТАТАЛА́МУС** (ад *мета-* + *таламус*) — задняя частка прамежкавага мозгу ў пазваночных.

**МЕТАТА́НК** (ад *мета-* + *танк*) — рэзервуар для абясколджання асадкаў, якія выдзяляюцца пры біялагічнай ачыстцы сцёкавых вод, з дапамогай мікраарганізмаў без доступу паветра (параўн. *аэратанк*).

**МЕТАТРАНСЛЯ́ТАР** (ад *мета-* + *транслятар*) — транслятар, арыентаваны на клас уваходных моў электронна-вылічальных машын.

**МЕТАТЭ́ЗА** (фр. metathese, ад гр. metathesis = перастаноўка) — перастаноўка суседніх гукаў у сярэдзіне слова з мэтай змяніць яго агульнапрынятае гучанне; найбольш пашырана ў вусна-паэтычнай народнай творчасці, асабліва ў дзіцячых жанрах (напр. «талерка — тарэлка»).

**МЕТАТЭО́РЫЯ** (ад *мета-* + *тэорыя*) — лагічная тэорыя, якая вывучае заканамернасці якой-н. іншай тэорыі.

**МЕТАФА́ЗА** (ад *мета-* + *фаза*) — другая фаза непрамога дзялення клеткі; на працягу яе *храмасомы* расшчапляюцца на *храматыды*.

**МЕТА́ФАРА** (с.-лац. metaphora, ад гр. metaphora = перанос) — від *тропа*, ужыванне слова ці выразу ў пераносным значэнні на аснове падабенства або параўнання адной з'явы ці прадмета з другімі (напр. «гоман дрэў»).

**МЕТАФІ́ЗІК** (ад *метафізіка*) — 1) паслядоўнік метафізікі; 2) *пе-*

*ран.* чалавек, схільны ад абстрактных разважанняў.

**МЕТАФІ́ЗІКА** (лац. metaphysica, ад гр. meta ta physika = пасля фізікі) — 1) процілеглы *дыялектыцы* спосаб мыслення, пры якім з'явы, прадметы і паняцці разглядаюцца як ізаляваныя і нязменныя сутнасці; 2) *перан.* абстрактнае, туманнае разважанне; што-н. з малазразумелае, туманнае.

**МЕТАФЛАЭ́МА** (ад *мета-* + *флаэма*) — валакністая тканка маладых органаў раслін, па якой перамяшчаюцца арганічныя рэчывы.

**МЕТАФО́С** [ад *мета-* + *фос-(фар)*] — фосфараарганічны прэпарат, які прымяняецца для барацьбы са шкоднымі насякомымі ў сельскай гаспадарцы.

**МЕТАФРА́ЗА** (ад *мета-* + *фраза*) — даслоўная перадача зместу або падрадковы пераклад вершаванага твора, падрадкоўнік для мастацкага перакладу.

**МЕТАХРАМАЗІ́Я** (ад *мета-* + гр. chroma = колер) — *біял.* уласцівасць клетак і тканак афарбоўвацца ў тон, які адрозніваецца ад колеру фарбавальніка.

**МЕТАЦЭЙНЕРЫ́Т** (ад *мета-* + *цэйнерыт*) — мінерал, які адрозніваецца ад цэйнерыту меншай колькасцю вады і аптычнымі ўласцівасцямі; радыеактыўны.

**МЕТАЦЭ́НТР** (ад *мета-* + *цэнтр*) — пункт перасячэння лініі, якая праходзіць праз цэнтр вагі выцесненай целам (суднам) вады, з плоскасцю сіметрыі гэтага цела.

**МЕТО́ДЫКА** (гр. methodike) — 1) сукупнасць метадаў, прыёмаў выканання якой-н. работы; 2) навука аб спосабах і прыёмах выкладання таго ці іншага прадмета ў пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школе, а таксама падручнік, у якім яны апісваюцца.

**МЕТО́Л** [ад *мет(ыл)* + *(амінафен)ол*] — арганічнае злучэнне класа *фенолаў*, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў фатаграфіі як праявіцель.

**МЕТО́П, МЕТО́ПА** (гр. metope) — *архіт.* прамавугольная каменная пліта, аздобленая рэльефамі або жывапісам, паміж двума *трыгліфамі* ў фрызе дарычнага *ордэра* 2.

**МЕТО́РХІС** (н.-лац. methorchis) — *гельмінт* сям. *апістархідаў*, паразітуе ў жоўцевым пузыры і пячоначных ходах млекакормячых, чалавека і птушак.

**МЕТР**[1] (фр. metre, ад гр. metron = мера) — 1) адзінка даўжыні ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная 1650763,73 даўжыні хвалі ў вакууме выпрамянення, якая адпавядае пераходу паміж пэўнымі ўзроўнямі атама *крыптону* 86; 2) лінейка такой даўжыні з нанесенымі на яе дзяленнямі ў сантыметрах.

**МЕТР**[2] (гр. metron = мера) — 1) вершаваны памер; 2) раўнамернасць чаргавання моцных і слабых долей у музычным такце; сістэма арганізацыі *рытму*.

**-МЕТР** (гр. metreo = вымяраю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «вымяральны прыбор», «адзінка даўжыні ў метрычнай сістэме», «вымяральнік».

**МЕТРА́Ж** (фр. métrage) — велічыня (даўжыня або плошча) чаго-н., выражаная ў метрах.

# М

**МЕТРАЛО́ГІЯ** (ад гр. metron = мера + *-логія*) — навука аб сістэмах мер і вагі.

**МЕТРАНО́М** (ад гр. metron = мера + *ном*[2]) — прылада з маятнікам, якая гукавымі сігналамі адзначае кароткія прамежкі часу.

**МЕТРАНПА́Ж** (фр. metteur en pages = складальнік старонак) — работнік друкарні, які вярстае набор.

**МЕТРАПАЛІТЭ́Н** (фр. métropolitain = сталічны, ад гр. metropolis = галоўны горад, сталіца) — гарадская падземная электрычная чыгунка.

**МЕТРАПА́ТЫЯ** (ад гр. metra = матка + *-патыя*) — узмацненне маточных крывацёкаў без выразных хваравітых змяненняў у палавых органах; назіраецца ў юным узросце і ў час *клімаксу*.

**МЕТРАПО́ЛІЯ** (лац. metropolis < гр. metropolis, ад meter = маці + polis = горад) — 1) старажытнагрэчаскі горад-дзяржава (поліс) у адносінах да заснаваных ім калоній на тэрыторыі іншых краін; 2) дзяржава ў адносінах да калоній, якімі яна ўладае.

**МЕТРАРАГІ́Я** (ад гр. metra = матка + rhegnymi = прарываюся) — маточны крывацёк.

**МЕТРАСАЛЬПІНГАГРА́ФІЯ** (ад гр. metra = матка + salpinks = труба + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання маткі і маточных труб.

**МЕТРДАТЭ́ЛЬ** (фр. maître d'hotel = гаспадар гасцініцы) — распарадчык (галоўны афіцыянт) у рэстаране або гасцініцы.

**МЕТРО́** (фр. metro, ад metropolitain = сталічны) — тое, што і *метрапалітэн*.

**МЕТРО́ЛАГ** (ад гр. metron = мера + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *метралогіі*.

**МЕ́ТРЫКА** [1] (гр. metrike, ад metron = мера) — 1) раздзел тэорыі літаратуры, які вывучае вершаскладанне і памер верша; сукупнасць правіл вершаскладання; 2) сукупнасць канкрэтных праяўленняў *метра*[2] ў музыцы.

**МЕ́ТРЫКА** [2] (польск. metryka < с.-лац. matricula = каталог, вопіс) — 1) пасведчанне аб нараджэнні; 2) збор дакументаў; М. В я л і к а г а  к н я с т в а  Л і т о ў с к а г а — дзяржаўны архіў Вялікага княства Літоўскага 14—18 ст.

**МЕТРЫ́Т** (ад гр. metria = матка) — *мед.* запаленне мышачнай тканкі сценкі маткі, звычайна як вынік *эндаметрыту*.

**МЕТРЫ́ЧНЫ** (гр. metrikos = мерны) — 1) звязаны з сістэмай вымярэння; м - а я  с і с т э м а  м е р — сістэма мер, у аснову якой пакладзены адзінка даўжыні — метр і адзінка масы — кілаграм; 2) які мае адносіны да вершаванага памеру; м.  в е р ш — верш, адзінкай вымярэння ў якім з'яўляецца *стапа*.

**-МЕТРЫ́Я** (гр. metreo = вымяраю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «вымярэнне».

**МЕТРЫЯПА́ТЫЯ** (гр. metriopatheia, ад metrios = умераны + pathos = страсць) — умеранасць у пачуццях як паняцце старажытнагрэчаскай *этыкі*.

**МЕТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. métisation) — скрыжаванне розных парод жывёлы (у межах аднаго віду), а таксама розных сартоў раслін для паляпшэння старой або вывядзення новай пароды, сорту.

**МЕТЫ́Л** (фр. methyle) — састаўная частка многіх арганічных злучэнняў, аднавалентны *радыкал*[1] 2 з трох атамаў вадароду і аднаго атама вугляроду.

**МЕТЫ́ЛАВЫ** (ад *метыл*); м. с п і р т — тое, што і *метанол*.

**МЕТЫЛАМАНА́ДЫ** (н.-лац. methylomonadaceae) — сямейства бактэрый, здольных атрымліваць энергію толькі за кошт выкарыстання аднавугляродных арганічных злучэнняў *метану* або *метанолу*.

**МЕТЫЛАМІ́Н** (ад *метыл* + *аміны*) — арганічнае злучэнне, газ з рэзкім непрыемным (аміячным) пахам; выкарыстоўваецца ў фармацэўтычнай і хімічнай вытворчасці.

**МЕТЫЛАРА́НЖ** (ад *метыл* + фр. orange = апельсінавы) — арганічны сінтэтычны фарбавальнік; выкарыстоўваецца як *індыкатар*, які набывае ў кіслым асяроддзі чырвоны колер, а ў шчолачным жоўты.

**МЕТЫЛБЕНЗО́Л** (ад *метыл* + *бензол*) — тое, што і *талуол*.

**МЕТЫЛВІЯЛЕ́Т** (ад *метыл* + фр. violet = фіялетавы) — арганічны фарбавальнік, крышталічны парашок з зялёным металічным бляскам; выкарыстоўваецца ў паліграфічнай, тэкстыльнай і інш. прамысловасцях.

**МЕТЫЛЕ́Н** (фр. méthyléne) — састаўная частка многіх арганічных злучэнняў, двухвалентны *радыкал*[1] 2 з двух атамаў вадароду і аднаго атама вугляроду.

**МЕТЫЛЕНБЛА́У** (ад *метылен* + ням. blau = сіні) — арганічнае рэчыва, фарбавальнік, які выкарыстоўваецца таксама ў медыцыне як антысептычны сродак.

**МЕТЫЛЕНХЛАРЫ́Д** (ад *метылен* + *хларыд*) — хлорысты метылен, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік палімераў.

**МЕТЫЛМЕТАКРЫЛА́Т** (ад *метыл* + *метакрылавы*) — арганічнае злучэнне, метылавы *эфір* метакрылавай кіслаты, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца гал.ч. у вытворчасці аптычна-празрыстых пластмас.

**МЕТЫЛТЫЯУРАЦЫ́Л** (ад *метыл* + гр. theion = сера + uron = мача + лац. acetum = воцат) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры лячэнні *базедавай* хваробы, *гіпертырэёзу* і інш.

**МЕТЫЛТЭСТАСТЭРО́Н** (ад *метыл* + *тэстастэрон*) — лекавы прэпарат, сінтэтычны замяняльнік мужчынскага палавога *гармона*.

**МЕТЫЛФЕНО́Л** (ад *метыл* + *фенол*) — тое, што і *крэзол*.

**МЕТЫЛХЛАРЫ́Д** (ад *метыл* + *хларыд*) — хлорысты метыл, бясколерны газ; выкарыстоўваецца пры сінтэзе арганічных фарбавальнікаў і некаторых *палімераў*.

**МЕТЫЛЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад *метыл* + *цэлюлоза*) — прадукт узаемадзеяння шчолачнай цэлюлозы з *метылхларыдам*, цвёрдае рэчыва белага колеру; выкарыстоўваецца пры атрыманні плёнак, кляёў, як

згушчальнік сокаў, паліграфічных фарбаў і інш.

**МЕТЫЛЭТЫЛКЕТО́Н** (ад *метыл + этыл + кетон*) — хімічнае злучэнне класа кетонаў, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік і сыравіна ў арганічным сінтэзе.

**МЕТЫ́С** (фр. metis, ад п.-лац. mixticius = змешаны) — 1) нашчадак ад шлюбу прадстаўнікоў розных рас (пераважна белых з індзейцамі); 2) *уст.* жывёліна, атрыманая ў выніку скрыжоўвання асобін розных парод.

**МЕТЫСА́ЦЫЯ** (фр. métisation) — *антр.* змешванне розных чалавечых рас паміж сабой.

**МЕТЫЯНІ́Н** [ад *ме(тыл)* + гр. theion = сера] — серазмяшчальная незаменная амінакіслата, якая ўваходзіць у склад жывёльных і раслінных бялкоў.

**МЕТЭА-** [ад *метэа(ралагічны)*] — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «метэаралагічны».

**МЕТЭАІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *метэа- + інфармацыя*) — звесткі аб атмасферных з'явах.

**МЕТЭАПАТЫ́ЧНЫ** (ад *метэа-* + гр. pathos = пакута, хвароба); м-ая рэакцыя — паталагічная рэакцыя арганізма на змены надвор'я.

**МЕТЭАРАГРА́ФІЯ** (ад гр. meteora = атмасферныя з'явы + *-графія*) — апісанне змен, якія адбываюцца ў атмасферы, пры дапамозе *метэарографа*.

**МЕТЭАРАКЕ́ТА** (ад *метэа- + ракета*) — лятальны апарат для даследавання параметраў (тэмпературы, ціску) і фізічных працэсаў у верхніх слаях *атмасферы*.

**МЕТЭАРАЛАГІ́ЧНЫ** (ад *метэаралогія*) — звязаны з метэаралогіяй (напр. м-ыя назіранні).

**МЕТЭАРАЛІ́Т** (ад *метэор* + -літ) — тое, што і *аэраліт*.

**МЕТЭАРАЛО́ГІЯ** (ад гр. meteora = атмасферныя з'явы + *-логія*) — навука аб складзе і будове зямной атмасферы і аб працэсах і фізічных з'явах, якія адбываюцца ў ёй.

**МЕТЭАРО́ГРАФ** (ад гр. meteora = атмасферныя з'явы + *-граф*) — прыбор для аўтаматычнага запісу тэмпературы, ціску і вільготнасці паветра ў высокіх слаях атмасферы.

**МЕТЭАРО́ЛАГ** (ад гр. meteora = атмасферныя з'явы + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *метэаралогіі*.

**МЕТЭАРЫ́ЗМ** (гр. meteorismos = уздуцце) — *мед.* уздуцце жывата газамі, якія збіраюцца ў стрававальным тракце.

**МЕТЭАРЫ́Т** (ад гр. meteoros = які лунае ў паветры) — цвёрдае цела касмічнага паходжання, якое ўпала на Зямлю з міжпланетнай прасторы.

**МЕТЭАРЫ́ТЫКА** (ад *метэарыт*) — навука, якая вывучае метэарыты.

**МЕТЭАСІСТЭ́МА** (ад *метэа- + сістэма*) — сістэма назіранняў над атмасфернымі з'явамі.

**МЕТЭАСТА́НЦЫЯ** (ад *метэа- + станцыя*) — установа, дзе праводзяцца рэгулярныя метэаралагічныя назіранні, патрэбныя для вывучэння клімату, прадказання надвор'я.

**МЕТЭ́КІ** (гр. metoikoi = перасяленцы) — асабіста вольныя, але палітычна бяспраўныя чужаземцы, якія пастаянна жылі ў Старaж. Грэцыі; займаліся гал. ч. рамяством і гандлем.

**МЕТЭМПСІХО́З** (гр. metempsychosis = перасяленне душ) — рэлігійна-містычнае вучэнне аб перасяленні душы памерлага ў немаўля або жывёліну ці нават у камень.

**МЕТЭО́Р** (гр. meteoros = які лунае ў паветры) — 1) *астр.* яркае свячэнне касмічнага цела, што ўзнікае пры яго руху ў зямной атмасферы; знічка; 2) *перан.* што-н. нечаканае, яркае, але хуткацечнае, недаўгавечнае.

**МЕФІСТО́ФЕЛЬ** (ням. Mephistopheles = імя персанажа трагедыі І.В.Гётэ «Фауст») — *перан.* злы дух, дух пярэчання.

**МЕХАНАЛАМАРКІ́ЗМ** (ад гр. mechane = прылада + *ламаркізм*) — адзін з кірункаў *неаламаркізму*, прадстаўнікі якога пераўвялічваюць ролю знешняга асяроддзя ў развіцці арганічнага свету.

**МЕХАНАРЭЦЭ́ПТАРЫ** [ад *механ(ічны) + рэцэптары*] — рэцэптары, якія ўспрымаюць механічныя раздражненні (асязальныя, болевыя, слыхавыя і інш.).

**МЕХАНАСТРЫ́КЦЫЯ** [ад *механ(ічны)* + лац. strictio = сцісканне] — *дэфармацыя* цел, выкліка1ная механічнымі напружаннямі, якія змяняюць магнітны стан цел.

**МЕХАНАТРО́Н** [ад *механ(ічны) + -трон*] — электронны прыбор, у якім кіраванне электрычным токам ажыццяўляецца механічна.

**МЕХАНАТЭРАПІ́Я** [ад *механ(ічны) + тэрапія*] — тое, што і *кінетатэрапія*.

**МЕХАНАХІ́МІЯ** [ад *механ(ічны) + хімія*] — вучэнне пра *палімеры*, якое даследуе хімічныя пераўтварэнні ў іх ад дзеяння механічных сіл.

**МЕХАНАХО́РЫЯ** [ад *механ(ічны) + -хорыя*] — спосаб распаўсюджання насення раслінамі, пры якім плады хутка раскрываюцца і насенне раскідаецца (у жоўтай акацыі, кісліцы і інш.).

**МЕХАНАЦЫ́ТЫ** [ад *механ(ічны) + -цыты*] — клеткі жывёл, здольныя сінтэзаваць *калаген*.

**МЕХАНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. mechane = машына) — працэс замены ручной працы машыннай для павышэння эфектыўнасці вытворчасці.

**МЕХАНІ́ЗМ** (н.-лац. mechanismus, ад гр. mechane = машына) — 1) прыстасаванне ўнутры машыны, прыбора, апарата, якое прыводзіць іх у рух (напр. м. гадзінніка); 2) унутраная будова, сістэма чаго-н. (напр. гаспадарчы м.); 3) сукупнасць працэсаў, з якіх складаецца якая-н. фізічная, хімічная, фізіялагічная і інш. з'ява.

**МЕХА́НІК** (лац. mechanicus, ад гр. mechanikos = вынаходніцкі) — спецыяліст, які назірае за работай машын і правільным іх выкарыстаннем.

**МЕХА́НІКА** [лац. mechanica, ад гр. mechanike (techne) = навука аб машынах] — 1) раздзел *фізікі*, які вывучае рух цел у прасторы і сілы, якія выклікаюць гэты рух; 2) *перан.* складаная сутнасць, будова чаго-н. (напр. м. гаспадаркі).

# М

**МЕХАНІ́СТ, МЕХАНІЦЫ́СТ** (ад *механіцызм*) — *філас.* паслядоўнік механіцызму.

**МЕХАНІЦЫ́ЗМ** (ад гр. mechanikos = вынаходніцкі) — антыдыялектычны кірунак у *філасофіі*, які зводзіць усю разнастайнасць быцця да простых законаў *механікі*.

**МЕХАНІ́ЧНЫ** (гр. mechanikos = вынаходніцкі) — 1) які мае адносіны да *механікі* (напр. м. рух); 2) які дзейнічае пры дапамозе *механізмаў*, звязаны з вырабам, рамонтам механізмаў (напр. м. цэх); 3) *перан.* які дзейнічае аўтаматычна, без удзелу свядомасці (напр. м-ае завучванне матэрыялу).

**МЕЦГЕ́РЫЯ** (н.-лац. metzgeria) — пячоначны мох сям. мецгерыевых, які трапляецца на ствалах ліставых дрэў у вільготных лясах.

**МЕ́ЦЦА** (іт. mezzo = сярэдні) — тое, што і *меца-сапрана*.

**МЕ́ЦЦА-ВО́ЧЭ** (іт. mezza voce = напаўголаса) — ціхае, няпоўнае гучанне голаса; адзін з прыёмаў вакальнага выканання.

**МЕ́ЦЦА-ПІЯ́НА** (іт. mezzo piano = паўціхі) — адно з адценняў дынамікі ў музыцы; гучанне, сярэдняе паміж *фортэ* і *піяна*.

**МЕ́ЦЦА-САПРА́НА** (іт. mezzosoprano) — жаночы голас, сярэдні паміж *сапрана* і *кантральта*.

**МЕ́ЦЦА-ТЫ́НТА** (іт. mezzotinto, ад mezzo = сярэдні + tinto + афарбаваны) — від заглыбленай гравюры, у якім паверхні металічнай дошкі надаецца шурпатасць, каб пры друкаванні атрымаць роўны чорны фон.

**МЕ́ЦЦА-ФО́РТЭ** (іт. mezzo forte = паўмоцны) — адно з адценняў дынамікі ў музыцы; умерана моцнае гучанне.

**МЕЦЭНА́Т** (ад лац. Maecenas, -atis = імя старажытнарымскага палітыка) — багаты апякун навук або мастацтваў.

**МЕШ** (англ. mesh = клетка, ячэйка) — адзінка шчыльнасці перапляценняў драцяных сітаў, якая абазначае колькасць адтулін сіта на адрэзку ў адзін дзюйм; ужываецца ў ЗША, Вялікабрытаніі і некаторых іншых краінах.

**МЕШЧАНІ́Н** (польск. mieszczanin, ад ст.-чэш. myesčenyn) — 1) асоба, якая ў Вялікім княстве Літоўскім, Польшчы і дарэвалюцыйнай Расіі належала да гарадскога саслоўя; 2) *перан.* чалавек з дробнаўласніцкімі інтарэсамі, вузкім кругаглядам; абывацель.

**МЕЯНЕ́ТА** (н.-лац. meioneta) — павук сям. *лініфіідаў*, які жыве на глебе, пад камянямі, на галінках дрэў і кустоў.

**МІ** (лац. mi) — трэці гук музычнай *гамы*, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**МІ́ГМА** (гр. migma = сумесь) — сілікатны расплаў, які ўтварыўся ў зямной кары з горных парод.

**МІГМАТЫ́Т** (гр. migma, -atos = сумесь, мешаніна) — горная парода, якая ўтварылася ў выніку пранікнення *магмы* ў тыя пароды, якія існавалі раней.

**МІГРА́НТ** (лац. migrans, -ntis = які перасяляецца) — чалавек, або жывёліна, якія *мігрыруюць*.

**МІГРА́ЦЫЯ** (лац. migratio = перамяшчэнне) — 1) перасяленне людзей на новае месца жыхарства ўнутры краіны або за яе межы; 2) перамяшчэнне жывёл у сувязі са

змяненнем умоў існавання, часамі года, цыкламі развіцця і інш. (напр. м. птушак).

**МІГРЫ́РАВАЦЬ** (лац. migrare) — перасяляцца, перамяшчацца.

**МІГРЭ́НЬ** (фр. migraine, ад гр. hemikrania = палавіна чэрапа) — хвароба, якая суправаджаецца прыступамі галаўнога болю, звычайна ў адной палавіне галавы.

**МІ́ДЗІ** (англ. midi) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) сярэдняй даўжыні (параўн. *максі, міні*).

**МІ́ДЭЛЬ** (гал. middel, англ. middle) — сярэдняя, самая шырокая частка карабля.

**МІ́ДЭЛЬ-ШПАНГО́ЎТ** (ад *мідэль* + *шпангоўт)* — 1) крывая на тэарэтычным чарцяжы, якая атрымана пры сячэнні судна ў сярэдзіне яго або ў самым шырокім месцы папярочнай плоскасцю, перпендыкулярнай да дыяметральнай плоскасці судна; 2) шпангоўт, размешчаны ў самым шырокім месцы судна.

**МІЁГРАФ** (ад гр. mys, myos = мышца + *-граф*) — прыбор для графічнай рэгістрацыі мышачных скарачэнняў.

**МІЁЛАГ** (ад гр. mys, myos = мышца + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *міялогіі*.

**МІЁМА** (ад гр. mys, myos = мышца + *-ома*) — дабраякасная пухліна з мышачнай тканкі.

**МІЗАНСЦЭ́НА** (фр. mise en scene = размяшчэнне на сцэне) — размяшчэнне акцёраў на сцэне ў той ці іншы момант спектакля.

**МІЗАНТРО́П** (фр. misanthrope, ад гр. misanthropos) — чалавек, схільны да *мізантропіі*.

**МІЗАНТРО́ПІЯ** (гр. misanthropia) — непрыязныя адносіны да людзей; чалавеканенавісніцтва.

**МІЗАСТАМІ́ДЫ** (н.-лац. myzostomida) — падклас кольчатых чарвей класа малашчацінкавых, які аб'ядноўвае многія віды *каменсалаў* або *паразітаў* ігласкурых; пашыраны ў трапічных і субтрапічных морах.

**МІЗАФО́БІЯ** (ад гр. mysos = неахайнасць, забруджванне + *-фобія*) — назойлівы страх забруджвання, заражэння.

**МІЗІ́ДЫ** (н.-лац. mysidacea) — атрад вышэйшых ракападобных; пашыраны ва ўсіх морах і акіянах, трапляюцца і прэснаводныя віды.

**МІЗУМЕ́НА** (н.-лац. misumena) — павук сям. бакаходаў, які жыве на кветках, кустах і траве.

**МІЗУМЕ́НАПС** (н.-лац. misumenops) — павук сям. бакаходаў, які жыве на кветках.

**МІЗЭ́РНЫ** (польск. mizerny, ад лац. miser = бедны) — 1) маленькі, зусім нязначны; 2) нікчэмны; які выклікае адмоўныя пачуцці.

**МІКА-** (гр. mykes = грыб) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да грыбоў.

**МІКАБАКТЭ́РЫІ** (ад *міка-* + *бактэрыі*) — бактэрыі, родныя *актынаміцэтам*, жывуць у глебе, некаторыя — узбуджальнікі туберкулёзу, праказы і інш.

**МІКАБІЁНТ** (ад *міка-* + *біёнты*) — гетэратрофны грыб у складзе вегетатыўнага цела лішайніка.

**МІКАБЛА́СТ** (н.-лац. micoblastus) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які расце на

# М

ствалах і галінках хвойных дрэў, на раслінных рэштках, камянях.

**МІКА́ДА** (рус. микадо, ад яп. mi kado = высокая брама) — *гіст.* тытул японскага імператара.

**МІКАЛЕ́КС** (ад лац. mica = слюда + lectus = адборны) — пластмаса са слюды і цэментуючых рэчываў; выкарыстоўваецца як электраізаляцыйны матэрыял.

**МІКАЛІТЫ́ЧНЫ** (ад *міка-* + гр. lytikos = які растварае) — здольны раствараць *міцэлій* мікраскапічных грыбоў (напр. м-ыя бактэрыі).

**МІКАЛО́ГІЯ** (ад *міка-* + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае грыбы.

**МІКАНІ́Т** (ад лац. mica = слюда) — шараваты ізаляцыйны матэрыял, выраблены з лісткоў слюды, склееных лакам; выкарыстоўваецца ў электратэхніцы.

**МІКАПЛАЗМО́З** (ад *мікаплазмы*) — хранічная інфекцыйная хвароба птушак, якая выклікаецца мікаплазмамі.

**МІКАПЛА́ЗМЫ** (ад *міка-* + *плазма*) — вельмі дробныя мікраарганізмы, якія не маюць клетачнай сценкі; пашыраны ў вадаёмах, сцёкавых водах, тканках раслін і інш.

**МІКАРЫ́ЗА** (ад *міка-* + гр. rhiza = корань) — *сімбіёз* грыбоў з каранямі вышэйшых раслін; грыбакорань.

**МІКА́РЫЯ** (н.-лац. micaria) — павук сям. *клубіянідаў*, які жыве ў імху, траве, лясным подсціле.

**МІКАСФЕРЭ́ЛА** (н.-лац. mycosphaerella) — сумчаты грыб сям. мікасфарэлавых, які развіваецца на агрэсце, парэчках, суніцах, грушы, маліне; узбуджальнік белай плямістасці.

**МІКАТАКСІКО́ЗЫ** (ад *міка-* + гр. toksikon = атрута) — хваробы, якія ўзнікаюць у чалавека і жывёл пры ўжыванні таксічных грыбоў.

**МІКАТРО́ФНЫ** (ад *міка-* + *-трофны*) — які існуе разам з *мікарызай*; м-ыя расліны — вышэйшыя расліны (напр. сасна, елка, дуб), якія маюць патрэбу ў развіцці на карэнні пэўных відаў грыбоў.

**МІКАФО́ЛІЙ** (ад лац. mica = слюда + folium = ліст) — электраізаляцыйны матэрыял са слаёў паперы і слюды.

**МІКО́ЗЫ** (ад гр. mykes = грыб) — хваробы чалавека і жывёл, якія выклікаюцца патагеннымі грыбамі, напр. дražджавымі (*бластамікоз*), плесневымі (*аспергілёз*), *актынаміцэтамі* (*актынамікоз*) і інш.

**МІКО́ЛАГ** (ад *міка-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *мікалогіі*.

**МІКРА-** (гр. mikros = малы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «вельмі малы, дробны», «звязаны з вывучэннем або вымярэннем вельмі малых прадметаў, велічынь», «мільённая доля адзінкі меры, названай у другой частцы слова».

**МІКРААМПЕ́Р** (ад *мікра-* + *ампер*) — адзінка сілы электрычнага току, роўная мільённай частцы ампера.

**МІКРААНА́ЛІЗ** (ад *мікра-* + *аналіз*) — сукупнасць метадаў і прыёмаў, пры дапамозе якіх можна рабіць аналіз вельмі малых колькас-

цей хімічных рэчываў (вагой да 1 мг).

**МІКРААПЕРА́ЦЫЯ** (ад *мікра-* + *аперацыя*) — элементарная аперацыя перапрацоўкі інфармацыі электронна-вылічальнай машынай.

**МІКРААРГАНІ́ЗМЫ** (ад *мікра-* + *арганізм*) — нябачныя простым вокам раслінныя або жывёльныя арганізмы.

**МІКРААЎТО́БУС** (ад *мікра-* + *аўтобус*) — невялікі аўтобус, разлічаны на 10 пасажыраў.

**МІКРАБА́Р** (ад *мікра-* + *бар*) — адзінка вымярэння ціску, мільённая частка бара.

**МІКРАБАРО́ГРАФ** (ад *мікра-* + *барограф*) — прыбор для рэгістрацыі малых і хуткіх ваганняў атмасфернага ціску.

**МІКРАБІЁЛАГ** (ад *мікра-* + *біёлаг*) — спецыяліст у галіне *мікрабіялогіі*.

**МІКРАБІЁТА** (н.-лац. microbiota) — вечназялёная кустовая расліна сям. кіпарысавых, пашыраная ў гарах Сіхотэ-Аліня; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МІКРАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *мікра-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае *мікраарганізмы*.

**МІКРАБІЯЦЭНО́З** (ад *мікра-* + *біяцэноз*) — сукупнасць *мікраарганізмаў*, якія насяляюць тэрыторыю з аднолькавымі ўмовамі існавання.

**МІКРАВА́ГА** (ад *мікра-* + *вага*) — вага для ўзважвання вельмі малых цяжараў.

**МІКРАВАЛЮМЕ́ТР** (ад *мікра-* + *валюметр*) — вымяральны прыбор для вызначэння неабходнай вагі друкарскіх фарбаў.

**МІКРАГАМЕТАЦЫ́ТЫ** (ад *мікрагаметы* + *-цыты*) — няспелыя мужчынскія палавыя асобіны спаравікоў, якія развіваюцца ў *мікрагаметы* (параўн. *макрагаметацыты*).

**МІКРАГАМЕ́ТЫ** (ад *мікра-* + *гаметы*) — мужчынскія палавыя клеткі ў спаравікоў, звычайна рухомыя і больш дробныя, чым жаночыя (параўн. *макрагаметы*).

**МІКРАГЕАМЕ́ТРЫЯ** (ад *мікра-* + *геаметрыя*) — геаметрыя трохвымернай прасторы, мінімальныя памеры якой абмежаваны малымі велічынямі.

**МІКРАГЛАСА́РЫЙ** (ад *мікра-* + *гласарый*) — слоўнік з адной вузкай галіны, напр. тэхнікі, навукі.

**МІКРАГЛІ́Я** (ад *мікра-* + гр. glia = клей) — адна з форм *нейрагліі*, якая выконвае ахоўную функцыю (параўн. *макраглія*).

**МІКРАГЛО́СУМ** (н.-лац. microglossum) — сумчаты грыб сям. геаглосавых, які трапляецца на мокрай глебе ў лясах.

**МІКРАДЫ́НА** (ад *мікра-* + *дына*) — адзінка сілы, мільённая частка дыны.

**МІКРАДЫСЕ́КЦЫЯ** (ад *мікра-* + *лац. dissectio* = рассячэнне) — тое, што і *мікрургія*.

**МІКРАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. microsauria) — атрад вымерлых земнаводных, якія лічацца зыходнымі формамі сучасных атрадаў хвастатых і бязногіх.

**МІКРАЗО́НД** (ад *мікра-* + *зонд*) — зонд (прыбор для даследавання свідравін) невялікага памеру.

# М

**МІКРАІНДЫКА́ТАР** (ад *мікра-* + *індыкатар*) — прыбор для дакладнага вымярэння даўжынь і для праверкі правільнасці формы і ўзаемнага размяшчэння дэталей машын.

**МІКРАІНТЭРФЕРО́МЕТР** (ад *мікра-* + *інтэрферометр*) — прыбор для кантролю дакладнасці апрацоўкі паверхняў, вымярэння таўшчыні плёнак і інш.; спалучэнне *мікраскопа* і інтэрферометра.

**МІКРАІНФА́РКТ** (ад *мікра-* + *інфаркт*) — дробнаачаговы інфаркт міякарда.

**МІКРАКАЛЬКУЛЯ́ТАР** (ад *мікра-* + *калькулятар*) — невялікі прыбор з электронна-вылічальным устройствам, разлічаны на выкананне арыфметычных дзеянняў.

**МІКРАКАМА́НДА** (ад *мікра-* + *каманда*) — *код* адной або некалькіх *мікрааперацый*, якія выконваюцца на працягу аднаго элементарнага такта работы электроннавылічальнай машыны.

**МІКРАКАПСУЛІ́РАВАННЕ** (ад *мікра-* + лац. capsula = каробачка) — стварэнне тонкай трывалай абалонкі вакол асобных цвёрдых часцінак або кропель вадкасці; выкарыстоўваецца пры вытворчасці лякарстваў, каталізатараў і інш.

**МІКРАКАРАТА́Ж** (ад *мікра-* + *каратаж*) — метад даследавання геалагічнага разрэзу ў буравой свідравіне шляхам вымярэння электрычнага супраціўлення горных парод.

**МІКРАКА́ТАР** [ад мікра- + (інды)катар] — прыбор для вымярэння кантактным метадам лінейных памераў вырабаў.

**МІКРАКІНЕМАТАГРА́ФІЯ** (ад *мікра-* + *кінематаграфія*) — кінематаграфічная здымка з выкарыстаннем *мікраскопа*.

**МІКРАКЛІ́МАТ** (ад *мікра-* + *клімат*) — 1) клімат невялікага ўчастка пэўнага геаграфічнага ландшафту, абумоўлены асаблівасцямі мясцовасці (параўн. *макраклімат*); 2) ***перан.*** узаемаадносіны, умовы працы ў невялікім калектыве, у сям'і.

**МІКРАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *мікра-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, які даследуе *мікраклімат*.

**МІКРАКЛІ́Н** (ад *мікра-* + гр. klino = нахіляю) — пародаўтваральны мінерал групы палявых шпатаў белага, ружовага, буравата-жоўтага колеру; выкарыстоўваецца ў керамічнай прамысловасці.

**МІКРАКО́КІ** (ад *мікра-* + *кокі*) — шарападобныя бактэрыі, пашыраныя ў вадзе, глебе, харчовых прадуктах, некаторыя выклікаюць гнойныя захворванні.

**МІКРАКО́ЛЕУС** (н.-лац. microcoleus) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. шызотрыксавых, якая пашырана ў марскіх, саланаватых і прэсных вадаёмах, на вільготных скалах, у глебе, слізі іншых водарасцей.

**МІКРАКО́СМ, МІКРАКО́СМАС** (ад *мікра-* + *космас*) — свет малых велічынь (атамаў, малекул) ў адрозненне ад свету велічынь планетнага і зорнага характару (параўн. *макракосмас*).

**МІКРАКТЫ́НІУМ** (н.-лац. micractinium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў *планктоне* розных вадаёмаў.

**МІКРАЛА́ЙНЕР** (ад *мікра-* + *лайнер*) — невялікі пасажырскі самалёт.

**МІКРАЛІ́ТЫ** (ад *мікра-* + *-літ*) — 1) найдрабнейшыя крышталікі асноўнай масы эфузіўных горных парод; 2) дробныя каменныя прылады першабытнага чалавека; былі пашыраны ў эпоху *мезаліту* (параўн. *макраліты*).

**МІКРАМАНІПУЛЯ́ТАР** (ад *мікра-* + *маніпулятар*) — прыбор, пры дапамозе якога пад кантролем мікраскопа праводзяць складаныя аперацыі над вельмі дробнымі аб'ектамі, пераважна над клеткамі арганізма.

**МІКРАМАНО́МЕТР** (ад *мікра-* + *манометр*) — прыбор для вымярэння малых розніц ціску.

**МІКРАМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *мікра-* + *маркетынг*) — арганізацыя дзейнасці прадпрыемства, накіраваная на стварэнне арыентаванай на рынак вытворчасці і збыту тавараў, якія задавальняюць патрэбы пакупнікоў.

**МІКРАМА́ТА** (н.-лац. micrommata) — павук сям. sparassidae, які пашыраны ў Еўропе і Зах. Сібіры; жыве ў разнатраўі на ўзлесках.

**МІКРАМАШЫ́НА** (ад *мікра-* + *машына*); м. э л е к т р ы ч н а я — спецыяльны тып электрычнай машыны магутнасцю ад доляў *вата* да соцень ватаў.

**МІКРАМЕ́РЫ** (ад *мікра-* + гр. meros = частка) — дробныя *бластамеры* (параўн. *макрамеры*).

**МІКРАМЕ́ТР** (ад *мікра-* + *-метр*) — адзінка даўжыні, роўная мільённай частцы метра.

**МІКРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *мікра-* + *-метрыя*) — раздзел *фізікі*, які займаецца дакладным вымярэннем лінейных велічынь.

**МІКРАМІЛІМЕ́ТР** (ад *мікра-* *міліметр*) — тое, што і *мілімікрон*.

**МІКРАМІНІЯЦЮРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *мікра-* + *мініяцюрызацыя*) — значнае памяншэнне памераў і масы апаратаў, прыбораў, радыётэхнічных элементаў і інш., што грунтуецца на дасягненнях *мікраэлектронікі*.

**МІКРАМІЦЭ́ТЫ** (ад *мікра-* + *-міцэты*) — зборная група грыбоў мікраскапічных памераў; мікрагрыбы (параўн. *макраміцэты*).

**МІКРАМО́ДУЛЬ** (ад *мікра-* + *модуль*) — блок радыёэлектроннай апаратуры ў мініяцюрным выкананні.

**МІКРАМОНАСПАРА́ЦЫЯ** (н.-лац. micromonosporaceae) — сямейства *актынаміцэтаў*, пашыраны ў глебе, гноі, сене, азёрным іле і інш.

**МІКРАНЕ́ЗІЯ** (ад *мікра-* + гр. nesos = востраў) — група дробных астравоў у Акіяніі, пераважна на поўнач ад экватара.

**МІКРАНЕКТРЫЕ́ЛА** (н.-лац. micronectriella) — сумчаты грыб сям. нектрыевых, які развіваецца пераважна на злакавых.

**МІКРАНІВЕЛІ́Р** (ад *мікра-* + *нівелір*) — вымяральны прыбор для вельмі дакладнага вызначэння перавышэнняў пунктаў або нахілу апорных плоскасцей розных установак.

**МІКРАПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** (ад *мікра-* + *палеанталогія*) — раздзел палеанталогіі, які вывучае мікраскапічныя выкапнёвыя рэшткі арганізмаў.

# М

**МІКРАПАРЫ́Т** (ад *мікра-* + *пора*) — сілікатны дробнапорыстты цеплаізаляцыйны матэрыял.

**МІКРАПІ́ЛЕ** (ад *мікра-* + гр. pyle = вароты) — 1) адтуліна ў абалонцы яец насякомых, павукападобных, некаторых малюскаў, рыб і іншых жывёл, праз якую *сперматазоід* трапляе ў клетку; 2) адтуліна ў семязавязі большасці кветкавых раслін, праз якую пры апыленні пранікае пылковая трубка са *спермімі*.

**МІКРАПРАГРА́МА** (ад *мікра-* + *праграма*) — паслядоўнасць мікракаманд для электронна-вылічальнай машыны.

**МІКРАПРАЕ́КТАР** (ад *мікра-* + *праектар*) — аптычны *апарат* мініяцюрных памераў.

**МІКРАПРАЕ́КЦЫЯ** (ад *мікра-* + *праекцыя*) — спосаб адлюстравання прадметаў малой велічыні на плоскасці.

**МІКРАПРАЦЭ́С** (ад *мікра-* + *працэс*) — працэс, які мае невялікае пашырэнне і нядоўга трывае.

**МІКРАПРАЦЭ́САР** (ад *мікра-* + *працэсар*) — устройства апрацоўкі інфармацыі, якое праграмна кіруецца і прымяняецца ў мікраЭВМ, сістэмах аўтаматычнага кіравання.

**МІКРАПРЫНТАВА́ННЕ** (ад *мікра-* + англ. print = друк) — паліграфічнае праяўленне мікраадлюстраванняў (адлюстраванняў, утвораных фатаграфаваннем праз *мікраскоп*).

**МІКРАРАЁН** (ад *мікра-* + *раён*) — структурная адзінка сучаснай забудовы горада, дзе акрамя жылых будынкаў, размешчаны гандлёвыя пункты, установы культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва і інш. (параўн. *макрараён*).

**МІКРАРЭЛЬЕ́Ф** (ад *мікра-* + *рэльеф*) — дробныя формы рэльефу зямной паверхні з ваганнямі вышынь у некалькі метраў (пагоркі, купіны і інш.); параўн. *макрарэльеф, мегарэльеф, мезарэльеф*.

**МІКРАСАЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад *мікра-* + *сацыялогія*) — раздзел сацыялогіі, які вывучае структуру і функцыяніраванне невялікіх сацыяльных груп (сям'і, школьнага класа і інш.).

**МІКРАСЕЙСМІ́ЧНЫ** (ад *мікра-* + *сейсмічны*) — звязаны з ваганнямі зямной паверхні, якія можна выявіць толькі пры дапамозе *сейсмографа* (параўн. *макрасейсмічны*).

**МІКРАСЕ́ЙСМЫ** (ад *мікра-* + гр. seismos = землетрасенне) — ваганні зямной паверхні нязначнай *амплітуды*, абумоўленыя пераважна атмасфернымі працэсамі (дзеяннем *цыклонаў, тайфунаў* і інш.).

**МІКРАСІСТЭ́МА** (ад *мікра-* + *сістэма*) — сістэма з вельмі малымі памерамі (параўн. *макрасістэма*).

**МІКРАСКА́ЙНЕР** (ад *мікра-* + англ. scan = хутка пераглядаць) — партатыўны апарат для чытання мікрафатаграфічнага здымка тэксту і ілюстрацый кнігі, брашуры.

**МІКРАСКАПІ́ЧНЫ** (ад *мікраскоп*) — 1) вельмі малы, бачны толькі ў мікраскоп (параўн. *макраскапічны*); 2) зроблены пры дапамозе мікраскопа.

**МІКРАСКАПІ́Я** (ад *мікра-* + *-скапія*) — сукупнасць метадаў назірання мікрааб'ектаў з дапамогай *мікраскопа*.

**МІКРАСКО́П** (ад *мікра-* + *-скоп*) — аптычны прыбор, які дазваляе бачыць прадметы і іх дэталі, нябачныя простым вокам.

**МІКРАСО́МЫ** (ад *мікра-* + *сома*) — субмікраскапічныя бялкова-ліпоідныя цельцы клетак, якія змяшчаюць *ферменты*.

**МІКРАСПАРА́НГІЙ** (ад *мікра-* + *спарангій*) — мнагаклетачны орган, у якім у вышэйшых раслін развіваюцца *мікраспоры*.

**МІКРАСПАРАФІ́Л** (ад *мікра-* + *спарафіл*) — відазменены ліст вышэйшых раслін, на якім развіваюцца *мікраспарангіі*.

**МІКРАСПАРАЦЫ́Т** (ад *мікраспора* + *-цыты*) — мацярынская клетка, з якой у выніку *меёзу* ўтвараецца тэтрада мікраспор.

**МІКРАСПАРЫДЫЁЗЫ** (ад *мікраспарыдыі*) — інвазійныя хваробы жывёл, якія выклікаюцца мікраспарыдыямі.

**МІКРАСПАРЫ́ДЫІ** (н.-лац. microsporidia) — атрад прасцейшых класа *кнідаспарыдый*; унутрыклетачныя паразіты беспазваночных (чарвей, ракападобных, насякомых) і рыб.

**МІКРАСПАРЫ́Я** (ад *мікра-* + *спора*) — заразная грыбковая хвароба скуры чалавека і жывёл, выкліканая патагеннымі грыбамі; стрыгучы лішай.

**МІКРАСПО́РА** (ад *мікра-* + *спора*) — дробная спора ў разнаспоравых вышэйшых раслін, якая развіваецца ў *мікраспарангіі* (параўн. *мегаспора*).

**МІКРАСПОРАГЕНЕ́З** (ад *мікраспора* + *-генез*) — развіццё мікраспор у рознаспоравых папарацепадобных і насенных раслін.

**МІКРАСПО́РУМ** (н.-лац. microsporum) — сумчаты грыб сям. гімнааскавых, які развіваецца на скуры, валасах і часам пазногцях чалавека, а таксама жывёл.

**МІКРАСТО́МА** (н.-лац. microstoma) — сумчаты грыб сям. саркасцыфавых, які трапляецца на гнілой драўніне ў ліставых і мяшаных лясах.

**МІКРАСТРУКТУ́РА** (ад *мікра-* + *структура*) — будова цвёрдых рэчываў (металаў, горных парод і інш.), якую можна ўбачыць толькі пад *мікраскопам* (проціл. *макраструктура*).

**МІКРАСТЭ́РЫЯС** (н.-лац. micrasterias) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая трапляецца ў азёрах, рэках, ручаях, канавах, сажалках і іншых прэсных вадаёмах.

**МІКРАСФЕ́РА** (н.-лац. microsphaera) — сумчаты грыб сям. мучністарасяных, які развіваецца на лісці дрэў і кустоў; узбуджальнік мучністай расы.

**МІКРАСХЕ́МА** (ад *мікра-* + *схема*) — элемент радыёэлектроннай апаратуры, выраблены з выкарыстаннем *мікраэлектронікі*.

**МІКРАТА́МНІЯН** (н.-лац. microthamnion) — ніткаватая зялёная водарасць сям. хетафоравых, якая трапляецца ў стаячых і цякучых прэсных водах, на гнілых раслінных рэштках і ў глебе.

**МІКРАТАПАНІ́МІКА** (ад *мікра-* + *тапаніміка*) — раздзел тапанімікі, які вывучае назвы дробных геаграфічных аб'ектаў (*мікратапонімы*), іх значэнне, паходжанне і пашырэнне на пэўнай тэрыторыі.

# М

**МІКРАТАПАНІ́МІЯ** (ад *мікра-* + *тапанімія*) — сукупнасць *мікратапонімаў*.

**МІКРАТАПО́НІМЫ** (ад *мікра-* + *тапонімы*) — назвы дробных геаграфічных аб'ектаў вакол аднаго населенага пункта ці на абмежаванай тэрыторыі.

**МІКРАТО́М** (ад *мікра-* + гр. tome = рэзанне) — інструмент для атрымання тонкіх зрэзаў тканак жывёл і раслін для вывучэння іх будовы пад *мікраскопам*.

**МІКРАТРА́ЎМА** (ад *мікра-* + *траўма*) — *мед.* нязначнае пашкоджанне скуры або слізістай абалонкі (укол, парэз, сіняк, драпіна).

**МІКРАТРО́Н** (ад *мікра-* + *-трон*) — прыбор для паскарэння зараджаных мікрачасцінак.

**МІКРАТЫ́ПІЯ** (ад *мікра-* + *-тыпія*) — адбітак з фатаграфіі, знятай праз *мікраскоп*.

**МІКРАТЫ́РЫЙ** (н.-лац. microthyrium) — сумчаты грыб сям. мікратырыевых, які трапляецца на жывым і адмерлым лісці, галінках і сцёблах раслін.

**МІКРАТЭЛЕВІ́ЗАР** (ад *мікра-* + *тэлевізар*) — тэлевізар вельмі малых памераў, які працуе на паўправадніках.

**МІКРАТЭЛЕФО́Н** (ад *мікра-* + *тэлефон*) — тэлефонная трубка з умацаванымі ў ёй *мікрафонам* і тэлефонам.

**МІКРАТЭ́ЛІЯ** (н.-лац. microthelia) — накіпны лішайнік сям. гіялектавых, які пашыраны ў Еўропе; расце ў лясах на гладкай кары ліставых дрэў, асабліва бярозы і таполі.

**МІКРАФА́ГІ** (ад *мікра-* + *-фаг*) — тое, што і *нейтрафілы*.

**МІКРАФАРА́ДА** (ад *мікра-* + *фарада*) — адзінка электрычнай ёмкасці, роўная мільённай частцы фарады.

**МІКРАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *мікра-* + *фатаграфія*) — фатаграфаванне павялічаных пры дапамозе мікраскопа аб'ектаў.

**МІКРАФАТО́МЕТР** (ад *мікра-* + *фатометр*) — прыбор для вымярэння аптычных шчыльнасцей на малых участках фатаграфічных адлюстраванняў (спектраграм, аэрафотаздымкаў і інш.).

**МІКРАФА́ЎНА** (ад *мікра-* + *фаўна*) — сукупнасць жывёльных мікраарганізмаў у якім-н. прыродным асяроддзі.

**МІКРАФІ́Л** (ад *мікра-* + гр. phyllon = ліст) — дробны ліст вышэйшых раслін, які ўзнік у выніку эвалюцыі як выраст на бязлістых галінках прымітыўных продкаў гэтых раслін.

**МІКРАФІЛАМЕ́НТЫ** (ад *мікра-* + *філаменты*) — ніці бялку актыну нямышачнай прыроды ў *цытаплазме* эўкарыётных клетак.

**МІКРАФІ́ЛЬМ** (ад *мікра-* + *фільм*) — рэпрадукцыя рукапіснага, друкаванага або графічнага дакумента, паменшаная ў дзесяткі, сотні разоў і выкананая на кіна- або фотаплёнцы.

**МІКРАФІЛЯ́РЫІ** (ад *мікра-* + лац. filum = нітка) — лічынкі некаторых *нематодаў*, якія паразітуюць у крыві або тканках птушак, млекакормячых і чалавека.

**МІКРАФІ́ТЫ** (ад *мікра-* + *-фіты*) — група раслін, пераважна водарасцей, большасць якіх мае

мікраскапічныя памеры і ўваходзіць у склад *фітапланктону*.

**МІКРАФІЯ́ЛЕ** (н.-лац. microphiale) — накіпны лішайнік сям. гіялектавых, які расце ў лясах на камлях дрэў, імхах і раслінных рэштках.

**МІКРАФЛО́РА** (ад *мікра-* + *флора*) — сукупнасць раслінных мікраарганізмаў у якім-н. прыродным асяроддзі.

**МІКРАФО́Н** (ад *мікра-* + *-фон*) — прыбор, які ператварае гукавыя ваганні ў электрычныя і служыць для перадачы гукаў на адлегласць або для ўзмацнення іх.

**МІКРАХІ́МІЯ** (ад *мікра-* + *хімія*) — раздзел аналітычнай хіміі, які вывучае мікраскапічна малыя ўзоры разнастайных рэчываў.

**МІКРАХІРУРГІ́Я** (ад *мікра-* + *хірургія*) — тое, што і *мікрургія*.

**МІКРАХРАНО́МЕТР** (ад *мікра-* + *хранометр*) — прыбор для вымярэння вельмі малых адрэзкаў часу.

**МІКРАЦЫ́Д** (ад *мікра-* + *-цыд*) — лекавы прэпарат, супрацьмікробны сродак, які выкарыстоўваецца пры лячэнні ран, апёкаў, абмарожанняў, пролежняў, гнойна-запаленчых працэсаў і інш.

**МІКРАЦЫРКУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *мікра-* + *цыркуляцыя*) — рух крыві ў сістэме дробных крывяносных сасудаў.

**МІКРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. micracystis) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. мікрацысціевых, якая пашырана ў прэсных і марскіх вадаёмах, у глебе.

**МІКРАЦЫТО́З** (ад *мікра-* + *-цытоз*) — з'яўленне ў перыферычнай крыві *мікрацытаў*.

**МІКРАЦЫ́ТЫ** (ад *мікра-* + *-цыты*) — *эрытрацыты* малой (у параўнанні з нармальнай) велічыні (параўн. *макрацыты*).

**МІКРАЦЭФА́Л** (ад *мікра-* + *-цэфал*) — чалавек з вельмі малой, недаразвітай галавой (параўн. *макрацэфал*).

**МІКРАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *мікра-* + *-цэфалія*) — вельмі малы аб'ём чэрапа галавы, недаразвітая галава (параўн. *макрацэфалія*).

**МІКРАШПО́НА** (ад *мікра-* + *шпона*) — тонкі драўняны матэрыял для абліцоўкі паверхняў, фанеравання мэблі.

**МІКРАЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (ад *мікра-* + *эвалюцыя*) — эвалюцыйны працэс, які адбываецца ўнутры *папуляцый* і прыводзіць да дыферэнцыяцыі віду.

**МІКРАЭКАНО́МІКА** (ад *мікра-* + *эканоміка*) — эканамічная навука, якая вывучае ўзаемасувязі і прапорцыі ў межах асобнай галіны вытворчасці або асобнага прадпрыемства (параўн. *макраэканоміка*).

**МІКРАЭЛЕКТРО́Д** (ад *мікра-* + *электрод*) — самы тонкі электрод у канцы ўчастка электрычнага ланцуга; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**МІКРАЭЛЕКТРО́НІКА** (ад *мікра-* + *электроніка*) — раздзел электронікі, які займаецца канструяваннем мініяцюрных радыёэлектронных устройстваў.

**МІКРАЭЛЕМЕ́НТЫ** (ад *мікра-* + *элементы*) — хімічныя элементы, якія знаходзяцца ў раслінных і жывёльных арганізмах у вельмі малой колькасці і неабходны для іх нармальнай жыццядзейнасці

(напр. бор, малібдэн, марганец і інш.); параўн. *макраэлементы*.

**МІКРО́БЫ** (фр. microbe, ад гр. mikros = маленькі + bios = жыццё) — найдрабнейшыя жывыя арганізмы, бачныя толькі пад мікраскопам, да якіх належаць *бактэрыі, актынаміцэты, мікраплазмы, вірусы*, мікраскапічныя грыбы і водарасці, часам прасцейшыя.

**МІКРО́МЕТР** (ад *мікра-* + *-метр*) — інструмент для вымярэння лінейных велічынь невялікіх цел.

**МІКРО́Н** (гр. mikron = малое) — мера даўжыні, роўная мільённай частцы метра.

**МІКРУРГІ́Я** [ад *мікр(а)* + *(хір)ургія*] — правядзенне пад мікраскопам аперацый на прасцейшых, клетках шматклетачных арганізмаў і інш.

**МІКСАБАКТЭ́РЫІ** (ад гр. myksa = слізь + *бактэрыі*) — палачкападобныя бактэрыі, рух якіх адбываецца ў выніку выдзялення слізі; жывуць у глебе, гноі, раслінных рэштках і прымаюць удзел у іх разлажэнні.

**МІКСАВІ́РУСЫ** (ад гр. myksa = слізь + *вірусы*) — тое, што і *артаміксавірусы*.

**МІКСАМІЦЭ́ТЫ** (ад гр. myksa = слізь + *-міцэты*) — бесхларафільныя ніжэйшыя раслінныя арганізмы, якія развіваюцца пераважна на гнілой драўніне; слізевікі.

**МІКСАСПАРЫДЫЁЗЫ** (ад *міксаспарыдыі*) — інвазійныя хваробы рыб, якія выклікаюцца міксаспарыдыямі.

**МІКСАСПАРЫ́ДЫІ** (н.-лац. myxosporidia) — атрад прасцейшых класа *кнідаспарыдый*; тканкавыя або поласцевыя паразіты рыб.

**МІКСАТРО́ФЫ** (ад гр. miksis = змяшэнне + *-трофы*) — арганізмы са змешаным спосабам харчавання; сустракаюцца сярод прасцейшых класа жгуцікавых.

**МІКСБО́РДЭР** (англ. mixborder, ад mix = змешваць + border = край) — шматрадковая пасадка кветкава-дэкаратыўных раслін, падбор якіх забяспечвае бесперапыннае цвіценне ад ранняй вясны да позняй восені.

**МІКСЕДЭ́МА** (ад гр. myksa = слізь + oidema = пухліна, ацёк) — захворванне чалавека, якое абумоўлена рэзкай недастатковасцю функцыі шчытападобнай залозы (*гіпатырэозам*).

**МІ́КСЕР** (англ. mixer) — 1) механічны або электрычны апарат для хуткага змешвання, збівання чаго-н. (крэмаў, кактэйляў, мусаў і інш.); 2) ёмістасць для прыёму вадкага чыгуну з доменнай печы.

**МІКСІ́НЫ** (н.-лац. myxini, ад гр. myksa = слізь) — атрад *агнатаў* класа кругларотых; пашыраны ў морах, прамысловага значэння не маюць.

**-МІКСІС** (гр. miksis = сумесь, змешванне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «змешванне», «змяшэнне».

**МІКСТ** (англ. mixed, ад лац. mixtus = змешаны) — 1) змешаны *рэгістр* пеўчага голасу, пераходны паміж грудным і галаўным рэгістрамі; 2) поезд з вагонаў featurenaга прызначэння; 3) гульня ў тэніс, у якой партнёрамі з'яўляюцца змешаныя пары (мужчына і жанчына).

**МІКСТУ́РА** (лац. mixtura = сумесь) — вадкае лякарства з сумесі некалькіх рэчываў.

**МІ́КШЭР** (англ. mixer) — электрычнае ўстройства для змешвання (складання) некалькіх сігналаў у сістэмах гукавога вяшчання або гуказапісу.

**МІЛ** (англ. mill = тысяча) — адзінка даўжыні ў сістэме англійскіх мер, роўная 0,0254 мм.

**МІЛАНІ́Т** (ад гр. mylon = млын) — сланцаватая метамарфічная горная парода, якая ўтварылася пры руху мас горных парод па паверхні тэктанічных разрываў, пры пераціранні і сцісканні мінералаў зыходных парод.

**МІЛЕНАРЫ́ЗМ** (ад лац. mille = тысяча + annus = год) — тое, што і *хіліязм*.

**МІЛЕНА́РЫІ** (ад лац. mille = тысяча + annus = год) — прыхільнікі *міленарызму*.

**МІЛЕРЫ́Т** (ад англ. W.Miller = прозвішча англ. мінералога (1801—1880) — мінерал класа *сульфідаў* латунна-жоўтага колеру, які ўваходзіць у склад меднанікелевых руд.

**МІЛЕ́СІМА** (ісп. milesimo = тысячны) — дробная разменная манета Чылі, роўная тысячнай часціцы *эскуда*.

**МІЛЕФ'ЁРЭ** (іт. millefiori = тысяча кветак) — разнавіднасць мастацкага шкла і эмалі.

**МІЛІ-** (лац. mille = тысяча) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае тысячную долю адзінкі меры, названай у другой частцы слова.

**МІЛІАМПЕ́Р** (ад *мілі-* + *ампер*) — адзінка сілы электрычнага току, роўная тысячнай частцы ампера.

**МІЛІАМПЕРМЕ́ТР** (ад *мілі-* + *амперметр*) прыбор для вымярэння сілы электрычнага току ў *міліамперах*.

**МІЛІБА́Р** (ад *мілі-* + *бар*) — адзінка ціску, роўная тысячнай частцы бара.

**МІЛІВАЛЬТМЕ́ТР** (ад *мілі-* + *вальтметр*) — прыбор для вымярэння напружання электрычнага току ў *мілівольтах*.

**МІЛІВА́Т** (ад *мілі-* + *ват*) — адзінка магутнасці электрычнага току, роўная тысячнай долі вата.

**МІЛІВО́ЛЬТ** (ад *мілі-* + *вольт*) — адзінка напружання электрычнага току, роўная тысячнай долі вольта.

**МІЛІГРА́М** (ад *мілі-* + *грам*) — мера вагі, роўная тысячнай долі грама.

**МІЛІКЮРЫ́** (ад *мілі-* + *кюры*) — адзінка радыеактыўнасці, роўная 0,001 кюры.

**МІЛІМЕ́ТР** (ад *мілі-* + *метр*) — мера даўжыні, роўная тысячнай частцы метра.

**МІЛІМІКРО́Н** (ад *мілі-* + *мікрон*) — адзінка вымярэння даўжыні, роўная тысячнай долі мікрона.

**МІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ** (ад лац. militaris = ваенны) — праводзіць *мілітарызацыю*.

**МІЛІТАРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. militarisation, ад лац. militaris = ваенны) — падпарадкаванне эканомікі, палітыкі і грамадскага жыцця якой-н. дзяржавы мэтам падрыхтоўкі захопніцкіх войнаў.

# М

**МІЛІТАРЫ́ЗМ** (фр. militarisme, ад лац. militaris = ваенны — палітыка нарошчвання ваеннай магутнасці якой-н. дзяржавы, што праводзіцца з мэтай падрыхтоўкі захопніцкіх войнаў.

**МІЛІТАРЫ́СТ** (ад *мілітарызм*) — той, хто праводзіць палітыку мілітарызму.

**МІЛІ́ЦЫЯ** (лац. militia = войска) — адміністрацыйны орган па ахове грамадскага парадку, грамадскай бяспекі і дзяржаўнай маёмасці ў многіх краінах, а таксама работнікі гэтага органа.

**МІ́ЛІЯ** (н.-лац. mylia) — пячоначны мох сям. плегіяхілавых, які трапляецца на гнілой драўніне, купінах, прыгнечаных сфагнавых імхах.

**МІЛІЯ́РНЫ** (лац. miliarius = прасяны) — *мед.* просападобны, які праяўляецца ў выглядзе дробных шматлікіх хваробных ачагоў (напр. м. туберкулёз, м. рак).

**МІЛІЯ́РЫЙ** (лац. miliarium) — 1) мера даўжыні ў Стараж. Рыме, роўная 1,4835 км; 2) прыдарожны каменны слуп, пастаўлены на адлегласці ў 1 міліярый ад суседніх слупоў на старажытнарымскіх шляхах.

**МІЛІЯРЫ́СІЙ** (п.-лац. miliarisium, ад лац. miliarensis = тысячны) — познарымская і ранневізантыйская сярэбраная манета, якая складала 1/1000 залатога візантыйскага фунта.

**МІЛО́РД** (англ. milord, ад my lord = мой лорд) — назва англійскага арыстакрата (*лорда*), а таксама ветліва-пачцівы зварот да яго.

**МІЛЬ** (лац. mille = тысяча) — разменная манета Кіпра, роўная 1/1000 кіпрскага *фунта*.

**МІ́ЛЬДЗЬЮ** (англ. mildew) — паражэнне раслін грыбамі сям. пераноспоравых.

**МІЛЬЕ́М** (фр. millieème = тысячная доля) — дробная разменная манета Егіпта і Судана, роўная адпаведна 1/1000 егіпецкага і суданскага *фунта*.

**МІЛЬЕРАНІ́ЗМ** [ад фр. A.Millerand = прозвішча фр. сацыяліста (1859—1943)] — форма супрацоўніцтва лідэраў сацыялістычных партый з буржуазіяй.

**МІЛЬЁН** (фр. million, ад іт. milione) — 1) лік і колькасць, роўныя тысячы тысяч, абазначаюцца лічбай 1 з шасцю нулямі; 2) *мн.* вялікая колькасць каго-н., чаго-н. (напр. мільёны зорак).

**МІЛЬРЭ́ЙС** (парт. milréis, ад mil = тысяча + reis = рэйс) — ранейшая грашовая адзінка Партугаліі (да 1911 г.) і Бразіліі (да 1942 г.), роўная 1000 *рэйсаў*[2].

**МІЛЬТУ́РУМ** (н.-лац. milturum) — разнавіднасць мяккай пшаніцы з чырвоным коласам і чырвоным зернем.

**МІЛЬЯНЕ́Р** (фр. millionnaire) — уладальнік багаццяў, якія ацэньваюцца ў мільёны грашовых адзінак.

**МІЛЬЯ́РД** (фр. milliard) — 1) лік і колькасць, роўныя тысячы мільёнаў; абазначаюцца лічбай 1 з дзевяццю нулямі; 2) *мн.* вельмі вялікая колькасць, мноства каго-н., чаго-н. (напр. мільярды сняжынак).

**МІЛЬЯРДЭ́Р** (фр. milliardaire) — уладальнік багаццяў, якія ацэньваюцца ў мільярды грашовых адзінак.

**МІЛЭ́ДЗІ** (англ. milady, ад my lady = мая лэдзі) — ветліва-пачцівы зварот да знатнай замужняй жанчыны ў Англіі.

**МІ́ЛЯ** [польск. mila < ст.-в.-ням. mīla, ад лац. mille (passuum) = тысяча крокаў] — неметрычная адзінка даўжыні, неаднолькавая ў розных краінах, напр. італьянская, або марская, м. роўная 1852 м, нямецкая, або геаграфічная — 7420 м, руская — 7467 м.

**МІМ** (фр. mime, ад гр. mimos = перайманне, перaймальнік) — 1) невялікая камічная імправізаваная сцэнка, якая выконвалася вандроўнымі акцёрамі ў Стараж. Грэцыі і Рыме; 2) акцёр, які ўдзельнічаў у такой сцэнцы; 3) выканаўца *пантамімы*.

**МІМАДРА́МА** (ад гр. mimos = наследаванне + *драма*) — тое, што і *пантаміма*.

**МІ́МЕЗІС** (гр. mimesis) — 1) перайманне як тэрмін старажытнагрэчаскай філасофіі ў адносінах да творчасці; 2) эстэтычная катэгорыя, якая вызначае адносіны паміж творам мастацтва і знешнім светам; перайманне рэчаіснасці ў мастацтве.

**МІМЕО́ГРАФ** (ад гр. mimeomai = пераймаю + *-граф*) — устарэлая назва *рататара* 1.

**МІМЕТЫ́ДЫ** (н.-лац. mimetidae) — сямейства павукоў жаўтавата-карычняватай афарбоўкі; пашыраны ў зонах з вільготным цёплым кліматам на ствалах дрэў, высокай траве.

**МІМЕТЫ́ЗМ** (ад гр. mimetes = перaймальнік) — від *мімікрыі*, які заключаецца ў прыпадабненні з мэтай самааховы знешняга выгляду або паводзін некаторых жывёл да іншых жывёл, забяспечаных абарончымі сродкамі ад ворагаў (напр. падабенства зязюлі да ястраба).

**МІ́МІКА** [с.-лац. (ars) mimica = мастацтва жэстаў, ад гр. mimikos = перaймальны] — 1) рухі мышцаў на твары, якія выражаюць пачуцці, настрой; 2) мастацтва акцёра перадаваць душэўны стан такімі рухамі.

**МІМІКРЫ́Я** (англ. mimicry) — 1) прыпадабненне некаторых жывёл і раслін да навакольнага асяроддзя па форме і колеру з мэтай самааховы (напр. заяц і курапатка зімой маюць белую афарбоўку, хамелеоны мяняюць афарбоўку пры руху па дрэве, афарбоўка матыльков нагадвае кветкі і г.д.); 2) *перан.* беспрынцыпнае прыстасаванне каго-н. да жыццёвых умоў.

**МІМІ́ЧНЫ** (гр. mimikos) — які мае адносіны да *мімікі*, выражаны пры дапамозе мімікі.

**МІМО́ЗА** (н.-лац. mimosa, ад гр. mimos = перaймальнік) — травяністая, кустовая або дрэвавая расліна сям. бабовых з дробнымі кветкамі у коласападобных суквеццях, некаторыя віды якой згортваюць лісцікі пры дотыку да іх; пашырана ў тропіках і субтропіках.

**МІ́НА** [1] (ням. Mine, ад фр. mine) — 1) разрыўны снарад, які выкарыстоўваецца як сродак загароды на сушы і моры (напр. супрацьтанкавая м., плавучая м.); 2) снарад для стральбы з мінамёта (напр. асколачная м., фугасная м.).

**МІ́НА** [2] (іт. mina) — выраз твару; р а б і ц ь   в я с ё л у ю   м і н у   п р ы   д р э н н а й   г у л ь н і — пад

знешняй весялосцю спрабаваць схаваць нездавальненне.

**МІ́НА** [3] (лац. mina, ад гр. mna) — грашовая і вагавая адзінка на Стараж. Усходзе і ў Стараж. Грэцыі.

**МІНАРА́Т** (ад лац. minor = меншы) — 1) парадак атрымання спадчыны ў феадальным і буржуазным праве, калі маёмасць пераходзіць малодшаму ў сям'і або ў родзе (проціл. *маярат*); 2) маёмасць, якая перадаецца на аснове такога права.

**МІНАРЫ́ТЫ** [ад лац. (fratres) minores = меншыя браты] — члены манаскага каталіцкага ордэна *францысканцаў*.

**МІНАРЭ́Т** (фр. minaret < тур. minãre, ад ар. minãra = месца асвятлення) — вежа мячэці, з якой *муэдзіны* заклікаюць мусульман на малітву.

**МІНАТА́ЎР** (гр. Minotauros) — міфічная пачвара з целам чалавека і галавой быка, якую крыцкі цар Мінос карміў жывымі людзьмі.

**МІНДА́ЛІНА** (ад *міндаль*) — 1) ядро міндальнага арэха; 2) залоза ў глотцы, падобная па форме на міндальны арэх.

**МІНДА́ЛЬ** (рус. миндаль, ад гр. amygdalon) — дрэвавая або кустовая расліна сям. ружакветных з простым лісцем і адзіночнымі белымі або ружовымі кветкамі, а таксама плады гэтай расліны ў выглядзе арэхаў авальнай формы; пашырана пераважна ў субтропіках, на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МІНЕЗІ́НГЕРЫ** (ням. Minnesinger, ад Minne = каханне + Singer = пясняр) — сярэдневяковыя нямецкія паэты-спевакі (12—13 ст.), якія пераянялі традыцыі правансальскіх *трубадураў*, апявалі рыцарскую доблесць і служэнне каханай.

**МІНЕРАГРА́ФІЯ** (ад п.-лац. minera = руда + *-графія*) — метад мікраскапічнага вывучэння руд і мінералаў шляхам даследавання іх адпаліраванай паверхні (*аншліфу*).

**МІНЕРА́Л** (фр. mineral, ад с.-лац. minerale) — прыроднае рэчыва, звычайна цвёрдае, якое ўваходзіць у склад зямной кары.

**МІНЕРАЛАГРА́ФІЯ** (ад *мінерал* + *-графія*) — навука, якая займаецца апісаннем мінералаў.

**МІНЕРАЛАКЕРА́МІКА** (ад *мінерал* + *кераміка*) — цвёрды і зносаўстойлівы, гарачатрывалы і гарачаўстойлівы матэрыял з крышталітаў хімічных злучэнняў; выкарыстоўваецца на выраб рэзальнага інструменту, зносаўстойлівых дэталяў машын і інш.

**МІНЕРАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. minéraliser; ад с.-лац. minerale = мінерал) — праводзіць *мінералізацыю*.

**МІНЕРАЛІЗА́ТАР** (фр. minéralisateur, ад с.-лац. minerale = мінерал) — *геал.* рэчыва, якое садзейнічае крышталізацыі *мінералаў*.

**МІНЕРАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. minéralisation, ад с.-лац. minerale = мінерал) — 1) ператварэнне арганічных рэчываў у *мінералы*; 2) насычэнне грунту або вады мінеральнымі солямі.

**МІНЕРАЛІ́Т** (ад *мінерал* + *-літ*) — азбеставы цэмент, які выкарыстоўваецца ў вырабе вогнетрывалых перакрыццяў, сходаў, падлогі.

**МІНЕРАЛО́Г** (ад *мінерал* + *-лог*) — спецыяліст у галіне *мінералогіі*.

**МІНЕРАЛО́ГІЯ** (ад *мінерал* + *-логія*) — навука аб мінералах, іх складзе, будове, фізічных і хімічных уласцівасцях і гаспадарчым выкарыстанні.

**МІНЕРА́ЛЬНЫ** (с.-лац. mineralis) — які мае адносіны да *мінералаў* або ўключае ў свой склад мінералы.

**МІНЕ́Я** (гр. meniaios = месячны) — царкоўная кніга з тэкстам набажэнстваў на кожны дзень месяца.

**МІНЁР** (фр. mineur) — спецыяліст па міннай справе, па мініраванню і размініраванню.

**МІ́НІ** (англ. mini) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) *мінімальнай* даўжыні (параўн. *максі, мідзі*).

**МІНІМА́КС** [ад *міні(мум)* + *макс(імум)*] — *мат.* значэнне *функцыі* дзвюх пераменных (x, y), якога яна дасягае, калі ўзяць спачатку максімум па y, а потым мінімум па x.

**МІНІМАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. minimalis = самы малы) — зніжэнне патрабаванняў да мінімуму (параўн. *максімалізм*).

**МІНІМА́ЛЬНЫ** (с.-лац. minimalis) — самы малы, найменшы (напр. м-ая затрата часу); параўн. *максімальны*.

**МІНІМЕ́ТР** (ад лац. minimus = найменшы + *-метр*) — прыбор для вымярэння кантактным метадам лінейных памераў дакладных дэталей.

**МІНІМІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. minimus = найменшы) — давядзенне чаго-н. да найменшага памеру.

**МІ́НІМУМ** (лац. minimum) — 1) найменшая велічыня, найменшая колькасць, самая нізкая ступень чаго-н. (параўн. *максімум* 1); 2) сукупнасць ведаў або мерапрыемстваў, неабходных у якой-н. галіне (напр. тэхнічны м., кандыдацкі м.); 3) *мат.* найменшае значэнне функцыі ў параўнанні з яе значэннямі ва ўсіх дастаткова блізкіх пунктах.

**МІНІ́РАВАЦЬ** (ням. minieren, ад фр. miner) — закладваць *міну* (міны), ставіць мінную загароду.

**МІНІ́СТР** (фр. ministre, ад лац. minister = слуга) — член урада, які ўзначальвае *міністэрства* (напр. м. адукацыі, м. прамысловасці).

**МІНІСТЭ́РСТВА** (фр. ministère, ад. лац. ministrare = служыць, кіраваць) — цэнтральная ўрадавая ўстанова, якая кіруе асобнай галіной гаспадаркі або грамадскай дзейнасці і ўзначальваецца *міністрам*.

**МІНІСТЭРЫЯЛІ́ЗМ** (фр. ministérialisme) — 1) бюракратызацыя дзяржаўнага выканаўчага апарата; 2) тое, што і *мільеранізм*.

**МІНІСТЭРЫЯ́ЛЫ** (с.-лац. ministeriales, ад лац. ministerium = служба, пасада) — слугі караля або буйнога феадала ў сярэдневяковай Зах. Еўропе, якія выконвалі прыдворную, гаспадарчую і ваенную функцыю.

**МІНІТМЕ́Н** (англ. minute-man) — 1) салдат народнай міліцыі ў час вайны Паўн. Амерыкі з Англіяй за незалежнасць у 1775—1783 гг.; 2) член адной з прафашысцкіх арганізацый у ЗША.

**МІНІ-ФУТБО́Л** (ад *міні* + *футбол*) — гульня ў футбол у закры-

тым памяшканні пры зменшаных памерах поля, колькасці гульцоў.

**МІНІЯЦЮ́РА** (іт. miniatura, ад лац. minium = кінавар, сурык) — 1) каляровы малюнак або размаляваная загалоўная літара ў старажытных рукапісах, кнігах; 2) невялікая карціна або партрэт тонкай работы на паперы, метале, фарфоры і інш.; 3) мастацкі твор малой формы (напр. літаратурная м., вакальная м.); 4) ***перан.*** што-н. вельмі маленькае.

**МІНІЯЦЮ́РНЫ** (ад *мініяцюра*) — 1) які мае адносіны да мініяцюры; 2) ***перан.*** маленькі і вытанчаны.

**МІНІЯЦЮРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *мініяцюра*) — змяншэнне памераў, вагі прыбораў, устройстваў і інш.

**МІНІЯЦЮРЫ́СТ** (фр. miniaturiste, ад лац. minium = кінавар, сурык) — 1) мастак, які малюе *мініяцюры*; 2) аўтар кароткіх літаратурных або музычных твораў (*мініяцюр* 3).

**МІНО́ГА** (польск. minog, ад с.-в.-ням. niunouge) — рыбападобная жывёла сям. міногавых, якая сваёй формай нагадвае вугра; з'яўляецца аб'ектам промыслу.

**МІНО́Р** (іт. minore, ад лац. minor = меншы) — 1) музычны лад, у аснове якога ляжыць малое (мінорнае) трохгучча, мае цёмную афарбоўку гучання (проціл. *мажор*); 2) ***перан.*** сумны, прыгнечаны настрой.

**МІНО́РНЫ** (іт. minore, ад лац. minor = меншы) — 1) *муз.* які адносіцца да *мінору* 1; 2) ***перан.*** сумны, журботны.

**МІНТА́Й** (в'етн. mintaj) — мелкаводная рыба сям. трасковых, якая водзіцца ў паўночнай частцы Ціхага акіяна; з'яўляецца аб'ектам промыслу.

**МІ́НУС** (лац. minus = менш) — 1) знак адымання або адмоўнай велічыні ў выглядзе гарызантальнай рыскі; 2) ***перан.*** пра што-н. дрэннае, адмоўнае (напр. мінусы ў рабоце).

**МІНУ́СКУЛЫ** (лац. minusculus = маленькі) — малыя літары старажытных лацінскай і грэчаскай пісьменнасцей (проціл. *маюскулы*).

**МІНУ́ТА** (польск. minuta, ад лац. minuta = паменшаная, малая) — 1) адзінка часу, роўная 1/60 гадзіны; 2) які-н. кароткі прамежак часу (напр. м. цярпення); 3) адзінка вымярэння вугла і дугі, роўная 1/60 *градуса* 1.

**МІНЬЁН** (фр. mignonne) — 1) парны бальны танец, блізкі да *вальса*; 2) невялікі *раяль*; 3) дробны друкарскі *шрыфт*, роўны 7 *пунктам*.

**МІ́РА** [1] (гр. myron, ад myrrha = смала) — пахучы алей, які ўжываецца ў хрысціянскіх царкоўных абрадах.

**МІ́РА** [2] (гр. myrrha) — духмяная смала, якая здабываецца з кары некаторых трапічных дрэў; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**МІ́РА** [3] (фр. mire = мушка, прыцэл) — празрыстая або паўпразрыстая пласцінка з нанесеным на яе малюнкам у выглядзе палос; выкарыстоўваецца для вызначэння распазнавальнай здольнасці аптычных прыбораў і фотаматэрыялаў.

**МІРАБЕ́ЛЬ** (фр. mirabelle) — пладовае дрэва, сліва з жоўтымі

пладамі, а таксама плод гэтага дрэва.

**МІРА́БІЛІС** (н.-лац. mirabilis) — травяністая расліна сям. ніктагінавых з зубчастым лісцем і лейкападобнымі невялікімі кветкамі разнастайнай афарбоўкі, якая пашырана ў Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; начная прыгажуня.

**МІРАБІЛІ́Т** (ад лац. mirabilis = дзіўны, незвычайны) — мінерал класа *сульфідаў, гідрат* сернакіслага натрыю, белы або бясколерны, сыравіна для атрымання соды; глаўберава соль.

**МІРА́Ж** (фр. mirage) — 1) аптычная з'ява ў *атмасферы*, пры якой узнікаюць уяўныя адлюстраванні далёкіх наземных прадметаў у сувязі з пераламленнем сонечных праменяў у нераўнамерна нагрэтых слаях паветра (назіраецца ў пустынях, стэпах, на моры); 2) *перан.* нешта падманлівае, уяўнае.

**МІРА́КЛЬ** (фр. miracle, ад лац. miraculum = цуд) — *жанр* сярэдневяковай заходнееўрапейскай вершаванай драмы рэлігійнага характару.

**МІРЗА́** (перс. mīrzā, ад āmir-zādä = сын эміра, князя) — 1) тытул члена *правячай* дынастыі, а таксама буйных феадалаў у некаторых народаў Усходу; 2) сакратар, пісар, перапісчык у некаторых народаў Усходу.

**МІРМЕКАДЫ́Я** (ад гр. myrmeks, -ekos = мурашка) — паўкустовая расліна сям. марэнавых з клубнепадобнай асновай сцябла, у шматлікіх поласцях якой жывуць мурашкі; пашырана ў Пауд.-Усх. Азіі і Паўн. Аўстраліі.

**МІРМЕКАФІЛІ́Я** (ад гр. myrmeks, -ekos = мурашка + *-філія*) — адна з форм *сімбіёзу*, заснаваная на выкарыстанні мурашкамі асаблівасцей будовы раслін для гнёздаў і раслінных выдзяленняў для харчавання.

**МІРМЕКАФІ́ЛЫ** (ад гр. myrmeks, -ekos = мурашка + *-філ*) — жывёлы, якія развіваюцца ў больш або менш цесным сумесным жыцці з мурашкамі (напр. некаторыя жукі, кляшчы, гусеніцы матылькоў).

**МІРМЕКАХАРЫ́Я** (ад гр. myrmeks, -ekos = мурашка + *-харыя*) — распаўсюджанне насення і іншых зачаткаў (*дыяспор*) раслін мурашкамі.

**МІРТ** (гр. myrtos) — вечназялёная кустовая або дрэвавая расліна сям. міртавых са скурыстым лісцем і адзіночнымі дробнымі белымі духмянымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МІРЫЯ́ДЫ** (гр. myrias, -ados = дзесяць тысяч) — незлічоная колькасць, вялікае мноства, безліч (напр. м. зорак).

**МІС** (англ. miss) — ветлівы зварот да незамужняй жанчыны ў Англіі, Амерыцы (звычайна далучаецца да прозвішча або імя).

**МІСДЫМІ́НАР** (англ. misdemeanor) — катэгорыя дробных крымінальных злачынстваў у англасаксонскім праве.

**МІ́СІС** (англ. mistress) — ветлівы зварот да замужняй жанчыны ў Англіі, Амерыцы (звычайна далучаецца да прозвішча або імя).

**МІ́СІЯ** (лац. missio = адпраўленне, пасылка) — 1) дэлегацыя, накі-

раваная ў іншую краіну са спецыяльнай мэтай (напр. ваенная м.); 2) пастаяннае дыпламатычнае прадстаўніцтва адной дзяржавы ў другой на чале (у адрозненне ад пасольства) з пасланнікам; 3) даручэнне, заданне (напр. сакрэтная м.); 4) адказная роля, высокае прызначэнне каго-н., чаго-н. (напр. высокая м. літаратуры).

**МІСІЯНЕ́Р** (с.-лац. missionarius, ад лац. missio = адпраўленне, пасылка) — прапаведнік, пасланы хрысціянскай царквой для рэлігійнай прапаганды свайго веравызнання сярод іншаверцаў.

**МІСКА́НТУС** (н.-лац. miscanthus) — травяністая расліна сям. злакавых з лінейным лісцем і мяцёлчатымі суквеццямі, пашыраная ў тропіках, субтропіках і ўмераных зонах Азіі, Афрыкі і Аўстраліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**МІСТАГО́Г** (гр. mystagogos) — жрэц у старажытных грэкаў, які пасвячаў у таінства ў *містэрыях* 1.

**МІСТАКАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. mystacocarida) — атрад ракападобных; жывуць у вільготным пяску пляжаў Міжземнага мора, Атлантычнага і Індыйскага акіянаў.

**МІСТРА́ЛЬ** (фр. mistral) — моцны, халодны паўночна-заходні вецер, які дзьме (асабліва зімой) з гор на міжземнаморскім узбярэжжы Францыі.

**МІ́СТЫК** (гр. mystikos = таямнічы) — чалавек, які верыць у існаванне таямнічых, звышнатуральных сіл.

**МІ́СТЫКА** (гр. mystika = таямнічасць) — 1) несумяшчальная з навукай вера ў таямнічыя, звышнатуральныя сілы і магчымасць зносін з імі чалавека; 2) *перан.* нешта загадкавае, чаго нельга растлумачыць.

**МІСТЫФІКА́ТАР** (фр. mystificateur) — той, хто займаецца *містыфікацыямі*.

**МІСТЫФІКА́ЦЫЯ** (фр. mystification, ад гр. mystes = які ведае таінства + лац. facere = рабіць) — наўмыснае ўвядзенне каго-н. у зман (напр. жартоўная м.).

**МІСТЫЦЫ́ЗМ** (фр. mysticisme, ад гр. mystes = які ведае таінства) — рэлігійна-ідэалістычны светапогляд, заснаваны на *містыцы*.

**МІСТЫ́ЧНЫ** (гр. mystikos = таямнічы) — 1) які мае адносіны да *містыкі*, звязаны з верай у таямнічыя, звышнатуральныя сілы і магчымасць зносін з імі чалавека; 2) *перан.* які нельга зразумець, растлумачыць.

**МІ́СТЭР** (англ. mister) — ветлівы зварот да мужчыны ў Англіі, Амерыцы (звычайна далучаецца да прозвішча або імя).

**МІСТЭ́РЫЯ** (гр. mysterion = таінства) — 1) тайны рэлігійны абрад, у якім прымалі ўдзел толькі давераныя асобы ў Стараж. Грэцыі і Рыме і краінах Стараж. Усходу; 2) сярэдневяковая драма на біблейскія тэмы.

**МІТАГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (ад *мітоз* + *генетычны*; м-ыя прамені — ультрафіялетавыя прамені, якія ўзнікаюць пры ферментатыўных рэакцыях у жывых тканках, стымулююць мітоз.

**МІТАХО́НДРЫІ** (ад гр. mitos = нітка + chondrion = зярнятка) — адзін з відаў унутрыклетачных *арганоідаў* у форме зярнят, палачак,

нітак; змяшчаюць многія ферменты і ўдзельнічаюць у працэсах клетачнага дыхання, пераўтварэння энергіі і біясінтэзу бялку.

**МІТКА́ЛЬ** (рус. миткаль, ад перс. metqal) — тонкая баваўняная тканіна з палатняным перапляценнем.

**МІТО́З** (гр. mitos = нітка) — найбольш пашыраны спосаб дзялення клеткі ў жывых арганізмах, пры якім адбываецца строга аднолькавае размеркаванне *храмасом* паміж даччынымі клеткамі, што забяспечвае ўтварэнне генетычна раўнацэнных клетак.

**МІ́ТРА** (гр. mitra) — багата аздоблены галаўны ўбор, які надзяваецца ў час набажэнства прадстаўнікамі вышэйшага духавенства ў праваслаўнай і каталіцкай царкве.

**МІТРАІ́ЗМ** (ад перс. Mitra = імя бога дзённага святла, чысціні і праўды ў старажытнаіранскай і ведычнай міфалогіі) — рэлігійны культ бога Мітры ў старажытных Іране, Індыі і некаторых іншых краінах, а з 1 ст. н.э. — у Рымскай імперыі.

**МІТРАЛЬЕ́ЗА** (фр. mitrailleuse) — старадаўняя мнагаствольная гармата, якая страляла карцеччу.

**МІТРА́ЛЬНЫ** (лац. mitralis) — які адносіцца да перадсэрдзева-жалудачкавага клапана сэрца.

**МІТРАПАЛІ́Т** (гр. metropolites) — вышэйшае званне праваслаўных і каталіцкіх епіскапаў.

**МІТРАПО́ЛІЯ** (гр. metropolis) — царкоўная акруга, якой кіруе *мітрапаліт*.

**МІТРАФО́РНЫ** (ад *мітра* + гр. phoros = які нясе) — які мае права насіць *мітру* (напр. м. протаіерэй).

**МІТРУ́ЛЯ** (н.-лац. mitrula) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які трапляецца на апалым у ваду лісці дрэў, на ігліцы, мокрай глебе.

**МІ́ТЫНГ** (англ. meeting) — мнагалюдны сход для абмеркавання палітычных або іншых важных надзённых пытанняў.

**МІ́ТЭЛЬ** (ням. mittel = сярэдні) — друкарскі *шрыфт*, роўны 14 *пунктам* (каля 5,25 мм).

**МІ́ТЭЛЬШПІЛЬ** (ням. Mittelspiel) — сярэдняя стадыя шахматнай або шашачнай партыі, паміж *дэбютам* і *эндшпілем*.

**МІТЭЛЬШТРЭ́КЕР** (ням. Mittelstrecker) — бягун на сярэднія *дыстанцыі*.

**МІТЭ́НКА** (польск. mitenka, ад фр. mitaine) — *уст.* жаночая пальчатка без пальцаў.

**МІФ** (гр. mythos = паданне) — 1) старажытнае народнае паданне пра легендарных герояў, багоў, пра паходжанне свету і з'яў прыроды; 2) *перан.* вымысел, выдумка.

**МІФАЛО́ГІЯ** (гр. mythologia, ад mythos = паданне + logos = вучэнне) — 1) сукупнасць *міфаў* якога-н. народа (напр. грэчаская м.); 2) навука, якая вывучае міфы.

**МІФАМА́Н** (ад *міф* + *ман*) — чалавек, якому ўласціва *міфаманія*.

**МІФАМА́НІЯ** (ад *міф* + *манія*) — анамальная схільнасць да выдумак, фантазіравання, апавядання невераго́дных гісторый.

**МІФІ́ЧНЫ** (гр. mythikos) — 1) звязаны з *міфамі*; 2) *перан.* авеяны паданнямі, легендарны; казачны.

**МІФО́ЛАГ** (ад *міф* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *міфалогіі*.

# М

**-МІЦЫН** (ад гр. mykes = грыб) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «грыбковы».

**МІЦЭ́ЛІЙ** (ад гр. mykes = грыб) — вегетатыўнае цела грыбоў, якое складаецца з адна- ці шматколерных тонкіх нітак (*гіфаў*); грыбніца.

**МІ́ЦЭЛІС** (н.-лац. mycelis) — травяністая расліна сям. складанакветных з тонкім лісцем і бледнажоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Еўропе, Малой Азіі, Паўн. Амерыцы.

**МІЦЭ́ЛЫ** (н.-лац. micella, ад лац. mica = крошка, крупінка) — вельмі дробныя крышталічныя часцінкі ў складзе калоіднага рэчыва.

**МІЦЭ́НА** (н.-лац. mycena) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце ў лясах на драўніне і подсціле; неядомы.

**МІЦЭНА́СТРУМ** (н.-лац. mycenastrum) — *базідыяльны* грыб сям. міцэнастравых, які расце на глебе ў лясах, на палях, лугах.

**МІЦЭТАЛО́ГІЯ** (ад гр. mykes, -etos = грыб + *-логія*) — навука, якая вывучае грыбы.

**-МІЦЭТЫ** (гр. mykes, -etos = грыб) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «грыбы».

**МІ́ЧМАН** (рус. мичман, ад англ. midshipman) — воінскае званне або першы афіцэрскі чын у флоце некаторых краін.

**МІШУРА́** (рус. мишура, ад ар. mozavvir = падробка) — 1) пазалочаныя і пасярэбраныя металічныя ніткі, з якіх вырабляюць парчу, галуны, а таксама ёлачныя ўпрыгожанні і інш.; 2) *перан.* знешні бляск, паказная раскоша.

**МІШЭ́НЬ** (рус. мишень, ад тур. nisan = знак) — прадмет, які служыць цэллю пры вучэбнай стральбе; 2) *перан.* той, хто з'яўляецца прадметам нападак.

**МІЭЛА-** [гр. myelos = (касцявы) мозг] — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «касцявы мозг».

**МІЭЛАГРА́ФІЯ** (ад *міэла-* + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання спіннога мозгу пасля ўвядзення кантраснага рэчыва.

**МІЭЛАЦЫ́ТЫ** (ад *міэла-* + *-цыты*) — клеткі крывятворнай тканкі касцявога мозгу, з якіх утвараюцца ўсе формы зярністых *лейкацытаў* (*гранулацытаў*).

**МІЭЛІ́Н** [ад гр. myelos = (касцявы) мозг] — сумесь тлушчападобных рэчываў, якія знаходзяцца ў абалонцы нерва і ў некаторых іншых тканках жывёльных арганізмаў.

**МІЭЛІ́Т** [ад гр. myelos = (касцявы) мозг] — запаленне спіннога мозгу.

**МІЭЛО́З** [гр. myelos = (касцявы) мозг] — з'яўленне празмернай колькасці *міелацытаў* у перыферычнай крыві.

**МІЭЛО́ІДНЫ** (ад *міэла-* + *-оід*) — крывятворны; м-ая тканка — крывятворная тканка касцявога мозгу, у якой утвараюцца *гранулацыты*.

**МІЭЛО́МА** (ад *міэла-* + *-ома*) — паражэнне касцявога мозгу, пры якім узнікаюць у адной або многіх касцях пухлінападобныя вузлы.

**МІЯ-** (гр. mys, myos = мышца) — першая састаўная частка склада-

ных слоў, якая выражае паняцце «мышца».

**МІЯБЛА́СТЫ** (ад *мія-* + *-бласты*) — маладыя мышачныя клеткі ў беспазваночных і пазваночных жывёл і чалавека.

**МІЯГЕ́Н** ( ад *мія-* + *-ген*) — група раствораных бялкоў у мышцах, якая выконвае значную ролю ў вугляводным абмене арганізма.

**МІЯГЛАБІ́Н** [ад *мія-* + *(гема)глабін*] — складаны бялок, які назапашвае ў мышцах чалавека і большасці жывёл кісларод; блізкі па ўласцівасцях да гемаглабіну крыві.

**МІЯГРА́ФІЯ** (ад *мія-* + *-графія*) — графічная рэгістрацыя скарачэнняў мышцаў, якая робіцца пры дапамозе *міёграфа*.

**МІЯЗІ́Н** (ад гр. mys, myos = мышца) — бялок, які з'яўляецца асновай мышачнага валакна.

**МІЯЗІ́Т** (ад гр. mys, myos = мышца) — запаленне шкілетных мышцаў.

**МІЯ́ЗМЫ** (гр. miasma = забруджванне) — 1) паводле ўстарэлых уяўленняў, ядавітыя выпарэнні, якія ўтвараюцца пры гніенні і нібыта выклікаюць заразныя хваробы; 2) *перан.* негатыўныя грамадскія або бытавыя з'явы, якія атручваюць свядомасць чалавека.

**МІЯ́ЗЫ** (ад гр. myia = муха) — захворванні чалавека і жывёл, якія выклікаюцца лічынкамі некаторых мух і аваднёў.

**МІЯКА́РД, МІЯКА́РДЫЙ** (ад *мія-* + гр. kardia = сэрца) — мышачны слой сэрца, які складае яго асноўную масу.

**МІЯКАРДЫ́Т** (ад *мія-* + гр. kardia = сэрца) — запаленне *міякарда*.

**МІЯКАРДЫЯДЫСТРАФІ́Я** (ад *мія-* + гр. kardia = сэрца + *дыстрафія*) — агульнае абазначэнне незапаленчых паражэнняў *міякарда*.

**МІЯКАРДЫЯСКЛЕРО́З** (ад *мія-* + *кардыясклероз*) — тое, што і *кардыясклероз*.

**МІЯЛО́ГІЯ** (ад *мія-* + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае будову мышцаў і мышачнай сістэмы.

**МІЯЛЬГІ́Я** (ад гр. mys, myos = мышца + algos = боль) — боль у мышцах у выніку працяглага ахаладжэння, парушэння абмену рэчываў, інфекцыйных хвароб.

**МІЯМЕ́РЫ** (ад *мія-* + *-мер*) — парныя мышачныя *метамеры*, размешчаныя на падоўжнай восі цела ў зародкаў ланцэтніка, пазваночных жывёл і чалавека.

**МІЯНЕ́МЫ** ( ад *мія-* + гр. nema = нітка) — скарачальныя бялковыя ніткі ў *цытаплазме* некаторых аднаклетачных арганізмаў.

**МІЯПА́ТЫЯ** (ад *мія-* + *-патыя*) — спадчыннае захворванне, звязанае з парушэннем абмену рэчываў у мышачнай тканцы.

**МІЯПІ́Я** (гр. myops, -opos = блізарукі) — *мед.* блізарукасць.

**МІЯРЭЛЯКСА́НТЫ** (ад *мія-* + *рэляксанты*) — лекавыя рэчывы, якія выклікаюць расслабленне шкілетных мышцаў чалавека.

**МІЯСАРКО́МА** (ад *мія-* + *саркома*) — саркома мышцаў жывёл і чалавека.

**МІЯСЕ́ПТЫ** (ад *мія-* + лац. saeptum = агароджа) — злучальнатканкавая праслойка паміж парнымі мышачнымі *міямерамі*.

**МІЯСТЭНІ́Я** (ад гр. mys, myos = мышца + *астэнія*) — захворванне

чалавека, якое характарызуецца аслабленнем і хуткім стамленнем мышцаў.

**МІЯТАНІ́Я** (ад *мія-* + *-танія*) — прыроджаная мышачная слабасць ад парушэння абмену рэчываў і пашкоджанняў спіннога мозгу.

**МІЯТО́МЫ** (ад *мія-* + гр. tome = разрэз, сячэнне) — аддзелы *самітаў*, з якіх у зародкаў хордавых развіваюцца зачаткі мускулатуры, а таксама падскурнай злучальнай тканкі і шкілета.

**МІЯФІБРЫ́ЛЫ** (ад *мія-* + *фібрылы*) — мікраскапічныя валаконцы скарачальнага рэчыва, якія праходзяць уздоўж мышачнага валакна.

**МІЯЦЫ́Т** (ад *мія-* + *цыты*) — мышачная клетка.

**МІЯЦЭ́Н** (ад гр. meion = меншы + *-цэн*) — ранняя эпоха неагенавага перыяду (гл. *неаген*) у геалагічнай гісторыі Зямлі, якая пачалася каля 25 млн. гадоў назад і цягнулася каля 14 млн. гадоў.

**МІЯЦЭ́НАВЫ** (ад гр. meion = меншы + *-цэн*); м - а я э п о х а — тое, што і *міяцэн*.

**МНЕМАНІ́ЧНЫ** (ад гр. mnemonikon = мастацтва запамінання); м. в е р ш — вершаваны твор практычнага ці павучальнага характару.

**МНЕМАСХЕ́МА** [ад *мнемо(ніка)* + *схема*] — умоўная выява кіруемага аб'екта (машыны, працэса, сістэмы) пры дапамозе сімвалаў і *індыкатараў*, размешчаных на панэлях, якое наглядна паказвае стан аб'екта або ход вытворчага працэсу.

**МНЕМАТЭ́ХНІКА** (ад гр. mneme = памяць + *тэхніка*) — 1) тое, што і *мнемоніка*; 2) эстрадна-цыркавы жанр, які заключаецца ў адгадванні лічбаў, назваў прадметаў, імёнаў пры дапамозе адпаведнага шыфра.

**МНЕМО́МЕТР** (ад гр. mneme = памяць + *-метр*) — апарат, які ўжываецца псіхолагамі для даследавання памяці.

**МНЕМО́НІКА** (гр. mnemonika = майстэрства запамінання) — сукупнасць правіл і прыёмаў, якія маюць на мэце аблягчыць запамінанне як мага большай колькасці звестак і фактаў.

**МНІЁБРЫЙ** (н.-лац. mniobryum) — лістасцябловы мох сям. брыевых, які трапляецца па берагах рэчак, ручаёў, канаў, на балотах.

**МНІЙ** (н.-лац. mnium) — лістасцябловы мох сям. брыевых, які расце на глебе, гнілой драўніне, камянях.

**МНІХ** (польск. mnich < чэш. mnich, ад гр. monachos) — *уст.* манах.

**МНІ́ШКА** (польск. mniszka) — *уст.* манашка.

**МО́ДА** (фр. mode, ад лац. modus = спосаб) — 1) непрацяглае панаванне пэўнага густу ў якой-н. сферы жыцця або культуры; 2) узор адзення, туалету, які прапануецца на пэўны час; 3) звычка, спосаб паводзін.

**МО́ДЛЫ** (польск. modly) — *уст.* малітвы.

**МО́ДУЛЬ** (лац. modulus = мера) — 1) назва важнага каэфіцыента, мерка якой-н. велічыні ці ўласцівасці (напр. м. пругкасці); 2) *мат.* пастаянны множнік, на які трэба памножыць *лагарыфм* адной сістэмы, каб атрымаць лагарыфм другой сістэмы; 3) умоўная адзінка даўжыні, якая ўжываецца для

каардынацыі памераў збудаванняў і іх частак; 4) частка (вузел) складанай сістэмы, якая выконвае самастойную функцыю ў розных тэхнічных канструкцыях; 5) частка касмічнага карабля, якая можа самастойна ажыццяўляць палёт.

**МО́ДУС** (лац. modus = мера, спосаб) — 1) разнавіднасць, праяўленне, норма; 2) *філас.* мінучы стан або мінучая ўласцівасць матэрыі; 3) *лог.* разнавіднасць *сілагізму*.

**МО́ДУС ВІВЭ́НДЗІ** (лац. modus vivendi = спосаб жыцця) — 1) часовы дагавор па якім-н. міжнародным пытанні, заключаны бакамі ў разліку на яго канчатковае ўрэгуляванне ў наступным; 2) фактычны стан адносін, які прызнаецца зацікаўленымі бакамі.

**МО́ДЫЙ** (лац. modius) — старажытная мера аб'ёму вадкасцей і сыпкіх цел, роўная ў старажытнарымскай сістэме мер прыблізна 9 л, у старажытнаарабскай — каля 40 л.

**МО́ЙВА** (рус. мойва, ад фін. maiva дробная рыба) — марская рыба сям. корушкавых з падоўжаным і сплюснутым з бакоў целам; з'яўляецца аб'ектам промыслу.

**МО́КА** (ар. Mokka = назва порта ў Йемене) — адзін з лепшых гатункаў *кавы*.

**МОЛ** (іт. molo, ад лац. moles = насып) — агараджальнае збудаванне ў выглядзе доўгага вала, якое засцерагае караблі ў порце ад марскіх хваль.

**МОЛЬ** [1] (іт. molle = мяккі) — тое, што і *мінор* 1 (проціл. *дур.*)

**МОЛЬ** [2] (лац. moles = маса) — адзінка колькасці рэчыва ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), якая змяшчае столькі атамаў, іонаў ці малекул, колькі атамаў змяшчаецца ў 0,012 кг вугляроду-12.

**МО́МАНТ** (лац. momentum) — 1) імгненне, міг, вельмі кароткі прамежак часу; 2) этап у развіцці чаго-н., у жыцці каго-н. (напр. бягучы м.); 3) асобны бок якой-н. з'явы (напр. дадатны м.).

**МОНА-, МАНА-** (ад гр. monos = адзін) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «адно», «адзіна».

**МОНААКСІГЕНА́ЗЫ** (ад *мона-* + *аксігеназы*) — тое, што і *гідраксілазы*.

**МОНАГАТА́РЫ** (яп. monogatari) — агульная назва жанраў японскай апавядальнай літаратуры 9—14 ст.

**МОНАГЕНЕ́З** (ад *мона-* + *-генез*) — адна радаслоўная, супольнасць, аднолькавасць паходжання.

**МОНАГЕНЕ́І** (н.-лац. monogenea) — клас плоскіх чарвей; арганізмы з прадаўгаватым целам даўжынёй ад 0,02 мм да 3 см, на заднім канцы якога ёсць прымацавальны дыск з кручкамі і прысоскамі; *эктапаразіты* рыб, *эндапаразіты* земнаводных, чарапах, бегемотаў; смактуны-мнагавуснікі.

**МОНАГЕНІ́ЗМ** (ад *мона-* + гр. genos = род, паходжанне) — тэорыя ў *антрапалогіі*, паводле якой усе расы чалавека маюць агульнае паходжанне і ўяўляюць сабой адзін від у біялагічным сэнсе (проціл. *палігенізм*).

**МОНАГІБРЫ́Д** (ад *мона-* + *гібрыд*) — арганізм, які паходзіць ад бацькоў, што генетычна адрозніва-

# М

юцца паміж сабой толькі адной прыметай (параўн. *полігібрыд*).

**МОНАГІДРА́Т** (ад *мона-* + *гідрат*) — бязводная серная кіслата, бясколернае алеістае рэчыва.

**МОНАГЛЯЦЫЯЛІ́ЗМ** (ад *мона-* + лац. glacies = лёд) — гіпотэза аднаразовасці покрыўнага абледзянення ў чацвярцічным (антрапагенавым) перыядзе (параўн. *полігляцыялізм*).

**МОНАКАРПІ́ЧНЫ** (ад *мона-* + гр. karpos = плод); м ы я р а с л і н ы — расліны, якія цвітуць і пладаносяць адзін раз у жыцці, пасля чаго гінуць; м-ымі з'яўляюцца ўсе аднагадовыя і двухгадовыя расліны, а таксама пальма, агава, бамбук (параўн. *полікарпічны*).

**МОНАКЛІНА́ЛЬ** (ад *мона-* + гр. klino = нахіляюся) — форма залягання слаёў горных парод з аднолькавым нахілам у адзін бок.

**МОНАКРЫШТА́ЛЬ** (ад *мона-* + *крышталь*) — адзіночны крышталь, які мае аднародную крышталічную рашотку (параўн. *полікрышталь*).

**МОНАКУЛЬТУ́РА** (ад *мона-* + *культура*) — вырошчванне на працягу многіх гадоў адной і той жа сельскагаспадарчай культуры на адным полі.

**МОНАКУЛЯ́Р** (ад *мона-* + *акуляр*) — аптычны прыбор з адным акулярам (напр. падзорная труба).

**МОНАМАЛЕКУЛЯ́РНЫ** (ад *мона-* + *малекулярны*) — які мае адносіны да слоя рэчыва таўшчынёй у адну *малекулу*.

**МОНАМЕТАЛІ́ЗМ** (ад *мона-* + *метал*) — грашовая сістэма, пры якой у аснову грашовага абарачэння пакладзены адзін валютны метал (золата або срэбра).

**МОНАМЕТЫЛГІДРАЗІ́Н** (ад *мона-* + *метыл* + *гідразін*) — бясколерная дымячая на паверхні гіграскапічная вадкасць з аміячным пахам; з'яўляецца палівам для вадкасных ракетных рухавікоў.

**МОНАНУКЛЕАТЫ́ДЫ** (ад *мона-* + *нуклеатыды*) — тое, што і *нуклеатыды*.

**МОНАНУКЛЕО́З** (ад *мона-* + лац. nucleus = ядро) — вострае інфекцыйнае захворванне, якое выяўляецца павелічэннем лімфатычных вузлоў, ліхаманкай, ангінай, зменамі ў крыві.

**МОНАПЛАІ́ДЫЯ** (ад *мона-* + гр. aploos = просты + eidos = выгляд) — тое, што і *гаплаідыя*.

**МОНАПЛАКАФО́РЫ** (н.-лац. monoplacophora) — клас *малюскаў*, якія жывуць на вялікіх глыбінях.

**МОНАСЕМІ́Я** (ад *мона-* + гр. sema = знак; значэнне) — *лінгв.* адназначнасць слова або выразу (проціл. *полісемія*).

**МОНАСІЛАБІ́ЗМ** (ад гр. monosyllabos = аднаскладовы) — *лінгв.* аднаскладовасць, аднаскладовы характар слоў у якой-н. мове.

**МОНАСПЕРМІ́Я** (ад *мона-* + *сперма*) — апладненне яйцаклеткі адной мужчынскай *гаметай* (параўн. *поліспермія*).

**МОНАСТРАФА́** (гр. monostrophos = аднастрофны, ад monos = адзін, адзіны + strophe = страфа) — від цэласнай, структурна завершанай страфічнай формы (напр. прыпеўка).

**МОНАТЭ́ІЗМ** (ад *мона-* + *тэізм*) — рэлігія, якая прызнае адзінабожжа (проціл. *політэізм*).

**МОНАТЭМАТЫ́ЗМ** (ад *мона-* + *тэма*) — прынцып пабудовы музычнага твора, які характарызуецца аб'яднаннем санатна-сімфанічнага цыкла адной тэмай (параўн. *політэматызм*).

**МОНАФЕЛІ́ТЫ** (ад *мона-* + гр. thelema = воля) — прыхільнікі *монафеліцтва*.

**МОНАФЕЛІ́ЦТВА** (ад *монафеліты*) — хрысціянскае вучэнне, якое склалася ў 7 ст. у Візантыі як афіцыйны кампраміс паміж артадаксальнай догмай і *монафізіцтвам*.

**МОНАФІЗІ́ТЫ** (ад *мона-* + гр. physis = прырода) — прыхільнікі *монафізіцтва*.

**МОНАФІЗІ́ЦТВА** (ад *монафізіты*) — плынь у *хрысціянстве*, якая ўзнікла ў 5 ст. у Візантыі і прызнавала наяўнасць у Хрыста толькі адной боскай прыроды, адмаўляючы чалавечую сутнасць.

**МОНАФІЛІ́Я** (ад *мона-* + гр. phylon = род, племя) — паходжанне пэўнай групы арганізмаў ад аднаго агульнага продка (параўн. *поліфілія*).

**МОНАХРАМА́ТАР** (ад *мона-* + гр. chroma, -atos = колер) — прыбор для выдзялення вузкіх інтэрвалаў частот або даўжынь хваль светлавога спектра.

**МОНАХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *мона-* + *храматычны*) — аднаколерны, не змешаны; м - а е с в я т - л о — святло, якое характарызуецца пэўнай даўжынёй светлавой хвалі (параўн. *поліхраматычны*).

**МОНАЦУКРЫ́ДЫ** (ад *мона-* + *цукрыды*) — клас арганічных злучэнняў, простыя вугляводы, няздольныя да гідролізу (напр. *глюкоза, фруктоза*).

**МОНАЦЫТО́З** (ад *мона-* + *-цытоз*) — залішняя колькасць *манацытаў* у перыферычнай крыві пры некаторых інфекцыйных захворваннях (туберкулёзе, сіфілісе, лейшманіёзе і інш.) і запаленчых працэсах у арганізме.

**МОНАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *мона-* + *цэнтр*) — тэорыя ў *антрапалогіі* аб паходжанні чалавека сучаснага тыпу і людскіх рас ад адной формы выкапнёвага чалавека ў адной вобласці зямнога шара (проціл. *поліцэнтрызм*).

**МОНДЫЯЛІ́ЗМ** (ад фр. mondial = сусветны) — 1) глабальнае мысленне, агульначалавечы светапогляд, які разглядае насельніцтва Зямлі як адзіную папуляцыю; 2) грамадска-палітычны рух за ўстанаўленне ўлады адзінага сусветнага ўраду.

**МОНСТР** (фр. monstre, ад лац. monstrum = пачвара) — пачвара, страшыдла (аб тым, што здзіўляе сваёй незвычайнасцю, памерамі і г.д.).

**МОНТМАРЫЛАНІ́Т** (фр. montmorillonite, ад Montmorillon = назва горада ў Францыі) — мінерал класа *сілікатаў* белага колеру з шараватым, чырванаватым адценнямі; выкарыстоўваецца ў нафтавай, тэкстыльнай, гумавай, папяровай і іншых галінах прамысловасці.

**МО́НТЭ** (ісп. monte) — расліннасць ксерафітна-сукулентных хмызнякоў (акацыі, мімозы, паслёнавыя, кактусы) на сухіх узвыша-

ных раўнінах Венесуэлы, Парагвая і Аргенціны.

**МО́НЦЫЯ** (н.-лац. montia) — травяністая расліна сям. партулакавых з мясістым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ва ўмераных і трапічных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка па берагах рэк, азёр, на забалочаных лугах.

**МОПС** (ням. Mops) — парода пакаёвых сабачак з кароткай мордай, круглай галавой і густой кароткай шэрсцю.

**МО́РА** (лац. mora = прамежак часу, паўза) — адзінка часу ў антычнай паэзіі, неабходная для вымаўлення аднаго кароткага склада.

**МОРГ**[1] (ст.-польск. morg, ад с.-в.-ням. morgen = раніца) — адзінка вымярэння плошчы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага (роўная 0,71 га) і Польшчы (роўная 0,56 га); ужывалася ў Зах. Беларусі да 1939 г.

**МОРГ**[2] (рус. морг, ад фр. morgue) — спецыяльнае памяшканне пры бальніцах, куды выносяцца трупы; трупярня.

**МО́РГЕН** (ням. morgen) — зямельная мера ў Германіі, роўная 0,25—0,26 га.

**МОРЖ** (рус. морж, ад саамск. moršša) — млекакормячая жывёла атрада ластаногіх з кароткай шэрсцю і вялікімі ікламі, якая жыве ў арктычных морах.

**МО́РЗЕ** [англ. S.Morse = прозвішча амер. вынаходцы (1791—1872)] — тэлеграфны код, дзе кожнай літары алфавіта адпавядае вызначаная камбінацыя кропак і рысак; выкарыстоўваецца для перадачы інфармацыі на адлегласць; азбука м.

**МОРС** (рум. mursa, ад лац. mulsum = мядовы напітак) — напітак, прыгатаваны з ягаднага або фруктовага соку.

**МО́РУЛА** (н.-лац. morula, ад лац. morum = тутавая ягада) — стадыя развіцця зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека (папярэднічае *бластуле*), на якой зародак мае выгляд згуртавання клетак накшталт ягады ажыны.

**МОРФ** (гр. morphe = форма) — *лінгв.* найменшая непадзельная значная частка слова.

**МО́РФА** (гр. morphe = выгляд, форма) — *біял.* таксанамічная адзінка, ніжэйшая за гатунак, якая выяўляе пэўныя адхіленні ад дадзенага тыпу.

**МО́РФІЙ** (ням. Morphium, ад гр. Morpheios = бог сну ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — тое, што і *марфін*.

**-МОРФЫ, -МОРФНЫ** (гр. morphe = форма) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да формы, віду.

**МО́СЕНЖ** (польск. mosiądz, ад ням. messing) — *уст.* латунь.

**МО́ТА** (іт. motto = слаўцо, дасціп) — 1) дасціпны выраз; 2) кароткі *эпіграф*.

**МОТА-** (ад лац. motor = які прыводзіць у рух) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «маторны», «матарызаваны», «матацыклетны».

**МОТААМА́ТАР** (ад *мота-* + *аматар*) — вадзіцель матацыкла, матаролера або мапеда, які мае пасведчанне на права ваджэння і не з'яўляецца прафесіяналам.

**МОТАБО́Л** [ад *мота-* + *(фут)бол*] — футбол на матацыклах.

**МОТАБО́Т** (ад *мота-* + *бот*) — невялікае маторнае судна.

**МОТАВЕЛАСПО́РТ** (ад *мота-* + *веласпорт*) — від спорту і спартыўных спаборніцтваў на матацыклах і веласіпедах.

**МОТАДРО́М** (ад *мота-* + *-дром*) — месца, прыстасаванае для спаборніцтваў па матацыклетнаму спорту і выпрабавання матацыклаў.

**МОТАДРЫЗІ́НА** (ад *мота-* + *дрызіна*) — дрызіна з рухавіком унутранага згарання.

**МОТАКАЛО́НА** (ад *мота-* + *калона*) — калона аўтамабіляў, матацыклаў, якія рухаюцца ў пэўным парадку.

**МОТАКЛУ́Б** (ад *мота-* + *клуб*) — клуб, які аб'ядноўвае аматараў матацыклетнага спорту.

**МОТАКРО́С** (ад *мота-* + *крос*) — спартыўныя гонкі на матацыклах па перасечанай мясцовасці.

**МОТАПАТРУ́ЛЬ** (ад *мота-* + *патруль*) — міліцэйскі патруль на матацыклах.

**МОТАПЕ́Д** [ад *мота-* + *(веласі)пед*] — тое, што і *мапед*.

**МОТАРО́ЛЕР** (англ. motoroller) — від матацыкла з коламі невялікага дыяметра.

**МОТАРЭСУ́РС** (ад *мота-* + *рэсурс*) — працягласць дзеяння рухавіка ўнутранага згарання да планавага капітальнага рамонту.

**МОТАСПО́РТ** (ад *мота-* + *спорт*) — спорт з выкарыстаннем матацыклаў і мотаролераў.

**МОТАФЕЛЮ́ГА** (ад *мота-* + *фелюга*) — невялікае маторнае рыбалоўнае бяспалубнае судна.

**МО́ШАСТ** (літ. maššastas) — *уст.* крэп, аксаміт.

**МУА́Р** (рус. муар, ад фр. moire) — шаўковая тканіна, якая пераліваецца рознымі адценнямі.

**МУАРАВА́ЦЬ** (фр. moirer) — надаваць тканіне, паперы або малюнку пералівісты характар; падрабляць пад *муар*.

**МУЖО́ЦЫЯ** (н.-лац. mougeotia) — ніткаватая зялёная водарасць сям. зігнемавых, якая трапляецца ў прэсных, пераважна стаячых, слабапраточных і вапнавых водах.

**МУ́ЗА** (польск. muza < лац. musa, ад гр. musa) — 1) кожная з дзевяці багінь, заступніц навук і мастацтваў, у старажытнагрэчаскай міфалогіі (напр. Мельпамена — муза трагедыі, Тэрпсіхора — муза танцаў); 2) *перан.* крыніца паэтычнага натхнення, а таксама само натхненне, творчасць (напр. м. Купалы).

**МУЗЕ́Й** (лац. museum, ад гр. museion = храм муз) — установа, якая збірае, вывучае і выстаўляе для паказу помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, а таксама прыродазнаўчыя калекцыі.

**МУЗІЦЫ́РАВАЦЬ** (ням. musizieren) — іграць на музычным інструменце, займацца *музыкай*.

**МУ́ЗЫКА** [польск. muzyka < лац. musica, ад гр. musike (techne) = музычнае мастацтва] — 1) від мастацтва, які адлюстроўвае рэчаіснасць у гукавых вобразах, а таксама творы гэтага мастацтва; 2) выкананне твораў гэтага мастацтва; 3) *перан.* прыемнае для слыху гу-

чанне чаго-н. (напр. м. размовы, м. ручая).

**МУЗЫ́КА** (польск. muzyk < лац. musicus, ад гр. musikos = музычны) — музыкант-выканаўца; той, хто іграе на музычным інструменце.

**МУЗЫКА́ЛЬНЫ** (лац. musicalis) — 1) здатны да музыкі, здольны ўспрымаць і правільна перадаваць яе (напр. м. слых, м. чалавек); 2) прыемны на слых, меладычны (напр. м. голас).

**МУЗЫКА́НТ** (ням. Musikant, ад лац. musica = музыка) — той, хто займаецца *музыкай* як мастацтвам або іграе на музычным інструменце.

**МУКАПОЛІЦУКРЫ́ДЫ** (ад лац. mucus = слізь + *поліцукрыды*) — складаныя поліцукрыды, жэлепадобныя рэчывы, якія выконваюць у арганізме жывёл і чалавека ролю прыроднага змазачнага матэрыялу.

**МУКАПРАТЭІ́ДЫ** (ад лац. mucus = слізь + *пратэіды*) — тое, што і *мукоіды*.

**МУКО́ІДЫ** (ад лац. mucus = слізь + *-оід*) — складаныя бялкі з групы глікапратэідаў, якія змяшчаюцца ў рагавіцы, храстках, сліне, мачы і інш.

**МУКО́Р** (н.-лац. mucor) — ніжэйшы грыб сям. мукоравых, які расце на раслінных рэштках, экскрэментах жывёл, глебе, харчовых прадуктах.

**МУКСУ́Н** (тат. muksun) — прэснаводная рыба сям. ласасёвых, якая водзіцца ў сібірскіх рэках і азёрах.

**МУЛ** (лац. mulus) — дамашняя жывёла, помесь асла з кабылай.

**МУЛА́** (кр.-тат. mulla, ад ар. maulā = пан, уладар) — мусульманскі святар.

**МУЛА́Т** (ісп. mulato, ад ар. muvallad = нечыстакроўны араб) — нашчадак ад шлюбу белых і неграў.

**МУЛІНЭ́** (рус. мулине, ад фр. moulinet = суканы шоўк) — баваўняныя або віскозныя ніткі для вышывання.

**МУЛІ́Т** (ад англ. mull = назва вострава ў Шатландыі) — мінерал класа *сілікатаў* у выглядзе бясколерных або ружавата-белых крышталікаў; выкарыстоўваецца ў керамічнай прамысловасці.

**МУ́ЛЬДА** (ням. mulde = карыта) —1) металічная скрыня для механізаванай загрузкі шыхтавых матэрыялаў у сталеплавільную печ; 2) форма, у якую заліваюць метал, каб атрымаць злітак; 3) форма залягання слаёў горных парод у выглядзе чашы.

**МУЛЬТА́Н** [1] (польск. multan, ад фр. molleton) — баваўняная ворсістая тканіна.

**МУЛЬТА́Н** [2] (ст.-польск. multan, ад Multany = Малдавія) — 1) гатунак тытуню; 2) *гіст.* кароткі двухбаковавостры меч.

**МУЛЬТО́ГРАФ** (ад *мульты-* + *-граф*) — устройства для атрымання вялікай колькасці адбіткаў машынапісу, а таксама малюнкаў.

**МУЛЬТФІ́ЛЬМ** [ад *мульт(ыплікацыя)* + *фільм*] — фільм, створаны метадам мультыплікацыі.

**МУЛЬТЫ-** (лац. multum = многа) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на шматлікасць прадметаў або на шматразовасць дзеянняў, функцый.

**МУЛЬТЫВАЛЕ́НТЫ** (ад *мульты-* + лац. valens, -ntis = моцны) — аб'яднанні больш чым дзвюх храмасом, якія зрэдку ўтвараюцца пры дасяванні палавых клетак на стадыі *меёзу* (параўн. *біваленты*).

**МУЛЬТЫВІБРА́ТАР** (ад *мульты-* + *вібратар*) — *генератар* імпульсаў электрычных ваганняў, працягласць якіх звычайна роўная інтэрвалу паміж імі; выкарыстоўваецца ў аўтаматыцы, тэлебачанні, вылічальнай тэхніцы і інш.

**МУЛЬТЫЛАТЭРА́ЛЬНЫ** (ад *мульты-* + лац. lateralis = бакавы) — міжнародны рознабаковы дагавор, заключаны больш як дзвюма дзяржавамі.

**МУЛЬТЫМІЛЬЯНЕ́Р** (фр. multimillionnaire) — уладальнік многамільённага багацця, капіталу.

**МУЛЬТЫПЛЕ́КС** (лац. multiplex = складаны, шматкратны) — літарадрукавальны тэлеграфны апарат з аўтаматычнай перадачай адначасова некалькіх тэлеграм адным каналам сувязі.

**МУЛЬТЫПЛЕ́ТЫ** (лац. multipletus = складаны, шматкратны) — група спектральных ліній, якія размешчаны блізка адна ад другой.

**МУЛЬТЫПЛІКА́ТАР** (лац. multiplicator = які памнажае) — 1) фотакамера з некалькімі аб'ектывамі, якая дае адначасова некалькі здымкаў з аднаго прадмета; 2) спецыяліст па *мультыплікацыі*.

**МУЛЬТЫПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. multiplicatio = памнажэнне) — 1) кіназдымка паслядоўных фаз руху маляваных ці аб'ёмных фігур, што ствараюць ілюзію руху жывых персанажаў; 2) фільмы, створаныя пры дапамозе такой кіназдымкі.

**МУЛЬТЫПО́ЛЬ** (ад *мульты-* + *полюс*) — сістэма электрычных або магнітных полюсаў, якая характарызуецца пэўнай сіметрыяй.

**МУЛЬТЫПРАГРАМІ́РАВАННЕ** (ад *мульты-* + *праграміраванне*) — спосаб выкарыстання электронна-вылічальнай машыны для адначасовага выканання некалькіх праграм.

**МУЛЬТЫФУНКЦЫЯНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *мульты-* + лац. functio = дзейнасць) — выкананне органамі некалькіх *функцый*.

**МУЛЬТЫЦЫКЛО́Н** (ад *мульты-* + *цыклон*) — паветра- або газаачышчальны апарат, які складаецца з некалькіх невялікіх аднатыпных апаратаў (цыклонаў).

**МУ́ЛЬЧА** (англ. mulch = прэлая салома) — матэрыял для мульчыравання (гл. *мульчыраваць*).

**МУЛЬЧЫ́РАВАЦЬ** (ад англ. mulch = прэлая салома) — пакрываць паверхню глебы тарфяной крошкай, перагноем, апалым лісцем, каб палепшыць умовы росту раслін і захаваць структуру і вільготнасць глебы.

**МУЛЮ́РА** (фр. moulure = разьбленне) — *архіт.* аблом, дэталь, профіль.

**МУЛЯ́Ж** (фр. moulage) — злепак або мадэль прадмета ў натуральную велічыню, які выкарыстоўваецца ў якасці нагляднага дапаможніка пры выкладанні, а таксама для афармлення вітрын, у музейных экспазіцыях і інш.

**МУ́ЛЯР** (польск. mularz, ад с.-в.-ням. mūraere) — 1) рабочы, які

ўзводзіць будынкі з цэглы або каменю; 2) пячнік.

**МУМІФІКА́ЦЫЯ** (ад *мумія* + *-фікацыя*) — ператварэнне трупа ў мумію.

**МУ́МІЯ** [1] (ст.-фр. mumie < ар. mūmijā, ад перс. mūm = воск) —1) труп чалавека ці жывёлы, захаваны ад гніення бальзаміраваннем або высахлы ў выніку пэўных умоў асяроддзя; 2) *перан.* худы, маларухомы чалавек.

**МУ́МІЯ** [2] (ар. mūmijā, ад перс. mum = воск) — мінеральная фарба розных колераў (ад светла-чырвонага да чырванавата-карычневага).

**МУ́НГА** (н.-лац. mungo) — млекакормячае сям. віверавых шаравата-бурай афарбоўкі, пашыранае ў Афрыцы.

**МУ́НГУ** (манг. mungu) — разменная манета Манголіі, роўная сотай частцы *тугрыка*.

**МУНДЗІ́Р** (рус. мундир < ням. Montur, ад фр. monture = забеспячэнне) — ваеннае або цывільнае форменнае адзенне (для верхняй часткі цела).

**МУНІЦЫПАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. municipalisation, ад лац. municipalis = муніцыпальны) — прымусовая перадача маёмасці прыватных асоб у распараджэнне органаў гарадскога або сельскага самакіравання (*муніцыпалітэтаў*).

**МУНІЦЫПАЛІТЭ́Т** (фр. Munizipalität, ад лац. municipium = вольны горад) — орган гарадскога або сельскага самакіравання ў некаторых краінах (параўн. *магістрат* 2); 2) ніжэйшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Аўстраліі, Венесуэле і некаторых іншых краінах.

**МУНІЦЫПА́ЛЬНЫ** (лац. municipalis) — які знаходзіцца ў распараджэнні *муніцыпалітэта*.

**МУНІЦЫ́ПІІ** (лац. municipium) — 1) гарады з правам самакіравання ў Стараж. Рыме; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі ў некаторых дзяржавах Лац. Амерыкі (напр. на Кубе).

**МУНТЖА́К** (н.-лац. muntiacus) — парнакапытная жывёла сям. аленевых, пашыраная ў джунглях Паўд.-Усх. Азіі; аб'ект палявання.

**МУНЦ-МЕТА́Л** [ад англ. G. Muntz = прозвішча англ. металазнаўцы (памёр у 1857 г.) + *метал*] — меднацынкавы сплаў з прымесямі свінцу; выкарыстоўваецца для вырабу труб, дроту.

**МУР** (польск. mūr < с.-в.-ням. mure, ад лац. murus) — цагляны будынак або сцяна.

**МУРАВА́ЦЬ** (польск. murować, ад ням. mauren) — будаваць з цэглы або каменю, змацоўваючы цэментам або глінай.

**МУРЗА́** (тат. myrza, ад перс. mīrza) — тытул татарскай феадальнай знаці.

**МУРЫЕ́ЛА** (н.-лац. muriella) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларакокавых, якая пашырана ў тарфяна-балотных глебах.

**МУ́РЫН** (польск. murzyn < ст.-в.-ням. mōr, ад лац. maurus) — *уст.* негр, арап.

**МУРЭ́НА** (лац. muraena, ад гр. muraina) — марская рыба сям. мурэнавых, якая водзіцца ў трапічных і субтрапічных водах усіх акіянаў.

**МУС** (фр. mousse) — салодкая ежа з узбітай фруктовай або ягад-

най масы з жэлацінам ці маннай крупой.

**МУ́СІНГ** (гал. muizing) — вузел на тросе (*кноп*), які выкарыстоўваецца як апора для ног пры перамяшчэнні па тросе.

**МУСІ́РАВАЦЬ** (фр. mousser = пеніцца) — 1) узбіваць пену; 2) *перан.* перавялічваць значэнне чаго-н. (напр. м. асцярогу).

**МУ́СІЦЬ** (ст.-польск. musić, ад с.-в.-ням. müesen) — 1) быць абавязаным або прымушаным зрабіць што-н.; 2) мабыць, магчыма (у форме пабочнага слова).

**МУСКАВІ́Т** [лац. (vitrum) muscoviticum = шкло маскоўскае] — мінерал шэрага, зеленаватага або карычневага колеру са шкляным бляскам, сумесь гліны і паташу; выкарыстоўваецца ў радыё- і электратэхніцы.

**МУСКАРДЗІ́НА** (фр. muscardine) — грыбковая хвароба тутавага і дубовага шаўкапрадаў.

**МУСКАРЫ́Н** (н.-лац. muscarinum, ад лац. musca = муха) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў мухаморы, атрутнае рэчыва.

**МУСКА́Т** (фр. muscat, ад лац. muscus = мускус) — 1) мускатны арэх; 2) сорт вінаграду з духмянымі ягадамі; 3) дэсертнае віно з гэтага вінаграду.

**МУСКА́ТНІК** (фр. muscadier, ад лац. muscus = піжмо) — вечназялёнае дрэва сям. мускатнікавых з мясістымі жоўтымі пладамі, што змяшчаюць мускатныя арэхі, пашыранае ў тропіках.

**МУСКАТЭ́ЛЬ** (с.-лац. muscatellum, ад лац. muscus = піжмо) — 1) сорт вінаграду з духмянымі ягадамі; 2) салодкае віно з гэтага вінаграду.

**МУ́СКУЛ** (лац. musculus = *літар.* мышаня) — тканка жывога арганізма, здольная скарачацца і забяспечваць функцыю руху частак цела; мышца.

**МУСКУЛАТУ́РА** (ад лац. musculus = мышца) — сукупнасць *мускулаў* у арганізме; мышачная сістэма.

**МУ́СКУС** (лац. muscus) — вельмі пахучае рэчыва жывёльнага або расліннага паходжання, якое выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі.

**МУСЛІ́Н** (польск. muślin, ад фр. mousseline) — тонкая бавоўняная ці шаўковая тканіна палатнянага перапляцення.

**МУСО́Н** (фр. mousson, ад ар. mausim = пара года) — устойлівы сезонны вецер, які мяняе свой кірунак ад зімы да лета на процілеглы.

**МУСТ** (лац. mustum) — 1) свежы сок з вінаграду або іншых фруктаў; 2) маладое салодкае віно, якое не перабрадзіла.

**МУСТА́НГ** (англ. mustang, ад ісп. mestengo) — адзічэлы конь, які вадзіўся ў прэрыях Паўн. Амерыкі.

**МУСУЛЬМА́НІН** (тат. musulman, ад перс. moselmān) — той, хто вызнае *іслам*.

**МУСУЛЬМА́НСТВА** (ад *мусульманін*) — тое, што і *іслам*.

**МУСЦЬЕ́РСКІ** (фр. moustier, ад Moustier = назва мястэчка на поўдні Францыі); м - а я к у л ь т у - р а — пазнейшая культура ранняга *палеаліту*.

# М

**МУТАГЕНЕ́З** (ад лац. muto = змяняю + *-генез*) — працэс узнікнення *мутацый* 1.

**МУТАГЕ́ННЫ** (ад лац. muto = змяняю + *-генны*) — які мае адносіны да *мутагенаў*, выклікае *мутацыю* 1.

**МУТАГЕ́НЫ** (ад лац. muto = змяняю + *-ген*) — фізічныя, хімічныя і біялагічныя фактары, якія выклікаюць *мутацыю*.

**МУТАЗІЛІ́ТЫ** (ад ар. mu'tazila = якія адасобіліся) — прыхільнікі рацыяналістычнай плыні ў *ісламе*, што ўзнікла ў канцы 8 ст.

**МУТА́НТ** (лац. mutans, -ntis = які змяняе) — асобіна жывёл або раслін, якая ўзнікае ў выніку *мутацыі*.

**МУТАРАТА́ЦЫЯ** (ад лац. muto = змяняю + rotatio = вярчэнне) — уласцівасць раствораў аптычна актыўных злучэнняў з часам змяняць вярчэнне плоскасці *палярызацыі*.

**МУТАСКО́П** (ад лац. muto = змяняю + *-скоп*) — прататып кіно, від праекцыйнага апарата ў форме скрынкі, у якой праз акуляр можна бачыць рухомыя фотаздымкі.

**МУТА́ЦЫЯ** (ад mutatio = змяненне, змена) — 1) рэзкае змяненне спадчынных уласцівасцей у жывёл і раслін (проціл. *мадыфікацыя* 3); 2) ломка голасу ў падлеткаў з наступленнем палавой спеласці.

**МУТАЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *мутацыя*) — канцэпцыя ў *біялогіі*, якая разглядае эвалюцыю як скачкападобны працэс, што адбываецца незалежна ад знешняга асяроддзя.

**МУТО́Н** (фр. mouton = баран) — падоўжны або выпуклы выступ скальнага падножжа, выгладжаны леднікам.

**МУТУАЛІ́ЗМ** (ад лац. mutuus = узаемны) — адзін з відаў *сімбіёзу*, пры якім арганізмы, якія знаходзяцца ў сужыцці, прыносяць адзін другому карысць (напр. рак-самотнік і актынія).

**МУ́ТУЛЫ** (лац. mutuli) — *архіт.* плоскія нахільныя выступы над выносной плітой карніза ў дарычным *ордэры*.

**МУТЫ́ЗМ** (ад лац. mutus = нямы) — адмаўленне ад моўных зносін пры захаванні функцый маўленчага апарата; назіраецца пры псіхічных захворваннях.

**МУ́ФЕЛЬ** (ням. Muffel) — вогнетрывалая танкасценная камера або пасудзіна, куды змяшчаюць керамічныя, фарфоравыя і іншыя вырабы пры абпальванні для засцярогі ад непасрэднага ўздзеяння агню, сажы.

**МУФЛО́Н** (фр. mouflon, ад іт. muflone) — дзікі горны баран сям. пустарогіх, які водзіцца на астравах Міжземнага мора і ў Закаўказзі.

**МУ́ФТА** (рус. муфта, ад ням. Muffe) — 1) прыналежнасць жаночай вопраткі ў выглядзе цёплага, адкрытага з двух бакоў мяшочка для саграванне рук; 2) *тэх.* прыстасаванне для пастаяннага або часовага злучэння канцоў труб, валаў, стальных канатаў і інш.

**МУ́ФТЫЙ** (ар. mufti = які вызначае) — вышэйшая духоўная асоба ў мусульман, якая надзелена правам выносіць рашэнні па рэлігійна-юрыдычных пытаннях, даваць растлумачэнні і па выкарыстанні *шарыяту*.

**МУХАЯ́Р** (тур. muhayyer, ад ар. mukhayyer) — баваўняная тканіна з дабаўленнем шэрсці або шоўку.

**МУЦЫ́НЫ** (ад лац. mucus = слізь) — складаныя бялкі з групы *глікапратэідаў*, якія абумоўліваюць вязкасць і цягучасць выдзяленняў слізістых залоз і некаторых іншых вадкасцей жывёльнага арганізма.

**МУ́ШКЕЛЬ** (ням. Muschkeule) — драўляны малаток для канапачання драўляных суднаў, палуб і інш.

**МУШКЕ́Т** (фр. mousquet) — буйнакаліберное ружжо з кнотам для запальвання пораху, якое было на ўзбраенні пяхоты ў 16—17 ст.

**МУШКЕТО́Н** (фр. mousqueton) — кароткі *мушкет*, які быў на ўзбраенні конніцы ў 16—17 ст.

**МУШКЕЦЁР** (фр. mousquetaire, ад mousquet = мушкет) — салдат еўрапейскіх армій 16—17 ст., узброены *мушкетам*.

**МУШМУЛА́** (тур. mušmula) — дрэвавая або кустовая расліна сям. ружавых з мучністымі кісла-салодкімі пладамі, пашыраная на Каўказе, у Крыме, Туркменіі, Малой Азіі і на Балканскім паўвостраве, а таксама плады гэтай расліны.

**МУШТА́БЕЛЬ** (польск. musztabel, ад ням. Malstab) — падстаўка ў выглядзе доўгай палкі, якую жывапісцы выкарыстоўваюць як падпорку для рукі пры рабоце над дробнымі дэталямі карціны.

**МУ́ШТРА** (польск. musztra, ад ням. Muster) — 1) сістэма ваеннага навучання, выхавання, заснаваная на механічнай дысцыпліне, бяссэнсавым завучванні пэўных прыёмаў; 2) *перан.* вельмі строгі метад навучання, дрэсіроўка.

**МУШТРАВА́ЦЬ** (польск. musztrować, ад ням. mustern) —1) навучаць, выхоўваць жорсткімі метадамі, заснаванымі на механічнай дысцыпліне; 2) *перан.* мучыць несправядлівымі патрабаваннямі.

**МУШТУ́К** (польск. munsztuk, ад ням. Mundstück) — 1) невялікая трубачка, у якую ўстаўляюцца цыгарэты, а таксама свабодная ад тытуню частка папяроснай гільзы; 2) цуглі; 3) дэталь духавога музычнага інструмента, якую ў час ігры бяруць у рот або прыкладваюць да губ.

**МУЭДЗІ́Н** (ар. mu'addin) — служыцель пры мячэці, які з высокай вежы (*мінарэта*) заклікае вернікаў на малітву.

**МЫ́ЗА** (рус. мыза, ад эст. mōiz) — сядзіба з сельскагаспадарчымі будынкамі, хутар (пераважна ў Прыбалтыцы).

**МЫ́ТА** (польск. myto, ад ст.-в.-ням. mūta) — *гіст.* пошліна за правоз тавараў цераз граніцу ці па тэрыторыі дзяржавы.

**МЫ́ТНІК** (польск. mytnik) — *гіст.* служачы *мытніцы*.

**МЫ́ТНІЦА, МЫ́ТНЯ** (польск. mytnica, mytnia) — *гіст.* таможня.

**МЭ́БЛЯ** (фр. meuble) — прадметы абстаноўкі памяшкання (сталы, крэслы, канапы і інш.) для сядзення, ляжання, пісання і г.д.

**МЭ́ДЫСАН** (англ. madison) — групавы бальны танец амерыканска-канадскага паходжання з разнастайнымі фігурамі напружана-экспрэсіўнага характару.

**МЭ́НДАЛЬ** (польск. mendel, ад ням. Mandel) — дзесяць снапоў

збожжа, пастаўленых у кучку для прасушкі і накрытых распасцёртым снапом зверху; бабка.

**МЭР** (фр. maire, ад лац. maior = больш) — кіраўнік *муніцыпалітэта* ў Англіі, Францыі, ЗША і некаторых іншых краінах.

**МЭ́РЫЯ** (фр. mairie) — муніцыпальнае ўпраўленне, а таксама будынак, дзе яно размешчана.

**МЭ́ТА** (лац. meta) — тое, да чаго імкнуцца людзі і што хочуць ажыццявіць.

**МЭТР** (фр. maître) — *уст.* настаўнік; майстар у якой-н. галіне.

**МЮЗЕ́Т** (фр. musette) — 1) старадаўні французскі народны музычны інструмент тыпу валынкі; 2) вясёлы народны танец, што выконваецца пад акампанемент гэтага інструмента.

**МЮ́ЗІКЛ** (англ. musical = музычны) — 1) музычна-сцэнічны твор, пераважна камедыйнага характару, пабудаваны на выкарыстанні элементаў аперэты, балета, оперы і эстрады; 2) кінафільм такога характару.

**МЮ́ЗІК-ХО́Л** (англ. music-hall) — эстрадны тэатр, у якім выконваюцца тэматычныя эстрадныя агляды і праграмы.

**МЮІ́Д** (фр. muid) — старадаўняя мера сыпкіх рэчываў і вадкасцей у Францыі, роўная прыблізна 270 л.

**МЮЛЬ** (англ. mule = мул) — тое, што і *мюль-машына*.

**МЮЛЬ-МАШЫ́НА** (ад англ. mule = мул + машына) — машына для вырабу ваўнянай пражы.

**МЮ-МЕЗО́Н** (ад гр. mu = назва літары μ + *мезон*) — тое, што і *мюон*.

**МЮО́Н** [ад гр. mu = назва літары μ + (*мез*)*он*] — *фіз.* няўстойлівая дадатна або адмоўна зараджаная элементарная часцінка, маса якой большая за масу электрона прыблізна ў 207 разоў.

**МЮО́НІЙ** [ад *мю(он)* + *(электр)он*] — *фіз.* нестабільная сістэма з дадатна зараджанага мюона і электрона, па структуры аналагічнай атаму вадароду.

**МЮРЫ́Д** (ар. murid) — мусульманскі паслушнік, які павінен беззагаворачна падпарадкоўвацца вышэйшаму настаўніку — *імаму* або *шэйху*.

**МЮРЫДЫ́ЗМ** (ад *мюрыд*) — нацыянальна-вызваленчы рух горцаў Паўн. Каўказа ў 19 ст., у якім рэлігійнае вучэнне спалучалася з палітычнай барацьбой супраць усіх немусульман.

**МЮТУЭЛІ́ЗМ** (фр. mutuellisme, ад лац. mutuus = узаемны) — утапічнае вучэнне П.Прудона аб мірнай перабудове грамадства пры дапамозе пэўнай сістэмы крэдыту, пры якой адбываўся б абмен паслугамі паміж яго членамі.

**МЮТУЭЛІ́СТЫ** (фр. mutuellistes) — 1) паслядоўнікі *мютуэлізму*, 2) члены заснаванага ў 1828 у Ліёне (Францыя) таварыства ўзаемадапамогі ткацкіх майстроў.

**МЯСТЭ́ЧКА** (польск. miasteczko) — *уст.* вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада.

**МЯЧЭ́ЦЬ** (тур. mesčit, mečit, ад ар. masğid) — мусульманскі храм.

# Н

**НА́АС** (гр. naos) — галоўнае памяшканне антычнага храма, дзе знаходзілася скульптура бажаства.

**НААСФЕ́РА** (ад гр. noos = розум + *сфера*) — абалонка Зямлі, у якой выяўляецца ўплыў чалавека на структуру і хімічны склад *біясферы*.

**НАБА́Т** (цюрк. naubāt, ад ар. nauba) — 1) сігнал трывогі, які падаецца пры дапамозе звана; 2) вялікі вайсковы барабан у старажытнай Русі.

**НАБІЛІТЭ́Т** (лац. nobilitas, -atis = знаць) — кіруючыя вярхі рабаўладальніцкага класа ў Стараж. Рыме.

**НА́БЛА** (гр. nabla = арфа) — перавернутая літара грэчаскага алфавіта дэльта (Δ), якая выкарыстоўваецца ў якасці друкарскага элемента пры наборы матэматычных формул.

**НАБО́Б** (англ. nabob < інд. navāb, ад ар. nūvvāb) — 1) *тытул* правіцеляў індыйскіх правінцый у 17—19 ст.; 2) *перан.* еўрапеец, які разбагацеў у Індыі ў 18 ст.; 3) *перан.* вельмі багаты чалавек, які жыве ў раскошы.

**НАВАКАІ́Н** [ад лац. novus = новы + *(ка)каін*] — лекавы прэпарат, які ўжываецца для мясцовага абязбольвання, пры спазмах сасудаў і іншых захворваннях.

**НАВАКАІНАМІ́Д** (ад *навакаін* + *амід*) — лячэбны сродак, які па хімічнай структуры блізкі да навакаіну.

**НАВА́РХ** (гр. nauvarchos) — камандуючы флотам у Стараж. Грэцыі.

**НАВА́ТАР** (лац. novator = абнавіцель, вынаходца) — той, хто выкарыстоўвае новыя, прагрэсіўныя метады і прыёмы ў сваёй дзейнасці.

**НАВА́ТАРСТВА** (ад *наватар*) — 1) дзейнасць наватараў; 2) усё новае, прагрэсіўнае, што ўводзіцца ў якой-н. галіне.

**НАВА́ХА** (ісп. navaja) — халодная зброя, іспанскі доўгі складны нож.

**НАВА́ЦЫЯ** (лац. novatio = абнаўленне, змяненне) — 1) пагадненне бакоў аб замене аднаго заключанага імі абавязацельства другім; 2) новаўвядзенне.

**НАВЕ́ЛА** (іт. novella) — 1) невялікі празаічны твор са строгай кампазіцыяй, адсутнасцю апісальнасці і нечаканым фіналам; 2) *юр.* змена, якую новы закон уносіць у дзеючае заканадаўства.

**НАВЕЛЕ́ТА** (іт. novelletta = кароткае апавяданне) — *муз.* невялікая інструментальная (пераважна фартэпіянная) п'еса ліра-эпічнага, часам драматычнага характару.

**НАВЕЛІ́СТ** (іт. novellista) — аўтар *навел*.

**НАВЕ́ЛІЯ** (н.-лац. navellia) — пячоначны мох сям. цэфалозіевых, які трапляецца ў цяністых, вільготных і забалочаных лясах на гнілой драўніне.

# Н

**НАВЕ́ЛЫ** [лац. novellae (leges) = новыя законы] — новы закон, які ўносіць змены ў існуючае заканадаўства.

**НАВІГА́ТАР** (лац. navigator) — спецыяліст у галіне *навігацыі*.

**НАВІГА́ЦЫЯ** (лац. navigatio = суднаходства, мараплаванне) — 1) навука аб спосабах і метадах вадзіць караблі, самалёты і касмічныя лятальныя апараты; 2) суднаходства, мараплаванне, а таксама перыяд часу, калі па мясцовых кліматычных умовах яно магчыма.

**НАВІГРА́Ф** [ад *наві(гацыя)* + *-граф*] — авіяцыйны прыбор на лятальных апаратах для вызначэння пройдзенага шляху, хуткасцей ветру і руху апарата.

**НАВІ́КУЛА** (н.-лац. navicula) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў вадаёмах рознага тыпу.

**НАГА́ЙКА** (укр. нагайка, ад цюрк. nagaj = нагаец) — кароткі раменны плецены бізун.

**НАГА́Н** (рус. наган, ад бельг. Nagyan = прозвішча бельг. збройніка) — *рэвальвер* з барабанам на сем патронаў, які круціцца.

**НАГА́ТА** (ад ар. nagh = адборная манета) — тое, што і *дырхем*.

**НА́ГЕЛЬ** (ням. Nagel = цвік) — вялікі металічны або драўляны стрыжань, які выкарыстоўваецца для мацавання драўляных канструкцый.

**НАГІЯГІ́Т** (ад рум. Nagiag = назва мясцовасці ў Румыніі) — мінерал класа *сульфідаў* свінцова-шэрага колеру з металічным бляскам; сыравіна для атрымання золата.

**НАДЗІ́Р** (ар. nazir) — *астр.* пункт перасячэння нябеснай сферы з вертыкальнай лініяй, праведзенай уніз ад плоскасці гарызонта (проціл. *зеніт* 1).

**НАДУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. nodularia) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. надулярыевых, якая трапляецца ў марской, саланаватай і прэснай вадзе, у глебе, на скалах, кары дрэў.

**НА́ДФІЛЬ** (ням. Nadelfeile) — невялікі напільнік з дробнай насечкай для апрацоўкі дакладных дэталей.

**НАЖДА́К** (цюрк. nadžak) — дробназярністая горная парода, якая складаецца з сумесі карунду з іншымі мінераламі, а таксама парашок з гэтай горнай пароды, якім шліфуюць і чысцяць металічныя вырабы і шкло.

**НАЗААРЭА́Л** (ад гр. nosos = хвароба + *арэал*) — вобласць распаўсюджання пэўнай хваробы або групы хвароб.

**НАЗАГЕАГРА́ФІЯ** (ад гр. nosos = хвароба + *геаграфія*) — раздзел медыцынскай геаграфіі, які вывучае заканамернасці тэрытарыяльнага пашырэння хвароб чалавека.

**НАЗАГРА́ФІЯ** (ад гр. nosos = хвароба + *-графія*) — раздзел *медыцыны*, які займаецца апісаннем хвароб.

**НАЗАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. nasalisation, ад лац. nasus = нос) — *лінгв.* вымаўленне гукаў з насавым адценнем.

**НАЗАЛО́ГІЯ** (ад гр. nosos = хвароба + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які ўключае вучэнне аб хваробах, іх класіфікацыю, дыягносты-

ку, агульныя прынцыпы лячэння і прафілактыку захворванняў.

**НАЗА́ЛЬНЫ** (фр. nasal, ад лац. nasus = нос) — *лінгв.* насавы (галосны або зычны гук).

**НАЗАРЭ́І** (лац. nazaraeus, ад лац. Nazoraios) — 1) назва хрысціян у першапачатковы перыяд пашырэння *хрысціянства*; 2) рэлігійная секта, што існавала ў Расіі з сярэдзіны 19 да пач. 20 ст.

**НАЗАРЭ́ЙЦЫ** (ням. Nazarener, ад ст.-яўр. Nazaret = назва горада, дзе нібыта нарадзіўся Хрыстос) — група нямецкіх і аўстрыйскіх мастакоў-рамантыкаў, што ў пач. 19 ст. працавалі ў Рыме і намагаліся адрадзіць рэлігійнае мастацтва ў духу майстроў сярэдневякоўя і ранняга Адраджэння.

**НАЗАФО́БІЯ** (ад гр. nosos = хвароба + *-фобія*) — неадчэпны страх перад смяртэльнай хваробай, *сімптом* псіхічнага разладу.

**НАЗЕ́МА** (гр. nosema = хвароба, зло) — прасцейшае атрада *мікраспарыдый*, якое паразітуе ў клетках насякомых.

**НАЗЕМАТО́З** (ад *назема*) — хвароба насякомых, пераважна шаўкапрадаў і пчол, якая выклікаецца аднаклетачнымі паразітамі наземамі.

**НАІ́Б** (ар. naib = намеснік) — намеснік або памочнік начальніка ці духоўнай асобы ў некаторых мусульманскіх краінах.

**НАІ́ДЫ** (н.-лац. nais) — кольчатыя чэрві сям. *наідыдаў*, пашыраны ў прэсных вадаёмах па ўсім зямным шары.

**НАІДЫ́ДЫ** (н.-лац. naididae) — сямейства кольчатых чарвей класа малашчацінкавых; пашыраны ў прэсных вадаёмах, часам у прыбярэжнай зоне мораў.

**НАЙТО́Ў** (гал. naaitouw) — *мар. трос*, пры дапамозе якога мацуюцца розныя прадметы на судне.

**НАКА́РДЫІ** (н.-лац. nocardiaceae) — сямейства *актынаміцэтаў*, пашыраны пераважна ў глебе; удзельнічаюць у разлажэнні сінтэтычных матэрыялаў.

**НАКА́ЎТ** (англ. knock-out, ад knock = ударыць + out = вон) — стан спартсмена ў боксе, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, не можа падняцца на ногі на працягу 10 секунд і лічыцца пераможаным.

**НАКДА́ЎН** (англ. knock-down, ад knock = ударыць + down = уніз) — стан спартсмена, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, можа на працягу 10 секунд падняцца на ногі і працягваць бой.

**НАКТАМБУЛІ́ЗМ** (ад лац. nox, noctis = ноч + ambulare = гуляць) — тое, што і *самнамбулізм*.

**НАКТО́УЗ** (гал. nagthuis) — драўляная тумба, якая з'яўляецца падстаўкай для компаса на судне.

**НАКЦЮ́РН** (фр. nocturne = начны) — невялікі музычны твор лірычнага характару.

**НАКШТА́ЛТ** (польск. na kształt, ад na = на + kształt < с.-в.-ням. gestalt = узор) — на манер, на ўзор (напр. будынак н. вежы).

**НАМАГЕНЕ́З** (ад гр. nomos = закон + *-генез*) — антыдарвінаўская канцэпцыя развіцця жывой прыроды, паводле якой эвалюцыя арганізмаў адбываецца не на аснове прыроднага адбору, а пад уздзеяннем унутраных заканамернасцей (гл. таксама *аўтагенез*).

# Н

**НАМАГРА́МА** (ад гр. nomos = закон + *-грама*) — *мат.* графік, якім выражаецца функцыянальная залежнасць паміж велічынямі.

**НАМАГРА́ФІЯ** (ад гр. nomos = закон + *-графія*) — раздзел *матэматыкі*, які аб'ядноўвае тэорыю і практычныя спосабы пабудовы *намаграм*.

**НАМА́ДЫ** (гр. nomades) — плямёны, якія качуюць; качэўнікі.

**НАМА́З** (перс. nāmāz) — мусульманскі рэлігійны абрад, пры якім малітва суправаджаецца мыццём рук і рытуальнымі рухамі.

**НАМАКАНО́Н** (с.-гр. nomokanon, ад гр. nomos = закон + kanon = правіла) — зборнік царкоўных *канонаў* і грамадзянскіх законаў, якія датычылі быту і сямейнага права Візантыйскай імперыі.

**НАМА́РХ** (гр. nomarches) — правіцель *нома* 1, царскі намеснік у Стараж. Егіпце.

**НАМЕНКЛА́ТАР** (лац. nomenclator) — 1) нявольнік, які пастаянна суправаджаў рабаўладальніка ў Стараж. Рыме; 2) *уст.* спіс, рэестр тэрмінаў з галіны якой-н. навукі, пералік асоб, каталог.

**НАМЕНКЛАТУ́РА** (лац. nomenclatura = пералік, спіс імён) — 1) сукупнасць або пералік назваў, тэрмінаў, якія ўжываюцца ў якой-н. галіне навукі, тэхнікі, вытворчасці; 2) спіс кадравых пасад, якія зацвярджаюцца вышэйшай арганізацыяй.

**НАМІНА́Л** (лац. nominalis = імянны) — 1) *намінальная* вартасць, якая абазначаецца на грашах, акцыях, аблігацыях; 2) цана тавару, якая абазначана ў прэйскурантах або на саміх таварах.

**НАМІНАЛІ́ЗМ** (ад лац. nominalis = імянны) — кірунак у сярэдневяковай філасофіі, паслядоўнікі якога лічылі, што рэальна існуюць толькі адзінкавыя прадметы, а агульныя паняцці з'яўляюцца прадуктам чалавечай думкі.

**НАМІНА́ЛЬНЫ** (лац. nominalis = імянны) — 1) выражаны грашовай вартасцю, якая ўказана на чым-н. (напр. н-ая цана тавару); 2) які толькі называецца, але не выконвае сваіх функцый (н. кіраўнік).

**НАМІНАТЫ́Ў** [лац. (casus) nominativus] — *лінгв.* назоўны склон.

**НАМІНАТЫ́ЎНЫ** (лац. nominativus = звязаны з называннем) — 1) *лінгв.* які служыць для называння, абазначэння прадметаў, з'яў, якасцей, дзеянняў (напр. н. сказ); 2) які мае адносіны да *намінатыву*.

**НАМІНА́ЦЫЯ** (лац. nominatio) — называнне чаго-н.

**НАНАКА́РА** (н.-лац. nannacara) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў вадаёмах Паўд. Амерыкі; вядома як акварыумная.

**НАНАКО́РД** (ад *нона* + *акорд*) — акорд з пяці рознаіменных гукаў, якія размеркаваны або могуць быць размеркаваны па *тэрцыях*.

**НАНАПЛАНКТО́Н** (ад гр. nanos = карлік + *планктон*) — самыя малыя (меншыя за 0,05 мм) арганізмы планктону.

**НАНАРЭЛЬЕ́Ф** (ад гр. nanos = карлік + *рэльеф*) — самыя дробныя формы рэльефу зямной паверхні, утвораныя ў выніку карставых з'яў, дзейнасці ветру, а таксама жыццядзейнасці жывёл і чалавека.

**НАНАСТО́МУС** (н.-лац. nannostomus) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў стаячых і

слабапраточных вадаёмах паўночнай часткі Паўд. Амерыкі; на Беларусі вядома як акварыумная.

**НА́НДУ** (ісп. nandu, ад індз. nandu) — паўднёваамерыканскі трохпальцы страус.

**НАНЕ́Т** (іт. nonetto) — 1) музычны твор, які выконваецца на дзевяці інструментах або дзевяццю галасамі; 2) ансамбль з дзевяці выканаўцаў (інструменталістаў ці вакалістаў).

**НАНЕ́Я** (н.-лац. nonea) — травяністая расліна сям. бурачнікавых з падоўжаным лісцем і цёмна-пурпуровымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Міжземнамор'і і часткова ў Еўропе; на Беларусі заносная.

**НАНІ́ЗМ** (ад гр. nannos = карлікавы) — ненармальна нізкі, карлікавы рост.

**НАНІ́ЦЫЯ** (н.-лац. nanizzia) — сумчаты грыб сям. гіленааскавых, які развіваецца ў глебе, на адмерлых раслінах, экскрэментах.

**НА́НКА** (ад кіт. Nankin = назва горада ў Кітаі) — грубая баваўняная тканіна, найчасцей жоўтага колеру.

**НАНПАРЭ́ЛЬ** (фр. nonpareille) — дробны друкарскі *шрыфт* (драбнейшы за *петыт*), *кегель* якога роўны шасці пунктам (каля 2,25 мм).

**НАНСУ́К** (англ. nainsook, ад інд. najnsukh = радасць вачэй) — тонкая баваўняная тканіна, падобная на льняную, з якой шыюць бялізну.

**НАНТРАНІ́Т** (фр. nontronite, ад Nontron = назва горада ў Францыі) — мінерал з трохслойнай структурай тыпу 2:1, член ізаморфнага рада мінералаў групы *мантмарыланіту*, у якім алюміній актаэдрычнага слоя замешчаны трохвалентным жалезам, а частка крэмнію ў тэтраэдрах — алюмініем.

**НАПАЛЕАНДО́Р** (фр. napoléon d'or) — французская залатая манета вартасцю ў 20 *франкаў* з партрэтамі Напалеона I і Напалеона III, якая чаканілася ў Францыі з 1803 г.

**НАПАЛЕО́Н** (фр. Napaleon = імя французскага імператара) — 1) чалавек з надзвычай уладалюбівымі імкненнямі; 2) від торта; 3) гатунак каньяку; 4) разнавіднасць яблыні.

**НАПА́ЛМ** (англ. napalm) — гаручая сумесь для бомб, агнямётаў.

**НАРВА́Л** (сканд. narval) — марское млекакормячае сям. дэльфінавых, пашыранае ў арктычных водах.

**НАРГІЛЕ́** (тур. nargile, ад перс. nārgilä) — усходні прыбор для курэння, падобны да *кальяна*, але з доўгай гнуткай трубкай замест люлькі.

**НАРД** (гр. nardos) — 1) травяністая расліна сям. валяр'янавых з мясістым духмяным коранем і дробнымі кветкамі, пашыраная ў Гімалаях; 2) араматычнае рэчыва, якое атрымліваюць з гэтай расліны.

**НАРДЫ́ЗМ** (ад *норд*) — разнавіднасць *расізму*, вучэнне, паводле якога стваральнікамі цывілізацыі з'яўляюцца нібыта толькі прадстаўнікі «вышэйшай», нардычнай (паўночнай) расы (немцы, англасаксы, скандынаўскія народы).

# Н

**НАРДЫ́ЧНЫ** (ад ням. Nord = поўнач) — паўночнаеўрапейскі; н. т ы п — антрапалагічны тып белага чалавека, які характарызуецца высокім ростам, падоўжанай галавой, вузкім тварам, светлымі валасамі, блакітнымі вачамі.

**НА́РДЫЯ** (н.-лац. nardia) — пячоначны мох сям. юнгерманіевых, які трапляецца на вільготнай агаленай глебе, па берагах каналаў.

**НАРЗА́Н** (кабард. nart-sane = напітак казачнага племені нартаў) — вуглякіслая мінеральная вада.

**НАРКАБІ́ЗНЕС** [ад *нарко(тык)* + *бізнес*] — бізнес, які прыносіць даход ад незаконнага гандлю наркотыкамі.

**НАРКАЛЕ́ПСІЯ** (ад гр. narke = здранцвенне + lepsis = прыпадак) — захворванне цэнтральнай нервовай сістэмы, якое характарызуецца кароткачасовымі неадольнымі прыступамі санлівасці, расстройствамі начнога сну і інш.

**НАРКАЛО́ГІЯ** [ад *нарко(тык)* + *-логія*] — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы, выкліканыя *наркаманіяй*, і распрацоўвае метады іх лячэння.

**НАРКАМА́Н** [ад *нарко(тык)* + *-ман*] — чалавек, які мае моцную, хваравітую цягу да наркотыкаў.

**НАРКАМА́НІЯ** (н.-лац. narcomania, ад гр. narke = аняменне + mania = вар'яцтва) — хваравітая цяга да *наркотыкаў*.

**НАРКАМЕДУ́ЗЫ** (ад гр. narke = здранцвенне + *медуза*) — падатрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл атрада *трахілідаў*, некаторыя віды якіх паразітуюць на *гідрамедузах*.

**НАРКАТЫ́ЧНЫ** (гр. narkotikos = які ашаламляе) — 1) які мае адносіны да *наркотыкаў*, змяшчае наркотыкі; 2) выкліканы наркотыкамі (напр. н. стан).

**НАРКАЦІ́Н** (ад гр. narkotikos = які ашаламляе) — *алкалоід*, які знаходзіцца ў опіуме, але не мае наркатычных уласцівасцей; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**НАРКО́З** (фр. narcose, ад гр. narkosis = аняменне) — штучна выкліканы стан з поўнай або частковай стратай прытомнасці і болевай адчувальнасці; абязбольванне.

**НАРКО́ЛАГ** [ад *нарко(тык)* + *-лаг*] — спецыяліст у галіне *наркалогіі*.

**НАРКО́ТЫК** (гр. narkotikos = які ашаламляе) — рэчыва, якое ўжываецца ў медыцыне як сродак абязбольвання або ўсыплення, а пры бескантрольным ужыванні прыводзіць да *наркаманіі*.

**НАРМАБЛА́СТЫ** (ад *норма* + *-бласты*) — адна са стадый утварэння *эрытрацытаў*, якая характарызуецца наяўнасцю ядра.

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЬ** (ад лац. normalis = урэгуляваны) — праводзіць *нармалізацыю* 1.

**НАРМАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. normalisation, ад лац. normalis = урэгуляваны) — 1) прывядзенне да нормы, падпарадкаванне норме (напр. н. міжнародных адносін, н. правапісу); 2) вызначэнне адзіных нормаў і патрабаванняў па тыпах, памерах, якасці розных аб'ектаў, вырабаў, прылад ці іх вузлоў, а таксама па абазначэннях і маркіроўцы; адзін з відаў *стандартызацыі*; 3) від тэрмічнай апрацоўкі сталі, награванне яе да тэмперату-

ры, вышэйшай за тэмпературу крытычнага пункту (750—950°С) з наступным ахаладжэннем на спакойным паветры.

**НАРМА́ЛЬ** (лац. normalis = урэгуляваны) — 1) *мат.* перпендыкуляр да датычнай прамой або плоскасці, які праходзіць праз пункт дотыку; 2) дакумент, якім вызначаюцца тыпы, памеры, нормы і тэхнічныя ўмовы на прадукцыю пэўнай галіны прамысловасці; 3) дэталь прынятага ўзору.

**НАРМА́ЛЬНЫ** (лац. normalis = урэгуляваны) — 1) які адпавядае *нормам*; звычайны, натуральны (напр. н-ая тэмпература, н. колер скуры); 2) псіхічна здаровы (напр. н. чалавек).

**НАРМАТЫВІ́ЗМ** (ад фр. normatif = нарматыўны, ад лац. norma = норма) — кірунак у сацыялогіі, тэорыі права, этыцы і эстэтыцы, які адмаўляе навуковае пазнанне заканамернасцей грамадскіх з'яў і супрацьпастаўляе яму сістэмы палітычных, этычных і эстэтычных норм.

**НАРМАТЫ́Ў** (фр. normatif, ад лац. normatio = упарадкаванне) — эканамічны, тэхнічны або які-н. іншы паказчык нормаў, у адпаведнасці з якімі выконваецца работа.

**НАРМАТЫ́ЎНЫ** (фр. normatif, ад лац. norma = норма) — які вызначае, устанаўлівае *норму* (напр. н-ая граматыка).

**НАРМІ́РАВАЦЬ** (ад *норма*) — уводзіць, устанаўліваць нормы.

**НАРМО́ГРАФ** (ад *норма* + *-граф*) — чарцёжны *трафарэт* з проразямі для элементаў літар і лічбаў для напісання іх нармальным (стандартным) шрыфтом.

**НАРТРО́П** (англ. Northrop = прозвішча англ. інжынера) — аўтаматычны ткацкі *варштат*.

**НАРТЭ́КС** (п.-гр. nartheks) — уваходнае памяшканне ў пярэдняй частцы хрысціянскага храма, прызначанае для асоб, якія не маюць права ўваходзіць у галоўнае храмавае памяшканне; прытвор.

**НАРЦЫ́С** (н.-лац. narcissus, ад гр. Narkissos = імя міфічнага юнака, які закахаўся ў сваё адлюстраванне ў вадзе, памёр ад кахання і быў ператвораны багамі ў кветку) — цыбульная травяністая расліна сям. амарылісавых з буйнымі белымі або жоўтымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**НАРЦЭІ́Н** (ад гр. narke = здранцвенне) — прэпарат *опію*, які выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**НА́РЫС** (польск. narys) — літаратурны твор невялікіх памераў, у аснове якога ляжаць рэальныя факты рэчаіснасці.

**НАРЫ́Т** (нарв. norit, ад Norge = Нарвегія) — магматычная горная парода групы *габра*, адметнай асаблівасцю якой з'яўляецца прысутнасць рамбічнага *піраксену* замест манаклінннага.

**НАСТАЛЬГІ́Я** (н.-лац. nostalgia, ад гр. nostos = вяртанне + algos = боль) — туга па радзіме.

**НАСТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. noster = наш + *-фікацыя*) — прывядзенне ў адпаведнасць *дыпломаў*, выдадзеных замежнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, з дыпломамі айчынных навучальных устаноў.

# Н

**НАСТУРА́Н** (ад гр. nastos = ушчыльнены + *уран*) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў, разнавіднасць *уранініту*.

**НАСТУ́РКА, НАСТУ́РЦЫЯ** (лац. nasturtium) — травяністая расліна сям. настуркавых з буйнымі жоўтымі, аранжавымі або чырвонымі духмянымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**НА́СТЫЯ** (ад гр. nastos = ушчыльнены) — рэакцыі расліны (рухі лістоў, пялёсткаў і іншых органаў) на дзеянні раздражняльнікаў (святла, тэмпературы, вільготнасці і інш.), якія не маюць пэўнага напрамку.

**НАТА́БЛІ** (фр. notables, ад лац. notabilis = памятны) — прызначаныя каралём члены асобага сходу з ліку прадстаўнікоў вышэйшага духавенства, прыдворнага дваранства і мэраў гарадоў у Францыі ў 14—18 ст.

**НАТАБРА́НХІУС** (н.-лац. nothobranchius) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў вадаёмах Усх. і Цэнтр. Афрыкі, што перыядычна перасыхаюць; вядома як акварыумная.

**НАТАГРА́ФІЯ** (ад *нота* + *-графія*) — 1) апісанне нотных выданняў і рукапісаў, дапаможная галіна музыказнаўства; 2) навуковая дысцыпліна, якая вывучае гісторыю, тэорыю і методыку апісання і класіфікацыю нот.

**НАТАКАТЫЛІДО́ЗЫ** (ад *натакатыліды*) — глісныя хваробы пераважна вадаплаўных птушак, якія выклікаюцца натакатылідамі.

**НАТАКАТЫЛІ́ДЫ** (н.-лац. notocotylidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразітуюць у сляпой і прамой кішках вадаплаўных птушак.

**НАТА́ЛЬНЫ** (лац. natalis = які адносіцца да нараджэння) — 1) *мед.* звязаны з родамі (напр. у акушэрскай практыцы *антэнатальная* і *перынатальная* паталогія); 2) прыроджаны.

**НАТА́РЫУС** (лац. notarius = пісар, сакратар) — службовая асоба, якая засведчвае і афармляе розныя юрыдычныя дакументы, акты.

**НАТАРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад п.-лац. notarius = пісарскі) — які мае адносіны да афармлення і засведчання розных дакументаў, юрыдычных актаў; н - а я  к а н т о р а — мясцовы орган *натарыяту*.

**НАТАРЫЯ́Т** (ад п.-лац. notarius = пісарскі) — сістэма дзяржаўных органаў, задачай якіх з'яўляецца засведчанне правоў і фактаў, што маюць юрыдычнае значэнне, а таксама вернасць копій і выпісак з дакументаў, подпісаў на іх.

**НАТАЦЭ́НІЯ** (н.-лац. notothenia) — марская рыба атрада акунёвых, якая пашырана ля берагоў субантарктычных і антарктычных астравоў; аб'ект промыслу.

**НАТА́ЦЫЯ** (лац. notatio = заўвага) — 1) вымова, павучанне; 2) сістэма ўмоўных памет, якія прынятыя ў пэўнай галіне дзейнасці.

**НАТР** (ар. natrūn = сода); н. е д к і — гідравокіс натрыю (каўстычная сода), бясколерная крышталічная маса; выкарыстоўваецца ў хімічнай, тэкстыльнай, мылаварнай і іншых галінах прамысловасці.

**НАТРАЛІ́Т** (ад *натрый* + *-літ*) — мінерал, складаны водазмяшчальны *алюмасілікат* натрыю з групы *цэалітаў*, сустракаецца ў вулканічных пародах як прадукт змянення *нефеліну* і палявых шпатаў.

**НА́ТРЫЙ** (лац. natrium, ад ар. natrum = сода) — хімічны элемент, шчолачны метал серабрыста-белага колеру, шырока распаўсюджаны ў прыродзе.

**НАТУ́РА** (лац. natura = прырода) — 1) рэальныя аб'екты рэчаіснасці, якія мастак назірае ў працэсе іх адлюстравання; 2) характар чалавека, тэмперамент (напр. уражлівая н., шырокая н.); 3) тавары, прадукты як сродак аплаты замест грошай.

**НАТУРАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. naturaliser, ад лац. naturalis = прыродны) — даваць правы грамадзянства або падданства чужаземцу (проціл. *дэнатуралізаваць*).

**НАТУРАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. naturalisation, ад лац. naturalis = прыродны) — 1) наданне правоў грамадзянства або падданства іншаземцам (проціл. *дэнатуралізацыя*); 2) поўнае асваенне арганізмамі новых умоў жыцця пры *акліматызацыі*.

**НАТУРАЛІ́ЗМ** (фр. naturalisme, ад лац. naturalis = прыродны) — кірунак у літаратуры і мастацтве (склаўся ў канцы 19 ст. у Еўропе і ЗША), які імкнецца да дакладнага і бясстраснага ўзнаўлення рэчаіснасці.

**НАТУРАЛІ́СТ** (фр. naturaliste, ад лац. naturalis = прыродны) — 1) той, хто займаецца вывучэннем прыроды; прыродазнавец; 2) прыхільнік *натуралізму*.

**НАТУРА́ЛЬНЫ** (польск. naturalny, ад лац. naturalis = прыродны) — 1) уласцівы прыродзе, адпаведны рэальнасці (напр. н-ыя ўмовы); 2) абумоўлены законамі прыроды (напр. н. прырост насельніцтва); 3) сапраўдны, не штучны (напр. н. шоўк); 4) непрытворны, шчыры (напр. н. смех); 5) які аплачваецца натурай (таварамі, прадуктамі), а не грашыма (напр. н-ая гаспадарка).

**НАТУРФІЛАСО́ФІЯ** (ням. Naturphilosophie, ад лац. natura = прырода + гр. philosophia = філасофія) — вучэнне, якое спрабуе даць сістэму ведаў аб прыродзе, грунтуючыся не на доследных дадзеных навук, а на абстрактных прынцыпах філасофіі.

**НАТЫВІ́ЗМ** (ад лац. nativus = прыроджаны) — канцэпцыя, паводле якой здольнасць да ўспрымання прасторы і часу ўласціва чалавеку ад нараджэння і не развіваецца ў працэсе жыцця.

**НАТЫ́ЎНЫ** (лац. nativus) — *біял.* прыроджаны, які захаваў структуру, уласцівую яму ў жывой клетцы (напр. н-ыя бялкі).

**НАТЫФІКАВА́ЦЬ** (лац. notificare = рабіць вядомым) — афіцыйна аб'явіць, паведаміць.

**НАТЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. notificatio, ад лац. notificare = рабіць вядомым) — 1) афіцыйнае паведамленне дзяржавай іншай дзяржаве аб сваёй пазіцыі ў адносінах да пэўнага пытання знешняй палітыкі; 2) паведамленне аб апратэставанні вэксаля.

**НАУМБУ́РГІЯ** (н.-лац. naumburgia) — травяністая расліна сям. першакветных з вострым лісцем і дробнымі жоўтымі кветкамі ў

# Н

гронках, пашыраная на ўсёй тэрыторыі Беларусі; кізляк.

**НАЎКРА́РЫІ** (гр. naukrariai) — тэрытарыяльная акруга ў старажытнай Атыцы.

**НАЎМЕ́Н** (гр. nooumenon = ахопленае розумам) — *філас.* тое, што даступна розуму ў процівагу дадзенаму ў пачуццях.

**НА́ЎПЛІУС** (гр. nauplios) — вольнаплаваючая лічынка ўсіх ніжэйшых і асобных вышэйшых (некаторых крэветак) ракападобных.

**-НАЎТ** (гр. nautes = мараплавец) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «той, хто плавае».

**НАЎТАКО́КУС** (н.-лац. nautococcus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. гімнаманадавых, якая пашырана ў лужынах, сажалках, невялікіх вадасховішчах.

**НАЎТАФО́Н** (ад гр. nautes = марак + *-фон*) — электраакустычны прыбор на маяку для падачы гукавых сігналаў суднам у час туману або пахмурнай пагоды.

**-НАЎТЫКА** (гр. nautike = мораплаванне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «плаванне».

**НАЎТЫЛАІДЭ́І** (н.-лац. nautiloidea) — падклас галаваногіх малюскаў, які ўключае адзін сучасны і каля 700 выкапнёвых родаў; чатырохжаберныя.

**НАЎТЫ́ЛУС** (н.-лац. nautilus, ад гр. nautilos = караблік) — галаваногі *малюск* падкласа *наўтылаідэй* са спіральна закручанай ракавінай, пашыраны ў водах паміж Паўд.-Усх. Азіяй і Аўстраліяй.

**НА́ФТА** (польск. nafta < гр. naphtha, ад перс. näft) — мінеральнае масляністае гаручае рэчыва звычайна цёмна-бурага колеру, якое ўжываецца як паліва, а таксама як сыравіна для вырабу бензіну, газы, мазуту і інш.

**НАФТАБА́ЗА** (ад *нафта* + *база*) — база забеспячэння транспарту гаручымі нафтапрадуктамі.

**НАФТАГА́ВАНЬ** (ад *нафта* + *гавань*) — частка порту, прызначаная для стаянкі суднаў, што перавозяць нафтапрадукты.

**НАФТАГІГА́НТ** (ад *нафта* + *гігант*) — буйное нафтаперапрацоўчае прадпрыемства.

**НАФТАЛІ́Н** (рус. нафталин, ад гр. naphtha = нафта) — арганічнае злучэнне, белае крышталічнае рэчыва з рэзкім пахам, якое здабываецца пераважна з каменнавугальнай смалы; выкарыстоўваецца для вырабу выбуховых рэчываў, фарбавальнікаў, а таксама для барацьбы з моллю.

**НАФТАМО́Н** (ад *нафта* + *амоній*) — лекавы *прэпарат,* процігліставы сродак.

**НАФТАПІ́РС** (ад *нафта* + *пірс*) — партовае збудаванне для прычальвання суднаў, што перавозяць нафтапрадукты.

**НАФТАПО́МПА** (ад *нафта* + *помпа*) — машына для перапампоўвання нафты.

**НАФТАХІ́МІЯ** (ад *нафта* + *хімія*) — галіна прамысловасці, якая займаецца хімічнай перапрацоўкай нафты і прыродных газаў.

**НАФТАХІНО́НЫ** (ад *нафта* + *хіноны*) — хіноны нафталінавага рада.

**НАФТО́ЛЫ** (ад *нафта* + *-ол*) — крышталічныя рэчывы, якія здабываюць з *нафталіну*, выкарыс-

тоўваюцца ў парфумерыі, у вытворчасці фарбавальнікаў і інш.

**НАФТЭНА́ТЫ** (ад нафтэны) — солі і эфіры нафтэнавых кіслот.

**НАФТЭ́НЫ** (ад гр. naphtha = нафта) — цыклічныя насычаныя вуглевадароды, якія змяшчаюцца ў *нафце*.

**НАХГЕШЫ́ХТЭ** (ням. Nachgeschichte = гісторыя, што адбылася пасля) — сціслыя звесткі, якія падаюцца ў літаратурным творы пра герояў і падзеі пасля развязкі.

**НАЦЫ́ЗМ** (ням. Nazismus, ад Nationalsozialismus = нацыянальны сацыялізм) — назва *фашызму* ў гітлераўскай Германіі.

**НАЦЫ́СТ** (ням. Nazi, ад Nationalsozialisten = нацыянал-сацыяліст) — член гітлераўскай фашысцкай партыі ў Германіі, прыхільнік *нацызму*.

**НА́ЦЫЯ** (лац. natio = племя, народ) — устойлівая агульнасць людзей, якая ўзнікла гістарычна на аснове агульнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця, культуры і асаблівасцей характару.

**НАЦЫЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. nationalisation, ад лац. natio = народ) — перадача прыватнай уласнасці (зямель, прадпрыемстваў, банкаў, жылых будынкаў) ва ўласнасць дзяржавы.

**НАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (фр. nationalisme, ад лац. natio = народ) — 1) рэакцыйная ідэалогія і палітыка, накіраваная на распальванне нацыянальнай варожасці; 2) рух у прыгнечаных краінах за нацыянальную незалежнасць.

**НАЦЫЯНАЛІ́СТ** (ад *нацыяналізм*) — прыхільнік нацыяналізму.

**НАЦЫЯНА́Л-ЛІБЕРА́Л** (ням. Nationalliberale) — назва прадстаўнікоў рада партый буйной буржуазіі ў Зах. Еўропе, напр. у Германіі ў 1866—1918 гг.

**НАЦЫЯНА́Л-САЦЫЯЛІ́СТ** (ням. Nationalsozialisten) — тое, што і *нацыст*.

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (н.-лац. nationalis = народны) — 1) звязаны з грамадска-палітычным жыццём *нацый* (напр. н. рух); 2) які ўласцівы дадзенай нацыі, выражае яе характар (напр. н-ая культура); 3) які належыць дадзенай краіне, дзяржаўны (напр. н. гімн).

**НАЦЮРМО́РТ** (фр. nature morte = *літар.* мёртвая прырода) — *жанр* выяўленчага мастацтва, дзе прадметам адлюстравання з'яўляюцца рэчы, размешчаныя ў адзіным асяроддзі і арганізаваныя ў групу, а таксама твор гэтага жанру.

**НАШАТЫ́Р** (рус. нашатырь, ад ар. nušadir) — водны раствор *аміяку* з вострым пахам, нашатырны спірт.

**НА́Я** (інд. naja) — вельмі ядавітая змяя сям. *аспідаў* з шыяй, здольнай расшырацца ў выглядзе круга; пашырана ў Індыі; індыйская *кобра*, змяя-акулярніца.

**НАЯ́ДЫ** (гр. naiades) — 1) *німфы* рэк, ручаёў, крыніц у старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) водныя травяністыя расліны сям. наядавых, якія пашыраны ў цёплых і ўмерана цёплых зонах зямнога шара; на Беларусі трапляюцца рэдка.

**НЕА-** (гр. neos = новы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «новы».

# Н

**НЕАА́НТРАПЫ** (ад *неа-* + *-антрап*) — назва выкапнёвых людзей *(краманьёнцы)*, а таксама людзей сучаснага тыпу.

**НЕАА́РКТЫКА** (ад *неа-* + *арктыка*) — зоагеаграфічная вобласць, якая ўключае паўночнаамерыканскую частку *галарктычнай вобласці*.

**НЕААСКАРЫДО́З** (ад *неа-* + *аскарыды*) — глісная хвароба жвачных жывёл, пераважна маладняку.

**НЕАБАРО́КА** (ад *неа-* + *барока*) — умоўная назва кірунку ў архітэктуры 2-й пал. 19 — пач. 20 ст., якi пераймаў формы, элементы кампазіцыі будынкаў стылю барока.

**НЕАВІТАЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + *віталізм*) — ідэалістычная плынь у *біялогіі*, блізкая да віталізму, якая тлумачыць якасныя змены жыццёвых з'яў нематэрыяльнымі фактарамі.

**НЕАГЕГЕЛЬЯ́НСТВА** (ад *неа-* + *гегельянства*) — ідэалістычная філасофская плынь канца 19—пач. 20 ст., якая спрабавала асэнсаваць праблемы філасофіі на падставе абноўленай інтэрпрэтацыі вучэння Г.Гегеля.

**НЕАГЕ́Н** (ад *неа-* + *-ген*) — другі перыяд *кайназою* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, які пачаўся 25 млн. гадоў таму назад і цягнуўся больш за 23 млн.гадоў, а таксама тоўшча горных парод, што адклалася ў гэты перыяд.

**НЕАГЕ́НАВЫ** (ад *неа-* + *-ген*); н. п е р ы я д — тое, што і *неаген.*

**НЕАГЕ́Я** (ад *неа-* + гр. ge = зямля) — адно з трох асноўных зоагеаграфічных падраздзяленняў сушы, якое ўключае Паўд. і Цэнтр. Амерыку (параўн. *нотагея* і *арктагея*).

**НЕАГЛАБАЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + фр. global = глабальны) — імкненне вялікай дзяржавы да сусветнага панавання.

**НЕАГО́ТЫКА** (ад *неа-* + *готыка*) — умоўная назва кірункаў у *архітэктуры* 18—19 ст., якія пераймалі формы, а часам і канструкцыі сярэдневяковай готыкі; несапраўдная готыка.

**НЕАДАРВІНІ́ЗМ** (ад *неа-* + *дарвінізм*) — 1) тое, што і *вейсманізм;* 2) кірунак у эвалюцыйным вучэнні, які з'яўляецца спробай абнаўлення класічнага дарвінізму на аснове дапушчэння выключнай ролі натуральнага адбору ў эвалюцыі арганізмаў.

**НЕАДЫКУМАРЫ́Н** (ад *неа-* + гр. dis = двойчы + *кумарын*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца для прафілактыкі і лячэння *трамбозаў, тромбафлебітаў, эмбалій*.

**НЕАДЫ́М** (ад *неа-* + гр. didymos = падвойны) — хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які належыць да *лантаноідаў*, выкарыстоўваецца як кампанент лазерных матэрыялаў.

**НЕАЗО́Й** (ад *неа-* + *-зой*) — тое, што і *кайназой*.

**НЕАЗО́ЙСКІ** (ад *неазой*); н - а я э р а — тое, што і *неазой.*

**НЕАІМПРЭСІЯНІ́ЗМ** (ад *неа-* + *імпрэсіянізм*) — плынь у заходнееўрапейскім жывапісе канца 19 — пач. 20 ст., прадстаўнікі якой развівалі тэндэнцыі позняга імпрэсіянізму, надавалі метадычны характар прыёмам раскладання складаных тонаў на чыстыя колеры.

# Н

**НЕАІНДУІ́ЗМ** (ад *неа-* + *індуізм*) — рэлігійна-філасофскае вучэнне ў Індыі як рэфармаваная форма індуізму.

**НЕАКАЛАНІЗА́ТАР** (ад *неа-* + *каланізатар*) — асоба, якая праводзіць палітыку *неакаланіялізму*.

**НЕАКАЛАНІЯЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + *каланіялізм*) — эканамічная палітыка і ідэалагічная дзейнасць імперыялістычных дзяржаў, накіраваная на захаванне свайго ўплыву ў залежных краінах пры дапамозе новых форм і метадаў каланіялізму.

**НЕАКАЛО́НІЯ** (ад *неа-* + *калонія*) — былая калонія, якая па сутнасці з'яўляецца аб'ектам эканамічнай і палітычнай эксплуатацыі з боку *неакаланізатараў*.

**НЕАКАНТЫЯ́НСТВА** (ад *неа-* + *кантыянства*) — ідэалістычная філасофская плынь канца 19 — пач. 20 ст., якая спрабавала асэнсаваць праблемы філасофіі на падставе абноўленай інтэрпрэтацыі вучэння І.Канта.

**НЕАКАПІТАЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + *капіталізм*) — сучасная характарыстыка буржуазнымі ідэолагамі капіталізму шляхам маскіроўкі яго класавага характару.

**НЕАКЛАСІЦЫ́ЗМ** (ад *неа-* + *класіцызм*) — плынь у літаратуры, жывапісе, архітэктуры і музыцы 2-й пал. 19 — 20 ст., якой уласцівы зварот да традыцыйнай антычнасці, эпохі Адраджэння і класіцызму.

**НЕАКО́РТЭКС** (ад *неа-* + лац. cortex = кара) — асноўная частка кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу.

**НЕАЛАГІ́ЗМ** (ад *неа-* + *-лагізм*) — слова ці словазлучэнне, якое з'явілася ў мове для абазначэння новай рэаліі або паняцця.

**НЕАЛАМАРКІ́ЗМ** (ад *неа-* + *ламаркізм*) — сукупнасць эвалюцыйных канцэпцый, якія намагаюцца абгрунтаваць і развіць ідэалістычныя і механістычныя бакі вучэння Ж.-Б.Ламарка; асноўныя кірункі неаламаркізму — *механаламаркізм, орталамаркізм, псіхаламаркізм*.

**НЕАЛЕ́БІЯС** (н.-лац. neolebias) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў вусці ракі Конга; вядома як акварыумная.

**НЕАЛЕЙКАРЫ́Т** (ад *неа-* + гр. leukos = белы) — літая смала колеру слановай косці, якая атрымліваецца ў выніку кандэнсацыі *фенолу* з *фармальдэгідам*; выкарыстоўваецца для вырабу кнопак, ручак, прадметаў шырокага ўжытку.

**НЕАЛІ́Т** (ад *неа-* + *-літ*) — апошні перыяд пазнейшага каменнага веку, які працягваўся ў Еўропе ў 6—3 тыс. да н.э.

**НЕАМАЛЬТУЗІЯ́НСТВА** (ад *неа-* + *мальтузіянства*) — кірунак у сучаснай *сацыялогіі*, які мадэрнізуючы ідэі мальтузіянства, намагаецца апраўдаць супярэчнасці сучаснага грамадства.

**НЕАМЕРКАНТЫЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + *меркантылізм*) — напрамак эканамічнай думкі 19—20 ст., які зводзіць адносіны ў капіталістычным грамадстве да адносін абмену тавараў.

**НЕАМІЦЫ́Н** (ад *неа-* + *-міцын*) — *біял.* антыбіятычны комплекс, які ўтвараецца некаторымі

# Н

мікраарганізмамі з групы *актынаміцэтаў*.

**НЕАНАЦЫ́ЗМ** (ад *неа-* + *нацызм*) — нацызм у сучасным выглядзе, які адрадзіўся ў некаторых краінах.

**НЕАНДЭРТА́ЛЕЦ** [ад ням. Neandertal = назва даліны каля Дзюсельдорфа (Германія), дзе ў 1856 г. былі ўпершыню знойдзены выкапнёвыя рэшткі гэтага чалавека] — від выкапнёвага чалавека, які жыў 200—35 тысяч гадоў таму назад у Еўропе, Азіі і Афрыцы.

**НЕАНТАЛО́ГІЯ** (ад *неа-* + гр. on, ontos = якое існуе + *-логія*) — комплекс біялагічных навук, якія вывучаюць сучасны арганічны свет (параўн. *палеанталогія*).

**НЕАПАЗІТЫВІ́ЗМ** (ад *неа-* + *пазітывізм*) — суб'ектыўна-ідэалістычная плынь у *філасофіі* як спроба прыстасаваць прынцыпы пазітывізму да ўмоў развіцця сучаснай навукі, пераважна прыродазнаўства і грамадазнаўства.

**НЕАПЛАЗІ́Я** (ад *неа-* + гр. plasis = узнікненне) — паталагічнае злаякаснае новаўтварэнне тканкі ў арганізме; пухліна (параўн. *метаплазія*).

**НЕАПЛА́ЗМА** (ад *неа-* + *плазма*) — тое, што і *неаплазія*.

**НЕАПЛАСТЫЦЫ́ЗМ** (гал. neoplasticism) — плынь у галандскім мастацтве пач. 20 ст., якая прытрымлівалася ідэі «чыстай», геаметрызавана абагуленай формы.

**НЕАПЛАТАНІ́ЗМ** (ад *неа-* + *платанізм*) — містычна-ідэалістычны кірунак у *філасофіі* перыяду заняпаду Рымскай імперыі, які імкнуўся аб'яднаць на аснове платанізму розныя сістэмы антычнай філасофіі.

**НЕАПРЭ́Н** (ад *неа-* + гр. prenes = нахілены) — гандлёвая назва сінтэтычных хларапрэнавых каўчукоў, якія выпускаюцца ў ЗША.

**НЕАРАМАНТЫ́ЗМ** (ад *неа-* + *рамантызм*) — кірунак у літаратуры і мастацтве канца 19 — пач. 20 ст., які выяўляў падабенства да *рамантызму*.

**НЕА́РКТЫКА** (ад *неа-* + *арктыка*) — тое, што і *неаарктыка*.

**НЕАРЭАЛІ́ЗМ** (ад *неа-* + *рэалізм*) — плынь у літаратуры і мастацтве 40—60-х гг. 20 ст., якая характарызуецца творчым выкарыстаннем традыцый класічнага рэалізму і дэмакратычнага мастацтва, паглыбленай цікавасцю да грамадскага і асабістага жыцця простых людзей.

**НЕАСАРТО́РЫЯ** (н.-лац. neosartorya) — сумчаты грыб сям. эўроцыевых, які расце ў глебе, на адмерлых частках раслін.

**НЕАСХАЛА́СТЫКА** (ад *неа-* + *схаластыка*) — плынь каталіцкай філасофіі, якая спрабуе абнавіць сярэдневяковую схаластыку.

**НЕАТАМІ́ЗМ** (ад *неа-* + *тамізм*) — афіцыйная філасофская дактрына *каталіцызму*.

**НЕАТРАПІ́ЧНЫ** (ад *неа-* + гр. tropikos = паваротны) — які мае адносіны да заагеаграфічнай вобласці, што адпавядае *неагеі*.

**НЕАТЫЯ́НТА** (н.-лац. neottianthe) — травяністая расліна сям. ятрышнікавых з фіялетава-ружовымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных зонах Еўразіі, у т.л. і на Беларусі.

**НЕАТЭКТО́НІКА** (ад *неа-* + *тэктоніка*) — раздзел тэктонікі, які

вывучае геалагічныя працэсы зямной кары чацвярцічнага перыяду.

**НЕАТЭНІ́Я** (ад гр. neos = няспелы, юны + teino = расцягваю) — здольнасць некаторых земнаводных і беспазваночных размнажацца на стадыі лічынкі (параўн. *педагенез*).

**НЕАФАШЫ́ЗМ** (ад *неа-* + *фашызм*) — фашызм, які змяніў у адпаведнасці з сучаснымі ўмовамі канкрэтныя лозунгі і метады дзейнасці, захаваўшы сваю ідэйна-палітычную аснову.

**НЕАФІЛАЛО́ГІЯ** (ад *неа-* + *філалогія*) — навука, якая вывучае не старыя, класічныя, а новыя мовы і літаратуры народаў сярэдневяковай і сучаснай Еўропы.

**НЕАФІ́Т** (п.-лац. neophytus, ад гр. neophytos) — 1) той, хто нядаўна прыняў якое-н. веравызнанне; 2) *перан.* новы прыхільнік якога-н. вучэння або грамадскага руху; 3) новы від раслін у мясцовай флоры, з'яўленне якога не звязана з наўмысным пашырэннем яго чалавекам.

**НЕАФО́БІЯ** (ад *неа-* + *-фобія*) — паталагічны страх перад усім новым, перад зменамі ў прывычнай абстаноўцы.

**НЕАФРЭЙДЫ́ЗМ** (ад *неа-* + *фрэйдызм*) — кірунак у сучаснай *філасофіі* і *псіхалогіі,* які заснаваны на вучэнні З.Фрэйда, але ў адрозненне ад біялагізму апошняга ўлічвае ролю сацыяльнага асяроддзя ў фарміраванні асобы.

**НЕАЦЭРАТО́Д** (ад *неа-* + гр. keras, -atos = рог + odus = зуб) — двоедыхаючая рыба, пашыраная ў Аўстраліі; рагазуб.

**НЕАЭНДЭ́МІКІ** (ад *неа-* + *эндэмікі*) — эндэмічныя для пэўнага ўчастка тэрыторыі або акваторыі формы нядаўняга паходжання, якія не атрымалі яшчэ шырокага распаўсюджання.

**НЕБУЛЯ́РНЫ** (ад лац. nebula = туман) — які адносіцца да туманнасці; н-ая гіпотэза — гіпотэза, якая тлумачыць паходжанне планетнай сістэмы яе ўтварэннем з туманнасці.

**НЕГАТЫВІ́ЗМ** (ад лац. negativus = адмоўны) — 1) *мед.* сімптом расстройства вышэйшай нервовай дзейнасці, які праяўляецца ў супраціўленні знешнім уздзеяннім, адмаўленні выконваць просьбы і заданні; 2) нематываванае імкненне дзейнічаць насуперак; 3) адмаўленне чаго-н.

**НЕГАТЫ́Ў** (лац. negativus = адмоўны) — адбітак на фатаграфічнай пласцінцы або плёнцы, дзе асветленыя месцы атрымаліся цёмнымі, а цёмныя светлымі, а таксама сама пласцінка або плёнка з такім адбіткам (параўн. *пазітыў*).

**НЕГАТЫ́ЎНЫ** (лац. negativus = адмоўны) — 1) які адносіцца да *негатыва* (напр. н-ая плёнка); 2) адмоўны (проціл. *пазітыўны*).

**НЕГА́ЦЫЯ** (лац. negatio) — *лінгв.* слова ці марфема, якія заключаюць у сабе значэнне процілегласці таму, што сцвярджаецца (напр. «не», «ні»); адмаўленне.

**НЕГАЦЫЯ́НТ** (лац. negotians, -ntis = які займаецца гандлем) — камерсант, які вядзе аптовы гандаль пераважна за межамі сваёй краіны.

**НЕГЛІЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. negliger, ад лац. negligare = знева-

жаць) — грэбаваць чым-н., адносіцца да чаго-н. нядбайна, без увагі.

**НЕГЛІЖЭ́** (фр. négligé, ад лац. negligare = зневажаць) — 1) нядбайнае адзенне, нядбайны выгляд; 2) *уст.* лёгкае хатняе адзенне, апранутае наспех, ненадоўга.

**НЕГО́ЦЫЯ** (іт. negozio) — *уст.* камерцыйная здзелка; гандаль.

**НЕГРО́ІДЫ** (ад фр. négre = негр + *-оід*) — людзі, якія належаць да негроіднай расы, што характарызуецца цёмнай скурай, кучаравымі валасамі, шырокім носам, тоўстымі губамі.

**НЕ́ГРЫ** (фр. négre, ад ісп. negro = чорны) — прынятая ў многіх мовах назва прадстаўнікоў негроіднай расы (*негроідаў*).

**НЕГРЫ́ЛЫ** (ісп. negrillo, ад negro = чорны) — прадстаўнікі негрыльскай расы; афрыканскія пігмеі.

**НЕГРЫТО́СЫ** (ісп. negrittos, ад negro = чорны) — прадстаўнікі некаторых этнічных груп Паўд.-Усх. Азіі; азіяцкія пігмеі.

**НЕГРЫЦЮ́Д** (фр. nègritude, ад лац. niger = чорны) — сістэма нацыянальных поглядаў, якая прапагандуе ідэю перавагі негрыцянскай культуры і яе носьбітаў над культурай белай расы.

**НЕ́ГУС** (эфіоп. negus, ад negusa nagast = цар цароў) — тытул эфіопскага імператара да 1975 г.

**НЕ́ІДЫУМ** (н.-лац. neidium) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана пераважна на дне *літаральнай* зоны прэсных вадаёмаў.

**НЕЙЗІ́ЛЬБЕР** (ням. Neusilber = новае серабро) — сплаў медзі з нікелем і цынкам, які вызначаецца стойкасцю да *карозіі;* выкарыстоўваецца для вырабу пасуды, медыцынскіх інструментаў, а таксама ў машынабудаванні.

**НЕЙЛ** (англ. nail) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 5,715 см.

**НЕЙЛО́Н** (англ. nylon) — сінтэтычнае поліамідное валакно, а таксама тканіна з такога валакна.

**НЕЙРА-** (ад гр. neuron = нерв) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь якіх-н. прадметаў, з'яў з нервовай сістэмай.

**НЕЙРААНАТО́МІЯ** (ад *нейра-* + *анатомія*) — раздзел анатоміі, які вывучае форму і будову нервовай сістэмы і яе органаў.

**НЕЙРАБІЁНІКА** (ад *нейра-* + *біёніка*) — кірунак у біёніцы, звязаны з вывучэннем і мадэліраваннем дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы чалавека і жывёл для выкарыстання заканамернасці іх будовы пры стварэнні новых тэхнічных прыстасаванняў, кібернетычных сістэм.

**НЕЙРАБЛА́СТЫ** (ад *нейра-* + *-бласты*) — клеткі, якія з'яўляюцца папярэднікамі *нейронаў*, ад якіх адрозніваюцца здольнасцю да дзялення, малымі памерамі, нізкім змяшчэннем бялку.

**НЕЙРАГАРМО́НЫ** (ад *нейра-* + *гармоны*) — рэчывы, якія выпрацоўваюцца ў нервовых клетках і выдзяляюцца ў кроў або тканкавую вадкасць; дзейнічаюць у арганізме як гармоны.

**НЕЙРАГІНЕКАЛО́ГІЯ** (ад *нейра-* + *гінекалогія*) — раздзел медыцыны, які вывучае ўзаемасувязь

паміж захворваннямі жаночай палавой сферы і нервовай сістэмы.

**НЕЙРАГЛІ́Я** (ад *нейра-* + гр. glia = клей) — тканка нервовай сістэмы жывёльнага арганізма, у якой размешчаны нервовыя клеткі (*нейроны*) і іх адросткі.

**НЕЙРАГУМАРА́ЛЬНЫ** (ад *нейра-* + *гумаральны*) — звязаны з сумесным уздзеяннем нервовай сістэмы і гумаральных фактараў на органы, тканкі і фізіялагічныя працэсы (напр. н-ая рэгуляцыя).

**НЕЙРАДЭРМІ́Т** (ад *нейра-* + гр. derma = скура) — захворванне скуры, выкліканае нервова-псіхалагічнымі стрэсамі.

**НЕЙРАКЕРАЦІ́Н** (ад *нейра-* + *керацін*) — бялок групы керацінаў, які змяшчаецца ў белым рэчыве мозгу і ў абалонках нерваў.

**НЕЙРАКІБЕРНЕ́ТЫКА** (ад *нейра-* + *кібернетыка*) — раздзел біялагічнай кібернетыкі, які вывучае арганізацыю элементаў, аддзелаў аналізатараў, аналізатарскіх сістэм і ўсёй нервовай сістэмы арганізма.

**НЕЙРАЛЕПТАНАЛГЕЗІ́Я** (ад *нейра-* + гр. leptos = лёгкі + *аналгезія*) — штучнае абязбольванне, якое дасягаецца камбінаваным прыёмам болепатольных і *нейралептычных* сродкаў.

**НЕЙРАЛЕ́ПТЫКІ** (ад *нейра-* + гр. leptikos = які аблягчае) — лекавыя рэчывы, якія аказваюць супакойліваe дзеянне на цэнтральную нервовую сістэму і аслабляюць некаторыя сімптомы псіхозаў (трызненне, галюцынацыі, страх, трывогу і інш.).

**НЕЙРАЛЕПТЫ́ЧНЫ** (ад *нейра-* + гр. leptikos = які аблягчае); н - ы я  с р о д к і — тое, што і *нейралептыкі*.

**НЕЙРАЛІМФАМАТО́З** [ад *нейра-* + *лімфа* + гр. (onk)oma, -atos = пухліна] — вірусная хвароба курэй, індыкоў, фазанаў, радзей галубоў і качак; ма́рака хвароба.

**НЕЙРАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *нейра-* + *лінгвістыка*) — раздзел *нейрапсіхалогіі*, які вывучае працэсы ў цэнтральнай нервовай сістэме, звязаныя з вымаўленнем і распазнаваннем моўных выказванняў.

**НЕЙРАЛО́ГІЯ** (ад *нейра-* + *-логія*) — тое, што і *неўралогія*.

**НЕЙРАПІ́ЛЬ** (ад *нейра-* + гр. pilos = войлак) — спляценне адросткаў нервовых клетак (*дэндрытаў* і *аксонаў*), у якім засяроджаны *сінапсы* (кантакты паміж нервовымі клеткамі).

**НЕЙРАПЛЕ́ГІКІ** (ад *нейра-* + гр. plege = параліч) — тое, што і *нейралептыкі*.

**НЕЙРАПО́ДЫЙ** (ад *нейра-* + гр. pus, podos = нага) — брушная галінка *параподыі*.

**НЕЙРАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *нейра-* + *псіхалогія*) — раздзел псіхалогіі, які вывучае псіхічную дзейнасць чалавека ў сувязі з функцыяніраваннем цэнтральнай нервовай сістэмы ў пэўных умовах.

**НЕЙРАПСІХІ́ЧНЫ** (ад *нейра-* + *псіхічны*) — звязаны з уплывам нервовых працэсаў на псіхічную дзейнасць чалавека.

**НЕЙРАСАКРЭ́ЦЫЯ** (ад *нейра-* + *сакрэцыя*) — здольнасць некаторых нервовых клетак выпрацоўваць і выдзяляць у кроў або тканкавую вадкасць *нейрагармоны*.

**НЕЙРАСПО́РА** (н.-лац. neurospora) — сумчаты плесневы грыб сям.

сардарыевых, які развіваецца на глебе і на экскрэментах траваедных жывёл.

**НЕЙРАТРО́ПНЫ** (ад *нейра-* + *-тропны*) — які дзейнічае выбарачна на якія-н. элементы нервовай сістэмы.

**НЕЙРАФА́НЫ** (ад *нейра-* + гр. phanos = светлы) — сетка вельмі тонкіх валаконцаў, якія размешчаны каля *базальных* цельцаў і абумоўліваюць работу раснічнага апарата ў *інфузорый*.

**НЕЙРАФІБРАМАТО́З** [ад *нейра-* + *фібра* + гр. (onk)oma, -atos = пухліна] — захворванне, якое характарызуецца ўзнікненнем шматлікіх пухлінных вузлоў уздоўж нервовых ствалоў і нервовых закканчэнняў у скуры і пігментных плям на скуры.

**НЕЙРАФІБРЫ́ЛЫ** (ад *нейра-* + *фібрылы*) — ніткападобныя ўтварэнні ў нервовых клетках і іх адростках, якія ўдзельнічаюць у праводзенні па нервовай сістэме імпульса.

**НЕЙРАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *нейра-* + *фізіялогія*) — раздзел фізіялогіі, які вывучае функцыі нервовай сістэмы чалавека і жывёл.

**НЕЙРАХІ́МІЯ** (ад *нейра-* + *хімія*) — раздзел *біяхіміі*, які вывучае хімічны склад нервовай тканкі і асаблівасці абмену рэчываў у ёй.

**НЕЙРАХІРУ́РГ** (ад *нейра-* + *хірург*) — спецыяліст у галіне *нейрахірургіі*.

**НЕЙРАХІРУРГІ́Я** (ад *нейра-* + *хірургія*) — раздзел хірургіі, які вывучае захворванні цэнтральнай і перыферычнай нервовай сістэмы і распрацоўвае метады іх лячэння.

**НЕЙРО́Н** (гр. neuron = жыла, нерв) — нервовая клетка разам з адросткамі, якія ад яе адыходзяць.

**НЕЙРУ́ЛА** (лац. neurula, ад гр. neuron = нерв) — стадыя зародкавага развіцця хордавых жывёл і чалавека, якая наступае пасля *гаструлы*.

**НЕЙРУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *нейрула*) — утварэнне ў працэсе зародкавага развіцця нервовай пласцінкі і яе замыканне ў нервовую трубку ў хордавых жывёл і чалавека на стадыі *нейрулы*.

**НЕЙРЫЛЕ́МА** (ад *нейра-* + гр. lemma = скурка) — тое, што і *неўрылема*.

**НЕЙРЫ́Т** (ад гр. neuron = жыла, нерв) — 1) тое, што і *аксон;* 2) тое, што і *неўрыт*.

**НЕЙСЕ́РЫІ** (н.-лац. neisseria) — шарападобныя *бактэрыі*, якія жывуць у дыхальных шляхах млекакормячых і з'яўляюцца ўзбуджальнікамі *менінгіту, ганарэі*.

**НЕЙСТАФІ́ТЫ** (ад гр. neustos = які плавае + *-фіты*) — тып водных раслін (*гідрафітаў*) з плаваючымі асіміляцыйнымі органамі.

**НЕЙСТО́Н** (ад гр. neustos = які плавае) — сукупнасць арганізмаў, якія жывуць каля паверхневай плёнкі вады (зверху або знізу яе) прэсных і марскіх вадаёмаў (напр. прасцейшыя, лічынкі камароў, некаторыя малюскі і інш.).

**НЕЙТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. neutralisation, ад лац. neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) аслабленне ўплыву каго-н., чаго-н.; 2) учыненне каго-н., чаго-н. нейтральным (напр. н. дзяржавы); 3) хімічная рэакцыя ўзаемадзеяння кіслот з асновамі, у выніку якой

утвараюцца солі і раствор набывае нейтральны характар.

**НЕЙТРАЛІ́ЗМ** (ад лац. neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — палітыка дзяржавы, якая адстойвае свой *нейтралітэт*.

**НЕЙТРАЛІТЭ́Т** (ням. Neutralität, ад лац. neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) неўмяшанне ў вайну паміж іншымі дзяржавамі, а ў мірны час адмаўленне ад удзелу ў ваенных блоках; 2) неўмяшанне ў якую-н. барацьбу, сварку.

**НЕЙТРА́ЛЬНЫ** (лац. neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) які не прымыкае ні да аднаго з дзеючых бакоў; які паводле міжнароднай дагаваронасці вольны ад ваенных дзеянняў, ад размяшчэння войск (напр. н-ая дзяржава, н-ыя воды); 2) які не мае выразных адзнак, не аказвае ні карыснага, ні шкоднага ўздзеяння (напр. н. пах, н. раствор); 3) *фіз.* які не нясе ні адмоўнага, ні дадатнага зараду (напр. н. мезон).

**НЕЙТРАЛЬТЫ́НТ** (ням. Neutraltinte) — мінеральная чорная фарба, якая выкарыстоўваецца ў чарчэнні і маляванні.

**НЕЙТРАФІЛЁЗ** (ад *нейтрафілы*) — залішняя колькасць нейтрафілаў у перыферычнай крыві.

**НЕЙТРАФІ́ЛЫ** (ад лац. neuter = нічый, ніякі + *-філ*) — адна з форм зярністых *лейкацытаў (гранулацытаў)*, у *цытаплазме* якіх змяшчаюцца *гранулы* 2, што афарбоўваюцца як кіслымі, так і асноўнымі фарбавальнікамі (параўн. *базафілы, эазінафілы*).

**НЕЙТРО́Н** (англ. neutron, ад лац. neuter = ні той, ні іншы) — электрычна нейтральная элементарная часцінка, якая разам з *пратонам* уваходзіць у склад атамнага ядра.

**НЕЙТРОНАГРА́ФІЯ** (ад *нейтрон* + *-графія*) — метад вывучэння структуры рэчываў (малекул, крышталёў і вадкасцей) пры дапамозе *дыфракцыі* нейтронаў.

**НЕЙТРЫ́НА** (іт. neutrino, ад лац. neutrum = ніякае) — стабільная электрычна нейтральная элементарная часціца, маса якой набліжаецца да нуля.

**НЕК** (англ. neck = шыя) — магматычнае цела слупападобнай формы, утворанае вулканічнымі пародамі, якое першапачаткова запаўняла жарало вулкана і агалілася ў выніку *дэнудацыі* прылеглых парод.

**НЕКРА-** (гр. nekros = мёртвы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «мёртвы».

**НЕКРАБАКТЭРЫЁЗ** (ад *некра-* + *бактэрыі*) — тое, што і *некрабацылёз*.

**НЕКРАБАЦЫЛЁЗ** (ад *некра-* + *бацылы*) — інфекцыйная хвароба млекакормячых і птушак, зрэдку чалавека, якая характарызуецца амярцвеннем паражоных тканак (скуры, слізістых абалонак рота, стрававальнага тракта).

**НЕКРАБІЁЗ** (ад *некра-* + *-біёз*) — змены ў клетцы, якія папярэднічаюць яе смерці (*некрозу*); адміранне.

**НЕКРАЛА́ТРЫЯ** (ад *некра-* + *-латрыя*) — абагаўленне нябожчыкаў.

**НЕКРАЛО́Г** (н.-лац. necrologium, ад гр. nekros = мёртвы + logos = слова) — артыкул, прысвечаны

памерламу, са звесткамі пра яго жыццё і дзейнасць.

**НЕКРАСКАПІ́Я** (ад *некра-* + *-скапія*) — агляд трупа чалавека, які памёр гвалтоўнай смерцю.

**НЕКРАФА́ГІ** (ад *некра-* + *-фаг*) — жывёлы, якія харчуюцца рэшткамі мёртвых арганізмаў (напр. жукі-магільшчыкі, сцярвятнікі, гіены); трупаеды.

**НЕКРАФА́ГІЯ** (ад *некра-* + *-фагія*) — паяданне трупаў жывёл.

**НЕКРАФІЛІ́Я** (ад *некра-* + *-філія*) — палавая ненармальнасць, палавая цяга да трупаў.

**НЕКРАФО́БІЯ** (н.-лац. necrophobia, ад гр. nekros = мёртвы + phobos = страх) — неадольная боязь трупаў і пахавальных рэчаў.

**НЕКРО́З** (гр. nekrosis = амярцвенне) — адміранне групы клетак, органа або часткі яго ў жывым арганізме.

**НЕКРО́ПАЛЬ** (ад *некра-* + гр. polis = горад) — 1) вялікі могільнік у краінах Стараж. Усходу і антычным свеце; 2) месца, дзе пахаваны славутыя людзі.

**НЕКТА́Р** (гр. nektar) — 1) напітак багоў у старажытнагрэчаскай міфалогіі, які даваў ім бессмяротнасць; 2) салодкі сок, які выдзяляюць кветкі меданосных раслін.

**НЕКТО́Н** (гр. nekton = якое плавае) — сукупнасць водных жывёл (кіты, дэльфіны, рыбы і інш.), якія здольны да актыўнага перамяшчэння на значную адлегласць у адкрытых частках вадаёмаў (параўн. *планктон*).

**НЕКТРЫ́ДЫІ** (н.-лац. nectridia) — атрад выкапнёвых земнаводных, якія з'яўляюцца зыходнымі формамі сучасных хвастатых і бязногіх земнаводных.

**НЕ́КТРЫЯ** (н.-лац. nectria) — сумчаты грыб сям. нектрыевых, які развіваецца на адмерлых галінках дрэў і кустоў, зрэдку на жывых дрэвах.

**НЕ́ЛЬМА** (н.-лац. nelma) — прамысловая рыба сям. ласосевых, якая водзіцца ў паўночных морах і рэках.

**НЕМАРА́ЛЬНЫ** (лац. nemoralis = лясны); н - а я  р а с л і н н а с ц ь — сукупнасць раслінных згуртаванняў, па паходжанню звязаных з шыракалістымі лясамі.

**НЕМАТАДО́ЗЫ** (ад *нематоды*) — хваробы жывёл і чалавека, узбуджальнікамі якіх зяўляюцца нематоды.

**НЕМАТАФІТО́Н** (ад гр. nema, -atos = нітка + phyton = расліна) — гіганцкая вымерлая расліна палеазою, якая трапляецца ў выглядзе акамянелых ствалоў да 1 м у дыяметры.

**НЕМАТАФО́Р** (ад гр. nema, -atos = нітка + *-фор*) — ахоўная асобіна ў паліморфнай калоніі марскіх *гідроідаў*.

**НЕМАТАЦЫ́ДЫ** (ад *нематоды* + *-цыды*) — хімічныя прэпараты для знішчэння шкодных для сельскагаспадарчых раслін *нематодаў*.

**НЕМАТАЦЫ́СТЫ** (ад гр. nema, -atos = нітка + *цыста*) — жыгучыя клеткі ў некаторых кішачнаполасцевых жывёл, якія з'яўляюцца органамі нападзення і абароны.

**НЕМАТГЕЛЬМІ́НТЫ** (н.-лац. nemathelminthes) — тып *скалецыдаў*, які аб'ядноўвае класы *гастратрыхаў, нематодаў, кінарынхаў*, валаснёвых, калаўроткаў,

*акантацэфалаў*, пашыраны ў морах, прэсных вадаёмах, глебе; першаснаполасцевыя чэрві.

**НЕМАТО́ДЫ** (н.-лац. nematoda, ад гр. nema, -atos = нітка) — клас *нематгельмінтаў*; чэрві з нерасчлененым целам цыліндрычнай, вераценападобнай або ніткаватай формы, круглым на папярочным разрэзе, якія жывуць у морах, прэсных вадаёмах і глебе; круглыя чэрві.

**НЕМЕЗІ́ДА** (ад гр. Nemesis = імя старажытнагрэчаскай міфалагічнай багіні помсты, кары) — *перан.* адплата, помста, кара.

**НЕМЕЗІ́Я** (н.-лац. nemesia) — травяністая расліна сям. залознікавых з моцнагалінастым сцяблом, лінейным лісцем і аранжавымі, жоўтымі, ружовымі або чырвонымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная пераважна на поўдні Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**НЕМЕРЦІ́НЫ** (н.-лац. nemertini, ад гр. Nemertes = імя адной з *нерэід*) — тып *скалецыдаў*, чэрві з падоўжаным целам (ад 0,5 мм да 30 м), якія жывуць пераважна на дне мораў.

**НЕ́НІЯ** (лац. nenia = жалобная песня) — жалобная песня, якую ў многіх народаў спяваюць пры пахаванні.

**НЕО́Н** (н.-лац. neon, ад гр. neos = новы) — хімічны элемент, газ без колеру і паху, які выкарыстоўваецца ў электрычных лямпачках, рэкламных і іншых асвятляльных прыладах.

**НЕПАТЫ́ЗМ** (ад лац. nepos, -otis = унук, нашчадак) — раздача рымскімі папамі даходных пасад, вышэйшых царкоўных званняў сваякам для ўмацавання ўласнай улады.

**НЕПЕ́НТЭС** (н.-лац. nepenthes, ад гр. nepenthes =болесуцішальны) — травяністая расліна сям. непентэсавых з глечыкападобнымі ўтварэннямі на лістах для лоўлі насякомых, пашыраная ў тропіках і субтропіках.

**НЕ́ПЕР** [англ. D.Napier = прозвішча шатл. матэматыка (1550—1617)] — адзінка лагарыфмічнай адноснай велічыні.

**НЕПТУНІ́ЗМ** (ад лац. Neptunus = імя бога мора ў старажытнарымскай міфалогіі) — кірунак у *геалогіі*, пашыраны ў канцы 18 — пач. 19 ст., прыхільнікі якога лічылі, што ўсе горныя пароды ўтварыліся ў марскіх басейнах шляхам крышталізацыі або асядання.

**НЕПТУ́НІЙ** (н.-лац. neptunium, ад лац. Neptunus = назва планеты сонечнай сістэмы) — штучны радыеактыўны хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які належыць да *актыноідаў*.

**НЕРАЛІ́Н** (ад *нерол*) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва з прыемным пахам, які нагадвае пах чаромхі.

**НЕРВ** (лац. nervus = жыла, сухажылле) — 1) кожны з тонкіх адросткаў-валокнаў, якія адыходзяць ад галаўнога і спіннога мозгу і ўтвараюць разгалінаваную сістэму, здольную кіраваць дзейнасцю арганізма; 2) *перан.* асноўная дзейная сіла чаго-н.

**НЕРВА́ЦЫЯ** (фр. nervation, ад лац. nervus = жыла, сухажылле) — 1) размеркаванне жылак на пласцінках лістоў і крылах насякомых, жылкаванне; 2) *уст.* нервовае расстройства.

# Н

**НЕРВІ́ЗМ** (ад лац. nervus = жыла, сухажылле) — вучэнне аб вядучай ролі нервовай сістэмы ў працэсах жыццядзейнасці арганізма, якое распрацавана І.П.Паўлавым.

**НЕРВЮ́РА** (фр. nervure, ад лац. nervus = жыла, сухажылле) — 1) характэрная для гатычных збудаванняў арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рабро скляпення; 2) каркас крыла або апярэння самалёта.

**НЕРО́Л** (іт. Nerol = прозвішча княгіні) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць з прыемным пахам; выкарыстоўваецца ў парфумерыі.

**НЕ́РПА** (фін. norppa) — ластаногая млекакормячая жывёла сям. цюленяў, пашыраная ў Паўночна-Ледавітым акіяне, у паўночнай частцы Атлантычнага і Ціхага акіянаў, у некаторых паўночных азёрах.

**НЕ́РУНГІ** (ням. Nehrung) — доўгія пясчаныя косы на паўднёвым беразе Балтыйскага мора, якія аддзяляюць ад яго паўпрэснаводныя ліманы.

**НЕРЫ́ТАВЫ** (ад гр. nerites = марскі малюск) — мелкаводны (напр. н-ая зона, н-ыя адклады).

**НЕРЭ́ІДЫ** (гр. Nereis, -idos = дачка бога мора Нерэя ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — 1) марскія *німфы*, якія, паводле старажытнагрэчаскага міфа, дапамагалі мараплаўцам; 2) сямейства кольчатых чарвей класа многашчацінкавых; пашыраны ў морах, пераважна трапічных.

**НЕСЛІ́Я** (н.-лац. neslia) — травяністая расліна сям. крыжакветных з суцэльным лісцем і залацістажоўтымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Еўропе, Міжземнамор'і, Паўн. Афрыцы; на Беларусі трапляецца рэдка.

**НЕ́ТА** (іт. netto = *літар.* чысты) — вага тавару без *тары* 2; ц а н а н. — чыстая цана тавару пасля выліку пэўных скідак; д а х о д н. — чысты даход пасля выліку ўсіх расходаў (параўн. *брута*).

**НЕ́ТРЫУМ** (н.-лац. netrium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мезатэніевых, якая трапляецца пераважна на сфагнавых балотах.

**НЕ́ЎМЫ** (гр. neuma = знак, ківок) — старажытнае нотнае пісьмо з безлінейнай сістэмай.

**НЕЎРА-** (ад гр. neuron = нерв) — тое, што і *нейра-*.

**НЕЎРАГЛІ́Я** (ад *неўра-* + гр. glia = клей) — тое, што і *нейраглія*.

**НЕЎРАДЫСПАНСЕ́Р** (ад *неўра-* + *дыспансер*) — лячэбная ўстанова для нервовахворых.

**НЕЎРАДЭРМІ́Т** (ад *неўра-* + гр. derma = скура) — тое, што і *нейрадэрміт*.

**НЕЎРАЛГІ́Я** (ад *неўра-* + гр. algos = боль) — прыступ болю, які развіваецца пры запаленні якога-н. нерва.

**НЕЎРАЛО́ГІЯ** (ад *неўра-* + *-логія*) — навука, якая вывучае будову, развіццё і дзейнасць нервовай сістэмы.

**НЕЎРАПА́Т** (ад *неўра-* + *-пат*) — нервовахворы чалавек.

**НЕЎРАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *неўра-* + *паталогія*) — навука, якая вывучае хваробы нервовай сістэмы і

распрацоўвае метады іх дыягностыкі і лячэння.

**НЕЎРАПАТО́ЛАГ** (ад *неўрапаталогія*) — спецыяліст у галіне *неўрапаталогіі*.

**НЕЎРАПА́ТЫЯ** (ад *неўра-* + *-патыя*) — парушэнне дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы ў чалавека.

**НЕЎРАСТЭ́НІК** (ад *неўра-* + гр. asthenikos = слабасільны) — чалавек, які хварэе на *неўрастэнію*.

**НЕЎРАСТЭНІ́Я** (ад *неўра-* + гр. astheneia = слабасць) — функцыянальнае расстройства цэнтральнай нервовай сістэмы, якое выклікаецца гал.ч.ператамленнем.

**НЕЎРАФІБРАМАТО́З** [ад *неўра-* + *фібра-* + гр. (onk)oma, -atos = пухліна] — тое, што і *нейрафібраматоз*.

**НЕЎРАФІБРЫ́ЛЫ** (ад *неўра-* + *фібрылы*) — тое, што і *нейрафібрылы*.

**НЕЎРО́З** (н.-лац. neurosis, ад гр. neuron = жыла, нерв) — функцыянальнае нервова-псіхічнае захворванне, якое развіваецца пад уплывам цяжкіх перажыванняў, стрэсаў, псіхічнага перанапружання і інш.

**НЕЎРО́ЛАГ** (ад *неўра-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне неўралогіі.

**НЕЎРО́МА** (н.-лац. neuroma, ад гр. neuron = жыла, нерв) — пухлінападобнае разрастанне элементаў нервовых валокнаў у арганізме чалавека і жывёл.

**НЕЎРО́Н** (гр. neuron = жыла, нерв) — тое, што і *нейрон*.

**НЕЎРЫЛЕ́МА** (ад *неўра-* + гр. lemma = скурка) — абалонка нервовых валокнаў.

**НЕЎРЫНО́МА** (ад *неўра-* + гр. is, inos = валакно + -ома) — дабраякасная пухліна з клетак абалонкі *нерва*.

**НЕЎРЫ́Т** (ад гр. neuron = жыла, нерв) — запаленне *нерва*, якое развіваецца пры яго пашкоджанні, пераахаладжэнні цела, у выніку інфекцыйных захворванняў, пры атручванні.

**НЕФ** (фр. nef, ад лац. navis = карабель) — выцягнутая ўдоўжкі, звычайна прамавугольная частка памяшкання, абмежаваная радам калон або слупоў.

**НЕФАНА́ЛІЗ** (ад гр. nephos = хмара + *аналіз*) — аналіз карт размеркавання воблачнага покрыву, складзеных на аснове дадзеных з метэаралагічных штучных спадарожнікаў Зямлі.

**НЕФАСКО́П** (ад гр. nephos = хмара + *-скоп*) — прыбор для вызначэння напрамку і хуткасці руху хмар.

**НЕФЕЛАГІЛЕ́Я** (ад гр. nephele = хмара + *гілея*) — трапічны вечназялёны лес, які пакрывае горныя схілы на вышыні звыш 2000 м у раёнах з пастаяннымі туманамі.

**НЕФЕЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. nephele = хмара + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў даследавання *дысперсных* сістэм па рассейванню імі святла.

**НЕФЕЛІ́Н** (фр. nepheline, ад гр. nephele = воблака) — мінерал падкласа каркасных *сілікатаў*, бясколерны, шаравата-белы ці шэры, зрэдку чырвоны, зеленаваты; выкарыстоўваецца як сыравіна для здабычы алюмінію, у хімічнай і шкляной прамысловасці.

# Н

**НЕФЕЛО́МЕТР** (ад гр. nephele = хмара + *-метр*) — прыбор для вымярэння ступені каламутнасці вадкасцей, калоідных раствораў або густаты туманаў.

**НЕФРА-** (гр. nephros = нырка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае прыналежнасць да органаў выдзялення.

**НЕФРАЛЕ́ПІС** (н.-лац. nephrolepis, ад гр. nephros = нырка + lepis = луска) — папараць сям. даваліевых са стужкападобным перыстым лісцем, пашыраная пераважна ў тропіках; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях, аранжарэях.

**НЕФРАЛІТЫ́ЯЗ** (ад гр. *нефра-* + *-літ*) — захворванне, выкліканае ўтварэннем у нырках камянёў або пяску.

**НЕФРАЛО́ГІЯ** (ад *нефра-* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае будову, функцыі і хваробы нырак, а таксама распрацоўвае метады іх лячэння.

**НЕФРАМІ́КСІІ** (ад *нефра-* + гр. miksis = змяшэнне) — органы выдзялення ў многіх кольчатых чарвей (*сіпункулідаў, эхіурыдаў* і інш.).

**НЕФРАПА́ТЫЯ** (ад *нефра-* + *-патыя*) — зборнае абазначэнне групы розных захворванняў нырак (напр. н. цяжарных).

**НЕФРАПТО́З** (ад *нефра-* + *-птоз*) — *мед.* рухомасць ныркі.

**НЕФРАСКЛЕРО́З** (ад *нефра-* + *склероз*) — ушчыльненне і зморшчванне ныркі ў выніку разрастання ў ёй злучальнай тканкі.

**НЕФРАСТО́М** (ад *нефра-* + гр. stoma = рот) — лейкападобная адтуліна ў метанефрыдыях беспазваночных або ў нырках пазваночных.

**НЕФРАТАМІ́Я** (ад *нефра-* + *-тамія*) — аперацыя рассячэння ныркі; прымяняецца з мэтай выдалення камянёў з нырак.

**НЕФРАТО́М** (ад *нефра-* + гр. tome = адрэзак) — зачатак органаў выдзялення ў хордавых жывёл і чалавека.

**НЕФРАХЛА́МІС** (н.-лац. nephrochlamys) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнадэсмавых, якая пашырана ў сажалках, азёрах, вадасховішчах, рэках.

**НЕФРАЦЫ́ТЫ** (ад *нефра-* + *-цыты*) — своеасаблівыя клеткі, якія размешчаны па баках сэрца, у сценках *нефрыдый*, вакол кішэчніка многіх беспазваночных; функцыяніруюць як органы выдзялення.

**НЕФРАЦЫ́ТЫУМ** (н.-лац. nephrocytium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. аацыставых, якая пашырана ў балотах, стаячых вадаёмах, рэках.

**НЕФРО́З** (гр. nephros = нырка) — захворванне нырак у чалавека і жывёл, якое характарызуецца перараджэннем ырачнага эпітэлію, гал. ч. канальцаў.

**НЕФРО́ЛАГ** (ад *нефра-* + *-лаг*) — спецыяліст па *нефралогіі*.

**НЕФРО́МА** (н.-лац. nephroma) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. нефромавых, які расце ў шыракалістамяшаных лясах на ствалах і галінах дрэў, імшыстых пнях.

**НЕФРО́Н** (ад гр. nephros = нырка) — асноўная структурна-функцыянальная частка нырак пазваночных жывёл і чалавека.

**НЕФРЫ́ДЫІ** (гр. nephridion, ад nephros = нырка) — органы выдзялення (*протанефрыдыі* і *метанефрыдыі*) у беспазваночных жывёл.

**НЕФРЫ́Т** (ад гр. nephros = нырка) — 1) *мед.* запаленне нырак; 2) мінерал класа *сілікатаў* малочнабелага або зеленаватага колеру, які ідзе на выраб упрыгожанняў.

**НЕФРЭКТАМІ́Я** (ад гр. nephros = нырка + ektome = выразанне) — аперацыйнае выдаленне ныркі пры зваротных або прагрэсіруючых паталагічных працэсах.

**НІАБА́ТЫ** (ад *ніобій*) — солі ніобіевых кіслот; выкарыстоўваюцца для атрымання ніобію, *танталу* і іншых рэдкіх элементаў.

**НІАБІ́Т** (ад *ніобій*) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў чорнага або бурavата-чорнага колеру; руда ніобію.

**НІВА́ЛЬНЫ** (лац. nivalis = снежны) — звязаны са снегам або снегавым покрывам (напр. н. клімат).

**НІВА́ЦЫЯ** (ад лац. nix, nivis = снег) — працэс утварэння рэльефу ў выніку ўздзеяння снегу.

**НІВЕЛІ́Р** (фр. niveler = выраўноўваць) — геадэзічны інструмент для вызначэння вышыні розных пунктаў зямной паверхні.

**НІВЕЛІ́РАВАЦЬ** (ням. nivellieren, ад фр. niveler) — 1) вызначаць вышыню пунктаў зямной паверхні над узроўнем мора або адносна пэўнай вышыні; 2) *перан.* згладжваць розніцу паміж чым-н.

**НІВО́З** (фр. nivôse, ад лац. nivosus = снежны) — чацвёрты месяц года (з 21—23 снежня да 19—21 студзеня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

**НІГІЛІ́ЗМ** (ад лац. nihil = нішто, нічога) — 1) поўнае адмаўленне прынятых нормаў, прынцыпаў, маральных каштоўнасцей, выпрацаваных чалавецтвам; 2) кірунак у асяроддзі рускіх разначынцаў 60-х гг. 19 ст., якія адмоўна ставіліся да буржуазна-дваранскіх традыцый і прыгонніцкай ідэалогіі.

**НІГІЛІ́СТ** (ад лац. nihil = нішто, нічога) — 1) чалавек, які праяўляе *нігілізм* 1; 2) прадстаўнік разначыннай інтэлігенцыі 60-х гг. 19 ст. у Расіі, прыхільнік *нігілізму* 2.

**НІГРАЗІ́Н** (ад лац. niger = чорны + *азін*) — штучная арганічная фарба чорна-сіняга колеру, якая прымяняецца для фарбавання скуры, тканін і інш.

**НІ́ГРАНС** (н.-лац. nigrans) — рыба атрада кефалепадобных, якая пашырана ў Аўстраліі; вядома як акварыумная.

**НІГРАСПАРО́З** (ад н.-лац. nigrospora, ад лац. niger = чорны + гр. spora = семя) — хвароба кукурузы і бавоўніку, выкліканая паразітычнымі грыбамі, пры якой на пашкоджаных органах утвараюцца чорныя кропкі.

**НІГРО́Л** (ад лац. niger = чорны + -*ол*) — *уст.* від змазачнага масла для аўтамабільных, трактарных і іншых рухавікоў, прадукт перапрацоўкі нафты.

**НІЕ́ЛА** (іт. niello = чэрнь) — малюнак, выразаны на золаце або срэбры і запоўнены чэрню (цёмным сплавам срэбра, медзі, серы і буры).

**НІКА́НДРА** (н.-лац. nicandra) — травяністая расліна сям. паслёна-

вых з яйцападобным або рамбічным лісцем і адзіночнымі блакітнымі кветкамі, якая паходзіць з Паўд. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**НІКАЦІ́Н** (фр. nicotine, ад Nicot = імя фр. дыпламата) — ядавітае наркатычнае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў тытуні.

**НІКАЦІНАМІ́Д** (ад *нікацін* + *амід*) — вітамін групы B, які ўваходзіць у склад акісляльна-ўзнаўленчых ферментаў; змяшчаецца ў малацэ, бульбе, хлебе, мясе, рыбе і інш.

**НІКЕЛІ́Н** (ад *нікель*) — 1) мінерал класа *сульфідаў* чырвонага колеру з металічным бляскам; нікелевая руда; 2) сплаў медзі, нікелю і марганцу, які вызначаецца антыкаразійнай трываласцю.

**НІ́КЕЛЬ** (ням. Nickel, ад шв. nickel = падземны дух, гном) — хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які вызначаецца пластычнасцю і коўкасцю.

**НІКО́ЛЬ** [англ. W. Nicol = прозвішча англ. фізіка (1768—1851)] — прызма з ісландскага *шпату*, якая служыць для *палярызацыі* светлавых хваль.

**НІ́КСЫ** (ням. Nixen) — вадзяныя духі, русалкі ў старажытнагерманскай *міфалогіі*.

**НІКТАФО́БІЯ** (ад гр. nyks, -ktos = ноч + *-фобія*) — неадольная боязь цемры, сімптом псіхічнага расстройства.

**НІКТУРЫ́Я** (ад гр. nyks, -ktos = ноч + *-урыя*) — *мед.* выдзяленне значнай часткі сутачнай колькасці мачы ноччу, а не днём.

**НІКТЫНА́СТЫІ** (ад гр. nyks, -ktos = ноч + *настыі*) — рухі органаў вышэйшых раслін, абумоўленыя зменай дня і ночы (напр. раскрыванне кветак зранку і закрыванне іх на ноч).

**НІЛЬСБО́РЫЙ** [н.-лац. nielsbohrium ад Nils Bohr = імя і прозвішча дацкага фізіка (1885—1962)] — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент.

**НІМБ** (п.-лац. nimbos = воблака, туман) — 1) выява ззяння ў выглядзе круга вакол галавы як сімвал святасці на іконах, карцінах рэлігійнага зместу; 2) *перан.* атмасфера поспеху вакол каго-н. (напр. н. славы).

**НІ́МБУС** (п.-лац. nimbus) — дажджавая хмара.

**НІ́МФА** (гр. nymphe) — 1) бажаство ў вобразе жанчыны, якое ўвасабляе розныя сілы прыроды ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) стадыя ў развіцці большасці членістаногіх жывёл з няпоўным іх ператварэннем.

**НІМФАЛІ́ДЫ** (н.-лац. nymphalidae, ад гр. nymphe = німфа) — сямейства стракатых дзённых матылькоў; водзяцца ўсюды, асабліва разнастайныя і шматлікія ў тропіках.

**НІМФАМА́НІЯ** (ад *німфа* + *манія*) — хваравіта-павышаная палавая цяга ў жанчын.

**НІМФЕ́Я** (гр. nimphaia = якая належыць *німфам*) — водная расліна сям. гарлачыкавых, якая расце ў сажалках, азёрах, павольна цякучых рэчках; гарлачык.

**НІО́БІЙ** (н.-лац. niobium, ад гр. Niobe = імя дачкі міфічнага цара Тантала) — хімічны элемент, свет-

ла-шэры метал; выкарыстоўваецца ў ракетабудаванні, авіяцыйнай і касмічнай тэхніцы, радыёэлектроніцы.

**НІ́ПЕЛЬ** (англ. nipple) — металічная злучальная трубка з разьбой на канцах (у прыладах і механізмах).

**НІРВА́НА** (санскр. nirvāna = знікненне, згасанне) — стан спакою і шчасця, які, паводле *будызму*, дасягаецца адмаўленнем ад жыццёвых клопатаў і імкненняў.

**НІСТА́ГМ** (гр. nistagmos = дрымота) — *мед.* міжвольныя рухі вочных яблыкаў, якія часта паўтараюцца; дрыжанне вачэй.

**НІСТАЦЫ́Н** (ад гр. nystaktes = які гайдае) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які прымяняецца пры *кандыдамікозе*.

**НІТ** [1] (польск. nit, ад ням. Niete) — металічны стрыжань з галоўкай на адным канцы і разьбой на другім, на якую накручваецца гайка.

**НІТ** [2] (ад лац. nitere = бліпчаць) — адзінка яркасці паверхні, якая свеціцца, роўная яркасці паверхні ў 1 $м^2$ у перпендыкулярным да яе напрамку пры сіле святла ў 1 *кандэлу*.

**НІТАВА́ЦЬ** (польск. nitować, ням. nieten) — злучаць, змацоўваць *нітамі*.

**НІТО́Н** (ад лац. nitere = бліпчаць) — тое, што і *радон*.

**НІТРА-** (ад гр. nitron = салетра) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «азот», «азотны».

**НІТРААМАФО́СКА** (ад *нітра-* + *амафос*) — складанае мінеральнае азотна-фосфарна-калійнае ўгнаенне.

**НІТРАБАКТЭ́РЫІ** (ад *нітра-* + *бактэрыя)* — *бактэрыі*, якія пераўтвараюць аміяк і аманійныя солі ў *нітраты*; пашыраны ў глебах і вадаёмах.

**НІТРАБЕНЗО́Л** (ад *нітра-* + *бензол*) — алеістая ядавітая вадкасць з пахам горкага міндалю, якая атрымліваецца шляхам уздзеяння азотнай і сернай кіслот на бензол.

**НІТРАГЕ́Н** (лац. nitrogenium, ад гр. nitron = салетра + genos = нараджэнне) — лацінская назва *азоту*.

**НІТРАГІ́Н** (ад *нітра-* + гр. ago = засвойваю) — бактэрыяльнае ўгнаенне для бабовых культур, якое змяшчае клубеньчыкавыя бактэрыі, здольныя засвойваць кісларод.

**НІТРАГЛІЦЭРЫ́НА** (ад *нітра-* + *гліцэрына*) — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, складаны эфір азотнай кіслаты і гліцэрыны, бясколернае рэчыва, якое ўжываецца для вырабу бяздымнага пораху, дынаміту і як лекавы прэпарат.

**НІТРАЛА́К** (ад *нітра-* + *лак*) — лак на нітрацэлюлознай аснове.

**НІТРАЛО́Й** (ад *нітра-* + англ. alloy = прымесь, сплаў) — канструкцыйная сталь, якая змяшчае нітрыдаўтваральныя элементы.

**НІТРАМАНІ́Т** (ад *нітра-* + *маніт*) — хімічнае злучэнне, атрыманае шляхам нітравання маніту; выкарыстоўваецца для вырабу выбуховых рэчываў і ў медыцыне замест *нітрагліцэрыны*.

**НІТРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *нітра-* + *-метрыя*) — галіна ведаў, звязаная з вымярэннем колькасці азоту ў яго злучэннях з кіслародам.

**НІТРАТАЛУО́Л** (ад *нітра-* + *талуол*) — арганічнае злучэнне, пра-

дукт замяшчэння атамаў вадароду ў ядры талуолу нітрагрупамі; выкарыстоўваецца для сінтэзу фарбавальнікаў.

**НІТРА́ТЫ** (ад гр. nitron = салетра) — солі азотнай кіслаты; выкарыстоўваюцца ў хімічнай прамысловасці і як угнаенне.

**НІТРАФА́РБА** (ад *нітра-* + *фарба*) — фарба на *нітралаку*.

**НІТРАФЕ́Н** (ад *нітра-* + *фен*) — ядахімікат комплекснага дзеяння; выкарыстоўваецца для барацьбы з бур'янамі, шкоднымі насякомымі і грыбамі.

**НІТРАФЕНО́Л** (ад *нітра-* + *фенол*) — арганічнае злучэнне, прадукт замяшчэння атамаў вадароду ў ядры фенолу нітрагрупамі; выкарыстоўваецца для атрымання фарбавальнікаў.

**НІТРАФІ́ЛЫ** (ад *нітра-* + *-філ*) — расліны, якія маюць патрэбу ў павышанай колькасці азоту (напр. крапіва, маліна).

**НІТРАФІ́ЛЬНЫ** (ад *нітра-* + гр. phileo = люблю); н - ы я   л і ш а й н і к і — лішайнікі, якія растуць у месцах з павышаным утрыманнем азоцістых злучэнняў (напр. *калаплака, ксанторыя, фісцыя* і інш).

**НІТРАФІ́ТЫ** (ад *нітра-* + *-фіты*) — расліны, якія растуць на глебах, узбагачаных азотнымі злучэннямі.

**НІТРАФО́С** [ад *нітра-* + *(ама)фос*] — складанае мінеральнае азотна-фосфарнае ўгнаенне.

**НІТРАФО́СКА** [ад *нітра-* + *фос(фар)* + *ка(лій)*] — мінеральнае ўгнаенне, якое змяшчае азот, фосфарную кіслату, вокіс калію.

**НІТРАФУНГІ́Н** (ад *нітра-* + лац. fungus = грыб) — лекавы прэпарат, процігрыбковы сродак, які выкарыстоўваецца для лячэння *эпідэрмафіціі, кандыдамікозу* скуры і інш.

**НІТРАЦІ́Н** (ад *нітрат*) — содавая *салетра*, мінерал бясколерны, белы, чырвоны або жаўтаваты са шкляным бляскам.

**НІТРА́ЦЫЯ** (ад гр. nitron = салетра) — хімічная рэакцыя замяшчэння вадароду нітрагрупай у арганічных злучэннях.

**НІТРАЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад *нітра-* + *цэлюлоза*) — сумесь складаных эфіраў азотнай кіслаты і цэлюлозы.

**НІТРАЦЭМЕНТА́ЦЫЯ** (ад *нітра-* + *цэментацыя*) — дыфузійнае насычэнне паверхневага слоя стальных вырабаў вугляродам і азотам для павелічэння іх цвёрдасці, стойкасці і трываласці.

**НІТРАЭМА́ЛЬ** (ад *нітра-* + *эмаль*) — фарба, прыгатаваная на аснове *нітралаку*.

**НІТРО́ЗА** (н.-лац. nitrosus = нітравы) — нітрагрупа, якая пры рэакцыі замяшчае вадарод у арганічных злучэннях.

**НІТРО́ЛЕУМ** (ад *нітра-* + лац. oleum = алей) — разнавіднасць *лінолеуму*, які выкарыстоўваецца для абіўкі сталоў і сцен.

**НІТРО́МЕТР** (ад *нітра-* + *-метр*) — прыбор, якім вызначаюць колькасць азоту ў яго злучэннях з кіслародам.

**НІТРО́Н** (гр. nitron = салетра) — сінтэтычнае валакно і тканіна з яго.

**НІТРЫ́ДЫ** (ад *нітра-* + гр. eidos = выгляд) — злучэнні азоту з металамі і некаторымі неметаламі; выкарыстоўваюцца ў тэхніцы.

**НІТРЫ́ЛЫ** (ад *нітра-* + гр. yle = рэчыва) — арганічныя азоцістыя злучэнні, вытворныя сінільнай кіслаты; выкарыстоўваюцца пры вырабе сінтэтычных смолаў.

**НІТРЫ́ТЫ** (ад гр. nitron = салетра) — солі азоцістай кіслаты; выкарыстоўваюцца ў хімічнай прамысловасці і як угнаенне.

**НІТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *нітра-* + -*фікацыя*) — працэс мікрабіялагічнага ператварэння *аміяку* ў азотную кіслату (параўн. *дэнітрыфікацыя*).

**НІТЫНО́Л** [ад *ні(кель)* + *ты(та)н*] — гарачаўстойлівы нікелева-тытанавы сплаў.

**НІТЭ́ЛА** (н.-лац. nitella) — шматклетачная водарасць сям. нітэлавых, якая расце на мяккіх ілістых грунтах у чыстай, спакойнай вадзе, радзей у вадаёмах з пясчаным дном.

**НІТЭЛО́ПСІС** (н.-лац. nitellopsis) — шматклетачная водарасць сям. *харавых*, якая найбольш часта трапляецца на ілістым дне ў глыбокіх прэсных вадаёмах.

**НІХРО́М** [ад *ні(кель)* + *хром*] — гарачатрывалы сплаў нікелю і хрому.

**НІ́ЦШЫЯ** (н.-лац. nitzschia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. ніцшыевых, якая пашырана ў марскіх і саланаватых водах, трапляецца таксама ў глебе.

**НІЦШЭА́НСТВА** [ад ням. F.Nietzsche = прозвішча ням. філосафа (1844—1900)] — філасофскі кірунак, які прапаведуе крайні індывідуалізм, культ «звышчалавека», знявагу да норм маралі.

**НІ́ША** (фр. niche) — 1) паглыбленне ў сцяне для ўстаноўкі статуй, бюстаў, ваз, мэблі і інш.; 2) паглыбленне ў сценцы акопа, траншэі для боепрыпасаў; 3) *мед.* дэфект слізістай абалонкі сценкі страўніка, які выяўляецца пасля ўвядзення кантраснага рэчыва.

**НІЯЦЫ́Н** (англ. niacin) — тое, што і *ніяцынамід*.

**НІЯЦЫНАМІ́Д** (ад *ніяцын* + *амід*) — нікацінавая кіслата.

**НО́БЕЛІЙ** [н.-лац. nobelium, ад шв. A.Nobel = прозвішча шв. вынаходцы і прадпрымальніка (1833—1896)] — штучны радыеактыўны хімічны элемент, які належыць да *актыноідаў*.

**НО́БІЛЬ** (лац. nobilis = знатны) — 1) прадстаўнік знаці, арыстакрат у Стараж. Рыме; 2) прадстаўнік знаці ў сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**-НОЗ** (гр. nosos = хвароба) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае хваробу жывёл, часам чалавека.

**НОК** (гал. nok) — *мар.* канцавая частка ўсякага гарызантальнага або нахільнага рангоутнага дрэва (гл. *рангоут*), напр. *рэі, гафеля* і г.д.

**НОМ** (гр. nomos = *літар.* закон, пастанова; песня) — 1) старажытнагрэчаская назва асноўнай адміністрацыйнай адзінкі (акругі) у Стараж. Егіпце; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка сучаснай Грэцыі; 3) песня, гімн у старажытных грэкаў.

**-НОМ** [1] (гр. nome = частка) — другая састаўная частка складаных

слоў, якая адпавядае паняццю «член».

**-НОМ** [2] (гр. nomos = права, закон) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «палажэнне», «закон».

**НО́МА** (гр. nome = раз'яданне) — паражэнне мяккіх тканак твару ў аслабленых дзяцей, якія перанеслі інфекцыйнае захворванне; устарэлая назва — вадзяны рак.

**-НОМІЯ** (гр. nomos = права, закон) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «становішча», «сістэма поглядаў або правіл».

**НО́НА** (лац. nona = дзевятая) — 1) *муз.* дзевятая ступень дыятанічнай *гамы*; інтэрвал, які ахоплівае дзевяць ступеней; 2) вершаваная страфа з дзевяці радкоў.

**НОНАДАРАНТЫ́ЗМ** (ад лац. non = не + adorantes = якія пакланяюцца) — рэлігійна-філасофскі рух на Беларусі ў 2-й пал. 16 ст., паслядоўнікі якога адмаўляліся пакланяцца Хрысту, лічылі яго не богам, а чалавекам, не прызнавалі неўміручасці душы, замагільнага свету.

**НО́НІУС** [н.-лац. nonius, ад парт. P.Nuñez = прозвішча парт. матэматыка (1492—1577)] — дадатковая шкала вымяральнага інструмента, якая дазваляе павысіць дакладнасць адліку па асноўнай шкале ў некалькі разоў (10, 20 і больш).

**НОНКАМБАТА́НТЫ** (фр. noncombattans) — асобы ў міжнародным праве, якія ў час вайны не ўваходзяць у склад узброеных сіл, або хоць і ўваходзяць (напр. медыцынскі персанал), але не прымаюць непасрэднага ўдзелу ў баявых дзеяннях (параўн. *камбатанты*).

**НОНКАНФАРМІ́ЗМ** (ад лац. non = не + *канфармізм*) — 1) тэістычная плынь у Англіі, якая не прызнае вучэння і абрадаў дзяржаўнай англіканскай царквы; 2) іншадумства, нязгода з існуючай ідэалогіяй або маральнай дактрынай.

**НОНКАНФАРМІ́СТЫ** (англ. nonconformists, ад лац. non = не + англ. conformist = той, хто прытрымліваецца прадпісанняў царквы) — члены англійскіх царкоўных арганізацый, якія не прызнаюць вучэння і абрадаў дзяржаўнай англіканскай царквы.

**НОН-СТО́П** (англ. non-stop, ад лац. non = не + англ. stop = прыпынак) — тое, што адбываецца без перапынку, напр. палёт без прамежкавай пасадкі, відовішча, якое паўтараецца бесперапынна і якое можна пaглядзець у любы час.

**НО́НСЭНС** (англ. nonsense, ад лац. non = не + sensus = сэнс) — бяссэнсіца, недарэчнасць.

**НОРАДРЭНАЛІ́Н** [ад *нор(ма)* + *адрэналін*] — гармон, які ўтвараецца наднырачнікамі і служыць *медыятарам* пры перадачы імпульсаў у *сімпатычнай* 2 нервовай сістэме.

**НОРД** (гал. noord) — 1) поўнач, паўночны напрамак; 2) паўночны вецер.

**НОРД-ВЕ́СТ** (гал. noordwest) — 1) паўночны захад, паўночна-заходні напрамак; 2) паўночна-заходні вецер.

**НОРД-О́СТ** (гал. noordoost) — 1) паўночны ўсход, паўночна-ўсходні напрамак; 2) паўночна-ўсходні вецер.

**НО́РМА** (лац. norma) — 1) агульнапрыняты, абавязковы ў пэўным

асяроддзі парадак, лад чаго-н. (напр. нормы паводзін, этычныя нормы); 2) устаноўленая мера, сярэдняя велічыня чаго-н. (напр. н. выпрацоўкі, н. выпадзення ападкаў).

**НО́РЫЯ** (ісп. noria, ад ар. nāūra) — каўшовы *элеватар* 2 з радам чарпакоў на рухомым ланцугу для падымання сыпкіх цел, вады і г.д.

**НО́СТРА** [іт. nostro (conto) = наш рахунак] — *рахунак*, які банк мае ў іншым банку (партнёры па дагавору) для ўнясення бягучых сум.

**НО́ТА** [1] (лац. nota = знак, заўвага) — 1) умоўны графічны знак для абазначэння музычнага гуку, а таксама сам гэты гук; 2) *мн.* музычны твор у нотным запісе (напр. папка з нотамі); 3) *перан.* тон гаворкі, у якім выражана пэўнае пачуццё (напр. н. незадавальнення).

**НО́ТА** [2] (лац. nota = знак, заўвага) — афіцыйны дыпламатычны зварот урада адной дзяржавы да ўрада другой (напр. н. пратэсту).

**НОТАБЕ́НА** (лац. nota bene = заўваж добра) — памета на палях кнігі, рукапісу, дакумента каля слоў, на якія трэба звярнуць асаблівую ўвагу (мае выгляд №В).

**НОТАГЕ́Я** (н.-лац. notogea, ад гр. notos = поўдзень + ge = зямля) — адно з трох асноўных зоагеаграфічных падраздзяленняў сушы, якое ўключае Аўстралію (параўн. *неагея* і *арктагея*).

**НОТАГРА́ФІЯ** (ад *нота* + *-графія*) — 1) апісанне зместу і знешняга афармлення нотных выданняў; 2) складанне пералікаў, аглядаў, паказальнікаў музычных твораў.

**НОТАПО́ДЫЙ** (ад гр. notos = спіна + pus, podos = нага) — асноўная частка *параподыі*, яе спінная галінка.

**НОТАТРЭ́МА** (ад гр. notos = спіна + trema = адтуліна) — жаба сям. квакшавых, якая пашырана ў Паўд. Амерыцы.

**НОТАХО́РД** (ад гр. notos = спіна + chorde = струна) — гібкі шкілетны цяж уздоўж сярэдняй лініі спіннога боку *эмбрыёнаў* хордавых.

**НО́ТЫС** (англ. notice) — 1) апавяшчэнне аб поўнай гатоўнасці судна да пагрузкі або разгрузкі; 2) апавяшчэнне аб пастаўцы рэальнага тавару паводле біржавога кантракту.

**НО́УМЕН** (гр. noumenon = ахопленае розумам) — тое, што пазнаецца розумам у процілегласць дадзенаму ў пачуццях (*феномену*).

**НОЎ-ХА́Ў** (англ. know-how ад know = ведаць + how = як) — 1) сукупнасць тэхнічных ведаў і вопыту, неабходных для ажыццяўлення якога-н. вытворчага працэсу; кампетэнцыя, набытая працяглым вопытам; 2) камерцыйная, тэхнічная, тэхналагічная інфармацыя ў выглядзе спецыяльнай тэхнічнай дакументацыі, вытворчага вопыту.

**НОЦЫРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. noceo = пашкоджваю + *рэцэптары*) — адчувальныя нервовыя заканчэнні, якія ўспрымаюць болевыя раздражненні.

**НУВАРЫ́Ш** (фр. nouveau riche = новы багач) — асоба, якая спрытна і хутка абагацілася на спекуляцыях.

# Н

**НУВІ́СТАР** (ад іт. nuovo = новы + vista = выгляд) — звышмініяцюрная металакерамічная прыёмнаўзмацняльная лямпа; выкарыстоўваецца ў малагабарытнай радыёэлектроннай апаратуры павышанай надзейнасці.

**НУГА́** (фр. nougat, ад лац. nux = арэх) — кандытарскі выраб з салодкай арэхавай масы.

**НУДЫ́ЗМ** (фр. nudisme, ад лац. nudus = голы) — прапаганда культу аголенага цела.

**НУКЛЕАЗІ́ДЫ** (ад лац. nucleus = ядро) — прыродныя і сінтэтычныя злучэнні, якія складаюцца з рэштак пурынавых або пірымідынавых асноў, звязаных з *рыбозай*; уваходзяць у склад *нуклеатыдаў*.

**НУКЛЕА́ЗЫ** (ад лац. nucleus = ядро) — *ферменты*, якія расшчапляюць нуклеінавыя кіслоты і іх вытворныя ў жывёльных і раслінных арганізмах.

**НУКЛЕАПРАТЭІ́ДЫ** (ад лац. nucleus = ядро + *пратэіды*) — складаныя рэчывы, пабудаваныя з простых бялкоў і нуклеінавых кіслот, уваходзяць у склад ядзер і *цытаплазмы* ўсіх раслінных і жывёльных клетак.

**НУКЛЕА́РНЫ** (н.-лац. nuclearis, ад лац. nucleus = ядро) — які мае адносіны да ядра.

**НУКЛЕАТЫ́ДЫ** (ад лац. nucleus = ядро) — арганічныя злучэнні, у склад якіх уваходзяць вуглявод, рэштка фосфарнай кіслаты і вытворныя *пурыну* або пірамідыну; выконваюць важную ролю ў абмене рэчываў у раслінных і жывёльных арганізмах.

**НУКЛЕІ́Н** (ад лац. nucleus = ядро) — арганічнае рэчыва, багатае фосфарам, якое змяшчаецца ў клетачных ядрах.

**НУКЛЕІ́НАВЫ** (ад *нуклеін*); н - ы я  к і с л о т ы — тое, што і *полінуклеатыды*.

**НУКЛЕО́ІД** (ад лац. nucleus = ядро + *-оід*) — скапленне ядзернага рэчыва бактэрыяльнай клеткі.

**НУКЛЕО́ЛЬ** (лац. nucleolus = ядзерца) — пастаянная састаўная частка ядра раслінnай і жывёльнай клеткі.

**НУ́КЛЕУС** (лац. nucleus = ядро) — 1) невялікая сям'я пчол, у якой гадуецца пчаліная матка; 2) частка каменнага жаўлака, ад якога ў каменным веку адколвалі пласцінкі для вырабу прылад.

**НУКЛІ́ДЫ** (ад лац. nucleus = ядро) — *фіз.* агульная назва атамаў, якія адрозніваюцца колькасцю *нуклонаў* у ядры або, пры аднолькавай колькасці нуклонаў, змяшчаюць розную колькасць *пратонаў* ці *нейтронаў*.

**НУКЛО́Н** (ад лац. nucleus = ядро) — агульная назва часціц атамнага ядра — *пратонаў* і *нейтронаў*.

**НУЛІСО́МІЯ** (ад лац. nullus = ніякі + *сома*) — адсутнасць у храмасомным наборы клетак арганізма якой-н. пары гамалагічных *храмасом* у норме, уласцівай дадзенаму віду; прыватны выпадак *анеуплаідыі*.

**НУЛІФІКА́ЦЫЯ** (н.-лац. nullificatio, ад лац. nullus = ніякі + facere = рабіць) — пазбаўленне ўсякага значэння, ануляванне; н.  г р о ш а й — скасаванне дзяржавай абясцэненых папяровых грашовых знакаў.

**НУЛЬ** (лац. nullus = ніякі) — 1) лічбавы знак «О», які абазначае адсутнасць велічыні; прыпісаны да лічбы справа ўдзесяцярае яе; 2) умоўная велічыня, адносна якой вылічаюцца іншыя велічыні; 3) *перан.* што-н. вельмі малое, нікчэмнае (напр. н. вынікаў, н. увагі).

**НУЛЬ-ІНДЫКА́ТАР** (ад *нуль* + *індыкатар*) — прыбор для фіксавання адсутнасці электрычнага току або напружання ў электрычным ланцугу (напр. *гальванометр, фотаэлемент* і інш.).

**НУ́МАР** (лац. numerus = лік) — 1) парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных (напр. н. дома); 2) прадмет, абазначаны пэўным лікам па парадку (напр. свежы н. газеты); 3) размер адзення, абутку і інш.; 4) асобны пакой у гасцініцы; 5) асобная частка канцэртнай праграмы (напр. эстрадны н.); 6) які-н. нечаканы, дзіўны ўчынак (напр. выкінуць н.).

**НУМАРАВА́ЦЬ** (лац. numerare) — ставіць на чым-н. *нумары* ў паслядоўным парадку.

**НУМАРА́ТАР** (лац. numerator = лічыльнік) — апарат, пры дапамозе якога нумаруюцца аблігацыі, білеты, квітанцыі і іншыя дакументы.

**НУМАРА́ЦЫЯ** (лац. numeratio) — 1) *мат.* сукупнасць прыёмаў абазначэння (запісу) і назвы лікаў; злічэнне; 2) лічбавае абазначэнне прадметаў, размешчаных у паслядоўным парадку (напр. н. кватэр, н. старонак).

**НУМІЗМА́Т** (ад гр. nomisma, -atos = манета) — збіральнік манет і медалёў; спецыяліст у галіне *нумізматыкі*.

**НУМІЗМА́ТЫКА** (ад гр. nomisma, -atos = манета) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае манеты, медалі, ордэны і значкі.

**НУМУЛІ́Т** (ад лац. nummulus = манетка) — вымерлая марская аднаклетачная жывёліна са шматкамернай ракавінай у выглядзе плоскай спіралі; была распаўсюджана ў *палеагене*.

**НУ́НЦЫЙ** (лац. nuntius) — пастаянны дыпламатычны прадстаўнік рымскага папы пры ўрадзе якой-н. дзяржавы (параўн. *легат*[1] 2).

**НУС** (гр. nus = розум) — дух, розум, сэнс, думка як цэнтральныя паняцці старажытнагрэчаскай філасофіі.

**НУТ** (тур. nohut) — травяністая расліна сям. бабовых, якая вырошчваецца як харчовая і кармавая пераважна ў Афрыцы, Сярэд. і Малой Азіі; інтрадукавана на Беларусі.

**НУТА́ЦЫЯ** (лац. nutatio = хістанне) — 1) *фіз.* адна з форм хістання на восі цела, якое верціцца (напр. н. артылерыйскага снарада); 2) абарачальны рух вяршалін растучых органаў раслін, абумоўлены нераўнамерным ростам розных іх бакоў.

**НУТРЫЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад п.-лац. nutritio = харчаванне + *-логія*) — навука аб харчаванні чалавека і жывёл, якая вывучае фізіялогію, біяхімію і гігіену харчавання.

**НУ́ТРЫЯ** (ісп. nutria, ад лац. lutra = выдра) — млекакормячая жывёла атрада грызуноў з каштоўным футрам; балотны бабёр.

**НУ́ТЧФІЛЬТР** (ням. Nutschfilter, ад nutschen = ссаць) — самы прос-

# О

ты *фільтр*, у якім вадкасць прасочваецца праз порыстыя керамічныя пліты або тканіну, што ляжыць на краце.

**НУЦЭ́ЛУС** (ад лац. nucella = арэшак) — цэнтральная частка насеннага пачатка голанасенных і пакрытанасенных раслін, з якой развіваецца зародкавы мяшок.

**НЫ́РКА** (ст.-польск. nyrka, ад с.-в.-ням. niere) — парны орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл.

**НЬЮ-ГЕМПШЫ́Р** (англ. New Hampshire = назва штата ў ЗША) — мяса-яечная парода курэй, выведзеная ў ЗША.

**НЬЮС-РЭ́ЛІС** (фр. news-relise) — тэхнічныя дадзеныя аб тавары, аб самой кампаніі, якія дазваляюць спажыўцу атрымаць шырокую інфармацыю аб прадмеце размовы.

**НЬЮ́ТАН** [англ. I.Newton = прозвішча англ. фізіка (1643—1727)] — адзінка вымярэння сілы ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная сіле, якая целу масай 1 кг надае паскарэнне 1 м/с$^2$.

**НЬЮФА́ЎНДЛЕНД** (англ. Newfoundland = назва вострава ля ўсходніх берагоў Паўн. Амерыкі) — парода буйных службовых сабак з доўгай чорнай шэрсцю, якія выкарыстоўваюцца для выратавання тапельцаў і як вартаўнічыя; вадалаз.

**НЭ́НДЗА** (польск. nędza) — 1) нястача, беднасць, галеча; 2) туга, нуда; 3) *перан.* той, хто ўвесь час ные, скардзіцца.

**НЭСЭСЭ́Р** (фр. necessaire = неабходны) — шкатулка з наборам прылад для шыцця, туалету і інш.

**НЮ** (фр. nu = голы) — адлюстраванне жаночага цела ў выяўленчым мастацтве.

**НЮА́НС** (фр. nuance) — адценне, ледзь прыкметнае адрозненне ў чым-н. — у гуках, колерах, меркаваннях і г.д.

**НЯКЕ́РА** (н.-лац. neckera) — ліс тасцябловы мох сям. някеравых, які трапляецца ў цяністых лясах, часцей на ствалах шыракалістых дрэў.

# О

**ОБЕР-** (ням. ober = галоўны, старшы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «вышэйшы», «старшы» (па пасадзе).

**ОБЕР-АФІЦЭ́Р** (ад *обер-* + *афіцэр*) — афіцэрскае званне ў арміях некаторых краін ад прапаршчыка да капітана ўключна.

**ОБЕРГРУПЕНФЮ́РЭР** (ням. Obergruppenführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню генерала пяхоты.

**ОБЕР-КАНДУ́КТАР** (ад *обер-* + *кандуктар*) — *уст.* галоўны кандуктар.

**ОБЕР-ЛЕЙТЭНА́НТ** (ням. Oberleutnant) — паручнік у нямецкай,

аўстрыйскай і ў даўняй польскай арміі.

**ОБЕР-МА́ЙСТАР** (ад *обер-* + *майстар*) — старшы майстар у доменных, пракатных і сталеплавільных цэхах.

**ОБЕР-ПАЛІЦМА́ЙСТАР** (ад *обер-* + *паліцмайстар*) — шэф паліцыі ў буйным горадзе ў царскай Расіі.

**ОБЕР-ПРАКУРО́Р** (ад *обер-* + *пракурор*) — 1) службовая асоба, якая ўзначальвала дэпартамент Сената ў царскай Расіі; 2) вышэйшая службовая асоба, якая на правах міністра ўзначальвала Сінод у царскай Расіі.

**ОБЕРШАРФЮ́РЭР** (ням. Oberscharführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню фельдфебеля.

**ОБЕРШТУРМБАНФЮ́РЭР** (ням. Obersturmbannführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню падпалкоўніка.

**ОБЕРШТУРМФЮ́РЭР** (ням. Obersturmführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню обер-лейтэнанта.

**О́БЕР-ШЭНК** (ням. oberschenk = старшы віначэрпій) — вышэйшы прыдворны чын 2-га класа ў Расійскай імперыі.

**ОБЕР-ЯФРЭ́ЙТАР** (ад *обер-* + *яфрэйтар*) — старшы салдат у арміях некаторых еўрапейскіх краін.

**О́ВЫ** (лац. ovum = яйцо) — яйцападобныя арнаментальныя матывы ў іанічным і карынфскім архітэктурных *ордэрах*.

**О́ГАН** (гал. ogen = *літар.* вочы) — *мар.* пятля на канцы або на сярэдзіне троса, якая надзяваецца на мачту, рэю і інш.

**О́ДА** (гр. ode = песня) — 1) урачысты верш, прысвечаны якой-н. значнай падзеі або асобе; 2) вакальная або вакальна-інструментальная кампазіцыя, якая ўслаўляе якую-н. ідэю або асобу.

**О́ДЭЛЬСТЫНГ** (нарв. odelsting) — ніжняя палата нарвежскага парламента *(стортынга)*; параўн. *лагтынг.*

**О́ЖРАГІС** (літ. óžragis = казіны рог) — старадаўні літоўскі духавы музычны інструмент, зроблены з казінага рога.

**О́ЗЫ** (шв. osar) — невысокія вузкія валы з ледніковых адкладаў (пяску, гравію, гальکі і інш.).

**-ОІД** (гр. eidos = выгляд) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на падабенства ў чым-н. або паходжанне ад чаго-н.

**О́ЙКАСНЫ** (ад гр. oikos = маёмасць) — маёмасны; о - а я г а - с п а д а р к а — гаспадарка, у якой вытворчасць і спажыванне замкнуты ў межах сям'і, дому.

**-ОЛ** (лац. oleum = алей) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «алей».

**О́ЛЕУМ** (лац. oleum = алей) — раствор сернага *ангідрыду* ў 100 %-й сернай кіслаце; выкарыстоўваецца ў вырабе арганічных фарбавальнікаў, выбуховых рэчываў і інш.

**О́ЛЬДЭРМЕН** (англ. olderman = старэйшына) — член гарадскога самакіравання ў Англіі і ЗША.

**ОМ** [ням. G.Ohm = прозвішча ням. фізіка (1787—1854)] — адзінка вымярэння электрычнага супраціўлення ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная супраціўленню ўчастка электрычнага ланцуга,

# О

у якім пастаянны ток сілай 1 *ампер* выклікае напружанне 1 *вольт*.

**-ОМА** [гр. (onk)oma = пухліна] — другая састаўная частка складаных слоў, якая выкарыстоўваецца пры назвах пухлін.

**О́МБУДСМЕН** (шв. ombudsman) — службовая асоба парламента ў некаторых краінах, якая ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю ўрадавых органаў.

**ОММЕ́ТР** (ад *ом* + *-метр*) — прыбор для вымярэння электрычнага супраціўлення праваднiка ў омах.

**О́МНІБУС** (лац. omnibus = для ўсіх) — даўнейшы шматмесны конны *экіпаж* для перавозкі пасажыраў.

**О́МУЛЬ** (рус. омуль) — марская рыба сям. ласасёвых (водзіцца таксама ў возеры Байкал), якая на нераст выплывае ў рэкі.

**О́НІКС** (гр. onyks = ногаць) — мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *агату*, у якім чаргуюцца слаі чорнай і белай афарбоўкі; выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе.

**О́ПЕРА** (іт. opera, ад лац. opera = твор) — 1) музычна-драматычны твор, пры пастаноўцы якога выканаўцы спяваюць у суправаджэнні аркестра; 2) тэатр, дзе ставяцца і выконваюцца такія творы.

**О́ПЕРА-БУФ** (іт. opera buffa) — італьянская разнавіднасць *оперы* з камедыйным або сатырычным сюжэтам.

**О́ПЕРА-СЕ́РЫЯ** (іт. opera seria = сур'ёзная опера) — жанр італьянскай *оперы* 17—18 ст., у якім пераважалі героіка-міфалагічныя і легендарна-гістарычныя сюжэты і сольныя нумары.

**О́ПІДУМ** (лац. oppidum) — 1) кельцкая крэпасць, якая мела каменныя сцены і прамавугольную форму; 2) часовы горад-крэпасць перыяду Рымскай імперыі.

**О́ПІУМ, О́ПІЙ** (лац. opium, ад гр. opion = макавы сок) — 1) *наркотык*, высушаны млечны сок з галовак няспелага маку; выкарыстоўваецца для атрымання розных лекавых сродкаў; 2) *перан.* тое, што атупляе розум, свядомасць.

**ОПІЯМА́НІЯ** (ад *опіум* + *манія*) — хваравітая цяга да опіуму як разнавіднасць *наркаманіі*.

**ОПТАЭЛЕКТРО́НІКА** (ад гр. optos = бачны + *электроніка*) — кірунак электронікі, які ахоплівае пытанні выкарыстання аптычных і электрычных метадаў апрацоўкі, захоўвання і перадачы інфармацыі.

**О́ПТЫК** (гр.optikos = які датычыць зроку) — 1) спецыяліст у галіне *оптыкі*; 2) майстар па вырабу аптычных прыбораў.

**О́ПТЫКА** [гр. optike (techne) = навука аб зрокавым успрыманні] — 1) раздзел *фізікі*, які вывучае з'явы і ўласцівасці святла; 2) прыборы і інструменты, дзеянне якіх заснавана на законах гэтай навукі (напр. бінокль, акуляры і інш.).

**О́ПТЫМУМ** (лац. optimum = найлепшае) — сукупнасць найбольш спрыяльных умоў для чаго-н.

**О́ПУС** (лац. opus = праца, твор) — 1) музычны твор, абазначаны парадкавым нумарам у шэрагу іншых твораў дадзенага кампазітара; 2) *іран.* усякі твор, праца якога-н. аўтара.

**О́РГАН** (гр. organon = прылада, інструмент) — 1) частка арганізма,

якая мае пэўную будову і выконвае пэўную функцыю; 2) установа, якая выконвае пэўныя задачы ў той або іншай галіне грамадскага жыцця (напр. органы народнай адукацыі); 3) газета або часопіс, якія выдаюцца якой-н. арганізацыяй або ўстановай.

**О́РГІЯ** (гр. orgia) — 1) рэлігійны абрад, звязаны з культам багоў віна і вінаробства ў старажытных народаў Усходу, Грэцыі, Рыму; 2) *перан.* шумная, разбэшчаная гулянка.

**О́РДЭН** (ням. Orden, ад лац. ordo = рад, разрад) — 1) знак узнагароды за якія-н. заслугі; 2) каталіцкае манаскае аб'яднанне з пэўным статутам (напр. о. езуітаў); 3) назва некаторых тайных арганізацый (напр. масонскі о.).

**О́РДЭР** (ням. Order, ад лац. ordo = рад, разрад) — 1) пісьмовы загад, распараджэнне, дакумент на выдачу або атрыманне чаго-н. (напр. о. на кватэру, расходны о.); 2) від архітэктурнай кампазіцыі, якая складаецца з вертыкальных нясучых частак — падпор у выглядзе *калон*, слупоў або *пілястраў* і гарызантальных частак — *антамблемента*.

**ОРТ** [1] (ням. Ort = *літар.* месца) — 1) сярэбраная манета Польшчы і германскіх дзяржаў у 17—18 ст., якая адпавядала 1/4 *талера*; 2) гарызантальная падземная горная выпрацоўка, якая не мае непасрэднага выхаду на паверхню.

**ОРТ** [2] (гр. orthos = прамы) — *вектар*, даўжыня якога роўная адзінцы; адзінкавы вектар.

**ОРТАЛАМАРКІ́ЗМ** (ад гр. orthos = прамы + *ламаркізм*) — адзін з кірункаў *неаламаркізму*, прадстаўнікі якога бачаць асноўную прычыну развіцця новага ва ўнутраных уласцівасцях арганізмаў.

**ОРТАСІФО́Н** (н.-лац. Orthosiphon, ад гр. orthos = прамы + siphon = трубка) — вечназялёны паўкуст сям. губакветных, які пашыраны ў Паўд.-Усх. Азіі; культывуецца ў Грузіі як лекавая расліна.

**ОРТСКАМЕНДАТУ́РА** (ням. Ortskommandantur) — нямецка-фашысцкі мясцовы орган ваеннага кіравання на часова акупіраванай тэрыторыі ў час 2-й сусветнай вайны.

**ОРУЭЛІ́ЗМ** (англ. orwellizm, ад D. Orwell = прозвішча англ. пісьменніка, аўтара рамана-утопіі «1984») — маніпуліраванне фактамі або іх перайначванне, скажэнне праўды, падача яе ў ілжывым святле ў мэтах прапаганды; тэрмін выкарыстоўваецца ў адносінах да грамадства, якое поўнасцю кантралюецца ўладамі.

**О́РЫКС** (н.-лац. oryx, ад гр. oryks) — млекакормячае сям. пустарогіх, пашыранае ў стэпах, паўпустынях і пустынях Афрыкі; сернабык.

**ОСМАРЭГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *осмас* + *рэгуляцыя*) — фізіялагічныя працэсы ў арганізме, якія забяспечваюць рэгуляцыю *асматычнага* ціску ўнутранага асяроддзя.

**ОСМАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *осмас* + *рэцэптары*) — чуллівыя нервовыя заканчэнні ў розных органах і тканках, якія рэагуюць на змяненне *асматычнага* ціску.

**ОСМАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад *осмас* + *рэцэпцыя*) — здольнасць *осмарэцэптараў* успрымаць змены канцэнтрацыі асматычна актыўных рэчываў у крыві або пазаклетачнай вадкасці.

# П

**О́СМАС** (гр. osmos = штуршок, ціск) — павольнае прасочванне растваральніка ў раствор праз тонкую перапонку, якая пакрывае раствор.

**О́СМІЙ** (н.-лац. osmium, ад гр. osme = пах) — хімічны элемент, цвёрды метал сінявата-шэрага колеру, які здабываецца з плацінавай руды.

**О́СТ** (ням. Ost) — 1) усход, усходні напрамак; 2) усходні вецер.

**О́СТЫП** (лац. ostium = уваход, адтуліна) — шчылінападобныя адтуліны ў членістаногіх, праз якія кроў паступае ў сэрца.

**ОТАЛАРЫНГАЛО́ГІЯ** (ад гр. us, otos = вуха + *ларынгалогія*) — тое, што і *отарыналарынгалогія*.

**ОТАРЫНАЛАРЫНГАЛО́ГІЯ** (ад гр. us, otos = вуха + rhis, rhinos = нос + *ларынгалогія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы вуха, горла, носа і распрацоўвае метады іх лячэння.

**ОТАРЫНАЛАРЫНГО́ЛАГ** (ад *отарыналарынгалогія*) — спецыяліст па отарыналарынгалогіі.

**ОТАСКАПІ́Я** (ад гр. us, otos = вуха + *-скапія*) — метад даследавання вуха пры дапамозе *атаскопа*.

**ОУЭНІ́ЗМ** [ад англ. R.Owen = прозвішча англ. палітычнага і грамадскага дзеяча (1771—1850)] — тэорыя ўтапічнага сацыялізму, распрацаваная Р.Оуэнам і яго паслядоўнікамі.

**О́ФІС** (англ. office, ад лац. officium = абавязак, служба) — кантора, канцылярыя, служба, прадстаўніцтва якой-н. арганізацыі ў некаторых краінах.

**О́ФРЫС** (н.-лац. ophrus) — расліна сям. архідных з ланцэтным лісцем, пашыраная на лугах, між кустоў, на камяністых схілах гор у Міжземнамор'і, Крыме, на Каўказе.

**ОФ-ШО́Р** (англ. off-shore, ад off = па-за + shore = бераг) — *экан.* цэнтр сумеснага прадпрымальніцтва, які прадастаўляе льготны рэжым толькі для фінансава-крэдытных аперацый з замежнымі партнёрамі і ў замежнай валюце.

**О́ХРА** гл. *вохра.*

# П

**ПА** (фр. pas = *літар.* крок) — 1) танцавальны крок у класічным танцы; 2) усякі танцавальны рух.

**ПАБЛІСІ́ЦІ** (англ. publicity = галоснасць, рэклама) — 1) вядомасць, папулярнасць; 2) спрыяльныя камерцыйныя паведамленні, прэзентацыі або звесткі аб таварах, паслугах або фірмах, якія перадаюцца праз сродкі масавай інфармацыі, але не аплачваюцца зацікаўленай асобай (канкрэтным спонсарам).

**ПА́ВА** (польск. pawa, ад ст.-в.-ням. pfāwo) — самка *паўліна*.

**ПАВА́НА** (ісп. pavana, ад лац. pavo, -onis = паўлін) — бальны та-

нец, які быў пашыраны ў Еўропе ў 16—17 ст.

**ПАВІ́ДЛА** (польск. powidło) — густая салодкая маса з працёртых ягад або фруктаў, звараных з цукрам.

**ПАВІЛЬЁН** (фр. pawillon, ад лац. papilio = шацёр) — 1) невялікі лёгкі будынак у парках і іншых людных месцах; 2) будынак для размяшчэння экспанатаў якой-н. выстаўкі (напр. п. механізацыі), гандлю (напр. п. марожанага) і інш.; 3) памяшканне для фота- або кіназдымкі.

**ПАВІЯ́Н** (ням. Pavian, ад гал. baviaan) — буйная малпа з падоўжанай мордай, якая жыве ў Афрыцы і Аравіі.

**ПА́ГАДА** (парт. pagode, ад санскр. bhagōdē = святая) — будыйскі або індуісцкі храм у выглядзе павільёна або шматяруснай вежы ва Усх. і Паўд-Усх. Азіі.

**ПАГАМЕ́НТ** (іт. pagamento) — *фін.* плата наяўнымі грашыма.

**ПА́ГАН** (ад гр. pagos = лёд + on = якое існуе) — сукупнасць арганізмаў у тоўшчы лёду, якія звычайна знаходзяцца ў стане *анабіёзу*.

**ПАГАНА́ТУМ** (н.-лац. pogonatum) — лістасцябловы мох сям. палітрыхавых, які расце на пясчаных, пясчана-глiністых і гліністых агаленнях у лясах і на адкрытых месцах.

**ПАГІНА́ЦЫЯ** (ад лац. pagina = старонка) — нумарацыя старонак кнігі, рукапісу і інш.

**ПА́ГРА** (н.-лац. pagrus) — рыба сям. спаравых, якая водзіцца ў Атлантычным, паўночнай частцы Індыйскага і Ціхага акіянаў.

**ПАДА́ГРА** (лац. podagra, ад гр. podagra) — захворванне суставаў і тканак у выніку парушэння абмену рэчываў.

**ПА Д'АКСЬЁН** (фр. pas d'action, ад pas = крок + action = дзеянне) — танец, у якім раскрываецца драматычны змест балетнай сцэны ці ўсяго балетнага спектакля.

**ПАДАЛІ́РЫЙ** (н.-лац. podalirius) — матыль сям. паруснікаў з бледна-жоўтымі крыламі; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ПАДАСФЕ́РА** (н.-лац. podosphaera) — сумчаты грыб сям. эрызіфавых, які развіваецца на лісці дрэў і кустоў.

**ПАДАТЭ́КА** (ад гр. pus, podos = нага + *-тэка*) — своеасаблівыя шчыткі, луска, якія ўтвараюцца на нагах птушак у выніку разрастання эпітэліяльнага покрыва.

**ПАДАФІ́Л** (н.-лац. podophyllum) — травяністая расліна сям. барбарысавых з буйным лісцем, белымі кветкамі і сакавітымі жоўтымі ягадамі, пашыраная пераважна ў Гімалаях і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як лекавая, харчовая і дэкаратыўная.

**ПАДАЦЫ́ТЫ** (ад гр. pus, podos = нага + *-цыты*) — эпітэліяльныя клеткі выдзяляльных органаў.

**ПАДЗІША́Х** (тур. pādišāh, ад перс. pādšah) — тытул *манарха* ў некаторых усходніх краінах, напр. у Асманскай імперыі.

**ПАДЭБА́СК** (фр. pas de basque = *літар.* рух баскаў) — вельмі пашыраны танцавальны рух у выглядзе нечаканай перамены ног у скачку з наступным пераступаннем.

# П

**ПАДЭГРА́С** (фр. pas de grace) — парны бальны танец са спакойнымі прыгожымі рухамі, пашыраны ў Еўропе ў 19 ст.

**ПА-ДЭ-ДЭ́** (фр. pas de deux = *літар.* танец удваіх) — від парнага танца ў класічным балеце, а таксама музыка для яго.

**ПАДЭКА́ТР** (фр. pas de quatre = *літар.* танец учацвярых) — 1) парны бальны танец, які складаецца з *па* вальса і плаўных крокаў, а таксама музыка да яго; 2) танец для чатырох выканаўцаў у балеце.

**ПАДЭПАТЫНЕ́Р** (фр. pas de patineur = танец канькабежца) — парны бальны танец, што складаецца з плаўных рухаў, якія імітуюць бег канькабежцаў.

**ПАДЭСПА́НЬ** (фр. pas d'Espagne = іспанскі танец) — парны бальны танец, у якім выкарыстоўваюцца элементы характэрна-сцэнічнага іспанскага танца, а таксама музыка да яго.

**ПАДЭ́СТА** (іт. podesta, ад лац. potestas = улада) — 1) вышэйшая адміністрацыйная асоба, галава выканаўчай і судовай улады ў гарадах-рэспубліках Італіі 12—16 ст.; 2) вышэйшая адміністрацыйная пасада ў гарадах Італіі ў 1926—1948 гг.

**ПА-ДЭ-ТРУА́** (фр. pas de trois = *літар.* танец утраіх) — 1) парны бальны *танец*, які складаецца з элементаў *менуэта, мазуркі* і *вальса*; 2) танец трох выканаўцаў у балеце.

**ПАЁЛ** (фр. payol) — драўляны насціл у труме грузавога марскога судна.

**ПАЖ** (фр. page) — 1) хлопчык з дваран, які ў якасці асабістага слугі буйнога феадала або караля рыхтаваўся да звання *рыцара* (у сярэдневяковай Еўропе); 2) выхаванец Пажскага корпуса (ваеннанавучальнай установы для дваранскіх дзяцей) у царскай Расіі.

**ПАЗЁР** (фр. poseur) — чалавек, які клапоціцца аб знешнім эфекце сваіх паводзін, прымае *позу*, рысуецца.

**ПАЗІГРА́ФІЯ** (ад гр. pas = усякі + *-графія*) — агульназразумелае пісьмо, выражэнне думкі знакамі, якія зразумелыя многім народам, напр. нотнае пісьмо, арабскія лічбы.

**ПАЗІ́РАВАЦЬ** (рус. позировать, ад фр. poser) — 1) быць натурай для фатографа або мастака; 2) *перан.* прымаць *позу*, рысавацца.

**ПАЗІТРО́Н** [ад *пазі(тыўны)* + *-трон*] — элементарная часціца з дадатным зарадам, маса якой роўная масе электрона.

**ПАЗІТРО́НІЙ** [ад *пазі(трон)* + *(элек)трон*] — *фіз.* кароткачасовая сістэма з пазітрона і электрона, падобная па структуры да атама вадароду.

**ПАЗІТЫВІ́ЗМ** (фр. positivisme, ад лац. positivus = дадатны) — ідэалістычны кірунак у філасофіі (узнік у 30-я гг. 19 ст. у Францыі), разнавіднасць *агнастыцызму*, якая адмаўляе пазнавальную каштоўнасць філасофскіх ведаў, тэарэтычнага мыслення ў цэлым.

**ПАЗІТЫВІ́СТ** (ад *пазітывізм*) — паслядоўнік пазітывізму.

**ПАЗІТЫ́Ў** (фр. positif, ад лац. positivus = дадатны) — адбітак з негатыва, на якім светлыя і цёмныя часткі адпавядаюць іх сапраўднаму размеркаванню ў рэчаіснас-

ці, а таксама фота- або кінаплёнка з такімі адбіткамі (параўн. *негатыў*).

**ПАЗІТЫ́ЎНЫ** (лац. positivus = дадатны) — 1) які мае адносіны да *пазітыва* (напр. п-ая плёнка); 2) заснаваны на вопыце, фактах (напр. п-ая праграма); 3) станоўчы (проціл. *негатыўны*).

**ПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. positio) — 1) становішча, размяшчэнне чаго-н. (напр. шахматная п., мінамётная п.); 2) раён ваенных дзеянняў (напр. агнявая п.); 3) *перан.* пункт гледжання, думка ў якім-н. пытанні.

**ПАЗУМЕ́НТ** (ням. Posament < фр. passement, ад ісп. pasamano = тасьма) — шытая золатам або серабром тасьма для ўпрыгожвання адзення, мэблі.

**ПАЙ** (цюрк. pay = частка) — доля, якая ўносіцца ў агульную справу кожным яе ўдзельнікам.

**ПАЙКІЛАСМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. poikilos = розны, пераменлівы + osmos = ціск) — п - ы я ж ы в ё - л ы — жывёлы, якія маюць такі ж *асматычны* ціск вадкасцей унутранага асяроддзя, як і ў навакольнай вадзе (прасцейшыя, кольчатыя чэрві, малюскі, ігласкурыя); параўн. *гомайасматычны*.

**ПАЙКІЛАТЭ́РМНЫ** (ад гр. poikilos = розны, пераменлівы + *-тэрмны*); п - ы я ж ы в ё л ы — жывёлы з пераменлівай тэмпературай цела, якая мяняецца пад уплывам тэмпературы навакольнага асяроддзя і звычайна роўная ёй (беспазваночныя, кругларотыя, рыбы, земнаводныя і паўзуны); халаднакроўныя жывёлы (параўн. *гамаятэрмны*).

**ПАЙКІЛАЦЫТО́З** (ад гр. poikilos = розны, пераменлівы + *-цытоз*) — *мед.* наяўнасць у перыферычнай крыві эрытрацытаў не круглай, а якой-н. іншай формы (авальнай, грушападобнай і інш.).

**ПАК** [1] (ням. Pack, ад гал. pak) — стос прадметаў, якія ляжаць адзін на другім (напр. п. газет, п. тавару).

**ПАК** [2] (англ. pack = мяса) — шматгадовы дрэйфуючы марскі лёд у палярных водах.

**ПАКАВА́ЦЬ** (польск. pakować, ад ням. packen) — складаць рэчы ў якую-н. *тару*, звязваць іх у клункі, *пакі*.

**ПАКГА́ЎЗ** (ням. Packhaus) — склад для грузаў пры чыгуначных станцыях, портах.

**ПА́КЕР** (англ. packer, ад pack = ушчыльняць) — прыстасаванне, якое спускаецца ў буравую свідравіну на трубах для размежавання пласта з пазатрубнай прасторай.

**ПАКЕ́Т** (польск. pakiet, ад фр. paquet) — 1) папяровы пакунак, скрутак з чым-н.; 2) канверт з якой-н. афіцыйнай паперай.

**ПАКЕТБО́Т** (англ. packetboat, гал. pakketboot) — *уст.* невялікае паштова-пасажырскае марское судна.

**ПАККА́МЕРА** (ням. Packkammer, ад packen = пакаваць + Kammer = пакой, кладоўка) — цэх папяровай фабрыкі, у якім сартуецца папера.

**ПАКО́СТ** (польск. pokost = лак) — спецыяльна апрацаваны алей для вырабу масленых фарбаў, лаку.

**ПАКТ** (лац. pactum = дагавор) — міжнародны дагавор, пагадненне.

# П

**ПА́КУЛЛЕ** (літ. pakulos) — валакністыя адходы пры апрацоўцы лёну або канапель, непрыгодныя для пражы.

**ПАЛ** (гал. paal) — *мар.* чыгунная або жалезабетонная тумба, укапаная ў зямлю ля прыстані для замацавання *швартоваў*.

**ПАЛАДЗІ́Н** (іт. paladino, ад лац. palatinus = прыдворны саветнік) — 1) рыцар са світы караля або феадальнага ўладара ў сярэдневяковай Еўропе; 2) *перан.* чалавек, адданы якой-н. ідэі, справе, асобе.

**ПАЛА́ДЫЙ** (лац. Palladium, ад гр. Palladion) — 1) статуя ўзброенага бажаства, часцей за ўсё Афіны Палады, якая, як лічылі старажытныя грэкі і рымляне, ахоўвала горад ад небяспекі; 2) хімічны элемент, метал серабрыста-белага колеру, які выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе, тэхніцы і інш.

**ПАЛАНАФІ́Л** (ад с.-лац. Polonus = польскі + *-філ*) — прыхільнік палякаў, аматар усяго польскага.

**ПАЛАНАФО́Б** (ад с.-лац. Polonus = польскі + *-фоб*) — вораг палякаў, праціўнік усяго польскага.

**ПАЛАНІЗАВА́ЦЬ** (польск. polonizować, ад с.-лац. Polonus = польскі) — апалячваць.

**ПАЛАНІЗА́ЦЫЯ** (польск. polonizacja, ад с.-лац. Polonus = польскі) — апалячванне.

**ПАЛАНІ́ЗМ** (польск. polonizm, ад с.-лац. Polonus = польскі) — слова або словазлучэнне, запазычанае з польскай мовы.

**ПАЛАНКІ́Н** (парт. palanquim, ад інд. palaki) — крытыя насілкі, якія служаць сродкам перамяшчэння ў некаторых краінах Усходу і Паўд. Амерыкі.

**ПАЛАНЦІ́Н** (фр. palatine) — шырокі футравы або аксамітны жаночы шаль.

**ПАЛАНЭ́З** [польск. polonez, ад фр. (danse) polonaise = польскі танец] — 1) урачысты польскі бальны танец, які выконваецца парамі ў размераным рытме, а таксама музыка да яго; 2) музычны твор у рытме гэтага танца.

**ПАЛА́С** (рус. палас, ад перс. pelās) — двухбаковы дыван без ворсу, вытканы ручным спосабам.

**ПАЛАСІ́Т** [ад ням. P.Pallas = прозвішча ням. прыродазнаўцы (1741—1811)] — жалезна-каменны *метэарыт*, які мае выгляд жалезна-нікелевай губкі з запоўненымі *алівінам* порамі.

**ПАЛА́ТА** (лац. palatium = палац) — 1) вялікае, пышна аздобленае памяшканне ў палацы; 2) састаўная частка заканадаўчага органа або парламента (напр. п. лордаў і п. абшчын у парламенце Англіі); 3) назва некаторых дзяржаўных устаноў (напр. гандлёвая п., кніжная п.); 4) асобны пакой для хворых у бальніцы.

**ПАЛАТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад н.-лац. palatalis = паднябенны) — *лінгв.* змякчэнне зычных гукаў шляхам дабавачнага пад'ёму сярэдняй часткі языка да паднябення.

**ПАЛАТА́ЛЬНЫ** (н.-лац. palatalis) — *лінгв.* які падпаў пад *палаталізацыю*; мяккі (аб зычных гуках).

**ПАЛАФІ́ТЫ** (іт. palafitte) — асобныя будынкі або цэлыя паселішчы, пабудаваныя на сваях з драўляным памостам над вадою або балотам.

# П

**ПАЛА́Ц** (польск. pałac < іт. palazzo, ад лац. palatium = палац) — 1) вялікі, раскошны будынак, дзе пастаянна знаходзіцца цар, кароль, кіраўнік дзяржавы; 2) вялікі будынак грамадскага прызначэння, які вылучаецца сваёй архітэктурай.

**ПАЛА́Ш** (польск. pałasz, ад венг. pallos) — халодная зброя з доўгім прамым лязом, вострым з абодвух бакоў.

**ПАЛЕА-** (гр. palaios = старажытны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «старажытны», «даўні».

**ПАЛЕААНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *антрапалогія*) — раздзел антрапалогіі, які вывучае выкапнёвыя рэшткі чалавека.

**ПАЛЕАА́НТРАПЫ** (ад *палеа-* + *-антрап*) — прадстаўнікі другой ступені ў эвалюцыі чалавека, якія змянілі *архантрапаў* і папярэднічалі *неаантрапам.*

**ПАЛЕААНТРАПО́ЛАГ** (ад *палеа-* + *антраполаг*) — спецыяліст у галіне *палеантрапалогіі.*

**ПАЛЕАБАТА́НІКА** (ад *палеа-* + *батаніка*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае выкапнёвыя расліны.

**ПАЛЕАБІЯГЕАГРА́ФІЯ** (ад *палеа-* + *біягеаграфія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае заканамернасці прасторавага рассялення арганізмаў у геалагічным мінулым.

**ПАЛЕАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *біялогія*) — навука аб арганічным свеце мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАБІЯЦЭНО́З** (ад *палеа-* + *біяцэноз*) — прыродная сукупнасць арганізмаў, якія жылі разам і захаваліся ў выкапнёвым стане.

**ПАЛЕАВУЛКАНІ́ЗМ** (ад *палеа-* + *вулканізм*) — вулканічная дзейнасць мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *палеа-* + *геаграфія*) — навука, якая вывучае фізіка-геаграфічныя ўмовы мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАГЕАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *геамарфалогія*) — раздзел геамарфалогіі, які вывучае рэльеф Зямлі ў мінулыя геалагічныя эпохі.

**ПАЛЕАГЕАХІ́МІЯ** (ад *палеа-* + *геахімія*) — раздзел геахіміі, які вывучае хімічны склад Зямлі і хімічныя працэсы ў мінулыя геалагічныя эпохі.

**ПАЛЕАГЕ́Н** (ад *палеа-* + *-ген*) — першы перыяд *кайназою* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, які пачаўся 570 млн. гадоў назад і цягнуўся 340 млн. гадоў.

**ПАЛЕАГЕ́НАВЫ** (ад *палеа-* + *-ген*); п. п е р ы я д — тое, што і *палеаген.*

**ПАЛЕАГЕ́Я** (ад *палеа-* + гр. ge, gaia = зямля) — часам вылучаемае зоагеаграфічнае падраздзяленне сушы, якое ўключае Мадагаскарскую, Эфіопскую і Інда-Малайскую зоагеаграфічныя вобласці.

**ПАЛЕАГЛЯЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *гляцыялогія*) — раздзел гляцыялогіі, які вывучае леднікі мінулых геалагічных эпох, а таксама гісторыю ўзнікнення і развіцця сучаснага абледзянення Зямлі.

**ПАЛЕАГНАТЫ́ЗМ** (ад *палеа-* + гр. gnathos = сківіца) — тое, што і *дромеагнатызм.*

**ПАЛЕАГРА́ФІЯ** (ад *палеа-* + *-графія*) — дапаможная гісторыка-філалагічная дысцыпліна, якая вывучае графічныя асаблівасці і

знешні выгляд старажытных рукапісаў з мэтай прачытаць іх, вызначыць аўтара, час і месца стварэння, аўтэнтычнасць.

**ПАЛЕАЗААЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *заалогія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае выкапнёвыя рэшткі жывёл.

**ПАЛЕАЗА́ЎР** (ад *палеа-* + *-заўр*) — вялізная выкапнёвая яшчарка.

**ПАЛЕАЗО́Й** (ад *палеа-* + *-зой*) — трэцяя эра ў геалагічнай гісторыі Зямлі, якая папярэднічае *мезазойскай* эры і падзяляецца на 6 перыядаў (*кембрый, ардовік, сілур, дэвон, карбон,* перм).

**ПАЛЕАЗО́ЙСКІ** (ад *палеа-* + *-зой*); п-ая эра — тое, што і *палеазой.*

**ПАЛЕАІХНАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + гр. ichnos = след + *-логія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае *біягліфы* ў асадачных адкладах усіх геалагічных сістэм.

**ПАЛЕАКАРПАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + гр. karpos = плод + *-логія*) — раздзел *палеабатанікі* і *карпалогіі*, які вывучае расліны мінулых геалагічных перыядаў па выкапнёвых рэштках пладоў і насення.

**ПАЛЕАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, які вывучае кліматычныя ўмовы Зямлі ў мінулыя геалагічныя і гістарычныя перыяды.

**ПАЛЕАКЛІ́МАТЫ** (ад *палеа-* + *клімат*) — кліматы мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАКО́РТЭКС** (ад *палеа-* + лац. cortex = кара) — філагенічна (гл. *філагенез*) самая старажытная частка кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу пазваночных (параўн. *архікортэкс*).

**ПАЛЕАЛІ́Т** (ад *палеа-* + *-літ*) — першая эпоха каменнага веку ў геалагічнай гісторыі Зямлі; старажытны каменны век.

**ПАЛЕАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *палеа-* + *магнетызм*) — уласцівасць горных парод намагнічвацца ў перыяд свайго ўтварэння пад уздзеяннем магнітнага поля Зямлі і захоўваць набытую намагнічанасць у наступныя эпохі.

**ПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + гр. on, onthos = істота + *-логія*) — комплекс біялагічных навук, якія вывучаюць раслінны і жывёльны свет мінулых геалагічных эпох (параўн. *неанталогія*).

**ПАЛЕАНТО́ЛАГ** (ад *палеа-* + гр. on, onthos = істота + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *палеанталогіі*.

**ПАЛЕАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *паталогія*) — навука аб хваробах жывёл і раслін, якія жылі на Зямлі ў мінулыя геалагічныя эпохі.

**ПАЛЕАПАТАМАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *патамалогія*) — навука аб старажытных рэках, частка *палеагеаграфіі* і *гідралогіі* рэк.

**ПАЛЕАПІТЭ́К** (ад *палеа-* + *-пітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, знойдзеная ў ніжнепліяцэнавых адкладах Паўн. Індыі.

**ПАЛЕА́РКТЫКА** (ад *палеа-* + гр. arktikos = паўночны) — зоагеаграфічная адзінка раянавання сушы ў рангу падцарства (вобласці); палеарктычная вобласць.

**ПАЛЕАРЭНТГЕНАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *рэнтгеналогія*) — вывучэнне хвароб даўніх людзей пры дапамозе рэнтгеналагічнага даследавання рэштак даўніх арганізмаў.

# П

**ПАЛЕАТЫ́ПЫ** (ад *палеа-* + *-тып*) — умоўная назва еўрапейскіх друкаваных выданняў 1-й пал. 16 ст.

**ПАЛЕАТЭ́РЫЙ** (ад *палеа-* + *-тэрый*) — вымерлая непарнакапытная жывёла, падобная да *тапіра*, якая жыла ў *палеагене* (параўн. *анхітэрый, гіпарыён*).

**ПАЛЕАФАУНІ́СТЫКА** (ад *палеа-* + *фауністыка*) — раздзел *палеазаалогіі*, які вывучае *фауны* мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАФІТАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + гр. phyton = расліна + *-логія*) — тое, што і *палеабатаніка*.

**ПАЛЕАФЛАРЫ́СТЫКА** (ад *палеа-* + *фларыстыка*) — раздзел палеабатанікі, які вывучае відавы склад і групоўкі расліннага свету мінулых геалагічных эпох.

**ПАЛЕАЦЭ́Н** (ад *палеа-* + *-цэн*) — ранняя эпоха *палеагену* ў геалагічнай гісторыі Зямлі.

**ПАЛЕАЦЭ́НАВЫ** (ад *палеа-* + *цэн*); п - а я э п о х а — тое, што і *палеацэн*.

**ПАЛЕАЦЭНО́З** (ад *палеа-* + *-цэноз*) — тое, што і *палеабіяцэноз*.

**ПАЛЕАЭКАЛО́ГІЯ** (ад *палеа-* + *экалогія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае выкапнёвыя арганізмы ў сувязі з умовамі, у якіх яны жылі.

**ПАЛЕАЭНДЭ́МІКІ** (ад *палеа-* + *эндэмікі*) — эндэмічныя віды (роды, сямействы і інш.), арэал якіх у мінулым быў значна большы, чым тэрыторыя сучаснага іх існавання.

**ПА́ЛЕВЫ** (фр. paillé) — бледнажоўты з ружовым адценнем (колер).

**ПАЛЕМАЛО́ГІЯ** (ад гр. polémos = вайна + *-логія*) — навука аб вайне як сацыяльнай з'яве, аб яе прычынах і выніках ва ўсіх аспектах.

**ПАЛЕМІЗАВА́ЦЬ** (фр. polémiser, ад гр. polemizo = ваюю) — весці *палеміку*, спрачацца, пярэчыць.

**ПАЛЕ́МІКА** (фр. polémique, ад гр. polemikos = ваяўнічы, варожы) — спрэчкі пры абмеркаванні навуковых, літаратурных або палітычных пытанняў.

**ПАЛЕМІ́СТ** (гр. polemistes = ваяўнік) — той, хто ўмее або любіць *палемізаваць*.

**ПАЛЕМІ́ЧНЫ** (гр. polemikos = ваяўнічы, варожы) — 1) які мае адносіны да *палемікі*, уласцівы палеміцы; 2) які змяшчае ў сабе палеміку; п - а я л і т а р а т у р а — літаратура, накіраваная супраць уніі, езуітаў, вышэйшага духавенства, якая зарадзілася ў канцы 16 ст. на беларускіх, украінскіх і польскіх землях.

**ПАЛЕО́ГРАФ** (ад *палеа-* + *-граф*) — спецыяліст у галіне *палеаграфіі*.

**ПАЛЕ́СТРА** (лац. palaestra, ад гр. palaistra = месца гімнастычных практыкаванняў) — 1) гімнастычная школа для хлопчыкаў у Стараж. Грэцыі; 2) адвакатура ў даўняй Польшчы.

**ПАЛЕ́ТКА** (фр. palette) — празрыстая пласцінка або папера з сеткай квадратаў для вызначэння плошчы ўчасткаў на планах і картах.

**ПАЛІ-** гл. *полі-*.

**ПАЛІА́НДРЫЯ** (ад *палі-* + *-андрыя*) — мнагамужжа, форма групавога шлюбу адной жанчыны з некалькімі мужчынамі (захавалася

ў некаторых плямён Тыбету і Індыі).

**ПАЛІВІ́РУСЫ** (ад *палі-* + *вірусы*) — група кішэчных вірусаў, якія выклікаюць паражэнне цэнтральнай нервовай сістэмы і паралічы ў жывёл і чалавека.

**ПАЛІГА́МІЯ** (ад *палі-* + *-гамія*) — 1) мнагашлюбнасць (*полігінія* або *паліандрыя*); параўн. *манагамія* 1; 2) спарванне аднаго самца з некалькімі самкамі ў перыяд размнажэння (параўн. *манагамія* 2); 3) наяўнасць у адной расліны двухполых кветак побач з аднаполымі.

**ПАЛІГА́МЫ** (ад *палі-* + gamos = шлюб) — мнагашлюбныя жывёлы, у якіх адзін самец апладняе за перыяд размнажэння некалькі самак (*полігінія*) ці адна самка спароўваецца з некалькімі самцамі (*паліандрыя*).

**ПАЛІГЕ́НЫ** (ад *палі-* + *-ген*) — гены, якія ўплываюць на праяўленне колькасных прымет (напр. надою, тлустасці малака).

**ПАЛІГЛО́Т** (гр. polyglottos = шматмоўны) — той, хто валодае многімі мовамі.

**ПАЛІГО́Н** (п.-лац. polygonium = многавугольнік, ад гр. polygonos = многавугольны) — 1) участак сушы або мора, абсталяваны для трэніровачнай стральбы, выпрабавання розных відаў зброі, баявой тэхнікі (напр. артылерыйскі п.); 2) *мат.* многавугольнік.

**ПАЛІГРА́Ф** (ад *палі-* + *-граф*) — *мед.* многаканальны *асцылограф* для адначасовага запісу розных функцый арганізма пры комплексным даследаванні.

**ПАЛІГРА́ФІЯ** (гр. polygraphia = многапісанне) — галіна *тэхнікі*, прамысловасці, занятая друкаваннем кніг, газет і інш., а таксама сукупнасць тэхнічных сродкаў для вытворчасці друкаванай прадукцыі.

**ПАЛІЁЗЫ** (ад гр. polys, -leos = колькасны) — тое, што і *паліцукрыды*.

**ПАЛІКЛІ́НІКА** (ад гр. polis = горад + *клініка*) — лячэбна-прафілактычная ўстанова, дзе ўрачы многіх спецыяльнасцей аказваюць насельніцтву небальнічную медыцынскую дапамогу.

**ПАЛІКРО́С** (ад *палі-* + англ. cross = скрыжоўванне) — метад скрыжоўвання, які выкарыстоўваецца ў селекцыі раслін для выяўлення найбольш прадуктыўных форм і заключаецца ў многаразовым пераапыленні раслін.

**ПАЛІКСЕ́Н** (ад *палі-* + гр. ksenos = чужы) — найбольш распаўсюджаны мінерал з групы самароднай плаціны.

**ПАЛІМЕ́НТ** (фр. poliment) — састаў, якім пакрываюць вырабы з дрэва і гіпсу перад залачэннем.

**ПАЛІМЕ́РЫ** (гр. polymeres = які складаецца з многіх частак) — арганічныя рэчывы, малекулы якіх складаюцца з вялікай колькасці простых звенняў з рознай атамнай структурай.

**ПАЛІМО́РФНЫ** (гр. polymorphos) — разнастайны, які бывае ў некалькіх формах.

**ПАЛІМПСЕ́СТ** [гр. palimpseston (biblion) = зноў саскрабаная кніга] — старажытны рукапіс на пергаменце на месцы змытага або сцёртага першапачатковага тэксту.

**ПАЛІНАЛО́ГІЯ** (ад гр. poline = тонкі пыл + *-логія*) — раздзел *батаніі*, які вывучае пылок і споры раслін.

**ПАЛІНА́РЫЙ** (ад лац. pollen, -linis = пылок) — спецыяльнае ўтварэнне на кветцы для пераносу пылку насякомымі або птушкамі.

**ПАЛІНГЕНЕ́З** (ад гр. palin = зноў + *-генез*) — 1) з'яўленне ў зародка прымет, уласцівых для дарослых форм далёкіх продкаў; 2) пераўтварэнне горных парод шляхам пераплаўлення ў глыбокіх зонах зямной кары.

**ПАЛІНДРО́М** (гр. palindromos = які вяртаецца) — слова або словазлучэнне, якія маюць аднолькавы сэнс пры чытанні злева направа і справа налева (напр. казак, дом мод).

**ПАЛІНЕ́ЗІЯ** (ад *палі-* + гр. nesos = востраў) — адна з асноўных астраўных груп у Акіяніі.

**ПАЛІ́НІЙ** (ад лац. pollen, -linis = пылок) — частка *палінарыя* ў выглядзе пылковага зерня.

**ПАЛІНО́ДЫЯ** (гр. palinodia = перапеў) — пакаянны верш.

**ПАЛІНО́З** (ад лац. polle = мука) — алергічная хвароба, абумоўленая ўдыханнем пылку раслін.

**ПАЛІНО́М** (ад *палі-* + гр. nome = частка) — алгебраічны выраз, які складаецца з некалькіх адначленаў, злучаных паміж сабой знакамі складання або адымання; мнагачлен (параўн. *біном, маном*).

**ПАЛІ́П** (гр. polypus = мнаганогі) — 1) адзіночны або каланіяльны арганізм, які вядзе сядзячы спосаб жыцця (параўн. *медуза*); пераважна марская кішачнаполасцевая жывёліна з целам цылíндрычнай формы, што мае на верхнім баку рот, акружаны шчупальцамі, а на ніжнім — прысоскі, якімі яна прымацоўваецца да нерухомага прадмета (напр. каралавы п.); 2) *мед.* гладкае або варсінчатае паталагічнае ўтварэнне на слізістай абалонцы (носа, маткі і інш.).

**ПАЛІПО́ІД** (ад *паліп* + *-оід*) — недаразвіты паліп.

**ПАЛІПО́РУС** (н.-лац. polyporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце ў лясах, парках і садах на адмерлай драўніне бярозы, вольхі, дуба, ліпы, яблыні, часам на жывых дрэвах, выклікае белую гніль.

**ПАЛІПЦІ́Х** (ад *палі-* + гр. ptyche = дошчачка) — некалькі карцін, звязаных адной задумай.

**ПАЛІРАВА́ЦЬ** (ням. polieren, ад лац. polire = рабіць гладкім) — надаваць прадмету гладкі, люстраны выгляд шляхам націрання (напр. п. мэблю).

**ПАЛІСА́Д** (фр. pallisade, ад лац. palus = кол, слуп) — 1) рад забітых у зямлю паляў для ўмацавання адхонаў і насыпаў; 2) невялікі агароджаны кветнік, садок перад домам; 3) абароннае збудаванне ў выглядзе частаколу з завостраных зверху бярвенняў.

**ПАЛІСА́НДР** (фр. palissandre) — драўніна некаторых трапічных дрэў, якая ідзе на выраб музычных інструментаў, мэблі, паркету.

**ПАЛІСМЕ́Н** (англ. policeman) — паліцэйскі ў Англіі і ЗША і некаторых іншых краінах.

**ПАЛІСПА́СТ** (гр. polyspastos = які нацягваецца многімі вяроўкамі) — грузапад'ёмны механізм з камбінацыі рухомых і нерухомых

блокаў, якія абгінаюцца канатам або тросам.

**ПАЛІСПО́РА** (н.-лац. polyspora) — недасканалы грыб сям. меланкоціевых, які развіваецца на сцёблах, галінках, лісці, зрэдку на галоўках сельскагаспадарчых культур сям. лёнавых.

**ПАЛІСТЫ́ГМА** (н.-лац. polystigma) — сумчаты грыб сям. палістыгмавых, які паразітуе на лісці дрэў.

**ПАЛІСТЫ́КТУС** (н.-лац. polystictus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. гіменахетавых, які расце на пнях, драўніне і каранях хвойных дрэў.

**ПАЛІТАЛО́ГІЯ** (ад гр. politikos = палітычны + *-логія*) — галіна навукі, якая вывучае палітычную арганізацыю і палітычнае жыццё грамадства, праблемы ўнутранай палітыкі і міжнародных адносін.

**ПАЛІТО́** (фр. paletot) — верхняя мужчынская або жаночая вопратка, якая апранаецца на касцюм, сукенку і інш.

**ПАЛІТО́ЛАГ** (ад гр. politikos = палітычны + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *палітaлогіі*.

**ПАЛІ́ТРА** (рус. палитра, ад фр. palette = пласцінка) — 1) невялікая дошчачка з выразам для вялікага пальца, на якой мастак расцірае і змешвае фарбы; 2) *перан.* сукупнасць вобразна-выяўленчых сродкаў у творчасці мастака, пісьменніка, кампазітара.

**ПАЛІТРО́ПА** (ад *палі-* + гр. tropos = паварот) — крывая на дыяграмах стану, якая адлюстроўвае тэрмадынамічны працэс.

**ПАЛІТУ́РА** (лац. politura = паліроўка) — 1) спіртавы лак з дадаткам смалістага рэчыва для паліроўкі вырабаў з дрэва; 2) *перан.* глянец, бляск, наведзены паліраваннем.

**ПАЛІ́ТЫК** (гр. politikos) — 1) палітычны дзеяч; 2) той, хто выяўляе такт і ўменне ў адносінах з людзьмі.

**ПАЛІ́ТЫКА** [гр. politike (techne) = уменне кіраваць дзяржавай] — 1) дзейнасць органаў дзяржаўнай улады, партый, грамадскіх груп у галіне ўнутрыдзяржаўнага кіравання і міжнародных адносін, адпаведная іх інтарэсам і мэтам; 2) сукупнасць пытанняў і падзей унутранага і міжнароднага грамадскага жыцця; 3) характар чыіх-н. паводзін, накіраваны на дасягненне пэўнай мэты.

**ПАЛІТЫ́ЧНЫ** (гр. politikos) — 1) звязаны з *палітыкай*; 2) дзяржаўны, грамадска-прававы; п. л а д — форма арганізацыі дзяржаўнай улады ў краіне.

**ПАЛІТЭ́ХНІКУМ** (ад *палі-* + *тэхнікум*) — сярэдняя політэхнічная навучальная ўстанова.

**ПАЛІУ́РУС** (н.-лац. paliurus) — кустовая або дрэвавая расліна сям. крушынавых, пашыраная ў Паўд. Еўропе, Зах., Усх. і Сярэд. Азіі; вырошчваецца як дэкаратыўная, выкарыстоўваецца для жывых агароджаў.

**ПАЛІФА́ГІ** (ад *палі-* + *фагі*) — арганізмы, якія ў адрозненне ад усёедных жывёл выкарыстоўваюць разнастайны корм пэўнай групы (раслінны, жывёльны ці мяшаны); параўн. *пантафагі, манафагі, стэнафагі.*

**ПАЛІФА́ГІЯ** (гр. polyphagia) — 1) здольнасць жывіцца разнастайнымі жывёльнымі і расліннымі

кармамі пэўнай групы (параўн. *пантафагія*); 2) празмернае ўжыванне ежы, выкліканае ўзмоцненымі працэсамі засваення пажыўных рэчываў.

**ПАЛІФА́ГУС** (н.-лац. polyphagus) — ніжэйшы грыб сям. рыцыдыевых, які развіваецца на водарасцях.

**ПАЛІФО́ННЫ** (гр. polyphonos) — *муз.* многагалосы, мілагучны.

**ПАЛІФТО́НГ** (гр. polyphthongos = многагалосы) — *лінгв.* спалучэнне некалькіх гукаў, што выконваюць ролю адной *фанемы*.

**ПАЛІХЕ́ТЫ** (ад *палі-* + гр. chaeta = шчацінка) — клас кольчатых чарвей; жывуць у морах і часткова ў прэсных вадаёмах.

**ПАЛІХРО́МІЯ** (ад гр. polychromos = шматколерны) — 1) шматколернасць твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптуры, архітэктуры; 2) *палігр.* друкаванне некалькімі фарбамі.

**ПАЛІЦМА́ЙСТАР** (ням. Polizeimeister) — начальнік *паліцыі* ў буйных гарадах некаторых краін, а таксама ў царскай Расіі.

**ПАЛІ́ЦЫЯ** (с.-лац. policia, ад гр. politeia = урад, дзяржаўны лад) — адміністрацыйны орган для аховы бяспекі існуючага ладу і падтрымання парадку ў некаторых краінах (напр. крымінальная п., палітычная п.), а таксама асобы, якія служаць у гэтым органе.

**ПАЛІШЫНЕ́ЛЬ** (фр. polichinelle, ад іт. pulcinella) — камічны персанаж французскага народнага тэатра.

**ПАЛІЭ́ДР** (гр. polyedros = мнагагранны) — геаметрычнае цела, абмежаванае з усіх бакоў плоскімі многавугольнікамі; шматграннік (напр. куб, паралелепіпед, прызма).

**ПАЛІЯТЫ́Ў** (фр. palliatif, ад лац. palliatus = прыкрыты) — 1) лякарства або іншы сродак, які дае часовую палёгку хвораму, але не вылечвае хваробу; 2) *перан.* сродак, які дае часовы выхад з цяжкага становішча; паўмера.

**ПАЛМ** (англ. palm = далонь) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 7,62 см.

**ПАЛО́ГРАФ** (ад гр. pallo = трасу + *-граф*) — прыбор, які рэгіструе вібрацыю суднаў, мастоў, будаўнічых канструкцый.

**ПАЛО́НІЙ** (н.-лац. polonium, ад с.-лац. Polonia = Польшча) — радыеактыўны хімічны элемент, мяккі серабрыста-белы метал, падобны па сваіх уласцівасцях на *тэлур* і *вісмут*; выкарыстоўваецца ў атамнай прамысловасці.

**ПА́ЛТУС** (ад фін. pallas, paltaan = камбала) — прамысловая рыба сям. камбалавых.

**ПАЛТЭРГЕ́ЙСТ** (ням. Poltergeist = гном, дамавік, ад poltern = грукатаць + Geist = дух) — дамавік, містычны дух, нябачная істота, якая выяўляе сваю прысутнасць і халерычны тэмперамент шумам і перасоўваннем прадметаў.

**ПАЛУ́НДРА** (ад гал. val onder = падзенне ўніз) — выкрык, які перасцерагае аб небяспецы, у мове маракоў і партовых грузчыкаў.

**ПАЛУЦЫ́Т** (англ. pollucite, ад лац. Pollux = імя старажытнарымскага міфічнага героя) — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерны, празрысты; руда цэзію.

# П

**ПАЛЬМАРУ́ЖА** (ад *пальма* + *ружа*) — травяністая расліна сям. злакавых, пашыраная ў сухіх раёнах Індыі, на Сайшэльскіх і Зондскіх астравах, з якой здабываюць прыгодны для парфумерыі алей.

**ПАЛЬМЕ́ЛА** (н.-лац. palmella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелавых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах і ў глебах.

**ПАЛЬМЕЛАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. palmellocystis) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелавых, якая трапляецца ў прэсных і саланаватых водах у *планктоне*, сярод абрастанняў і скопішчаў водарасцей.

**ПАЛЬМЕЛО́ПСІС** (н.-лац. palmellopsis) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелопсідавых, якая трапляецца ў *планктоне* і *бентасе* рыбагадоўчых сажалак, невялікіх лужын, зрэдку ў азёрах.

**ПАЛЬМЕ́РЫ** (н.-лац. palmeri) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў вадаёмах Калумбіі; вядома як акварыумная.

**ПАЛЬМЕ́ТА** (фр. palmette) — 1) архітэктурнае аздабленне ў выглядзе стылізаванага веерападобнага ліста пальмы; 2) пладовы сад з дрэў, кроны якіх сплюшчаны з боку міжраддзяў і самкнуты ў напрамку рада, а асноўныя галіны дрэў размешчаны ў адной вертыкальнай плоскасці.

**ПАЛЬМІ́РА** (ар. Palmira = назва старажытнасірыйскага горада) — 1) паэтычная назва гарадоў, архітэктура якіх уражвае раскошай і манументальнасцю; 2) веералістая пальма, пашыраная ў трапічнай Азіі і Афрыцы; дае цукар, віно, спірт, воцат, паперу, драўніну; 3) адна з гарнітур друкарскіх шрыфтоў.

**ПАЛЬМІЦІ́Н** (ад лац. palmes, -mitis = пальмавая галінка) — арганічнае злучэнне, якое ўваходзіць у склад пальмавага алею і іншых тлушчаў; ужываецца для вырабу мыла і свечак.

**ПА́ЛЬМЫ** (н.-лац. palmae) — сямейства вечназялёных дрэвавых або кустовых паўднёвых раслін класа аднадольных з буйным перыстым або веерападобным лісцем і мяцёлчатымі або коласападобнымі суквеццямі; даюць ядомыя плады (фінікі, арэхі, какосы), алей, цукар, віно, спірт, раслінны воск, каштоўную драўніну; некаторыя (напр. сагавая, алейная, фінікавая, какосавая) — аб'ект трапічнага земляробства; многія вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ПАЛЬПА́ЦЫЯ** (лац. palpatio = абмацванне) — *мед.* метад абследавання хворага шляхам абмацвання пальцамі або далонямі рук.

**ПАЛЬПІТА́ЦЫЯ** (лац. palpitatio = біццё) — *мед.* узмацненне біцця сэрца.

**ПА́ЛЬПЫ** (ад лац. palpare = гладзіць, абмацваць) — 1) прыдаткі *прастоміума* кольчатых чарвей, якія выконваюць функцыю органаў дотыку і нюху; 2) прыдаткі каўнерыка хабатка кляшчоў.

**ПАЛЮДАМЕ́НТ** (лац. paludamentum = вайсковы плашч) — 1) доўгі прамавугольны плашч з засцежкай на плячы, які насілі ў Стараж. Рыме; 2) *тэатр.* занавес, які ўтварае над сцэнай нібыта скляпенне.

**ПАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. pollutio) — міжвольнае вывяржэнне семені ў мужчын, якое адбываецца ў сне.

**ПА́ЛЯ** (польск. pal < с.-в.-ням. pfāl, ад лац. palus) — забіты ў грунт слуп, які служыць апорай у розных збудаваннях.

**ПАЛЯНДВІ́ЦА** (польск. polędwica) — мяса вышэйшага гатунку з сярэдняй часткі свіной тушы каля хрыбетніка.

**ПАЛЯРАГРА́МА** (ад лац. polaris = палярны + *-грама*) — крывая залежнасці сілы току ад напружання, якую атрымліваюць пры дапамозе *палярографа*.

**ПАЛЯРАГРА́ФІЯ** (ад лац. polaris = палярны + *-графія*) — электрахімічны метад аналізу, які грунтуецца на вымярэнні залежнасці паміж сілай току і канцэнтрацыяй рэчыва, што абумоўлівае гэты ток.

**ПАЛЯ́РНЫ** (с.-лац. polaris) — 1) які знаходзіцца на *полюсе* або ў раёне полюса (напр. п-ая станцыя, п. дзень); 2) *перан.* супрацьлеглы (напр. п-ыя погляды).

**ПАЛЯРО́ГРАФ** (ад лац. polaris = палярны + *-граф*) — прыбор для *палярагpафіі*.

**ПАЛЯРО́ІД** (ад с.-лац. polaris = палярны + *-оід*) — святлафільтр са штучна вырабленага матэрыялу ў выглядзе тонкай плёнкі з празрыстых крышталёў, дзе адбываецца падвойнае пераламленне праменяў і *палярызацыя* святла.

**ПАЛЯРЫЗА́ТАР** (ад *палярызацыя*) — аптычнае ўстройства, у якім адбываецца палярызацыя святла.

**ПАЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. polarisation, ад с.-лац. polaris = палярны) — 1) уласцівасць светлавых і электрамагнітных ваганняў адбывацца ў адной пэўнай плоскасці; 2) адкладанне на электродах розных рэчываў, якія паслабляюць сілу току.

**ПАЛЯРЫ́МЕТР** (ад с.-лац. polaris = палярны + *-метр*) — прыбор для вызначэння ступені *палярызацыі* святла, а таксама для вымярэння вугла павароту плоскасці палярызацыі святла.

**ПАЛЯРЫМЕ́ТРЫЯ** (ад с.-лац. polaris = палярны + *-метрыя*) — даследаванне структуры, уласцівасцей і складу рэчываў з выкарыстаннем з'яў палярызацыі святла.

**ПАЛЯРЫ́НА** (фр. pélerine, ад п.-лац. pelegrinus = вандроўнік) — шырокая кароткая накідка на плечы, а таксама вялікі круглы каўнер.

**ПАЛЯРЫСКО́П** (ад с.-лац. polaris = палярны + *-скоп*) — аптычны прыбор для выяўлення *палярызацыі* святла.

**ПАЛЯ́Я** [гр. palaia (diatheke) = Стары запавет] — помнік старажытнарускай пісьменнасці, у якім падаюцца падзеі, апісаныя ў Старым запавеце.

**ПАМА́ДА** (фр. pommade) — пахучая касметычная мазь.

**ПАМАЛО́ГІЯ** (ад лац. pomum = плод + *-логія*) — навука аб сартах пладовых і ягадных раслін.

**ПАМІДО́Р** (іт. pomidoro, ад pomo d'oro = залаты яблык) — агародная травяністая расліна сям. паслёнавых з сакавітымі чырвонымі або жоўтымі пладамі, прыдатнымі для яды, якая вырошчваецца ў розных кліматычных зонах, а таксама плод гэтай расліны.

**ПАМПАДУ́Р** (фр. Pompadour = прозвішча маркізы, фаварыткі фр. караля Людовіка XV) — 1) адмі-

ністратар-самадур; 2) стыль мэблі, адзення, які нагадвае той, што быў пры двары Людовіка XV; 3) французскі танец 19 ст.

**ПАМПА́СЫ** (ісп. pampas, ад перуан. pampa = раўніна) — паўднёваамерыканскія стэпы.

**ПАМПЕ́ЗНЫ** (фр. pompeux, pompeuse) — разлічаны на знешні эфект, пышны, урачысты (напр. п-ая сустрэча).

**ПАМПЕ́ЛЬМУС** (гал. pompelmoes) — вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых з буйнымі ядомымі ярка-жоўтымі пладамі, якое вырошчваюць у Індыі, Кітаі, Японіі.

**ПАМПЕ́РА** (ісп. pampero) — халодны паўднёвы вецер у Аргенціне і Уругваі, выкліканы пранікненнем антарктычнага паветра.

**ПАМПО́Н** (фр. pompon) — упрыгожанне ў выглядзе шарыка з нітак, футра на галаўных уборах, адзенні, абутку.

**ПАМПУ́ШКА** (польск. pampuszek, ад ням. Pfannkuchen) — невялікая круглая пышная булка.

**ПАМФЛЕ́Т** (англ. pamphlet) — мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага характару, накіраваны супраць якой-н. асобы, палітычнай з'явы, грамадскага ладу.

**ПАМЯРА́НЕЦ** (ням. Pomeranze, ад іт. pomo = яблык + arancia = апельсін) — вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых з аранжава-чырвонымі пладамі, якое вырошчваюць у субтропіках, а таксама гаркаваты духмяны плод гэтага дрэва.

**ПАН** (польск. pan) — 1) памешчык у дарэвалюцыйнай Беларусі, а таксама гаспадар, начальнік у адносінах да прыслугі, падначаленых; 2) форма ветлівага звароту ў Польшчы, а на Беларусі форма звароту да грамадзян іншых краін.

**ПАН-** (гр. pan = усё) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які адносіцца да ўсяго», «які ахоплівае ўсё».

**ПАНАГІ́Я** (гр. panagia) — нагрудны знак праваслаўных архірэяў у выглядзе невялікай упрыгожанай іконы на ланцужку.

**ПАНАЙКУМЕ́ННЫ** (ад *пан-* + гр. oikeo = жыву, насяляю); п - ы я в і д ы — сусветна пашыраныя віды раслін і жывёл (*касмапаліт* 2).

**ПА́НАКС** (н.-лац. panax) — травяністая расліна сям. араліевых з патоўшчаным коранем, пальчатаскладаным лісцем і дробнымі кветкамі ў парасоніку, пашыраная ва Усх. Азіі і ўмераных зонах Паўн. Амерыкі; лекавая, адзін з відаў — *жэньшэнь*.

**ПАНАКСАМІ́Т** (ад фр. panne = сорт гладкай матэрыі + *аксаміт*) — тонкі аксаміт з бліскучай паверхняй, якая атрымліваецца ў выніку начосу ворсу ў адзін бок.

**ПАНА́МА** (фр. panama, ад Panama = назва краіны ў Цэнтр. Амерыцы) — 1) летні шыракаполы *капялюш*; 2) буйное палітычнае і фінансавае махлярства з подкупам службовых асоб (слова ўзнікла ў сувязі са злоўжываннямі французскай кампаніі, якая будавала Панамскі канал).

**ПАНАМЕРЫКАНІ́ЗМ** (ад *пан-* + н.-лац. America = Амерыка) — палітычная *дактрына*, якая прапагандуе стварэнне ваенна-палітычнага блоку ўсіх краін Амерыкі на чале са ЗША.

# П

**ПАНАРАБІ́ЗМ** (ад *пан-* + *арабізм*) — палітычная *дактрына*, якая прапагандуе аб'яднанне ўсіх арабскіх краін і народаў.

**ПАНАРА́МА** (ад *пан-* + гр. horama = відовішча) — 1) выгляд мясцовасці з вышыні; 2) вялікая карціна, якая ахоплівае ўвесь круг гарызонту і сумяшчаецца з аб'ёмнымі макетамі прадметаў на пярэднім плане; размяшчаецца ў круглай зале з цэнтральнай агляднай пляцоўкай і стварае ілюзію рэальнай прасторы (напр. Севастопальская п.); 3) *перан.* шырокае апісанне якіх-н. падзей у мастацкім творы, прэсе, кіно (напр. п. зарубежных падзей); 4) аптычная прылада для павелічэння дакладнасці наводкі гарматы.

**ПАНАРЫ́ЦЫЙ** (лац. panaricium = валасень) — гнойнае запаленне тканак пальца (параўн. *дактыліт*).

**ПАНАФРЫКАНІ́ЗМ** (ад *пан-* + н.-лац. Africa = Афрыка) — ідэйна-палітычны рух з мэтай аб'яднання ўсіх краін і народаў Афрыкі.

**ПАНАФТАЛЬМІ́Т** (ад *пан-* + гр. ophthalmos = вока) — гнойнае запаленне вочнага яблыка.

**ПАНАЦЭ́Я** (лац. panacea, ад гр. Panakeia = імя старажытнагрэчаскай багіні-лекаркі) — уяўны сродак, які быццам бы можа выратаваць ва ўсіх выпадках жыцця.

**ПАНАША́Ж** (фр. panachage) — дазвол выбаршчыку галасаваць за кандыдатаў розных партыйных спісаў.

**ПАНАШЫ́РАВАЦЬ** (фр. panacher) — галасаваць за кандыдатаў розных партыйных спісаў.

**ПАНГАЛІ́Н** (малайск. pengoling) — млекакормячае атрада пангалінавых; яшчар, які водзіцца ў Афрыцы і Паўд. Азіі.

**ПАНГЕНЕ́ЗІС** (н.-лац. pangenesis, ад гр. pan = увесь + genesis = паходжанне) — гіпотэза Ч.Дарвіна аб механізме спадчыннасці, паводле якой прыкметы і ўласцівасці перадаюцца ад бацькоў дзецям праз дробныя часцінкі, што выдзяляюцца ўсімі клеткамі цела (развіццё генетыкі гэта не пацвердзіла).

**ПАНГЕРМАНІ́ЗМ** (ад *пан-* + лац. Germania = Германія) — рэакцыйная палітычная *дактрына*, якая, сцвярджаючы перавагу немцаў над іншымі народамі, абгрунтоўвае іх правы на сусветнае панаванне.

**ПАНГІ́ДЫ** (ад н.-лац. pongo lacepede = назва аднаго з родаў арангутангаў + гр. eidos = выгляд) — тое, што і *антрапоіды*.

**ПА́НДА** (тыбецк. panda) — драпежная млекакормячая жывёла сям. янотавых, якая водзіцца ў лясах Гімалаяў.

**ПАНДАКТЫЛІ́Т** (ад *пан-* + *дактыліт*) — *мед.* гнойнае паражэнне ўсіх тканак пальца косці.

**ПАНДА́НУС** (н.-лац. pandanus, ад малайск. pandan) — вечназялёнае дрэва сям. панданавых з доўгім скурыстым лісцем і ядомымі пладамі, пашыранае ў тропіках; дае валакно; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях і аранжарэях.

**ПАНДАРЫ́НА** (н.-лац. pandorina) — каланіяльная зялёная водарасць сям. вальвоксавых, якая трапляецца ў вадаёмах рознага тыпу.

**ПА́НДУРЫ** (груз. panduri) — грузінскія народныя двух- або трох-

струнны шчыпковы музычны інструмент тыпу *лютні*.

**ПАНДУРЫ́НА** (іт. pandorina, ад лац. pandura < гр. pandura = цытра) — тое, што і *мандола*.

**ПА́НДУС** (ад фр. pente douce = пакаты схіл) — нахіленая пляцоўка каля ўваходу ў будынак, якая замяняе сабою лесвіцу, а таксама служыць для ўезду аўтамашын у гараж, на мост і г.д.

**ПА́НДЫТ** (санскр. pandita = вучоны) — ганаровае званне вучонага ў Індыі.

**ПАНДЭ́КТЫ** (с.-лац. pandecta, ад гр. pandektes = які ўсё ахоплівае) — тое, што і *дыесты*.

**ПАНДЭМІ́Я** (гр. pandemia = увесь народ) — больш шырокае, чым пры *эпідэміі*, распаўсюджанне якой-н. інфекцыйнай хваробы, якая ахоплівае цэлыя краіны, нават мацерыкі.

**ПАНЕГІ́РЫК** [гр. panegyrikos (logos) = урачыстая прамова] — 1) літаратурны жанр, хвалебная прамова з нагоды якой-н. урачыстасці або ў гонар каго-н.; 2) празмернае ўсхваленне каго-н., чаго-н.

**ПАНЕГІРЫ́ЧНЫ** (гр. panegyrikos = урачысты) — 1) які мае характар *панегірыка* 1; 2) заліпне хвалебны.

**ПАНЕЁЛ** (н.-лац. panaeolus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гнаевіковых, які расце на багатай перагноем глебе, гноі; неядомы.

**ПАНЕНТЭ́ІЗМ** (ад *пан-* + гр. en -у + theos = бог) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, паводле якога свет існуе ў богу.

**ПАНЗАО́ТЫЯ** (ад *пан-* + гр. zoon = жывёліна) — пашырэнне інфекцыйнай хваробы жывёл на велізарных тэрыторыях або акваторыях (параўн. *энзаотыя*).

**ПА́НІ** (польск. pani) — 1) памешчыца ў дарэвалюцыйнай Беларусі, а таксама гаспадыня, начальніца ў адносінах да прыслугі, падначаленых; 2) форма ветлівага звароту да жанчыны ў Польшчы.

**ПА́НІКА** (фр. panique, ад гр. panikos = раптоўны) — раптоўны непераадольны страх, які ахоплівае аднаго чалавека або многіх людзей.

**ПАНІКАДЗІ́ЛА** (гр. polykandelos = які складаецца з многіх свяцільняў) — вялікая *люстра* са свечкамі або стаячы кандэлябр перад абразамі ў царкве.

**ПАНІРАВА́ЦЬ** (ням. panieren = пасыпаць тоўчанымі сухарамі) — абсыпаць сухарамі, мукой мяса, рыбу перад абсмажваннем.

**ПАНІСЛАМІ́ЗМ** (ад *пан-* + *іслам*) — рэлігійна-палітычная *дактрына*, якая прапаведуе аб'яднанне ў адну дзяржаву ўсіх народаў, што вызнаюць іслам.

**ПАНІХІ́ДА** (с.-гр. pannychida = усяночная) — хрысціянская царкоўная служба па нябожчыку.

**ПАНК** (англ. punk, ад punk rock = форма музыкі, якая нагадвае ранні рок-н-рол) — малады чалавек з вольнай манерай паводзін, у стракатым, крыклівым і неахайным адзенні, са стылізаванай прычоскай.

**ПАНКАРДЫ́Т** (ад *пан-* + гр. kardia = сэрца) — запаленне ўсіх абалонак сэрца.

**ПАНКРАТЫЁН** (гр. pankration) — від спартыўных спаборніцтваў у Стараж. Грэцыі, у якіх спалучаліся

прыёмы барацьбы і кулачнага бою.

**ПАНКРА́ЦЫУМ** (н.-лац. pancratium) — вечназялёная травяністая расліна сям. амарылісавых з бліскучым лісцем і буйнымі белымі пахучымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Малой Азіі, трапічнай Азіі і Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як пакаёвая.

**ПАНКРЭ́АС** (гр. pankreas) — *анат.* падстраўнікавая залоза.

**ПАНКРЭАТЫ́Т** (ад гр. pankreas, -atos = падстраўнікавая залоза) — *мед.* запаленне падстраўнікавай залозы.

**ПАНКРЭАЦІ́Н** (н.-лац. pancreatinum, ад гр. pankreas, -atos = падстраўнікавая залоза) — лекавы прэпарат, які вырабляюць з падстраўнікавай залозы буйной рагатай жывёлы.

**ПАНЛАГІ́ЗМ** (ад *пан-* + *-лагізм*) — ідэалістычнае філасофскае вучэнне, якое лічыць мысленне першаасновай свету і атаясамлівае аб'ектыўную заканамернасць з сістэмай лагічных катэгорый.

**ПАНМІКСІ́Я** (ад *пан-* + гр. miksis = змешванне) — свабоднае скрыжоўванне асобін у межах папуляцыі або іншай унутрывідавай групы жывёл.

**ПАНМІЭЛАФТЫ́З** (ад *пан-* + гр. myelos = касцявы мозг + phthisis = змяншэнне) — цяжкае паражэнне касцявога мозгу пры захворваннях з татальным парушэннем кроваўтварэння, анеміяй і інш.

**ПАНО́** (фр. panneau) — 1) аздобленая арнаментам частка сцяны або столі з малюнкам або скульптурнай выявай; 2) мазаічная, ляпная, разная або інш. кампазіцыя, прызначаная для запаўнення такой часткі сцяны або столі.

**ПАНО́ПТЫКУМ** (ад *пан-* + гр. optikos = зрокавы) — выстаўка (музей) васковых фігур або іншых незвычайных экспанатаў.

**ПАНПСІХІ́ЗМ** (ад *пан-* + гр. psyche = душа) — ідэалістычнае ўяўленне аб усеагульнай адушаўлёнасці прыроды.

**ПАНСІЁН** (фр. pension, ад лац. pensio = плацёж) — 1) закрытая навучальная ўстанова з інтэрнатам і поўным забеспячэннем вучняў у царскай Расіі і некаторых іншых краінах; 2) поўнае забеспячэнне (харчаванне, абслугоўванне) жыльца ў гасцініцы, на кватэры.

**ПАНСІРО́ЎКА** (ад фр. poncer = шліфаваць пемзай) — 1) капіраванне малюнкаў пры дапамозе вугальнага пылу, які пранікае ў наколы на белай паперы; 2) паліраванне пемзай.

**ПАНСІЯНА́Т** (фр. pensionnat) — дом адпачынку або гасцініца з поўным забеспячэннем харчаваннем, начлегам і іншымі выгодамі.

**ПАНСІЯНЕ́Р** (фр. pansionnaire) — 1) навучэнец *пансіёна* 1; 2) той, хто карыстаецца *пансіёнам* 2.

**ПАНСЛАВІ́ЗМ** (ад *пан-* + с.-лац. Slavus = славянін) — палітычная плынь, якая імкнулася да аб'яднання ўсіх славянскіх народаў пад уладай рускага цара.

**ПАНСО́** (фр. ponceau = ярка-чырвоны) — група штучных кіслотных фарбавальнікаў для фарбавання воўны і шоўку ў чырвоны колер.

**ПАНСПЕРМІ́Я** (ад *пан-* + *сперма*) — *гіпотэза* аб паўсюдным

распаўсюджванні ў Сусвеце зародкаў жывых істот.

**ПАНТАГРА́ФІЯ** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-графія*) — павелічэнне або памяншэнне малюнка, карты, выкананае пры дапамозе *пантографа*.

**ПАНТАДО́НТЫ** (н.-лац. pantodonta) — атрад вымерлых капытных, якія дасягалі памераў невялікага насарога; жылі ў *палеагене*.

**ПАНТАКРА́ТАР** (гр. pantokrator = усеўладца) — паясное адлюстраванне Хрыста, які трымае Евангелле ў левай руцэ і благаслаўляе правай.

**ПАНТАКРЫ́Н** (ад *панты* + гр. krino = аддзяляю) — лячэбны танізуючы сродак, які здабываецца з пантаў.

**ПАНТАЛО́НЫ** (іт. pantaloni, ад Pantalone = імя камічнага персанажа італьянскіх народных камедый) — 1) частка жаночай бялізны, якая пакрывае ніжнюю частку тулава ад пояса да каленяў; 2) *уст.* штаны.

**ПАНТАМІ́М** (гр. pantomimos = які ўсё пераймае) — 1) танцавальная сцэна ў старажытнарымскім тэатры, якая перадавала змест дзеяння і эмоцыі персанажаў пры дапамозе мімікі, жэстаў, пластыкі; 2) акцёр, які выконваў такую сцэну.

**ПАНТАМІ́МА** (гр. pantomimos = які ўсё пераймае) — тэатральны спектакль, у якім змест сцэн перадаецца не словамі, а жэстамі, мімікай, пластычнымі рухамі.

**ПАНТАНЁР** (фр. pantonnier) — ваеннаслужачы інжынерных войск, спецыяліст па навядзенню пантонных мастоў.

**ПАНТАПО́ДЫ** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-поды*) — клас марскіх драпежных жывёл з 4—6 парамі хаджалых ног; марскія павукі.

**ПАНТАПО́Н** (ад гр. pan, -ntos = усё + opion = *опій*) — сумесь саляНакіслых солей алкалоідаў опія, якая змяшчае каля 50 % *марфіну*.

**ПАНТАРЫ́М** (ад гр. pan, -ntos = усё + фр. rime = рыфма) — верш, усе радкі якога спалучаны *пантарыфмай*.

**ПАНТАРЫ́ФМА** (ад гр. pante = праз + *рыфма*) — рыфма, заснаваная на суцэльнай сугучнасці не толькі канцавых, але і ўнутраных гукавых элементаў верша.

**ПАНТАТЭ́НАВЫ** (ад гр. pantothen = адусюль); п - а я к і с л а - т а — *вітамін* групы В, які ў клетках жывёл і раслін уваходзіць у склад *кафермента* А, што ўдзельнічае ў многіх працэсах абмену рэчываў.

**ПАНТАТЭ́РЫІ** (н.-лац. pantotheria) — падклас вымерлых млекакормячых, якія жылі ў *мезазоі*; насякомаедныя.

**ПАНТАФА́ГІ** (ад гр. pan, -ntos = усё + *фагі*) — арганізмы, здольныя жывіцца самым разнастайным кормам; усёедныя жывёлы (параўн. *паліфагі*).

**ПАНТАФА́ГІЯ** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-фагія*) — усёеднасць (параўн. *паліфагія*) .

**ПАНТАЦЫ́Д** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-цыд*) — *бактэрыцыдны* прэпарат, які выкарыстоўваецца для *дэзінфекцыі* ран, інструментаў, вопраткі.

**ПАНТО́ГРАФ** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-граф*) — 1) прыбор для капіравання чарцяжоў, карт, планаў

у другім маштабе; 2) рухомы токапрыёмнік на даху электравоза або маторнага вагона для зняцця току з кантактнага проваду.

**ПАНТО́МЕТР** (ад гр. pan, -ntos = усё + *-метр*) — лёгкі вугламерны інструмент, які выкарыстоўваецца пры тапаграфічнай здымцы.

**ПАНТО́Н** (фр. ponton, ад лац. pons, -ntis = мост) — пласкадоннае судна, якое служыць апорай для часовага моста, а таксама плывучы мост, збудаваны на такіх суднах.

**ПАНТО́ФЛІ** (польск. pantofle < ням. Pantoffel, ад іт. pantofola) — лёгкія неглыбокія *туфлі*.

**ПА́НТЫ** (манг. pant) — маладыя, неакасцянелыя рогі высакародных або плямістых аленяў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу лекавых сродкаў.

**ПАНТЫФІКА́Т** (лац. pontificatus) — улада, дзейнасць і перыяд праўлення *папы* рымскага.

**ПАНТЫ́ФІКІ** (лац. pontifices) — члены вышэйшай жрэчаскай калегіі ў Стараж. Рыме.

**ПАНТЭІ́ЗМ** (ад *пан-* + гр. theos = бог) — філасофскае ідэалістычнае вучэнне, якое атаясамлівае навакольную рэчаіснасць з богам (параўн. *дэізм, тэізм*).

**ПАНТЭО́Н** (лац. Pantheon, ад гр. pantheion) — 1) храм, прысвечаны ўсім багам, у старажытных грэкаў і рымлян; 2) манументальны будынак, прызначаны для пахавання выдатных дзеячаў.

**ПАНТЭ́РА** (польск. pantera, ад гр. panther) — тое, што і *леапард*.

**ПА́НУС** [1] (лац. pannus = кавалачак тканіны) — запаленне рагавіцы вока, што выклікаецца часцей за ўсё *трахомай*.

**ПА́НУС** [2] (н.-лац. panus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце на драўніне, сухіх або жывых галінках пераважна лісцевых дрэў.

**ПА́НХАКС** (н.-лац. panchax) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў вадаёмах Індыі, Шры-Ланка, Малайскага архіпелага; вядома як акварыумная.

**ПАНХРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *пан-* + гр. chroma, -atos = фарба, колер) — павелічэнне колераадчувальнасці фатаграфічнай эмульсіі ўвядзеннем у яе *сенсібілізатараў*, якія робяць эмульсію ўспрымальнай да прамянёў любога колеру (параўн. *артахраматызацыя*).

**ПАНХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *пан-* + *храматычны*) — які мае павышаную адчувальнасць не толькі да ультрафіялетавых, фіялетавых і сініх прамянёў, але і да зялёных, жоўтых і чырвоных (напр. п-ая фотаплёнка).

**ПАНЦЁР** (фр. ponte) — той, хто робіць стаўку супраць банка ў картачнай гульні.

**ПАНЦІ́РАВАЦЬ** (фр. ponter) — рабіць стаўку супраць банка ў картачнай гульні.

**ПА́НЦЫР** (с.-в.-ням. panzier, ад ст.-фр. pancier) — 1) спецыяльнае адзенне з перапляцёных металічных кольцаў, якім карысталіся даўней для засцярогі тулава ад удараў халоднай зброі; 2) металічная абшыўка ваенных караблёў, бронепаяздоў; 3) цвёрдае покрыва ў чарапах, кракадзілаў, ракаў.

**ПАНЦЮРКІ́ЗМ** (ад *пан-* + тур. turk = турак) — дактрына турэцкіх буржуазна-памешчыцкіх колаў, якая прапагандуе аб'яднанне пад

уладай Турцыі ўсіх народаў, што гавораць на цюркскіх мовах.

**ПАНЧО́ХА** (польск. ponczocha, ад с.-в.-ням. puntschuoch) — выраб машыннага або ручнога вязання, які надзяваецца на нагу і заходзіць за калена.

**ПАНЭ́ЛЬ** (ням. Paneel) — 1) плоская пліта завадскога вырабу як частка сцяны будынка; 2) драўляная абшыўка або афарбоўка ніжняй часткі сцяны ў памяшканні; 3) частка электрычнага шчыта, пульта кіравання, прыбора, на якой размешчана сігнальная, кантрольная, вымяральная і іншая апаратура; 4) тое, што і *тратуар*.

**ПАНЭНДЭ́МІКІ** (ад *пан-* + *эндэмікі*) — віды (роды, сямействы і інш.) раслін і жывёл, якія жывуць на ўсім зямным шары.

**ПА́ПА** (ад лац. papa, ад гр. pappas = бацька) — галава рымска-каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан.

**ПАПАВЕРЫ́Н** (ад лац. papaver = мак) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў *опіуме*; выкарыстоўваецца ў медыцыне як сродак, што супакойвае боль і расшырае сасуды.

**ПАПАІ́Н** (н.-лац. papaina, ад ісп. papaya = папайя) — раслінны *фермент*, які каталізуе *гідроліз* бялкоў, *пептыдаў, амідаў* і складаных эфіраў.

**ПАПА́ЙЯ** (ісп. papaya) — дрэва сям. папайевых з ядомымі пладамі, што па форме нагадваюць дыню; вырошчваецца ў тропіках; з малочнага соку няспелых пладоў гэтага дрэва атрымліваюць *папаін*.

**ПАПАЛА́НЫ** (іт. popolani) — гандлёва-рамесніцкія слаі гарадоў Паўн. і Сярэд. Італіі ў 12—16 ст., аб'яднаныя ў *цэхі*.

**ПАПАТА́ЧЫ** (іт. pappa = кусае + tace = моўчкі) — вострае інфекцыйнае захворванне, якое перадаецца ўкусамі *маскітаў* і пашырана ў тропіках і субтропіках; маскітная ліхаманка.

**ПАПА́ХА** (азерб. papag) — высокая футравая шапка.

**ПАП'Е́-МАШЭ́** (фр. papier mache = жаваная папера) — папяровая маса, змешаная з клеем, крухмалам, гіпсам, мелам, з якой вырабляюць розныя бытавыя і мастацкія прадметы.

**ПАПЕ́РА** (польск. papier, ад гр. papyros) — 1) матэрыял для пісьма і іншых мэт, выраблены з раслінных валокнаў (напр. пісчая п., газетная п.); 2) афіцыйны пісьмовы дакумент (напр. канцылярскія паперы).

**ПАПІ́ЗМ** (польск. papizm, ад с.-лац. papismos) — 1) рэакцыйная плынь, якая прапагандуе ўстанаўленне палітычнай улады рымскага папы; 2) каталіцызм.

**ПАПІЛО́МА** (ад лац. papilla = сасок + *-ома*) — дабраякасная пухліна, якая развіваецца з тканак скуры або слізістых абалонак і мае выгляд сасочкападобнага нараўтварэння.

**ПАПІ́ЛЫ** (лац. papilla = сасок) — разнастайныя адросткі, якія ўтвараюцца ў розных жывёл на розных органах.

**ПАПІЛЬЁТКА** (фр. papillote) — кавалачак паперы або тканіны, на які накручваюць пасмы валасоў пры халоднай завіўцы.

**ПАПІЛЯ́РНЫ** (ад лац. papilla = сасок); п - н ы я л і н і і — рэль-

ефныя лініі на далонях, падушачках пальцаў, падэшвах ног чалавека і малпаў; застаюцца нязменнымі на працягу ўсяго жыцця і строга індывідуальныя, на чым заснавана *дактыласкапія*.

**ПАПІРАЛО́ГІЯ** (ад *папірус* + *-логія*) — дапаможная гістарычная дысцыпліна (адгалінаванне *палеаграфіі*), якая займаецца вывучэннем старажытных папірусаў.

**ПАПІ́РУС** (лац. papyrus, ад гр. papyros) — 1) водная травяністая расліна сям. асаковых з тоўстымі сцёбламі і буйнымі каласковымі суквеццямі, пашыраная ў трапічнай Афрыцы; 2) матэрыял для пісьма са сцяблін гэтай расліны, які выраблялі егіпцянамі і іншымі народамі ў старажытнасці, а таксама рукапіс на такім матэрыяле.

**ПАПІ́СТ** (польск. papista, ад фр. papiste) — прыхільнік *папізму*.

**ПАПЛІ́Н** (фр. popeline, ад іт. popalino = папскі) — шаўковая, паўшаўковая або баваўняная тканіна з дробным папярочным рубчыкам.

**ПА́ПРЫКА** (венг. paprika, ад гр. peperi = перац) — плады стручковага перцу жоўтага, зялёнага, чырвонага колеру.

**ПАПУГА́Й** (тур. papahan, ад ар. babaha) — трапічная лясная птушка з яркім стракатым апярэннем, якая здольна пераймаць розныя гукі, у тым ліку і чалавечую мову.

**ПА́ПУЛА** (лац. papula = прышч) — цвёрды вузялок на скуры або слізістай абалонцы, які ўтвараецца пры раздражненні, захворваннях.

**ПАПУЛІ́ЗМ** (ад лац. populis = народ) — 1) французская літаратурная школа пач. 20 ст., якая дэкларуючы рэалістычнае адлюстраванне быту гарадской і сельскай беднаты, стала фактычна разнавіднасцю натуралізму; 2) паддобрыванне да народных мас, заснаванае на легкаважных абяцаннях, дэмагагічных лозунгах.

**ПАПУЛІ́СТ** (ад *папулізм*) — 1) член фермерскай партыі ў ЗША канца 19 ст., якая патрабавала надзялення пасяленцаў зямлёй за кошт карпарацый, зніжэння падаткаў, неабмежаванай чаканкі манет; 2) дзеяч, які паддобрываецца да народных мас.

**ПАПУЛЯ́РНАСЦЬ** (ад *папулярны*) — 1) агульнадаступнасць, зразумеласць выкладу; 2) шырокая вядомасць, прызнанне грамадскасцю.

**ПАПУЛЯ́РНЫ** (лац. popularis = народны) — 1) агульнадаступны, зразумелы ўсім па прастаце, выразнасці выкладу, адлюстравання і г.д. (напр. п-ая брашура, п-ая музыка); 2) шырока вядомы, прызнаны; распаўсюджаны (напр. п. кінаартыст, п-ая песня).

**ПАПУЛЯ́РЫ** (лац. populares, ад populus = народ) — палітычныя групоўкі ў Стараж. Рыме, якія выражалі інтарэсы *плебеяў*, змагаліся супраць *аптыматаў*.

**ПАПУЛЯРЫЗА́ТАР** (ад *папулярызацыя*) — чалавек, які займаецца папулярызацыяй чаго-н.

**ПАПУЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (рус. популяризация, ад лац. popularis = народны) — 1) выклад якога-н. складанага пытання ў агульнадаступнай форме; 2) распаўсюджанне чаго-н., імкненне зрабіць шырока вядомым.

# П

**ПАПУЛЯ́ЦЫЯ** (п.-лац. populatio, ад лац. populus = насельніцтва) — сукупнасць асобін аднаго віду жывёл або раслін, якія займаюць пэўную тэрыторыю і ўзнаўляюць сябе на працягу вялікай колькасці пакаленняў.

**ПАПУРЫ́** (фр. pot-pourri = мяшаная страва, усякая ўсячына) — 1) музычная п'еса галоўным чынам для эстраднага або духавога аркестра, складзеная з папулярных матываў; 2) *перан.* мешаніна, сумесь розных рэчаў.

**ПАПУ́ША** (польск. papusza, ад рум. papuşa) — скрутак тытунёвага лісця.

**ПАПЯРО́СА** (ад ням. Papier = папера) — папяровая трубка з тытунём для курэння і муштуком.

**ПА́РА** (ст.-польск. para, ад с.-в.-ням. pār) — 1) два аднолькавыя сіметрычныя прадметы, якія складаюць адно цэлае; 2) дзве асобы або дзве жывёліны рознага полу; 3) запрэжка з двух коней.

**ПАРА́** (тур. para) — разменная манета Турцыі, роўная 1/40 *куруша (піястра)*, і Югаславіі, роўная 1/100 *дынара*.

**ПАРА-** (гр. para = каля, пры) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае знаходжанне побач, а таксама перамяшчэнне, адхіленне ад чаго-н., змену чаго-н.

**ПАРААГЛЮЦІНА́ЦЫЯ** (ад *пара- + аглюцінацыя*) — склейванне і выпаданне ў асадак пад дзеяннем сывараткі крыві хворага не толькі ўзбуджальніка дадзенай хваробы, але і мікроба, які знаходзіцца ў *сімбіёзе* з ім.

**ПАРАБАЗА́ЛЬНЫ** (ад *пара-* + гр. basis = аснова); п. а п а р а т — зерні рознай формы і велічыні, размешчаныя каля ядра ў многажгуцікавых аднаклетачных.

**ПАРА́БАЛА** (гр. parabole = параўнанне) — 1) *мат.* лінія перасячэння круглага конуса плоскасцю, паралельнай якой-н. датычнай плоскасці гэтага конуса; 2) прытча, кароткая казка, анекдот, алегарычнае апавяданне павучальнага зместу.

**ПАРАБАЛІ́ЧНЫ** (гр. parabolikos = параўнальны) — 1) які мае форму *парабалы*; 2) іншасказальны, алегарычны.

**ПАРАБАЛО́ГРАФ** (ад *парабала + -граф*) — прыбор для вычэрчвання парабал.

**ПАРАБАЛО́ІД** (ад *парабала + -оід*) — *мат.* паверхня, утвораная рухам парабалы, вяршыня якой слізгаціць па другой нерухомай парабале.

**ПАРАБЕ́ЛУМ** (ням. Parabellum, ад лац. para bellum = рыхтуйся да вайны) — від аўтаматычнага васьмізараднага *пісталета*.

**ПАРАБІЁЗ** (ад *пара- + -біёз*) — 1) часовая страта жывой тканкай здольнасці да ўласцівай ёй дзейнасці пад уплывам моцнага раздражнення; 2) метад штучнага зрашчэння двух жывёл з мэтай вывучэння ўзаемнага ўплыву іх органаў і тканак.

**ПАРАБІЯСФЕ́РА** (ад *пара- + біясфера*) — слой *літасферы* глыбінёй да 5 км, у які жывыя арганізмы трапляюць выпадкова і існуюць часова.

**ПАРАБРО́НХІ** (ад *пара- + бронхі*) — тонкія трубкі, якія пранізваюць лёгкія птушак.

**ПАРАВА́Н** [1] (англ. paravane, ад гр. para = пры, каля + англ. vane = лопасць вінта) — прыстасаванне тыпу *трала* для засцярогі карабля ў час руху ад мін.

**ПАРАВА́Н** [2] (фр. paravent) — шырма.

**ПАРАГА́МІЯ** (ад гр. poros = адтуліна + *-гамія*) — пранікненне пылковай трубкі пры апладненні ў зародкавы мяшок праз *мікрапіле*.

**ПАРАГА́НГЛІІ** (ад *пара-* + *ганглій*) — залозы ўнутранай *сакрэцыі* пазваночных жывёл і чалавека ў надныралчніках, у вобласці сэрца і аорты, якія выпрацоўваюць і выдзяляюць у кроў *адрэналін*.

**ПАРАГАРМО́НЫ** (ад *пара-* + *гармоны*) — тое, што і *гарманоіды*.

**ПАРАГЕЛІЯТРАПІ́ЗМ** (ад *пара-* + *геліятрапізм*) — рухі лісця некаторых раслін з мэтай пазбегнуць яркага сонечнага святла.

**ПАРАГЕ́НЕЗІС** (ад *пара-* + *генезіс*) — заканамернае сумеснае знаходжанне ў зямной кары груп мінералаў, звязаных агульнасцю ўмоў утварэння.

**ПАРАГНЕ́ЙС** (ад *пара-* + *гнейс*) — горная парода, утвораная пры *метамарфізме* асадачных парод.

**ПАРА́ГРАФ** (лац. paragraphus, ад гр. paragraphos) — частка тэксту ўнутры раздзела, пазначаная знакам §, а таксама сам гэты знак.

**ПАРАГРЫ́П** (ад *пара-* + *грып*) — вострае рэспіраторнае захворванне чалавека паводле вірусной *этыялогіі*.

**ПА́РАД** (гр. parodos) — 1) праход па *архестры* паміж *амфітэатрам* і *скенай* у старажытнагрэчаскім тэатры; 2) першая ўступная песня хора ў антычнай трагедыі і камедыі.

**ПАРА́Д** (фр. parade) — урачыстае праходжанне войск з баявой тэхнікай, а таксама спартыўных і іншых калектываў з выпадку свята (напр. ваенны п., фізкультурны п.).

**ПАРАДАНТО́З** (н.-лац. paradentosis, ад гр. para = пры, каля + лац. dens, -ntis = зуб) — запаленчы працэс у калязубнай тканцы.

**ПАРАДЗІ́РАВАЦЬ** (гр. parodeo = перарабляю на смешны лад) — 1) пісаць на каго-н. ці на чый-н. твор *пародыю*; 2) высмейваць каго-н.

**ПАРАДО́КС** (гр. paradoksos = нечаканы, дзіўны) — своеасаблівая думка, меркаванне, якое разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі, супярэчыць разумнаму сэнсу; 2) нечаканая з'ява, якая не адпавядае звычайным уяўленням у навуцы; 3) *лог.* адзін з відаў супярэчнасцей, што ўзнікаюць у правільным па лагічнай форме разважанні.

**ПАРАДЫ́ГМА** (гр. paradeigma = прыклад, узор) — 1) *лінгв.* сістэма форм якога-н. слова, напр. скланенне назоўнікаў, спражэнне дзеясловаў; 2) прыклад з гісторыі, узяты для доказу, параўнання.

**ПАРАДЫ́З** (фр. paradis, ад гр. paradeisos = сад, парк) — 1) галёрка ў даўнейшым тэатры; 2) *уст.* рай.

**ПАРАДЫ́ЗІЯ** (н.-лац. paradisea) — травяністая расліна сям. лілейных з доўгім вузкім лісцем і кветкамі з буйным лейкападобным снежнабелым калякветнікам у рэдкай гронцы, пашыраная ў гарах Паўд. Еўропы; дэкаратыўная расліна.

**ПАРАЗІ́Т** (гр. parasitos = нахлебнік, дармаед) — 1) расліна або жы-

вёла, якая жыве на паверхні *(эктапаразіт)* ці ўнутры *(эндапаразіт)* іншага арганізма і корміцца за яго кошт; 2) *перан.* асоба, якая жыве з чужой працы.

**ПАРАЗІТАЛО́ГІЯ** (ад *паразіт* + *-логія*) — біялагічная навука, якая вывучае паразітаў і выклікаңыя імі хваробы чалавека, жывёл і раслін.

**ПАРАЗІТАФА́УНА** (ад *паразіт* + *фауна*) — сукупнасць паразітычных арганізмаў у жывёлы-гаспадара.

**ПАРАЗІТАЦЭНО́З** (ад *паразіт* + *-цэноз*) — сукупнасць відаў паразітаў, што насяляюць пэўны орган або ўвесь арганізм чалавека, жывёлы або расліны.

**ПАРАЗІТО́ЛАГ** (ад *паразіт* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *паразіталогіі.*

**ПАРАЗІТЫ́ЗМ** (ад *паразіт*) — 1) форма адносін паміж арганізмамі розных відаў, пры якой адзін арганізм корміцца за кошт другога, спажываючы яго тканкі або пераварaную ім ежу; 2) *перан.* жыццё з чужой працы, дармаедства.

**ПАРАЗО́А** (н.-лац. parazoa) — надраздзел падцарства мнагаклетачных, у які ўваходзяць губкі.

**ПАРАІМУНІТЭ́Т** (ад *пара-* + *імунітэт*) — неўспрымальнасць да спадарожнага *мікроба*, якая ўзнікае паралельна з імунітэтам да асноўнага ўзбуджальніка хваробы.

**ПАРАЙКІ́Я** (гр. paroikia = знаходжанне на чужбіне) — адна з форм міжвідавых узаемаадносін, разнавіднасць *сінайкіі*.

**ПАРАКЛА́ЗЫ** (ад *пара-* + гр. klasis = разлом) — тэктанічныя трэшчыны, уздоўж якіх адбываліся перамяшчэнні горных парод.

**ПАРАКО́КЛЮШ** (ад *пара-* + *коклюш*) — вострае інфекцыйнае дзіцячае захворванне, падобнае да коклюшу, але з больш лёгкім працяканнем.

**ПАРАКСІ́ЗМ** (гр. paroksysmos = узбуджэнне, раздражненне) — 1) моцны прыступ хваробы; 2) *перан.* вострае перажыванне, прыступ душэўнага ўзбуджэння.

**ПАРАКСІЗМА́ЛЬНЫ** (ад *параксізм*) — які праяўляецца ў прыступах (напр. п-ая *тахікардыя*).

**ПАРАКСІЯ́ЛЬНЫ** (ад *пара-* + *аксіяльны*) — прывосевы, які мае аднолькавы напрамак з воссю (напр. п. пучок праменяў).

**ПАРАЛАГІ́ЗМ** (гр. paralogismos) — няправільны вывад у выніку ненаўмыснай лагічнай памылкі (параўн. *сафізм*).

**ПАРАЛА́КС** (гр. parallaksis = адхіленне) — 1) уяўнае змяненне становішча прадмета як вынік перамяшчэння вока назіральніка; 2) вугал, які вымярае ўяўнае зрушэнне свяціла пры перамяшчэнні назіральніка з аднаго пункта прасторы ў другі.

**ПАРАЛАНГІ́СТ** [ад *пара(шут)* + *(аква)ланг*] — спартсмен-парашутыст і акваланrіст.

**ПАРАЛЕЛАГРА́М** (ад гр. parallelos = паралельны + *-грам*) — чатырохвугольнік, у якога бакі папарна *паралельныя*.

**ПАРАЛЕЛЕПІ́ПЕД** (ад гр. parallelos = паралельны + epipedon = плоскасць) — шасціграннік, усе грані якога з'яўляюцца *паралелаграмамі*.

**ПАРАЛЕЛІ́ЗМ** (гр. parallelismos = параўнанне) — 1) знаходжанне на аднолькавай адлегласці адна ад

другой ліній і плоскасцей на ўсім іх працягу; 2) нязменныя суадносіны і аднучасовасць дзвюх з'яў або дзеянняў (напр. п. у песні, п. у рабоце); 3) тое, што і *парафілія*; 4) стылістычная фігура, аднародная сінтаксічна-кампазіцыйная пабудова аднатыпных элементаў паэтыкі (з'яў, вобразаў, матываў і г.д.), якія супастаўляюцца паміж сабой і размяшчаюцца паралельна ў двух ці трох сумежных сказах, радках, строфах.

**ПАРАЛЕЛО́ЭДРЫ** (ад гр. parallelos = паралельны + *-эдр*) — мнагаграннікі, паралельным пераняcеннем якіх можна запоўніць усю прастору так, каб яны не ўваходзілі адзін у адзін і не пакідалі пустых месц (напр. куб, правільная шасцівугольная прызма).

**ПАРАЛЕ́ЛЬ** (гр. parallelos = які праходзіць побач) — 1) *мат.* кожная з прамых ліній, якая знаходзіцца на ўсім працягу на аднолькавай адлегласці ад дадзенай; 2) *геагр.* умоўная лінія, праведзеная паралельна *экватару* па зямной паверхні; 3) *перан.* з'ява, якая можа параўноўвацца з іншай падобнай з'явай (напр. гістарычныя паралелі).

**ПАРАЛЕ́ЛЬНЫ** (гр. parallelos) — 1) *мат.* які знаходзіцца на ўсім працягу на аднолькавай адлегласці ад якой-н. лініі; 2) які размяшчаецца ў адным напрамку прыблізна на роўнай адлегласці ад чаго-н.; 3) які дубліруе, паўтарае што-н.; аднолькавы, падобны.

**ПАРАЛЕЎКО́БРЫУМ** (н.-лац. paraleucobryum) — брыевы мох сям. дыкранавых, які пашыраны ва ўмераным поясе Паўн. паўшар'я; расце на валунах, радзей на пнях у лясах.

**ПАРАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. paralyser, ад гр. paralysis = расслабленне) — 1) прывесці ў стан *паралічу* (напр. п. ногі); 2) *перан.* пазбавіць здольнасці або магчымасці дзейнічаць (напр. п. сілы ворага).

**ПАРАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *пара-* + *лінгвістыка*) — раздзел моваЗнаўства, які вывучае гукавыя сродкі, што суправаджаюць маўленне (ступень гучнасці, размеркаванне паўз і інш.).

**ПАРАЛІТАРАТУ́РА** (ад *пара-* + *літаратура*) — сукупнасць псеўдатвораў (коміксаў, кароткіх пераказаў вядомых твораў), якія наваднюць кніжныя рынкі многіх краін.

**ПАРАЛІ́ТЫК** (гр. paralytikos) — хворы на *параліч*, разбіты паралічам.

**ПАРА́ЛІЧ** (рус. паралич, ад гр. paralysis = расслабленне) — 1) хвароба, якая пазбаўляе той або іншы орган цела здольнасці рухацца, дзейнічаць (параўн. *парэз*); 2) *перан.* стан бяздзейнасці, страта здольнасці выконваць свае функцыі (напр. п. чыгункі).

**ПАРАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *пара-* + *магнетызм*) — уласцівасць рэчываў слаба намагнічвацца ў напрамку, які супадае з напрамкам сілавых ліній знешняга магнітнага поля.

**ПАРАМАГНЕ́ТЫКІ** (ад *пара-* + *магнетыкі*) — рэчывы, здольныя слаба намагнічвацца пад уздзеяннем знешняга магнітнага поля ў напрамку, які супадае з напрамкам сілавых ліній поля (напр. паветра, алюміній, плаціна і інш.).

**ПАРАМАРФО́ЗА** (ад *пара-* + гр. morphe = форма) — від *псеўдамар-*

*фозы,* які ўтвараецца пры паліморфных зменах крышталічнай структуры.

**ПА́РАМАСЫ** (ісп. páramos) — высакагорныя лугі паўночнай часткі Андаў і найбольш высокіх вяршынь Афрыкі.

**ПАРА́МЕТР** (гр. parametreo = адмерваю) — 1) велічыня, якая ўваходзіць у матэматычную формулу і захоўвае пастаяннае значэнне толькі для дадзенага выпадку; 2) велічыня, якая характарызуе якую-н. уласцівасць, стан, памер або форму прадмета ці з'явы; паказчык.

**ПАРАМЕТРЫ́Т** (ад *пара-* + гр. metra = матка) — запаленне каляматачнай клятчаткі.

**ПАРАМЕТРО́Н** (гр. parametron = які адмервае) — электронны пераключальны элемент з дзвюма ўстойлівымі фазамі, які выкарыстоўваецца ў аўтаматыцы і вылічальнай тэхніцы.

**ПАРАМІЯ́** (гр. paroimia = прытча) — урывак з кнігі Старога запавету, які чытаецца ў праваслаўнай царкве ў час набажэнства з мэтай павучання.

**ПАРАМНЕ́ЗІЯ** (ад *пара-* + гр. mnesis = успамін) — парушэнне памяці, пры якім падзеі, што адбываюцца ў дадзены момант, здаюцца ўжо некалі перажытымі; выступае ў разнавіднасцях *канфабуляцыя, крыптамнезія, псеўдарэмінісцэнцыя, рэдуплікацыя* (параўн. *амнезія*).

**ПАРАМФІСТАМАТА́ТЫ** (н.-лац. paramphistomatata) — падатрад чарвей класа смактуноў, якія пашыраны ў Еўразіі, Афрыцы, Аўстраліі; паразітуюць у слізістай абалонцы тонкіх кішак і ў рубцы свойскіх і дзікіх жывёл.

**ПАРАМФІСТАМАТЫДО́ЗЫ** (ад *парамфістамататы*) — глісныя хваробы свойскіх і дзікіх жвачных жывёл, якія выклікаюцца парамфістамататамі.

**ПАРАНАМА́ЗІЯ** (гр. paranomasia, ад para = каля + onomazo = называю) — стылістычная фігура, заснаваная на ўжыванні *паронімаў*.

**ПАРАНГО́Н** (фр. parangon = узор) — *брыльянт*, каштоўны камень, жамчужына без дэфектаў.

**ПАРАНДЖА́** (рус. паранджа, ад ар. farandžija = верхняе адзенне) — шырокі доўгі халат з валасяной сеткай, якой мусульманскія жанчыны ў Сярэд. Азіі закрывалі твар ад чужых людзей.

**ПАРАНЕКРО́З** (ад *пара-* + гр. nekros = мёртвы) — тое, што і *некрабіёз*.

**ПАРАНЕФРАЦЫ́ТЫ** (ад *пара-* + гр. nephros = нырка + *-цыты*) — асобыя выдзяляльныя клеткі, якія знаходзяцца ўздоўж бакоў цела дробных плоскіх чарвей групы *уданелідаў*.

**ПАРАНЕФРЫ́Т** (ад *пара-* + *нефрыт*) — запаленне прынырачнай тлушчавай клятчаткі ў чалавека і жывёл.

**ПАРАНІХІ́Я** (ад *пара-* + *аніхія*) — запаленне мяккіх тканак, якія акружаюць ногаць.

**ПАРАНО́ІК** (ад *паранойя*) — чалавек, хворы на паранойю.

**ПАРАНО́ЙЯ** (гр. paranoia = вар'яцтва) — хранічнае псіхічнае захворванне, якое характарызуецца стойкім трызненнем пры захаванні ў астатнім лагічнасці мыслення.

**ПАРАНО́МІЯ** (гр. paranomia = беззаконне) — супярэчнасць у законах.

**ПАРА́НТРАПЫ** (ад *пара-* + *-антрап*) — выкапнёвыя чалавекападобныя *прыматы*, блізкія да *аўстралапітэкаў*.

**ПАРАНТЭ́З** (фр. parenthèse = уводнае слова; думка, ад гр. parenthesis = устаўка) — фігурная дужка, якая служыць для аб'яднання некалькіх слоў або радкоў, часцей за ўсё ў табліцах і формулах.

**ПАРАПЕ́Т** (фр. parapet, ад іт. parapetto) — невысокая сцяна, агароджа ўздоўж страхі, балкона, набярэжнай і інш.

**ПАРАПІТЭ́К** (ад *пара-* + *-пітэк*) — адна з найбольш старажытных выкапнёвых чалавекападобных *малп*.

**ПАРАПЛЕГІ́Я** (ад *пара-* + гр. plego = удар) — *параліч* абедзвюх ніжніх або абедзвюх верхніх канечнасцей.

**ПАРАПЛЕРО́МА** (ад *пара-* + гр. pleroma = колькасць) — адна з форм *плеаназму*.

**ПАРАПО́ДЫІ** (ад *пара-* + *-подыі*) — парныя бакавыя вырасты сегментаў тулава кольчатых чарвей.

**ПАРАПО́ФІЗЫ** (ад *пара-* + apophysis = адростак) — ніжнія папярочныя адросткі цел пазванкоў у многіх рыб.

**ПАРАПРАКТЫ́Т** (ад *пара-* + гр. proktos = задні праход) — запаленне клятчаткі вакол прамой кішкі.

**ПАРАПРАЦЭ́С** (ад *пара-* + *працэс*) — завяршальны этап працэсу намагнічвання, калі моцнае магнітнае поле паварочвае ў напрамку свайго дзеяння апошнія неарыентаваныя магнітныя моманты атамаў *ферамагнетыка*.

**ПАРАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *пара-* + *псіхалогія*) — плынь у псіхалогіі, звязаная з вывучэннем незвычайных псіхалагічных з'яў — яснабачання, *тэлепатыі* і інш.

**ПАРАСІМПАТЫ́ЧНЫ** (ад *пара-* + *сімпатычны*); п - а я  н е р в о в а я  с і с т э м а — аддзел вегетатыўнай нервовай сістэмы, які разам з сімпатычнай нервовай сістэмай удзельнічае ў рэгуляцыі дзейнасці ўнутраных органаў.

**ПАРАСКЕ́НІЙ** (гр. paraskenion) — бакавыя прыбудовы на *скене* старажытнагрэчаскага тэатра.

**ПАРАСО́ЛЬ** (фр. parasol, іт. parasole = заслона ад сонца, ад лац. paro = адбіваю + sol = сонца) — невялікі самалёт з адной плоскасцю крылаў, размешчанай над *фюзеляжам* (параўн. *манаплан*).

**ПАРАСО́Н** (фр. parasol, іт. parasole = заслона ад сонца, ад лац. paro = адбіваю + sol = сонца) — прыстасаванне для засцярогі ад дажджу і сонца ў выглядзе нацягнутага на спіцы кавалка тканіны, прымацаванага да доўгай ручкі.

**ПАРАТА́КСІС** (гр. parataksis) — сінтаксічная сувязь злучэння граматычна раўнапраўных элементаў (слоў, спалучэнняў, сказаў).

**ПАРАТАМІ́Я** (ад *пара-* + *-тамія*) — форма бясполага размнажэння некаторых чарвей шляхам развіцця рэгенератыўнай зоны, у якой утвараюцца новыя сегменты.

**ПАРАТУБЕРКУЛЁЗ** (ад *пара-* + *туберкулёз*) — інфекцыйная хва-

роба жвачных жывёл, якая выклікаецца *мікраарганізмамі*.

**ПАРАТЫ́ДЫ** (ад *пара-* + гр. us, otos = вуха) — скапленне ядавітых залоз па баках галавы ў *саламандраў*, жаб і іншых земнаводных.

**ПАРАТЫРЭО́ІДНЫ** (ад *пара-* + гр. thyreoeides = шчытападобны) — які адносіцца да каляшчытападобнай залозы (напр. п. гармон).

**ПАРАТЫ́Т** (ад *пара-* + гр. us, otos = вуха) — запаленне калявушнай слiннай залозы; п. э п і д э м і ч н ы — свінка.

**ПАРАТЫ́Ф** (ад *пара-* + *тыф*) — вострая заразная хвароба, якая выклікаецца *бацыламі*, падобнымі да ўзбуджальніка брушнога тыфу.

**ПАРАТЫФЛІ́Т** (ад *пара-* + *тыфліт*) — запаленне клятчаткі, якая акружае сляпую кішку.

**ПАРАТЭ́КСТ** (фр. paratexte, ад лац. para = па-за + textum = тэкст) — тэкст, набраны курсівам або іншым шрыфтам, што адрозніваецца ад асноўнага, і гэтым самым аддзелены ад галоўнай часткі твора (напр. рэмаркі, што суправаджаюць дыялогі ў п'есе).

**ПАРА́Ф** (фр. paraphe, ад гр. paragraphos = параграф) — 1) росчырк у подпісе; 2) скарочаны подпіс, ініцыялы.

**ПАРАФАЗІ́Я** (ад *пара-* + *афазія*) — перастаноўка або замена ў вуснай мове гукаў або складоў у слове, слоў у сказе, што развіваецца пры паражэнні маўленчых зон галаўнога мозгу.

**ПАРАФАСЦЫЕЛАПСО́З** (ад *парафасцыялопсіс*) — інвазійная хвароба дзікіх траваедных жывёл, якая выклікаецца *гельмінтам* з роду парафасцыялопсіс.

**ПАРАФАСЦЫЯЛО́ПСІС** (н.-лац. parafasciolopsis) — *гельмінт* сям. *фасцыялідаў*; паразітуе ў жоўцевых хадах печані дзікіх няпарнакапытных.

**ПАРАФІ́ЗЫ** (ад пара- + гр. physis = узнікненне, вырастанне) — мнагаклетачныя або аднаклетачныя ніткі ў органах размнажэння некаторых водарасцей, грыбоў і імхоў, якія ахоўваюць гэтыя органы ад механічных пашкоджанняў і высыхання.

**ПАРАФІЛІ́Я** (ад *пара-* + *-філія*) — прынцып *эвалюцыі* груп арганізмаў, які заключаецца ў незалежным набыцці імі падобных рыс будовы на аснове асаблівасцей, узятых у спадчыну ад агульных продкаў.

**ПАРАФІМО́З** (ад *пара-* + гр. phimosis = звужэнне крайняй плоці) — ушчамленне галоўкі палавога члена ссунутай назад крайняй плоццю.

**ПАРАФІ́Н** (н.-лац. paraffinum, ад лац. parum = мала + affinis = родны) — белае або жоўтае рэчыва, падобнае да воску, якое здабываецца пераважна з нафты.

**ПАРАФІНАТЭРАПІ́Я** (ад *парафін* + *тэрапія*) — выкарыстанне парафіну з лячэбнай мэтай пры *артрытах, міязіце, радыкуліце* і інш.

**ПАРАФІ́РАВАЦЬ** (фр. parapher) — падпісваць міжнародны дагавор ініцыяламі ўпаўнаважаных асоб кожнага з дагаворных бакоў для пацвярджэння папярэдняй дамоўленасці, да афіцыйнага падпісання.

**ПАРА́ФІЯ** (польск. parafia < лац. parochia, ад гр. parochia) — 1) касцельная акруга, якая падпарадкоўваецца аднаму ксяндзу; 2) *перан.* тэрыторыя, якая знаходзіцца пад чыім-н. кіраўніцтвам.

**ПАРАФІЯ́ЛЬНЫ́** (ад *парафія*) — які мае адносіны да парафіі.

**ПАРАФРА́ЗА** (гр. paraphrasis = апісанне, выклад) — 1) пераказ сваімі словамі літаратурнага твора, а таксама *адаптацыя* вялікіх мастацкіх твораў; 2) інструментальная п'еса віртуознага характару на оперныя тэмы або народныя мелодыі.

**ПАРАХАРДА́ЛІІ** (ад *пара-* + гр. chorde = струна) — участкі храстка, якія ахопліваюць галоўны канец *хорды*.

**ПАРАХРАНІ́ЗМ** (ад *пара-* + гр. chronos = час) — храналагічная памылка, якая заключаецца ў аднясенні даты падзеі да пазнейшага часу, чым яна на самой справе адбывалася.

**ПАРАЦЭНТЭ́З** (гр. parakentesis = пракол) — пракол барабаннай перапонкі з мэтай даць магчымасць выцяканню гною.

**ПАРАШУ́Т** (фр. parachute, ад parer = папярэдзіць + chute = падзенне) — прыстасаванне ў выглядзе вялікага парасона для спуску чалавека або грузу з самалёта.

**ПАРАШУТАДРО́М** (ад *парашут* + *-дром*) — участак мясцовасці, падрыхтаваны і абсталяваны для трэніровак і спаборніцтваў парашутыстаў.

**ПАРАШУТЫ́ЗМ** (ад *парашут*) — скачкі з парашутам з самалёта, аэрастата як від спорту.

**ПАРВЕНЮ́** (фр. parvenu) — *уст.* асоба, якая хутка дасягнула высокага службовага становішча або прабілася ў вышэйшыя слаі грамадства; выскачка.

**ПАРГЕ́ЛІІ** (ад *пара-* + гр. helios = сонца) — круглыя светлыя плямы, што часам з'яўляюцца на небе з аднаго або з абодвух бакоў сонца, што тлумачыцца пераламленнем сонечных прамянёў у ледзяных крышталіках перыстых хмар (адзін з відаў *гало*).

**ПАРДО́ЗА** (н.-лац. pardosa) — павук сям. *ліказідаў*, які жыве па берагах вадаёмаў і на забалочаных мясцінах.

**ПАРДО́Н** (фр. pardon) — *разм.* прабачце, даруйце.

**ПАРК** (с.-лац. parcus = агароджаны лясок) — 1) вялікі сад з алеямі, кветнікамі, вадаёмамі, прызначаны для прагулак, адпачынку; 2) месца для стаянкі і рамонту транспартных сродкаў (напр. аўтобусны п., тралейбусны п.); 3) сукупнасць машын у гаспадарцы (напр. машынна-трактарны п.); 4) *ваен.* тэрыторыя, прыстасаваная для абслугоўвання і рамонту бронетанкавай, артылерыйскай і іншай тэхнікі.

**ПАРКА́ЛЬ** (фр. percale) — тонкая баваўняная тканіна з набіўным рысункам.

**ПАРКА́Н** (польск. parkan, ад с.-в.-ням. parkan) — драўляная агароджа, плот.

**ПАРКЕ́Т** (фр. parquet) — падлога з маленькіх гладкіх дошчачак, пакладзеных у выглядзе геаметрычных фігур, а таксама самі гэтыя дошчачкі.

# П

**ПА́РКІНГ** (англ. parking) — вызначанае месца стаянкі механічных сродкаў перамяшчэння.

**ПАРКІНСАНІ́ЗМ** (ад англ. Parkinson = прозвішча англ. урача) — хваравіты стан, звязаны з паражэннем глыбокіх аддзелаў галаўнога мозгу пры *энцэфаліце, атэрасклерозе* сасудаў мозгу і інш.

**ПАРЛА́МЕНТ** (англ. parliament < фр. parlement, ад parler = гаварыць) — 1) вышэйшы заканадаўчы орган з выбарных прадстаўнікоў у многіх краінах; бывае аднапалатны і двухпалатны (напр. англійскі п.); 2) *перан.* назва найвышэйшага заканадаўчага прадстаўнічага органа любой канстытуцыйнай дзяржавы.

**ПАРЛАМЕНТАРЫ́ЗМ** (фр. parlamentarisme) — сістэма дзяржаўнага кіравання на чале з *парламентам*.

**ПАРЛАМЕНТА́РЫЙ** (ням. Parlamentarier, фр. parlementaire) — член *парламента*; прыхільнік парламенцкіх метадаў барацьбы.

**ПАРЛАМЕНЦЁР** (фр. parlementaire) — афіцыйны прадстаўнік, які пасылаецца адным з ваюючых бакоў для перагавораў з праціўнікам.

**ПАРМЕЗА́Н** (фр. parmesan, ад іт. Parma = назва іт. горада) — сорт італьянскага цвёрдага сыру, які ўжываецца пераважна як прыправа да страў.

**ПАРМЕЛІЁПСІС** (н.-лац. parmeliopsis) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які расце ў хваёвых і мяшаных лясах на галінах і ствалах, кустах, пнях, радзей на камянях.

**ПАРМЕ́ЛІЯ** (н.-лац. parmelia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які расце на ствалах і галінках дрэў, камянях, драўніне, зрэдку на глебе.

**ПАРНАГРА́ФІЯ** (ад гр. pornos = распуснік + *-графія*) — непрыстойнасць, цынічнасць у паказе чаго-н., звязанага з палавымі адносінамі; літаратура, жывапіс, кіно, фатаграфія, у якіх смакуюцца сцэны распусты, палавой і маральнай разбэшчанасці.

**ПАРНА́С** (гр. Parnassos = гара ў Грэцыі, на якой, паводле міфалагічных уяўленняў, жылі багіні мастацтваў — музы) — *перан.* усё, што звязана з *паэзіяй*; свет паэзіі.

**ПАРО́ДЫЯ** (гр. parodia = спевы навыварат) — 1) твор, сатырычна або камічна падроблены пад іншы твор; жанр сатырычнай літаратуры, заснаваны на камічным пераймannі стылю асобнага твора ці пісьменніка; 2) *перан.* няўдалае, чыста знешняе перайманне чаго-н., скажонае падабенства да чаго-н.

**ПАРО́ЛЬ** (фр. parole = слова) — сакрэтнае ўмоўнае слова або фраза для апазнавання сваіх у канспіратыўных арганізацыях і на вайсковай службе.

**ПАРО́НІМЫ** (ад *пара-* + гр. onyma = імя) — словы, блізкія па марфалагічнаму складу і гучанню, але розныя па значэнню (напр. «чалавечы» і «чалавечны»).

**ПАРО́ТЫЯ** (н.-лац. parrotia) — дрэва сям. гамамелісавых са здольнымі зрастацца ствaламі і галінкамі, якое расце ў рэліктавых лясах Азербайджана і Паўн. Ірана.

**ПАРСЕ́К** [ад *пар(алакс) + сек(унда)*] — адзінка вымярэння адлегласці ў *астраноміі*, роўная 3,26 светлавога года.

**ПАРСІ́ЗМ** (ад перс. Pārsī = перс) — сучасная назва *зораастрызму* ў Індыі.

**ПАРСУ́НА** (ад лац. persona = асоба) — *уст.* жывапісны свецкі *партрэт* канца 16—17 ст., пераходны этап ад іканапісу да свецкага партрэта ў Расіі, на Беларусі і Украіне.

**ПАРТАКРА́ТЫЯ** (ад *партыя* + *-кратыя*) — улада партыі.

**ПАРТА́Л** (с.-лац. portale, ад лац. porta = уваход, вароты) — 1) архітэктурна аформлены галоўны ўваход вялікага будынка; 2) частка металічнай канструкцыі ў выглядзе літары П.

**ПАРТАМАНЭ́Т, ПАРТМАНЭ́Т** (фр. porte-monnaie, ад porter = насіць + monnaie = грошы) — *уст.* невялікі кашалёк для грошай.

**ПАРТАМЕ́НТА** (іт. portamento) — спосаб пявучага выканання, слізгаючы, лёгкі, замаруджаны пераход ад гука да гука пры спяванні або пры ігры пальцам па струне.

**ПАРТАТЫ́Ў** (ням. Portativ) — невялікі ручны *арган*.

**ПАРТАТЫ́ЎНЫ** (фр. portatif, ад лац. porto = нашу) — зручны для пераноскі, невялікіх памераў (напр. п-ая пішучая машынка).

**ПАРТВЕ́ЙН** (ням. Portwein, ад парт. Porto = назва горада + ням. Wein = віно) — гатунак моцнага вінаграднага віна.

**ПАРТМАНЭ́Т** гл. *партаманет*.

**ПАРТНЁР** (фр. partenaire) — 1) удзельнік гульні з кім-н. (на сцэне, у карты, у спорце і г.д.), а таксама наогул удзельнік якой-н. сумеснай дзейнасці; 2) краіна — удзельнік якога-н. саюза, блока, пагаднення.

**ПАРТО́НЫ** (ад лац. pars, -rtis = частка) — гіпатэтычныя часцінкі, элементы структуры адронаў.

**ПАРТПА́Ж** (фр. porte-page, ад porter = несці + page = старонка) — папяровая пракладка паміж палосамі набору пры іх транспартаванні.

**ПАРТПЛЕ́Д** (ад фр. porter = насіць + *плед*) — дарожная сумка, чахол для пледа або пасцельных рэчаў.

**ПАРТРЭ́Т** (фр. portrait) — 1) малюнак чалавека на карціне, фатаграфіі (напр. каляровы п.); 2) апісанне знешнасці персанажа ў мастацкім творы (літаратурны п.).

**ПАРТРЭТЫ́СТ** (фр. portraitiste) — мастак, спецыяліст у галіне партрэтнага жывапісу.

**ПАРТСІГА́Р** (фр. porte-cigares) — плоская кішэнная каробка для папярос, цыгарэт.

**ПАРТУЛА́К** (н.-лац. portulaca) — травяністая расліна сям. партулакавых з мясістым лісцем і кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках; харчовая і лекавая; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПАРТУЛА́НЫ** (іт. portulano) — марскія навігацыйныя карты 13—16 ст. з падрабязным апісаннем берагавой паласы Міжземнага мора.

**ПАРТУПЕ́Я** (фр. porte-épée, ад porter = насіць + épée = шпага) — вузкі рэмень, перакінуты цераз плячо для нашэння зброі.

**ПАРТФЕ́ЛЬ** (фр. portefeuille) — 1) чатырохвугольная сумка з засцёжкай для кніг, папер; 2) *перан.* пасада міністра, кіруючая пасада наогул (напр. размеркаванне партфеляў); 3) сукупнасць рукапісаў,

якія знаходзяцца ў распараджэнні рэдакцыі (рэдакцыйны п.).

**ПАРТШЭ́З** (фр. porte-chaise, ад porter = насіць + chaise = крэсла) — лёгкае пераноснае крэсла, разнавіднасць *паланкіна*.

**ПАРТЫЗА́Н** (фр. partisan) — член атрада, арганізаванага з прадстаўнікоў народных мас для барацьбы з ворагам на акупіраванай тэрыторыі.

**ПАРТЫКУЛЯ́РНЫ** (лац. particularis) — 1) прыватны, неафіцыйны (напр. п. ліст); 2) цывільны, не форменны (пра адзенне).

**ПАРТЫКУЛЯРЫ́ЗМ** (ад лац. particularis = прыватны) — рух да набыцця або ўтрымання палітычнай, адміністрацыйнай ці культурнай аўтаноміі для тых або іншых частак дзяржавы.

**ПАРТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. particula = часцінка) — адасабленне ў межах раслліннай асобіны асобных структур, частак, якія марфалагічна выразна вылучаюцца і здольныя да самастойнага існавання і развіцця.

**ПАРТЫ́ТА** (іт. partita) — 1) разнавіднасць арганных варыяцый на харальную мелодыю ў музыцы 17—18 ст. (гл. *харал*); 2) разнавіднасць *сюіты* ў сучаснай музыцы.

**ПАРТЫТУ́РА** (іт. partitura) — сукупнасць усіх *партый* шматгалосага музычнага твора.

**ПА́РТЫЯ** (фр. parti, ням. Partei, ад лац. pars, -rtis = частка) — 1) палітычная арганізацыя грамадскага класа, якая выражае яго інтарэсы і кіруе барацьбой у дасягненні пэўных мэт; 2) група людзей, аб'яднаных для выканання пэўнай работы (напр. п. геолагаў); 3) пэўная колькасць прадметаў, тавару (напр. п. дзіцячага адзення); 4) састаўная частка шматгалосага музычнага твора, якая выконваецца адным спеваком або адным інструментам; 5) гульня да пэўнага выніку (напр. шахматная п.).

**ПАРТЭНАГАНІ́Я** (ад гр. parthenos = нявінніца + *-ганія*) — размнажэнне за кошт неаплодненых зародкавых клетак.

**ПАРТЭНАГЕНЕ́З** (ад гр. parthenos = нявінніца + *-генез*) — форма размнажэння, пры якой жаночыя палавыя клеткі развіваюцца без апладнення (характэрна для насякомых, некаторых ніжэйшых раслін).

**ПАРТЭНАКАРПІ́Я** (ад гр. parthenos = нявінніца + karpos = плод) — утварэнне пладоў на расліне без апладнення.

**ПАРТЭ́Р** (фр. parterre, ад par = па + terre = зямля) — 1) ніжні паверх глядзельнай залы ў тэатры або кінатэатры з месцамі для публікі; 2) адкрытая частка парку, аформленая газонамі, кветнікамі, вадаёмамі, фантанамі; 3) *сп.* становішча барца, калі ён стаіць на каленях і абапіраецца на дыван рукамі.

**ПАРТЭ́СНЫ** (ад лац. pars, -rtis = частка) — шматгалосы (пра царкоўнае харавое спяванне).

**ПА́РУС** (гр. pharos) — 1) умацаваны на *мачце* кавалак моцнай тканіны, які надзімаецца ветрам і прыводзіць у рух судна; 2) верхні, самы буйны пялёстак у кветак бабовых раслін; 3) *архіт.* трохвугольнае сферычнае скляпенне, якое нагадвае па форме надзьмуты парус.

**ПАРУ́ЧНІК** (польск. porucznik) — малодшае афіцэрскае званне ў ар-

мії царскай Расіі, а таксама ў арміях Польшчы і некаторых іншых славянскіх краін.

**ПАРФІ́Р** (гр. porphyreos = пурпуровы) — вулканічная горная парода, у якой асобныя крышталі вылучаюцца з асноўнай масы сваёй велічынёй ці колерам.

**ПАРФІ́РА** (гр. porphyra) — 1) пурпуровая *мантыя* манарха; 2) род чырвоных марскіх водарасцей.

**ПАРФІРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. porphyridium) — аднаклетачная або каланіяльная чырвоная водарасць класа бангіевых, якая пашырана на глебе і розных наземных субстратах, пераважна ў прэсных вадаёмах.

**ПАРФІРЫ́НЫ** (гр. porphyreos = пурпуровы) — *пігменты,* якія пашыраны ў жывой прыродзе (напр. *гемаглабін, хларафіл*).

**ПАРФІРЫ́Т** (гр. porphyrites = падобны да пурпуру) — магматычная горная парода, у якой вялікія крышталі *плагіяклазу* або *піраксену* змяшчаюцца ў дробназярністай масе гэтых жа мінералаў і хларытызаванага шкла.

**ПАРФО́РС** (фр. par force = сілай) — калючы ашыйнік для паляўнічых і службовых сабак.

**ПАРФО́РСНЫ** (ад *парфорс*); п а е п а л я в а н н е — паляванне з гончымі сабакамі; п а я я з д а — верхавая язда з акрабатычнымі практыкаваннямі ў цырку, а таксама па штучным следзе звера ў полі.

**ПАРФУ́МА** (фр. parfum = прыемны пах) — касметычныя сродкі (духі, адэкалон, пудра і інш.).

**ПАРФУМЕ́Р** (фр. parfumeur, ад parfum = прыемны пах) — работнік парфумернай вытворчасці, а таксама прадавец касметычных тавараў.

**ПАРФУМЕ́РЫЯ** (фр. parfumerie, ад parfum = прыемны пах) — 1) вырабы, якія прымяняюцца для араматызацыі скуры, валасоў, адзення, а таксама як гігіенічныя сродкі (духі, адэкалон, пудра, туалетная вада і інш.); 2) галіна прамысловасці, якая займаецца вытворчасцю такіх вырабаў.

**ПАРЦЫЁН** (фр. portion, ад лац. portio, -onis = частка) — колькасць прадуктаў харчавання на які-н. тэрмін (напр. п. аўса для каня).

**ПАРЦЫЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. partialis) — частковы, які складае частку чаго-н.

**ПАРЦЬЕ́** (фр. portier, ад porte = дзверы) — служачы, які выдае ключы, прымае пошту ў вестыбюлі гасцініцы.

**ПАРЦЬЕ́РА** (фр. portière) — занавеска з цяжкай тканіны на акне або дзвярах.

**ПАРЦЭ́ЛА** (фр. parcelle, ад лац. particula = часцінка, невялікая доля) — невялікі зямельны ўчастак, які знаходзіцца ў прыватным карыстанні.

**ПАРЦЭЛЯВА́ЦЬ** (фр. parceller) — дзяліць зямлю на малыя ўчасткі, *парцэлы.*

**ПАРЦЭЛЯ́ЦЫЯ** (ад фр. parceller = дзяліць на дробныя часцінкі) — падзел зямлі на дробныя ўчасткі.

**ПАРЧА́** (перс. parca) — узорыстая тканіна з шаўковай асновай і залатым або сярэбраным утокам.

**ПАРЫЕТА́ЛЬНЫ** (лац. parietalis = насценны) — *анат.* які паказвае на цесную сувязь якога-н. анатамічнага ўтварэння са сценкай пэў-

най поласці цела (напр. брушной поласці); параўн. *вісцэральны.*

**ПАРЫ́К** (рус. парик, ад фр. perruque) — накладная прычоска з натуральных ці сінтэтычных валасоў.

**ПАРЫ́НА** (н.-лац. porina) — накіпны сумчаты лішайнік сям. плеяспоравых, які трапляецца на кары дрэў, скалах, камянях, на адмёрлых дзярнінах імхоў і лішайнікаў.

**ПАРЫ́РАВАЦЬ** (рус. парировать, ад фр. parer = адлюстроўваць, адбіваць) — 1) адбіваць удар праціўніка (пры фехтаванні); 2) *перан.* абвяргаць нападкі або довады праціўніка ў спрэчцы, палеміцы (напр. п. абвінавачанні).

**ПАРЫТЭ́Т** (ням. Parität, ад лац. paritas, -atis = роўнасць) — 1) раўнапраўе бакоў пры разборы канфліктаў (напр. у міжнароднай нарадзе); 2) *экан.* адносіны паміж валютамі розных краін у золаце.

**ПАРЫТЭ́ТНЫ** (ад *парытэт*) — роўны, які ажыццяўляецца на аснове парытэту.

**ПА́РЫЯ** (ад таміл. parajjan = назва касты) — 1) чалавек, які належыць да касты «парайян», адной з ніжэйшых каст «недатыкальных» у Паўд. Індыі; 2) *перан.* прыніжаная, бяспраўная асоба.

**ПАРЭ́З** (гр. paresis = аслабленне) — частковы *параліч*, аслабленне актыўнай здольнасці мышцаў (часцей рук, ног).

**ПАРЭ́Й** (ад лац. porrum) — адзін з культурных відаў цыбулі з падоўжанай цыбулінай і плоскімі лістамі, прыгоднымі для яды.

**ПАРЭ́ЛА** (н.-лац. porella) — пячоначны мох падкласа юнгерманіідных, які трапляецца ў цяністых лясах на кары шыракалістых дрэў.

**ПАРЭМІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. paroimia = прытча, прыказка + *-логія*) — раздзел фалькларыстыкі, які вывучае прыказкі і прымаўкі.

**ПАРЭНТАРА́ЛЬНЫ** (ад *пара-* + гр. enteron = кішка); п. с п о с а б — спосаб пападання (увядзення) у арганізм лекавых і іншых рэчываў, мінуючы страўнікава-кішэчны тракт (напр. падскурнае ўпырскванне, унутрывеннае ўліванне і інш.).

**ПАРЭНХІ́МА** (гр. parenchyma = напаўненне) — 1) асноўная тканка якога-н. органа; 2) раслінная тканка, якая складаецца з клетак аднолькавага памеру.

**ПАРЭ́НЧЫ** (польск. poręcze) — поручні па краях лесвіцы, балкона, моста.

**ПАРЭСТЭЗІ́Я** (н.-лац. paraesthesis, ад гр. para = побач, пры + aisthesis = адчуванне) — адчуванне ў пэўных участках цела анямення, пакалвання, поўзання мурашак, не абумоўленага знешнім раздражненнем, што звязана з некаторымі захворваннямі нервовай сістэмы.

**ПАРЭЯЗА́ЎРЫ** (ад гр. pareia = шчака + *-заўр*) — атрад вымерлых паўзуноў пермскага перыяду (гл. *палеазой*), якія мелі касцявыя вырасты ў шыйнай вобласці чэрапа.

**ПАС** [1] (польск. pas) — 1) вузкі доўгі кавалак чаго-н. (тканіны, скуры і інш.); пояс; 2) *перан.* палаcа (напр. п. дарогі); 3) шнур, які ахоплівае шківы на валах, прыводзячы ў рух машыны, механізмы.

**ПАС** [2] (англ. pass = перадаваць) — перадача мяча, шайбы каму-н. з іг-

ракоў сваёй каманды ў спартыўнай гульні.

**ПАС** [3] (фр. passe = прапускаю, не гуляю) — воклiч у картачнай гульні, які абазначае адказ удзельнічаць у розыгрышы да наступнай раздачы карт.

**ПÁСА** (ісп. paso = крок) — адзінка даўжыні ў Іспаніі, роўная 1,393 м, у Бразіліі, роўная 1,65 м, у Ліві, роўная 1 м.

**ПАСАВÁЦЬ** [1] (англ. pass) — перадаваць адзін другому мяч, шайбу ў спартыўнай гульні.

**ПАСАВÁЦЬ** [2] (фр. passe = прапускаю, не гуляю) — 1) адмовіцца ўдзельнічаць у розыгрышы да наступнай раздачы карт, 2) *перан.* прызнаваць сябе бяссільным перад чым-н.

**ПАСАВÁЦЬ** [3] (ням. passen) — падыходзіць, адпавядаць каму-н. або чаму-н.

**ПАСÁЖ** (фр. passage = пераход) — 1) крытая галерэя з гандлёвымі памяшканнямі па баках; 2) частка музычнага твора, у якой вельмі хутка чаргуюцца высокія ноты з нізкімі; 3) рытмічная рысь пры падніманні канём ног з затрымкай іх у паветры і моцным згібаннем у суставах; 4) *уст.* нечаканы паварот справы, раптоўная падзея.

**ПАСАЖЫ́Р** (фр. passager ) — той, хто робіць паездку на поездзе, аўтобусе, параходзе і інш.

**ПАСАКÁЛЛЯ** (іт. passacaglia, ад ісп. pasacalle ) — 1) старадаўні *танец* іспанскага паходжання трохдольнага памеру; 2) музычная п'еса велічнага характару для аргана, *клавіра* ў форме варыяцый.

**ПАСАМÉЦЦА** (іт. passamezzo) — старадаўні італьянскі *танец*.

**ПАСÁТЫ** (гал. passaat) — устойлівыя трапічныя вятры, якія дзьмуць ад субтропікаў у бок экватара.

**ПАСАТЫ́ЖЫ** (ад фр. passe = праход + tige = стрыжань) — ручны слясарна-мантажны інструмент, які аб'ядноўвае пласкагубцы, кусачкі, адвёртку.

**ПАСÉА** (ісп. paseo) — месца для прагулак у гарадах Іспаніі.

**ПАСЕÍЗМ** (фр. passeisme, ад passe = мінулае) — цяга да мінулага, любаванне ім пры знешне абыякавых, а ў сапраўднасці варожых адносінах да сучаснага, да прагрэсу; кансерватызм.

**ПАСІБІЛÍЗМ** (фр. possibilisme, ад лац. possibilis = магчымы) — плынь у рабочым руху Францыі канца 19 — пачатку 20 ст., прыхільнікі якой прапагандавалі адмаўленне ад класавай барацьбы, імкнуліся абмежаваць намаганні рабочых рамкамі «магчымага».

**ПАСІБІЛÍСТЫ** (фр. possibilistes, ад лац. possibilis = магчымы) — прыхільнікі *пасібілізму*.

**ПАСІВÁЦЫЯ** (ад лац. passivus = нядзейны) — тое, што і *пасіваванне*.

**ПАСІВÍРАВАННЕ** (ад лац. passivus = нядзейны) — пакрыццё тонкай плёнкай вокіслаў паверхні металічных вырабаў, каб засцерагчы іх ад *карозіі*.

**ПАСІЁН** (іт. passione, ад лац. passio = пакута) — вакальна-драматычны твор на рэлігійны сюжэт пра пакуты і смерць Хрыста.

**ПАСÍРАВАЦЬ** (фр. passer = перадаваць) — падтрымліваць спарт-

# П

смена, артыста пры выкананні акрабатычных, гімнастычных, цыркавых практыкаванняў, каб папярэдзіць падзенне.

**ПАСІ́Ў** (лац. passivus = нядзейны) — 1) менш ініцыятыўная, менш дзейная частка калектыву; 2) частка бухгалтарскага *балансу*, у якой у грашовым выражэнні паказаны крыніцы фарміравання і мэтавае прызначэнне гаспадарчых сродкаў прадпрыемства, яго даўгі і абавязацельствы (процiл. *актыў* 2); 3) перавышэнне грашовых расходаў краіны над яе замежнымі даходамі (процiл. *актыў* 3); 4) *перан.* тое, што складае адмоўны бок якой-н. з'явы, справы; 5) *лінгв.* залежны стан.

**ПАСІ́ЎНЫ** (лац. passivus ) — неактыўны, неэнергічны, абыякавы да ўсяго (напр. п. чалавек).

**ПАСІФЛО́РА** (ад лац. passio = пакута + flos, -oris = кветка) — трапічная расліна сям. страснакветных з ядомымі пладамі, якая ўецца па дрэвах.

**ПА́СІЯ** (лац. passio = пакута) — *уст.* прадмет кахання, страсці.

**ПАСКА́ЛЬ** [(фр. pascal, ад B.Pascal = прозвішча фр. вучонага (1623 — 1662)] — адзінка ціску і механічнага напружання ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная ціску сілай у 1 *ньютан* на паверхню ў 1 м$^2$.

**ПА́СКВІЛЬ** (іт. pasquillo, ад Pasquino = імя рымскага башмачніка 15 ст., які пісаў з'едлівыя эпіграмы на высокапастаўленых асоб) — зняважлівы, паклёпніцкі твор, які мае на мэце зганьбаваць, скампраметаваць асобнага чалавека, групу людзей, сацыяльную з'яву або пэўны, часцей прагрэсіўны, кірунак.

**ПАСПАРТУ́** (фр. passe-partout = праходзіць скрозь) — 1) ключ, які падыходзіць да ўсіх замкоў, адмычка; 2) ліст *кардону* або цвёрдай паперы, на які наклейваюцца ілюстрацыі ў кнігах і часопісах; 3) кардонная рамка для малюнкаў, фатаграфічных картак.

**ПАСП'Е** (фр. passe-pied, ад passer = перастаўляць + pied = нага) — старадаўні французскі народны *танец*.

**ПА́СТА** (іт. pasta, ад гр. paste = мучная страва) — рэчыва ў выглядзе цестападобнай масы; прымяняецца ў касметыцы, кулінарыі і г.д. (напр. зубная п., таматная п.).

**ПАСТАМЕ́НТ** (лац. postamentum) — 1) аснова помніка, статуі, калоны; п'едэстал (напр. гранітны п.); 2) падстаўка, на якой устанаўліваецца скульптура ў музеі, на выстаўцы.

**ПА́СТАР** (ням. Pastor, ад лац. pastor = пастух) — пратэстанцкі свяшчэннік.

**ПАСТАРА́ЛЬ** (фр. pastorale, ад лац. pastoralis = пастухоўскі) — 1) адна з форм *буколікі*, жанр заходнееўрапейскай літаратуры і мастацтва 14—18 ст.; невялікая ідылічная п'еса любоўна-лірычнага характару з жыцця пастухоў і пастушак; 2) невялікая опера, балет, пантаміма на ідылічны вясковы сюжэт; 3) інструментальная п'еса, якая малюе карціну прыроды або жанравую вясковую сцэну.

**ПАСТАРА́ЛЬНЫ** (ад лац. post = пасля + os, oris = рот) — размешчаны за ротавай адтулінай.

**ПАСТАРНА́К** (ст.-польск. pasternak < с.-в.-ням. pasternac, ад лац. pastinaca) — травяністая расліна сям. парасонавых з прыемным пахам; ужываецца як прыправа да ежы.

**ПАСТАРЭ́ЛЬ** (фр. pastourelle) — жанр лірыкі *трубадураў*, які ўяўляе сабой дыялог паміж рыцарам і пастушкай.

**ПАСТО́ЗНАСЦЬ** (ад іт. pastoso = мяккі, цестападобны) — 1) асаблівасць жывапіснай карціны, якая створана тлустымі, насычанымі мазкамі пэндзля; 2) уласцівасць неразбаўленай фарбы захоўваць форму, нададзеную пэндзлем; 3) нездаровая паўната, азызласць.

**ПАСТРО́НАК** (польск. postronek) — вяроўка, якая служыць пры запраганні ў плуг, барану для злучэння ворчыка з хамутом.

**ПАСТСКРЫ́ПТУМ** (лац. postscriptum = пасля напісанага) — прыпіска ў канцы пісьма пасля подпісу (абазначаецца літарамі P. S.).

**ПАСТУЛА́Т** (лац. postulatum) — тое, што і *аксіёма* 1.

**ПАСТУЛІ́РАВАЦЬ** (лац. postulare) — выказваць што-н. у якасці *пастулата*.

**ПАСТФА́КТУМ** (лац. post factum = пасля зробленага) — пасля таго, як што-н. ужо зроблена (напр. паведаміць пра што-н. п.).

**ПАСТЫ́ЧЫО** (іт. pasticcio) — *опера*, музыка якой запазычана са створаных раней опер або спецыяльна напісана некалькімі кампазітарамі.

**ПАСТЭ́ЛЬ** (фр. pastel, ад іт. pastello) — 1) мяккія каляровыя алоўкі для жывапісу, а таксама малюнкі, выкананыя такімі алоўкамі; 2) жанр жывапісу, для якога характэрна мяккая прыглушанасць тонаў.

**ПАСТЭРЫЗАВА́ЦЬ** (фр. pasteuriser) — падвяргаць харчовыя прадукты *пастэрызацыі*.

**ПАСТЭРЫЗА́ТАР** (фр. pasteurisateur) — апарат для *пастэрызацыі*.

**ПАСТЭРЫЗА́ЦЫЯ** [ад фр. L.Pasteur = прозвішча фр. мікрабіёлага (1822—1895)] — апрацоўка харчовых прадуктаў награваннем да тэмпературы, пры якой гінуць мікраарганізмы, але захоўваюцца вітаміны і карысныя якасці (не вышэй 100° С).

**ПАСТЭРЭЛЁЗЫ** (ад *пастэрэлы*) — інфекцыйныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца пастэрэламі.

**ПАСТЭРЭ́ЛЫ** [н.-лац. pasteurella, ад фр. L.Pasteur = прозвішча фр. мікрабіёлага (1822 — 1895)] — патагенныя *бактэрыі*, якія выклікаюць *пастэрэлёзы*.

**ПА́СХА** (гр. pascha, ад ст.-яўр. pesach = праходжанне) — салодкая ежа з тварагу ў выглядзе невялікай чатырохвугольнай піраміды, якая прыгатаўляецца да вялікадня.

**ПАСЦІЖО́Р** (ад фр. postiche = прыстаўны, фальшывы) — спецыяліст, які робіць парыкі, вусы, бароды для акцёраў.

**ПАСЦІЛА́** (ад лац. pastillus = ляпёшка) — кандытарскі выраб, прыгатаваны збіваннем фруктова-ягаднага пюрэ з цукрам і яечнымі бялкамі.

**ПАСЦІЛА́Ж** (фр. pastillage) — 1) скульптура з размятай рукамі і абпаленай гліны; 2) фігурны выраб з цеста, цукру і інш.

# П

**ПА́СЫ** (фр. passes) — аднастайныя марудныя рухі рукамі над тварам хворага пры ўвядзенні яго ў стан *гіпнозу*.

**ПАСЬЯ́НС** (фр. patience = *літар.* цярпенне) — раскладванне карт па пэўных правілах для забавы ці варажбы.

**ПАСЭ́САР** (польск. posesor, ад лац. possessor) — *арандатар* маёнтка або фальварка ў Вялікім княстве Літоўскім, Польшчы.

**ПАСЭ́СІЯ** (лац. possessio) — зямельнае арэнднае ўладанне ў Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім, а таксама ў Расіі ў 18 — пач. 19 ст.

**ПАТ**[1] (фр. pat, ад лац. pactum = умова, дагавор) — становішча ў шахматнай гульні, калі адзін з партнёраў не можа зрабіць чарговага ходу, не падставіўшы пад удар свайго караля (партыя лічыцца нічыйнай).

**ПАТ**[2] (фр. pate = цеста) — разнавіднасць пасцілы.

**ПАТА-, -ПАТ** (гр. pathos = боль, пакута) — першая або другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з болем, хваробай.

**ПАТАГЕНЕ́З** (ад *пата-* + *-генез*) — паслядоўнасць узнікнення і развіцця ў арганізме паталагічнага працэсу ці хваробы ў цэлым.

**ПАТАГЕ́ННЫ** (ад *пата-* + *-генны*) — хваробны, хваробатворны; п - ы я  м і к р о б ы — мікробы, якія выклікаюць хваробы ў чалавека і жывёл.

**ПАТАГНАМАНІ́ЧНЫ** (ад *пата-* + гр. gnomikos = павучальны) — характэрны, тыповы для дадзенай хваробы.

**ПАТАЛАГІ́ЧНЫ** (ад *паталогія*) — 1) які мае адносіны да паталогіі; п - а я  а н а т о м і я — навука, якая вывучае змены будовы тканак і органаў у чалавека і жывёл, абумоўленыя рознымі захворваннямі; 2) *перан.* хваравіта-ненармальны.

**ПАТАЛО́ГІЯ** (ад *пата-* + *-логія*) — 1) адхіленне ад нормы жыццядзейнасці арганізма, а таксама навука аб хваробных працэсах, адхіленнях у арганізме; 2) *перан.* адхіленне ад нормы ў чым-н. (напр. п. паводзін).

**ПАТАМАБІЁНТЫ** (ад гр. potamos = рака + *біёнты*) — арганізмы, якія жывуць у рэках.

**ПАТАМАЛО́ГІЯ** (ад гр. potamos = рака + *-логія*) — раздзел *гідралогіі* сушы, які займаецца вывучэннем рэк.

**ПАТАМАРФО́З** (ад *пата-* + *-марфоз*) — змяненне клінічных і марфалагічных праяўленняў хвароб у сувязі з уздзеяннем розных фактараў навакольнага асяроддзя.

**ПАТАМАПЛАНКТО́Н** (ад гр. potamos = рака + *планктон*) — рачны планктон.

**ПАТАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *пата-* + *псіхалогія*) — раздзел псіхалогіі, які вывучае розныя формы парушэнняў псіхічнай дзейнасці пры *паталогіі* мозгу.

**ПАТАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *пата-* + *фізіялогія*) — раздзел *паталогіі*, які вывучае заканамернасці ўзнікнення і працякання захворванняў у чалавека і жывёл; паталагічная фізіялогія.

**ПАТА́Ш** (ням. Pottasche, ад гал. potasch) — рэчыва ў выглядзе белага зярністага парашку са шчо-

лачнымі ўласцівасцямі; тэхнічная назва карбанату калію.

**ПАТРАЛО́ГІЯ** (ад гр. pater, -tros = бацька + *-логія*) — раздзел багаслоўя, які вывучае біяграфіі і творы дзеячаў царквы і хрысціянскіх пісьменнікаў.

**ПАТРАНА́Ж** (фр. patronage) — 1) *кніжн.* апякунства з боку каго-н.; 2) арганізаванае медыцынскае абслугоўванне хворых і дзяцей ранняга ўзросту ў хатніх умовах.

**ПАТРАНА́Т** (лац. patronatus = заступніцтва) — 1) форма апекі ў Страраж. Рыме, якая ўстанаўлівала залежнасць кліентаў (непаўнапраўных ці бедных грамадзян) ад *патронаў*, 2) выхаванне дзяцей-сірот і дзяцей, што страцілі сувязь з бацькамі, у іншых сем'ях пад кантролем дзяржаўных органаў; 3) апякунства, заступніцтва.

**ПАТРАНЕ́СА** (фр. patronesse ) — апякунка якой-н. дабрачыннай установы.

**ПАТРАНІ́МІЯ** (гр. patronymia = найменне па бацьку) — 1) назва плямён, родаў, паселішчаў, якая паходзіць ад імя продка-заснавальніка; 2) група сямей, якія вылучыліся з адной патрыярхальнай сям'і і захавалі пэўнае гаспадарчае і грамадскае адзінства (мелі пашырэнне ў Вялікім княстве Літоўскім).

**ПАТРАНТА́Ш** (ням. Patrontasche, ад Patron = патрон + Tasche = сумка) — сумка з гнёздамі для *патронаў*.

**ПАТРО́Н** [1] (ням. Patrone, ад фр. patron) — 1) гільза з капсулем, зарадам і куляй або шротам; 2) прыстасаванне, куды ўкручваецца электрычная лямпачка пры далучэнні да электрасеткі; 3) прыстасаванне ў такарным і свідравальным станку для замацавання дэталі, якая апрацоўваецца.

**ПАТРО́Н** [2] (лац. patronus = апякун) — 1) багатая, уплывовая асоба ў Страраж. Рыме, якая брала пад сваю апеку бедных або непаўнапраўных грамадзян (кліентаў 1); 2) гаспадар фірмы, прадпрыемства, а таксама непасрэдны начальнік у адносінах да падначаленых у многіх краінах; 3) святы, які лічыцца заступнікам і апекуном таго, хто носіць яго імя (у католікаў); 4) *перан.* заступнік, начальнік, гаспадар.

**ПАТРУ́ЛЬ** (фр. patrouille ) — невялікі ўзброены вайскавы атрад або судна, самалёт для нагляду за парадкам і бяспекай у пэўным раёне, месцы.

**ПАТРУЛЯВА́ЦЬ** (фр. patrouiller) — ахоўваць што-н., сачыць за парадкам, выконваць патрульную службу.

**ПАТРЫЁТ** (гр. patriotes = зямляк, суайчыннік) — той, хто любіць сваю радзіму.

**ПАТРЫЛАКА́ЛЬНЫ** (ад лац. pater, -tris = бацька + *лакальны*); п. ш л ю б — звычай пражывання мужа і жонкі ў абшчыне мужа.

**ПАТРЫЛІНЕ́ЙНЫ** (ад лац. pater, -tris = бацька + *лінія*) — заснаваны на сваяцтве па бацькоўскай, мужчынскай лініі (напр. п. род).

**ПАТРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** (лац. patrimonialis) — спадчынны, родавы.

**ПАТРЫМО́НІЙ, ПАТРЫМО́НІУМ** (лац. patrimonium = спадчына, маёмасць) — спадчынная родавая маёмасць.

**ПАТРЫ́НІЯ** (н.-лац. patrinia) — травяністая расліна сям. ва-

ляр'янавых, якая расце ва Усх. Сібіры.

**ПАТРЫ́СТЫКА** (н.-лац. patristica, ад лац. pater, -tris = бацька) — вучэнне першых хрысціянскіх тэолагаў, якія ў 2—3 ст. заклалі асновы царкоўнай дагматыкі, *тэалогіі* і філасофіі хрысціянства.

**ПАТРЫСТЫ́ЧНЫ** (ад *патрыстыка*); п-ая літаратура — творы рымскіх і візантыйскіх багасловаў, ідэолагаў патрыстыкі (2—8 ст.).

**ПА́ТРЫЦА** (ням. Patrize) — рэльефная, выпуклая форма (у процілегласць паглыбленай — матрыцы) для друкавання або ціснення (у тым ліку прыгатавання матрыц).

**ПАТРЫ́ЦЫЙ** (лац. patricius) — 1) прадстаўнік радавітай знаці, арыстакрат у Стараж. Рыме; 2) асоба, якая належала да гарадской арыстакратыі ў сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**ПАТРЫЦЫЯ́Т** (лац. patriciatus = званне патрыцыя) — 1) радавітая знаць, *арыстакратыя* ў Стараж. Рыме; 2) вышэйшы і самы багаты слой грамадства ў сярэдневяковых гарадах Зах. Еўропы.

**ПАТРЫЯ́РХ** (гр. patriarches) — 1) кіраўнік роду ў родавым грамадстве; 2) вышэйшая духоўная асоба, кіраўнік праваслаўнай царквы; 3) *перан.* стары і вельмі паважаны чалавек у якім-н. калектыве.

**ПАТРЫЯРХА́ЛЬНЫ** (ад гр. pater, -tris = бацька + arche = улада) — 1) які адносіцца да часу *патрыярхату* або да рэжыму ўлады галавы сям'і, роду; 2) верны старым традыцыям.

**ПАТРЫЯРХА́Т** (ад гр. pater, -tris = бацька + arche + улада) — 1) апошні перыяд першабытнаабшчыннага радавога ладу, для якога характэрна панаванне мужчын у гаспадарчым і грамадскім жыцці; 2) царква, узначаленая *патрыярхам.*

**ПАТРЫЯ́РХІЯ** (гр. patriarchia) — царкоўная вобласць, падначаленая *патрыярху.*

**ПАТРЫЯТЫ́ЗМ** (ад *патрыёт*) — любоў да радзімы, адданасць сваёй бацькаўшчыне, свайму народу.

**ПА́ТЫО** (ісп. patio) — унутраны дворык, часта акружаны галерэямі, у іспанскіх і лацінаамерыканскіх дамах.

**ПАТЫСО́Н** (фр. patisson, ад pate = пірог) — агародная расліна сям. гарбузовых, пашыраная ў розных кліматычных зонах, а таксама пляскаты, з зубчастымі краямі плод гэтай расліны.

**-ПАТЫЯ** (ад гр. pathos = боль, пакута) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «боль, пакута», «хвароба».

**ПАТЭ́ЛЬНЯ** (ст.-польск. patelnia, ад лац. patella) — круглая мелкая металічная пасудзіна, на якой пякуць, смажаць; скаварада.

**ПАТЭ́НТ** (лац. patens, -ntis = адкрыты, яўны) — 1) дакумент, у якім засведчана права вынаходніка на яго вынаходства; 2) пасведчанне на права займацца пэўнай дзейнасцю (напр. гандлем, промыслам).

**ПАТЭНТА́Т** (лац. potentatus = вярхоўная ўлада) — *уст.* уладар, каранаваная асоба.

**ПАТЭ́НТНЫ** (лац. patens, -ntis = адкрыты, яўны) — які мае адносіны да *патэнта* (напр. п-ая інфармацыя, п. пашпарт, п-ае права).

**ПАТЭНЦЫЁМЕТР** (ад *патэнцыя* + *-метр*) — прылада для вымярэння метадам параўнання напружанняў, электрарухальнай сілы, а таксама велічынь, функцыянальна звязаных з імі.

**ПАТЭНЦЫ́РАВАЦЬ** (ням. potenzieren = узводзіць у ступень) — знаходзіць велічыню па яе *лагарыфме*, г. зн. выконваць дзеянне, адваротнае лагарыфміраванню.

**ПАТЭ́НЦЫЯ** (польск. potencja, ад лац. potentia = сіла) — магчымасці, здольнасці, якія скрыты і могуць выявіцца пры пэўных умовах.

**ПАТЭНЦЫЯ́Л** (с.-лац. potentialis = магчымы, ад лац. potentia = сіла) — 1) сукупнасць наяўных сродкаў, магчымасцей у якой-н. галіне; э к а н а м і ч н ы п. — эканамічныя магчымасці дзяржавы, якія могуць быць выкарыстаны для забеспячэння яе матэрыяльных патрэб; в а е н н ы п. — сукупнасць эканамічных, маральна-палітычных і ваенных рэсурсаў краіны, якія могуць быць выкарыстаны ёю для вядзення вайны; 2) велічыня, якая характарызуе запас энергіі цела, што знаходзіцца ў пэўным пункце поля (электрычнага, магнітнага і інш.).

**ПАТЭНЦЫЯЛАСКО́П** (ад *патэнцыял* + *-скоп*) — электроннапрамянёвы прыбор, які здольны запісваць электрычныя сігналы, захоўваць запіс і ўзнаўляць яго на люмінесцэнтным экране.

**ПАТЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. potentialis = магчымы, ад лац. potentia = сіла) — які існуе ў скрытым выглядзе і можа выявіцца ў пэўных умовах; п - а я э н е р г і я — энергія ўзаемадзеяння цел, якая залежыць толькі ад іх узаемнага размяшчэння.

**ПАТЭНЦЫЯМЕ́ТРЫЯ** (ад *патэнцыя* + *-метрыя*) — фізіка-хімічны метад колькаснага аналізу, які грунтуецца на вымярэнні электрахімічнага *патэнцыялу* электрода ў растворы даследуемага рэчыва.

**ПА́ТЭР** (лац. pater = бацька) — каталіцкі святар, а таксама манах у сане святара або дыякана.

**ПАТЭ́РНА** (фр. poterne ) — *галерэя* пад зямлёй або ўнутры масіўнага збудавання, напр. плаціны.

**ПАТЭРНАЛІ́ЗМ** (ад лац. paternus = бацькоўскі) — паказная дабрачыннасць з мэтай стварэння ілюзіі клопату аб інтарэсах працоўных.

**ПАТЭРНО́СТЭР** (ням. Paternoster, ад лац. pater noster = бацька наш) — шматкабінны пасажырскі *ліфт* бесперапыннага дзеяння з адкрытымі кабінамі з боку пасадачных пляцовак на паверхах.

**ПАТЭ́ТЫКА** (гр. pathetikos = хвалюючы) — усхваляваны тон размовы, літаратурнага твора, музыкі, кіно, тэатральнай пастаноўкі.

**ПАТЭТЫ́ЧНЫ** (гр. pathetikos) — поўны *пафасу*, страсны (напр. п-ая прамова).

**ПАТЭФО́Н** (ад фр. Pathe = назва фірмы + *-фон*) — апарат для прайгравання пласцінак з гукавым запісам на іх.

**ПА́ЎЗА** (лац. pausa, ад гр. pausis = спыненне) — перапынак у гутарцы, у гучанні музычнага твора.

# П

**ПАЎЛІ́Н** (ад лац. pavo) — вялікая паўднёваазіяцкая птушка сям. фазанавых са стракатым апярэннем і доўгім веерападобным хвастом.

**ПАЎЛО́ЎНІЯ** (н.-лац. paulownia) — лістападнае дрэва сям. бігноніевых з буйным лісцем, пашыранае пераважна ва Усх. Азіі; у Еўропе вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ПА́ЎНДАЛЬ** (англ. poundal) — адзінка сілы ў сістэме англійскіх мер, роўная 0,138255 *ньютана*.

**ПА́ЎПЕР** (лац. pauper = бедны) — *кніжн.* бядняк, пазбаўлены сродкаў для існавання.

**ПАЎПЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. pauper, -eris = бедны) — *кніжн.* масавае збядненне працоўных.

**ПАЎПЕРЫ́ЗМ** (ад лац. pauper, -eris = бедны) — *кніжн.* галеча, жабрацтва.

**ПАЎРАПО́ДЫ** (н.-лац. pauropoda) — падклас мнаганожак, пашыраны амаль ва ўсіх геаграфічных зонах, акрамя пустынь і тундры.

**ПАЎША́ЛЬНЫ** (ням. pauschal) — узяты ў цэлым, цалкам; п - а я  с у м а — агульная сума без дыферэнцыравання на яе састаўныя часткі.

**ПА́ФАС** (гр. pathos = пачуццё, страсць) — уздым, запал, энтузіязм; п.  т в о р ч а с ц і — страсны тон размовы, літаратурнага твора.

**ПАХІГНА́ТА** (н.-лац. pachygnatha) — павук сям. тэтрагнатавых, які жыве ў паніжаных месцах, на берагах вадаёмаў, у імху, пад камянямі, на траве і кустах.

**ПАХІДЭ́РМІЯ** (гр. pachydermia = таўстаскурасць) — паталагічнае патаўшчэнне скуры, слановасць.

**ПАХІДЭ́РМЫ** (гр. pachydermos = таўстаскуры) — таўстаскурыя жывёлы.

**ПАХІКАРПІ́Н** (ад гр. pachys = вялікі, спелы + karpos = плод) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў некаторых раслінах, напр. у сафоры; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ПАХІКЛАДО́Н** (н.-лац. pachycladon) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. трэйбарыевых, якая трапляецца ў *планктоне* асобных прэсных вадаёмаў.

**ПАХІМЕНІНГІ́Т** (ад гр. pachys = моцны + *менінгіт*) — запаленне цвёрдай абалонкі галаўнога і спіннога мозгу.

**ПАХІПО́ДЫ** (гр. pachypus, -odos = таўстаногі) — таўстаногія жывёлы.

**ПАХІСТО́З** (ад гр. pachys = моцны + osteon = косць) — патаўшчэнне касцей і адначасовае пацяжэнне іх за кошт разрастання кампактнай тканкі, якое ўласціва водным жывёлам.

**ПАХІТО́СА** (ісп. pajitas = саломінкі) — тоненькая папяроса з тытуню, загорнутага ў ліст кукурузы.

**ПАХІЦЭФА́ЛІЯ** (ад гр. pachys = моцны + *-цэфалія*) — галава з моцнай пляскатасцю патыліцы.

**ПА́ЦЕРЫ** (польск. pacierz, ад лац. pater = бацька́) — малітва.

**ПА́ЦІНА** (іт. patina) — налёт зеленавата-карычневага колеру, што ўтвараецца на паверхні прадметаў з медзі і бронзы ў выніку акіслення пад уздзеяннем часу або ствараецца штучна.

**ПАЦІНІ́РАВАЦЬ** (фр. patiner) — выклікаць з'яўленне *пацінь*, наносіць пацінy.

**ПАЦІ́Р** (гр. poter = чаша) — літургічны сасуд у выглядзе чашы на высокай ножцы для асвячэння віна і прыняцця прычасця.

**ПАЦЫЕ́НТ** (лац. patiens, -ntis = які пакутуе) — хворы ў адносінах да ўрача, у якога ён лечыцца.

**ПАЦЫФІ́ЗМ** (ад лац. pacificus = прымірэнчы) — антываенны рух, прыхільнікі якога выступаюць супраць усякіх войн незалежна ад іх характару і мэты і настойваюць на неабходнасці мірнага вырашэння канфліктаў паміж краінамі і народамі.

**ПАЦЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. pacificatio = уціхамiранне) — *кніжн.* падаўленне карнымі мерамі паўстання народнага хвалявання.

**ПАЦЫФІ́СТ** (фр. pacifiste, ад лац. pacificus = міратворчы) — прыхільнік *пацыфізму*.

**ПАЦЯРЫ́К** (гр. Paterikon, ад pater = бацька) — кніга, якая змяшчае жыццё святых і павучанні рэлігійнага зместу.

**ПАЧУ́ЛІ** (англ. patchouli, ад інд. pakku = зялёны + ilai = лісток) — 1) невялікая расліна сям. губакветных з пахучым лісцем і дробнымі белымі або фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў тропіках; 2) эфірны алей з вельмі моцным пахам, атрыманы з лісцяў гэтай расліны.

**ПАША́** (тур. paša) — тытул вышэйшых ураднікаў у султанскай Турцыі.

**ПАШАЛЫ́К** (тур. pašalik) — правінцыя або вобласць у султанскай Турцыі, якою кіраваў *паша*.

**ПА́ШПАРТ** (польск. paszport < фр. passeport, ад passe = праход + port = гавань) — 1) афіцыйны дакумент устаноўленага ўзору, які засведчвае асобу яго ўладальніка; 2) пасведчанне з асноўнымі звесткамі аб якой-н. машыне, абсталяванні (напр. тэхнічны п. аўтамабіля).

**ПАШПАРТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *пашпарт*) — увядзенне сістэмы пашпартоў, забеспячэнне пашпартамі.

**ПАШТАЛЬЁН** (фр. postillon) — паштовы служачы, які разносіць карэспандэнцыю адрасатам.

**ПАШТА́МТ** (ням. Postamt) — прадпрыемства, якое ажыццяўляе ўсе віды паштовай, тэлеграфнай і тэлефоннай сувязі.

**ПАШТМА́ЙСТАР** (ням. Postmeister) — *гіст.* кіраўнік паштовай канторы.

**ПАШТЭ́Т** (польск. pasztet, ад ням. Pastete) — страва з мясных, рыбных прадуктаў, працёртых да пастападобнага стану (напр. пячоначны п.).

**ПАЭ́ЗІЯ** (гр. poiesis = творчасць) — 1) мастацкая, пераважна вершаваная творчасць, а таксама творы, напісаныя вершаванай мовай; 2) сукупнасць вершаваных твораў якога-н. народа, паэта, часу; 3) *перан.* што-н. прыгожае, узвышанае.

**ПАЭ́МА** (гр. poiema = тварэнне) — 1) вялікі вершаваны твор з апавядальным або лірычным сюжэтам; 2) *муз.* невялікая інструментальная п'еса свабоднай будовы лірычнага ці лірыка-апавядальнага характару.

**ПАЭ́Т** (лац. poeta, ад гр. poietes = тварэц, аўтар) — 1) пісьменнік, які

працуе ў жанры паэзіі, аўтар вершаваных твораў; 2) *перан.* чалавек узвышанай, паэтычнай натуры.

**ПАЭТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. poétiser, ад лац. poeta < гр. poietes = тварэц, аўтар) — выражаць што-н. паэтычнымі сродкамі, падаваць у паэтычным, узнёслым выглядзе; успрымаць паэтычна каго-н., што-н.

**ПАЭТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. poétisation, ад лац. poeta < гр. poietes = тварэц, аўтар) — адлюстраванне, паказ чаго-н. паэтычнымі сродкамі, у паэтычным, узнёслым выглядзе, з ідэалізацыяй; успрыняцце паэтычна каго-н., чаго-н.

**ПАЭ́ТЫКА** [(гр. poietike (techne) = майстэрства паэзіі)] — 1) раздзел тэорыі літаратуры, які вывучае структуру і прыёмы паэтычнай творчасці (напр. п. жанра); 2) паэтычная манера, уласцівая паэту, літаратурнаму напрамку (напр. п. Я.Купалы, п. рамантызму).

**ПАЭТЫ́ЧНЫ** (гр. poietikos) — 1) які мае адносіны да *паэзіі* (напр. п. зборнік); 2) поўны харастваа, прыгажосці (напр. п. пейзаж); 3) надзелены ўзвышаным пачуццём да прыгожага (напр. п-ая натура).

**ПАЭТЭ́СА** (фр. poétesse) — жанчына-паэт.

**ПАЯДЫ́НАК** (польск. pojedynek) — 1) узброеная сутычка двух праціўнікаў, дуэль; 2) спартыўная барацьба двух праціўнікаў; 3) наогул барацьба з кім-н., чым-н. (напр. п. са стыхіяй).

**ПАЯ́Ц** (іт. pagliaccio = сяннік, ад paglio = салома) — 1) камічны персанаж старадаўняга народнага італьянскага тэатра; 2) *клоун* у цырку, балагане; 2) *перан.* чалавек, які крыўляецца, вядзе сябе, як клоун.

**П'Е** (ісп. pie = фут) — адзінка даўжыні ў некаторых краінах Лац. Амерыкі, Іспаніі, Бельгіі, роўная ад 27,83 да 32,48 см.

**ПЕА́Н** (гр. paian) — 1) хвалебны *гімн* у старажытнагрэчаскай паэзіі; 2) тое, што і *пеон*[1].

**ПЕАНА́Ж** (фр. péonage < ісп. peonaje, ад peon = найміт) — сістэма кабальнай, паўпрыгонніцкай залежнасці селяніна, парабка ад землеўласніка ў некаторых краінах Лац. Амерыкі.

**ПЕБРЫ́НА** (фр. pébrine, ад лац. piper = перац) — інвазійная хвароба тутавага шаўкапрада.

**ПЕГА́С** (гр. Pegasos, ад pege = крыніца) — 1) казачны крылаты конь у старажытнагрэчаскай міфалогіі, з-пад капыта якога пачала біць цудоўная крыніца, адкуль чэрпалі натхненне паэты; 2) *перан.* сімвал паэтычнай творчасці, натхнення (асядлаць пегаса).

**ПЕГМАТЫ́Т** (фр. pegmatite, ад гр. pegma, -atos = моцная сувязь) — буйназярністая магматычная горная парода, якая залягае ў выглядзе жыл, лінзаў, гнёздаў і з'яўляецца крыніцай здабывання палявых шпатаў, слюды, рэдкіх элементаў і каштоўных камянёў.

**ПЕДАБІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. pedon = грунт + *біялогія*) — раздзел глебазнаўства, які вывучае арганізмы, што насяляюць глебу.

**ПЕДАГАГІ́ЧНЫ** (гр. paidogogikos) — 1) які мае выхаваўчае значэнне, адпавядае правілам *педагогікі* (напр. п-ая літаратура); 2) які мае адносіны да *педагога*, прызначаны для падрыхтоўкі педагогаў (напр. п-ая дзейнасць, п-ае вучылішча).

**ПЕДАГА́МІЯ** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-гамія*) — палавы працэс у караняножак, пры якім адна асобіна дзеліцца на дзве часткі і даччыныя клеткі зноў зліваюцца, утвараючы *зіготу*.

**ПЕДАГЕНЕ́З** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-генез*) — спосаб размнажэння некаторых беспазваночных жывёл, пры якім у лічынак развіваюцца неаплодненыя яйцаклеткі, якія даюць пачатак новаму пакаленню (параўн. *неатэнія*).

**ПЕДАГО́Г** (лац. paedagogus, ад гр. paidogogos) — асоба, занятая выкладчыцкай і выхаваўчай працай.

**ПЕДАГО́ГІКА** (гр. paidogogike) — навука аб выхаванні чалавека.

**ПЕДАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *лінгвістыка*) — раздзел лінгвістыкі, які вывучае мову дзяцей.

**ПЕДАЛО́ГІЯ**[1] (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-логія*) — навука аб выхаванні дзяцей, заснаваная на прызнанні абумоўленасці лёсу дзяцей біялагічнымі і сацыяльнымі фактарамі, уздзеяннем спадчыннасці і нязменнага асяроддзя.

**ПЕДАЛО́ГІЯ**[2] (ад гр. pedon = грунт + *-логія*) — навука аб глебе; глебазнаўства.

**ПЕДА́ЛЬ** (фр. pedale, ад лац. pedalis = нажны) — 1) нажны рычаг у розных механізмах і ўстройствах (у станку, веласіпедзе, аўтамабілі і г.д.); 2) рычажнае ўстройства, якое прыводзіцца ў дзеянне нагамі, у аргане, фісгармоніі, фартэпіяна і інш. (параўн. *мануал*).

**ПЕДАМАРФО́З** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-марфоз*) — прыпадабненне дарослага арганізма да яго лічынкавай формы; сустракаецца ў некаторых кляшчоў, насякомых.

**ПЕДА́НТ** (фр. pedant, ад іт. pedante = *літар.* настаўнік, педагог) — той, хто залішне строга прытрымліваецца дробязных, фармальных патрабаванняў у чым-н.

**ПЕДАНТЫ́ЗМ** (фр. pedantisme, ад pedant < іт. pedante = настаўнік, педагог) — празмерны *фармалізм*, дробязная дакладнасць у чым-н.

**ПЕДАНТЫ́ЧНЫ** (ад *педант*) — строгі ў выкананні ўсіх запатрабаванняў, надзвычай дакладны і акуратны.

**ПЕДАТРЫ́Б** (гр. paiditribes, ад pais = дзіця + tribo = трэніруючы) — настаўнік гімнастыкі ў *палестры*.

**ПЕДАФІЛІ́Я** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-філія*) — палавая цяга да дзяцей як разнавіднасць палавой ненармальнасці.

**ПЕДАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *цэнтр*) — прынцып некаторых педагагічных сістэм, які адмаўляе сістэматычнае навучанне і выхаванне дзяцей па вучэбных праграмах і цвёрдаму раскладу і патрабуе арганізацыі заняткаў толькі па жаданню і інтарэсах дзяцей.

**ПЕ́ДЖЭНТ** (англ. pageant) — перасоўная сцэна ў выглядзе вялікай павозкі ў сярэдневяковым тэатры.

**ПЕДО́ЛАГ** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *педалогіі*.

**ПЕДО́МЕТР** (ад лац. pes, pedis = нага + *-метр*) — прыбор у выглядзе кішэннага гадзінніка, якім вымяраюць адлегласць у кроках; крокамер.

**П'Е́ДРА** (ісп. piedra = камень) — тое, што і *трыхаспарыя*.

# П

**ПЕДЫКУЛЁЗ** (ад лац. pediculus = вош) — *мед.* вашывасць.

**ПЕДЫКЮ́Р** (фр. pedicure, ад лац. pes, pedis = нага + cura = догляд) — гігіенічная апрацоўка ступняў ног (*чыстка,* паліраванне ногцяў, выдаленне мазалёў і інш.).

**ПЕ́ДЫМЕНТ** (англ. pediment, ад лац. pes, pedis = нага) — перадгорныя скалістыя раўніны, якія ўтвараюцца ў выніку змывання верхніх пухкіх адкладаў і адступання крутых схілаў.

**ПЕДЫНАМО́НАС** (н.-лац. pedinomonas) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. педынаманадавых; трапляецца ў лужынах, сажалках і іншых вадаёмах.

**ПЕДЫПА́ЛЬПЫ** (ад лац. pes, pedis = нага + palpus = шчупальца) — другая пара галавагрудных канечнасцей павукападобных.

**ПЕДЫПЛЕ́Н** (ад лац. pes, pedis = нага + англ. plain = раўніна) — тып рэльефу, які ўтвараецца ў выніку зліцця *педыментаў*.

**ПЕДЫЦЭЛЯ́РЫІ** (ад лац. pediculus = ножка) — іголкі некаторых іглаакурых, якія ўтвараюць хапальныя шчыпчыкі.

**-ПЕДЫЯ** (гр. paideia = выхаванне, навучанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «раздзел», «навука».

**ПЕДЫЯ́СТРУМ** (н.-лац. pediastrum) — каланіяльная зялёная водарасць сям. гідрадыкцыевых, якая пашырана ў *планктоне* азёр, вадасховішчаў, сажалак, рэк з павольным цячэннем, на вільготных скалах.

**ПЕДЫЯ́ТР** (ад *педыятрыя*) — спецыяліст у галіне педыятрыі.

**ПЕДЫЯТРЫ́Я** (ад гр. pais, -idos = дзіця + *-ятрыя*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае дзіцячыя хваробы і распрацоўвае метады іх лячэння.

**ПЕ́ДЭЛЬ** (ням. Pedell) — служыцель пры судзе ў сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**ПЕДЭРА́СТ** (гр. paiderastes = які любіць хлопцаў) — чалавек, які займаецца *педэрастыяй*.

**ПЕДЭРА́СТЫЯ** (гр. paiderastia = любоў да хлопцаў) — палавая сувязь мужчыны з мужчынам.

**П'ЕДЭСТА́Л** (фр. piedestal) — 1) падножжа для статуй, абеліскаў; пастамент; 2) спецыяльнае ўзвышэнне, на якое ўзнімаюцца пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах (п. пашаны).

**П'Е́ЗА** (гр. piezo = цісну) — адзінка вымярэння механічнага напружання і ціску, роўная ціску аднаго *стэна* на паверхню 1 $м^2$.

**П'ЕЗА-** (гр. piezo = цісну) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «ціск», «ціснуць».

**П'ЕЗАГЛІ́ПТЫ** (ад *п'еза-* + гр. glyptos = вылеплены) — характэрныя паглыбленні на паверхні *метэарытаў*, якія нагадваюць адбіткі пальцаў на мяккай гліне.

**П'ЕЗАКВА́РЦ** (ад *п'еза-* + *кварц*) — разнавіднасць кварцу, што пры змене формы і аб'ёму ўтварае электрычныя зарады на гранях крышталя; выкарыстоўваецца ў радыётэхніцы, электраакустыцы і інш.

**П'ЕЗАКЕРА́МІКА** (ад *п'еза-* + *кераміка*) — керамічныя матэрыялы з п'езаэлектрычнымі (гл.

*п'езаэлектрычнасць*) уласцівасцямі.

**П'ЕЗАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *п'еза-* + *магнетызм*) — намагнічанасць антыферымагнетыкаў.

**П'ЕЗАМЕТРЫ́ЧНЫ** (ад *п'еза-* + *метрычны*) — які адносіцца да вымярэння ціску, звязаны з ім.

**П'ЕЗАЭЛЕКТРЫ́ЧНАСЦЬ** (ад *п'еза-* + *электрычнасць*) — электрычныя зарады, якія ўзнікаюць на гранях некаторых крышталёў у выніку механічнага ўздзеяння.

**П'ЕЗАЭФЕ́КТ** (ад *п'еза-* + *эфект*) — узнікненне электрычных зарадаў на гранях некаторых крышталёў пад дзеяннем дэфармацыі (напружання).

**П'ЕЗО́МЕТР** (ад *п'еза-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння механічнага напружання і ціску.

**ПЕЙЗА́Ж** (фр. paysage, ад pays = мясцовасць, краіна) — 1) агульны выгляд якой-н. мясцовасці (напр. горны п., лясны п.); 2) малюнак краявіду ў жывапісе, мастацкай літаратуры (напр. п. Шышкіна, п. у творах Чорнага).

**ПЕЙЗАЖЫ́СТ** (фр. paysagiste) — мастак у жанры *пейзажа*.

**ПЕЙЗА́Н** (фр. paysan = селянін) — селянін, які паказаны ідылічна ў мастацкай літаратуры, жывапісе, тэатры 18 — 19 ст.

**ПЕЙСМЕКЕ́Р** (англ. pacemaker) — спецыялізаваныя клеткі, здольныя генерыраваць і падтрымліваць ваганні, якія перадаюцца па праводных шляхах і ўцягваюць іншыя клеткі ў біялагічныя рытмы.

**ПЕК** (гал. pek = смала) — густое вязкае або цвёрдае рэчыва чорнага колеру, якое застаецца пасля перагонкі дзёгцю або смалы; выкарыстоўваецца ў вытворчасці толю, лаку.

**ПЕКА́Н** (англ. pecan, з індз.) — дрэва сям. арэхавых з масляністымі пажыўнымі пладамі, пашыранае ў Паўд. Амерыцы, а таксама ядомы плод гэтага дрэва ў выглядзе арэха; амерыканскі арэх.

**ПЕКІЕ́ЛА** (н.-лац. peckiella) — сумчаты грыб сям. гіпаміцэтавых, які развіваецца на сыраежках, рыжыках.

**П'Е́КСЫ** (фін. pieksu) — лыжныя спартыўныя чаравікі з загнутымі ўверх насамі.

**ПЕКТАРА́ЛЬ** (ад лац. pectus, -toris = грудзі) — шыйнае металічнае ўпрыгожанне, што аблягала грудзі і плечы, якое насілі ў Стараж. Егіпце.

**ПЕКТУСІ́Н** (ад лац. pectus = грудзі) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры запаленчых захворваннях верхніх дыхальных шляхоў.

**ПЕКУ́ЛІЙ** (лац. peculium = уласнасць, маёмасць) — маёмасць, якая выдзялялася галавой сям'і ў карыстанне яе членам у Стараж. Рыме.

**ПЕКУЛЯ́РНЫ** (лац. peculiaris = уласны); п - ы я з о р к і — зоркі, якія адрозніваюцца ад звычайных зорак таго ж спектральнага класа істотнымі асаблівасцямі ў *спектрах*.

**ПЕКЦІ́НЫ** (ад гр. pektos = зацвярдзелы) — група *поліцукрыдаў* і блізкіх да іх па будове рэчываў, якія змяшчаюцца ва ўсіх раслінных арганізмах, галоўным чынам у пладах і караняплодах; выкарыстоўваецца ў кандытарскай вытворчасці.

# П

**ПЕЛАГІ́ЧНЫ** (ад гр. pelagos = мора) — марскі, утвораны пад уздзеяннем мора; п - ы я а д к л а - д ы — адклады, утвораныя ў морах і акіянах далёка ад берагоў.

**ПЕЛАГІЯ́ЛЬ** (ад гр. pelagos = мора) — тоўшча вады азёр, мораў і акіянаў як асяроддзе, дзе жывуць водныя арганізмы.

**ПЕЛА́ГРА** (іт. pella agra = шурпатая скура) — захворванне, якое выклікаецца недахопам у арганізме вітаміна PP.

**ПЕЛАМІ́ДА** (лац. pelamis, -idis) — рыба сям. скумбрыевых, якая пашырана ў Атлантычным, Індыйскім і Ціхім акіянах.

**ПЕЛАРГО́НІЯ** (н.-лац. pelargonium, ад гр. pelargos = бусел) — травяністая расліна сям. гераніевых з пахучым лісцем, каляровымі кветкамі і падоўжанымі пладамі, якія па форме нагадваюць буслінаю дзюбу, пашырана ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПЕЛАТЭРАПІ́Я** (ад гр. pelos = гліна, гразь + *тэрапія*) — выкарыстанне для лекавых мэт гразяў і гразепадобных рэчываў; гразялячэнне.

**ПЕ́ЛЕНГ** (гал. peiling = вызначэнне ўзроўню) — 1) вугал паміж напрамкам на аб'ект назірання і напрамкам компаснай стрэлкі (параўн. *азімут* 2); 2) разнавіднасць строю ваенных караблёў або самалётаў; у караблёў — размяшчэнне адзін за другім на прамой, якая праходзіць пад вуглом да напрамку руху, у самалётаў — размяшчэнне адзін за другім уступамі.

**ПЕЛЕНГАВА́ЦЬ** (ад *пеленг*) — 1) вызначаць *пеленг* 1; 2) вызначаць месца, дзе знаходзіцца які-н. прадмет, аб'ект, пры дапамозе *пеленгатара*.

**ПЕЛЕНГА́ТАР** (ад *пеленгаваць*) — прыбор, які выкарыстоўваецца ў марской і паветранай *навігацыі* для вызначэння вуглавых напрамкаў (*пеленгаў*) на берагавыя або плывучыя аб'екты, зоркі, сонца і інш.

**ПЕЛЕНГА́ЦЫЯ** (ад *пеленгаваць*) — вызначэнне *пеленга* 1 або месца, дзе знаходзіцца які-н. прадмет, аб'ект.

**ПЕЛЕ́НЕС** (н.-лац. pellenes) — павук сям. скакуноў, які жыве ў траве, на дрэвах.

**ПЕЛЕТО́Н** (фр. peloton = група) — караван спартсменаў, якія прымаюць удзел у веласіпедных гонках.

**ПЕЛІКАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. pelicosauria) — атрад вымерлых паўзуноў падкласа *сінапсідаў*, якія жылі ў *мезазоі*.

**ПЕЛІКА́Н** (лац. pelecanus, ад гр. pelekanos) — вялікая вадаплаўная птушка атрада весланогіх з доўгай дзюбай і вялікім мяшком пад ёю; шырока распаўсюджана ў краінах з гарачым і цёплым кліматам.

**ПЕЛІ́КУЛА** (лац. pellicula = шкурка) — эластычны паверхневы слой *эктаплазмы* працейшых, які ўтварае перыферычную плеўку.

**ПЕЛІ́ТЫ** (ад гр. pelos = гліна) — асадачныя пароды, якія складаюцца пераважна з часцінак, размер якіх не перавышае 0,01 мм.

**ПЕ́ЛІЯ** (н.-лац. pellia) — пячоначны мох сям. пеліевых, які расце на глебавых агаленнях па канавах, берагах рэчак, на лясных балотах.

**ПЕЛТА́СТЫ** (гр. peltastai) — старажытнагрэчаская пяхота.

**ПЕЛЬКО́МПАС** (гал. peilkompas) — *компас* для *пеленгацыі.*

**ПЕЛЬМАТАХРО́МІС** (н.-лац. pelmatochromis) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў вадаёмах Афрыкі; вядома як акварыумная.

**ПЕЛЬТЫГЕ́РА** (н.-лац. peltigera) — ліставаты сумчаты лішайнік падкласа гімнакарпавых, які расце ў лясах, па абочынах дарог, пясчаных схілах, адхонах канаў.

**ПЕ́МЗА** (рус. пемза < англ. pumice, ад лац. pumex) — лёгкая порыстая горная парода вулканічнага паходжання.

**ПЕМЗАБЕТО́Н** (ад *пемза* + *бетон*) — бетон з прымессю дробнай пемзы.

**ПЕ́МФІГУС** (гр. pemphiks, -igos = пухір) — хранічнае захворванне скуры і слізістых абалонак чалавека, якое характарызуецца ўтварэннем пухіроў.

**ПЕНА́Л** (ням. Pennal, ад лац. penna = пяро) — каробачка для ручак, алоўкаў, гумак, пер'яў.

**ПЕНАЛО́ГІЯ** (ад лац. poena = пакаранне + *-логія*) — вучэнне аб пакаранні ў буржуазным праве.

**ПЕНА́ЛЬЦІ** (англ. penalty) — штрафны ўдар па варотах праціўніка з адлегласці 11 метраў пры гульні ў *футбол*, з 12 метраў пры гульні ў хакей з мячом.

**ПЕНА́ТЫ** (лац. penates) — 1) паводле вераванняў старажытных рымлян багі, якія ахоўвалі дом і сям'ю; 2) *перан.* родны дом, родны кут.

**ПЕНГЁ** (венг. pengo) — грашовая адзінка Венгрыі ў 1925 — 1946 гг.; заменена *форынтам.*

**ПЕНЕПЛЕ́Н** (фр. peneplaine = амаль раўніна) — выраўнены ўчастак сушы, які ўтварыўся ў выніку працяглага разбурэння горнай краіны прыроднымі працэсамі ва ўмовах адноснага тэктанічнага спакою.

**ПЕНЕТРАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. penetro = пранікаю + *-метрыя*) — вымярэнне *кансістэнцыі* матэрыялаў.

**ПЕНЕТРА́НТНАСЦЬ** (ад лац. penetrare = пранікаць) — *біял.* частата выяўлення ў *папуляцыі* таго або іншага *гена.*

**ПЕНЕТРА́НТЫ** (ад лац. penetrare = пранікаць) — спецыялізаваныя жыгучыя клеткі кішачнаполасцевых.

**ПЕНЕТРО́МЕТР** (ад лац. penetro = пранікаю = *-метр*) — прыбор для вызначэння кансістэнцыі малярных фарбаў, тлушчаў і іншых матэрыялаў.

**ПЕ́НІ** (англ. penny, фін. penni) — 1) тое, што і *пенс*; 2) разменная манета Фінляндыі, роўная $^1/_{100}$ *маркі.*

**ПЕНІТЭНЦЫЯ́РНЫ** (фр. penitentiaire, ад лац. poenitentia = раскаянне) — звязаны з асабліва жорсткімі формамі крымінальнага пакарання.

**ПЕНІТЭНЦЫЯ́РЫЙ** (с.-лац. poenitentiarius, ад лац. poenitentia = раскаянне) — 1) духоўная ўстанова ў Рыме, якая ад імя папы дае адпушчэнне грахоў і вызваляе асобу ад выканання царкоўнай клятвы; 2) папраўчая ўстанова турэмнага тыпу ў Англіі, ЗША і некаторых

іншых краінах, дзе адзіночнае заключэнне спалучаецца з катаржнай працай; 3) святар, які выконвае богаслужэнне ў турэмных цэрквах.

**ПЕ́НІУМ** (н.-лац. penium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. пеніевых, якая трапляецца ў балотах, на імхах, у мінеральных крыніцах, на рысавых палетках.

**ПЕНІЦЫ́Л** (н.-лац. penicillium) — недасканалы грыб сям. карэміяльных, які развіваецца ў выглядзе плесені на глебавых і іншых субстратах; выкарыстоўваецца для вырабу антыбіётыкаў, у сыраварэнні.

**ПЕНІЦЫЛІ́Н** (н.-лац. penicillinum, ад лац. penicillum = мяцёлка, гронка) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, прыгатаваны з некаторых відаў грыбковай цвілі.

**ПЕНІЯФО́РА** (н.-лац. peniophora) — губавы *базідыяльны* грыб сям. картыцыевых, які расце ў лясах на драўніне лісцевых і хвойных парод, на сценах драўляных будынкаў.

**ПЕНС** (англ. pence, мн. ад penny = пені) — 1) разменная манета Англіі, роўная $^1/_{100}$ фунта *стэрлінгаў*, 2) старадаўняя англа-саксонская сярэбраная манета (з канца 18 ст. медная, а з 1860 г. бронзавая).

**ПЕНСІЁН** (фр. pension; ад лац. pensio = плацеж) — *уст.* тое, што і *пенсія*.

**ПЕ́НСІЯ** (лац. pensio = плацеж) — рэгулярнае грашовае забеспячэнне за выслугу гадоў, па інваліднасці і інш.

**ПЕНСІЯНЕ́Р** (фр. pensionnaire, ад лац. pensio = плацеж) — чалавек, які атрымлівае *пенсію*.

**ПЕНСНЭ́** (фр. pince-nez, ад pincer = заціскаць + nez = нос) — акуляры без дужак, якія трымаюцца на пераноссі пры дапамозе спружынкі.

**ПЕНСТЭМО́Н** (н.-лац. penstemon) — травяністая расліна сям. залознікавых з ланцэтным лісцем і белымі, чырвонымі, бэзавымі або сінімі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПЕНТА-** (гр. pente = пяць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «пяць».

**ПЕНТАГАНА́ЛЬНЫ** (гр. pentagonos) — пяцівугольны.

**ПЕНТАГО́Н** (англ. Pentagon < гр. pentagonon, ад pente = пяць + gonia = круг) — 1) пяцівугольнік; 2) пяцівугольны будынак каля Вашынгтона, дзе размяшчаецца міністэрства абароны ЗША; 3) *перан.* ваеннае ведамства ЗША.

**ПЕНТАГРА́МА** (гр. pentagrammon, ад pente = пяць + pramme = лінія) — 1) правільны пяцівугольнік, на ўнутраных баках якога пабудаваны раўнабедраныя трохвугольнікі аднолькавай вышыні; 2) магічны знак на *амулетах* сярэдневяковага перыяду.

**ПЕНТАГРЫ́Д** (ад *пента-* + англ. grid = сетка) — электронная лямпа, якая мае 7 *электродаў*: анод, катод і 5 сетак.

**ПЕНТАКРЫ́НУС** (ад *пента-* + гр. krinos = лілія) — сядзячая сцябельчатая лічынкавая стадыя марской *лілії*.

**ПЕНТАЛО́ГІЯ** (ад *пента-* + *-логія*) — літаратурны твор, які складаецца з пяці адносна самастой-

ных твораў, звязаных паміж сабой логікай развіцця ідэі, пераемнасцю сюжэтных ліній, агульнасцю кампазіцыйнай будовы.

**ПЕНТА́МЕТР** (гр. pentametros = пяцістопны, ад pente = пяць + metron = мера, стапа) — пяцістопны вершаваны памер.

**ПЕНТА́НЫ** (ад гр. pente = пяць) — насычаныя ацыклічныя вуглевадароды, якія змяшчаюцца ў нафце, сланцавай смале.

**ПЕНТА́РХІЯ** (гр. pentarchiai = пяць старэйшын) — 1) калегія пяці, адзін з органаў дзяржаўнай улады ў Стараж. Карфагене; 2) умоўнае абазначэнне тэрытарыяльнага падзелу даўняй Ірландыі на пяць «каралеўстваў» пасля заваявання яе кельтамі.

**ПЕНТАСТЫ́ЛЬ** (ад *пента-* + гр. stylos = слуп, калона) — старажытнагрэчаскі храм з пяццю калонамі на фасадзе.

**ПЕНТАТЛО́Н** (гр. pentathlon, ад pente = пяць + athlon = змаганне, барацьба) — старажытнагрэчаскае пяцібор'е (бег, скачкі, кіданне дыска, кіданне кап'я, барацьба), што было абавязковым элементам алімпійскіх гульняў.

**ПЕНТАТО́НІКА** (ад *пента-* + *тоніка*) — *муз.* гукавая сістэма, якая ўключае пяць гукаў рознай вышыні ў межах *актавы*.

**ПЕНТАХО́РД** (ад *пента-* + *-хорд*) — пяціступенны гукарад у межах *квінты*.

**ПЕНТА́ЭДР** (ад *пента-* + *-эдр*) — пяціграннік, напр. піраміда, у аснове якой ляжыць чатырохвугольнік.

**ПЕНТЛАНДЫ́Т** [ад англ. J.Pentland = прозвішча англ. натураліста і падарожніка (1797 — 1873)] — жалезанікелевы калчадан, мінерал класа *сульфідаў* светла-бронзавага колеру.

**ПЕНТО́Д** [(ад *пента-* + *(электр)од*)] — электронная лямпа з пяццю *электродамі* (анодам, катодам і трыма сеткамі).

**ПЕНТО́ЗЫ** (ад гр. pente = пяць) — *монацукрыды*, якія змяшчаюць пяць атамаў вугляроду ў малекуле.

**ПЕНЧЫНГБО́Л** (англ. punching-ball, ад punch = біць кулаком + ball = мяч) — надзімальны скураны мяч грушападобнай формы, падвешаны да платформы, які служыць баксёрам для трэніроўкі.

**ПЕНЬЮА́Р** (фр. peignoir) — ранішняе жаночае адзенне з лёгкай тканіны.

**ПЕ́НЯ** (лац. poena = пакаранне) — *штраф* за невыкананне ў тэрмін якіх-н. абавязацельстваў, устаноўленых законам або прынятых па дагавору; грашовая сума, якая спаганяецца пры нявыплаце своечасова падатку або іншых плацяжоў (напр. платы за кватэру, за камунальныя паслугі).

**ПЕО́Н**[1] (гр. paion) — чатырохскладовая вершаваная стапа антычнай *метрыкі* з трох ненаціскных і аднаго націскнога складу.

**ПЕО́Н**[2] (ісп. peon = падзёншчык, батрак) — селянін, батрак у краінах Лац. Амерыкі, які ператварыўся ў выніку кабальнай залежнасці ў раба.

**ПЕПЕРМЕ́НТ** (англ. peppermint) — мятны *лікёр*.

**ПЕПЕРО́МІЯ** (н.-лац. peperomia) — травяністая расліна сям. перцавых з бліскучым скурыстым

# П

лісцем, папыраная пераважна ў тропіках; на Беларусі вырошчваецца як лісцева-дэкаратыўная.

**ПЕПІНЬЕ́РКА** (фр. pépinière = пітомнік, рассаднік) — дзяўчына, якую пасля заканчэння жаночай сярэдняй навучальнай установы пакідаюць пры ёй для педагагічнай практыкі, што было асабліва папырана ў царскай Расіі.

**ПЕ́ПЛУМ** (лац. peplum, ад гр. peplos = пакрывала) — верхняе адзенне старажытных грачанак і рымлянак з лёгкай тканіны ў зборку, якое надзявалася на *туніку*.

**ПЕ́ПСІ-КО́ЛА** (англ. Pepsi-Cola) — безалкагольны танізуючы прахаладжальны напітак.

**ПЕПСІ́Н** (н.-лац. pepsinum, ад гр. pepsis = страваванне) — 1) неабходны для стрававання *фермент* страўнікавага соку чалавека і пазваночных жывёл, здольны расшчапляць бялкі; 2) лекавы *прэпарат*, які выпрацоўваюць са страўніка свіней, авечак і інш.; выкарыстоўваецца пры *гастрытах* і *дыспепсіі*.

**ПЕПТО́Н** (ад гр. pepto = стрававую) — прадукт распаду бялкоў пры страваванні пад уздзеяннем *пепсіну*.

**ПЕПТЫДА́ЗЫ** (ад гр. pepto = стрававую) — *ферменты*, здольныя расшчапляць *пептыды*.

**ПЕПТЫ́ДЫ** (ад гр. peptos = перастрававаны) — прадукты распаду *пептонаў* на больш простыя састаўныя; злучэнні, сярэднія паміж бялкамі і амінакіслотамі.

**ПЕПТЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. pepto = стрававую) — расшчапленне *агрэгатаў* часцінак у калоідных сістэмах на першасныя часцінкі.

**ПЕРАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. peracorida) — надатрад вышэйшых ракападобных.

**ПЕРАКСІДА́ЗЫ** (ад лац. per = панад + *аксідазы*) — *ферменты*, якія каталізуюць у жывых клетках акісленне розных арганічных злучэнняў, нітратаў і іадыдаў перакісам вадароду.

**ПЕРАКСІ́ДЫ** (ад лац. per = панад + *аксіды*) — рэчывы, якія з'яўляюцца вышэйшай ступенню акіслення якіх-н. хімічных элементаў; перакісы.

**ПЕРАНАСПАРО́ЗЫ** (ад *перанаспора*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца перанаспорамі.

**ПЕРАНАСПО́РА** (н.-лац. peronospora) — ніжэйшы грыб сям. перанаспоравых, які паразітуе на травяністых раслінах, асабліва з сям. бабовых, лебядовых, лілейных.

**ПЕРВЕ́РСІЯ** (лац. perversio) — палавая ненармальнасць.

**ПЕ́РГАЛА** (іт. pergola) — абвітая зелянінай *альтанка* або калідор з лёгкіх рашотак на арках ці слупах; від архітэктуры малых форм.

**ПЕРГА́МЕНТ** (ням. Pergament < лац. pergamena, ад гр. Pergamenos = які паходзіць з Пергама) — 1) спецыяльна апрацаваная скура жывёлы, на якой пісалі да вынаходніцтва паперы, а таксама рукапіс на такім матэрыяле; 2) абгортачная папера, якая не прапускае тлушчу і вільгаці.

**ПЕРГА́МІН** (гр. Pergamenos = які паходзіць з Пергама) — 1) ізаляцыйны рулонны матэрыял з тонкага кардону, насычанага нафтавымі бітумамі; 2) тонкая трывалая папера для вырабу натуральнай папяровай салькі.

**ПЕРГІДРО́ЛЬ** (ад лац. per = праз, цераз + гр. hydor = вада) — водны раствор перакісу вадароду; выкарыстоўваецца для бялення тканін, воўны, для *кансервацыі, дэзінфекцыі* і інш.

**ПЕРКАЛЯ́ЦЫЯ** (лац. percolatio) — спосаб вышчалочвання руд, пераважна медных акісленых і тых, у якіх утрымліваецца золата.

**ПЕРКУ́СІЯ** (лац. percussio = нанясенне ўдараў) — выстукванне хворага пальцамі або спецыяльным малаточкам для вызначэння стану яго ўнутраных органаў па характары ўтвораных гукаў.

**ПЕРКУТАВА́ЦЬ** (лац. percutere = ўдараць, пастукваць) — рабіць *перкусію*.

**ПЕРЛ** (фр. perle, ад лац. perna) — 1) жэмчуг; 2) *перан.* што-н. выдатнае па сваіх якасцях (напр. перлы красамоўства).

**ПЕРЛАМУ́ТР** (ням. Perlmutter, ад Perle = жамчужына + Mutter = маці) — цвёрдае рэчыва з пералівістай афарбоўкай, якім пакрыты ўнутры некаторыя ракавіны.

**ПЕРЛВЕ́ЙС** (ням. Perlweiss, ад Perle = жамчужына + Weiss = бялілы) — свінцовыя бялілы, зафарбаваныя сінькай.

**ПЕ́РЛІНЬ** (гал. paardelijn, ад paard = конь + lijn = канат) — карабельны пяньковы *трос* таўшчынёю 10 — 15 см.

**ПЕРЛІ́Т** (фр. perlute, ад perle = жэмчуг) — 1) шклопадобная вулканічная парода, якая выкарыстоўваецца як будаўнічы і ізаляцыйны матэрыял; 2) адна са структурных частак жалезавугляродзістых сплаваў *(сталі, чыгуну)*.

**ПЕРЛІТАБЕТО́Н** (ад *перліт* + *бетон*) — лёгкі бетон, у якім напаўняльнікам служыць успучаны перліт.

**ПЕРЛО́Н** (ням. Perlon) — прынятая ў Германіі назва сінтэтычнага валакна і тканіны, якое ў нас называюць *капронам*.

**ПЕРЛЮ́ВІЙ** (ад лац. perlio = прамываю) — рэшткавы грубаабломкавы валунны ці галечны матэрыял на дне рачных далін і яроў, які застаўся пасля размыву розных парод.

**ПЕРЛЮСТРАВА́ЦЬ** (лац. perlustrare = праглядваць) — рабіць *перлюстрацыю*.

**ПЕРЛЮСТРА́ЦЫЯ** (польск. perlustracja, ад лац. perlustrare = праглядваць) — тайнае распячатванне і прагляд дзяржаўнымі органамі паштовай карэспандэнцыі з мэтай цэнзуры.

**ПЕРМАЛО́Й** [англ. permalloy, ад perm(eability) = пранікальнасць + alloy = сплаў] — сплаў нікелю з жалезам, часам з дабаўкай медзі, хрому, малібдэну, марганцу.

**ПЕРМАНГАНАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *перманганаты* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, заснаваны на акісленні даследуемага рэчыва перманганатам калію.

**ПЕРМАНГАНА́ТЫ** (ад лац. per = звыш + manganum = марганец) — солі марганцавай кіслаты.

**ПЕРМАНЕ́НТ** (фр. permanente, ад лац. permanere = заставацца) — доўгатэрміновая завіўка валасоў.

**ПЕРМАНЕ́НТНЫ** (лац. permanens, -ntis) — бесперапынны, пастаянны (напр. п-ае развіццё).

# П

**ПЕРМЕА́ЗЫ** (ад лац. permeo = праходжу, пранікаю) — бялкі-пераносчыкі, якія ўдзельнічаюць у актыўнай транспарціроўцы рэчываў праз клетачныя мембраны.

**ПЕРМЕА́МЕТР** [ад англ. permea(bility) = пранікальнасць + -метр] — прыбор для вымярэння магнітных характарыстык *ферамагнітных* матэрыялаў.

**ПЕРМЕНДЗЮ́Р** [англ. permendur, ад perme(ability) = пранікальнасць + dur(able) = трывалы] — магнітна-мяккі сплаў жалеза з кобальтам.

**ПЕРМЕНО́РМ** [ням. Permenorm, ад perme(abel) = пранікальны + Norm = норма] — магнітна-мяккі сплаў нікелю з жалезам.

**ПЕРМІНВА́Р** [англ. perminvar, ад perme(ability) = пранікальнасць + invar(iable) = нязменны] — магнітна-мяккі сплаў нікелю з жалезам і кобальтам.

**ПЕРМУТЫ́ТЫ** (фр. permutite, ад лац. permutrae + змяняць) — рэчывы (алюмасілікаты натрыю і калію), якія выкарыстоўваюцца для ачысткі і змякчэння вады.

**ПЕРНІЦЫЁЗНЫ** (лац. perniciosus = гібельны) — *мед.* злаякасны (напр. п-ая анемія).

**П'ЕРО́** (фр. pierrot, ад Pierre = імя героя іт. народнай камедыі 16 ст.) — *персанаж* французскага народнага тэатра 17 — 18 ст.; блазан, паяц.

**ПЕРО́Н** (фр. perron) — пасажырская *платформа* 1 на чыгуначнай станцыі.

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯ́Р** (лац. perpendicularis = адвесны) — прамая лінія, якая перасякае другую прамую пад вуглом 90°.

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯ́РНЫ** (лац. perpendicularis) — размешчаны пад прамым вуглом да чаго-н.

**ПЕРПЕ́ТУУМ-МО́БІЛЕ** (лац. perpetuum mobile = які вечна рухаецца) — вечны рухавік, фантастычны рухавік, які аднойчы запушчаны быццам ніколі не спыніць свой рух.

**ПЕРСАНА́Ж** (фр. personnage, ад лац. persona = асоба) — дзеючая асоба ў мастацкім творы.

**ПЕРСАНА́Л** (лац. personalis = асабовы) — склад супрацоўнікаў якой-н. установы, прадпрыемства, а таксама група работнікаў адной прафесіі, аднаго полу і інш. (напр. п. лабараторыі, медыцынскі п., жаночы п.).

**ПЕРСАНАЛІ́ЗМ** (ад лац. persona = асоба) — кірунак сучаснай каталіцкай філасофіі, які лічыць асобу першаасновай быцця, а быццё праяўленнем творчай актыўнасці вярхоўнай асобы — бога.

**ПЕРСАНА́ЛЬНЫ** (лац. personalis = асабовы) — які датычыцца толькі пэўнай асобы або ажыццяўляецца пэўнай асобай (напр. п-ае запрашэнне, п-ая адказнасць).

**ПЕРСАНІФІКАВА́ЦЬ** (ад *персона* + лац. facere = рабіць) — увасабляць неадушаўлёныя прадметы або абстрактныя паняцці ў вобразе чалавека.

**ПЕРСАНІФІКА́ЦЫЯ** (ад *персона* + *-фікацыя*) — увасабленне неадушаўлёных прадметаў або абстрактных паняццяў у вобразе чалавека.

**ПЕРСЕВЕРА́ЦЫЯ** (лац. perseveratio) — стэрэатыпнае паўтарэнне ў чалавека якога-н. псіхічнага воб-

раза, дзеяння, выказвання або стану.

**ПЕРСЕІ́ДЫ** (ад гр. Perseus = імя старажытнагрэчаскага міфалагічнага героя, сына Зеўса і Данаі) — вялікі паток *метэораў*, якія ляцяць штогод каля 12 жніўня з боку сузор'я Персея.

**ПЕРСЕПТРО́Н** (англ. perceptron, ад лац. perceptio = успрыманне) — устройства, якое мадэлюе ўспрыманне; выкарыстоўваецца для рашэння задач, звязаных з распазнаваннем вобразаў.

**ПЕРСЕ́Я** (н.-лац. persea) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. лаўровых, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі, Усх. і Паўд.-Усх. Азіі; адзін з відаў — *авакада*.

**ПЕ́РСІК** (лац. persicus = персідскі) — пладовае дрэва сям. ружавых, пашыранае ў цёплаўмераных і субтрапічных зонах, а таксама сакаўны плод гэтага дрэва з пушыстай жаўтавата-чырвонай скуркай і буйной костачкай.

**ПЕРСІСТЭ́НТНЫ** (ад лац. persistere = прабываць) — які існуе на працягу доўгага часу; п - ы я ф о р м ы — арганізмы, якія захоўваюцца ў працэсе эвалюцыі ў нязменным выглядзе.

**ПЕРСО́НА** (польск. persona, ад лац. persona) — 1) асоба (часцей у іранічным сэнсе) (напр. важная п., уласнай персонай — сам, асабіста); 2) асоба пры разліках абслугоўвання, пераважна за сталом (напр. накрыць стол на шэсць персон).

**ПЕРСО́НА ГРА́ТА** (лац. persona grata = пажаданая асоба) — 1) *дыпламат*, чыя кандыдатура на дыпламатычны пост адобрана ўрадам той краіны, куды ён накіраваны; 2) *перан.* асоба, да якой ставяцца прыхільна.

**ПЕРСО́НА НОН ГРА́ТА** (лац. persona non grata = непажаданая асоба) — 1) дыпламатычны прадстаўнік, які не карыстаецца даверʼем з боку ўрада дзяржавы, куды ён прызначаны; 2) *перан.* асоба, якая не карыстаецца прыхільнасцю.

**ПЕРСПЕКТО́ГРАФ** (ад *перспектыва* + *-граф*) — прыбор для вычэрчвання перспектыўных праекцый дэталей машын, збудаванняў.

**ПЕРСПЕКТЫ́ВА** (фр. perspective, ад лац. perspicere = уважліва разглядаць) — 1) від удалячынь з якога-н. месца; 2) спосаб перадачы аб'ёмных прадметаў на плоскасці з улікам уяўных змяненняў іх велічыні, абрысаў, выразнасці ў залежнасці ад ступені аддаленасці ад наглядальніка (законы перспектывы); 3) раздзел начартальнай геаметрыі, які вывучае правілы і спосабы праекцыі прадметаў на плоскасць; 4) *перан.* планы на будучае (напр. перспектывы развіцця навукі); у перспектыве — у будучым.

**ПЕРСУЛЬФА́ТЫ** (ад лац. per = звыш + *сульфаты*) — солі сярністай кіслаты; выкарыстоўваюцца пераважна ў хімічных аналізах.

**ПЕРТУЗА́РЫЯ** (н.-лац. pertusaria) — накіпны сумчаты лішайнік сям. пертузарыевых, якія трапляюцца на кары дрэў, раслінных рэштках, глебе, імхах, радзей на камяністым субстраце.

**ПЕРТУРБА́ЦЫЯ** (лац. perturbatio = расстройства) — 1) раптоўнае парушэнне звычайнага, нармальнага ходу чаго-н.; 2) адхіленне ў руху нябеснага цела вакол якога-н.

цэнтральнага цела, выклікане прыцяжэннем іншых нябесных цел.

**ПЕРТУСІН** (ад лац. pertusus = праходны) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як адхарквальны сродак пры *бранхітах, коклюшы* і інш.

**ПЕРФАКАРТА** (ад лац. perforare = свідраваць + *карта*) — папяровая або кардонная картка стандартнага памеру і формы, на якую інфармацыя наносіцца *перфарацыяй*.

**ПЕРФАРАВАЦЬ, ПЕРФАРЫРАВАЦЬ** (лац. perforare = свідраваць) — 1) прабіваць скразныя адтуліны на папяровай, кардоннай картцы (*перфакарце*), на фота- або кінастужцы; 2) рабіць шчыліну ў горнай пародзе, аддзяляючы яе частку ад агульнага масіву (напр. п. пласт калійнай солі).

**ПЕРФАРАТАР** (лац. perforator = які прабівае, свідруе) — 1) апарат, якім прабіваюць скразныя адтуліны на папяровай, кардоннай картцы (*перфакарце*), на фота- або кінастужцы; 2) машына для бурэння свідравін у горных пародах; бурыльны малаток.

**ПЕРФАРАТОРЫЙ** (ад лац. perforare = прабіваць, свідраваць) — пярэдняя частка галоўкі *сперматазоіда*, дзякуючы якой ён пранікае праз абалонку яйца.

**ПЕРФАРАЦЫЯ** (лац. perforatio) — 1) прабіванне скразных адтулін на папяровай, кардоннай картцы (*перфакарце*), на фота- або кінастужцы; 2) сістэма спецыяльна прабітых скразных адтулін на чым-н.; 3) пракол, прарыў полага або трубчастага органа цела чалавека або жывёлы.

**ПЕРФАРЫРАВАЦЬ** гл. *перфараваць*.

**ПЕРФЕКТ** (лац. perfectus = закончаны) — адна з форм прошлага часу дзеяслова ў некаторых мовах, якая абазначае дзеянне, што закончылася ў мінулым, а вынік яго працягваецца цяпер.

**ПЕРФОРМЕР** (англ. performer) — акцыя, якая мае поспех, г.зн. такая акцыя, якая, валодаючы максімальна магчымым дывідэндам, рэалізуецца з найбольшай розніцай паміж рынкавай і намінальнай іх вартасцямі на фондавай біржы.

**ПЕРФУЗІЯ** (лац. perfusio = уліванне) — прапусканне крыві або раствору праз сасуды ізаляванага або выключанага з агульнага кола кровазвароту органа.

**ПЕРХЛАРАТЫ** (ад лац. per = звыш + *хлараты*) — солі хлорнай кіслаты.

**ПЕРЦЫПІРАВАЦЬ** (лац. percipere = успрымаць, адчуваць, разумець) — *псіх.* непасрэдна ўспрымаць аб'ектыўную рэальнасць, якая дзейнічае ў дадзены момант на органы пачуццяў.

**ПЕРЦЭПІЕНТ** (лац. percepiens, -ntis = які ўспрымае) — чалавек, які ўспрымае мысленныя сігналы, што пасылаюцца пры правядзенні тэлепатычных доследаў іншым чалавекам.

**ПЕРЦЭПТАР** (ад лац. perceptio = разуменне, пазнаванне) — сістэма элементаў біялагічнага тыпу (*орган*), прызначаная для ўспрыняцця вобразаў (сігналаў) аб'ектыўнага свету.

**ПЕРЦЭПЦЫЯ** (лац. perceptio = разуменне, пазнаванне) — *псіх.* успрыманне, непасрэднае адлюстра-

ванне аб'ектыўнай рэальнасці органамі пачуццяў (параўн. *аперцэпцыя* 1).

**ПЕРЧ** (англ. perch) — тое, што і *род*.

**ПЕРШ** (фр. perche = жэрдка) — доўгі шост, які выкарыстоўваюць пры выкананні акрабатычных нумароў артысты цырка (*эквілібрысты*).

**ПЕРШЭРО́Н** (фр. percheron, ад Perche = назва правінцыі ў Францыі) — парода ламавых коней, выведзеная ў Францыі.

**ПЕ́РЫ** (перс. pärі) — добрая *фея* ў персідскай міфалогіі, якая ахоўвае людзей ад злых духаў.

**ПЕРЫ-** (гр. peri = навокал, каля, побач) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «каля», «навокал».

**ПЕРЫАДЭНІ́Т** (ад *перы-* + гр. aden = залоза) — запаленне тканак вакол лімфатычных залоз.

**ПЕРЫА́КТЫ** (гр. periaktos = які верціцца) — *дэкарацыі* ў выглядзе трохгранных прызм, што паварочваюцца, у старажытнагрэчаскім тэатры.

**ПЕРЫАРТРЫ́Т** (ад *перы-* + гр. arthron = сустаў) — запаленне калясустаўных тканак буйных суставаў у выніку траўмы, перагрузкі, ахаладжэння.

**ПЕРЫАРТЭРЫ́Т** (ад *перы-* + *артэрыя*) — запаленчае паражэнне артэрый, якое ахоплівае іх знешні слой.

**ПЕРЫА́СТР** (ад *перы-* + гр. astron = зорка) — *астр.* бліжэйшы да галоўнай зоркі пункт арбіты зоркі-спадарожніка (проціл. *апаастр*).

**ПЕРЫБЛЕ́МА** (гр. periblema = абалонка) — слой ініцыяльных клетак у конусе нарастання кораня, з якіх развіваецца першасная кара.

**ПЕРЫГАСТРЫ́Т** (ад *перы-* + гр. gaster, -tros = страўнік) — запаленчае паражэнне серознай абалонкі страўніка.

**ПЕРЫГЕ́Й** (н.-лац. perigaeum, ад гр. peri = вакол + gaia = зямля) — *астр.* бліжэйшы да цэнтра Зямлі пункт арбіты Месяца або штучнага спадарожніка (проціл. *апагей* 1).

**ПЕРЫГЕ́ЛІЙ** (ад *перы-* + гр. helios = Сонца) — *астр.* пункт найменшага аддалення арбіты планеты, каметы або штучнага спадарожніка ад Сонца (проціл. *афелій*).

**ПЕРЫГЛЯЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *перы-* + лац. glacialis = ледзяны) — які мае адносіны да адкладаў, што намножыліся ў шырокай палосе па *перыферыі* старажытных або сучасных (у гарах) ледНікоў.

**ПЕРЫДАТЫ́Т** (фр. peridotite) — глыбінная магматычная горная парода, якая складаецца пераважна з *алівіну* і *піраксену*.

**ПЕРЫДО́Т** (фр. péridote) — тое, што і *алівін*.

**ПЕРЫ́ДЫЙ** (гр. peridion = мяшочак) — абалонка пладовага цела некаторых грыбоў.

**ПЕРЫДЫНЕ́І** (н.-лац. peridinium, ад гр. peridines = які круціцца вакол) — атрад прасцейшых класа жгуцікавых; займаюць прамежкавае становішча паміж раслінамі і жывёламі; панцырныя жгуціканосцы.

**ПЕРЫДЫ́НІУМ** (н.-лац. peridinium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. перыдыніевых,

якая пашырана ў прэсных, саланаватых і марскіх водах.

**ПЕРЫДЭ́РМА** (ад *перы-* + *дэрма*) — 1) другасная покрыўная тканка ў раслін; 2) цвёрдая арганічная абалонка, якая прыкрывае сцёблы калоній марскіх гідроідных паліпаў.

**ПЕРЫЁДЫКА** (гр. periodikos = які паўтараецца, чаргуецца) — перыядычныя друкаваныя выданні.

**ПЕРЫЁСТ** (ад *перы-* + гр. osteon = косць) — верхні злучальна-тканкавы слой косці, надкосніца.

**ПЕРЫКА́РД** (гр. perikardios — які знаходзіцца вакол сэрца) — знешняя абалонка сэрца; калясардэчная сумка.

**ПЕРЫКАРДЫ́Т** (ад гр. perikardios — які знаходзіцца вакол сэрца) — запаленне *перыкарда*.

**ПЕРЫКАРДЫЯ́ЛЬНЫ** (ад гр. perikardios — які знаходзіцца вакол сэрца) — п ы я к л е т к і — тое, што і *нефрацыты*.

**ПЕРЫКА́РПІЙ** (н.-лац. pericarpium, ад гр. peri = вакол + karpos = плод) — сценка плода ў раслін, якая акружае насенне.

**ПЕРЫКА́РЫЁН** (ад *перы-* + гр. karyon = арэх, ядро) — цела *нейрона* без адросткаў, дзе змяшчаецца ядро і асноўныя клетачныя арганоіды.

**ПЕРЫКЛІНА́ЛЬ** (ад *перы-* + гр. klino = нахіляюся) — частка *антыклiналі*, дзе слаі складкі замыкаюцца, а шарнір апускаецца.

**ПЕРЫЛІ́МФА** (ад *перы-* + *лімфа*) — вадкасць, якая запаўняе прастору паміж перапончатым і касцявым лабірынтам ва ўнутраным вуху пазваночных.

**ПЕРЫ́МЕТР** (гр. perimetron = круг, акружнасць) — сума даўжынь усіх старон многавугольніка.

**ПЕРЫМЕ́ТРЫЙ** (ад *перы-* + гр. metra = матка) — брушны покрыў маткі.

**ПЕРЫМЕТРЫ́Т** (ад *перы-* + гр. metra = матка) — запаленне покрыва маткі, якое ўзнікае як ускладненне пры захворваннях жаночых палавых органаў, родах, абортах і інш.

**ПЕРЫНАТА́ЛЬНЫ** (ад *перы-* + лац. natalis = які адносіцца да нараджэння) — які адносіцца да перыяду непасрэдна пасля родаў або да родаў.

**ПЕРЫНЕФРЫ́Т** (ад *перы-* + гр. nephros = нырка) — запаленне тканак вакол ныркі.

**ПЕРЫПАТЭТЫ́ЗМ** (ад гр. peripateo = прагульваюся) — філасофскае вучэнне, заснаванае Арыстоцелем, характэрнае тым, што выкладалася ў час прагулак.

**ПЕРЫПАТЭ́ТЫКІ** (гр. peripatetikoi = аматары прагулак) — паслядоўнікі *перыпатэтызму*.

**ПЕРЫПЕТЫ́Я** (гр. peripeteia = змена) — раптоўная змена, нечаканы паварот у якой-н. падзеі, у жыцці.

**ПЕРЫ́ПЛЫ** (гр. periploi) — *жанр* старажытнагрэчаскай літаратуры, прысвечаны апісанню марскіх плаванняў уздоўж берагоў.

**ПЕРЫПРО́КТ** (ад *перы-* + гр. proktos = задні праход) — вобласць вакол анальнай адтуліны ў марскіх вожыкаў, пазбаўленая вапняковага панцыра.

**ПЕРЫ́ПТЭР** (гр. peripteros) — тып старажытнагрэчаскага храма, з усіх бакоў акружанага каланадай.

**ПЕРЫСА́РК** (ад *перы-* + гр. sark = мяса) — шкілетная абалонка галінак гідроідных паліпаў.

**ПЕРЫСКО́П** (гр. periskopeo = гляджу вакол) — аптычны прыбор для назірання з закрытага месца (з акопаў, бліндажоў, падводных лодак і інш.).

**ПЕРЫСПЕ́РМ** (ад *перы-* + гр. sperma = семя) — запасная пажыўная тканка насення кветкавых раслін, якая ўтвараецца з рэштак *нуцэлуса* семяпачатка.

**ПЕРЫСТА́ЛЬТЫКА** (гр. ptristaltikos = які ахоплівае, сціскае) — хвалепадобнае рытмічнае сцісканне сценак полых органаў — стрававода, страўніка, кішак у чалавека і жывёл.

**ПЕРЫСТО́М** (ад *перы-* + гр. stoma = рот) — вобласць вакол рота ў марскіх вожыкаў, пазбаўленая вапняковага панцыра.

**ПЕРЫСТО́МІЮМ** (ад *перы-* + гр. stoma = рот) — першы галаўны сегмент кольчатых чарвей, дзе размешчана ротавая адтуліна.

**ПЕРЫСТЫ́ЛЬ** (гр. peristylos = акружаны калонамі) — прамавугольны двор, сад або плошча, абнесеныя крытай каланадай.

**ПЕРЫСЯЛЕ́НІЙ** (ад *перы-* + гр. selene = Месяц) — *астр.* бліжэйшы да Месяца пункт *арбіты* штучнага спадарожніка Месяца (проціл. *апасяленій*).

**ПЕРЫТАНЕА́ЛЬНЫ** (ад гр. peritonaion = брушына) — які адносіцца да поласці паміж перыетальнай і вісцэральнай брушынай (напр. п. эпітэлій).

**ПЕРЫТАНІ́Т** (ад гр. peritonaion = брушына) — запаленне брушыны, якое ўзнікае як ускладненне пры апендыцыце, раненнях жывата і інш.

**ПЕРЫТОНЕАСКАПІ́Я** (ад гр. peritonaion = брушына + *-скапія*) — агляд брушной поласці *эндаскопам*, які ўводзіцца праз *траакар*.

**ПЕРЫТРЫ́ХІ** (ад *перы-* + гр. triks, -ichos = волас) — *бактэрыі* з жгуцікамі, размешчанымі па ўсёй паверхні клеткі.

**ПЕРЫТРЭ́МЫ** (ад *перы-* + гр. trema = прысоска, адтуліна) — асобыя пласцінкі з дыхальнымі адтулінамі (стыгмамі) па баках цела кляшчоў.

**ПЕРЫТЭ́ЦЫЙ** (ад *перы-* + гр. theke = сумка) — паўзамкнутае пладовае цела некаторых сумчатых грыбоў і лішайнікаў з вузкай адтулінай на вяршыні, праз якую выкідаюцца *споры*.

**ПЕРЫФЕРЫ́ЧНЫ** (ад *перыферыя*) — размешчаны на паверхні, аддалены ад цэнтра (напр. п-ая нервовая сістэма).

**ПЕРЫФЕРЫ́Я** (гр. periphereia = акружнасць) — 1) ускраіна, аддаленая ад цэнтра мясцовасць, а таксама мясцовыя ўстановы ў адрозненне ад цэнтральных; 2) аддаленая ад цэнтра частка чаго-н. (напр. нервовая п.).

**ПЕРЫФІТО́Н** (ад *перы-* + гр. phyton = расліна) — сукупнасць арганізмаў, якія пасяляюцца на падводных прадметах і раслінах (напр. прасцейшыя, чэрві, малюскі, губкі і інш.); абрастанне.

# П

**ПЕРЫФРА́ЗА** (гр. periphrasis) — від *тропа*, выраз, які з'яўляецца апісальнай перадачай прамога значэння слова (напр. «цар звяроў» замест «леў»).

**ПЕРЫХО́НДР** (ад *перы-* + гр. chondros = храсток) — *анат.* знешні злучальнатканы слой храстка (акрамя суставнага); надхрасточніца.

**ПЕРЫЦЫ́КЛ** (ад *перы-* + *цыкл*) — першасная *мерыстэма*, адзін або некалькі слаёў клетак якой акружаюць у корані цэнтральны цыліндр.

**ПЕРЫЦЫКЛО́ІДА** (ад *перы-* + *цыклоіда*) — *мат.* плоская крывая, якую апісвае пункт, што ляжыць на акружнасці, якая коціцца без коўзання па нерухомай акружнасці, што датыкаецца да першай акружнасці пасярэдзіне.

**ПЕРЫЦЭМЕНТЫ́Т** (ад *перы-* + *цэмент*) — тое, што і *перыядантыт*.

**ПЕРЫЦЭ́НТР** (ад *перы-* + *цэнтр*) — пункт *арбіты* нябеснага цела, самы блізкі да цела, вакол якога адбываецца рух; у залежнасці ад назвы цэнтральнага цела перыцэнтр называюць *перыястрам, перыгеем, перыгеліем* і інш.

**ПЕРЫЭ́КІ** (гр. perioikoi = *літар.* суседзі) — непаўнапраўная частка насельніцтва некаторых старажытнагрэчаскіх *полісаў* [2] (Спарты, Аргоса, Эліды, Фесаліі).

**ПЕРЫЭЛЕКТРАТО́Н** (ад *перы-* + *электратон*) — змена ўласцівасцей нерва, якая выяўляецца на пэўнай адлегласці ад месца ўздзеяння на яго электрычнага току.

**ПЕРЫ́ЯД** (гр. periodos = абход, пэўнае кола часу) — 1) адрэзак часу, у які што-н. пачынаецца і заканчваецца (напр. п. росквіту); 2) этап грамадскага развіцця (гістарычны п.); 3) адрэзак часу, на працягу якога завяршаецца які-н. паўторны працэс (напр. п. абарачэння Зямлі вакол Сонца); 4) *лінгв.* складаны сказ з дзвюма інтанацыйна процілеглымі часткамі; 5) раздзел музычнага твора, у якім выкладзена закончаная музычная думка; 6) група лічбаў, якія нязменна паўтараюцца ў адной і той жа паслядоўнасці; 7) частка геалагічнай эры, якая дзеліцца ў сваю чаргу на эпохі.

**ПЕРЫЯДАНТЫ́Т** (ад *перы-* + гр. odus, odontos = зуб) — запаленне карнявой абалонкі зуба.

**ПЕРЫЯДЫЗА́ЦЫЯ** (ад *перыяд*) — падзел працэсаў развіцця на асноўныя перыяды, што якасна адрозніваюцца адзін ад аднаго.

**ПЕРЫЯДЫ́ЧНЫ** (гр. periodikos) — 1) які паўтараецца праз пэўныя прамежкі часу (напр. п-ыя дажджы); 2) які выдаецца праз пэўныя прамежкі часу; п. д р у к — газеты, часопісы.

**ПЕРЫЯСТРА́КУМ** (ад *перы-* + гр. ostrakon = чарапок) — знешні слой ракавіны *малюскаў*, які складаецца з арганічнага рэчыва канхіяліну.

**ПЕРЫЯСТЫ́Т** (ад *перы-* + гр. osteon = косці) — запаленне надкосніцы ў чалавека і жывёл.

**ПЕ́СА** (ісп. peso, ад лац. pensum = адважанае) — 1) даўняя іспанская сярэбраная манета вартасцю 20 *рэалаў*, 2) грашовая адзінка Аргенціны, Балівіі, Дамініканскай Рэспублікі, Калумбіі, Кубы, Мексікі, Філіпін, Уругвая, роўная 100 *сентава* або 100 *сентэсіма*.

# П

**П'ЕСА** (фр. piece) — 1) драматычны твор, прызначаны для пастаноўкі на сцэне; 2) невялікі музычны твор (інструментальная п.).

**ПЕСЕТА** (ісп. peseta) — грашовая адзінка Іспаніі, роўная 100 *сентыма*.

**ПЕСІМІЗМ** (фр. pessimisme, ад лац. pessimus = найгоршы) — светаадчуванне, прасякнутае безнадзейнасцю, нявер'ем у лепшае будучае, схільнасць ва ўсім бачыць толькі дрэннае (проціл. *аптымізм*).

**ПЕСІМІСТ** (фр. pessimiste, ад лац. pessimus = найгоршы) — чалавек, схільны да *песімізму* (проціл. *аптыміст*).

**ПЕСІМІСТЫЧНЫ** (ад *песімізм*) — прасякнуты песімізмам (проціл. *аптымістычны*).

**ПЕСІМУМ** (ад лац. pessimum = самае дрэннае) — аслабленне дзейнасці органа або тканкі пры залішне моцнай або частай стымуляцыі, што перавышае іх функцыянальныя магчымасці.

**ПЕСТАЛОЦЫЯ** (н.-лац. pestalotia) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці і галінках аслабленых дрэў і кустоў (ліпы, дуба, яблыні, рабіны, клёна і інш.).

**ПЕСТЫЦЫДЫ** (ад лац. pastis = зараза + *-цыды*) — хімічныя сродкі барацьбы з рознымі шкоднымі арганізмамі — насякомымі *(інсектыцыды)*, кляшчамі (*акарыцыды)*, бактэрыямі (*бактэрыцыды)*, грыбкамі *(фунгіцыды)*, грызунамі *(ратыцыды, заацыды)* і інш.; ядахімікаты.

**П'ЕТА** (іт. pieta = міласэрнасць) — сцэна аплаквання Хрыста багародзіцай ў выяўленчым мастацтве.

**ПЕТАРДА** (фр. petard) — 1) старадаўні разрыўны снарад у выглядзе металічнай пасудзіны, напоўненай порахам, які прымяняўся для ўзрыву мастоў і інш.; 2) сігнальны разрыўны снарад, які кладзецца на рэйкі, каб спыніць чыгуначны поезд у выпадку небяспекі; 3) папяровы снарад з парахавым зарадам, род *феерверку* ў піратэхніцы.

**ПЕТРА-** (гр. petro = камень) — першая састаўная частка складаных слоў, што абазначае «які адносіцца да каменя, да горных парод».

**ПЕТРАГЕНЕЗІС** (ад *петра-* + *генезіс*) — утварэнне і паходжанне горных парод.

**ПЕТРАГРАФІЯ** (ад *петра-* + *-графія*) — раздзел *геалогіі*, які займаецца апісаннем горных парод.

**ПЕТРАЛОГІЯ** (ад *петра-* + *-логія*) — раздзел *геалогіі*, які вывучае мінералагічны і хімічны склад горных парод, іх структуру і заканамернасці ўтварэння.

**ПЕТРАТЭКТОНІКА** (ад *петра-* + *тэктоніка*) — раздзел *петралогіі*, які вывучае структуры *тэктанітаў*.

**ПЕТРАФІЗІКА** (ад *петра-* + *фізіка*) — раздзел *петралогіі*, які вывучае сувязь фізічных уласцівасцей горных парод з іх складам, структурай і гісторыяй фарміравання.

**ПЕТРАФІТЫ** (ад *петра-* + *-фіты*) — тое, што і *літафіты*.

# П

**ПЕТРАХІ́МІЯ** (ад *петра-* + *хімія*) — раздзел *петралогіі*, які вывучае размеркаванне хімічных элементаў у горных пародах і мінералах.

**ПЕТРО́ГЛІФЫ** (ад *петра-* + гр. glyphe = разьба) — высечаныя ў старажытнасці на скалах малюнкі жывёл, гаспадарчых і ваенных сцэн.

**ПЕТРО́ГРАФ** (ад *петра-* + *-граф*) — спецыяліст у галіне *петраграфіі*.

**ПЕТРО́ЛАГ** (ад *петра-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *петралогіі*.

**ПЕТРО́ЛЕУМ** (англ. petroleum, ад гр. petra = камень + лац. oleum = алей) — назва *нафты* ў англамоўных краінах (ЗША, Англіі і інш.).

**ПЕТРУ́РГІЯ** (ад гр. petra = камень + ergon = работа) — вытворчасць шклокрышталічных матэрыялаў і вырабаў з расплаваў горных парод метадам ліцця.

**ПЕТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *петра-* + *-фікацыя*) — 1) працэс ператварэння ў камень, напр. асадачных парод у цвёрдую масу; 2) *перан.* усталяванне чаго-н. у пэўнай форме.

**П'ЕТРЭ́Н** (ад бельг. Pietrain = назва мясцовасці ў Бельгіі) — парода свіней мяснога напрамку, выведзеная ў пач. 20 ст. у Бельгіі.

**ПЕТУ́НІЯ** (фр. petunia, ад індз. petuma) — травяністая расліна сям. паслёнавых з буйнымі яркімі кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ў Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПЕТЫМЕ́ТР** (фр. petit-maître = франт) — *уст.* сатырычны вобраз маладога франта.

**ПЕТЫ́Т** (фр. petit = маленькі) — друкарскі *шрыфт, кегель* якога роўны 8 *пунктам* (каля 3 мм).

**ПЕТЫ́ЦЫЯ** (лац. petitio) — пісьмовае калектыўнае прашэнне, накіраванае органам улады.

**ПЕТЭ́ХІЯ** (іт. petecchie = плямы) — дробнае кропачнае кровазліццё на скуры або слізістых абалонках.

**ПЕЦЫ́ЦА** (н.-лац. peziza) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, расце на вільготнай глебе, гноі, гнілой драўніне.

**ПЕЯРАТЫ́ЎНЫ** (ад лац. peior = горшы) — неадабральны, уніжальны.

**ПІ** (гр. $\pi$ = літара грэчаскага алфавіта, якая абазначае гук «п») — *мат.* ірацыянальны лік, роўны адносінам даўжыні акружнасці да дыяметра.

**ПІВО́НЯ** (польск. piwonia, ад фр. pivoine) — травяністая расліна сям. півоневых з вялікімі чырвонымі, ружовымі ці белымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных і горных зонах Еўразіі, на захадзе Паўн. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПІГАПА́ГІ** (ад гр. pyge = крыж + pagos = скаваны) — парок развіцця, пры якім блізняты зрасліся ў вобласці крыжа (параўн. *ксіфапагі*).

**ПІГАСТЫ́ЛЬ** (ад гр. pyge = крыж + stylos = слупок) — задні канец хрыбетніка ў рада жывёл, прадстаўлены зрослыміся пазванкамі; копчык (напр. у птушак).

**ПІГА́ТРЫКС** (н.-лац. pygathrix) — танкацелая малпа шэрай афарбоўкі з чырвонай папярочнай паласой на грудзях, якая водзіцца ў трапічных лясах Паўн.-Усх. Азіі.

**ПІГІ́ДЫЙ** (ад гр. pyge = зад) — задні аддзел брушка ў насякомых.

**ПІГМАЛІЁН** (гр. Pygmalion = імя міфічнага старажытнагрэчаскага скульптара, які закахаўся ў вылепленую ім статую Галатэі) — асоба, закаханая ў свой твор.

**ПІГМЕ́Й** (гр. pygmaios = велічынёй з кулак) — 1) прадстаўнік нізкаpослых плямён у Цэнтр. Афрыцы і Паўд.-Усх. Азіі; 2) *перан.* чалавек надта малога росту; 3) *перан.* нікчэмны, абмежаваны чалавек.

**ПІГМЕ́НТ** (лац. pigmentum) — 1) асобае рэчыва ў жывёльных і раслінных арганізмах, якое надае афарбоўку тканкам арганізма і ўдзельнічае ў розных арганічных працэсах; 2) хімічнае злучэнне, якое ў выглядзе парашкоў прымяняецца для фарбавання пластмас, гумы, хімічных валокнаў і г.д.

**ПІГМЕНТА́ЦЫЯ** (рус. пигментация, ад лац. pigmentum = пігмент) — афарбоўка тканак жывых арганізмаў, абумоўленая наяўнасцю *пігмента* (напр. колер скуры, валасоў).

**ПІГМО́ІД** (ад гр. pygmaios = велічынёй з кулак + *-оід*) — умоўная назва прадстаўніка нізкарослых плямён у Цэнтр. Афрыцы і некаторых абласцях Паўд.-Усх. Азіі.

**ПІЕЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. pyelos = лаханка + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання нырак.

**ПІЕЛАНЕФРЫ́Т** (ад гр. pyelos = лаханка + nephros = нырка) — запаленне ырачных лаханак, ускладненае запаленнем нырак.

**ПІЕЛІ́Т** (ад гр. pyelos = лаханка) — запаленне ырачных лаханак.

**ПІЕМІ́Я** (ад гр. pyon = гной + *-емія*) — форма *сэпсісу*, пры якой у розных органах утвараюцца шматлікія метастатычныя гнойнікі.

**ПІЕ́СМЫ** (н.-лац. piesmatidae) — сямейства насякомых атрада паўцвердакрылых; дробныя светлаафарбаваныя клапы; раслінаедныя.

**ПІЕТЫ́ЗМ** (фр. pietisme, ад лац. pietas = набожнасць) — 1) містычная плынь у *лютэранстве*, паслядоўнікі якой прапаведавалі рэлігійна-маральнае самаўдасканаленне, набожнасць, аскетызм, містыку; 2) рэлігійна-містычны настрой (часта прытворны), набожнасць.

**ПІЕТЭ́Т** (ням. Pietät, ад лац. pietas, -atis = набожнасць) — глыбокая павага, пачцівыя адносіны да каго-н., чаго-н.

**ПІЖА́МА** (англ. pyjama, ад інд. pājdžāma) — хатняе або спальнае адзенне (куртка і штаны).

**ПІЖО́Н** (фр. pigeon = голуб) — пусты, франтаваты малады чалавек.

**ПІЗАЛІ́ТЫ** (ад гр. pisos = гарох + *-літ*) — скапленні слаба сцэментаваных вапняковых *аалітаў* памерам больш за 2 мм у папярочніку.

**ПІЗАЎ́РА** (н.-лац. pisaura) — павук сям. пізауравых; жыве на ўзлесках, палянках.

**ПІК** (фр. pic) — 1) вострая вяршыня гары; 2) кароткатэрміновы рэзкі

пад'ём у развіцці чаго-н. (напр. п. атмасфернага ціску); г а д з і н а п. — час найбольшага напружання ў рабоце транспарту.

**ПІ́КА** (фр. pique) — *зброя* ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам.

**ПІКАДО́Р** (ісп. picador, ад picar = калоць) — коннік, удзельнік бою быкоў у Іспаніі, які ўколамі *пікі* прыводзіць у шаленства быкоў.

**ПІ́КАЛА** (іт. piccolo = *літар.* маленькі) — назва самага маленькага і самага высокага па гучанню музычнага інструмента (напр. маленькая *флейта*, маленькая *домра* і г.д.).

**ПІКА́НТНЫ** (фр. piquant = калючы) — 1) востры на смак (напр. п. соус); 2) *перан.* які выклікае востры інтарэс, цікавасць (напр. п. выпадак); 3) *перан.* прываблівы, спакуслівы (напр. п-ая знешнасць).

**ПІКА́П** (англ. pick-up, ад pick up = паднімаць) — 1) невялікі аўтамабіль, звычайна з адкрытым кузавам і з адкіднымі сядзеннямі каля бартоў; 2) прыстасаванне ў камбайне для падбірання скошаных сцёблаў і транспартавання іх у малацільны апарат.

**ПІКАТА́Ж** (фр. picotage) — убіванне паміж *цюбінгамі* драўляных кліноў, каб крапленне шахты было цалкам воданепранікальным.

**ПІКЕ́** [1] (фр. piquē) — амаль вертыкальнае зніжэнне самалёта на вялікай хуткасці; пікіраванне.

**ПІКЕ́** [2] (фр. pique) — баваўняная або шаўковая тканіна палатнянага перапляцення з рубчыкам уздоўж асновы.

**ПІКЕ́Т** (фр. piquet = калок, вяха) — 1) невялікі ваенны вартавы атрад, застава (напр. конны п.); 2) група бастуючых рабочых для аховы прадпрыемства ад пранікнення *штрэйкбрэхераў*, 3) пункт мясцовасці, адзначаны колікам, забітым роўна з паверхняй зямлі, які служыць для ўстаноўкі на ім рэйкі пры нівеліраванні і замацаванні трасы на мясцовасці; 4) адзінка вымярэння даўжыні чыгуначных ліній; 5) старадаўняя гульня ў карты.

**ПІКЕТАВА́ЦЬ** (фр. piqueter) — ахоўваць што-н., знаходзячыся ў *пікеце*.

**ПІКЕТА́Ж** (фр. piquetage = устанаўленне колікаў) — выбар пунктаў на мясцовасці і адзначэнне іх калкамі пры нівеліраванні.

**ПІ́КІ** (фр. pique) — картачная масць з малюнкам у выглядзе чорнага наканечніка пікі; віны.

**ПІКІ́РАВАЦЦА** (фр. piquer) — абменьвацца з'едлівымі, колкімі заўвагамі.

**ПІКІ́РАВАЦЬ** (фр. piquer = *літар.* калоць) — зніжацца амаль вертыкальна і на вялікай хуткасці (пра самалёт).

**ПІКІРО́ЎКА** (ад фр. piquet = кол, калок) — перасадка маладых агародніпных, пладовых, дэкаратыўных і некаторых тэхнічных раслін для паляпшэння ўмоў іх росту.

**ПІКНАЗО́НД** (ад гр. pyknos = шчыльны + *зонд*) — прыбор для хуткага вызначэння шчыльнасці марской вады на розных глыбінях.

**ПІКНАЛЕ́ПСІЯ** (ад гр. pyknos = часты + lepsis = прыступ) — кароткія і шматлікія прыступы памутнення свядомасці ў дзяцей

(пры адсутнасці парушэння псіхікі).

**ПІКНАСПО́РЫ** (ад гр. pyknos = шчыльны + *споры*) — тое, што і *спермацыі*.

**ПІКНАТЭ́ЛІЯ** (н.-лац. pycnothelia) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. кладоніевых, які расце на пясчаных і глiністых глебах, на дзюнах, тарфяніках.

**ПІКНІ́ДА** (ад гр. pyknos = шчыльны) — умяшчальня бясполых спор многіх грыбоў і лішайнікаў.

**ПІ́КНІК** (ад гр. pyknos = шчыльны) — *уст.* чалавек *пікнічнага* тыпу.

**ПІКНІ́К** (англ. picnic) — вясёлая прагулка з кампаніяй за горад, звычайна з закускай.

**ПІКНІ́ЧНЫ** (гр. pyknos = шчыльны) — поўны, тлусты; п. т ы п — тып целаскладу чалавека, які характарызуецца шырокай каранастай фігурай і кароткай шыяй.

**ПІКНО́МЕТР** (ад гр. pyknos = шчыльны + *-метр*) — прыбор для вызначэння ўдзельнай вагі вадкасцей і цвёрдых цел невялікага аб'ёму.

**ПІКРЫ́НАВЫ** (ад гр. pikros = горкі); п - а я  к і с л а т а — тое, што і *трынітрафенол*.

**ПІКРЫ́Т** (ад гр. pikros = горкі) — горная парода, складзеная з алівіну і клінапіраксену.

**ПІКТАГРА́МА** (ад лац. pictus = маляўнічы + *-грама*) — умоўны малюнак на дрэве, косці, камені, які служыў у старажытным пісьме для паведамлення аб важных падзеях.

**ПІКТАГРА́ФІЯ** (ад лац. pictus = маляўнічы + *-графія*) — старажытная форма пісьма пры дапамозе ўмоўных малюнкаў на дрэве, косці, камені і іншых матэрыялах.

**ПІКТАКА́РТА** (ад лац. pictus = маляўнічы + *карта*) — тое, што і *піктаграма*.

**ПІ́КУЛІ** (англ. pickles) — прыправа да некаторых страў, прыгатаваная з дробна нарэзанай марынаванай гароднiны.

**ПІЛАБО́Л** (н.-лац. pilobolus) — ніжэйшы грыб класа *зігаміцэтаў*, які развіваецца на экскрэментах жывёл.

**ПІЛАКАРПІ́Н** (н.-лац. pilocarpina, ад гр. pilos = шапка, шлем + karpos = плод) — лекавы прэпарат, *алкалоід*, які атрымліваюць з лісця *пілакарпуса* і прымяняюць пры лячэнні *глаўкомы* і некаторых іншых хвароб.

**ПІЛАКА́РПУС** (н.-лац. pilocarpus, ад pilos = шапка, шлем + karpos = плод) — вечназялёная кустовая расліна сям. рутавых з перыстым лісцем і дробнымі зеленаватымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Паўд. і Цэнтр. Амерыцы.

**ПІЛАРАСПА́ЗМА** (ад гр. pyloros = прываротнік + *спазма*) — спазма выходнай часткі страўніка пры неўрозах, язве страўніка і інш.

**ПІЛАРАСТЭНО́З** (ад гр. pyloros = прываротнік + *стэноз*) — звужэнне выходнай часткі страўніка пры язве страўніка, пухлінах і інш.

**ПІЛАРЫ́ЧНЫ** (ад гр. pyloros = прываротнік) — звязаны з заднім аддзелам стрававальных органаў жывёлы.

**ПІЛАТАВА́ЦЬ** (фр. piloter) — кіраваць лятальным апаратам.

# П

**ПІЛАТА́Ж** (фр. pilotage) — майстэрства кіраваць лятальным апаратам (напр. вышэйшы п.).

**ПІ́ЛАЎ-ЛАВА** (ад англ. pillow = падушка + *лава*) — лава, якая вылілася пераважна ў ваду; мае форму шароў, эліпсоідаў са шкляной паверхняй.

**ПІЛЕ́ЗІЯ** (н.-лац. pylaisia) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які трапляецца на кары дрэў, радзей на гнілой драўніне.

**ПІ́ЛЕРС** (англ. pillars, *мн.* ад pillar = слуп, падпора) — вертыкальная стойка для падтрымкі палубы судна.

**ПІЛЕ́Я** (н.-лац. pilea) — травяністая расліна сям. крапіўных з эліпсоідным лісцем, пашыраная ў тропіках; на Беларусі вырошчваецца як лісцева-дэкаратыўная.

**ПІЛІГРЫ́М** (польск. pielgrzym < с.-лац. pelegrinus, ад лац. peregrinus = чужаземны) — 1) вандроўны багамолец, паломнік; 2) *перан.* вандроўнік, падарожны.

**ПІЛО́Н** (іт. pilone, ад гр. pylon = вароты) — масіўная калона, якая служыць апорай перакрыццяў або ставіцца па баках уваходаў у паркі, на масты і інш.

**ПІЛО́Т** (фр. pilote) — той, хто кіруе лятальным апаратам; лётчык.

**ПІЛО́Т-АЭРАНА́ЎТ** (ад *пілот* + *аэранаўт*) — пілот, які лятае на паветраных шарах.

**ПІЛЬ** (фр. pille) — *паляўн.* загад сабаку кінуцца на дзічыну.

**ПІ́ЛЬНЫ** (польск. pilny) — 1) праніклівы, зоркі (напр. п. погляд); 2) уважлівы, неаслабны (напр. п-ая праверка); 3) тэрміновы, неадкладны (напр. п-ая патрэба).

**ПІЛЮ́ЛЯ** (лац. pilula) — 1) лякарства ў выглядзе цвёрдага шарыка; 2) *перан.* што-н. крыўднае, абразлівае (напр. паднесці пілюлю).

**ПІЛЯ́СТРА, ПІЛЯ́СТР** (фр. pilastre, ад іт. pilastro) — чатырохвугольная калона, якая адной гранню ўваходзіць у сцяну.

**ПІ-МЕЗО́НЫ** (ад гр. pi = назва шаснаццатай літары грэчаскага алфавіта + *мезоны*) — тры разнавіднасці нестабільных элементарных часцінак, з якіх дзве (пі-плюс-мезон і пі-мінус-мезон) электрычна зараджаныя, а трэцяя (пі-нуль-мезон) электрычна нейтральная.

**ПІМЕ́НТА** (н.-лац. pimenta) — вечназялёнае дрэва сям. міртавых, якое ў дзікім выглядзе расце ў Цэнтр. Амерыцы; культывуецца ў Індыі.

**ПІ́МЫ** (ненец. pimy) — футравыя боты, шэрсцю наверх, распаўсюджаныя ў паўночных народаў.

**ПІНАКАТЭ́КА** (гр. pinakotheke, ад pinaks, -akos = карціна + theke = сховішча) — сховішча твораў жывапісу; карцінная галерэя.

**ПІНА́КЛЬ** (фр. pinacle) — дэкаратыўныя вежкі на *контрфорсах* або на іншых архітэктурных частках позне-раманскіх і гатычных цэркваў.

**ПІНАЦЫТО́З** (ад гр. pino = п'ю + *-цытоз*) — адзін з магчымых спосабаў жыўлення арганізмаў, які заключаецца ва ўтварэнні пузыркоў *цытаплазмы* вакол арганічных часцінак з наступным іх пераварваннем.

**ПІНГВІ́Н** (ням. Pinguin, фр. pinguiin, ад лац. pinguis = тлусты, сыты) — вялікая антарктычная птушка з падобнымі да ластаў

крыламі, якая добра плавае, але не лятае.

**ПІНГ-ПО́НГ** (англ. ping-pong) — спартыўная гульня маленькім мячом, які перакідваецца ракеткай цераз нацягнутую ўпоперак стала сетку; настольны тэніс.

**ПІНЕ́Н** (ад лац. pinus = сасна) — ненасычаны біцыклічны вуглевадарод з групы *тэрпенаў*.

**ПІНЖА́К** (англ. pea-jacket) — частка мужчынскага касцюма ў выглядзе курткі з адкладным каўняром з бартамі (напр. двухбортны п.).

**ПІНІЁЛЫ** (іт. pignoli) — ядомае гарохападобнае насенне з шышак *пініі*.

**ПІ́НІЯ** (польск. pinia, ад іт. pigna) — хвойнае дрэва сям. сасновых з парасонападобнай кронай і чырвона-бурай карой, пашыранае ў Міжземнамор'і; у іншых мясцовасцях вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ПІНК** (англ. pink = ружовы) — ружовая фарба, у склад якой уваходзяць вокісы волава і хрому.

**ПІ́НКА** (гал. pink) — невялікае двухмачтавае парусна-маторнае судна ў Галандыі, Даніі, Швецыі для рыбалоўства і перавозкі грузаў.

**ПІНО́ЛЬ** (ням. Pinole) — дэталь металарэзнага станка, прызначаная для замацавання рэжучага інструмента або падтрымання вырабу.

**ПІ́НТА** (англ. pint) — мера вадкасцей і сыпкіх рэчываў у Англіі (роўная 0,568 л), ЗША, (роўная 0,473 л), і некаторых іншых краінах.

**ПІ́НУЛЫ** (лац. pinnula = пер'ца) — членістыя прыдаткі на праменях марскіх *лілій*.

**ПІНЦГА́Ў** (ад ням. Pinzgau = назва мясцовасці ў Аўстрыйскіх Альпах) — парода буйной рагатай жывёлы малочна-мясной прадуктыўнасці, выведзеная ў Аўстрыі.

**ПІНЦЫРО́ЎКА** (ад ням. pinzieren = адрэзаць канец) — зразанне вяршка маладога парастка з мэтай затрымкі росту адных парасткаў і паскарэння росту другіх, што неабходна для рэгуліроўкі пладанашэння.

**ПІНЦЭ́Т** (фр. pincette) — спружынныя шчыпчыкі для брання вельмі дробных прадметаў, выкарыстоўваецца ў медыцыне, гадзіннікавай справе і інш.

**ПІ́НЧЭР** (ням. Pinscher) — парода сабак з кароткай шэрсцю і доўгімі вушамі, выведзеная ў 19 ст. у Германіі.

**ПІНЧ-ЭФЕ́КТ** (ад англ. pinch = сцісканне + *эфект*) — *фіз.* сціскание *плазмы*, праз якую цячэ электрычны ток, магнітным полем, што ўтвараецца самім токам.

**ПІПЕРАЗІ́Н** (н.-лац. piperasinum, ад лац. piper = перац) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як проціглісны сродак пры лячэнні *аскарыдозу* і *энтэрабіёзу*.

**ПІПЕРАНА́Л** (ад лац. piper = перац) — тое, што і *геліятрапін*.

**ПІПЕРЫДЗІ́Н** (ад лац. piper = перац) — арганічнае азотазмяшчальнае злучэнне, бясколерная вадкасць з непрыемным пахам, якая выкарыстоўваецца ў аналітычнай хіміі і арганічным сінтэзе.

**ПІПЕ́ТКА** (польск. pipetka, ад фр. pipette) — шкляная трубачка з гу-

мавым каўпачком, які набіраюць вадкасць і выпускаюць па кроплі.

**ПІ́ПКА** (ад фр. pipe = люлька) — *разм.* люлька для курэння.

**ПІПТАПО́Р** (н.-лац. piptoporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, адмерлых і жывых ствалах лісцевых дрэў.

**ПІРА-** (гр. pyr = агонь) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з агнём.

**ПІРАГА́ЛАВЫ** (ад *піра-* + лац. galla = чарнільны арэшак); п а я к і с л а т а — тое, што і *пірагалол*.

**ПІРАГАЛО́Л** (ад *піра-* + лац. galla = чарнільны арэшак) — арганічнае злучэнне класа *фенолаў*, бясколернае крышталічнае рэчыва, выкарыстоўваецца ў фатаграфіі, для сінтэзу некаторых фарбавальнікаў і інш.

**ПІРАГЕНА́Л** (ад *піра-* + гр. gennao = нараджаю) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры сіфілітычных паражэннях цэнтральнай нервовай сістэмы, для рассмоктвання рубцоў пасля апёкаў і інш.

**ПІРАГЕНІЗА́ЦЫЯ** (ад *піра-* + гр. genos = род) — перапрацоўка арганічных рэчываў шляхам награвання іх пры высокіх тэмпературах без доступу паветра.

**ПІРАГЕ́НІЯ** (ад *пірагены*) — павышэнне тэмпературы цела, выкліканае пірагенамі.

**ПІРАГЕ́НЫ** (ад *піра-* + *-ген*) — рэчывы, якія павышаюць тэмпературу цела і выклікаюць гарачку (напр. яды мікробаў, вакцыны і інш.).

**ПІРАГРАВЮ́РА** (ад *піра-* + *гравюра*) — гравюра, выкананая шляхам прымянення *пірографіі*.

**ПІРАГРА́ФІЯ** (ад *піра-* + *-графія*) — тэхніка аздаблення скураных і драўляных прадметаў выпальваннем разагрэтым да чырвані металічным разцом рознага роду ўзораў, малюнкаў.

**ПІРАКА́НТА** (н.-лац. pyracantha) — вечназялёная кустовая расліна сям. ружавых з прадаўгаватым бліскучым лісцем і дробнымі белымі або ружова-жоўтымі кветкамі ў суквецціях, пашыраная ў субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПІРАКАТЭХІ́Н** (ад *піра-* + *катэху*) — арганічнае злучэнне класа *фенолаў*, якое з'яўляецца састаўной часткай смол акацыі катэху і некаторых танінаў; выкарыстоўваецца для сінтэзу фарбавальнікаў, лекавых прэпаратаў, як праявіцель у фатаграфіі.

**ПІРАКЛАСТЫ́ЧНЫ** (ад *піра-* + гр. klao = ламлю, разбіваю) — які мае адносіны да вулканічных горных парод абломкавай структуры, складзеных з раздробленых прадуктаў вулканічных вывяржэнняў.

**ПІРАКСЕНІ́Т** (ад *піраксены*) — ультраасноўная поўнакрышталічная горная парода, складзеная з піраксенаў.

**ПІРАКСЕ́НЫ** (ад *піра-* + ksenos = чужы) — група пародаўтваральных мінералаў класа *сілікатаў* белага, шэрага, жоўтага і зялёнага колеру (*аўгіт, жадэіт* і інш.).

**ПІРАКСІЛІ́Н** (ад *піра-* + гр. ksylon = дрэва) — выбуховае рэчыва, якое выкарыстоўваецца пры

падрыўных работах і для вырабу бяздымнага пораху.

**ПІРАЛА́ТРЫЯ** (ад *піра-* + *-латрыя*) —вогнепаклонства.

**ПІРАЛІ́Т** (ад *піра-* + *-літ*) — гіпатэтычнае рэчыва, з якога складаецца верхняя *мантыя*; мяркуецца, што з яго ўтвараецца базальтавая магма.

**ПІРАЛЮЗІ́Т** (ад *піра-* + гр. lusis = ачыстка) — мінерал, двухвокіс марганцу чорнага колеру, які ўтварае рыхлыя або шчыльныя скрытакрышталічныя масы; руда марганцу.

**ПІРАМА́НІЯ** (ад *піра-* + *манія*) — неадольная імпульсіўна ўзнікаючая хваравітая цяга да падпалаў.

**ПІРАМАРФІ́Т** (ад *піра-* + гр. morphe = форма) — мінерал класа *фасфатаў*, хлорафасфаран волава.

**ПІРАМЕ́ІН** [ад *пірам(ідон)* + *(каф)еін*] — лекавы прэпарат, які знімае боль і зніжае тэмпературу ў хворага.

**ПІРАМЕТАЛУ́РГІЯ** (ад *піра-* + *металургія*) — галіна металургіі, звязаная з атрыманнем і ачышчэннем металаў і металічных сплаваў пры высокіх тэмпературах.

**ПІРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *піра-* + *-метрыя*) — сукупнасць спосабаў вымярэння высокіх тэмператур пры дапамозе *пірометраў*.

**ПІРАМІ́ДА** (гр. pyramis, -idos, з егіп.) — 1) мнагаграннік, асновай якога з'яўляецца многавугольнік, а астатнімі гранямі — трохвугольнікі з агульнай вяршыняй; 2) грабніца *фараонаў* у Стараж. Егіпце ў выглядзе каменнага збудавання з чатырохвугольнай асновай і злучанымі ўверсе бакавымі гранямі; 3) акрабатычная фігура ў форме пірамiды з групы людзей; 4) куча прадметаў, якая мае шырокую аснову і звужаецца ўверсе; 5) станок для захоўвання вінтовак, а таксама вінтоўкі, састаўленыя ў кучку, завужаную ўверсе.

**ПІРАМІДА́ЛЬНЫ** (с.-лац. pyramidalis, ад гр. pyramis, -idos = піраміда) — які мае форму *пірамiды* (напр. п-ая таполя).

**ПІРАМІДО́Н** (ад гр. pyr = агонь + *аміды*) — тое, што і *амідапірын*.

**ПІРАНА́ФТ** (ад *піра-* + *нафта*) — газ для асвятлення памяшканняў, які здабываюць з нафты.

**ПІРАНЕ́МА** (н.-лац. pyronema) — сумчаты грыб сям. піранемавых, які расце на месцах пажарышчаў, вогнішчаў.

**ПІРАНО́ГРАФ** (ад *піра-* + гр. ana = уверх + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі сонечнай *радыяцыі*.

**ПІРАНО́МЕТР** (ад *піра-* + гр. ana = уверх + *-метр*) — прыбор для вымярэння інтэнсіўнасці сонечнай *радыяцыі* (гл. таксама *піргеліёметр*).

**ПІРАПАТРО́Н** (ад *піра-* + *патрон*) — патрон з порахам, выбух якога імгненна прыводзіць у дзеянне другое тэхнічнае ўстройства, напр. катапультуемае крэсла лётчыка.

**ПІРАПЛА́ЗМА** (ад *піра-* + *плазма*) — прасцейшыя аднаклетачныя арганізмы, якія паразітуюць у *эрытрацытах* жывёл, выклікаючы іх разбурэнне.

**ПІРАПЛАЗМІДО́ЗЫ** (ад *пірап-лазміды*) — група кровапаразітных хвароб млекакормячых, птушак, рыб, земнаводных і зрэдку

чалавека, якія выклікаюцца піраплазмідамі.

**ПІРАПЛАЗМІ́ДЫ** (н.-лац. pirоplasmida) — атрад паразітных прасцейшых класа *спаравікоў*; уключае чатыры сямейства, у тым ліку *бабезіідаў* і *тэйлерыдаў*.

**ПІРАПЛАЗМО́З** (ад *піра-* + *плазма*) — хвароба дамашніх жывёл, выкліканая *піраплазмамі*, якіх пераносяць кляшчы.

**ПІРАРГІРЫ́Т** (ад гр. pyr = агонь + argyros = серабро) — мінерал падкласа складаных *сульфідаў* цёмна-шэрага колеру; руда серабра.

**ПІРАСЕЛЕ́КЦЫЯ** (ад *піра-* + *селекцыя*) — раздзяленне кампанентаў поліметалічнай руднай сыравіны, заснаванае на рознай лятучасці металаў.

**ПІРАСКА́Ф** (ад *піра-* + *-скаф*) — першапачатковая назва парахода.

**ПІРАСКО́П** (ад *піра-* + *-скоп*) — прыстасаванне для прыблізнага вымярэння высокіх тэмператур у заводскіх печах.

**ПІРАСО́МЫ** (ад *піра-* + *сома*) — падклас марскіх хордавых жывёл падтыпу *тунікатаў*; здольныя ярка свяціцца дзякуючы сімбіятычным бактэрыям.

**ПІРА́Т** (лац. pirata, ад гр. peirates) — марскі разбойнік.

**ПІРА́ТА** (н.-лац. pirata) — павук сям. *ліказідаў*, які жыве на водных раслінах, на берагах вадаёмаў, на тарфяных імхах.

**ПІРАТЭРАПІ́Я** (ад *піра-* + *тэрапія*) — метады лячэння штучным павышэннем тэмпературы цела.

**ПІРАТЭ́ХНІКА** (ад *піра-* + *тэхніка*) — галіна тэхнікі, звязаная з вырабам гаручых сумесей, сігнальных агнёў, ракет і інш.

**ПІРАФЕРА́ЛЬ** [ад *піра-* + *фера-* + *ал(юміній)*] — гарачаўстойлівы чыгун са змяшчэннем 30 % алюмінію.

**ПІРАФІЛІ́Т** (ад *піра-* + гр. phyllon = ліст) — мінерал падкласа слаістых *сілікатаў* светла-зялёнага або ружовага колеру, які з'яўляецца сыравінай для вогнеўстойлівых вырабаў.

**ПІРАФІ́ТАВЫ** (ад *піра-* + *-фіты*); п-ы я  в о д а р а с ц і — тое, што і *пірафіты*.

**ПІРАФІ́ТЫ** (н.-лац. pyrrophyta) — аддзел водарасцей; пераважна рухомыя аднаклетачныя або каланіяльныя арганізмы з двухбаковай сіметрыяй, для якіх характэрна размнажэнне бясполае (*аўтаспорамі, заакспорамі*) і палавое (*ізагамія*); пашыраны ў прэсных і марскіх водах; пірафітавыя водарасці.

**ПІРАФО́БІЯ** (ад *піра-* + *-фобія*) — псіхічнае захворванне, якое праяўляецца ў паталагічнай боязі агню.

**ПІРАФО́РНЫ** (ад *піра-* + гр. phoros = які нясе) — самазагаральны (напр. п-ыя металы).

**ПІРАХЛО́Р** (ад *піра-* + *хлор*) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў бурага, жаўтавата-зялёнага колеру; сыравіна для атрымання *ніобію*.

**ПІРАЦІ́Н** (гр. pyrrhotine = чырвань) — мінерал класа *сульфідаў* бронзава-жоўтага колеру; магнітны калчадан.

**ПІРАЭЛЕКТРЫ́ЧНАСЦЬ** (ад *піра-* + *электрычнасць*) — узбуджэнне электрычных зарадаў на

паверхні крышталёў ад награвання або ахаладжэння іх.

**ПІРГЕЁМЕТР** (ад гр. pyr = агонь + ge = зямля + *-метр*) — прыбор для вымярэння інтэнсіўнасці эфектыўнага вылучэння зямной паверхні.

**ПІРГЕЛІЁМЕТР** (ад гр. pyr = агонь + *геліёметр*) — прыбор для вымярэння прамянёвай энергіі, якая прыходзіць на Зямлю ад Сонца.

**ПІРКЕ́** (ням. Pirquet = прозвішча аўстр. педыятра) — скурная прывіўка, якая ўстанаўлівае наяўнасць або адсутнасць у арганізме туберкулёзнай інфекцыі.

**ПІРО́ГА** (фр. pirogue < ісп. piragua, ад караіб. piragva) — вузкая доўгая лодка караібаў і народаў Акіяніі.

**ПІРО́Л** (ад *піра-* + *-ол*) — *гетэрацыклічнае* злучэнне, бясколерная вадкасць, якая змяшчаецца ў каменнавугальнай смале; выкарыстоўваецца для атрымання лекавых прэпаратаў, для дэзінфекцыі.

**ПІРО́ЛІЗ** (ад *піра-* + *-ліз*) — расшчапленне складаных арганічных злучэнняў на прасцейшыя пры высокай тэмпературы, што адбываецца пры каксаванні вугалю, крэкінгу нафты і інш.

**ПІРО́МЕТР** (ад *піра-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння высокіх тэмператур (вышэй за 600°С).

**ПІРО́П** (гр. pyropos = вогненны) — мінерал класа *сілікатаў, гранат*[2] чырвонага колеру; празрыстая разнавіднасць з'яўляецца каштоўным каменем.

**ПІРС** (гр. piers, мн. ад pier = слуп, прычал) — партовае збудаванне для прычальвання суднаў з двух бакоў.

**ПІРУ́ЭТ** (фр. pirouette) — 1) поўны кругавы паварот усім целам на наску адной нагі (у танцы); 2) хуткае вярчэнне цела вакол вертыкальнай восі ў фігурным катанні на каньках; 3) паварот каня на задніх нагах пры верхавой яздзе.

**ПІРЫДАКСІ́Н** [ад *пірыдз(ін)* + гр. oksys = кіслы] — тое, што і *адэрмін*.

**ПІРЫДЗІ́Н** (гр. pyridion = вогнік) — арганічнае злучэнне *гетэрацыклічнага* рада, бясколерная празрыстая вадкасць з непрыемным пахам; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбавальнікаў, лекавых прэпаратаў, пестыцыдаў і інш.

**ПІРЫЛЕ́Н** (ад гр. pyr = агонь + yle = рэчыва) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры спазмах перыферычных сасудаў, хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

**ПІРЫМІДЗІ́Н** (ням. pyrimidin, ад гр. pyridion = вогнік) — *гетэрацыклічнае* злучэнне, ядро якога з'яўляецца структурным фрагментам нуклеінавых кіслот.

**ПІРЫ́Т** (гр. pyrites = абпалены агнём) — мінерал класа *парсульфідаў* жоўтага колеру ў выглядзе зярністых мас з металічным бляскам; серны або жалезны калчадан.

**ПІРЫ́ХІЙ** (гр. pyrrichios, ад pyrriche = ваяўнічы танец) — ненаціскная двухскладовая стапа ямба або харэя ў вершаскладанні.

**ПІРЭНАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. pyrenomycetiidae) — група сумчатых грыбоў падкласа *эўаскаміцэтаў* з пладовымі целамі *перытэцыямі*; пашыраны па ўсім зямным шары;

пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін.

**ПІРЭ́НУЛА** (н.-лац. pyrenula) — накіпны сумчаты лішайнік сям. пірэнулавых, які расце на кары лісцевых дрэў.

**ПІРЭ́ТРУМ** (н.-лац. pyrethrum, ад гр. pyrethron) — 1) травяністая расліна сям. складанакветных, пашыраная ва ўмераных зонах, асобныя віды якой змяшчаюць інсектыцыднае рэчыва, што выкарыстоўваецца для барацьбы са шкоднымі насякомымі; 2) парашок з гэтай расліны.

**ПІСТАЛЕ́Т** (фр. pistolet) — кароткаствольная ручная агнястрэльная зброя для стральбы на блізкую адлегласць.

**ПІСТО́ЛЬ** [1] (фр. pistole) — *уст.* тое, што і *пісталет*.

**ПІСТО́ЛЬ** [2] (фр. pistole, іт. pistola) — 1) даўнейшая іспанская залатая манета, якая чаканілася ў 16—18 ст. і змяшчала ад 5,92 да 6,2 г. золата; 2) назва залатых манет у Францыі, Італіі, Германіі 17—18 ст., роўных па вазе іспанскай манеце.

**ПІСТО́Н** (фр. piston, ад іт. piston) — 1) невялікі металічны каўпачок з выбуховым рэчывам для запальвання зарада ў патронах або снарадах; 2) круглая металічная аправа, механічна прымацаваная да дзірачак у скуры, кардоне і інш., якія зроблены для зацягвання шнуркоў; 3) клапан у музычным медным духавым інструменце.

**ПІ́СТЫЯ** (н.-лац. pistia) — травяністая расліна сям. ароідных з плаваючым светла-зялёным апушаным лісцем, пашыраная ў прэсных вадаёмах тропікаў і субтропікаў; на Беларусі культывуецца ў акварыумах; вадзяная салата.

**ПІСУА́Р** (фр. pissoir) — спецыяльная ракавіна са сцёкам для мачы ў мужчынскай прыбіральні.

**ПІСЦЫКО́ЛА** (н.-лац. piscicola) — род рыбіных п'явак; жывуць пераважна ў буйных рэках з дастатковым утрыманнем у вадзе кіслароду.

**ПІ́ТА** (ісп. pita) — валокны з лістоў амерыканскай *агавы*, з якіх выпрабляюцца вяроўкі, канаты, рыбалоўныя сеткі, папера і інш.

**ПІТАНАМО́РФЫ** (ад *пітон* + *-морфы*) — тое, што і *мазазаўры*.

**ПІТО́Н** (гр. python) — вялікая неядавітая змяя сям. удаваў, якая жыве пераважна ў джунглях Афрыкі, Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі.

**ПІТУІТРЫ́Н** (ад лац. pituita = слізь) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры слабой палавой дзейнасці, матачных крывацячэннях, а таксама як сродак для павышэння тонусу кішэчніка і мачавога пузыра.

**ПІ́ТЫЙ** (н.-лац. pythium) — ніжэйшы грыб сям. пітыевых, які развіваецца на ўсходах цукровых буракоў, капусты, агуркоў, радысу, салаты.

**ПІ́ТЫЯ** (н.-лац. pithya) — сумчаты грыб сям. саркасцыфавых, які развіваецца на ігліцы і галінках аслабленых раслін сям. сасновых і кіпарысавых.

**-ПІТЭК** (гр. pithekos = малпа) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «выкапнёвая малпа».

**ПІТЭКА́НТРАП** (ад гр. pithekos = малпа + *-антрап*) — найбольш

ранні выкапнёвы прадстаўнік чалавека.

**ПІУРЫ́Я** (ад гр. pyon = гной + *-урыя*) — выдзяленне з мачой гною пры запаленчых захворваннях нырак.

**ПІФАГАРЭ́ІЗМ** [ад гр. Pythagoras = імя старажытнагрэчаскага філосафа і матэматыка (каля 580—500 да н.э.)] — аб'ектыўна-ідэалістычны напрамак у старажытнагрэчаскай філасофіі, заснаваны ў 6 ст. да н.э. філосафам і матэматыкам Піфагорам, прыхільнікі якога бачылі сутнасць рэчаў у колькасных адносінах, развівалі містыку лічбаў, лічылі, што Сусвет з'яўляецца гарманічнай сістэмай лікаў і іх адносін.

**ПІ́ФАС** (гр. pithos) — вялікі гліняны яйцападобны сасуд, у якім у Стараж. Грэцыі захоўвалі зерне, ваду, віно і іншыя рэчывы.

**ПІ́ФЕРА** (іт. piffero) — італьянскі народны духавы інструмент тыпу валынкі.

**ПІФЕРА́РА** (іт. pifferaro) — музыкант, які іграе на *піфера.*

**ПІФІ́ЧНЫ** (ад *піфія*) — няясны, двухзначны.

**ПІ́ФІЯ** (гр. Pythia = імя старажытнагрэчаскай жрыцы ў храме Апалона ў Дэльфах, якая прадказвала будучае) — асоба, якая робіць няясныя, двухзначныя вывады.

**ПІ́ХІЯ** (н.-лац. pichia) — сумчаты грыб сям. цукраміцэтавых, які развіваецца ў глебе, на цукразмяшчальных субстратах.

**ПІ́ХТА** (ням. Fichte = сасна) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. сасновых, пашыранае пераважна ў гарах Паўн. паўшар'я; дае каштоўную драўніну, піхтавы бальзам, піхтавы алей; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ПІ́ЦА** (іт. pizza) — блюда ў выглядзе праснака з запечанымі ў ім з таматным соусам кавалачкамі мяса, сыру, гародніны, грыбоў.

**ПІЦЫКА́ТА** (іт. pizzicato, ад pizzicare = шчыпаць) — 1) спосаб ігры на струнным смычковым музычным інструменце, калі гук узнікае ў выніку шчыпання струн пальцамі; 2) музычны твор, які разлічаны на выкананне такім спосабам; 3) сольная жаночая варыяцыя ў балеце, якая выконваецца на пальцах у вострым, філігранным рытме.

**ПІЦЭ́РЫЯ** (ад *піца*) — закусачная, дзе гандлююць піцай.

**ПІЯГЕ́ННЫ** (ад гр. pyon = гной + *-генны*); п - ы я б а к т э р ы і — гнаяродныя бактэрыі.

**ПІЯДЭРМІ́Я** (ад гр. pyon = гной + derma = скура) — запаленне скуры, выклікане гнаяроднымі мікробамі.

**ПІЯ́ЛА** (перс. peyale) — неглыбокая круглая пасудзіна без ручкі, з якой п'юць чай у Сярэд. Азіі і прылеглых абласцях.

**ПІЯ́НА** (іт. piano) — *муз.* ціха, не моцна (проціл. *фортэ*).

**ПІЯНЕ́Р** (фр. pionnier = даследчык) — 1) чалавек, які першым пранік у недаследаванае месца, краіну; 2) *перан.* той, хто палажыў пачатак чаму-н. новаму ў галіне навукі, культуры; 3) член дзіцячай камуністычнай арганізацыі.

**ПІЯНЕФРО́З** (ад гр. pyon = гной + nephros = нырка) — гнойнае разбурэнне тканкі ныркі пры ўтварэнні ў ёй камянёў, туберкулёзным паражэнні і інш.

# П

**ПІЯНІ́НА** (іт. pianino) — струнны ўдарна-клавішны музычны інструмент з вертыкальна нацягнутымі струнамі.

**ПІЯНІ́СІМА** (іт. pianissimo) — *муз.* вельмі ціха, цішэй, чым *піяна*.

**ПІЯНІ́СТ** (іт. pianista) — музыкант, які іграе на *піяніна*, раялі.

**ПІЯНО́ЛА** (англ. pianola) — 1) пнеўма-механічны інструмент для ігры на *піяніна* без піяніста; 2) раяль, піяніна з такім інструментам.

**ПІЯРЭ́Я** (ад гр. pyon = гной + rheo = цяку) — *мед.* гноецячэнне; альвеалярная п. — тое, што і *парадантоз*.

**ПІЯСА́ВА** (парт. piasava, з індз.) — валакно з лістоў некаторых трапічных пальм, якое выкарыстоўваецца для вырабу вяровак.

**ПІЯСА́ЛЬПІНКС** (ад гр. pyon = гной + salpinks = труба) — скапленне гною ў матачнай трубе ў выніку пранікнення ў яе ўзбуджальнікаў гнойнай інфекцыі.

**ПІЯ́СТР** (іт. piastra = плітка) — 1) старажытная грашовая адзінка рознай вартасці ў Іспаніі, Партугаліі; 2) дробная грашовая адзінка і манета ў Турцыі, Егіпце, Сірыі, Іардане, Ліване, Судане і некаторых іншых краінах.

**ПІЯТО́РАКС** (ад гр. pyon = гной + thoraks = грудзі) — скапленне гною ў плеўральнай поласці ў выніку ўскладнення гнойных працэсаў у лёгкіх або паддыяфрагмальнай прасторы.

**ПЛАГІЕТЭЦЫЕ́ЛА** (н.-лац. plagiotheciella) — лістасцябловы мох сям. плагіятэцыевых, які трапляецца на глебе ў алешніках, на пнях, каранях і ствалах дрэў.

**ПЛАГІЯГНЕ́ЙС** (ад гр. plagios = косы + *гнейс*) — метамарфічная горная парода, сланцаватая разнавіднасць гнейсаў, якая складаецца з *плагіяклазу*, кварцу і цемнаколерных мінералаў.

**ПЛАГІЯГРАНІ́Т** (ад гр. plagios = косы + *граніт*) — магматычная горная парода, складзеная з *плагіяклазу*, кварцу і цемнаколерных мінералаў, па складу падобная на граніт, але з меншай колькасцю каліевых палявых шпатаў.

**ПЛАГІЯКЛА́ЗЫ** (ад гр. plagios = косы + klasis = пераламленне) — група пародаўтваральных мінералаў класа *сілікатаў* пераважна белага, шаравата-белага колеру (*альбіт, алігаклаз* і інш.).

**ПЛАГІЯ́Т** (лац. plagiatus = выкрадзены) — прысваенне аўтарства на чужы твор літаратуры, навукі, мастацтва або выкарыстанне ў сваёй працы чужога твора без спасылкі на аўтара.

**ПЛАГІЯ́ТАР** (лац. plagiator) — той, хто займаецца *плагіятам*.

**ПЛАГІЯТРАПІ́ЗМ** (ад гр. plagios = косы + *трапізм*) — здольнасць бакавых органаў раслін прымаць становішча пад пэўным вуглом да восевага органа ў залежнасці ад крыніцы раздражнення (сілы цяжару, святла і інш.); параўн. *артатрапізм*.

**ПЛАГІЯТЭ́ЦЫЙ** (н.-лац. plagiothecium) — лістасцябловы мох сям. плагіятэцыевых, які расце пераважна ў лясах на глебе, гнілой драўніне, на камлях дрэў.

**ПЛАГІЯХІ́ЛА** (н.-лац. plagiochila) — пячоначны мох сям. плагіяхілавых, які трапляецца ў вільгот-

ных цяністых лясах на глебе, каля камлёў дрэў, на гнілой драўніне.

**ПЛАЗ** (фр. plase = месца) — памяшканне на суднабудаўнічым заводзе, у якім на гладкай падлозе робяць у натуральную велічыню чарцёж знешніх абрысаў судна.

**ПЛАЗІ́ЎНЫ** (ад лац. plausus = націскны); *лінгв.* п. з ы ч н ы — змычны зычны гук, які ўтвараецца пры ўзнікненні перашкоды на шляху струменю паветра (напр. «п», «к», «т»).

**ПЛА́ЗМА** (н.-лац. plasma, ад гр. plasma = утварэнне) — 1) вадкая частка крыві; 2) *фіз.* стан рэчыва, у які яно пераходзіць, пачынаючы з тэмператур у некалькі тысяч градусаў.

**ПЛАЗМАГА́МІЯ** (ад *плазма* + *-гамія*) — зліццё *цытаплазмы* мужчынскай і жаночай палавых клетак пры запладненні; папярэднічае *карыягаміі*.

**ПЛАЗМАГЕ́НЫ** (ад *плазма* + *-ген*) — спадчынныя фактары, якія лакалізаваны ў *цытаплазме*.

**ПЛАЗМАДЫЯФО́РА** (н.-лац. plasmodiophora) — слізявік, які паразітуе ў клетках раслін сям. крыжакветных.

**ПЛАЗМАДЭ́СМЫ** (ад *плазма* + гр. desmos = сувязь) — цытаплазматычныя ніткі, якія злучаюць *пратапласты* суседніх раслінных клетак.

**ПЛАЗМАЛЕ́МА** (ад *плазма* + гр. lemma = абалонка, скурка) — *мембрана*, якая акружае *пратаплазму* раслінных і жывёльных клетак.

**ПЛАЗМАПА́РА** (н.-лац. plasmopara) — ніжэйшы грыб сям. перанаспаравых, які развіваецца на лісці раслін сям. парасонавых.

**ПЛАЗМАТАМІ́Я** (ад *плазма* + *-тамія*) — тое, што і *цытакінез*.

**ПЛАЗМАТРО́Н** (ад *плазма* + *-трон*) — прыбор для ўтварэння стацыянарнага струменю плазмы (тэмпературы да 20000 °С); выкарыстоўваецца пры электразварцы.

**ПЛАЗМАТЫ́П** (ад *плазма* + *-тып*) — тое, што і *плазмон*.

**ПЛАЗМАХІ́МІЯ** (ад *плазма* + *хімія*) — раздзел хіміі, які вывучае нізкатэмпературную плазму і яе выкарыстанне.

**ПЛАЗМАЦЫ́Д** [ад *плазмо(дый)* + *-цыд*] — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваюць пры лячэнні *малярыі*.

**ПЛАЗМО́ДЫЙ** (н.-лац. plasmodium, ад гр. plasma = утварэнне + eidos = выгляд) — 1) вегетатыўнае цела слізевікоў і некаторых водарасцей; 2) прасцейшы арганізм класа спаравікоў, які паразітуе ў крыві і з'яўляецца ўзбуджальнікам *малярыі*.

**ПЛАЗМО́ЛІЗ** (ад *плазма* + *-ліз*) — адслойванне *пратапласта* ад клетачнай сценкі пры ўздзеянні на клетку *гіпертанічным* растворам.

**ПЛАЗМО́Н** (ад *плазма*) — сукупнасць пазахрамасомных спадчынных элементаў клетак (*плазмагенаў*), якія змяшчаюцца ў цытаплазме на яе арганоідах; складаецца з *пластома* і *цытаплазмона* (параўн. *геном*).

**ПЛАКАДО́НТЫ** (н.-лац. placodontia) — атрад вымерлых марскіх паўзуноў падкласа *сінаптазаўраў*, якія жылі ў *мезазоі*.

**ПЛАКАДЭ́РМЫ** (н.-лац. placodermi) — клас вымерлых панцырных рыб, якія жылі ў познім *дэво-*

*не* ў марскіх і прэсных вадаёмах; пласцінаскурыя.

**ПЛАКА́Т** (ням. Plakat, ад гал. plakkat) — вялікі каляровы малюнак з агітацыйным або рэкламным тэкстам.

**ПЛАКЕ́** (фр. plaqué = накладзены) — металічны выраб, пакрыты лісткамі высакароднага металу, або драўляны выраб з накладзенымі на яго пласцінкамі драўніны каштоўных парод.

**ПЛАКЕ́ТКА** (фр. plaquette) — 1) твор медальернага мастацтва, медаль прамавугольнай ці блізкай да прамавугольнай формы; 2) пласцінка з рэльефным адбіткам, якая ўжываецца для ўпрыгожання мэблі.

**ПЛАКІРАВА́ЦЬ** (фр. plaquer = накладваць, пакрываць) — 1) пакрываць металічную паверхню тонкім слоем іншага металу, устойлівага супраць карозіі, больш прыгожага і інш.; 2) абліцоўваць вырабы з простага дрэва тонкай фанерай з каштоўных парод дрэва; 3) абкладваць дзёрнам земляныя насыпы, адкосы, каб засцерагчы іх ад размывання вадой.

**ПЛАКО́Р** (ад гр. plaks, -akos = раўніна) — плоская або слабанахільная водападзельная тэрыторыя.

**ПЛАКО́РНЫ** (ад *плакор*); п - а я р а с л і н н а с ц ь — расліннасць, характэрная для выраўненых водападзельных тэрыторый у Еўропе.

**ПЛАМБАВА́ЦЬ** (польск. plombować, ад фр. plomber) — 1) запячатваць што-н. *пломбай* (напр. п. вагон); 2) класці пломбу (напр. п. зуб).

**ПЛАМБІ́Р** (фр. plombires) — высокагатункавае марожанае з арэхамі, ягадамі або шакаладам.

**ПЛАН** (лац. planum = плоскасць) — 1) чарцёж якой-н. мясцовасці, будынка, прадмета (напр. тапаграфічны п., п. горада, п. школы); 2) загадзя намечаная праграма мерапрыемстваў, выканання пэўнай работы (напр. пяцігадовы п.); 3) задума, праект, асноўныя рысы якой-н. работы (напр. п. даклада); 4) пэўны парадак, паслядоўнасць чаго-н. (напр. п. урока); 5) размяшчэнне чаго-н. у перспектыве; 6) спосаб разгляду чаго-н., пункт гледжання (у тэарэтычным плане).

**-ПЛАН** (лац. planum = плоскасць) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «крыло», «лятальны апарат».

**ПЛАНА́РНЫ** (англ. planar = плоскі); п - а я т э х н а л о г і я — высокавытворчы метад групавога вырабу паўправадніковых прыбораў і інтэгральных мікрасістэм.

**ПЛАНГЕ́РД** (ням. Planherd) — стол з рухомай паверхняй, дзе ўзбагачаюць дробназярністы рудны матэрыял.

**ПЛАНЕРАДРО́М** (ад *планёр* + *-дром*) — пляцоўка для ўзлёту і пасадкі планёраў.

**ПЛАНЕРЫ́ЗМ** (ад *планёр*) — умельства лятаць на планёрах; занятак планёрным спортам.

**ПЛАНЕРЫ́СТ** (фр. planeuriste) — пілот на *планёры*.

**ПЛАНЕ́Т** (фр. planette) — ручны або конны культыватар для апрацоўкі міжраддзяў агародных культур.

# П

**ПЛАНЕ́ТА** [лац. planeta, ад гр. planetes (aster) = блукаючая зорка] — нябеснае цела, якое верціцца вакол Сонца і свеціцца адбітым сонечным святлом.

**ПЛАНЕТАГРА́ФІЯ** (ад *планета* + *-графія*) — раздзел *астраноміі*, які апісвае планеты Сонечнай сістэмы.

**ПЛАНЕТАЛО́ГІЯ** (ад *планета* + *-логія*) — навука, якая вывучае планеты, іх фізічныя асаблівасці, хімічны склад, будову і інш.

**ПЛАНЕТА́РЫЙ** (п.-лац. planetarium) — 1) апарат для паказу на купалападобным экране зорнага неба і руху Сонца, Месяца і *планет*; 2) будынак, у якім дзейнічае такі апарат.

**ПЛАНЕТО́ІД** (ад *планета* + *-оід*) — тое, што і *астэроід*.

**ПЛАНЕТО́ЛАГ** (ад *планета* + *-лаг*) — астраном, які вывучае *планеты*.

**ПЛАНЁР** (фр. planeur, ад planer = лятаць) — безматорны лятальны апарат у выглядзе самалёта, які *планіруе* ў паветры.

**ПЛАНІМЕ́ТР** (ад лац. planum = плоскасць + *-метр*) — матэматычны прыбор для вымярэння плошчы плоскіх фігур па картах, планах.

**ПЛАНІМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. planum = плоскасць + *-метрыя*) — раздзел элементарнай *геаметрыі*, які вывучае ўласцівасці фігур, што ляжаць на плоскасці (параўн. *стэрэаметрыя*).

**ПЛАНІ́РАВАЦЬ** (рус. планировать, ад фр. planer) — 1) плаўна зніжацца на лятальным апараце; 2) паступова і плаўна зніжацца (аб птушках).

**ПЛАНІСФЕ́РА** (ад лац. planum = плоскасць + *сфера*) — карта зямной або нябеснай сферы ў выглядзе паўшар'яў.

**ПЛА́НКА** (польск. planka, ад ням. Planke = дошка) — невялікая падоўжаная дошчачка, палоска з дрэва, металу або тканіны (напр. ордэнская п.).

**ПЛАНКТАКО́КУС** (н.-лац. planctococcus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелавых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**ПЛАНКТО́Н** (гр. plankton = блукаючае) — сукупнасць найдрабнейшых раслінных і жывёльных арганізмаў, якія жывуць у тоўшчы вады і перамяшчаюцца сілай цячэння.

**ПЛАНТА́Ж** (фр. plantage, ад лац. plantare = высаджваць) — глыбокая апрацоўка глебы спецыяльнымі плугамі, якая праводзіцца гал. ч. пры закладцы вінаграднікаў і пладовых садоў.

**ПЛАНТА́ТАР** (лац. plantator) — уладальнік *плантацыі* 2.

**ПЛАНТА́ЦЫЯ** (п.-лац. plantatio = пасадка раслін) —1) вялікі ўчастак зямлі, заняты пад сельскагаспадарчую культуру, якая мае прамысловае ці гандлёвае значэнне (напр. чайная п.); 2) буйная земляробчая гаспадарка ў многіх краінах, якая спецыялізуецца на якой-н. культуры.

**ПЛАНША́ЙБА** (ням. Planscheibe) — прыстасаванне на металарэзных станках, якім заціскаюць дэталі ў час апрацоўкі.

**ПЛАНШЫ́Р** (англ. plankaheer) — закруглены брус, які праходзіць па верхняму краю борта *шлюпкі* або

паверх сталёвага *фальшборта* ў вялікіх суднаў.

**ПЛАНШЭ́Т** (фр. planchette = дошчачка) — 1) плоская сумка з празрыстым верхам, у якой носяць тапаграфічныя і іншыя карты; 2) невялікая дошка, на якой замацоўваецца папера для здымкі мясцовасці.

**ПЛАСІРАВА́ЦЬ** (ад англ. place = класці, размяшчаць) — накіроўваць мяч у час гульні ў *тэніс* або *пінг-понг* дакладна ў вызначанае месца.

**-ПЛАСТ** (гр. plastos = вылеплены) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «ўтвораны з чаго-н.»

**ПЛАСТАГА́МІЯ** (ад гр. plastos = вылеплены + *-гамія*) — аб'яднанне аднаклетачных асобін шляхам зліцця *цытаплазмы*.

**ПЛАСТМА́СА** [(ад *пласт(ычная)* + *маса*)] — матэрыял, створаны на аснове прыродных і сінтэтычных высокамалекулярных злучэнняў, які лёгка фармуецца пры награванні, а потым устойліва захоўвае наданую яму форму.

**ПЛАСТО́М** (ад гр. plastos = вылеплены) — сукупнасць *плазмагенаў*, якія змяшчаюцца ў *пластыдах* і з'яўляюцца фактарам перадачы спадчыннасці праз *цытаплазму* (параўн. *цытаплазмон*).

**ПЛАСТРО́Н** (фр. plastron, ад іт. piastrone = нагруднік) — 1) моцна накрухмаленая грудзіна мужчынскай верхняй сарочкі, якая надзяваецца пад адкрытую камізэльку да фрака ці смокінга; 2) ніжні шчыт касцявога панцыра чарапах.

**ПЛАСТЫ́ДЫ** (гр. plastides = якія ўтвараюць, ад plastos = вылеплены) — адзін з відаў унутрыклетачных *арганоідаў*, пафарбаваныя або бясколерныя цельцы (*лейкапласты, хларапласты, храмапласты*), якія змяшчаюцца ў *пратаплазме* раслінных кветак і выконваюць розныя функцыі.

**ПЛАСТЫЗО́ЛІ** (ад гр. plastos = вылеплены + *золі*) — пастападобныя матэрыялы, якія ўяўляюць сабой сумесь парашковага *полівінілхларыду* з *пластыфікатарам*.

**ПЛА́СТЫК** [1] (фр. plastique = пластычны, ад гр. plastikos) — мастак, які займаецца *пластыкай*.

**ПЛА́СТЫК** [2] (англ. plastic, ад гр. plastikos = пластычны) — тое, што і *пластмаса*.

**ПЛА́СТЫКА** (н.-лац. plastica, ад гр. plastike) — 1) мастацтва, якое стварае вобразы шляхам лепкі, разьбярства і інш.; 2) эстэтычная выразнасць аб'ёмнай фігуры, гарманічнасць і грацыёзнасць рухаў цела.

**-ПЛАСТЫКА** (гр. plastike = лепка, скульптура) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з аднаўленчай хірургіяй.

**ПЛАСТЫЛІ́Н** (ням. Plastilin, ад гр. plastos = вылеплены) — незасыхаючая маса з воску, гліны і інш. для лепкі розных фігур.

**ПЛА́СТЫР** [(польск. plaster < ням. Pflaster, ад лац. (em)plastrum < гр. (em)plastron)] — 1) нанесеная на тканіну ліпкая лекавая маса, якая прыкладваецца да ран, нарываў; 2) прыстасаванне са спецыяльнай парусіны, якім часова латаюць прабоіны на судне.

**ПЛАСТЫФІКА́ТАРЫ** (ад гр. plastikos = пластычны + лац. facere

= рабіць) — рэчывы, якія ўводзяцца ў склад пластмас, рызін, лакаў, фарбаў, клеяў для павышэння іх пластычнасці і эластычнасці.

**ПЛАСТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад гр. plastikos = пластычны + *-фікацыя*) — працэс насычэння палімерных матэрыялаў *пластыфікатарам.*

**ПЛАСТЫ́ЧНЫ** (гр. plastikos) — 1) які адносіцца да *пластыкі*, вызначаецца гарманічнасцю, грацыёзнасцю (напр. п-ае мастацтва, п-ыя рухі); 2) здольны пад ціскам змяняць сваю форму, не ломкі (напр. п-ыя матэрыялы); 3) звязаны з перасадкай скуры (напр. п-ая аперацыя).

**ПЛА́ТА** (фр. plat = плоскі) — пласціна з электраізаляцыйнага матэрыялу для ўстаноўкі і злучэння электра- і радыёэлементаў радыёэлектроннага або электратэхнічнага ўстройства.

**ПЛАТА́Н** (лац. platanus, ад гр. platanos) — вялікае лістападнае дрэва сям. платанавых з шырокім лісцем, пашыранае ў Амерыцы (ад Мексікі да Канады) і Еўразіі (ад Усх. Міжземнамор'я да Індакітая); адзін з відаў — *чынара*.

**ПЛАТАНІ́ЗМ** [ад гр. Platon = імя старажытнагрэчаскага філосафа (427—347 да н.э.)] — 1) ідэалістычнае філасофскае вучэнне старажытнагрэчаскага філосафа Платона і яго паслядоўнікаў, заснаванае на тым, што рэальны зменлівы свет прыродных рэчываў з'яўляецца толькі слабым адлюстраваннем нязменнага свету вечных ідэй; 2) адсутнасць пачуццёвасці, чыста духоўная цяга да чаго-н.; 3) *перан.* адсутнасць якіх-н. практычных мэт, нерэальнасць.

**ПЛАТАНІ́ЧНЫ** (ад *платанізм*) — 1) *філас.* які мае адносіны да платанізму; 2) заснаваны на духоўнай цязе, пазбаўлены пачуццёвасці (напр. п-ае каханне); 3) чыста духоўны, пазбаўлены практычных, рэальных мэт.

**ПЛАТО́** (фр. plateau, ад plat = плоскі) — невысокае ўзвышша з роўнай паверхняй або раўніна, узнятая над узроўнем мора на 200 м і вышэй.

**ПЛАТФО́РМА** (фр. plate-forme = плоская форма) — 1) роўная пляцоўка на чыгуначнай станцыі для пасадкі людзей у вагоны, пагрузкі; 2) таварны вагон без даху з нізкімі бартамі; 3) *геал.* адна з глыбінных структур зямной кары, якой уласціва малая інтэнсіўнасць тэктанічных рухаў (параўн. *геасінкліналь*); 4) праграма дзейнасці якой-н. партыі, групы, арганізацыі.

**ПЛАТЫБАЗА́ЛЬНЫ** (ад гр. platys = плоскі + basis = аснова) — з шырокай асновай, напр. чэрап у кругларотых, многіх рыб, земнаводных, змей і млекакормячых.

**ПЛАТЫБЕЛО́ДАН** (ад гр. platys = плоскі + belone = іголка + odus, odontos = зуб) — хобатная жывёліна міяцэнавай эпохі, ніжнія сківіцы якой разам з біўнямі зрасталіся ў адно ўтварэнне накшталт вялікай плоскай лыжкі.

**ПЛАТЫГІ́РЫЙ** (н.-лац. platygyrium) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які трапляецца на ствалах і галінах лісцевых дрэў, гнілой драўніне, камянях.

**ПЛАТЫЁПСЫ** (ад гр. platys = плоскі + ops = воблік) — выкапнёвыя земнаводныя з групы *лабірынтадонтаў*, якія жылі ў *палеазоі*.

# П

**ПЛАТЫЗМА́ТЫЯ** (н.-лац. platismatia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які расце на ствалах і галінах хвойных і ліцевых дрэў, часам на імшыстых валунах.

**ПЛАТЫКЛА́ДУС** (н.-лац. platycladus) — вечназялёная кустовая хвойная расліна сям. кіпарысавых з плоскай ігліцай, пашыраная ў Кітаі, Карэі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПЛАТЫМО́НАС** (н.-лац. platymonas) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая трапляецца ў саланаватых і прэсных вадаёмах.

**ПЛАТЫНАТРО́Н** (ад гр. platyno = расшыраю + *-трон*) — электравакуумны прыбор магнетроннага тыпу для ўзмацнення і генерыравання электрамагнітных ваганняў звышвысокай частаты (параўн. *амплітрон*).

**ПЛАТЫСАЛЕНІ́ТЫ** (н.-лац. platysolenites) — выкапнёвыя кольчатыя чэрві сям. *серпулідаў*, якія жылі ў перыяд *кембрыю*.

**ПЛАТЫФІЛІ́Н** (ад гр. platys = плоскі + phyllon = ліст) — лекавы прэпарат, сасударасшыральны і болесуцішальны сродак.

**ПЛАТЫЦЭ́ЛЬНЫ** (ад гр. platys = плоскі + koiloma = паглыбленне) — плоскаўвагнуты, напр. пазванок у млекакормячых.

**ПЛАТЫЦЭ́РЫУМ** (н.-лац. platycerium) — вечназялёная папараць з доўгім рассечаным лісцем у дробных белых лусачках, пашыраная ў трапічных лясах; на Беларусі вырошчваецца ў аранжарэях і пакоях.

**ПЛАТЫЦЭФА́ЛІЯ** (ад гр. platys = плоскі + *-цэфалія*) — плоскагаловасць, слабое развіццё чэрапа ў вышыню.

**ПЛАФО́Н** (фр. plafond = столь) — 1) закрыты *абажур* на столі для электрычных лямп; 2) размаляваная або з вылепленымі ўпрыгожаннямі столь; твор манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, які аздабляе перакрыццё якога-н. памяшкання.

**ПЛАЦДА́РМ** (фр. place d'armes = плошча для войск) — 1) прастора, мясцовасць, на якой рыхтуецца і разгортваецца ваенная аперацыя; 2) *перан.* зыходны пункт чаго-н.

**ПЛА́ЦІНА** (ісп. platina, ад plata = срэбра) — высакародны метал шаравата-белага колеру, які выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе, радыётэхніцы і інш.

**ПЛАЦІНАТЫ́ПІЯ** (ад *плаціна* + *-тыпія*) — спосаб фатаграфавання на солях плаціны.

**ПЛАЦКА́РТА** (ням. Platzkarte, ад Platz = месца + Karte = білет) — *білет* з правам на пэўнае месца ў вагоне поезда.

**ПЛАЦ-ПАРА́Д** (ад ням. Platz = пляц + *парад*) — *уст.* пляцоўка для ваенных вучэнняў, парадаў.

**ПЛАЦЭ́БА** (лац. placebo = спадабаюся) — лекавая форма, якая змяшчае нейтральныя рэчывы.

**ПЛАЦЭ́НТА** (лац. placenta = ляпёшка) — 1) орган у цяжарнай жанчыны або самкі млекакормячых, пры дапамозе якога ажыццяўляецца сувязь плада і матчынага арганізма; дзіцячае месца, паслед; 2) выrасты тканак у раслін, на якіх прымацоўваюцца насенныя пачат-

кі ў завязі кветкавых раслін, спарангіі ў папарацей.

**ПЛАШКО́ЎТ** (гал. plaatschuit, ад plaat = плоскі + schuit = лодка) — пласкадоннае бяспалубнае несамаходнае судна для перавозкі грузаў унутры порта, для наводкі плывучых мастоў.

**ПЛЕАНА́ЗМ** (гр. pleonasmos = лішак) — стылістычны моўны зварот, у якім ужыты аднaзначныя або блізказначныя, часта непатрэбныя словы (напр. «натоўп людзей», «памерці смерцю»).

**ПЛЕАХРАІ́ЗМ** (ад гр. pleon = больш шматлікі + chroa = колер) — уласцівасць крышталёў некаторых мінералаў (напр. *біятыту, турмаліну*) выяўляць розную афарбоўку пры разглядванні іх у белым святле ў розных напрамках.

**ПЛЕБЕ́Й** (лац. plebeius = просты народ) — 1) палітычна бяспраўны чалавек з ніжэйшых класаў у Старaж. Рыме; 2) чалавек недваранскага паходжання, выхадзец з простага народа (у буржуазна-дваранскім асяроддзі).

**ПЛЕБІСЦЫ́Т** (лац. plebiscitum = рашэнне народа) — 1) закон або рашэнне, прынятае сходам плебеяў (у Старaж. Рыме); 2) усенароднае галасаванне пры рашэнні асабліва важнага для краіны пытання, *рэферэндум.*

**ПЛЕБС** (лац. plebs = народ) — 1) клас *плебеяў* у Старaж. Рыме; 2) шырокія слаі гарадской беднаты ў сярэдневяковай Еўропе і пазней.

**ПЛЕД** (англ. plaid) — прамавугольны кавалак шарсцяной або паўшарсцяной тканіны, які выкарыстоўваецца ў якасці пакрывала, хусткі.

**ПЛЕ́ЕР** (ад англ. play = іграць) — кампактны магнітафон з навушнікамі ў асноўным для ўзнаўлення музычных запісаў.

**ПЛЕЗІА́НТРАП** (ад гр. plesios = блізкі + *-антрап*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, блізкая да *аўстралапітэка.*

**ПЛЕЗІЯЗА́ЎРЫ** (н.-лац. plesiosauria) — атрад вымерлых марскіх паўзуноў падкласа *сінаптазаўраў*, якія жылі ў *мезазоі.*

**ПЛЕІ́ДЫ** (н.-лац. pleidae) — сямейства вадзяных насякомых атрада паўцвердакрылых; жывуць у стаячых водах, кормяцца дафніямі, астракодамі і цыклопамі.

**ПЛЕЙБО́Й** (англ. playboy, ад play = гульня + boy = хлопец) — багаты малады чалавек у буржуазным грамадстве, які займаецца толькі спортам і заляцаннямі да жанчын.

**ПЛЕЙСТАСЕ́ЙСТЫ** (ад гр. pleistos = найбольш + seistos = страсянуты) — лініі на геаграфічнай карце, якія злучаюць пункты найбольшай сілы землетрасення.

**ПЛЕЙСТАЦЭ́Н** (ад гр. pleistos = найбольш + *-цэн*) — першая найбольш старажытная і працяглая частка *антрапагену.*

**ПЛЕЙСТО́Н** (ад гр. plein = плысці на судне) — сукупнасць арганізмаў, якія жывуць на паверхні вады.

**ПЛЕКСІГЛА́С** (ням. Plexiglas, ад лац. plexus = пераплецены + ням. Glas = шкло) — арганічнае празрыстае шкло, якое выкарыстоўваецца для зашклення самалётаў, аўтамабіляў і інш.

**ПЛЕКСІ́Т** (ад лац. plexus = спляценне) — захворванне нервовых спляценняў.

# П

**ПЛЕКТАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. plectomycetiidae) — група сумчатых грыбоў падкласа *эўаскаміцэтаў* з пладовымі целамі *клейстатэцыямі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін, жывёл і чалавека.

**ПЛЕКТАНЕ́МА** (н.-лац. plectonema) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. плектанемавых, якая пашырана ў салёных і прэсных водах, глебе, на сценах старых будынкаў, калодзежаў, на кары дрэў.

**ПЛЕКТР** (гр. plektron) — *медыятар* для ігры на струнных шчыпковых музычных інструментах (цытры, мандаліне, домры і інш.).

**ПЛЕНА́РНЫ** (п.-лац. plenarius, ад лац. plenus = поўны) — які адбываецца пры ўдзеле ўсіх членаў выбранага кіруючага органа якой-н. арганізацыі.

**ПЛЕ́НУМ** (лац. plenum = поўнае) — сход, пасяджэнне выбранага кіруючага органа якой-н. партыі, арганізацыі ў поўным складзе.

**ПЛЕНЭ́Р** (фр. plein air = вольнае паветра) — перадача паветранага асяроддзя і натуральнага асвятлення ў творы жывапісу.

**ПЛЕНЭРЫ́ЗМ** (ад *пленэр*) — напрамак жывапісу, які вызначаецца імкненнем да найпраўдзівейшай перадачы прыроднага асвятлення, колеру, навакольнай атмасферы.

**ПЛЕНЭРЫ́СТ** (фр. pleinairiste) — майстар *пленэру*.

**ПЛЕРАЦЭРКО́ІД** (ад гр. pleres = поўны + kerkos = хвост + *-оід*) — лічынка стужкавых чарвей на апошняй стадыі развіцця.

**ПЛЕРЭ́ЗЫ** (фр. pleureuses, ад pleurer = плакаць) — 1) *уст.* белыя нашыўкі на рукавах і каўняры жалобнай сукенкі; 2) упрыгожанні з страусавых пёраў на жаночых капелюшах.

**ПЛЕСІ́МЕТР** (ад гр. plesso = удараю + *-метр*) — тонкая металічная або касцяная пласцінка, якая выкарыстоўваецца пры даследаванні ўнутраных органаў метадам прастуквання.

**ПЛЕТО́РА** (гр. plethore = перапаўненне) — павелічэнне агульнай масы крыві, якое адбываецца пры некаторых захворваннях.

**ПЛЕТЫЗМАГРА́ФІЯ** (ад гр. plethysmos = павелічэнне + *-графія*) — графічны запіс змен аб'ёму органаў чалавека і жывёл пры дапамозе *плетызмографа*.

**ПЛЕТЫЗМО́ГРАФ** (ад гр. plethysmos = павелічэнне + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі змен аб'ёму органаў у чалавека і жывёл, якія залежаць ад стану крываносных сасудаў.

**ПЛЕ́ЎРА** (с.-лац. pleura, ад гр. pleura = бок, рабро) — абалонка, якая пакрывае лёгкія і сценкі груднай поласці чалавека і млекакормячых жывёл.

**ПЛЕЎРАКА́ПСА** (н.-лац. pleurocapsa) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. плеўракапсавых; якая пашырана ў марскіх і прэсных водах; расце на падводных прадметах, раслінах, малюсках, часам на берагавых камянях.

**ПЛЕЎРАКО́КУС** (н.-лац. pleurococcus) — тое, што і *пратакокус*.

**ПЛЕЎРАПНЕЎМАНІ́Я** (ад *плеўра* + *пнеўманія*) — крупознае запаленне лёгкіх, ускладненае *плеўрытам*.

**ПЛЕЎРАТЭ́НІУМ** (н.-лац. pleurotaenium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая пашырана ў сфагнавых і іншых вадаёмах, у мінеральных крыніцах.

**ПЛЕЎРАХЛО́РЫС** (н.-лац. pleurochloris) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах і ў глебе.

**ПЛЕЎРО́ЗІЙ** (н.-лац. pleurozium) — лістасцяблові мох сям. энтадонтавых, які расце на сухой лясной глебе, у хмызняках, на сухіх лугах, мохавых балотах.

**ПЛЕЎРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. pleuridium) — лістасцяблові мох сям. дзітрыхавых, які расце на вільготных палях, у лугавых канавах, на аголенай глебе і пакрытых глебай камянях.

**ПЛЕЎРЫ́Т** (лац. pleuritis, ад гр. pleuritis) — запаленне *плеўры*.

**ПЛЕЯ́ДА** (ад гр. Pleias, -ados = назва сузор'я) — група выдатных дзеячаў навукі, культуры адной эпохі, аднаго напрамку (напр. п. пачынальнікаў беларускай літаратуры).

**ПЛЕЯСПО́РА** (н.-лац. pleospora) — сумчаты грыб сям. плеяспоравых, які развіваецца на раслінных рэштках, на лісці травяністых і дрэвавых раслін.

**ПЛЕЯТРАПІ́Я** (ад гр. pleion = большы + *-трапія*) — уплыў аднаго *гена* на некалькі прымет арганізма.

**ПЛЕЯХА́ЗІЙ** (ад гр. pleion = большы + chasis = раздзяленне) — тып суквецця, у якім ад галоўнай восі з вяршыннай кветкай адыходзіць больш дзвюх перарастаючых яе бакавых восяў (напр. у малачая).

**ПЛІКАТЫ́ЎНЫ** (лац. plicatilis, ад plicare = складаць) — складкаваты; п - ы я д ы с л а к а ц ы і — парушэнні ў заляганні пластоў горных парод, якія не суправаджаюцца разрывам іх цэласнасці.

**ПЛІМУТРО́К** (англ. Plimouth Rock) — парода яйцаноскіх і мясных курэй рознага апярэння, выведзеная ў паўночнаамерыканскім горадзе Плімута.

**ПЛІНТ** (гр. plinthos = цэгла, пліта) — *архіт.* квадратная пліта, якая з'яўляецца ніжняй часткай *базы* калоны.

**ПЛІНТАВА́ЦЬ** (ад гр. plinthos = цэгла, пліта) — 1) выраўноўваць, ачышчаць паверхню чаго-н.; 2) расколваць камяні на кавалкі для далейшай апрацоўкі.

**ПЛІ́НТУС** (гр. plinthos = цэгла, пліта) — 1) вузкая планка, якая закрывае шчыліну паміж сцяной і падлогай; 2) вонкавы выступ у ніжняй частцы якога-н. збудавання.

**ПЛІ́НФА** (гр. plinthos = цэгла) — шырокая і плоская абпаленая *цэгла*, якая прымянялася пры будаўніцтве ў Візантыі і ў 10 — 13 ст. на Русі.

**ПЛІС** (шв. plys, ад фр. peluche = плюш) — бавоўняная варсістая тканіна, падобная да аксаміту.

**ПЛІСІРАВА́ЦЬ** (фр. plisser) — рабіць *плісэ*.

**ПЛІСЭ́** (фр. plisse) — 1) дробныя паралельныя складкі на тканіне, зробленыя шляхам спецыяльнай апрацоўкі; 2) адзенне з такімі складкамі (напр. спадніца п.).

# П

**ПЛІЯЗА́ЎРЫ** (ад гр. pleion = больш + *-заўр*) — буйныя марскія паўзуны атрада *плезіязаўраў*, якія жылі ў *мезазоі*.

**ПЛІЯПІТЭ́К** (ад гр. pleion = больш + *-пітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, якая лічыцца продкам *гібона*.

**ПЛІЯЦЭ́Н** (ад гр. pleion = больш + *-цэн*) — другая, апошняя эпоха *неагену*.

**ПЛО́ІДНАСЦЬ** (ад гр. ploos = кратны + eidos = выгляд) — лік набораў *храмасом* у клетках арганізмаў.

**ПЛО́МБА** (польск. plomba < фр. plomb, ад лац. plumbum = свінец) — 1) кавалачак свінцу ці іншага матэрыялу з выціснутай на ім пячаткай, які прывешваецца да замкнутых дзвярэй, прыбораў, апаратаў і інш.; 2) рэчыва, якім запаўняюць карыезнае дупло ў зубе.

**ПЛО́ТЭР** (англ. plotter = нанясенне на паперу дыяграм) — устройства для вываду інфармацыі; прыбор, які выдае інфармацыю ў выглядзе графікаў.

**ПЛОЎ** (перс. polou) — нацыянальная страва ў народаў Сярэд. Азіі, прыгатаваная з рысу і бараніны з прыправамі.

**ПЛУ́НЖЭР** (англ. plunger) — поршань у цыліндры высокага ціску.

**ПЛУТАКРА́Т** (ад гр. plutos = багацце + *-крат*) — прадстаўнік найбольш багатай і ўплывовай часткі пануючага класа.

**ПЛУТАКРА́ТЫЯ** (гр. plutokratia, ад plutos = багацце + kratos = улада, моц) — 1) палітычны лад, пры якім дзяржавай правіць кучка самых багатых людзей пануючага класа; 2) кучка самых багатых прадстаўнікоў пануючага класа.

**ПЛУТАНІ́ЗМ** (ад *плутон*) — напрамак у *геалогіі*, прадстаўнікі якога лічаць, што асноўная роля ва ўтварэнні горных парод належыць унутранаму агню Зямлі.

**ПЛУТО́Н** (гр. Pluton = імя бога падземнага свету ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — агульная назва розных глыбінных вывергнутых парод.

**ПЛУТО́НГ** (польск. pluton) — 1) невялікае падраздзяленне рускай пяхоты ў 18 ст.; 2) групоўка размешчаных побач гармат аднолькавага калібру на караблі ў 19 ст.

**ПЛУТО́НІЙ** (н.-лац. plutonium, ад гр. Pluton = назва планеты) — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які належыць да *актыноідаў*.

**ПЛУТЭ́ЎС** (лац. pluteus = шчыт) — лічынка марскіх вожыкаў і *афіур*.

**ПЛЮВІЁГРАФ** (ад лац. pluvia = дождж + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі колькасці, працягласці і інтэнсіўнасці ападкаў.

**ПЛЮВІЁЗ** (фр. pluviose, ад лац. pluviosus = дажджлівы) — пяты месяц (з 20—21 студзеня па 18 — 19 лютага) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793 — 1806 гг.

**ПЛЮВІЁМЕТР** (ад лац. pluvia — дождж + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці ападкаў.

**ПЛЮВІЯ́ЛЬНЫ** (лац. pluvialis = дажджавы) — які належыць да дажджу або наогул да ападкаў (напр. п. перыяд).

**ПЛЮМА́Ж** (фр. plumage) — аздабленне з пёраў ці конскага воласу на галаўным уборы і на конскай збруі.

**ПЛЮМБІКО́Н** (ад лац. plumbum = свінец + гр. eikon = адлюстраванне) — тэлевізійная перадаючая трубка, мішэнь якой уяўляе сабой слой вокісу свінцу, нанесены на празрыстую плёнку двухвокісу волава.

**ПЛЮ́МУЛА** (лац. plumula = пёрка) — першая пупышка зародкавага парастка ў семені.

**ПЛЮР** (фр. pelure = скурка плода) — тонкая празрыстая папера, пакрытая клеевым слоем, якая ўжываецца ў *літаграфіі*.

**ПЛЮРАЛІ́ЗМ** (англ. pluralism, ад лац. pluralis = множны) — 1) філасофскае вучэнне, паводле якога ў аснове свету ляжыць многа незалежных духоўных сутнасцей (параўн. *дуалізм, манізм*); 2) прызнанне права на існаванне множнасці метадаў, падыходаў, партый, напрамкаў; п. д у м а к — разнастайнасць пунктаў погляду на адну палітычную або эканамічную праблему.

**ПЛЮРАЛІ́СТ** (ад *плюралізм*) — прыхільнік плюралізму.

**ПЛЮРА́ЛЬНЫ** (лац. pluralis) — множны; п. в о т у м — у некаторых краінах права выбаршчыка карыстацца некалькімі галасамі ў залежнасці ад маёмаснага, адукацыйнага і іншага цэнзу.

**ПЛЮРЫЛАТЭРА́ЛЬНЫ** (фр. plurilateral, ад лац. plures = некалькі + lateralis = бакавы); п. д а г а в о р — дагавор, адкрыты для далучэння іншых дзяржаў.

**ПЛЮС** (лац. plus = больш) — 1) знак складання або дадатнай велічыні ў выглядзе крыжыка; 2) *перан.* дадатны бок, перавага.

**ПЛЮСКВАМПЕРФЕ́КТ** (лац. plusquamperfectum = больш, чым закончанае) — адна з форм прошлага часу дзеяслова, якая сустракаецца ў многіх мовах і выражае дзеянне, што папярэднічала іншаму дзеянню ў мінулым; даўномінулы час.

**ПЛЮТЭ́Й** (н.-лац. pluteus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. мухаморавых, які расце на пнях і ламаччы розных дрэвавых парод; большасць відаў ядомыя.

**ПЛЮШ** (ням. Plusch, ад лац. pilus = волас) — тканіна, у якой ворс радзейшы, але вышэйшы, чым у аксаміце.

**ПЛЯБА́Н** (с.-лац. plebanus, ад лац. plebs = народ) — *пробашч*, які кіруе вясковай парафіяй, *плябаніяй*.

**ПЛЯБА́НІЯ** (с.-лац. plebania, ад лац. plebs = народ) — 1) *парафія*, якой кіруе *плябан*; пасада плябана; 2) дом, які належыць парафіі і ў якім жыве плябан.

**ПЛЯ́ГА** (польск. plaga, ад лац. plaga = ударэнне) — 1) дажджлівае надвор'е, слота; 2) няшчасце, бяда.

**ПЛЯЖ** (фр. plage) — пясчаны або жвірысты бераг на беразе мора, возера, ракі, на якім загараюць у час купальнага сезону.

**ПЛЯ́ЙФЕРЫ** (н.-лац. playfairi) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў вадаёмах Усх. Афрыкі, Сейшэльскіх астравоў і Мадагаскара; разводзіцца як акварыумная.

# П

**ПЛЯЦ** (польск. plac, ад ням. Platz) — 1) участак зямлі пад сядзібай; 2) незабудаваная тэрыторыя ў горадзе, прызначаная для якой-н. мэты, плошча (напр. рынычны п.).

**ПНЕ́ЎМА** (гр. pneuma = дыханне) — сіла, якая рэгулюе дыханне і пульс (у старажытнагрэчаскай натурфіласофіі і медыцыне).

**ПНЕЎМААЎТАМА́ТЫКА** (ад гр. pneuma = дыханне + *аўтаматыка*) — раздзел аўтаматыкі, які распрацоўвае і прымяняе сродкі аўтаматычнага рэгулявання (кіравання), дзе перадача сігналаў ажыццяўляецца пры дапамозе сціснутага паветра.

**ПНЕЎМАГРА́МА** (ад гр. pneumon = лёгкае + *-грама*) — графічны паказ дыхальных рухаў грудной клеткі, якія характарызуюць работу лёгкіх (параўн. *кардыяграма*).

**ПНЕЎМАГРА́ФІЯ** (ад гр. pneuma = дыханне + *-графія*) — запіс дыхальных рухаў грудной клеткі *пнеўмографам* (гл. таксама *спіраграфія*).

**ПНЕЎМАКАНІЁЗЫ** (ад гр. pneumon = лёгкія + konia = пыл) — група прафесійных захворванняў лёгкіх, абумоўленых працяглым удыханнем вытворчага пылу (напр. *антракоз, бісіноз, сілікоз*).

**ПНЕЎМАКАСЦЮ́М** (ад гр. pneuma = дыханне + *касцюм*) — герметызаваны высотны касцюм лётчыка.

**ПНЕЎМАКО́КІ** (ад гр. pneumon = лёгкае + kokkos = зерне) — шарападобныя *бактэрыі* (з групы *дыплакокаў*), якія з'яўляюцца ўзбуджальнікамі *пнеўманіі*.

**ПНЕЎМАМІКО́З** (ад гр. pneumon = лёгкія + *мікоз*) — хвароба лёгкіх, якая выклікаецца паразітычнымі грыбамі.

**ПНЕЎМАНІ́Я** (н.-лац. pneumonia, ад гр. pneumon = лёгкае) — запаленне лёгкіх.

**ПНЕЎМАСКЛЕРО́З** (ад гр. pneumon = лёгкае + *склероз*) — разрастанне злучальнай тканкі лёгкіх, якое выклікае паніжэнне дыхальнай здольнасці лёгкіх.

**ПНЕЎМАТАФО́Р** (ад гр. pneuma, -atos = дыханне + *-фор*) — орган гідрастатычнай раўнавагі *сіфанафор* у выглядзе надзьмутага пузыра.

**ПНЕЎМАТО́ЛІЗ** (ад гр. pneuma, -atos = дыханне + *-ліз*) — працэс утварэння мінералаў пад уздзеяннем на горныя пароды лятучых рэчываў і газаў, выдзеленых магмай.

**ПНЕЎМАТО́РАКС** (ад гр. pneumon = лёгкае + *торакс*) — скапленне паветра ў поласці *плеўры* ў выніку пашкоджання сценак грудной клеткі.

**ПНЕЎМАТРА́НСПАРТ** (ад гр. pneuma = дыханне + *транспарт*) — спосаб перамяшчэння ў транспартным трубаправодзе сумесі сыпкіх матэрыялаў з паветрам, а таксама кантэйнераў з грузам.

**ПНЕЎМА́ТЫК** (гр. pneumatikos = паветраны) — 1) прыстасаванне для сціскання і разрэджвання паветра; 2) напоўненая паветрам шына.

**ПНЕЎМА́ТЫКА** (гр. pneumatikos = паветраны) — 1) раздзел *фізікі*, які вывучае газападобныя целы; 2) пнеўматычная аўтаматыка.

**ПНЕЎМАТЫ́ЧНЫ** (гр. pneumatikos = паветраны) — 1) які дзейнічае пры дапамозе сціснутага паветра; 2) які мае адносіны да *пнеўматыкі*.

**ПНЕЎМАЭКТАМІ́Я** (ад гр. pneumon = лёгкія + ektome = выразанне) — поўнае выразанне аднаго лёгкага пры злаякаснай пухліне, *бронхаэктазіі* і іншых хваробах.

**ПНЕЎМАЭНЦЭФАЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. pneuma = дыханне + *энцэфалаграфія*) — энцэфалаграфія з увядзеннем паветра ў мяшочкі галаўнога мозгу.

**ПНЕЎМЕРКА́ТАР** [ад *пнеў(матычны)* + ням. merken = адзначаць] — апарат для дыстанцыйнага вызначэння ўзроўню вадкасці ў катлах, цыстэрнах, адсеках суднаў і інш.

**ПНЕЎМО́ГРАФ** (ад гр. pneuma = дыханне + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі дыхальных рухаў.

**ПНЕЎМО́НІКА** (ад гр. pneuma = дыханне) — напрамак у *пнеўмааўтаматыцы*, звязаны з выкарыстаннем эфектаў, што вынікаюць пры непасрэдным узаемадзеянні струменяў паветра або газу.

**ПОГАНАФО́РЫ** (н.-лац. pogonophora) — тып беспазваночных жывёл падраздзела другаснаротых, якія вядуць амаль нерухомы спосаб жыцця на дне мора.

**-ПОДЫ, -ПОДЫЙ** (гр. pus, podos = нага) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «канечнасць», «органы перамяшчэння».

**ПО́ДЫУМ, ПО́ДЫЙ** (лац. podium, ад гр. podion = памост, падвышэнне) — 1) узвышэнне ў старажытнарымскім цырку з крэсламі для імператара, сенатараў і іншых высокапастаўленых асоб; 2) узвышэнне для натуры ў скульптараў, мастакоў.

**ПО́ЗА** (фр. pose) — 1) пастава цела; 2) *перан.* прытворства, няшчырыя паводзіны (напр. фальшывая п.).

**ПОЙНТ** (англ. point) — пустацелы стальны цыліндр для адтайвання парай мёрзлых парод.

**ПО́ЙНТЭР** (англ. pointer, ад point = паказваць напрамак) — парода вялікіх паляўнічых сабак з кароткай гладкай поўсцю.

**ПО́КЕР** (англ. poker) — від гульні ў карты, у якой прымаюць удзел ад 2 да 6 асоб.

**ПО́ЛА** (англ. polo) — 1) спартыўная камандная гульня ў мяч клюшкамі верхам на конях; 2) тое, што і *ватэрпола*.

**ПОЛАКІУРЫ́Я** (ад гр. pollakis = часта + *-урыя*) — частае мочаспусканне, якое назіраецца пры хваляванні, цяжарнасці, некаторых хваробах.

**ПОЛІ-, ПАЛІ-** (гр. poly = многа) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «многа».

**ПОЛІАГРЭГА́ТНЫ** (ад *полі-* + *агрэгат*) — які складаецца з рэчываў, што знаходзяцца ў розных агрэгатных станах.

**ПОЛІАКРЫЛАНІТРЫ́Л** (ад *полі-* + *акрыланітрыл*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт *полімерызацыі* акрыланітрылу.

**ПОЛІАКРЫЛА́ТЫ** (ад *полі-* + *акрылаты*) — сінтэтычныя *палімеры*, прадукты *полімерызацыі* эфіраў акрылавай кіслаты.

**ПОЛІАЛЕФІ́НЫ** (ад *полі-* + *алефіны*) — сінтэтычныя *палімеры*, прадукты *полімерызацыі* алефінаў.

# П

**ПОЛІАМІ́ДЫ** (ад *полі-* + *аміды*) — сінтэтычныя *палімеры*, у якіх змяшчаюцца амідныя групы.

**ПОЛІАРТРЫ́Т** (ад *полі-* + *артрыт*) — адначасовае або паслядоўнае захворванне многіх суставаў.

**ПОЛІБАЗІ́Т** (ад *полі-* + гр. basis = аснова) — мінерал класа *сульфасолей* шаравата-чорнага колеру; руда серабра.

**ПОЛІБУТАДЫЕ́Н** (ад *полі-* + *бутадыен*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт *полімерызацыі* бутадыену.

**ПОЛІВАКЦЫ́НА** (ад *полі-* + *вакцына*) — медыцынскі прэпарат, які атрымліваецца з некалькіх мікробаў і здольны пры ўвядзенні ў арганізм выклікаць неўспрымальнасць да некалькіх хвароб.

**ПОЛІВІНІЛАЦЭТА́Т** (ад *полі-* + *вінілацэтат*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* вінілацэтату; выкарыстоўваецца для вырабу пластмас, лакаў, клею і інш.

**ПОЛІВІНІЛХЛАРЫ́Д** (ад *полі-* + *вінілхларыд*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* вінілхларыду; выкарыстоўваецца для вырабу труб, кранаў, вентыляў, хімічнай апаратуры і інш.

**ПОЛІВІТАМІ́НЫ** (ад *полі-* + *вітаміны*) — лекавы прэпарат, які з'яўляецца сумессю многіх вітамінаў.

**ПОЛІГАНА́ЛЬНЫ** (гр. polygonos) — многавугольны.

**ПОЛІГАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. polygonos = многавугольны + *-метрыя*) — метад вызначэння ўзаемнага становішча пунктаў зямной паверхні для пабудовы апорнай геадэзічнай сеткі шляхам вымярэння даўжынь прамых ліній, што звязваюць гэтыя пункты, і гарызантальных вуглоў паміж імі.

**ПОЛІГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *генетычны*); п-ыя паверхні — марфалагічна адзіныя паверхні выроўнівання, утвораныя ў розных сваіх частках рознымі, але ўзаемазвязанымі рэльефаўтваральнымі працэсамі.

**ПОЛІГЕНІ́ЗМ** (ад *полі-* + гр. genos = паходжанне) — тэорыя ў *антрапалогіі*, паводле якой розныя расы людзей паходзяць ад розных відаў і родаў малп, што развіліся незалежна адна ад адной у розных месцах Зямлі (проціл. *монагенізм*).

**ПОЛІГЕНІ́Я** (ад *полі-* + *-генія*) — тое, што і *полімерыя*.

**ПОЛІГІБРЫ́Д** (ад *полі-* + *гібрыд*) — гібрыд, атрыманы ад скрыжоўвання арганізмаў, якія адрозніваюцца адначасова адзін ад аднаго многімі прыкметамі (параўн. *монагібрыд*).

**ПОЛІГІНІ́Я** (ад *полі-* + *-гінія*) — мнагажонства, форма групавога шлюбу аднаго мужчыны з некалькімі жанчынамі; была распаўсюджана ў мусульманскіх краінах, Кітаі, Афрыцы і Акіяніі.

**ПОЛІГЛАБУЛІ́Я** (ад *полі-* + лац. globulus = шарык) — тое, што і *паліцытэмія*.

**ПОЛІГЛАНДУЛЯ́РНЫ** (ад *полі-* + лац. glandula = залоза) — многазалозісты.

**ПОЛІГЛЯЦЫЯЛІ́ЗМ** (ад *полі-* + лац. glacies = лёд) — гіпотэза шматразовасці покрыўных абледзяненняў у чацвярцічным (антра-

пагенавым) перыядзе (параўн. *монагляцыялізм*).

**ПОЛІДАКТЫЛІ́Я** (ад *полі-* + гр. daktylos = палец) — поўнае або частковае развіццё дадатковых пальцаў на руках або нагах як прыроджаны парок развіцця.

**ПОЛІДЫ́ПСІЯ** (гр. polydipsios = сасмаглы, бязводны) — смага пры цукровым *дыябеце* і некаторых іншых хваробах і звязанае з ёю залішняе ўжыванне вады.

**ПОЛІІЗАБУТЫЛЕ́Н** (ад *полі-* + *ізабутылен*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт *полімерызацыі* ізабутылену.

**ПОЛІІЗАПРЭ́Н** (ад *полі-* + *ізапрэн*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт *полімерызацыі* ізапрэну.

**ПОЛІКАНДЭНСА́ЦЫЯ** (ад *полі-* + *кандэнсацыя*) — метад сінтэзу *палімераў*, пры якім узаемадзеянне малекул *манамераў* суправаджаецца адшчапленнем простых рэчываў, напр. вады, спірту (параўн. *полімерызацыя*).

**ПОЛІКАПРАЛАКТА́М** (ад *полі-* + *капралактам*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт полімерызацыі капралактаму.

**ПОЛІКАРБАНА́ТЫ** (ад *полі-* + *карбанаты*) — сінтэтычныя *палімеры*, прадукты ўзаемадзеяння двухатамных *фенолаў* і вытворных вугальнай кіслаты.

**ПОЛІКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *полі-* + *кардыяграфія*) — урачэбны метад даследавання, які дае ўскосныя дадзеныя аб фазах механічнай сістэмы сэрца.

**ПОЛІКАРПІ́ЧНЫ** (ад *полі-* + гр. karpos = плод) — мнагаплодны; п-ыя расліны — расліны, якія цвітуць і пладаносяць многа разоў у сваім жыцці (параўн. *монакарпічны*).

**ПОЛІКРЫШТА́ЛЬ** (ад *полі-* + *крышталь*) — цвёрдае цела, якое складаецца з вялікай колькасці крышталічных зерняў, размешчаных хаатычна (параўн. *монакрышталь*).

**ПОЛІЛІНГВІ́ЗМ** (ад *полі-* + лац. lingua = мова) — шматмоўе.

**ПОЛІМАГІСТРА́ЛЬ** (ад *полі-* + *магістраль*) — пучок паралельных або амаль паралельных ліній аднаго або некалькіх відаў транспарту паміж аднымі і тымі ж раёнамі і вузлавымі цэнтрамі.

**ПОЛІМАРФІ́ЗМ** (ад *полі-* + *-марфізм*) — 1) здольнасць аднаго і таго ж рэчыва крышталізавацца ў розных формах (параўн. таксама *дымарфізм* 1); 2) наяўнасць у межах аднаго віду раслін або жывёл асобін, якія рэзка адрозніваюцца паміж сабой (параўн. таксама *дымарфізм* 2).

**ПОЛІМАРФІ́ЧНЫ** (гр. polymorphos) — тое, што і *паліморфны*.

**ПОЛІМАСТЫ́Я** (ад *полі-* + гр. mastos = сасок) — наяўнасць у жывёлы або чалавека лішніх пар саскоў як прыроджаная загана развіцця.

**ПОЛІМЕРАНА́ЛАГІ** (ад *палімеры* + *аналаг*) — высокамалекулярныя злучэнні, у якіх пры хімічнымператварэнні не адбываецца змены ступені *полімерызацыі* або структуры асноўнага ланцуга.

**ПОЛІМЕРБЕТО́Н** (ад *палімеры* + *бетон*) — бетон, у якім вяжучым рэчывам з'яўляецца сінтэтычны палімер.

**ПОЛІМЕРГАМО́ЛАГІ** (ад *палімеры* + гр. homologos = адпавед-

ны) — высокамалекулярныя злучэнні, *макрамалекулы* якіх пабудаваны з аднолькавых груп атамаў і адрозніваюцца ступенню *полімерызацыі*.

**ПОЛІМЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. polymeres = разнастайны) — утварэнне высокамалекулярных злучэнняў (*палімераў*) з нізкамалекулярных злучэнняў (*манамераў*) без адшчаплення простых рэчываў (параўн. *полікандэнсацыя*).

**ПОЛІМЕРЫ́Я** (гр. polymeria = наяўнасць многіх частак) — 1) наяўнасць двух або больш рэчываў аднолькавага працэнтнага складу хімічных элементаў, але розных па малекулярнай масе; 2) з'ява ўзаемадзеяння розных *генаў*, якія ўплываюць на развіццё той самай прыметы ў адным напрамку.

**ПОЛІМЕТАЛІ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *металы*) — які складаецца з некалькіх металаў (напр. п-ыя руды).

**ПОЛІМЕТРЫ́Я** (ад гр. polymetros = колькасны) — 1) спалучэнне ў адным паэтычным творы частак, напісаных рознымі памерамі; 2) адначасовае аб'яднанне ў музычным творы двух і больш розных тактавых памераў.

**ПОЛІМЕТЫЛЕ́НЫ** (ад *полі-* + *метылен*) — тое, што і *нафтэны*.

**ПОЛІМЕТЫЛМЕТАКРЫЛА́Т** (ад *полі-* + *метылметакрылат*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт *полімерызацыі* метылавага эфіру метакрылавай кіслаты.

**ПОЛІНАМІНА́ЛЬНЫ** (ад *полі-* + лац. nomen = імя); п - а я а к р у г а — выбарчая акруга, ад якой выбіраецца некалькі дэпутатаў.

**ПОЛІНЕЎРЫ́Т** (ад *полі-* + *неўрыт*) — паражэнне перыферычных нерваў.

**ПОЛІНУКЛЕАТЫ́ДЫ** (ад *полі-* + *нуклеатыды*) — палімерныя арганічныя злучэнні, якія ўтвораны рэшткамі *манануклеатыдаў*.

**ПОЛІПЕПТЫ́ДЫ** (ад *полі-* + *пептыды*) — *палімеры*, якія складаюцца з рэштак амінакіслот.

**ПОЛІПЛАІДЫ́Я** (ад гр. polyploos = многаразовы + eidos = выгляд) — павелічэнне колькасці *храмасом* у ядрах раслінных і жывёльных арганізмаў у два і больш разоў параўнальна з нормай; трапляецца ў зонах з крайнімі для жыцця ўмовамі, напр. у Антарктыцы, пустынях, на высакагор'ях.

**ПОЛІПРАГМАЗІ́Я** (ад *полі-* + гр. pragma = прадмет, рэч) — адначасовае назначэнне хвораму многіх лекавых рэчываў або лячэбных працэдур.

**ПОЛІПРАПІЛЕ́Н** (ад *полі-* + *прапілен*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* прапілену; выкарыстоўваецца для вырабу валокнаў, плёнкі, пасуды, труб і інш.

**ПОЛІРЫТМІ́Я** (ад *полі-* + *рытм*) — адначасовае спалучэнне ў музычным творы двух ці некалькіх рытмаў.

**ПО́ЛІС** [1] (фр. police, ад іт. polizza = распіска, квітанцыя) — дакумент аб страхаванні жыцця, маёмасці і г.д. (страхавы п.).

**ПО́ЛІС** [2] (гр. polis) — горад-дзяржава як асобая форма сацыяльна-эканамічнай і палітычнай арганізацыі, тыповая для Стараж. Грэцыі.

**ПОЛІСАПРО́БЫ** (ад *полі-* + гр. sapros = гнілы + bios = жыццё) —

раслінныя і жывёльныя арганізмы, якія жывуць у вадаёмах, моцна забруджаных арганічнымі рэчывамі.

**ПОЛІСЕМАНТЫ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *семантычны*) — *лінгв.* які мае некалькі значэнняў, мнагазначны.

**ПОЛІСЕМІ́Я** (ад *полі-* + гр. sema = знак) — *лінгв.* наяўнасць у аднаго слова некалькіх значэнняў, мнагазначнасць (проціл. *монасемія).*

**ПОЛІСЕРАЗІ́Т** (ад *полі-* + гр. serum = сываратка) — запаленне серозных абалонак, якія высцілаюць вялікія поласці арганізма.

**ПОЛІСІЛАГІ́ЗМ** (ад *полі-* + *сілагізм*) — мнагачленны сілагізм, атрыманы шляхам злучэння двух або больш сілагізмаў, якія характарызуецца тым, што вывад кожнага з гэтых сілагізмаў з'яўляецца адначасова пасылкай сілагізма наступнага.

**ПОЛІСІЛАКСА́НЫ** (ад *полі-* + лац. silicium = крэмній + гр. oksys = кіслы) — высокамалекулярныя злучэнні, якія змяшчаюць ланцугі з атамаў крэмнію і кіслароду.

**ПОЛІСІ́НДЭТАН** (гр. polysyndeton) — фігура паэтычнай мовы, якая заключаецца ў паўтарэнні злучнікаў; шматзлучнікавасць.

**ПОЛІСІНТЭТЫ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *сінтэтычны*) — якому ўласціва ўтварэнне складаных слоў-сказаў шляхам складання асноў асобных слоў (пра мовы).

**ПОЛІСПЕРМІ́Я** (ад *полі-* + *сперма*) — пранікненне ў яйцаклетку пры запладненні некалькіх *сперматазоідаў* (параўн. *монаспермія*).

**ПОЛІСТАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. polystomatidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *монагеней*; паразіты земнаводных, паўзуноў і бегемотаў.

**ПОЛІСТРАФІ́ЧНАСЦЬ** (ад *полі-* + *страфа*) — паслядоўнае або адвольнае чаргаванне ў вершаваным творы розных строф, графічна аддзеленых адна ад адной.

**ПОЛІСТЫРО́Л** (ад *полі-* + *стырол*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* стыролу; служыць для атрымання пластмас, якія выкарыстоўваюцца ў электратэхніцы, будаўніцтве, для вырабу лінз, лакаў, плёнак і інш.

**ПОЛІСУЛЬФІ́ДЫ** (ад *полі-* + *сульфіды*) — злучэнні серы з металамі.

**ПОЛІТАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *полі-* + *танальнасць*) — адначасовае гучанне некалькіх танальнасцей або іх акордаў у музычным творы.

**ПОЛІТАНА́ЛЬНЫ** (ад *полі-* + *танальны*); п - а я м у з ы к а — музыка, пабудаваная на адпаведным спалучэнні розных танальнасцей.

**ПОЛІТАНІ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *танічны*); п. н а ц і с к — націск, пры якім розніца ў вышыні асноўнага тону голаса або павышэнні і паніжэнні яго на працягу склада з'яўляецца фаналагічна значным.

**ПОЛІТРАПІ́ЧНЫ** (ад *полі-* + гр. tropos = паварот); п. п р а ц э с — абарачальны цеплавы працэс у газе.

**ПОЛІТЫПА́Ж** (фр. polytypage, ад гр. polys = колькасны + typos = адбітак) — друкарская форма для прыгатавання кніжных і часопісных упрыгожанняў (заставак, канцовак і інш.).

**ПОЛІТЭІ́ЗМ** (фр. polytheisme, ад гр. poly = многа + theos = бог) —

рэлігія, якая прызнае існаванне многіх багоў; мнагабожжа (проціл. *манатэізм*).

**ПОЛІТЭЛІ́Я** (ад *полі-* + гр. phele = сасок) — павялічаная колькасць саскоў малочнай залозы як дэфект развіцця.

**ПОЛІТЭМАТЫ́ЗМ** (ад *полі-* + *тэма*) — пабудова музычнага твора шляхам аб'яднання некалькіх тэм (параўн. *манатэматызм*).

**ПОЛІТЭНІ́Я** (ад *полі-* + лац. taenia = стужка) — наяўнасць у ядрах некаторых саматычных клетак гіганцкіх мнаганітачных *храмасом*.

**ПОЛІТЭХНІ́ЗМ** (ад *полі-* + гр. techne = майстэрства) — сістэма навучання, пры якой тэарэтычна і практычна знаёмяцца з асноўнымі галінамі вытворчасці.

**ПОЛІТЭХНІ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *тэхніка*) — 1) звязаны з вывучэннем і прымяненнем розных галін тэхнікі (напр. п. інстытут); 2) заснаваны на *політэхнізме* (напр. п-ае навучанне).

**ПОЛІУРЫ́Я** (н.-лац. polyuria; ад гр. poly = многа + uron = мача) — *мед.* празмернае выдзяленне мачы з арганізма.

**ПОЛІУРЭТА́НЫ** (ад *полі-* + *урэтаны*) — высокамалекулярныя злучэнні, прадукты полімерызацыі урэтанаў; прымяняюцца для вырабу каўчуку, клею, плёнкі і інш.

**ПОЛІФАНІ́ЧНЫ** (гр. polyphonos) — які мае адносіны да *паліфаніі*; многагалосы.

**ПОЛІФАНІ́Я** (гр. polyphonia) — від многагалосся ў музыцы, заснаваны на адначасовым гучанні некалькіх мелодый у вакальным або інструментальным творы (параўн. *гамафонія, гетэрафонія*).

**ПОЛІФАРМАЛЬДЭГІ́Д** (ад *полі-* + *фармальдэгід*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* фармальдэгіду; прымяняецца для вырабу шасцерань, дэталей аўтамабіляў, плёнкі і інш.

**ПОЛІФІЛІ́Я** (ад *полі-* + гр. phylon = род) — паходжанне групы арганізмаў ад многіх продкаў у выніку *канвергенцыі* (параўн. *монафілія*).

**ПОЛІФІЯДО́НТНАСЦЬ** (ад *полі-* + гр. phylon = род + odus, odontos = зуб) — многаразавая замена зубоў пасля зношвання (у рыб).

**ПОЛІФУРКА́ЦЫЯ** (ад *полі-* + *фуркацыя*) — падзел старшых класаў сярэдняй школы на тры і больш патокі, напрамкі ў навучанні (напр. на фізіка-матэматычны, біялагічны, гуманітарны і інш.) (параўн. *біфуркацыя* 3).

**ПОЛІХРАІ́ЗМ** (ад гр. polychroos = многакаляровы) — уласцівасць мінералаў мяняць афарбоўку пры звычайным асвятленні ў залежнасці ад напрамку падзення прамянёў.

**ПОЛІХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *полі-* + *храматычны*) — уласцівы *паліхроміі*; шматколерны (параўн. *монахраматычны*).

**ПОЛІЦУКРЫ́ДЫ** (ад *полі-* + *цукрыды*) — складаныя вугляводы, якія пры *гідролізе* распадаюцца на вялікую колькасць *монацукрыдаў*; да поліцукрыдаў належаць *крухмал, цэлюлоза* і інш.

**ПОЛІЦЫТЭМІ́Я** (ад *полі-* + гр. kytos = клетка + *-эмія*) — хранічнае захворванне крывятворнай сістэмы чалавека з павышэннем колькасці *эрытрацытаў* у крыві.

**ПОЛІЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *полі-* + *цэнтр*) — 1) тэорыя ў *антрапалогіі*, паводле якой людскія расы паходзяць ад розных форм выкапнёвага чалавека ў некалькіх раёнах зямнога шара (проціл. *монацэнтрызм*); 2) наяўнасць у сістэме міжнародных адносін некалькіх цэнтраў, узаемаадносіны паміж якімі вызначаюць развіццё сусветнай палітыкі.

**ПОЛІЭДРЫЕ́ЛА** (н.-лац. polyedriella) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая пашырана ў азёрах, балотах, невялікіх затарфаваных вадаёмах, у глебе.

**ПОЛІЭКРА́Н** (ад *полі-* + *экран*) — метад дэманстрацыі адначасова на некалькіх экранах, размешчаных побач, тэматычна звязаных кінастужак.

**ПОЛІЭЛЕКТРАЛІ́ТЫ** (ад *полі-* + *электраліты*) — *палімеры*, у склад макрамалекул якіх уваходзяць групы, здольныя да *іанізацыі* ў растворы (бялкі, нуклеінавыя кіслоты і інш.).

**ПОЛІЭМБРЫЯНІ́Я** (ад *полі-* + *эмбрыён*) — утварэнне некалькіх зародкаў з адной яйцаклеткі ў жывёлы, чалавека і ў адным семені ў расліны.

**ПОЛІЭТЫЛЕ́Н** (ад *полі-* + *этылен*) — высокамалекулярнае злучэнне, прадукт *полімерызацыі* этылену, які выкарыстоўваецца як электраізаляцыйны матэрыял і для вытворчасці пластмас, плёнак, труб і інш.

**ПОЛІЭТЫЛЕНАКСІ́Д** (ад *полі-этылен* + *аксіды*) — *палімер* з вокісу этылену.

**ПОЛІЭФІ́РЫ** (ад *полі-* + *эфіры*) — сінтэтычныя *палімеры*, прадукты *полікандэнсацыі* многаасноўных кіслот або іх *ангідрыдаў* з многаатамнымі спіртамі.

**ПО́ЛІЯ** (н.-лац. pohlia) — ліістасцябловы мох сям. брыевых, які расце на вільготнай глiністай глебе, схілах, гнілой драўніне.

**ПОЛІЯМІЭЛІ́Т** (ад гр. polios = шэры + myelos = касцявы мозг) — эпідэмічны дзіцячы *параліч*, вострая вірусная хвароба, абумоўленая пашкоджаннем пераважна шэрага рэчыва спіннога мозгу.

**ПОЛІЯНІ́Т** (ад гр. polios = шэры) — мінерал, крышталічная разнавіднасць *марганцу*.

**ПОЛІЯЭНЦЭФАЛІ́Т** (ад гр. polios = шэры + *энцэфаліт*) — хвароба, якая характарызуецца запаленнем і перараджэннем шэрага рэчыва галаўнога мозгу.

**ПОЛЬ** (англ. pole) — тое, што і *род*.

**ПО́ЛЬДЭР** (гал. polder) — адгароджаны ад мора, возера або ракі дамбай, асушаны і апрацаваны нізінны ўчастак пабярэжжа.

**ПО́ЛЬКА** (чэш. polka) — *танец* у хуткім тэмпе, а таксама музыка да гэтага танца.

**ПО́ЛЮС** (лац. polus, ад гр. polos = вось) — 1) пункт перасячэння ўяўнай восі вярчэння Зямлі з зямной паверхняй (напр. паўночны п., паўднёвы п.); 2) адзін з двух процілеглых канцоў электрычнага ланцуга або магніта (напр. дадатны п., адмоўны п.); 3) месца найбольшага праяўлення чаго-н. (напр. п. холаду); 4) *перан.* што-н. зусім процілеглае іншаму.

# П

**ПО́МПА** [1] (польск. pompa, ад фр. pompe) — насос для падачы кудын. або адкачвання вадкасці, газаў (напр. пажарная п.).

**ПО́МПА** [2] (польск. pompa, ад лац. pompa) — знешняя, паказная пышнасць (напр. рабіць што-н. з помпай).

**ПО́НІ** (англ. pony) — конь нізкарослай пароды, выведзены ў Англіі; выкарыстоўваецца ў парках для катання дзяцей.

**-ПОНІКА** (гр. ponikos = працоўны, працавіты) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «праца».

**ПОНТАПАРЭ́Я** (н.-лац. pontoporeia) — рачок атрада ракападобных; пашыраны ў вадаёмах на поўначы Еўразіі і Паўн. Амерыкі.

**ПО́НЧА** (ісп. poncho) — індзейскі чатырохвугольны плашч з грубай тканіны з выразам пасярэдзіне для галавы.

**ПО́НЧЫК** (польск. pączek) — круглы смажаны ў тлушчы піражок.

**ПОП-А́РТ** (англ. pop-art, ад popular art = папулярнае мастацтва) — фармалістычная мастацкая плынь, якая ўзнікла ў другой пал. 20 ст. у ЗША і Англіі; прадстаўнікі гэтай плыні выкарыстоўваюць стыль *рэклам* і *коміксаў*.

**-ПОР** (гр. poros = праход, адтуліна) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «адтуліна», «праход».

**ПОРАСКАПІ́Я** (ад *поры-* + *-скапія*) — вывучэнне памераў, канфігурацыі і размяшчэння пор скуры чалавека ў *крыміналістыцы*.

**ПОРТ** [1] (фр. port, ад лац. portus) — 1) спецыяльна абсталяванае месца для стаянкі, пагрузкі, разгрузкі і рамонту суднаў; 2) партовы горад.

**ПОРТ** [2] (англ. port, port-hole) — адтуліна ў борце судна для гарматных стваловў у даўніх ваенных суднах або для пагрузачна-разгрузачных работ у транспартных суднах.

**ПО́РТА** (іт. porto) — паштова-тэлеграфныя расходы, якія аплачваюцца заказчыкамі, кліентамі.

**ПО́РТА-ФРА́НКА** (іт. porto franco = свабодны порт) — порт, горад або прыморскі раён, у межах якога ўвоз і вываз замежных тавараў робіцца без аплаты пошлін.

**ПОРТЛАНДЦЭМЕ́НТ** (ад англ. Portland = назва паўвострава ў Англіі + *цэмент*) — самы пашыраны від цэменту, які складаецца ў асноўным з *сілікатаў* кальцыю.

**ПО́РТЭР** (англ. porter) — гатунак моцнага і гаркаватага чорнага піва.

**ПО́РЦІК** (лац. porticus) — крытая *галерэя* з калонамі, звычайна пры ўваходзе ў будынак (параўн. *лоджыя, перыстыль*).

**ПО́РЦЫЯ** (польск. porcja, ад лац. portio = частка) — 1) пэўная колькасць чаго-н., якая прызначаецца па норме (напр. п. вады, п. корму); 2) страва або напітак, разлічаныя на аднаго чалавека ў рэстаране ці сталовай (напр. п. кашы, п. марожанага).

**ПО́РЫ** (гр. poros = адтуліна) — 1) вельмі дробныя адтуліны потавых залоз на паверхні скуры чалавека і жывёл; 2) прамежкі паміж часцінкамі рэчыва.

**ПОСТ** (фр. poste, ад лац. positus = пастаўлены) — 1) аб'ект, які ахоў-

ваецца і абараняецца вартавым; 2) салдат або невялікі вайсковы падраздзел, пастаўлены для аховы чаго-н., назірання за чым-н.; 3) *перан.* адказная пасада.

**ПОСТ-** (лац. post = пасля) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «пасля», «пазней».

**ПОСТАДАПТА́ЦЫЯ** (ад *пост-* + *адаптацыя*) — працэс удасканалення існуючых прыстасаванняў будовы і функцый у раслінных і жывёльных арганізмаў да ўмоў знешняга асяроддзя.

**ПОСТАДЫПЛАСТАМАТО́З** (ад *постадыпластома*) — глісная хвароба рыб, якая выклікаецца лічынкамі постадыпластомы.

**ПОСТАДЫПЛАСТО́МА** (н.-лац. posthodiplostomum) — *гельмінт* сям. *дыпластаматыдаў*, які паразітуе ў арганізме рыб (карпа, таўсталобікаў, сазана, ляшча і інш.).

**ПОСТІМПРЭСІЯНІ́ЗМ** (ад *пост-* + *імпрэсіянізм*) — умоўная назва кірунку, які прыйшоў на змену імпрэсіянізму ў мастацтве канца 19—пач. 20 ст.; прадстаўнікі яго, у адрозненне ад імпрэсіяністаў, імкнуліся стварыць больш умоўны, але ў той жа час і больш шырокі і цэласны вобраз свету.

**ПОСТКАНСТРУКТЫВІ́ЗМ** (ад *пост-* + *канструктывізм*) — фармалістычны кірунак у мастацтве і архітэктуры 20 ст., які развівае ідэі канструктывізму.

**ПОСТКРАНІЯ́ЛЬНЫ** (ад *пост-* + лац. cranium = чэрап) — *анат.* размешчаны ззаду чэрапа.

**ПОСТЛАРВА́ЛЬНЫ** (ад *пост-* + лац. larva = лічынка) — пасялічынкавы, які ўтвараецца пры пераўтварэнні лічынкі ў дарослую форму.

**ПОСТЛЮ́ДЫЯ** (ад *пост-* + лац. ludo = іграю) — раздзел музычнага твора, звычайна інструментальнае заканчэнне раманса, песні.

**ПОСТНАТА́ЛЬНЫ** (ад *пост-* + лац. natalis = які адносіцца да нараджэння) — які адносіцца да перыяду пасля родаў (напр. п-ае захворванне дзіцяці).

**ПОСТПАЗІ́ЦЫЯ** (ад *пост-* + *пазіцыя*) — *лінгв.* становішча слова або сказа пасля іншага слова або сказа, звязанага з ім (параўн. *прэпазіцыя*).

**ПОСТПАКЕ́Т** (ням. Postpaket, ад Post = пошта + Paket = пакунак) — цюк з пісьмамі, адрасаванымі ў адзін пункт.

**ПО́СТФІКСЫ** (ад *пост-* + лац. fixus = прымацаваны) — *лінгв.* суфіксы і канчаткі, якія стаяць у слове пасля кораня.

**ПОСТЭМБРЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад *пост-* + *эмбрыянальны*) — які мае адносіны да часу пасля вызвалення арганізма ад яйцавых і зародкавых абалонак; паслязародкавы.

**ПО́ТЫЯ** (н.-лац. pottia) — лістасцябловы мох сям. потыевых, які расце на вільготных палях, схілах, агаленнях глебы.

**ПО́ШТА** (ням. Post < іт. posta, ад лац. postus = пастаўлены) — 1) установа, якая займаецца перасылкай пісем, пасылак, грошай, газет і інш., а таксама памяшканне, дзе знаходзіцца гэта ўстанова; 2) перасылка, дастаўка чаго-н. з дапамогай гэтай установы (напр. адправіць пасылку поштай); 3) тое, што дастаўлена гэтай установай (пісьмы, газеты і інш.).

# П

**ПРАБАБІЛІ́ЗМ** (ад лац. probabilis = імаверны) — 1) філасофская канцэпцыя, прыхільнікі якой сцвярджаюць, нібы чалавек не можа здабыць цалкам дакладных ведаў і павінен задавальняцца верагоднымі, праўдападобнымі; 2) казуістычнае вучэнне езуітаў, якое апраўдвала ўсякія паводзіны, абы толькі яны не былі асуджаны царквою.

**ПРАБА́НД** (ням. Proband) — зыходная асоба ў *генеалогіі* пэўнага роду.

**ПРАБА́ЦЫЯ** (лац. probatio = праверка) — *юр.* умоўнае асуджэнне ў шэрагу краін.

**ПРАБІ́РАВАЦЬ** (ням. probieren = прабаваць) — 1) вызначаць колькасць металу ў рудах, сплавах; 2) ставіць *пробу* на залатыя, плацінавыя і сярэбраныя вырабы.

**ПРАБЛЕ́МА** (гр. problema = задача) — 1) тэарэтычнае або практычнае пытанне, задача, якія патрабуюць вырашэння, даследавання (напр. п. асваення космасу, п. выхавання); 2) нешта цяжка вырашальнае (напр. дамашняя п.).

**ПРАБЛЕМА́ТЫКА** (гр. problematikos = які датычыць пытанняў) — сукупнасць *праблем.*

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНЫ** (гр. problematikos = які датычыць пытанняў) — магчымы, але не даказаны; няпэўны; п - а е с у д ж э н н е — суджэнне, якое выражае магчымасць або верагоднасць сцвярджэння, але не яго бясспрэчную неабходнасць.

**ПРАВАКАВА́ЦЬ** (лац. provocare) — 1) падбухторваць каго-н. да дзеянняў, якія могуць прывесці да цяжкіх вынікаў; 2) штучна выклікаць якія-н. праяўленні хваробы, напр. прыступ малярыі.

**ПРАВАКА́ТАР** (лац. provocator = які кідае выклік) — 1) тайны *агент*, які дзейнічае шляхам *правакацыі*; 2) асоба, якая падбухторвае да чаго-н. са здрадніцкімі мэтамі.

**ПРАВАКА́ЦЫЯ** (лац. provocatio = выклік) — 1) здрадніцкае падбухторванне каго-н. да дзеянняў, якія могуць прывесці да цяжкіх вынікаў (напр. ваенная п.); 2) штучнае выклікание якіх-н. праяў хваробы.

**ПРАВЕРБІЯ́ЛЬНЫ** (лац. proverbialis, ад proverbium = прыказка) — які ўвайшоў у прыказку, пагаворку.

**ПРАВІДЭНЦЫЯЛІ́ЗМ** (ад лац. providentia = прадбачанне) — рэлігійна-ідэалістычны погляд, які тлумачыць ход гістарычных з'яў не іх унутранай заканамернасцю, а вышэйшай (боскай) воляй.

**ПРАВІ́ЗАР** (лац. provisor = які забяспечвае, прадбачыць) — аптэкар, *фармацэўт* вышэйшай кваліфікацыі, які мае вышэйшую фармацэўтычную адукацыю.

**ПРАВІ́ЗІЯ** (лац. provisio = прадбачлівасць) — прадукты харчавання.

**ПРАВІЗО́РНЫ** (ням. provisorisch, ад лац. provisor = які прадбачыць) — 1) папярэдні, не канчатковы (напр. п-ае рашэнне); 2) часовы (напр. п-ыя меры); п - ы я о р г а н ы — органы ў зародкаў і лічынак мнагаклетачных жывёл, якія знікаюць у працэсе іх далейшага развіцця, напр. жабры лічынак насякомых.

**ПРАВІ́НЦЫЯ** (польск. prowincja, ад лац. provincia) — 1) заваяваная старажытнымі рымлянамі тэрыторыя; 2) мясцовасць, аддаленая ад сталіцы ці культурнага цэнтра, перыферыя; 3) адзінка адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў некаторых краінах, напр. у Італіі, Іспаніі.

**ПРАВІНЦЫЯ́Л** (польск. prowincjał, ад лац. provoncialis = які датычыць правінцыі) — чалавек з поглядамі, прывычкамі, уласцівымі жыхарам правінцыі, а таксама чалавек з абмежаванымі інтарэсамі, адсталымі поглядамі.

**ПРАВІНЦЫЯЛІ́ЗМ** (ад лац. provincialis = правінцыяльны) — 1) *уст.* погляды і манеры, звязаныя з жыццём у глухой мясцовасці, правінцыі; 2) слова або выраз, уласцівыя абласной, а не літаратурнай мове.

**ПРАВІНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. provincialis) — 1) які знаходзіцца ў *правінцыі* (напр. п. гарадок); 2) абмежаваны ў сваіх поглядах.

**ПРАВІТАМІ́НЫ** (ад лац. pro = для + *вітаміны*) — рэчывы, з якіх у арганізме чалавека і жывёл могуць утварацца вітаміны.

**ПРАВІЯ́НТ** (ням. Proviant, ад с.-лац. provenda) — прадукты для арміі, экспедыцыі і інш.

**ПРАГЕНІ́Я** (ад гр. pro = наперад + geneion = падбародак) — няправільны прыкус у чалавека, выкліканы празмерным развіццём ніжняй сківіцы.

**ПРАГЕСТЭРО́Н** (ад лац. pro = раней + gestatio = цяжарнасць) — жаночы палавы *гармон* пазваночных жывёл і чалавека, які ўтвараецца ў жоўтым целе яечніка і рэгулюе абмен рэчываў у арганізме ў час цяжарнасці.

**ПРАГІБІЦЫЯНІ́СТЫ** (лац. prohibitio, -tionis = забарона) — прыхільнікі забароны гандляваць пэўнымі таварамі, напр. спіртнымі напіткамі.

**ПРАГІМНА́ЗІЯ** (ад лац. pro = замест + *гімназія*) — мужчынская або жаночая чатырохкласная навучальная ўстанова, якая адпавядала чатыром малодшым класам гімназіі, у царскай Расіі (з 1864 г.).

**ПРАГМАТЫ́ЗМ** (рус. прагматизм, ад гр. pragma, -atos = дзеянне, практыка) — 1) напрамак у філасофіі, які адмаўляе неабходнасць пазнання аб'ектыўных законаў і прызнае ісцінай толькі тое, што дае карысныя вынікі; узнік у канцы 19 ст. у ЗША; 2) кірунак у гістарычнай навуцы, які абмяжоўваецца перадачай падзей у іх знешняй сувязі і паслядоўнасці без раскрыцця аб'ектыўных законаў гістарычнага развіцця; 3) дзейнасць людзей, якія кіруюцца непасрэднай выгадай і адмаўляюць каштоўнасці, маральнае значэнне дзейнасці.

**ПРАГМА́ТЫК** (гр. pragmatikos = дзелавы) — паслядоўнік *прагматызму* як філасофскай сістэмы.

**ПРАГМА́ТЫКА** (гр. pragmatikos = дзелавы) — 1) раздзел *семіётыкі*, які даследуе разуменне знака пазнаючым суб'ектам; 2) вучэнне пра дзейнасць, практыку.

**ПРАГМАТЫ́ЧНЫ** (гр. pragmatikos) — 1) уласцівы *прагматызму*; 2) які мае практычнае прымяненне.

**ПРАГНАЗІ́РАВАЦЬ** (ад гр. prognosis = прадбачанне) — састаўляць *прагноз* будучага стану розных

з'яў (прыродных, грамадскіх і інш.).

**ПРАГНАТЫ́ЗМ** (ад гр. pro = наперад + gnathos = сківіца) — *антр.* выступанне сківіц уперад.

**ПРАГНАТЫ́Я** (ад гр. pro = наперад + gnathos = сківіца) — няправільны прыкус у чалавека, выкліканы празмерным развіццём верхняй сківіцы.

**ПРАГНО́З** (гр. prognosis) — прадбачанне, прадказанне аб будучым развіцці і выніках якіх-н. падзей на аснове пэўных дадзеных (напр. п. надвор'я).

**ПРАГНО́СТЫКА** (гр. prognostikos = які прадбачыць) — спосабы складання *прагнозаў*.

**ПРАГРА́МА** (гр. programma = аб'ява, распараджэнне) — 1) план прадстаячай дзейнасці, работ, мерапрыемстваў; 2) дакумент, у якім выкладзены асноўныя задачы і мэты дзейнасці палітычнай партыі, арганізацыі, асобнага дзеяча; 3) план правядзення свята, канцэрта, схода, а таксама пералік нумароў, якія выконваюцца; 4) кароткі змест курса таго ці іншага прадмета, які вывучаецца ў навучальнай установе; 5) апісанне алгарытма рашэння задачы для работы электронна-вылічальнай машыны.

**ПРАГРА́МА-ДЫСПЕ́ТЧАР** (ад *праграма* + *дыспетчар*) — план дзеянняў, якім прадугледжваецца арганізацыя функцыяніравання і кіравання сукупнасцю устройстваў электронна-вылічальнай машыны або сістэмы такіх машын.

**ПРАГРАМІ́РАВАННЕ** (ад *праграма*) — складанне праграм рашэння матэматычных і інфармацыйна-лагічных задач на электронна-вылічальных машынах.

**ПРАГРЭ́С** (польск. progres, ад лац. progressus) — 1) паступальны рух наперад, пераход на больш высокую ступень у развіцці (напр. п. навукі, тэхнічны п.); проціл. *рэгрэс*; 2) змяненне да лепшага ў працэсе хваробы, у якой-н. рабоце і г.д.

**ПРАГРЭ́СІЯ** (лац. progressio = рух наперад) — рад лікаў, якія паслядоўна павялічваюцца або памяншаюцца так, што розніца або адносіны паміж суседнімі лікамі з'яўляюцца велічынёй пастаяннай (напр. арыфметычная п., геаметрычная п.).

**ПРАДЗЮ́САР** (англ. producer, ад лац. producere = вырабляць) — уладальнік *кінастудыі*, даверaная асоба кінакампаніі ў радзе краін, якая ажыццяўляе ідэйна-мастацкі і арганізацыйна-фінансавы кантроль над пастаноўкай фільмаў.

**ПРАДМЕ́СЦЕ** (польск. przedmieście) — назва прыгарада, якая ўжываецца на Беларусі з 16 ст.

**ПРАДРАМА́ЛЬНЫ** (ад *прадром*); п. п е р ы я д — пачатковы перыяд хваробы, калі з'яўляюцца яе прыметы-прадвеснікі (прадромы).

**ПРАДРО́М** (гр. prodromos = папярэднік) — *мед.* прымета-прадвеснік хваробы.

**ПРАДУ́КТ** (лац. productus = выраблены) — 1) тое, што атрымліваецца ў выніку працы чалавека (фізічнай, разумовай); 2) *мн.* харчы; 3) *перан.* вынік, рэзультат чаго-н. (напр. класы — п. развіцця грамадства).

**ПРАДУКТЫ́ЎНЫ** (лац. productivus) — 1) плённы; здольны ствараць нешта каштоўнае; 2) здольны

ўтвараць новыя словы (напр. п. суфікс).

**ПРАДУ́КЦЫЯ** (лац. productio) — 1) сукупнасць прадуктаў вытворчасці краіны, галіны прамысловасці, адной асобы за пэўны час, а таксама самі прадукты вытворчасці; 2) вынікі працы ў галіне навукі, літаратуры, мастацтва, увогуле прадукты разумовай дзейнасці.

**ПРАДУЦЭ́НТ** (лац. producens, -ntis = які вырабляе) — 1) краіна, якая вырабляе пэўны тавар; 2) арганізм, здольны ўтвараць арганічныя рэчывы з неарганічных.

**ПРАЕ́КТ** (лац. proiectus = кінуты наперад) — 1) распрацаваны план стварэння чаго-н. (напр. п. самалёта, п. гідратурбіны); 2) папярэдні тэкст якога-н. дакумента (напр. п. закона); 3) задума, план.

**ПРАЕ́КТАР** (лац. proiector) — 1) аптычны апарат, які дае павялічанае адлюстраванне на экране малюнкаў або фотаздымкаў; 2) аптычная прылада для вымярэння лінейных і вуглавых памераў інструментаў, дэталей машын і інш.

**ПРАЕ́КЦЫЯ** (лац. proiectio = кіданне наперад) — 1) перадача прасторавых фігур на плоскасці; 2) павялічанае адлюстраванне чаго-н. на экране, атрыманае аптычным спосабам.

**ПРАЖЭ́КТ** (фр. project, ад лац. proiectus = кінуты наперад) — непрыгодны, надуманы *праект*.

**ПРАЖЭ́КТАР** (англ. projector, ад лац. proiectus = кінуты наперад) — асвятляльны прыбор, які пры дапамозе аптычнай сістэмы пасылае яркі пучок праменяў на далёкую адлегласць.

**ПРАЖЭКЦЁР** (фр. projecteur, ад лац. proiectus = кінуты наперад) — той, хто займаецца складаннем нязбытных, неабгрунтаваных *праектаў*.

**ПРАЖЭКЦЁРСТВА** (ад *пражэкцёр*) — захапленне нездзяйсняльнымі *праектамі*.

**ПРАЗАІ́ЗМ** (ад *проза*) — слова або выраз у паэтычным творы з дзелавой, навуковай або гутарковай мовы.

**ПРАЗА́ІК** (лац. prosaicus) — пісьменнік, які піша *прозай*, стварае празаічныя творы.

**ПРАЗЕАДЫ́М** (лац. praseodymium, ад лац. prasios = светла-зялёны) — хімічны элемент, які належыць да *лантаноідаў*, выкарыстоўваецца для афарбоўкі шкла, фарфору, пры вырабе спецыяльных сартоў сталі.

**ПРАЗЕ́КТАР** (лац. prosector = які рассякае) — 1) урач патолагаанатам, які займаецца анатаміраваннем трупаў; 2) урач, які ўзначальвае *празектуру*.

**ПРАЗЕКТУ́РА** (лац. prosectura) — патолагаанатамічнае аддзяленне пры лячэбных або навучальных медыцынскіх установах.

**ПРАЗЕЛІ́Т** (гр. proselytos = *літар.* прышэлец) — 1) той, хто прыняў новую веру; 2) новы і гарачы прыхільнік чаго-н.

**ПРАЗЕЛІТЫ́ЗМ** (ад гр. proselytos = які прыняў новую веру) — 1) імкненне распаўсюдзіць сваю веру, абярнуць іншых у сваю веру; 2) гарачая адданасць якому-н. вучэнню, якім-н. перакана违нням.

**ПРАЗЕ́М** (ад гр. prasios = светла-зялёны) — *мінерал*, разнавіднасць *кварцу* светла-зялёнай афарбоўкі.

# П

**ПРАЗЕНХІ́МА** (ад гр. pros = звыш таго + *-энхіма*) — тканка раслін, якая складаецца з падоўжаных, завостраных на канцах, часам з патоўшчанымі сценкамі клетак, напр. валакно лёну.

**ПРАЗЕРЫ́Н** (ад лац. prosero = вырабляю) — лекавы *прэпарат*, які прымяняецца пры *міястэніі, паралічах, неўрытах*, для стымуляцыі родавай дзейнасці, у афтальмалагічнай практыцы.

**ПРАЗО́ПІС** (н.-лац. prosopis) — дрэвавая або кустовая расліна сям. бабовых, часта калючая з дробнымі кветкамі ў гронках або галоўках, пашыраная ў тропіках і субтропіках, пераважна ў Амерыцы.

**ПРАЙД** (англ. pride) — устойлівая група з 6—12 асобін у *папуляцыі* льва.

**ПРА́ЙМЕРЫЗ** (англ. primaries) — 1) пярвічныя сходы выбаршчыкаў у ЗША для вылучэння кандыдатаў на выбарныя пасады; 2) выбары дэлегатаў на партыйны з'езд у ЗША.

**ПРАКА́МБІЙ** (ад лац. pro = перад + *камбій*) — утваральная тканка раслін, з якой развіваюцца праводныя тканкі.

**ПРАКАРЫЁТЫ** (ад лац. pro = перад, замест + гр. karyon = ядро) — мікраскапічныя арганізмы, якія ў адрозненне ад *эўкарыётаў* не маюць у сваіх клетках марфалагічна аформленага, адасобленага ядра і тыповага храмасомнага апарату; аб'яднаны ў два аддзелы — сіне-зялёныя водарасці і бактэрыі.

**ПРАКЛАМАВА́ЦЬ** (лац. proclamare) — абвяшчаць, аб'яўляць пэўныя палітычныя ці іншыя погляды.

**ПРАКЛАМА́ЦЫЯ** (лац. proclamatio = адозва, заклік) — 1) агітацыйны лісток з палітычным зместам, лістоўка; 2) урачыстае абвяшчэнне, апублікаванне.

**ПРАКЛІ́ТЫКА** (гр. proklitikos = які нахіляецца ўперад) — *лінгв.* ненаціскное слова, якое цесна прымыкае да наступнага, што мае націск.

**ПРАКО́НСУЛ** (лац. proconsul) — службовая асоба ў Стараж. Рыме, якая спачатку выконвала вайсковыя даручэнні за межамі Рыма, пазней — намеснік *правінцыі*, што прызначаўся з ліку колішніх *консулаў*.

**ПРАКРЫ́ТЫ** (ад санскр. prakrta = просты, натуральны) — 1) сярэднеіндыйскія мовы, якія склаліся на аснове старажытнаіндыйскіх дыялектаў і былі шырокаўжывальнымі як размоўныя і літаратурныя мовы больш як паўтара тысячагоддзя (да 15 ст.); 2) адна з катэгорый старажытнаіндыйскай філасофіі, якая абазначае жаночы пачатак усіх матэрыяльных і духоўных рэчаў.

**ПРАКСІМА́ЛЬНЫ** (ад лац. proximus = найбліжэйшы) — *анат.* размешчаны бліжэй да сярэдняй плоскасці цела (напр. п. аддзел сасуда); проціл. *дыстальны*.

**ПРАКСІЯЛО́ГІЯ** (гр. praksis = справа, дзеянне + *-логія*) — галіна сацыялагічных даследаванняў, якая вывучае ўмовы і метады эфектыўнай і рацыянальнай чалавечай дзейнасці.

**ПРАКТАЛО́ГІЯ** (ад гр. proktos = задні праход + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы прамой кішкі.

**ПРА́КТЫК** (гр. praktikos = дзейны) — 1) той, хто добра вывучыў сваю справу на практыцы; 2) практычны, дзелавы чалавек.

**ПРА́КТЫКА** (лац. practica, ад гр. praktika = дзейнасць) — 1) дзейнасць людзей, якая накіравана на пераўтварэнне матэрыяльнага свету; 2) жыццё, рэчаіснасць як галіна праверкі вывадаў тэорыі; 3) замацаванне тэарэтычных ведаў на вытворчасці (напр. педагагічная п. студэнтаў); 4) набыты вопыт у якой-н. галіне дзейнасці (напр. п. выхавання дзяцей); 5) дзейнасць урача або юрыста.

**ПРАКТЫКАВА́ЦЬ** (польск. praktykować, ад лац. practicare) — 1) прымяняць што-н. на справе, на *практыцы*; 2) праходзіць практыку; 3) пастаянным трэніроўкай развіваць што-н., прывіваць якія-н. навыкі; 4) займацца ўрачэбнай ці юрыдычнай практыкай.

**ПРА́КТЫКУМ** (лац. practicum, ад гр. praktikos = дзейны) — від *практычных* заняткаў па курсу якой-н. дысцыпліны звычайна ў вышэйшых навучальных установах, а таксама вучэбны дапаможнік для правядзення такіх заняткаў.

**ПРАКТЫ́Т** (ад гр. proktos = задні праход) — запаленне слізістай абалонкі прамой кішкі.

**ПРАКТЫЦЫ́ЗМ** (ням. Praktizismus, ад гр. praktikos = дзейны) — 1) захапленне практычнай дзейнасцю пры недаацэнцы тэорыі; 2) дзелавы падыход да справы; уменне ўладкоўваць справы так, каб атрымаць асабістую выгаду.

**ПРАКТЫ́ЧНЫ** (гр. praktikos = дзейны) — 1) які звязаны з *практыкай*, з рэальнымі патрабаваннямі, магчымасцямі; 2) які займаецца непасрэдна якой-н. справай; 3) звязаны з прымяненнем на практыцы ведаў, навыкаў; 4) які добра разбіраецца ў жыццёвых справах, дзелавіты, вопытны; 5) эканомны, зручны.

**ПРАКУРА́ТАР** (польск. prokurator, ад лац. procurator) — 1) асоба, якая загадвала фінансамі, кіравала чыёй-н. маёмасцю, гаспадаркай у Стараж. Рыме; 2) адвакат, абаронца ў судах Вялікага княства Літоўскага 16—17 ст.

**ПРАКУРАТУ́РА** (польск. prokuratura, ад лац. procurare = клапаціцца, кіраваць) — дзяржаўны орган, які сочыць за выкананнем законаў і прыцягвае да адказнасці парушальнікаў іх.

**ПРАКУРО́Р** (фр. procureur, ад лац. procurare = клапаціцца, кіраваць) — асоба, якая сочыць за выкананнем і правільным прымяненнем законаў, выступае ў якасці абвінаваўцы ў судовым працэсе.

**ПРАКУРЫ́СТ** (ням. Prokurist, ад лац. procurare = клапаціцца, кіраваць) — даверaная асоба гандлёвага прадпрыемства, якая мае паўнамоцтвы на заключэнне ўсякіх дагавароў.

**ПРАЛАКЦІ́Н** (ад лац. pro = для + lac, lactis = малако) — *гармон* пярэдняй часткі *гіпофіза*, які рэгулюе ў жывёл і чалавека функцыі малочных залоз і яечнікаў.

**ПРАЛА́Н** (н.-лац. prolan, ад лац. proles = нашчадак) — рэчыва гарманальнага характару, якое выдзяляецца *плацэнтай* і змяшчаецца ў крыві і мачы цяжарных жанчын.

**ПРАЛАНГАВА́ЦЬ** (лац. prolongare = падаўжаць) — працягваць тэрмін дагавора, умовы, *вэксаля*.

# П

**ПРАЛАНГА́ЦЫЯ** (фр. prolongation, ад лац. prolongare = прадаўжаць) — прадаўжэнне тэрміну дагавора, умовы, *вэксаля*.

**ПРАЛА́ПС** (лац. prolapsus = які выпадае) — выпаданне ўнутранага органа, напр. прамой кішкі.

**ПРАЛЕГАМЕ́НЫ** (гр. prolegomena = уводзіны) — уводзіны ў вывучэнне, уступныя тлумачэнні, *прэамбула*.

**ПРАЛЕТАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *пралетарый*) — разарэнне і збядненне дробных таваравытворцаў (сялян, саматужнікаў) і ператварэнне іх у пралетарыяў.

**ПРАЛЕТА́РЫЙ** (лац. proletarius) — прадстаўнік *пралетарыяту*.

**ПРАЛЕТАРЫЯ́Т** (ням. Proletariat, ад лац. proletarius = незаможны грамадзянін) — клас наёмных рабочых у капіталістычным грамадстве, пазбаўленых сродкаў вытворчасці.

**ПРАЛІ́Н** (ад лац. proles = нашчадкі) — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад амаль усіх бялкоў і некаторых іншых фізіялагічна важных рэчываў.

**ПРАЛІФЕРА́ЦЫЯ** (ад лац. proles = нашчадкі + ferre = несці) — 1) разрастанне тканкі жывёльнага або расліннага арганізма шляхам новаўтварэння клетак; 2) тое, што і *праліфікацыя*.

**ПРАЛІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. proles = нашчадкі + *-фікацыя*) — развіццё органа расліны з іншага органа, які закончыў свой рост і далей не развіваецца.

**ПРАЛО́Г** (лац. prologus, ад гр. prologos) — 1) уступная частка літаратурнага або музычнага твора; 2) *перан.* уступ, пачатак чаго-н.

**ПРАЛЮ́ВІЙ** (лац. proluvium = змыванне) — *геал.* наносы, якія ўтвараюцца горнымі патокамі ў час моцных ліўняў.

**ПРАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад лац. pro = замест + *марфалогія*) — раздзел марфалогіі, які вывучае агульны план будовы жывёлы, яе *сіметрыю* і размяшчэнне асобных частак.

**ПРАМЕНА́Д** (фр. promenade) — *уст.* 1) прагулянка; 2) месца для гуляння.

**ПРАМЕ́СА** (фр. promesse, ад лац. promissio = абяцанне) — дакумент, згодна з якім уладальнік аблігацыі або латарэйнага білета, калі на іх выпадае выйгрыш, абавязваецца ўступіць іх за пэўную плату іншай асобе.

**ПРАМЕТАФА́ЗА** (ад лац. proto = перад + *метафаза*) — другая стадыя непрамога дзялення, або *мітозу*.

**ПРАМЕ́ТЫЙ** (н.-лац. promethium, ад гр. Prometheus = імя тытана ў старажытнагрэчаскай міфалогіі, які выкраў у багоў агонь) — радыеактыўны хімічны элемент, які належыць да *лантаноідаў*.

**ПРАМІ́ЛЕ** (лац. pro mille = на тысячу) — тысячная частка ліку.

**ПРАМІСКУІТЭ́Т** (ад лац. promiscuus = змешаны, агульны) — стадыя нічым не абмежаваных палавых адносін у першабытным грамадстве, якая папярэднічала ўстанаўленню норм шлюбу і сям'і.

**ПРАМО́ТАРЫ** (ад лац. promovere = прасоўваць) — тое, што і *актыватары*.

**ПРАМО́ЦЫЯ** (лац. promotio = прасоўванне) — прысуджэнне

больш высокай вучонай ступені або ганаровага звання.

**ПРАМУЛЬГА́ЦЫЯ** (лац. promulgatio = публічнае аб'яўленне) — афіцыйная публікацыя, абнародаванне якога-н. дзяржаўнага акта, закона.

**ПРА́НА** (санскр. prana = дыханне) — правільнае дыханне як асноўная канцэпцыя ранняй індыйскай філасофіі; паводле канцэпцыі дыханне з'яўляецца прынцыпам жыццёвасці і «апошнім подыхам» вечнасці; *ёга* робіць упор на кантроль за пранай, каб дыханне не парушала медытацыю і мела лячэбнае ўздзеянне.

**ПРАНА́ТАРЫ** (ад лац. pronatus = нахілены ўперад) — *анат.* мышцы, якія паварочваюць канечнасці ўнутр.

**ПРАНА́ЦЫЯ** (ад лац. pronatus = нахілены ўперад) — 1) *анат.* рух перадплечча і кісці рукі, пры якім далонь паварочваецца назад і ўніз, а вялікі палец да сярэдняй плоскасці цела (параўн. *супінацыя* 1); 2) пазіцыя ў фехтаванні, калі ўзброеная рука павернута далонню ўніз (параўн. *супінацыя* 2).

**ПРА́НГАС** (н.-лац. prangos) — травяністая расліна сям. парасонавых з жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і, Зах., Сярэд. і Цэнтр. Азіі.

**ПРАНЕ́ФРАС** (ад гр. pro = перад + nephros = нырка) — перадднырка.

**ПРАНО́НС** (фр. prononcer = вымаўляць) — вымаўленне з асаблівасцямі гукавой сістэмы французскай мовы.

**ПРАПАГА́НДА** (лац. propaganda = тое, што трэба распаўсюджваць) — распаўсюджванне ідэй, поглядаў, ведаў шляхам пастаяннага растлумачэння іх шырокім масам, а таксама ідэйнае ўздзейнічанне на шырокія масы.

**ПРАПАГАНДАВА́ЦЬ** (лац. propagare = пашыраць, распаўсюджваць) — займацца *прапагандай* чаго-н.

**ПРАПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. propositio) — *уст.* прапанова.

**ПРАПА́Н** [(ад прап(іл) + *(метан)ан*] — арганічнае злучэнне, насычаны вуглевадарод аліфатычнага рада, бясколерны гаручы газ; выкарыстоўваецца як паліва для рухавікоў унутранага згарання.

**ПРАПАНАВА́ЦЬ** (польск. proponować, ад лац. proponere) — 1) заявіць аб гатоўнасці памагчы, даць у чыё-н. распараджэнне што-н.; 2) унесці *прапанову*, параіць, парэкамендаваць; 3) папрасіць выканаць што-н.

**ПРАПАРЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (лац. proportionalis) — 1) які мае правільныя *прапорцыі*, суразмерны з чым-н.; 2) які з павелічэннем ці памяншэннем адной велічыні павялічваецца ці памяншаецца ў столькі ж разоў (напр. п-ая залежнасць).

**ПРАПЕДЭ́ЎТЫКА** (ад гр. propaideuo = навучаю папярэдне) — уводны, папярэдні курс ведаў аб чым-н., які ўяўляе сабой сціслы, элементарны змест гэтых ведаў.

**ПРАПЕ́ЛЕР** (англ. propeller, ад лац. propellere = гнаць уперад) — паветраны вінт у самалётах, верталётах, аэрасанях, глісерах.

**ПРАПІ́Л** (англ. propyl, ад гр. propylon = уваход) — аднавалентны радыкал *прапану*, адзін з *алкілаў*.

# П

**ПРАПІЛЕ́І** (лац. propylaea, ад гр. propylaion = месца перад уваходам) — парадны, архітэктурна аформлены ўваход, брама ў горад, у архітэктурны ансамбль.

**ПРАПІЛЕ́Н** (ад гр. propylon = уваход) — арганічнае злучэнне, ненасычаны вуглевадарод *аліфатычнага* рада, бясколерны гаручы газ са слабым пахам, які з'яўляецца часткай газаў *крэкінгу* нафты; выкарыстоўваецца ў вырабе маторнага паліва, *пластмас, каўчукоў* і інш.

**ПРАПО́РЦЫЯ** (лац. proportio) — 1) суразмернасць, суадноснасць частак цэлага паміж сабой; 2) *мат.* роўнасць дзвюх адносін (напр. 6:2 = 9:3); 3) колькасныя суадносіны паміж галінамі, стадыямі і элементамі вытворчасці; 4) суадносіны размераў частак архітэктурнага або мастацкага твора як адзін з асноўных прынцыпаў кампазіцыі.

**ПРАПРЭ́ТАР** (лац. propraetor) — намеснік *правінцыі* ў Стараж. Рыме.

**ПРАРАГА́ЦЫЯ** (лац. prorogatio = працягванне) — 1) адтэрміноўка пасяджэння парламента па рашэнню манарха або прэзідэнта рэспублікі; 2) дагаворнае вызначэнне падсуднасці ў міжнародным праве.

**ПРАРЭ́КТАР** (ад лац. pro = замест + *рэктар*) — намеснік рэктара.

**ПРАС** (ням. Presse) — прылада для гладжання адзення і бялізны.

**ПРАСАВА́ЦЬ** (польск. prasować, ням. pressen) — гладзіць адзенне і бялізну *прасам*.

**ПРАСАДЫ́ЧНЫ** (гл. prosodikos) — які датычыць з'яў вышыні, даўгаты і сілы інтанацыі або суадносін рытміка-інтанацыйных асаблівасцей у вершаванні.

**ПРАСВІТАРЫЯ́НЕ** (англ. presbyterian, ад гр. presbyteros = старэйшына) — прыхільнікі кальвінісцкіх цэркваў, што дзейнічаюць па-за краінамі кантынентальнай Еўропы.

**ПРАСЕМІНА́РЫЙ, ПРАСЕМІНА́Р** (ад лац. pro = для + *семінар*) — *уст.* практычныя заняткі ў вышэйшых навучальных установах, мэтай якіх з'яўляецца падрыхтоўка студэнтаў да работы на семінарах.

**ПРАСКАМІ́ДЫЯ** (гр. proskomide) — частка царкоўнага богаслужэння, калі рыхтуюцца святыя дары.

**ПРАСКЕ́НІЙ** (гр. proskenion = месца перад сцэнай) — 1) драўляны фасад *скены* або дэкаратыўная сцяна перад ёй у старажытнагрэчаскім тэатры; 2) каменная прыбудова да скены ў тэатры эпохі *элінізму*.

**ПРАСКРЫ́ПЦЫЯ** (лац. proscriptio = аб'ява) — публічнае асуджэнне палітычных праціўнікаў у Старaж. Рыме з абвяшчэннем іх па-за законам, а таксама спіс асоб, абвешчаных па-за законам.

**ПРАСО́ДЫЯ** (гр. prosodia = націск, прыпеў) — 1) *лінгв.* сістэма вымаўлення націскных і ненаціскных, доўгіх і кароткіх складоў у мове; 2) вучэнне аб суадносінах складоў у вершы.

**ПРАСО́МА** (ад гр. pro = перад + *сома*) — пярэдні аддзел цела хеліцэравых.

**ПРАСПЕ́КТ** (лац. prospectus = від, агляд) — 1) вялікая шырокая і

прамая вуліца ў горадзе; 2) падрабязны план, змест будучага выдання; 3) даведачнае выданне рэкламнага характару.

**ПРАСПЕ́РЫТЫ** (англ. prosperity = *літар.* працвітанне) — *фаза* ў цыклічным развіцці капіталістычнай гаспадаркі, якая характарызуецца ўздымам эканомікі.

**ПРАСТАГАНІМІ́ДЫ** (н.-лац. prosthogonimidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразітуюць у фабрыцыевай сумцы маладых свойскіх і дзікіх птушак і яйцаводзе старых.

**ПРАСТАГАНІМО́З** (ад *прастаганіміды*) — глісная хвароба птушак, якая выклікаецца прастаганімідамі.

**ПРАСТА́ТА** (гр. prostates = які наперадзе) — няпарная залоза мужчынскага палавога апарату, размешчаная ў пачатку мочаспускальнага канала.

**ПРАСТАТЫ́Т** (ад гр. prostates = які наперадзе) — запаленне *прастаты*.

**ПРАСТРА́ЦЫЯ** (лац. prostratio) — стан прыгнечанасці, знямогі, заняпаду псіхічнай актыўнасці, выкліканы нервовым расстройствам.

**ПРАСТЫГМІ́Н** (ад гр. pro = перад + stygma = рана) — тое, што і *празерын.*

**ПРАСТЫТУІ́РАВАЦЬ** [лац. prostituere = выстаўляць (на продаж)] — 1) прымушаць каго-н. да занятку *прастытуцыяй*; 2) *перан.* рабіць прадажным, падкупным (напр. п. прэсу).

**ПРАСТЫТУ́ТКА** (лац. prostituta) — 1) жанчына, якая займаецца *прастытуцыяй*; 2) *перан.* беспрынцыповы, прадажны чалавек.

**ПРАСТЫТУ́ЦЫЯ** (лац. prostitutio = апаганенне, абняслаўленне) — 1) продаж свайго цела для палавых зносін з мэтай набыць грашовыя сродкі; 2) *перан.* прадажнасць, беспрынцыповасць (напр. палітычная п.).

**ПРАСЦЭ́НІУМ** (лац. proscenium) — частка *сцэны* перад заслонай.

**ПРАТА-** гл. *прота-*.

**ПРАТАГАНІ́СТ** (гр. protagonistes) — 1) першы з трох акцёраў у старажытнагрэчаскім тэатры, выканаўца галоўных роляў (параўн. *дэўтэраганіст, трытаганіст*); 2) галоўная дзеючая асоба ў мастацкім творы, пераважна ў драме.

**ПРАТАГІ́НІЯ** (ад *прата-* + гр. gyne = жанчына) — тое, што і *пратэрагінія*.

**ПРАТАГІ́ПУС** (ад *прата-* + гр. hippos = конь) — вымерлы трохпальцы конь.

**ПРАТАДЭ́РМА** (ад *прата-* + *-дэрма*) — скапленне маладыферэнцыраваных клетак, якое прыкрывае зародак раслін.

**ПРАТАЗА́Н** (ням. Partisane) — кап'ё з плоскім і доўгім металічным наканечнікам, якое было на ўзбраенні *ландскнехтаў* у 16 ст. і целаахоўнікаў пры манархах у 17 ст., а таксама ганаровай зброяй рускіх штаб-афіцэраў у 18 ст.

**ПРАТАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. protosauria) — атрад вымерлых марскіх паўзуноў падкласа *сінаптазаўраў*, якія жылі ў *мезазоі*.

**ПРАТАЗО́А** (ад *прата-* + гр. zoon = жывёла) — падцарства аднакле-

тачных жывёл; жывуць у вадаёмах, балотах, вільготнай глебе; здольныя да фотасінтэзу або жывяцца гатовымі арганічнымі рэчывамі, ёсць драпежнікі і паразіты; прасцейшыя (параўн. *метазоа*).

**ПРАТАКО́КУС** (н.-лац. protococcus) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. пратакокавых, якая трапляецца на камянях, кары дрэў, у глебе і прыбярэжнай частцы вадаёмаў.

**ПРАТАКО́Л** (с.-лац. protocollum, ад гр. protokollon) — 1) дакумент, дзе запісваецца ўсё, што гаварылася і вырашалася на сходзе, пасяджэнні; 2) дакумент, які сведчыць аб якім-н. факце, выпадку, здарэнні; 3) акт міжнароднага пагаднення.

**ПРАТАКО́НХ** (ад *прата-* + гр. konche = ракавіна) — першапачатковая ракавіна *малюскаў*, ад якой пачынаюцца яе сезонныя прыросты.

**ПРАТАКТЫ́НІЙ** (ад *прата-* + *актыній*) — радыеактыўны хімічны элемент, серабрыста-белы бліскучы метал, які належыць да *актыноідаў*.

**ПРАТАЛА́КС** (ад *прата-* + гр. allaksis = абмен) — прыстасавальныя змены ў знешніх органах жывёл, якія ўзнікаюць пад уплывам фактараў навакольнага асяроддзя.

**ПРАТА́ЛІЙ** (ад гр. pro = наперадзе + thallos = галінка) — палавое пакаленне папарацей, хвашчоў, дзеразы.

**ПРАТАМІ́НЫ** (ад *прата-* + *аміны*) — прасцейшыя бялковыя рэчывы, якіх больш за ўсё ў *сперме* і ікры рыб.

**ПРАТА́НДРЫЯ** (ад *прата-* + *-андрыя*) — тое, што і *пратэрандрыя*.

**ПРАТАНЕ́МА** (ад *прата-* + гр. nema = нітка) — пачатковая стадыя развіцця імхоў — нітка або пласцінка, якая развіваецца са *споры*.

**ПРАТАНІ́МФА** (ад *прата-* + гр. nimphe = нявеста) — першасная лічынкавая стадыя некаторых чарвей.

**ПРАТАПЛА́ЗМА** (ад *прата-* + гр. plasma = нешта ўтворанае лепкай) — рэчыва, якое з'яўляецца асновай клеткі жывёльнага і расліннага арганізма; уключае *карыяплазму* і *цытаплазму*.

**ПРАТАПЛА́СТ** (ад *прата-* + *-пласт*) — змесціва раслiннай клеткі без цэлюлозна-пекцінавай абалонкі.

**ПРАТАПО́П** (гр. protopapas) — *уст.* свяшчэннік (іерэй) вышэйшага чыну.

**ПРАТАПТЭ́Р** (ад *прата-* + *-птэр*) — афрыканская рыба падкласа дваякадыхальных з парным плавальным пузыром, які служыць дадатковым органам дыхання пры паніжэнні змяшчэння кіслароду ў вадзе.

**ПРАТАРГО́Л** [ад *прат(эіны)* + лац. arg(entum) = срэбра + *-ол*] — лекавы прэпарат у выглядзе вадкасці або мазі, які ўжываецца пры хваробах вачэй, скуры і інш.

**ПРАТАСІФО́Н** (н.-лац. protosiphon) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. пратасіфонавых, якая пашырана ў вільготных і цёплых месцах, пераважна на глебе.

**ПРАТАТРО́ФЫ** (ад *прата-* + *-трофы*) — мікраарганізмы, якія

не патрабуюць для свайго развіцця гатовых вітамінаў, амінакіслот або іншых фактараў росту, а сінтэзуюць іх з мінеральных ці арганічных злучэнняў.

**ПРАТАТЫ́П** (гр. prototypon) — сапраўдная асоба, якая паслужыла аўтару ўзорам для стварэння літаратурнага вобраза.

**ПРАТАТЭ́КА** (ад *прата-* + *-тэка*) — падэшвенная частка шкілета каралавых паліпаў.

**ПРАТАЦЭ́ЛЬ** (ад *прата-* + гр. koilos = полы) — поласць цела жывёл на стадыі *бластулы*.

**ПРАТО́ГРАФ** (ад *прата-* + *-граф*) — першы рукапіс, які лёг у аснову пазнейшых спісаў, копій, рэдакцый.

**ПРАТО́Н** (гр. proton = першае) — стабільная элементарная часціца атама з дадатным электрычным зарадам.

**ПРАТРА́КТАР** (ад лац. protractus = перацягнены) — марскі прыбор, што служыць для абазначэння на карце месцазнаходжання карабля, якое вызначаюць пры дапамозе двух вуглоў паміж трыма арыенцірамі.

**ПРАТРАМБІ́Н** (ад лац. pro = для + *трамбін*) — складаны бялок у плазме крыві, з якога ўтвараецца фермент трамбін, неабходны для згусання крыві.

**ПРАТУБЕРА́НЦЫ** (ням. Protuberanzen, ад лац. protuberare = уздымацца) — яркія патокі распаленых газаў, якія вывяргаюцца паверхняй Сонца на вышыню да 500 000 км і больш.

**ПРАТЫСТАЛО́ГІЯ** (ад *пратысты* + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае *пратазоа*.

**ПРАТЫ́СТЫ** (гр. protistos = найпершы) — аднаклетачныя арганізмы.

**ПРАТЭА́ЗЫ** (ад *пратэіны*) — тое, што і *пептыдазы*.

**ПРАТЭЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. protéger) — рабіць *пратэкцыю* каму-н., апекаваць каго-н.

**ПРАТЭЖЭ́** (фр. protege) — асоба, якой спрыяюць, аказваюць *пратэкцыю* ў службовых і іншых справах.

**ПРАТЭ́З** (фр. prothèse, ад гр. prothesis = дадатак, далучэнне) — прыстасаванне ў выглядзе якой-н. часткі цела для замены страчанай.

**ПРАТЭ́ЗА** (гр. prothesis = дадатак, далучэнне) — *лінгв.* пратэтычны гукавы элемент.

**ПРАТЭ́І** (гр. Proteus = імя старажытнагрэчаскага міфічнага марскога бoства-вешчуна, якое магло змяняць свой выгляд) — 1) сямейства хвастатых земнаводных, якія жывуць у прэсных вадаёмах і падземных водах; 2) палачкападобныя неспараносныя рухомыя *бактэрыі*, якія пашыраны ў забруджанай глебе, вадзе.

**ПРАТЭІ́ДЫ** (ад гр. proteion = першае месца + eidos = выгляд) — складаныя бялкі, утвораныя з простых бялкоў і рэчыва небялковай прыроды.

**ПРАТЭІНАТЭРАПІ́Я** (ад *пратэіны* + *тэрапія*) — увядзенне ў арганізм чалавека і жывёл бялковых рэчываў з лячэбнай мэтай.

**ПРАТЭІНО́ІДЫ** (ад *пратэіны* + *-оід*) — бялкі, якія ўваходзяць у

склад касцей, храсткоў, валасоў, шэрсці.

**ПРАТЭІНУРЫ́Я** (ад *пратэіны* + *-урыя*) — тое, што і *альбумінурыя*.

**ПРАТЭ́ІНЫ** (ад гр. proteion = першае месца) — простыя бялкі, аснова, на якой пабудаваны асобныя клеткі жывёльнага арганізма і раслін.

**ПРАТЭ́КТАР** (лац. protector = які прыкрывае, абараняе) — 1) *уст.* апякун, заступнік; 2) дзяржава, якая ажыццяўляе *пратэктарат*; 3) патоўшчаная бегавая частка пакрышкі, якая ахоўвае шыну ад механічных пашкоджанняў.

**ПРАТЭКТАРА́Т** (рус. протекторат, ад лац. protector = які прыкрывае, абараняе) — 1) форма залежнасці, пры якой больш слабая дзяржава, фармальна захоўваючы сваю дзяржаўную структуру, фактычна падначалена больш моцнай дзяржаве; 2) дзяржава, якая знаходзіцца ў такой залежнасці.

**ПРАТЭ́КЦЫЯ** (лац. protectio = прыкрыццё) — заступніцтва, падтрымка з боку ўплывовых асоб ва ўладкаванні на працу, у прасоўванні па службе і г.д.

**ПРАТЭКЦЫЯНІ́ЗМ** (фр. protectionnizme, ад лац. protectio, -onis = *літар.* прыкрыццё) — 1) эканамічная палітыка дзяржавы, накіраваная на засцярогу сваёй гаспадаркі ад канкурэнцыі з боку іншых краін; 2) падбор людзей на службу не па дзелавых якасцях, а па знаёмству, па *пратэкцыі*.

**ПРАТЭРАГІ́НІЯ** (ад гр. proteros = першы, больш ранні + *-гінія*) — больш ранняе даспяванне ў кветках рыльцаў песцікаў, чым тычынак, форма *дыхагаміі* (проціл. *пратэрандрыя*).

**ПРАТЭРАЗО́Й** (ад гр. proteros = першы, больш ранні + *-зой*) — другая *эра* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, якая пачалася 2600 млн. гадоў таму назад і працягвалася 2000 млн. гадоў, а таксама пласты горных парод, што ўтварыліся ў той час.

**ПРАТЭРА́НДРЫЯ** (ад гр. proteros = першы, больш ранні + *-андрыя*) — больш ранняе даспяванне ў кветках тычынак, чым рыльцаў песцікаў; форма *дыхагаміі* (параўн. *пратэрагінія*).

**ПРАТЭ́СТ** (ням. Protest, ад лац. protestari = публічна заяўляць) — 1) рашучае і катэгарычнае пярэчанне, заява аб нязгодзе з чым-н.; 2) афіцыйнае выказванне нязгоды з якім-н. рашэннем, пастановай.

**ПРАТЭСТАВА́ЦЬ** (польск. protestować, ад лац. protestari = публічна заяўляць) — рашуча і катэгарычна пярэчыць, заяўляць аб нязгодзе з чым-н.

**ПРАТЭСТА́НТ** (ням. Protestant, ад лац. protestans, -ntis = які публічна даказвае) — 1) паслядоўнік *пратэстантызму*, 2) той, хто *пратэстуе* супраць чаго-н.

**ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ** (ням. Protestantismus, ад лац. protestans, -ntis = які публічна даказвае) — агульная назва рэлігійных веравучэнняў, якія ўзніклі ў працэсе *Рэфармацыі* 16 ст. як пратэст супраць *каталіцызму*, напр. *лютэранства, кальвінізм*.

**ПРАФА́Г** (ад гр. pro = раней, перад + *-фаг*) — унутрыклетачная неінфармацыйная форма *бактэрыяфага*.

**ПРАФА́ЗА** (ад гр. pro = раней, перад + phasis = праяўленне) — першая стадыя непрамога дзялення, або *мітозу*.

**ПРАФА́Н** (лац. profanus = неазнаёмлены) — недасведчаны ў якой-н. галіне чалавек.

**ПРАФАНАВА́ЦЬ** (лац. profanare) — апашляць што-н., непачціва адносіцца да таго, што карыстаецца ўсеагульнай пашанай (напр. п. вучэнне).

**ПРАФАНА́ЦЫЯ** (лац. profanatio) — апашленне чаго-н., непачцівыя адносіны да таго, што карыстаецца ўсеагульнай пашанай (напр. п. ідэі).

**ПРАФЕРМЕ́НТЫ** (ад лац. pro = для + *ферменты*) — неактыўная форма ферментаў, якая пераходзіць у актыўную пад уплывам іншых ферментаў.

**ПРАФЕ́САР** (лац. professor = настаўнік) — вышэйшае вучонае званне выкладчыка вышэйшых навучальных устаноў.

**ПРАФЕ́СІЯ** (польск. profesja, ад лац. professio = спецыяльнасць) — асноўны від працоўнай дзейнасці, які патрабуе пэўнай падрыхтоўкі і з'яўляецца галоўнай крыніцай існавання.

**ПРАФЕСІЯНА́Л** (с.-лац. professionalis = прафесіянальны) — добры спецыяліст, знаўца сваёй справы.

**ПРАФЕСІЯНАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. professionalis = прафесіянальны) — 1) *прафесіянальнае* майстэрства (напр. музычны п.); 2) слова ці моўны зварот, уласцівы людзям якой-н. *прафесіі*, характэрны ім.

**ПРАФЕСІЯНА́ЛЬНЫ** (с.-лац. professionalis) — 1) які мае адносіны да *прафесіі* (напр. п-ая арыентацыя); 2) уласцівы *прафесіяналу* (напр. п-ая музыка, п. рэвалюцыянер).

**ПРАФЕСУ́РА** (ням. Professur, ад лац. professor = настаўнік) — 1) званне, пасада *прафесара*; 2) прафесары.

**ПРАФІЛАКТО́РЫЙ** (ад *прафілактыка*) — лячэбна-прафілактычная ўстанова санаторнага тыпу.

**ПРАФІЛА́КТЫКА** (гр. prophylaktikos = ахоўны, засцерагальны) — сукупнасць папераджальных мерапрыемстваў супраць чаго-н. непажаданага (у медыцыне, тэхніцы і г.д.).

**ПРАФІЛАКТЫ́ЧНЫ** (гр. prophylaktikos) — ахоўны, засцерагальны.

**ПРАФІЛО́ГРАФ** (ад *профіль* + *-граф*) — прыбор для запісу профілю паверхні вырабаў на паперу, кінаплёнку.

**ПРАФІЛО́МЕТР** (ад *профіль* + *-метр*) — прыбор для вымярэння некаторых *параметраў* шурпатасці паверхні вырабаў.

**ПРАФІЛЯВА́ЦЬ** (фр. profiler) — 1) надаваць правільны папярочны *профіль* дарожнаму палатну; 2) надаваць адпаведную форму дэталі.

**ПРАФІ́Т** (фр. profit, ад лац. profectus = поспех) — *уст.* выгада, прыбытак.

**ПРАФІТАВА́ЦЬ** (фр. profiter) — *уст.* атрымліваць выгаду, карысць.

**ПРАФО́РМА** (лац. pro forma = для формы) — знешняя фармаль-

насць, выгляд; што-н. непатрэбнае, паказное (напр. гаварыць для праформы).

**ПРАФУ́ЗІЯ** (лац. profusio) — вялікая колькасць, празмернасць.

**ПРАФУНДА́ЛЬ** (ад лац. profundus = глыбокі) — глыбакаводная частка дна вадаёма, якая не падвяргаецца ўздзеянню хваляў; адзін з марфалагічных элементаў азёрнай чашы.

**ПРАХІРО́Н** (ад гр. procheiros = які знаходзіцца пад рукой) — практычнае кіраўніцтва для суддзяў, выдадзенае ў 879 г. у Візантыі на аснове *кадыфікацыі* Юстыніяна.

**ПРА́ЦА** (польск. praca, ад чэш. práce) — 1) дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцей (напр. фізічная п., разумовая п.); 2) служба (напр. месца п.); 3) навуковы твор (напр. літаратуразнаўчая п., мовазнаўчая п.).

**ПРАЦАТЭРАПІ́Я** (ад *праца* + *тэрапія*) — прымяненне ў медыцыне працэсаў працы з мэтай аднаўлення працаздольнасці чалавека або функцый пэўных яго органаў.

**ПРАЦЭДУ́РА** (фр. procédure, ад лац. procedere = рухацца наперад) — 1) устаноўлены парадак дзеянняў для ажыццяўлення чаго-н. (напр. п. галасавання); 2) лячэбнае мерапрыемства, якое рэкамендуецца ўрачом (ванны, масаж і інш.).

**ПРАЦЭ́НТ** (лац. pro centum = за сто) — 1) сотая доля ліку (абазначаецца знакам %); колькасць, якая вымяраецца ў сотых долях чаго-н.; 2) даход, які атрымліваецца на кожныя сто грашовых адзінак.

**ПРАЦЭНТАМА́НІЯ** (ад *працэнт* + *манія*) — клопат пра знешнія (у працэнтах) паказчыкі выканання плана, пасляховасці вучняў і г.д.

**ПРАЦЭ́С** (лац. processus = цячэнне, ход) — 1) паслядоўная змена з'яў, стану ў развіцці чаго-н.; 2) сукупнасць паслядоўных дзеянняў для дасягнення пэўных вынікаў (напр. вытворчы п.); 3) разбор судовай справы (судовы п.).

**ПРАЦЭ́САР** (англ. processor, ад лац. procedere = рухацца наперад) — 1) цэнтральная частка электронна-вылічальнай машыны, якая выконвае арыфметычныя і лагічныя аперацыі па перапрацоўцы інфармацыі; 2) складаная лагічная праграма, зададзеная электронна-вылічальнай машыне.

**ПРАЦЭ́СІНГ** (англ. processing = апрацоўка, ад лац. procedere = прасоўвацца) — сукупнасць рэакцый, якія вядуць да пераўтварэння першасных прадуктаў транскрыпцыі і трансляцыі ў функцыянальныя малекулы.

**ПРАЦЭ́СІЯ** (польск. procesja, ад лац. processio = прасоўванне наперад) — урачыстае мнагалюднае шэсце (напр. святочная п.).

**ПРАЦЭСУА́ЛЬНЫ** (ад лац. processus = цячэнне, ход) — які мае адносіны да *працэсу* (напр. п-ае права).

**ПРО́БА** (ст.-польск. proba, ад ням. Probe) — 1) праверка, выпрабаванне; 2) невялікая частка чаго-н., узятая для вызначэння якасці, саставу; 3) колькасць вагавых частак высакароднага металу (золата, серабра і г.д.) у пэўнай колькасці вагавых частак сплаву, а таксама

кляймо з абазначэннем гэтай колькасці.

**ПРО́БАШЧ** (польск. proboszcz < чэш. probošt, ад лац. propositus = начальнік) — *ксёндз*, які стаіць на чале *парафіі*.

**ПРО́ЗА** [лац. prosa (oratio) = невершаваная мова] — 1) невершаваная мова; невершаваныя мастацкія творы; 2) *перан.* будзённасць, звычайнасць, аднастайнасць (напр. п. жыцця).

**ПРОЗАСТАМА́ТЫ** (н.-лац. prosostomata) — падклас *трэматодаў* тыпу плоскіх чарвей; паразіты жывёл.

**ПРОКАЛАГЕ́НЫ** (ад гр. pro = спераду + *калаген*) — бялкі злучальнай тканкі чалавека і жывёл.

**ПРО́ЛАГ** (гр. prologos) — царкоўная кніга, якая змяшчае жыццЯ святых, павучанні, размешчаныя па днях года.

**ПРО́НААС** (гр. pronaos) — паўадкрытая частка антычнага храма паміж уваходным порцікам і *наасам*.

**ПРО́НІЯ** (гр. pronoia = апека) — феадальнае зямельнае ўладанне ў Візантыі ў 11—15 ст.

**ПРОНУНСІЯМЕ́НТА** (ісп. pronunciamiento, ад лац. pronuntio = аб'яўляю) — дзяржаўны ваенны пераварот у Іспаніі і Лац. Амерыцы.

**ПРО́ПАЛІС** (гр. propolis) — клейкае смалістае рэчыва, якое выпрацоўваецца меданоснымі пчоламі ў якасці будаўнічага матэрыялу; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ПРОПЛІЯПІТЭ́К** (ад гр. pro = раней, перад + *пліяпітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, якая жыла ў *кайназоі*.

**ПРОПРЫЯРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. proprius = уласны + *рэцэптары*) — разнавіднасць *інтэрарэцэптараў*; рэцэптары, размешчаныя ў мышцах, звязках, сустаўных сумках (параўн. *экстэрацэптары*).

**ПРОПС** (англ. props = падпорка) — круглая, ачышчаная ад кары калода пэўнай даўжыні.

**ПРОСАПАПЕ́Я** (гр. prosopopiia) — стылістычны зварот, у якім прадмету надаюцца ўласцівасці, што яму рэальна не належаць; увасабленне.

**ПРО́СВІРА** (гр. prosphyra = прынашэнне) — белая круглая булачка з крутога прэснага цеста, якая выкарыстоўваецца ў абрадах праваслаўнага набажэнства.

**ПРО́СТЫЛЬ** (ад гр. pro = спераду + stylos = калона) — антычны храм прамавугольнай формы з адным радам калон на галоўным фасадзе.

**ПРОТА-**, **ПРАТА-** (гр. protos = першы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «першапачатковы, першасны», «вышэйшы, старэйшы, галоўны».

**ПРОТААЛКАЛО́ІДЫ** (ад *прота-* + *алкалоіды*) — нізкамалекулярныя адносна простыя азотазмяшчальныя злучэнні, якія маюць, як правіла, генетычную сувязь з амінакіслотамі.

**ПРОТАГЕАСІНКЛІНА́ЛЬ** (ад *прота-* + *геасінкліналь*) — старажытны (да 3 млрд. гадоў назад) геасінклінальны прагін значнай плошчы, які ўзнік на яшчэ не стабілізаванай зямной кары.

# П

**ПРОТАДЫЯ́КАН** (ад *прота-* + *дыякан*) — дыякан вышэйшага чыну.

**ПРОТАЗААЛО́ГІЯ** (ад *прота-* + *заалогія*) — тое, што і *пратыстalогія*.

**ПРОТАІЕРЭ́Й** (ад *прота-* + гр. hiereus = святар) — свяшчэннік вышэйшага чыну.

**ПРОТАНЕАЛІ́Т** (ад *прота-* + *неаліт*) — тое, што і *мезаліт*.

**ПРОТАНЕФРЫ́ДЫІ** (ад *прота-* + *нефрыдыі*) — органы выдзялення ў плоскіх, першнапаласцевых і некаторых кольчатых чарвей, немерцінаў і ланцэтніка.

**ПРОТАПАДЫ́Т** (ад *прота-* + гр. pus, podos = нага) — асноўная частка канечнасці членістаногіх.

**ПРОТАПЕКЦІ́Н** (ад *прота-* + *пекціны*) — *субстанцыя*, якая злучае абалонкі клетак у раслінным тканцы.

**ПРОТАПЛАТФО́РМА** (ад *прота-* + *платформа*) — самая старажытная тэктанічная структура платформеннага тыпу, якая ўтварылася ў канцы этапа фарміравання *протагеасінкліналей*.

**ПРОТАПРЭСВІ́ТЭР** (ад *прота-* + *прэсвітэр*) — галоўны свяшчэннік у некаторых вялікіх саборах.

**ПРОТАРЭНЕСА́НС** (ад *прота-* + *рэнесанс*) — перыяд у гісторыі італьянскага мастацтва (13 — пач. 14 ст.), які характарызаваўся ростам свецкіх, рэалістычных тэндэнцый, зваротам да антычных традыцый.

**ПРОТАСТРАНГІЛІ́ДЫ** (н.-лац. protostrongylidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*; паразітуюць пераважна ў дыхальных шляхах аленяў, авечак, коз, зайцоў, трусоў.

**ПРОТАСТЫЛІ́Я** (ад *прота-* + *-стылія*) — рухомае злучэнне верхняй сківіцы з мазгавым чэрапам без удзелу пад'язычнай дугі; існавала ў старажытных рыб групы *акантодаў*.

**ПРОТАФІБРЫ́ЛЫ** (ад *прота-* + *фібрылы*) — тоненькія бялковыя ніткі, з якіх складаюцца фібрылы.

**ПРОТАЦЭРА́ТАПС** (ад *прота-* + *цэратапс*) — невялікі рагаты *дыназаўр* (цэратапс), які меў толькі зачаткавы насавы рог.

**ПРОТАЦЭ́РЭБРУМ** (ад *прота-* + лац. cerebrum = мозг) — пярэдні ўчастак галаўнога мозгу ў членістаногіх.

**ПРОТАЦЭФАЛО́Н** (ад *прота-* + гр. kephale = галава) — участак галавы ракападобных з прымітыўным расчляненнем.

**ПРО́ТЫЙ** (н.-лац. protium, ад гр. protos = першы) — самы лёгкі і найбольш пашыраны *ізатоп* вадароду.

**ПРО́ФІЛЬ** (фр. profil) — 1) абрыс, від збоку (пераважна аб галаве чалавека); 2) від, форма чаго-н. у разрэзе, напр. участка зямной паверхні; 3) сукупнасць рыс і асаблівасцей якой-н. спецыяльнасці, прадпрыемства або навучальнай установы (напр. спецыяліст шырокага профілю).

**ПРУДАНІ́ЗМ** [ад фр. P.Proudhon = прозвішча фр. філосафа і сацыёлага (1809—1865)] — дробнабуржуазная сацыялістычная плынь, якая выступае за зліццё пралетарыяту з буржуазіяй і за паступо-

выя рэформы ў эканамічным і грамадскім жыцці.

**ПРУНЕ́ЛЬ** (фр. prunelle) — *уст.* тонкая шчыльная баваўняная тканіна, якая выкарыстоўваецца для вырабу верху абутку, абіўкі мэблі і інш.

**ПРУСТЫ́Т** [ад фр. J.Proust = прозвішча фр. хіміка (1754—1826)] — мінерал класа сульфасолей чырвонага колеру; сярэбраная руда.

**ПРЫАПУЛІ́ДЫ** (н.-лац. priapulida) — група ніжэйшых чарвей, роднасная *нематгельмінтам*; арганізмы з нерасчлененым целам даўжынёй ад 2 мм да 10 см; пашыраны ва ўмераных зонах Сусветнага акіяна і на вялікіх глыбінях у экватарыяльнай зоне.

**ПРЫВА́Т-ДАЦЭ́НТ** (ням. Privatdozent, ад лац. privatim docens = які навучае прыватна) — вучонае званне пазаштатнага выкладчыка вышэйшай школы ў Расійскай імперыі і некаторых іншых краінах.

**ПРЫВА́ТНЫ** (польск. prywatny, ад лац. privatus) — 1) які належыць пэўнай асобе, не грамадскі, не калектыўны; 2) які датычыць каго-н. асабіста, асабісты (напр. п-ая перапіска); 3) адзінкавы, не агульны, не тыповы (напр. п. выпадак).

**ПРЫВАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. privatus = прыватны) — перадача (продаж) дзяржаўных прадпрыемстваў, сродкаў транспарту, жылых будынкаў і г.д. у прыватную ўласнасць.

**ПРЫВІЛЕ́Я** (польск. przywilej, ад лац. privilegium) — 1) перавага, дадатковае права, якога не маюць іншыя; 2) грамата, якая ў 14—17 ст. выдавалася асобам, класам, гарадам на выключныя правы ў карыстанні чым-н.

**ПРЫЁР** (лац. prior = першы, старэйшы) — настаяцель у каталіцкіх мужчынскіх манастырах.

**ПРЫЗ**[1] (фр. prix = вартасць, цана) — узнагарода пераможцу ў спаборніцтве, конкурсе (спартсмену, артысту, фільму і г.д.).

**ПРЫЗ**[2] (фр. prise) — маёмасць непрыяцеля або кантрабанда, захопленыя на моры ў час вайны.

**ПРЫЗЁР** (фр. priseur) — удзельнік спаборніцтваў, які атрымаў *прыз*[1].

**ПРЫ́ЗМА** (гр. prisma = *літар.* тое, што распілавана) — 1) мнагаграннік з дзвюма роўнымі паралельнымі асновамі і бакавымі гранямі — *паралелаграмамі*; 2) частка аптычнага прыбора ў выглядзе прадмета такой формы з празрыстага рэчыва.

**ПРЫЗМАТО́ІД** (ад гр. prisma, -atos = тое, што распілавана + *-оід*) — мнагаграннік, дзве грані якога з'яўляюцца мнагавугольнікамі, а рэшта — трохвугольнікамі або *трапецыямі*.

**ПРЫ́МА** (лац. prima = першая) — 1) першая ступень *гамы*, а таксама галоўны тон трохгучча; 2) інтэрвал у межах адной ступені гукарада; 3) асоба або музычны інструмент, якія вядуць першую партыю ў ансамблі; 4) *перан.* вышэйшы гатунак.

**ПРЫ́МА-БАЛЕРЫ́НА** (іт. prima ballerina = першая балерына) — *балерына*, якая выконвае першыя ролі ў балеце.

# П

**ПРЫМАДО́ННА** (іт. primadonna = першая дама) — спявачка, якая выконвае першыя партыі ў оперы, аперэце.

**ПРЫ́МАС** (лац. primas = галоўная асоба) — тытул галоўных епіскапаў у каталіцкай і англіканскай царкве.

**ПРЫМА́Т** (лац. primatus = першае месца, старшынство) — першынство, асноўнае значэнне.

**ПРЫМАТАЛО́ГІЯ** (ад *прыматы* + *-логія*) — раздзел *антрапалогіі*, які вывучае прыматаў.

**ПРЫМА́ТЫ** (н.-лац. primates, ад лац. primates = найпершыя, самыя галоўныя) — атрад найбольш высокаарганізаваных млекакормячых, да якіх належаць *малпы* і людзі.

**ПРЫМІТЫВІ́ЗМ** (ад *прымітыў*) — 1) спрошчаны падыход да складаных з'яў; 2) нескладанасць па будове, па тэхніцы выканання; 3) кірунак у мастацтве, які характарызуецца наўмысным спрашчэннем выяўленчых сродкаў і выкарыстаннем форм прымітыўнага (першабытнага, народнага, дзіцячага) мастацтва.

**ПРЫМІТЫ́Ў** (лац. primitivus = першапачатковы, першабытны) — 1) нешта простае, неразвітае ў параўнанні з пазнейшым, больш дасканалым; 2) твор мастацтва з параўнальна невысокай тэхнікай выканання, які належыць да ранніх стадый развіцця культуры.

**ПРЫМІТЫ́ЎНЫ** (лац. primitivus) — 1) нескладаны, залішне проста зроблены (напр. п. механізм); 2) недастаткова глыбокі, спрошчаны (напр. п. падыход); 3) грубы, з вузкім абмежаваным поглядам (напр. п. чалавек); 4) першабытны, які знаходзіцца на нізкіх ступенях развіцця (напр. п-ыя плямёны).

**ПРЫМО́РДЫЙ** (лац. primordium = узнікненне) — нерасчлtotenены пачатак ліста ў выглядзе грудка або валіка на конусе нарастання парастка.

**ПРЫ́МУЛА** (лац. primula = першая, пачатковая) — травяністая расліна сям. першакветных з трубчастымі кветкамі розных колераў у парасонападобных суквеццях, пашыраная ў розных кліматычных зонах; лекавая і дэкаратыўная; першацвет.

**ПРЫ́МУС** (лац. primus = першы, лепшы) — газавая гарэлка (з помпай) для гатавання ежы.

**ПРЫНСЕ́ПІЯ** (н.-лац. prinsepia) — лістападная кустовая расліна сям. ружавых з калючымі галінамі, прадаўгаватым лісцем і жоўтымі духмянымі кветкамі, пашыраная на Далёкім Усходзе, у Кітаі і Гімалаях; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ПРЫ́НТЭР** (англ. printer = друкар) — друкарскае ўстройства электронна-вылічальнай машыны для вываду літарна-лічбавай інфармацыі.

**ПРЫ́НТЭРНЫ** (ад *прынтэр*) — 1) друкарскі (апарат, устройства і г.д.); 2) які абазначае прыналежнасць да прынтэра (шрыфт, стужка, папера і г.д.).

**ПРЫНЦ** (ням. Prinz, ад лац. princeps = галава, валадар) — член каралеўскай сям'і.

**ПРЫНЦ-КО́НСАРТ** (англ. prince consort) — муж законнай каралевы.

**ПРЫ́НЦЫП** (лац. principium = аснова, пачатак) — 1) асноўнае, зыходнае палажэнне якой-н. навукі, тэорыі (напр. дэмакратычны п. кіраўніцтва); 2) перакананне, пункт погляду; 3) асноўная асаблівасць будовы якога-н. механізма (напр. п. дзеяння машыны).

**ПРЫНЦЫПА́Л** (лац. principalis = галоўны) — 1) *уст.* начальнік, гаспадар у адносінах да падначаленых; 2) асоба, ад імя якой і за кошт якой дзейнічае агент, прадстаўнік.

**ПРЫНЦЫПА́Т** (лац. principatus = кіруючая роля, імператарская ўлада) — форма дзяржаўнага кіравання ў Стараж. Рыме (1 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.), пры якой захоўваліся рэспубліканскія ўстановы, але фактычна ўлада належала імператару, што лічыўся першым сярод роўных.

**ПРЫНЦЫПО́ВЫ** (ад *прынцып*) — 1) звязаны з прынцыпамі, заснаваны на прынцыпах; 2) які строга прытрымліваецца прынцыпаў, кіруецца імі ў сваіх паводзінах.

**ПРЫ́НЦЭПС** (лац. princeps = першы) — асоба, у руках якой засяроджвалася ўлада ў перыяд старажытнарымскага *прынцыпату*.

**ПРЫНЦЭ́СА** (ням. Prinzessin, фр. princesse) — тытул дачкі караля або жонкі *прынца*.

**ПРЫСТЭ́ЛА** (н.-лац. pristella) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў невялікіх стаячых або малапраточных вадаёмах на поўначы Паўд. Амерыкі; вядома як акварыумная.

**ПРЫТЧА́РДЫЯ** (н.-лац. pritchardia) — *пальма* з калонападобным ствалом і веерным лісцем, пашыраная ў вільготных трапічных лясах на Гавайскіх астравах і на астравах Фіджы, Туамоту.

**ПРЫФІ́КС** (фр. prix fixe = цвёрдая цана) — цана, якая не падлягае ні зніжэнню, ні павышэнню.

**ПРЫЯРА́Т** (іт. priorato) — орган гарадскога кіравання некаторых сярэдневяковых гарадоў-камун Сярэд. Італіі (Фларэнцыі, Арэца, Вальтэры і інш.).

**ПРЫЯРЫТЭ́Т** (ням. Priorität, ад лац. prior = першы) — 1) першынство, першае месца па часе ў адкрыцці, вынаходніцтве, фармуліроўцы якой-н. ідэі; 2) пераважнае права на што-н., пераважаючае значэнне чаго-н.

**ПРЭАДАПТА́ЦЫЯ** (ад лац. prae = спераду + *адаптацыя*) — з'яўленне ў арганізме жывёл і раслін прымет, якія не маюць першаснага прыстасавальнага значэння, але ў змененых умовах існавання могуць стаць карыснымі.

**ПРЭА́МБУЛА** (фр. préambule, ад лац. preambulus = які наперадзе) — 1) прадмова, уступная частка якога-н. міжнароднага дакумента; 2) *перан.* пераход да якой-н. размовы, уступ да бяседы (напр. жартаўлівая п.).

**ПРЭБЕ́НДА** (с.-лац. praebenda = тое, што павінна быць дадзена) — даходы і маёмасць, якія даюцца прывілеяванай часткі каталіцкага духавенства за выкананне абавязкаў, звязаных з займаемай пасадай.

# П

**ПРЭВАЛІ́РАВАЦЬ** (ням. prävalieren, ад лац. praevalere = пераважаць, перавышаць) — мець перавагу, пераважаць.

**ПРЭВЕНТЫ́ЎНЫ** (фр. preventif, ад лац. praeventivus) — папераджальны, засцерагальны; п-ая вайна — вайна, якая нібыта мае мэтай папярэдзіць або прадухіліць напад праціўніка, а ў сапраўднасці з'яўляецца формай *агрэсіі*.

**ПРЭВЕ́НЦЫЯ** (лац. praeventio) — папярэджанне злачынства.

**ПРЭДЫКА́Т** (лац. praedicatum) — 1) паняцце, якое раскрывае змест прадмета суджэння і азначае яго; 2) *лінгв.* выказнік.

**ПРЭДЫКАТЫ́ЎНЫ** (лац. praedicativus) — які мае аданосіны да *прэдыката*, з'яўляецца прэдыкатам.

**ПРЭДЫКА́ЦЫЯ** (лац. praedicatio) — 1) вызначэнне, раскрыццё зместу суб'екта *прэдыкатам*; 2) *лінгв.* устанаўленне прэдыкатыўнай сувязі паміж членамі сказа.

**ПРЭ́ЗЕНС** (лац. praesens) — *лінгв.* цяперашні час.

**ПРЭЗЕ́НТ** (фр. présent, ад лац. praesentare = дарыць) — падарунак, гасцінец.

**ПРЭЗЕНТА́БЕЛЬНЫ** (фр. presentable) — відны, паважны, самавіты (напр. п. выгляд).

**ПРЭЗЕНТАВА́ЦЬ** (польск. prezentować, ад лац. praesentare) — зрабіць падарунак, падарыць.

**ПРЭЗЕНТА́НТ** (ад лац. praesentare = перадаваць, уручаць) — той, хто прад'яўляе грашовы дакумент (вэксаль і інш.).

**ПРЭЗЕНТА́ЦЫЯ** (лац. praesentatio) — падача, прадстаўленне для аплаты грашовага дакумента.

**ПРЭЗЕНТЫ́ЗМ** (лац. praesens, -ntis = цяперашні час) — кірунак у метадалогіі гісторыі, які разглядае гістарычную навуку не як адлюстраванне рэальнага працэсу развіцця грамадства, а як выражэнне ідэалагічных адносін сучаснасці.

**ПРЭЗЕРВАТЫ́Ў** (лац. praeservativus = які ахоўвае) — прыстасаванне, якое прымяняецца для засцеражэння ад цяжарнасці і венерычных хвароб.

**ПРЭЗЕРВА́ЦЫЯ** (лац. praeservatio) — засцеражэнне ад чаго-н.

**ПРЭЗЕ́РВЫ** (лац. praeservo = ахоўваю, засцерагаю) — 1) расфасаваныя і герметызаваныя харчовыя прадукты, якія, у адрозненне ад кансерваў, не падвергнуты *пастэрызацыі* або *стэрылізацыі*, а захоўваюцца дзякуючы прымяненню кансервуючых рэчываў; 2) святлоахоўныя акуляры.

**ПРЭЗІ́ДЫУМ** (лац. praesidium = абарона; старшынства) — 1) выбарны орган, які кіруе сходам, нарадай, канферэнцыяй, а таксама асобы, якія ўваходзяць у такі орган; 2) кіруючы орган некаторых арганізацый і ўстаноў, а таксама асобы, якія ўваходзяць у такі орган.

**ПРЭЗІДЭ́НТ** (лац. praesidens, -ntis = *літар.* які сядзіць наперадзе) — 1) выбраны на пэўны час кіраўнік дзяржавы ў большасці краін з рэспубліканскай формай праўлення; 2) кіраўнік буйной установы, таварыства, фірмы.

**ПРЭЗІНДЖА́НТРАП** (ад лац. prae = перад + *зінджантрап*) — выкапнёвы высокаразвіты чалавекападобны *прымат*, які некаторыя вучоныя адносяць да старажытнейшых людзей.

**ПРЭЗУМПТЫ́ЎНЫ** (лац. praesumptivus); п - ы я з а ч а т к і — вобласці яйца або ранняга зародка, з якіх развіваюцца тыя або іншыя органы.

**ПРЭЗУ́МПЦЫЯ** (лац. praesumptio = меркаванне) — 1) адзін з прынцыпаў судаправядзення, згодна з якім абвінавачваемы лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго віна не будзе даказана ва ўстаноўленым законам парадку; 2) меркаванне, здагадка.

**ПРЭ́ЙСІЯ** (н.-лац. preissia) — пячоначны мох сям. маршанцыевых, які расце на старых мураваных сценах, вільготных скалах, у сырых зацененых месцах.

**ПРЭЙСКУРА́НТ** (ням. Preiskurant, ад ням. Preis = цана + фр. courant = цяперашні) — даведнік цэн на тавары.

**ПРЭКА́РЫЙ** (лац. precarium = выпрашаная рэч) — права на карыстанне зямлёй, якое ў перыяд ранняга сярэдневякоўя даваў зямельны ўласнік на пэўны тэрмін па просьбе да яго.

**ПРЭ́КАС** (фр. précoce, ад лац. praecox = скараспелы) — танкарунная парода авечак, выведзеная ў Францыі ў канцы 19 ст.

**ПРЭЛА́Т** (ст.-польск. prełat, ад лац. praelatus = пастаўлены над кім-н.) — вышэйшая духоўная асоба (епіскап, ігумен) у каталіцкай і англіканскай цэрквах.

**ПРЭЛІМІНА́РНЫ** (ад *прэлімінарыі*) — папярэдні; п. д а г а в о р — папярэдні дагавор, у якім ваюючыя бакі вызначылі асноўныя палажэнні будучага мірнага дагавору.

**ПРЭЛІМІНА́РЫІ** (фр. préliminaire, ад лац. prae = раней, перад + limen, -minis = пачатак) — папярэднія, падрыхтоўчыя рашэнні, перагаворы.

**ПРЭЛЮ́ДЫЯ** (н.-лац. praeludium) — 1) уступная частка да музычнага твора або самастойны музычны твор без строгай формы для *фартэпіяна*; 2) *перан.* уступ да чаго-н. (напр. п. сваркі).

**ПРЭМАЛЯ́РЫ** (ад лац. prae = раней, перад + moles = маса) — зубы, размешчаныя паміж клыкамі і карэннымі зубамі.

**ПРЭМ'Е́Р** (фр. primier = першы) — 1) тое, што і *прэм'ер-міністр*; 2) акцёр, які выконвае першыя, галоўныя ролі.

**ПРЭМ'Е́РА** (фр. première = *літар.* першая) — першы паказ спектакля, фільма і г.д.

**ПРЭМ'Е́Р-МІНІ́СТР** (ад *прэм'ер* + *міністр*) — старшыня ўрада, старшыня кабінета міністраў у некаторых краінах.

**ПРЭ́МІКСЫ** (ад лац. prae = раней, перад + miscere = змешваць) — сумесі біялагічна актыўных рэчываў мікрабіялагічнага і хімічнага сінтэзу, якія выкарыстоўваюцца для павышэння пажыўнасці камбікармоў і паляпшэння іх біялагічнага дзеяння на арганізм жывёл.

**ПРЭ́МІЯ** (лац. praemium = узнагарода) — 1) грашовае або іншае ма-

тэрыяльнае заахвочванне за поспехі ў навуцы, літаратуры, мастацтве і іншых галінах культуры або вытворчасці; 2) грашовая сума як заахвочванне за вываз некаторых тавараў; 3) розніца паміж біржавай і намінальнай вартасцю каштоўнай паперы.

**ПРЭНАТА́ЛЬНЫ** (ад лац. prae = спераду + natalis = які адносіцца да нараджэння); п - а е р а з в і ц ц ё — развіццё зародка жывародных жывёл у перыяд перад нараджэннем.

**ПРЭНТ** (польск. pręt) — металічны прут.

**ПРЭПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. praepositio = пастаноўка ўперадзе) — *лінгв.* становішча слова або сказа перад іншым словам або сказам, звязаным з ім (параўн. *постпазіцыя*).

**ПРЭПАРАВА́ЦЬ, ПРЭПАРЫ́РАВАЦЬ** (лац. praeparare = гатаваць) — 1) апрацоўваць жывёльны або раслінны арганізм для вырабу з яго *прэпаратаў*, 2) *перан.* падрыхтоўваць што-н., апрацоўваючы пэўным чынам (напр. п. аўтарскі тэкст).

**ПРЭПАРА́Т** (лац. praeparatus = прыгатаваны) — 1) частка жывёльнага ці расліннага арганізма, прыгатаваная для даследавання; 2) прадукт лабараторнага або фабрычнага вырабу лячэбнага ці іншага прызначэння (напр. медыцынскі п.).

**ПРЭПАРА́ТАР** (лац. praeparator = які падрыхтоўвае) — той, хто займаецца прэпараваннем чаго-н., вырабляе *прэпараты*.

**ПРЭПАРЫ́РАВАЦЬ** гл. *прэпараваць*.

**ПРЭПРЫ́НТ** (англ. preprint, ад лац. prae = спераду + англ. print = адбітак) — адбітак тэксту навуковага даклада ці артыкула, надрукаваны сродкамі так званай аператыўнай *паліграфіі* невялікім тыражом для хуткага азнаямлення з ім вузкага кола спецыялістаў.

**ПРЭРАГАТЫ́ВА** (польск. prerogatywa, ад лац. praerogativa) — выключнае права, якое належыць якому-н. дзяржаўнаму органу або адказнай асобе.

**ПРЭРАФАЭЛІ́ТЫ** [ад лац. prae = раней, перад + іт. Raffaello = імя іт. мастака (1483—1530)] — англійскія мастакі і паэты, якія ў 1848 г. аб'ядналіся ў групу, што імкнулася адрадзіць мастацтва дарафаэлеўскага часу (перыяду сярэдневякоўя і ранняга Адраджэння).

**ПРЭРЫА́ЛЬ** (фр. prairial, ад prairie = луг) — дзевяты месяц года (з 20—21 мая па 18—19 чэрвеня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

**ПРЭ́РЫЯ** (фр. prairie) — вялікі стэп у Паўн. Амерыцы.

**ПРЭС** (фр. presse, ад лац. pressus = ціск) — 1) машына для апрацоўкі матэрыялаў ціскам; 2) прылада для выціскання вадкасці з чаго-н.; 3) *перан.* тое, што прыгнятае каго-н., што-н. (напр. цэнзурны п.).

**ПРЭ́СА** (фр. presse) — агульная назва перыядычнага друку (газет, часопісаў і інш.).

**ПРЭСАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. pressus = ціск + *рэцэптары*) — чуллівыя нервовыя заканчэнні ў сценках крывяносных сасудаў, по-

лых унутраных органах, якія ўспрымаюць змяненні ціску.

**ПРЭС-АТАШЭ́** (фр. presse-attaché) — супрацоўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва (пасольства, місіі і інш.) па пытаннях друку і інфармацыі.

**ПРЭСБІТЭ́РЫЙ** (п.-лац. presbyterium) — падвышэнне для алтара ва ўсходняй частцы каталіцкага храма.

**ПРЭСБІЯКУ́ЗІС** (ад гр. presbys = стары + akusis = слых) — паніжэнне слыху ў пажылым узросце ў выніку ўзроставых змен у тканках органа слыху.

**ПРЭСБІЯПІ́Я** (ад гр. presbys = стары + ops, opos = вока) — старэчае аслабленне *акамадацыі* вока ў выніку страты крышталікам здольнасці змяняць сваю крывізну; старэчая дальназоркасць.

**ПРЭС-БЮРО́** (англ. press-bureau) — 1) бюро друку, інфармацыйны аддзел у пасольствах, прадстаўніцтвах; 2) рэдакцыйны апарат для абслугоўвання прэсы, створаны на перыяд работы з'ездаў, канферэнцый, нарад.

**ПРЭСВІ́ТЭР** (гр. presbyteros = старэйшына) — 1) святар у праваслаўнай і каталіцкай царкве; 2) кіраўнік пратэстанцкай рэлігійнай абшчыны ў Англіі.

**ПРЭСВІТЭРЫЯ́НСТВА** (ад гр. presbyteros = старэйшына) — рэлігійнае пратэстанцкае веравучэнне, адна з плыняў *кальвінізму*, што ўзнікла ў 16 ст. у Англіі, паслядоўнікі якога не прызнаюць улады епіскапа, а толькі святара (*прэсвітэра* 2).

**ПРЭСЕЛЕ́КТАР** (ад лац. prae = раней, перад + *селектар*) — электрамагнітнае ўстройства для ўзмацнення сігналу прымальнай радыёстанцыі.

**ПРЭСЕНІ́ЛЬНЫ** (лац. praesenilis) — передстарэчы; п. п с і х о з — разлад *псіхікі*, які сустракаецца ў пажылым узросце.

**ПРЭ́СІНГ** (англ. pressing, ад press = ціснуць) — спосаб актыўнай абароны ў спартыўных гульнях з мячом *(футболе, баскетболе, хакеі)*.

**ПРЭС-КАНФЕРЭ́НЦЫЯ** (англ. press-conference) — сустрэча дзяржаўных, палітычных, грамадскіх ці навуковых дзеячаў з прадстаўнікамі друку для паведамлення якіх-н. звестак.

**ПРЭС-КЛІШЭ́** (ад *прэса* + *клішэ*) — аддзел пры тэлеграфных агенцтвах, які вырабляе і забяспечвае прэсу гатовымі клішэ.

**ПРЭС-КЛУ́Б** (ад *прэса* + *клуб*) — клуб журналістаў.

**ПРЭС-ПАП'Е́** (фр. presse-papier, ад presse = ціснуць + papier = папера) — 1) прыналежнасць пісьмовага прыбора ў выглядзе драўлянага, мармуровага ці іншага бруска або выгнутай пласцінкі з лісткамі прамакаткі; 3) цяжкі прадмет з бронзы, мармуру, якім прыціскаюць паперы, дакументы, каб яны не раскідаліся.

**ПРЭС-РЭЛІ́З** (англ. press-release = выпуск для прэсы) — спецыяльныя *бюлетэні* для работнікаў органаў масавай інфармацыі.

**ПРЭ́СТА** (іт. presto) — 1) *муз.* вельмі хуткі тэмп, хутчэйшы, чым

*вівачэ*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**ПРЭСТІДЫЖЫТА́ТАР** (іт. prestidigitatore, ад presto = хуткі + digito = палец) — цыркавы *акцёр*, які паказвае фокусы, што грунтуюцца на хуткасці і спрытнасці рухаў.

**ПРЭСТЫ́Ж** (фр. prestige) — *аўтарытэт*, уплыў, якім карыстаецца хто-н.

**ПРЭСТЫ́СІМА** (іт. prestissimo) — вельмі хутка, хутчэй за *прэста* (пра тэмп выканання музычнага твора).

**ПРЭС-ФО́РМА** (ням. Pressform) — прыстасаванне для вырабу аб'ёмных рэчаў, дэталей шляхам прасавання.

**ПРЭС-ЦЭ́НТР** (ад *прэс* + *цэнтр*) — 1) орган з'езду, міжнароднай або іншай нарады, спартыўных спаборніцтваў, які забяспечвае карэспандэнтаў і каментатараў радыё і тэлебачання інфармацыяй; 2) цэнтр журналістаў, дзе-н. акрэдытаваных.

**ПРЭСШПА́Н** (ням. Preß span) — *уст.* шчыльна спрасаваны, глянцаваны *кардон*.

**ПРЭ́ТАР** (лац. praetor) — прадстаўнік вышэйшай судовай улады ў Стараж. Рыме.

**ПРЭТАРЫЯ́НЦЫ** (лац. praetoriani) — 1) салдаты асабістай варты прэтара ў Стараж. Рыме, а потым — салдаты імператарскай гвардыі; 2) *перан.* наёмныя войскі, якія служаць апорай улады, заснаванай на насіллі.

**ПРЭТО́РЫЙ** (лац. praetorium) — 1) месца ў вайсковым лагеры старажытнарымскай арміі, дзе знаходзілася палатка палкаводца; 2) ваенная рада пры старажытнарымскім палкаводцы.

**ПРЭТО́РЫЯ** [лац. praetoria (cohors) = прэтарыянская варта] — аддзел *прэтарыянцаў*.

**ПРЭТЭНДАВА́ЦЬ** (польск. pretendować, ад лац. praetendere) — 1) дамагацца чаго-н., прад'яўляць свае правы на што-н. (напр. п. на асобае становішча); 2) прыпісваючы сабе якія-н. якасці, дамагацца прызнання іх іншымі (напр. п. на дасціпнасць).

**ПРЭТЭНДЭ́НТ** (лац. praetendens, -ntis) — асоба, якая дамагаецца права на што-н. (напр. п. на шахматную карону).

**ПРЭТЭ́НЗІЯ** (лац. praetensio) — дамаганне валодаць чым-н., патрабаванне, іск (напр. п. на спадчыну); 2) скарга, выражэнне незадаволенасці з выпадку чаго-н. (прад'явіць прэтэнзіі); 3) імкненне прыпісаць сабе якасці, якіх звычайна няма (напр. прэтэнзіі на культурнасць).

**ПРЭТЭНЦЫЁЗНЫ** (рус. претенциозный, ад фр. pretentieux = патрабавальны) — 1) надуманы, манерны (напр. п-ая архітэктура); 2) які *прэтэндуе* на значнасць, арыгінальнасць (напр. п-ыя паводзіны).

**ПРЭТЭ́РЫТ** (лац. praeteritum) — *лінгв.* прошлы час.

**ПРЭФАРМА́ЦЫЯ** (ад лац. preformare = утвараць наперад) — распаўсюджаная ў *біялогіі* 18 ст. тэорыя, паводле якой у палавых клетках у гатовым выглядзе знаходзіцца цалкам сфарміраваны зародак, а далейшае развіццё яго заключаецца толькі ў павелічэнні памераў.

**ПРЭФАРМІ́ЗМ** (ад лац. preformare = утвараць наперад) — вучэнне аб наяўнасці ў палавых клетках матэрыяльных структур, якія прадвызначаюць развіццё зародка і ўласцівасці будучага арганізма.

**ПРЭФЕ́КТ** (лац. praefectus = начальнік) — 1) асоба, якая займала вайсковую, адміністрацыйную, судовую або гаспадарчую пасаду ў Стараж. Рыме; 2) прадстаўнік цэнтральнага ўрада ў правінцыях, дэпартаментах, прэфектурах некаторых краін; 3) начальнік паліцыі ў некаторых краінах Зах. Еўропы.

**ПРЭФЕКТУ́РА** (лац. prefectura) — 1) адміністрацыйная адзінка ў старажытнарымскай імперыі; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзін - ка ў некаторых краінах, напр. у Японіі; 3) службовае памяшканне *прэфекта*, яго канцылярыя.

**ПРЭФЕРА́НС** (фр. preference = *літар.* перавага, ад лац. praeferre + аддаваць перавагу) — трохасабовая (або чатырохасабовая) картачная гульня.

**ПРЭФЕРЭНЦЫ́ЙНЫ** (лац. praeferens, -ntis = які аддае перавагу) — які мае адносіны да *прэферэнцыі*, заснаваны на ёй.

**ПРЭФЕРЭ́НЦЫЯ** (фр. préférence = перавага, ад лац. praferre = аддаваць перавагу) — перавага, прывілея, ільгота, якая даецца каму-н.

**ПРЭ́ФІКС** (лац. praefixus = прымацаваны спераду) — *лінгв.* прыстаўка.

**ПРЭФІ́КС** (фр. prefix) — датэрміновы плацёж па *вэксалю*.

**ПРЭФІКСА́ЦЫЯ** (ад *прэфікс*) — спосаб утварэння слоў шляхам далучэння прэфікса.

**ПРЭЦЫЗІ́ЙНЫ** (ад фр. précision = дакладнасць) — які вызначаецца высокай дакладнасцю, напр. п. станок або электравымяральны прыбор.

**ПРЭЦЫПІТАВА́ЦЬ** (лац. praecipitare = скідаць уніз) — выклікаць выдзяленне з раствору якога-н. прадукту ў выглядзе асадку.

**ПРЭЦЫПІТА́Т** (лац. praecipitatus = скінуты ўніз) — 1) асадак; 2) фосфарнае ўгнаенне ў выглядзе белага парашку.

**ПРЭЦЫПІТА́ЦЫЯ** (лац. praecipitatio = скіданне) — 1) рэакцыя, якая прыводзіць да выдзялення з раствору нерастваральных прадуктаў у выглядзе асадку; 2) асаджэнне *антыгена* (напр. экстракта бактэрый) з фізіялагічнага раствору пад уплывам спецыфічнай (антымікробнай) сывараткі.

**ПРЭЦЫПІЦІ́НЫ** (ад лац. praecipitare = скідаць уніз) — спецыфічныя рэчывы (антыцелы), якія з'яўляюцца ў арганізме чалавека і жывёл пасля ўвядзення іншародных бялкоў.

**ПРЭЦЭДЭ́НТ** (лац. praecedens, -ntis = папярэдні) — 1) выпадак ці ўчынак, які адбыўся ў мінулым і служыць прыкладам ці апраўданнем такіх жа выпадкаў ці ўчынкаў у будучым; 2) рашэнне суда, якое прымаецца за ўзор пры рашэнні аналагічных выпадкаў.

**ПРЭЦЭ́СІЯ** (лац. praecessio = папярэднічанне) — рух восі ўласнага вярчэння цвёрдага цела, пры якім яна апісвае кругавую канічную паверхню.

**ПРЭЮДЫЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. praeiudicialis) — які з'яўляецца пад-

# П

ставай для вырашэння ў судзе дадзенай справы.

**ПСАЛМО́ДЫЯ** (гр. psalmodia) — спосаб спявання *псалмаў* у форме меладычнай *дэкламацыі*.

**ПСАЛО́М** (гр. psalmos) — кожны з рэлігійных і маральна-павучальных спеваў, з якіх складаецца *Псалтыр*.

**ПСАЛТЫ́Р** (гр. psalterion) — адна з біблейскіх кніг Старога запавету, якая складаецца з *псалмаў*.

**ПСАЛТЭ́РЫЮМ** (лац. psalterium, ад гр. psalterion = псалтыр) — шматструнныя шчыпковыя музычныя інструменты без шыйкі (тыпу гусляў).

**ПСА́ЛЬМА** (гр. psalmos) — *кант* на рэлігійную тэматыку.

**ПСАМАФІ́ЛЫ** (ад гр. psammos = пясок + *-філ*) — жывёлы, якія жывуць у пясках, напр. пясчаная блыха, яшчаркі, тушканчыкі.

**ПСАМАФІ́ТЫ** (ад гр. psammos = пясок + *-фіты*) — расліны, якія растуць на пяску, напр. пясчаная асака, саксаул, вярба вастралістая; пясчаныя расліны.

**ПСАМІ́ТЫ** (гр. psammites = пясчаны) — горныя пароды — пяскі і пясчанікі з памерам зярнят звычайна ад 1 да 0,1 мм.

**ПСАМО́Н** (ад гр. psammos = пясок + on = якое існуе) — сукупнасць мікраскапічных арганізмаў, якія жывуць у вільготным пяску па берагах рэк і азёр.

**ПСАРАЛЕ́Я** (н.-лац. psoralea, ад гр. psoraleos = агідны) — травяністая расліна сям. бабовых з доўгім коранем, пашыраная ў Сярэд. Азіі.

**ПСАРАПТО́З** (н.-лац. psoroptos) — інвазійная хвар[illegible] жывёл, якая выклікаецца каростав ымі кляшчамі; наскурная кароста.

**ПСАРЫЯ́З** (н.-лац. psoriasis, ад гр. psoriao = пакутую на хваробу скуры) — хранічнае захворванне скуры, выкліканае парушэннем дзейнасці нервовай сістэмы; лускаваты лішай.

**ПСАТЫРЭ́ЛА** (н.-лац. psathyrella) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гнаевіковых, які расце на глебе, гноі, адмерлай драўніне, часам на жывой драўніне і шапкавых грыбах; ядомы.

**ПСЕЎДА-** (гр. pseudos = выдумка, хлусня) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «несапраўдны», «надуманы», «ілжывы».

**ПСЕЎДААКТЫНАМІКО́З** (ад *псеўда-* + *актынамікоз*) — тое, што і *актынабацылёз*.

**ПСЕЎДААРТРО́З** (ад *псеўда-* + гр. arthron = сустаў) — рухомае з'яднанне частак паталагічна змененай трубчастай косткі, якое ўтварылася на месцы пералому; несапраўдны сустаў.

**ПСЕЎДАГАЛАПЕ́ДЫЯ** (н.-лац. pseudoholopedia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. мерысмапедыевых, якая пашырана ў прэсных і салёных водах.

**ПСЕЎДАГА́МІЯ** (ад *псеўда-* + *-гамія*) — 1) палавы працэс у многіх вышэйшых грыбоў; 2) утварэнне зародка ў насенні пакрытанасенных раслін без апладнення пры абавязковай стымуляцыі пылцовай трубкай.

**ПСЕЎДАГЕРМАФРАДЫТЫ́ЗМ** (ад *псеўда-* + *гермафрадыт*) — разнавіднасць *гермафрадытызму*,

калі палавыя органы і другасныя палавыя прыметы асобіны не адпавядаюць характару палавой залозы.

**ПСЕЎДАГО́ТЫКА** (ад *псеўда-* + *готыка*) — стылістычны кірунак у заходнееўрапейскай архітэктуры 18 — пач. 20 ст., які характарызаваўся эклектычным выкарыстаннем форм готыкі.

**ПСЕЎДАДУПЛЕ́КС** (ад *псеўда-* + *дуплекс*) — спосаб двухфарбавай рэпрадукцыі паўтонавага арыгінала.

**ПСЕЎДАДЫ́ПТЭР** (ад *псеўда-* + *дыптэр*) — старажытнагрэчаскі храм, які адрозніваецца ад дыптэра адсутнасцю ўнутранага рада калон.

**ПСЕЎДАКА́РСТ** (ад *псеўда-* + *карст*) — тып утварэнняў, які знешне нагадвае карст, але абумоўлены іншымі працэсамі.

**ПСЕЎДАКЕФІ́РЫЯН** (н.-лац. pseudokephyrion) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. лепахраманадавых, якая пашырана ў балотах, азёрах, рэках.

**ПСЕЎДАКЛА́СІК** (ад *псеўда-* + *класік*) — прыхільнік *псеўдакласіцызму*.

**ПСЕЎДАКЛАСІЦЫ́ЗМ** (ад *псеўда-* + *класіцызм*) — штучны стыль італьянскай, французскай і рускай літаратуры 18 — пач. 20 ст., які намагаўся ўзнавіць антычныя мастацкія ідэалы.

**ПСЕЎДАЛО́ГІЯ** (ад *псеўда-* + *-логія*) — хваравітая схільнасць да выдумак, стварэння фантастычных гісторый, у якіх суб'ект ставіць сябе ў цэнтр падзей.

**ПСЕЎДАМАНА́ДЫ** (ад *псеўда-* + гр. monas, -ados = адзінокі) — *бактэрыі* ў выглядзе прамых або крыху выгнутых палачак з палярна размешчанымі жгуцікамі.

**ПСЕЎДАМАРФІ́ЗМ** (ад *псеўда-* + *-марфізм*) — з'ява, якая заключаецца ў тым, што крышталі аднаго мінерала прымаюць выгляд, уласцівы крышталям іншага мінерала.

**ПСЕЎДАМАРФО́ЗЫ** (ад *псеўда-* + *-марфоз*) — крышталі, форма якіх не адпавядае ўнутранай структуры мінерала, які ўтварае іх.

**ПСЕЎДАМІ́КСІС** (ад *псеўда-* + *-міксіс*) — тое, што і *саматагамія*.

**ПСЕЎДАМНЕ́ЗІЯ** (ад *псеўда-* + гр. mnesis = успамін) — тое, што і *парамнезія*.

**ПСЕЎДАНІ́М** (гр. pseudonymos = носьбіт выдуманага імені) — выдуманае прозвішча, якім карыстаюцца пісьменнікі, мастакі, артысты і г.д.

**ПСЕЎДАПЕРЫ́ПТЭР** (ад *псеўда-* + *перыптэр*) — антычны храм, у якім, у адрозненне ад перыптэра, калоны бакавых і задняга фасадаў не маюць поўнага аб'ёму і толькі напалову выступаюць са сцяны.

**ПСЕЎДАПЕЦЫ́ЦА** (н.-лац. pseudopeziza) — сумчаты грыб сям. дэрматэяцавых, які трапляецца на лісці люцэрны, канюшыны, парэчак.

**ПСЕЎДАПЛЕКТА́НІЯ** (н.-лац. pseudoplectania) — сумчаты грыб сям. саркасцыфавых, які расце ў хваёвых лясах на глебе, сярод імхоў, на іглiцы і гнілой драўніне.

**ПСЕЎДАПО́ДЫІ** (ад *псеўда-* + *-подыі*) — часовыя тонкія адросткі

*пратаплазмы*, якія выпускаюцца целам шматлікіх прасцейшых жывёл, напр. *амёб*, для перамяшчэння і захоплівання ежы; псеўданожкі.

**ПСЕЎДАПОЛІЭДРЫЁПСІС** (н.-лац. pseudopolyedriopsis) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая трапляецца ў рэках, азёрах, вадасховішчах, сажалках.

**ПСЕЎДАРАМАНТЫ́ЗМ** (ад *псеўда-* + *рамантызм*) — 1) назва рамантызму 19 ст. у адрозненне ад рамантызму сярэдневяковага перыяду; 2) уяўна рамантычны характар чаго-н.

**ПСЕЎДАРЭАЛІ́ЗМ** (ад *псеўда-* + *рэалізм*) — уяўны рэалізм.

**ПСЕЎДАРЭЛІ́КТЫ** (ад *псеўда-* + *рэлікты*) — віды раслін і жывёл, што з'яўляюцца рэліктамі ў адных рэгіёнах, а ў выніку пашырэння іх першапачатковага арэала паўторна засяляюць новыя рэгіёны, у якіх яны з'яўляюцца ўжо псеўдарэліктамі.

**ПСЕЎДАРЭМІНІСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *псеўда-* + *рэмінісцэнцыя*) — парушэнне памяці (разнавіднасць *парамнезіі*), якое заключаецца ў расстройстве лакалізацыі па часе і месцу падзей.

**ПСЕЎДАСІНСКРЫ́ПТА** (н.-лац. pseudosynscrypta) — каланіяльная залацістая водарасць сям. вохраманадавых, якая трапляецца ў *планктоне* сажалак.

**ПСЕЎДАСКЛЕРАПО́ДЫУМ** (н.-лац. pseudoscleropodium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які расце пераважна на глебе ў хваёвых лясах і на сухіх лугах.

**ПСЕЎДАСФЕ́РА** (ад *псеўда-* + *сфера*) — *мат.* паверхня, утвораная паваротам *трактрысы* вакол яе асімптоты.

**ПСЕЎДАТУБЕРКУЛЁЗ** (ад *псеўда-* + *туберкулёз*) — інфекцыйная хвароба свойскіх жывёл, якая характарызуецца ўтварэннем ва ўнутраных органах і лімфатычных вузлах гнойных бугаркоў, якія знешне нагадваюць туберкулёзныя вузялкі.

**ПСЕЎДАТЭРА́СЫ** (ад *псеўда-* + *тэрасы*) — выраўненыя, гарызантальныя або слабанахільныя паверхні на схілах, паходжанне якіх звычайна не звязана з прычынамі, якія выклікаюць утварэнне рачных тэрас.

**ПСЕЎДАТЭТРАЭ́ДРАН** (н.-лац. pseudotetraedran) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. сцыадавых, якая пашырана ў рэках і сажалках.

**ПСЕЎДАЦЫФЕЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. pseudocyphellaria) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. лабарыевых, які расце на ствалах дрэў, радзей на камяністым субстраце і глебе.

**ПСЕЎДАЭВЕ́РНІЯ** (н.-лац. pseudoevernia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. гіпагімніевых, які расце на ствалах і галінах хвойных, радзей лісцевых дрэў.

**ПСЕЎДАЭФЕМЕ́РУМ** (н.-лац. pseudoephemerum) — лістасцябловы мох сям. дакрынавых, які расце на вільготнай глінiстай глебе, схілах канаў, ям, на лугах.

**ПСЕФІ́ТЫ** (ад гр. psephos = галыш, галька) — горныя пароды —

шчэбень, галька, жарства, жвір з памерам зярнят ад 10 см да 1 мм.

**ПСІЛАМЕЛА́Н** (ад гр. psilos = голы + melas, -anos = чорны) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў чорнага або цёмна-карычневага колеру; руда марганцу.

**ПСІЛАФІ́ТЫ** (н.-лац. psilophyta) — аддзел вымерлых вышэйшых раслін, якія былі пашыраны ў *палеазоі*.

**ПСІЛО́ЦЫБЕ** (н.-лац. psilocybe) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. страфарыевых, які расце на забалочаных глебах у лясах, на адмерлых галінках і сцёблах раслін, на сфагнавых балотах.

**ПСІТАКАЗА́ЎР** (ад гр. psittakos = папугай + *-заўр*) — невялікі раслінаедны *дыназаўр* падатрада *арнітаподаў*, сківіцы якога нагадвалі дзюбу папугая; жыў у мелавы перыяд (гл. *мезазой*).

**ПСІТАКО́З** (гр. psittakos = папугай) — тое, што і *арнітоз*.

**ПСІХА-** (гр. psyche = душа) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «псіхіка», «псіхічны».

**ПСІХААНАЛІ́З** (ад *псіха-* + *аналіз*) — метад лячэння нервовых і псіхічных захворванняў, які заключаецца ў выяўленні падсвядомых слядоў афектыўных перажыванняў; прапанаваны ў канцы 19 ст. аўстрыйскім псіхіятрам З.Фрэйдам (гл. *фрэйдызм*).

**ПСІХАГЕНЕ́З, ПСІХАГЕНЕ́ЗІС** (ад *псіха-* + *генезіс*) — раздзел *псіхалогіі*, які вывучае паходжанне і развіццё пачуццяў, мовы і разумовых здольнасцей чалавека.

**ПСІХАГЕ́НІІ** (ад *псіха-* + гр. genos = род, паходжанне) — псіхічныя захворванні, якія выклікаюцца цяжкімі перажываннямі.

**ПСІХАГЕ́ННЫ** (ад *псіха-* + *-генны*) — які вынікае пад уплывам *псіхікі* (напр. п-ыя хваробы скуры).

**ПСІХАГІГІЕ́НА** (ад *псіха-* + *гігіена*) — раздзел гігіены, які вывучае ўплыў навакольных умоў на псіхічнае здароўе чалавека, распрацоўвае меры для яго захавання.

**ПСІХАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад *псіха-* + *дыягностыка*) — тэорыя і тэхніка даследаванняў, накіраваная на акрэсліванне псіхічных уласцівасцей, што характэрны для дадзенай асобы.

**ПСІХАІДЭАЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *ідэалогія*) — сукупнасць псіхічных і ідэалагічных рыс, якія характарызуюць чалавека, грамадства, клас.

**ПСІХАЛАГІ́ЗМ** (ад *псіха-* + *-лагізм*) — 1) ідэалістычны кірунак у *філасофіі*, які лічыць асновай філасофскай навукі *псіхалогію*; 2) паглыблены паказ псіхічных, духоўных перажыванняў, глыбокі псіхічны аналіз.

**ПСІХАЛАМАРКІ́ЗМ** (ад *псіха-* + *ламаркізм*) — адзін з кірункаў *неаламаркізму*, прадстаўнікі якога лічаць крыніцай эвалюцыі жывой прыроды дзеянні псіхічных фактараў; разнавіднасць *аўтагенезу*.

**ПСІХАЛЕ́ПТЫКІ** (ад *псіха-* + гр. leptos = лёгкі) — тое, што і *нейралептыкі*.

**ПСІХАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *псіха-* + *лінгвістыка*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае моўныя

з'явы з пазіцый *псіхалогіі* і матэматычнай сувязі.

**ПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *-логія*) — 1) навука аб *псіхіцы*; 2) сукупнасць псіхічных працэсаў у пэўных умовах (напр. п. працы, п. творчасці); 3) асаблівасці характару, духоўны склад (напр. п. селяніна, п. дзіцяці).

**ПСІХАМАНІ́ЗМ** (ад *псіха-* + *манізм*) — ідэалістычны погляд, які лічыць рэчаіснасць толькі адбіткам нашай свядомасці.

**ПСІХАМАТО́РНЫ** (ад *псіха-* + лац. motor = які рухае) — звязаны з нервова-рухальным апаратам, з рухальным узбуджэннем.

**ПСІХАМАТО́РЫКА** (ад *псіха-* + лац. motor = які рухае) — індывідуальныя, канстытуцыйныя, а таксама звязаныя з полам і ўзростам асаблівасці рухальных рэакцый чалавека.

**ПСІХАМЕТРЫ́Я** (ад *псіха-* + *-метрыя*) — раздзел *псіхалогіі*, які вывучае хуткасць узнікнення, працягласць і напружанасць розных псіхічных працэсаў у чалавека і жывёл.

**ПСІХАМІМЕ́ТЫКІ** (ад *псіха-* + гр. mimetes = пераймальнік) — лекавыя рэчывы, здольныя выклікаць у чалавека парушэнні псіхічнай дзейнасці.

**ПСІХАНЕЎРАЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *неўралогія*) — раздзел медыцыны, які ўключае *псіхіятрыю* і неўралогію.

**ПСІХАНЕЎРО́З** (ад *псіха-* + *неўроз*) — захворванне цэнтральнай нервовай сістэмы функцыянальнага характару.

**ПСІХАНЕЎРО́ЛАГ** (ад *псіха-* + *неўролаг*) — спецыяліст у галіне *псіханеўралогіі*.

**ПСІХАНЕЎРО́ТЫК** (ад *псіханеўроз*) — асоба, якая хварэе на псіханеўроз.

**ПСІХАПА́Т** (ад *псіха-* + *-пат*) — 1) чалавек, які хварэе на *псіхапатыю*; 2) ***перан.*** узбаламучаны, неўраўнаважаны чалавек; псіх.

**ПСІХАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *паталогія*) — 1) раздзел *псіхіятрыі*, які вывучае агульныя пытанні, што датычаць захворванняў *псіхікі*; 2) адхіленні ў псіхіцы як хвароба.

**ПСІХАПА́ТЫЯ** (ад *псіха-* + *-патыя*) — душэўнае расстройства, псіхічнае захворванне, паталагічны склад псіхічнай дзейнасці.

**ПСІХАСАМА́ТЫКА** (ад *псіха-* + гр. somatikos = цялесны) — суб'ектыўна-ідэалістычная медыка-псіхалагічная тэорыя, якая разглядае чалавека як цэласнае адзінства душы і цела, але тлумачыць *псіхіку* як пачатак усіх працэсаў, што адбываюцца ў чалавечым арганізме.

**ПСІХАСТЭ́НІК** (ад *псіхастэнія*) — чалавек, які хварэе на псіхастэнію.

**ПСІХАСТЭНІ́Я** (ад *псіха-* + гр. astheneia = бяссілле) — нервовае захворванне, якое праяўляецца ў павышанай уражлівасці, няўпэўненасці ў сабе, пастаянных сумненнях, назойлівых думках і інш.

**ПСІХАТРО́ПНЫ** (ад *псіха-* + *-тропны*); п-ыя сродкі — лекавыя рэчывы, якія аказваюць уплыў на псіхічныя працэсы, уздзейнічаючы на вышэйшую нервовую дзейнасць.

**ПСІХАТЭРАПІ́Я** (ад *псіха-* + *тэрапія*) — метад лячэння хвароб псіхічнымі ўздзеяннямі на хворага, напр. *гіпнозам*.

**ПСІХАТЭ́ХНІКА** (ад *псіха-* + *тэхніка*) — раздзел прыкладной *псіхалогіі*, які распрацоўвае метады вызначэння прыгоднасці чалавека да некаторых прафесій.

**ПСІХАФАРМАКАЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *фармакалогія*) — раздзел фармакалогіі, які вывучае ўплыў лекавых прэпаратаў на вышэйшую нервовую дзейнасць, а таксама распрацоўвае пытанні прымянення лекавых сродкаў для лячэння псіхічных захворванняў.

**ПСІХАФІ́ЗІКА** (ад *псіха-* + *фізіка*) — раздзел эксперыментальнай *псіхалогіі*, які вывучае суадносіны паміж ступенню раздражнення і сілай выкліканага ім адчування.

**ПСІХАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *псіха-* + *фізіялогія*) — раздзел *псіхалогіі*, які вывучае ўплыў фізіялагічных працэсаў на псіхічныя з'явы і наадварот.

**ПСІХАХІРУРГІ́Я** (ад *псіха-* + *хірургія*) — хірургічныя метады, якія прымяняюцца пры лячэнні псіхічных хвароб, напр. выдаленне невялікіх адрэзкаў нервовай сістэмы.

**ПСІ́ХІКА** (гр. psychikos = душэўны) — сукупнасць душэўных перажыванняў як адлюстраванне ў свядомасці аб'ектыўнай рэальнасці, духоўная арганізацыя, душэўны склад, уласцівы каму-н.

**ПСІХІ́ЧНЫ** (гр. psychikos) — які належыць да *псіхікі*, звязаны з псіхікай.

**ПСІХІЯ́ТР** (ад *псіха-* + гр. jatros = урач) — спецыяліст па *псіхіятрыі*.

**ПСІХІЯТРЫ́Я** (ад *псіха-* + *-ятрыя*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае псіхічныя захворванні, прычыны іх узнікнення і распрацоўвае метады іх лячэння.

**ПСІХО́З** (ад гр. psyche = душа) — 1) хваравіты стан, звязаны з пашкоджаннем галаўнога мозгу; 2) *перан.* ненармальнасць, дзівацтва ў псіхіцы чалавека; 3) моцнае псіхічнае ўздзеянне якіх-н. з'яў, падзей, што нервуюць, выклікаюць страх.

**ПСІХО́ЛАГ** (ад *псіха-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *псіхалогіі*.

**ПСІХРАФІ́ЛЫ** (ад гр. psychros = халодны + *-філ*) — арганізмы, якія нармальна жывуць і размнажаюцца пры адносна нізкіх тэмпературах (бактэрыі, дрожджы, мікраскапічныя грыбы і водарасці).

**ПСІХРАФІ́ТЫ** (ад гр. psychros = халодны + *-фіты*) — расліны халодных і вільготных грунтаў, напр. кедравы сланец, некаторыя водарасці і лішайнікі.

**ПСІХРО́ГРАФ** (ад гр. psychros = халодны + *-граф*) — прыбор для запісу вільготнасці паветра.

**ПСІХРО́МЕТР** (ад гр. psychros = халодны + *-метр*) — прыбор для вымярэння тэмпературы паветра і адноснай вільготнасці паветра.

**ПСО́РА** (н.-лац. psora) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які расце на камлях дрэў, абгарэлых ствалах і пнях у хвойных лясах.

**ПТАМАІ́НЫ** (ад гр. ptoma = труп) — арганічныя азотазмяшчальныя злучэнні, якія ўтвара-

# П

юцца ў працэсе гніення бялкоў, напр. атрутныя рэчывы ў сапсаваных мясных і рыбных харчовых прадуктах; трупныя яды.

**ПТОЗ** (гр. ptosis = падзенне) — апусканне верхняга павека ў чалавека або жывёліны ў сувязі з адсутнасцю, недаразвітасцю або *паралічам* мышцы, што яе падымае.

**-ПТОЗ** (гр. ptosis = падзенне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае апусканне таго або іншага органа.

**ПТЫАЛІ́Н** (гр. ptyalon = сліна) — устарэлая назва *амілазы* сліны.

**ПТЫЛІ́ДЫУМ** (н.-лац. ptilidium) — пячоначны мох сям. птылідыевых, які расце на кары дрэў, гнілых пнях, камянях.

**ПТЫ́ЛІУМ** (н.-лац. ptilium) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які расце на глебе, гнілой драўніне ў хваёвых лясах.

**ПТЫФУ́Р** (фр. petit four, ад petit = маленькі + four = печ) — дробнае пячэнне да чаю.

**ПТЭЛЕ́Я** (н.-лац. ptelea) — лістападная дрэвавая або кустовая расліна сям. рутавых з трайчастым бліскучым лісцем са своеасаблівым пахам, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Мексіцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**-ПТЭР** (гр. pteron = крыло) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «птушка», «насякомае», «лятальны апарат».

**ПТЭРАДА́КТЫЛЬ** (ад грэч. pteron = крыло + daktylos = палец) — невялікі лятучы яшчар атрада птэразаўраў, які жыў у канцы юрскага — пач. мелавога перыяду (гл. *мезазой*).

**ПТЭРАЗА́ЎРЫ** (ад гр. pteron = крыло + *-заўр*) — атрад выкапнёвых паўзуноў падкласа *архазаўраў*, што жылі ў *мезазоі*, пярэднія канечнасці якіх ператварыліся ў крылы; лятучыя яшчары.

**ПТЭРАМО́НАС** (н.-лац. pteromonas) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. факотавых, якая трапляецца пераважна ў невялікіх вадаёмах.

**ПТЭРАНАДО́Н** (ад гр. pteron = крыло + anodus, -dontos = бяззубы) — гіганцкі лятучы яшчар атрада *птэразаўраў*, які жыў у мелавым перыядзе (гл. *мезазой*).

**ПТЭРЫГІНА́НДРУМ** (н.-лац. pterigynandrum) — лістасцябловы мох сям. энтадонтавых, які расце на ствалах ліцевых дрэў, на зацененых камянях.

**ПТЭРЫ́ГІУМ-СІНДРО́М** (ад гр. pterygion = крыльца + *сіндром*) — утварэнне крылападобных скурных складак у вобласці шыі, суставаў канечнасцей.

**ПТЭРЫЯГІЯФО́РЫ** (ад гр. pterigion = крыльца) — апорныя элементы плаўнікоў рыб.

**ПТЭРЫДАСПЕ́РМЫ** (н.-лац. pteridospermae) — клас вымерлых дрэвавых, ліянападобных і травяністых раслін аддзела голанасенных з папарацепадобным лісцем, якія існавалі ў познім *дэвоне* — раннім меле.

**ПТЭРЫ́ЛІІ** (ад гр. pteron = пяро + hyle = лес) — апераныя ўчасткі цела птушак, якія чаргуюцца з *аптэрыямі*.

**ПУА́З** [фр. poise, ад J.Poiseuille = прозвішча фр. фізіка (1799—1869)] — адзінка вымярэння дынамічнай вязкасці вадкасці (газу) у СГС сістэме адзінак, роўная вязкасці асяроддзя, што аказвае супраціўленне сілай у 1 дыну адноснаму перамяшчэнню двух яе слаёў плошчай у 1 см$^2$ паралельна адзін другому.

**ПУАНСО́Н** (фр. poincon = шыла) — 1) верхняя пукатая частка штампа для апрацоўкі металу ціскам; 2) тое, што і *пунсон*.

**ПУА́НТЫ** (фр. pointe = *літар.* вастрыё, кончык) — цвёрдыя наскі балетных туфель, а таксама танец на кончыках пальцаў.

**ПУАНТЫЛІ́ЗМ** (фр. pointillisme, ад point = кропка) — 1) кірунак у заходнееўрапейскім жывапісе канца 19 — пач. 20 ст., для якога была характэрна манера накладваць фарбы мазкамі ў выглядзе кропак або невялікіх рысак; 2) *муз.* разнавіднасць тэхнікі выканання, калі кожная нота аддзяляецца ад другой паўзай пэўнай працягласці.

**ПУБЕРТА́ТНЫ** (ад лац. pubertas, -atis = палавая спеласць) — звязаны з палавым даспяваннем; п. п е р ы я д — перыяд палавога даспявання.

**ПУ́БЛІКА** (польск. publika, ад лац. publicus = грамадскі) — людзі, якія знаходзяцца дзе-н. у якасці слухачоў, гледачоў, наведвальнікаў.

**ПУБЛІКАВА́ЦЬ** (польск. publikować, ад лац. publicare) — 1) аб'яўляць для агульнага ведама праз друк; 2) выдаваць які-н. твор.

**ПУБЛІКА́НЫ** (лац. publicani) — асобы ў Стараж. Рыме, якія бралі на водкуп дзяржаўную маёмасць.

**ПУБЛІКА́ЦЫЯ** (польск. publikacja, ад лац. publicatio) — 1) аб'яўленне чаго-н. для агульнага ведама праз друк (напр. п. аб'явы); 2) друкаванне якіх-н. матэрыялаў у кнізе, газеце, часопісе; 3) тое, што апублікавана, выдадзена.

**ПУБЛІЦЫ́СТ** (ад лац. publicus = грамадскі) — пісьменнік, які піша творы на грамадска-палітычныя тэмы.

**ПУБЛІЦЫ́СТЫКА** (ням. Publizistik, ад лац. publicus = грамадскі) — род літаратуры і журналістыкі (артыкулы, нарысы, памфлеты, фельетоны і інш.), які аналізуе сучаснае жыццё ў мнагастайнасці палітычных, эканамічных, прававых, філасофскіх, мастацкіх і інш. праблем.

**ПУБЛІ́ЧНЫ** (лац. publicus = грамадскі) — 1) адкрыты, даступны для публікі (напр. п-ая лекцыя); 2) прызначаны для грамадскага карыстання (напр. п-ая бібліятэка).

**ПУ́ДЗЕЛЬ** (ням. Pudel, ад pudeln = плюхацца ў вадзе) — парода пакаёва-дэкаратыўных сабак з доўгай кучаравай шэрсцю.

**ПУ́ДЛА** (польск. pudło, ад ням. Pudel) — промах у стральбе, няўдалы стрэл; д а ц ь  п у д л а — прамахнуцца; памыліцца.

**ПУДЛІНГАВА́ЦЬ** (англ. puddling, ад puddle = перамешваць) — апрацоўваць чыгун у зварачнае жалеза ў асобных печах.

**ПУ́ДРА** (фр. poudre) — 1) мяккі пахучы парашок, які наносіцца на скуру як гігіенічны і касметычны

сродак; 2) дробны парашок з мінеральных і іншых рэчываў (напр. цэментная п., цукровая п.).

**ПУДРЭ́Т** (фр. poudrette, ад poudre = пыл) — угнаенне з высушаных і ператвораных у парашок чалавечых экскрэментаў (гл. таксама *фекаліі*).

**ПУДРЭ́ТКІ** (фр. poudrette, ад poudre = пыл) — невялікія ўчасткі на скуры некаторых птушак, пакрытыя мяккім парашковым пухам.

**ПУ́ДУ** (н.-лац. pudu) — млекакормячае сям. аленевых, з кароткімі рагамі, пашыранае ў Паўд. Амерыцы.

**ПУ́ДЫНГ** (англ. pudding) — запяканка з круп, мукі, тварагу і інш.

**ПУКЦЫ́НІЯ** (н.-лац. puccinia) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на вышэйшых травяністых раслінах.

**ПУЛ** (англ. pool = *літар.* агульны кацёл) — 1) адна з форм *манаполій*, пры якой прыбытак паступае ў агульны фонд і размяркоўваецца паміж удзельнікамі прапарцыянальна размеру іх укладаў; 2) кааператыўная арганізацыя фермераў Канады, ЗША і Аўстраліі для збыту сельскагаспадарчай прадукцыі, асабліва пшаніцы.

**ПУЛАРО́З** (ад лац. pullus, -lorum = кураня) — інфекцыйная хвароба птушак, якая выклікаецца *сальманеламі*.

**ПУ́ЛІ** (венг. puli) — старажытная венгерская парода сабак з групы пастухоўскіх аўчарак.

**ПУЛО́ВЕР** (англ. pull-over, ад pull = цягнуць + over = зверху) — трыкатажны світэр без каўняра і засцежкі.

**ПУЛЬВЕРЫЗА́ТАР** (фр. pulverisateur, ад лац. pulvis, -veris = парашок) — прыстасаванне для распылення вадкасцей.

**ПУЛЬВЕРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. pulverisation, ад лац. pulvis, -veris = парашок) — распыленне вадкасці пры дапамозе *пульверызатара*.

**ПУЛЬГА́ДА** (ісп. pulgada = тузін) — мера даўжыні ў Іспаніі і некаторых краінах Лац. Амерыкі, роўная ад 2,32 да 2,5 см.

**ПУ́ЛЬКА** (ад фр. poule = стаўка) — партыя гульні ў карты (прэферанс, вінт і інш.), а таксама графа для запісу вынікаў гульні.

**ПУ́ЛЬМАН** [англ. G.Pulman = прозвішча амер. інжынера (1831—1897)] — тып вялікага пасажырскага або таварнага вагона.

**ПУЛЬМАНАЛО́ГІЯ** (ад лац. pulmo, -onis = лёгкае + logos = вучэнне) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы лёгкіх і распрацоўвае метады іх лячэння.

**ПУЛЬМАТО́Р** (ад лац. pulmo = лёгкае + motor = які рухае) — апарат для штучнага дыхання, які нагнятае ў лёгкія кісларод пад ціскам.

**ПУ́ЛЬПА** (лац. pulpa = мякаць) — 1) *уст.* мяккая, сакавітая або мучністая маса, якая складае мякаць пладоў; 2) мяккая злучальная тканка, якая запаўняе поласць зуба; 3) сумесь сыпкага рэчыва з вадой або іншым растваральнікам.

**ПУЛЬС** (лац. pulsus = штуршок) — 1) рытмічны рух сценак артэрый, які выклікаецца біццём сэрца; 2) *перан.* рытм, тэмп чаго-н. (жыцця, дзейнасці).

**ПУЛЬСАВА́ЦЬ** (польск. pulsować, ад лац. pulsare = удараць) —

1) рытмічна біцца, мецьь *пульс* (пра сэрца, артэрыі); 2) *перан.* рытмічна рухацца, актыўна праяўляцца.

**ПУЛЬСА́РЫ** (англ. pulsars, ад Pulsating Sources of Radioemission = пульсіруючыя крыніцы радыёвыпрамянення) — касмічныя крыніцы імпульснага электрамагнітнага выпрамянення.

**ПУЛЬСА́ТАР** (лац. pulsator = той, хто ўдарае) — прыбор, які стварае раўнамерныя імпульсы электрычнага току.

**ПУЛЬСА́ЦЫЯ** (лац. pulsatio = ударанне) — 1) рытмічныя расшырэнні крывяносных сасудаў, якія выклікаюцца хвалепадобным рухам крыві ў выніку скарачэнняў сэрца; 2) *фіз.* бесперапыннае змяненне якой-н. характарыстыкі з'явы, напр. змяненне памераў і формы газавага пузырка ў вадкасці.

**ПУЛЬСО́МЕТР** (ад лац. pulsare = ударацць + *-метр*) — *помпа*, у якой выцясненне вадкасці адбываецца пад уздзеяннем пары або газу.

**ПУЛЬТ** (ням. Pult, ад лац. pulpitum = памост, трыбуна) — 1) падстаўка для нот (напр. дырыжорскі п.); 2) пункт аўтаматычнага кіравання чым-н. (напр. дыспетчарскі п.).

**ПУ́ЛЬХЕР** (н.-лац. pulcher) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў басейне верхняга і сярэдняга цячэння Амазонкі; вядома як акварыумная.

**ПУЛЬХРЫПІ́НІС** (н.-лац. pulchripinnis) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Бразіліі; вядома як акварыумная.

**ПУЛЬЧЫНЕ́ЛА** (іт. pulcinella) — персанаж слугі ў італьянскай камедыі масак.

**ПУЛЯ́РКА** (фр. poularde) — адкормленая маладая курыца, забітая ў 4—6-месячным узросце.

**ПУЛЯРЭ́С** (ад лац. pugillares = таблічкі для запісвання) — *уст.* бумажнік, кашалёк.

**ПУ́МА** (ісп. puma, ад перуан. puma) — буйны лясны драпежнік сям. кашэчых, які водзіцца ў Амерыцы.

**ПУ́МІ** (венг. pumi) — парода сабак з групы пастухоўскіх аўчарак, выведзеная ў Венгрыі скрыжаваннем *пулі* з нямецкай і французскай аўчаркамі.

**ПУ́НА** (перуан. puna = пустэльны, дзікі) — тып высакагорнай расліннасці ў Цэнтр. Андах Паўд. Амерыкі, які характарызуецца спалучэннем травянога покрыву з асобнымі нізкарослымі дрэвамі.

**ПУНКТ** (лац. punctum = кропка) — 1) месца ў прасторы, якое прызначана для чаго-н. ці чым-н. адрозніваецца ад іншых (напр. населены п., камандны п.); 2) невялікі раздзел, асобнае палажэнне якога-н. тэксту (напр. пяты п. інструкцыі); 3) момант у развіцці падзей, дзеяння (напр. кульмінацыйны п.); 4) тэмпературная мяжа, пры якой рэчыва змяняе свой стан (напр. п. кіпення, п. плаўлення); 5) адзінка вымярэння ў друкарскай сістэме, роўная 0,376 мм; 1/48 частка друкарскага *квадрата*.

**ПУНКТБО́Л** (ад *пункт* + англ. ball = мяч) — невялікі падвешаны скураны мяч, набіты конскім воласам, які служыць баксёрам для трэніроўкі.

**ПУНКТУА́ЛЬНЫ** (с.-лац. punctualis) — вельмі акуратны, дакладны

ў выкананні чаго-н. (напр. п. чалавек).

**ПУНКТУА́ЦЫЯ** (п.-лац. punctuatio, ад лац. punctum = кропка) — сістэма правіл расстаноўкі знакаў прыпынку, а таксама лінгвістычная дысцыпліна, якая вывучае прынцыпы расстаноўкі знакаў прыпынку.

**ПУНКТЭ́ЛІЯ** (н.-лац. punctelia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які расце ў вільготных лісцевых лясах на ствалах дрэў.

**ПУНКЦІ́Р** (ням. punktieren = ставіць кропкі, ад лац. punctum = кропка) — лінія, якая ўтвараецца з кропак або кароткіх рысак.

**ПУ́НКЦЫЯ** (лац. punctio = укол-ванне) — пракол сценкі якой-н. поласці цела, сасуда, органа для лячэння або даследавання.

**ПУНСО́ВЫ** (рус. пунцовый, ад фр. ponceau) — ярка-чырвоны.

**ПУНСО́Н** (фр. poinçon) — *паліг*р. металічны брусок або пласцінка з рэльефным адбіткам літары або знака, якая выкарыстоўваецца для выціскання матрыцы.

**ПУ́НТЫУС** (н.-лац. puntius) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Афрыкі і Паўд. Азіі; на Беларусі разводзіцца як акварыумная.

**ПУНШ** (англ. punch) — спіртны напітак, звычайна гарачы, які гатуецца з рому з цукрам, лімонным сокам або фруктамі.

**ПУ́НЯ** (літ. punė) — гаспадарчы будынак для сена; адрына.

**ПУПА́РЫЙ** (ад лац. pupa = кукалка) — своеасаблівы *кокан* некаторых двухкрылых.

**ПУПІНІЗА́ЦЫЯ** [ад англ. M.Pupin = прозвішча амер. фізіка (1858—1935)] — спосаб павелічэння дальнасці перадач па правадных лініях сувязі штучным узмацненнем іх індуктыўнасці.

**ПУРГА́** (рус. пурга, ад карэл. purgu, фін. purku) — моцная снегавая завея, завіруха.

**ПУРГЕ́Н** (ад лац. purgare = чысціць) — лякарства, якое ўжываецца як слабільны сродак.

**ПУ́РПУР** (лац. purpura, ад гр. porphyra) — 1) натуральная каштоўная фарба чырвона-фіялетавага колеру; 2) ярка-чырвоны колер з фіялетавым адценнем; 3) дарагое адзенне або тканіна ярка-чырвонага колеру з фіялетавым адценнем.

**ПУ́РПУРА** (лац. purpura = чырвоны колер) — захворванне, якое характарызуецца шматлікімі пунктамі кровазліцця на скуры і слізістых абалонках, абумоўленымі *трамбацытапеніяй*.

**ПУРПУРЫ́Н** (ад лац. purpura = чырвоны колер) — арганічнае чырвонае фарбавальнае рэчыва, якое здабываецца з каранёў марэны; атрымліваецца акісленнем *алізарыну*.

**ПУРЫ́ЗМ** (фр. purisme, ад лац. purus = чысты) — 1) залішне суровае імкненне захаваць чысціню мовы, культуры і інш.; барацьба супраць запазычанняў і наваўвядзенняў (у мове, норавах і г.д.); 2) фармалістычны кірунак у жывапісе, які ўзнік у Францыі ў 20-я гг. 20 ст. і вызначаўся абстрактнасцю, сілуэтнасцю і контурнасцю адлюстраванняў.

**ПУРЫ́Н** (ад лац. purus = чысты) — арганічнае злучэнне з наяў-

насцю азоту цыклічнай будовы, якое выконвае важную ролю ў розных біялагічных працэсах.

**ПУРЫ́СТ** (фр. puriste) — прыхільнік *пурызму*.

**ПУРЫТАНІ́ЗМ** (ад *пурытанін*) — 1) рэлігійна-палітычны рух у Англіі ў 16—17 ст., накіраваны супраць *абсалютызму* і элементаў *каталіцызму* ў англіканскай царкве; 2) *перан.* строгае, часта паказное, захаванне маралі і нецярпімасць да адхіленняў ад прынятай маралі.

**ПУРЫТА́НІН** (англ. Puritan, ад лац. puritas = чыстасць) — 1) паслядоўнік *пурытанізму* 1; 2) *перан.* чалавек надзвычайна суровага спосабу жыцця.

**ПУ́СТУЛА** (лац. pustula) — *мед.* гнойны прышч.

**ПУТЧ** (ням. Putsch) — авантурыстычная спроба групы змоўшчыкаў зрабіць дзяржаўны пераварот.

**ПУФ** (фр. pouf, англ. puff) — 1) нізкая табурэтка з мяккім, звычайна круглым сядзеннем; 2) памылковая, фальшывая вестка.

**ПУЦАЛА́НЫ** (іт. pozzolana, ад Pozzuoli = назва гары каля Неапаля) — горныя пароды вулканічнага паходжання (попел, *пемза, туфы*), якія ўтвараюцца пры вывяржэнні лавы, багатай крэменязёмам.

**ПУ́ЦЦІ** (іт. putti) — выявы крылатых хлопчыкаў як дэкаратыўны матыў у мастацтве Адраджэння.

**ПУШБО́Л** (англ. push-ball, ад push = піхаць + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з вялікім скураным мячом, які трэба прапіхнуць у вароты праціўніка.

**ПУ́ШКА** (польск. puszka < чэш. puška, ад ням. Büchse) — 1) гармата, якая мае насцільную траекторыю стральбы; 2) апарат для лячэння сродкамі радыеактыўнага выпрамянення (кобальтавая п.); 3) каробка.

**ПУ́ШТА** (венг. puszta) — назва травяністага лесастэпу ў Венгрыі.

**ПУЭ́БЛА** (ісп. pueblo = народ, насельніцтва) — умоўная назва аселых індзейскіх плямён Паўн. Амерыкі і іх пасяленняў.

**ПУЭРА́РЫЯ** (ад іт. M.Puerari = прозвішча швейц. батаніка) — павойная дрэвавая расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках; кармавая.

**ПУЭРПЕРА́ЛЬНЫ** (ад лац. puerpera = парадзіха) — пасляродавы.

**ПФАЛЬЦГРА́Ф** (ням. Pfalzgraf) — каралеўская службовая асоба з судовымі функцыямі ў Франкскай дзяржаве, затым уладальны князь у Германіі.

**ПФЕ́НІГ** (ням. Pfennig) — германская дробная манета, роўная 1/100 *маркі*.

**ПЫТЛЯВА́ЦЬ** (польск. pytlować, ад pytel = рухомае сіта ў млыне) — дробна размолваць зерне і прасейваць муку.

**ПЫ́ХА** (польск. pycha) — ганарыстасць, фанабэрыстасць.

**ПЫ́ЦЕЛЬ** (польск. pytel < чэш. pytel, ад с.-в.-ням. buitel) — 1) рухомае сіта ў млыне, праз якое прасейваецца мука; 2) пытляваная мука.

**ПЭ́ЙСЫ** (ст.-яўр. pē’ōs, *мн.* pē’āh = канцы валасоў галавы) — 1) доўгія пасмы валасоў ля скроняў, якія

пакідаюцца непадстрыжанымі (у патрыярхальных яўрэяў); 2) *разм.* доўгія раскудлачаныя валасы.

**ПЭ́НДЗАЛЬ** (польск. pędzel, ад ням. Pinsel) — прылада для фарбавання, малявання або мазання ў выглядзе прымацаванага да ручкі пучка шчаціння, валасоў або шэрсці.

**ПЭР** (англ. peer, фр. pair, ад лац. par = роўны) — званне прадстаўнікоў вышэйшага дваранства ў Англіі і Францыі; у Францыі ліквідавана ў 1789 г., у Англіі існуе і зараз.

**ПЮПІ́ТР** (фр. pupitre) — падстаўка для нот або кніг у выглядзе нахіленай дошчачкі на ножцы.

**ПЮРЭ́** (фр. purée) — страва з працёртай агародніны або фруктаў.

**ПЯ́РТНЕРС** (англ. partners) — адтуліна ў палубе, праз якую праходзіць ніжні канец мачты.

**ПЯРЫ́ЛА** (н.-лац. perilla) — травяністая расліна сям. ясноткавых з зубчастым лісцем і дробнымі непрыгляднымі кветкамі, пашыраная ў Паўд., Усх. і Паўд.-Усх. Азіі; культывуецца ў многіх краінах як алейная і дэкаратыўная.

# Р

**РАБАВА́ЦЬ** (ням. rauben) — 1) сілай, разбоем забіраць у каго-н. што-н.; грабіць; 2) разараць падаткамі, паборамі.

**РАБА́Т** (ням. Rabbat, ад фр. rabattre = зрабіць уступку) — скідка з усёй сумы грошай, што належыць за тавар, якая робіцца пры закупцы тавару оптам.

**РАБА́ТКА** (ням. Rabatte) — вузкая градка кветак уздоўж паркавых дарожак, сцен і інш.

**РАБДАДЭ́РМА** (н.-лац. rhabdoderma) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. кокабактрэйных, якая трапляецца пераважна ў прэсных стаячых вадаёмах і на сушы.

**РАБДАСПО́РА** (н.-лац. rhabdospora) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які развіваецца на лісці, сцёблах і галінках раслін.

**РАБДО́М** (гр. rhabdos = палка, стрыжань) — святлоадчувальная палачка ў *аматыдыі* складанага вока членістаногіх.

**РАБДЫТЫДО́ЗЫ** (ад *рабдытыды*) — глісныя хваробы амфібій, паўзуноў, птушак, млекакормячых і чалавека, якія выклікаюцца рабдытыдамі.

**РАБДЫТЫ́ДЫ** (н.-лац. rhabditida) — атрад *гельмінтаў* класа *нематодаў*, у які аб'ядноўваюцца *дыктыякаўліды, метастрангіліды, протастрангіліды, трыхастрангіліды*; паразітуюць у арганізмах амфібій, паўзуноў, птушак, млекакормячых і чалавека.

**РА́БІН** (ст.-яўр. rabbi = настаўнік мой) — духоўны кіраўнік веруючых у яўрэйскай рэлігійнай абшчыне.

# Р

**РАБІНЗАНА́ДА** (ад *рабінзон*) — 1) літаратурны твор пра чыё-н. падарожжа з прыгодамі; 2) жыццё ў бязлюдным месцы з прыгодамі, падобнымі на тыя, якія здарыліся з Рабінзонам.

**РАБІНЗО́Н** (англ. Robinson = імя героя рамана Д.Дэфо «Рабінзон Круза») — пра чалавека, вымушанага жыць у бязлюдным месцы і самому здабываць сабе ўсё неабходнае для жыцця.

**РАБІ́НІЯ** (н.-лац. robinia, ад фр. J.Robin = прозвішча фр. батаніка 16—17 ст.) — лістападная дрэвавая або кустовая расліна сям. бабовых з шырокай цыліндрычнай, закругленай зверху кронай, пашыраная ў Паўн. і Цэнтр. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**РАБРО́Н** (фр. roberonde) — старадаўняя жаночая сукенка з *крыналінам*.

**РАВЕЛІ́Н** (фр. ravelin) — фартыфікацыйнае збудаванне трохвугольнай формы перад крапасным ровам паміж бастыёнамі, прызначанае для дадатковай абароны крэпасці.

**РАВЕНДУ́К, РАВЕНТУ́Х** (англ. ravenduck, ням. Rawentuch, ад гал. ruwendoek) — тоўстая льняная тканіна, парусіна, якая ўжывалася раней пераважна для парусоў, зараз выкарыстоўваецца ў абутковай прамысловасці.

**РА́ГА** (польск. raga) — струменьчык чаго-н. вадкага на якой-н. паверхні.

**РАГУ́** (фр. ragoût) — страва з дробна нарэзанага мяса, утушанага з гароднінай, або ўтушанай гародніны з вострым *соусам*.

**РАД** (англ. rad, ад лац. radilare = выпраменьваць) — пазасістэмная адзінка паглынутай энергіі радыеактыўнага выпрамянення, роўная дозе, пры якой 1 кг рэчыва паглынае энергію 0,01 *джоўля*.

**РА́ДА** (польск. rada, ад ням. Rath) — 1) савет прадстаўнікоў у розныя гістарычныя перыяды ў Польшчы і Беларусі (напр. паны-р. Вялікага княства Літоўскага); 2) сумеснае абмеркаванне якіх-н. пытанняў, нарада; 3) парада; 4) сродак, паратунак, выйсце; н я м а р а д ы — няма выйсця; н е д а ц ь р а д ы — не справіцца з кім-н., чым-н.

**РАДАДЭ́НДРАН** (н.-лац. rhododendron, ад гр. rhodon = ружа + dendron = дрэва) — вечназялёная кустовая расліна сям. верасовых з буйнымі жоўтымі, аранжавымі, ружовымі або пурпуровымі кветкамі, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; адзін з відаў — *азалія*.

**РАДАМІ́НЫ** (ад гр. rhodon = ружа + *аміны*) — сінтэтычныя фарбавальнікі, якія выкарыстоўваюцца для фарбавання шоўку, шэрсці, бавоўны.

**РАДАМО́НАС** (н.-лац. rhodomonas) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. крыптаманадавых, якая пашырана пераважна ў прэсных водах.

**РАДАНІ́Т** (ад гр. rhodon = ружа) — мінерал класа *сілікатаў* ружовага, часам ружова-шэрага колеру; выкарыстоўваецца як вырабны камень.

# Р

**РАДАПСІ́Н** (ад гр. rhodon = ружа + ops = вока) — святлоадчувальны складаны бялок, асноўны зрокавы *пігмент* палачкавых клетак сятчаткі вока ў пазваночных жывёл і чалавека.

**РАДА́Р** (англ. radar, ад radio detection and ranging = выяўленне і вызначэнне адлегласці пры дапамозе радыё) — тое, што і *радыёлакатар*.

**РАДАСКО́П** (ад *радар* + *-скоп*) — кінескоп (электронна-прамянёвая трубка) у *радыёлакатары*.

**РАДАТО́РУЛА** (н.-лац. rhodotorula) — сумчаты грыб сям. цукраміцэтавых, які развіваецца ў глебе, вадаёмах, на лісці раслін.

**РАДАХРАЗІ́Т** (ад гр. rhodon = ружа + chros = колер) — мінерал класа *карбанатаў* белага, шэрага колеру; руда марганцу.

**РА́ДЖА** (санскр. rājā = цар) — княжацкі *тытул* у Індыі.

**РАДО́БРЫУМ** (н.-лац. rhodobryum) — лістасцябловы мох сям. брыевых, які трапляецца ў вільготных лясах на глебе, на пакрытых глебай валунах.

**РАДО́Н** (н.-лац. radon, ад лац. radium = радый) — прыродны *радыеактыўны* хімічны элемент, прадукт распаду *радыю*.

**РА́ДУЛА**[1] (н.-лац. radula) — пячоначны мох сям. радулавых, які трапляецца на кары пераважна лісцевых дрэў.

**РА́ДУЛА**[2] (лац. radula = скрабніца) — асобы апарат у глотцы большасці *малюскаў*, які служыць для раздраблення ежы.

**РА́ДЦА, РА́ЙЦА** (ст.-польск. radca, rajca) — выбарны член у адміністрацыйны орган гарадскога самакіравання — раду (магістрат) на Беларусі ў 14—18 ст.

**РАДЫЕ-** (лац. radius = прамень) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да *радыеактыўнасці*, да *радыяцыі*.

**РАДЫЕАКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *радые-* + *актыўнасць*) — здольнасць некаторых атамных ядзер самаадвольна распадацца, выпучаючы элементарныя часціцы — *электроны, пазітроны* і інш.

**РАДЫЕАКТЫ́ЎНЫ** (ад *радые-* + *актыўны*) — 1) здольны распадацца на элементарныя часціцы і выпраменьваць энергію, мець у сваім складзе элементы, што падлягаюць такому распаду (напр. р-ыя мінералы); 2) заснаваны на распадзе на элементарныя часціцы, што суправаджаецца выпрамяненнем энергіі.

**РАДЫЕАЎТАГРА́ФІЯ** (ад *радые-* + *аўтаграфія*) — тое, што і *аўтарадыяграфія*.

**РАДЫЕАЎТО́ГРАФ** (ад *радые-* + *аўтограф*) — тое, што і *аўтарадыяграма*.

**РАДЫЕБІЯЛО́ГІЯ** (ад *радые-* + *біялогія*) — навука аб уздзеянні ўсіх відаў іанізуючых выпрамяненняў на жывыя арганізмы і біясферу ў цэлым.

**РАДЫЕГЕАХІ́МІЯ** (ад *радые-* + *геахімія*) — раздзел геахіміі, які вывучае заканамернасці распаўсюджання, размеркавання і міграцыі, а таксама ізатопны склад *радыеактыўных* элементаў у прыродзе.

**РАДЫЕІЗАТО́П** (ад *радые-* + *ізатоп*) — *нуклід*, які падлягае ядзер-

най змене і высылае альфа-, бэта- або гама-прамяні.

**РАДЫЕКАЛО́ІДЫ** (ад *радые-* + *калоіды*) — калоідныя сістэмы з дысперснай фазай, утворанай *радыеактыўным* рэчывам.

**РАДЫЕКАРБО́ННЫ** (ад *радые-* + лац. carbo, -onis = вугаль); р. м е т а д — метад датавання па вымярэнню змяшчэння радыеактыўнага *ізатопа* вугляроду ў рэштках жывых арганізмаў.

**РАДЫЕЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *радые-* + *люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя, выкліканая ўздзеяннем магутнай крыніцы выпрамянення.

**РАДЫЕМІМЕТЫ́ЧНЫ** (ад *радые-* + гр. mimetikos = які пераймае); р ы я  р э ч ы в ы — хімічныя злучэнні, якія выклікаюць у біялагічных аб'ектах змены, падобныя да тых, якія ўзнікаюць пасля біялагічнага дзеяння выпрамяненняў.

**РАДЫЕМУТА́ЦЫІ** (ад *радые-* + *мутацыя*) — раптоўныя спадчынныя змены прымет або ўласцівасцей арганізма, якія ўзніклі пад уздзеяннем іанізуючага выпрамянення.

**РАДЫЕПРАТЭ́КТАРЫ** (ад *радые-* + *пратэктар*) — рэчывы, увядзенне якіх у арганізм перад апраменьваннем змяншае ўздзеянне іанізуючага выпрамянення.

**РАДЫЕРЭЗІСТЭ́НТНАСЦЬ** (ад *радые-* + *рэзістэнтнасць*) — здольнасць арганізма, асобных тканак або клетак вытрымліваць высокія дозы іанізуючага выпрамянення.

**РАДЫЕСЕНСІБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *радые-* + *сенсібілізацыя*) — павышэнне адчувальнасці арганізмаў да іанізуючага выпрамянення пад уздзеяннем хімічных або фізічных фактараў.

**РАДЫЕСКАПІ́Я** (ад *радые-* + *-скапія*) — прасвятленне цел рэнтгенаўскімі прамянямі, якое праводзіцца ў медыцыне і тэхніцы.

**РАДЫЕТАКСЕМІ́Я** (ад *радые-* + *таксемія*) — атручванне арганізма *радыеактыўнымі* рэчывамі.

**РАДЫЕТЭРАПІ́Я** (ад *радые-* + *тэрапія*) — лячэнне з дапамогай іанізуючых выпрамяненняў; выкарыстоўваецца пераважна пры злаякасных пухлінах.

**РАДЫЕФАТАГРА́ФІЯ** (ад *радые-* + *фатаграфія*) — фатаграфічная рэгістрацыя змен радыеактыўных элементаў, якая дае *радыеаўтограф.*

**РАДЫЕЭКАЛО́ГІЯ** (ад *радые-* + *экалогія*) — навука, якая вывучае ўзаемасувязі паміж радыеактыўнасцю асяроддзя і жыццём арганізмаў.

**РАДЫЁ** (лац. radius = прамень) — 1) спосаб перадачы інфармацыі на адлегласць пры дапамозе электрамагнітных хваляў; 2) сукупнасць прыбораў і прыстасаванняў для прыёму электрамагнітных хваляў, якія пасылаюцца *радыёстанцыяй.*

**РАДЫЁ-** (лац. radius = прамень) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «які адносіцца да радыё», «звязаны з радыё».

**РАДЫЁАЛЬТЫМЕ́ТР** (ад *радыё-* + *альтыметр*) — прыбор для вызначэння вышыні палёту лятальнага апарата, дзеянне якога

заснавана на прынцыпе *радыёлакацыі.*

**РАДЫЁАМА́ТАР** (ад *радыё-* + *аматар*) — той, хто любіць займацца *радыётэхнікай* і радыёсувяззю.

**РАДЫЁАНТЭ́НА** (ад *радыё-* + *антэна*) — тое, што і *антэна.*

**РАДЫЁАПАРА́Т** (ад *радыё-* + *апарат*) — апарат для перадачы, пераўтварэння і прыёму радыёхваляў.

**РАДЫЁАПАРАТУ́РА** (ад *радыё-* + *апаратура*) — апаратура для перадачы, пераўтварэння і прыёму радыёхваляў.

**РАДЫЁАПЕРА́ТАР** (ад *радыё-* + *аператар*) — работнік, які абслугоўвае *радыёстанцыю.*

**РАДЫЁАСТРАНО́МІЯ** (ад *радыё-* + *астраномія*) — раздзел астраноміі, які вывучае розныя касмічныя аб'екты шляхам аналізу выпрамененых ці адбітых імі радыёхваляў.

**РАДЫЁАТЭЛЬЕ́** (ад *радыё-* + *атэлье*) — магазін, дзе прадаецца *радыёапаратура.*

**РАДЫЁАЎТАШТУ́РМАН** (ад *радыё-* + *аўташтурман*) — аўташтурман, які дзейнічае па сігналах радыёнавігацыйных сродкаў.

**РАДЫЁБУ́Й** (ад *радыё-* + *буй*) — марскі буй з радыёперадатчыкам, які аўтаматычна перадае радыёсігналы для вызначэння граніц суднаходства.

**РАДЫЁГАЗЕ́ТА** (ад *радыё-* + *газета*) — від радыёперадачы, які формай падачы матэрыялаў нагадвае газету.

**РАДЫЁГАЛА́КТЫКА** (ад *радыё-* + *галактыка*) — галактыка, якая характарызуецца моцным радыёвыпрамяненнем.

**РАДЫЁГАНІЁМЕТР** (ад *радыё-* + *ганіёметр*) — прыбор для вызначэння напрамку, у якім знаходзіцца перадаючая *радыёстанцыя.*

**РАДЫЁГАНІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад *радыё-* + *ганіяметрыя*) — сукупнасць метадаў вызначэння напрамку, дзе знаходзіцца *радыёстанцыя*, што перадае пэўныя сігналы.

**РАДЫЁГРА́МА** (ад *радыё-* + *-грама*) — паведамленне, перададзенае па *радыётэлеграфе.*

**РАДЫЁДЫСПЕ́ТЧАР** (ад *радыё-* + *дыспетчар*) — дыспетчар, які выкарыстоўвае сродкі радыёсувязі.

**РАДЫЁДЫСПЕТЧАРЫЗАЦЫЯ** (ад *радыё-* + *дыспетчарызацыя*) — дыспетчарызацыя, пры якой выкарыстоўваюцца сродкі радыёсувязі.

**РАДЫЁДЫЯПАЗО́Н** (ад *радыё-* + *дыяпазон*) — дыяпазон частаты або даўжыні радыёхваляў.

**РАДЫЁДЭФЕКТАСКАПІ́Я** (ад *радыё-* + *дэфектаскапія*) — дэфектаскапія, заснаваная на адрозненні ўмоў распаўсюджання радыёхваляў сантыметровага і міліметровага дыяпазонаў у розных асяроддзях.

**РАДЫЁЗО́НД** (ад *радыё-* + *зонд*) — метэаралагічны прыбор, які падымаецца ў атмасферу паветраным шарам для вымярэння ціску, тэмпературы і вільготнасці паветра на розных вышынях і перадае вынікі гэтых вымярэнняў з дапамогай радыёхваляў.

**РАДЫЁІ́МПУЛЬС** (ад *радыё-* + *імпульс*) — кароткачасовая пасыл-

ка высокачастотных ваганняў (параўн. *відэаімпульс*).

**РАДЫЁІНТЭРФЕРО́МЕТР** (ад *радыё-* + *інтэрферометр*) — прыбор для вымярэння розных фізічных велічынь, звязаных з радыёхвалямі, напр. хуткасці пашырэння іх, вуглавых памераў крыніцы, адлегласці ад яе; прынцып работы гэтага прыбора заснаваны на *інтэрферэнцыі* радыёхваляў.

**РАДЫЁІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *інфармацыя*) — інфармацыя, якая перадаецца па радыё.

**РАДЫЁКАМА́НДА** (ад *радыё-* + *каманда*) — каманда, якая перадаецца па радыё для кіравання работай аўтаматычных установак і прыбораў.

**РАДЫЁКАМБА́ЙН** (ад *радыё-* + *камбайн*) — устаноўка, якая спалучае ў сабе радыёпрыёмнік, *тэлевізар, магнітафон* з прайгравальнікам, змантаваныя ў адной скрынцы.

**РАДЫЁКАМЕНТА́РЫЙ** (ад *радыё-* + *каментарый*) — каментарый па пытаннях палітыкі, эканомікі, мастацтва або спорту, які перадаецца па радыё.

**РАДЫЁКАМЕНТА́ТАР** (ад *радыё-* + *каментатар*) — спецыяліст, які выступае па радыё з *каментарыямі* па пытаннях палітыкі, эканомікі, мастацтва або спорту, а таксама той, хто вядзе рэпартаж.

**РАДЫЁКАМІТЭ́Т** (ад *радыё-* + *камітэт*) — установа, якая ведае арганізацыяй радыёвяшчальных перадач.

**РАДЫЁКАМПАЗІ́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *кампазіцыя*) — кампазіцыя з літаратурных і музычных твораў, складзеная для перадачы па радыё.

**РАДЫЁКАМПАРА́ТАР** (ад *радыё-* + *кампаратар*) — прыбор для вымярэння напружання электрычнай складовай электрамагнітнага поля ў дадзеным пункце.

**РАДЫЁКАНА́Л** (ад *радыё-* + *канал*) — паласа частот электрамагнітных ваганняў, выдзеленая для дадзенай перадачы.

**РАДЫЁКАНТА́КТ** (ад *радыё-* + *кантакт*) — кантакт, устаноўлены з дапамогай радыё.

**РАДЫЁКАНЦЭ́РТ** (ад *радыё-* + *канцэрт*) — канцэрт, які перадаецца па радыё.

**РАДЫЁКА́ПСУЛА** (ад *радыё-* + *капсула*) — тое, што і *радыёпілюля.*

**РАДЫЁКАСМАЛО́ГІЯ** (ад *радыё-* + *касмалогія*) — навука, якая вывучае *космас* пры дапамозе метадаў *радыёастраноміі*.

**РАДЫЁКЛУ́Б** (ад *радыё-* + *клуб*) — грамадскае таварыства, якое аб'ядноўвае аматараў радыё.

**РАДЫЁКО́Д** (ад *радыё-* + *код*) — сістэма сімвалаў (код), прынятая ў радыёсувязі.

**РАДЫЁКО́МПАС** (ад *радыё-* + *компас*) — радыёнавігацыйная прылада для вызначэння курсу самалёта ці карабля.

**РАДЫЁКО́МПЛЕКС** (ад *радыё-* + *комплекс*) — сукупнасць радыётэхнічных прыбораў, прызначаная для выканання пэўнага задання.

**РАДЫЁЛА** [1] (англ. radiola) — апарат, у якім спалучаны радыёпрыёмнік з электрапрайгравальнікам грампласцінак.

**РАДЫЁЛА** [2] (н.-лац. radiola) — травяністая расліна сям. лёнавых з

белымі кветкамі ў суквецціях, пашыраная ў Міжземнамор'і, Еўразіі, гарах трапічнай Афрыкі; на Беларусі трапляецца рэдка.

**РАДЫЁЛА** [3] (н.-лац. rhadiola) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых, пашыраная ва ўмераных зонах, пераважна ў гарах Азіі; лекавая і дэкаратыўная.

**РАДЫЁЛАКА́ТАР** (ад *радыё-* + *лакатар*) — комплекс радыёапаратуры для выяўлення і вызначэння месцазнаходжання аб'ектаў у прасторы па адбітых ад іх радыёхвалях.

**РАДЫЁЛАКА́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *лакацыя*) — выяўленне і вызначэнне месцазнаходжання розных аб'ектаў (напр. самалётаў, караблёў) па адбітых ад іх радыёхвалях.

**РАДЫЁЛІЗ** (ад *радыё-* + *-ліз*) — разлажэнне хімічных злучэнняў пад дзеяннем іанізуючых выпрамяненняў.

**РАДЫЁЛІ́НІЯ** (ад *радыё-* + *лінія*) — сукупнасць *радыёканалаў*, якія працуюць паралельна або паслядоўна.

**РАДЫЁЛО́Т** (ад *радыё-* + *лот*) — радыётэхнічны прыбор для вызначэння вышыні палёту паветранага карабля.

**РАДЫЁЛЯ́МПА** (ад *радыё-* + *лямпа*) — электронная лямпа для *радыёапаратуры*.

**РАДЫЁМА́ЧТА** (ад *радыё-* + *мачта*) — апора, на якой падвешваюцца або ўмацоўваюцца на неабходнай вышыні антэны наземных радыёстанцый.

**РАДЫЁМЕТР** (ад *радыё-* + *-метр*) — 1) прыбор для вымярэння прамяністай энергіі, а таксама для выяўлення радыеактыўных выпрамяненняў; 2) прыбор для вымярэння гукавога ціску і іншых характарыстык гукавога поля.

**РАДЫЁМЕТЭАРАЛО́ГІЯ** (ад *радыё-* + *метэаралогія*) — раздзел метэаралогіі, які вывучае атмасферныя працэсы і іх уплыў на распаўсюджанне радыёхваляў.

**РАДЫЁМЕТЭАРО́ГРАФ** (ад *радыё-* + *метэарограф*) — тое, што і *радыёзонд*.

**РАДЫЁМЕХА́НІК** (ад *радыё-* + *механік*) — спецыяліст у галіне наладкі радыё.

**РАДЫЁНАВІГА́ТАР** (ад *радыё-* + *навігатар*) — прыбор для вызначэння геаграфічных *каардынатаў* карабля пры дапамозе *радыёсігналаў*, якія бесперапынна пасылаюць тры берагавыя *радыёстанцыі*.

**РАДЫЁНАВІГА́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *навігацыя*) — ваджэнне самалётаў і суднаў пры дапамозе *радыёпеленгаў*.

**РАДЫЁПЕ́ЛЕНГ** (ад *радыё-* + *пеленг*) — 1) вызначэнне курсу карабля або самалёта пры дапамозе радыёхваляў, якія паступаюць ад *радыёстанцыі* з вядомым месцазнаходжаннем; 2) вугал паміж геаграфічным мерыдыянам і напрамкам на крыніцу радыёхваляў.

**РАДЫЁПЕЛЕНГА́ТАР** (ад *радыё-* + *пеленгатар*) — радыёпрыёмнае прыстасаванне для вызначэння напрамку на перадавальную станцыю.

**РАДЫЁПЕЛЕНГА́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *пеленгацыя*) — вызначэнне напрамку на перадавальную ра-

дыёстанцыю пры дапамозе *радыёпеленгатара*.

**РАДЫЁПІЛО́Т** (ад *радыё-* + *пілот*) — свабодна запушчаны ў паветра напоўнены вадародам рызінавы шар, па месцазнаходжанню якога, што ўстанаўліваецца *радыёлакатарам*, вызначаецца хуткасць і напрамак ветру ў высокіх слаях атмасферы.

**РАДЫЁПІЛЮ́ЛЯ** (ад *радыё-* + *пілюля*) — мініяцюрны радыёперадатчык, які праглынуты чалавекам або жывёлай дазваляе рэгістраваць метадам *біятэлеметрыі* розныя праяўленні дзейнасці страўнікава-кішэчнага тракту.

**РАДЫЁПРАЖЭ́КТАР** (ад *радыё-* + *пражэктар*) — спалучэнне *радыёлакатара* з пражэктарам.

**РАДЫЁРУ́БКА** (ад *радыё-* + *рубка*) — спецыяльнае памяшканне на судне, у якім размяшчаецца апаратура дальняй радыёсувязі.

**РАДЫЁРУ́ПАР** (ад *радыё-* + *рупар*) — *рэпрадуктар* у выглядзе рупара.

**РАДЫЁРЭЛЕ́** (ад *радыё-* + *рэле*) — аўтаматычная лінія сувязі для перадачы *радыёсігналаў* звышвысокай частаты на вялікую адлегласць праз шэраг прыёмна-перадавальных *радыёстанцый*.

**РАДЫЁРЭЛЕ́ЙНЫ** (ад *радыёрэле*) — звязаны з перадачай радыёсігналаў праз шэраг прыёмна-перадавальных радыёстанцый.

**РАДЫЁРЭПАРТА́Ж** (ад *радыё-* + *рэпартаж*) — перадача па радыё непасрэдна з месца дзеяння.

**РАДЫЁРЭПАРЦЁР** (ад *радыё-* + *рэпарцёр*) — рэпарцёр, які працуе на радыё.

**РАДЫЁРЭПРАДУ́КТАР** (ад *радыё-* + *рэпрадуктар*) — тое, што і *рэпрадуктар*.

**РАДЫЁСЕКСТА́НТ** (ад *радыё-* + *секстант*) — навігацыйны прыбор, пры дапамозе якога ў любое надвор'е вызначаюць напрамак на Сонца па яго выпрамяненню ў галіне радыёхваляў.

**РАДЫЁСІГНА́Л** (ад *радыё-* + *сігнал*) — 1) сігнал, перададзены па радыё; 2) радыёхвалі.

**РАДЫЁСІСТЭ́МА** (ад *радыё-* + *сістэма*) — комплекс радыёэлектроннага абсталявання, прызначаны для выканання пэўнай задачы.

**РАДЫЁСПЕКТА́КЛЬ** (ад *радыё-* + *спектакль*) — спектакль, які перадаецца па радыё.

**РАДЫЁСПЕ́КТР** (ад *радыё-* + *спектр*) — спектр выпрамянення і паглынання радыёхваляў пэўнай даўжыні.

**РАДЫЁСПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *радыё-* + *спектраскапія*) — метады даследавання будовы рэчыва, фізічных і хімічных працэсаў у ім, заснаваныя на рэзанансным паглынанні радыёхваляў.

**РАДЫЁСПО́РТ** (ад *радыё-* + *спорт*) — тэхнічны від спорту, які ўключае розныя спаборніцтвы з выкарыстаннем *радыёапаратуры*.

**РАДЫЁСТА́НЦЫЯ** (ад *радыё-* + *станцыя*) — комплекс прылад для перадачы і прыёму інфармацыі з дапамогай радыёхваляў.

**РАДЫЁСТУ́ДЫЯ** (ад *радыё-* + *студыя*) — спецыяльна абсталяванае памяшканне, з якога вядзецца радыёвяшчанне.

**РАДЫЁТРАНСЛЯ́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *трансляцыя*) — перадача

радыёпраграм з дапамогай правадной лініі сувязі.

**РАДЫЁТЭА́ТР** (ад *радыё-* + *тэатр*) — 1) калектыў, які ажыццяўляе пастаноўку і выкананне спектакляў для перадачы па радыё; 2) адна з формаў радыёвяшчання на аснове драматургічных твораў.

**РАДЫЁТЭЛЕГРА́МА** (ад *радыё-* + *тэлеграма*) — тое, што і *радыёграма*.

**РАДЫЁТЭЛЕГРА́Ф** (ад *радыё-* + *тэлеграф*) — бесправадны тэлеграф, які перадае паведамленні *кодам* (напр. азбукай Морзе) пры дапамозе радыёхваляў.

**РАДЫЁТЭЛЕГРАФІ́Я** (ад *радыё-* + *тэлеграфія*) — перадача і прыём па радыё паведамленняў з дапамогай тэлеграфнага *кода*.

**РАДЫЁТЭЛЕМЕТРЫ́Я** (ад *радыё-* + *тэлеметрыя*) — навука пра спосабы вывучэння на адлегласці з дапамогай *радыёсігналаў* стану чалавека, уласцівасцей верхніх слаёў атмасферы, касмічнай прасторы і інш.

**РАДЫЁТЭЛЕМЕХА́НІКА** (ад *радыё-* + *тэлемеханіка*) — галіна тэлемеханікі, якая займаецца пытаннямі кантролю, вымярэння і кіравання аб'ектамі на адлегласці з дапамогай радыёхваляў.

**РАДЫЁТЭЛЕСКО́П** (ад *радыё-* + *тэлескоп*) — астранамічная прылада для рэгістрацыі і даследавання радыёвыпрамянення касмічных аб'ектаў.

**РАДЫЁТЭЛЕТА́ЙП** (ад *радыё-* + *тэлетайп*) — літарадрукавальны апарат (тэлетайп) з радыёсувяззю.

**РАДЫЁТЭЛЕФАНІ́Я** (ад *радыё-* + *тэлефанія*) — перадача і прыём па *радыётэлефоне* мовы, музыкі і інш.

**РАДЫЁТЭЛЕФО́Н** (ад *радыё-* + *тэлефон*) — сукупнасць перадавальнай і прыёмнай апаратуры для тэлефоннай сувязі па радыё.

**РАДЫЁТЭ́ХНІКА** (ад *радыё-* + *тэхніка*) — 1) навука аб электрамагнітных ваганнях высокай частаты; 2) галіна тэхнікі, якая займаецца пытаннямі практычнага прымянення *радыёапаратуры* ў сістэме радыёсувязі, тэлебачання, *радыёлакацыі*, *радыётэлемеханікі* і інш.

**РАДЫЁФАНІ́Я** (ад *радыё-* + *-фанія*) — галіна радыёмоўнай тэхнікі, якая займаецца пытаннямі якасці музычных перадач.

**РАДЫЁФІ́ЗІКА** (ад *радыё-* + *фізіка*) — раздзел фізікі, які вывучае фізічныя працэсы, звязаныя з электрамагнітнымі ваганнямі і радыёхвалямі.

**РАДЫЁФІКА́ЦЫЯ** (ад *радыё-* + *-фікацыя*) — аснашчэнне (мясцовасці, памяшкання) радыётрансляцыйнымі вузламі, сеткай праваднога вяшчання і радыёвяшчальнымі прыёмнікамі.

**РАДЫЁФІ́ЛЬМ** (ад *радыё-* + *фільм*) — дакументальна-публіцыстычны жанр радыёвяшчання.

**РАДЫЁФО́Н** (ад *радыё-* + *-фон*) — *тэлефон* без правадоў, які звязвае *абанента* з іншым абанентам, што мае аўтаматычную сувязь з цэнтральным вузлом.

**РАДЫЁЦЭ́НТР** (ад *радыё-* + *цэнтр*) — пункт, абсталяваны спецыяльнай *апаратурай* для радыёсувязі і радыёвяшчання.

**РАДЫЁЭЛЕКТРО́НІКА** (ад *радыё-* + *электроніка*) — галіна на-

вукі і тэхнікі, звязаная з *радыётэхнікай* і электронікай.

**РА́ДЫЙ** (н.-лац. radium, ад лац. radius = прамень) — радыеактыўны хімічны элемент, які ўяўляе сабой серабрыста-белы бліскучы метал.

**РАДЫКА́Л** [1] (с.-лац. radicalis = карэнны, ад лац. radix = корань) — 1) матэматычны знак $\sqrt{\ }$, якім абазначаюць дзеянне здабывання кораня; 2) устойлівая група атамаў, якая пры хімічных пераўтварэннях пераходзіць без змен з малекулы аднаго рэчыва ў малекулу другога.

**РАДЫКА́Л** [2] (англ. radical, ад лац. radix = корань) — 1) член палітычнай партыі, якая змагаецца за рэформы ў рамках капіталістычнага ладу; 2) прыхільнік крайніх, рашучых дзеянняў, поглядаў.

**РАДЫКАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. radicalis = карэнны) — 1) палітыка, якую праводзяць *радыкалы*; 2) рашучае, бескампраміснае ажыццяўленне намераў, імкненне да карэнных змен існуючага становішча ў той ці іншай справе.

**РАДЫКА́ЛЬНЫ** (с.-лац. radicalis = карэнны, ад лац. radix = корань) — рашучы, найбольш дзейсны; карэнны (напр. р-ыя меры).

**РАДЫКУЛІ́Т** (н.-лац. radiculitis, ад лац. radicula = карэньчык) — запаленне карэньчыкаў спінна-мазгавых нерваў.

**РАДЫ́СТ** (ад *радыё*) — работнік, які абслугоўвае прыёмна-перадавальную *радыёстанцыю*.

**РА́ДЫУС** (лац. radius = спіца, прамень) —1) адрэзак прамой, які злучае які-н. пункт акружнасці або паверхні шара з цэнтрам, а таксама даўжыня гэтага адрэзка; 2) *перан.* велічыня ахопу, сфера дзеяння, распаўсюджання чаго-н.

**РА́ДЫУС-ВЕ́КТАР** (ад *радыус* + *вектар*) — 1) вектар, накіраваны ў вызначаны пункт з пэўнага зададзенага раней пункта (полюса); 2) *астр.* адлегласць у дадзены момант ад Сонца да планеты, што рухаецца па сваёй арбіце.

**РАДЫЯГЕ́ННЫ** (ад *радые-* + *-генны*) — звязаны сваім паходжаннем з распадам радыеактыўных рэчываў.

**РАДЫЯГРА́МА** (ад *радые-* + *-грама*) — фатаграфічны здымак, атрыманы пры дапамозе *радыяграфіі*.

**РАДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *радые-* + *-графія*) — метад атрымання на фотаплёнцы адбітка прадмета, які прасвечваюць рэнтгенаўскімі, гама-прамянямі або іншым іанізуючым выпрамяненнем, а таксама сам адбітак.

**РАДЫЯ́ЛІІ** (ад лац. radius = прамень) — палачкападобныя храсткі або костачкі, якія ўваходзяць у склад унутранага шкілета парных плаўнікоў некаторых рыб (напр. акул).

**РАДЫЯЛО́ГІЯ** (ад *радые-* + *-логія*) — навука аб выкарыстанні іанізавальных выпрамяненняў для дыягностыкі і лячэння хвароб.

**РАДЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. radius = прамень) — 1) размешчаны па *радыусе*; 2) які робіцца, адбываецца ў напрамку па радыусе.

**РАДЫЯЛЯ́РЫІ** (н.-лац. radiolaria, ад лац. radiolus = праменьчык) — падклас прасцейшых класа саркодавых; планктонныя арганізмы,

пашыраныя пераважна ў цёплых морах.

**РАДЫЯМЕ́ТРЫЯ** (ад *радые-* + *-метрыя*) — 1) раздзел *фізікі*, які вывучае спосабы вымярэння прамяністай энергіі; 2) сукупнасць метадаў выяўлення радыеактыўных выпрамяненняў.

**РАДЫЯ́Н** (ад лац. radius = прамень) — адзінка вымярэння вуглоў: цэнтральны вугал, што абапіраецца на дугу, даўжыня якой роўная яе *радыусу*.

**РАДЫЯ́НТ** (лац. radians, -ntis = які выпрамяняе) — пункт нябеснай сферы, з якога нібыта выходзяць (дзякуючы перспектыве) бачныя шляхі *метэораў*.

**РАДЫЯ́ТАР** (ад лац. radiare = выпрамяняць) — 1) прыстасаванне ў рухавіках унутранага згарання для ахаладжэння вады або масла; 2) награвальны прыбор у сістэме ацяплення, па ўнутраных каналах якога цыркулірue гарачая вада або пара.

**РАДЫЯХІ́МІЯ** (ад *радые-* + *хімія*) — раздзел хіміі, які вывучае фізіка-хімічныя і хімічныя ўласцівасці радыеактыўных рэчываў, распрацоўвае метады вылучэння і ачысткі гэтых рэчываў.

**РАДЫЯ́ЦЫЯ** (лац. radiatio = выпрамяненне) — 1) выпрамяненне энергіі якім-н. целам, напр. Сонцам (сонечная р.); 2) выпрамененая якой-н. крыніцай энергія.

**РАДЭ́О** (ісп. rodeo) — каўбойскія спартыўныя спаборніцтвы, якія ўключаюць утаймаванне дзікага каня, язду на ім без сядла, лоўлю з дапамогай аркана быка і інш.

**РАДЭНТЫЦЫ́ДЫ** (ад лац. rodens, -ntis = які грызе + *-цыды*) — хімічныя рэчывы *(заацыды)* для барацьбы са шкоднымі грызунамі.

**РАЁН** (фр. rayon, ад лац. radius = прамень) — 1) частка тэрыторыі, цэласная ў якіх-н. адносінах (напр. прамысловы р., жылы р.); 2) месца, прастора, у межах якой адбываецца або на якую распаўсюджваецца пэўнае дзеянне (напр. р. затаплення, р. ваенных дзеянняў); 3) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка на Беларусі і ў некаторых іншых краінах (напр. Мінскі р., Навагрудскі р.).

**РАЗАНІЛІ́Н** (ад лац. rosa = ружа + *анілін*) — сінтэтычны фарбавальнік, крышталічная субстанцыя з металічным зялёным бляскам, якая пры растварэнні мае інтэнсіўны пурпуровы колер; выкарыстоўваецца для фарбавання воўны, вырабу лакаў і інш.

**РАЗА́РЫЙ** (лац. rosarium, ад лац. rosa = ружа) — сад, у якім разводзяць ружы; ружоўнік.

**РАЗЕЛІ́НІЯ** (н.-лац. rosellinia) — сумчаты грыб сям. разелініевых, які развіваецца пераважна на каранях дуба, яблыні, грушы і на адмерлай драўніне гэтых дрэў, узбуджальнік белай гнілі.

**РАЗЕНКРЭ́ЙЦЭРЫ** (ням. Rosenkreuzer, ад Rose = ружа + Kreuz = крыж) — члены тайнага рэлігійна-містычнага гуртка 17—18 ст. у Германіі, Галандыі і некаторых іншых краінах; іх эмблемай былі ружа і крыж.

**РАЗЕО́ЛА** (лац. roseola, ад roseus = ружавы) — чырвоная пляма на скуры чалавека, што з'яўляецца ў

сувязі з парушэннем кровазвароту пры такіх інфекцыйных хваробах, як адзёр, тыф, воспа і інш.

**РАЗЕ́ТА** (фр. rosette) — 1) тое, што і *разетка* ў 3 знач.; 2) тып аграньвання каштоўных камянёў, пры якім аснова каменя застаецца плоскай.

**РАЗЕ́ТКА** (фр. rosette) — 1) сабраныя ў пучок стужка, тасьма, шнур, якія служаць упрыгожаннем; 2) прыстасаванне з гнёздамі для ўключэння асвятляльных і награвальных прыбораў у электрычную сетку; 3) элемент арнаменту ў выглядзе кветкі з аднолькавымі пялёсткамі (у мастацтве, архітэктуры); 4) маленькі спадачак для варэння, мёду і інш.; 5) група лістоў, якія скучана размешчаны на вертыкальным парастку.

**РАЗІ́ТЭС** (н.-лац. rhozites) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. павуціннікавых, які расце на імшыстых мясцінах у хвойных лясах; падбалацянка.

**РАЗМАРЫ́Н** (н.-лац. rosmarinus, ад лац. ros marinus = марская раса) — 1) вечназялёная кустовая расліна сям. ясноткавых з лінейным лісцем і блакітнаватымі або белымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і; дае эфірны алей; на Беларусі вырошчваецца як лекавая і дэкаратыўная; 2) зімовы сорт яблыні з пахучымі салодкімі пладамі, а таксама плод гэтай яблыні.

**РАЗЫ́НКІ** (польск. rodzynki < ням. Rosinen, ад лац. racemus) — сушаныя ягады вінаграду.

**РАЙГРА́С** (англ. rye grass = жытняя трава) — травяністая расліна сям. злакавых з вузкім лісцем і мяцёлкавым або коласападобным суквеццем, пашыраная на лугах; кармавая.

**РАЙКАСФЕ́НІЯ** (н.-лац. rhoicosphaenia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. ахнантавых, якая пашырана пераважна ў саланаватых і марскіх водах.

**РА́ЙЦА** гл. *радца*.

**РА́ЙЯ** (тур. raya, ад ар. ra'ijah = статак) — падатковае насельніцтва ў султанскай Турцыі, з 18 ст. — немусульманскае насельніцтва.

**РАКА́ДА** (фр. rocade) — *ваен.* дарога, якая праходзіць паралельна лініі фронту.

**РАКА́ЙЛЬ** (фр. rocaille = асколкі камянёў, ракавіны) — *арнамент* у выглядзе стылізаваных ракавін, абломкаў скалы ў архітэктуры і прыкладным мастацтве стылю *ракако*.

**РАКАКО́** (фр. rococo) — архітэктурны, мастацкі стыль 18 ст., які вызначаўся складанасцю форм і вычварным арнаментам.

**РАКАМБО́ЛЬ** (фр. rocambole) — травяністая расліна сям. лілейных, пашыраная ў Еўропе і Малой Азіі.

**РАКАМІ́ТРЫУМ** (н.-лац. rhacomitrium) — лістасцябловы мох сям. грыміевых, які расце на валунах, камяністай і пясчанай глебах.

**РА́КЕЛЬ** (ням. Rakel) — *палігр.* тонкі стальны нож, якім знімаецца фарба з прабельных элементаў друкарскай формы.

**РАКЕ́ТА** (ням. Rakete < іт. rochetto, ад rocca = верацяно) — 1) снарад для асвятлення ці *сігналізацыі*; 2) баявы снарад, які прыводзіцца ў рух рэактыўнай сілай; 3) касмічны

# Р

лятальны апарат з рэактыўным рухавіком.

**РАКЕТАДРО́М** (ад *ракета* + *-дром*) — спецыяльна абсталяваная пляцоўка для выпрабавання і запуску ракет.

**РАКЕТАМАДЭЛІ́ЗМ** (ад *ракета* + *мадэлізм*) — канструяванне і выпрабаванне мадэлей ракет з тэхнічнай або спартыўнай мэтай.

**РАКЕТАПЛА́Н** (ад *ракета* + *-план*) — ракета з крыламі, якія робяць яе ўстойлівай у палёце.

**РАКЕТАПЛА́НЕР** (ад *ракета* + *планёр*) — планёр з ракетным рухавіком.

**РАКЕ́ТКА** (фр. raquette, ад ар. raksat = далонь) — зацягнуты сеткай абруч авальнай формы з дзяржаннем або лапатачка з ручкай для гульні ў *тэніс, бадмінтон, пінг-понг*.

**РАКІРАВА́ЦЬ** (фр. roquer, ад roc = шахматная ладдзя) — рабіць *ракіроўку*.

**РАКІРО́ЎКА** (ад *ракіраваць*) — 1) адначасовы ход каралём і ладдзёй, калі караля пераносяць цераз адно поле ў бок ладдзі, а ладдзю пераносяць цераз караля і ставяць побач з ім; 2) перагрупіроўка войск першага эшалона па лініі фронту.

**РА́КІЯ** (балг. ракия) — слівавая або наогул фруктовая гарэлка ў паўднёвых славян.

**РАКО́РД** (фр. raccord = далучэнне, стык) — заправачны ўчастак кінафільма або запісу на магнітнай стужцы *(фанаграмы, відэаграмы)*, які служыць для аховы фільма (запісу) ад механічных пашкоджанняў, нанясення апазнавальных і іншых звестак.

**РАКС-БУ́ГЕЛЬ** (гал. rak-beugel) — кольца з круком, якое перасоўваецца па рангоутнаму дрэву і служыць на судне для пад'ёму і спускання парусоў.

**РА́КСЫ** (гал. raks) — металічныя кольцы, пры дапамозе якіх пярэднія парусы на судне *(кліверы)* мацуюцца да *штанг* і *лееpаў*.

**РА́КУРС** (фр. raccourci = скарачэнне) — 1) у жывапісе, графіцы і рэльефе адлюстраванне фігуры або прадмета ў перспектыве з моцным скарачэннем аддаленых ад гледача частак; 2) пункт погляду на што-н., *аспект*.

**РАКФО́Р** (фр. roquefort, ад Roquefort = назва вёскі ў Францыі) — сорт вострага сыру з авечага малака.

**РАЛЕНТА́НДА** (іт. rallentando) — нязначнае запавольванне асноўнага музычнага *тэмпу*.

**РА́ЛІ** (англ. rally = збор) — спартыўныя спаборніцтвы на спецыяльна падрыхтаваных аўтамабілях або матацыклах паводле зададзенага рэжыму руху.

**РАЛЬГА́НГ** (ням. Rollgang, ад Roll = каток + Gang = ход) — 1) прыстасаванне на роліках для транспартавання штучных грузаў; 2) ролікавы *транспарцёр*, які выкарыстоўваюць у пракатных станах для транспартавання пракату.

**РА́МА** (польск. rama, ад ням. Rahmen) — 1) аконны пераплёт з устаўленым шклом і без яго; 2) аправа для ўстаўкі ў яе карцін, партрэтаў, люстраў і інш.; 3) нясучая

частка машыны, станіна (напр. веласіпедная р.).

**РАМАДА́Н** (ар. ramadān) — тое, што і *рамазан*.

**РАМАЗА́Н** (тур. ramazan, ад ар. ramadān) — дзевяты месяц мусульманскага месячнага календара, а таксама пост у мусульман у гэтую пару, калі не можна есці і піць ад усходу да заходу сонца.

**РАМА́ЛІ** (фр. ramolli = расслаблены) — 1) паралітык; 2) *перан.* фізічна або разумова расслаблены чалавек.

**РАМАЛІ́НА** (н.-лац. ramalina) — лішайнік сям. рамалінавых, які расце пераважна на галінах і ствалах дрэў, апрацаванай драўніне, радзей на камянях і іншых субстратах.

**РАМА́Н** (фр. roman, ад лац. romanus = рымскі) — 1) вялікі, звычайна празаічны твор са складаным і развітым сюжэтам; р ы ц а р с к і р. — твор заходнееўрапейскай сярэдневяковай літаратуры пра каханне і незвычайныя подзвігі рыцараў; 2) *разм.* любоўныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай.

**РАМАНЕ́СКА** (іт. romanesca, ад romanesco = рымскі) — італьянскі народны танец, разнавіднасць *гальярды*.

**РАМАНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. romanus = рымскі) — навязванне лацінскай мовы і рымскай культуры народам, якія падпалі пад уладу Сараж. Рыма.

**РАМАНІ́ЗМ** (ад фр. roman = рамански) — слова або моўны зварот, запазычаныя з раманскіх моў.

**РАМАНІ́СТ** [1] (фр. romaniste) — пісьменнік, які працуе ў жанры *рамана*.

**РАМАНІ́СТ** [2] (ад лац. romanus = рымскі) — 1) спецыяліст па мовах і літаратурах раманскіх народаў; 2) юрыст, спецыяліст па рымскаму праву.

**РАМАНІ́СТЫКА** (ад *раманіст*[2]) — сукупнасць навук, якія вывучаюць раманскія мовы, літаратуры, фальклор, культуру.

**РАМА́НС** (ісп. romance) — 1) музычна-паэтычны твор для голасу з інструментальным суправаджэннем, які мае больш складаную, чым песня, форму; 2) разнавіднасць інструментальнай музыкі, у якой пераважаюць інтымныя матывы.

**РАМА́НСКІ** (фр. roman, ад лац. romanus = рымскі) — які ўзнік на аснове старажытнарымскай культуры або звязаны з гэтай культурай (напр. р. стыль, р-ія мовы).

**РАМАНТАВА́ЦЬ** (фр. remonter) — 1) праводзіць *рамонт*; 2) папаўняць табун або статак маладняком.

**РАМАНТЫ́ЗМ** (фр. romantisme) — 1) кірунак у літаратуры і мастацтве канца 18 — першай чвэрці 19 ст., які ўзнік у барацьбе з *класіцызмам* і імкнуўся да паказу ідэальных герояў, іх інтарэсаў і пачуццяў; 2) творчы метад у літаратуры і мастацтве, прасякнуты імкненнем у яркіх вобразах паказаць высокае прызначэнне чалавека; 3) светапогляд, пранікнуты ідэалізацыяй рэчаіснасці, летуценнай сузіральнасцю.

# Р

**РАМА́НТЫК** (фр. romantique) — 1) паслядоўнік *рамантызму*, 2) той, хто схільны да летуценнасці, да ідэалізацыі людзей і жыцця.

**РАМА́НТЫКА** (фр. romantique = рамантык) — 1) незвычайнасць, нязведанасць чаго-н., якая выклікае эмацыянальныя, прыўзнятыя адносіны; 2) тое, што і *рамантызм*.

**РАМАПІТЭ́К** (ад інд. Rama = імя героя індыйскага эпасу + *-пітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, якая лічыцца найбольш старажытным продкам чалавека.

**РАМА́РЫЯ** (н.-лац. ramaria) — *базідыяльны* грыб сям. рагацікавых, які расце ў лісцевых і мяшаных лясах на глебе, часам на гнілой драўніне; некаторыя віды ядомыя.

**РАМБО́ІД** (гр. rhomboeides = ромбападобны) — тое, што і *паралелаграм*.

**РАМБО́ЭДР** (ад *ромб* + *-эдр*) — *паралелепіпед*, усе грані якога з'яўляюцца роўнымі ромбамі.

**РАМБУЛЬЕ́** (фр. Rambouillet = назва мясцовасці ў Францыі) — парода танкарунных авечак шэрсна-мяснога кірунку, выведзеная ў Францыі ў 18 ст.

**РАМБУ́РС** (фр. rembourser = вяртаць затраты) — аплата купленага тавару, як правіла, праз пасрэдніцтва банка.

**РАМБУРСАВА́ЦЬ** (фр. rembourser) — 1) вяртаць даўгі, затраты; 2) аплачваць доўг праз трэцюю асобу.

**РАМЕ́РЫЯ** (н.-лац. romeria) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая пашырана пераважна ў *планктоне* азёр, сажалак і рэк.

**РА́МІ** (малайск. rami) — травяністая расліна сям. крапіўных, якая вырошчваецца ў Кітаі, Японіі і іншых краінах Паўд.-Усх. Азіі як тэхнічная валакністая культура.

**РАМІ́З** (фр. remise) — паўторны паперадкальны ўдар у фехтаванні; 2) недабор пэўнай колькасці бітак у некаторых картачных гульнях.

**РАМІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. ramus, rami = галінка + *-фікацыя*) — разгалінаванне.

**РАМО́НТ** (фр. remonte) — 1) ліквідацыя пашкоджанняў, паломак; 2) *уст.* папаўненне табуна або статка маладняком.

**РА́МПА** (фр. rampe = схіл) — 1) нізкі выступ, які аддзяляе авансцэну ад глядзельнай залы; 2) асвятляльная апаратура, якая змяшчаецца за такім бар'ерам.

**РАМС** (англ. rams = бараны) — від азартнай картачнай гульні.

**РАМУЛЯРЫЁЗ** (ад *рамулярыя*) — белая плямістасць лісця, хвароба раслін, якая выклікаецца рамулярыямі.

**РАМУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. ramularia) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на лісці люцэрны, рутвіцы, суніц.

**РАМФАРЫ́НХ** (ад гр. rhamphos = дзюба + rynchos = морда) — лятучы яшчар атрада *птэразаўраў*, які жыў у юрскім перыядзе; сківіцы яго з рэдкімі буйнымі зубамі мелі ў рыльнай частцы форму дзюбы.

**РАМФАТЭ́КА** (ад гр. rhamphos = дзюба + *-тэка*) — рагавы чахол на паверхні дзюбы птушак.

**РАМШТЭ́КС** (англ. rump-steaks = кавалкі выразкі) — адбіты і падсмажаны ў сухарах скрылік ялавічыны.

**РА́НВЕРС** (фр. renverser = адхіляць назад) — бакавы рух каня галавой ад сценкі *манежа*.

**РАНВЕРСМА́Н** (фр. renversement = перакіданне) — фігура вышэйшага *пілатажу*, якая дае магчымасць хутка мяняць напрамак палёту на 180°.

**РАНГ** (ням. Rang) — 1) разрад, ступень у званнях (напр. дыпламатычныя рангі або рангі афіцэраў у ваенна-марскім флоце); 2) катэгорыя, разрад якіх-н. прадметаў, з'яў.

**РАНГО́ЎТ** (гал. randhout = круглае дрэва) — сукупнасць драўляных або стальных прыстасаванняў на судне (*мачты, рэі* і інш.), якія служаць для пастаноўкі і расцягвання парусоў, падымання цяжараў, падачы сігналаў.

**РАНДА́Д** (фр. rondade) — пераварот наперад з паваротам пры разбегу без страты хуткасці руху ў гімнастычных і акрабатычных скачках.

**РАНДО́** (фр. rondeau, ад rond = круг) — 1) верш з 8, 13 або 15 радкоў, звязаных дзвюма скразнымі рыфмамі; словы (часам радкі), якімі пачынаецца верш, паўтараюцца ў сярэдзіне яго і ў канцы, ствараючы арыгінальнае архітэктанічнае кальцо; 2) закруглены рукапісны ці друкаваны *шрыфт*, а таксама пяро з парным канцом, каб пісаць такім шрыфтам.

**РАНДЭВУ́** (фр. rendez-vous = прыходзьце) — 1) дамоўленае раней спатканне, пераважна любоўнае; 2) вызначанае месца сустрэчы караблёў.

**РАНДЭ́ЛЬ** (фр. rondelle = кружок) — верш з 13 радкоў, звязаных дзвюма скразнымі *рыфмамі*, з якіх першы паўтараецца тройчы, а другі двойчы.

**РАНЕ́Т** (фр. reinette, ад reine = каралева) — зімовы сорт яблыні з кіславатымі яблыкамі, а таксама плод гэтай яблыні.

**РА́НЕЦ** (ням. Ranzen) — паходная вайсковая або вучнёўская сумка з лямкамі, якую носяць за спіной.

**РАНЖЫ́Р** (ням. Rangierung, ад фр. ranger = ставіць у рад) — 1) пастаноўка людзей па росту ў адну шарэнгу; 2) *перан.* пэўны парадак у чым-н., устаноўлены правіламі і традыцыямі.

**РАНТ** (польск. rant, ад ням. Rand) — вузкая палоска скуры па краях абутку, да якой прымацоўваецца падэшва.

**РАНЦЬЕ́** (фр. rentier, ад rente = рэнта) — асоба, якая жыве на працэнты з аддадзенага ў пазыку капіталу, з даходаў ад *акцый, аблігацый* і інш.

**РА́НЧА** (ісп. rancho) — 1) сядзіба ў краінах Лац. Амерыкі; 2) *ферма*, звычайна жывёлагадоўчая, у ЗША.

**РАНЧЭ́РА** (ісп. ranchero) — уладальнік *ранча*.

**РАП** (ням. Rappen) — швейцарскі *франк*.

**РАПА́ЛІІ** (ад гр. rhapalon = булава) — укарочаныя шчупальцы ў сцыфоідных *медуз*, якія з'яўляюцца своеасаблівымі органамі пачуццяў.

# Р

**РАПАЛО́ДЫЯ** (н.-лац. rhapalodia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. эпітэміевых, якая пашырана ў прэсных, саланаватых і марскіх водах.

**РАПАЛО́ІДЫ** (ад гр. rhopalon = булава + *-оід*) — органы перамяшчэння па субстрату ў сядзячых *медуз* класа сцыфоідных, якія ўяўляюць сабой відазмененыя *рапаліі*.

**РАПАРАВА́ЦЬ** (польск. reparować, ад лац. reparare) — *разм.* папраўляць, рамантаваць (напр. р. абутак).

**РАПАРА́ЦЫЯ** (польск. reparacja, ад п.-лац. reparatio = аднаўленне) — *разм.* рамонт.

**РА́ПАРТ** (фр. rapport) — вуснае ці пісьмовае паведамленне аб выкананні загаду, абавязкаў ці даручэння.

**РАПІДО́ГРАФ** (ад фр. rapide = хуткі + *-граф*) — прыстасаванне для напісання тэкстаў на чарцяжах або малюнках пры дапамозе літарна-тэкставага трафарэта.

**РАПІ́РА** (ням. Rapier, ад фр. rapière) — колючая зброя з доўгім гібкім чатырохгранным клінком, якая зараз выкарыстоўваецца толькі ў вучэбным і спартыўным фехтаванні.

**РАПО́НЦІКУМ** (н.-лац. rhaponticum) — травяністая расліна сям. складанакветных з перыстым лісцем і фіялетава-пурпуровымі кветкамі ў суквеццях-кошыках, пашыраная пераважна ў Паўн. паўшар'і; кармавая, лекавая і дэкаратыўная.

**РАПО́РТ** (фр. rapport = вяртанне) — 1) матыў *арнаменту*, які выступае ў рытмічных паўтарэннях; 2) узор на тканіне, шпалерах, які паўтараецца.

**РАПС** (ням. Raps) — травяністая расліна сям. крыжакветных з шыза-зялёным лісцем і дробнымі жоўтымі кветкамі, якая культывуецца ў Еўропе, Індыі, Кітаі, Канадзе, Аўстраліі; алейная і кармавая.

**РАПСО́Д** (гр. rhapsodos, ад rhapto = складаю + ode = песня) — вандроўны пясняр у Стараж. Грэцыі, выканаўца эпічных паэм, песень.

**РАПСО́ДЫЯ** (гр. rhapsoidia) — 1) эпічная песня пра легендарных герояў і багоў, якую выконваў *рапсод*; 2) музычны твор з некалькіх частак, звычайна на тэмы народных песень ці паданняў.

**РА́ПТАМ** (польск. raptem, ад лац. raptim) — адразу, нечакана, неспадзявана.

**РАРЫТЭ́Т** (ням. Rarität, ад лац. raritas, -atis = рэдкасць) — рэдкасць, вельмі рэдкая рэч, якая ўяўляе сабой музейную каштоўнасць.

**РА́СА** (фр. race, ад іт. razza = парода) — 1) група чалавецтва, якая склалася гістарычна і аб'ядноўваецца агульнасцю паходжання і агульнасцю спадчынных фізічных прымет — колерам скуры і валасоў, формай галавы, асобнымі рысамі твару і інш. (напр. еўрапеоідная р., манголоідная р., негроідная р.); 2) група арганізмаў аднаго віду або падвіду, якая вылучаецца агульнымі біялагічнымі асаблівасцямі і звязана агульным паходжаннем.

**РАСАГЕНЕ́З** (ад *раса* + *-генез*) — працэс фарміравання рас чалавека

**РАСІ́ЗМ** (іт. razzismo) — антынавуковая рэакцыйная тэорыя аб не-

раўнацэннасці чалавечых *рас* і аб тым, што адна раса павінна панаваць над іншымі.

**РАСТР** (ням. Raster, ад лац. rastrum = граблі) — 1) сістэма ліній, нанесеных у пэўным парадку на якую-н. паверхню аптычным, графічным, механічным або іншым спосабам; 2) прыстасаванне, якое складаецца з сістэмы адпаведна размешчаных ніцей, палос, прызмаў, лінзаў.

**РАСТРА́ЛЬНЫ** (лац. rostralis) — размешчаны бліжэй да пярэдняга канца цела; які адносіцца да *рострума*.

**РА́ТА** [польск. rata, ад лац. rata (pars) = вызначаная частка] — адна з частак агульнай платы, доўгу, якая ўносіцца ў вызначаны тэрмін.

**РАТАВА́ЦЬ** (польск. ratować, ад ням. retten) — 1) пазбаўляць ад небяспекі, пагрозы, гібелі; берагчы; 2) хаваць, засцерагаць ад чаго-н. непрыемнага, непажаданага (напр. р. сена ад дажджу).

**РАТАКСА́НЫ** (ад лац. rota = кола + axis = вось) — хімічныя злучэнні з цыклічнай і пранізваючай яе лінейнай *малекул*, звязаных так, што аб'ёмныя *радыкалы* на канцах лінейных малекул перашкаджаюць раз'яднанню сістэмы.

**РАТА́МЕТР** (ад лац. rota = кола + *-метр*) — 1) прыбор для вымярэння расходу вадкасцей, газаў; 2) прыбор для вымярэння лінейных размераў дэталей машын; 3) *паліграф*. прыбор для вызначэння шурпатасці формавых пласцін.

**РАТА́НГ** (малайск. rotan) — ліянападобная трапічная *пальма*, пашыраная ў Азіі, Афрыцы і Аўстраліі.

**РАТАНІ́Я** (ісп. ratania) — кустовая расліна сям. бабовых, пашыраная ў субтрапічных горных раёнах Амерыкі; выкарыстоўваецца ў медыцыне як вяжучы сродак.

**РАТАПРЫ́НТ** (англ. rotaprint, ад лац. rota = кола + англ. print = друк) — малафарматная друкарская машына для друкавання *афсетным* спосабам.

**РАТА́ТАР** (лац. rotator = той, хто круціць) — 1) апарат для друкавання копій з чарцяжоў, рукапісаў, малюнкаў; 2) *фіз*. цела, якое верціцца раўнамерна вакол цэнтра або восі; 3) *анат*. мышца, якая ажыццяўляе паварот у якім-н. суставе.

**РАТАФО́ТА** [ад лац. rota(re) = вярцець + *фота*] — фотанаборная машына з праграмным кіраваннем, па канструкцыі аналагічная машыне манафота.

**РАТАЦЫ́ЗМ** (лац. rhotacismus, ад гр. rho = назва літары «р» грэчаскага алфавіта) — картавасць, няправільнасць у вымаўленні гука «р».

**РАТАЦЫ́ЙНЫ** (ад *ратацыя*) — заснаваны на прынцыпе вярчэння асобных дэталей (напр. р-ая машына).

**РАТА́ЦЫЯ** (лац. rotatio = вярчэнне) — 1) машына для друкавання газет, часопісаў вялікім тыражом; 2) кругавы рух у якім-н. суставе.

**РАТВЕ́ЙЛЕР** (ням. Rottweiler, ад Rottweil = назва горада ў Германіі) — парода службовых сабак, выведзеная ў Германіі ў пач. 20 ст.

**РА́ТМАН** (ням. Ratmann) — член гарадской *рады* ў старажытных нямецкіх гарадах і ў гарадах, пад-

началеных тэўтонскаму *ордэну*, напр. у Рызе ў 12—14 ст.

**РАТО́НДА** (іт. rotonda = круглая) — 1) круглая пабудова (храм, маўзалей, павільён, зала) звычайна з купалам і калонамі; 2) верхняе жаночае цёплае адзенне ў выглядзе доўгай накідкі без рукавоў, распаўсюджанае ў канцы 19 — пач. 20 ст.

**РАТУ́НАК** (польск. ratunek, ад ням. Rettung) — 1) дапамога, абарона, выручка; 2) магчымасць, сродак выратавацца, пазбавіцца ад чаго-н. небяспечнага, непрыемнага.

**РА́ТУША** (польск. ratusz, ад ням. Rathaus) — 1) орган самакіравання ў гарадах феадальнай Зах. Еўропы; 2) орган гарадскога самакіравання на Беларусі ў 14—17 ст., а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся.

**РАТЫФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. ratificare) — ажыццяўляць *ратыфікацыю*.

**РАТЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. ratificatio) — зацвярджэнне органамі вышэйшай дзяржаўнай улады міжнароднага дагавору, заключанага ўпаўнаважанымі прадстаўнікамі дзяржаў.

**РАТЫЦЫ́ДЫ** (ад фр. rat = пацук + *-цыды*) — хімічныя прэпараты для знішчэння пацукоў і мышэй.

**РАУВО́ЛЬФІЯ** (н.-лац. rauwolfia, ад L.Rauwolf = прозвішча ням. батаніка 16 ст.) — вечназялёная кустовая расліна сям. кутравых, пашыраная ў тропіках; змяшчае *алкалоіды*.

**РА́УНД** (англ. round = кола, круг) — 1) трохмінутны перыяд у боксе, на працягу якога вядзецца бой; 2) *перан.* адносна самастойны этап, тур цяжкіх і працяглых перагавораў.

**РА́УТ** (англ. rout) — *уст.* урачысты званы вечар, прыём.

**РАФІ́ДЫ** (гр. rhaphis, -idos = іголка) — ігольчатыя крышталі шчавелекіслага *кальцыю*, якія адкладваюцца ў клетках раслін.

**РАФІНАВА́ЦЬ** (фр. raffiner) — ачышчаць прадукты прамысловасці і сельскай гаспадаркі (металы, спірт, алей, цукар і інш.) ад прымесяў.

**РАФІНА́Д** (фр. raffinade, ад raffiner = ачышчаны крышталічны *цукар*.

**РАФІНА́ЦЫЯ** (ад фр. raffiner = ачышчаць) — ачыстка прадуктаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі (металаў, спірту, алею, цукру і інш.) ад прымесяў.

**РАФІНЁР** (фр. raffineur, ад raffiner = ачышчаць) — машына, якая прымяняецца ў папяровай вытворчасці для драблення і ачысткі драўнянай масы.

**РА́ФІЯ** (англ. raffia, з малагас.) — 1) *пальма* з кароткім ствалом і вялізным перыстым лісцем, пашыраная ў тропіках Афрыкі і Амерыкі; 2) трывалае валакно, якое робіцца з лісця некаторых відаў гэтай пальмы.

**РАФЛЕ́ЗІЯ** [н.-лац. rafflesia, ад T.Raffles = прозвішча англ. генерала, губернатара Явы (1781—1826)] — трапічная расліна класа двухдольных, якая паразітуе на карэннях і сцёблах іншых раслін у вільготных лясах Паўд.-Усх. Азіі, мае кветкі дыяметрам да метра.

**РАХАВА́ЦЬ** (польск. rachować, ад ням. rechnen) — 1) рабіць разлікі, падлікі; 2) *перан.* узважваць, прыкідваць (напр. р., як лепш арганізаваць справу).

**РАХА́Т-ЛУКУ́М** (цюрк. rachat lukum, ад ар. rachat-al-chulkum = адпачынак для горла) — усходні ласунак з цукру, мукі і крухмалу з арэхамі і міндалем.

**РА́ХІС** (гр. rhachis = хрыбет) — 1) частка восі складанага ліста, якая нясе лісточкі; 2) вось ліста папараці; 3) стрыжань, які праходзіць унутры трубкі яечніка ў рада круглых чарвей.

**РАХІ́Т** (н.-лац. rachitis, ад гр. rhachis = хрыбет, пазваночнік) — дзіцячая хвароба, якая характарызуецца парушэннямі ў развіцці касцей з-за недахопу ў арганізме вітаміну D.

**РАХІТО́МІ** (н.-лац. rhachitomi) — атрад вымерлых земнаводных.

**РАХІТЫ́ЗМ** (ад *рахіт*) — сукупнасць прыкмет *рахіту*.

**РАХМА́НЫ** (тур. rahman, ад ар. rahmān) — 1) свойскі, пакорлівы (аб жывёле); 2) лагодны, памяркоўны (аб чалавеку).

**РАХУ́БА** (польск. rachuba) — *разм.* карысць, выгада, сэнс.

**РАХУ́НАК** (польск. rachunek, ад ням. Rechnung) — 1) дакумент, у якім вызначана сума грошай, што павінна быць заплачана за што-н.; 2) запіс фінансавых або гаспадарчых аперацый (напр. асабісты р.).

**РАЦІ́Н** (фр. ratine) — шарсцяная тканіна з завітым густым ворсам для верхняга адзення.

**РАЦЫЁН** (лац. ratio, -onis = мера, разлік) — норма харчовага забеспячэння для людзей і корму для жывёл на пэўны тэрмін.

**РА́ЦЫЯ** [1] (польск. racja, ад лац. ratio = розум) — разумная падстава, слушнасць (мець рацыю).

**РА́ЦЫЯ** [2] [ад *ра(дыёстан)цыя*] — пераносная радыёстанцыя малой магутнасці.

**РАЦЫЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. rationalis = разумны) — арганізацыя якой-н. дзейнасці найбольш мэтазгоднымі, *рацыянальнымі* спосабамі, удасканаленне, паляпшэнне чаго-н.

**РАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (фр. rationalisme, ад лац. rationalis = разумны) — 1) кірунак у ідэалістычнай філасофіі, які лічыць розум адзінай крыніцай пазнання; 2) разумовыя адносіны да жыцця, разумовасць учынкаў.

**РАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (лац. rationalis = разумны) — 1) мэтазгодны, разумны (напр. р-ае выкарыстанне часу); 2) суразмерны адзінцы ці яе частцы (напр. р. лік).

**РАЦЭ́І** (ад лац. oratio = прамова, настаўленне, зварот) — жанр беларускага фальклору; рыфмаваныя празаічныя творы віншавальна-павучальнага зместу.

**РАЦЭМІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. racemus = вінаградная гронка, віно) —ператварэнне аптычна актыўных хімічных злучэнняў у неактыўныя.

**РА́ШКЕТ** (іт. raschietto = скрабачка) — *палігр.* рамка, якая ахоўвае ад забруднення палі папяровага аркуша ў час друкавання.

**РА́ШКУЛЬ** (ням. Reisskohle) — вугальны аловак, палачка драўня-

нага вугалю для рысавання, устаўленая ў *рэйсфедэр*.

**РА́ШПІЛЬ** (ням. Raspel) — напільнік з буйна насечанымі зубчыкамі.

**РА́ШТРА** (лац. rastrum = граблі) — разец з пяццю лёзамі, які прымяняецца пры гравіраванні нот.

**РАШТЭ́ЙН** (ням. Rohstein, ад roh = шэры + Stein = камень) — разнавіднасць *штэйну*, найменш багатая выдаляемым пры плаўцы металам.

**РАЯЛІ́ЗМ** (фр. royalisme, ад roy = кароль) — прыхільнасць да каралеўскай улады.

**РАЯЛІ́СТ** (фр. royaliste) — прыхільнік каралеўскай улады.

**РАЯ́ЛЬ** (фр. royal = каралеўскі) — струнны ўдарна-клавішны музычны інструмент з размешчанымі па гарызанталі струнамі, разнавіднасць *фартэпіяна*.

**РАЯ́ЛЬЦІ** (англ. royalty) — чарговыя плацяжы за купленыя па ліцэнзіі вынаходствы, што выплачваюцца на працягу пэўнага перыяду, вызначанага ў ліцэнзійным пагадненні.

**РАЯТЫ́НА** (н.-лац. raillietina) — *гельмінт* сям. *давенеідаў*, кішачны паразіт курэй, дзятлаў, цецерукоў.

**РАЯТЫНО́ЗЫ** (ад *раятына*) — глісныя хваробы птушак, якія выклікаюцца раятынамі.

**РО́БА** (фр. robe) — грубае рабочае адзенне, звычайна парусінавае або брызентавае (напр. у маракоў, грузчыкаў).

**РО́БАТ** (чэш. robot) — аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека.

**РО́БЕР** (англ. rubber) — фаза гульні ў *брыдж, віст* і *вінт*, якая заканчваецца падсумоўваннем здабытых або страчаных ачкоў.

**РО́ВАР** (польск. rower, ад англ. rower = валацуга, вандроўнік) — тое, што і *веласіпед*.

**РОД** (англ. rod) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 5,0292 м.

**РОД-А́ЙЛАНД** (ад англ. Rhode Island = назва штата ў ЗША) — парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў ЗША у 19 ст.

**РО́ДЫЙ** (н.-лац. rhodium, ад гр. rhodon = ружа) — хімічны элемент, цяжкі тугаплаўкі метал серабрыста-белага колеру з групы плацінавых металаў.

**РО́ЖА** (ст.-польск. roża, ад лац. rosa = ружа) — 1) інфекцыйная хвароба, якая характарызуецца вострым запаленнем скуры або слізістых абалонак; 2) тое, што і *ружа*.

**РО́ЙЦЫСУС** (н.-лац. rhoicissus) — вечназялёная расліна сям. вінаградавых з трохлопасцевым бліскучым лісцем, пашыраная ў вільготных субтропіках Паўд. Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як лісцева-дэкаратыўная.

**РО́КАШ** (польск. rokosz, ад венг. Rákos = назва мясцовасці ў Венгрыі, дзе адбываліся з'езды сейма) — узброенае выступленне польскай шляхты супраць каралеўскай улады ў 16—18 ст.

**РО́КЕР** (англ. rocker, ад rock = гайдацца) — асабліва складаная фігура ў фігурным катанні на каньках.

**РО́КЕРЫ** (шв. raggare) — групы моладзі, якія раз'язджаюць на матацыклах і кідаюць выклік грамадству парушэннем правіл руху і грамадскіх норм паводзін.

**РОК-Н-РО́Л** (англ. rock-and-roll = *літар.* трасіся і пагойдвайся) — парны танец амерыканскага паходжання, для якога характэрны харэаграфічныя падтрымкі і наўмысная нядбайнасць партнёра да партнёршы.

**РОЛ** (ням. Rolle = каток) — 1) цыліндр, вал, каток, які круціцца; 2) машына для размолу валакністых матэрыялаў, якія служаць для вырабу паперы, кардону; 3) скрутак цыліндрычнай формы з якога-н. матэрыялу.

**РО́ЛЕР** (англ. roller, ад roll = скручваць) — машына для скручвання чайных лістоў.

**РО́ЛІК** (ням. Rolle) — 1) дэталь машыны ў выглядзе невялікай шпулькі, кола або барабана, які круціцца; 2) частка падшыпніка ў выглядзе стальнога цыліндра; 3) невялікае металічнае кольца на ножках мэблі, раяля і інш.; 4) фарфоравы ізалятар для замацавання электрычных правадоў на сцяне, столі і інш.; 5) *мн.* канькі на калёсках.

**РО́ЛЬГАНГ** (ням. Rollgang, ад Rolle = каток + Gang = ход) — прыстасаванне для транспартавання масавых паштучных і тарных грузаў, якое складаецца з апорнай станіны і ролікаў, ролікавы транспарцёр.

**РО́ЛЯ** (фр. role) — 1) драматычны вобраз, які ўвасабляецца акцёрам на сцэне, у кінафільме і г.д.; 2) поўны тэкст выбраных з п'есы слоў адной дзеючай асобы; 3) *перан.* ступень удзелу, мера ўплыву, значэнне ў якой-н. справе, падзеі.

**РОМ** (англ. rum) — моцны спіртны напітак з перабродженага соку цукровага трыснягу.

**РОМБ** (гр. rhombos) — *паралелаграм* з роўнымі старанамі і непрамымі вугламі.

**РОМБАДАДЭКА́ЭДР** (ад *ромб* + *дадэкаэдр*) — простая форма кубічнай крышталеграфічнай сістэмы, абмежаваная дванаццаццю гранямі, якія маюць форму ромба.

**РО́МНІ-МА́РШ** (англ. Romney Marsh = назва раўніны ў графстве Кент у Англіі) — парода паўтанкарунных скараспелых авечак, выведзеная ў 19 ст. у Англіі.

**РО́НДА** (іт. rondo) — форма музычнага твора, заснаваная на чаргаванні галоўнай тэмы з адной ці некалькімі пабочнымі.

**РО́НДАЛЬ** (польск. rondel, ад фр. rondelle = кружок) — *уст.* каструля з ручкай.

**РОП** (англ. rope = вяроўка) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 6,096 м.

**РО́СТБІФ** (англ. roastbeef) — ялавічына, засмажаная вялікім кавалкам.

**РО́СТВЕРК** (ням. Rostwerk, ад Rost = краты + Werk = пабудова) — ніжняя частка фундамента збудавання.

**РОСТР** (лац. rostrum = нос карабля) — *таран* у выглядзе галавы якой-н. жывёлы на насавой частцы старажытнарымскага ваеннага карабля.

**РО́СТРА** (лац. rostra = насы караблёў) — 1) *трыбуна* на *форуме*

Страж. Рыма, упрыгожаная насамі караблёў, захопленых у непрыяцеля; 2) *архіт*. упрыгожанні калон у выглядзе насавой часткі старажытнага судна.

**РО́СТРУМ** (лац. rostrum = дзюба, морда) — 1) частка вапняковага шкілета *белемнітаў*, 2) пярэдняя частка галавы ў некаторых рыб (напр. асятровых і акулавых); 3) хабаток у членістаногіх.

**РО́СТРЫ** (гал. rooster = краты) — пляцоўкі, звычайна крацістыя, якія робяцца над палубай судна для шлюпак, катэраў, баркасаў і інш.

**РО́ТА** (польск. rota < с.-в.-ням. rotte, ад лац. rutta = аддзел) — падраздзяленне ў пяхотных, танкавых, інжынерных і іншых родах войск, якое ўваходзіць у склад батальёна.

**РОТАГРАВЮ́РА** [ад лац. rota(re) = вярцець + *гравюра*] — глыбокі друк на *ратацыйных* машынах.

**РО́ТАР** (рус. ротор, ад лац. rotare = вярцець) — 1) вярчальная частка электрычнай машыны, якая знаходзіцца ўнутры статара; 2) вярчальная частка паравой турбіны, кампрэсара, гідраматора і г.д. (параўн. *статар* 2); 3) нясучы вінт верталёта; 4) *мат. вектар*, які характарызуе вярчальны рух у дадзеным пункце вектарнага поля.

**РО́ТМІСТР** (польск. rotmistrz, ад с.-в.-ням. rotemeister) — 1) афіцэрскі чын у кавалерыі, які адпавядае чыну *капітана* ў пяхоце ў польскай і дарэвалюцыйнай рускай арміях; 2) *гіст*. камандзір *роты* ў войсках Вялікага княства Літоўскага (15—17 ст.).

**РОТЭНФЮ́РЭР** (ням. Rottenfuüh-rer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *унтэр-афіцэра*.

**РОФЕАЦЫТО́З** (ад гр. rорһео = паглынаю + *-цытоз*) — працэс усмоктвання клеткай субмікраскапічных часцінак і макрамалекул з навакольнага асяроддзя.

**РО́Я** (н.-лац. roya) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мезатэніевых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**РУБА́ТА** (іт. rubato) — адхіленне ад асноўнага тэмпу музычнай п'есы для дасягнення мастацкай выразнасці.

**РУБЕЛІ́Т** (ад лац. rubellus = чырванаваты) — мінерал класа *сілікатаў* чырвонага колеру, разнавіднасць *турмаліну*.

**РУБЕРО́ЙД** (ад лац. ruber = чырвоны + *-оід*) — матэрыял для пакрыцця даху або ізаляцыі, зроблены з кардону, прамочанага спецыяльным саставам.

**РУБІ́ДЫЙ** (н.-лац. rubidium, ад лац. rubidus = цёмна-чырвоны) — хімічны элемент, мяккі метал серабрыста-белага колеру, падобны па сваіх уласцівасцях на калій і натрый; выкарыстоўваецца ў фотаэлементах, лямпах дзённага святла і інш.

**РУБІКО́Н** (лац. Rubico, -onis = назва ракі, якую перайшоў Юлій Цэзар у 49 г. да н.э. супраць волі сената і гэтым самым пачаў грамадзянскую вайну) — *перан*. мяжа, рубеж чаго-н., перашкода, якую цяжка пераадолець; п е р а й с ц і Р. — прыняць беспаваротнае рашэнне, зрабіць адказны, рашучы крок.

**РУБІ́Н** (с.-лац. rubinus, ад лац. ruber = чырвоны) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў, які з'яўляецца разнавіднасцю *карунду*, каштоўны камень чырвонага колеру.

**РУ́БКА** (рус. рубка, ад гал. roef = каюта) — 1) надбудоўка на верхняй палубе судна, дзе знаходзіцца пост кіравання суднам; 2) назва розных спецыяльных памяшканняў (напр. р. радыёстанцыі); 3) кабіна ў дырыжаблі для камандзіра і прылад кіравання.

**РУБРАФІТЫ́Я** (ад лац. rubrum = чырвоны + гр. phyton = расліна) — грыбковая хвароба ногцяў і скуры, якая выклікаецца чырвоным *трыхафітонам*.

**РУ́БРЫКА** (лац. rubrica, ад ruber = чырвоны) — 1) загаловак раздзела ў газеце, часопісе; 2) раздзел, графа.

**РУБРЫКА́ЦЫЯ** (ад *рубрыка*) — 1) размеркаванне, расстаноўка па рубрыках; 2) сістэма загалоўкаў кнігі.

**РУ́БУС** (н.-лац. rubus) — кустовая або травяністая расліна сям. ружавых з калючымі сцёбламі і адзіночнымі кветкамі ў суквеццях; асобнымі відамі яе з'яўляюцца напр. маліна, ажыны.

**РУ́ГА** (с.-гр. rhoga = плата) — плата духавенству хлебам, часам грашыма, якая выдавалася ў старажытнарымскай дзяржаве, а пасля ў Маскоўскай дзяржаве да 17 ст.

**РУГО́ЗЫ** (н.-лац. rugosa) — падклас вымерлых кішачнаполасцевых класа каралавых паліпаў.

**РУД** (англ. rood) — адзінка плошчы ў англійскай сістэме мер, роўная 1011,71 м$^2$.

**РУДБЕ́КІЯ** (н.-лац. rudbeckia) — травяністая расліна сям. складанакветных з дробнымі жоўтымі кветкамі ў суквеццях-кошыках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**РУДЫМЕ́НТ** (лац. ridimentum = зачатак, пачатковая ступень) — 1) астаткавы, недаразвіты орган, які страціў у працэсе эвалюцыі сваё асноўнае значэнне, напр. вочы ў крата, хваставыя пазванкі і апендыкс у чалавека; 2) *перан.* астатак, рэшткі якой-н. з'явы.

**РУДЫ́СТЫ** (н.-лац. rudistae, ад лац. rudis = грубы) — вымерлыя *малюскі* класа двухстворкавых з ракавінай, правая створка якой прырастала да падводных прадметаў, а левая служыла стрэшкай.

**РУДЭРА́ЛЬНЫ** (ад лац. rudus, -deris = шчэбень, будаўнічае смецце); р - ы я р а с л і н ы — расліны, якія растуць на сметніках, каля платоў, на звалках.

**РУ́ДЭРПІС** (англ. rudder-piece, ад rudder = руль + piece = частка) — вертыкальная частка рулявой рамы, да якой мацуецца плоскасць руля судна.

**РУ́ДЭРПОСТ** (англ. rudder-post, ад rudder = руль + post = слуп) — вертыкальны брус кармавога канца судна, на які навешваецца руль.

**РУ́ЖА** (польск. róża, ад лац. rosa) — кустовая расліна сям. ружавых з пахучымі кветкамі разнастайнай афарбоўкі і калючым сцяблом, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах, а таксама кветка гэтай расліны.

# Р

**РУІ́НЫ** (лац. ruina) — 1) разбураны будынак; 2) *перан.* нешта запушчанае, змарнаванае.

**РУКЗА́К** (ням. Rücksack, ад Rücken = спіна + Sack = мяшок) — заплечны рэчавы мяшок.

**РУЛА́ДА** (фр. roulade, ад rouler = каціць) — 1) раскацісты, хуткі, віртуозны перакат у спяванні; 2) *перан.* пераліvістае спяванне птушак.

**РУЛЕ́Т** (фр. roulette, ад rouler = каціць) — 1) ежа з сечанага мяса з вараным яйкам ці іншай начынкай, запечанага ў выглядзе прадаўгаватага акруглага кавалка; 2) кумпяк, з якога вынята костка і якому нададзена форма каўбасы; 3) пірог з цеста, згорнутага ў некалькі слаёў з салодкай начынкай.

**РУЛЕ́ТА** (фр. roulette, ад rouler = каціць) — *мат.* крывая, якую апісвае які-н. пункт крывой, што коціцца без слізгання па іншай, нерухомай крывой.

**РУЛЕ́ТКА** (фр. roulette, ад rouler = каціць) — 1) інструмент для вымярэння ў выглядзе вузкай (пераважна стальной) стужкі з дзяленнямі, якая накручваецца на валік, змешчаны ў футарале; 2) прыстасаванне для азартнай гульні ў выглядзе рухомага круга з нумараванымі ямкамі, па якім коціцца шарык, а таксама сама гэта гульня.

**РУЛІ́ЦЬ** (фр. rouler = каціць) — тое, што і *руляваць*.

**РУЛО́Н** (фр. rouleau = звітак) — скрутак паперы, тканіны і інш.

**РУЛЬ** (рус. руль, ад гал. roer) — 1) прыстасаванне для кіравання самалётам, суднам, аўтамабілем, задаючы ім патрэбны напрамак руху; 2) *перан.* кіруючы орган.

**РУЛЯВА́ЦЬ** (фр. rouler = каціць) — 1) кіраваць *рулём*, задаючы самалёту, судну, аўтамабілю патрэбны напрамак руху; 2) рухацца па зямлі, вытрымліваючы напрамак пры дапамозе руля (у тым ліку і пра самалёт перад узлётам).

**РУМ** (ст.-польск. rum, ад с.-в.-ням. rūm) — 1) месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты; 2) *уст.* месца пагрузкі; вольнае месца.

**РУМБ** (англ. rhumb) — 1) дзяленне на крузе *компаса*, якое адпавядае 1/32 часткі *гарызонта*; 2) вугал паміж дадзеным напрамкам і геаграфічным *мерыдыянам*.

**РУ́МБА** (ісп. rumba) — 1) бальны танец мексіканскага паходжання, а таксама музыка да гэтага танца; 2) адна з формаў *джазу*.

**РУ́МПЕЛЬ** (гал. roerpen, ад roer = вясло, руль + pen = шпянёк) — *мар.* рычаг, пры дапамозе якога паварочваюць руль судна.

**РУНЦЫ́НІЯ** (н.-лац. runcinia) — павук сям. бакаходаў светлай афарбоўкі, з рыжаватымі або фіялетавымі паласамі на брушку.

**РУ́НЫ** [1] (ням. Runen, ад ст.-сканд. run = таямніца) — пісьмёны, якімі карысталіся старажытныя германцы (3 ст.); захаваліся ў надпісах на камянях і іншых прадметах на тэрыторыі Германіі і Скандынавіі.

**РУ́НЫ** [2] (фін. runo = верш, песня) — старадаўнія народныя песні ў карэлаў, фінаў і эстонцаў.

**РУ́ПАР** (гал. roeper) — 1) труба з расшыраным канцом для ўзмацнення гуку; 2) *перан.* той, хто распаўсюджвае якія-н. ідэі, погляды.

**РУ́ПІЯ** (санскр. rupia = срэбра) — грашовая адзінка Індыі, Пакістана, Інданезіі і некаторых іншых краін, а таксама манета адпаведнай вартасці.

**РУРБАНІЗА́ЦЫЯ** [ад англ. ru(tal) = вясковы + *урбанізацыя*] — працэс пашырэння гарадскіх форм і ўмоў жыцця на сельскую мясцовасць.

**РУСТ** (лац. rusticus = грубы, неапрацаваны) — камень з груба абчасанай ці выпуклай знешняй паверхняй, які выкарыстоўваецца ў *рустыцы*.

**РУ́СТЫКА** (лац. rusticus = грубы, неапрацаваны) — рэльефная муроўка або абліцоўка будынка *рустам*, які стварае ўражанне масіўнасці, манументальнасці будынка.

**РУ́ТА** (лац. ruta) — травяністая расліна сям. рутавых з перыстым лісцем і жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і і ўмераных зонах Азіі; утрымлівае эфірны алей; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**РУТСТРАЕ́МІЯ** (н.-лац. rutstroemia) — сумчаты грыб сям. склератыніевых, які расце на паглыбленых у глебу адмерлых галінках і пладах лісцевых дрэў.

**РУТЫ́Л** (лац. rutilus = жоўта-чырвоны) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў бурага або чырвонага колеру; руда *тытану*.

**РУТЭ́НІЙ** (н.-лац. ruthenium, ад с.-лац. Ruthenia = Русь) — хімічны элемент, серабрыста-шэры тугаплаўкі метал плацінавай групы, з якога вырабляюцца валаскі для лямп напальвання.

**РУ́ТЭР** (англ. rooter, ад root = падкопваць) — машына для раздраблення камяністых і цвёрдых грунтоў.

**РУЦІ́НА** (фр. routine, ад route = дарога, напрамак) — боязь новага, застой, кансерватыўнасць.

**РУЦІНЁР** (фр. routinier) — чалавек, схільны да *руціны*, пазбаўлены пачуцця новага; кансерватар.

**РУЦАВІЕ́ЦІС** (латыш. rucavietis, ад Rucavi = назва паселішча ў Латвіі) — латышскі народны парны танец.

**РУШ** (фр. ruche) — палоска лёгкай тканіны, сабраная ў зборкі для абшыўкі чаго-н.

**РЫА́Л** (ар. rial) — 1) грашовая адзінка Ірана (роўная 100 *дынарам*), Йемена (роўная 40 букшам) і некаторых іншых краін; 2) разменная манета Ірака, роўная 1/5 дынара.

**РЫБАНІ́ТЫ** (ад англ. ribbon = вузкая стужка) — члены тайных сялянскіх арганізацый у Ірландыі ў 19 ст., якія змагаліся супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту.

**РЫБАНУКЛЕІ́НАВЫ** [ад *рыбо(за)* + *нуклеінавы*]; р ы я к і с л о т ы — рэчывы з групы нуклеінавых кіслот, якія змяшчаюць рыбозу і ўваходзяць у склад *цытаплазмы* жывёльных і раслінных клетак, прымаючы ўдзел у *біясінтэзе* бялкоў.

**РЫБАСО́МЫ** [ад *рыбо(за)* + *сома*] — *арганоіды* клетак чалавека, жывёл і раслін, функцыяй якіх з'яўляецца *біясінтэз* бялкоў.

**РЫБАФЛАВІ́Н** [ад *рыбо(за)* + лац. flavus = жоўты] — вітамін $B_2$,

які ўваходзіць у склад рада *ферментаў*, што ўдзельнічаюць у акісляльных працэсах у арганізме; змяшчаецца ў раслінных і жывёльных тканках, асабліва многа яго ў малацэ, печані, дражджах.

**РЫБО́ЗА** (англ. ribose) — просты цукар, які выступае як састаўная частка некаторых біялагічна важных злучэнняў, напр. *нуклеінавых* кіслот, *вітамінаў*.

**РЫ́БСТУЛ** (шв. ribbstol) — спартыўны снарад, які нагадвае рад вертыкальна пастаўленых драбін; гімнастычная сценка.

**РЫ́ВУЛУС** (н.-лац. rivulus) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў прыбярэжнай зоне вадаёмаў Амерыкі.

**РЫВУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. rivularia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць класа гармагоніевых, якая пашырана ў прэсных, саланаватых і марскіх водах.

**РЫГАДО́Н** (фр. rigaudon) — старадаўні французскі парны танец.

**РЫГАРЫ́ЗМ** (фр. rigorisme, ад лац. rigor = суровасць) — суровае, няўхільнае следаванне якім-н. маральным правілам, прынцыпам.

**РЫ́ГЕЛЬ** (ням. Riegel = засаўка) — 1) гарызантальная кароткая бэлька, распорка ў будаўнічых канструкцыях; 2) засаўка ў дзвярах.

**РЫГІ́ДНАСЦЬ** (ад лац. rigidus = цвёрды) — *мед*. нягнуткасць, выкліканая напружаннем мышцаў.

**РЫГСДА́Г** (дацк. rigsdag) — *парламент* у Даніі ў 1849—1953 гг., які складаўся з дзвюх палат — *ландстынга* і *фолькетынга*.

**РЫ́ДБЕРГ** [шв. J.Rydberg = прозвішча шв. фізіка (1854—1919)] — адзінка энергіі, роўная 13,6 *электрон-вольт*, якая прымяняецца ў атамнай фізіцы і оптыцы.

**РЫДВА́Н** (польск. rydwan, ад ням. Reitwagen) — *уст*. прасторны крыты воз.

**РЫДЫКЮ́ЛЬ** (ням. Ridikül, ад фр. reticule) — *уст*. жаночая сумачка.

**РЫЗАКАРПА́Н** (н.-лац. rhizocarpan) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які трапляецца на валунах, камяністых россыпах.

**РЫЗАКЛО́НІУМ** (н.-лац. rhizoclonium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. кладофаравых, якая пашырана ў розных водах і на глебе.

**РЫЗАКТАНІЁЗ** (ад *рызактонія*) — хвароба раслін, якая выклікаецца рызактоніяй.

**РЫЗАКТО́НІЯ** (н.-лац. rhisoctonia) — недасканалы грыб класа *дэйтэраміцэтаў*, які развіваецца на бульбе, бураках, моркве, памідорах, бабовых раслінах.

**РЫЗАЛІ́Т** (ням. Rysalit, ад іт. risalita) — частка будынка, якая выступае за лінію цэнтральнай восі *фасада*.

**РЫЗАМО́РФЫ** (ад гр. rhiza = корань + *-морфы*) — доўгія шнурападобныя спляценні грыбных ніцей у некаторых грыбоў, якія служаць для правядзення вады і пажыўных рэчываў ад грыбніцы ў пладовыя целы.

**РЫЗАПЛА́СТ** (ад гр. rhiza = корань + *-пласт*) — тонкая нітка ў некаторых жгуцікавых, якая злучае жгуцік з ядром.

**РЫЗАПО́ДЫІ** (ад гр. rhiza = корань + *-подыі*) — тонкія протаплазматычныя ніці — *псеўдаподыі* фарамініфераў.

**РЫЗАСАЛЕ́НІЯ** (н.-лац. rhizosolenia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. рызасаленіевых, якая пашырана пераважна ў марскім *планктоне*, зрэдку ў азёрах.

**РЫЗАСФЕ́РА** (ад гр. rhiza = корань + *сфера*) — прыкаранёвая зона глебы, у якой сканцэнтравана вялікая колькасць мікраарганізмаў (бактэрый, грыбоў, актынаміцэтаў).

**РЫЗАФІ́ДЫЙ** (н.-лац. rhizophydium) — ніжэйшы грыб сям. рызыдыевых, які развіваецца на разнастайных раслінных і жывёльных субстратах.

**РЫЗАФО́РЫ** (ад гр. rhiza = корань + *-фор*) — тонкія коранепадобныя вырасты на парастках у некаторых папарацепадобных, напр. *селагінелаў*.

**РЫЗІ́НА** [1] (лац. resina = смала) — тое, што і *гума* 1.

**РЫЗІ́НА** [2] (н.-лац. rhizina) — сумчаты грыб сям. рызінавых, які расце на глебе ў хваёвых лясах, на каранях хвоі, пераважна на месцы пажарышчаў.

**РЫЗО́БІІ** (н.-лац. rhizobiaceae) — сямейства бактэрый, якія выклікаюць разрастанне клетак кары каранёў, сцёблаў, утварэнне клубеньчыкаў на каранях, а на сцёблах — галаў і пухлін.

**РЫЗО́ІДЫ** (ад гр. rhiza = корань + *-оід*) — коранепадобныя ўтварэнні накшталт валаскоў або ніцей у мохападобных, лішайнікаў, некаторых водарасцей і грыбоў, якія выконваюць ролю каранёў.

**РЫЗО́П** (н.-лац. rhizopus) — ніжэйшы грыб сям. мукоравых, які развіваецца ў глебе, на раслінных рэштках, экскрэментах жывёл, гародніне і садавіне.

**РЫ́ЗЫКА** (польск. ryzyko, ад іт. risico) — дзеянні наўдачу, у надзеі на шчаслівы выпадак.

**РЫКА́РДЫЯ** (н.-лац. riccardia) — пячоначны мох сям. анеўравых, які расце ў лясах на гнілой драўніне, на балоцістай і пясчанай глебах.

**РЫКАШЭ́Т** (фр. ricochet) — палёт цвёрдага цела пад вуглом пасля ўдару аб якую-н. паверхню.

**РЫКЕТСІЁЗЫ** (ад *рыкетсіі*) — група інвазійных хвароб жывёл і чалавека, якія выклікаюцца рыкетсіямі.

**РЫКЕ́ТСІІ** [ад англ. C.Ricketts = прозвішча амер. вучонага (1871—1910)] — група дробных унутрыклетачных хваробатворных *бактэрый*, паразітаў членістаногіх, млекакормячых, птушак.

**РЫКСДА́Г** (шв. riksdag) — *парламент* у Швецыі.

**РЫ́КША** [рус. рикша < яп. (dzin) rikisia, ад dzin = чалавек + riki = сіла + sia = вазок] — чалавек, які перавозіць пасажыраў, упрогшыся ў спецыяльную двухколавую каляску.

**РЫ́ЛІ** (ням. Rille = баразна) — вузкія звілістыя далінападобныя паніжэнні рэльефу на Месяцы і Марсе.

**РЫ́МАР** (польск. rymarz, ад ням. Riemer) — майстар, які вырабляе раменную вупраж.

# Р

**РЫМЕ́СА** (іт. rimessa = перадача, перавод) — плацёжны дакумент (*вэксаль, чэк*, грашовы перавод) у іншаземнай *валюце*, прызначаны для міжнародных разлікаў (гл. *рэмітаваць*).

**РЫ́НА** (ст.-польск. ryna, ад ням. Rinne) — металічная труба для сцёку дажджавой вады з даху.

**РЫНАВІ́РУСЫ** (ад гр. rhin, -inos = нос + *вірусы*) — вірусы, якія выклікаюць у чалавека і жывёл запаленчыя хваробы верхніх дыхальных шляхоў.

**РЫНАДЗІ́НА** (н.-лац. rinodina) — накіпны сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які расце на камяністых субстратах і валунах, на раслінных рэштках, кары дрэў, сугліністай глебе.

**РЫ́НАК** (польск. rynek, ад ням. Ring) — 1) месца рознічнага гандлю, базар; 2) сфера тавараабароту (напр. унутраны р., знешні р.); 3) сістэма эканамічных адносін паміж таваравытворцамі.

**РЫНАЛО́ГІЯ** (ад гр. rhis, -inos = нос + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы носа.

**РЫНАПІТЭ́К** (н.-лац. rhynopithecus) — танкацелая малпа шакаладна-карычневай, шараватай або залаціста-аранжавай афарбоўкі, якая водзіцца ў горных лясах Паўд. Кітая і Паўн. В'етнама.

**РЫНАПЛА́СТЫКА** (ад гр. rhis, -inos = нос + *-пластыка*) — аднаўленне носа або выпраўленне яго формы з дапамогай пластычнай хірургіі.

**РЫНАСКАПІ́Я** (ад гр. rhis, -inos = нос + *-скапія*) — метад даследавання насавой поласці пры дапамозе *рынаскопа*.

**РЫНАСКЛЕРО́МА** (ад гр. rhis, -inos = нос + *склерома*) — ушчыльненне слізістай абалонкі носа інфекцыйнага паходжання.

**РЫНАСКО́П** (ад гр. rhis, -inos = нос + *-скоп*) — люстра для агляду поласці носа.

**РЫНАФІ́МА** (ад гр. rhis, -inos = нос + phyma = нараст) — разрастанне сальных залоз і сасудаў кончыка і крылаў носа.

**РЫНГ** (англ. ring) — 1) абгароджаная канатам пляцоўка для *боксу*; 2) кароткачасовы дагавор паміж прадпрымальнікамі з мэтай атрымаць прыбытак шляхам скупкі тавару на рынку і наступнай прадажы яго па больш высокіх цэнах.

**РЫНІ́Т** (лац. rhinitis, ад гр. rhis, -inos = нос) — запаленне слізістай абалонкі носа; насмарк.

**РЫНІЯФІ́ТЫ** (н.-лац. rhyniophyta) — аддзел найбольш прымітыўных вышэйшых раслін, вядомых па выкапнёвых рэштках; жылі ў *сілуры* — *дэвоне*.

**РЫНК** (англ. rink = *каток*) — тое, што і *скетынг-рынк*.

**РЫНК-ХАКЕ́Й** (англ. rink-hockey) — *хакей* з мячом на ролікавых каньках.

**РЫНХАНЕЛІ́ДЫ** (н.-лац. rhynchonellida) — атрад замковых *брахіяподаў*, якія былі пашыраны ў *ардовіку*.

**РЫНХАСПАРЫЁЗ** (ад *рынхаспорый*) — хвароба злакавых раслін, якая выклікаецца рынхаспорыем.

**РЫНХАСПО́РЫЙ** (н.-лац. rhynhosporium) — недасканалы грыб

сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці, а часам і на зерні злакаў.

**РЫНХАСТЭ́ГІУМ** (н.-лац. rhynchostegium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які расце на камянях і драўніне.

**РЫНХАЦЭЛО́М** (ад гр. rhynchos = хобат + koiloma = поласць) — хобатная поласць *немерцін*, куды хабаток уцягваецца і з якой высоўваецца накшталт пальца пальчаткі.

**РЫНХІ́Т** (н.-лац. rhynchitus) — жук сям. трубкакрутаў, які жывіцца пладамі раслін сям. ружавых.

**РЫПАРА́БІУС** (н.-лац. rhyparabius) — сумчаты грыб сям. аскаболавых, які развіваецца на экскрэментах траваедных жывёл.

**РЫПІДАДЭ́НДРАН** (н.-лац. rhipododendron) — каланіяльная залацістая водарасць сям. ізахрызідавых, якая трапляецца пераважна ў тарфяністых водах.

**РЫПІ́ЛЕРЫ** (ад англ. repeal = разрыў) — члены ірландскіх арганізацый сярэдзіны 19 ст., якія выступалі за разрыў англа-ірландскай уніі 1801 г.

**РЫПО́СТ** (фр. riposte = хуткі адказ) — удар у адказ або ўкол у фехтаванні пасля праведзенай абароны.

**РЫПС** (ням. Rips) — моцная тканіна з палатнянай асновай у дробны рубчык.

**РЫПСА́ЛІС** (н.-лац. rhipsalis) — расліна сям. кактусавых з лістападобнымі сцёбламі і шматлікімі дробнымі белымі, жоўтымі або бледна-ружовымі кветкамі, пашыраная ў вільготных трапічных лясах Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца ў аранжарэях і пакоях.

**РЫРПРАЕ́КЦЫЯ** (ад англ. rear = задні + *праекцыя*) — спосаб камбінаванай кіназдымкі, калі аб'ект здымаецца на фоне раней знятага адлюстравання (напр. пейзажу), што праектуецца на экран.

**РЫС** (с.-в.-ням. ris, ад гр. oryza) — расліна сям. злакавых, якая вырошчваецца на затопленым полі ў краінах з цёплым кліматам, а таксама белае зерне гэтай расліны як харчовы прадукт.

**РЫ́СА** (польск. rysa, ад ням. Riss) — 1) вузкая палоска, лінія; 2) рэальны ці ўяўны рубеж паміж чым-н. (напр. р. пад'ёму ўзроўню вады); 3) адзін з абрысаў чаго-н. (напр. рысы твару); 4) *перан.* прымета, асаблівасць (напр. рысы характару).

**РЫСАВА́ЦЬ** (ст.-польск. rysować, ад с.-в.-ням. rīzen) — 1) перадаваць прадметы на плоскасць пры дапамозе графічных сродкаў; 2) *перан.* апісваць у слоўнай форме або ўяўляць мысленна ў якіх-н. вобразах.

**РЫСАРДЖЫМЕ́НТА** (іт. Risorgimento = *літар.* адраджэнне) — 1) нацыянальна-вызваленчы рух у Італіі, які завяршыўся ў 1870 г. утварэннем адзінай італьянскай дзяржавы; 2) вызваленчая барацьба італьянскага народа ў 1943—1945 гг. супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**РЫСБЕ́РМА** (гал. rijsberm, ад rijs = дубец + berm = вал, насып) — частка гідратэхнічнага збудавання, прызначаная для ўмацавання рэчышча патоку.

# Р

**РЫ́СЛІНГ** (ням. Riesling) — 1) сорт белага вінаграду; 2) белае віно, атрыманае з гэтага вінаграду.

**РЫСО́РА** (фр. ressort) — спружыністае прыстасаванне на восі вагонаў, аўтамашыны, павозкі, якое змякчае штуршкі пры яздзе.

**РЫСУ́НАК** (польск. rysunek, ад с.-в.-ням. rizen) — перадача на плоскасці прадметаў пры дапамозе алоўка, пяра, вугалю, фарбаў і інш.

**РЫ́ТАР** (гр. rhetor) — 1) прамоўца і настаўнік красамоўства ў Стараж. Грэцыі і Рыме; 2) настаўнік *рыторыкі* ў брацкіх школах на Беларусі і Украіне ў канцы 16—17 ст.; 3) прамоўца, які гаворыць прыгожа, напышліва, але маламястоўна.

**РЫТАРДА́НДА** (іт. ritardando = запавольваючы) — паступовае запавольванне музычнага тэмпу.

**РЫТАРЫ́ЧНЫ** (гр. rhetorikos) — 1) які мае адносіны да *рыторыкі*, заснаваны на правілах рыторыкі; 2) які складаецца з эфектных, знешне прыгожых прыёмаў; р-ае пытанне — стылістычны прыём у мове: сцверджанне ў форме пытання.

**РЫТМ** (гр. rhythmos) — 1) раўнамернае чаргаванне якіх-н. элементаў (рухальных, гукавых, моўных, біялагічных і інш.) (напр. р. сэрца, р. дыхання, музычны р.); 2) размераны, наладжаны ход чаго-н. (напр. р. працы).

**РЫТМАМЕЛО́ДЫКА** (ад *рытм* + *мелодыка*) — пабудова моўных выразаў паводле інтанацыйных і рытмічных мадэлей.

**РЫТМАПЛА́СТЫКА** (ад *рытм* + *пластыка*) — сістэма фізічных практыкаванняў для ўсебаковага гарманічнага развіцця цела.

**РЫ́ТМІКА** (гр. rhythmikos = суразмерны, стройны) — 1) сукупнасць праяўленняў рытму ў музыцы, паэзіі (напр. р. верша); 2) вучэнне аб *рытме* (у музыцы, вершах, танцах і інш.); 3) сістэма фізічных практыкаванняў пад музыку.

**РЫТМІ́ЧНЫ** (гр. rhythmikos = суразмерны, стройны) — які адбываецца ў пэўным *рытме*, падпарадкаваны рытму; раўнамерны.

**РЫТО́РЫКА** (гр. rhetorike) — 1) тэорыя красамоўства; 2) *перан.* залішняя прыгўзнятасць выказвання, напышлівасць пры неглыбокім змесце.

**РЫТУА́Л** (лац. ritualis = абрадавы) — 1) прынятая паслядоўнасць абрадавых дзеянняў; 2) *цырымонія*, устаноўлены парадак выканання чаго-н.

**РЫТУА́ЛЬНЫ** (лац. ritualis) — які мае адносіны да *рытуалу*, звязаны з выкананнем рытуалу.

**РЫТУРНЭ́ЛЬ** (фр. ritournelle < іт. ritornello, ад ritorno = вяртанне) — 1) частка *акампанементу*, якая паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнай страфы песні, раманса, опернай арыі і інш.; 2) невялікі музычны ўступ перад пачаткам танца; 3) верш, напісаны трохрадковай страфой, у якой першы і трэці радкі рыфмуюцца.

**РЫТЫДЫЯДЭ́ЛЬФУС** (н.-лац. rhytidiadelphus) — лістасцябловы мох сям. рытыдыевых, які расце

на лясной глебе, у хмызняку, на вільготных лугах.

**РЫТЫ́ЗМА** (н.-лац. rhytisma) — сумчаты грыб сям. фацыдыевых, які развіваецца на лісці клёна, вярбы, крапівы, падбелу.

**РЫТЭНУ́ТА** (іт. ritenute = стрыманы) — паступовае запавольванне музычнага тэмпу, меншае, чым *рытарданда*.

**РЫФ** [1] (ням. Riff) — рад падводных або надводных скал, небяспечных для суднаходства.

**РЫФ** [2] (гал. rif) — *мар*. папярочны рад прадзетых праз парус вяровак, пры дапамозе якіх можна паменшыць плошчу паруса.

**РЫФЕ́Й** (н.-лац. Ripheus = старажытная назва Урала) — надрэгіянальнае падраздзяленне агульнай *стратыграфічнай* шкалы *дакембрыю* і адпаведны яму працяглы інтэрвал геалагічнага часу ад 1650 ± 50 да 680 ± 20 млн. гадоў.

**РЫ́ФІЦЬ** (гал. reef) — памяншаць плошчу паруса пры дапамозе *рыфаў*.

**РЫ́ФЛІ** (англ. riffle) — паглыбленні і выступы на якой-н. паверхні.

**РЫ́ФМА** (гр. rhythmos = суразмернасць, узгодненасць) — сугучнасць канцоў вершаваных радкоў або і некаторых слоў у сярэдзіне радка.

**РЫФО́РМІНГ** (англ. reforming, ад лац. reformare = пераўтвараць) — 1) спосаб перапрацоўкі нафты для атрымання высакаякасных бензінаў і іншых каштоўных прадуктаў; 2) устаноўка для такой перапрацоўкі.

**РЫФТ** (англ. rift = разрыў) — выцягнутая на некалькі соцень кіламетраў ровападобная ўпадзіна на зямной паверхні, якая ўзнікла ў выніку расцяжэння зямной кары.

**РЫХТАВА́ЦЬ** (польск. rychtować, ад ням. richten) — 1) прыводзіць што-н. у стан гатоўнасці, рабіць годным для ўжывання; 2) вучыць для якой-н. мэты (напр. р. кадры); 3) распрацоўваць што-н. (напр. р. даклад); 4) рабіць запас чаго-н., набываць што-н. загадзя; 5) намервацца зрабіць што-н., задумваць што-н.

**РЫ́ХТЫК** (польск. rychtyk, ад ням. richten = рыхтаваць) — *разм*. якраз, дакладна (такі самы, падобны на каго-н.).

**РЫ́ЦАР** (польск. rycerz < чэш. rytíř, ад с.-в.-ням. ritter) — 1) прадстаўнік ваенна-землеўладальніцкага саслоўя ў сярэдневяковай Еўропе; 2) *перан*. самаадданы, велікадушны чалавек, які шчыра служыць чаму-н.

**РЫЦЫ́НА** (польск. rycyna, ад н.-лац. Ricinus = клешчавіна) — алей з семя клешчавіны; ужываецца як слабіцельнае.

**РЫЦЫНУЛЕ́І** (н.-лац. ricinulei) — атрад *арахнідаў*, членістаногія жывёлы з целам даўжынёй 5—10 мм і кароткім членістым брушкам, пашыраныя ў тропіках; жывуць у раслінным подсціле, пад карой і ў пячорах.

**РЫ́ЧЫЯ** (н.-лац. riccia) — пячоначны мох сям. рычыевых, які расце па схілах канаў, на лугах, у мелкіх вадаёмах са стаячай вадой.

**РЫЧЫЯКА́РПУС** (н.-лац. ricciocarpus) — пячоначны мох сям. ры-

чыевых, які трапляецца на глеістай глебе ў вадаёмах са стаячай вадой.

**РЫЧЭРКА́Р** (іт. ricercare = расшукваць) — твор поліфанічнага складу на некалькі раздзелаў, якія бесперапынна пераходзяць адзін у адзін і ў якіх тэма развіваецца ў форме *імітацый*.

**РЫШТАВА́ННЕ** (польск. rusztowanie, ад ням. Rüstung) — часовае збудаванне з дошак уздоўж сцен будынка для правядзення будаўнічых або рамонтных работ.

**РЫШТО́К** (польск. rynsztok, ад ням. Rinnstock) — канаўка для вадасцёку.

**РЫШТУ́НАК** (польск. rynsztunek, ад ням. Rüstung) — набор прадметаў, прыстасаванняў, прылад, неабходных для якой-н. работы, занятку.

**РЫШЭЛЬЕ́** [фр. A.Richelieu = прозвішча фр. кардынала (1585—1642)] — ажурная вышыўка, у якой край малюнка абкіданы пяцельным швом, а прасветы запоўнены рашотчатымі злучэннямі.

**РЫЯ́САВЫ** (ад ісп. rias = вусці рэк); р. б е р а г — тып *інгрэсійнага* берага, які характарызуецца чаргаваннем мысаў і доўгіх вузкіх звілістых заліваў.

**РЭ** (лац. re) — другі гук музычнай *гамы*, а таксама *нота*, якая абазначае гэты гук.

**РЭ-** (лац. re-) — прыстаўка, якая абазначае аднаўленне або паўторнасць дзеяння, часам процілеглае дзеянне.

**РЭАБА́ЗА** (ад гр. rheos = цячэнне, паток + *база*) — найменшая сіла пастаяннага электрычнага току, якая можа выклікаць узбуджэнне ў жывых тканках.

**РЭАБІЁНТЫ** (ад гр. rheos = цячэнне, паток + *біёнты*) — тое, што і *рэафілы*.

**РЭАБІЛІТАВА́ЦЬ** (с.-лац. rehabilitare) — 1) аднаўляць у ранейшых правах, вяртаць добрае імя беспадстаўна абвінавачанай асобе; 2) вяртаць добрую *рэпутацыю*.

**РЭАБІЛІТА́ЦЫЯ** (с.-лац. rehabilitatio) — 1) аднаўленне ў ранейшых правах, вяртанне добрага імя беспадстаўна абвінавачанай асобе; 2) вяртанне добрай *рэпутацыі*; 3) *мед.* мерапрыемствы, накіраваныя на прафілактыку інваліднасці, эфектыўнае і ранняе вяртанне хворых і інвалідаў да грамадска карыснай працы.

**РЭАБСО́РБЦЫЯ** (ад *рэ-* + *абсорбцыя*) — зваротнае ўсмоктванне вады з першаснай мачы ў ныркавых каналах, у выніку чаго ўтвараецца канчатковая мача, якая выдаляецца з арганізма.

**РЭАГАВА́ЦЬ** (ад *рэ-* + лац. agere = дзейнічаць) — 1) адклікацца, адказваць пэўным чынам на знешнія раздражненні (напр. р. на святло); 2) выяўляць свае адносіны да дзеяння, выказвання каго-н.; 3) уступаць у хімічную рэакцыю (аб рэчывах).

**РЭАГЕ́НТ** (ад *рэ-* + *агент*) — адно з рэчываў, якое ўдзельнічае ў хімічнай рэакцыі.

**РЭАГРА́МА** (ад гр. rheos = цячэнне + *-грама*) — запіс напаўнення крывёю сасудаў і капіляраў, зроблены пры дапамозе *рэографа*.

**РЭАГРА́ФІЯ** (ад гр. rheos = цячэнне + *-графія*) — метад даследа-

вання функцыі кровавароту, заснаваны на запісе напаўнення кроўю сасудаў і капіляраў пры дапамозе *рэографа*.

**РЭАКЛІМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *акліматызацыя*) — аднаўленне мясцовых відаў жывёл і раслін у пэўным раёне, дзе яны раней жылі, але потым зніклі ў сувязі з рэзкай зменай асяроддзя або ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека.

**РЭАКТАЛО́ГІЯ** (ад *рэ-* + лац. actus = дзеянне + *-логія*) — механістычная *канцэпцыя* ў псіхалогіі 20—30-х гг. 20 ст., якая разглядала псіхічную дзейнасць жывёлы і чалавека толькі як суму рэакцый у адказ на знешнія раздражненні.

**РЭАКТА́НС** (фр. réactance) — рэактыўнае супраціўленне, частка супраціўлення пераменнаму току, якая разам з актыўным супраціўленнем *(рэзістансам)* стварае поўнае супраціўленне *(імпеданс)*.

**РЭАКТАПЛА́СТЫ** (ад *рэ-* + лац. actus = дзеянне + *-пласт*) — *пластмасы*, якія пасля фармавання вырабаў трацяць здольнасць да паўторнай перапрацоўкі (параўн. *тэрмапласты*).

**РЭА́КТАР** (ад *рэ-* + лац. actor = які дзейнічае) — апарат або ўстаноўка, якія дзейнічаюць на аснове фізічных або хімічных рэакцый; а т а м н ы р. — установка для атрымання атамнай энергіі, заснаваная на выкарыстанні ланцуговай рэакцыі дзялення атамных ядраў.

**РЭАКТЫВА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. activus = дзейсны) — узнаўленне актыўнага развіцця жывёл пасля *дыяпаўзы*.

**РЭАКТЫ́Ў** (фр. reactif, ад лац. re- = супраць + activus = дзейсны) — рэчыва, якое ў злучэнні з іншым рэчывам дае *рэакцыю* і гэтым самым дазваляе выявіць наяўнасць апошняга ў хімічным саставе.

**РЭАКТЫ́ЎНЫ** (ад *рэ-* + лац. activus = дзейсны) — 1) які служыць хімічным *рэактывам*; 2) які ўзнікае пад уздзеяннем сілы аддачы, выкарыстоўвае такую сілу (напр. р. рух, р. самалёт); 3) здольны рэагаваць на знешнія раздражненні (напр. р-ая нервовая сістэма).

**РЭА́КЦЫЯ** (фр. reaction, ад лац. re- = супраць + actio = дзеянне) — 1) дзеянне ў адказ на знешняе раздражненне, уздзеянне (напр. р. вока на святло); 2) выяўленне сваіх адносін да дзеяння, выказвання каго-н. (напр. р. на крытыку); 3) рэзкая змена ў настроі, спад пасля нервовага ўзбуджэння; 4) фізічнае або хімічнае ўзаемадзеянне паміж рэчывамі (напр. ланцуговая р.); 5) палітыка актыўнага супраціўлення грамадскаму прагрэсу і падаўлення рэвалюцыйнага руху.

**РЭАКЦЫЯНЕ́Р** (фр. reactionnaire) — прыхільнік або ўдзельнік палітычнай *рэакцыі*, вораг сацыяльнага і культурнага прагрэсу.

**РЭАКЦЭПТА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. acceptare = прымаць) — паўторнае прыняцце да *акцэпту* вэксаля, паколькі спачатку акцэпт быў зроблены з абмежаваннем.

**РЭА́Л** [1] (ісп. real = каралеўскі, ад rey = кароль) — даўнейшая іспанская сярэбраная манета, якая чаканілася ў 13—19 ст.

**РЭА́Л** [2] (ням. Regal) — 1) стол з нахіленай верхняй дошкай, на якую ставіцца каса са шрыфтам

# Р

для набору; 2) друкарскі шрыфт, *кегель* якога роўны 120 *пунктам*.

**РЭАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. realiser, ад с.-лац. realis = сапраўдны) — 1) ажыццяўляць, здзяйсняць, праводзіць у жыццё намечаны план, праграму, праект; 2) прадаваць маёмасць, тавар, каштоўныя паперы.

**РЭАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. réalisation, ад с.-лац. realis = сапраўдны) — 1) ажыццяўленне, здзяйсненне, правядзенне ў жыццё чаго-н., напр. плана, праграмы, праекта; 2) продаж маёмасці, тавару, каштоўных папер.

**РЭАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. realis = сапраўдны) — 1) кірунак у літаратуры і мастацтве, які ставіць мэтай праўдзівы паказ аб'ектыўнай рэчаіснасці ў яе тыповых рысах; 2) здольнасць дакладна ўлічваць наяўныя ўмовы, абставіны, магчымасці; 3) кірунак у сярэдневяковай схаластычнай філасофіі, які сцвярджаў, што агульныя паняцці папярэднічаюць рэчам і рэальна існуюць незалежна ад іх.

**РЭАЛІ́СТ** (ад с.-лац. realis = сапраўдны) — 1) прадстаўнік *рэалізму* ў літаратуры, мастацтве; 2) асоба, якая вызначаецца практычным падыходам да жыцця, умее цвяроза ацэньваць наяўныя ўмовы, абставіны, магчымасці.

**РЭА́ЛІЯ** (н.-лац. realia, ад с.-лац. realis = сапраўдны) — кожная рэч матэрыяльнага свету.

**РЭАЛО́ГІЯ** (ад гр. rheos = цячэнне + *-логія*) — навука, якая вывучае цякучасць і дэфармацыю рэчываў (вадкасцей, дысперсных сістэм і інш.).

**РЭАЛЬГА́Р** (фр. réalgar, ад ар. rahdž al gār = пыл капальні) — мінерал класа *сульфідаў* аранжавага, чырвонага колеру; руда мыш'яку.

**РЭА́ЛЬНЫ** (с.-лац. realis = сапраўдны) — 1) які існуе ў рэчаіснасці, сапраўдны, не ўяўны; 2) заснаваны на разуменні і ўліку наяўных умоў, абставін, магчымасцей; 3) які можна практычна ажыццявіць (напр. р. план).

**РЭАМПУТА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *ампутацыя*) — паўторная ампутацыя, выпраўленне формы куксы з мэтай пратэзавання.

**РЭАНІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *рэанімацыя* + *-логія*) — раздзел медыцыны, які вывучае метады ажыўлення арганізма чалавека, што знаходзіцца ў стане клінічнай смерці, а таксама спосабы недапушчэння клінічнай смерці пры аперацыях.

**РЭАНІМАТО́ЛАГ** (ад *рэанімацыя* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *рэаніматалогіі*.

**РЭАНІМА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. animatio = ажыўленне) — сукупнасць мерапрыемстваў па ажыўленню чалавека, які знаходзіцца ў стане клінічнай смерці, аднаўленне раптоўна страчаных функцый арганізма.

**РЭАРГАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. réorganisation, ад лац. re- = зноў + с.-лац. organisatio = арганізацыя) — перабудова, змена структуры і функцый установы, арганізацыі і інш.

**РЭАСТА́Т** (ад гр. rheos = цячэнне + *-стат*) — прыстасаванне для рэгуліроўкі сілы току і напружання ў электрычным ланцугу.

**РЭАТА́КСІС** (ад гр. rheos = цячэнне, паток + *таксіс*) — рух некаторых ніжэйшых раслін, прасцейшых жывёл і асобных клетак

*(сперматазоідаў)* насустрач току вадкасці.

**РЭАТРАПІ́ЗМ** (ад гр. rheos = цячэнне, паток + *трапізм*) — здольнасць некаторых раслін набываць пэўнае становішча адносна цячэння вады.

**РЭАФІ́ЛЫ** (ад гр. rheos = цячэнне, паток + *-філ*) — жывёлы і расліны, якія прыстасаваліся да жыцця ў цякучых водах рэк, ручаёў, прыліўна-адліўных зонах мораў і акіянаў і здольны супрацьстаяць цячэнню.

**РЭАХО́РД** (ад гр. rheios = цячэнне, паток + *-хорд*) — прыбор у выглядзе нацягнутага дроту з паўзунком, пры дапамозе якога вымяраюць электрычнае супраціўленне праваднікоў току.

**РЭАЭНЦЭФАЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. rheos = цячэнне + *энцэфалаграфія*) — графічны метад даследавання стану кровазвароту ў сасудах мозгу.

**РЭБЕ́К** (фр. rebec) — смычковы музычны інструмент, які з'явіўся ў Зах. Еўропе каля 12 ст. і аказаў уплыў на фарміраванне інструментаў скрыпічнага сямейства.

**РЭБО́РДА** (фр. rebord) — кругавы выступ на краі кола, *шківа*, які прадухіляе сход кола з рэйкі, рэмення са шківа.

**РЭ́БУС** (лац. rebus = пры дапамозе рэчаў, прадметаў) — 1) загадка, дзе словы або фразы, якія трэба разгадаць, перадаюцца ў выглядзе камбінацый малюнкаў, літар; 2) *перан.* нешта загадкавае, незразумелае, мудрагелістае.

**РЭБУ́ЦЫЯ** (н.-лац. rebutia) — расліна сям. кактусавых з шарападобным калючым сцяблом і чырвонымі кветкамі, пашыраная ў высакагорных раёнах Паўд. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях і аранжарэях.

**РЭВАКА́ЦЫЯ** (лац. revocatio = адкліканне) — 1) адкліканне дыпламатычнага прадстаўніка ці ўпаўнаважанай асобы дзяржавай або арганізацыяй, якая пасылала іх; 2) адмена перш дадзенага распараджэння, даручэння; 3) прапанова таго, хто выдаў чэк, ануляваць яго.

**РЭВАКЦЫНА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *вакцынацыя*) — паўторная вакцынацыя.

**РЭВАЛАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *валарызацыя*) — тое, што і *рэвальвацыя*.

**РЭВАЛЬВА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *вальвацыя*) — афіцыяльнае павышэнне залатога забеспячэння грашовай адзінкі краіны або павышэнне яе ў адносінах да *валют* іншых краін (проціл. *дэвальвацыя*).

**РЭВАЛЬВЕ́Р** (англ. revolver, ад лац. revolvere = рухацца ў адваротным напрамку) — ручная агнястрэльная наразная зброя з рухомым барабанным магазінам.

**РЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (фр. révolution, ад лац. revolutio = пераварот) — 1) карэнны пераварот у жыцці грамадства, які заключаецца ў насільным звяржэнні старога грамадскага ладу і ўстанаўленні новага; 2) *перан.* карэнныя змены ў якой-н. галіне (навукі, тэхнікі, мастацтве), якія прыводзяць да абнаўлення.

**РЭВАЛЮЦЫЯНЕ́Р** (фр. révolutionnaire) — 1) удзельнік рэвалюцыйнага руху, дзеяч рэвалюцыі; 2) той, хто робіць пераварот у

якой-н. галіне (навукі, тэхніцы, мастацтве).

**РЭВА́НШ** (фр. revanche = адплата, пакаранне) — адплата за паражэнне, няўдачу, пройгрыш, а таксама барацьба з мэтай узяць верх над ранейшым пераможцам.

**РЭВАНШЫ́ЗМ** (фр. revanchisme) — палітыка пераможанай у вайне дзяржавы або яе пэўных грамадскіх сіл, накіраваная на падрыхтоўку новай вайны з мэтай узяць *рэванш*.

**РЭВЕРА́НС** (фр. réverence) — 1) пачцівы паклон з лёгкім прысяданнем як знак прывітання, падзякі і інш.; 2) *перан.* празмернае выражэнне пачцівасці.

**РЭВЕРБЕРА́ЦЫЯ** (ад лац. reverberare = адбіваць, адкідаць) — з'ява паступовага затухання гуку ў закрытых памяшканнях пасля спынення дзеяння крыніцы гуку.

**РЭ́ВЕРС** (англ. reverse, ад лац. reversus = адваротны) — 1) прыстасаванне, пры дапамозе якога можна мяняць напрамак руху машыны ў процілеглы бок; 2) адваротны бок манеты або медаля; 3) пісьмовае абавязацельства, якое гарантуе што-н.; 4) удар над галавою злева пры гульні ў тэніс.

**РЭВЕ́РСАР** (англ. reverser, ад лац. reversus = адваротны) — прыстасаванне для пуску ў ход, змены напрамку і хуткасці вярчэння электрычных машын.

**РЭВЕРСІ́ЎНЫ** (ад лац. reversus = адваротны) — здольны мяняць напрамак руху або вярчэння (напр. р. рухавік, р. вінт).

**РЭВЕ́РСІЯ** (лац. reversio = зварот) — 1) вяртанне маёмасці ранейшаму ўладальніку; 2) перадача ў заставу *вэксаля* для атрымання пазыкі; 3) змена напрамку руху рабочых частак машыны на адваротны; 4) тое, што і *атавізм* 1.

**РЭВІЗАВА́ЦЬ** (лац. revidere) — 1) рабіць *рэвізію* 1; 2) падвяргаць *рэвізіі* 2.

**РЭВІ́ЗІЯ** (польск. rewizja, ад лац. revisio = перагляд) — 1) праверка правільнасці і законнасці чыіх-н. дзеянняў (прадпрыемства, установы, арганізацыі, службовай асобы); 2) перагляд палажэнняў вучэння, тэорыі, каб унесці змены, якія парушаюць асновы гэтага вучэння, тэорыі.

**РЭВІЗІЯНІ́ЗМ** (ад лац. revisio, -onis = перагляд) — 1) патрабаванне перагледзець пэўнае вучэнне, тэорыю, погляды; 2) ідэйна-палітычная плынь у міжнародным рабочым руху, якая выступае за перагляд палажэнняў марксізму на аснове асэнсавання новых з'яў жыцця.

**РЭВІЗО́Р** (польск. rewizor, ад лац. revisor = які правярае) — 1) службовая асоба, упаўнаважаная рабіць *рэвізію*, праверку; 2) кантралёр у асобных галінах чыгуначнай справы.

**РЭВЮ́** (фр. revue) — тэатральны агляд, паказ асобных сцэн і нумароў, звязаных якой-н. агульнай рысай.

**РЭГАЛІ́Т** (ад гр. rhegos = пакрывала + *-літ*) — верхні рыхлы слой грунту Месяца.

**РЭГА́ЛІЯ** (лац. regalia, ад regalis = царскі) — 1) знак царскай улады (*карона, скіпетр* і інш.); 2) знак узнагароды (*ордэн, медаль* і інш.); 3) манапольнае права каралёў і

буйных феадалаў у феадальнай Зах. Еўропе на атрыманне пэўных даходаў (*мыта, штрафы* і інш.).

**РЭГА́ЛЬ** (фр. regale) — невялікі пераносны *арган* 16—18 ст.

**РЭГА́ТА** (іт. regata, ад riga = род, лінія) — спартыўнае спаборніцтва на вёсельных, парусных або маторных суднах.

**РЭ́ГБІ** (англ. rugby, ад Rugby = назва горада ў Англіі) — спартыўная камандная гульня накшталт *футбола*, у час якой дазваляецца браць мяч рукамі.

**РЭГЕНЕРА́Т** (лац. regeneratus = адроджаны) — выкарыстаны прадукт, у якім адноўлены яго першапачатковыя ўласцівасці.

**РЭГЕНЕРА́ТАР** (ад лац. regenerare = аднаўляць) — 1) аднаўляльнік; 2) апарат для *рэгенерацыі* цяпла, які выкарыстоўваецца для падагравання паветра або газу ў мартэнаўскіх, доменных печах, кацельных устаноўках, паравых і газавых турбінах.

**РЭГЕНЕРАТЫ́ЎНЫ** (лац. regenerativus = які аднаўляе) — 1) які мае адносіны да *рэгенерацыі*; 2) які служыць для рэгенерацыі (напр. р-ая печ).

**РЭГЕНЕРА́ЦЫЯ** (лац. regeneratio = аднаўленне, вяртанне) — 1) аднаўленне арганізмам страчаных або пашкоджаных органаў і тканак, а таксама цэлага арганізма з яго часткі; 2) аднаўленне першапачатковых каштоўных уласцівасцей адпрацаваных матэрыялаў вытворчасці.

**РЭ́ГЕНТ** (лац. regens, -ntis = які кіруе) — 1) часовы правіцель манархічнай дзяржавы, які ажыццяўляе *рэгенцтва*; 2) дырыжор хору, пераважна царкоўнага.

**РЭ́ГЕНЦТВА** (ад *рэгент*) — часовае праўленне ў манархічных краінах адной або некалькіх асоб, калі трон незаняты або манарх не можа здзяйсняць уладу з-за хваробы, непаўналецця, працяглай адсутнасці.

**РЭГІЁН** (англ. region, ад лац. regio, -onis = вобласць) — частка тэрыторыі, якая вылучаецца характэрнымі рысамі (геаграфічнымі, этнаграфічнымі, эканамічнымі і інш.).

**РЭГІ́СТР** (с.-лац. registrum = спіс, пералік) — 1) спіс, пералік чаго-н., кніга для запісаў, уліку, рэгістрацыі; 2) ступень вышыні голасу, гучання музычнага інструмента; 3) размеркавальнік, *рэгулятар* у некаторых машынах, прыборах; 4) частка памяці ў вылічальных машынах; 5) орган тэхнічнага нагляду за будаўніцтвам і бяспекай плавання грузавых і пасажырскіх суднаў.

**РЭГІСТРАВА́ЦЬ** (с.-лац. registrare) — 1) запісваць што-н. з мэтай уліку; 2) афармляць юрыдычна з мэтай надання законнай сілы (напр. р. шлюб); 3) адзначаць якую-н. з'яву, факт (напр. р. змены надвор'я).

**РЭГІСТРА́ТАР** (с.-лац. registrator = пісар) — 1) службовая асоба, якая займаецца рэгістрацыяй, адзначае яўку каго-н.; 2) *перан.* той, хто адзначае, канстатуе бягучыя падзеі.

**РЭГІСТРАТУ́РА** (ад с.-лац. registrare = запісваць) — аддзел ва ўстанове, дзе праводзіцца *рэгістрацыя* каго-н. або чаго-н.

# Р

**РЭГІСТРА́ЦЫЯ** (с.-лац. registratio) — запіс з мэтай уліку, з мэтай надання факту законнай сілы.

**РЭГІЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *рэгіён*) — умацаванне эканамічных, палітычных і іншых сувязей паміж дзяржавамі, якія ўваходзяць у адзін рэгіён; узнікненне рэгіянальных аб'яднанняў дзяржаў.

**РЭГІЯНАЛІ́ЗМ** (ад *рэгіянальны*) — падыход да разгляду эканамічных, сацыяльных, палітычных і іншых праблем з пункту гледжання інтарэсаў пэўнага рэгіёна.

**РЭГІЯНАЛО́ГІЯ** (ад *рэгіён* + *-логія*) — навуковы кірунак у *эканоміцы*, а таксама ў *сацыялогіі* і эканамічнай *геаграфіі*, які вывучае асаблівасці развіцця эканамічнага рэгіёна.

**РЭГІЯНА́ЛЬНЫ** (лац. regionalis = абласны) — які адносіцца да пэўнай мясцовасці — *рэгіёна*, краіны, групы краін (напр. р-ае пагадненне, р-ая нарада, р. слоўнік).

**РЭГІЯНА́РНЫ** (ад лац. regio, -onis = вобласць) — *мед.* мясцовы (напр. р-ая анестэзія, р. кровазварот).

**РЭГЛА́МЕНТ** (фр. réglement, ад лац. regula = правіла) — 1) сукупнасць правілаў, якія вызначаюць парадак дзейнасці дзяржаўнага органа, установы, арганізацыі; 2) парадак вядзення пасяджэнняў, канферэнцый, з'ездаў.

**РЭГЛАМЕНТАВА́ЦЬ** (фр. réglementer) — падпарадкоўваць устаноўленым правілам (напр. р. абавязкі).

**РЭГЛАМЕНТА́ЦЫЯ** (фр. réglementation) — падпарадкаванне ўстаноўленым правілам.

**РЭГЛА́Н** (англ. raglan, ад Raglan = прозвішча англ. генерала 19 ст.) — фасон верхняга адзення, скроенага так, што рукавы з плячом складаюць адно цэлае.

**РЭГЛЕ́Т** (фр. réglette, ад régler = лінеіць) — друкарскі прабельны матэрыял у выглядзе металічнай пласцінкі для запаўнення прабелу паміж строфамі верша або паміж загалоўкам і тэкстам.

**РЭГМАГЛІ́ПТЫ** (ад гр. regma = трэшчына + glyptos = выдзеўбаны) — заглыбленні на паверхні *метэарытаў*, утвораныя ў выніку свідравальнага ўздзеяння зямной *атмасферы* ў час іх руху праз атмасферу з касмічнай хуткасцю.

**РЭГРАДА́ЦЫЯ** (лац. regradatio = вяртанне, адваротны рух) — вяртанне да папярэдняй стадыі глебаўтварэння.

**РЭГРЭДЫЕ́НТ** (лац. regrediens, -ntis = які не вяртаецца) — тое, што і *рэгрэсант*.

**РЭГРЭ́С** (лац. regressus = адваротны рух) — 1) упадак у развіцці чаго-н., рух назад (напр. р. культуры); проціл. *прагрэс* 1; 2) спрашчэнне будовы арганізмаў жывёл і раслін у працэсе іх гістарычнага развіцця (напр. знікненне стрававальнай сістэмы ў многіх паразітаў); 3) права асобы, якая выконвала даручэнні іншай асобы, патрабаваць ад яе кампенсаваць затраты.

**РЭГРЭСА́НТ** (ад лац. regressio = вяртанне) — асоба, якая прад'яўляе зваротнае патрабаванне да іншай асобы аб кампенсацыі затрат, што яна зрабіла на карысць гэтай асобы (напр. заплаціла за што-н.).

**РЭГРЭСА́Т** (ад лац. regressio = вяртанне) — асоба, супраць якой накіравана патрабаванне *рэгрэсанта*.

**РЭГРЭСІ́РАВАЦЬ** (ад лац. regressio = рух назад) — ісці назад у сваім развіцці, даходзіць да ўпадку, *рэгрэсу*.

**РЭГРЭСІ́ЎНЫ** (ад лац. regressus = адваротны рух) — які ў сваім развіцці ідзе назад, вядзе да *рэгрэсу*.

**РЭГРЭ́СІЯ** (лац. regressio = рух назад) — 1) адступленне мора з занятай ім раней тэрыторыі, у выніку чаго пашыраецца суша (параўн. *трансгрэсія* 1); 2) імавернасная залежнасць сярэдняга значэння якой-н. велічыні ад іншай велічыні.

**РЭГТА́ЙМ** (англ. ragtime, ад rag = рваны + time = рытм) — 1) танцавальная музыка амерыканскіх неграў, папярэднік *джазу*; 2) амерыканскі бальны танец.

**РЭ́ГУЛЫ** (лац. regula = норма, правіла) — тое, што і *менструацыя*.

**РЭГУЛЯВА́ЦЬ** (польск. regulować, ад лац. regulare) — 1) прыводзіць што-н. у пэўную сістэму, падпарадкоўваць пэўнаму правілу; 2) наладжваць правільнае ўзаемадзеянне частак механізма.

**РЭГУЛЯ́РНЫ** (лац. regularis = правільны) — 1) раўнамерны, які адбываецца праз пэўныя прамежкі часу (напр. р-ая інфармацыя); 2) пастаянны, арганізаваны па ўсіх правілах (напр. р-ая армія); проціл. *ірэгулярны*.

**РЭГУЛЯ́ТАР** (ад лац. regulare = уладкоўваць) —1) прыбор для рэгулявання дзеяння машыны, механізма; 2) *перан*. тое, што рэгулюе, накіроўвае развіццё чаго-н.

**РЭГУЛЯТЫ́ЎНЫ** (ад лац. regula = норма, правіла) — *кніжн*. які накіроўвае, уносіць парадак, планамернасць у што-н.

**РЭГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. regulare = уладкоўваць) — упарадкаванне, нармалізацыя, рэгуляванне.

**РЭГУ́РЫ** (англ. regur, ад хіндзі regar = чарназём) — цёмнакаляровыя гліністыя глебы на базальтавых покрывах Дэканскага пласкагор'я ў Індыі.

**РЭДАГАВА́ЦЬ** (польск. redagować, ад лац. redigere = парадкаваць) — 1) выпраўляць, апрацоўваць змест і форму якога-н. тэксту пры падрыхтоўцы да друку, для перадачы па радыё і інш.; 2) кіраваць выданнем чаго-н. (напр. р. часопіс).

**РЭДА́КТАР** (фр. rédacteur, ад с.-лац. redactor = які парадкуе) — 1) той, хто правіць, *рэдагуе* які-н. тэкст пры падрыхтоўцы да друку, для перадачы па радыё і інш.; 2) кіраўнік выдання газеты, часопіса і інш. (напр. галоўны р.).

**РЭДА́КЦЫЯ** (фр. rédaction, ад лац. redactus = прыведзены ў парадак) — 1) апрацоўка і падрыхтоўка рукапісу да друку; 2) пэўны тэкст або пэўная фармуліроўка, якія чым-н. адрозніваюцца ад падобных тэкстаў або фармуліровак (напр. новая р. статута); 3) група работнікаў, якія займаюцца падрыхтоўкай рукапісу да выдання; 4) калектыў *рэдактараў*, работнікаў, якія кіруюць перыядычным органам друку; 5) памяшканне, дзе працуюць рэдакцыйныя работнікі.

**РЭДА́Н** (фр. redan) — 1) старадаўняе палявое ўмацаванне (роў, акоп) у выглядзе павернутага да

праціўніка вострага вугла (параўн. *флеш*); 2) выступ на днішчы быстраходнага катэра ці паплаўка гідрасамалёта.

**РЭ́ДЗІЯ** (ад іт. F.Redi = прозвішча іт. біёлага 17 ст.) — адна з лічынкавых стадый развіцця паразітычных чарвей.

**РЭДРЭСА́ЦЫЯ** (ад фр. redresser = выпрамляць) — выпраўленне *дэфармацый* цела, пераважна канечнасцей, расцягненнем тканак або сцісканнем іх з наступным накладаннем фіксуючай павязкі.

**РЭДУБЛЕМА́Н** (фр. redoublement = падваенне, узмацненне) — паўторная *атака* пры фехтаванні.

**РЭДУ́ІТ** (фр. réduit) — апорны пункт у палявым або ў доўгачасовым умацаванні.

**РЭДУКАВА́ЦЬ** (польск. redukować, ад лац. reducere = адводзіць) — аслабляць *артыкуляцыю* гуку, падвяргаць *рэдукцыі*.

**РЭДУ́КТАР** (лац. reductor = які адводзіць) — 1) *механізм*, які служыць для перадачы вярчэння ад аднаго вала да другога (зубчастая або чарвячная перадача); 2) прыбор, які зніжае ціск вадкасці, газу ў сістэме рухавікоў.

**РЭДУ́КЦЫЯ** (лац. reductio = вяртанне) — 1) пераход ад складанага да больш простага, паслабленне; 2) *біял.* спрашчэнне будовы органа ў сувязі са стратай яго функцыі (напр. р. вачэй у пячорных жывёл); 3) зніжэнне ціску вадкасці, газу ў сістэме рухавікоў пры дапамозе рэдуктара; 4) *хім.* узнаўленне элемента з вокіслу; 5) скарачэнне, памяншэнне якой-н. велічыні; 6) *камерц.* падзенне біржавога курсу каштоўных папер або біржавых цэн; 7) *лінгв.* аслабленне гучання галосных у ненаціскным становішчы.

**РЭДУПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. reduplicatio = падваенне) — 1) *лінгв.* словаўтварэнне пры дапамозе падваення асновы слова (напр. ледзьледзь); 2) *біял.* падваенне малекулярных і субклетачных структур, якое ляжыць у аснове дзялення клетак, росту і размнажэння арганізмаў (параўн. *рэплікацыя, трансляцыя* 2, *транскрыпцыя* 4); 3) парушэнне памяці (разнавіднасць *парамнезіі*), пры якім падвойваюцца звычайныя жыццёвыя перажыванні (хвораму здаецца, што існуюць дзве бальніцы, два аднолькавыя ўрачы і г.д.).

**РЭДУ́Т** (фр. redoute) — даўнейшае палявое земляное ўмацаванне, акружанае валам і ровам.

**РЭДУЦЭ́НТЫ** (лац. reducens, -ntis = які вяртае, узнаўляе) — арганізмы, якія жывяцца мёртвым арганічным рэчывам і мінералізуюць яго да простых неарганічных злучэнняў.

**РЭДЫНГО́Т** (фр. redingote, ад англ. reding coat = сурдут шырокага крою для верхавой язды) — 1) доўгі *сурдут* шырокага крою для верхавой язды; 2) асаблівы крой жаночага верхняга адзення.

**РЭДЭМАРКА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *дэмаркацыя*) — аднаўленне пагранічных знакаў на дзяржаўнай граніцы.

**РЭЕ́СТР** (польск. rejestr, ад с.-лац. registrum, regestrum) — спіс, пералік, а таксама кніга для запісу спраў і дакументаў.

**РЭЕСТРАВА́ЦЬ** (польск. rejestrować, ад с.-лац. registrare, regestra-

re) — уносіць у *рэестр*, запісваць для ўліку.

**РЭЕСТРА́ЦЫЯ** (польск. registracja, ад с.-лац. registratio, regestratio) — узяцце на ўлік, унясенне ў спіс або кнігу якіх-н. дадзеных, запісаў пра пэўныя факты.

**РЭЖЫ́М** (фр. régime, ад лац. régimen = улада) — 1) дзяржаўны лад, метад кіравання; 2) дакладна ўстаноўлены распарадак жыцця, працы, адпачынку (напр. р. дня, санаторны р.); 3) сістэма правіл, мерапрыемстваў, неабходных для дасягнення пэўнай мэты (напр. р. бяспекі на вытворчасці).

**РЭЖЫСЁР** (фр. régisseur, ад лац. regere = кіраваць) — пастаноўшчык спектакляў, фільмаў, эстрадных ці цыркавых праграм.

**РЭЖЭЛЯ́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. gelatio = замярзанне) — 1) паўторнае змярзанне крышталёў або асобных масіваў ільду ў месцах іх сутыкнення ва ўмовах высокага ўдзельнага ціску; 2) папераменнае прамярзанне і адтайванне рыхлых вільготных горных парод.

**РЭЗАЛЬВЕ́НТА** (лац. resolvens, -ntis = які развязвае, вырашае) — *функцыя* або *аператар*, якія даюць магчымасць працей рашаць якое-н. ураўненне.

**РЭЗАЛЬВО́МЕТР** (ад лац. resolvere = развязваць, разблытваць + *-метр*) — прыбор для вызначэння здольнасці фатаграфічных матэрыялаў выразна перадаваць найдрабнейшыя элементы адлюстравання.

**РЭЗАЛЮТЫ́ЎНЫ** (лац. resolutivus) — які змяшчае ў сабе канчатковы вывад, *рэзалюцыю*.

**РЭЗАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. resolutio = дазвол) — 1) рашэнне, пастанова з'езда, канферэнцыі, сходу; 2) пісьмовае распараджэнне службовай асобы на дзелавой паперы.

**РЭЗАНА́НС** (фр. résonance, ад лац. resonere = адгукацца) — 1) узбуджэнне ваганняў аднаго цела ваганнямі другога з той жа частатой; 2) здольнасць узмацняць гучанне, уласцівае некаторым памяшканням; 3) *перан.* водгук, водгалас (напр. грамадскі р.).

**РЭЗАНА́ТАР** (ад лац. resonere = адгукацца) — прыбор, прыстасаванне для ўзнаўлення і ўзмацнення розных ваганняў.

**РЭЗАНЁР** (фр. raisonneur) — 1) *персанаж* п'есы, які прама выражае ідэі, маральна-этычныя погляды аўтара; 2) чалавек, які любіць весці доўгія размовы павучальнага характару.

**РЭЗАНІ́РАВАЦЬ** (лац. resonare = адгукацца) — даваць *рэзананс*.

**РЭЗАРЦЫ́Н** (фр. résorcine, англ. resorcin) — арганічнае злучэнне, двухатамны *фенол*, цвёрды бясколерны крышталічны прадукт; выкарыстоўваецца ў медыцыне як сродак дэзінфекцыі, пры вырабе фарбавальнікаў, палімераў і інш.

**РЭЗЕДА́** (фр. réséda) — травяністая расліна сям. рэзедовых з гронкамі дробных жоўтых кветак, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі трапляецца як заносная, вырошчваецца як дэкаратыўная.

**РЭЗЕ́КЦЫЯ** (лац. resectio = зразанне) — аперацыя выдалення часткі органа (страўніка, кішак, суста-

ва) пры яго захворванні або пашкоджанні.

**РЭЗЕ́РВ** (фр. réserve, ад лац. reservare = захоўваць, зберагаць) — 1) запас чаго-н. на ўсякі выпадак; 2) крыніца, адкуль бяруцца новыя сродкі, сілы; 3) частка войск, якая захоўваецца да пэўнага часу і ўводзіцца ў дзеянне па меры змен у баявой абстаноўцы; 4) састаў ваеннаабавязаных, якія прызываюцца ў армію па мабілізацыі.

**РЭЗЕРВАВА́ЦЬ** (лац. reservare = захоўваць) — 1) захоўваць на запас, у рэзерве; 2) захоўваць за сабой права вярнуцца пазней да якога-н. пытання.

**РЭЗЕРВА́Ж** (фр. réservage) — спосаб двухкаляровай афарбоўкі керамічных вырабаў паліваннем іх каляровым *ангобам* па малюнку, які папярэдне нанесены салам або маслам.

**РЭЗЕРВА́Т** (лац. reservatus = захаваны) — 1) тэрыторыя, на якой жывёльны і раслінны свет знаходзіцца пад асобай аховай дзяржавы; запаведнік; 2) тое, што і *рэзервацыя* 1.

**РЭЗЕРВА́ЦЫЯ** (лац. reservatio = збераджэнне) — 1) месца прымусовага пасялення карэннага насельніцтва краіны; існуюць у Паўн. Амерыцы, Паўд. Афрыцы і Аўстраліі; 2) месца часовага скаплення некаторых жывёл (напр. саранчы), звязанага з цыклам развіцця дадзенага тыпу; 3) захаванне чаго-н. у рэзерве.

**РЭЗЕРВІ́СТ** (фр. réserviste) — ваеннаабавязаны, які знаходзіцца ў запасе, *рэзерве*.

**РЭЗЕРВУА́Р** (фр. réservoir, ад лац. reservare = захоўваць, зберагаць) — ёмістасць для вадкасцей і газаў у выглядзе бака, балона, басейна і інш.

**РЭ́ЗЕРФАРД** [англ. E.Rutherford = прозвішча англ. фізіка (1871—1937)] — адзінка *радыеактыўнасці*, якую выцясняе *кюры*.

**РЭЗІДЭ́НТ** (фр. resident, ад лац. residens, -ntis = які сядзіць на месцы) — 1) дыпламатычны прадстаўнік адной дзяржавы ў другой, па рангу ніжэйшы за пасланніка; 2) тайны прадстаўнік разведкі, які дзейнічае на тэрыторыі іншай дзяржавы.

**РЭЗІДЭ́НЦЫЯ** (лац. residentio = месцазнаходжанне) — месца, дзе пастаянна знаходзіцца ўрад, кіраўнік дзяржавы або высокапастаўленая адміністрацыйная асоба.

**РЭЗІСТАГРА́ФІЯ** (ад лац. resisto = супраціўляюся + *-графія*) — вымярэнне супраціўлення сасудаў органа або часткі цела крывацёку.

**РЭЗІСТА́НС** (фр. résistance, ад лац. resistere = супраціўляцца) — актыўнае амічнае супраціўленне пераменнаму электрычнаму току, частка *імпедансу*.

**РЭЗІ́СТАР** (англ. resistor, ад лац. resistere = супраціўляцца) — элемент электрычнага ланцуга, прызначаны для абмежавання току ў ім, чым ствараецца рэжым работы радыёлямпы, транзістарнага прыёмніка.

**РЭЗІСТЫ́Н** (ад лац. resistere = супраціўляцца) — сплаў медзі, марганцу і жалеза; выкарыстоўваецца пры вырабе супраціўлення электрычных награвальных прыбораў.

**РЭЗІСТЫ́ЎНЫ** (англ. resistive) — які датычыць адпору; р. у з м а ц н я л ь н і к — прыстасаванне для ўзмацнення электрычных сігналаў, у якім нагрузкай актыўнага элемента з'яўляецца *рэзістар*.

**РЭЗІСТЭ́НТНАСЦЬ** (ад лац. resistens, -ntis = процідзейны) — адпорнасць.

**РЭЗНАТРО́Н** [ад *рэз(а)на(нс)* + *-трон*] — лямпа для генерыравання і падмацоўвання сілавых ваганняў надвысокіх частот.

**РЭЗО́Л** [ад лац. res(ina) = смала + *-ол*] — сінтэтычная смала, якая атрымліваецца кандэнсацыяй *фенолу* і *фармальдэгіду*, выкарыстоўваецца для вырабу пластмас, лакаў, клею і інш.

**РЭЗО́Н** (фр. raison, ад лац. ratio, -onis = падстава, прычына) — доказ, разумная падстава, сэнс.

**РЭЗО́ННЫ** (ад *рэзон*) — які мае дастаткова разумных падстаў, слушны, абгрунтаваны.

**РЭЗУЛЬТА́НТ** (лац. resultans, -ntis = які адлюстроўвае) — алгебраічны выраз, які выкарыстоўваецца пры знаходжанні агульных вынікаў двух або некалькіх ураўненняў, кратныя карані ўраўнення з адным невядомым і інш.

**РЭЗУЛЬТА́Т** (фр. résultat, ад с.-лац. resultatum) — канчатковы вынік якой-н. дзейнасці, занятку, развіцця.

**РЭ́ЗУС** (лац. rhesus) — 1) вузканосая малпа роду *макак*, якая пашырана ў Індыі, Індакітаі і ў Гімалаях; 2) тое, што і *рэзус-фактар*.

**РЭ́ЗУС-ФА́КТАР** (ад *рэзус* + *фактар*) — асобае рэчыва, якое змяшчаецца ў крыві малпы рэзус і большасці людзей і абумоўлівае сумяшчальнасць крыві маці і плода, донара і таго, каму пераліваюць кроў.

**РЭЗЮМЭ́** (фр. résumé) — кароткі выклад сутнасці кнігі, артыкула, прамовы.

**РЭІ́ЗМ** (ад лац. res, rei = рэч) — разнавіднасць *наміналізму*.

**РЭІ́МПАРТ** (ад *рэ-* + *імпарт*) — увязенне з-за мяжы ўласных тавараў, раней туды экспартаваных.

**РЭІНКАРНА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *інкарнацыя*) — падарожжа душы з цела ў цела (паводле некаторых усходніх рэлігійных дактрын).

**РЭІНТРАДУ́КЦЫЯ** (ад *рэ-* + *інтрадукцыя*) — 1) развядзенне раслін у мясцовасцях, дзе яны раней раслі, але затым зніклі, як правіла, па віне чалавека; 2) другасная або кожная наступная інтрадукцыя раслін, якія раней культываваліся.

**РЭІНФЕ́КЦЫЯ** (ад *рэ-* + *інфекцыя*) — паўторнае заражэнне арганізма (пасля выздараўлення) той самай хваробай (параўн. *суперінфекцыя*).

**РЭІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. res, rei = рэч + *-фікацыя*) — форма сацыяльных адносін, пры якой адносіны паміж людзьмі прымаюць выгляд адносін паміж рэчамі.

**РЭ́ЙБЕР** (ням. Reiber, ад reiben = церці) — драўляны брусок, якім прыціскаюць паперу да друкарскай формы, калі робяць на ёй адбітак.

**РЭЙД** [1] (рус. рейд, ад гал. reede) — месца якарнай стаянкі суднаў у порце або каля берага.

# Р

**РЭЙД** [2] (англ. raid) — 1) пранікненне і рух мотамеханізаваных, кавалерыйскіх вайсковых або партызанскіх груп па тылах праціўніка; 2) нечаканая *рэвізія*, якая праводзіцца групай актывістаў па заданню грамадскіх арганізацый ці друку.

**РЭ́ЙДЭР** (англ. raider, ад raid = нападаць) — ваенны карабель, які мае заданне самастойна весці баявыя аперацыі, гал. ч. знішчаць варожыя судны.

**РЭЙНА́ЎТРЫЯ** (н.-лац. reynoutria) — травяністая расліна сям. драсёнавых з шырокаавальным лісцем і белавата-ружовымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная на Далёкім Усходзе; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**РЭЙНВЕ́ЙН** (ням. Rheinwein) — гатунак вінаграднага віна.

**РЭ́ЙНДЖЭРСЫ** (англ. rangers) — падраздзяленні ў арміі ЗША, прызначаныя для дыверсійна-разведвальных дзеянняў у тыле праціўніка.

**РЭЙС** [1] (ням. Reise = падарожжа) — шлях якога-н. транспартнага сродку па пэўным маршруце.

**РЭЙС** [2] (парт. reis, ад rei = кароль) — разменная манета Партугаліі ў 1854—1911 гг. і Бразіліі ў 1854—1942 гг., роўная 1/1000 *мільрэйса*.

**РЭ́ЙСМУС** (ням. Reißmaß, ад reißen = крэсліць + Maas = мера, памер) — інструмент для правядзення ліній, паралельных краю якога-н. вырабу ці дэталі.

**РЭЙСФЕ́ДЭР** (ням. Reißfeder, ад reißen = крэсліць + Feder = пяро) — чарцёжны інструмент для правядзення ліній тушшу.

**РЭЙСШЫ́НА** (ням. Reißschine, ад reißen = крэсліць + Schiene = стрыжань) — вялікая чарцёжная лінейка з перакладзінай пад прамым вуглом з аднаго канца.

**РЭ́ЙТАР** (ням. Reiter = коннік) — 1) наёмны салдат кавалерыі ў арміях Зах. Еўропы, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў 16—17 ст. і ў Расіі ў 17 ст.; 2) металічны зажым, які надзяваецца на картку для зручнасці карыстання імі ў картатэцы; 3) гірка на аналітычных вагах.

**РЭЙТУ́ЗЫ** (ням. Reithosen) — 1) вузкія штаны ў абцяжку (першапачаткова для верхавой язды); 2) жаночыя або дзіцячыя звычайна доўгія вязаныя штаны.

**РЭ́ЙТЫНГ** (англ. rating = ацэнка, клас, разрад) — індывідуальны лікавы каэфіцыент ацэнкі палітычнай, грамадскай, культурнай і іншай дзейнасці як розных арганізацый, так і асобнага чалавека; выводзіцца на аснове вынікаў якога-н. галасавання, сацыялагічных апытванняў, анкет або паказчыкаў дасягненняў (напр. у спорце).

**РЭЙХ** (ням. Reich = дзяржава, імперыя); Т р э ц і р э й х — германская імперыя, гітлераўская Германія.

**РЭЙХСБА́НК** (ням. Reichsbank) — афіцыйная назва цэнтральнага эмісійнага *банка* ў Германіі да 1945 г. (параўн. *бундэсбанк*).

**РЭЙХСБА́ННЕР** (ням. Reichsbanner) — ваенізаваныя арганізацыі ў Германіі ў 1924—1933 гг. для аба-

роны рэспублікі ад манархічнай рэакцыі.

**РЭЙХСВЕ́Р** (ням. Reichswehr, ад Reich = дзяржава + Wehr = абарона) — узброеныя сілы Германіі ў 1919—1935 гг. (параўн. *бундэсвер, вермахт*).

**РЭЙХСКАМІСАРЫЯ́Т** (ням. Reichskommissariat) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, створаная нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на акупіраванай тэрыторыі СССР.

**РЭЙХСКА́НЦЛЕР** (ням. Reichskanzler, ад Reich = дзяржава + Kanzler = канцлер) — дзяржаўны *канцлер*, кіраўнік урада ў Германіі 1871—1945 гг.

**РЭЙХСРА́Т** (ням. Reichsrat, ад Reich = дзяржава + Rat = рада) — 1) *парламент* у Аўстра-Венгрыі ў 1867—1918 гг.; 2) верхняя палата *ландтагу* ў Баварыі ў 1818—1918 гг.; 3) орган прадстаўніцтва зямель у Германіі ў 1919—1934 гг.

**РЭЙХСТА́Г** (ням. Reichstag, ад Reich = дзяржава + Tag = зборы) — германскі *парламент* да 1945 г., а таксама будынак, дзе засядаў гэты парламент.

**РЭКАГНАСЦЫ́РАВАЦЬ** (лац. recognoscere = разглядаць) — 1) рабіць разведку перад пачаткам баявых дзеянняў; 2) абследаваць мясцовасць для правядзення геадэзічных работ.

**РЭКАГНАСЦЫРО́ЎКА** (ням. Rekognoszierung, ад лац. recognoscere = разглядаць) — разведка, агляд, абследаванне.

**РЭКА́МБІЁ** (іт. recambio = зваротны вэксаль) — 1) зваротны пераводны *вэксаль*, выпісаны на імя вэксалядаўцы ў выпадку апратэставання вэксаля асобай, што яго аплаціла (параўн. *камбіё*); 2) рахунак банка кліенту на пакрыццё расходаў, звязаных з апратэставаннем вэксаля.

**РЭКАМБІНА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *камбінацыя*) — 1) размяшчэнне састаўных частак чаго-н. у новым парадку; 2) узаемадзеянне пазітыўных іонаў з негатыўнымі іонамі або з электронамі, у выніку чаго ўтвараюцца нейтральныя часціцы (атамы, малекулы); працэс, адваротны *іанізацыі*.

**РЭКАМЕНДАВА́ЦЬ** (с.-лац. recommendare = даручаць, давяраць) — 1) станоўча характарызуючы каго-н., што-н., прапаноўваць выкарыстаць у якой-н. справе (напр. р. інжынера, р. кнігу); 2) даваць каму-н. спрыяльны водзыў (звычайна ў пісьмовай форме) для паступлення ў якую-н. арганізацыю; 3) раіць зрабіць што-н.; 4) называць пры знаёмстве.

**РЭКАМЕНДА́ЦЫЯ** (с.-лац. recommendatio = даручэнне) — 1) станоўчая характарыстыка каго-н. з прапановай выкарыстаць у якой-н. справе; 2) спрыяльны водзыў (звычайна ў пісьмовай форме) для паступлення ў якую-н. арганізацыю; 3) парада, прапанова (напр. р. урача).

**РЭКАНВАЛЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. convalescentia = выздараўленне) — перыяд выздараўлення ад якой-н. хваробы пасля знікнення ярка выяўленых клінічных яе прыкмет.

**РЭКАНВЕ́РСІЯ** (ад *рэ-* + *канверсія*) — перавод народнай гаспадаркі краіны пасля заканчэння

вайны на вытворчасць прадукцыі мірнага часу.

**РЭКАНКІ́СТА** (ісп. Reconquista) — адваяванне народамі Пірэнейскага паўвострава на працягу 8—15 ст. зямель, захопленых арабамі.

**РЭКАНСЕРВА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *кансервацыя*) — увядзенне ў дзеянне чаго-н. пасля кансервацыі, узнаўленне чаго-н.

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ** (ад *рэ-* + *канструкцыя*) — 1) карэнная перабудова, пераабсталяванне (напр. р. завода); 2) узнаўленне чаго-н. па рэштках ці па апісанню (напр. р. помніка).

**РЭКАНСТРУЯВА́ЦЬ** (ад *рэ-* + *канструяваць*) — 1) перабудоўваць што-н., каб палепшыць, удасканаліць (напр. р. цэх); 2) аднаўляць што-н. па апісаннях ці рэштках, якія захаваліся (напр. р. замак).

**РЭКАПІТУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. recapitulatio = паўтарэнне) — 1) скарочанае паўтарэнне сказанага; 2) зверка ўліковых бухгалтарскіх запісаў з першакрыніцамі для выяўлення памылак; 3) паўтарэнне арганізмамі ў працэсе індывідуальнага развіцця прымет, якія былі ўласцівы іх далёкім продкам.

**РЭКАРДСМЕ́Н** (англ. recordsman) — 1) спартсмен, які ўстанавіў *рэкорд*; 2) *перан.* чалавек, які дасягнуў найбольшых поспехаў у вытворчай працы.

**РЭ́КВІЕМ** (лац. requiem, він. ад requies = спакой) — 1) музычны твор жалобнага характару; 2) памінальнае каталіцкае набажэнства.

**РЭКВІЗІ́Т** (лац. requisitus = неабходны) — 1) розныя рэчы, якія выкарыстоўваюцца ў тэатры пры пастаноўцы спектакля; 2) неабходны элемент у афармленні дакумента (месца, дата выдачы, подпісы), без чаго дакумент лічыцца несапраўдным; 3) выхадныя дадзеныя кнігі.

**РЭКВІЗІ́ЦЫЯ** (лац. requisitio = патрабаванне) — прымусовае адчужэнне за плату або часовая *канфіскацыя* маёмасці ва ўласнасць дзяржавы.

**РЭКВІРЭ́НТ** (лац. requirens, -ntis = які патрабуе) — уладальнік *вэксаляў*, які звяртаецца ў натарыяльны або іншы адпаведны орган з патрабаваннем апратэставаць вэксаль.

**РЭ́КЕТ** (англ. racket, ад rack = мучыць, катаваць) — буйны *шантаж*, вымагальніцтва шляхам пагроз і насілля.

**РЭКЕЦІ́Р** (англ. racketeer) — злачынец, які займаецца *рэкетам*, шантажыст.

**РЭКЛА́МА** (фр. réclame, ад лац. reclamare = крычаць) — 1) аб'ява, паведамленне аб якім-н. мерапрыемстве, тавары, паслузе з мэтай прыцягнуць да яго ўвагу гледачоў, пакупнікоў, спажыўцоў; 2) распаўсюджванне звестак аб кім-н., чым-н., каб стварыць папулярнасць.

**РЭКЛАМАВА́ЦЬ** (лац. reclamare = крычаць) — аб'яўляць аб чым-н., карыстаючыся сродкамі *рэкламы*; расхвальваць з мэтай стварэння папулярнасці.

**РЭКЛАМА́ЦЫЯ** (лац. reclamatio = пярэчанне, неадабрэнне) — *прэтэнзія* пакупніка, заява з патраба-

ваннем пакрыць расходы і аплаціць страты з прычыны дрэннай якасці прысланага тавару, прадукту, машыны і інш.

**РЭКО́РД** (англ. record) — найлепшы вынік, дасягнуты ў якой-н. галіне, напр. у працы, спорце.

**РЭКО́РДЭР** (англ. recorder) — прыстасаванне ў гуказапісным апараце, якое ператварае электрычныя ваганні гукавой частаты ў механічныя ваганні разца, каб зафіксаваць гукі на гуканосьбіце.

**РЭ́КРУТ** (ням. Rekrut) — салдатнавабранец у некаторых еўрапейскіх арміях і ў дарэформеннай царскай Расіі.

**РЭКРЫШТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *крышталізацыя*) — працэс змены крышталічнага стану цела пад уздзеяннем розных фізічных фактараў, але без расплаўлення або растварэння цела.

**РЭКРЭАТЫ́ЎНЫ** (фр. récréatif, ад лац. recreare = аднаўляць) — які змяшчае ў сабе разважальныя элементы.

**РЭКРЭАЦЫ́ЙНЫ** (ад *рэкрэацыя*) — прызначаны для карыстання ў час адпачынку.

**РЭКРЭА́ЦЫЯ** (лац. recreatio = адпачынак) — 1) перапынак паміж урокамі, лекцыямі; 2) дзейнасць чалавека ў вольны час, накіраваная на аднаўленне і ўмацаванне здароўя, фізічных і духоўных сіл, працаздольнасці.

**РЭКРЭДЫТЫ́Ў** (ад *рэ-* + лац. creditum = даверанае) — 1) адзыўная грамата ўрада свайму дыпламатычнаму прадстаўніку ў іншай краіне; 2) ліст, які адмяняе *акрэдытыў*.

**РЭ́КТА** (англ. recto, ад лац. rectus = прамы) — *тэкст*, надрукаваны толькі на правай старонцы разгорнутай кнігі.

**РЭКТА́ЛЬНЫ** (ад лац. rectum = прамая кішка) — які адносіцца да прамой кішкі (напр. р-ыя даследаванні).

**РЭ́КТАР** (лац. rector = кіраўнік) — кіраўнік вышэйшай навучальнай установы.

**РЭКТАРА́Т** (с.-лац. rectoratus) — адміністрацыйна-навучальнае кіраўніцтва вышэйшай навучальнай установы на чале з *рэктарам*, а таксама памяшканне, дзе знаходзіцца гэта кіраўніцтва.

**РЭКТАСКАПІ́Я** (ад лац. rectum = кішка + *-скапія*) — агляд унутранай паверхні прамой і сігмападобнай кішак пры дапамозе *рэктаскопа*.

**РЭКТАСКО́П** (ад лац. rectum = кішка + *-скоп*) — прыбор з аптычнай і асвятляльнай сістэмамі, які выкарыстоўваецца ў *рэктаскапіі*.

**РЭКТЫФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. rectificare = выпраўляць) — ачышчаць вадкія рэчывы ад прымесяў паўторнай перагонкай (напр. р. спірт).

**РЭКТЫФІКА́Т** (лац. rectificatus = выпраўлены) — спірт, ачышчаны ў выніку *рэктыфікацыі*.

**РЭКТЫФІКА́ТАР** (лац. rectificator = які выпрамляе) — 1) апарат для *рэктыфікацыі*; 2) рабочы, які займаецца рэктыфікацыяй.

**РЭКТЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. rectificatio = выпраўленне) — ачыстка вадкіх рэчываў ад прымесяў паўторнай перагонкай у спецыяльным перагонным апараце.

# Р

**РЭКУЛЬТЫВАВА́ЦЬ** (ад *рэ-* + *культываваць*) — праводзіць *рэкультывацыю*.

**РЭКУЛЬТЫВА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *культывацыя*) — 1) вяртанне чаго-н. да культурнага стану; 2) аднаўленне ўрадлівасці глебы.

**РЭКУПЕРА́ТАР** (лац. recuperator = які атрымлівае зноў) — апарат для *рэкуперацыі*.

**РЭКУПЕРА́ЦЫЯ** (лац. recuperatio = атрыманне зноў) — улоўліванне зрасходаваных у рабочым працэсе газаў, пары для паўторнага выкарыстання.

**РЭКУРСІ́ЎНЫ** (ад лац. recursio = вяртанне); р - ы я ф у н к - ц ы і — функцыі, значэнні якіх для дадзенага аргумента вылічваюцца з дапамогай значэнняў для папярэдніх аргументаў.

**РЭКУРЭ́НТНЫ** (лац. recurrens, -ntis = які вяртаецца) — які дае магчымасць адшукваць значэнне якой-н. велічыні па знойдзеных раней іншых значэннях гэтай жа велічыні.

**РЭКУРЭ́НЦЫЯ** (ад лац. recurrare = вяртацца) — паўторнае з'яўленне ў больш позні геалагічны час формаў, уласцівых больш ранняму геалагічнаму перыяду.

**РЭЛЕ́** (фр. relais) — прыбор для аўтаматычнага замыкання або размыкання электрычнага ланцуга пры пэўных умовах, на якія гэты прыбор павінен рэагаваць.

**РЭЛЕВА́НТНЫ** (англ. relevant, ад с.-лац. relevans, -ntis) — здольны служыць для адрознення моўных адзінак.

**РЭЛЕГА́ЦЫЯ** (лац. relegatio) — 1) *уст.* ссылка *рэцыдывістаў* у калоніі з суровымі кліматычнымі ўмовамі; 2) выключэнне вучня са школы або студэнта з навучальнай установы.

**РЭЛЕ́Й** [англ. J.Rayleigh = прозвішча англ. фізіка (1842—1919)] — адзінка ўдзельнага акустычнага супраціўлення, роўная ўдзельнаму акустычнаму супраціўленню асяроддзя, пры якім гукавы ціск 1 дын/см$^2$ выклікае ваганні часцінак асяроддзя з хуткасцю 1 см/с.

**РЭЛІ́ГІЯ** (польск. religia, ад лац. religio) — форма грамадскай свядомасці, у аснове якой ляжыць вера ў існаванне звышнатуральных сіл (багоў, духаў, анёлаў і інш.).

**РЭЛІКВА́РЫЙ** (п.-лац. reliquarium) — сховішча для *рэліквій*.

**РЭЛІ́КВІЯ** (лац. reliquiae = рэшткі, астанкі) — 1) прадмет рэлігійнага пакланення (напр. мошчы); 2) прадмет, які беражліва захоўваецца як памяць аб мінулым (напр. гістарычная р., сямейная р.).

**РЭЛІ́КТ** (лац. relictum = пакінуты) — арганізм, рэч або з'ява, якія засталіся як перажыткі ад мінулых эпох.

**РЭЛІ́КТАВЫ** (ад *рэлікт*) — які мае адносіны да *рэлікта*; які з'яўляецца рэліктам; р - ы я а р г а - н і з м ы — арганізмы, якія зберагліся ад мінулых геалагічных эпох; р - а е в о з е р а — возера, якое з'яўляецца рэшткай былога мора або вялікага возера.

**РЭЛЬЕ́Ф** (фр. relief) — 1) сукупнасць няроўнасцей на зямной паверхні, якія ўтварыліся ў выніку ўзаемадзеяння *эндагенных* і *экзагенных* працэсаў; выступае ў формах *мегарэльефу, макрарэльефу, мезарэльефу* і *мікрарэльефу*, 2)

выпуклы скульптурны малюнак на плоскасці (напр. *барэльеф, гарэльеф*).

**РЭЛЬЕ́ФНЫ** (ад *рэльеф*) — 1) які выступае над паверхняй, выпуклы; 2) *перан.* выразны, ясны.

**РЭЛЯКСА́НТЫ** (лац. relexans, -ntis = які памяншае, аслабляе) — тое, што і *міярэляксанты*.

**РЭЛЯКСА́ЦЫЯ** (лац. relaxatio = памяншэнне, аслабленне) — паступовае вяртанне ў стан раўнавагі фізічнай або фізіка-хімічнай сістэмы, якая была ў неўраўнаважаным стане пад уздзеяннем знешніх сіл.

**РЭЛЯКСІ́Н** (ад лац. relaxare = памяншаць, аслабляць) — *гармон* млекакормячых і чалавека, які выпрацоўваецца яечнікамі і плацэнтай і садзейнічае расслабленню тазавых звязак і гэтым самым нармальнаму працяканню родаў.

**РЭЛЯТЫВІ́ЗМ** (ад лац. relativus = адносны) — 1) прынцып адноснасці чалавечых ведаў; 2) філасофскае вучэнне, якое адмаўляе магчымасць аб'ектыўнага пазнання свету на падставе адноснасці ўсіх нашых ведаў.

**РЭЛЯТЫ́ЎНЫ** (лац. relativus) — адносны.

**РЭЛЯ́ЦЫЯ** (лац. relatio = паведамленне, даклад) — 1) данясенне аб баявых дзеяннях, дыпламатычных перагаворах; 2) апісанне баявога подзвігу якой-н. асобы ў дакуменце, у якім асоба прадстаўляецца да ўзнагароды.

**РЭМАНТА́НТНАСЦЬ** (ад *рэмантантны*) — здольнасць раслін на працягу вегетацыйнага перыяду цвісці і даваць плады некалькі разоў.

**РЭМАНТА́НТНЫ** (фр. remontant = які падымаецца) — здольны цвісці і даваць плады некалькі разоў на працягу вегетацыйнага перыяду (аб маліне, суніцах, ружы і некаторых іншых раслінах).

**РЭМАНЦЁР** (фр. remonteur) — *афіцэр* дарэвалюцыйнай рускай арміі, які займаўся закупкай коней для войска.

**РЭМА́РКА** (фр. remarque = памета) — 1) тлумачэнне аўтара да тэксту п'есы (звычайна ў дужках), у якім даецца дадатковая характарыстыка абставін дзеяння, знешняга выгляду і паводзін персанажа; 2) памета на палях кнігі, рукапісу.

**РЭМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *рэ-* + *маркетынг*) — разнавіднасць маркетынгу, задачай якога з'яўляецца ажыўленне попыту на тавары і паслугі ў выпадку яго зніжэння.

**РЭМЕ́ДЫУМ** (лац. remedium = сродак супраць чаго-н.) — дапушчальнае законам адхіленне фактычнай вагі і пробы манеты ад устаноўленай нормы.

**РЭ́МЕЗ** (польск. remiz < ням. Riedmeise, ад Ried = чарот + Meise = сініца) — маленькая птушка атрада вераб'інападобных, якая водзіцца ў Еўропе і Азіі; жыве ў зарасніках вярбы па берагах рэк, азёр.

**РЭМІ́З** (фр. remise) — камісійная ўзнагарода, якая выплачваецца маклерам пасрэдніку паміж ім і пакупніком каштоўных папер.

**РЭМІ́ЗА** (фр. remise) — прыстасаванне ў ткацкіх станках для раздзялення нітак асновы.

# Р

**РЭМІЛІТАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *мілітарызацыя*) — узбраенне раней раззброенай дзяржавы.

**РЭМІНІСЦЭ́НЦЫЯ** (лац. reminiscentia = успаміны) — 1) няясныя ўспаміны, а таксама з'ява, якая наводзіць на ўспаміны; 2) адбітак уплыву чыёй-н. творчасці ў літаратурным, музычным і іншым творы.

**РЭМІ́СІЯ** (лац. remissio = памяншэнне, паслабленне) — 1) часовае паслабленне або знікненне праяўленняў хваробы; 2) скідка для выраўноўвання сумы плацяжу па рахунку.

**РЭМІТАВА́ЦЬ** (лац. remittere = адсылаць) — перасылаць крэдытору *траты чэкі*, тэлеграфныя пераводы, выпісаныя ў замежнай *валюце* ў рахунак пагашэння доўгу (з дапамогай *рымесы*).

**РЭМІТЭ́НТ** (лац. remittens, -ntis = які адсылае) — асоба, на імя якой выпісаны пераводны вэксаль (*трата*) для атрымання пэўнай сумы грошай.

**РЭНАВА́ЦЫЯ** (лац. renovatio = аднаўленне) — эканамічны працэс замены выбываючых у выніку маральнага і фізічнага зносу асноўных фондаў вытворчасці новымі як умова простага ўзнаўлення.

**РЭНАМЭ́** (фр. renommée) — *кніжн.* думка, якая склалася пра каго-н., што-н., *рэпутацыя*.

**РЭНА́ТА** (лац. renatus = адроджаны) — тэкставы шрыфт, падобны па малюнку на літаратурную *гарнітуру*.

**РЭНАТУРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *натуралізацыя*) — аднаўленне ў правах грамадзянства асоб, што па якой-н. прычыне страцілі іх.

**РЭНЕГА́Т** (с.-лац. renegatus, ад лац. renegare = адракацца) — 1) чалавек, які здрадзіў сваім перакананням і перайшоў у лагер праціўніка; 2) чалавек, які адрокся ад сваёй веры.

**РЭНЕСА́НС** (фр. Renaissance = адраджэнне) — 1) эпоха Адраджэння (14—16 ст.), час росквіту навук і мастацтваў, які змяніў у Еўропе сярэдневякоўе; 2) архітэктурны стыль эпохі Адраджэння.

**РЭ́НІЙ** (р.-лац. rhenium, ад ням. Rein = назва ракі) — хімічны элемент, серабрыста-белы тугаплаўкі метал, падобны на плаціну; выкарыстоўваецца ў сплавах, вакуумнай тэхніцы, як каталізатар і інш.

**РЭНІ́Н** (н.-лац. rennina) — састаўная частка страўнікавага соку млекакормячых; як прэпарат выкарыстоўваецца ў медыцыне і малочнай вытворчасці.

**РЭНКЛО́Д** (фр. reine-claude, ад prunes de la reine Claude = слівы каралевы Клаўдзіі) — група сартоў слівы з круглымі зялёнымі або жоўтымі пладамі.

**РЭНО́НС** (фр. renonce) — адсутнасць карты якой-н. масці ў картачнага гульца.

**РЭ́НТА** (ням. Rente, ад ст.-фр. rente) — даход ад капіталу, маёмасці або зямлі, які не патрабуе ад уладальніка ніякай прадпрымальніцкай дзейнасці.

**РЭНТА́БЕЛЬНАСЦЬ** (ад *рэнтабельны*) — паказчык эканамічнай эфектыўнасці работы прадпрыемстваў, галін вытворчасці за пэўны

перыяд, які характарызуе іх прыбытковасць.

**РЭНТА́БЕЛЬНЫ** (ням. rentabel) — мэтазгодны з гаспадарчага пункту погляду, прыбытковы, даходны (напр. р-ая гаспадарка).

**РЭНТГЕ́Н** [ням. W.Roentgen = прозвішча ням. фізіка (1845—1923)] — 1) нябачныя прамяні, якія з'яўляюцца кароткімі электрамагнітнымі хвалямі, здольнымі пранікаць цераз непразрыстыя прадметы; 2) прасвечванне нябачнымі (рэнтгенаўскімі) прамянямі; 3) апарат для прасвечвання *рэнтгенаўскімі* прамянямі; 4) пазасістэмная адзінка вымярэння радыяцыі, роўная $2{,}58 \cdot 10^{-4}$ к/кг.

**РЭНТГЕНА-** [ням. W.Roentgen = прозвішча ням. фізіка (1845—1923)] — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «звязаны з выкарыстаннем рэнтгенаўскіх прамянёў».

**РЭНТГЕНАГРА́МА** (ад *рэнтгена- + -грама*) — адбітак на фотапласцінцы або плёнцы, атрыманы пры дапамозе *рэнтгенаўскіх* прамянёў.

**РЭНТГЕНАГРА́ФІЯ** (ад *рэнтгена- + -графія*) — фатаграфаванне ўнутранай будовы непразрыстых прадметаў пры дапамозе *рэнтгенаўскіх* прамянёў.

**РЭНТГЕНАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад *рэнтгена- + дыягностыка*) — распазнаванне захворвання тканак ці органаў чалавека або жывёлы пры дапамозе *рэнтгенаўскіх* прамянёў.

**РЭНТГЕНАДЭФЕКТАСКАПІ́Я** (ад *рэнтгена- + дэфектаскапія*) — метад выяўлення ўнутраных дэфектаў у матэрыялах і вырабах пры дапамозе *рэнтгенаўскіх* прамянёў.

**РЭНТГЕНАКІМАГРА́ФІЯ** (ад *рэнтгена- + кімаграфія*) — разнавіднасць *рэнтгенаграфіі*; метад функцыянальнага рэнтгеналагічнага даследавання чалавека або жывёліны.

**РЭНТГЕНАКІНЕМАТАГРА́ФІЯ** (ад *рэнтгена- + кінематаграфія*) — паказ на кінаэкране адбіткаў, атрыманых пры дапамозе *рэнтгенаўскіх* прамянёў.

**РЭНТГЕНАЛО́ГІЯ** (ад *рэнтгена- + -логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае прымяненне рэнтгенаўскіх прамянёў з мэтай дыягностыкі і лячэння некаторых захворванняў.

**РЭНТГЕНАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *рэнтгена- + люмінесцэнцыя*) — свячэнне рэчываў пад дзеяннем *рэнтгенаўскіх* прамянёў або гамапрамянёў; выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне (*рэнтгенаскапія, рэнтгенаграфія*).

**РЭНТГЕНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *рэнтгена- + -метрыя*) — вымярэнне колькасці *рэнтгенаўскага* выпрамянення ў рэнтгенах.

**РЭНТГЕНАПАЛЕАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *рэнтгена- + палеа- + паталогія*) — тое, што і *палеарэнтгеналогія*.

**РЭНТГЕНАРАДЫЯЛО́ГІЯ** (ад *рэнтгена- + радыялогія*) — вывучэнне і выкарыстанне дзеяння *рэнтгенаўскіх* прамянёў і *радыеактыўных* выпрамяненняў на жывыя арганізмы.

**РЭНТГЕНАСКАПІ́Я** (ад *рэнтгена- + -скапія*) — 1) адзін з метадаў *рэнтгенадыягностыкі*, які заклю-

часціца ў прасвечванні частак цела чалавека і жывёл рэнтгенаўскімі прамянямі; 2) тое, што і *рэнтгенадэфектаскапія*.

**РЭНТГЕНАСПЕКТРА́ЛЬНЫ** (ад *рэнтгена- + спектральны*); р. а н а л і з — метад, які дае магчымасць вызначаць хімічны склад і даследаваць прыроду хімічнага злучэння ў рэчывах пры дапамозе рэнтгенаўскіх *спектраў*.

**РЭНТГЕНАСПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *рэнтгена- + спектраскапія*) — метад даследавання хімічнага складу рэчываў, электроннай структуры металаў па *спектрах* іх рэнтгенаўскага выпрамянення.

**РЭНТГЕНАСТРУКТУ́РНЫ** (ад *рэнтгена- + структурны*); р. а н а л і з — метад вызначэння *структуры* рэчыва пры дапамозе рэнтгенаўскіх прамянёў.

**РЭНТГЕНАТЭРАПІ́Я** (ад *рэнтгена- + тэрапія*) — прымяненне рэнтгенаўскіх прамянёў з мэтай лячэння.

**РЭНТГЕНАТЭ́ХНІКА** (ад *рэнтгена + тэхніка*) — сукупнасць апаратуры і метадаў атрымання рэнтгенаўскага выпрамянення і прымянення яго ў медыцыне, біялогіі і іншых галінах навукі і тэхнікі.

**РЭНТГЕ́НАЎСКІ** (ад *рэнтген*) — звязаны з атрыманнем і выкарыстаннем нябачных электрамагнітных прамянёў, здольных пранікаць цераз нерпазрыстыя прадметы; р - а я т р у б к а — электравакуумны прыбор для атрымання такіх прамянёў; р. а н а л і з — тое, што і *рэнтгенаструктурны* аналіз.

**РЭНТГЕНАФЛЮАРАГРА́ФІЯ** (ад *рэнтгена- + флюараграфія*) — метад атрымання фатаграфічных здымкаў рэнтгенаўскага адбітка якой-н. часткі цела з флюарасцыруючага экрана.

**РЭНТГЕНО́ЛАГ** (ад *рэнтгена- + -лаг*) — спецыяліст па *рэнтгеналогіі* і *рэнтгенатэрапіі*.

**РЭНТГЕНО́МЕТР** (ад *рэнтгена- + -метр*) — прыбор для вымярэння колькасці рэнтгенаўскага выпрамянення ў *рэнтгенах*.

**РЭНТГЕ́Н-ЭКВІВАЛЕ́НТ** (ад *рэнтген + эквівалент*) — 1) колькасць іанізуючага выпрамянення, эквівалентная па свайму біялагічнаму дзеянню аднаму рэнтгену рэнтгенаўскага або гама-выпрамянення; 2) доза іанізуючага выпрамянення, якая стварае такую ж колькасць пар іонаў, як і доза ў адзін рэнтген.

**РЭ́НТЫНГ** (англ. renting) — форма фінансавання, капіталаўкладання пры кароткачасовай арэндзе.

**РЭО́ГРАФ** (ад гр. rheos = цячэнне + *-граф*) — прыбор для запісу напаўнення кроўю сасудаў і капіляраў.

**РЭО́МЕТР** (ад гр. rheos = цячэнне + *-метр*) — прыбор для вымярэння расходу газу.

**РЭПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. repositio = аднаўленне) — упраўка зрушанай косці пры пераломе, а таксама ўпраўка вывіхнутай канечнасці.

**РЭПАРА́ЦЫІ** (п.-лац. reparatio = аднаўленне) — пакрыццё страт, панесеных у час вайны краінай-пераможцай, за кошт пераможанай дзяржавы, вінаватай у разгортванні вайны.

**РЭПАРТА́Ж** (фр. reportage, ад англ. report = паведамляць) — інфармацыя па радыё, тэлебачанні, паведамленне ў газеце аб мясцовых здарэннях, падзеях.

**РЭПАРТЫМ'Е́НТА** (ісп. repartimiento = размеркаванне) — сістэма закабалення ў іспанскіх калоніях Амерыкі, якая заключалася ў размеркаванні паміж каланістамі зямель разам з карэнным насельніцтвам.

**РЭПАРЦЁР** (англ. reporter) — работнік газеты, радыё, тэлебачання, які дастаўляе рэдакцыі звесткі аб падзеях і здарэннях мясцовага жыцця.

**РЭПАТРЫЙРАВАЦЬ** (лац. repatriare) — вяртаць на радзіму ваеннапалонных, бежанцаў, перасяленцаў.

**РЭПАТРЫЯ́НТ** (п.-лац. repatrians, -ntis) — асоба, якая вяртаецца на радзіму ў выніку *рэпатрыяцыі*.

**РЭПАТРЫЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. repatriatio) — вяртанне на радзіму ваеннапалонных, бежанцаў, перасяленцаў.

**РЭПЕЛЕ́НТЫ** (англ. repellents, ад лац. repellens, -ntis = які адганяе) — хімічныя рэчывы для адпалохвання насякомых, птушак, грызуноў, якія шкодзяць пасевам (параўн. *атрактанты*).

**РЭПЕ́ЛЕР** (англ. repeller, ад лац. repellere = адпіхаць, адбіваць) — 1) адбіўны *электрод* у адбіўным *клістроне*; 2) ветракола ветравага рухавіка.

**РЭ́ПЕР** (фр. repere = метка, знак, зыходны пункт) — 1) замацаваны на мясцовасці геадэзічны знак, які паказвае вышыню дадзенага пункта зямной паверхні; 2) *мат.* сукупнасць лінейна незалежных *вектараў*, узятых у пэўным парадку і адкладзеных ад агульнага пачатку; 3) пункт на мясцовасці або ў паветры, па якім праводзіцца артылерыйская прыстрэлка з далейшым пераносам агню для паражэння цэлі.

**РЭПЕРТУА́Р** (фр. répertoire, ад п.-лац. repertorium = спіс) — 1) падбор п'ес, якія ідуць у тэатры ў пэўны прамежак часу; 2) сукупнасць роляў, музычных ці літаратурных твораў, якія выконваюцца артыстам, музыкантам, дэкламатарам.

**РЭПЕРФАРА́ТАР** (ад *рэ-* + *перфаратар*) — электрамеханічны апарат, які адпаведна кодавай *камбінацыі* электрычных сігналаў прабівае дзіркі ў папяровай перфастужцы, каб перадаць гэтыя камбінацыі на адлегласць (наступнай станцыі).

**РЭПЕТАВА́ЦЬ** (лац. repetere = паўтараць) — паўтараць чые-н. сігналы для таго, каб лягчэй было іх прыняць далёкімі караблямі ва ўмовах дрэннай бачнасці, а таксама як знак таго, што іх правільна зразумелі.

**РЭПЕТЫ́ТАР** (лац. repetitor = той, хто паўтарае) — той, хто дапамагае каму-н. засвойваць неабходныя веды.

**РЭПЕТЫ́ЦЫЯ** (лац. repetitio = паўтарэнне) — 1) развучванне або пробнае выкананне п'есы, музычнага і іншага твора перад пастаноўкай; г е н е р а л ь н а я р. — апошняя рэпетыцыя перад выступленнем; 2) *перан.* папярэдняе пробнае выкананне, падрыхтоўка чаго-н.

# Р

**РЭПЕЦІ́Р** (ням. repetieren = паўтараць) — гадзіннікавы механізм, які адбівае час (гадзіны, чвэрці гадзін), а таксама сам гадзіннік з такім механізмам.

**РЭПЕЦІ́РАВАЦЬ** (ням. repetieren, ад лац. repetere = паўтараць) — 1) развучваць ролю ў п'есе, музычным і іншым творы, а таксама праводзіць пробнае выкананне твора перад пастаноўкай; 2) падрыхтоўваць каго-н., дапамагаючы яму ў вучобе.

**РЭПІ́ТЭР** (англ. repeater) — прыбор, які ўзнаўляе на адлегласці паказанні асноўнага прыбора.

**РЭПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. plantatio = перасаджванне) — 1) аперацыя па вяртанню страчанага органа або тканкі арганізма; 2) паўторная пасадка раслін.

**РЭ́ПЛІКА** (фр. réplique, ад лац. replicare = паварочваць назад, адбіваць) — 1) кароткая заўвага, пярэчанне, адказ, выкрык з месца на сходзе; 2) адказ на словы субяседніка ў сцэнічным дыялогу, а таксама канец фразы, апошнія словы адной дзеючай асобы, непасрэдна за якой гаворыць другая; 3) паўтарэнне музычнай фразы іншым галасам або ў іншай танальнасці.

**РЭПЛІКАВА́ЦЬ** (лац. replicare = паварочваць назад, адбіваць) — выступаць з *рэплікамі*, даваць кароткія заўвагі на словы субяседніка.

**РЭПЛІКА́ЦЫЯ** (англ. replication, ад лац. peplicatio = адбіццё) — *біял.* стварэнне падобнай сабе структуры; у малекулярнай генетыцы — падваенне малекул *дэзаксірыбануклеінавай* кіслаты, якое ляжыць у аснове перадачы спадчыннай інфармацыі ад клеткі да клеткі і ад пакалення да пакалення (параўн. *рэдуплікацыя, трансляцыя* 2, *транскрыпцыя* 4).

**РЭПО́РТ** (фр. report) — 1) продаж каштоўных папер банку з абавязацельствам выкупіць іх праз пэўны час па больш высокай цане (курсу); 2) *бухг.* перанясенне сумы з адной старонкі на другую.

**РЭПРАГРА́ФІЯ** [ад *рэпра(дукцыя)* + *-графія*] — капіраванне дакументаў, пераважна пісьмовых і малюнкавых, фотакапіравальным, праекцыйным і мікрафільмавым метадамі.

**РЭПРАДУКТАВА́ЦЬ** (ад *рэ-* + лац. producere = рабіць, ствараць) — 1) рабіць *рэпрадукцыю* 1 чаго-н.; 2) *псіх.* аднаўляць тое, што захавалася ў памяці.

**РЭПРАДУ́КТАР** (ад *рэ-* + лац. producere = рабіць, ствараць) — 1) апарат для ўзнаўлення гуку, які перадаецца радыёвяшчальнымі станцыямі; гучнагаварыцель; 2) гаспадарка, якая спецыялізуецца на гадоўлі маладняку ці вырошчванні гатунковага насення.

**РЭПРАДУ́КЦЫЯ** (ад *рэ-* + лац. productio = стварэнне) — 1) перадрукаваны малюнак, карціна, фотаздымак (на паштоўцы, у часопісе, кнізе і г.д.), а таксама перадрукоўванне малюнка, карціны, фотаздымка; 2) *біял.* узнаўленне, размнажэнне племяной жывёлы ці сартавога насення; 3) *псіх.* узнаўленне чаго-н., што захавалася ў памяці.

**РЭПРЫВАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад рэ- + *прыватызацыя*) — тое, што і *дэнацыяналізацыя*.

**РЭПРЫ́ЗА** (фр. reprise = аднаўленне, паўтарэнне) — 1) паўтарэнне аднаго з раздзелаў музычнага твора, а таксама нотны знак гэтага паўтарэння; 2) кароткі жартоўны нумар, які выконваюць клоуны або іншыя артысты размоўнага жанру ў цырку і на эстрадзе; 3) паўторны ўдар у фехтаванні; 4) пераход каня на *алюр* пасля ўзяцця перашкоды.

**РЭПРЫМА́НД** (фр. réprimande) — *уст.* 1) вымова; 2) нечаканасць.

**РЭПРЫ́НТ** (англ. reprint = перадрук) — рэпрадуктаванне тэкстаў, чарцяжоў электраграфічным спосабам.

**РЭПРЭЗЕНТАВА́ЦЬ** (лац. repraesentare) — *кніжн.* прадстаўляць.

**РЭПРЭЗЕНТА́НТ** (лац. repraesentans, -ntis) — *кніжн.* прадстаўнік каго-н., чаго-н.

**РЭПРЭЗЕНТАТЫ́ЎНЫ** (фр. représentatif, ад лац. repraesentare = прадстаўляць) — які мае ўласцівасці цэлага, з'яўляючыся яго часткай; характэрны.

**РЭПРЭЗЕНТА́ЦЫЯ** (лац. repraesentatio) — *кніжн.* прадстаўніцтва каго-н., чаго-н.

**РЭПРЭСА́ЛІІ** (с.-лац. represaliae, ад лац. reprehendere = затрымліваць) — *кніжн.* прымусовыя меры з боку адной дзяржавы ў адносінах да другой у адказ на неправамерныя дзеянні.

**РЭПРЭСІ́ЎНЫ** (ад *рэпрэсія*) — карны; які ставіць мэту прыпынення, прыдушэння чаго-н.

**РЭПРЭ́СІЯ** (лац. repressio = стрымліванне) — карная мера, пакаранне, якое прымяняецца дзяржаўнымі органамі.

**РЭПС** (фр. reps) — шчыльная ваўняная, баваўняная або шаўковая тканіна ў дробны рубчык.

**РЭПТЫ́ЛІІ** (ад лац. reptilis = які поўзае) — клас пазваночных жывёл, у які ўваходзяць яшчаркі, змеі, чарапахі, кракадзілы і дзюбагаловыя; паўзуны.

**РЭПУТА́ЦЫЯ** (фр. réputation, ад лац. reputatio = вылічэнне; роздум) — агульная думка, якая склалася аб кім-н. (напр. незаплямленая р.).

**РЭСЕКВЕ́НТНЫ** (ад *рэ-* + лац. sequens, -ntis = наступны); **р - а я д а л і н а** — даліна прытока другога парадку кансеквентнай ракі, якая цячэ ў бок, што адпавядае падзенню пластоў горных парод.

**РЭСІ́ВЕР** (англ. receiver, ад receive = атрымліваць) — 1) *рэзервуар* для ўтварэння запасу газаў, пары або паветра, а таксама для выраўноўвання ціску іх у выпадку нераўнамернай растраты або папаўнення; 2) прыёмная частка тэлеграфнага апарата або тэлемеханічнага прыстасавання.

**РЭСКО́НТРА** (іт. rescontro = пераправерка) — дапаможная бухгалтарская кніга, якая складаецца з паасобных асабовых рахункаў.

**РЭСКРЫ́ПТ** (лац. rescriptum = *літар.* пісьмовы адказ) — 1) адказ імператара на пададзенае яму для вырашэння пытанне ў Стараж. Рыме; 2) пісьмо манарха высокапастаўленай асобе з аб'яўленнем аб узнагародзе, з выражэннем удзячнасці за аказаныя паслугі і інш.

**РЭ́СЛІНГ** (англ. wrestling = спартыўная барацьба) — разнавіднасць прафесіянальнай барацьбы, у якой

сумяшчаюцца прыёмы класічнай і вольнай барацьбы і *дзюдо*.

**РЭСО́РБЦЫЯ** (н.-лац. resorptio, ад лац. resorbere = паглынаю) — пранікненне рэчываў у арганізм жывёл і чалавека праз паверхню скуры, слізістыя абалонкі, клетачныя мембраны шляхам *дыфузіі*.

**РЭСПАНДЭ́НТ** (лац. respondens, -ntis) — асоба, якая адказвае на пытанні анкеты або дае інтэрв'ю.

**РЭСПАНСО́РЫЙ** (п.-лац. responsorium, ад лац. responsare = адказваць) — каталіцкае песнапенне ў форме дыялога паміж салістам (святчэннікам) і хорам.

**РЭСПЕ́КТ** (лац. respectus = павага) — *уст*. пашана, павага.

**РЭСПЕКТА́БЕЛЬНЫ** (фр. respectable, ад лац. respectus = погляд) — паважаны, шаноўны, сталы, важны (напр. р-ая сям'я).

**РЭСПІРА́ТАР** (ад лац. respirare = дыхаць) — прыстасаванне ў выглядзе маскі ці паўмаскі з фільтрам для аховы органаў дыхання ад пылу і шкодных рэчываў.

**РЭСПІРА́ТАРНЫ** (ад лац. respirare = дыхаць) — дыхальны; р - а і н ф е к ц ы я — заражэнне праз дыхальныя шляхі.

**РЭСПІРА́ЦЫЯ** (лац. respiratio) — дыханне.

**РЭСПУ́БЛІКА** (лац. respublica, ад res = справа + publicus = агульны, усенародны) — форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць выбраным на пэўны тэрмін органам, а таксама краіна з такім дзяржаўным ладам.

**РЭСТА́НТ** (лац. restans, -ntis = які з'яўляецца лішнім) — нехадавы тавар або лішкі.

**РЭСТАРА́Н** (фр. restaurant) — добра абсталяваная сталовая, звычайна з музыкай, танцамі, дзе можна заказаць дарагія стравы, закускі, напіткі.

**РЭСТАРА́ТАР** (фр. restaureateur) — *уст*. уладальнік, гаспадар *рэстарана*.

**РЭСТАРА́ЦЫЯ** (фр. restauration) — *уст*. тое, што і *рэстаран*.

**РЭСТАЎРА́ТАР** (лац. restaurator) — 1) спецыяліст па *рэстаўрацыі* прадметаў мастацтва, старых помнікаў і інш.; 2) той, хто імкнецца вярнуць, аднавіць стары палітычны лад.

**РЭСТАЎРА́ЦЫЯ** (лац. restauratio) — 1) узнаўленне разбураных ці пашкоджаных ад старасці помнікаў мастацтва, гісторыі, культуры; 2) аднаўленне ранейшага, звергнутага палітычнага ладу.

**РЭСТАЎРЫ́РАВАЦЬ** (лац. restaurare) — 1) рабіць *рэстаўрацыю*, аднаўляць што-н. старое, папсаванае (напр. р. карціну, р. палац); 2) аднаўляць тое, што было адменена, што аджыло.

**РЭСТРЫ́КЦЫЯ** (лац. restrictio = абмежаванне) — 1) абмежаванне вытворчасці, продажу і экспарту тавараў з мэтай павышэння на іх цэн і атрымання прыбытку; 2) абмежаванне крэдытаў або валютных аперацый.

**РЭСТЫТУ́ЦЫЯ** (лац. restitutio = аднаўленне) — 1) выпадак *рэгенерацыі*, калі з невялікай часткі цела аднаўляецца ўвесь арганізм; 2) *юр*. аднаўленне былых парушаных правоў з кампенсацыяй страт.

**РЭСУ́РСЫ** (фр. ressources = дапаможныя сродкі) — сродкі, запасы,

крыніцы чаго-н. (напр. прыродныя р., харчовыя р.).

**РЭТА́БЛА** (ісп. retablo) — заалтарная ікона вялікіх памераў у іспанскіх і лацінаамерыканскіх храмах 15—18 ст.

**РЭТАРДА́ЦЫЯ** (лац. retordatio = запавольванне, затрымка) — кампазіцыйны прыём у літаратурным творы, які заключаецца ў запавольванні развіцця сюжэта ўвядзеннем лірычных адступленняў, апісанняў і інш.

**РЭТО́РСІЯ** (лац. retorsio = зваротнае дзеянне) — абмежавальныя меры (павышэнне таможных пошлін, адмаўленне ў допуску на сваю тэрыторыю чужаземцаў і інш.), прынятыя дзяржавай у адказ на аналагічныя дзеянні другой дзяржавы з мэтай прымусіць апошнюю адмовіцца ад іх.

**РЭТО́РТА** (лац. retorta = *літар.* павернутая назад) — пасудзіна з доўгім адагнутым убок горлам для перагонкі вадкасцей.

**РЭ́ТРА** (лац. retro = назад) — усё, што ўзнаўляе старадаўнае, мінулае (напр. мода на р.).

**РЭТРААКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад лац. retro = назад + *актыўнасць*) — *юр.* зваротная сіла закона.

**РЭТРАГРА́Д** (лац. retrogradus = які ідзе назад) — праціўнік прагрэсу, *рэакцыянер*.

**РЭТРАНСЛЯ́ТАР** (ад *рэ-* + *транслятар*) — адна за прамежкавых радыё- ці тэлевізійных станцый у ланцугу перадавальных і прыёмных станцый.

**РЭТРАНСЛЯ́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *трансляцыя*) — прыём і перадача сігналаў на прамежкавым пункце сувязі з мэтай павелічэння дальнасці іх дзеяння.

**РЭТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *трансплантацыя*) — паўторная трансплантацыя.

**РЭТРАНШЭМЕ́НТ** (фр. retranchement = адсяканне) — *уст.* ваеннае ўмацаванне, размешчанае ззаду галоўнай пазіцыі таго, хто абараняецца.

**РЭТРАСПЕКТЫ́ВА** (ад лац. retro = назад + spectare = глядзець) — тое, што змяшчае *рэтраспектыўны* агляд (напр. дэманстрацыя старых кінафільмаў, якія паказваюць гісторыю кіно, апісанне чаго-н.).

**РЭТРАСПЕКТЫ́ЎНЫ** (ад лац. retro = назад + spectare = глядзець) — звернуты назад, да мінулага; прысвечаны разгляду мінулага.

**РЭТРАСПЕ́КЦЫЯ** (ад лац. retro = назад + spectare = глядзець) — **1)** погляд у мінулае, аналіз мінулых падзей, перажыванняў; **2)** зварот да мінулага для выяўлення ў ім зародкаў тэндэнцый, уласцівых сучаснасці; **3)** погляд на прагрэсіўныя сацыяльныя ідэалы як на такія, якія ўжо існавалі ў больш-менш аддаленым мінулым.

**РЭТРА́ТА** (іт. retratta) — тое, што і *рэкамбіё*.

**РЭТРАФЛЕ́КСНЫ** (ад лац. retro = назад + flexio = згібанне); *лінгв.* р. з ы ч н ы — зычны гук, пры вымаўленні якога кончык языка паднімаецца да цвёрдага паднябення, напр. у некаторых індыйскіх мовах.

**РЭТРО́МЕТР** (ад лац. retro = назад + *-метр*) — прыбор, які перадае паведамленні на вялікія адлег-

ласці пры дапамозе светлавых сігналаў, што прамадуляваны гукавымі сігналамі.

**РЭТУ́Р** (фр. retour = вяртанне) — тое, што і *рэтрата*.

**РЭ́ТУШ** (фр. retouche) — выпраўленне малюнка, фотаздымка або негатыва шляхам падмалёўкі.

**РЭТУШАВА́ЦЬ** (фр. retoucher) — падпраўляць *рэтушшу* (напр. р. фотаздымак).

**РЭТУШО́Р** (фр. retoucheur) — спецыяліст па рэтушаванню.

**РЭТЫ́КУЛА** (лац. reticulum = сетачка) — група адчувальных клетак у *аматыдыі*.

**РЭТЫКУЛАЭНДАТЭЛІЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. reticulum = сетка + гр. endon = унутры + thele = сасок) — які мае адносіны да клетак мезенхімнага (гл. *мезенхіма*) паходжання, здольных да *фагацытозу*, што складаюць *рэтыкулярную* тканку рада органаў і выконваюць у арганізме ахоўную ролю.

**РЭТЫКУЛЯ́РНЫ** (ад лац. reticulum = сетка) — сятчасты; р - а я т к а н к а — разнавіднасць злучальнай тканкі, галоўным чынам у крывятворных органах (касцявым мозгу, селязёнцы, лімфатычных вузлах).

**РЭТЭ́НЦЫЯ** (лац. retentio) — затрымка прарэзвання зуба пры наяўнасці яго ў лунцы.

**РЭУТЫЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *утылізацыя*) — паўторнае выкарыстанне раслінамі раней засвоеных мінеральных рэчываў.

**РЭЎМАКАРДЫ́Т** [ад *рэўма(тызм)* + гр. kardia = сэрца] — рэўматычнае паражэнне сэрца.

**РЭЎМАТАЛО́ГІЯ** [ад *рэўмат(ызм)* + *-логія*] — раздзел *медыцыны*, які вывучае рэўматызм, распрацоўвае метады яго лячэння і прафілактыкі.

**РЭЎМАТО́ЛАГ** [ад *рэўмат(ызм)* + *-лаг*] — спецыяліст у галіне *рэўматалогіі*.

**РЭЎМАТЫ́ЗМ** [гр. rheumatismos = расцяканне (па целе), ад rheuma, -atos = струмень] — хвароба сардэчна-сасудзістай сістэмы, суставаў з вострым болем і ламотай.

**РЭФА́КЦЫЯ** (фр. réfaction, ад лац. re- = супраць + factio = дзеянне) — 1) скідка з цаны тавару, абумоўленая гандлёвай здзелкай, у сувязі з уцечкай і псаваннем тавару або пры пастаўцы яго ніжэй прадугледжанай якасці; 2) скідка з *тарыфу*, якая прадастаўляецца адпраўляльніку пры наяўнасці вялікай колькасці грузу.

**РЭФАРМАВА́ЦЬ** (польск. reformować, ад лац. reformare) — пераўтвараць, змяняць пры дапамозе *рэформ* (напр. р. грашовую сістэму).

**РЭФАРМА́ТАР** (лац. reformator) — той, хто праводзіць *рэформу* ў якой-н. галіне, пераўтваральнік.

**РЭФАРМА́ТЫ** (лац. reformatus = пераўтвораны, палепшаны) — прыхільнікі адной з плыней *кальвінізму*.

**РЭФАРМА́ЦЫЯ** (лац. reformatio = змяненне) — 1) сацыяльна-палітычны рух супраць феадалізму ў Зах. Еўропе 16 ст., які набыў форму барацьбы з каталіцкай царквой; 2) правядзенне рэлігійных пераў-

тварэнняў у духу *пратэстантызму*.

**РЭФАРМІ́ЗМ** (ад лац. reformare = пераўтвараць) — плынь у рабочым руху, якая адмаўляе рэвалюцыйную барацьбу, прапагандуе супрацоўніцтва класаў і перамены шляхам *рэформ.*

**РЭФЕРА́Т** (ням. Referat, ад лац. referre = дакладваць, паведамляць) — 1) кароткі выклад якога-н. пытання, зместу кнігі; 2) даклад, заснаваны на крытычным аглядзе кніг.

**РЭФЕРЫ́** (англ. referee, ад лац. referre = дакладваць, паведамляць) — суддзя ў спартыўных спаборніцтвах па *футболу, тэнісу, хакею, боксу* і інш.

**РЭФЕРЫ́РАВАЦЬ** (лац. referre = дакладваць, паведамляць) — рабіць кароткі выклад якога-н. пытання, зместу кнігі.

**РЭФЕРЭ́НДУМ** (лац. referendum = тое, што павінна быць паведамлена) — усенароднае галасаванне з мэтай высветліць грамадскую думку па якому-н. важнаму дзяржаўнаму пытанню.

**РЭФЕРЭ́НТ** (лац. referens, -ntis = які паведамляе) — 1) службовая асоба, якая з'яўляецца дакладчыкам або кансультантам па пэўных пытаннях; 2) асоба, якая складае або чытае дзе-н. рэферат.

**РЭФЕРЭ́НЦЫЯ** (ням. Referenz, ад лац. referre = дакладваць, паведамляць) — 1) даведка аб ранейшай службе, водзыў; 2) сведчанне аб крэдытаздольнасці якой-н. фірмы ці асобы.

**РЭФЛЕ́КС** (лац. reflexus = адлюстраванне) — 1) міжвольная рэакцыя арганізма на знешнія раздражненні; б е з у м о ў н ы р. — прыроджаны рэфлекс; у м о ў н ы р. — рэфлекс, выпрацаваны на працягу жыцця пры ўдзеле галаўнога мозгу; 2) адценне колеру якога-н. прадмета, што ўзнікае пры адлюстраванні святла, якое падае ад іншых асветленых прадметаў.

**РЭФЛЕКСАГЕ́ННЫ** (ад *рэфлекс* + *-генны*) — які выклікае рэфлекс; р - а я з о н а — вобласць размяшчэння рэцэптараў, раздражненне якіх выклікае пэўны безумоўны рэфлекс.

**РЭФЛЕКСАЛО́ГІЯ** (ад *рэфлекс* + *-логія*) — кірунак у *псіхалогіі*, які разглядае ўсю псіхічную дзейнасць як сукупнасць рэфлексаў.

**РЭФЛЕ́КСІЯ** (лац. reflexio = адлюстраванне) — роздум, поўны сумненняў і хістанняў, схільнасць аналізаваць свае перажыванні.

**РЭФЛЕКТАВА́ЦЬ** (лац. reflectere = адлюстроўваць) — 1) адказваць *рэфлексам* на знешняе раздражненне; 2) раздумваць, разважаць.

**РЭФЛЕКТАГРА́ФІЯ** (ад лац. reflectere = адлюстроўваць + *-графія*) — спосаб атрымання негатываў на святлоадчувальнай плёнцы без фотаапарата; прымяняецца пры выданні кніг без набору.

**РЭФЛЕ́КТАР** (рус. рефлектор, ад лац. reflectere = адлюстроўваць) — 1) прыстасаванне ў выглядзе ўвагнутага люстра для адбіцця светлавых або цеплавых прамянёў; 2) *тэлескоп*, у якім адлюстраванне нябесных цел атрымліваецца пры дапамозе ўвагнутага люстра.

**РЭФЛЕКТО́МЕТР** (ад лац. reflectere = адлюстроўваць + *-метр*) —

прыбор для вызначэння каэфіцыента адлюстравання святла.

**РЭФЛЕКТО́РНЫ** (ад лац. reflectere = адлюстроўваць) — які мае адносіны да *рэфлексу*, які міжвольна, несвядома рэагуе на знешняе раздражненне; р-ая дуга — шлях, якім праходзіць рэфлекторнае ўзбуджэнне ў арганізме.

**РЭФО́РМА** (фр. réforme, ад лац. reformare = пераўтвараць) — пераўтварэнне, перабудова чаго-н. (напр. аграрная р., р. правапісу) без змены асноў існуючай структуры.

**РЭФРАКТАЛО́Й** (ад англ. refractory = вогнетрывалы + alloy = сплаў) — гарачаўстойлівыя сплавы нікелю, кобальту, хрому і жалеза з дабаўленнем іншых элементаў; служаць для вырабу розных дэталей рэактыўных рухавікоў.

**РЭФРАКТАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. refractus = пераломлены + *-метрыя*) — раздзел *фізікі*, які распрацоўвае метады вымярэння паказчыкаў пераламлення святла пры дапамозе *рэфрактометра*.

**РЭФРА́КТАР** (ад лац. refractus = пераломлены) — *тэлескоп*, у якім адлюстраванне нябесных цел атрымліваецца з дапамогай лінзаў.

**РЭФРАКТО́МЕТР** (ад лац. refractus = пераломлены + *-метр*) — *фіз.* прыбор для вымярэння паказчыкаў пераламлення святла ў розных целах.

**РЭФРАКТЭ́РНЫ** (фр. refractaire, ад лац. refractarius = непакорны) — неўспрымальны; р. перыяд — перыяд кароткачасовага рэзкага падзення ўзбуджальнасці жывых тканак (нервовай, мышачнай), які наступае пасля кожнай успышкі ўзбуджэння.

**РЭФРА́КЦЫЯ** (лац. refractio = пераламленне) — скрыўленне напрамку распаўсюджання светлавых праменяў і радыёхваляў, калі яны праходзяць праз асяроддзе з пераменнымі фізічнымі характарыстыкамі (паказчыкамі пераламлення, шчыльнасцю, дыэлектрычнай пранікальнасцю і інш.).

**РЭФРЫЖЭРА́ТАР** (англ. refrigerator, ад лац. refrigerare = ахалоджваць) — 1) частка халадзільнай машыны, у якой за кошт выпарэння вадкасці атрымліваецца нізкая тэмпература; 2) вагон-халадзільнік, судна-халадзільнік, аўтамабіль-халадзільнік для перавозкі грузаў, якія хутка псуюцца.

**РЭФРЭ́Н** (фр. refrain) — 1) радок ці некалькі радкоў, якія ў пэўным парадку паўтараюцца ў вершы; 2) прыпеў у песні; 3) галоўная тэма, якая шматкратна паўтараецца ў чаргаванні з рознымі эпізодамі ў музычнай форме *рондa*.

**РЭФУЛЁР** (фр. refouleur) — землясосны снарад з помпамі і трубаправодам для перамяшчэння сумесі грунту з вадой; грунтаправод.

**РЭФУЛІ́РАВАЦЬ** (фр. refouler) — перамяшчаць сумесь грунту з вадой да месца ўкладкі пры дапамозе *рэфулёра*.

**РЭ́ХА** (гр. echo = гук, голас) — 1) адбіццё гукавога сігналу ці радыёімпульсу ад пэўнай перашкоды; 2) *перан.* водгалас, водгук.

**РЭХАВЕ́РШ** (ад *рэха* + *верш*) — верш, у якім сумежныя радкі зарыфмаваны *рэхарыфмай*.

**РЭХАГРА́МА** (ад *рэха* + *-грама*) — графік, які вычэрчваецца самапісцам па сігналах ад *рэхалота*.

**РЭХАЛАКА́ТАР** (ад *рэха* + *лакатар*) — гідраакустычны навігацыйны прыбор для знаходжання і вызначэння месцазнаходжання ў вадзе рознага роду цел і прадметаў.

**РЭХАЛАКА́ЦЫЯ** (ад *рэха* + *лакацыя*) — арыентацыя ў прасторы пры дапамозе адбітага гуку або ультрагуку.

**РЭХАЛО́Т** (ад *рэха* + *лот*) — 1) гідраакустычны навігацыйны прыбор для вызначэння глыбіні марскога дна пад кілем судна; 2) прыбор для замервання ўзроўню вадкасці ў нафтавых свідравінах.

**РЭХАРЫ́ФМА** (ад *рэха* + *рыфма*) — рыфма, у якой другое сугучнае слова, звычайна аднаскладовае ці двухскладовае, паўтарае частку папярэдняга.

**РЭХАЭНЦЭФАЛАГРА́ФІЯ** (ад *рэха* + *энцэфалаграфія*) — метад ультрагукавой дыягностыкі захворванняў галаўнога мозгу.

**РЭХАЭНЦЭФАЛАСКО́П** (ад *рэха* + гр. enkephalos = мозг + *-скоп*) — прыбор для выяўлення арганічных змен у цэнтральнай нервовай сістэме.

**РЭ́ЦІ** (алб. rrethi) — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Албаніі.

**РЭЦІ́НА** (лац. retina = сетка) — святлоадчувальная абалонка вока, сятчатка.

**РЭЦІНІ́Т** (ад *рэціна*) — запаленне рэціны.

**РЭЦІРАВА́ЦЦА** (рус. ретироваться, ад фр. se retirer) — 1) *уст.* адступаць; 2) *перан.* адыходзіць, знікаць (напр. р. з месца падзей).

**РЭЦІРА́ДА** (фр. retirade) — 1) *уст.* адступленне войскаў; 2) умацаванае месца ў крапасных збудаваннях і на палявых пазіцыях для абароны ў выпадку адступлення; 3) *іран.* ухіленне ад рашучых дзеянняў.

**РЭЦЫДЫВІ́СТ** (ад лац. recidivus = які аднаўляецца, варочаецца) — асоба, якая пасля адбывання пакарання за злачынства, паўторна зрабіла злачынства.

**РЭЦЫДЫ́Ў** (лац. recidivus = які аднаўляецца, вяртаецца) — 1) паўторнае праяўленне якой-н. з'явы пасля таго, як яна, здавалася, знікла; 2) новае абвастрэнне хваробы пасля таго, калі чалавек, здаецца, паправіўся; 3) паўторна зробленае злачынства асобай, якая была пакарана.

**РЭЦЫПІЕ́НТ** (лац. recipiens, -ntis = які атрымлівае, прымае) — 1) хворы, якому пераліваюць кроў, перасаджваюць орган, тканкі, клеткі іншага арганізма; 2) хімічная пасудзіна, якая з'яўляецца прымальнікам вадкасці або газу.

**РЭЦЫПРО́КНЫ** (лац. reciprocus) — які вяртаецца; р - а я і н е р в а ц ы я — рэфлекторны механізм, які забяспечвае інервацыю ўзаемазвязаных груп шкілетных мышцаў, што ўдзельнічаюць у ажыццяўленні складаных каардынаваных рухаў (хадзьба, бег і інш.); р - ы я с к р ы ж о ў в а н н і — два тыпы скрыжоўванняў адных і тых жа зыходных груп жывёл або раслін, якія адрозніва-

юцца толькі палавой прыналежнасцю бацькоўскіх пар.

**РЭЦЫРКУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *цыркуляцыя*) — шматразовае вяртанне струменю газаў, вадкасцей або цвёрдых рэчываў у апарат з мэтай рэгулявання вытворчага працэсу, паляпшэння выкарыстання сыравіны, утылізацыі адходаў і інш.

**РЭЦЫТА́ЦЫЯ** (лац. recitatio) — чытанне або дэкламаванне перад слухачамі.

**РЭЦЭНЗАВА́ЦЬ** (лац. recensere = ацэньваць) — пісаць *рэцэнзію* на што-н. (напр. р. кнігу).

**РЭЦЭНЗЕ́НТ** (лац. recensens, -ntis = які пераглядвае, даследуе) — аўтар *рэцэнзіі*.

**РЭЦЭ́НЗІЯ** (лац. recensio = разгляд) — крытычны водзыў, ацэнка мастацкага, навуковага, публіцыстычнага твора, спектакля, кінафільма і інш.

**РЭЦЭ́НТНЫ** (ад лац. recenter = нядаўна) — сучасны, зусім нядаўні, напр. жывёльны і раслінны свет у процілегласць выкапнёваму, *фасільнаму*.

**РЭЦЭПІ́СА** (лац. recepisse, ад recipere = атрымліваць) — распіска, якая пацвярджае атрыманне тавараў.

**РЭЦЭ́ПТ** (лац. receptum = прынятае, узятае) — 1) пісьмовае ўказанне ўрача аб прыгатаванні і прыёме лякарстваў; 2) спосаб прыгатавання чаго-н. (напр. р. марынавання); 3) *перан.* настаўленне, парада, як дзейнічаць.

**РЭЦЭ́ПТАРЫ** (лац. receptor = той, хто прымае) — канцавыя ўтварэнні *аферэнтных* нервовых валокнаў, якія ўспрымаюць раздражненні са знешняга *(экстэрарэцэптары)* або ўнутранага *(інтэрарэцэптары)* асяроддзя арганізма і пераўтвараюць фізічную або хімічную энергію раздражняльнікаў у нервовыя *імпульсы* 2, што перадаюцца па чуллівых нервовых валокнах у цэнтральную нервовую сістэму; у залежнасці ад таго, на якія раздражняльнікі рэагуюць, падзяляюцца на *барарэцэптары, механарэцэптары, тэрмарэцэптары, фотарэцэптары, хемарэцэптары*.

**РЭЦЭПТУ́РА** (ням. Rezeptur, ад лац. receptum = прынятае, узятае) — 1) сукупнасць звестак аб выпісванні і прыгатаванні лякарстваў; 2) сукупнасць звестак аб прыгатаванні чаго-н. (напр. р. страў).

**РЭЦЭ́ПЦЫЯ** (лац. receptio = прыняцце) — 1) запазычванне дадзеным грамадствам сацыялагічных і культурных форм, што ўзніклі ў іншай краіне або ў іншую эпоху; 2) успрыманне *рэцэптарамі* энергіі механічных, тэрмічных, электрамагнітных, хімічных і іншых раздражняльнікаў і ператварэнне яе ў нервовыя сігналы.

**РЭЦЭСІ́ЎНЫ** (ад лац. recessus = выдаленне) — які не праяўляецца, прыхаваны; р - а я  п р ы к м е т а — спадчынная прыкмета мацярынскага або бацькоўскага арганізма, якая не выявілася ў нашчадкаў першага пакалення.

**РЭЦЭ́СІЯ** (лац. recessio) — спад вытворчасці або запавольванне тэмпаў яе росту.

**РЭЧЫТАТЫ́Ў** (іт. recitativo) — напеўная размова ў вакальна-му-

зычным творы (*оперы, аперэце, араторыі* і інш.).

**РЭ́ШТА** (польск. reszta, ад ням. Rest) — 1) астатак чаго-н., а таксама здача (напр. атрымаць рэшту); 2) частка адрэзка часу ці адлегласці, якая засталася яшчэ нявыкарыстанай ці непераадоленай.

**РЭЭВАКУА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *эвакуацыя*) — вяртанне насельніцтва, прадпрыемстваў, установ, маёмасці ў мясцовасць, адкуль была зроблена эвакуацыя.

**РЭЭВАКУІ́РАВАЦЬ** (ад *рэ-* + *эвакуіраваць*) — вяртаць назад пасля *эвакуацыі* насельніцтва, прадпрыемствы, установы, маёмасць.

**РЭЭ́КСПАРТ** (ад *рэ-* + *экспарт*) — вываз з краіны тавараў, якія раней былі прывезены з-за мяжы.

**РЭЭМІГРА́НТ** (ад *рэ-* + *эмігрант*) — асоба, якая вяртаецца на радзіму з *эміграцыі*.

**РЭЭМІГРА́ЦЫЯ** (ад *рэ-* + *эміграцыя*) — вяртанне *эмігрантаў* на радзіму.

**РЭЭМІГРЫ́РАВАЦЬ** (ад *рэ-* + *эмігрыраваць*) — вяртацца на радзіму з *эміграцыі*.

**РЭ́Я** (рус. рея, ад гал. raa) — рухомы папярочны круглы брус на мачце, да якога мацуецца парус.

# С

**САБАДЫ́ЛА** (н.-лац. Sabadilla < ісп. cebadilla, ад cebada = ячмень) — расліна сям. лілейных, пашыраная на горных лугах Амерыкі, пераважна Мексікі; настойка і адвар насення гэтай расліны выкарыстоўваюцца супраць паразітаў жывёл і чалавека.

**САБАЁН** (фр. sabayon) — падліўка з узбітых з цукрам жаўткоў, віна і вострых прыправаў.

**САБА́ЛЬ** (н.-лац. sabal, ад індз. sabal) — *пальма* з буйным веерным лісцем, якая пашырана ў цёплых зонах Амерыкі; мае трывалую, негніючую драўніну, што ідзе на падводныя збудаванні; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**САБАНТУ́Й** (ад цюрк. saban = плуг + tuj = свята) — 1) свята ў татараў і башкіраў, звязанае з заканчэннем вясновых палявых работ; 2) *перан.* шумная пагулянка.

**САБАТАВА́ЦЬ** (фр. saboter) — 1) наўмысна зрываць работу ці якое-н. мерапрыемства; 2) дзейнічаць супраць чаго-н. шляхам *сабатажу*; займацца сабатажам.

**САБАТА́Ж** (фр. sabotage, ад saboter = стукаць чаравікамі) — 1) наўмысны зрыў работы ці якога-н. мерапрыемства; 2) замаскіраванае процідзеянне з мэтай перашкодзіць ажыццяўленню чаго-н.

**САБЕЛІ́ДЫ** (н.-лац. sabellidae) — сямейства кольчатых чарвей класа многашчацінкавых; пашыраны ў морах, ёсць прэснаводныя віды.

# С

**САБЕЛІДЫ́ТЫ** (н.-лац. sabollidites) — выкапнёвыя кольчатыя чэрві сям. *сабелідаў*, насялялі марскія вадаёмы перыяду *кембрыю*.

**САБО́** (фр. sabot) — чаравікі на драўлянай падэшве або выдзеўбаныя з дрэва.

**САБУ́Р** (тур. sabur, ад ар. sabr) — згушчаны сок лісцяў *альясу*, які ўжываецца ў медыцыне як слабіцельнае.

**СА́ВАН** (гр. sabanon, ад ар. Savan = назва мясцовасці каля Багдада) — 1) пахавальны ўбор з белай тканіны для нябожчыка; 2) *перан.* покрыва, пялёнка (снегу, туману і інш.).

**САВА́ННА** (ісп. sabana, ад індз. zavana) — стэп у тропіках, пакрыты травяністай раслiннасцю з адзіночнымі дрэвамі і рэдкім хмызняком.

**САВА́Р** [фр. F.Savart = прозвішча фр. фізіка (1791—1841)] — адзінка частотнага інтэрвала ў музыкальнай акустыцы, роўная 3,98 *цэнта*.

**САВЕРЭ́Н** (англ. sovereign = манарх) — залатая манета ў 1 *фунт* стэрлінгаў і даўняя грашовая адзінка Англіі і залежных ад яе краін Сярэд. Усходу.

**СА́ГА** [1] (ст.-сканд. saga) — 1) старажытнаскандынаўскае і старажытнаірландскае народнае гераічнае сказанне; 2) паданне, легенда.

**СА́ГА** [2] (малайск. sagu) — крупы з крухмалу сагавай пальмы, а таксама штучныя крупы, зробленыя з бульбянога або кукурузнага крухмалу.

**САГАЙДА́К** (кр.-тат. sagdak, тур. sagdak) — *гіст.* чахол з лукам і калчан са стрэламі.

**САГА́Н** (цюрк. sagan) — чыгунны кухонны кацёл для стравы.

**СА́ГАЎНІК** (ад малайск. sagu = сага) — дрэва класа сагаўнікавых, падобнае на пальму, якое папырана ў тропіках; дае *сага*, каштоўную драўніну; шырока вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**САГІ́Б** (хіндзі sāhib, ад ар. sachib) — назва знатнай асобы, а таксама еўрапейца ў Індыі; пан.

**САГІ́ТА** (лац. sagitta = страла) — дробная беспазваночная марская жывёла групы *хетагнатаў*, якая з'яўляецца ежай прамысловых рыб; марская стрэлка.

**САГІТА́ЛЬНЫ** (ад лац. sagitta = страла) — стрэлападобны; с - а я п л о с к а с ц ь — умоўная плоскасць, якая дзеліць цела чалавека або жывёлы ўздоўж на правую і левую палавіны.

**САГІТА́РЫЯ** (н.-лац. sagittaria) — водная травяністая расліна сям. шальнікавых; расце на балотах, забалочаных лугах, па берагах рэк, азёр, сажалак; стрэлкаліст.

**САДАЛІ́Т** (ад *сода* + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў*, карбанат натрыю з прымессю кальцыю, хлору і іншых хімічных элементаў сіняга, шэрага або зеленаватага колеру; выкарыстоўваецца ў электроніцы, тэлебачанні і як дэкаратыўны камень.

**САДАМІ́Я** (ад *садом*) — разнавіднасць палавой ненармальнасці, пры якой палавая цяга накіравана на жывёл; скаталожніцтва.

**САДО́М** (ст.-яўр. Sodom = назва горада старажытнай Палесціны, які, паводле біблейскай легенды, быў знішчаны богам разам з Гаморай за грахі жыхароў) — бязладдзе, сумятня, гоман, крык; с. і г а м о р а — тое ж.

**САДЫ́ЗМ** [ад фр. D. de Sade = прозвішча фр. пісьменніка (1740—1814), які апісаў у сваіх раманах гэту з'яву] — 1) палавая ненармальнасць, якая праяўляецца ў жаданні мучыць асобу другога полу, каб задаволіць сваё палавое пачуццё; 2) *перан.* ненармальная схільнасць да жорсткасці, катаванняў; задавальненне ад чужых пакут.

**САЕ́ТА** (польск. sajeta, ад іт. saietta) — *уст.* тонкае высокагатунковае сукно.

**САЗ** (тур. saz, ад перс. saz) — струнны шчыпковы музычны інструмент, распаўсюджаны ў народаў Закаўказзя, Ірана, Афганістана і іншых краін Усходу.

**САЗА́Н** (тур. sazan) — прамысловая рыба сям. карпавых з буйной луской.

**САЗАНДА́Р** (ад перс. sazende = музыкант) — народны інструментальны ансамбль, распаўсюджаны ў Закаўказзі, Іране, Афганістане і іншых краінах Усходу.

**САІМІ́РЫ** (н.-лац. saimiri) — учэпістахвостыя малпы, пашыраныя ў лясах Цэнтр. і Паўд. Амерыкі.

**САЙГА́К** (цюрк. sajgak) — від *антылопы*, парнакапытная жывёла стэпавай зоны Азіі.

**СА́ЙРА** (гр. sairos) — ціхаакіянская прамысловая рыба сям. макрэлешчупаковых.

**САК** (фр. sac < лац. saccus, ад гр. sakkos = мяшок) — 1) прыстасаванне ў выглядзе нацягнутай на абруч сеткі для лоўлі рыбы; 2) *уст.* свабоднае жаночае паліто.

**СА́КАС** (гр. sakkos = мяшок) — адзенне *архірэя* ў час набажэнства.

**СА́КВА** (ст.-польск. sakwa < лац. saccus, ад гр. sakkos = мяшок) — кавалерыйская сумка для аўса і прадуктаў.

**САКВАЯ́Ж** (фр. sac de voyage, ад sac = мяшок + voyage = падарожжа) — ручная дарожная сумка са скуры або тканіны, з замком.

**СА́КЛЯ** (груз. saxli) — жыллё каўказскіх горцаў.

**САКРА́ЛЬНЫ** [1] (с.-лац. sacralis, ад лац. sacer = святы) — які мае адносіны да рэлігійнага культу.

**САКРА́ЛЬНЫ** [2] [ад лац. (os) sacrum = крыжавая косць] — *анат.* крыжавы (напр. с. пазванок).

**САКРА́МАНТ** (польск. sakrament, ад лац. sacramentum = клятва, прысяга) — *кніжн.* нешта свяшчэннае, рытуальнае; талісман.

**САКРАМЕНТА́ЛЬНЫ** (с.-лац. sacramentalis, ад лац. sacramentum = клятва, прысяга) — 1) абрадавы, рытуальны; свяшчэнны, варты пакланення; 2) традыцыйны, які стаў звычаёвым (напр. с-ая фраза).

**САКРАТА́Р** (фр. secretaire, ад с.-лац. secretarius = удзельнік таемных нарад) — 1) асоба, якая вядзе справаводства ўстановы, арганізацыі або прыватнай асобы; 2) складальнік пратакола сходу, пасяджэння; 3) выбарны кіраўнік якой-н. арганізацыі, якога-н. органа; 4) асоба, якая загадвае арганізацыйна-выканаўчым аддзелам якой-н.

установы; 5) драпежная птушка афрыканскага кантынента з доўгімі нагамі і чубам на галаве.

**САКРАТАРЫЯ́Т** (фр. secretariat) — 1) арганізацыйна-выканаўчы орган, аддзел пры ўстанове ці арганізацыі для вядзення бягучых спраў (напр. с. міністэрства, с. ААН); 2) сукупнасць супрацоўнікаў такога органа, аддзела; 3) асобы, выбраныя на сходзе, канферэнцыі для вядзення пратаколаў.

**САКРАТО́РНЫ** (лац. secretorius) — выдзяляльны; с - ы я к л е т к і — клеткі чалавека і жывёл, якія выпрацоўваюць і выдзяляюць асобыя рэчывы — сакрэты.

**САКРАЦІ́Н** (ад лац. secretus = выдзелены) — гарманальнае рэчыва, якое садзейнічае выдзяленню *сакрэту*[2] падстраўнікавай залозай.

**САКРЫ́СТЫЯ** (с.-лац. sacristia) — асобнае памяшканне ў каталіцкім храме, дзе захоўваюцца прыналежнасці культу і дзе ксёндз рыхтуецца да службы.

**САКРЭ́Т** [1] (фр. secret, ад лац. secretum = таемнае) — 1) тайна, таямніца; тое, што падлягае захаванню ўпотай; 2) тайны спосаб атрымання, вырабу чаго-н., які невядомы іншым; 3) патайная канструкцыя ў механізме (напр. замок з сакрэтам); 4) перадавы патайны ваенны вартавы пост.

**САКРЭ́Т** [2] (лац. secretus = выдзелены) — неабходнае для арганізма рэчыва, якое выпрацоўваецца залозамі (напр. жоўць, сліна, страўнікавы сок).

**САКРЭ́ЦЫЯ** (лац. secretio = выдзяленне) — выпрацоўка і выдзяленне залозамі асобых рэчываў (*сакрэтаў*[2]), неабходных для жыццядзейнасці арганізма.

**САКСАУ́Л** (рус. саксаул, ад казах. sekseuil) — невысокае бязлістае дрэва сям. лебядовых, якое расце ў сярэднеазіяцкіх саланчаковых пустынях.

**САКСАФО́Н** (фр. saxophone, ад бельг. A.Sax = прозвішча бельг. музычнага майстра + гр. phone = гук) — медны духавы музычны інструмент, блізкі да *кларнета*.

**САКСГО́РНЫ** (ад бельг. A.Sax = прозвішча бельг. музычнага майстра 19 ст. + ням. Horn = труба) — сукупнасць духавых муштучных музычных інструментаў ад басавых да сапранавых, сканструяваных А.Саксам.

**САКУЛІ́НА** (н.-лац. sacculina) — вусаногі рак, паразіт марскіх крабаў.

**САЛА́КА** (фін. salaka) — дробная марская рыба сям. селядцовых.

**САЛАМА́НДРА** (лац. salamandra, ад гр. salamandra) — 1) хвастатая земнаводная жывёла сям. саламандравых, падобная да яшчаркі; 2) дух агню ў сярэдневяковых павер'ях.

**САЛА́НА** (ісп. solano, ад лац. solanus = усходні вецер) — сухі гарачы вецер у Іспаніі.

**САЛАНГА́НА** (ад малайск. salamga) — птушка падатрада стрыжоў, пашыраная ў Паўд.-Усх. Азіі, Інданезіі, Аўстраліі; гнёзды гэтай птушкі, пабудаваныя з зацвярдзелай сліны, у кітайцаў і некаторых іншых народаў ужываюцца ў ежу.

**САЛАНІ́Н** (ад лац. solanum = паслён) — ядавітае рэчыва, якое адносіцца да арганічных злучэнняў і

сустракаецца ў раслінах сям. паслёнавых.

**САЛА́ТА** (польск. salata, ад іт. insalata) — 1) агародная расліна роду *латук* сям. складанакветных, папыраная ў розных кліматычных зонах, лісце якой сырым ужываецца ў ежу; 2) халодная страва з лісця гэтай расліны або з любой нарэзанай гародніны, часам з дабаўленнем мяса, рыбы з прыправай.

**САЛДА́Т** (ням. Soldat) — 1) радавы ваеннаслужачы сухапутнага войска; 2) ваеннаслужачы наогул; 3) *перан.* той, хто аддана служыць якой-н. справе.

**САЛЕНАСТО́МА** (н.-лац. solenostoma) — пячоначны мох сям. юнгерманіевых, які расце на вільготнай гліністай, пясчанай і глеістапясчанай глебах, па краях канаў, берагах ручаёў, абапал дарог.

**САЛЕНАЦЫ́ТЫ** (ад гр. solen = канал, трубка + *-цыты*) — зорчатыя клеткі з доўгімі ўнутранымі раснічкамі, якія замыкаюць *протанефрыдыі*.

**САЛЕНО́ІД** (ад гр. solen = трубка + *-оід*) — драцяная спіраль, наматаная на стрыжань, вакол якой пры прапусканні электрычнага току ўтвараецца магнітнае поле.

**САЛЕ́П** (ням. Salep, ад ар. sachlab) — высушаныя клубняплоды ятрышніку і некаторых іншых раслін сям. архідных, у якіх змяшчаецца слізістае рэчыва і крухмал; выкарыстоўваецца ў медыцыне і тэкстыльнай прамысловасці.

**САЛЕ́ТРА** (польск. saletra < лац. sal nitrum, ад sal = соль + nitrum = сода) — агульная назва солей амонію, калію, кальцыю, натрыю і інш., якія выкарыстоўваюцца ў вытворчасці выбуховых рэчываў, для ўгнаенняў, як кансервуючыя сродкі.

**САЛЕЦЫ́ЗМ** (лац. solecismus < гр. soloikismos, ад Soloi = назва горада ў Малой Азіі, дзе дрэнна валодалі грэчаскай мовай) — сінтаксічная памылка, няправільнасць у літаратурнай мове.

**САЛЕ́Я** (лац. solium = крэсла, трон) — узвышэнне перад царкоўным іканастасам на ўсю яго даўжыню.

**САЛІВА́ЦЫЯ** (с.-лац. salivatio, ад лац. saliva = сліна) — слінавыдзяленне; празмернае выдзяленне сліны як сімптом многіх захворванняў.

**САЛІ́Д** (лац. solidus = цвёрды) — залатая старажытнарымская манета, роўная 1/72 залатога *фунта* (4,55 г).

**САЛІДА́РНАСЦЬ** (фр. solidarité) — 1) актыўнае спачуванне чыім-н. дзеянням; адзінства думак, інтарэсаў, поглядаў; 2) *юр.* сумесная адказнасць.

**САЛІДА́РНЫ** (фр. solidaire) — 1) які выяўляе згоду з кім-н., чым-н., агульнасць інтарэсаў, адзінства поглядаў; 2) *юр.* які нясе сумесную з кім-н. адказнасць.

**САЛІДАРЫЗАВА́ЦЦА** (польск. solidaryzować się, ад фр. se solidariser = аб'ядноўвацца) — выказваць сваю *салідарнасць* з кім-н., чым-н., агульнасць інтарэсаў, адзінства поглядаў.

**САЛІДАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад фр. solidariser = аб'ядноўваць) — выяўленне *салідарнасці*.

**САЛІ́ДНЫ** (фр. solide, ад лац. solidus = трывалы) — 1) моцны,

# С

добра зроблены; 2) грунтоўны (напр. с-ая аргументацыя); 3) важны, аўтарытэтны (напр. с. вучоны); 4) мажны, поўны; 5) не вельмі малады, сталы (напр. с. узрост); 6) значны па памеру, сіле (напр. с. капітал).

**САЛІДО́Л** (ад лац. solidus = густы + *-ол*) — густое рэчыва (сумесь мінеральнага масла і кальцыевага мыла), якое выкарыстоўваецца для змазвання хадавой часткі транспартных машын.

**САЛІ́ДУС** (лац. solidus = цвёрды) — крывая лінія на дыяграме стану і структуры сплаваў, якая характарызуе, у адрозненне ад *ліквідуса*, тэмпературы канца крышталізацыі.

**СА́ЛІНГ** (гал. saling) — *мар.* драўляная рама на верхнім канцы *стэньгі* для злучэння апошняй з *брам-стэньгай* і мацавання верхніх снасцяў паруснага судна.

**САЛІПСІ́ЗМ** (ад лац. solus = адзін + ipse = сам) — форма суб'ектыўнага ідэалізму, якая прызнае адзінай рэальнасцю толькі свядомасць індывіда і адмаўляе існаванне аб'ектыўнай рэчаіснасці.

**САЛІСІ́ТАР** (англ. solicitor) — 1) *адвакат* ніжэйшага рангу ў Англіі, які не мае права весці справы ў вышэйшых судах; 2) спецыяльная юрыдычная пасада пры ўрадах або дэпартаментах некаторых краін.

**САЛІ́СТ** (іт. solista, ад лац. solus = адзін) — спявак, музыкант ці балетны артыст, які выступае адзін.

**САЛІТЭ́Р** (фр. solitaire, ад лац. solitarius = адзінокі) — 1) буйны *брыльянт* у апраўе; 2) адзіночныя пасадкі дрэў, кустоў або кветкава-дэкаратыўных раслін, якія вызначаюцца памерамі, формай, афарбоўкай і іншымі дэкаратыўнымі прыкметамі.

**САЛІФЛЮ́КЦЫЯ** (ад лац. solum = глеба + fluctio = выцяканне) — спаўзанне ўвільготненых глiністых і пылаватых грунтаў па схілах у працэсе іх прамярзання і адтавання.

**САЛІЦЁРЫ** (фр. solitaire, ад лац. solitarius = адзінокі) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, паразітуюць у органах і тканках птушак, млекакормячых, чалавека; цэпені.

**САЛІЦЫ́ЛАВЫ** (ад лац. salix, -icis = вярба + гр. yle = рэчыва); с - а я  к і с л а т а — арганічнае злучэнне, якое выкарыстоўваецца для прыгатавання лекавых рэчываў і фарбавальнікаў.

**САЛІЦЫЛА́ТЫ** (ад лац. salix, -icis = вярба + гр. yle = рэчыва) — лекавыя прэпараты саліцылавай кіслаты, якія выкарыстоўваюцца як процірэўматычныя, болесуцішальныя і гарачкапаніжальныя сродкі.

**СА́ЛМА** (фін. salmi) — праліў паміж астравамі, паміж вострававам і берагам.

**САЛО́Л** [ад *сал(іцылавая кіслата)* + *(фен)ол*] — злучэнне саліцылавай кіслаты з фенолам, якое выкарыстоўваецца як сродак для дэзінфекцыі пры захворваннях кішэчніка і мачавых шляхоў.

**САЛО́Н** (фр. salon) — 1) зала спецыяльнага грамадскага прызначэння (для чакання, адпачынку, дэманстрацыі і продажу розных вырабаў, прыёму і абслугоўвання наведвальнікаў, заказчыкаў і інш.); 2) унутранае памяшканне для па-

сажыраў у аўтобусе, тралейбусе, на параходзе, самалёце; 3) парадная гасціная ў арыстакратычным доме, а таксама літаратурна-мастацкі або палітычны гурток, які збіраўся ў прыватным доме.

**САЛО́П** (фр. salope) — верхняе жаночае адзенне ў выглядзе шырокай доўгай накідкі з прарэзамі для рук, часта на падкладцы, ваце або футры, якое было пашырана ў Зах. Еўропе і Расіі ў першай пал. 19 ст. сярод гараджанак.

**САЛЬВАРСА́Н** (ад лац. salvus = здаровы + *арсен*) — арганічнае злучэнне, якое змяшчае арсен, прэпарат для лячэння сіфілісу, малярыі, зваротнага тыфу.

**САЛЬВАТА́ЦЫЯ** (ад лац. solvere = растварыць) — узаемадзеянне малекул растваральніка з малекуламі раствранага рэчыва; с. у водных растворах называецца *гідратацыяй.*

**САЛЬВА́ТЫ** (ад лац. solvare = растварыць) — злучэнні раствранага рэчыва з растваральнікам; прыватны выпадак сальватаў — *гідраты.*

**САЛЬВЕ́НТ** (лац. solvens, -ntis = які растварае) — вадкая сумесь араматычных вуглевадародаў; выкарыстоўваецца як растваральнік пры вырабе лакаў, гумы і інш.

**САЛЬВЕ́НТ-НА́ФТА** (ад *сальвент* + *нафта*) — прадукт перагонкі *бензолу* і лёгкіх алеяў; выкарыстоўваецца як растваральнік пры вырабе лакаў, лінолеуму, выбуховых рэчываў.

**САЛЬВІ́НІЯ** (н.-лац. salvinia, ад іт. A.Salvini = прозвішча фларэнтыйскага батаніка 18 ст.) — водная папараць з ніткападобным апушаным сцяблом і плаваючым лісцем, пашыраная ў стаячых і з павольнай плынню водах Еўразіі, Амерыкі, Афрыкі.

**САЛЬВО́ЛІЗ** (ад лац. solvo = растварaю + *-ліз*) — рэакцыя абменнага разлажэння паміж раствораным рэчывам і растваральнікам.

**СА́ЛЬДА** (іт. saldo ) — *фін.* астатак, розніца паміж прыходам і расходам рахунка.

**СА́ЛЬЗА** (іт. salsa) — гразевы вулкан.

**САЛЬМАНЕЛЁЗЫ** (ад *сальманела*) — інфекцыйныя хваробы жывёл і чалавека з групы кішачных інфекцый, якія выклікаюцца сальманеламі.

**САЛЬМАНЕ́ЛЫ** [н.-лац. salmonella, ад D.Salmon = прозвішча амер. патолага (1850—1914)] — кішачныя бактэрыі сям. *энтэрабактэрый*; узбуджальнікі брушнога *тыфу, паратыфаў* і *сальманелёзаў.*

**САЛЬМІЗА́ЦЫЯ** (ад *соль* + *мі*) — 1) сістэма складовага абазначэння ступеняў *гамы*; 2) рытмічнае чытанне назваў *нот* без спявання.

**САЛЬПІГЛО́СІС** (н.-лац. salpiglossis) — травяністая расліна сям. паслёнавых з падоўжаным лісцем і лейкападобнымі жоўтымі або пурпуровымі кветкамі, пашыраная ў Чылі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**САЛЬПІНГААФАРЫ́Т** (ад гр. salpinks, -ngos = труба + *аафарыт*) — запаленне прыдаткаў маткі (маткачных, або фалопіевых, труб і яечнікаў); гл. таксама *аафарыт, сальпінгіт.*

# С

**САЛЬПІНГІ́Т** (ад гр. salpinks, -ngos = труба) — запаленне матачных (фалопіевых) труб (гл. таксама *сальпінгаафарыт*).

**САЛЬПУ́ГІ** (н.-лац. solifugae) — атрад *арахнідаў*, членістаногія жывёлы з целам даўжынёй 1—7 см, пакрытым валаскамі, і масіўным брушкам з 10 сегментаў, пашыраныя ў стэпах і пустынях трапічных і субтрапічных зон; рухомыя начныя драпежнікі.

**СА́ЛЬПЫ** (н.-лац. salpae, ад гр. salpe) — клас хордавых жывёл падтыпу *тунікатаў*, жывуць пераважна ў трапічных і субтрапічных морах.

**СА́ЛЬТА** (іт. salto = скачок) — акрабатычны нумар, пры якім *акрабат* пераварочваецца ў паветры.

**СА́ЛЬТА-МАРТА́ЛЕ** (іт. salto mortale = смяротны скачок) — 1) акрабатычны скачок з пераваротам у паветры цераз галаву; 2) *перан.* рэзкая перамена ў дзеяннях, учынках.

**САЛЬТА́ЦЫЯ** (лац. saltatio, ад saltare = скакаць) — раптоўныя, скачкападобныя пераўтварэнні арганізмаў, якія нібыта прыводзяць да з'яўлення новых буйных *таксонаў* (атрадаў, класаў, тыпаў).

**САЛЬФАТА́РЫ** (іт. solfatare, ад лац. sulphur = сера) — выдзяленні гарачых газаў, пераважна сярністага і серавадароду, з трэшчын на схілах і ў *кратэрах* вулканаў.

**САЛЬФЕ́ДЖЫО** (іт. solfeggio) — вакальныя практыкаванні для развіцця слыху і навыкаў чытання нот, пры якіх вымаўляюцца назвы нот.

**САЛЬЦІСО́Н** (польск. salceson, ад іт. salsiccione) — каўбасны выраб з спрасаваных вараных субпрадуктаў (здробненых кавалачкаў мяса з свіной галавы, печані, языка і інш.).

**САЛЮ́Т** (фр. salut, ад лац. salus, -utis = віншаванне) — урачыстая форма прывітання або аддача пашаны каму-н., чаму-н. артылерыйскімі і ружэйнымі залпамі, паднятцем ці апусканнем сцягаў і інш.

**САЛЮТАВА́ЦЬ** (лац. salutare = вітаць) — аддаваць *салют*.

**САЛЯ́МІ** (іт. salame) — гатунак цвёрдай вэнджанай каўбасы з дамешкай чырвонага віна.

**САЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. solarisation, ад лац. solaris = сонечны) — 1) абпраменьванне сонцам з лячэбнымі мэтамі; 2) пераўтварэнне негатыўнага адбітка ў пазітыўны пры вялікай пераэкспазіцыі ў час здымкі.

**САЛЯ́РЫЙ** (лац. solarium, ад sol = Сонца) — 1) пляцоўка, абсталяваная для прыняцця сонечных ванн; 2) *гіст.* сонечны гадзіннік.

**САЛЯРЫ́МЕТР** (ад лац. solaris = сонечны + *-метр*) — прыбор для вымярэння прамяністай энергіі Сонца.

**САМА́ЛА** (іт. somalo = самалійскі) — грашовая адзінка Самалі да 1960 г.

**САМА́Н** (цюрк. saman) — цэгла-сырэц з сумесі гліны і сечанай саломы.

**САМА́РЫЙ** (н.-лац. samarium, ад рус. самарскит = назва мінерала, ад Самарский = прозвішча рус. мінералога 19 ст.) — хімічны элемент, мяккі серабрысты метал, які належыць да *лантаноідаў*, выка-

рыстоўваецца ў рэгулюючых стрыжнях ядзерных рэактараў, у святлатэхніцы.

**САМАТАГА́МІЯ** (ад гр. soma, -atos = цела, + *-гамія*) — зліццё дзвюх вегетатыўных клетак грыбніцы ў многіх грыбоў.

**САМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. soma, -atos = цела + *-логія*) — раздзел *антрапалогіі*, які вывучае варыяцыі памераў і прапорцый чалавечага цела і яго частак.

**САМАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. soma, -atos = цела + *-метрыя*) — раздзел *саматалогіі*, які займаецца вымярэннем чалавечага цела і яго частак (рост, вага і інш.).

**САМАТАПЛЕ́ЎРА** (ад гр. soma, -atos = цела + *плеўра*) — знешні лісток бакавой пласцінкі *спланхнатома*.

**САМАТАСКАПІ́Я** (ад гр. soma, -atos = цела + *-скапія*) — раздзел *саматалогіі*, які займаецца апісаннем тыпаў складу чалавечага цела, яго прапорцый, органаў.

**САМАТАТРАПІ́Н** (ад гр. soma, -atos = цела + trope = змена) — прадукт *сакрэцыі* пярэдняй часткі *гіпофіза*, які садзейнічае росту, уплывае на абмен рэчываў; гармон росту.

**САМАТАТРО́ПНЫ** (ад гр. soma, -atos = цела + *-тропны*); с. г а р м о н — тое, што і *самататрапін*.

**САМАТАТЫ́П** (ад гр. soma, -atos = цела + *тып*) — тып целаскладу чалавека ў *антрапалогіі*.

**САМАТЫ́ЧНЫ** (гр. somatikos) — які мае адносіны да цела, цялесны; с - ы я к л е т к і — усе клеткі жывёльнага або расліннага арганізма, за выключэннем палавых; с - а я н е р в о в а я с і с т э м а — частка нервовай сістэмы чалавека і жывёл, якая ўяўляе сабой сукупнасць чуллівых і рухальных нервовых валокнаў, што інервуюць шкілетныя мышцы, скуру, суставы.

**СА́МБА** [1] (рус. самбо, ад самозащита без оружия) — спартыўная барацьба, якая дапускае ўжыванне болевых прыёмаў і дазваляе аказаць паспяховае супраціўленне больш моцнаму або ўзброенаму праціўніку; самаабарона без зброі.

**СА́МБА** [2] (ісп. zambo) — нашчадкі ад шлюбаў індзейцаў з неграмі ў Лац. Амерыцы.

**СА́МБА** [3] (парт. samba) — бразільскі хуткі парны танец вольнай кампазіцыі.

**САМБРЭ́РА** (ісп. sombrero, ад sambra = цень) — іспанскі з шырокімі палямі *капялюш*.

**СА́МІТ** (англ. summit = *літар.* вяршыня) — 1) сустрэча або нарада кіраўнікоў дзяржаў; 2) дыпламатыя на вышэйшым узроўні.

**САМІ́ТЫ** (ад гр. soma = цела) — сіметрычна і папарна размешчаныя па баках кішкі ўчасткі *мезадэрмы* на ранніх стадыях развіцця арганізма; першасныя сегменты.

**САМНА́МБУЛА** (ад лац. somnus = сон + ambulare = хадзіць) — чалавек, хваравіты на *самнамбулізм*.

**САМНАМБУЛІ́ЗМ** (фр. somnambulisme, ад лац. somnus = сон + ambulare = хадзіць) — разлад свядомасці, калі чалавек у стане сну аўтаматычна выконвае звычайныя дзеянні (ходзіць, перакладвае рэчы і інш.).

# С

**САМО́ЛЮС** (н.-лац. samolus) — травяністая расліна сям. першакветных з прадаўгаватым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў гронках, пашыраная пераважна ў Паўн. і Паўд. Амерыцы, Аўстраліі і Паўд. Афрыцы; на Беларусі трапляецца вельмі рэдка.

**САМО́Н** (фр. sommon = сёмга) — ружова-жоўтага колеру.

**САМУ́М** (ар. samūm) — гарачы шквальны вецер, пясчаны ўраган у пустынях Аравійскага паўвострава і Афрыкі.

**САМУРА́Й** (яп. samuraj) — член прывілеяванай ваеннай *касты* ў феадальнай Японіі, а таксама прадстаўнік японскай агрэсіўнай ваеншчыны.

**САМШЫ́Т** (перс. šimšed) — вечназялёнае дрэва сям. самшытавых з цвёрдай драўнінай, пашыранае пераважна ў Паўд.-Усх. Азіі, Міжземнамор'і, прыатлантычнай Еўропе і Афрыцы.

**САНА́НТ** (лац. sonans, -ntis = які гучыць) — 1) зычны гук, пры ўтварэнні якога голас пераважае над шумам; *санорны* гук; 2) звонкі зычны гук, які разам з іншымі зычнымі гукамі ў некаторых мовах можа ўтвараць склад (напр. чэш. vlk = воўк, серб. трг = гандаль).

**САНА́Р** [ад англ. so(und) na(vigation) and r(anging) = гукавая навігацыя і вызначэнне дальнасці] — 1) тое, што і *гідралакацыя*; 2) тое, што і *гідралакатар*.

**САНАРЫ́ЗМ** (ад лац. sonorus = гучны, шумны) — від тэхнікі сучаснай кампазіцыі, якая склалася ў Зах. Еўропе і заключаецца ў высоўванні на пярэдні план афарбоўкі гучання.

**САНА́ТА** (іт. sonata, ад лац. sonare = гучаць) — музычны твор з трох або чатырох частак, розных па свайму характару і тэмпу.

**САНАТО́РЫЙ** (п.-лац. sanatorius = які вылечвае, ад лац. sanare = лячыць) — лячэбна-прафілактычная ўстанова курортнага тыпу для лячэння і адпачынку.

**САНАЦІ́НА** (іт. sonatina) — невялікая, лёгкая для выканання *саната*.

**САНА́ЦЫЯ** (лац. sanatio = лячэнне, аздараўленне) — 1) аздараўленне (напр. с. поласці рота); 2) сістэма мерапрыемстваў, якія праводзяцца з мэтай папярэдзіць банкруцтва банкаў, трэстаў і інш.; 3) рэакцыйны рэжым у буржуазнай Польшчы 1926—1939 гг.

**САНВІТА́ЛІЯ** (н.-лац. sanvitalia) — травяністая расліна сям. складанакветных з ярка-жоўтымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Цэнтр. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**САНГВІ́НІК** (ад лац. sanguis, -inis = кроў) — чалавек, для тэмпераменту якога характэрна рухомасць, жыццярадаснасць, схільнасць да захаплення.

**САНГІ́НА** (фр. sanguine, ад лац. sanguis = кроў) — 1) мяккі чырвона-карычневы мінеральны аловак, які ўжываецца ў мастацтве; 2) малюнак, выкананы такім алоўкам.

**САНДА́Л** [1] (с.-лац. sandalum, ад ар. sandal) — 1) вечназялёнае дрэва сям. сандалавых, пашыранае ў тропіках, а таксама драўніна гэтага дрэва, багатая на эфірныя алеі, вя-

домая пад назвай сандалавага дрэва; 2) фарбавальнік чырвонага або жоўтага колеру, які здабываюць з драўніны *фернамбука* і сандалавага дрэва.

**САНДА́Л** [2] (тур., кр.-тат. sandal) — аднамачтавае парусное судна, якім карысталіся цюркскія народы Прычарнамор'я.

**САНДА́ЛІ** (гр. sandalion) — 1) абутак старажытных грэкаў і рымлян у выглядзе драўлянай або скураной падэшвы, якая прымацоўвалася да нагі раменьчыкамі; 2) лёгкія летнія туфлі без абцасаў, якія зашпільваюцца раменьчыкамі.

**САНДАРА́К** (гр. sandarake = чырвоны мыш'як) — духмяная смала, якую здабываюць з кары сандаракавага дрэва сям. кіпарысавых, што расце ў Паўн. Афрыцы; выкарыстоўваецца для вырабу лакаў.

**СА́НДВІЧ** [англ. sandwich, ад J.Sandwich = прозвішча англ. лорда (1718—1792)] — 1) дзве складзеныя разам скібачкі хлеба з маслам, каўбасой або сырам паміж імі; 2) *перан.* жывая рэклама, чалавек, які на грудзях і спіне носіць рэкламныя плакаты.

**САНДЖА́К** (тур. sančak) — 1) ваявода ў султанскай Турцыі; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Турцыі 19 — пач. 20 ст.

**САНДРЫЛЬЁНА** (фр. Cendrillon = імя гераіні казкі Ш.Перро «Папялушка», ад cendre = попел) — бедная прыгожая працавітая дзяўчына.

**САНЕРА́ТЫЯ** (н.-лац. sonneratia) — вечназялёнае дрэва сям. санератыевых з супраціўным лісцем і буйнымі кветкамі са шматлікімі белымі тычынкамі, пашыранае на ўзбярэжжах трапічных мораў.

**САНЕ́Т** (іт. sonetto, ад sonus = гук) — лірычны верш з 14 радкоў — двух чатырохрадкоўяў і двух трохрадкоўяў з асобым размяшчэннем рыфмаў.

**САНЕ́ТКА** (фр. sonette = званок) — *уст.* званок для выкліку слугі, які звычайна прыводзіўся ў дзеянне шнурком.

**САНІДЗІ́Н** (гр. sanidine = таблічка) — мінерал, калій-натрыевы палявы шпат.

**САНІ́РАВАЦЬ** (лац. sanare = лячыць) — 1) аздараўляць, рабіць здаровым (напр. с. поласць рота); 2) паляпшаць стан чаго-н. (напр. с. фінансы).

**САНІТА́Р** (н.-лац. sanitarius = які датычыць здароўя, ад лац. sanitus = здароўе) — асоба, якая належыць да малодшага медыцынскага персаналу ў лячэбных установах, у арміі.

**САНІТАРЫ́Я** (н.-лац. sanitarius = які датычыць здароўя, ад лац. sanitas = здароўе) — сукупнасць мерапрыемстваў, накіраваных на захаванне і ажыццяўленне правіл *гігіены*, на падтрыманне здароўя насельніцтва.

**СА́НКЦЫЯ** (лац. sanctio = строгая пастанова) — 1) зацвярджэнне вышэйшым органам якога-н. акта, што надае яму сілу закона; 2) *юр.* мера супраць парушэння закона, дагавора, абавязацельства.

**САНКЦЫЯНІ́РАВАЦЬ** (ад *санкцыя*) — даваць санкцыю на што-н., зацвярджаць, адабраць, прызнаваць законным, правільным што-н.

# С

**САНКЮЛО́ТЫ** (фр. sans-culottes = без кароткіх штаноў, галадранцы) — прадстаўнікі рэвалюцыйнай гарадской беднаты ў перыяд Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.

**САНО́МЕТР** (ад лац. sonus = гук + *-метр*) — прыбор, пры дапамозе якога вывучаюць ваганні струн.

**САНО́РЫКА** (ад лац. sonorus = звонкі) — гукавышынная з'ява ў музыцы, пры якой тонаў не чуваць, аднак яны пазначаны ў партытуры.

**САНО́РНЫ** (лац. sonorus = звонкі); с. з ы ч н ы — зычны гук, пры ўтварэнні якога голас пераважае над шумам.

**САНСЕЎЕ́РА** (н.-лац. sansevieria) — травяністая расліна сям. агававых з доўгім лісцем і дробнымі зеленавата-белымі пахучымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай Афрыцы, Азіі; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях і аранжарэях.

**САНСКРЫ́Т** (санскр. sanskrta = апрацаваны) — літаратурная мова старажытнай і сярэдневяковай Індыі.

**САНСКРЫТАЛО́ГІЯ** (ад *санскрыт* + *-логія*) — навука, якая вывучае санскрыт і напісаную на гэтай мове літаратуру.

**САНСКРЫТО́ЛАГ** (ад *санскрыт* + *-лаг*) — спецыяліст па санскрыту і напісанай на гэтай мове літаратуры.

**СА́НТА-ГЕРТРУ́ДА** (ад англ. Santa Gertrudis = назва фермы ў ЗША) — парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку, выведзеная ў штаце Тэхас у 20 ст.

**САНТА́Л** (гр. santalon, ад ар. sandal) — тое, што і *сандал*[1].

**САНТАНІ́Н** (ад лац. santonica herba = сантонская трава, ад Santones = назва гальскай правінцыі) — глістагонны сродак, які здабываецца з кветак і сцёблаў цытворнага палыну.

**САНТЫ-** (лац. centum = сто) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «сотая частка».

**САНТЫГРА́М** (ад *санты-* + *грам*) — мера масы, роўная сотай долі грама.

**САНТЫЛІ́ТР** (ад *санты-* + *літр*) — мера ёмістасці, роўная сотай долі літра.

**САНТЫ́М** (фр. centime, ад лац. centum = сто) — разменная манета Францыі, Бельгіі, Швейцарыі і некаторых іншых краін, роўная 1/100 *франка*.

**САНТЫМЕ́НТЫ** (фр. sentiment = пачуццё) — празмерная чуллівасць, якая праяўляецца ў словах, учынках.

**САНТЫМЕ́ТР** (фр. centimetre, ад лац. centum = сто + гр. metreo = мераю) — 1) адзінка вымярэння даўжыні, роўная сотай долі *метра*; 2) лінейка або стужка з дзяленнямі на сантыметры.

**САНХЕ́ЦЫЯ** (н.-лац. sanchezia) — травяністая або кустовая расліна сям. акантавых з доўгім лісцем і жоўтымі кветкамі ў густых гронках, пашыраная ў Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях і аранжарэях.

**СА́ПА** (фр. sape) — роў, траншэя, падкоп у напрамку пазіцыі праціўніка для скрытага набліжэння да

яго, капанне якіх практыкавалася ў 16—19 ст.; ц і х а й   с а п а й — непрыкметна, цішком.

**САПАЖЎ** (фр. sapajou) — тое, што і *капуцын* 2.

**САПАНІНЫ** (ад лац. sapo, -onis = мыла) — арганічныя злучэнні з групы *гліказідаў*, якія змяшчаюцца ў некаторых раслінах і ўтвараюць з вадой пену; выкарыстоўваюцца ў медыцыне і ў вытворчасці шыпучых напіткаў, халвы.

**САПАНІТ** (ад лац. sapo, -onis = мыла) — мінерал, так званы мыльны камень.

**САПАНІФІКАЦЫЯ** (ад лац. sapo, -onis = мыла + *-фікацыя*) — працэс разлажэння тлушчаў пад уплывам гідралітычных сродкаў.

**САПЕРАВІ** (груз. saperavi) — вінны сорт грузінскага вінаграду, а таксама сорт вінаграднага віна.

**САПЁР** (фр. sapeur, ад saper = весці падкоп) — ваеннаслужачы спецыяльных падраздзяленняў, якія ўзводзяць масты, пераправы, размініруюць мясцовасць і інш.

**САПОТА** (н.-лац. sapota) — дрэва сям. сапотавых з буйным лісцем даўжынёй да 60 см і шарападобнымі чырванавата-карычневымі салодкімі пладамі, пашыранае ў Цэнтр. Амерыцы.

**САПРА-** (гр. sapros = гнілы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які адносіцца да гніення і распаду жывёльных і раслінных рэштак».

**САПРАБІЁНТЫ** (ад *сапра-* + *біёнты*) — арганізмы, якія жывуць у вадаёмах, моцна забруджаных арганічнымі рэчывамі.

**САПРАГЕНАВЫ** (ад *сапра-* + гр. genos = род) — які параджае гніенне (напр. с-ыя бактэрыі).

**САПРАЛЕГНІЁЗ** (ад *сапралегнія*) — хвароба рыб, якая выклікаецца грыбамі *ахлія* і сапралегнія.

**САПРАЛЕГНІЯ** (н.-лац. saprolegnia, ад гр. sapros = гнілы + legnon = край) — ніжэйшы грыб сям. сапралегніевых, які развіваецца ў вадаёмах на адмерлых насякомых і рэштках водных раслін.

**САПРАНА** (іт. soprano) — 1) высокі жаночы голас, а таксама спявачка, якая мае такі голас; 2) самая высокая партыя ў хоры.

**САПРАПЕЛІТЫ** (ад *сапрапель* + *-літ*) — выкапнёвыя гаручыя рэчывы, якія ўтварыліся з сапрапелю.

**САПРАПЕЛЬ** (ад *сапра-* + гр. pelos = гразь, глей) — глей, які ўтвараецца на дне стаячых вадаёмаў з перагнілых рэштак раслін; выкарыстоўваецца як угнаенне, для гразелячэння і інш.

**САПРАТРОФЫ** (ад *сапра-* + *-трофы*) — бактэрыі, грыбы, актынаміцэты і расліны, якія жывяцца арганічнымі рэчывамі адмерлых раслін і жывёл або выдзяленнямі жывёл.

**САПРАФАГІ** (ад *сапра-* + *фагі*) — жывёлы, якія кормяцца арганічнымі рэчывамі, што гніюць (напр. жук-гнаявік).

**САПРАФІТЫ** (ад *сапра-* + *-фіты*) — расліны, якія кормяцца арганічнымі рэчывамі адмерлых арганізмаў (напр. некаторыя віды водарасцяў).

# С

**САПРО́БЫ** (ад гр. sapros = гнілы + bios = жыццё) — тое, што і *сапрабіёнты*.

**САПРО́Л** (ад *сапра-* + *-ол*) — сумесь *крэзолу* з мінеральнымі мазямі, якая выкарыстоўваецца для *дэзінфекцыі*.

**САПФІ́Р** (гр. sappheiros) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў, каштоўны камень сіняга або блакітнага колеру; разнавіднасць *карунду*.

**САРАБА́НДА** (ісп. zarabanda) — 1) старадаўні іспанскі народны танец трохдольнага размеру, а таксама музыка да гэтага танца; 2) музычны твор у рытме гэтага танца.

**САРАНЧА́** (цюрк. sarynca, ад sary = жоўты) — 1) насякомае атрада прамакрылых, падобнае на коніка, якое пралятае вялікімі чародамі і нішчыць расліннасць; 2) *перан.* вялікая маса каго-н., чаго-н.

**САРАРА́Т** (ад лац. soror = сястра) — шлюбны звычай у некаторых народаў у перыяд першабытна-абшчыннага ладу, у адпаведнасці з якім мужчына жаніўся з дзвюма або некалькімі роднымі або дваюраднымі сёстрамі; пазней ператварыўся ў звычай браць замуж сястру памёршай жонкі.

**СА́РАС** (гр. saros = мятла) — *астр.* перыяд паўтаральнасці ў тым жа парадку сонечных і месячных зацьменняў, роўны прыблізна 18 гадам $10\frac{1}{3}$ або $11\frac{1}{3}$ суткам.

**САРАСПО́РЫЙ** (н.-лац. sorosporium) — *базідыяльны* грыб сям. усцілягавых, які развіваецца на раслінах сям. злакавых, гваздзіковых, залознікавых.

**САРА́СТРУМ** (н.-лац. sorastrum) — каланіяльная зялёная водарасць сям. гідрадыкцыевых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**САРАФА́Н** (рус. сарафан, ад перс. särāpā = урачыстае адзенне) — рускі народны жаночы ўбор у выглядзе свабоднай доўгай сукенкі без рукавоў з засцежкай пасярэдзіне.

**САРАЦЫ́НЫ** (лац. saraceni, ад ар. šarkījīn = усходні) — назва арабскага насельніцтва Зах. і Паўн. Аравіі ў творах антычных аўтараў; у сярэдневяковай Еўропе назва пашырылася на ўсіх арабаў і наогул мусульман.

**САРАЦЭ́НІЯ** (н.-лац. sarracenia) — травяністая насякомаедная расліна з лоўчымі лістамі, забяспечанымі нектараноснымі залозкамі, і яркімі кветкамі, пашыраная ў Паўн. Амерыцы.

**САРБЕ́НТЫ** (лац. sorbens, -ntis = які паглынае) — цвёрдыя целы і вадкасці, якія паглынаюць якія-н. рэчывы з навакольнага асяроддзя.

**САРБІ́Т** [1] [ад англ. H.Sorby = прозвішча англ. прыродазнаўцы (1826—1908)] — структурная складовая сталі, сумесь *цэментыту* і *ферыту*, што ў адрозненне ад *перліту* мае больш тонкую будову.

**САРБІ́Т** [2] (ад лац. sorbere = паглынаць) — арганічнае злучэнне, шасціатамны спірт *аліфатычнага* рада; рэчыва, якое атрымліваецца з глюкозы і ўжываецца замест цукру ў харчаванні хворых на дыябет.

**САРГА́Н** (гр. sarganion) — прамысловая рыба сям. сарганавых, пашыраная ў Атлантычным акіяне, Міжземным, Чорным, Азоўскім і Барэнцавым морах.

**САРГА́СЫ** (н.-лац. sargassum) — марскія бурыя водарасці класа цыкласпоравых, якія пашыраны ў цёплых частках Ціхага і Атлантычнага акіянаў.

**САРДАНІ́КС** (гр. sardonyks) — мінерал, каштоўны камень з малочна-белымі і бура-чырвонымі палоскамі; разнавіднасць *агату*.

**САРДАНІ́ЧНЫ** [лац. sardonicus (risus) = іранічны смех] — зласлава-насмешлівы, з'едлівы (пра смех).

**САРДА́Р** (перс. sardar, ад sar = галава + dar = які валодае) — 1) правадыр племені, уплывовы саноўнік у Іране і Афганістане; 2) галоўнакамандуючы войскамі ў султанскай Турцыі.

**САРДА́РЫЯ** (н.-лац. sordaria) — сумчаты грыб сям. сардарыевых, які развіваецца ў глебе, на экскрэментах жывёл, адмерлых рэштках раслін.

**САРДЗІ́НА** (іт. sardina) — невялікая марская прамысловая рыба сям. селядцовых са сціснутым целам і баразёнкамі на жабернай крышцы.

**САРДЗІНЕ́ЛА** (н.-лац. sardinella) — невялікая марская рыба, падобная да *сардзіны*, але з гладкай жабернай крышкай.

**СА́РЖА** (фр. serge) — баваўняная або шаўковая тканіна з дробным нахільным перапляценнем нітак.

**САРКАГІ́НА** (н.-лац. sarcogyne) — накіпны сумчаты лішайнік сям. акараспоравых, які расце на вапняках і даламітах, радзей на іншых пародах.

**САРКАДО́Н** (н.-лац. sarcodon) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. яжоўнікавых, які расце на глебе ў хвойных, часам у мяшаных лясах; ядомы ў маладым узросце.

**САРКА́ЗМ** (гр. sarkasmos, ад sarkazo = *літар*. рву мяса) — злосная, вострая, з'едлівая насмешка.

**САРКАЛЕ́МА** (ад гр. sarks, -rkos = мяса + lemma = скурка) — *біял*. тонкая абалонка, якая пакрывае гладкія, папярочнапаласатыя і сардэчныя мышачныя валокны, садзейнічае іх скарачэнню, а таксама выконвае ахоўную функцыю.

**САРКАПЛА́ЗМА** (ад гр. sarks, -rkos = мяса + *плазма*) — *цытаплазма* мышачных валокнаў і клетак.

**САРКАСО́МА** (н.-лац. sarcosoma) — сумчаты грыб сям. саркасцыфавых, які трапляецца на глебе ў хвойных і мяшаных лясах.

**САРКАСПАРЫ́ДЫІ** (ад гр. sarks, -rkos = мяса + sporidion = семя) — група прасцейшых атрада *какцыдый*; паразітуюць у мышцах і злучальнай тканцы млекакормячых, птушак і паўзуноў.

**САРКАСТЫ́ЧНЫ** (гр. sarkastikos) — які выражае *сарказм*, прасякнуты сарказмам.

**САРКАСФЕ́РА** (н.-лац. sarcosphaera) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які расце на вапняковых глебах у лясах.

**САРКАСЦЫ́ФА** (н.-лац. sarcoscypha) — сумчаты грыб сям. саркасцыфавых, які трапляецца ў мя-

шаных лясах на адмерлых, паглыбленых у глебу галінках.

**САРКАФА́Г** (лац. sarcophagus, ад гр. sarkophagos = *літар.* пажыральнік мяса) — манументальная, парадна аформленая труна; выраблялася з каменю, дрэва і іншых матэрыялаў.

**САРКАФАГІ́ДЫ** (н.-лац. sarcophagidae) — шэрыя мясныя мухі.

**САРКО́ДА** (ад гр. sarks, -rkos = мяса) — *біял.* протаплазма аднаклетачных жывёл.

**САРКО́МА** (н.-лац. sarcoma, ад гр. sarkoma = нарасць мяса) — злаякасная пухліна, якая развіваецца са злучальнай тканкі і бывае эмбрыянальная *(мезенхімома)*, касцявая *(астэасаркома)*, мышачная *(міясаркома)* і інш.

**САРКОМАСТЫГАФО́РЫ** (н.-лац. sarcomastigophora) — выдзелены ў апошні час тып аднаклетачных жывёл, у які ўключаюцца саркодавыя і жгуціканосцы.

**СА́РНА** (польск. sarna) — парнакапытная жвачная жывёла сям. пустарогіх; горная каза з невялікімі рагамі.

**САРСАПАРЫ́ЛЬ** (ісп. zarzaparilla) — від *смілакса*, пашыраны ў Кітаі; змяшчае *сапаніны* і выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**САРСУЭ́ЛА** (ісп. zarzuela) — старадаўні жанр іспанскай *оперы*; лірычная п'еса, у якой спевы і танцы чаргаваліся з дыялогам.

**САРТЫМЕ́НТ** (ням. Sortiment, ад фр. assortiment) — падбор прадукцыі па марках, профілях, памерах (пераважна ў дрэваапрацоўчай і металургічнай прамысловасці).

**САРЦЫ́НЫ** (лац. sarcina = вузел) — шарападобныя *бактэрыі*, якія ўтвараюць кубічныя пакетападобныя скапленні.

**СА́РЫ** (інд. sari) — жаночае адзенне ў выглядзе кавалка тканіны, абкручанага вакол цела і перакінутага цераз плячо.

**СА́РЫСА** (гр. sarisa) — доўгае кап'ё, якое было на ўзбраенні цяжкай пяхоты ў Стараж. Македоніі.

**САРЫ́Т** (гр. sorites = нагрувашчаны, ад soros = куча) — складаны *сілагізм*, у якім падаецца толькі апошняя пасылка, а прамежкавыя пасылкі не называюцца, а маюцца на ўвазе.

**САРЭ́ДЫІ** (н.-лац. soredium, ад гр. soros = груда, куча) — органы вегетатыўнага размнажэння некаторых лішайнікаў, якія складаюцца з адной або некалькіх клетак водарасці, акружаных грыбніцай.

**САСАФРА́С** (англ. sassafras) — дрэўная расліна сям. лаўровых, пашыраная ў прыатлантычнай частцы Паўн. Амерыкі.

**САСТЭНУ́ТА** (іт. sostenuto = стрыманы) — *муз.* засяроджана і рытмічна дакладна, вытрымліваючы ўмераны тэмп.

**САТА́ЛІІ** (н.-лац. sotalia) — род *дэльфінаў*, пашыраны ў тропіках і субтропіках; жывуць у прыбярэжных частках мораў і ў рэках.

**САТАНА́** (гр. satan, ад ст.-яўр. satan = праціўнік) — злы дух у некаторых рэлігіях, які супрацьстаіць богу; д'ябал.

**САТРА́П** (гр. satrapes, ад перс. sitrab) — 1) правіцель правінцыі ў Стараж. Іране; 2) *перан.* жорсткі начальнік, самадур, дэспат.

**САТРА́ПІЯ** (гр. sartrapeia, ад перс. sitrab = сатрап) — вобласць, правінцыя ў Стараж. Іране, якой кіраваў *сатрап*.

**САТУ́РА** (лац. satura = сумесь) — жанр разважальна-дыдактычнага характару ў старажытнарымскай літаратуры, які спалучаў прозу і вершы.

**САТУРА́ТАР** (лац. saturator = які насычае) — 1) апарат для насычэння вадкасцей вуглякіслым газам; 2) апарат для хімічнай апрацоўкі вуглякіслым газам цукровага соку.

**САТУРА́ЦЫЯ** (лац. saturatio = насычэнне) — 1) насычэнне вадкасцей вуглякіслым газам; газіраванне; 2) хімічная апрацоўка цукровага соку вуглякіслым газам для выдалення з яго вапны.

**САТУ́РН** (лац. saturnus = свінец, ад Saturnus = імя бога земляробства ў старажытнарымскай міфалогіі) — назва свінцу ў *алхіміі*.

**САТУРНА́ЛІІ** (лац. Saturnalia, ад Saturnus = імя старажытнарымскага бога земляробства) — 1) старажытнарымскае свята ў гонар бога Сатурна, якое спраўлялася пасля заканчэння палявых работ; 2) *пераи.* бесшабашная гулянка; папойка.

**САТУРНІ́ЗМ** (ад лац. saturnus = свінец) — хранічнае атручэнне чалавека свінцом.

**САТЫ́Р** (гр. Satyros) — 1) лясны *дэман* з рагамі і казлінымі нагамі, спадарожнік бога віна і весялосці ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) вялікі дзённы матыль; 3) птушка атрада курыных з двума падобнымі на рогі вырастамі на галаве, якая водзіцца ў Індыі і Кітаі.

**САТЫ́РА** (лац. satira, ад satura = сумесь) — 1) літаратурны твор, у якім рэзка высмейваюцца адмоўныя з'явы жыцця; 2) наогул высмейванне, ганьбаванне чаго-н.

**САТЫ́РЫК** (лац. satiricus, ад гр. satyrikos = сатырычны) — прадстаўнік сатырычнага напрамку ў літаратуры і мастацтве.

**САТЫРЫКО́Н** (гр. satyrikon) — назва сатырычнай драмы ў эпоху антычнасці і сярэдневякоўя.

**САТЫРЫ́ЧНЫ** (гр. satyrikos) — 1) які мае адносіны да *сатыры*, з'яўляецца сатырай, змяшчае ў сабе сатыру; 2) з'едліва-насмешлівы, іранічны.

**САТЫРЫЯ́З, САТЫРЫЯ́ЗІС** (лац. satiriasis < гр. satyriasis, ад Satyros = сатыр) — хваравітая палавая цяга ў мужчын, празмерная пажадлівасць.

**САТЫСФА́КЦЫЯ** (лац. satisfactio = задавальненне) — задавальненне ў форме паядынку, дуэлі, якое ў дваранскім грамадстве давалася абражанаму для абароны гонару.

**САТЭ́** (фр. saute, ад sauter = смажыць) — страва пад соусам, якая гатуецца на моцным агні.

**САТЭЛІ́Т** (лац. satelles, -litis = спадарожнік, паплечнік) — 1) спадарожнік планеты (напр. Месяц — с. Зямлі); 2) шасцярня ў механізме, якая круціцца разам з воссю вакол цэнтральнага кола накшталт спадарожніка планеты; 3) дзяржава, фармальна незалежная, а фактычна падпарадкаваная іншай, больш

# С

моцнай дзяржаве; 4) *перан.* паслугач, выканаўца чужой волі.

**САТЭ́РН** (фр. sauternes) — сорт вінаграднага белага віна.

**СА́УНА** (фін. sauna) — фінская сухая гарачая лазня; пашырылася і ў іншых краінах.

**САФА́** (фр. sofa, ад ар. suffa) — мяккая шырокая *канапа* з нізкай спінкай.

**САФА́РЫ** (ар. safar = падарожжа) — паход, турпаездка, працяглае падарожжа ў экзатычныя краіны.

**САФІ́ЗМ** (гр. sophisma = выдумка, галаваломка) — вывад, які толькі фармальна здаецца правільным, бо заснаваны на наўмысна няправільным падборы зыходных палажэнняў (параўн. *паралагізм*).

**САФІ́СТ** (гр. sophistes) — 1) платны настаўнік філасофіі і красамоўства ў Стараж. Грэцыі; 2) той, хто карыстаецца *сафізмамі* для доказу заведама няправільных думак.

**САФІ́СТЫКА** (гр. sophistike) — разважанні, заснаваныя на *сафізмах*, слоўныя хітрыкі.

**САФІСТЫ́ЧНЫ** (гр. sophistikos) — 1) які грунтуецца на *сафізме*; 2) які мае адносіны да *сафістыкі*.

**САФІ́Т** (іт. soffitto = столь) — 1) паверхня якой-н. архітэктурнай дэталі, бачная знізу; 2) гарызантальны рад лямпаў зверху і па баках сцэны ў тэатры; 3) прыстасаванне ў карнізе, якое дае рассеянае святло ад схаванай у ім крыніцы асвятлення.

**САФІ́Я** (гр. sophia = майстэрства, мудрасць) — уяўленне пра сэнсавую напоўненасць рэчаў у антычнай і сярэдневяковай філасофіі.

**САФЛО́Р** (гал. saffloer, ням. Saflor) — 1) травяністая расліна сям. складанакветных са скурыстым зубчастым лісцем і дробнымі жоўтымі або аранжавымі кветкамі ў кошыках, пашыраная пераважна ў Сярэд. Азіі, Паўн. Афрыцы, Міжземнамор'і; 2) чырвоная і жоўтая фарбы, здабытыя з суквеццяў гэтай расліны; 3) эфірны алей з насення гэтай расліны.

**САФО́РА** (н.-лац. sophora, ад ар. sofara = жоўтая расліна) — дрэвавая або кустовая расліна сям. бабовых з непарнаперыстым лісцем і белымі, ружовымі або фіялетавымі кветкамі ў гронках або мяцёлках, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках.

**СА́ФРА** (ісп. zafra) — перыяд уборкі і перапрацоўкі цукровага трыснягу на Кубе, у Аргенціне і Уругваі.

**САФРАНІ́Н** (ад ар. za farān = шафран) — фарбавальнік чырвона-фіялетавага колеру, які вызначаецца вялікай устойлівасцю; выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай і папяровай прамысловасці.

**САФРО́Л** (ад ар. za farān = шафран + *-ол*) — жаўтаватая вадкасць, састаўная частка некаторых відаў эфірнага алею; выкарыстоўваецца ў *парфумерыі*.

**САФ'Я́Н** (цюрк. sachtijan, ад перс. sächtijan) — тонкая, добра выробленая, ярка афарбаваная казліная або авечая скура, якая ідзе на выраб кніжных пераплётаў, абутку, на абіўку мэблі.

**САХАРЫ́Н** (ням. Saccharin, ад гр. sakchar = цукар) — арганічнае злу-

чэнне, белае крышталічнае вельмі салодкае рэчыва; сурагат цукру.

**САЦІ́** (фр. sotie, ад sot = дурны) — камедыйна-сатырычны жанр французскага тэатра 15—16 ст., разнавіднасць *фарса*.

**САЦІ́Н** (фр. satin) — гладкая бавоўняная ці шаўковая тканіна.

**САЦЫНІЯ́НСТВА** [ад іт. F.Socino = прозвішча іт. тэолага-гуманіста (1539—1604)] — антытрынітарны рэлігійна-філасофскі рух 16 — першай пал. 17 ст. у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім, заснаваны Ф.Соцыным.

**САЦЫЯГРА́МА** (ад лац. societas = грамадства + *-грама*) — графічны паказ вынікаў сацыяметрычнага даследавання.

**САЦЫЯЛАГІ́ЗМ** (ад лац. societas = грамадства + *-лагізм*) — спрошчанае разуменне грамадска-гістарычнай абумоўленасці фактаў і з'яў, якое ігнаруе спецыфіку розных форм грамадскага быцця.

**САЦЫЯ́Л-ДЭМАКРА́ТЫЯ** (ад лац. socialis = грамадскі + *дэмакратыя*) — агульная назва сацыялістычных партый, якія ўзніклі ў розных краінах пачынаючы з другой пал. 19 ст.

**САЦЫЯЛІЗАВА́ЦЬ** (ад лац. socialis = грамадскі) — 1) рабіць уласнасцю ўсяго грамадства; 2) фарміраваць асобу на аснове элементаў культуры і сацыяльных каштоўнасцей, якія дазваляюць ёй функцыяніраваць у якасці паўнаpraўнага члена грамадства.

**САЦЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. socialis = грамадскі) — 1) ператварэнне ўласнасці ў грамадскую; 2) працэс станаўлення асобы на аснове засваення ёю элементаў культуры і сацыяльных каштоўнасцей, якія дазваляюць ёй функцыяніраваць у якасці паўнапраўнага члена грамадства.

**САЦЫЯЛІ́ЗМ** (фр. socialisme, ад лац. socialis = грамадскі) — паводле вучэння марксізму-ленінізму, першая, ніжэйшая ступень *камунізму*, пры якой адсутнічаюць антаганістычныя класы, эксплуатацыя чалавека чалавекам і ажыццяўляецца прынцып «ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму — па яго працы».

**САЦЫЯЛІНГВІ́СТЫКА** (ад лац. societas = грамадства + *лінгвістыка*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае сацыяльныя функцыі мовы і ўмовы яе выкарыстання ў грамадстве.

**САЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад лац. societas = грамадства + *-логія*) — навука аб грамадстве, аб адносінах у грамадстве.

**САЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. socialis = грамадскі) — 1) грамадскі, які мае дачыненне да грамадскага ладу, да жыцця людзей і іх адносін у грамадстве, вынікае з умоў грамадскага жыцця; 2) які мае на мэце змену грамадскіх вытворчых адносін (напр. с. рэвалюцыя, с-ыя пераўтварэнні).

**САЦЫЯМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. societas = грамадства + *-метрыя*) — раздзел сацыяльнай *псіхалогіі*, які вывучае міжасабовыя адносіны ў малых сацыяльных групах, напр. у сям'і, навучальных або вытворчых калектывах.

**САЦЫЯСФЕ́РА** (ад лац. societas = грамадства + *сфера*) — частка геаграфічнай абалонкі, якая ўклю-

чае чалавецтва з уласцівымі яму вытворчымі адносінамі, а таксама асвоеную чалавекам частку прыроднага асяроддзя.

**САШЭ́** (фр. sachet) — 1) напоўненая араматычнымі рэчывамі падушачка, якая кладзецца ў бялізну для надання ёй прыемнага паху; 2) сумачка для захоўвання насовак, грабянцоў і іншых асабістых рэчаў.

**СВАРА́ДЖ** (санскр. svarāja = сваё праўленне) — асноўны *лозунг* нацыянальна-вызваленчага руху ў каланіяльнай Індыі з пач. 20 ст. да 1947 г., які трактаваўся левым крылом руху як заклік да поўнай нацыянальнай незалежнасці, а правым як патрабаванне абмежаванага самакіравання ў рамках Брытанскай імперыі.

**СВА́СТЫКА** (санскр. svastika) — знак у выглядзе крыжа з загнутымі пад прамым вуглом канцамі, які першапачаткова меў культавае значэнне ў некаторых старажытных народаў, атрымаў распаўсюджанне як арнаментальны матыў у мастацтве Індыі, Кітая, Японіі; служыў дзяржаўнай эмблемай германскаму фашызму.

**СВЕ́РЦЫЯ** (н.-лац. swertia, ад Swert = прозвішча галандскага садавода) — травяністая расліна сям. гарычкавых з буйным лісцем і брудна-сінімі або сіне-фіялетавымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў гарах Еўразіі, Усх. Афрыкі і ціхаакіянскай часткі Паўн. Амерыкі; лекавая і дэкаратыўная; на Беларусі трапляецца рэдка.

**СВІ́ДАР** (польск. świder) — інструмент для свідравання шчылін у метале, дрэве, грунце і інш.

**СВІДЗІ́НА** (н.-лац. swida) — кустовая расліна сям. кізілавых з ярка-чырвонымі парасткамі, акруглым лісцем і белымі кветкамі ў шчыткападобных, мяцёлчатых або галоўчатых суквеццях, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**СВІДРАВА́ЦЬ** (польск. świdrować) — 1) рабіць свердлам адтуліны ў чым-н.; бурыць адтуліны ў грунце; 2) *перан.* пранізваць паветра, ваду рэзкім узлётам, хуткім вярчэннем; 3) *перан.* непакоіць, хваляваць, мучыць (пра думкі, адчуванні).

**СВІНГ** (англ. swing = ваганне, размах) — 1) бакавы ўдар са значнай адлегласці ў боксе; 2) мяжа аўтаматычнага ўзаемнага крэдытавання бакамі двухбаковага плацёжнага пагаднення, тэхнічны крэдыт па валютным клірынгу.

**СВІП-ГЕНЕРА́ТАР** (ад англ. sweep = бесперапынны рух + *генератар*) — генератар электрамагнітных ваганняў, частата якіх аўтаматычна змяняецца ў пэўных межах; прымяняецца ў вымяральнай апаратуры.

**СВІ́РАН** (літ. svir̃nas) — будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, прадуктаў, рэчаў і інш.

**СВІ́ТА** (фр. suite) — 1) асобы, якія суправаджаюць важную, высокапастаўленую асобу, напр. манарха; 2) *перан.* асобы, якія пастаянна акружаюць каго-н., суправаджаюць яго; 3) сукупнасць пластоў горных парод, якія аб'ядноўваюцца падобным саставам і ў пэўнай ступені адрозніваюцца ад пластоў, што залягаюць вышэй і ніжэй.

**СВІТЧ** (англ. switch) — *камерц.* 1) перанос тэрміну пастаўкі з аднаго месяца на другі; 2) ліквідацыя абавязацельстваў у адных каштоўных паперах або валютах і заключэнне здзелак у другіх; 3) перадача трэцяму баку рэшткі на клірынгавым рахунку па курсу са скідкай супраць афіцыйнага.

**СВІ́ТЫНГ** (англ. sweating = паценне) — надзвычай цяжкая форма эксплуатацыі работнікаў у прыватным доме.

**СВІ́ТЭР** (англ. sweater, ад sweat = пацець) — цёплая вязаная кофта без засцежак з высокім каўняром, які шчыльна аблягае шыю.

**СВОП** (англ. swap = абмен) — аперацыя па абмену валюты на замежную з абавязацельствам зваротнага абмену праз пэўны тэрмін, якая ажыццяўляецца паміж цэнтральнымі банкамі.

**СВЯНЦІ́ЦЬ** (польск. święcić) — выконваць царкоўны абрад асвячэння, асвячаць.

**СВЯНЦО́НЫ** (польск. święcony) — пасвячоны, асвячоны.

**СГРАФІ́ТА** (іт. sgraffito) — спосаб дэкаратыўнага аздаблення сцен, пры якім малюнак выдрапваецца на верхнім пласце тынку і выяўляецца ніжні пласт, што мае іншы колер.

**СЕА́НС** (фр. séance) — 1) дэманстрацыя чаго-н. у пэўны прамежак часу без перапынку (напр. с. паказу мадэлей, с. у кіно); 2) выкананне якога-н. дзеяння, работы, лячэння адным захадам, а таксама прамежак часу, калі гэта адбываецца (напр. с. гіпнозу).

**СЕБАРЭ́Я** (ад лац. sebum = сала + гр. rheo = цяку) — захворванне, якое характарызуецца павышаным або паніжаным выдзяленнем скуранога тлушчу.

**СЕ́ГАРСЫ** (англ. segars) — драўляныя або металічныя кольцы, што свабодна рухаюцца па мачце і служаць для прывязвання косых парусоў.

**СЕГЕТА́ЛЬНЫ** (лац. segetalis) — пасяўны; с-ыя расліны — расліны-пустазелле, якія прыстасаваліся расці разам з культурнымі раслінамі.

**СЕГІДЫ́ЛЬЯ** (ісп. seguidilla, ад seguir = суправаджаць) — іспанскі народны танец у суправаджэнні спеваў, гітары і кастаньетаў, а таксама музычны твор у рытме гэтага танца.

**СЕГМЕ́НТ** (лац. segmentum = адрэзак, паласа) — 1) частка круга, абмежаваная дугой і хордай, а таксама частка шара, аддзеленая сякучай плоскасцю; 2) адрэзак прамой лініі; 3) адзін з аднародных участкаў (членікаў) цела некаторых жывёл (напр. дажджавога чарвяка).

**СЕГМЕНТА́ЦЫЯ** (ад лац. segmentum = адрэзак, паласа) — дзяленне цела або асобных органаў некаторых жывёл на шэраг аднародных участкаў *(сегментаў)*.

**СЕГНЕ́ТАВЫ** (ад фр. Seignette = прозвішча фр. аптэкара 17 ст.); с-ая соль — падвойная соль віннай кіслаты.

**СЕГНЕТАКЕРА́МІКА** [ад *сегнета(вы)* + *кераміка*] — керамічныя матэрыялы, якія маюць уласцівасці *сегнетаэлектрыкаў*.

# С

**СЕГНЕТАЭЛЕ́КТРЫКІ** [ад *сегнета(вы) + электрык*] — цвёрдыя целы, электрычная *палярызацыя* якіх можа існаваць і без знешняга ўплыву.

**СЕГРЭГАВА́ЦЬ** (лац. segregare = аддзяляць) — дзяліць што-н. на групы, катэгорыі, гатункі; класіфікаваць.

**СЕГРЭГА́ЦЫЯ** (лац. segregatio = аддзяленне) — 1) адна з форм расавай *дыскрымінацыі*, звязаная з абмежаваннем у правах па матывах расавай ці нацыянальнай прыналежнасці, напр. з прымусовым адасабленнем неграў ад белых; 2) тое, што і *ліквацыя*.

**СЕГУ́Н** (яп. siogun) — тытул вярхоўнага военачальніка ў Японіі ў 1192—1867 гг.

**СЕДА́Н** (англ. sedan, ад Sedan = назва фр. горада) — кузаў легкавога аўтамабіля з чатырма дзвярамі і двума або трыма радамі сядзенняў.

**СЕДАТЫ́ЎНЫ** (п.-лац. sedativus = які заспакойвае) — які мае адносіны да лекавых сродкаў заспакойлівага дзеяння на цэнтральную нервовую сістэму.

**СЕ́ДУМ** (н.-лац. sedum) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых з сакаўным лісцем і чырванаватымі, белаватымі або жоўтымі кветкамі, якая паходзіць з Мексікі; на Беларусі вырошчваецца ў пакаёвых умовах.

**СЕДЫМЕ́НТ** (лац. sedimentum = асяданне) — 1) *хім.* асадак; 2) *геал.* адклад; глей.

**СЕДЫМЕНТАГЕНЕ́З** (ад лац. sedimentum = асяданне + *-генез*) — працэс накаплення і канчатковага асядання асадкаў у водным асяроддзі.

**СЕДЫМЕНТАЛО́ГІЯ** (ад лац. sedimentum = асяданне + *-логія*) — раздзел *геалогіі*, які вывучае механізм узнікнення асадачных парод.

**СЕДЫМЕНТА́ЦЫЯ** (ад лац. sedimentum = асяданне) — 1) асяданне завіслых у вадкасці цвёрдых часцінак пад уздзеяннем сілы цяжару; 2) сукупнасць працэсаў нагрувашчвання адкладаў у водным асяроддзі.

**СЕДЭНТА́РНЫ** (лац. sedentarius) — які сядзіць на дне або прымацаваны да водных прадметаў (аб водных жывёлах).

**СЕЗА́М** (гр. sesamon) — тое, што і *кунжут*.

**СЕЗО́Н** (фр. saison) — 1) адна з чатырох пор года (напр. летні с.); 2) частка года, найбольш прыдатная да якой-н. работы, адпачынку (напр. с. жніва, тэатральны с., купальны с.) або звязаная з якімі-н. пастаяннымі з'явамі прыроды (напр. с. дажджоў).

**СЕ́ІД** (ар. sejid = князь, пан) — пачэсны тытул мусульманіна, які прэтэндуе на паходжанне ад нашчадкаў прарока Магамета.

**СЕ́ЙБА** (н.-лац. ceiba) — дрэва сям. бамбаксавых з пальчатаскладаным лісцем, пашыранае ў трапічнай Амерыцы; дае *капок*.

**СЕЙВА́Л** (англ. seiwhale) — воднае млекакормячае сям. паласацікаў даўжынёй да 18 м; івасёвы кіт.

**СЕЙМ** (польск. sejm) — 1) саслоўна-прадстаўнічы орган у старажытнай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; сход гараджан і шляхты на Беларусі ў 14—16 ст.;

2) назва парламента ў некаторых дзяржавах, напр. у Польшчы, Фінляндыі.

**СЕЙМУ́РЫЯ** (н.-лац. seymouria, ад Seymour = назва горада ў ЗША) — вымерлае земнаводнае падкласа *батрахазаўраў*, якое жыло ў канцы *палеазою*.

**СЕ́ЙНЕР** (англ. seiner, ад seine = кашалькові невад) — марское рыбалоўнае судна невялікіх памераў.

**СЕЙСМА-** (гр. seismos = ваганне, землетрасенне) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «звязаны з ваганнямі зямной кары, землетрасеннямі».

**СЕЙСМАГЕАЛО́ГІЯ** (ад *сейсма- + геалогія*) — навука, якая вывучае геалагічныя працэсы, што суправаджаюць землетрасенні, а таксама выкарыстанне геалагічных дадзеных для вызначэння сейсмічна небяспечных раёнаў.

**СЕЙСМАГРА́МА** (ад *сейсма- + -грама*) — папяровая стужка з запісам ваганняў зямной кары, зробленым пры дапамозе *сейсмографа*.

**СЕЙСМАГРА́ФІЯ** (ад *сейсма- + -графія*) — аўтаматычны запіс ваганняў зямной кары пры дапамозе *сейсмографа*.

**СЕЙСМАІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *сейсма- + ізаляцыя*) — абарона збудаванняў ад землетрасенняў шляхам размяшчэння над фундаментамі дэмпферных праслоек.

**СЕЙСМАКАРАТА́Ж** (ад *сейсма- + каратаж*) — каратаж, заснаваны на вымярэнні хуткасцей *сейсмічных* хваляў у свідравінах.

**СЕЙСМАКАРДЫЯГРА́МА** (ад *сейсма- + кардыяграма*) — графічны запіс страсенняў цела, якія выклікаюцца скарачэннямі сэрца.

**СЕЙСМАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *сейсма- + кардыяграфія*) — метад графічнай рэгістрацыі механічных праяўленняў дзейнасці сэрца шляхам запісу *сейсмічнага* эфекту.

**СЕЙСМАЛО́ГІЯ** (ад *сейсма- + -логія*) — раздзел *геафізікі*, які вывучае ваганні зямной кары і з'явы, з якімі яны звязаны.

**СЕЙСМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *сейсма- + -метрыя*) — раздзел *сейсмалогіі*, які распрацоўвае метады вымярэння ваганняў зямной кары.

**СЕЙСМАНА́СТЫІ** (ад *сейсма- + настыі*) — рухі органаў раслін пры датыканні да іх або страсенні (напр. лістоў мімозы).

**СЕЙСМАСКО́П** (ад *сейсма- + -скоп*) — прыбор, які адзначае час першага штуршка пры ваганнях зямной кары, а таксама яго напрамак.

**СЕЙСМАСТА́НЦЫЯ** (ад *сейсма- + станцыя*) — спецыяльнае збудаванне з апаратурай для прыёму і рэгістрацыі сейсмічных хваляў.

**СЕЙСМАТЭКТО́НІКА** (ад *сейсма- + тэктоніка*) — навуковая дысцыпліна, якая вывучае геалагічныя ўмовы ўзнікнення землетрасенняў.

**СЕ́ЙСМІКА** (ад гр. seismos = землетрасенне) — раздзел *фізікі*, які вывучае ваганні глебы якой-н. мясцовасці, схільнасць дадзенай тэрыторыі да землетрасенняў.

**СЕЙСМІ́ЧНЫ** (ад *сейсміка*) — звязаны з землетрасеннямі; прызначаны для вывучэння ваганняў зямной паверхні.

# С

**СЕЙСМО́ГРАФ** (ад *сейсма-* + *-граф*) — прыбор для аўтаматычнай рэгістрацыі ваганняў зямной паверхні.

**СЕЙСМО́ЛАГ** (ад *сейсмалогія*) — спецыяліст у галіне сейсмалогіі.

**СЕЙСМО́МЕТР** (ад *сейсма-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння зрухаў пластоў глебы, частак збудаванняў пры ваганнях зямной кары.

**СЕЙФ** (англ. safe = бяспечны, надзейны) — 1) незгаральная металічная шафа для захоўвання сакрэтных папер, грошай, дакументаў; 2) памяшканне з такімі шафамі ў *банках*.

**СЕ́ЙШЫ** (фр. seiches) — стаячыя хвалі ў закрытых водных басейнах (азёрах, унутраных морах), калі адбываецца вагальны рух усёй масы вады, а паверхня вадаёма набывае ўхіл то ў адзін, то ў другі бок.

**СЕ́КАНД-ХЭНД** (англ. second-hand, ад second = другі + hand = рука) — 1) ужываны, стары, паношаны (прадмет, кніга, рэч); 2) з другіх рук (інфармацыя, звесткі і г.д.).

**СЕ́КАНС** (лац. secans = сякучы) — *мат.* адна з трыганаметрычных функцый вугла, роўная ў прамавугольным трохвугольніку адносінам *гіпатэнузы* да *катэта*, які прылягае да гэтага вугла.

**СЕКА́ТАР** (фр. sécateur, ад лац. secare = рэзаць) — вялікія садовыя нажніцы, якімі абразаюць галінкі дрэў і кустоў.

**СЕКВЕ́НЦЫЯ** (лац. sequentia = праходжанне) — 1) паўтарэнне якога-н. музычнага матыву па ступенях гамы ўверх ці ўніз; 2) разнавіднасць сярэдневяковых каталіцкіх песнапенняў, якія першапачаткова ўваходзілі ў грыгарыянскі *харал*.

**СЕКВЕ́СТР** (лац. sequestrum) — 1) забарона ці абмежаванне, якое накладваецца дзяржаўнымі ўладамі на карыстанне якой-н. маёмасцю; 2) *мед.* участак амярцвелай тканкі, які аддзяліўся ад здаровай.

**СЕКВЕСТРАВА́ЦЬ** (п.-лац. sequestrare) — накладваць на што-н. *секвестр*.

**СЕКВЕСТРА́ТАР** (польск. sekwestrator, ад п.-лац. sequestrator) — той, хто праводзіць *секвестрацыю*.

**СЕКВЕСТРА́ЦЫЯ** (п.-лац. sequestratio) — 1) налажэнне *секвестру* на што-н.; 2) *мед.* аддзяленне амярцвелай тканкі ад здаровай.

**СЕКВО́Я** (н.-лац. sequoia, ад індз. Sequoyah = імя правадыра племені чырокаў) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. таксодыевых, пашыранае ў гарах Паўн. Амерыкі; можа дасягаць гіганцкіх памераў; дае каштоўную драўніну.

**СЕКВОЯДЭНДРО́Н** (ад *секвоя* + *-дэндрон*) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. таксодыевых з прамым стройным ствалом, якое расце ў Каліфорніі і можа дасягаць гіганцкіх памераў (да 120 м вышыні, 10 м у дыяметры); мамантавае дрэва.

**СЕКРЭТЭ́Р** (фр. secrétaire) — кніжная паліца з адкідной або высоўнай дошкай, якая замяняе стол.

**СЕКС** (лац. sexus = пол) — сукупнасць псіхічных рэакцый, перажыванняў і ўчынкаў, звязаных з пра-

яўленнем і задавальненнем палавых пачуццяў.

**СЕКСАГАНА́ЛЬНЫ** (ад лац. sex = шэсць + гр. gonia = вугал) — шасцівугольны.

**СЕКСАЛО́ГІЯ** (ад *секс* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае праблемы палавога жыцця.

**СЕКСАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *секс* + *паталогія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае і лечыць захворванні, звязаныя з парушэннямі палавога жыцця.

**СЕКСАПАТО́ЛАГ** (ад *сексапаталогія*) — спецыяліст у галіне сексапаталогіі.

**СЕКСАПІ́ЛЬНЫ** (ад англ. sex appeal = фізічная прывабнасць) — прывабны ў сексуальных адносінах.

**СЕКСДУ́КЦЫЯ** (ад лац. sexus = пол + ductio = правядзенне) — перанос генетычнага матэрыялу ад адной бактэрыі да другой у працэсе *кан'югацыі*.

**СЕКСО́ЛАГ** (ад *секс* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *сексалогіі*.

**СЕ́КСТА** (лац. sexta = шостая) — 1) шостая ступень дыятанічнай *гамы*; 2) інтэрвал паміж дадзенай ступенню і шостай ад яе ў дыятанічнай гаме.

**СЕКСТАКО́РД** (ад лац. sextus = шосты + *акорд*) — музычны акорд з трох гукаў, які ўключае *інтэрвалы, тэрцыі* і *сексты*.

**СЕКСТА́НТ** (лац. sextans, -ntis = шостая частка, ад sex = шэсць) — вугламерны інструмент, які выкарыстоўваецца ў мараходстве і авіяцыі.

**СЕКСТЫЛЬЁН** (фр. sextillon) — лік, які складаецца з адзінкі з 21 нулём (у Англіі, Германіі з 36 нулямі).

**СЕКСТЫ́НА** (фр. sextine, ад лац. sextus = шосты) — шасцірадковы верш, у якім чатыры радкі з перакрыжаванай рыфмоўкай і два радкі з сумежнай рыфмоўкай.

**СЕКСТЭ́Т** (ням. Sextett, ад лац. sextus = шосты) — 1) музычны твор для шасці галасоў або інструментаў; 2) калектыў выканаўцаў з шасці чалавек; аркестр з шасці інструментаў.

**СЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад лац. sexualis = палавы) — павышаная палавая пачуццёвасць.

**СЕКСУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *сексуальны*) — праяўленне і задавальненне палавых пачуццяў.

**СЕКСУА́ЛЬНЫ** (лац. sexualis, ад sexus = пол) — палавы, звязаны з палавымі адносінамі.

**СЕ́КТА** (лац. secta = вучэнне, напрамак, школа) — 1) рэлігійная група, якая адкалолася ад пануючай царквы; 2) *перан.* група асоб, якая замкнулася ва ўласных вузкіх інтарэсах.

**СЕКТА́НТ** (ад *секта*) — 1) паслядоўнік якой-н. рэлігійнай секты; 2) *перан.* чалавек, які вылучаецца вузкімі інтарэсамі якой-н. замкнутай групы.

**СЕКТА́НЦТВА** (ад *сектант*) — 1) агульная назва рэлігійных груп, якія дзейнічаюць унутры тых ці іншых рэлігій або веравызнанняў як вынік апазіцыі да іх; прыналежнасць да такой групы *(секты)*; 2) вузкасць і дагматычнасць поглядаў у асоб, якія замкнуліся ў сваіх групавых інтарэсах.

# С

**СЕ́КТАР** (лац. sector) — 1) *мат.* частка плоскай фігуры, абмежаваная дугой і радыяльнымі лініямі (напр. с. круга); 2) частка якой-н. плошчы, абмежаваная радыяльнымі лініямі (напр. с. стадыёна); 3) частка народнай гаспадаркі, якая мае пэўныя эканамічныя і сацыяльныя прыметы (напр. кааператыўны с. у сельскай гаспадарцы); 4) аддзел установы або арганізацыі, які мае пэўную спецыялізацыю; 5) участак сістэмы кіравання самалёта, карабля і інш.

**СЕКУЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. sécularisation, ад лац. saecularis = свецкі) — 1) перадача царкоўнай і манастырскай маёмасці ва ўласнасць дзяржавы; 2) вылучэнне чаго-н. з царкоўнага падпарадкавання і перадача свецкаму, грамадзянскаму; 3) *перан.* вызваленне ад уплыву рэлігіі ў грамадскай і творчай дзейнасці.

**СЕКУ́НДА** (лац. secunda) — 1) прамежак часу, роўны 1/60 часткі *мінуты*, ці вугла, роўны 1/3600 *градуса*; 2) *муз.* другая ступень *гамы*, а таксама інтэрвал паміж двума суседнімі гукамі гэтай гамы; 3) другі інструмент і яго партыя ў аркестры.

**СЕКУНДАКО́РД** (ад *секунда* + *акорд*) — трэцяе абарачэнне *септакорда*.

**СЕКУНДАМЕТРЫ́СТ** (ад *секунда* + гр. metreo = мераю) — асоба, якая на спартыўных спаборніцтвах вядзе ўлік часу пры дапамозе *секундамера*.

**СЕКУНДА́НТ** (лац. secundans, -ntis = які садзейнічае, дапамагае) — 1) адзін з двух сведак і пасрэднікаў на дуэлі; 2) памочнік удзельніка спартыўнага спаборніцтва (у боксе, шахматах і інш.).

**СЕКУНДА́РНЫ** (лац. secundarius) — другасны.

**СЕКУ́НД-МАЁР** (ад лац. secundus = другі + *маёр*) — афіцэрскае званне ў рускай арміі 18 ст., якое пазней адпавядала званню *капітана*.

**СЕКУРЫНЕ́ГА** (н.-лац. securinega, ад лац. securia = сякера + nego = супрацьстаю) — кустовая расліна сям. малачаевых з простым цэльным лісцем і дробнымі зеленавата-жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і, умераных і субтрапічных абласцях Азіі, Афрыкі і Паўд. Амерыкі; лекавая; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СЕ́КЦЫЯ** [1] (лац. sectio = разразанне, раздзяленне) — 1) аддзел установы ці арганізацыі з пэўнай спецыялізацыяй (напр. с. прозы, с. абутку ва універмагу); 2) група ўдзельнікаў з'езда, канферэнцыі, нарады, якая працуе над пэўным колам пытанняў; 3) частка якога-н. збудавання, машыны, канструкцыі (напр. с. трубаправода).

**СЕ́КЦЫЯ** [2] (лац. sectio = разразанне, раздзяленне) — *мед.* анатаміраванне, рассячэнне (напр. с. трупа, с. вены).

**СЕЛАГІНЕ́ЛА** (н.-лац. selaginella, ад лац. selago = назва расліны) — травяністая расліна класа плывунападобных з чатырохрадна размешчаным лісцем, пашыраная пераважна ў тропіках.

**СЕЛАДО́Н** (фр. céladon, ад Celadon = імя героя рамана фр. пісьменніка 17 ст. д'Юрфэ «Астрэя») — 1) *уст.* аматар заляцацца

да жаичын; 2) від фарфоравых вырабаў з шаравата-зеленаватым глазураваннем.

**СЕЛА́ХІІ** (гр. selachoi) — група марскіх драпежных рыб атрада акулападобных.

**СЕЛЕВІ́НІЯ** (н.-лац. selevinia) — млекакормячае атрада грызуноў, знешне падобнае на мыш, пашыранае ў пустынях Казахстана.

**СЕЛЕ́КТАР** (лац. selector = сарціроўшчык) — электрамеханічны апарат для прыёму сігналаў выклікy ў тэлефоннай сувязі чыгункі, будоўлі і інш.; с. і м п у л ь с а ў — устройства для вылучэння імпульсаў пэўнай велічыні або працягласці з наяўнай паслядоўнасці імпульсаў.

**СЕЛЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *селектыўны*) — выбіральнасць, здольнасць рабіць адбор, напр. у радыётэхніцы — здольнасць прыёмніка выдзяляць сігнал патрэбнай радыёстанцыі з вялікай колькасці сігналаў.

**СЕЛЕКТЫ́ЎНЫ** (фр. selectif, ад лац. selectus = адабраны, выбраны) — 1) здольны рабіць адбор; выбіральны; 2) заснаваны на здольнасці рабіць адбор (напр. пры ачыстцы нафтапрадуктаў).

**СЕЛЕ́КЦЫЯ** (лац. selectio = адбор) — 1) штучны адбор у сельскай гаспадарцы для вывядзення лепшых парод жывёл і сартоў раслін; 2) навука аб вывядзенні лепшых парод жывёл і сартоў раслін; 3) *тэх.* вылучэнне карысных сігналаў на фоне перашкод у каналах сувязі.

**СЕЛЕ́Н** (н.-лац. selenium, ад гр. selene = месяц) — хімічны элемент, шэра-чорны металоід, які выкарыстоўваецца пры вырабе фотаэлементаў і шкла.

**СЕЛЕ́НА** (гр. Selene = імя багіні, якая ўвасабляла Месяц у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *паэт.* Месяц.

**СЕЛЕНАГРА́ФІЯ** (ад гр. selene = Месяц + *-графія*) — раздзел *астраноміі*, які займаецца апісаннем паверхні Месяца.

**СЕЛЕНАДЭ́ЗІЯ** (ад гр. selene = Месяц + daizo = падзяляю) — раздзел *астраноміі*, які вывучае форму і памеры Месяца.

**СЕЛЕНАЛО́ГІЯ** (ад гр. selene = Месяц + *-логія*) — раздзел *планеталогіі*, які вывучае будову і хіміка-мінералагічны састаў Месяца.

**СЕЛЕНА́СТРУМ** (н.-лац. selenastrum) — каланіяльная зялёная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**СЕЛЕНАЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад гр. selene = Месяц + *цэнтрычны*) — калямесячны (напр. с-ая арбіта).

**СЕЛЕНІ́ДЫ** (ад *селен* + гр. eidos = выгляд) — хімічныя злучэнні селену з металамі; выкарыстоўваюцца як паўправадніковыя матэрыялы.

**СЕЛЕНІ́Т** (гр. selenites = месячны камень) — мінерал класа *сульфатаў*, разнавіднасць гіпсу залацiста-жоўтага або белага колеру, што ідзе на мастацка-бытавыя вырабы.

**СЕЛЕНО́ІД** (ад гр. selene = Месяц + *-оід*) — паверхня, ва ўсіх сваіх пунктах перпендыкулярная адвеснай лініі на Месяцы, якая абмяжоўвае аб'ём прасторы, дакладна роўны аб'ёму Месяца.

# С

**СЕЛЬ** (ар. sail = плынь) — гразекаменны бурны паток з гор, які ўтвараецца ў выніку ліўняў, раставання снегу і іншых прычын.

**СЕ́ЛЬВА** (ісп. selva, ад лац. silva = лес) — абшар вільготных трапічных вечназялёных лясоў у Паўд. і Цэнтр. Амерыцы.

**СЕЛЬВА́СЫ** (ісп. selvas, *мн.* ад selva < лац. silva = лес) — тое, што і *сельва*.

**СЕ́ЛЬГА** (фін. selka = спіна, краж) — горная града ў Фінляндыі.

**СЕЛЬДЭРЭ́Й** (іт. sellero, ад гр. selinon = пятрушка) — агародная расліна сям. парасонавых, пашыраная ў розных кліматычных зонах; лісце і карэнне яе выкарыстоўваецца як прыправа да ежы.

**СЕЛЬСІ́Н** [англ. selsyn, ад self = сам + гр. syn(chronos) = адначасовы] — самасінхранізавальная электрычная машына для перадачы на адлегласць інфармацыі аб вугле павароту вала другой машыны; выкарыстоўваецца ў сістэмах *аўтаматыкі* і *тэлемеханіцы*.

**СЕ́ЛЬТЭРСКІ** (ад ням. Selters = назва сяла і крыніцы каля яго ў Германіі); с - а я  в а д а — мінеральная саляна-вуглякіслая вада.

**СЕЛЬФА́КТАР** (англ. self-actor, ад self = сам + лац. actor = які дзейнічае) — тое, што і *мюль-машына*.

**СЕ́МА** (гр. sema = знак) — *лінгв.* сэнсавая адзінка; семантычны множнік.

**СЕМА́НТЫКА** (фр. semantique, ад гр. semantikos = які абазначае) — 1) значэнне, сэнс слова або выразу; 2) раздзел мовазнаўчай навукі, які даследуе значэнні слоў.

**СЕМАНТЫ́ЧНЫ** (гр. semantikos = які абазначае) — які мае адносіны да *семантыкі*.

**СЕМАСІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. semasia = значэнне, сэнс + *-логія*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае значэнні слоў і выразаў і змяненне гэтых значэнняў у працэсе развіцця мовы.

**СЕМАФО́Р** (ад гр. sema = знак + *-фор*) — 1) сігнальнае прыстасаванне на чыгунцы, якое паведамляе, што пуць свабодны або заняты; 2) зрокавая сігналізацыя паміж суднамі або паміж суднам і берагам пры дапамозе сігнальных прыстасаванняў.

**СЕМЕ́МА** (ад гр. semaino = абазначаю) — адзінка моўнага зместу (сэнсу), суадносная з марфемай, сукупнасць *сем*.

**СЕМЕ́СТР** (лац. semestris = шасцімесячны) — навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых або сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

**СЕМІЁТЫКА** (гр. semeiotikos = звязаны са знакам) — 1) навука аб розных сістэмах знакаў, якія выкарыстоўваюцца для перадачы *інфармацыі*; 2) раздзел *медыцыны*, што вывучае прыкметы хвароб.

**СЕМІНА́Р** (лац. seminarium = рассаднік) — 1) практычныя заняткі, арганізаваныя ў вышэйшай навучальнай установе па групах; абмеркаванне студэнцкіх ці аспірантцкіх дакладаў, самастойных работ; 2) групавыя заняткі, арганізаваныя для спецыяльнай падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі або палітычнай адукацыі (напр. с. настаўнікаў).

**СЕМІНА́РЫЯ** (лац. seminarium = рассаднік) — 1) сярэдняя духоўная навучальная ўстанова; 2) сярэдняя навучальная ўстанова для падрыхтоўкі настаўнікаў у царскай Расіі і некаторых іншых краінах.

**СЕМІНО́МА** (ад лац. semen, -minis = семя + *-ома*) — пухліна палавых залоз пераважна ў маладых мужчын, звычайна злаякасная.

**СЕМІТАЛО́ГІЯ** (ад *семіты* + *-логія*) — сукупнасць навук, якія вывучаюць семіцкія мовы, культуры, літаратуры і гісторыю семітамоўных народаў.

**СЕМІТО́ЛАГ** (ад *семіты* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *семіталогіі*.

**СЕМІ́ТЫ** (ад гр. Sem, ад ст.-яўр. Šem = імя аднаго з сыноў біблейскага Ноя) — тэрмін, які прымяняецца ў адносінах да народаў, што размаўляюць на семіцкіх мовах (арабаў, сірыйцаў, яўрэяў і інш.).

**СЕМІЯГРА́ФІЯ** (ад гр. semeion = знак + *-графія*) — нотапісанне.

**СЕМІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. semeion = знак + *-логія*) — навука, якая вывучае найбольш агульныя ўласцівасці знакаў і знакавых сістэм.

**СЕН** (яп. sen) — разменная манета Японіі, роўная 1/100 *іены*, Інданезіі, роўная 1/100 *рупіі*.

**СЕНА́Т** (лац. senatus) — 1) вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Стараж. Рыме рэспубліканскага перыяду; 2) вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова ў царскай Расіі; 3) верхняя заканадаўчая палата парламента ў ЗША, Францыі і некаторых іншых краінах.

**СЕНА́ТАР** (лац. senator) — член *сената*.

**СЕНБЕРНА́Р** (фр. Saint-Bernard = назва манастыра ў Альпах) — парода вялікіх дужых, пераважна даўгашэрсных сабак, якія ў асноўным выкарыстоўваюцца як вартавыя сабакі.

**СЕНДА́СТ** (англ. sendust) — магнітнамяккі высокапранікальны сплаў жалеза з крэмніем і алюмініем.

**СЕНЕ́ГА** (англ. senega) — травяністая расліна сям. крапінцовых, якая расце ў Паўн. Амерыцы; выкарыстоўваецца ў медыцыне як адхарквальны сродак.

**СЕНЕША́ЛЬ** (фр. sénéchal) — 1) кіраўнік палацавай гаспадаркі ў франкскай дзяржаве; 2) службовая асоба ў феадальнай Францыі, якая загадвала юстыцыяй і ваеннымі справамі акругі.

**СЕНІ́ЛЬНЫ** (лац. senilis) — *мед.* старэчы (напр. с. псіхоз).

**СЕНПО́ЛІЯ** (н.-лац. saintpaulia) — травяністая расліна сям. геснерыевых з разеткамі сакавітага апушанага круглага лісця і белымі, ружовымі, фіялетавымі або сінімі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў горных лясах трапічнай Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; узумбарская фіялка.

**СЕНСА́ЦЫЯ** (фр. sensation, ад лац. sensus = пачуццё, адчуванне) — 1) моцнае ўражанне ад якой-н. падзеі, паведамлення; 2) з'ява, паведамленне, якое выклікае ўсеагульную цікавасць, узбуджэнне.

# C

**СЕНСІ́БЕЛЬНЫ** (лац. sensibilis = адчувальны) — які ўспрымаецца пры дапамозе пачуццяў.

**СЕНСІБІЛІЗАВА́ЦЬ** (ад лац. sensibilis = адчувальны) — рабіць *сенсібілізацыю* (фатаграфічных матэрыялаў).

**СЕНСІБІЛІЗА́ТАР** (фр. sensibilisateur) — рэчыва, якое павялічвае святлоадчувальнасць кіно-, фотаплёнак, фатаграфічных пласцінак да святла пэўных колераў.

**СЕНСІБІЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. sensibilisation, ад лац. sensibilis = адчувальны) — 1) павышэнне адчувальнасці арганізмаў, іх клетак і тканак да ўздзеяння якіх-н. рэчываў; ляжыць у аснове шэрагу алергічных захворванняў (параўн. *талерантнасць* 2); 2) павелічэнне адчувальнасці кіна- і фотаплёнак, фатаграфічных пласцінак да некаторых каляровых прамянёў.

**СЕНСІ́ЛЫ** (лац. sensilis = які адчувае) — чуллівыя ўтварэнні, якія выконваюць у беспазваночных ролю органаў дотыку, смаку, нюху.

**СЕНСІМАНІ́ЗМ** [ад фр. C.Saint-Simon = прозвішча фр. мысліцеля (1760—1825)] — канцэпцыя утапічнага сацыялізму, высунутая Сен-Сімонам.

**СЕНСІТАГРА́МА** (ад с.-лац. sensitivus = адчувальны + *-грама*) — шкала пачарненняў, якія ўтвараюцца на фотаматэрыяле пад уздзеяннем рознай колькасці асвятлення пры экспаніраванні яго ў *сенсітометры*.

**СЕНСІТАМЕ́ТРЫЯ** (ад с.-лац. sensitivus = адчувальны + *-метрыя*) — вымярэнне святлоадчувальнасці і кантрастнасці эмульсій фотаплёнак і фотапаперы.

**СЕНСІТО́МЕТР** (ад с.-лац. sensitivus = адчувальны + *-метр*) — прыбор для экспаніравання эмульсійных слаёў фотаматэрыялаў пры праверцы іх святлоадчувальнасці і кантрастнасці.

**СЕНСІТЫ́ЎНЫ** (с.-лац. sensitivus) — здольны адчуваць; чуллівы.

**СЕНСО́РНЫ** (лац. sensorium = орган пачуццяў, ад sensus = пачуццё, адчуванне) — звязаны з пачуццямі, з органамі пачуццяў; с - ы я н е р в о в ы я   в а л о к н ы — валокны, па якіх узбуджэнне перадаецца з органаў і тканак у цэнтральную нервовую сістэму (параўн. *маторны* 2).

**СЕНСУАЛІ́ЗМ** (фр. sensualisme, ад лац. sensus = пачуццё, адчуванне) — кірунак у тэорыі пазнання, які лічыць адчуванні, пачуцці галоўнай крыніцай пазнання.

**СЕНСУА́ЛЬНЫ** (п.-лац. sensualis = здольны адчуваць, ад лац. sensus = пачуццё, адчуванне) — заснаваны на пачуццях, адчуваннях.

**СЕНТА́ВА** (ісп., парт. centavo, ад лац. centum = сто) — разменная манета Аргенціны, Гватэмалы, Кубы, Мексікі, Партугаліі і некаторых іншых краін, роўная 1/100 іх нацыянальных грашовых адзінак.

**СЕНТЫ́МА** (ісп. centimo, ад лац. centum = сто) — разменная манета Іспаніі, Венесуэлы, Коста-Рыкі, Парагвая, Гаіці, роўная 1/100 іх нацыянальных грашовых адзінак.

**СЕНТЫМЕНТАЛІ́ЗМ** (фр. sentimentalisme, ад sentiment = пачуццё) — 1) кірунак у еўрапейскай і

амерыканскай літаратуры і мастацтве канца 18 — пач. 19 ст., які характарызаваўся асаблівай увагай да перажыванняў чалавека і вызначаўся чуллівасцю; 2) празмерная чуллівасць, уражлівасць.

**СЕНТЫМЕНТА́ЛЬНЫ** (фр. sentimental) — 1) які мае адносіны да *сентыменталізму* як літаратурнамастацкага кірунку; 2) залішне чуллівы, пяшчотны, здольны лёгка расчуліцца.

**СЕНТЭ́НЦЫЯ** (лац. sententia = думка, меркаванне) — выказванне павучальнага характару, мараль.

**СЕНТЭ́СІМА** (ісп. centésimo, ад лац. centum = сто) — разменная манета Панамы, Уругвая, Чылі, роўная 1/100 іх нацыянальных грашовых адзінак.

**СЕНЬЁР** [1] (лац. senior = старэйшы) — землеўладальнік у сярэдневяковай Зах. Еўропе, што меў неабмежаваную ўладу на тэрыторыі, якой валодаў; вярхоўны феадал *(сюзерэн)* у адносінах да сваіх *васалаў*.

**СЕНЬЁР** [2] (ісп. señor, ад лац. senior = старэйшы) — форма ветлівага звароту да мужчыны ў Іспаніі.

**СЕНЬЁРА** (ісп. señora) — форма ветлівага звароту да жанчыны ў Іспаніі.

**СЕНЬЯРА́Т** (с.-лац. senioratus, ад лац. senior = старэйшы) — 1) форма спадчыннасці, паводле якой трон або маёмасць пераходзіць самаму старшаму члену роду; 2) улада *сеньёра* ў сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**СЕНЬЯРЫ́ТА** (ісп. señorita, ад señora = сеньёра) — форма ветлівага звароту да дзяўчыны ў Іспаніі.

**СЕНЬЯРЫ́Я** (фр. seigneurie) — комплекс феадальнай зямельнай уласнасці і звязаных з ёю правоў *сеньёра* на сялян у сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**СЕНЬЯРЭ́Н-КАНВЕ́НТ** (ад лац. senior = старэйшы + conventus = сход) — 1) сход прадстаўнікоў дэлегацый у радзе краін, на якім вырашаюцца розныя арганізацыйныя пытанні праходзячага з'езда; 2) савет старэйшын у *парламенце* рада краін, што складаецца з лідэраў палітычных партый.

**СЕПАРА́ТАР** (лац. separator = аддзяліцель) — апарат для выдзялення якога-н. рэчыва з саставу другога (напр. с. для малака).

**СЕПАРА́ТНЫ** (лац. separatus = аддзелены) — 1) асобны, адасоблены (напр. с-ая група); 2) які вядзецца, заключаецца без ведама і згоды саюзнікаў (напр. с. мір).

**СЕПАРАТЫ́ЗМ** (фр. separatisme, ад лац. separatus = аддзелены) — 1) імкненне да аддзялення, адасаблення, да самастойных ад грамадства дзеянняў; 2) рух нацыянальных меншасцей за ўтварэнне самастойных дзяржаў.

**СЕПАРАТЫ́СТ** (фр. séparatiste, ад лац. separatus = аддзелены) — прыхільнік *сепаратызму*.

**СЕПАРА́ЦЫЯ** (лац. separatio = аддзяленне) — 1) аддзяленне аднаго рэчыва ад другога, выдзяленне аднаго рэчыва з саставу другога; 2) адасабленне ад дзяржавы часткі яе тэрыторыі.

**СЕПАРЫ́РАВАЦЬ** (лац. separare = аддзяляць) — аддзяляць адно рэчыва ад другога пры дапамозе *сепаратара*.

# С

**СЕПЕДО́НІЙ** (н.-лац. sepedonium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на шапкавых *базідыяльных* грыбах.

**СЕПТАБАЗІ́ДЫЙ** (н.-лац. septobasidium) — *базідыяльны* грыб сям. септабазідыевых, які развіваецца на галінках і лісці раслін, пашкоджаных насякомымі сям. шчытовак.

**СЕПТАРЫЁЗЫ** (ад *сенторыя*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца патагенным грыбам септорыя.

**СЕПТО́РЫЯ** (н.-лац. septoria) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які паразітуе на злакавых, складанакветных, ясноткавых, ружавых, парасонавых раслінах.

**СЕ́ПТЫ** (лац. septum = перагародка) — перагародкі ў раслінных і жывёльных арганізмах паміж поласцямі або масамі клетак.

**СЕРАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад лац. serum = сыраватка + *дыягностыка*) — вызначэнне груп крыві, распазнаванне захворванняў пры дапамозе імунных сыраватак.

**СЕРА́КІ** (фр. sérac) — ледзяныя зубцы на паверхні ледніка.

**СЕРАЛО́ГІЯ** (ад лац. serum = сыраватка + *-логія*) — раздзел *імуналогіі*, які вывучае ўласцівасці сыраваткі крыві і іх змены пры захворваннях.

**СЕРА́ЛЬ** (фр. sérail, ад тур. seraj < перс. sārāj) — назва палаца і яго ўнутраных пакояў *(гарэма)* у султанскай Турцыі і некаторых іншых краінах Усходу.

**СЕРАПРАФІЛА́КТЫКА** (ад лац. serum = сыраватка + *прафілактыка*) — папярэджанне ўзнікнення інфекцыйнай хваробы ўвядзеннем сыраваткі, у якой змяшчаюцца гатовыя антыцелы супраць гэтай хваробы.

**СЕРАСКІ́Р** (тур. serasker < перс. sär'askär, ад sär = галава + ар. 'askar = воін) — галоўнакамандуючы ў султанскай Турцыі 16—18 ст., з 19 ст. — ваенны міністр.

**СЕРАТАНІ́Н** (ад лац. serum = сыраватка + гр. tonos = напружанне) — біялагічна актыўнае рэчыва, якое рэгулюе абмен рэчываў, дзейнасць нервовай і сардэчна-сасудзістай сістэм.

**СЕРАТЭРАПІ́Я** (ад лац. serum = сыраватка + *тэрапія*) — лячэнне інфекцыйнай хваробы шляхам увядзення хвораму антытаксічнай сыраваткі.

**СЕРАФІ́М** (ст.-яўр. seraphim) — шасцікрылы анёл вышэйшага рангу ў хрысціянскай і іудзейскай міфалогіі.

**СЕРВА-** (англ. serve = абслугоўваць) — першая састаўная частка складаных слоў, што адпавядае паняццям «які аўтаматычна рэгулюе», «які аблягчае ручное кіраванне».

**СЕРВА́Ж** (фр. servage, ад лац. servus = раб) — від феадальнай залежнасці ў радзе краін сярэдневяковай Зах. Еўропы, які характарызаваўся найбольшым абмежаваннем асабістых і грамадзянскіх правоў сялян.

**СЕРВАКАМПЕНСА́ТАР** (ад *серва-* + *кампенсатар*) — прыстасаванне, якое аблягчае пілоту паварот штурвала самалёта, памяншаючы неабходны ціск на ручку.

# С

**СЕРВА́Л** (парт. cerval) — драпежная жывёла сям. кашэчых, якая пашырана ў Афрыцы.

**СЕРВАМАТО́Р** (ад *серва-* + *матор*) — дапаможны рухавік для дыстанцыйнага аўтаматычнага кіравання або рэгулявання машын, апаратаў.

**СЕРВА́НТ** (фр. servante) — *буфет* для пасуды, настольнікаў, сурвэтак і іншай сталовай бялізны.

**СЕРВЕЛА́Т** (фр. cervelas) — сорт вэнджана-варанай каўбасы.

**СЕ́РВЕР** (англ. server, ад serve = падаваць мяч) — гулец, які ўводзіць мяч у гульню ў *тэнісе* і іншых спартыўных гульнях.

**СЕРВІ́З** (фр. service, ад servir = накрываць стол) — поўны набор сталовай ці чайнай пасуды з агульным мастацкім афармленнем на некалькі асоб.

**СЕРВІЛІ́ЗМ** (ад лац. servilis = рабскі) — рабалепства, прыслужніцтва, рабская ўгодлівасць.

**СЕРВІ́ЛЬНЫ** (лац. servilis) — рабалепны, угодлівы.

**СЕРВІРАВА́ЦЬ** (фр. servir) — расстаўляць па пэўных правілах пасуду, стравы, рыхтуючы стол для яды.

**СЕ́РВЫ** (лац. servus = раб) — прыгонныя сяляне ў сярэдневяковай Зах. Еўропе, якія знаходзіліся ў найбольш прыніжаным сацыяльным становішчы.

**СЕРДАЛІ́К** (ад гр. sardion) — мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *халцэдону*, каштоўны камень бледна-ружовага, чырвонага ці аранжавага колеру.

**СЕРО́ЗНЫ** (ад лац. serum = сыватка) — 1) які выдзяляецца абалонкай, што высцілае ўнутраныя паласці цела (брушыну, плеўру і інш.); 2) які мае адносіны да абалонкі, што высцілае ўнутраныя паласці цела і змешчаныя ў іх органы.

**СЕРПАНТА́РЫЙ** (н.-лац. serpentarium, ад лац. serpens, -ntis = змяя) — запаведнік, у якім утрымліваюць ядавітых змей і забіраюць ад іх яд.

**СЕРПАНЦІ́Н** (фр. serpentin, ад лац. serpens, -ntis = змяя) — 1) скрутак доўгай вузкай каляровай папяровай стужкі, якую кідаюць у публіку на балях, карнавалах, маскарадах; 2) *перан.* участкі звілістай горнай дарогі.

**СЕРПЕНЦІ́Н** (ад лац. serpens, -ntis = змяя) — мінерал класа *сілікатаў* белага, зялёнага і іншых колераў з разнастайнымі адценнямі; выкарыстоўваецца як абліцовачны матэрыял і для дэкаратыўных вырабаў.

**СЕРПЕНЦІНІ́Т** (ад *серпенцін*) — метамарфічная ультраасноўная горная парода, складзеная пераважна з серпенціну; сыравіна для вырабу вогнетрывалых матэрыялаў.

**СЕ́РПУЛА** (н.-лац. serpula) — *базідыяльны* грыб сям. каніяфаравых, які расце на апрацаванай драўніне ў пабудовах і ў лясах на павале хвойных і лісцевых дрэў.

**СЕРПУ́ЛА** (н.-лац. serpula) — выкапнёвы кольчаты чарвяк сям. *серпулідаў*, насяляў марскія вадаёмы ў *ардовіку — дэвоне*.

**СЕРПУЛІ́ДЫ** (н.-лац. serpulidae) — сямейства кольчатых чарвей класа многашчацінкавых; пашыраны ў морах, некаторыя жывуць у прэсных вадаёмах пячор Югаславіі.

# С

**СЕРСО́** (фр. cerceau = абруч, ад лац. circus = кола) — гульня з тонкім лёгкім абручом, які падкідаюць і ловяць спецыяльнай палачкай, а таксама прылады для гэтай гульні (абручы і палачкі).

**СЕРТЫФІКА́Т** (фр. certificat, ад лац. certus = верны + facere = рабіць) — 1) пазыковае фінансавае абавязацельства дзяржавы; 2) назва аблігацый спецыяльных дзяржаўных пазык; 3) дакумент са звесткамі пра асартымент, колькасць, якасць тавару, які экспартуецца.

**СЕ́РФІНГ** (англ. surfing) — від воднага спорту, які заключаецца ў тым, што спартсмен на спецыяльнай дошцы, стоячы, слізгаціць па прыбойных хвалях.

**СЕРЫГРА́ФІЯ** (ад гр. serikon = шоўк + *-графія*) — трафарэтны друк, пры якім фарба праціскаецца *ракелем* праз тонкую сетку.

**СЕРЫ́Н** (ад гр. serikon = шоўк) — адна з найбольш пашыраных прыродных амінакіслот, якая ўваходзіць у склад амаль усіх бялкоў.

**СЕРЫЦЫ́Н** (ад лац. sericum = шоўк < гр. serikon) — бялковае рэчыва, якое маецца ў коканах тутавага шаўкапрада.

**СЕРЫЦЫ́Т** (ад лац. sericus = шаўковы < гр. serikon) — мінерал класа сілікатаў, тонкалускаватая з шаўкавістым бляскам або валакністая разнавіднасць каліевай слюды.

**СЕ́РЫЯ** (фр. série, ад лац. series = рад) — 1) рад аднародных прадметаў; паслядоўны рад дзеянняў, падзей, з'яў (напр. с. брашур, с. гімнастычных практыкаванняў); 2) адна з частак вялікага кінафільма; 3) разрад каштоўных папер, дакументаў, абазначаны лічбамі або літарамі (напр. с. і нумар аблігацыі, с. пашпарта).

**СЕРЫЯ́Л** (англ. serial, ад лац. serias = рад) — тэлевізійны фільм, які налічвае многа *серый*.

**СЕРЭНА́ДА** (фр. sérénade, ад іт. serenata = вячэрняя песня) — 1) прывітальная песня ў гонар каханай у сярэдневяковай паэзіі; 2) лірычны музычны твор (гл. таксама альбарада 2), які выконваўся на адкрытым паветры.

**СЕСБА́НІЯ** (н.-лац. sesbania) — травяністая, кустовая або дрэвавая расліна сям. бабовых з жоўтымі, белымі або пурпуровымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках.

**СЕ́СІЯ** (лац. sessio = пасяджэнне) — 1) пасяджэнні прадстаўнічага органа, суда, навуковай або грамадскай арганізацыі; 2) перыяд здачы экзаменаў у ВНУ і тэхнікумах.

**СЕСТО́Н** (ад гр. sestos = прасеяны) — дробныя арганізмы *(планктон)*, якія насяляюць тоўшчу вады, а таксама завешаныя ў вадзе неарганічныя і арганічныя часцінкі (дэтрыт).

**СЕСТОНАФА́ГІ** (ад *сестон* + *фагі*) — водныя жывёлы, якія жывяцца сестонам.

**СЕСТЭ́РЦЫЙ** (лац. sestertius) — старажытнарымская дробная разменная манета, роўная $2\frac{1}{2}$ *асам*; чаканілася з 3 ст. да н.э.

**СЕТКРЭА́ЗІЯ** (н.-лац. setcreasia) — травяністая расліна сям. камялінавых з вузкім лісцем і дробнымі светла-пурпуровымі кветкамі, пашыраная ў Мексіцы і ЗША; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях.

**СЕЎР** (фр. sevres, ад Sevres = назва фр. горада) — мастацкія вырабы буйнейшага ў Францыі фарфоравага завода ў г. Сеўры.

**СЕЦЭРНЕ́НТЫ** (н.-лац. secernentea) — падклас *нематодаў*, чэрві з органамі асязання толькі ў галаўной капсуле; пераважна паразіты раслін, жывёл і чалавека, ёсць глебавыя і прэснаводныя формы.

**СІ**[1] (лац. si) — сёмы гук музычнай *гамы*, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**СІ**[2] (англ. SI, ад System International = міжнародная сістэма) — сістэма адзінак вымярэння фізічных велічынь, прынятая XI Генеральнай канферэнцыяй па мерах і вазе ў 1960 г.; Міжнародная сістэма адзінак.

**СІАЛААДЭНІ́Т** (ад гр. sialon = сліна + aden = залоза) — запаленне слінных залоз.

**СІА́ЛЬ** [ад *сі(ліцый)* + *ал(юміній)*] — знешняя абалонка *літасферы*, якая складаецца пераважна з крэмнію і алюмінію.

**СІАМА́НГ** (малайск. siaman) — чалавекападобная малпа сям. *гібонаў*, якая пашырана на востраве Суматра і паўвостраве Малака.

**СІБАРЫ́Т** (гр. sybarites = жыхар старажытнагрэчаскай калоніі Сібарыс) — распешчаны, раздураны раскошаю чалавек, багаты спешчаны гультай.

**СІБІЛЯ́НТЫ** (лац. sibilans, -ntis = свісцячы) — *лінгв.* пярэднеязычныя фрыкатыўныя зычныя гукі (с, з, ш, ж).

**СІ́БСЫ** (англ. sibs) — патомкі адных бацькоў, родныя браты і сёстры, але не блізняты.

**СІВАПІТЭ́К** (н.-лац. sivapithecus) — вымерлая чалавекападобная *малпа*, рэшткі якой знойдзены ў міяцэнавых адкладах Індыі і Усх. Афрыкі.

**СІВІ́ЛА** (гр. sibylla = прарочыца) — жанчына-прарочыца ў старажытных грэкаў, рымлян, яўрэяў.

**СІГА́РА** (фр. cigare, ад ісп. cigarro) — тое, што і *цыгара*.

**СІГАРЭ́ТА** (фр. cigarette) — тое, што і *цыгарэта*.

**СІГІЛАГРА́ФІЯ** (ад лац. sigillum = пячатка + *-графія*) — тое, што і *сфрагістыка*.

**СІГІЛЯ́РЫІ** (н.-лац. sigillaria, ад лац. sigillaria = адбіткі) — вымерлыя дрэвы аддзела дзеразападобных, якія існавалі ў другой палавіне *палеазою*; мелі калонападобны ствол з укрытай доўгім мечападобным лісцем верхавінай.

**СІ́ГМА** (гр. sigma) — назва літары грэчаскага алфавіта, якая абазначае гук «с», а ў матэматыцы — *суму*.

**СІГНА́Л** (лац. signalis = які падае знак) — 1) умоўны знак, які паведамляе аб чым-н., служыць камандай, распараджэннем і інш. (напр. дарожныя сігналы, с. да атакі); 2) *перан.* папярэджанне аб чым-н. непажаданым; 3) *геад.* драўляная або металічная вышка ў пункце *трыангуляцыі* для ўстаноўкі геадэзічных інструментаў і для візіравання з іншых пунктаў; 4) імпульс або група імпульсаў электрамагнітнай энергіі.

**СІГНАЛАГРА́МА** (ад *сігнал* + *-грама*) — носьбіт інфармацыі са зробленым на ім запісам сігналаў,

напр. магнітафонная стужка, грампласцінка, кінастужка.

**СІГНАЛАГРА́ФІЯ** (ад *сігнал* + *-графія*) — запіс гукавой інфармацыі на магнітафоннай стужцы, грампласцінцы, кінастужцы.

**СІГНАЛІЗАВА́ЦЬ** (ад лац. signalis = які падае знак) — 1) падаваць *сігнал*, паведамляць сігналам што-н., аб чым-н.; 2) *перан.* папярэджваць, паведамляць пра што-н. непажаданае.

**СІГНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. signalis = які падае знак) — 1) падача *сігналаў*, 2) сістэма сігналаў, якая прымяняецца дзе-н.; 3) прыстасаванне для падачы сігналаў.

**СІГНА́ЛЬНЫ** (лац. signalis) — 1) які мае адносіны да *сігналу*, з'яўляецца сігналам; 2) які служыць для падачы сігналаў; с - а я с і с - т э м а — сістэма ўмоўнарэфлекторных сувязей, што ўзнікаюць у кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу пры паступленні ў яе імпульсаў ад знешніх і ўнутраных раздражняльнікаў; с. э к з э м - п л я р — першы гатовы *экзэмпляр* кнігі, які паступае з друкарні ў выдавецтва для подпісу, што дазваляе выпуск тыражу.

**СІГНАТУ́РА** (с.-лац. signatura, ад лац. signare = абазначаць, указваць) — 1) частка *рэцэпта* з указаннем спосабу прыёму лякарства; 2) паслядоўная нумарацыя друкаваных аркушаў у кнізе ці часопісе.

**СІГНІТЫ́ЎНЫ** (ад лац. signum = знак) — выражаны пры дапамозе *сімвалаў* (знакаў).

**СІГНІ́ФІКА** (ад лац. significare = падаваць знак) — кірунак тэарэтычнага мовазнаўства, заснаваны на разглядзе любых моў як знакавых сістэм.

**СІГУРА́НЦА** (рум. siguranţă) — палітычная *паліцыя* ў манархічнай Румыніі; ахранка.

**СІ́ДА** (н.-лац. sida) — травяністая расліна сям. мальвавых з клінападобным лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СІДР** (фр. cidre) — слабае віно, насычанае вуглекіслатой, якое атрымліваецца ў выніку браджэння яблычнага соку.

**СІДЭРАЛІ́Т** (ад гр. sideros = жалеза + *-літ*) — жалезакаменны *метэарыт* з вялікім змяшчэннем сілікатаў і нікелістага жалеза.

**СІДЭРА́ЛЬНЫ** (п.-лац. sideralis) — які мае адносіны да *сідэрацыі*, прызначаны для сідэрацыі.

**СІДЭРАСТА́Т** (ад лац. sidus, -deris = нябеснае свяціла + *-стат*) — прыбор з рухомым плоскім люстэркам, які рухаецца так, што прамяні нябеснага свяціла, адбітыя ад люстэрка, захоўваюць строга вызначаны напрамак і іх можна сабраць у фокусе нерухомага *аб'ектыва*.

**СІДЭРАФІ́ЛЬНЫ** (ад гр. sideros = жалеза + phileo = люблю); с - ы я э л е м е н т ы — хімічныя элементы, якія па геахімічных асаблівасцях блізкія да жалеза (напр. малібдэн, паладзій, плаціна).

**СІДЭРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. siderocystis) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**СІДЭРА́ЦЫЯ** (фр. sidération) — 1) заворванне зялёнай масы бабовых раслін для павышэння ўрадлівасці глебы; 2) арганічнае зялёнае ўгнаенне.

**СІДЭРАЦЭ́ЛІС** (н.-лац. sidérocelis) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**СІДЭРО́З** (гр. sideros = жалеза) — прафесійнае захворванне, якое выклікаецца пылам вокісу жалеза.

**СІДЭРЫ́Т** (гр. siderites = жалезны) — мінерал, *карбанат* жалеза жаўтавата-шэрага або шараватага колеру; жалезны шпат.

**СІДЭРЫТАЛІ́ТЫ** (ад *сідэрыт* + *-літ*) — асадачныя горныя пароды, якія больш чым на палавіну складаюцца з сідэрыту.

**СІДЭРЫ́ЧНЫ** (ад лац. sidus, -deris = нябеснае свяціла) — зорны; с. м е с я ц — прамежак часу, за які Месяц робіць поўны абарот па сваёй арбіце; с. г о д — перыяд поўнага абароту Зямлі вакол Сонца.

**СІЕ́ЛА** (н.-лац. siella) — травяністая расліна сям. парасонавых з перыстым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная па ўсім зямным шары; на Беларусі трапляецца рэдка.

**СІЕ́НА** (іт. Siena = назва італьянскага горада і правінцыі) — цёмна-жоўтая фарба, якая выкарыстоўваецца ў жывапісе.

**СІЕНІ́Т** (ад гр. Syene = старажытнагрэчаская назва егіпецкага горада Асуана) — крышталічная горная парода зярністай будовы, якая складаецца з палявых шпатаў і мінералаў; выкарыстоўваецца для абліцоўкі будынкаў.

**СІЕНІ́Т-ПАРФІ́Р** (ад *сіеніт* + *парфір*) — субвулканічная або жыльная горная парода сіенітавай групы, якая складаецца пераважна з буйных крышталёў калій-натрыевых палявых шпатаў, амфіболу або манаклінная піраксену.

**СІЕ́СТА** (ісп. siesta) — пасляабедзенны адпачынак у Іспаніі, Італіі, краінах Лац. Амерыкі.

**СІЗА́ЛЬ** (ісп. sisal, ад Sisal = назва мексіканскага порта) — грубае валакно, атрыманае з лісця *агавы*, якое выкарыстоўваецца для вырабу канатаў, сетак, шчотак і інш.

**СІЗІ́ГІІ** (гр. syzygia = з'яднанне, сувязь) — агульная назва дзвюх фаз Месяца — маладзіка і поўні, з якімі звязаны вялікія прылівы каля берагоў акіянаў і мораў, а таксама зацьменні Месяца і Сонца.

**СІКАМО́Р** (гр. sykomoros = смакоўніца) — дрэва сям. тутавых з цвёрдай драўнінай і ядомымі пладамі, якое расце пераважна ва Усх. Афрыцы.

**СІКАТЫ́Ў** (лац. siccativus = які высушвае) — рэчыва, якое паскарае высыханне алеяў, фарбаў і лакаў.

**СІКАФА́НТ** (гр. sykophantes) — прафесіянальны даносчык, паклёпнік, шантажыст у Стараж. Афінах.

**СІКО́З** (гр. sykosis) — гнойнае запаленне валасяных мяшочкаў у мужчын пераважна ў вобласці барады і вусоў.

**СІ́КХІ** (санскр. sikch = вучань) — паслядоўнікі *сікхізму*.

**СІКХІ́ЗМ** (ад *сікхі*) — адна з рэлігій у Індыі, што ўзнікла ў пач. 16

ст. як секта *індуізму*, вызнае адзінабожжа, каставую роўнасць *сікхаў* перад богам, адмаўляе ідалапаклонства.

**СІЛ** (англ. sill = парог) — пластападобны *інтрузіў*, які застыў у тоўшчы гарызантальна размешчаных горных парод.

**СІЛА́БА-ТАНІ́ЧНЫ** (ад гр. syllabe = склад + *танічны*); с-ае вершаскладанне — тое, што і *сілаба-тоніка*.

**СІЛА́БА-ТО́НІКА** (ад гр. syllabe = склад + *тоніка*) — сістэма вершаскладання, заснаваная на захаванні пэўнай колькасці складоў у вершаваным радку пры правільным чаргаванні ў ім націскных і ненаціскных складоў.

**СІЛАБЕ́МА** (ад гр. syllabe = склад) — склад, які разглядаецца як сэнсаадрознівальная адзінка.

**СІЛА́БІКА** (гр. syllabikos = складовы) — сістэма вершаскладання, у аснову якой пакладзена аднолькавая колькасць складоў у вершаваных радках.

**СІЛАБІ́ЧНЫ** (гр. syllabikos) — складовы; с-ае вершаскладанне — тое, што і *сілабіка*.

**СІЛАГІ́ЗМ** (гр. syllogismos) — розумазаключэнне, атрыманае на аснове двух суджэнняў.

**СІЛАГІ́СТЫКА** (гр. syllogistikos = які робіць вывад) — 1) раздзел фармальнай *логікі*, які вывучае *сілагізмы*; 2) *перан.* беспрадметныя агульныя разважанні, пустое мудрагельства.

**СІЛАКСА́НЫ** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — злучэнні, якія змяшчаюць у малекуле атамы крэмнію і кіслароду, што чаргуюцца паміж сабой.

**СІЛАКСІ́Д** (ад лац. silex = крэмень + гр. oksys = кіслы) — сорт кварцавага шкла, які выкарыстоўваецца пераважна для вырабу хімічнай пасуды.

**СІ́ЛАС** (ісп. silos) — корм, які атрымліваецца ў выніку заквашвання зялёнай масы раслін у спецыяльных збудаваннях (вежах, траншэях, ямах і інш.).

**СІ́ЛЕПСІС** (гр. syllepsis = захоп) — стылістычны зварот, у якім знарок парушана правіла спалучальнасці слоў, напр. дзейнік і выказнік стаяць у розных ліках, дзейнік і выказнік ужыты ў множным ліку, а залежнае ад іх дапаўненне ў адзіночным і інш.; выкарыстоўваецца ў літаратурных творах.

**СІЛІКАГЕ́ЛЬ** (ад лац. silex, -icis = крэмень + *гель*) — порыстая белая маса, двухвокіс крэмнію, *сарбент*; выкарыстоўваецца для ачысткі газаў, масел, нафтапрадуктаў.

**СІЛІКАЛЬЦЫ́Т** (ад лац. silex, -icis = крэмень + *кальцыт*) — разнавіднасць вапняна-пясчанага *бетону*.

**СІЛІКАТАБЕТО́Н** (ад *сілікаты* + *бетон*) — будаўнічы матэрыял з вапны і кварцавага пяску.

**СІЛІКАТО́З** (ад лац. silex = крэмень) — прафесійнае захворванне, якое выклікаецца ўздзеяннем пылу, што змяшчае вокіс крэмнію.

**СІЛІКАТУБЕРКУЛЁЗ** (ад *сілікоз* + *туберкулёз*) — сілікоз, ускладнены туберкулёзам.

**СІЛІКА́ТЫ** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — 1) мінералы, у састаў якіх уваходзіць крэменязём (напр. слюда, азбест, палявы шпат і інш.); 2) вырабы з такіх мінералаў (шкло, фарфор, цэмент, цэгла).

**СІЛІКАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *сілікаты)* — увядзенне ў грунт сілікатных раствораў для надання яму трываласці, воданепранікальнасці.

**СІЛІКАТЭРМІ́Я** (ад лац. silex, -icis = крэмень + *-тэрмія*) — спосаб атрымання металаў і сплаваў узнаўленнем вокіслаў металаў крэмніем, што суправаджаецца выдзяленнем значнай колькасці цяпла.

**СІЛІКО́З** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — прафесійнае захворванне лёгкіх (гл. *пнеўмаканіёзы*), якое развіваецца ў выніку працяглага ўдыхання пылу кварцу, граніту, пясчаніку, што ўтрымліваюць свабодны двухвокіс крэмнію.

**СІЛІКО́ЛЬ** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — сплаў *крэмнію* з невялікай колькасцю прымесей, які выкарыстоўваюць для атрымання сплаваў каляровых металаў, багатых на крэмній.

**СІЛІКО́Н** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — сінтэтычнае крэмнійарганічнае злучэнне, якое надае *гідрафобнасць* тканінам, будаўнічым матэрыялам і інш.

**СІЛІМАНІ́Т** [ад англ. B.Sylliman = прозвішча амер. мінералога (1779—1864)] — мінерал класа *сілікатаў* шэрага, светла-бурага і бледна-зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца ў керамічнай вытворчасці, для атрымання *сілуміну*.

**СІЛІЦЫ́ДЫ** (ад лац. silex, -icis = крэмень) — злучэнні *крэмнію* з металамі, якія выкарыстоўваюцца як вогнетрывалыя матэрыялы, у хімічным апаратабудаванні, як паўправаднікі і інш.

**СІЛІ́ЦЫЙ** (лац. silicium, ад silex, -icis = крэмень) — тое, што і *крэмній.*

**СІЛІЦЫ́РАВАННЕ** (ад лац. silicium = крэмній) — насычэнне паверхневых слаёў сталі *крэмніем*, каб павысіць яе стойкасць супраць карозіі.

**СІЛІЦЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *сіліцый* + *-фікацыя*) — узбагачэнне горных парод крэменязёмам.

**СІЛО́Н** (чэш. silon) — гандлёвая назва паліміднага валакна, якое выраблялася ў Чэхаславакіі.

**СІЛУМІ́Н** [ад *сіл(іцый)* + *(ал)юміній*] — група лёгкіх кіслотаўстойлівых процікаразійных алюмініевых сплаваў з дабаўленнем крэмнію; выкарыстоўваецца пераважна ў хімічным машынабудаванні.

**СІЛУ́Р** (лац. Silures = назва кельцкага племені, што насяляла паўвостраў Уэльс у Англіі) — трэці перыяд *палеазою* ў геалагічнай гісторыі Зямлі; працягваўся 25—30 млн. гадоў; падраздзяляецца на 2 аддзелы — верхні і ніжні.

**СІЛУРЫ́ЙСКІ** (ад *сілур*); с. п е р ы я д — тое, што і *сілур*.

**СІЛУЭ́Т** (фр. silhouette, ад E. de Silhouette = прозвішча фр. міністра 18 ст.) — 1) контурнае аднатоннае адлюстраванне чаго-н. на іншым фоне або выразны контур прадмета; 2) абрысы чаго-н., якія вылучаюцца ў тумане, у цемры, на вялікай адлегласці; 3) знешні контур

аб'екта ў архітэктуры і скульптуры.

**СІЛЬВІ́Н** (н.-лац. sylvin, ад Sylvius = прозвішча гал. урача і хіміка 17 ст.) — мінерал класа *хларыдаў*, празрысты, бясколерны, падобны да каменнай солі; выкарыстоўваецца для вырабу калійных угнаенняў, розных калійных прэпаратаў.

**СІЛЬВІНІ́Т** (ад *сільвін*) — 1) асадачная горная парода, у склад якой уваходзяць сільвін, каменная соль і іншыя дамешкі; 2) калійнае ўгнаенне, выраблена з гэтай пароды.

**СІ́ЛЬФ** (фр. sylphe, ад гр. silphe = матылёк) — лёгкая рухавая істота, увасабленне стыхіі паветра ў кельцкай і германскай міфалогіі.

**СІЛЬФІ́ДЫ** (фр. sylphides, ад гр. silphe = матылёк) — сямейства жукоў, якія харчуюцца трупамі жывёл.

**СІ́ЛЬФІЯ** (н.-лац. silphium) — травяністая расліна сям. складанакветных з шорсткім лісцем і жоўтымі кветкамі ў суквецях, пашыраная ў Амерыцы; кармавая і дэкаратыўная.

**СІЛЬФО́Н** (англ. sylphon) — металічная тонкасценная цыліндрычная абалонка з папярочнай гафрыроўкай бакавой паверхні, якая прымяняецца для гібкага злучэння трубаправодаў.

**СІМАНІ́Я** (с.-лац. simonia, ад ст.-яўр. Simon = імя біблейскага вешчуна) — продаж і купля царкоўных пасад, распаўсюджаныя ў сярэднія вякі ў Зах. Еўропе.

**СІМАХІ́Я** (гр. symmachia = дапамога) — ваенны саюз паміж старажытнагрэчаскімі гарадамі-дзяржавамі.

**СІМБІЁЗ** (гр. symbiosis = сумеснае жыццё) — сумеснае існаванне арганізмаў розных відаў, пры якім арганізмы прыносяць карысць адзін аднаму (напр. с. ракаў-самотнікаў з актыніямі); гл. таксама *мутуалізм, паразітызм*.

**СІМБІЁНТЫ** (гр. symbion, -ontis = які жыве разам) — арганізмы, якія ўдзельнічаюць у *сімбіёзе*.

**СІМБІЯГЕНЕ́З** (ад *сімбіёз* + *генез*) — гіпотэза аб паходжанні арганізмаў шляхам сімбіёзу.

**СІ́МВАЛ** (гр. simbolon) — 1) прадмет або яго малюнак, а таксама графічны знак, якія выражаюць якую-н. з'яву, ідэю; 2) умоўнае абазначэнне якой-н. велічыні, паняцця ў навуцы (напр. сімвалы хімічных элементаў); 3) мастацкі вобраз, які ўмоўна перадае якую-н. думку, перажыванне.

**СІМВАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. symboliser) — з'яўляцца сімвалам чаго-н.

**СІМВАЛІ́ЗМ** (фр. symbolisme, ад гр. symbolon = сімвал) — кірунак у літаратуры і мастацтве канца 19 — пач. 20 ст., у творчасці прадстаўнікоў якога асноўным сродкам выражэння быў *сімвал*, а не рэальнае жыццё.

**СІМВАЛІ́СТ** (ад *сімвалізм*) — паслядоўнік сімвалізму.

**СІМВАЛІ́ЧНЫ** (гр. symbolikos) — 1) які мае скрыты сэнс; 2) мізэрна малы (пра пла́ты, сумы).

**СІМВО́ЛІКА** (гр. symbolikos = сімвалічны) — 1) выражэнне ідэй, паняццяў або пачуццяў пры дапамозе ўмоўных знакаў (*сімвалаў*)

(напр. с. лічбаў, с. хімічных элементаў); 2) сукупнасць сімвалаў.

**СІ́МЕНС** [ням. E.Siemens = прозвішча ням. вынаходцы (1816—1892)] — адзінка электрычнай праводнасці.

**СІМЕНТА́ЛЫ** (ням. Simmental = назва ракі ў Швейцарыі) — парода выведзенай у Швейцарыі буйной рагатай жывёлы, якая вызначаецца высокімі малочнымі і мяснымі якасцямі.

**СІМЕТРЫ́ЧНЫ** (ад гр. symmetros) — які мае *сіметрыю*, пабудаваны па закону сіметрыі; *мат.* с - ы я ф у н к ц ы і — функцыі некалькіх пераменных, якія не змяняюць свайго значэння пры любых перастаноўках гэтых пераменных.

**СІМЕ́ТРЫЯ** (гр. symmetria) — 1) суразмернасць размяшчэння частак чаго-н. па абодва бакі ад сярэдзіны, цэнтра; 2) *мат.* уласцівасць геаметрычнай фігуры пры пэўных зменах свайго становішча накладвацца на сябе так, што не ўсе яе пункты займаюць першапачатковае становішча; 3) *фіз.* незалежнасць фізічных з'яў ад пэўных прасторава-часавых ці іншых пераўтварэнняў, што выяўляецца ў інварыянтнасці ўраўненняў і законаў; 4) *біял.* паўтаральнасць форм частак ці органаў цела жывога арганізма; 5) заканамернае размяшчэнне роўных частак *крышталёў* (рэбраў, граняў, вяршынь) адносна адна другой.

**СІМІ́ІДЫ** (ад лац. simia = малпа + гр. eidos = выгляд) — тое, што і *антрапоіды*.

**СІ́МІЯС** (н.-лац. simias) — кароткахвостая танкацелая малпа, якая трапляецца на Суматры.

**СІМПАТАЛІТЫ́ЧНЫ** (ад гр. sympathes = чуллівы + lysis = растварэнне, пазбаўленне); с - ы я с р о д к і — лекавыя рэчывы, здольныя ліквідаваць дзеянне, якое выклікаецца раздражненнем *сімпатычных* нерваў.

**СІМПАТАМІМЕ́ТЫКІ** (ад гр. sympathes = чуллівы + mimesis = перайманне) — лекавыя рэчывы, якія дзейнічаюць падобна раздражняльніку *сімпатычных* 2 нерваў.

**СІМПАТРЫ́Я** (ад гр. syn = разам + patris = радзіма) — сумеснае пражыванне розных відаў або падвідаў і пашырэнне аднаго віду ў адным геаграфічным раёне.

**СІМПАТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. sympathiser, ад гр. sympathes = успрымальны, адчувальны) — адчуваць *сімпатыю*, адносіцца з сімпатыяй да каго-н., чаго-н.

**СІМПАТЫ́НЫ** (ад гр. sympathes = чуллівы) — рэчывы, якія выдзяляюцца ў арганізме чалавека і жывёл пры раздражненні заканчэнняў нервовых валокнаў *сімпатычнай* нервовай сістэмы; прымаюць удзел у перадаванні імпульсаў.

**СІМПАТЫ́ЧНЫ** (фр. sympathique, ад гр. sympathes = успрымальны, адчувальны) — 1) які выклікае *сімпатыю*, мілы, прыемны (проціл. *антыпатычны*); 2) які мае адносіны да аддзела вегетатыўнай нервовай сістэмы; с - а я н е р в о в а я с і с т э м а — аддзел вегетатыўнай нервовай сістэмы, які (побач з *парасімпатычнай* нервовай сістэмай) удзельнічае ў рэгуляцыі дзейнасці ўнутраных органаў, жыўлення тканкі і абмену

рэчываў ва ўсіх органах і тканках цела.

**СІМПА́ТЫЯ** (гр. sympatheia = спачуванне) — цяга, прыхільнасць да каго-н. (процiл. *антыпатыя*).

**СІ́МПЛАКА** (гр. symploke = сплящение, з'яднанне) — від сінтаксічнага *паралелізму*, стылістычная фігура, у якой дзве часткі фразы маюць падобны пачатак і канец.

**СІМПЛА́СТ** (ад гр. syn = разам + *-пласт*) — адзінства ўсіх пратапластаў жывых клетак арганізма, аб'яднаных сістэмай энда- і экзаплазматычнай сеткі.

**СІ́МПЛЕКС** (лац. simplex = просты) — *мат.* найпрасцейшы выпуклы шматграннік дадзенай колькасці вымярэнняў.

**СІМПЛІФІКА́ЦЫЯ** (ад с.-лац. simplificare = спрашчаць, ад лац. simplex = просты + facere = рабіць) — спрашчэнне.

**СІМПЛО́КА** (н.-лац. symploca, ад гр. symploke = спляценне, з'яднанне) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая пашырана ў прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмах, на вільготных скалах, сценах, у глебе.

**СІМПО́ДЫЙ** (н.-лац. sympodium, ад гр. syn = разам + podion = падстава) — тып раслiннага разгалінавання, калі з пупышкі вырастае новы парастак, які расце хутчэй, чым мацярынскі.

**СІМПО́ЗІУМ** (лац. symposium, ад гр. symposion = баляванне, банкет) — нарада па якім-н. навуковым пытанні, звычайна міжнародная.

**СІМПТАМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. symptoma, -atos = супадзенне, прыкмета + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае *сімптомы* захворванняў.

**СІМПТАМА́ТЫКА** (ад гр. symptoma, -atos = супадзенне, прыкмета) — 1) сукупнасць сімптомаў, уласцівых якому-н. захворванню; 2) тое, што і *сімптаматалогія*.

**СІМПТАМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. symptoma, -atos = супадзенне, прыкмета) — які з'яўляецца *сімптомам* чаго-н.; паказальны ў якіх-н. адносінах; с - а е л я ч э н н е — лячэнне, накіраванае на ліквідацыю сімптомаў хваробы незалежна ад яе асноўнай прычыны.

**СІМПТО́М** (гр. symptoma = супадзенне, прыкмета) — 1) знешняе праяўленне чаго-н. (напр. сімптомы захворвання); 2) знешняя прымета якой-н. з'явы.

**СІМУЛЬТА́ННЫ** (фр. simultané = адначасовы, ад лац. simul = у адзін і той жа час); с - а я д э к а р а ц ы я — тып афармлення спектакля ў сярэдневяковым тэатры, пры якім на сцэне па прамой лініі ўстанаўліваліся адначасова ўсе дэкарацыі, неабходныя па ходу дзеяння.

**СІМУЛЯВА́ЦЬ** (лац. simulare) — наўмысна ствараць ілжывае ўяўленне аб наяўнасці чаго-н. (напр. с. хваробу).

**СІМУЛЯ́НТ** (лац. simulans, -ntis) — чалавек, які прытвараецца, *сімулюе* што-н.

**СІМУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. simulatio = прытворства) — прытворства з мэтай увесці ў зман (напр. с. хваробы).

**СІМФАНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. symphonia = сугучча) — пераладжэнне для

*сімфанічнага* аркестра; распрацоўка ў стылі сімфанічных твораў.

**СІМФАНІ́ЗМ** (ад гр. symphonia = сугучча) — *сімфанічнае* мастацтва, сімфанічны стыль.

**СІМФАНІ́ЧНЫ** (ад гр. symphonos = сугучны) — 1) які мае adносіны да *сімфоніі*, звязаны з музычнай формай сімфоніі; 2) які мае адносіны да выканання аркестрам са смычковых, духавых і ўдарных інструментаў.

**СІМФАНЬЕ́ТА** (іт. simfonietta, ад гр. symphonia = сугучча) — невялікая *сімфонія.*

**СІМФІ́З** (гр. symphysis = зрашчэнне, непарыўнасць) — зрашчэнне; злучэнне дзвюх касцей слоем храстка.

**СІМФІ́ЗІС** (гр. symphysis = зрашчэнне) — косці, якія зрасліся (напр. косці, што ўваходзяць у пояс задніх канечнасцей).

**СІМФІ́ЛЫ** (н.-лац. symphyla) — клас мнаганожак, якія пашыраны на ўсіх кантынентах, апрача Антарктыды; жывяцца гніючымі расліннымі рэшткамі.

**СІМФО́НІЯ** (гр. symphonia = сугучча) — 1) вялікі музычны твор для аркестра, звычайна з 3—4 частак, якія адрозніваюцца адна ад другой характарам музыкі і тэмпам; 2) *перан.* гарманічнае спалучэнне гукаў, фарбаў і інш.

**СІНАГО́ГА** (гр. synagoge = сход) — яўрэйскі малітоўны дом.

**СІНАДА́ЛЬНЫ** (п.-лац. synodalis, ад гр. synodos = сход) — які адносіцца да *сінода*, належыць сіноду.

**СІНАДЫ́ЧНЫ** (гр. synodikos) — які мае адносіны да бачнага на небе размяшчэння нябесных целаў адносна Сонца і адносна адзін аднаго; с. м е с я ц — прамежак часу паміж паслядоўнымі аднайменнымі фазамі Месяца (роўны 29,53 сутак).

**СІНАЙКІ́ЗМ** (гр. synoikismos) — аб'яднанне некалькіх старажытнагрэчаскіх пасяленняў або гарадоў у адзін поліс у сувязі з узнікненнем класавага грамадства і станаўленнем дзяржавы.

**СІНАЙКІ́Я** (гр. synoikia = сумеснае жыццё) — сумеснае пражыванне двух арганізмаў розных відаў, карыснае для аднаго і нейтральнае для другога.

**СІНАКСА́ЛЬ** [ад *сін(тэз)* + *акс(ід)* + *ал(юміній)*] — керамічны матэрыял на аснове вокісу алюмінію.

**СІНАКСА́РЫЙ, СІНАКСА́Р** (гр. synaksarion = збор) — збор жыцій святых.

**СІНАЛО́ГІЯ** (ад п.-лац. Sinae = Кітай + *-логія*) — сукупнасць навук, якія вывучаюць мовы, культуру і гісторыю Кітая; кітаязнаўства.

**СІНАНІ́МІКА** (ад гр. synonymos = аднайменны) — 1) сукупнасць *сінонімаў* якой-н. мовы; 2) раздзел *лексікалогіі*, які вывучае сінонімы.

**СІНАНІМІ́Я** (гр. synonymia = аднайменнасць) — 1) падабенства слоў па значэнню пры розным іх гучанні; 2) рытарычны прыём ужывання сінонімаў побач або на блізкай адлегласці адзін ад другога.

**СІНА́НТРАП** (ад п.-лац. Sinae = Кітай + *-антрап*) — старажытны, блізкі да *пітэкантрапа*, тып вы-

капнёвага чалавека, рэшткі якога знойдзены ў Кітаі.

**СІНА́НТРАПЫ** (ад гр. syn = разам + *-антрап*) — жывёлы і расліны, існаванне якіх цесна звязана з чалавекам і з населенымі пунктамі (напр. дамовая мыш, пакаёвая муха, чорны таракан).

**СІНАПСІ́ДЫ** (н.-лац. synapsida) — падклас вымерлых паўзуноў, у які ўваходзілі *пеліказаўры* і *тэрапсіды*.

**СІ́НАПСЫ** (гр. synapsis = з'яднанне) — месцы судакранання нервовых клетак паміж сабой, праз якія перадаюцца нервовыя імпульсы.

**СІНАПТАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. synaptosauria) — падклас вымерлых марскіх паўзуноў, у які ўваходзілі *пратазаўры* і *плезіязаўры*.

**СІНАПТАФО́Р** (ад гр. synoptos = добра бачны + *-фор*) — прыбор для лячэння касавокасці.

**СІНАПТЫ́ЧНЫ** (гр. synoptikos = здольны ўсё акінуць вокам, агледзець) — 1) які дае агляд усіх частак складанага цэлага (напр. с-ыя табліцы); 2) які мае адносіны да *сіноптыкі*; звязаны з высвятленнем метэаралагічных умоў, стану здароўя.

**СІНАРТРО́З** (ад гр. syn = разам + arthron = сустаў) — *анат.* нерухомае або маларухомае злучэнне касцей паміж сабой (параўн. дыяртроз) злучальнай тканкай (гл. *сіндэсмоз*), храстком (гл. *сінхандроз*), касцявой тканкай (*сінастоз*).

**СІНАСТО́З** (ад гр. syn = разам + osteon = косць) — *анат.* нерухомае злучэнне касцей паміж сабой (*сінартроз*) пры дапамозе касцявой тканкі (напр. зрашчэнне чарапных касцей).

**СІНАХРАМО́НАС** (н.-лац. synochromonas) — каланіяльная залацістая водарасць сям. вохраманадавых, якая пашырана ў рэках і розных стаячых вадаёмах.

**СІНГАМІ́ДЫ** (н.-лац. syngamidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у дыхальных шляхах птушак і млекакормячых.

**СІНГА́МІЯ** (ад гр. syngamos = з'яднаны шлюбам) — з'яднанне мужчынскай і жаночай палавых клетак (*гамет*) з утварэннем *зіготы*.

**СІНГАМО́ЗЫ** (ад *сінгаміды*) — глісныя хваробы свойскіх і дзікіх птушак, якія выклікаюцца сінгамідамі.

**СІНГАРМАНІ́ЗМ** (ад гр. syn = разам + *гармонія*) — *лінгв.* прыпадабненне галосных гукаў у слове да каранёвага галоснага, уласцівае цюркскім і некаторым іншым мовам.

**СІНГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (ад гр. syn = разам + genetos = народжаны) — які з'яўляецца адначасова, мае агульнае паходжанне; с-ыя залежы — залежы карысных выкапняў, якія ўзніклі адначасова з пародамі, што іх змяшчаюць, і перацярпелі разам з імі ўсе наступныя пераўтварэнні.

**СІНГЛ** (англ. single = адзін, адзіны) — гульня ў *тэніс*, калі кожны бок прадстаўлены адным гульцом.

**СІНГЛЕ́ТЫ** (ад англ. single = адзіночны) — *фіз.* адзіночныя спектральныя лініі, абумоўленыя электроннымі квантавымі перахо-

дамі паміж нерасшчэпленымі ўзроўнямі квантавай сістэмы.

**СІНГО́НІЯ** (ад гр. syn = разам + *-гонія*) — група відаў *сіметрыі*, да якой належаць крышталі з адным або некалькімі падобнымі элементамі сіметрыі.

**СІНГУЛЯ́РНЫ** (лац. singularis) — асобны, адзіночны; с. п у н к т — пункт на *дыяграме* стану, які адпавядае ўтварэнню ў сістэме хімічнага злучэння пастаяннага складу.

**СІНДАКТЫЛІ́Я** (ад гр. syn = разам + daktylos = палец) — прыроджанае поўнае або частковае зрашчэнне паміж сабой двух і больш суседніх пальцаў рук або ног, якое ў чалавека разглядаецца як загана развіцця.

**СІНДРО́М** (гр. syndromos = які разам бяжыць) — комплекс *сімптомаў*, характэрных для якога-н. захворвання.

**СІ́НДЫК** (гр. syndikos = абаронца) — 1) абаронца, адвакат у судзе ў Стараж. Грэцыі; 2) старшыня *гільдыі* ў радзе заходнееўрапейскіх краін перыяду сярэдневякоўя; 3) прадстаўнік якой-н. установы, абшчыны ці карпарацыі ў некаторых сучасных краінах (напр. у Італіі, Швейцарыі, ЗША), упаўнаважаны на вядзенне спраў.

**СІНДЫКАЛІ́ЗМ** (фр. syndicalisme) — кірунак у рабочым руху канца 19 — пач. 20 ст., прыхільнікі якога адмаўлялі неабходнасць класавай барацьбы і разглядалі эканамічную барацьбу як адзіны шлях да сацыялізму, пры якім *сіндыкаты* (прафсаюзы) павінны кіраваць грамадскай вытворчасцю.

**СІНДЫКА́Т** (фр. syndicat, ад гр. syndikos = які дзейнічае сумесна) — 1) манапалістычнае аб'яднанне прадпрыемцаў з мэтай абмежавання канкурэнцыі і забеспячэння панавання на рынках; 2) назва прафсаюзаў у Францыі і некаторых іншых краінах; 3) гаспадарчае аб'яднанне ў пэўных галінах прамысловасці ў СССР у перыяд нэпу, якое вяло закупку і збыт прадукцыі.

**СІНДЭСМАЛО́ГІЯ** (ад гр. syndesmos = звязка + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае сучляненні касцей шкілета.

**СІНДЭСМІ́Я** (ад гр. syndesmos = звязка) — марскі *малюск* класа двухстворкавых, пашыраны ў Атлантычным акіяне, Чорным і Азоўскім морах.

**СІНДЭСМО́З** (гр. syndesmos = звязка) — *анат.* маларухомае злучэнне касцей паміж сабой (*сінартоз*) пры дапамозе злучальнай тканкі (звязак).

**СІНДЭТЫКО́Н** (гр. syndetikon = тое, што звязвае) — сорт клею для паперы, кардону.

**СІНЕ́ДРА** (н.-лац. synedra) — аднаклетачная або каланіяльная дыятомавая водарасць сям. фрагіляры-евых, якая трапляецца ў марскіх, саланаватых і прэсных вадаёмах.

**СІНЕДРЫЁН** (гр. synedrion = сход) — 1) савет старэйшын, вышэйшая дзяржаўная ўстанова з палітычнымі і судовымі функцыямі ў Стараж. Іудзеі; 2) *перан.* сход, савет, судзілішча.

**СІНЕ́КДАХА** (гр. synekdoche, ад syn = разам + ekdoche = перайманне) — разнавіднасць *метаніміі*, стылістычны прыём, калі назва часткі, прыватнага выкарыстоўваецца замест назвы цэлага, агульна-

# С

га і наадварот, а таксама слова і зварот, ужытыя такім чынам.

**СІНЕКЛІ́ЗА** (ад гр. syn = разам + enklisis = нахіленне) — вялікі прагін зямной кары ў межах *платформы*.

**СІНЕКУ́РА** (лац. sine cure = без клопату) — 1) царкоўная пасада ў сярэдневяковай Еўропе, не звязаная з пэўнымі абавязкамі; 2) *перан.* пасада, якая добра аплачваецца і не патрабуе асаблівых турбот.

**СІНЕ́ЛЬ** (фр. chenille) — шнурок з аксаміцістым ворсам для вышывання, упрыгожання жаночага адзення, капелюшоў і інш.

**СІНЕМАТО́ГРАФ** (фр. cinématographe, ад гр. kinema, -atos = рух + grapho = пішу) — устарэлая назва *кінематографа*, кіно.

**СІНЕРА́МА** (англ. cinerama, ад гр. kinema = рух + horama = від, відовішча) — разнавіднасць шырокафарматнага кіно.

**СІНЕРГІ́ДЫ** (н.-лац. synergidae, ад гр. synergos = які дзейнічае разам) — дзве клеткі ў зародкавым мяшку пакрытанасенных раслін, якія складаюць разам з яйцаклеткай яйцавы апарат.

**СІНЕРГІ́ЗМ** (ад гр. synergos = які дзейнічае разам) — з'ява ўзмацнення дзеяння аднаго *каталізатара* далучэннем іншага.

**СІНЕРГІ́СТ** (ад гр. synergos = які дзейнічае разам) — *анат.* мышца, якая дзейнічае ў адным і тым жа напрамку адносна другой мышцы (параўн. *антаганіст* 2).

**СІНЕРГІ́Я** (гр. synergeia = супрацоўніцтва) — 1) *фізіял.* сумеснае дзеянне якіх-н. органаў або сістэм; 2) *фарм.* рэакцыя арганізма на камбінаванае ўздзеянне двух або некалькіх лекавых рэчываў, калі гэта ўздзеянне больш моцнае, чым было б уздзеянне кожнага кампанента паасобку.

**СІНЕРЭ́ЗІС** (гр. synairesis = збіранне, з'яднанне) — выдзяленне рэдкай фазы з дысперснай структуры, якое суправаджаецца памяншэннем аб'ёму структуры.

**СІНЕСТЭЗІ́Я** (ад гр. synaisthesis = адначасовае адчуванне) — узнікненне ў чалавека адчування не толькі ў органе, на які ўздзейнічае раздражняльнік, але адначасова і ў іншым органе пачуцця.

**СІНЕХАКО́КУС** (н.-лац. synechococcus) — аднаклетачная сіне-зялёная водарасць сям. кокабактрэйных, якая пашырана пераважна ў стаячых водах, мінеральных крыніцах і на наземных субстратах.

**СІНЕХАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. synechocystis) — аднаклетачная сіне-зялёная водарасць сям. кокабактрэйных, якая пашырана ў прэсных і салёных водах, на наземных субстратах, у глебе.

**СІНЕ́ХІІ** (гр. synecheia = сувязь) — прыроджаныя або набытыя зрашчэнні паміж суседнімі органамі або серознымі паверхнямі.

**СІНЗААХО́РЫЯ** (ад гр. syn = разам + *заахорыя*) — распаўсюджанне пладоў і насення раслін жывёламі, якія пры стварэнні запасу корму пераносяць іх на новыя месцы (арэхі, жалуды).

**СІНКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. syncarida) — надатрад вышэйшых ракападобных, у які ўваходзяць анапсідавыя, батынеліевыя і *стыгакарыды*.

**СІНКАРЫЁН** (ад гр. syn = разам + karyon = ядро) — ядро дваістага паходжання, якое ўтвараецца ў *інфузорый*, а таксама ў марскіх вожыкаў.

**СІНКЛІНА́ЛЬ** (ад гр. synklino = нахіляюся) — складка пластоў горных парод, павернутая выпукласцю ўніз.

**СІНКЛІНО́РЫЙ** (н.-лац. synclinorium, ад гр. synklino = нахіляюся + oros = верх) — буйны і складаны выгін тоўшчаў горных парод, які мае ў цэлым сінклінальную форму.

**СІНКЛІ́Т** (гр. synkletos = скліканы) — 1) сход вышэйшых саноўнікаў у Стараж. Грэцыі; 2) група духоўных асоб, духавенства; 3) *перан.* сход, сукупнасць якіх-н. асоб.

**СІНКО́ПА** (гр. synkope = скарачэнне) — 1) *муз.* зрушэнне рытмічнага апорнага гуку з моцнай долі такта на слабую; 2) *лінгв.* выпадзенне ці апусканне аднаго ці некалькіх гукаў у сярэдзіне слова; 3) глыбокая непрытомнасць, выкліканая раптоўным заняпадам сардэчнай дзейнасці.

**СІНКРЭТЫ́ЗМ** (гр. synkretismos = злучэнне) — 1) злітнасць, нерасчлянёнасць, якія характарызуюць першапачатковы, неразвіты стан якой-н. з'явы; 2) разнавіднасць *эклектызму*, неарганічнае спалучэнне разнародных элементаў — філасофскіх поглядаў, рэлігійных сістэм і інш.

**СІНО́ВІЯ** (ад гр. syn = разам + лац. ovum = яйцо) — вязкая празрыстая вадкасць, якая выдзяляецца абалонкай суставаў і служыць *для іх змазкай.*

**СІНО́Д** (гр. synodos = сход) — 1) вышэйшы калегіяльны орган праваслаўнай рускай царквы з 1721 да 1917 г., зараз — дарадчы орган пры патрыярху Маскоўскай і ўсёй Русі; 2) сход духоўных і свецкіх асоб для вырашэння спраў пратэстанцкай царквы.

**СІНО́ДЗІК** (гр. synodikos = спадарожнае) — памінальная кніга ў праваслаўнай царкве, у якую запісваюцца імёны нябожчыкаў для памінання іх у час набажэнства.

**СІНО́ЛАГ** (ад п.-лац. Sinae = Кітай + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *сіналогіі*.

**СІНО́НІМЫ** (гр. synonimos = аднайменны) — словы, блізкія па значэнню, але розныя па гучанню (напр. «работа» і «праца»).

**СІНО́ПСІС** (гр. synopsis = агляд) — 1) зборнік звестак, нататак па якому-н. пытанню; зборнік тлумачэнняў рэлігійных твораў; 2) *уст.* звод розных поглядаў па якому-н. пытанню.

**СІНО́ПТЫК** (ад *сіноптыка*) — спецыяліст у галіне сіноптыкі.

**СІНО́ПТЫКА** (гр. synoptikos = які ахоплівае вокам) — раздзел *метэаралогіі*, які вывучае працэсы фарміравання надвор'я з мэтай яго прадказвання.

**СІНСАРКО́З** (ад гр. syn = разам + sarks = мяса) — злучэнне касцей пры дапамозе папярочнапаласатых мышцаў.

**СІНТА́ГМА** (гр. syntagma = *літар.* нешта аб'яднанае) — *лінгв.* інтанацыйна і рытмічна арганізаваная група слоў з адносна закончаным сэнсам.

# С

**СІНТАІ́ЗМ** (ад яп. sinto = дарога багоў) — пашыраная ў Японіі рэлігія, у аснове якой ляжыць культ прыроды і продкаў.

**СІ́НТАКСІС** (гр. syntaksis) — спосабы спалучэння слоў у словазлучэнні і сказы, а таксама раздзел граматыкі, які вывучае гэтую частку моўнай сістэмы.

**СІНТАКСО́Н** (ад гр. syn = разам + *таксон*) — адзінка любога рангу пры класіфікацыі расліннасці.

**СІНТА́КТЫКА** (гр. syntaktikos = які парадкуе) — раздзел *семіётыкі*, які вывучае *сінтаксіс* розных знакавых сістэм.

**СІ́НТЭЗ** (гр. synthesis = злучэнне, спалучэнне) — 1) абагульненне дадзеных аналізу ў навуковым даследаванні; 2) атрыманне складаных хімічных рэчываў са злучэння больш простых.

**СІНТЭ́ТЫКА** (гр. synthetikos = які аб'ядноўвае) — *сінтэтычныя* матэрыялы; вырабы з сінтэтычных матэрыялаў.

**СІНТЭТЫ́ЧНЫ** (гр. synthetikos) — 1) заснаваны на *сінтэзе*; с-ыя мовы — мовы, у якіх адносіны паміж словамі ў сказе выражаюцца формамі саміх слоў; 2) атрыманы шляхам сінтэзу (напр. с-ае валакно, с. каўчук); 3) аб'яднаны, абагульнены (напр. с. мастацкі вобраз).

**СІНУ́ЗІЯ** (гр. synusia = сумеснае прабыванне) — сукупнасць відаў раслін, якія адносяцца да адной або блізкіх жыццёвых формаў.

**СІНУ́РА** (н.-лац. synura) — каланіяльная залацістая водарасць сям. сінуравых, якая трапляецца ў *планктоне* і сярод зараснікаў прыбярэжнай раслінасці прэсных вадаёмаў.

**СІ́НУС** (лац. sinus = выгін, крывізна) — 1) *мат.* адна з трыганаметрычных функцый вугла, у прамавугольным трохвугольніку роўная адносінам *катэта* процілеглага вугла да *гіпатэнузы*; 2) *анат.* поласць, пазуха ў якім-н. органе цела.

**СІНУСІ́Т** (ад лац. sinus = пазуха) — запаленне слізістай абалонкі прыдаткавых пазух носа.

**СІНУСО́ІДА** (ад *сінус* + гр. eidos = выгляд) — хвалепадобная крывая лінія, якая графічна паказвае змяненні сінуса ў залежнасці ад змянення вугла.

**СІНХАНДРО́З** (ад гр. syn = разам + chondros = храсток) — *анат.* нерухомае або малярухомае злучэнне касцей паміж сабой (*сінартроз*) пры дапамозе храстка.

**СІНХІ́ТРЫЙ** (н.-лац. synchytrium) — ніжэйшы грыб сям. сінхітрыевых, які паразітуе на раслінах сям. казяльцовых, ясноткавых, малачаевых, паслёнавых і інш.

**СІНХРА-** (гр. synchronos = адначасовы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адначасовасць дзеяння.

**СІНХРАГЕНЕРА́ТАР** (ад *сінхра-* + *генератар*) — прыбор, які выпрацоўвае сігналы, што забяспечваюць *сінхранізацыю* работы асобных элементаў або вузлоў складаных прыбораў або сістэм.

**СІНХРАКАНТА́КТ** (ад *сінхра-* + *кантакт*) — кантактнае ўстройства ў механізме затвора фотаапарата, якое пры націсканні спускавой кнопкі замыкае ланцуг запаль-

вання лямпы-ўспышкі сінхронна з работай затвора.

**СІНХРАМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *сінхра-* + *маркетынг*) — від дзейнасці фірмы па рэгуляванню попыту, які вагаецца ў сувязі з сезонным характарам вытворчасці і (або) спажывання.

**СІНХРАМІ́Я** (ад гр. syn = разам + chroma = колер, фарба) — адна з назваў мазаічнага друку, калі адначасова друкуюць некалькімі фарбамі з адной друкарскай формы.

**СІНХРАНАСКО́П** (ад гр. synchronos = адначасовы + *-скоп*) — электравымяральны прыбор, які паказвае наяўнасць *сінхранізацыі* вагальных працэсаў у двух струменях пераменнага току.

**СІНХРАНІЗАВА́ЦЬ** (гр. synchronizo = існую адначасова) — праводзіць *сінхранізацыю*.

**СІНХРАНІЗА́ТАР** (ад *сінхранізацыя*) — прыстасаванне, прызначанае для сінхранізацыі якіх-н. працэсаў або работы механізмаў.

**СІНХРАНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. synchronizo = існую адначасова) — 1) прывядзенне да *сінхранізму* дзвюх або некалькіх з'яў ці працэсаў, якія перыядычна змяняюцца; 2) наяўнасць на электраэнцэфалаграме аднолькавых па частаце біяэлектрычных патэнцыялаў (параўн. *дэсінхранізацыя*).

**СІНХРАНІ́ЗМ** (гр. synchronismos) — дакладнае супадзенне ў часе дзвюх або некалькіх з'яў ці працэсаў; адначасовасць.

**СІНХРАНІ́Я** (ад гр. synchronos = адначасовы) — 1) *лінгв.* суіснаванне і ўзаемазалежнасць элементаў мовы ў які-н. перыяд яе гісторыі (параўн. *дыяхранія*); 2) тое, што і *сінхранізм*.

**СІНХРАТРО́Н** (ад *сінхра-* + *-трон*) — устаноўка для паскарэння руху *электронаў*.

**СІНХРАФАЗАТРО́Н** (ад *сінхра-* + *фазатрон*) — устаноўка для паскарэння руху *пратонаў*.

**СІНХРАЦЫКЛАТРО́Н** (ад *сінхра-* + *цыклатрон*) — тое, што і *фазатрон*.

**СІНХРО́ННЫ** (гр. synchronos = адначасовы) — 1) адначасовы, які супадае ў часе; с. электрарухавік — электрарухавік пераменнага току з аднолькавымі частотамі вярчэння ротара і магнітнага поля статара; 2) *лінгв.* звязаны з апісаннем мовы ў дадзены перыяд часу.

**СІНЦЫ́ЦЫЙ** (н.-лац. syncytium, ад гр. syn = разам + kytos = клетка) — *біял.* тып тканкі ў жывёл і раслін з няпоўным размежаваннем клетак, сукупнасць участкаў *пратаплазмы*, звязаных пратаплазмавымі перамычкамі.

**СІНЬЁР** (іт. signor) — форма ветлівага звароту да мужчын у Італіі.

**СІНЬЁРА** (іт. signora) — форма ветлівага звароту да жанчыны ў Італіі.

**СІНЬЯРЫ́НА** (іт. signorina) — форма ветлівага звароту да дзяўчыны ў Італіі.

**СІНЬЯРЫ́Я** (іт. signoria = улада) — 1) орган дзяржаўнага самакіравання ў італьянскіх гарадах-камунах у 13—14 ст.; 2) форма палітычнага ладу рада гарадоў Італіі ў 13—16 ст., пры якой уся паўната грамадзянскай і ваеннай улады за-

# С

сыроджвалася ў руках аднаго правіцеля — *сіньёра*.

**СІНЭКАЛО́ГІЯ** (ад гр. syn = разам + *экалогія*) — раздзел экалогіі, які вывучае жыццё згуртаванняў розных відаў арганізмаў і іх узаемаадносіны з асяроддзем (параўн. *аўтаэкалогія*).

**СІПА́І** (інд. sipachi, ад перс. sepahi = салдат) — наёмныя салдаты англійскага каланіяльнага войска ў Індыі, якое фарміравалася з мясцовых жыхароў у 18 — першай пал. 20 ст.

**СІПУНКУЛІ́ДЫ** (н.-лац. sipunculida) — клас кольчатых чарвей; жывуць на дне мораў.

**СІРО́КА** (іт. sirocco, ад ар. sark = усход) — сухі гарачы паўднёвы або паўднёва-ўсходні вецер у Міжземнамор'і.

**СІРО́П** (фр. sirop, ад ар. sarab = напітак) — канцэнтраваны раствор цукру ў вадзе або натуральным фруктовым ці ягадным соку.

**СІРТА́КІ** (гр. syrtaki) — групавы танец па матывах грэчаскіх народных мелодый, тэмп якога ў часе яго выканання паступова паскараецца.

**СІРЫ́Н** (гр. seiren = сірэна) — 1) фантастычная птушка з тварам і грудзьмі жанчыны ў даўняй усходнеславянскай літаратуры; 2) невялікая птушка сям. соў.

**СІРЫНГАМІЭЛІ́Я** (ад гр. syrinks, -ngos = яма + myelos = шпік, мозг) — нервовая хвароба, якая характарызуецца ўтварэннем поласцей у спінным мозгу.

**СІРЫ́НКС** (гр. syrinks = дудка) — духавы музычны інструмент, разнавіднасць мнагаствольнай *флейты*.

**СІРЭ́НА** (лац. siren, ад гр. seiren) — 1) міфічная марская істота ў старажытнагрэчаскай міфалогіі ў выглядзе жанчыны з хвастом рыбы, якая сваімі спевамі заваблівала маракоў у небяспечныя месцы; 2) сігнальны гудок, які дае моцны і рэзкі гук.

**СІРЭ́НЫ** (н.-лац. sirenia, ад гр. seiren = марская німфа) — атрад буйных водных млекакормячых з ластамі і хваставым плаўніком; жывуць у цёплых морах.

**СІСІ́ТЫІ** (гр. syssitia) — грамадскія абеды за сталамі пад адкрытым небам з аднолькавай ежай для ўсіх, якія арганізоўваліся ў некаторых старажытнагрэчаскіх дзяржавах (у Спарце, на востраве Крыт і інш.).

**СІ́СТАЛА** (гр. systole = скарачэнне, сцісканне) — рытмічнае скарачэнне мышцы сэрца, пры якім кроў нагнятаецца ў артэрыяльную сістэму; разам з *дыясталай* (расслабленнем мышцы сэрца) складае цыкл сардэчнай дзейнасці.

**СІСТЭ́МА** (гр. systema = цэлае, складзенае з частак, злучэнне) — 1) сукупнасць заканамерна звязаных паміж сабой элементаў (прадметаў, з'яў, поглядаў, ведаў і г.д.), якія складаюць пэўнае цэласнае ўтварэнне, адзінства; 2) пэўны парадак у размяшчэнні і сувязі частак чаго-н. (напр. с. механізмаў); 3) форма арганізацыі чаго-н. (напр. выбарчая с.); 4) сукупнасць прынцыпаў, якія служаць асновай якога-н. вучэння (напр. філасофская с. Гегеля); 5) форма грамадскага ладу (напр. дзяржаўная с.);

6) сукупнасць устаноў, аб'яднаных у адно цэлае (напр. с. Акадэміі навук); 7) сукупнасць органаў, якія маюць агульную функцыю (напр. нервовая с.); 8) канструкцыя (напр. с. самалёта); 9) *геал.* сукупнасць пластоў горных парод, якія ўтварыліся на працягу геалагічнага перыяду; 10) звычайнае, рэгулярнае, прывычнае.

**СІСТЭМАТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. systématiser, ад гр. systema = цэлае, складзенае з частак, злучэнне) — размяшчаць што-н. у вызначаным парадку і сувязі частак, прывадзіць у *сістэму*.

**СІСТЭМАТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. systematisation, ад гр. systema = цэлае, складзенае з частак, злучэнне) — размяшчэнне чаго-н. у вызначаным парадку і сувязі частак, прывядзенне ў *сістэму*.

**СІСТЭМА́ТЫКА** (гр. systematikos = упарадкаваны) — 1) прывядзенне ў *сістэму*, класіфікацыя прадметаў, з'яў (напр. с. ізатопаў); 2) навука аб размеркаванні жывёл і раслін па відах, родах, сем'ях, атрадах, класах і тыпах (напр. с. рыб, с. птушак).

**СІСТЭМАТЫ́ЧНЫ** (гр. systematikos) — 1) які ўтварае пэўную *сістэму*, заснаваны на пэўнай сістэме, паслядоўны, планамерны; 2) пастаянны, рэгулярны.

**СІСТЭМАТЭ́ХНІКА** (ад *сістэма* + *тэхніка*) — кірунак у *кібернетыцы*, які вывучае пытанні планавання, канструявання і паводзін складаных сістэм інфармацыі, заснаваных на вылічальнай тэхніцы.

**СІТА́Р** (інд. sitar) — струнны музычны інструмент тыпу *лютні*, пашыраны ў Індыі, Узбекістане, Таджыкістане.

**СІТО́НА** (н.-лац. sitona) — жук сям. даўганосікаў; шкоднік бабовых раслін.

**СІТРО́** [фр. citro(nnade), ад лац. citron = лімон] — фруктовы безалкагольны газіраваны напітак.

**СІТУА́ЦЫЯ** (п.-лац. situatio = становішча) — 1) сукупнасць абставін, якія ствараюць тое або іншае становішча; 2) сукупнасць водных прастораў, лясоў, гор, населеных пунктаў і іншых элементаў рэльефу, якія паказаны на карце ці плане пры дапамозе ўмоўных знакаў.

**СІТУЛА** (лац. situla) — бронзавы сасуд у форме вядра, характэрны для культур ранняга жалезнага веку.

**СІ́ТЫКУС** (н.-лац. sitticus) — павук сям. скакуноў, які жыве на адкрытых сонечных месцах, у хмызняку.

**СІФ** [англ. cif, ад c(ost) = цана + i(nsurance) = страхаванне + f(reight) = фрахт] — умова продажу тавару, паводле якой у цану ўключаюцца выдаткі па страхоўцы і перавозцы.

**СІФАНАГЛІ́ФЫ** (ад гр. siphon = трубка + glypho = выразаю) — жалабкі ў глотцы каралавых *паліпаў*, высланыя раснічнымі клеткамі.

**СІФАНАФО́РЫ** (н.-лац. siphonophora) — падклас водных кішачнаполасцевых жывёл класа *гідразояў*; свабоднаплаваючыя арганізмы (паліморфныя калоніі) з размешчанымі ўздоўж ствала калоніі асобінамі рознай будовы (*заоідамі*); жывуць у акіянах і морах.

# С

**СІФІЛІДАЛО́ГІЯ** (ад н.-лац. syphilis, -lidis = сіфіліс + *-логія*) — раздзел медыцыны, які вывучае *сіфіліс.*

**СІФІЛІ́ДЫ** (н.-лац. syphilis, -lidis = сіфіліс) — сіфілітычная высыпка на слізістай абалонцы, скуры.

**СІ́ФІЛІС** [н.-лац. syphilis, ад Syphilus = імя персанажа паэмы іт. урача Д.Фракастора (1478—1553), прысвечанай апісанню гэтай хваробы] — заразная венерычная хвароба, якая выклікаецца бледнай *спірахетай* і праяўляецца ў паражэнні скуры, унутраных органаў, нервовай сістэмы.

**СІФІЛІ́ТЫК** (н.-лац. syphiliticus = сіфілітычны) — чалавек, хворы на *сіфіліс.*

**СІФІЛІТЫ́ЧНЫ** (н.-лац. syphiliticus) — 1) які мае адносіны да *сіфілісу*, уласцівы сіфілісу (напр. с-ая высыпка); 2) які хварэе на сіфіліс.

**СІФІЛО́МА** (ад *сіфіліс* + *-ома*) — інфекцыйная *гранулема* розных органаў чалавека, што праяўляецца ў позні перыяды сіфілісу.

**СІФО́Н** (гр. siphon = трубка, помпа) — 1) выгнутая трубка з каленамі рознай даўжыні, якая служыць для пералівання вадкасці з адной пасудзіны ў другую; 2) пасудзіна для газіраванай вады і іншых шыпучых напіткаў, якія выліваюцца праз трубку пад ціскам вуглекіслаты; 3) прыстасаванне для павелічэння цягі ў паравознай топцы.

**СІЦЫЁЗ** (н.-лац. sicyos) — травяністая расліна сям. гарбузовых з доўгачаранковым лісцем і буйнымі жаўтавата-белымі кветкамі, пашыраная ў Амерыцы і Аўстраліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СІЦЫЛІЯ́НА** (іт. siciliana = сіцылійская) — 1) даўні італьянскі танец; 2) васьмірадковая страфа з дзвюма рыфмамі ў сярэдневяковай італьянскай паэзіі.

**СІЯНІ́ЗМ** (ад ст.-яўр. Sion = назва гары ў Іерусаліме) — яўрэйскі рэакцыйны буржуазна-нацыяналістычны рух, які вызначаецца ваяўнічым шавінізмам, расізмам.

**СКАБІЁЗА** (н.-лац. scabiosa, ад лац. scabiosus = шорсткі) — травяністая расліна сям. варсянкавых з перыстым або рассечаным лісцем і шматлікімі дробнымі кветкамі ў галоўчатых суквеццях, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і, Паўд. Афрыцы і на Далёкім Усходзе; дэкаратыўная, меданосная, фарбавальная.

**СКАБРО́ЗНЫ** (фр. scabreux, -use) — непрыстойны.

**СКАЙ-ТЭР'Е́Р** (англ. skyterrier) — парода сабак з густым падшэрсткам.

**СКАЛАПЕ́НДРА** (гр. skolopendra) — невялікая ядавітая жывёла класа мнаганожак, якая жыве ў цёплых краінах з сухім кліматам.

**СКАЛЕКАДО́НТЫ** (н.-лац. scolecodonten, ад гр. skoleks = чарвяк + odus, odontos = зуб) — выкапнёвыя рэшткі сківіц драпежных мнагашчацінкавых чарвей, якія выяўлены ў адкладах *ардовіку, сілуру, дэвону, карбону.*

**СКАЛЕЦЫ́ДЫ** (н.-лац. scolecida) — першаснаротыя, пазбаўленыя *цэлому*, якія ўключаюць тыпы плоскіх чарвей, *нематгельмінтаў,*

*немерцін, камптазояў*, ніжэйшыя чэрві.

**СКАЛІЁЗ** (гр. skoliosis = скрыўленне) — бакавое скрыўленне пазваночніка, якое ўзнікае пасля перанесенага *рахіту, поліяміэліту* або іншых хвароб.

**СКАЛЬД** (сканд. scald) — старажытнаскандынаўскі паэт-пясняр у дружыне *вікінгаў* або *конунгаў*.

**СКАЛЬП** (англ. scalp, ад лац. scalpere = скабліць) — знятая з галавы забітага ворага скура з валасамі як ваенны трафей у індзейцаў.

**СКАЛЬПАВА́ЦЬ** (лац. scalpere = скабліць) — знімаць з каго-н. *скальп*.

**СКА́ЛЬПЕЛЬ** (лац. scalpellum = ножык) — невялікі хірургічны нож.

**СКАЛЯ́Р** (фр. scalaire, ад лац. scalaris = ступеньчаты) — *мат.* велічыня, кожнае значэнне якой, у адрозненне ад *вектара*, характарызуецца адным сапраўдным лікам (напр. даўжыня, плошча, аб'ём, вага цела).

**СКАЛЯ́РНЫ** (лац. scalaris = ступеньчаты) — *мат.* які вызначаецца толькі лікавым значэннем.

**СКАНДА́Л** (фр. scandale) — 1) ганебнае здарэнне, выпадак, які ставіць яго ўдзельнікаў у няёмкае становішча (напр. палітычны с.); 2) сварка з крыкам, бойкай.

**СКАНДАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. scandaliser) — выклікаць *скандал*.

**СКАНДЗІ́РАВАЦЬ** (лац. scandere) — выразна, па складах вымаўляць словы (напр. с. верш).

**СКА́НДЫЙ** (н.-лац. scandium, ад с.-лац. Scandia = Скандынавія) — хімічны элемент, серабрысты метал з жоўтым адлівам, які не сустракаецца ў прыродзе ў свабодным стане.

**СКА́НСЭН** (шв. skansen) — этнаграфічны музей пад адкрытым небам, дзе экспануюцца ўзоры народных будынкаў і прылад працы пэўнага рэгіёна.

**СКАНТРА́ЦЫЯ** (ад іт. scontrare = сустракаць) — узаемнае пералічэнне сустрэчных плацёжных абавязацельстваў паміж установамі або асобамі.

**СКАПАЛАМІ́Н** (ад н.-лац. scopolia = скаполія) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў *скаполіі* і іншых раслінах сям. паслёнавых; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**СКАПАЛІ́Т** (ад гр. skapos = слуп + *-літ*) — група мінералаў класа *сілікатаў*, ізаморфная сумесь магматычных і асадачных горных парод.

**СКАПА́НІЯ** (н.-лац. scapania) — пячоначны мох сям. скапаніевых на вільготнай глініста-пясчанай і тарфяной глебах.

**-СКАПІЯ** (гр. skopeo = назіраю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да назірання.

**СКАПО́ЛІЯ** (н.-лац. scopolia, ад іт. I.Scopoli = прозвішча іт. батаніка і хіміка 18 ст.) — травяністая расліна сям. паслёнавых з голым сцяблом і кветкамі з венчыкам бура-чырвоным звонку і жаўтавата-бурым унутры; дэкаратыўная; змяшчае ў карэнішчы *алкалоіды* (*скапаламін, атрапін* і інш.), што выкарыстоўваюцца ў медыцыне.

**СКАРАБЕ́Й** (лац. scarabaeus, ад гр. skarabos = жук) — 1) жук-гная-

вік, які водзіцца ў гарачых краінах; 2) малюнак свяшчэннага жука на манетах, каштоўных камянях, упрыгожаннях старажытных егіпцян, а таксама самі гэтыя прадметы з такім малюнкам.

**СКАРАДЫ́Т** (ад гр. scorodon = часнок) — мінерал класа *фасфатаў* белага, зеленаватага і бурага колеру; сыравіна для атрымання мыш'яковага кальцыю.

**СКАРБ** (польск. skarb) — 1) грошы, каштоўныя рэчы, маёмасць; 2) каштоўнасці, якія схаваны ў патаемным месцы; 3) духоўныя і культурныя каштоўнасці (напр. скарбы сусветнай літаратуры).

**СКА́РБНІЦА** (польск. skarbnica) — 1) месца захоўвання дарагіх рэчаў, каштоўнасцей; 2) *перан.* невычэрпная крыніца чаго-н.

**СКАРБУ́Т** (ням. Skorbut) — хвароба чалавека, выкліканая недастатковай колькасцю ў ежы вітаміну С; цынга.

**СКА́РГА** (польск. skarga) — 1) выражэнне незадавальнення з прычыны якіх-н. непрыемнасцей; 2) афіцыйная заява аб няправільным дзеянні якой-н. асобы, установы, арганізацыі.

**СКАРДАТУ́РА** (іт. scordatura) — часовая змена звычайнай настройкі струн музычных інструментаў, пераважна лютні і скрыпак, для аблягчэння выканання некаторых відаў акордаў, змены дыяпазону інструмента і інш.

**СКАРН** (шв. skarn) — метамарфічная горная парода, якая складаецца пераважна з *гранату, піраксену* і некаторых іншых вапнякова-жалезістых *сілікатаў*.

**СКАРПЕ́ЛЬ** (іт. scarpello) — каменячосны разец скульптара.

**СКАРПЕ́НА** (гр. skorpaina) — рыба сям. скарпенавых, пашыраная ў прыбярэжнай зоне пераважна субтрапічных мораў.

**СКАРПІ́ДЫУМ** (н.-лац. scorpidium) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на балотах, па берагах азёр, старых рэчышчаў.

**СКАРПІЁН** (лац. scorpio, -onis, ад гр. skorpios) — 1) ядавітая членістаногая жывёла класа *арахнідаў*, пашыраная ў тропіках і субтропіках; 2) старадаўняя кідальная машына, від балісты.

**СКАРЦАНЕ́РА** (іт. scorzonera, ад scorza = кара) — травяністая расліна сям. складанакветных з ядомымі каранямі, пашыраная ў засушлівых раёнах Еўропы і Азіі; некаторыя віды, напр. *таў-сагыз*, змяшчаюць у каранях каўчук; казялец.

**СКАРЫФІКАВА́ЦЬ** (лац. scarificare = надрэзваць, выдрапваць) — падвяргаць *скарыфікацыі*.

**СКАРЫФІКА́ТАР** (англ. scarificator, ад лац. scarificare = надрэзваць, выдрапваць) — 1) машына для *скарыфікацыі* 1; 2) сельскагаспадарчая прылада для *скарыфікацыі* 2; 3) *мед.* прылада для правядзення насечак на скуры ў час прышчэпак (воспы і інш.).

**СКАРЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. scarificatio = выдрапванне) — 1) штучнае парушэнне *скарыфікатарам* 1 цэласці абалонкі насення некаторых раслін (напр. канюшыны), каб паскорыць прарастанне; 2) разразанне глебы *скарыфікатарам* 2 для ўзмацнення прытоку паветра ў

яе; 3) правядзенне насечак на скуры пры прышчэпках (воспы і інш.).

**СКАТАФЕ́Й** (н.-лац. scotophaeus) — павук сям. *гнафазідаў*, які жыве ў лясным подсціле, пад карой дрэў, камянямі, у дамах.

**СКАТО́Л** (ад гр. skor, skatos = кал + *-ол*) — арганічнае злучэнне *гетэрацыклічнага* рада, прадукт гніення бялкоў з непрыемным пахам; выкарыстоўваецца ў парфумерыі.

**СКАТО́МА** (ад гр. skotos = цемната) — захворванне вачэй, пры якім звужаецца поле зроку.

**СКА́ТЫ** (нарв., шв. scata = рыба) — падатрад драпежных марскіх рыб атрада акулападобных з пляскатым целам і вострым хвастом; пашыраны гал. ч. у трапічных і субтрапічных морах; некаторыя, напр. электрычны скат, маюць на галаве органы, што ўтвараюць электрычныя разрады.

**СКАТЫЕ́ЛА** (н.-лац. scotiella) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая трапляецца пераважна ў зонах снегу і лёду ў высакагорных раёнах, у тарфянабалотных глебах, прэсных водах.

**СКАЎРАФІЕ́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. scourfieldia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая пашырана ў балотах, лужынах, невялікіх азёрах.

**СКАЎТ** (англ. scout = *літар.* разведчык) — член скаўцкай арганізацыі (гл. *скаўтызм*).

**СКАЎТЫ́ЗМ** (ад *скаўт*) — адна з форм дзіцячага і юнацкага руху, якая ўзнікла ў Англіі ў 1907 г. з мэтай выхавання моладзі ў духу патрыятызму і рэлігійнасці; у розных краінах набыла розныя формы; аб'ядноўвае *байскаўтаў* і *герлскаўтаў*.

**-СКАФ** (гр. skaphe = лодка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «судна», «апарат для падводных даследаванняў».

**СКАФАГНАТЫ́ТЫ** (ад гр. skaphe = лодка) — пласцінкі на другой пары ніжніх нагасківіц у вышэйшых ракаў, рух якіх стварае цячэнне вады праз жабры.

**СКАФАКЕФА́ЛІЯ** (ад гр. skaphe = лодка + kephale = галава) — анамальная форма галавы — доўгі вузкі чэрап з выступаючым ілбом і патыліцай, падобны на лодку.

**СКАФА́НДР** (фр. scaphandre, ад гр. skaphe = лодка + aner, andros = чалавек) — спецыяльны герметычны касцюм вадалаза або касманаўта.

**СКВАЙР** (англ. squire) — 1) скарочаная форма англійскага дваранскага тытула *эсквайр*; 2) тытул суддзяў і мясцовых службовых асоб у ЗША і Англіі.

**СКВА́ТЭР** (англ. squatter, ад squat = пасяляцца на чужой зямлі) — 1) каланіст, які самавольна займаў свабодны неапрацаваны ўчастак зямлі ў перыяд пачатковай каланізацыі ў Амерыцы і Аўстраліі; 2) жывёлавод у Аўстраліі, які арандуе для сваіх статкаў неапрацаваны ўчастак зямлі.

**СКВЕР** (англ. square = квадрат) — невялікі гарадскі грамадскі сад.

**СКЕЙТБО́РД** (ад англ. skate = каціцца + board = дошка) — 1) дошка на роліках; 2) *сп.* катанне на дошцы з ролікамі.

# С

**СКЕ́ЛЕТАН** (англ. skeleton) — від скараснога спуску з гор на спецыяльных санках без рулявога кіравання.

**СКЕ́НА** (гр. skene) — часовае драўлянае памяшканне ў старажытнагрэчаскім тэатры для пераадзявання і выхаду акцёраў, пазней сцяна ззаду *архестры*.

**СКЕНАГРА́МА** (ад англ. scan = уважліва разглядаць + *-грама*) — графічны паказ пухлінных утварэнняў, які атрымліваецца на *скенеры*.

**СКЕНАТРО́Н** (ад англ. scan = уважліва разглядаць + *-трон*) — прыбор, прызначаны для колераладзельнай *карэктуры*.

**СКЕ́НЕР** (англ. scanner, ад scan = уважліва разглядаць) — прыбор, які выкарыстоўваецца для выяўлення злаякасных пухлін шляхам назірання над размеркаваннем радыеактыўных ізатопаў, уведзеных у арганізм чалавека.

**СКЕНІ́РАВАЦЬ** (ад англ. scan = уважліва разглядаць) — 1) бесперапынна паэлементна праглядваць прастору праменем *радыелакатара*; 2) выяўляць злаякасную пухліну ў якім-н. органе чалавека з дапамогай *скенера*.

**СКЕ́ПСІС** (гр. skepsis = разбор, сумненне) — сумненне, недавер да чаго-н.

**СКЕ́ПТЫК** (гр. skeptikos = які разглядае, даследуе) — 1) прыхільнік *скептыцызму* 1; 2) недаверлівы чалавек, які сумняваецца ва ўсім.

**СКЕПТЫЦЫ́ЗМ** (фр. scepticisme, ад гр. skeptikos = які разглядае, даследуе) — 1) ідэалістычны філасофскі кірунак, які падвяргае сумненню магчымасць пазнання аб'ектыўнай рэчаіснасці (параўн. *агнастыцызм*); 2) крытычны недавер, крайняе сумненне ў чым-н.

**СКЕПТЫ́ЧНЫ** (гр. skeptikos = які разглядае, даследуе) — 1) які мае адносіны да *скептыцызму* 1; 2) прасякнуты *скептыцызмам* 2.

**СКЕ́РЦА** (іт. scherzo = *літар.* жарт) — інструментальны музычны твор жартаўлівага, гуллівага характару.

**СКЕТЧ** (англ. sketch = эскіз) — невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу.

**СКЕ́ТЫНГ-РЫНГ** (англ. skating-rink, ад skate = катацца на каньках + rink = каток) — пляцоўка з асфальтавым або драўляным пакрыццём для катання на ролікавых каньках.

**СКІ́БА** (польск. skiba, ад ст.-в.-ням. scība) — 1) луста хлеба; 2) пласт узаранай зямлі.

**СКІ́НІЯ** (ад гр. skene = шацёр) — паводле біблейскага падання, пераносны храм у выглядзе шатра, які быў у старажытных яўрэяў да пабудавання храма ў Іерусаліме.

**СКІН-ЭФЕ́КТ** (ад англ. skin = скура, абалонка + *эфект*) — 1) неаднароднае размеркаванне пераменнага току і звязанага з ім электрамагнітнага поля па сячэнні праваднiка: працяканне току высокай частаты не па ўсім сячэнні праваднiка, а па яго паверхневым слоі; 2) узмацненне магнітнага поля ў паверхневых слаях целаў, што намагнічваюцца пераменным магнітным полем.

**СКІП** (англ. skip) — самаразгрузачная скрыня для падымання сыпкіх грузаў, напр. карысных выкапняў з шахты.

**СКІ́ПЕТР** (гр. skeptron) — жазло, упрыгожанае каштоўнымі камянямі і разьбой як знак царскай улады.

**СКІР** (гр. skirros = цвёрды) — адна з формаў рака, якая характарызуецца перавагай злучальнатканай асновы над уласна ракавай тканкай.

**СКІТ** (гр. sketis) — 1) жыллё для манахаў-пустэльнікаў, размешчанае аддалена ад манастырскага будынка; 2) стараверскі манастыр або пасёлак манастырскага тыпу ў глухой пустэльнай мясцовасці.

**СКІФ** (англ. skiff) — доўгая вузкая гоначная лодка з рухомым сядзеннем і гладкай абшыўкай.

**СКІЦЫ́РАВАЦЬ** (ням. skizzieren) — рабіць эцюд, эскіз, накід.

**СКІЯГРА́ФІЯ** (ад гр. skia = цень + *-графія*) — тое, што і *рэнтгенаграфія*.

**СКІЯСКАПІ́Я** (ад гр. skia = цень + *-скапія*) — ценявы метад вызначэння *рэфракцыі* вока.

**СКІЯТРО́Н** (ад гр. skia = цень + *-трон*) — разнавіднасць электронна-прамянёвай трубкі для ператварэння электрычных сігналаў на бачнае адлюстраванне.

**СКІЯФІ́ТЫ** (ад гр. skia = цень + *-фіты*) — расліны, якія растуць у зацененых месцах, напр. грыбы, большасць папарацей; ценелюбівыя расліны.

**СКЛЕ́РА** (гр. skleros = цвёрды) — бялковая абалонка вока, якая спераду пераходзіць у празрыстую рагавіцу.

**СКЛЕРА-** (гр. skleros = цвёрды) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «зацвярдзенне», «ушчыльненне».

**СКЛЕРАБАЗІДЫЯМІЦЭ́ТЫ** (ад *склера-* + *базідыяміцэты*) — тое, што і *тэліяспараміцэты*.

**СКЛЕРАБЛА́СТЫ** (ад *склера-* + *-бласты*) — буйныя клеткі, з якіх утвараецца шкілет у *мезаглеі* губак і некаторых іншых жывёл.

**СКЛЕРАДЭ́РМА** (ад *склера-* + *дэрма*) — хранічная хвароба скуры, якая характарызуецца ўшчыльненнем скуры і падскурнай тканкі.

**СКЛЕРАДЭРМІ́Я** (ад *склера-* + гр. derma = скура) — тое, што і *склерадэрма*.

**СКЛЕРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *склера-* + *-метрыя*) — раздзел *фізікі*, які займаецца вымярэннем цвёрдасці мінералаў, крышталёў і іншых матэрыялаў пры дапамозе *склерометра*.

**СКЛЕРАПРАТЭІ́НЫ** (ад *склера-* + *пратэіны*) — тое, што і *пратэіноіды*.

**СКЛЕРАСЕ́ПТЫ** (ад гр. skleros = цвёрды + лац. saeptum = перагародка) — шкілетныя перагародкі каралавых *паліпаў*.

**СКЛЕРАСКО́П** (ад *склера-* + *-скоп*) — прыбор для вымярэння цвёрдасці металаў і іншых матэрыялаў.

**СКЛЕРАСПО́РА** (н.-лац. sclerospora) — ніжэйшы грыб сям. пераваспоравых, які паразітуе на раслінах сям. злакавых.

# С

**СКЛЕРАТАМІ́Я** (ад *склера-* + *-тамія*) — хірургічная аперацыя пры *глаўкоме*.

**СКЛЕРАТО́М** (ад *склера-* + гр. tome = рэзанне, разрэз) — ніжняя, унутраная частка *саміта*.

**СКЛЕРАТЫНІЁЗЫ** (ад *склератынія*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца склератыніяй.

**СКЛЕРАТЫ́НІЯ** (н.-лац. sclerotinia) — сумчаты грыб сям. склератыніевых, які развіваецца на травяністых раслінах, агародных культурах.

**СКЛЕРАФІ́ТЫ** (ад *склера-* + *-фіты*) — засухаўстойлівыя расліны з жорсткімі лісткамі, пакрытымі тоўстай *кутыкулай*, што перашкаджае выпарэнню (напр. сасна, кавыль і інш.).

**СКЛЕРО́З** (гр. sklerosis = зацвярдзенне) — зацвярдзенне тканкі або органа, выкліканае старэннем і адміраннем дзейсных клетак і заменай іх злучальнай тканкай (напр. с. сасудаў).

**СКЛЕРО́МА** (гр. skleroma = ушчыльненне) — інфекцыйная хвароба, якая характарызуецца развіццём у слізістай абалонцы дыхальных шляхоў запаленчых зацвярдзенняў.

**СКЛЕРО́МЕТР** (ад *склера-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння цвёрдасці мінералаў, крышталёў і іншых матэрыялаў.

**СКЛЕРО́Н** (гр. skleron = цвёрдасць) — сплаў алюмінію з цынкам, меддзю, марганцам і інш.; выкарыстоўваецца ў машынабудаванні, авіяцыйнай прамысловасці.

**СКЛЕРО́ТЫЙ** (н.-лац. sclerotium) — недасканалы грыб класа *дэйтэраміцэтаў*, які выклікае гніенне каранёў і ніжняй часткі сцёблаў сланечніку, цукровых буракоў, бульбы, агуркоў, капусты, канюшыны, люцэрны.

**СКЛЕРО́ЦЫЙ** (гр. sklerotes = цвёрдасць) — стадыя спакою грыбніцы некаторых грыбоў (напр. *склератыніі*), што з'яўляецца шчыльным перапляценнем *гіфаў*.

**СКЛЕРЫ́Т** (ад гр. skleros = цвёрды) — запаленне *склеры* вачэй.

**СКЛЕРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *склера-* + *-фікацыя*) — патаўшчэнне і здзеравяненне абалонак раслін, якое выклікае ўтварэнне *склерэнхімы* і *склерэід*.

**СКЛЕРЭ́ІДЫ** (ад *склера-* + гр. eidos = выгляд) — таўстасценныя клеткі механічнай тканкі (*склерэнхімы*) раслін.

**СКЛЕРЭНХІ́МА** (ад *склера-* + *-энхіма*) — механічная тканка раслін, што складаецца з таўстасценных падоўжаных клетак.

**СКЛЮД** (літ. skliùtas) — вялікая цяслярская сякера для абчэсвання бярвення.

**СКО́ЛЕКС** (гр. skoleks = чарвяк) — «галоўка» стужачных чарвей, на якой змешчаны прысоскі, кручкі, хабаток і іншыя органы прымацавання.

**СКО́ЛІІ** (н.-лац. scoliidae) — сямейства вос; паразіты лічынак пласцініставусых жукоў, якіх адшукваюць у глебе, гнілой драўніне.

**СКО́НТА** (іт. sconto) — скідка з сумы рахунка за плацеж наяўнымі або да тэрміну, што практыкуецца ў міжнародным гандлі.

**-СКОП** (гр. skopeo = назіраю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае назву прылад для назірання.

**СКО́РЧЫНГ** (англ. scorching) — узаемадзеянне каўчуку з вулканізуючымі агентамі на стадыях тэхналагічнага працэсу вытворчасці гумы, якія папярэднічаюць уласна *вулканізацыі*.

**СКО́ТЛЕНД-Я́РД** (англ. Scotland-Yard = шатландскі двор) — 1) цэнтральнае ўпраўленне лонданскай паліцыі і вышукнога аддзелу; 2) лонданская крымінальная паліцыя.

**СКО́ЦЫЯ** (гр. skotia = цемра) — асіметрычны архітэктурны аблом з увогнутым профілем з дзвюх дуг рознага радыуса.

**СКРАП** (англ. scrap) — металалом або адходы вытворчасці, прызначаныя для пераплаўкі.

**СКРАФУЛЁЗ** (ад п.-лац. scrofula = свінка) — туберкулёзнае паражэнне шыйных лімфатычных вузлоў; залатуха.

**СКРОФУЛАДЭ́РМА** (ад п.-лац. scrofula = свінка + *дэрма*) — *туберкулёз* скуры.

**СКРУ́БЕР** (англ. scrubber, ад scrub = скрэбсці) — 1) цыліндрычны апарат для ачысткі прамысловага газу шляхам прапускання праз распыленую вадкасць; 2) барабанная машына для прамывання карысных выкапняў.

**СКРУ́ПУЛ** (лац. scrupulum) — старая адзінка аптэкарскай вагі, роўная 20 *гранам*.

**СКРУПУЛЁЗНЫ** (лац. scrupulosus) — вельмі акуратны, абсалютна дакладны (напр. с-ае даследаванне).

**СКРЫПТО́РЫЙ** (лац. scriptorius = пісчы) — майстэрня рукапіснай кнігі ў заходнееўрапейскіх манастырах 6—12 ст.

**СКРЭБ** (англ. scrub) — тып расліннасці засушлівых раёнаў Аўстраліі, што складаецца пераважна з вечназялёных кустоў *акацыі*.

**СКРЭ́ПЕР** (англ. scraper) — землярыйна-транспартная машына для дарожных работ.

**СКУ́ДА** (іт. scudo, ад лац. scutum = шчыт) — італьянская сярэбраная або залатая манета 16—18 ст.

**СКУДУ́ЦІС** (літ. skudutis) — літоўскі народны духавы музычны інструмент тыпу шматствольнай *флейты*.

**СКУ́ЛЬПТАР** (лац. sculptor) — мастак, які працуе ў галіне *скульптуры*.

**СКУЛЬПТУ́РА** (лац. sculptura) — 1) від выяўленчага мастацтва — стварэнне аб'ёмных вобразаў (статуй, барэльефаў і інш.) з гліны, каменю, дрэва, металу; 2) твор гэтага віду мастацтва або сукупнасць такіх твораў (напр. беларуская с.).

**СКУ́МБРЫЯ** (н.-гр. skumbria, ад гр. skombros) — невялікая марская прамысловая рыба атрада акунепадобных.

**СКУ́МПІЯ** (цюрк. skumpia) — кустовая расліна сям. анакардыевых з жаўтаватай драўнінай і дробнымі жаўтавата-белымі кветкамі, пашыраная ў Паўн. Амерыцы, Паўд. Еўропе і Паўд. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СКУНС** (англ. skunks, мн. ад skunk) — невялікі звярок сям. куніц, з бліскучым цёмным футрам,

пашыраны ў Паўн. Амерыцы; смярдзючка.

**СКУ́ПШЧЫНА** (серб. skupština) — выбарны прадстаўнічы орган дзяржаўнай улады ў Югаславіі.

**СКУТА́ГІЙ** (п.-лац. scutagium, ад лац. scutum = шчыт) — ваенны пабор у сярэдневяковай Англіі, які браўся з трымальнікаў ленаў замест асабістай вайсковай службы.

**СКУТАЗА́ЎР** (ад гр. skutos = шчыт + *-заўр*) — паўзун пермскага перыяду (гл. *палеазой*) атрада *парэязаўраў*, цела на спіне якога было пакрыта касцявымі шчыткамі.

**СКУ́ТАК** (польск. skutek) — тое, што вынікае з чаго-н.; вывад.

**СКУТЭЛЕРЫ́ДЫ** (н.-лац. scutelleridae) — сямейства насякомых атрада паўцвердакрылых; шкоднікі збожжавых культур, асабліва жыта і пшаніцы; шчытнікі-чарапашкі.

**СКУТЭЛІ́НІЯ** (н.-лац. scutellinia) — сумчаты грыб сям. піранемавых, які трапляецца на гнілых галінках і драўніне ў вільготных лясах.

**СКУ́ТЭР** (англ. scooter, ад scoot = імчаць) — аднамесная пласкадонная спартыўная лодка з *рэданам* 2 і падвесным маторам.

**СКУФ'Я́** (с.-гр. skuphia) — спічастая шапка з чорнага або фіялетавага аксаміту ў праваслаўнага духавенства, манахаў.

**СКЭБ** (англ. scab = кароста) — лаянкавае прозвішча *штрэйкбрэхераў* у ЗША і Англіі.

**СЛАВІ́СТЫКА** (ад с.-лац. slavus = славянін) — сукупнасць навуковых дысцыплін аб славянах, іх гісторыі, мовах, фальклоры, літаратурах, матэрыяльнай культуры; славяназнаўства.

**СЛАГ** (англ. slug) — адзінка масы ў сістэме англійскіх мер, роўная 14,5939 кг.

**СЛАЙД** (англ. slide) — 1) фатаграфічны здымак на шкле або празрыстай плёнцы для праекцыйнага ліхтара; 2) рухомае сядзенне для грабца ў гоначнай лодцы.

**СЛА́ЛАМ** (нарв. slalom = лагодны схіл) — скарасны спуск з гор на лыжах па вельмі звілістай дарожцы як від горналыжнага спорту; в о д н ы с. — спаборніцтвы на байдарках і каноэ з праходжаннем праз шэраг спецыяльных варот.

**СЛАЎФО́КС** (англ. slowfox = марудны факстрот) — парны танец свабоднай кампазіцыі з доўгімі лёгкімі слізгаючымі крокамі і нахіламі корпуса, адна з форм *факстрота*.

**СЛЕНГ** (англ. slang = жаргон) — жаргонныя словы або выразы ў англійскай вуснай мове, характэрныя для людзей пэўных прафесій, напр. маракоў, мастакоў і інш. (параўн. *арго, жаргон*).

**СЛЕ́САР** (польск. ślosarz, ад ням. Schlosser) — рабочы, спецыяліст па ручной апрацоўцы, зборцы і рамонту металічных вырабаў.

**СЛІП** (англ. slip = коўзаць) — 1) збудаванне ў выглядзе нахіленай пласкасці для спуску суднаў на ваду або пад'ёму іх на бераг; 2) спуск у кармавой частцы прамысловага судна для пад'ёму на палубу здабытых кітоў або трала з уловам.

**СЛО́ГАН** (англ. slogan = лозунг, дэвіз) — 1) кароткі лозунг, які выражае пэўны погляд або рэкламуе тавар; 2) сціслая, лёгка ўспрымальная фармуліроўка рэкламнай ідэі; 3) аднастайны, шаблонны гутарковы зварот, банальная лозунгавая фраза.

**СЛЯБ** (англ. slab = *літар.* пліта, пласціна) — стальная пліта, якая з'яўляецца загатоўкай для пракаткі ліставой сталі.

**СЛЯ́БІНГ** (англ. slabbing) — магутны пракатны стан, прызначаны для абціскання стальных зліткаў у *слябы*.

**СМАК** (польск. smak, ад с.-в.-ням. gesmac) — 1) адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога служыць язык; 2) адчуванне на языку, уласцівасць чаго-н. ядомага (напр. салодкі с.); 3) *перан.* задавальненне, ахвота (напр. страціць с. да жыцця); у в а й с ц і ў с. — адчуць прыхільнасць да чаго-н.

**СМАКАВА́ЦЬ** (польск. smakować, ад с.-в.-ням. smacken) — 1) есці або піць паволі, з асалодай, стараючыся адчуць *смак* чаго-н.; 2) спрабаваць якую-н. страву або пітво; 3) *перан.* цешыцца з чаго-н., радавацца чаму-н. (напр. с. навіну).

**СМА́ЛЬТА** (ням. Smalte, ад іт. smalto = эмаль, глазура) — каляровае непразрыстае шкло ў выглядзе кубікаў або пласцінак, якое выкарыстоўваецца для мазаічных работ.

**СМАЛЬЦІ́Н** (ад *смальта*) — мінерал класа *персульфідаў* белага або шэрага колеру з металічным бляскам, які з'яўляецца сыравінай для атрымання нікелю і кобальту.

**СМАРА́ГД** (гр. smaragdos) — тое, што і *ізумруд*.

**СМЕШ** (англ. smash = удар) — удар па тэніснаму мячу, што ляціць над галавой, каб прызямліць яго на полі праціўніка.

**СМІ́ЛАКС** (н.-лац. smilax) — вечназялёная кустовая або травяністая ліяна сям. смілаксавых з цэльным лісцем і дробнымі кветкамі, пашыраная ў трапічных, субтрапічных і часткова ўмераных зонах.

**СМІНТУРЫ́** (н.-лац. sminthuridae) — сямейства насякомых атрада нагахвостак; шкодзяць капусце, агуркам, гароху, буракам, канюшыне.

**СМІ́РНА** (гр. smyrna) — пахучая смала.

**СМІТСАНІ́Т** [ад англ. J.Smithson = прозвішча англійскага мінералога (1765—1829)] — мінерал класа *карбанатаў* белага колеру з зеленаватым, буравper або шараватым адценнямі; руда цынку.

**СМОГ** (англ. smog, ад smoke = дым + fog = імгла) — сумесь дыму і пылу з туманам, якая ўтварае завесу над буйнымі прамысловымі гарадамі.

**СМО́КЕД-ШЫ́Т** (англ. smoken sheet) — тып натуральнага *каўчуку*.

**СМО́КІНГ** [англ. śmoking (jacket) = пінжак, у якім кураць] — пінжак з чорнага сукна з адкрытай грудзінай і доўгімі абшытымі шоўкам адваротамі.

**СНАБІ́ЗМ** (англ. snobbism) — манеры, паводзіны, уласцівыя для *сноба*.

# С

**СНА́ЙПЕР** (англ. sniper, ад snipe = страляць з укрыцця) — асабліва меткі стралок.

**СНАЙПЕРСКО́П** (ад *снайпер* + *-скоп*) — прыбор начнога бачання, прызначаны для прыцэльнай стральбы з карабіна ноччу.

**СНА́ЙПІНГ** (англ. sniping, ад snipe = страляць з укрыцця) — звышметкая снайперская стральба.

**СНОБ** (англ. snob) — 1) прадстаўнік буржуазна-дваранскага грамадства, які слепа трымаецца моды, густаў і манер т.зв. вышэйшага свету; 2) чалавек, які беспадстаўна прэтэндуе на вытанчаны густ, манеры, асобую інтэлектуальнасць і інш.

**СО́ДА** (с.-лац. soda) — натрыевая соль вугальнай кіслаты, якая шырока выкарыстоўваецца ў тэхніцы, медыцыне, быце (напр. пітная с.).

**СО́ЛА** (іт. solo, ад лац. solus = толькі адзін) — 1) музычны твор, прызначаны для выканання адным інструментам або адным голасам, а таксама выкананне музычнага твора адным выканаўцам; 2) самастойная партыя ў оперы, сімфоніі і іншых вялікіх музычных творах для аднаго голасу ці інструмента.

**СО́ЛА-ВЭ́КСАЛЬ** (ад іт. solo = адзін, адзіны + *вэксаль*) — звычайны вэксаль з подпісам адной асобы, якая намерваецца ажыццявіць плацёж.

**СО́ЛТЫС** (ст.-польск. szołtys, ад с.-в.-ням. schultheise) — вясковы староста ў Вялікім княстве Літоўскім, феадальнай і буржуазнай Польшчы.

**СОЛЬ**[1] (лац. sol) — пятая ступень асноўнага музычнага гукараду.

**СОЛЬ**[2] (ісп. sol, ад лац. sol = Сонца) — грашовая адзінка Перу, роўная 100 *сентава*.

**СО́ЛЬДА** (іт. soldo, ад лац. solidus = цвёрды) — італьянская медная манета, роўная 0,05 *ліры*.

**СОЛЮБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад п.-лац. solubilis = растваральны) — мімавольнае пранікненне нізкамалекулярнага рэчыва ўнутр *міцэл* паверхнаснаактыўнага рэчыва або макрамалекулярных клубкоў палімера.

**СО́ЛЮКС** (ад лац. sol = Сонца + lux = святло) — лямпа напальвання з *рэфлектарам*, якая выкарыстоўваецца ў *фізіятэрапіі*.

**СО́МА** (гр. soma = цела) — цела арганізма, акрамя мацярынскіх клетак спораў у раслін і клетак зародкавага шляху або палавых клетак у жывёл.

**СОН**[1] (лац. sonus = гук) — адзінка шкалы гучнасці гуку, якая адпавядае гучнасці 40 фон пры частаце гуку 1000 *герц*.

**СОН**[2] (ісп. son) — кубінская песня, блізкая да іспанскага раманса, якая выкарыстоўвае рытмы негрыцянскай музыкі.

**СОНГ** (англ. song) — надзённая сатырычная песенька, якая выкарыстоўваецца ў сучасных нямецкіх, амерыканскіх і англійскіх камічных операх, аглядах, музычных прадстаўленнях.

**СО́ПАР** (лац. sopor = вяласць) — глыбокае прыгнечанне свядомасці са стратай адвольнай і захаваннем рэфлекторнай дзейнасці.

**СО́РБЦЫЯ** (ад лац. sorbeo = паглынаю) — *хім.* паглынанне цвёрдымі целамі або вадкасцямі (*сарбентамі*) газаў, пары і раствораў рэчываў; адрозніваюць *абсорбцыю, адсорбцыю* і *хемасорбцыю* (проціл. *дэсорбцыя*).

**СО́РГА** (іт. sorgo) — травяністая расліна сям. злакавых, знешне падобная на кукурузу, якая пашырана пераважна ў трапічных і субтрапічных зонах; кармавая, харчовая, тэхнічная; на Беларусі зрэдку вырошчваецца на Палессі.

**СОРТ** (фр. sorte, ад лац. sors, -rtis = частка, разнавіднасць) — разнавіднасць, разрад чаго-н. у залежнасці ад яго якасці, гатунак (напр. чай вышэйшага сорту, высокаўраджайны с. пшаніцы).

**СО́РУС** (н.-лац. sorus, ад гр. soros = куча) — сукупнасць кучна размешчаных *спарангіяў* на лісцях папараці і некаторых водарасцей.

**СО́РЫ** (цюрк. sory) — саланчакі з глінiстым грунтам, якія ўтвараюцца ў паніжэннях рэльефу пры неглыбокім заляганні грунтавых вод.

**СО́УС** (фр. sauce) — прыправа, падліва для стравы.

**-СОФІЯ** (гр. sophia = мудрасць) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «вучэнне», «мудрасць».

**СО́ЦЫУМ** (лац. socium = агульнае, сумеснае) — грамадства, сацыяльнае акружэнне чалавека, сукупнасць складзеных гістарычна форм дзейнасці людзей.

**СО́Я** (яп. sio-ju) — травяністая расліна сям. бабовых з трайчастым лісцем і струкавым зернем, што выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці, пашыраная пераважна ў тропіках Азіі, Афрыкі і Амерыкі; на Беларусі прамысловага значэння не мае.

**СПАГЕ́ЦІ** (іт. spaghetti) — выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе доўгіх ніцей, якія адварваюцца цалкам.

**СПАГІ́** (фр. spahi, ад перс. sipahi = салдат) — кавалерысты з мясцовага насельніцтва ў французскіх каланіяльных войсках 19—20 ст. у Паўн. Афрыцы.

**СПАДУМЕ́Н** (гр. spodumenos = спапялёны) — мінерал класа *сілікатаў* светла-зялёнага або бледнаружовага колеру; руда *літыю*.

**СПА́ЗМА** (гр. spasma) — працяглая сутарга мышц стрававода, кішэчніка, страўніка, горла, а таксама крывяносных сасудаў.

**СПАЗМАЛІЦЫ́Н** (ад *спазма* + гр. lysis = растварэнне, аслабленне) — лекавы *прэпарат*, працiспазматычны сродак.

**СПАЗМАТЫ́ЧНЫ** (фр. spasmatique, ад гр. spasma = сутарга) — які мае адносіны да *спазмы*; выкліканы спазмамі, сутаргавы.

**СПАЗМАФІЛІ́Я** (ад *спазма* + *-філія*) — захворванне дзяцей ранняга ўзросту, звязанае з парушэннем абмену кальцыю, што праяўляецца ў павышанай нервовай узбуджальнасці і схільнасці да сутаргаў.

**СПАЙК** (англ. spike) — кароткачасовае ваганне *патэнцыялу*, якім суправаджаецца ўзбуджэнне ў нервовых або мышачных клетках.

**СПАНГАСПО́РА** (н.-лац. spongospora) — слізявік сям. плазмадыяфаравых, які паразітуе на падзем-

ных органах бульбы, таматаў і іншых раслін сям. паслёнавых.

**СПАНГІ́Н** (ад гр. spongos = губка) — арганічнае рэчыва, блізкае да *хініну*, з якога складваецца шкілет марскіх губак.

**СПАНГІПЕ́ЛІС** (н.-лац. spongipellis) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце ў розных лясах на адмерлай драўніне.

**СПАНГІ́Т** (ад гр. spongos = губка) — скамянелая марская губка.

**СПАНДЫЛЁЗ** (гр. spondylos = пазванок) — сплюшчванне і зрастанне пазванкоў паміж сабой у чалавека і пазваночных жывёл, выкліканае траўмамі, парушэннем абмену рэчываў, функцый залоз унутранай сакрэцыі.

**СПАНДЫЛІ́Т** (ад гр. spondylos = пазванок) — хранічнае запаленне пазванкоў.

**СПАНДЫ́ЛІУМ** (ад гр. spondylos = пазванок) — моцна развіты зубны апарат ракавіны ў некаторых пласціністажабравых *малюскаў*.

**СПАНДЫЛО́ЗІУМ** (н.-лац. spondylosium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, якая трапляецца ў азёрах, балотах, радзей у рэках, вадасховішчах і сажалках.

**СПАНДЭ́Й** (гр. spondeios) — двухскладовая стапа (у антычным вершаскладанні — з двух доўгіх складоў, у сілаба-танічным — з двух націскных складоў).

**СПАНІЕ́ЛЬ** (англ. spaniel, ад лац. hispanus = іспанскі) — парода даўгашэрсных каратканогіх паляўнічых сабак з вялікімі вісячымі вушамі.

**СПАНТА́ННЫ** (лац. spontaneus = адвольны) — выкліканы ўнутранымі прычынамі, без знешніх уздзеянняў (напр. с-ае развіццё).

**СПАРАБЛА́СТ** (ад *спора* + *-бласты*) — утварэнні, якія ўзнікаюць пры *спарагоніі*.

**СПАРАВІКІ́** (ад *спора*) — клас аднаклетачных жывёл тыпу прасцейшых; паразітуюць у клетках, тканках і поласцях цела жывёл і чалавека; выклікаюць *малярыю*, *какцыдыёз* і іншыя хваробы.

**СПАРАГО́НІЙ** (ад *спора* + гр. gonos = нараджэнне, развіццё) — бясполае пакаленне (*спарафіт*) у мохападобных, якое складаецца з каробачкі, дзе ўтвараюцца споры бясполага размнажэння, ножкі і прысоскі, што ўкараняецца ў тканку *гаметафіта* (палавога пакалення) і атрымлівае ад яго пажыўныя рэчывы.

**СПАРАГО́НІЯ** (ад *спора* + *-гонія*) — цыкл у развіцці *спаравікоў*, калі ў выніку дзялення спачатку ўтвараюцца *спарабласты*, а затым *спаразоіты*.

**СПАРАДЫ́ЧНЫ** (лац. sporadicus, ад гр. sporadikos) — адзінкавы, не рэгулярны, выпадковы (напр. с-ая з'ява).

**СПАРАДЭ́РМА** (ад *спора* + *дэрма*) — абалонка, якая ахоўвае спору або пылковае зерне.

**СПАРАЗО́ІТЫ** (ад *спора* + гр. zoon = жывёла) — дробныя рухомыя асобіны *спаравікоў*, якія ўтвараюцца пры дзяленні *спарабласта*.

**СПАРА́НГІЙ** (ад *спора* + гр. angeion = пасудзіна) — орган раслін, у якім утвараюцца споры, што

служаць для бясполага размнажэння.

**СПАРАНЕ́МА** (н.-лац. sporonema) — недасканалы грыб сям. эксцыпулавых, які паразітуе на люцэрне, выклікае плямістасць лісця.

**СПАРАСА́КІ** (ад *спора* + фр. sac = мяшок) — відазмененая палавая асобіна калоніі марскіх *гідроідаў*, якая ўяўляе сабой мяшок, напоўнены палавымі клеткамі.

**СПАРА́СІС** (н.-лац. sparassis) — *базідыяльны* грыб сям. рагацікавых, які расце ў хваёвых лясах каля пнёў; грыбная капуста.

**СПАРАФІ́Л** (ад *спора* + *-філ*) — відазмenены ліст споравых раслін, на якім развіваюцца *спарангіі*.

**СПАРАФІ́Т** (ад *спора* + *-фіты*) — бясполае пакаленне ў цыкле развіцця раслін, якое чаргуецца з палавым.

**СПАРАЦЫ́СТА** (ад *спора* + *цыста*) — 1) стадыя развіцця некаторых аднаклетачных жывёл класа *спаравікоў*, 2) паразітычнае лічынкавае пакаленне *трэматодаў*.

**СПАРДЭ́К** (англ. spar-deck) — верхняя палуба на трохпалубных суднах 19 і пач. 20 ст. або палуба сярэдняй пабудовы на суднах сучаснай канструкцыі.

**СПА́РЖА** (іт. sparagio, ад лац. asparagus < гр. asparagos) — травяністая расліна сям. лілейных з тонкім лускаватым лісцем і дробнымі жаўтавата-зялёнымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах, а таксама яе тоўстыя белыя падземныя парасткі, якія ўжываюцца ў ежу.

**СПАРТАКІЯ́ДА** [ад лац. Spartacus = імя кіраўніка паўстання рабоў у Стараж. Рыме + *(алімп)іяда*] — масавае спаборніцтва спартыўных каманд і таварыстваў па розных відах спорту.

**СПАРТА́НЕЦ** (ад гр. Sparte = Спарта) — 1) грамадзянін старажытнагрэчаскай дзяржавы Спарты, жыхары якой вызначаліся суровым спосабам жыцця, вынослівасцю і цярплівасцю; 2) *перан.* чалавек, які адмаўляецца ад раскошы, вядзе суровы спосаб жыцця.

**СПАРТА́НСКІ** (ад *спартанец*) — уласцівы спартанцу, суровы, просты і строгі (напр. с-ае выхаванне, с. спосаб жыцця).

**СПАРТСМЕ́Н** (англ. sportsman) — той, хто сістэматычна займаецца *спортам*.

**СПА́РЫНГ** (англ. sparring) — трэніровачны бой баксёраў перад спаборніцтвам; вольны бой.

**СПА́РЫНГ-ПАРТНЁРЫ** (ад *спарынг* + *партнёр*) — партнёры для трэніроўкі (спартсмены, каманды), блізкія па ўзроўню спартыўнай падрыхтоўкі.

**СПАТУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. spatularia) — сумчаты грыб сям. геаглосавых, які расце на глебе ў хвойных лясах.

**СПЕКТА́КЛЬ** (фр. spectacle, ад лац. spectaculum = відовішча) — 1) тэатральная пастаноўка; 2) *перан.* якое-н. незвычайнае відовішча, здарэнне.

**СПЕКТР** (лац. spectrum = бачнае) — 1) каляровая паласа, якая атрымліваецца пры раскладанні промня святла, калі ён праходзіць праз прызму; 2) сукупнасць значэнняў якой-н. фізічнай велічыні, якая характарызуе сістэму або

працэс (напр. с. ваганняў, с. энергіі).

**СПЕКТРАБАЛАГРА́МА** (ад *спектр* + гр. bole = прамень + *-грама*) — графік размеркавання інтэнсіўнасці электрамагнітных прамянёў у спектры планеты.

**СПЕКТРАБАЛО́МЕТР** (ад *спектр* + *балометр*) — прыбор для вымярэння інтэнсіўнасці электрамагнітнага выпрамянення ў розных участках спектра планеты.

**СПЕКТРАГЕЛІЁГРАФ** (ад *спектр* + *геліёграф*) — *спектрограф* для фатаграфавання Сонца ў *монахраматычных* участках прамянёў.

**СПЕКТРАГЕЛІЯГРА́МА** (ад *спектр* + *геліяграма*) — фатаграфія Сонца ў яго *монахраматычным* выпрамяненні, зробленая пры дапамозе *спектрагеліёграфа*.

**СПЕКТРАГЕЛІЯСКО́П** (ад *спектр* + *геліяскоп*) — прыбор для візуальнага вывучэння паверхні Сонца ў *монахраматычных* участках прамянёў.

**СПЕКТРАГРА́МА** (ад *спектр* + *-грама*) — фотаздымак спектра.

**СПЕКТРАГРА́ФІЯ** (ад *спектр* + *-графія*) — апісанне гукаў мовы на аснове раскладання іх на частотныя кампаненты і графічнага адлюстравання на плоскасці.

**СПЕКТРАКАМПАРА́ТАР** (ад *спектр* + *кампаратар*) — падвойны *мікраскоп* для параўнання дзвюх *спектраграм* нябесных свяцілаў, каб вызначыць пэўныя характарыстыкі свяціла.

**СПЕКТРА́ЛЬНЫ** (ад лац. spectrum = бачнае) — 1) які мае адносіны да *спектра*, уласцівы яму (напр. с-ыя лініі); 2) які служыць для атрымання, даследавання спектраў (напр. с-ыя прыборы — *спектрограф, спектрометр, спектраскоп*); 3) які мае адносіны да ўспрымання розных колераў спектра (напр. с-ая адчувальнасць вока).

**СПЕКТРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *спектр* + *-метрыя*) — галіна *спектраскапіі*, якая распрацоўвае метады атрымання спектраў і вымярэння *спектральных* характарыстык рэчыва.

**СПЕКТРАПАЛЯРЫМЕ́ТР** (ад *спектр* + *палярыметр*) — прыбор для вымярэння залежнасці аптычнай актыўнасці рэчыва ад даўжыні светлавой хвалі.

**СПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *спектр* + *-скапія*) — раздзел *фізікі*, які вывучае ўласцівасці спектраў электрамагнітнага выпрамянення.

**СПЕКТРАСКО́П** (ад *спектр* + *-скоп*) — прыбор для візуальнага вывучэння аптычных спектраў.

**СПЕКТРАФАТО́МЕТР** (ад *спектр* + *фатометр*) — прыбор для параўнання яскравасці святла ў асобных участках спектра.

**СПЕКТРАФОТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *спектр* + *фотаметрыя*) — раздзел фотаметрыі, які вывучае спектральныя характарыстыкі целаў пры дапамозе *спектрафатометраў*.

**СПЕКТРО́ГРАФ** (ад *спектр* + *-граф*) — *спектраскоп* з фатаграфічнай камерай.

**СПЕКТРО́МЕТР** (ад *спектр* + *-метр*) — аптычны прыбор для вымярэння спектраў пры дапамозе фотаэлектрычных прыёмнікаў выпрамянення.

**СПЕКУЛЯВА́ЦЬ** (польск. spekulować, ад лац. speculare = сузіраць, наглядаць) — 1) займацца *спекуляцыяй*, гандляваць з мэтай нажывы; 2) *перан.* дзейнічаць, выкарыстоўваючы што-н. у карыслівых мэтах (напр. с. на давер'і).

**СПЕКУЛЯ́НТ** (ням. Spekulant, ад лац. speculans, -ntis = які наглядае) — 1) той, хто займаецца *спекуляцыяй*, гандлюе з мэтай нажывы; 2) *перан.* той, хто імкнецца выкарыстаць што-н. у карыслівых мэтах.

**СПЕКУЛЯТЫ́ЎНЫ** (лац. speculativus) — адарваны ад вопыту, разумовы, абстрактны (напр. с-ая філасофія).

**СПЕКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. speculatio = высочванне, назіранне) — 1) гандаль з мэтай нажывы, скупка і перапродаж тавараў і прадуктаў па больш высокіх цэнах; 2) *перан.* выкарыстанне чаго-н. з карыслівымі мэтамі; 3) *філас.* абстрактныя разважанні, адарваныя ад вопыту і практыкі.

**СПЕЛЕАЛО́ГІЯ** (ад гр. spelaion = пячора + *-логія*) — навука, якая займаецца вывучэннем паходжання, будовы пячор і выкарыстання іх чалавекам.

**СПЕЛЕАТУРЫ́ЗМ** (ад гр. spelaion = пячора + *турызм*) — падарожжы з мэтай вывучэння пячор.

**СПЕЛЕАФА́ЎНА** (ад гр. spelaion = пячора + *фауна*) — сукупнасць жывёл, якія водзяцца ў пячорах, трэшчынах горных парод.

**СПЕЛЕО́ЛАГ** (ад *спелеалогія*) — спецыяліст у галіне спелеалогіі.

**СПЕ́РМА** (гр. sperma = семя) — рэчыва, якое выпрацоўваюць мужчынскія палавыя залозы і якое ўтрымлівае палавыя клеткі.

**СПЕРМАГО́НІЙ** (ад *сперма* + гр. gone = нараджэнне) — орган, у якім развіваюцца споры (*спермацыі*) у некаторых груп грыбоў, напр. іржаўных.

**СПЕРМАТАГЕНЕ́З** (ад гр. sperma, -atos = семя + *-генез*) — развіццё мужчынскіх палавых клетак (*сперматазоідаў*) у семенніках чалавека і жывёл.

**СПЕРМАТАГО́НІІ** (ад гр. sperma, -atos = семя + *-гонія*) — мужчынскія палавыя клеткі ў пачатковы перыяд *сперматагенезу*.

**СПЕРМАТАЗО́ІД** (ад гр. sperma, -atos = семя + zoon = жывёла + *-оід*) — мужчынская палавая клетка чалавека, жывёл і многіх раслін.

**СПЕРМАТАРЭ́Я** (ад гр. sperma, -atos = семя + rheo = цяку) — мімавольнае выцяканне семяннoй вадкасці, якое назіраецца пры некаторых захворваннях.

**СПЕРМАТАФІ́ТЫ** (ад гр. sperma, -atos = семя + *-фіты*) — вышэйшыя расліны, насенныя расліны.

**СПЕРМАТАФО́РЫ** (ад гр. sperma, -atos = семя + *-фор*) — капсулы, запоўненыя *сперматазоідамі*, якія характэрны для некаторых малюскаў, членістаногіх і земнаводных.

**СПЕРМАТАЦЫ́ТЫ** (ад гр. sperma, -atos = семя + *-цыты*) — мужчынскія палавыя клеткі ў перыяд росту і даспявання.

**СПЕРМАТЫ́ДЫ** (ад гр. sperma, -atos = семя + eidos = выгляд) — мужчынскія палавыя клеткі ў апошні перыяд *сперматагенезу*.

# С

**СПЕРМАТЭ́КА** (ад *сперма* + *-тэка*) — 1) орган у гермафрадытнай палавой сістэме некаторых плоскіх і кольчатых чарвей, у які паступае сперма другой асобіны; 2) частка жаночага палавога апарата многіх жывёл, якая служыць для працяглага захавання спермы.

**СПЕРМА́ЦЫЙ** (ад гр. sperma = семя) — нерухомая мужчынская палавая клетка чырвоных водарасцяў, некаторых груп грыбоў.

**СПЕРМАЦЭ́Т** (ад *сперма* + гр. ketos = кіт) — воскападобнае рэчыва, якое змяшчаецца ў асобных поласцях галавы кашалота і ўжываецца ў парфумерыі і медыцыне.

**СПЕ́РМІЙ** (ад гр. sperma = семя) — мужчынская палавая клетка (*гамета*) пакрытанасенных і большасці голанасенных раслін.

**СПЕРМІ́Н** (ад гр. sperma = семя) — арганічнае рэчыва, якое здабываецца з семяннай вадкасці жывёл і ўжываецца як лекавы сродак, што ўмацоўвае нервовую сістэму.

**СПЕ́ЦЫІ** (лац. species) — вострыя пахучыя прыправы да ежы, напр. карыца, шафран, перац, ваніль, гарчыца, лаўровы ліст.

**СПЕЦЫ́ФІКА** (п.-лац. specificus = асаблівы) — тое, што ўласціва толькі дадзенаму прадмету ці з'яве, іх асаблівасць.

**СПЕЦЫФІКАВА́ЦЬ** (п.-лац. specificare) — 1) рабіць пералік *спецыфічных* асаблівасцей чаго-н., класіфікаваць; 2) складаць дакумент з пералікам частак якога-н. вырабу.

**СПЕЦЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. specificatio) — 1) вызначэнне і пералік *спецыфічных* асаблівасцей, на якія неабходна звярнуць асаблівую ўвагу; 2) тэхнічны дакумент з пералікам частак якога-н. вырабу.

**СПЕЦЫФІ́ЧНЫ** (лац. specificus = асаблівы) — уласцівы толькі дадзенаму прадмету ці з'яве, асаблівы.

**СПЕЦЫЯЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. spécialiser, ад лац. specialis = асаблівы) — 1) даваць *спецыяльныя* веды ў якой-н. галіне, навучаць якой-н. спецыяльнасці; 2) абмяжоўваць вытворчую дзейнасць якой-н. спецыяльнай галіной.

**СПЕЦЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. spécialisation, ад лац. specialis = асаблівы) — 1) набыццё *спецыяльных* ведаў у якой-н. галіне, праца ў вузкай спецыяльнасці; 2) абмежаванне вытворчай дзейнасці якой-н. спецыяльнай галіной; 3) падзел працы на асобныя аперацыі; 4) асаблівыя рысы прыстасавання арганізмаў да ўмоў існавання, уласцівыя дадзенаму віду жывёл (напр. аднапальцая канечнасць каня).

**СПЕЦЫЯЛІ́СТ** (лац. specialis = асаблівы) — асоба, якая валодае прафесійна *спецыяльнымі* ведамі і навыкамі ў якой-н. галіне навукі, тэхнікі, вытворчасці, мастацтва; майстар сваёй справы.

**СПЕЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. specialis = асаблівы) — 1) асобы, прызначаны толькі для каго-н., чаго- н. (напр. с. рэйс); 2) звязаны з асобнай галіной навукі, тэхнікі, вытворчасці, мастацтва (напр. с-ая навучальная ўстанова, с-ая тэрміналогія).

**СПІДВЕ́Й** (англ. speedway, ад speed = хуткасць + way = шлях, дарога) — мотагонкі на гаравым,

землянЫм, травяным або ледзяным трэку.

**СПІДО́МЕТР** (ад англ. speed = хуткасць + *-метр*) — прыбор для вымярэння хуткасці руху транспартных машын і пройдзенай адлегласці.

**СПІЖА́РНЯ** (польск. spiżarnia) — кладоўка.

**СПІКА́ТА** (іт. spiccato) — асобны кідок смычка на кожную ноту пры ігры на смычковых інструментах.

**СПІ́КЕР** (англ. speaker, ад speak = гаварыць) — 1) старшыня парламента ці (у парламентах некаторых краін) яго ніжняй палаты; 2) асоба, якая аб'яўляе гледачам рашэнне суддзяў на спаборніцтвах па боксу.

**СПІ́КУЛЫ** (лац. spiculum = кончык, лязо) — 1) невялікія кароткачасовыя выступы *храмасферы* каля краю сонечнага дыска; 2) шкілетныя элементы некаторых беспазваночных жывёл (напр. іголкі ў губак); 3) часткі мужчынскага палавога органа ў круглых чарвей.

**СПІЛІ́ТЫ** (ад гр. spilas = скала + *-літ*) — эфузіўныя горныя пароды, утвораныя ад падводных вулканічных вывяржэнняў; змяшчаюць многа натрыю.

**СПІН** (англ. spin = вярчэнне) — уласны момант колькасці руху элементарнай часціцы (*электрона, пазітрона, пратона, нейтрона* і інш.).

**СПІНА́КЕР** (англ. spinnaker) — дадатковы трохвугольны парус на спартыўных парусных лодках.

**СПІНА́ЛЬНЫ** (ад лац. spina = хрыбет) — які адносіцца да пазваночніка або спіннога мозгу.

**СПІ́НАР** (ад англ. spin = вярцецца) — матэматычная велічыня, якая характарызуецца асаблівым законам пераўтварэння ў выпадку пераходу ад адной сістэмы каардынат да іншай.

**СПІНЕ́Т** (іт. spinetta, ад Spinetti = прозвішча іт. музычнага майстра) — невялікі *клавесін* чатырохвугольнай або трохвугольнай формы з адзінарнымі струнамі і гукарадам да чатырох актаў.

**СПІ́НІНГ** (англ. spinning, ад spin = вярцецца) — рыбалоўная снасць, якая складаецца з вудзільна, катушкі з наматанай лёскай і бляснЫ.

**СПІНТАРЫСКО́П** (ад гр. spintharis = іскра + *-скоп*) — прыбор для візуальнага вывучэння альфа-часціц, якія выпраменьваюцца радыеактыўнымі рэчывамі.

**СПІРАГІ́РА** (н.-лац. spirogyra, ад гр. speira = выгіб + gyros = кола) — ніткаватая зялёная водарасць сям. спірагіравых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах са стаячай вадой, утвараючы пену.

**СПІРАГРА́МА** (ад лац. spirare = дыхаць, выдыхаць + *-грама*) — графічны адбітак рухаў лёгкіх у працэсе работы.

**СПІРАГРА́ФІЯ** (ад лац. spirare = дыхаць, выдыхаць + *-графія*) — запіс работы лёгкіх пры дапамозе *спірографа* (гл. таксама *пнеўмаграфія*).

**СПІРА́ЛЬ** (фр. spirale, ад гр. speira = выгіб) — 1) *мат.* незамкнутая крывая лінія, якая ўтварае шэраг завіткоў вакол пункта на плоскасці або вакол восі; 2) спружына або

дрот у выглядзе віткападобнай лініі (напр. с. электрычнай плітკі).

**СПІРАМЕ́ТРА** (н.-лац. spirometra) — гельмінт сям. *дыфілабатрыідаў*; паразітуе ў кішэчніку драпежных млекакормячых.

**СПІРАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. spirare = дыхаць, выдыхаць + *-метрыя*) — вымярэнне жыццёвай ёмістасці лёгкіх пры дапамозе *спірометра*.

**СПІРА́НТ** (лац. spirans, -ntis = які дзьме) — *лінгв.* фрыкатыўны зычны гук.

**СПІРАТЭ́НІЯ** (н.-лац. spirotaenia) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. мезатэніевых, якая пашырана пераважна ў кіслых забалочаных вадаёмах, каналах, лужынах, на вільготных імхах, глебе і скалах.

**СПІРАХЕТО́ЗЫ** (ад *спірахеты*) — інфекцыйныя хваробы людзей і некаторых жывёл, якія выклікаюцца спірахетамі (напр. зваротны тыф, сіфіліс).

**СПІРАХЕ́ТЫ** (ад гр. speira = выгіб + chaite = валасы) — група хваробатворных *бактэрый*, якія маюць выгляд доўгіх спіральных нітак; пашыраны ў прэсных вадаёмах.

**СПІРО́ГРАФ** (ад лац. spirare = дыхаць, выдыхаць + *-граф*) — прыбор для запісу работы лёгкіх.

**СПІРО́МЕТР** (ад лац. spirare = дыхаць, выдыхаць + *-метр*) — прыбор для вымярэння аб'ёму паветра, якое выштурхоўваецца з лёгкіх пры выдыху.

**СПІРО́РБІС** (н.-лац. spirorbis) — выкапнёвы кольчаты чарвяк сям. *серпулідаў*, насяляў марскія вадаёмы ў *ардовіку*.

**СПІРТО́МЕТР** (ад *спірты* + *-метр*) — *арэометр* са шкалой для вызначэння моцнасці спіртавых раствораў.

**СПІРТЫ́** (англ. spirits, ад лац. spiritus = дыханне, дух) — арганічныя злучэнні, якія змяшчаюць адну або некалькі *гідраксільных* груп (OH) у малекуле; выкарыстоўваюцца для вырабу алкагольных напіткаў, а таксама ў медыцыне і ў тэхнічнай прамысловасці (напр. этылавы с., метылавы с., борны с., камфорны с. і інш.).

**СПІРУЛІ́НА** (н.-лац. spirulina) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая пашырана ў прэснай, саланаватай і салёнай вадзе, у гнілым іле і глебе.

**СПІРЫ́ЛЫ** (н.-лац. spirilla, ад гр. speira = выгіб) — *бактэрыі*, якія маюць форму спіральна выгнутых або дугападобных палачак; жывуць у вадаёмах, глебе, трапляюцца ў гноі, страўніку жывёл.

**СПІРЫТУАЛІ́ЗМ** (фр. spiritualisme, ад лац. spiritualis = духоўны) — ідэалістычнае філасофскае вучэнне, паводле якога дух (душа) з'яўляецца першаасновай свету.

**СПІРЫ́ТУС** (лац. spiritus = дыханне, дух) — *разм.* спірт.

**СПІРЫТЫ́ЗМ** (фр. spiritisme, ад лац. spiritus = душа, дух) — містычная вера ў замагільнае жыццё душ памерлых і ў магчымасць зносін з імі, а таксама ўяўныя зносіны з душамі памерлых пры дапамозе розных прыёмаў (вярчэнне сталоў, сподачкаў і інш.).

**СПІРЫФЕРЫ́ДЫ** (н.-лац. spiriferida) — атрад вымерлых замковых *брахіяподаў*, якія жылі ў *ардовіку — юры*.

**СПІ́РЫЧУЭЛ** (англ. spiritual = духоўны) — духоўная песня амерыканскіх неграў.

**СПІРЭ́Я** (н.-лац. spiraea) — кустовая расліна сям. ружавых з белымі, ружовымі або чырвонымі кветкамі ў парасонападобных суквеццях, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СПІЧ** (англ. speech) — кароткая прывітальная застольная прамова.

**СПІЧРА́ЙТЭР** (ад англ. speech = прамова + writer = які піша) — асоба, якая піша тэкст прамовы, даклада для другой асобы, што выступае як аўтар (такімі з'яўляюцца саветнікі, памочнікі пры кіраўніках).

**СПЛАНХНАЛО́ГІЯ** (ад гр. splanchnon = вантробы + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае вантробы чалавека і жывёл.

**СПЛАНХНАПЛЕ́ЎРА** (ад гр. splanchnon = вантробы + *плеўра*) — сценка другаснай поласці цела, якая прылягае да кішэчнай трубкі.

**СПЛАНХНАПТО́З** (ад гр. splanchnon = вантробы + *-птоз*) — тое, што і *энтэраптоз*.

**СПЛАНХНАТО́М** (ад гр. splanchnon = вантробы + tome = адрэзак) — брушны несегментаваны аддзел сярэдняга зародкавага лістка хордавых жывёл і чалавека.

**СПЛА́ХНУМ** (н.-лац. splachnum) — лістасцябловы мох сям. сплахнавых, які расце на вільготных пашах і балотах.

**СПЛЕНАМЕГА́ЛІЯ** (ад гр. splen = селязёнка + megas, -alos = вялікі) — павелічэнне селязёнкі ў сувязі з яе захворваннем або хваробамі крыві, печані і інш.

**СПЛЕНІ́Н** (ад гр. splen = селязёнка) — лекавы гарманальны прэпарат, які выкарыстоўваецца пры лячэнні *таксікозаў*, прамянёвай хваробы і інш.

**СПЛІН** (англ. spleen, ад гр. splen = селязёнка) — *уст.* сумны настрой, апатыя, хандра.

**СПЛІТ** (англ. split) — драбленне нерэалізаваных акцый карпарацыі на большую колькасць пры захаванні прапарцыянальнасці іх размеркавання сярод акцыянераў.

**СПОНДЫЛААРТРЫ́Т** (ад гр. spondylos = пазванок + *артрыт*) — запаленне міжпазванковых суставаў (параўн. *спондылаартроз*).

**СПОНДЫЛААРТРО́З** (ад гр. spondylos = пазванок + *артроз*) — хранічнае незапаленчае захворванне міжпазванковых суставаў.

**СПОНДЫЛАЛІСТЭ́З** (ад гр. spondylos = пазванок + olisthesis = слізганне) — змяшчэнне пазванка ўперад у выніку траўмы або паталагічнага працэсу ў міжпазванковым дыску.

**СПО́НСАР** (англ. sponsor) — 1) асоба (арганізацыя, прадпрыемства), якая фінансуе якое-н. мерапрыемства, арганізацыю; 2) фірма, якая заказвае радыё- або тэлепраграму ў рэкламных мэтах; 3) ініцыятар, арганізатар; 4) дзяржава або палітычны дзеяч, якія прапанавалі праект рэзалюцыі па міжнародным пытанні.

# С

**СПОРАБАЛАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. sporobolomyces) — сумчатыя грыбы (дрожджы) падкласа *геміаскаміцэтаў*, якія развіваюцца на лісці культурных і дзікарослых злакаў.

**СПОРАГЕНЕ́З** (ад *споры* + *-генез*) — працэс утварэння спораў у большасці раслін.

**СПОРТ** (англ. sport) — 1) фізічныя практыкаванні (гімнастыка, барацьба, турызм і інш.) з мэтай умацавання арганізма, дасягнення высокіх вынікаў у спаборніцтвах; 2) парастак, які рэзка адрозніваецца ад іншых парасткаў той жа расліны (лістамі, памерам і афарбоўкай пладоў і інш.).

**СПО́РЫ** (гр. spora = семя) — аднаклетачныя ўтварэнні, якія служаць для размнажэння бяскветкавых раслін (грыбоў, імхоў, папарацей і інш.) і некаторых прасцейшых арганізмаў.

**СПОТ** (англ. spot) — біржавая здзелка на наяўны тавар з неадкладнай аплатай.

**СПРУ** (англ. sprue) — хранічная хвароба чалавека з паносамі, гласітам, анеміяй, знясіленнем, якая пашырана ў зонах трапічнага і субтрапічнага клімату.

**СПРЫ́НГЕР** (англ. springer) — разнавіднасць гончага сабакі.

**СПРЫ́НКЛЕР** (англ. sprinkler, ад sprinkle = пырскаць) — аўтаматычная водараспырсквальная прылада на трубаправодах сістэм пажаратушэння.

**СПРЫНТ** (англ. sprint) — спаборніцтва на кароткія дыстанцыі ў лёгкаатлетычным бегу, катанні на каньках, у веласіпедным спорце, плаванні і інш.

**СПРЫ́НТЭР** (англ. sprinter) — спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу, катанні на каньках, у веласіпедным спорце, плаванні і інш. на кароткія дыстанцыі.

**СПРЫНЦАВА́ЦЬ** (ням. spritzen = пырскаць) — прамываць якую-н. поласць, рану струменем вады або лякарства пад ціскам.

**СПРЫТ** (польск. spryt, ад фр. esprit) — 1) дасканаласць, умельства; 2) фізічная лоўкасць, паваротлівасць; хуткасць у рухах; 3) абаротлівасць, уменне ўладжваць справы; здольнасць знаходзіць выхад з любога становішча.

**СПУРТ** (англ. spurt = рывок) — рэзкі, імклівы рывок перад фінішам у час бегу, плавання, катання на каньках, веласіпедных гонак і інш.

**СТАБІЛАГРА́ФІЯ** (ад лац. stabilis = устойлівы + *-графія*) — метад рэгістрацыі на *асцылографе* ваганняў цела стаячага чалавека; выкарыстоўваецца ў медыцыне і пры біялагічных даследаваннях.

**СТАБІЛІВО́ЛЬТ** (англ. stabilivolt, ад лац. stabilis = устойлівы + volt = вольт) — прыбор, які прымяняецца ў радыётэхнічных схемах, каб падтрымліваць нязменнасць электрычнага напружання.

**СТАБІЛІЗА́ТАР** (фр. stabilisateur, ад лац. stabilis = устойлівы) — 1) прылада, апарат або прыстасаванне для аўтаматычнага падтрымання на зададзеным узроўні параметраў розных працэсаў і машын; адзін з сродкаў аўтаматычнага рэгулявання (напр. с. напружання, с. самалёта); 2) прыстасаванне для падтрымання пастаянства якой-н. велічыні; 3) *хім.* рэчыва, якое па-

вышае ўстойлівасць матэрыялу (пластмасы, гумы і інш.) да якога-н. уздзеяння.

**СТАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. stabilis = устойлівы) — 1) прывядзенне чаго-н. ва ўстойлівае становішча, замацаванне на пэўным узроўні (напр. с. эканомікі); 2) наданне якому-н. целу, прадмету, прыстасаванню ўстойлівасці ў час руху; 3) забеспячэнне пастаянства якіх-н. велічынь, сістэмнасці чаго-н.; 4) забеспячэнне ўстойлівасці ўласцівасцей якога-н. рэчыва пры дапамозе *стабілізатараў* 3.

**СТАБІЛІТРО́Н** (ад лац. stabilis = устойлівы + *-трон*) — газаразрадны або паўправадніковы прыбор, напружанне ў якім мала залежыць ад току, што працякае праз яго.

**СТАБІ́ЛЬНЫ** (лац. stabilis = устойлівы) — устойлівы, нязменны, пастаянны (напр. с-ае напружанне, с-ыя цэны).

**СТАГАНАСПО́РА** (н.-лац. stagonospora) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які ўзбуджае плямістасць лісця люцэрны, баркуну, розных відаў канюшыны.

**СТАГНА́ЦЫЯ** (н.-лац. stagnatio, ад лац. stagnare = рабіць нерухомым) — 1) застой у вытворчасці, гандлі і іншых галінах эканомікі; 2) застой крыві ў венах.

**СТАГФЛЯ́ЦЫЯ** [ад *стаг(нацыя)* + *(ін)фляцыя*] — форма інфляцыі, якая характарызуецца праяўленнямі стагнацыі эканомікі і адначасовым ростам дарагавізны.

**СТАДО́ЛА** (польск. stodoła, ад с.-в.-ням. stadal) — 1) даўней — канюшня на заезным двары; 2) вялікі хлеў.

**СТАДЫЁН** (гр. stadion = месца для спаборніцтваў) — комплекснае спартыўнае збудаванне з футбольным полем, бегавымі дарожкамі, пляцоўкамі для спаборніцтваў і трэніровак, трыбунамі для гледачоў.

**СТА́ДЫЙ** (лац. stadium, ад гр. stadion = мера адлегласці) — адзінка вымярэння адлегласці ў многіх старажытных народаў, роўная прыкладна 185 м.

**СТА́ДЫЯ** (гр. stadion = мера даўжыні, роўная прыкладна 185 м) — перыяд, ступень у развіцці чаго-н.

**СТАДЫЯ́Л** (ад гр. stadion = перыяд, ступень, фаза) — адносна кароткачасовае пахаладанне ўнутры эпохі зледзянення, якое выклікае спыненне краю ледніка на месцы.

**СТАДЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *стадыя*) — які адбываецца па стадыях.

**СТА́ЕР** (англ. stayer = *літар.* вынослівы чалавек) — 1) спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу ці гонках на доўгія дыстанцыі (параўн. *спрынтэр*); 2) конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на доўгіх дыстанцыях (параўн. *фляер*).

**СТАЖ** (фр. stage) — тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае *спецыялізацыю* (напр. працоўны с., выпрабавальны с.).

**СТАЖО́Р** (фр. stagiaire) — асоба, якая праходзіць выпрабавальны *стаж* перад залічэннем на працу.

**СТАЗ** (гр. stasis = стаянне, нерухомасць) — *мед.* рэзкае запавольванне або спыненне руху крыві ў крывяносных сасудах, пераважна ў капілярах.

# С

**-СТАЗ** (гр. stasis = стаянне, нерухомасць) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае пэўны стан біялагічных сістэм.

**СТА́ЗА** (гр. stasis = стан) — група асобін у «грамадскіх» насякомых, якая выконвае пэўную функцыю (напр. с. «рабочых», с. «салдат»).

**-СТАЗІЯ** (гр. stasis = стаянне, нерухомасць) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае пэўны стан біялагічных сістэм.

**СТАІЦЫ́ЗМ** (ад гр. stoa = порцік у Афінах, дзе збіраліся стоікі) — 1) кірунак у антычнай філасофіі, які патрабаваў ад чалавека поўнага падпарадкавання пануючай у свеце неабходнасці і ўлады над сваімі страсцямі; 2) *перан.* стойкасць, мужнасць у жыццёвых выпрабаваннях.

**СТАКА́ТА** (іт. staccato = адрывіста, асобна) — адрывістае выкананне гукаў мелодыі на музычным інструменце або голасам (проціл. *легата*).

**СТА́КЕР** (англ. stacker, ад stack = нагрувашчваць) — перасоўны самаходны *канвеер*, пры дапамозе якога ўкладваюцца ў штабелі калоды, кароткія бярвёны і іншыя матэрыялы.

**СТА́КСЕЛЬ** (гал. stagzeil, ад stag = канат + zeil = парус) — трохвугольны парус, які падымаюць па *штагу* або *леeру* перад мачтай на носе судна.

**СТАЛАГМІ́ТЫ** (ад гр. stalagma = кропля) — вапняковыя ўтварэнні на дне пячор, якія ўзнікаюць пры падзенні кропель вады, насычанай кальцыем.

**СТАЛАГМО́МЕТР** (ад гр. stalagma = кропля + *-метр*) — прыбор для вымярэння паверхневага напінання плыні.

**СТАЛАГНА́ТЫ** (ад гр. stalagma = кропля) — нацёчныя мінеральныя ўтварэнні ў выглядзе слупоў, якія ўзнікаюць у карставых пячорах пры злучэнні *сталагмітаў* і *сталактытаў*.

**СТАЛАКТЫ́ТЫ** (ад гр. stalaktos = які капае) — вапняковыя ўтварэнні на столі пячор, якія ўзнікаюць ад прасочвання і выпарэння вады, насычанай кальцыем.

**СТАЛЕБЕТО́Н** (ад *сталь* + *бетон*) — бетон з напаўняльнікам са стальных апілак.

**СТАЛО́Н** (ад лац. stolo, -lonis = каранёвы атожылак) — падземны бакавы атожылак без дадатковых каранёў, на якім развіваюцца клубні (напр. у бульбы), цыбуліны і інш.

**СТАЛЬ** (ням. Stahl) — цвёрды коўкі метал серабрыста-шэрага колеру, які з'яўляецца сплавам жалеза з вугляродам.

**СТАЛЬВА́ГА** (ням. Stellwage) — трайны ворчык для параконнай запрэжкі.

**СТАЛЬМА́Х, СТЭ́ЛЬМАХ** (ст.-польск. stelmach, stalmach, ад ням. Stellmacher) — раменік, які робіць калёсы, сані.

**СТАЛЮ́ГА** (польск. staluga, ад ням. Stellage) — 1) прыстасаванне для распілоўкі бярвёнаў на дошкі, для пілавання дроў; козлы; 2) сталярны *варштат*.

**СТАМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. stoma, -atos = рот + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае захворванні

органаў поласці рота (зубоў, сківаў і інш.).

**СТАМАТАСКО́П** (ад гр. stoma, -atos = рот + *-скоп*) — прыбор з люстэркам для агляду поласці рота.

**СТАМАТО́ЛАГ** (ад гр. stoma, -atos = рот + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *стаматалогіі*.

**СТАМАТЫ́Т** (ад гр. stoma, -atos = рот) — запаленне слізістай абалонкі поласці рота.

**СТАМЕ́СКА** (ням. Stemmeisen) — сталярны інструмент у выглядзе завостранай стальной пласцінкі з драўлянай ручкай для выбірання пазоў, гнёздаў у дрэве, дошках.

**СТАМІНО́ДЫЙ** (ад лац. stamen, -minis = нітка, тычынка + eidos = выгляд) — відазмененая тычынка, якая не можа вытвараць пылок (напр. у кветкі лёну).

**СТАМО́ДЭУМ** (ад гр. stoma = рот) — пярэдняя кішка ў кольчатых чарвей.

**СТАНА́ТЫ** (ад лац. stannum = волава) — солі алавянай кіслаты.

**СТАНДА́РТ** (англ. standard = норма, узор, мерка) — 1) узор, мадэль, эталон, якім павінна адпавядаць што-н. сваім памерам, формай, якасцю і г.д.; 2) прыняты за аснову від вырабаў, які адпавядае ўсім патрабаванням, што прад'яўляюцца да яго; 3) *перан.* нешта шаблоннае, што не мае ў сабе нічога арыгінальнага (напр. думаць па стандарту).

**СТАНДАРТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *стандарт*) — 1) устанаўленне адзіных абавязковых стандартаў на што-н., напр. на гатовую прадукцыю, паўфабрыкаты, сыравіну і матэрыялы; 2) звядзенне многіх відаў вырабаў да невялікай колькасці тыповых з мэтай рацыянальнай арганізацыі вытворчасці; 3) *перан.* адсутнасць, знікненне ў кім-н. або ў чым-н. арыгінальнасці, індывідуальных асаблівасцей; шаблоннасць, трафарэтнасць.

**СТАНІЁЛЬ** (ням. Stanniol, ад лац. stannum = волава) — тонкія металічныя лісты або стужкі са сплаву волава з свінцом.

**СТАНІ́Н** (ад лац. stannum = волава) — мінерал класа *сульфідаў* сталёва-шэрага колеру з аліўкава-зялёным адценнем; руда волава.

**СТАНІ́ТЫ** (ад лац. stannum = волава) — солі алавянай кіслаты, якія выкарыстоўваюцца ў сінтэзе арганічных фарбавальнікаў.

**СТА́НСЫ** (фр. stance, ад іт. stanza = страфа) — 1) вершаваная страфа з чатырох радкоў, якая выражае закончаную думку; 2) верш, які складаецца з такіх строф.

**СТА́НЦЫЯ** (польск. stancja < іт. stanza, ад лац. statio = стаянка) — 1) пункт прыпынку транспартных сродкаў, якія курсіруюць па пэўным маршруце, са спецыяльна абсталяваным будынкам; 2) спецыяльная ўстанова, якая абслугоўвае пэўную тэрыторыю, вядзе сістэматычныя назіранні ў пэўнай галіне (напр. тэлефонная с., метэаралагічная с.).

**СТА́ПЕЛЬ** (гал. stapel) — бетанаваны памост або фундамент *элінга*, размешчаны нахільна да вады і прызначаны для зборкі, рамонту і спуску суднаў.

**СТАПІ́Н** (іт. stoppino) — шнур, насычаны лёгкім на загаранне рэ-

чывам, які выкарыстоўваецца ў *піратэхніцы* для хуткай перадачы агню.

**СТАРТ** (англ. start) — 1) момант пачатку спартыўных спаборніцтваў або ўзлёту лятальнага апарата; 2) месца, з якога пачынаюцца спаборніцтвы па хадзьбе, бегу, яздзе, плаванню; 3) *перан.* пачатак чаго-н.

**СТА́РТЭР** (англ. starter) — 1) той, хто дае сігнал *старту*); 2) прыстасаванне для запуску рухавіка ўнутранага згарання.

**СТАСАВА́ЦЬ** (польск. stosować, ад ням. stossen) — прыводзіць у адпаведнасць з кім-н., чым-н., прыстасоўваць.

**-СТАТ** (гр. statos = нерухомы) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на нязменнасць стану, пастаянства чаго-н.

**СТАТАБЛА́СТЫ** (ад гр. statos = які стаіць + *-бласты*) — чачавіцападобныя мнагаклетачныя цельцы, адзетыя шчыльнай абалонкай, якія ўтвараюцца ў выніку ўнутранага пачкавання ў прэснаводных імшанак.

**СТАТАЛІ́ТЫ** (ад гр. statos = які стаіць + *-літ*) — 1) тое, што і *аталіты*; 2) дробныя рухомыя крухмальныя зярняты ў клетках растучых частак раслін.

**СТА́ТАР** (англ. stator) — 1) нерухомая частка электрычнай машыны, у сярэдзіне якой верціцца *ротар* 1; 2) нерухомая частка паравой турбіны, кампрэсара, гідрапомпы, гідраматора і г.д. (параўн. *ротар* 2).

**СТАТА́РНЫ** (лац. statarius) — нерухомы; с - а е  ч ы т а н н е — навучальнае чытанне тэксту з падрабязным яго разглядам (параўн. *курсорны*).

**СТАТАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад гр. statos = які стаіць + *рэцэптары*) — спецыялізаваныя клеткі, якія фіксуюць змены становішча цела або яго частак у прасторы.

**СТАТАСКО́П** (ад гр. statos = які стаіць + *-скоп*) — *барометр* для вымярэння нязначных змен атмасфернага ціску ў час аэрафотаздымкі.

**СТАТАЦЫ́СТЫ** (ад гр. statos = які стаіць + *цыста*) — 1) слыхавыя пузыркі, органы раўнавагі беспазваночных жывёл; 2) клеткі раслін, у якіх утвараюцца *статалiты*.

**СТАТС-ДА́МА** (гал. staatsdame) — вышэйшае прыдворнае званне жанчыны з прывілеяванага саслоўя, якая ўваходзіла ў світу каранаванай асобы ў царскай Расіі.

**СТАТС-САКРАТА́Р** (ням. Staatssekretar, ад Staat = дзяржава + Sekretar = сакратар) — 1) ганаровае прыдворнае званне вышэйшых чыноўнікаў у царскай Расіі; 2) назва міністраў і вышэйшых урадавых асоб у некаторых краінах.

**СТА́ТУС** (лац. status) — прававое становішча, стан (напр. дыпламатычны с., с. незалежнасці дзяржавы).

**СТА́ТУС-КВО́** (лац. status quo) — становішча, якое існавала раней або існуе цяпер; становішча без змен.

**СТА́ТУ́Т** (польск. statut, ад лац. statutum) — 1) звод палажэнняў, якія вызначаюць структуру, прынцыпы і парадак дзейнасці якой-н.

арганізацыі, установы; 2) звод правіл, якія рэгулююць парадак выканання ці прымянення чаго-н. (напр. вайсковы с.); 3) звод законаў у некаторых краінах Еўропы 14—18 ст. (напр. С. Вялікага княства Літоўскага).

**СТАТУЭ́ТКА** (фр. statuette, ад лац. statua = статуя) — невялікая скульптурная фігурка, якая звычайна служыць упрыгожаннем.

**СТА́ТУЯ** (лац. statua) — 1) скульптурны вобраз чалавека або жывёлы, які звычайна размяшчаецца на пастаменце; 2) *перан.* халодны, пазбаўлены жыццёвай энергіі чалавек.

**СТА́ТЫКА** (гр. statikos = які ўтрымлівае раўнавагу) — 1) раздзел *механікі*, які вывучае законы раўнавагі цел; 2) стан спакою ці раўнавагі (проціл. *дынаміка* 2).

**СТАТЫ́СТ** (іт. statista) — 1) асоба, якая на сцэне выконвае пабочныя ролі без слоў; 2) *перан.* асоба, якая пасіўна, па чужой указцы ўдзельнічае ў чым-н.

**СТАТЫ́СТЫКА** (ням. Statistik, ад лац. status = стан) — 1) навука аб колькасных зменах у развіцці грамадства і народнай гаспадаркі, а таксама ўлік масавых з'яў; 2) метад колькасных даследаванняў; м а т э м а т ы ч н а я с. — раздзел матэматыкі, прысвечаны матэматычным метадам сістэматызацыі, апрацоўкі і выкарыстання статыстычных дадзеных для навуковых і практычных вывадаў; д э м а г р а ф і ч н а я с. — раздзел статыстыкі, які выкарыстоўвае статыстычны метад пры апрацоўцы дадзеных аб колькасці, складзе, размяшчэнні і руху насельніцтва.

**СТАТЫСТЫ́ЧНЫ** (ад *статыстыка*) — які мае адносіны да статыстыкі, выцякае з яе законаў або ажыццяўляецца метадам статыстыкі.

**СТАТЫ́ЧНЫ** (гр. statikos = які ўтрымлівае раўнавагу) — нерухомы, які знаходзіцца ў стане спакою, раўнавагі.

**СТА́ТЭР** (гр. stater) — залатая манета ў Стараж. Грэцыі, роўная дзвюм *драхмам.*

**СТАЎРАЛІ́Т** (ад гр. stauros = крыж + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў* чырванавата-бурага, бурачорнага і жоўтага колеру са шкляным бляскам.

**СТАЎРАМЕДУ́ЗЫ** (н.-лац. stauromedusae) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл класа сцыфоідных; спалучаюць прыметы *медузы* і *паліпа*; жывуць каля берагоў, на дне.

**СТАЎРА́СТРУМ** (н.-лац. staurastrum) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая пашырана паўсюдна ў прэсных водах, пераважна балотных.

**СТАЎРО́НЕІС** (н.-лац. stauroneis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў прэсных, саланаватых і марскіх водах, у донных асадках, у тарфяна-балотных глебах.

**СТАФА́Ж** (ням. Staffage) — невялікія фігуры людзей і жывёл, намаляваныя ў пейзажнай карціне для яе ажыўлення.

# С

**СТАФІЛАКО́КІ** (н.-лац. staphylococcus, ад гр. staphyle = гронка + kokkos = зерне) — шарападобныя *бактэрыі*, якія пры размнажэнні ўтвараюць аб'яднанні клетак накшталт вінаградных гронак; выклікаюць нагнаенне ран, *абсцэсы, фурункулы, ангіны* і інш.

**СТАФІЛІНІ́ДЫ** (н.-лац. staphylinidae) — сямейства жукоў, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 20 тысяч відаў; жывуць у глебе, подсціле, гноі, грыбах, мурашніках, гнёздах птушак і інш.

**СТАФІЛО́МА** (ад гр. staphyle = вінаградная гронка + *-ома*) — выпінанне змененая рагавой абалонкі вока, спаянай з радужнай абалонкай.

**СТАХАСТЫ́ЧНЫ** (ад гр. stochasis = здагадка) — выпадковы, імаверны.

**СТАХІБО́ТРЫС** (н.-лац. stachybotrys) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца ў глебе, на адмерлых рэштках раслін і іншых субстратах, багатых цэлюлозай.

**СТАХІБОТРЫЯТАКСІКО́З** (ад *стахіботрыс*) — атручэнне жывёл грубымі расліннымі кармамі, пашкоджанымі ядавітым плесневым грыбам стахіботрысам чаргаваным.

**СТАЦІ́НКА** (балг. stotinka) — разменная манета Балгарыі, роўная 1/100 лева.

**СТА́ЦЫЯ** (лац. statio = месцапрабыванне) — месцапрабыванне сукупнасці асобін аднаго віду жывёл, якое выкарыстоўваецца імі пастаянна або ў абмежаваны перыяд; адрозніваюцца стацыі дзённыя і начныя, сезонныя, размнажэння, харчавання.

**СТАЦЫЯНА́Р** (лац. stationarius = нерухомы) — 1) установа з пастаянным месцам знаходжання (напр. бібліятэка-с.); 2) лячэбная ўстанова, якая мае пастаянныя ложкі для хворых; 3) дзённае аддзяленне ў ВНУ у адрозненне ад вячэрняга і завочнага.

**СТАЦЫЯНА́РНЫ** (лац. stationarius = нерухомы) — 1) які мае пастаянную арганізацыю і месцазнаходжанне (напр. с-ая бібліятэка); 2) звязаны з бальнічным лячэннем хворых (напр. с-ае аддзяленне).

**СТАЦЫЯНЕ́Р** (фр. stationnaire, ад лац. stationarius = нерухомы) — *уст.* ваеннае судна, якое несла службу вартаўніка і паліцэйскага ў портах калоній і паўкалоній.

**СТО́ІК** (лац. stoicus, ад гр. stoikos) — 1) паслядоўнік антычнай філасофіі *стаіцызму*, якая патрабавала ад чалавека поўнага падпарадкавання пануючай у свеце неабходнасці і ўлады над сваімі страсцямі; 2) *перан.* чалавек, які стойка і мужна пераносіць жыццёвыя выпрабаванні.

**СТО́КЕР** (англ. stoker) — механічны падавальнік вугалю з тэндэра ў топку паравознага катла.

**СТОКС** [англ. J.Stokes = прозвішча англ. фізіка і матэматыка (1819—1903)] — адзінка вымярэння кінематычнай вязкасці ў СГС сістэме адзінак, роўная кінематычнай вязкасці вадкасці шчыльнасцю 1 г/см$^3$.

**СТОН** (англ. stone) — мера вагі ў англійскай сістэме мер, роўная 6,35 кг.

**СТОП** (англ. stop = спыняць) — 1) каманда ў значэнні: стой! спыніся!; 2) назва сігналу для прыпынку транспарту.

**СТО́ПАР** (англ. stopper = корак, затычка) — 1) прыстасаванне для фіксацыі рухомых частак механізма ў пэўным становішчы; 2) механізм для закрывання клапана ў сталеразліўных каўшах.

**СТО́ПЕР** (англ. stopper, ад stop = спыняць) — 1) машына для бурэння свідравін, накіраваных уверх; 2) гулец абароны ў *футболе* і некаторых іншых спартыўных гульнях.

**СТО́ПІНГ** (англ. stoping) — камера ў горных пародах, у якой абвальваюць з уступаў руду.

**СТОП-КРАН** (ад *стоп* + *кран*) — тармазны кран у вагоне для экстранага спынення поезда.

**СТОП-СІГНА́Л** (ад *стоп* + *сігнал*) — светлавы знак тармажэння, які знаходзіцца ў заднім ліхтары транспартных сродкаў.

**СТО́РНА** (іт. storno) — запіс у бухгалтарскіх кнігах, які выпраўляе папярэдні памылковы запіс.

**СТО́РТЫНГ** (нарв. storting, ад stor = вялікі + ting = народны сход) — *парламент* у Нарвегіі, які складаецца з *лагтынга* і *одэльстынга*.

**СТОС** (польск. stos, ад ням. Stoss) — 1) роўна складзены рад чаго-н., штабель (напр. с. дошак); 2) пакладзеныя слаямі адзін на адзін прадметы (напр. с. кніг).

**СТРАБАСКАПІ́Я** (ад гр. strobos = кручэнне + *-скапія*) — назіранні пры дапамозе *страбаскопа*.

**СТРАБАСКО́П** (ад гр. strobos = кручэнне + *-скоп*) — дэманстрацыйны або кантрольна-вымяральны аптычны прыбор для атрымання рухомых вобразаў аб'екта, а таксама для фіксацыі асобных фаз руху.

**СТРАБІ́ЗМ** (гр. strabismos, ад strabos = крывы) — касавокасць, разлад каардынаванага руху вачэй у чалавека.

**СТРАДЫВА́РЫЙ** [іт. A.Stradivari = прозвішча іт. скрыпічнага майстра (1644—1737)] — скрыпка дасканалай формы і прыгажосці руху, зробленая вядомым італьянскім майстрам А.Страдывары.

**СТРАЗ** (фр. Stras = прозвішча фр. ювеліра) — штучны, падобны да самацветаў, камень, выраблены з хрусталю з дамешкай свінцу.

**СТРАЛІ́ЦЫЯ** (н.-лац. strelitzia) — вечназялёная травяністая або дрэвападобная расліна сям. стралыцыевых з фіялетавымі або аранжавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СТРАМАТАЛІ́ТЫ** (ад гр. stroma, -atos = подсціл + *-літ*) — карбанатныя нарасці водарасцевага паходжання з пукатай ці няроўнай паверхняй і складанай плойчатай унутранай слаістасцю, якія ўтвараюцца на дне вадаёмаў.

**СТРАМАТАПАРА́ТЫ** (н.-лац. stromatoporata) — вымерлыя бесхрыбтовыя... пазваночныя арганізмы, умоўна аднесеныя да кішачнаполасцевых або гідроідных паліпаў; жылі ў *кембрыі* — *палеагене*.

**СТРАМБАМО́НАС** (н.-лац. strombomonas) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая пашырана пераважна ў невялікіх стаячых, радзей праточных прэсных

або крыху мінералізаваных вадаёмах.

**СТРАНГІЛАІДО́ЗЫ** (ад *странгілаідыды*) — глісныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца самкамі странгілаідыдаў.

**СТРАНГІЛАІДЫ́ДЫ** (н.-лац. strongyloididae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у тонкім кішэчніку многіх свойскіх і дзікіх жывёл, а таксама чалавека.

**СТРАНГУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. strangulatio, ад strangulare = душыць) — задушэнне пятлёй.

**СТРАНЦЫЯНІ́Т** (ад шв. Strontian = назва мястэчка ў Швецыі) — мінерал класа *карбанатаў*, бясколерны ці з зеленаватым, жаўтаватым, шараватым адценнем; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці і піратэхніцы.

**СТРА́ТА** (лац. stratum = слой) — грамадская групоўка людзей, аб'яднаных агульнай сацыяльнай рысай, напр. маёмаснай, прафесіянальнай, адукацыйнай і г.д.

**СТРАТАВУЛКА́Н** (ад лац. stratum = слой + *вулкан*) — вулкан, конус якога складзены з патокаў зацвярдзелай лавы і яе абломкаў, што сцэментаваліся і ператварыліся ў туф.

**СТРАТАНА́ЎТ** [ад *страта(сфера)* + *-наўт*] — чалавек, які ажыццяўляе палёты ў стратасферу.

**СТРАТАПА́ЎЗА** (ад лац. stratum = слой + *паўза*) — пераходны слой атмасферы паміж *стратасферай* і *мезасферай* на вышыні каля 55 км.

**СТРАТАПЛА́Н** [ад *страта(сфера)* + *-план*] — самалёт, прызначаны для палётаў у стратасферу.

**СТРАТАСТА́Т** [ад *страта(сфера)* + *-стат*] — *аэрастат* з герметычнай *гандолай* для палёту ў стратасферу.

**СТРАТАСФЕ́РА** (ад лац. stratum = слой + *сфера*) — слой атмасферы, размешчаны над *трапасферай*, на вышыні ад 8—16 да 55 км.

**СТРАТАТЫ́П** (ад лац. stratum = слой + *-тып*) — канкрэтны разрэз адкладаў, упершыню апісаны як тыповы для новага стратыграфічнага падраздзялення (напр. гарызонту, світы і інш.) і які з'яўляецца эталонам для далейшых стратыграфічных карэляцый.

**СТРАТЫГРА́ФІЯ** (ад лац. stratum = слой + *-графія*) — раздзел *геалогіі*, які вывучае паслядоўнасць фарміравання горных парод і іх першасныя прасторавыя ўзаемаадносіны (гл. таксама *геахраналогія*).

**СТРАТЫМЕ́ТР** (ад лац. stratum = слой + *-метр*) — прыбор для вызначэння напрамку падання або нахілу горных парод.

**СТРАТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. stratum = слой + *-фікацыя*) — 1) слаістая будова чаго-н. або размяшчэнне чаго-н. слаямі; слаістасць, напр. паслядоўнасць залягання геалагічных адкладаў у вертыкальным разрэзе або размеркаванне ў атмасферы тэмпературы па вышыні; 2) апрацоўка насення некаторых парод дрэў перад пасевам шляхам вытрымлівання яго паміж слаямі вільготнага пяску; 3) сацыяльная дыферэнцыяцыя грамадства (падзел на *страты*).

**СТРАТЭ́Г** (гр. strategos) — 1) палкаводзец, знаўца *стратэгіі*; 2) *перан.* чалавек, які валодае майстэр-

ствам кіраўніцтва грамадскай і палітычнай барацьбой.

**СТРАТЭГЕ́МА** (гр. strategema, ад stratego = камандую) — ваенная хітрасць, дзеянне, якое ўводзіць у зман праціўніка.

**СТРАТЭГІ́ЧНЫ** (гр. strategikos) — 1) які задавальняе патрабаванням *стратэгіі*, мае адносіны да стратэгіі, звязаны са стратэгіяй; 2) *перан.* істотны, важны для дасягнення агульнай генеральнай мэты на якім-н. этапе.

**СТРАТЭ́ГІЯ** (гр. strategia) — 1) навука і майстэрства вядзення буйных ваенных аперацый або спартыўнай барацьбы па пэўных правілах; 2) *перан.* майстэрства кіраваць грамадскай, палітычнай барацьбой.

**СТРА́УС** (ням. Strauss) — буйная афрыканская птушка групы бескілявых, якая дзякуючы моцным двухпальцым нагам развівае хуткасць да 50 км у гадзіну.

**СТРАФА́** (гр. strophe = кружэнне, паварот) — аб'яднанне некалькіх вершаваных радкоў, якое рэгулярна паўтараецца і складае па рытму і рыфме адно цэлае.

**СТРАФАМЕНІ́ДЫ** (н.-лац. strophomenida) — атрад вымерлых замковых *брахіяподаў*, якія жылі ў *ардовіку—трыясе*.

**СТРАФА́НТ** (н.-лац. strophanthus, ад гр. strophe = кружэнне + anthos = кветка) — ліяна або кустовая расліна сям. барвінкавых, пашыраная ў вільготных трапічных лясах Афрыкі і Азіі; дае *страфанцін*.

**СТРАФАНЦІ́Н** (ад *страфант*) — лякарства з насення страфанта, *кендыра, адоніса* і некаторых іншых раслін, якое выкарыстоўваецца пры сардэчнай недастатковасці.

**СТРАФА́РЫЯ** (н.-лац. stropharia) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. страфарыевых, які расце на глебе, адмерлай драўніне, раслінных рэштках, у лясах, на лугах; ядомы.

**СТРАФО́ІДА** (ад гр. strophos = кручаная стужка + *-оід*) — алгебраічная крывая трэцяга парадку.

**СТРО́БІЛ** (гр. strobilos = сасновая або яловая шышка) — спараносны каласок у многіх вышэйшых раслін, напр. насенных, плавунападобных, хвашчовых.

**СТРО́БІЛА** (гр. strobilos = сасновая або яловая шышка) — 1) цела стужачнага чарвяка, якое складаецца з членікаў; 2) стадыя развіцця *сцыфамедуз*.

**СТРО́МА** (гр. stroma = падсцілка) — асноўная апорная структура органаў, тканак і клетак жывёл і раслін, напр. злучальная тканка залоз, бялковая аснова *эрытрацытаў*, спляценне *гіфаў* у многіх сумчатых грыбоў.

**СТРО́НЦЫЙ** (н.-лац. strontium, ад Strontian = назва мястэчка ў Шатландыі) — хімічны элемент, лёгкі серабрыста-белы метал, радыеактыўныя ізатопы якога выкарыстоўваюцца ў тэхніцы і лабараторных работах.

**СТРОП** (англ. strop = пятля, рэмень) — 1) прасцейшае прыстасаванне ў выглядзе каната з крукамі для пад'ёму грузаў; 2) трос для падвешвання гандолы да дырыжабля, аэрастата, для ўтрымання чалавека або грузу на парашуце.

# С

**СТРО́ФІКА** (гр. strophikos) — 1) раздзел *паэтыкі*, які займаецца вывучэннем будовы *строф*; 2) дзяленне верша на строфы.

**СТРУБЦЫ́НА** (ням. Schraubzwinge, ад Schraube = вінт + Zwinge = ціскі) — прыстасаванне для замацавання дэталей пры іх апрацоўцы на станку або варштаце; выкарыстоўваецца ў слясарнай і сталярнай справе.

**СТРУКТУ́РА** (лац. structura) — будова, узаемаразмяшчэнне састаўных частак, састаў чаго-н. (напр. с. глебы, с. мовы).

**СТРУКТУРАЛІ́ЗМ** (англ. structuralism, ад лац. structura = будова) — 1) кірунак у навуцы, які апісвае аб'ект як сістэму элементаў; 2) кірунак у мовазнаўстве, які разглядае *структуру* мовы як цэласную сістэму адносін моўных адзінак.

**СТРУ́МА** (лац. struma) — пухлінападобнае дабраякаснае павелічэнне шчытападобнай залозы.

**СТРЫГАЗЕ́ЛА** (н.-лац. strigosella) — травяністая расліна сям. крыжакветных з прадаўгаватым лісцем і сінявата-ружовымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Зах., Сярэд. і Цэнтр. Азіі; на Беларусі заносная.

**СТРЫК** (ням. Strich = рыска, палоска) — вірусная хвароба памідораў, якая характарызуецца ўтварэннем карычнева-бурых плям, палосак на лістах, сцёблах і пладах.

**СТРЫКТУ́РА** (лац. strictura = сціcканне) — *мед.* звужэнне якога-н. трубчастага органа або адтуліны поласцевага органа ў выніку запалення.

**СТРЫ́МЕРЫ** (англ. streamer) — цьмяныя разгалінаваныя каналы, якія ўтвараюцца ў перадпрабойных стадыях іскравых і каронных разрадаў, напр. маланкі.

**СТРЫ́НГЕР** (англ. stringer) — падоўжны брус цвёрдай абшыўкі корпуса судна або самалёта, які з'яўляецца апорай і надае ўстойлівасць.

**СТРЫ́ПЕР** (англ. stripper) — машына для вымання стальных балванак са зложніцы.

**СТРЫПТЫ́З** (англ. striptease, ад strip = знімаць + tease = дражніць) — танцавальнае выступленне ў *кабарэ*, звязанае з паступовым распрананнем танцоўшчыцы.

**СТРЫХНІ́Н** (ад гр. strychnos = рвотны арэшак) — лекавы прэпарат, *алкалоід*, які атрымліваюць з насення трапічнай расліны чылібухі; выкарыстоўваецца пры зніжэнні абмену рэчываў, гіпатанічнай хваробе, аслабленні сардэчнай дзейнасці, паралічах і інш.

**СТРЭ́НГА** (гал. streng) — *мар.* вяроўкі, з якіх уюць *тросы*.

**СТРЭ́НДА** (англ. strend) — тое, што і *стрэнга*.

**СТРЭ́НЕР** (англ. strainer) — *фільтр* для ачысткі ад пясчынак нафты, якая выпампоўваецца з глыбіні.

**СТРЭПТАДЭРМІ́Я** (ад гр. streptos = ланцужок + derma = скура) — запаленчыя хваробы скуры, якія выклікаюцца *стрэптакокамі*.

**СТРЭПТАКО́КІ** (ад гр. streptos = ланцужок + *кокі*) — шарападобныя *бактэрыі*, якія ўтвараюць характэрныя ланцужкі і з'яўляюцца

ўзбуджальнікамі *шкарлятыны, рэўматызму*.

**СТРЭПТАМІЦЫ́Н** [ад *стрэпта(кокі) + -міцын*] — антыбіётык, які выкарыстоўваецца пры лячэнні *туберкулёзу, бруцэлёзу, коклюшу, пнеўманіі* і некаторых іншых хвароб.

**СТРЭПТАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. streptomyces, ад гр. streptos = ланцужок + mykes = грыб) — сямейства *актынаміцэтаў*; жывуць у глебе; многія — прадуцэнты *антыбіётыкаў* (стрэптаміцыну, біяміцыну, тэтрацыкліну, эрытраміцыну і інш.).

**СТРЭПТАЦЫ́Д** [ад *стрэпта(кокі) + -цыд*] — лекавы прэпарат, які зніжае жыццядзейнасць *кокаў* і выкарыстоўваецца пры *ангіне, ганарэі*, лячэнні ран, апёкаў і інш.

**СТРЭС** (англ. stress = напружанне) — стан напружання арганізма, які ўзнікае пад уплывам моцных уздзеянняў (холаду, голаду, псіхічных і фізічных траўм).

**СТРЭ́ТА** (іт. stretta) — 1) паскарэнне музычнага *тэмпу*, 2) заключны раздзел музычнага твора, які праходзіць у асабліва хуткім тэмпе.

**СТРЭ́ТЧЫНГ** (англ. stretching = расцягванне) — комплекс фізічных практыкаванняў для расцягвання пэўных частак цела, пры якім чаргуюцца напружанне і расслабленне розных мышцаў.

**СТУ́ДЫЯ** (іт. studio) — 1) майстэрня мастака або скульптара; 2) школа для падрыхтоўкі мастакоў або артыстаў; 3) прадпрыемства, дзе праводзіцца запіс голасу або фота- ці кіназдымка; 4) спецыяльна абсталяванае памяшканне для вядзення радыё- і тэлеперадач.

**СТУДЭ́НТ** (польск. student, ад лац. studens, -ntis = які старанна працуе, займаецца) — навучэнец вышэйшай навучальнай установы.

**СТУ́КА** (іт. stucco) — штучны *мармур* з паліраванага гіпсу з дамешкамі.

**СТУ́ПАР** (лац. stupor = здранцвенне) — стан прыгнечанасці пры некаторых *псіхозах*, які выяўляецца ў маўклівасці і поўнай нерухомасці хворага.

**СТЫБНІ́Т** (ад гр. stibi = сурма) — тое, што і *антыманіт*.

**СТЫВІДО́Р** (англ. stevedore, ад ісп. estibador) — асоба, якая кіруе пагрузкай і разгрузкай суднаў у замежных портах.

**СТЫГАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. stygocaridacea) — атрад вышэйшых ракападобных; жывуць у грунтовых водах Паўн. Амерыкі.

**СТЫГАНЕ́МА** (н.-лац. stigonema) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. стыганемавых, якая трапляецца на вільготных скалах, імхах, пнях, у глебе, радзей ў вадзе.

**СТЫГЕЯКЛО́НІУМ** (н.-лац. stigeoclonium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. хетапоравых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах у абрастаннях розных субстратаў.

**СТЫ́ГМА, СТЫГМА́Т** (гр. stigma, -atos = укол, кляймо, пляма) — 1) кляймо на целе раба або злачынца ў Стараж. Грэцыі; 2) адтуліна, якая адкрывае органы дыхання на паверхні цела членістаногіх жывёл.

# С

**СТЫГМА́РЫІ** (н.-лац. stigmaria, ад гр. stigma = пляма) — коранепадобныя ўтварэнні некаторых вымерлых раслін (напр. *сігілярый*), якія размяшчаліся ў ніжняй частцы ствалоў.

**СТЫГМАТЫ́ПІЯ** (ад гр. stigme = цацка + *-тыпія*) — спосаб прыгатавання без *растра* паўтонавых *клішэ*.

**СТЫГМАТЭ́Я** (н.-лац. stigmatea) — сумчаты грыб сям. вентурыевых, які развіваецца на лісці групы, буякоў, герані і раслін сям. казяльцовых.

**СТЫЛАБА́Т** (гр. stylobates) — *архіт.* верхняя ступень *стэрэабата*.

**СТЫЛАЛІ́ТЫ** ад гр. stylos = слуп + *-літ*) — зубчастыя, слупкаватыя ці бугрыстыя выступы паверхні адной часткі пласта асадачных горных парод, якія пранікаюць у выемкі другой яго часткі.

**СТЫЛАНІ́ХІЯ** (н.-лац. stylonychia) — прасцейшае атрада брухараснічных *інфузорый*; жыве ў прыдонным слаі саланаватых і прэсных вадаёмаў.

**СТЫЛАСФЕРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. stylosphaeridium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларангіяпсідавых, якая трапляецца ў прэсных водах.

**СТЫЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. stylisation, ад лац. stilus = палачка для пісьма) — наданне мастацкаму твору рыс якога-н. пэўнага стылю; падробка пад той або іншы стыль (напр. гістарычная с. у рамане).

**СТЫЛІ́СТ** (ад *стылістыка*) — чалавек, які валодае майстэрствам літаратурнага стылю, піша добрым стылем.

**СТЫЛІ́СТЫКА** (рус. стилистика, ад лац. stilus = палачка для пісьма) — раздзел мовазнаўства, які вывучае *стылі* мовы.

**СТЫЛО́ГРАФ** (ад гр. stylos = палачка для пісьма + *-граф*) — палачка з пяром на адным канцы і з алоўкам на другім.

**СТЫЛО́ДЫЙ** (гр. stylodium) — частка песціка паміж завяззю і рыльцам.

**СТЫЛО́МЕТР** (ад англ. steel = сталь + *-метр*) — прыбор для колькаснага спектральнага аналізу саставу сталей і сплаваў.

**СТЫЛЬ** (лац. stilus, ад гр. stylos = палачка для пісьма) — 1) сукупнасць характэрных прыкмет мастацкага афармлення пэўнага часу або пэўнага кірунку (напр. гатычны с.); 2) прыём, спосаб, метад работы або паводзін (напр. с. кіраўніцтва); 3) сукупнасць моўных прыёмаў пісьменніка або літаратурнага твора, жанру (напр. публіцыстычны с.); 4) спосаб летазлічэння (напр. стары с., новы с.).

**СТЫЛЬБ** (гр. stilbo = ззяю) — адзінка яркасці, роўная яркасці паверхні плошчай 1 см$^2$ у перпендыкулярным да яе напрамку пры сіле святла 1 *кандэла*.

**СТЫ́ЛЬБЕН** (ад гр. stilbo = ззяю) — арганічнае злучэнне, вуглевадарод *араматычнага* рада, цвёрды бясколерны крышталічны прадукт, які выкарыстоўваецца ў *сцынтыляцыйных* лічыльніках як *люмінафор* для рэгістрацыі іанізуючых выпрамяненняў.

**СТЫ́МУЛ** (лац. stimulus = *літар.* востраканцовы кій, якім паганялі жывёл) — прычына, якая заахвочвае да работы, да дзейнасці.

**СТЫМУЛЯВА́ЦЬ** (лац. stimulare) — паскараць або ўзмацняць ажыццяўленне чаго-н. (напр. с. развіццё жывёлагадоўлі).

**СТЫМУЛЯ́ТАР** (ад лац. stimulare = заахвочваць) — 1) рэчыва, якое *стымулюе* развіццё раслін і жывёл; 2) лекавы прэпарат для павышэння разумовай і фізічнай працаздольнасці, для паляпшэння самаадчування.

**СТЫМУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. stimulatio) — паскарэнне або ўзмацненне развіцця, актывізацыя дзейнасці чаго-н. (напр. с. росту раслін, с. дзейнасці сардэчнай мышцы).

**СТЫПЕ́НДЫЯ** (лац. stipendium = плата) — штомесячная грашовая дапамога студэнтам, аспірантам і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

**СТЫПЕНДЫЯ́Т** (лац. stipendiatus) — навучэнец, які атрымлівае *стыпендыю*.

**СТЫ́ПЛЕР** (англ. steepler) — конь, спецыяльна прывучаны для скачак з перашкодамі.

**СТЫПЛЬ-ЧЭЗ** (англ. steeplechase) — бег або скачкі на хуткасць з перашкодамі.

**СТЫ́РАКС** (н.-лац. styrax, ад гр. styraks) — 1) дрэвавая або кустовая расліна сям. стыраксавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, якая змяшчае ў смале пахучыя рэчывы; 2) пахучы *бальзам*, які атрымліваюць з гэтай расліны і выкарыстоўваюць у парфумерыі і медыцыне.

**СТЫРА́ТАР** (ад іт. stirare = расцягваць) — прыстасаванне з дзвюх уваходзячых адна ў другую рамак для нацягвання вільготнай паперы пры рабоце акварэллю.

**СТЫРО́Л** (ад гр. styraks = пахучая смала + *-ол*) — вадкае пахучае рэчыва, якое здабываецца са смалы некаторых трапічных дрэў і выкарыстоўваецца ў парфумерыі, мылаварэнні і інш.

**СТЫСА́НУС** (н.-лац. stysanus) — недасканалы грыб сям. карэміяльных, які развіваецца на разнастайных раслінных рэштках, на перагнойнай глебе.

**СТЫХАКО́КУС** (н.-лац. stichococcus) — аднаклетачная або ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых, якая пашырана ў глебах, трапляецца сярод планктону праточных і стаячых вадаёмаў.

**СТЫХА́Р** (гр. sticharion) — доўгае, звычайна парчовае, адзенне з шырокімі рукавамі, якое надзявае праваслаўнае духавенства ў час набажэнства.

**СТЫХАРХО́З** (ад *стыхорхіс*) — глісная хвароба баброў, якую выклікае стыхорхіс.

**СТЫХІ́Я** (гр. stoicheion = элемент) — 1) адзін з асноўных элементаў прыроды (вада, зямля, паветра і агонь) у антычнай філасофіі; 2) з'явы прыроды, якія праяўляюцца як магутная разбуральная сіла; 3) *перан.* неарганізаваная сіла, якая дзейнічае ў сацыяльным асяроддзі (напр. с. інфляцыі); 4) *перан.* прывычнае асяроддзе (свая с.).

# С

**СТЫХО́РХІС** (н.-лац. stichorchis) — *гельмінт* сям. *кладархідаў*, паразітуе ў кішэчніку бяброў.

**СТЭАРЫ́Н** (ад гр. stear = тлушч) — цвёрдае паўпразрыстае арганічнае рэчыва белага або жаўтаватага колеру, якое атрымліваюць расшчапленнем тлушчаў і выкарыстоўваюць пры вырабе свечак, а таксама ў мылаварэнні, папяровай, тэкстыльнай, гумавай і іншых галінах прамысловасці.

**СТЭАТАПІГІ́Я** (ад гр. stear, -atos = тлушч + pyge = ягадзіцы, азадак) — моцнае развіццё падскурнага тлушчавага слою на бёдрах і ягадзіцах чалавека.

**СТЭАТО́ДА** (н.-лац. steatoda) — павук сям. цянётнікаў, які жыве ў дамах і іншых пабудовах, трапляецца ў дуплах дрэў.

**СТЭАТЫ́Т** (ад гр. stear, -atos = тлушч) — 1) тлусты на выгляд мінерал, які складаецца з *тальку*; 2) штучны ізаляцыйны матэрыял, які атрымліваюць у выніку апрацоўкі тальку.

**СТЭГАЗА́ЎРЫ** (ад гр. stege = пакрыццё + *-заўр*) — група чатырохногіх раслінаедных дыназаўраў з пакрытай касцянымі пласцінамі спіной, якія жылі ў *мезазоі*.

**СТЭГАНАГРА́ФІЯ** (ад гр. steganos = скрытны + *-графія*) — тайнапіс, пісьмо ўмоўнымі, шыфраванымі знакамі.

**СТЭГАЦЭФА́Л** (ад гр. stege = пакрыццё + kephale = галава) — вымерлае драпежнае земнаводнае з пяціпальцымі канечнасцямі, чэрап якога меў суцэльнае пакрыццё з касцей; жыло ў *палеазоі*.

**СТЭК** (англ. stick) — хлыст, які выкарыстоўваецца пры верхавой яздзе.

**СТЭ́КА** (іт. stecca) — драўляная лапатка, якая выкарыстоўваецца скульптарам пры лепцы з гліны, пластыліну, воску.

**СТЭ́ЛА** (лац. stela, ад гр. stele = слуп) — 1) вертыкальна пастаўленая каменная або металічная пліта (мемарыяльная, надмагільная) з надпісам або рэльефнымі выявамі; 2) цэнтральная частка сцябла і кораня ў вышэйшых раслін.

**СТЭЛА́Ж** (ням. Stellage) — прыстасаванне ў выглядзе паліц, размешчаных адна над другой, для захоўвання прадметаў і штучных матэрыялаў.

**СТЭЛІ́Т** (англ. stellite, ад лац. stella = зорка + гр. lithos = камень) — цвёрды сплаў, пераважна на кобальтавай аснове, які наплаўляюць на рэзальныя інструменты і дэталі машын.

**СТЭ́ЛЬМАХ** гл. *стальмах*.

**СТЭМАНІ́ТЫС** (н.-лац. stemonitis) — слізявік сям. стэманітавых, які развіваецца на апалым лісці, галінках, гнілой драўніне і на кары жывых дрэў.

**СТЭМАНІФА́НТЭС** (н.-лац. stemonyphantes) — павук сям. *лініфііdaў*, які жыве пераважна на ўзлесках, у светлых хвойных і мяшаных лясах на травяністых раслінах.

**СТЭМФІ́ЛІЙ** (н.-лац. stemphylium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на раслінных рэштках, насенні, спелых пладах і выклікае іх гніенне.

**СТЭН** (гр. sthenos = сіла) — адзінка сілы, роўная сіле, якая надае масе ў 1 т паскарэнне 1 м/сек$^2$.

**СТЭНА-** (гр. stenos = вузкі, цесны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «цесны, абмежаваны», «скарочаны».

**СТЭНАБА́ТНЫ** (ад *стэна-* + гр. bathos = глыбіня) — прыстасаваны да жыцця на пэўнай глыбіні; с - ы я ж ы в ё л ы — водныя жывёлы, якія жывуць на пэўнай глыбіні і пры пэўным вадзяным ціску (параўн. *эўрыбатны*).

**СТЭНАБІЁНТНЫ** (ад *стэнабіёнты*); с - ы я а р г а н і з м ы — тое, што і *стэнабіёнты*.

**СТЭНАБІЁНТЫ** (ад *стэна-* + *біёнты*) — арганізмы, здольныя існаваць толькі пры адносна пастаянных умовах навакольнага асяроддзя (тэмпературы, вільготнасці, асвятлення, ціску і г.д.); параўн. *эўрыбіёнты*.

**СТЭНАГАЛІ́ННЫ** (ад *стэна-* + гр. gals = соль) — здольны жыць толькі пры пэўнай салёнасці вады; с - ы я а р г а н і з м ы — марскія арганізмы, якія не могуць пераносіць значных змен салёнасці навакольнага асяроддзя (параўн. *эўрыгалінны*).

**СТЭНАГІГРАБІЁНТНЫ** (ад *стэна-* + гр. hygros = вільготны + bios = жыццё) — здольны жыць толькі пры пэўнай вільготнасці асяроддзя; с - ы я ж ы в ё л ы — жывёлы, для існавання якіх патрабуюцца вузка абмежаваныя ўмовы вільготнасці асяроддзя (напр. вільготныя тропікі, пустыні і г.д.).

**СТЭНАГРА́МА** (ад *стэна-* + *-грама*) — запіс прамовы, лекцыі пры дапамозе *стэнаграфіі*.

**СТЭНАГРА́ФІЯ** (ад *стэна-* + *-графія*) — спосаб пісьма, пры якім дзякуючы асобным знакам і скарачэнням дасягаецца хуткасць запісу вуснай мовы.

**СТЭНАКА́ЛІКС** (н.-лац. stenokalyx) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. эўхрамулінавых, якая трапляецца ў азёрах, рэках, вадасховішчах, ліманах.

**СТЭНАКАРДЫ́Я** (н.-лац. stenocardia, ад гр. stenos = вузкі, цесны + kardia = сэрца) — прыступ рэзкага болю ў вобласці сэрца з прычыны спазмы сасудаў сэрца; грудная жаба.

**СТЭНАТО́ПНЫ** (ад *стэна-* + гр. topos = месца) — прыстасаваны да пэўных умоў; с - ы я а р г а н і з м ы — жывёлы і расліны, якія могуць існаваць толькі ў месцах са спецыфічнымі, вельмі абмежаванымі ўмовамі асяроддзя (*біятопах*), напр. берагавая ластаўка, зімародак (жывуць на стромкіх берагах), журавіны, расіцы (растуць на сфагнавых балотах); параўн. *эўрытопны*.

**СТЭНАТЫПІ́Я** (ад *стэна-* + *-тыпія*) — пісьмо на спецыяльнай стэнаграфічнай пішучай машынцы, якая можа друкаваць склады і цэлыя словы.

**СТЭНАТЭ́РМНЫ** (ад *стэна-* + *-тэрмны*) — прыстасаваны да пэўнай тэмпературы; с - ы я а р г а н і з м ы — жывёлы і расліны, якія не могуць пераносіць значных змен тэмпературы навакольнага асяроддзя (параўн. *эўрытэрмны*).

**СТЭНАФА́ГІ** (ад *стэна-* + *-фаг)* — жывёлы, якія харчуюцца невялікай разнавіднасцю кармоў (параўн. манафагі, паліфагі).

**СТЭНАФА́ГІЯ** (ад *стэна-* + *-фагія*) — вузкая спецыялізацыя харчавання жывёл, пры якой яны абмяжоўваюцца невялікай разнавіднасцю кармоў.

**СТЭНАФО́ТНЫ** (ад *стэна-* гр. phos, -otos = святло) — прыстасаваны да пэўнага святла; с - ы я ж ы в ё л ы — арганізмы, якія патрабуюць вузка абмежаваных, пэўных светлавых умоў (напр. начныя і глебавыя жывёлы).

**СТЭНАЭДАФІ́ЧНЫ** (ад *стэна-* + гр. edaphos = зямля); с - ы я а р г а н і з м ы — арганізмы, прыстасаваныя да жыцця толькі на пэўнай глебе (параўн. *эўрыэдафічны*).

**СТЭНД** (англ. stand) — 1) шчыт для аб'яў, дыяграм, картаграм і іншых *экспанатаў*, 2) месца на заводзе, дзе праводзіцца зборка і выпрабаванне сабраных машын і механізмаў.

**СТЭ́НДЭР** (ням. Stander) — металічная калонка, прыладжаная на падземны вадаправодны кран, якая служыць для перадачы вады ў пажарны рукаў.

**СТЭНО́З** (гр. stenosis = звужэнне) — звужэнне прасвету трубчастага органа або адтуліны ў поласцевым органе, якое перашкаджае іх функцыяніраванню.

**СТЭНО́П** (ад гр. stenos = вузкі, цесны + ope = адтуліна) — фатаграфічны апарат з вельмі малой адтулінай замест звычайнага аб'ектыва; выкарыстоўваецца для атрымання ландшафтных здымкаў.

**СТЭ́НСЕЛЬ** (англ. stencil = шаблон, трафарэт) — друкарская форма ў выглядзе прамавугольнай пласцінкі, якая служыць для нанясення адбітка паштовага адраса на часопісах і газетах, друкавання суправаджальных дакументаў і інш.

**СТЭ́НТАР** (гр. Stentor = імя аднаго з герояў «Іліяды» Гамера) — 1) *уст.* чалавек з моцным голасам; 2) *інфузорыя* з целам, якое нагадвае лейку.

**СТЭНЬ-ВА́НТЫ** (гал. stengewant) — *мар. ванты*, пры дапамозе якіх *стэньга* ўтрымліваецца з бакоў.

**СТЭ́НЬГА** (гал. steng) — *мар.* верхняя надстаўная частка мачты, якая з'яўляецца яе прадаўжэннем у вышыню.

**СТЭПС** (англ. steps, мн. ад step) — паглыбленне на палубе судна для ўмацавання мачты.

**СТЭР** (фр. stere, ад гр. stereos = шасцістаронні) — *мат.* адзінка меры аб'ёму, роўная 1 $м^3$.

**СТЭРАДЫЯ́Н** (ад гр. stereos = прасторавы + *радыян)* — адзінка вымярэння цялеснага вугла — часткі прасторы, абмежаванай канічнай паверхняй.

**СТЭРКУ́ЛІЯ** (н.-лац. sterculia) — лістападнае дрэва сям. стэркуліевых з цэльным лісцем і дробнымі кветкамі, пашыранае ў субтропіках; дае валакно і *камедзь.*

**СТЭ́РЛІНГ** (англ. sterling) — 1) сярэдневяковая англійская сярэбраная манета, якая чаканілася з 12 ст.; 2) прыняты законам стандарт

пробы англійскіх залатых і сярэбраных манет.

**СТЭРО́ІДЫ** (ад гр. stereos = цвёрды + *-оід*) — група арганічных рэчываў расліннага і жывёльнага паходжання (*стэрыны, гармоны* кары надныркавых залоз, жоўцевыя кіслоты, палавыя гармоны і інш.), якія маюць важнае значэнне для жыццядзейнасці арганізмаў.

**СТЭРО́ЛЫ** (ад гр. stereos = цвёрды + *-ол*) — тое, што і *стэрыны*.

**СТЭРЫ́ГМЫ** (гр. sterigma = падпора) — выrasты на спараносных органах у многіх грыбоў, дзе развіваюцца *споры*.

**СТЭРЫЛІЗАВА́ЦЬ** (ад лац. sterilis = бясплодны) — 1) рабіць *стэрыльным*, вызваляць ад мікробаў пры дапамозе высокай тэмпературы; 2) рабіць бясплодным.

**СТЭРЫЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. sterilis = бясплодны) — 1) знішчэнне мікробаў пры дапамозе высокай тэмпературы ці хімічных рэчываў; 2) штучнае абясплоджванне.

**СТЭРЫ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *стэрыльны*) — 1) адсутнасць мікраарганізмаў у асяроддзі, аб'екце, арганізме; 2) адсутнасць здольнасці да апладнення (параўн. *фертыльнасць*).

**СТЭРЫ́ЛЬНЫ** (лац. sterilis = бясплодны) — 1) такі, у якім пры дапамозе высокай тэмпературы ці хімічных рэчываў знішчаны мікробы (напр. с. бінт); 2) які стаў бясплодным у выніку *стэрылізацыі*.

**СТЭРЫ́НЫ** (ад гр. stereos = цвёрды) — арганічныя рэчывы з групы *стэроідаў* (напр. *халестэрын, эргастэрын*), якія знаходзяцца ў большасці раслінных і жывёльных арганізмаў і ўваходзяць у склад усіх тлушчаў.

**СТЭРЭА-** (гр. stereos = цвёрды; прасторавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «цвёрды», «прасторавы», «аб'ёмны».

**СТЭРЭАБА́Т** (гр. stereobates) — *цокаль* збудавання або *каланады* ў антычнай архітэктуры.

**СТЭРЭАВІ́ЗАР** [ад *стэрэа-* + *(тэле)візар*] — тое, што і *стэрэатэлевізар*.

**СТЭРЭАГРА́МА** (ад *стэрэа-* + *-грама*) — пара стэрэаскапічных здымкаў, якія даюць аб'ёмны вобраз.

**СТЭРЭАГРА́ФІЯ** (ад *стэрэа-* + *-графія*) — перспектыўнае адлюстраванне геаметрычных цел на плоскасці.

**СТЭРЭАІЗАМЕ́РЫ** (ад *стэрэа-* + *ізамеры*) — ізамеры з розным прасторавым размяшчэннем атамаў у малекулах.

**СТЭРЭАІЗАМЕРЫ́Я** (ад *стэрэа-* + *ізамерыя*) — ізамерыя, якая залежыць ад прасторавага размяшчэння атамаў у малекулах.

**СТЭРЭАКАМПАРА́ТАР** (ад *стэрэа-* + *кампаратар*) — прыбор для вымярэння на аснове двух фотаздымкаў усіх трох *каардынатаў* пунктаў прадмета, а таксама элементаў узаемнага арыентавання пары фотаздымкаў у момант фатаграфавання.

**СТЭРЭАКАРДЫЁГРАФ** (ад *стэрэа-* + *кардыёграф*) — прыбор для даследавання сэрца, прасторавы кардыёграф.

**СТЭРЭАКА́ЎЛАН** (н.-лац. stereocaulon) — кусцісты сумчаты лі-

шайнік сям. стэрэакаўланавых, які расце на ўзлесках хвойных лясоў, часта на пяску, зрэдку на валунах сярод імхоў і іншых лішайнікаў.

**СТЭРЭАКІНО́** (ад *стэрэа-* + *кіно*) — разнавіднасць *кінематаграфіі*, што стварае ў гледача ўражанне аб'ёмнасці адлюстраваных на экране здымкаў.

**СТЭРЭАМЕ́ТРЫЯ** (ад *стэрэа-* + *-метрыя*) — раздзел элементарнай геаметрыі, які вывучае фігуры, што не ляжаць у адной плоскасці (параўн. *планіметрыя*).

**СТЭРЭАМЕХА́НІКА** (ад *стэрэа-* + *механіка*) — вучэнне аб дэфармацыях і напружаннях у дэталях канструкцый і машын пад знешнім уздзеяннем.

**СТЭРЭАМІКРАСКО́П** (ад *стэрэа-* + *мікраскоп*) — мікраскоп, які дае прасторавае адлюстраванне прадмета.

**СТЭРЭАПАНАРА́МА** (ад *стэрэа-* + *панарама*) — панарама са *стэрэаскопам*, дзякуючы якому ствараецца поўнае ўражанне аб'ёмнасці аб'екта з адчуваннем перспектывы.

**СТЭРЭАПА́РА** (ад *стэрэа-* + *пара*) — сукупнасць двух адлюстраванняў зямной паверхні або аднаго і таго ж аб'екта, атрыманых з двух пунктаў здымкі.

**СТЭРЭАПРАЕ́КТАР** (ад *стэрэа-* + *праектар*) — прыбор, які дае магчымасць па пары сумежных фотаздымкаў аднавіць і вымераць прасторавую мадэль сфатаграфаванага аб'екта і адначасова атрымаць на паперы вынікі вымярэнняў у выглядзе тапаграфічнага плана.

**СТЭРЭАРА́МА** [ад *стэрэа-* + *(панa)рама*] — тое, што і *стэрэапанарама*.

**СТЭРЭАРЭНТГЕНАГРА́ФІЯ** (ад *стэрэа-* + *рэнтгенаграфія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання, які дазваляе атрымаць аб'ёмнае рэнтгенаўскае адлюстраванне.

**СТЭРЭАСКАПІ́ЧНЫ** (ад *стэрэа-* + гр. skopeo = гляджу) — 1) аб'ёмны, прасторавы (напр. с. малюнак); 2) які дае аб'ёмныя, прасторавыя адлюстраванні прадметаў (напр. с-ае кіно, с. фотаапарат).

**СТЭРЭАСКАПІ́Я** (ад *стэрэа-* + *-скапія*) — метад атрымання адлюстраванняў, што ствараюць уражанне аб'ёмнасці прадметаў і іх прасторавага размяшчэння.

**СТЭРЭАСКО́П** (ад *стэрэа-* + *-скоп*) — аптычны прыбор, пры дапамозе якога выглядае аб'ёмным прадмет, што адлюстраваны на дзвюх фатаграфіях, зробленых з розных пунктаў.

**СТЭРЭАСПАНДЫ́ЛЫ** (н.-лац. stereospondyli) — атрад вымерлых земнаводных.

**СТЭРЭАТА́КСІЙ** (ад *стэрэа-* + гр. taksis = упарадкаванае размяшчэнне) — метад увядзення электродаў у тканкі мозгу для рэгістрацыі электрычных патэнцыялаў нервовых клетак, а таксама раздражнення або разбурэння іх.

**СТЭРЭАТЫ́П** (ад *стэрэа-* + *-тып*) — 1) *паліграф.* металічная пласціна, на якой дакладна перадаецца друкарскі набор і якая служыць для друкавання шматтыражных выданняў; 2) *фізіял.* форма цэласнай дзейнасці вялікіх паў-

шар'яў галаўнога мозгу вышэйшых жывёл і чалавека, якая выражаецца ў фіксіраваным парадку ажыццяўлення імі ўмоўнарэфлекторнай дзейнасці; 3) *перан.* нязменны ўзор, шаблон.

**СТЭРЭАТЫПІ́Я** (ад *стэрэа-* + *-тыпія*) — 1) выраб *стэрэатыпаў*, а таксама спосаб друкавання з іх; 2) механічнае паўтарэнне адных і тых жа рухаў, слоў пры некаторых псіхічных захворваннях.

**СТЭРЭАТЭЛЕВІ́ЗАР** (ад *стэрэа-* + *тэлевізар*) — тэлевізар, на экране якога ўзнаўляецца аб'ёмны адбітак, што перадаецца з тэлецэнтра.

**СТЭРЭАФАНІ́Я** (ад *стэрэа-* + *-фанія*) — спосаб узнаўлення гуку, пры якім успрыняцце яго з'яўляецца аб'ёмна-прасторавым, дае ўяўленне аб яго крыніцы і напрамку гучання.

**СТЭРЭАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *стэрэа-* + *фатаграфія*) — фатаграфаванне пры дапамозе спецыяльнага фотаапарата, у якім два аб'ектывы.

**СТЭРЭАФІ́ЛЬМ** (ад *стэрэа-* + *фільм*) — фільм, прызначаны для дэманстравання ў *стэрэакіно*.

**СТЭРЭАФО́Н** (ад *стэрэа-* + *-фон*) — прыбор для запісвання і ўзнаўлення гуку з захаваннем адчування прасторавага размяшчэння крыніцы гуку.

**СТЭРЭАФОТАГРАММЕ́ТРЫЯ** (ад *стэрэа-* + *фотаграмметрыя*) — аэрафотаздымка зямной паверхні на двух сумежных фотаздымках (*стэрэапары*).

**СТЭРЭАХІ́МІЯ** (ад *стэрэа-* + *хімія*) — раздзел хіміі, які вывучае прасторавае размяшчэнне атамаў у малекулах хімічных злучэнняў.

**СТЭРЭАХРО́МІЯ** (ад *стэрэа-* + *-хромія*) — тэхніка малявання на сцяне фарбамі, змешанымі з вадкім шклом.

**СТЭРЭАЭКРА́Н** (ад *стэрэа-* + *экран*) — экран, прызначаны для дэманстрацыі *стэрэафільмаў*.

**СТЭРЭАЭФЕ́КТ** (ад *стэрэа-* + *эфект*) — аб'ёмнае ўспрыманне навакольных прадметаў.

**СТЭРЭО́МЕТР** (ад *стэрэа-* + *-метр*) — прыбор для стэрэаскапічнага паказу рэльефу па аэрафотаздымках.

**СТЭРЭ́УМ** (н.-лац. stereum) — губавы *базідыяльны* грыб сям. стэрэумавых, які расце на адмерлых дрэвах і кустах, на пнях і апрацаванай драўніне, радзей на жывых лісцевых і хвойных дрэвах.

**СТЭТАГРА́ФІЯ** (ад гр. stethos = грудзі + *-графія*) — запісванне пры дапамозе *стэтографа*.

**СТЭТАСКАПІ́Я** (ад гр. stethos = грудзі + *-скапія*) — праслухоўванне сэрца, лёгкіх пры дапамозе *стэтаскопа*.

**СТЭТАСКО́П** (ад гр. stethos = грудзі + *-скоп*) — медыцынскі інструмент у выглядзе трубкі для выслухоўвання сэрца і лёгкіх (параўн. *фанендаскоп*).

**СТЭТАФАНАГРА́ФІЯ** (ад гр. stethos = грудзі + phone = гук + *-графія*) — графічны запіс шумаў сэрца і лёгкіх пры дапамозе *стэтафанографа*.

**СТЭТАФАНО́ГРАФ** (ад гр. stethos = грудзі + *фанограф*) — апарат для праслухоўвання і графіч-

нага запісу шумаў сэрца і лёгкіх чалавека.

**СТЭТО́ГРАФ** (ад гр. stethos = грудзі + *-граф*) — апарат для запісу рухаў грудной клеткі ў час дыхання.

**СТЭФАНАДЫ́СКУС** (н.-лац. stephanodiscus) — аднаклетачная або каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. таласіязіравых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах.

**СТЭФАНА́НДРА** (н.-лац. stephanandra) — лістападная кустовая расліна сям. ружавых з дробнымі белымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Карэі і Японіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СТЭФА́НІЯ** (н.-лац. stephania, ад гр. stephanos = вянок) — *ліяна*, якая пашырана ў трапічных і субтрапічных горных раёнах Паўд. Кітая, Японіі, Бірмы, В'етнама, Індыі.

**СТЭФЕ́НЗІЯ** (н.-лац. stephensia) — сумчаты грыб сям. труфелевых, які расце на глебе ў хвойных, пераважна ў хваёвых лясах.

**СТЭХІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. stoicheion = аснова, элемент + *-метрыя*) — раздзел *хіміі*, які вывучае вагавыя і аб'ёмныя суадносіны паміж рэчывамі, што ўступаюць у хімічныя рэакцыі.

**СУ** (фр. sou) — французская разменная манета, роўная 1/20 *ліўра*, а з 1799 г. — 5 *сантымаў* (знята з абароту ў 1947 г.); 2) разменная манета В'етнама, роўная 1/100 *донга*.

**СУАРЭ́** (фр. soiree) — *уст.* званы вечар.

**СУБ-** (лац. sub = пад) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае размяшчэнне пад чым-н. ці каля чаго-н., падпарадкаванасць.

**СУБАКВА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + лац. aqua = вада) — падводны; с - а я в а н н а — лячэбная працэдура, звязаная з прамываннем кішэчніка ў час прыняцця цёплай ванны.

**СУБАЛТЭ́РН** (ад *суб-* + лац. alter = іншы) — падначалены, несамастойны; с . - а ф і ц э р — малодшы афіцэр у роце, эскадроне, батарэі ў некаторых арміях, у тым ліку і ў рускай дарэвалюцыйнай.

**СУБАЛЬТЭРНА́ЦЫЯ** (ад *суб-* + лац. alternatio = чаргаванне, змена) — падпарадкаванасць.

**СУБАНТАРКТЫ́ЧНЫ** (ад *суб-* + *антарктычны*) — размешчаны каля *антарктыкі*, уласцівы абшарам, што суседнічаюць з антарктычным геаграфічным поясам (напр. с. пояс, с. клімат).

**СУБАРАНДА́ТАР** (ад *суб-* + *арандатар*) — асоба, якая ўзяла ў арандатара ў часовае карыстанне за пэўную плату арандаваную апошнім маёмасць або яе частку.

**СУБАРБІТА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + *арбітальны*); с. п а л ё т — палёт касмічнага лятальнага апарата па балістычнай траекторыі без выхаду на *арбіту* штучнага спадарожніка Зямлі.

**СУБАРДЫНАТУ́РА** (ад *суб-* + *ардынатура*) — пачатковая спецыялізацыя студэнтаў медыцынскіх інстытутаў, у час якой яны выконваюць абавязкі ўрача-ардынатара лячэбнай установы.

**СУБАРДЫНА́ЦЫЯ** (лац. subordinatio) — 1) сістэма строгага падпарадкавання малодшых службовых асоб старшым; 2) *фізіял.* уплыў цэнтральнай нервовай сістэмы на функцыянальны стан перыферычнай нервовай сістэмы.

**СУБА́РКТЫКА** (ад *суб-* + *арктыка*) — геаграфічны пояс у Паўн. паўшар'і, размешчаны паміж арктычным і ўмераным паясамі.

**СУБАРКТЫ́ЧНЫ** (ад *суб-* + *арктычны*) — размешчаны каля *арктыкі*, уласцівы абшарам, што суседнічаюць з арктычным геаграфічным поясам (напр. с. пояс, с. клімат).

**СУБАРЭ́НДА** (ад *суб-* + *арэнда)* — дагавор, паводле якога арандатар перадае арандаваную ім маёмасць або яе частку ў часовае карыстанне іншай асобе за пэўную плату.

**СУБА́ТАМНЫ** (ад *суб-* + *атам*) — драбнейшы за атам, які з'яўляецца састаўной часткай атама.

**СУБВЕ́НЦЫЯ** (лац. subventio = дапамога) — від дзяржаўнай грашовай дапамогі асобным галінам гаспадаркі, якая, у адрозненне ад датацыі, павінна быць выкарыстана на канкрэтныя мэты.

**СУБГІГА́НТ** (ад *суб-* + *гігант*) — *астр.* абазначэнне класа зорак з меншай свяцімасцю, чым у заракгігантаў (параўн. *субкарлік*).

**СУБДАМІНА́НТА** (ад *суб-* + *дамінанта*) — *муз.* чацвёртая ступень *мажору* або *мінору*, а таксама *акорд*, пабудаваны на гэтай ступені.

**СУБ'Е́КТ** (лац. subiectum) — 1) чалавек, які пазнае знешні свет (*аб'ект*) і ўздзейнічае на яго; 2) асоба або арганізацыя, якія валодаюць пэўнымі правамі і абавязкамі; 3) чалавек, звычайна з адмоўнымі рысамі характару; 4) прадмет суджэння ў логіцы; 5) *лінгв.* дзейнік.

**СУБ'ЕКТЫВІ́ЗМ** (ад лац. subiectivus = суб'ектыўны) — 1) ідэалістычны светапогляд, які адмаўляе аб'ектыўнае існаванне матэрыяльнага свету і лічыць, што прадметы і з'явы існуюць толькі ў свядомасці чалавека; 2) кірунак у *сацыялогіі*, які сцвярджае, што развіццё грамадства вызначаецца не аб'ектыўнымі заканамернасцямі, а воляй, імкненнямі пэўных асоб; 3) асабістыя, прадузятыя адносіны да чаго-н.

**СУБ'ЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *суб'ектыўны*) — 1) уласцівасць суб'ектыўнага; 2) індывідуальная асаблівасць у поглядах на рэчы; 3) арыгінальнасць, уласцівая якой-н. асобе.

**СУБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** (лац. subiectivus) — 1) асабісты, уласцівы толькі пэўнай асобе; 2) прадузяты, неаб'ектыўны (напр. с-ая ацэнка).

**СУБЕРЫ́Н** (лац. suberinus = коркавы, ад suber = корак) — арганічнае рэчыва, якое адкладваецца ў абалонках раслінных клетак і робіць іх непранікальнымі для вады і газаў.

**СУБІМА́ГА** (ад *суб-* + лац. imago = вобраз, падабенства) — першая імагінальная фаза некаторых вымерлых насякомых.

**СУ́БІТА** (іт. subito = раптоўна, нечакана) — рэзкі, нечаканы пераход

# С

пры выкананні музычнага твора (напр. ад вялікай гучнасці да ціхай).

**СУБКАНТЫНЕ́НТ** (ад *суб-* + *кантынент*) — вялікая, геаграфічна дакладна акрэсленая частка кантынента.

**СУБКА́РЛІК** (ад *суб-* + *карлік*) — абазначэнне класа зорак з меншай свяцімасцю, чым у зорак-карлікаў (параўн. *субгігант*).

**СУБКАРТЫКА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + лац. cortex, -ticis = кара) — падкоркавы, размешчаны ніжэй кары галаўнога мозгу.

**СУБЛІМАВА́ЦЬ** (лац. sublimare = высока паднімаць) — 1) рабіць *сублімацыю*; 2) праходзіць сублімацыю.

**СУБЛІМА́ТЫ** (лац. sublimatus = падняты) — 1) прадукты *сублімацыі*; 2) мінеральныя ўтварэнні на месцы выхаду вулканічных газаў.

**СУБЛІМА́ЦЫЯ** (лац. sublimatio = падніманне) — пераход рэчыва пры награванні з цвёрдага стану непасрэдна ў газападобны, абмінаючы вадкі (процілегл. *дэсублімацыя*).

**СУБЛІТАРА́ЛЬ** (ад *суб-* + *літараль*) — прыбярэжная частка дна акіянаў і мораў, размешчаная ніжэй літаралі.

**СУБМАРЫ́НА** (англ. submarine, ад лац. sub = пад + marina = марская) — падводная лодка.

**СУБМІКРАСКАПІ́ЧНЫ** (ад *суб-* + *мікраскапічны*) — нябачны ў аптычны *мікраскоп*, меншы за даўжыню хвалі святла.

**СУБМІКРО́ННЫ** (ад *суб-* + *мікрон*) — звязаны з часцінкамі, памер якіх меншы за мікрон.

**СУБМІЛІМЕТРО́ВЫ** (ад *суб-* + *міліметр*) — меншы за міліметр; с - ы я  х в а л і — хвалі, даўжыня якіх меншая за міліметр.

**СУБПРАДУ́КТЫ** (ад *суб-* + *прадукт*) — харчовыя прадукты, акрамя мясной тушы, якія атрымліваюцца пры разбіранні забітай жывёлы (печань, язык, ныркі, мозг і інш.).

**СУБРАГА́ЦЫЯ** (п.-лац. subrogatio) — частковае дапаўненне да старога закону.

**СУБРАДУЛЯ́РНЫ** (ад *суб-* + лац. radula = скрабок) — орган слыху ў боканервовых *малюскаў*.

**СУБРЭГІЯНА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + *рэгіянальны*) — звязаны з прасторай, меншай за рэгіён.

**СУБРЭ́ПЦЫЯ** (лац. subreptio) — аргументацыя, якая грунтуецца на памылковай аснове.

**СУБРЭ́ТКА** (фр. soubrette) — бойкая, вясёлая, знаходлівая служанка, памочніца сваёй пані ў любоўных інтрыгах як персанаж даўніх камедый і вадэвіляў (пераважна французскіх).

**СУБСІДЗІ́РАВАЦЬ** (ад лац. subsidium = дапамога, падтрымка) — выдаваць *субсідыю*.

**СУБСІ́ДЫЯ** (лац. subsidium = дапамога, падтрымка) — дапамога ў грашовай або натуральнай форме каму-н.

**СУБСІДЫЯ́РНЫ** (лац. subsidiarius = рэзервовы, дапаможны); с. д а г а в о р — дагавор, які дапаўняе асноўнае абавязацельства.

**СУБСТАНТЫВА́ЦЫЯ** (ад лац. substantivum = назоўнік) — *лінгв.* пераход у разрад назоўнікаў іншых часцін мовы.

**СУБСТАНТЫ́ЎНЫ** (ад лац. substantivum = назоўнік) — 1) *лінгв.* які мае значэнне назоўніка; 2) які дзейнічае без дапамогі іншых рэчываў, незалежны, самастойны.

**СУБСТА́НЦЫЯ** (лац. substantia) — 1) *філас.* матэрыя ў адзінстве ўсіх форм яе руху; 2) аснова, сутнасць чаго-н. (напр. мінеральная с. глебы).

**СУБСТАНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. substantialis) — які з'яўляецца *субстанцыяй*, мае адносіны да яе.

**СУБСТРА́Т** (лац. substratum) — 1) аснова, на якой размешчана што-н. (напр. базальтавы с. зямной кары); 2) *філас.* агульная адзіная аснова якіх-н. з'яў; 3) элементы мовы папярэдняга насельніцтва дадзенай тэрыторыі, якія захаваліся ў мове прышэльцаў.

**СУБСТЫТУ́Т** (лац. substitutus = падстаўлены) — 1) асоба, якая замяшчае каго-н.; 2) матэрыял або тавар, які можна выкарыстаць у выпадку адсутнасці патрэбнага матэрыялу або тавару; заменнік.

**СУБСТЫТУ́ЦЫЯ** (лац. substitutio = падстаноўка) — замяшчэнне аднаго іншым, звычайна падобным па ўласцівасцях, прызначэнню (напр. замена аднаго металу другім, аднаго гуку ў мове іншым).

**СУБТРАПІ́ЧНЫ** (ад *суб-* + *трапічны*) — які мае адносіны да *субтропікаў*, уласцівы субтропікам.

**СУБТРО́ПІКІ** (ад *суб-* + *тропікі*) — геаграфічныя паясы зямнога шара, размешчаныя ў абодвух паўшар'ях прыблізна паміж 30° і 40° шыраты, паміж умераным і трапічным паясамі.

**СУБТЫ́ЛЬНЫ** (лац. subtilis) — кволы, слабы; далікатны, тонкі.

**СУБТЭРМІНА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + лац. terminalis = заключны, канечны) — тэрмін, які абазначае размяшчэнне частак цела на некаторай адлегласці ад яго канца.

**СУБУМБРЭ́ЛА** (ад *суб-* + лац. umbra = цень) — унутраны ўвагнуты бок парасона *медуз.*

**СУБФАСІ́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + *фасільны*) — які не дасягнуў поўнай *фасілізацыі* (аб рэштках жывёл і раслін).

**СУБЦІ́ТР** (ад *суб-* + *цітр*) — надпіс на ніжняй частцы кадра іншаземнага фільма з перакладам іншамоўнага тэксту на мову, зразумелую гледачам.

**СУБЭКВАТАРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + *экватар*); с - ы я п а я с ы — геаграфічныя паясы Паўн. і Паўд. паўшар'яў Зямлі паміж экватарыяльным і трапічнымі паясамі.

**СУБЭПІДЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *суб-* + гр. epidermis = надскурка) — звязаны з канцэнтрацыяй нервовых элементаў па краі парасона гідроідных *медуз.*

**СУВЕНІ́Р** (фр. souvenir) — памятны падарунак або пакупка.

**СУВЕРЭ́Н** (фр. souverain) — носьбіт вярхоўнай улады.

**СУВЕРЭНІТЭ́Т** (ням. Souveränität, ад фр. souveraineté) — поўная незалежнасць дзяржавы ў знешняй і ўнутранай палітыцы.

**СУВЕРЭ́ННЫ** (фр. souverain) — 1) незалежны, самастойны (напр. с-ая дзяржава); 2) які ажыццяўляе вярхоўную ўладу (напр. с. правіцель).

**СУГЕСТАПЕ́ДЫЯ** (лац. suggestio = унушэнне + *-педыя*) — сістэма паскоранага навучання, звязаная з гіпнатычным унушэннем.

**СУГЕСТЫ́ЎНЫ** (н.-лац. suggestivus = які ўнушае) — які мае адносіны да *сугестыі* (напр. с-ая лірыка).

**СУГЕ́СТЫЯ** (лац. suggestio = унушэнне) — 1) уздзеянне на волю чалавека з мэтай унушыць яму пэўныя думкі, перакананні; 2) мэтанакіраванае ўздзеянне словам на псіхіку хворага пры яго лячэнні.

**СУДМАЛІ́НАС** (лац. sudmalinas, ад sudmalas = млын) — латышскі народны танец.

**СУ́ІЛ** (н.-лац. suillus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, які расце пераважна ў хваёвых лясах; масляк.

**СУ́ІНГ** (англ. swing = рытм) — стыль джазавай музыкі, характэрнай асаблівасцю якога з'яўляецца сольная *імправізацыя*, складаны *акампанемент*, вялікая колькасць выканаўцаў.

**СУЩЫДА́ЛЬНЫ** (ад лац. sui = сам па сабе + caedes = забойства) — *мед.* самагубны, які адносіцца да самазабойства.

**СУКРЭ́** (ісп. sucre, ад Sucre = прозвішча генерала, які ваяваў за свабоду Паўд. Амерыкі) — грашовая адзінка Эквадора, роўная 100 *сентава*.

**СУКУЛЕ́НТНЫ** (лац. succulentus = сакаўны); с-ыя расліны — тое, што і *сукуленты*.

**СУКУЛЕ́НТЫ** (лац. succulentus = сакаўны) — расліны з тоўстым сакаўным лісцем (*алоэ*, *агава* і інш.) або сцёбламі (*кактусы*, малачаі і інш.), што ўтрымліваюць многа вады.

**СУКЦЫЗЕ́ЛА** (н.-лац. succisella) — травяністая расліна сям. варсянкавых з падоўжаным лісцем і бледна-фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў Еўропе; расце на сырых лугах і ў хмызняках.

**СУКЦЭ́СІЯ** (лац. successio = паслядоўнасць, пераемнасць) — рад паслядоўных змен расліннага покрыву з часам (напр. аднаўленне лясоў пасля вырубкі або пажару).

**СУЛЕ́МА** (ад лац. sublimatum = здабытае перагонкай) — ядавіты белы парашок хлорнай ртуці; выкарыстоўваецца як сродак для *дэзінфекцыі*.

**СУЛТА́Н** (тур. sultan, ад ар. sultān = панаванне) — 1) спадчынны тытул манарха ў некаторых мусульманскіх краінах; 2) упрыгожанне з пер'яў ці конскіх валасоў на галаўным уборы ў ваенных; 3) суквецце ў некаторых раслін.

**СУЛТАНА́Т** (ад *султан*) — манархічная дзяржава, якая ўзначальваецца султанам.

**СУЛЬГІ́Н** [ад лац. sul(fur) = сера + *(аналь)гін*] — лекавы прэпарат з групы сульфаніламідных сродкаў, які ўжываюць пры кішачных інфекцыях.

**СУЛЬСЕ́Н** [ад лац. sul(fur) = сера + *с(ел)ен*] — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваюць пры *себарэі* пакрытай валасамі часткі галавы.

**СУЛЬФАМІ́ДЫ** [ад лац. sulf(ur) = сера + *аміды*] — тое, што і *сульфаніламіды*.

**СУЛЬФАНІЛАМІ́ДЫ** [ад лац. sulf(ur) =сера + *аніл(ін)* + *аміды*] — група лекавых рэчываў,

якія аслабляюць дзеянне хваробатворных бактэрый.

**СУЛЬФА́ТЫ** (ад лац. sulfur = сера) — солі сернай кіслаты (напр. сульфат амонію, сульфат натрыю); сернакіслыя солі.

**СУЛЬФАЦЫ́Л-НА́ТРЫЙ** (ад *сульфаты* + *натрый*) — тое, што і *альбуцыд*.

**СУЛЬФІДЗІ́Н** (ад *сульфіды*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры лячэнні хвароб, выкліканых *кокамі*.

**СУЛЬФІ́ДЫ** (ад лац. sulfur = сера) — злучэнні серы з рознымі металамі (напр. сульфід натрыю, сульфід кальцыю); сярністыя металы.

**СУЛЬФІ́РАВАЦЬ** (ад лац. sulfur = сера) — уводзіць у арганічнае злучэнне сульфагрупу.

**СУЛЬФІТА́ЦЫЯ** (ад лац. sulfur = сера) — кансерваванне садавіны і гародніны сярністай кіслатой.

**СУЛЬФІ́ТЫ** (ад лац. sulfur = сера) — солі сярністай кіслаты (напр. сульфіт натрыю); сярністакіслыя солі.

**СУ́МА** (лац. summa) — 1) лік, які атрымліваецца ў выніку складання дзвюх або некалькіх велічынь; 2) агульная колькасць, сукупнасць чаго-н.; 3) пэўная колькасць грошай; к р у г л а я с. — вялікая колькасць грошай.

**СУМА́РНЫ** (лац. summarius) — 1) атрыманы ў выніку складання (напр. с-ая прадукцыя цэхаў); 2) не канкрэтызаваны, абагульнены (напр. с-ае апісанне фактаў).

**СУМА́ТАР** (ад лац. summa = сума) — адзін з элементаў электроннавылічальнай машыны, які вызначае суму дзвюх зададзеных велічынь.

**СУМА́Х** (ар. summak) — дрэвавая або кустовая расліна сям. анакардыевых з буйным лісцем і дробнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы, Усх. Азіі, Крыме і на Каўказе; дае дубільныя, фарбавальныя і лекавыя рэчывы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СУМА́ЦЫЯ** (п.-лац. summatio = складанне, ад лац. summa = сума) — узнікненне ўзбуджэння ў тканках арганізмаў у выніку дзеяння некалькіх паслядоўных падпарогавых раздражненняў, кожнага з іх асобна недастаткова, каб выклікаць фізіялагічную рэакцыю.

**СУ́НА** (ар. sunna = звычай, традыцыя) — мусульманскае свяшчэннае паданне, якое дапаўняе палажэнні *Карана*.

**СУНІ́ЗМ** (ад гр. sunna = звычай, традыцыя) — кірунак у *ісламе*, які прызнае *Суну* нароўні з Каранам.

**СУНІ́ТЫ** (ад ар. sunna = звычай, традыцыя) — мусульмане, якія з'яўляюцца паслядоўнікамі *сунізму*.

**СУПАЗІТО́РЫЙ** (лац. suppositorium = тое, што знаходзіцца ўнізе) — лекавая свечка для ўвядзення лякарства ў арганізм чалавека праз прамую кішку.

**СУПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. suppositio) — дапушчэнне, здагадка.

**СУПАЛІМЕ́РЫ** (ад *суб-* + *палімеры*) — палімеры, якія атрымліваюцца ўзаемадзеяннем двух або больш зыходных рэчываў — нізкамалекулярных злучэнняў.

# С

**СУ́ПАРТ** (фр. support, ад п.-лац. supportare = падтрымліваць) — рухомы вузел металарэзных і дрэваапрацоўчых станкоў, які ўтрымлівае разец.

**СУПЕР-** (лац. super = зверху, над) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на размяшчэнне зверху над чым-н., высокую ступень якасці чаго-н. або старшынство каго-н.

**СУПЕРАВІЯ́ЦЫЯ** (ад *супер-* + *авіяцыя*) — авіяцыя вышэйшага класа.

**СУПЕРАГЕ́НТ** (ад *супер-* + *агент*) — агент контрразведкі высокага класа.

**СУПЕРАРБІ́ТР** (ад *супер-* + *арбітр*) — старшыня трацейскага суда, які канчаткова вырашае спрэчку ў выпадку нязгоды паміж членамі суда (арбітрамі).

**СУПЕРАРТЫКО́Н** (ад *супер-* + *артыкон*) — перадавальная тэлевізійная трубка з больш высокай, чым у артыкона, адчувальнасцю.

**СУПЕРВІ́ЗАР** (англ. supervisor, ад лац. super = зверху, над + visere = бачыць) — кіруючая праграма, прызначаная для арганізацыі шматпраграмнага рэжыму работы электронна-вылічальнай машыны.

**СУПЕРГЕТЭРАДЗІ́Н** (ад *супер-* + *гетэрадзін*) — радыёпрыёмнік, у якім прынятыя электрамагнітныя ваганні ператвараюцца ў ваганні прамежнай частаты, на якой адбываецца ўзмацненне.

**СУПЕРІКАНАСКО́П** (ад *супер-* + *іканаскоп*) — перадавальная тэлевізійная трубка з накапленнем зараду і пераносам адлюстравання з фотакатода на дыэлектрычную мішэнь.

**СУПЕРІНТЭНДЭ́НТ** (лац. superintendens, -ntis = вярхоўны нагляднык) — 1) асоба, якая стаіць на чале пратэстанцкай царкоўнай акругі; 2) службовая асоба ў ЗША, якая ўзначальвае *дэпартамент* народнай адукацыі.

**СУПЕРІНФЕ́КЦЫЯ** (ад *супер-* + *інфекцыя*) — паўторнае заражэнне ва ўмовах нявылечанага інфекцыйнага захворвання (параўн. *рэінфекцыя*).

**СУПЕРКАЛА́НДР** (ад *супер-* + *каландр*) — машына для апрацоўкі паверхні паперы.

**СУПЕРКА́РГА** (англ. supercargo, ад лац. super = над + ісп. cargo = пагрузка) — давераны *агент* кампаніі, што зафрахтавала судна, які наглядае за прыёмам і выдачай грузаў.

**СУПЕРМАДЭРНІ́ЗМ** (ад *супер-* + *мадэрнізм*) — крайні мадэрнізм.

**СУПЕРМА́РКЕТ** (англ. supermarket, ад лац. super = над + англ. market = рынак, продаж) — буйны магазін самаабслугоўвання па гандлю таварамі паўсядзённага попыту, пераважна спажывецкага; універсам.

**СУПЕРМО́ДА** (ад *супер-* + *мода*) — самая апошняя мода.

**СУПЕРМЭ́Н** (англ. superman, ад лац. super = над + англ. man = чалавек) — 1) *іран.* чалавек, упэўнены ў сваёй перавазе над іншымі; 2) герой дэтэктываў, коміксаў, кінабаевікоў, надзелены нязвыклымі якасцямі, якія робяць яго непераможным, абаяльным.

**СУПЕРПАЗІ́ЦЫЯ** (ад *супер-* + *пазіцыя*) — 1) *мат.* падстаноўка функцый у функцыю або зменных велічынь у функцыю; 2) накладанне дзвюх фізічных велічынь, іх аб'яднанае дзеянне, калі яны ўзаемна не ўплываюць адна на адну.

**СУПЕРПАРАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *супер-* + *парамагнетызм*) — парамагнетызм сістэмы дробных ферамагнітных аднадаменных часціц у знешнім магнітным полі.

**СУПЕРРЭГЕНЕРА́ТАР** (ад *супер-* + *рэгенератар*) — радыёпрыёмнік, які працуе пры перыядычна змяняльным згасанні прыёмнага контура.

**СУПЕРСЕ́ЛЕРЫ** (англ. super-sellers) — кнігі тыпу *бестселераў*, выдадзеныя ў дарагім мастацкім афармленні.

**СУПЕРСТРА́Т** (лац. superstratum = наслане) — элементы мовы прышлага народа, што пранiклі ў мову карэннага насельніцтва.

**СУПЕРТА́НКЕР** (ад *супер-* + *танкер*) — танкер грузапад'ёмнасцю звыш 100 тыс. т.

**СУПЕРТЫ́П** (ад *супер-* + *-тып*) — аднаапаратная наборная літараадліўная машына, па канструкцыі блізкая да *лінатыпу*.

**СУПЕРФАСФА́Т** (ад *супер-* + *фасфаты*) — мінеральнае фасфатнае ўгнаенне, якое атрымліваецца шляхам апрацоўкі фасфату кіслотамі.

**СУПЕРФІ́НІШ** (англ. superfinish, ад лац. super = над + англ. finish = апрацоўка) — тонкая апрацоўка паверхні дэталей брускамі з абразіўных матэрыялаў.

**СУПЕРЭКСПРЭ́С** (ад *супер-* + *экспрэс*) — поезд, які развівае найбольшую хуткасць.

**СУПЕРЭЛІ́ТА** (ад *супер-* + *эліта*) — самае лепшае, адборнае насенне сельскагаспадарчых раслін, якое найбольш поўна перадае ўсе адзнакі і ўласцівасці пэўнага сорту.

**СУПІ́Н** (лац. supinum) — нязменная дзеяслоўная форма, якая ўжываецца для абазначэння мэты пры дзеясловах руху ў некаторых індаеўрапейскіх мовах.

**СУПІНА́ТАР** (ад лац. supinare = адкідваць назад) — 1) артапедычная вусцілка, якая ўкладваецца ў звычайны абутак пры пляскатасці ступні; 2) *анат.* адна з мышцаў, якія паварочваюць канечнасць вонкі.

**СУПІНА́ЦЫЯ** (лац. supinatio, ад supinare = адкідваць назад) — 1) рух перадплечча і кісці рукі, пры якім далонь паварочваецца наперад і ўгору, а вялікі палец ад сярэдняй плоскасці цела; паварот ступні, пры якім унутраны край яе паднімаецца, а знешні апускаецца (параўн. *пранацыя* 1); 2) пазіцыя ў фехтаванні, калі ўзброеная рука павернута далонню ўверх (параўн. *пранацыя* 2).

**СУПЛЕТЫВІ́ЗМ** (ад лац. suppletivus = дадатковы) — *лінгв.* утварэнне формаў аднаго і таго ж слова ад розных асноў (напр. я — мяне, добры — лепшы).

**СУПЛЕТЫ́ЎНЫ** (лац. suppletivus = дадатковы); *лінгв.* с - ы я ф о р м ы — формы аднаго слова, утвораныя ад розных асноў.

**СУПРАЛІТАРА́ЛЬ** (ад лац. supra = над + *літараль*) — зона ўзбярэжжа акіяну або мора, размешчаная вышэй за літараль.

**СУПРАНАТУРАЛІ́ЗМ** (ад лац. supra = над + *натуралізм*) — вера ў надпрыроднае.

**СУПРЭМАТЫ́ЗМ** (ад лац. supremus = вышэйшы) — фармалістычная плынь у рускім мастацтве пач. 20 ст., разнавіднасць *абстракцыянізму*.

**СУПРЭ́СІЯ** (лац. suppressio = ціск) — поўнае або частковае ўзнаўленне ў спадчынна змененых формах арганізма нармальнага праяўлення прыкметы ў выніку новай мутацыі.

**СУПРЭФЕ́КТ** (фр. souspréfet) — прадстаўнік *прэфекта* ў адміністрацыйнай акрузе ў Францыі.

**СУПРЭФЕКТУ́РА** (фр. souspréfecture) — адміністрацыйна-тэрытарыяльнае падраздзяленне ў Дагамеі, Беразе Слановай Косці і некаторых іншых краінах.

**СУРАГА́Т** (лац. surrogatus = пастаўлены замест іншага) — непаўнацэнны замяняльнік чаго-н. (напр. с. кофе, с. алмаза).

**СУРВЭ́ТА** (польск. serweta, ад фр. serviette) — 1) невялікі абрус; 2) невялікі кавалак тканіны або паперы ў выглядзе хустачкі для выцірання губ пасля яды, засцеражэння вопраткі ў цырульні і інш.

**СУРГУ́Ч** (тат. surguč) — каляровая сумесь з цвёрдых смолаў, воску і інш., якая лёгка плавіцца і застывае; выкарыстоўваецца для накладання пячатак, закаркоўвання бутэлек і інш.

**СУРДАКА́МЕРА** (ад лац. surdus = глухі + *камера*) — памяшканне з гуканепранікальнымі сценамі, якое служыць для падрыхтоўкі касманаўтаў да работы ва ўмовах адсутнасці гукавых раздражняльнікаў.

**СУРДАЛО́ГІЯ** (ад лац. surdus = глухі + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае парушэнні слыху.

**СУРДАПЕДАГО́ГІКА** (ад лац. surdus = глухі + *педагогіка*) — раздзел *дэфекталогіі*, які вывучае працэсы навучання і выхавання дзяцей з парушэннямі слыху.

**СУРДАТЭ́ХНІКА** (ад лац. surdus = глухі + *тэхніка*) — 1) раздзел *дэфекталогіі*, які распрацоўвае тэхнічныя прыёмы навучання пры дэфектах слыху; 2) сукупнасць тэхнічных сродкаў, прызначаных для карэкцыі або кампенсацыі дэфектаў слыху.

**СУРДЗІ́НА** (фр. sourdine, ад іт. sordina) — прыстасаванне, пры дапамозе якога аслабляецца гук у музычных інструментах.

**СУРДУ́Т** (польск. surdut, ад фр. surtout) — мужчынскае верхняе адзенне накшталт пінжака з доўгімі поламі і адкладным каўняром.

**СУРМА́**[1] (рус. сурьма, ад перс. surma = метал) — 1) хімічны элемент, серабрыста-белы метал; ужываецца ў тэхніцы і медыцыне; 2) чорная фарба для валасоў, броваў.

**СУРМА́**[2] (тур. surna, ад перс. sūrnā) — старажытны беларускі і ўкраінскі духавы музычны інструмент у выглядзе доўгай драўлянай трубы.

**СУРМА́Ч** (тат., тур. surnaču) — музыкант, які іграе на *сурме*, трубач.

**СУРЫРЭ́ЛА** (н.-лац. surirella) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. сурырэлавых, якая трапляецца ў прэсных, саланаватых і марскіх водах.

**СУСЕ́КС** (англ. Sussex = назва графства ў Англіі) — парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў Англіі.

**СУСПЕНДАВА́ЦЬ** (лац. suspendere) — гатаваць гетэрагенныя сумесі з вадкасці і завіслых у ёй цвёрдых часцінак.

**СУСПЕНЗІ́ЎНЫ** (с.-лац. suspensivus) — які прыпыняе, адкладвае; с - а е в е т а — права кіраўніка дзяржавы (манарха або прэзідэнта рэспублікі) адмовіць у зацвярджэнні адобранага парламентам законапраекта.

**СУСПЕ́НЗІЯ** (лац. suspensio = падвешванне) — вадкасць, у якой дробныя часцінкі цвёрдага рэчыва знаходзяцца ў завіслым стане.

**СУСПЕНЗО́РЫЙ** (ад лац. suspensus = падвешаны) — *мед.* павязка ў выглядзе мяшочка для падтрымкі машонкі.

**СУТА́Ж** (фр. soutache, ад венг. sujtás) — тонкі шаўковы або ваўняны плецены шнурок.

**СУТА́НА** (фр. soutane, ад іт. sottana = спадніца) — верхняе доўгае адзенне цёмнага колеру, якое каталіцкае духавенства носіць па-за службай.

**СУТАРЦІ́НЕ** (літ. sutartinė) — старадаўнія літоўскія шматгалосыя песні, пераважна жаночыя, якія выконваліся ў час працы, на вяселлях, суправаджалі танцы.

**СУ́ТРЫ** (санскр. sutra = нітка) — старажытнаіндыйскія рэлігійныя, філасофскія, навуковыя трактаты.

**СУТЭНЁР** (фр. souteneur) — маральна паўшы чалавек, які жыве на сродкі прастытуткі.

**СУФІ́ЗМ** (ад ар. sūfi = адзеты ў воўну) — містычная плынь у *ісламе*, якая прапаведуе зліццё чалавека з богам праз *аскетызм* і ўнутранае самаўдасканаленне.

**СУ́ФІКС** (лац. suffixus = прымацаваны) — *лінгв.* частка слова паміж коранем і канчаткам.

**СУФІКСА́ЦЫЯ** (ад *суфікс*) — утварэнне новых слоў або форм слова пры дапамозе суфіксаў.

**СУФЛЕ́** (фр. soufflé) — кулінарны выраб (кандытарскі, малочны, мясны), у склад якога ўваходзяць узбітыя яечныя бялкі.

**СУФЛЁР** (фр. souffleur) — 1) работнік тэатра, які падказвае акцёрам тэкст ролі ў час спектакля; 2) *перан.* падказчык.

**СУФЛІ́РАВАЦЬ** (фр. souffler) — падказваць акцёрам словы ролі ў час спектакля.

**СУФЛЯ́Р** (фр. soufflard) — выдзяленне рудніковага газу з трэшчын у тоўшчы вугалю.

**СУФО́ЗІЯ** (лац. suffosio = падкопванне) — вынас дробных мінеральных часцінак і раствораных рэчываў вадою, якая фільтруецца ў тоўшчы горных парод.

**СУФО́ЛКІ** (англ. Suffolk = назва графства ў Англіі) — парода цяжкавозаў, выведзеная ў Англіі.

**СУФРАЖЫ́ЗМ** (англ. suffragism, ад лац. suffragium = выбарчае пра-

ва) — жаночы рух у еўрапейскіх краінах і ЗША у другой пал. 19 — пач. 20 ст. за выбарчыя правы для жанчын.

**СФАГНІ́ДЫ** (н.-лац. sphagnidae) — падклас лістасцябловых імхоў; пашыраны па ўсім зямным шары, прадстаўлены адзіным родам *сфагнум*; сфагнавыя імхі.

**СФА́ГНУМ** (н.-лац. sphagnum) — лістасцябловы мох сям. сфагнавых, які расце на балотах, у забалочаных і сырых лясах, на мокрых лугах; тарфяны мох.

**СФАЛЕРЫ́Т** (ад гр. sphaleros = зманлівы) — мінерал класа *сульфідаў* карычневага або чорнага колеру з алмазным бляскам; руда цынку.

**СФАРЦА́НДА** (іт. sforzando = напружваючы) — *муз.* рэзкі націск на *ноце*, *акордзе*; вылучэнне з сілай асобнага гуку, акорда.

**СФЕ́КСЫ** (н.-лац. sphex) — рыючыя восы; жывуць у зямлі, палююць на саранчовых і konікаў.

**СФЕН** (гр. sphen = клін) — тое, што і *тытаніт*.

**СФЕНАІДЫ́Т** (ад гр. sphen = клін + eidos = выгляд) — запаленне поласці асноўнай, клінападобнай косці чэрапа.

**СФЕНАЦЭФА́ЛІЯ** (ад гр. sphen = клін + kephale = галава) — галава клінападобнай формы (з пашыранай лобнай часткай і звужанай патыліцай).

**СФЕ́РА** (лац. sphaera, ад гр. sphaira = шар) — 1) шар або яго ўнутраная паверхня (напр. зямная с., нябесная с.); 2) вобласць распаўсюджання якога-н. дзеяння (напр. с. прыцягнення планеты); с. у п л ы в у — тэрыторыя залежнай краіны, якая знаходзіцца пад палітычным і эканамічным кантролем адной з імперыялістычных дзяржаў; 3) галіна якой-н. дзейнасці, праяўлення якіх-н. інтарэсаў (напр. с. вытворчасці); 4) грамадскае асяроддзе; кола асоб, аб'яднаных агульнасцю сацыяльнага становішча або заняткаў (напр. навуковая с., дзелавая с.).

**СФЕРАЗО́СМА** (н.-лац. sphaerozosma) — ніткаватая зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, якая трапляецца ў сфагнавых балотах, рэках, дыстрофных азёрах, радзей у вадасховішчах і канавах.

**СФЕРАІДА́ЛЬНЫ** (ад гр. sphairoeides = шарападобны) — які мае форму *сфероіда*.

**СФЕРАЛІ́ТЫ** (ад *сфера* + *-літ*) — сферычныя геалагічныя ўтварэнні дыяметрам пераважна некалькі міліметраў, якія маюць радыяльна-валакністую будову.

**СФЕРАМАРФІ́ТЫ** (н.-лац. sphaeromorphitae) — падгрупа выкапнёвых марскіх водарасцяў або іх *цыстаў* з групы *акрытархаў* са сферычнай або эліпсоіднай абалонкай без грэбеняў і ўнутранага цела.

**СФЕРАПЕ́ЦЫЯ** (н.-лац. sphaeropezia) — сумчаты грыб сям. фацыдыевых, які трапляецца на апалым лісці падбелу, брусніц і журавін.

**СФЕРАСО́МА** (н.-лац. sphaerosoma, ад гр. sphaire = шар + soma = цела) — 1) сумчаты грыб сям. аскаболавых, які трапляецца на апалым лісці ў лясах; 2) клетачная гранула, якая змяшчае *ліпіды* і бялкі.

**СФЕРАТЭ́КА** (н.-лац. sphaerotheca) — сумчаты грыб сям. эрызіфавых, які развіваецца на лісці агрэсту, парэчак, раслін сям. ружавых і гваздзіковых.

**СФЕРАФІ́ЗА** (н.-лац. sphaerophysa, ад гр. sphaira = шар + physe = пузыр) — расліна сям. бабовых, якая расце ў Казахстане, Сярэд. Азіі, на Каўказе.

**СФЕРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. sphaerocystis) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелавых, якая трапляецца ў прэсных водах.

**СФЕРО́ІД** (гр. sphairoeides = шарападобны) — цела, якое ўтвараецца вярчэннем *эліпса* вакол яго малой восі; сплюшчаны шар, паверхня такога шара.

**СФЕРО́МЕТР** (ад гр. sphaira = шар + *-метр*) — прыбор для вымярэння радыуса крывізны сферычных паверхняў (напр. аптычных лінзаў).

**СФЕРО́ПСІС** (н.-лац. sphaeropsis) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які ўзбуджае чорны рак яблыні і грушы.

**СФЕРЫ́ДЫІ** (ад гр. sphaira = шар + eidos = выгляд) — органы раўнавагі ў марскіх вожыкаў.

**СФЕРЫ́ТЫ** (ад гр. sphaira = шар) — акруглыя крышталічныя ўтварэнні ў раслінных клетках.

**СФЕРЫ́ЧНЫ** (гр. sphairikos) — 1) які мае форму *сферы*, шара; 2) размешчаны на сферы, характэрны для яе паверхні; с - а я а с т р а н о м і я — раздзел *астраноміі*, які вывучае бачны рух свяцілаў на нябеснай сферы.

**СФІГМАГРА́МА** (ад гр. sphygmos = пульс + *-грама*) — крывая, якая з'яўляецца графічным адбіткам біцця пульсу.

**СФІГМАГРА́ФІЯ** (ад гр. sphygmos = пульс + *-графія*) — графічны запіс біцця пульсу з дапамогай *сфігмографа*.

**СФІГМАМАНО́МЕТР** (ад гр. sphygmos = пульс + *манометр*) — прыбор для вымярэння крывяного ціску.

**СФІГМО́ГРАФ** (ад гр. sphygmos = пульс + *-граф*) — прыбор для графічнай рэгістрацыі біцця пульсу.

**СФІНКС** (гр. sphinks) — 1) гіганцкая каменная фігура ляжачага льва з чалавечай галавой як увасабленне магутнасці фараона ў Стараж. Егіпце; 2) крылатая істота з тулавам льва і галавой жанчыны ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 3) перан. загадкавая істота, незразумелы чалавек; 4) малпа з роду *павіянаў* з доўгай чырванавата-карычневай поўсцю; гвінейскі павіян; 5) буйны матыль сям. бражнікаў; мёртвая галава.

**СФІНКТРЫ́НА** (н.-лац. sphinctrina) — сумчаты лішайнік сям. каліцыевых, які селіцца на лішайніках з роду *пертузарыя*.

**СФІ́НКТЭР** (гр. sphinkter) — кольцападобная мышца, скарачэнне якой замыкае або звужае якую-н. вонкавую адтуліну або выхад з трубчастага органа.

**СФРАГІ́СТЫКА** (ад гр. sphragis = пячатка) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае пячаткі.

**СФУМА́ТА** (іт. sfumato) — прыём у выяўленчым мастацтве, які заключаецца ў змякчэнні абрысаў

постацей і прадметаў, што дае магчымасць перадаваць навакольнае паветра.

**СХАЛА́СТ** (гр. scholastes = аддany навуковым або літаратурным заняткам) — 1) паслядоўнік *схаластыкі*; 2) *перан.* той, хто адрывае веды, навуку ад жыцця і практыкі.

**СХАЛА́СТЫК** (гр. scholastikos = школьны) — тое, што і *схаласт*.

**СХАЛА́СТЫКА** (гр. scholastikos = школьны) — 1) сярэдневяковая рэлігійна-ідэалістычная філасофія, якая вызначалася абстрактнымі разважаннямі і фармальнымі лагічнымі мудрагельствамі; 2) *перан.* фармальныя веды, адарваныя ад жыцця, начотніцтва.

**СХАЛАСТЫ́ЧНЫ** (гр. scholastikos = школьны) — 1) уласцівы *схаластыцы*; 2) адарваны ад жыцця, практыкі; фармальны.

**СХЕ́МА** (гр. schema = вобраз, форма) — 1) чарцёж, які перадае пабудову, сістэму, сувязь частак чаго-н., напр. машыны або прыбора; 2) апісанне, зробленае толькі ў агульных рысах, папярэдні накід; 3) абстрактны, павярхоўны паказ чаго-н.

**СХЕМАТЫЗАВА́ЦЬ** (ад гр. schema = вобраз, форма) — падаваць, апісваць, паказваць што-н. у схематычным, адцягнена-спрошчаным выглядзе, у агульных рысах.

**СХЕМАТЫ́ЗМ** (гр. schematismos = абрысы, форма) — спрошчанасць, трафарэтнасць у мысленні, у адлюстраванні чаго-н.

**СХЕМАТЭ́ХНІКА** (ад *схема* + *тэхніка*) — навукова-тэхнічны кірунак, які ахоплівае праблемы аналізу і сінтэзу электронных устройстваў радыётэхнікі, сувязі, аўтаматыкі, вылічальнай тэхнікі з мэтай забяспечыць аптымальнае выкананне імі зададзеных функцый.

**СХЕНАПЛЕ́КТУС** (ад гр. schoinos = чарот + plektos = віты, кручаны) — тое, што і *схенус*.

**СХЕ́НУС** (н.-лац. schoenus) — травяністая расліна сям. асаковых з тонкімі сцёбламі і каласкамі, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах; расце на забалочаных лугах і тарфяных балотах.

**СХІЗАФРЭНІ́Я** (ад гр. schizo = расшчапляю + phren = душа, розум, мысленне) — тое, што і *шызафрэнія*.

**СХІЗАХЛА́МІС** (н.-лац. schizochlamys) — каланіяльная зялёная водарасць сям. тэтраспоравых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах на розных субстратах.

**СХІ́ЗМА** (гр. schisma) — раскол у хрысціянскай царкве, аддзяленне ад яе якой-н. часткі.

**СХІЗМА́ТЫК** (гр. schismatikos = які датычыць расколу) — той, хто належыць да *схізмы*; раскольнік.

**СХІЗО́МЕРЫС** (н.-лац. schizomeris) — ніткаватая зялёная водарасць сям. схізамерыдыевых; расце ў прэсных вадаёмах на падводных прадметах.

**СХІ́МА** (гр. schema = становішча) — вышэйшая манаская ступень у праваслаўнай царкве, якая патрабуе ад пасвечанага ў яе строгага *аскетызму*.

**СХІСТАСТЭ́ГА** (н.-лац. schistostega) — лістасцябловы мох сям. схістастэгіевых, які расце на ўвіль-

готненай глебе ў паглыбленнях сярод каранёў дрэў, у дуплах, норах звяроў.

**СХО́ЛІІ** (гр. scholia, мн. ад scholion) — заўвагі, тлумачэнні да тэксту.

**СЦІЗО́РЫК** (польск. scyzoryk, ад лац. scissor = які разразае) — невялікі складаны кішэнны нож.

**СЦІ́РТА** (літ. stirta) — 1) вялікі стог снапоў збожжа, саломы або сена, складзены пад адкрытым небам; 2) вялікая куча прадметаў.

**СЦЫАРЫ́ДЫ** (н.-лац. sciaridae) — сямейства насякомых атрада двухкрылых; шкодзяць бульбе, агуркам і іншым агародным культурам.

**СЦЫАФІ́ТЫ** (ад гр. skia = цень + *-фіты*) — расліны, якія добра пераносяць зацяненне.

**СЦЫЕНТЫ́ЗМ** (ад лац. scientia = навука) — абсалютызацыя ролі навукі ў сістэме культуры, у ідэйным жыцці грамадства.

**СЦЫНДА́ПСУС** (н.-лац. scindapsus) — вечназялёная травяністая расліна сям. ароідных з тонкім сцяблом і бліскучым ярка-зялёным лісцем, пашыраная ў вільготных трапічных лясах Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**СЦЫНТЫЛЯ́ТАРЫ** (ад лац. scintillare = выблісkваць) — рэчывы, у якіх пад уздзеяннем іанізуючых часціц і выпрамяненняў узнікаюць кароткачасовыя светлавыя ўспышкі.

**СЦЫНТЫЛЯЦЫ́ЙНЫ** (ад *сцынтыляцыя*) — які датычыць сцынтыляцыі, звязаны з яе вывучэннем і выкарыстаннем.

**СЦЫНТЫЛЯ́ЦЫЯ** (лац. scintillatio = ззянне) — кароткачасовая ўспышка святла, якая ўзнікае ў некаторых рэчывах, што называюцца *сцынтылятарамі*, пад уздзеяннем іанізуючых часціц і выпрамяненняў.

**СЦЫРПО́ІДЭС** (н.-лац. scirpoides) — травяністая расліна сям. асаковых з рэдукаваным лісцем і шматлікімі каласкамі, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах; расце на прыбярэжных пясках.

**СЦЫТАНЕ́МА** (н.-лац. scytonema) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. сцытанемавых, якая трапляецца ў прэсных водах, на вільготных скалах, глебе, на водных раслінах, асобныя віды ў морах і тэрмальных крыніцах.

**СЦЫФАМЕДУ́ЗЫ** (ад гр. skyphos = чаша + *медузы*) — клас марскіх кішачнаполасцевых жывёл тыпу кнідарый, жыццёвы цыкл якіх заключаецца ў правільным чаргаванні медузы і паліпа; сцыфоідныя.

**СЦЫФІСТО́МА** (ад гр. skyphos = чаша + stoma = рот) — паліпоідная стадыя *сцыфамедуз*.

**СЦЭ́НА** (лац. scaena, ад гр. skene) — 1) пляцоўка, на якой адбываюцца спектаклі, прадстаўленні (тэатральныя, эстрадныя, канцэртныя і інш.); 2) тэатр, тэатральная дзейнасць (напр. майстры сцэны); 3) частка дзеяння тэатральнай п'есы; 4) асобны эпізод у літаратурным творы, карціне мастака, кінафільме; 5) рэзкая, вострая размова (напр. сямейная с.); 6) *перан.* арэна дзейнасці (напр. сысці са сцэны).

**СЦЭНАГРА́ФІЯ** (ад *сцэна* + *-графія*) — мастацкае афармленне тэатральнай сцэны, кіназдымачнага

павільёна і інш. для спектакляў, прадстаўленняў, кіназдымак.

**СЦЭНА́РЫЙ** (іт. scenario, ад лац. scaena = сцэна) — 1) літаратурна-драматычны твор для будучага кінафільма; 2) сюжэтная схема, план п'есы, оперы, балета.

**СЦЭНАРЫ́СТ** (ад *сцэнарый*) — аўтар сцэнарыя.

**СЦЭНЕДЭ́СМУС** (н.-лац. scenedesmus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнадэсмавых, якая пашырана пераважна ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**СЦЭНІ́ЧНЫ** (лац. scaenicus) — 1) які мае адносіны да *сцэны*, з'яўляецца сцэнай; 2) звязаны з тэатральнай дзейнасцю, тэатральным масцацтвам; 3) які мае патрэбныя для сцэны якасці, прыгодны для сцэны, тэатра.

**СЦЮА́РД** (англ. steward) — 1) *афіцыянт* на пасажырскім судне ці пасажырскім самалёце; 2) кіраўнік буйной гаспадаркі, эканом у Англіі.

**СЦЮАРДЭ́СА** (англ. stewardess) — бортправадніца на самалёце, якая абслугоўвае пасажыраў.

**СЫГНЕ́Т** (с.-лац. signetum) — 1) пярсцёнак з пячаткай; 2) друкарскі або выдавецкі знак на тытульным лісце кнігі.

**СЫРАДЭ́ЛЯ** (ісп. serradella, ад serrado = зубчасты) — травяністая расліна сям. бабовых з ланцэтным лісцем і дробнымі белымі або ружовымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Еўропе, Паўн.-Зах. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як кармавая.

**СЬЕ́РА** (ісп. sierra) — назва гор і горных хрыбтоў на Пірэнейскім паўвостраве, у Паўд. і Цэнтр. Амерыцы.

**СЭМПЕРВІ́ВУМ** (н.-лац. sempervivum) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых з сакаўным лісцем і званочкавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Еўропе, Малой Азіі, Паўн.-Зах. Афрыцы; лекавая і дэкаратыўная.

**СЭНС** (польск. sens, ад лац. sensus) — 1) значэнне, унутраны змест; 2) мэта, разумная падстава, карысць, толк.

**СЭ́ПІЯ** (лац. sepia, ад гр. sepia) — 1) марскі драпежны галаваногі малюск атрада *дэкаподаў*, які выдзяляе карычневае фарбуючае рэчыва; каракаціца; 2) карычневая фарба з рэчыва, выдзеленага гэтым малюскам, а таксама малюнак, зроблены такой фарбай.

**СЭ́ПСІС** (гр. sepsis = гніенне) — цяжкае інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца заражэннем крыві гнаяроднымі мікробамі.

**СЭПТАКО́РД** (ад лац. septimus = сёмы + *акорд*) — музычны акорд з чатырох рознаіменных гукаў, якія могуць быць размешчаны па *тэрцыях*.

**СЭПТО́ЛЬ** (ням. Septole, ад лац. septimus = сёмы) — рытмічная фігура, аналагічная *квінтолі*, але складзеная з сямі музычных доляй.

**СЭ́ПТЫК** (англ. septic, ад гр. septikos = гніласны, гнойны) — *басейн* у каналізацыйнай сетцы для ачысткі сцёкавых вод.

**СЭПТЫ́МА** (лац. septima = сёмая) — *муз.* сёмая ступень дыятанічнай *гамы*, а таксама інтэрвал паміж першай і сёмай ступенямі.

**СЭПТЫЦЭМІ́Я** (ад гр. septikos = гніласны + *-эмія*) — таксічная форма *сэпсісу*.

**СЭПТЫ́ЧНЫ** (гр. septikos = гніласны) — звязаны з захворваннем *сэпсісам*.

**СЭПТЭ́Т** (ням. Septett, ад лац. septem = сем) — 1) музычны твор для сямі інструментаў або спевакоў з асобнай партыяй для кожнага; 2) ансамбль з сямі выканаўцаў.

**СЭР** (англ. sir) — 1) пачцівы зварот да мужчыны ў Англіі, ЗША і іншых англамоўных краінах; 2) тытул баранета ў Англіі.

**СЭ́РВІС** (англ. service = служба) — арганізаванае абслугоўванне насельніцтва ў сферы быту.

**СЭРВІТУ́Т** (лац. servitus, -tutis = павіннасць, падначаленасць) — 1) абмежаванае права карыстацца чужой уласнасцю (напр. права праезду, праходу праз зямельны ўчастак суседа), а таксама права на абмежаванне ўласніка ў пэўных адносінах; 2) абмежаванне ўлады дзяржавы над якой-н. тэрыторыяй на карысць іншай дзяржавы.

**СЭ́РУМ** (лац. serum) — сываратка крыві.

**СЭТ** (англ. set) — партыя гульні ў *тэніс*, у якой неабходна выйграць мінімум 6 яе частак (геймаў), каб мець двайную перавагу.

**СЭТБО́Л** (англ. set-ball) — становішча ў час гульні ў *тэніс*, калі аднаму боку не хапае толькі аднаго мяча, каб выйграць партыю.

**СЭ́ТЛЬМЕНТ** (англ. settlement = пасяленне) — асобы раён горада, не падначалены *юрысдыкцыі* мясцовых улад, які ствараўся ў залежных краінах іншаземцамі для пражывання сваіх падданых.

**СЭ́ТЭР** (англ. setter, ад set = рабіць стойку) — парода паляўнічых даўгашэрсных сабак.

**СЭЦЭСІЁН** (ням. Sezession, ад лац. secessio, -onis = адыход убок, аддаленне) — назва аб'яднанняў мастакоў у Германіі і Аўстрыі ў канцы 19 — пач. 20 ст., члены якіх выступалі супраць *акадэмізму*, прапагандавалі стыль «мадэрн».

**СЭЦЭ́СІЯ** (лац. secessio = адыход убок, аддаленне) — 1) выхад *плебеяў* са старажытнарымскай абшчыны і выхад за мяжу горада як сродак барацьбы супраць *патрыцыяў*; 2) адыход, адступніцтва; 3) *юр.* выхад са складу дзяржавы якой-н. яе часткі.

**СЮЖЭ́Т** (фр. sujet) — 1) сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей, у якіх раскрываецца асноўны змест літаратурнага твора; 2) падзея ці сітуацыя, адлюстраваная ў карціне, музычным творы і інш.

**СЮЗЕРЭ́Н** (фр. suzerain) — 1) буйны *феадал* у Зах. Еўропе перыяду сярэдневякоўя, які быў гаспадаром у адносінах да залежных ад яго *васалаў*; 2) дзяржава, у адносінах да якой іншая дзяржава знаходзіцца ў васальнай залежнасці.

**СЮЗЕРЭНІТЭ́Т** (фр. suzeraineté) — 1) вярхоўнае права *сюзерэна* ў адносінах да *васала*; 2) сукупнасць правоў дзяржавы-сюзерэна.

**СЮІ́ТА** (фр. suite) — 1) музычны твор з некалькіх самастойных частак, аб'яднаных агульнай задумай; 2) музычна-харэаграфічная кампазіцыя з некалькіх танцаў, аб'яднаных адной тэмай.

СЮРВЕ́ЕР (англ. surveyor) — інспектар замежных класіфікацыйных таварыстваў па тэхнічнаму нагляду над суднамі.

СЮРПРЫ́З (фр. surprise) — 1) прыемнае нечаканае здарэнне, нечаканасць; 2) нечаканы падарунак.

СЮРРЭАЛІ́ЗМ (фр. surrealisme = звышрэалізм) — мадэрнісцкі кірунак у літаратуры і мастацтве 20 ст., які абвясціў крыніцай творчасці сферу падсвядомага (інстынкты, сны, галюцынацыі), а яе метадам — разрыў лагічных сувязей, арыентацыю на суб'ектыўныя асацыяцыі.

СЮРФАСАГРА́ФІЯ (ад фр. surface = паверхня + *-графія*) — пабудова адлюстраванняў выпуклых паверхняў на комплексным ці на аксанаметрычным крэсленні.

СЯРЖА́НТ (фр. sergent) — званне малодшага каманднага саставу ў арміі і міліцыі.

# Т

ТАБАГА́Н (англ. toboggan, ад індз. tobagan) — 1) сані без палазоў для перавозкі грузаў уручную або пры дапамозе сабак, пашыраныя ў індзейцаў Канады; 2) драўляныя сані для катання і спаборніцтваў на хуткасць спускання з гор.

ТАБА́КА (ісп. tabaco, ад індз. tobako) — 1) парашкападобны тытунь для нюхання; 2) *разм.* тое, што і *тытунь*.

ТА́БАР (чэш. tábor) — 1) лагер, стан, абоз у чэхаў, палякаў, румын, венграў; 2) вайсковы лагер з абозам у казакаў 16—17 ст.; 3) група цыганскіх сем'яў, якія разам качуюць, а таксама іх стан, абоз; 4) *перан.* вялікая група людзей, якія часова размясціліся лагерам.

ТАБАРЫ́ТЫ (ад чэш. Tábor = назва чэш. горада) — прыхільнікі рэвалюцыйнага напрамку ў антыфеадальным нацыянальным руху чэшскага народа 15 ст.; удзельнікі гусіцкіх войнаў.

ТА́БЕЛЬ (ням. Tabelle, ад лац. tabella = дошчачка) — *бланк* або спецыяльная дошка для ўліку чаго-н. (напр. т. пасяховасці); т. а б р а н г а х — суадносіны чыноў воінскага, цывільнага і прыдворнага ведамстваў па старшынству (рангах, класах) у царскай Расіі, уведзеныя Пятром I; т. - к а л я н д а р — табліца, у якой па графах распісаны ўсе дні года.

ТАБЕЛЯ́РЫЯ (н.-лац. tabellaria) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць класа пенатных, якая пашырана пераважна ў прэсных водах.

ТАБЕРНА́КЛЬ (лац. tabernaculum = шацёр) — 1) дэкаратыўна аформленая ніша са статуяй святога ў гатычнай архітэктуры; 2) ніша для падараванняў у алтары каталіцкага храма.

# Т

**ТА́БЕС** (лац. tabes = разлажэнне) — хранічнае захворванне нервовай сістэмы, позняе праяўленне *сіфілісу.*

**ТАБЛЕ́ТКА** (фр. tablette) — невялікі сплюшчаны шарык з прасаванага лекавага парашку.

**ТАБЛІ́ЦА** (польск. tablica, ад лац. tabula) — пералік звестак, лічбавых дадзеных, прыведзеных у пэўную сістэму і размешчаных па графах (напр. т. множання, турнірная т.).

**ТАБЛО́** (фр. tableau = карціна, ад лац. tabula = дошка) — шчыт, на якім пры дапамозе светлавога сігналу перадаецца якая-н. інфармацыя.

**ТАБЛЬДО́Т** (фр. table d'hôte = агульны стол) — абедзенны стол з агульным меню ў гасцініцах, рэстаранах, пансіёнах, курортных сталовых.

**ТАБУ́** (палінез. tabu) — 1) рэлігійная забарона ў першабытных народаў на якое-н. дзеянне, прадмет, за парушэнне якой вінаваты нібыта караецца звышнатуральнымі сіламі; 2) *перан.* наогул, што-н. забароненае; 3) забарона на ўжыванне пэўных слоў, абумоўленая гістарычнымі, сацыяльна-палітычнымі, культурнымі, этычнымі фактарамі.

**ТАБУЛАТУ́РА** (с.-лац. tabulatura, ад лац. tabula = дошка, табліца) — 1) літарная і лічбавая сістэма запісу музыкі ў еўрапейскіх краінах у 14—18 ст.; 2) правілы, якія рэгламентавалі форму і змест музычна-паэтычнага мастацтва *мейстэрзінгераў.*

**ТАБУЛЯГРА́МА** (ад лац. tabula = дошка, табліца + *-грама*) — папяровая стужка з літарным або лічбавым тэкстам, надрукаваным на *табулятары.*

**ТАБУЛЯ́ТАР** (ад лац. tabula = дошка, табліца) — 1) вылічальная машына для аўтаматычнай апрацоўкі інфармацыі; 2) прыстасаванне ў пішучых машынках для друкавання табліц.

**ТАБУЛЯ́ТЫ** (н.-лац. tabulata, ад лац. tabula = дошка, табліца) — падклас вымерлых каралавых паліпаў; жылі ў *кембрыі* — пермі (гл. *палеазой*).

**ТАБУ́Н**[1] (кр.-тат., тур. tabun) — статак коней, а таксама аленяў або некаторых іншых капытных жывёл.

**ТАБУ́Н**[2] (англ. tabun) — атрутнае рэчыва, бясколерная вадкасць, што паражае цэнтральную нервовую сістэму.

**ТАБУРЭ́Т** (фр. tabouret) — род мэблі для сядзення, звычайна квадратнай формы без спінкі.

**ТАВЕ́РНА** (іт. taverna) — невялікі шынок, карчма ў Італіі, Швейцарыі і некаторых іншых краінах.

**ТАГЕ́ТЭС** (н.-лац. tagetes) — травяністая расліна сям. складанакветных з жоўтымі, жоўта-аранжавымі або карычнева-чорнымі кветкамі ў кошыках, з моцным пахам, пашыраная ў субтропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; аксаміткі.

**ТАЙГА́** (рус. тайга, ад якуцк. tajga) — цяжкапраходны хвойны лес на поўначы ўмеранага пояса Азіі, Еўропы і Паўн. Амерыкі.

**ТАЙМ** (англ. time = час) — перыяд гульні ў *футболе, хакеі* і іншых

# Т

спартыўных гульнях з мячом (параўн. *гейм*).

**ТАЙМ-А́ЎТ** (англ. time out = паза часам) — прадугледжаны правіламі перапынак у спартыўнай гульні (напр. у *баскетболе*) па просьбе каманды або яе трэнера.

**ТАЙМЕ́НЬ** (фін. taimen) — рыба сям. ласасёвых, якая водзіцца ў рэках Сібіры, Японскім моры і ў басейне Дуная.

**ТА́ЙМЕР** (англ. timer) — прыбор, які пасля сканчэння зададзенага прамежку часу аўтаматычна ўключае ці выключае машыну, апарат або сігналізуе аб наступленні моманту іх уключэння ці выключэння.

**ТАЙМО́ГРАФ** (англ. timograph, ад time = час + гр. grapho = пішу) — прыбор, які рэгіструе час узнікнення і працягласць працэсаў або з'яў; выкарыстоўваецца для кантролю часу работы машын, працягласці якой-н. аперацыі і інш.

**ТАЙМТА́КТАР** (англ. timetactor) — *кантактар* з рэгулюемай вытрымкай часу ўключэння; выкарыстоўваецца ў схемах пуску электрычных рухавікоў.

**ТАЙМ-ЧА́РТЭР** (англ. time-charter, ад time = час + charter = прывілей, закон) — дагавор аб арэндзе марскога судна на пэўны тэрмін.

**ТА́ЙМ-ШЫТ** (англ. time-sheet, ад time = час + sheet = аркуш, ведамасць) — суднавы дакумент на пагрузачныя аперацыі, які складаюць у замежных портах.

**ТАЙНІЯЛІ́Т** (гр. tainiolite = палоса, стужка) — рэдкі мінерал з групы слюд падкласа слаісных *сілікатаў*, магніевы *лепідаліт*.

**ТАЙПАТРО́Н** (ад англ. type = адбітак, адлюстраванне + *-трон*) — электронна-прамянёвая трубка для адлюстравання інфармацыі і запісвання яе на спецыяльнай паперы.

**ТАЙПІ́НЫ** (кіт. tajpin) — удзельнікі сялянскай антыфеадальнай вайны ў Кітаі 1850—1864 гг. супраць маньчжурскай дынастыі Цін.

**ТАЙФУ́Н** (кіт. taj fung = вялікі вецер) — трапічны цыклон вялікай разбуральнай сілы.

**ТАКАЛО́ГІЯ** (ад гр. tokos = роды + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае роды.

**ТАКА́ТА** (іт. toccata) — віртуозная музычная п'еса для клавішнага інструмента (*аргана, фартэпіяна*), якая выконваецца ў хуткім тэмпе.

**ТАКАФЕРО́ЛЫ** (ад гр. tokos = роды + phero = нясу + *-ол*) — група вітамінаў Е, якія змягчаюцца ў раслінnай ежы, асабліва ў зернях злакаў і алеях, і адсутнасць якіх у арганізме выклікае разлад працэсаў размнажэння.

**ТАКЕЛА́Ж** (гал. takelage) — сукупнасць карабельных снасцей (*тросы, блокі, ланцугі*), што прымяняюцца для пад'ёму і перамяшчэння грузаў, спуску шлюпак, кіравання парусамі і іншых работ.

**ТА́КСА**[1] (с.-лац. taxa, ад лац. taxare = ацэньваць) — афіцыяльна ўстаноўленая расцэнка тавараў або норма аплаты чаго-н. (напр. паштовая т.).

**ТА́КСА**[2] (ням. Dachshund, ад Dachs = барсук + Hund = сабака) — парода невялікіх паляўні-

чых сабак з крывымі кароткімі нагамі і доўгім тулавам.

**ТАКСАВА́ЦЬ** (лац. taxare = ацэньваць) — рабіць *таксацыю*, вылічаць плату за што-н.

**ТАКСАКА́РА** (н.-лац. toxocara) — *гельмінт* класа *нематодаў*, паразітуе ў тонкім кішэчніку сабак, лісоў, пясцоў, кошак.

**ТАКСАКАРО́З** (ад *таксакара*) — глісная хвароба пушных звяроў, сабак, кошак, якая выклікаецца таксакарай.

**ТАКСАМАТО́Р** (ад *такса* + *матор*) — тое, што і *таксі*.

**ТАКСАНО́МІЯ** (ад гр. taksis = парадак, лад + *-номія*) — тэорыя і метады класіфікацыі раслін і жывёл, а таксама распрацоўка правіл класіфікацыі і вылучэнне *таксонаў*.

**ТАКСАПЛА́ЗМА** (ад гр. toksikon = яд + *плазма*) — прасцейшае атрада *какцыдый*; паразітуе ў органах і тканках пазваночных жывёл і чалавека.

**ТАКСАПЛАЗМО́З** (ад *таксаплазма*) — хвароба чалавека і жывёл, узбуджальнікам якой з'яўляюцца таксаплазмы.

**ТАКСАСКАРЫДО́З** (ад гр. toksikon = яд + *аскарыды*) — глісная хвароба драпежных жывёл, якая выклікаецца аскарыдамі.

**ТАКСА́ТАР** (с.-лац. taxator) — 1) той, хто вызначае *таксу*, расцэнкі; 2) спецыяліст, які займаецца ўлікам і матэрыяльнай ацэнкай лясных багаццяў.

**ТАКСАФО́Н** (ад гр. taksis = парадак + *-фон*) — тэлефон-аўтамат, які дзейнічае пасля апускання манеты пэўны час паводле вызначанай *таксы*.

**ТАКСА́ЦЫЯ** (лац. taxatio) — 1) вызначэнне *таксы*, расцэнкі тавараў або нормы аплаты чаго-н.; 2) улік і матэрыяльная ацэнка лясных багаццяў.

**ТАКСЕМІ́Я** (ад гр. toksikos = атрутны + *-емія*) — атручванне арганізма *таксінамі* пры пападанні іх у кроў.

**ТАКСІ́** (фр. taxi) — аўтамабіль для перавозкі пасажыраў і грузаў з аплатай па лічыльніку (напр. маршрутнае т., грузавое т.).

**ТАКСІДЭРМІ́Я**[1] (ад гр. taksis = будова + *дэрма*) — выраб чучал жывёл.

**ТАКСІДЭРМІ́Я**[2] (ад гр. toksikon = яд + *дэрма*) — захворванне скуры, выкліканае пранікненнем у арганізм розных рэчываў пры індывідуальнай іх непераноснасці (напр. медыкаментаў, харчовых прадуктаў).

**ТАКСІКАІНФЕ́КЦЫІ** (ад гр. toksikon = яд + *інфекцыя*) — вострыя хваробы, якія ўзнікаюць ад спажывання харчовых прадуктаў, інфіцыраваных умоўна-патагеннымі мікраарганізмамі або прадуктамі іх жыццядзейнасці — *таксінамі*.

**ТАКСІКАЛО́ГІЯ** (ад гр. toksikon = яд + *-логія*) — навука, якая вывучае ўласцівасці ядаў і іх дзеянне на арганізм.

**ТАКСІКАМА́НІЯ** (ад гр. toksikon = яд + *манія*) — тое, што і *наркаманія*.

**ТАКСІКО́З** (гр. toksikos = атрутны) — нездаровы стан арганізма, які ўзнікае ў выніку дзеяння на яго

# Т

ядаў і ядавітых рэчываў (*таксінаў*).

**ТАКСІКО́ЛАГ** (ад *таксікалогія*) — спецыяліст у галіне таксікалогіі.

**ТАКСІ́НЫ** (ад гр. toksikon = яд) — ядавітыя рэчывы раслiннага і жывёльнага паходжання (ёсць у ядах змей, павукоў, скарпіёнаў); прымяняюцца для вырабу антыбіётыкаў.

**ТА́КСІСЫ** (гр. taksis = парадак, лад) — рухальныя рэакцыі здольных вольна перамяшчацца ніжэйшых раслін і арганізмаў, а таксама асобных клетак (*лейкацытаў, сперматазоідаў*) і частак клетак (ядра, *пластыдаў*).

**ТАКСІ́ЧНЫ** (гр. toksikos = атрутны) — 1) ядавіты, атручвальны (напр. т-ае рэчыва); 2) які выклікаецца дзеяннем *таксінаў* (напр. т. грып).

**ТАКСО́БНАСЦЬ** (ад гр. toksikon = яд) — здольнасць арганізмаў існаваць у водах, якія змяшчаюць таксічныя рэчывы мінеральнага або арганічнага паходжання.

**ТАКСО́ДЫЙ** (н.-лац. taxodium, ад гр. taksos = цiс + eidos = выгляд) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. таксодыевых, пашыранае ў Паўн. Амерыцы; балотны кіпарыс.

**ТАКСО́МЕТР** (ад с.-лац. taxa = расцэнка + *-метр*) — лічыльнік *таксі*, які паказвае плату за праезд.

**ТАКСО́НЫ** (ад гр. taksis = парадак, лад) — класіфікацыйныя адзінкі ў сістэматыцы раслінных і жывёльных арганізмаў (від, род, сям'я, або парадак, клас і тып, або аддзел).

**ТАКТ** (фр. tact, ад лац. tactus = дотык, адчуванне) — 1) кожная з роўных па працягласці доляў, на якія дзеліцца музычны твор па ліку метрычных націскаў у ім; 2) рытм якога-н. руху, дзеяння, напр. удараў; 3) пачуццё меры, уменне весці сябе належным чынам (напр. педагагічны т.).

**ТАКТО́МЕТР** (ад лац. tactus = дакрананне, дотык + *-метр*) — прыбор для даследавання рэакцыі на дотык.

**ТА́КТЫК** (гр. taktikos = здольны парадкаваць) — 1) спецыяліст па *тактыцы*, знаўца тактыкі; 2) *перан.* чалавек, які ўмее весці справу з карысцю для сябе.

**ТА́КТЫКА** [гр. taktike (techne) = уменне строіць войска] — 1) тэорыя і практыка падрыхтоўкі і вядзення бою; 2) *перан.* сукупнасць прыёмаў грамадскай, палітычнай барацьбы; 3) *перан.* лінія паводзін.

**ТАКТЫ́ЛЬНЫ** (лац. tactilis) — датыкальны; т - а е  а д ч у в а н н е — адчуванне дотыку.

**ТАКТЫ́ЧНЫ** (гр. taktikos) — 1) звязаны з ажыццяўленнем ваенных задач; т - а я  а д з і н к а — падраздзяленне, здольнае самастойна выконваць баявое заданне; 2) абумоўлены выбарам прыёмаў грамадскай і палітычнай барацьбы.

**ТАКЫ́Р** (цюрк. takyr = роўны, голы) — роўная глiністая прастора ў пустынях і паўпустынях Сярэд. Азіі і Казахстана.

**ТАЛА́МУС** (лац. thalamus, ад гр. thalamos = пакой) — асноўная час-

тка прамежкавага мозгу паміж сярэднім мозгам і карой вялікіх паўшар'яў, дзе збіраюцца імпульсы ад усіх органаў пачуццяў і ажыццяўляецца іх першасны аналіз і сінтэз.

**ТАЛА́НТ** (гр. talanton = вага, вагі) — самая вялікая адзінка вагі і грашовая адзінка ў Стараж. Грэцыі, Егіпце, Вавілоне, Персіі.

**ТАЛАСАКРАТО́Н** (ад гр. thalassa = мора + kratos = сіла) — малару́хомая *асейсмічная* вобласць ложа акіяна.

**ТАЛАСАКРАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. thalassa = мора + krateo = валодаю, захопліваю) — які садзейнічае значнаму расшырэнню плошчы мора; т - ы я перыяды — перыяды ў геалагічнай гісторыі Зямлі, калі значная частка мацерыкоў была пакрыта морам (проціл. *геакратычны*).

**ТАЛАСАТЭРАПІ́Я** (ад гр. thalassa = мора + *тэрапія*) — комплекснае лячэнне марскім кліматам і марскімі купаннямі.

**ТАЛАСАФІ́Т** (ад гр. thalassa = мора + *-фіты*) — самы старажытны этап эвалюцыі раслыннага покрыва Зямлі, які характарызаваўся панаваннем водарасцей.

**ТАЛАСЕМІ́Я** (ад гр. thalassa = мора + *-емія*) — спадчыннае малакроўе (*анемія*), абумоўленае парушэннямі ў сінтэзе *гемаглабіну*, упершыню выяўленае ў жыхароў Міжземнамор'я.

**ТАЛАСІЯЗІ́РА** (н.-лац. thalassiosira) — аднаклетачная або каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. таласіязіравых, якая пашырана пераважна ў *планктоне* мораў і саланаватых вадаёмаў, радзей у прэсных водах.

**ТАЛАСО́ІДЫ** (ад гр. thalassa = мора + *-оід*) — круглыя ўпадзіны, якія ляжаць у так званым поясе далін на Месяцы.

**ТАЛАФІ́ТЫ** (ад гр. thallos = зялёная галінка + *-фіты*) — ніжэйшыя расліны, якія не расчленены на сцябло, корань, лісты (грыбы, водарасці, лішайнікі, бактэрыі); параўн. *кармафіты*.

**ТА́ЛЕНТ** (лац. talentum, ад гр. talanton = вага, вагі) — 1) надзвычайныя прыродныя здольнасці; 2) асоба, надзеленая надзвычайнымі здольнасцямі.

**ТА́ЛЕР**[1] (ням. Taler) — старажытная сярэбраная манета, якая ў 1518 г. пачала чаканіцца ў Чэхіі, а пазней распаўсюдзілася ў Германіі, Скандынавіі, Галандыі, Італіі і іншых еўрапейскіх краінах; на тэрыторыі Беларусі т. абарачаўся з 16 ст.

**ТА́ЛЕР**[2] (ням. Teller = талерка) — *паліг.* металічная пліта ў друкарскай машыне, на якую ўстанаўліваюць друкарскую форму.

**ТАЛЕРА́НТНАСЦЬ** (ад лац. tolerantia = цярпенне) — 1) цярпімасць да чужых думак і вераванняў; 2) стан арганізма, пры якім страчваецца здольнасць выпрацоўваць антыцелы ў адказ на ўвядзенне пэўнага *антыгену* (параўн. *сенсібілізацыя* 1).

**ТАЛЕРА́НТНЫ** (лац. tolerans, -ntis = які церпіць) — цярпімы.

**ТА́ЛІ** (гал. talie) — сістэма блокаў для падымання грузаў на судне.

**ТА́ЛІЙ** (н.-лац. thallium, ад гр. thallos = парастак) — хімічны элемент, мяккі і лёгкаплаўкі метал блакітна-шэрага колеру.

# Т

**ТАЛІПО́ТРЫКС** (н.-лац. tolypothrix) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. сцытанемавых, якая пашырана ў прэсных водах, на мокрых скалах, вышэйшых раслінах, ракавінах малюскаў, у глебе.

**ТАЛІСМА́Н** (фр. talisman, ад ар. tilsamân) — прадмет, які, на думку забабонных людзей, аберагае яго ўладальніка ад няшчасця (параўн. таксама *амулет*).

**ТА́ЛІЯ** (іт. taglia) — найбольш вузкая частка тулава паміж грудзьмі і клубамі.

**ТАЛМУ́Д** (ст.-яўр. talmūd = навука) — збор рэлігійных, бытавых, прававых прадпісанняў *іудаізму*, заснаваны на схаластычным тлумачэнні кніг Старога запавету.

**ТАЛМУДЫ́ЗМ** (ад *талмуд*) — 1) іўдзейская *казуістыка*, якая выводзіць розныя палажэнні з вершаў Пяцікніжжа; схаластычныя развагі; 2) веды, набытыя шляхам начотніцтва, механічнага засваення прачытанага.

**ТАЛМУДЫ́СТ** (ад *талмудызм*) — 1) паслядоўнік і тлумачальнік талмуду; 2) *перан.* начотчык, схаласт.

**ТАЛО́М** (ад гр. thallos = зялёная галінка) — цела ніжэйшых раслін (водарасцяў, грыбоў, лішайнікаў, некаторых імхоў), не расчляненае на сцябло і лісты.

**ТАЛО́Н** (фр. talon, ад лац. talus = пята) — 1) кантрольны лісток, які дае права атрымаць што-н., карыстацца чым-н.; 2) частка дакумента, якая аддзяляецца ад яго.

**ТАЛРЭ́П** (гал. taliereep) — прыстасаванне для нацягвання снасцей *такелажа*.

**ТАЛУО́Л** (ад ісп. Tolu = назва горада ў Калумбіі + *-ол*) — арганічнае злучэнне, вуглевадарод *араматычнага* рада, бясколерная вадкасць са своеасаблівым пахам, якая выкарыстоўваецца для атрымання фарбавальнікаў, выбуховых рэчываў, лекавых прэпаратаў і інш.

**ТА́ЛЬВЕГ** (ням. Talweg, ад Tal = даліна + Weg = дарога) — лінія, якая злучае найбольш нізкія ўчасткі дна рачной даліны, яра, рова.

**ТАЛЬЁН** (лац. talio, -onis = помста) — прынцып у крымінальным праве рабаўладальніцкіх і раннефеадальных дзяржаў, паводле якога асобе, што ўчыніла злачынства, прысуджалі такую самую шкоду («вока за вока, зуб за зуб»).

**ТАЛЬК** (ням. Talk < с.-лац. talcus, ад ар. talk) — мінерал класа *сілікатаў* белага або блакітнага колеру, які выкарыстоўваецца ў электратэхніцы, парфумерыі, гумавай і папяровай прамысловасці, медыцыне.

**ТА́ЛЬМА** [фр. F.Talma = прозвішча фр. акцёра (1763—1826)] — у Францыі ў 19 ст. кароткі мужчынскі плашч, у Расіі — жаночая доўгая накідка без рукавоў.

**ТА́ЛЬЯ** (фр. taille) — пастаянны прамы падатак у Францыі 15—18 ст., якім абкладваліся пераважна сяляне.

**ТАМАГА́ЎК** (англ. tomahawk, ад індз. tāmāhākan) — ударная кідальная зброя паўночнаамерыканскіх

індзейцаў у выглядзе сякеркі або дубінкі.

**ТАМАГРА́ФІЯ** (ад гр. tomos = частка, слой + *-графія*) — метад *рэнтгенаграфіі*, заснаваны на атрыманні ценявога адлюстравання асобных пластоў даследуемага аб'екта пры дапамозе *тамографа*.

**ТАМАДА́** (груз. tamadoba = старшынства на банкеце) — асоба, якая вядзе *банкет*.

**ТАМАРЫ́КС, ТАМАРЫ́СК** (лац. tamarix) — дрэвавая або кустовая расліна сям. тамарыксавых з дробнымі бледна-ружовымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў пустынях і стэпах Еўразіі і Афрыкі.

**ТАМАРЫ́НД** (ням. Tamarinde, ад ар. tamr hindi = індыйскі фінік) — вечназялёнае дрэва сям. бабовых, пашыранае ў тропіках, плады якога выкарыстоўваюцца ў медыцыне і кандытарскай прамысловасці.

**ТАМАСШЛА́К** [ад англ. S.Thomas = прозвішча англ. металурга (1850—1885) + *шлак*] — шлак, які ўтвараецца пры спецыяльнай перапрацоўцы чыгуну ў сталь; выкарыстоўваецца як багатае на фосфар угнаенне.

**ТАМА́Т** (фр. tomate, ад індз. tomatl) — 1) тое, што і *памідор*; 2) паста, соус з памідораў.

**ТАМБО́** (фр. tombeau = магіла) — інструментальная музычная п'еса ўрачыста-журботнага патэтычнага характару.

**ТА́МБУР** (фр. tambour < ар. tāmbūr, ад перс. täbīr = барабан) — 1) закрытая пляцоўка чыгуначнага пасажырскага вагона; 2) частка памяшкання паміж знадворнымі і ўнутранымі дзвярамі для засцеражэння ад ветру, холаду; 3) род вязання або вышывання вочка ў вочка.

**ТАМБУ́Р, ТАНБУ́Р** (ар. tāmbūr, ад перс. täbīr = барабан) — усходні струнны шчыпковы музычны інструмент тыпу *лютні* з корпусам грушападобнай формы і трыма струнамі.

**ТАМБУРМАЖО́Р** (фр. tambour-major) — галоўны палкавы барабаншчык у французскай арміі 17—19 ст. і рускай арміі 19 ст.; 2) дырыжор, які задае рытм ваеннаму аркестру на маршы; 3) жазло, якім дырыжор задае рытм духавому аркестру на маршы.

**ТАМБУРЫ́Н** (фр. tambourin, іт. tamburino) — 1) ударны народны музычны інструмент, пашыраны на поўдні Еўропы; разнавіднасць барабана; 2) даўні французскі народны танец; 3) музычны твор, які мае характар гэтага танца.

**ТАМГА́** (цюрк. tamga) — 1) кляймо на чым-н. як знак уласнасці ў старажытных цюркскіх народаў; 2) гандлёвая пошліна ў Стараж. Русі, якую бралі пры накладанні спецыяльнага кляйма на тавар.

**ТАМЕТГІ́ПНУМ** (н.-лац. tomethypnum) — лістасцяблөвы мох сям. брахітэцыевых, які трапляецца на балотах і забалочаных лугах.

**ТАМІ́ЗМ** (ад лац. Thomos = Фама) — філасофскае і багаслоўскае вучэнне сярэдневяковага філосафа-схаласта Ф.Аквінскага, паводле якога розум павінен падпарадкоўвацца веры, а філасофія служыць багаслоўю.

**ТАМІЛЯ́РЫ** (ад ісп. tomillo = тым'ян) — зараснікі вечназялёных нізкарослых пахучых кустоў, паў-

# Т

кустоў сям. ясноткавых (*тым'яну, лаванды, размарыну*) у заходняй частцы Міжземнамор'я.

**-ТАМІЯ, -ТОМІЯ** (гр. tome = адразанне, адсяканне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «рассячэнне».

**ТАМНІ́ДЫЙ** (н.-лац. thamnidium) — ніжэйшы грыб сям. тамнідыевых, які развіваецца ў глебе, на гнілых раслінных рэштках і экскрэментах траваедных жывёл.

**ТАМО́ГРАФ** (ад гр. tomos = частка, слой + *-граф*) — рэнтгенаўскі апарат для атрымання паслойных здымкаў унутраных органаў.

**ТАМПА́К** (ням. Tompak, ад малайск. tambaga = медзь) — сплаў медзі і цынку, які мае залацісты колер і выкарыстоўваецца для вырабу танных упрыгожанняў.

**ТАМПАНА́ДА** (ням. Tamponade, ад фр. tampon = тампон) — увядзенне ў рану або поласць цела *тампонаў* для спынення крывацёку або выдалення гною.

**ТАМПАНА́Ж** (фр. tamponnage, ад tampon = тампон) — запаўненне цэментам трэшчын у горных пародах, каб прадухіліць прасочванне вады з іх у буравыя свідравіны.

**ТАМПЛІЕ́Р** (фр. templier, ад лац. templum = храм) — член сярэдневяковага каталіцкага духоўна-рыцарскага *ордэна*.

**ТАМПО́Н** (фр. tampon) — кавалачак стэрыльнага бінта, які ўводзіцца ў рану для спынення крывацёку або выдалення гною.

**ТАМТА́М** (фр. tam-tam, ад малайск. tam-tam) — 1) ударны музычны інструмент у выглядзе металічнага дыска, разнавіднасць *гонга*; 2) барабан з драўлянымі шчыткамі замест скуры, пашыраны ў Афрыцы.

**ТАНА́ГРА**[1] (тупі-гуарані tangara) — пеўчая птушка атрада вераб'інападобных з чырвоным апярэннем, якая жыве ў лясах Амерыкі.

**ТАНА́ГРА**[2] (гр. Tanagra = назва горада ў Стараж. Грэцыі) — адна са старажытнагрэчаскіх тэракотавых статуэтак, знойдзеных пры раскопках *некропаля* горада Танагры і іншых антычных гарадоў.

**ТАНАГРА́ФІЯ** (ад гр. tonos = напружанне + *-графія*) — спосаб вымярэння ў дынаміцы і графічным запісе велічыні ўнутрывочнага ціску пры дапамозе электроннага *танографа*.

**ТАНА́ДА** (ісп. tonada = песня, напеў) — агульная назва народных песень у Іспаніі і краінах Лац. Амерыкі.

**ТАНАДЫ́ЛЬЯ** (ісп. tonadilla = *літар.* песенька) — іспанская музычная *камедыя* 18 — пач. 19 ст.

**ТАНА́Ж** (фр. tonnage) — 1) водазмяшчэнне судна або грузапад'ёмнасць транспарту ў *тонах*; 2) вага якой-н. прадукцыі, выражаная ў тонах.

**ТАНАІДА́ЦЭІ** (н.-лац. tanaidacea)— атрад вышэйшых ракаў, якія ў сусветнай *фауне* налічвае звыш 500 відаў; пашыраны пераважна ў морах.

**ТАНАКА́РД** (ад гр. tonos = напружанне + kardia = сэрца) — тое, што і *кардыямін*.

**ТАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *танальны*) — 1) дакладнае размяшчэнне

гукаў ладу па вышыні ў музычнай сістэме; 2) асноўны, пераважаючы колер, тон, які аб'ядноўвае асобныя колеры ў карціне; 3) *перан.* асноўная эмацыянальная настроенасць літаратурнага твора.

**ТАНА́ЛЬНЫ** (с.-лац. tonalis) — 1) які мае адносіны да *тону*, гукавы або колеравы; 2) які вызначаецца *гамай*, што ляжыць у аснове мелодыі, музычнага твора.

**ТАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. tonos = напружанне + *-метрыя*) — вымярэнне артэрыяльнага ціску пры дапамозе *танометра*.

**ТАНАПЛА́СТ** (ад гр. tonos = напружанне + *-пласт*) — мембрана, якая абмяжоўвае вакуоль раслінай клеткі.

**ТАНА́РМ** (ням. Tonarm, ад Ton = гук + Arm = рука) — прыстасаванне для замацавання *адаптара* (гуказдымальніка) у прайгравальніку грамафонных пласцінак.

**ТАНАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. thanatos = смерць + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае працэсы, што адбываюцца ў арганізме ў перадсмяротныя моманты і пасля смерці.

**ТАНАТАФО́БІЯ** (ад гр. thanatos = смерць + *-фобія*) — псіхічны разлад, які заключаецца ў тым, што чалавек паталагічна баіцца смерці.

**ТАНАТАЦЭНО́З** (ад гр. thanatos = смерць + *цэноз*) — скапленне мёртвых жывёл і раслін або іх рэшткаў, узнікненню якога садзейнічала, напр. стыхійнае бедства (паводка, лясны пажар, смерч і інш.).

**ТАНА́ТУС** (н.-лац. thanatus) — павук сям. бакаходаў светла-карычневай афарбоўкі, з ружавата-жоўтым брушкам, які жыве на глебе і ў траве.

**ТАНБУ́Р** гл. *тамбур*.

**ТА́НГА** (ісп. tango) — парны бальны танец з энергічным рытмам, а таксама музыка да гэтага танца.

**ТАНГА́Ж** (фр. tangage) — нахіл лятальнага апарата (самалёта, ракеты) або судна адносна яго галоўнай папярочнай восі ў палёце, плаванні; падоўжны крэн.

**ТА́НГЕНС** (лац. tangens = які датыкаецца) — *мат. функцыя* вугла, якая раўняецца адносіне *катэта*, што ляжыць супраць дадзенага вугла, да другога катэта ў прамавугольным трохвугольніку.

**ТА́НГЕНС-БУСО́ЛЬ** (ад *тангенс* + *бусоль*) — *гальванометр*, у якім велічыню току вызначаюць па адхіленнях магнітнай стрэлкі, што змяшчаецца ў цэнтры кругавога правадніка, дзе працякае вымяраемы ток.

**ТАНГЕНСО́ІДА** (ад *тангенс* + *-оід*) — *мат.* крывая лінія, якая графічна паказвае змяненне тангенса ў залежнасці ад змянення вугла.

**ТАНГЕНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. tangens, -ntis = які датыкаецца) — *мат.* накіраваны па датычнай да дадзенай крывой лініі; т-ае паскарэнне — адна з складаючых паскарэння, накіраваная па датычнай да траекторыі цела, што рухаецца з паскарэннем.

**ТАНГІ́Р** (ням. Tangier) — *паліграф.* жэлацінавая плёнка з рэльефным

малюнкам для атрымання тонавых участкаў у літаграфскай і цынкаграфскай рэпрадукцыі.

**ТАНДЭ́М** (англ. tandem) — 1) двухмесны веласіпед, у якім сёдлы размешчаны адно за другім; 2) размяшчэнне аднародных машын, або іх частак у агрэгаце на адной восі, лініі.

**ТАНДЭ́Т** (ад ням. Tand = бліскоткі) — дрэнная танная рэч, нізкаякасны выраб.

**ТАНЕ́МА** (ад *тон*) — *лінгв.* націск як сэнсаадрознівальная адзінка.

**ТА́НЕЦ** (польск. taniec < чэш. tanec, ад ням. Tanz) — 1) від мастацтва, у якім асноўнымі сродкамі стварэння вобразаў з'яўляюцца пластычныя рухі і рытмічныя змены пастаў цела чалавека; 2) сукупнасць рытмічных і пластычных рухаў, якія выконваюцца ў такт музыкі, а таксама музыка да гэтых рухаў; 3) *мн.* забавы, у час якіх удзельнікі робяць такія рухі, танцуюць.

**ТАНЗІЛІ́Т** (ад лац. tonsilla = міндалепадобная залоза) — запаленне паднябенных міндалін.

**ТАНЗІМА́Т** (тур. tanzimat) — рэформы ў Асманскай імперыі ў 19 ст., якія садзейнічалі паскарэнню разлажэння феадальнага ладу ў Турцыі і зараджэнню капіталістычных адносін.

**ТАНЗУ́РА** (лац. tonsura = стрыжка) — выгаленае месца на макаўцы галавы духоўных каталіцкіх асоб.

**ТАНІ́ДЫ** (ад *танін*) — дубільныя рэчывы, якія атрымліваюць з дубільных раслін (дуба, каштана, яліны, бярозы і інш.).

**ТАНІ́Н** (фр. tanin) — арганічнае рэчыва белага або жаўтаватага колеру, якое выкарыстоўваецца ў дубільнай прамысловасці і медыцыне.

**ТАНІ́ЧНЫ**[1] (гр. tonikos = напяты, галасавы) — заснаваны на захаванні пэўнай колькасці націскаў у радку пры адвольнай колькасці ненаціскных складоў (напр. т-ая сістэма вершаскладання).

**ТАНІ́ЧНЫ**[2] (ад *тонус*) — які мае адносіны да тонусу арганізма, асобных яго органаў.

**-ТАНІЯ** (ад гр. tonos = напружанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае напружанне, ціск.

**ТАНК** (англ. tank) — 1) баявая гусенічная бранявая машына; 2) спецыяльна абсталяваны бак, цыстэрна для захоўвання і транспарціроўкі вадкасцей.

**ТА́НКА** (яп. tanka = кароткая песня) — жанр японскай паэзіі, нерыфмаванае пяцірадкоўе, якое налічвае 31 склад і вызначаецца прыгажосцю і лаканічнасцю.

**ТАНКАДРО́М** (ад *танк* + *-дром*) — спецыяльна абсталяваная тэрыторыя для выпрабавання танкаў і для абучэння танкавых войск.

**ТА́НКЕР** (англ. tanker, ад tank = цыстэрна) — наліўное судна для перавозкі вадкіх грузаў (нафты, кіслот і інш.).

**ТАНКЕ́ТКА** (англ. tankette) — невялікі быстраходны танк, узброены адным або некалькімі кулямётамі.

**ТАНО́ГРАФ** (ад гр. tonos = напружанне + *-граф*) — прыбор для вымярэння і графічнага запісу велічыні ўнутрывочнага ціску.

**ТАНО́МЕТР** (ад гр. tonos = напружанне + *-метр*) — прыбор для вымярэння крывянога ціску, ціску ўнутры вачэй і танічнага напружання мышцаў (параўн. *сфігмаманометр*); 2) прыбор для параўнання частаты ваганняў двух *камертонаў*.

**ТАНТА́Л** (н.-лац. tantalum, ад гр. Tantalos = імя міфічнага старажытнагрэчаскага цара, які быў асуджаны багамі на вечныя мукі за тое, што ўкраў у іх *амброзію* і *нектар*) — хімічны элемент, цвёрды тугаплаўкі метал шэра-стальнога колеру.

**ТАНТАЛІ́Т** (ад *тантал* + *-літ*) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага, буравата-чорнага колеру; руда танталу.

**ТАНЦАВА́ЦЬ** (польск. tańcować, ад с.-в.-ням. tanzen) — 1) выконваць які-н. *танец*, прымаць удзел у танцы; 2) выконваць якую-н. партыю ў балеце; 3) *перан.* не стаяць на месцы, пераступаць з нагі на нагу (пра коней).

**ТАНЦКЛА́С** (ням. Tanzklasse) — школа танцаў, урок танцаў.

**ТАНЦМА́ЙСТАР** (ням. Tanzmeister) — 1) пастаноўшчык танцаў у тэатры або танцавальнай групе; 2) *уст.* настаўнік танцаў.

**ТАНЦЬЕ́МА** (фр. tantième) — дадатковая плата членам праўленняў акцыянерных таварыстваў, страхавых кампаній, банкаў і іншых прадпрыемстваў, якая налічаецца з чыстага прыбытку.

**ТАПАГРА́ФІЯ** (гр. topographia, ад topos = месца + grapho = пішу) — 1) раздзел *геадэзіі*, які займаецца вымярэннем паверхні зямлі і перадачай яе на планах і картах; 2) паверхня якой-н. мясцовасці і ўзаемнае размяшчэнне асобных яе частак, пунктаў.

**ТАПА́З** (фр. topaze, ад гр. topazos) — мінерал класа *сілікатаў*, асобныя бліскучыя рознакаляровыя крышталі якога выкарыстоўваюцца як каштоўныя камяні.

**ТАПАЛО́ГІЯ** (ад гр. topos = месца + *-логія*) — раздзел *матэматыкі*, які вывучае якасныя ўласцівасці геаметрычных фігур, што не залежаць ад іх памераў і прамалінейнасці.

**ТАПАНІ́МІКА** (ад гр. topos = месца + onyma = імя) — раздзел *анамастыкі*, які вывучае геаграфічныя назвы (назвы населеных пунктаў, рэк, азёр, гор, нізін і г.д.).

**ТАПАНІ́МІЯ** (ад гр. topos = месца + onyma = імя) — сукупнасць геаграфічных назваў (назваў населеных пунктаў, рэк, азёр, гор, нізін і г.д.) якой-н. мясцовасці.

**ТАПАСКО́П** (ад гр. topos = месца + *-скоп*) — прыбор для прасторавага даследавання біялагічных патэнцыялаў мозгу.

**ТАПЕ́ЗІЯ** (н.-лац. tapesia) — сумчаты грыб сям. дэрматэцыевых, які развіваецца на гнілых пнях, ствалах, галінках дрэў.

**ТАПЕНА́НТ** (гал. toppenant) — *мар.* снасць для падтрымлівання і паднімання гарызантальных і нахіленых рангоутных дрэў (*рэй, гікаў, гафеляў*, стрэл і інш.).

# Т

**ТАПЕ́ТУМ** (н.-лац. tapetum, ад гр. tapes = дыван, пакрывала) — унутраны, высцілальны слой клетак у *спарангіях* і пыльніках.

**ТАПЁР** (фр. tapeur, ад taper = стукаць) — музыкант, які іграў за грошы на танцавальных вечарах, а таксама піяніст, які суправаджаў сваёй ігрой дэманстрацыю нямых кінафільмаў.

**ТАПІЁКА** (парт. tapioca, ад тупігуарані tipioka) — 1) крухмалістае рэчыва, якое здабываецца з клубняў расліны *маніёку*, 2) мука або крупы з гэтага рэчыва.

**ТАПІНАМБУ́Р** (фр. topinambour, ад парт. topinambo) — травяністая расліна сям. складанакветных з зубчастым лісцем, жоўтымі суквеццямі і прыдатнымі для яды клубнямі, якая паходзіць з Паўн. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як кармавая; земляная груша.

**ТАПІ́Р** (тупі-гуарані tapira) — буйная няпарнакапытная млекакормячая жывёла трапічных лясоў Паўд.-Усх. Азіі, Цэнтр. і Паўд. Амерыкі з выцягнутымі ў невялікі хобат верхняй губой і носам.

**ТАПІ́ЧНЫ** (ад гр. topos = месца) — *мед.* мясцовы; т - а я  д ы я г н о с т ы к а — вызначэнне месцазнаходжання ачага хваробы.

**ТАПО́ГРАФ** (ад *тапаграфія*) — спецыяліст у галіне тапаграфіі 1.

**ТАПО́НІМ** (ад *тапанімія*) — *лінгв.* уласная назва якога-н. геаграфічнага аб'екта (населенага пункта, ракі, возера і інш.).

**ТАПЧА́Н** (цюрк. tapčan) — 1) нізкі ложак з дошак на козлах; 2) пакаёвая шырокая лаўка, звычайна са спінкай.

**ТА́РА** (іт. tara, ад ар. tarha = вылічэнне) — 1) матэрыял для ўпакоўкі і транспартавання прамысловых тавараў і сельскагаспадарчых прадуктаў (бочкі, мяшкі, скрынкі і інш.); 2) вага ўпакоўкі тавару, а таксама сродкаў перавозкі (напр. таварнага вагона).

**ТА́РАГАТА** (венг. tárogató) — 1) венгерскі духавы музычны інструмент тыпу *габоя* з падвойнай трысцінкай (прыстасаваннем для гуказдабывання), родпасны *зурне*; 2) венгерскі духавы музычны інструмент тыпу сучаснага *кларнета*, але з канічным каналам ствала; выйшаў з ужытку.

**ТАРАКАКА́ЎСТЫКА** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі + *каўстыка*) — аперацыя перапальвання зрашчэнняў паміж лёгкімі і грудной сценкай у хворых на туберкулёз.

**ТАРАКА́ЛЬНЫ** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі) — *мед.* які адносіцца да грудной поласці, грудны (напр. т-ыя адтуліны).

**ТАРАКА́Н** (тат. tarakan) — насякомае чорнай або рыжай афарбоўкі з доўгімі вусамі, некаторыя віды якога водзяцца ў жыллі чалавека.

**ТАРАКАПЛА́СТЫКА** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі + *пластыка*) — аперацыя выразання некалькіх рабрын з мэтай змены аб'ёму грудной клеткі.

**ТАРАКАСКАПІ́Я** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі + *-скапія*) — даследаванне плеўральнай поласці пры дапамозе *таракаскопа*.

**ТАРАКАСКО́П** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі + *-скоп*) — *мед.* інструмент з аптычнай і асвятляль-

най сістэмамі для даследавання плеўральнай поласці.

**ТАРАКАТАМІ́Я** (ад гр. thoraks, -akos = грудзі + *-тамія*) — хірургічная аперацыя, ускрыццё плеўральнай поласці праз грудную сценку.

**ТАРА́Н** (польск. taran, ад іт. taranto) — 1) прылада ў выглядзе бервяна з металічным наканечнікам, якой у старажытнасці разбівалі крапасныя сцены; 2) прамы ўдар, які робіць прабоіну; 3) від атакі, нанясенне ўдару носам карабля, вінтом самалёта, пярэдняй часткай танка па варожай машыне ў час бою.

**ТАРА́НТУЛ** (іт. tarantola) — ядавіты павук сям. *лікозідаў*, пашыраны ў лесастэпавай і стэпавай зонах Еўразіі.

**ТАРАНТЭ́ЛА** (іт. tarantella, ад Taranto = назва горада) — італьянскі народны танец, які выконваецца ў хуткім тэмпе, а таксама музыка да гэтага танца.

**ТАРА́Ф** (рум. taraf) — румынскі і малдаўскі народны аркестр, які складаецца звычайна са скрыпкі, кобзы, цымбалаў, ная і бубна.

**ТАРБАГА́Н** (манг. tarbagan) — грызун роду суркоў, які пашыраны пераважна ў Цэнтр. Азіі; мангольскі сурок.

**ТАРБАЗА́ЎР** (ад гр. tarbos = прадмет страху + *-заўр*) — гіганцкі драпежны *дыназаўр* мелавога перыяду (гл. *мезазой*) з групы *карназаўраў*.

**ТАРБА́Н** (ад іт. tiorba) — украінскі і польскі струнны шчыпковы музычны інструмент, разнавіднасць *тэорбы*.

**ТАРБА́СЫ** (якуцк. eterbes = абутак) — мяккія боты з аленевых шкур поўсцю наверх.

**ТАРБЕРНІ́Т** [ад шв. Torbern Olaf Bergman = прозвішча шв. хіміка (памёр у 1784 г.)] — мінерал групы уранавых слюдак ізумрудна-зялёнага колеру; руда урану.

**ТАРДЗЬЁН** (фр. tordion) — даўнейшы французскі бальны танец.

**ТАРКРЭ́Т** [лац. (tec)tor(ium) (con)-cretum = ушчыльнены тынк] — машына, якая падае пад ціскам бетонную сумесь на паверхню ў час *таркрэтавання.*

**ТАРКРЭТАВА́ННЕ** (ад *таркрэт*) — спосаб бетанавання ці тынкавання накідваннем на паверхню будаўнічых канструкцый растворнай ці дробназярністай бетоннай сумесі праз таркрэт.

**ТАРКРЭТБЕТО́Н** (ад *таркрэт* + *бетон*) — бетон, які атрымліваецца пры *таркрэтаванні* бетоннай сумесі на паверхню будаўнічых канструкцый.

**ТАРЛАТА́Н** (фр. tarlatane) — празрыстая бавоўняная тканіна, падобная на кісяю.

**ТАРНА́ДА** (ісп. tornado, ад tornar = паварочвацца) — назва смерчаў (*тромбаў*[2]) у ЗША.

**ТАРПА́, ТОРП** (літ. tarpas) — вялікая сціртa снапоў або саломы.

**ТАРПА́Н** (цюрк. tarpan) — дзікі конь, які вадзіўся ў Еўропе і быў вынішчаны ў канцы 19 ст.

**ТАРПЕ́ДА** (ісп. torpedo, ад лац. torpedo = электрычны скат) — падводны цыгарападобны снарад, які сам рухаецца ў вадзе і выкарыстоўваецца для паражэння караб-

лёў, разбурэння прычалаў, докаў і іншых аб'ектаў.

**ТАРПІ́ДНЫ** (лац. torpidus) — *мед.* здранцвелы, неадчувальны, вялы, які не рэагуе (напр. т-ае працяканне хваробы).

**ТАРСІЁГРАФ** (ад лац. torsio = вярчу + *-граф*) — прыбор для запісу вярчальных ваганняў валоў машын.

**ТАРСІЁМЕТР** (ад лац. torsio = вярчу + *-метр*) — прыбор, пры дапамозе якога вызначаюць вярчальныя моманты валоў машын.

**ТАРСІЁН** (фр. torsion, ад лац. torsio = вярчу) — вал з паніжанай хуткасцю вярчэння, які выкарыстоўваецца для гашэння вярчальных ваганняў.

**ТАРСІ́ЙНЫ** (ад лац. torsere = вярцець) — звязаны з вярчэннем; т - а я п а д в е с к а — падвеска транспартнай машыны, у якой ролю *рысоры* выконвае скручаны стальны стрыжань.

**ТАРТА́Н** (англ. tartan) — сінтэтычны матэрыял, якім пакрываюць бегавыя дарожкі, спартыўныя пляцоўкі.

**ТАРТА́Р** (гр. Tartaros) — падземнае царства мёртвых, пекла ў старажытнагрэчаскай міфалогіі.

**ТАРТАРЫ́ДЫ** (н.-лац. tartarides) — атрад *арахнідаў*, членістаногія жывёлы з падоўжаным целам даўжынёй 2—7 мм і верацёнападобным брушкам, пашыраныя ў тропіках; жывуць у глебе, пад камянямі.

**ТАРТУ́ЛА** (н.-лац. tortula) — лістасцябловы мох сям. потыевых, які расце на добра асветленых, праграваемых субстратах (вапняках, пясках, саламяных і драўляных дахах, ствалах асобных дрэў).

**ТАРТЭ́ЛА** (н.-лац. tortella) — лістасцябловы мох сям. трыхастомавых, які расце пераважна ў засушлівых абласцях, на раўнінах і ў гарах.

**ТАРУЛО́ПСІС** (н.-лац. torulopsis) — сумчаты грыб падкласа *геміаскаміцэтаў*, які развіваецца ў глебе, вадаёмах, на цукразмяшчальных субстратах.

**ТАРХА́Н** (цюрк. tarchan) — 1) *феадал* у цюркскіх народаў у сярэднія вякі; 2) зямля і маёмасць феадалаў Закаўказзя, Сярэд. Азіі, Казахскага, Астраханскага, Крымскага ханстваў, якая вызвалялася ад дзяржаўных падаткаў.

**ТАРЦІ́НКА** (фр. tartine) — тонкая скібка хлеба, намазаная маслам, варэннем; маленькі бутэрброд.

**ТАРЦЮ́Ф** (фр. Tartufe = імя героя ў аднайменнай камедыі Ж.-Б.Мальера) — *перан.* крывадушнік і ханжа.

**ТАРШО́Н** (фр. torchon) — 1) баваўняная тканіна з рэдкім перапляценнем нітак, звычайна клятчастая; 2) папера з шурпатай паверхняй, якая нагадвае перапляценне гэтай тканіны.

**ТАРШЭ́Р** (фр. torchere, ад torche = факел) — свяцільня на высокай падстаўцы, з абажурам, якая ставіцца на падлогу.

**ТА́РЫ** (груз. tari) — струнны шчыпковы музычны інструмент, пашыраны на Каўказе і ў Сярэд. Азіі; мае 11 струн.

**ТАРЫ́РАВАЦЬ** (ням. tarieren) — 1) вызначаць вагу *тары*; 2) правя-

раць паказанні прыбораў па кантрольных прыборах.

**ТАРЫ́Т** (ад *торый*) — мінерал класа *сілікатаў* чорнага, бурага, аранжавага колеру; руда торыю.

**ТАРЫ́Ф** (фр. tarif, ад ар. ta'rif) — норма збораў, аплаты за што-н., напр. за перавоз пасажыраў, грузаў, паштовыя паслугі, карыстанне электраэнергіяй, газам і інш. (напр. чыгуначны т., таможны т.).

**ТАРЫФІКАВА́ЦЬ** (ад *тарыфікацыя*) — праводзіць тарыфікацыю.

**ТАРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *тарыф* + *-фікацыя*) — вызначэнне тарыфу на аснове той або іншай класіфікацыі аб'ектаў падатковага аблажэння або аплаты (напр. т. работ, т. заработнай платы).

**ТАРЭАДО́Р** (ісп. toreador) — удзельнік бою быкоў (*карыды*); гл. таксама *бандэрыльера, матадор, пікадор*.

**ТАРЭ́РА** (ісп. torero) — тое, што і *тарэадор*.

**ТАРЭ́ЎТЫКА** (гр. toreutikos = звязаны з разьбой, чаканкай) — майстэрства ручной рэльефнай апрацоўкі мастацкіх вырабаў з металу шляхам чаканкі, ціснення, адзелкі літых вырабаў.

**ТАСАВА́ЦЬ** (фр. tasser) — перамешваць ігральныя карты перад раздачай.

**ТАСТАМЕ́НТ** (лац. testamentum) — *уст.* завяшчанне.

**ТАСЬМА́** (тат. tasma) — вузкая тканая ці плеценая палоска тканіны, якая выкарыстоўваецца для аздаблення сукенак, бялізны і інш.

**ТАТАЛІЗА́ТАР** (фр. totalisateur, ад totaliser = падсумоўваць) — 1) механічны лічыльнік на скачках, які паказвае суму грашовых ставак на таго ці іншага каня, а таксама бюро, якое прымае такія стаўкі і аддае выйгрыш; 2) гульня на грошы на скачках.

**ТАТАЛІТА́РНЫ** (фр. totalitaire, ад лац. totus = увесь, цэлы) — звязаны з адкрыта тэрарыстычнай *дыктатурай* і задушэннем дэмакратычных свабод (напр. т. рэжым, т-ая дзяржава).

**ТАТАЛІТАРЫ́ЗМ** (фр. totalitarisme, ад лац. totus = увесь, цэлы) — 1) адна з форм *аўтарытарнай* дзяржавы, якая характарызуецца яе поўным кантролем над усімі сферамі жыцця грамадства; 2) напрамак палітычнай думкі, які апраўдвае антыдэмакратычную сістэму палітычнага кіравання і выступае за *дыктатуру* асобы.

**ТАТА́ЛЬНЫ** (фр. total, ад лац. totalis = увесь, поўны, цэлы) — усеабдымны, усеагульны (напр. т-ая мабілізацыя).

**ТАТА́МІ** (яп. tatami) — 1) цыноўка з саломы; 2) пругкі дыван з сінтэтычных матэрыялаў для барацьбы *дзю-до*.

**ТАТУІ́РАВАЦЬ** (фр. tatouer, з палінез.) — рабіць *татуіроўку* 1.

**ТАТУІРО́ЎКА** (ад *татуіраваць*) — 1) нанясенне на цела чалавека ўзораў, малюнкаў шляхам наколвання на скуры і ўвядзення пад яе фарбы, якая не змываецца; 2) узоры і малюнкі, нанесеныя такім спосабам.

**ТАТЭ́М** (англ. totem, ад індз. totem) — 1) жывёла, расліна ці з'ява, прадмет нежывой прыроды, што служыць аб'ектам пакланення ў некаторых народаў і лічыцца ахоўнікам племені; 2) герб племе-

ні з выявай такой жывёлы, расліны, прадмета.

**ТАТЭМІ́ЗМ** (ад *татэм*) — найбольш старажытная форма рэлігіі раннеродавага грамадства, для якой характэрна вера ў звышнатуральную сувязь, у кроўную блізкасць родавай групы з якім-н. татэмам.

**ТАЎРО́** (цюрк. tujra) — *кляймо* на скуры ці на рагах сельскагаспадарчых жывёл як распазнавальны знак, а таксама прылада для нанясення такога кляйма.

**ТАЎ-САГЫ́З** (цюрк. tau-sagyz) — травяністая расліна сям. складанакветных, якая расце ў гарах Сярэд. Азіі і з'яўляецца каўчуканосам.

**ТАЎТАГРА́МА** (ад гр. tauto = тое самае + *-грама*) — верш, усе словы якога пачынаюцца з адной і той жа літары.

**ТАЎТАЛО́ГІЯ** (гр. tautologia, ад tauto = тое самае + *-логія*) — паўтарэнне таго ж самага іншымі словамі.

**ТАЎТАМЕ́РЫЯ** (ад гр. tauto = тое самае + *-мерыя*) — разнавіднасць *ізамерыі*, пры якой *ізамеры* могуць узаемна пераўтварацца.

**ТАЎТАХРАНІ́ЗМ** (ад гр. tauto = тое самае + chronos = час) — уласцівасць гарманічных ваганняў захоўваць перыяд вагання незалежна ад *амплітуды*.

**ТАФАНО́МІЯ** (ад гр. taphos = магіла, пахаванне + *-номія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае заканамернасці працэсаў пахавання рэшткаў выкапнёвых жывёл і раслін.

**ТАФАЦЭНО́З** (ад гр. taphos = магіла, пахаванне + *-цэноз*) — сукупнасць пахаваных у пэўным слаі горных парод рэшткаў раслін, жывёл і слядоў іх жыццядзейнасці (гл. таксама *арыктацэноз, танатацэноз*).

**ТАФІ́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. tofieldia, ад Tofield = прозвішча англ. батаніка) — травяністая расліна сям. лілейных з мечападобным лісцем і дробнымі жаўтавата-белымі кветкамі ў гронках, пашыраная пераважна ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ТАФРЫ́НА** (н.-лац. taphrina) — сумчаты грыб сям. тафрынавых, які развіваецца на лісці вышэйшых раслін.

**ТАФТА́** (тур. tafta, ад перс. täftā) — тонкая і шчыльная глянцавітая шаўковая тканіна.

**ТАФ'Я́** (тур., тат. taqja) — цюбецейка.

**ТАХАГЕНЕРА́ТАР** (ад гр. tachos = хуткасць + *генератар*) — электрычны генератар для вымярэння частаты вярчэння або вуглавога паскарэння валоў розных машын і механізмаў.

**ТАХАГРА́МА** (ад гр. tachos = хуткасць + *-грама*) — графічны запіс змен хуткасці вярчэння (напр. вала машыны) у залежнасці ад часу.

**ТАХАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. tachos = хуткасць + *-метрыя*) — раздзел *метралогіі*, звязаны з вымярэннем колькасці абаротаў розных частак машын пры руху.

**ТАХЕАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. tachys, -cheos = хуткі + *-метрыя*) — раздзел *геадэзіі*, які займаецца выву-

чэннем метадаў тапаграфічнай здымкі для складання планаў з рэльефам мясцовасці.

**ТАХЕО́МЕТР** (ад гр. tachys, -cheos = хуткі + *-метр*) — геадэзічны прыбор для вымярэння адлегласцей і вызначэння розпасці вышынь пры тапаграфічных здымках.

**ТАХІГЕНЕ́З** (ад гр. tachys = хуткі + *-генез*) — з'ява скарачэння і спрашчэння ранняга этапу развіцця арганізма, калі зародак не праходзіць усіх стадый, якія ўласцівы былі продкам арганізма.

**ТАХІГРА́ФІЯ** (ад гр. tachys = хуткі + *-графія*) — тое, што і *стэнаграфія*.

**ТАХІЁНЫ** (ад гр. tachys = хуткі) — гіпатэтычныя часціцы, якія заўсёды рухаюцца з хуткасцю, што перавышае хуткасць святла ў вакууме.

**ТАХІКАРДЫ́Я** (ад гр. tachys = хуткі + *-кардыя*) — *мед.* значнае паскарэнне сардэчных скарачэнняў (больш за 100 у мінуту), абумоўленае рознымі фізіялагічнымі і паталагічнымі ўплывамі.

**ТАХІ́МЕТР** (ад гр. tachys = хуткі + *-метр*) — 1) устарэлая назва *тахеометра*; 2) прыбор для вымярэння хуткасці цячэння вады.

**ТАХІ́НЫ** (н.-лац. tachinidae) — сямейства насякомых атрада двухкрылых; кормяцца нектарам, лічынкі большасці відаў — унутраныя *паразіты* беспазваночных, пераважна насякомых (вусеняў, матылёў, клапоў, жукоў).

**ТАХІТЭЛІ́Я** (ад гр. tachys = хуткі + telos = ажыццяўленне) — вельмі хуткі тэмп *эвалюцыі*, уласцівы некаторым групам арганізмаў на працягу параўнальна абмежаванага перыяду (некалькі мільёнаў гадоў); параўн. *брадытэлія, гаратэлія*.

**ТАХО́ГРАФ** (ад гр. tachos = хуткасць + *-граф*) — прыбор, які фіксуе змену хуткасці вярчэння дэталей машын або механізмаў у выглядзе крывой лініі.

**ТАХО́МЕТР** (ад гр. tachos = хуткасць + *-метр*) — прыбор для вымярэння скорасці вярчэння.

**ТАХТА́** (перс. tachta) — шырокая *канапа* без спінкі.

**ТАЦЫТРО́Н** [ад лац. taci(tus) = таемны, ціхі + *-трон*] — разнавіднасць *тыратрона*.

**ТАЦЭ́Т** (іт. tazzetta = чашачка) — культурны від *нарцыса*.

**ТАШЫ́ЗМ** (ад фр. tache = пляма) — фармалістычная плынь у жывапісе 20 ст., разнавіднасць *абстракцыянізму*.

**ТАЭ́ЛЬ** (англ. tael, ад малайск. tahil = вага, цяжар) — грашовая адзінка Кітая з 14 ст. да 1933 г.

**ТВІСТ** (англ. twist) — 1) парны танец амерыканскага паходжання з характэрнымі рухамі бёдраў; 2) музыка, песня ў рытме гэтага танца.

**ТВІ́СТАР** (англ. twistor, ад twist = паварочваць, выгінаць) — запамінальны элемент у аўтаматыцы і вылічальнай тэхніцы, адрэзак дроту з магнітнай паверхняй, намагнічванне якога праходзіць па вінтавой лініі.

**ТЛАДЫЯ́НТА** (н.-лац. thladiantha) — травяністая расліна сям. гарбузовых з лазячымі сцёбламі, чаранковым лісцем і жоўтымі адзі-

ночнымі або ў гронках кветкамі, пашыраная ў Паўд.-Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная павойная.

**ТО́ГА** (лац. toga) — доўгі мужчынскі плашч без рукавоў, які насілі старажытнарымскія паўнапраўныя грамадзяне.

**ТО́ДЭС** (ад ням. Tod = смерць) — элемент у парным фігурным катанні на каньках, калі партнёрка апісвае вакол партнёра, які трымае яе за руку, круг на адным каньку пры становішчы цела амаль паралельна лёду.

**ТОЙ** (цюрк. toj) — свята, якое суправаджаецца банкетам, музыкай, танцамі, у народаў Сярэд. Азіі.

**ТОЙ-ТЭР'Е́Р** (ад англ. toy = цацка + *тэр'ер*) — парода паляўнічых сабак з групы тэр'ераў.

**ТОЛ** [ад *(трынітра)т(алу)ол*] — тое, што і *трынітраталуол*.

**ТО́ЛАС** (гр. tholos) — культавы будынак акруглай формы (грабніца, храм) у эгейскай культуры і антычным свеце.

**ТОЛЬ** (фр. tôle) — дахавы матэрыял, які атрымліваецца ў выніку насычэння кардону воданепранікальным саставам.

**ТОМ** (лац. tomus, ад гр. tomos) — 1) частка (асобная кніжка) якога-н. збору твораў; 2) асобная кніжка якога-н. выдання, збору кніг, бібліятэчнага фонду; 3) кніга (звычайна тоўстая).

**ТО́МІЗУС** (н.-лац. thomisus) — павук сям. бакаходаў са зменлівай афарбоўкай, які жыве на кветках.

**-ТОМІЯ** гл. *-тамія*.

**ТОН** (гр. tonos = напружанне, павышэнне голасу) — 1) гук пэўнай вышыні (напр. нізкі т.); 2) інтэрвал гамы; танальнасць (напр. мажорны т.); 3) характар гучання музычнага інструмента або голасу (напр. мяккі т. скрыпкі); 4) адценне голасу, маўлення (напр. высакамерны т., жартаўлівы т.); 5) манера паводзін (напр. дрэнны т.); 6) адценне колеру ў жывапісе (напр. светлы т.).

**ТО́НА** (фр. tonne) — адзінка масы ў метрычнай сістэме мер, роўная 1000 кг.

**ТО́НА-КІЛАМЕ́ТР** (ад *тона* + *кіламетр*) — адзінка грузаабароту, якая вылічаецца перавозкай 1 тоны грузу на 1 кіламетр.

**ТО́НА-МІ́ЛЯ** (ад *тона* + *міля*) — адзінка грузаабароту судна, якая вылічаецца перавозкай 1 тоны грузу на 1 мілю.

**ТОНАФІБРЫ́ЛЫ** (ад гр. tonos = напружанне + *фібрылы*) — тонкія апорныя валаконцы бялковай прыроды ў некаторых клетках жывёльных арганізмаў, якія забяспечваюць захаванне формы клетак.

**ТО́НДА** (іт. tondo) — карціна або рэльеф, круглыя па форме.

**ТО́НІКА** (іт. tonica) — *муз.* галоўны апорны гук ладу, а таксама трохгучча, пабудаванае на 1 ступені.

**ТОНМА́ЙСТАР** (ням. Tonmeister, ад Ton = гук + Meister = майстар, спецыяліст) — работнік радыё, кіно, тэатра, які адказвае за гукавое афармленне спектакляў, радыёперадач, гукааператар.

**ТОНСТУ́ДЫЯ** (ад *тон* + *студыя*) — частка *кінастудыі*, дзе

размешчана апаратура для гуказапісу ў час агучвання фільма.

**ТО́НУС** (лац. tonus, ад гр. tonos = напружанне) — 1) працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыяніраванне органаў; 2) *перан.* ступень жыццядзейнасці арганізма, актыўнасць (напр. павышаны т.).

**ТОНФІ́ЛЬМ** (ад *тон* + *фільм*) — 1) стужка з запісам гуку; выкарыстоўваецца ў кінематаграфіі і радыёвяшчанні; 2) першапачатковая назва гукавога кінафільма.

**ТОНШТЫ́ХЕЛЬ** (ад ням. Ton = гліна + *штыхель*) — гравёрны інструмент з паўкруглым лязом.

**ТОП** (гал. top) — *мат.* верхні канец *мачты* або *стэньгі*.

**ТО́ПІКА** (гр. topika, ад topos = месца) — 1) уменне карыстацца агульнымі меркаваннямі пры выкладзе якой-н. тэмы; 2) агульнае палажэнне, якое можна дастасаваць да ўсіх аднародных выпадкаў.

**ТО́ПКРАС** (англ. top crossing, ад top = пакрываць самку + crossing = скрыжоўванне) — скрыжоўванне мужчынскай асобіны з неаднароднай па сваім складзе матачнай *папуляцыяй* як адзін з метадаў *селекцыі*.

**ТО́ПСЕЛЬ** (гал. topzeil) — косы парус трохвугольнай формы, які падымаецца над іншым рэйкавым або косым парусам.

**ТО́ПТЫМБЕРС** (англ. toptimbers, мн. ад toptimber = верхняя бэлька) — *мар.* верхняя частка *шпангоута* на драўляным судне.

**-ТОПЫ** (гр. topos = месца) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «месца».

**ТОР**[1] (лац. torus = выпукласць) — геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем круга каля восі, што ляжыць у яго плоскасці, але не перасякае яго.

**ТОР**[2] [ад іт. E.Torricelli = прозвішча іт. фізіка (1608—1647)] — адзінка ціску, роўная ціску, які ўтварае слупок ртуці вышынёй у 1 мм; ужываецца пры вакуумных вымярэннях.

**ТО́РА** (ст.-яўр. Tora = вучэнне) — першая частка Бібліі (Пяцікніжжа) у яўрэяў, а таксама пергаментны скрутак з гэтым тэкстам, які захоўваецца ў *сінагозе* як прадмет рэлігійнага культу.

**ТО́РАКС** (гр. thoraks = грудзі) — грудная клетка.

**ТО́РМАЗ** (гр. tormos = адтуліна, утулка) — 1) прыстасаванне для запавольвання або спынення руху машыны, цягніка і інш.; 2) *перан.* тое, што з'яўляецца перашкодай у развіцці чаго-н.

**ТОРП** гл. *тарпа*.

**ТОРС** (іт. torso) — тулава чалавека, а таксама адлюстраванне яго ў скульптуры, жывапісе.

**ТОРТ** (ням. Torte) — кандытарскі выраб са здобнага цеста з крэмам, фруктамі і інш.

**ТОРФ** (ням. Torf) — шчыльная маса, якая ўтварылася з рэштак раслін, што падвергліся няпоўнаму разлажэнню ва ўмовах балот; выкарыстоўваецца як паліва, угнаенне і для тэхнічных мэт.

# Т

**ТОРФАБРЫКЕ́Т** (ад *торф* + *брыкет*) — спрасаваны ў выглядзе плітак, цаглін торф, які выкарыстоўваецца як паліва.

**ТОРФАВІВІЯНІ́Т** (ад *торф* + *вівіяніт*) — горная парода, якая складаецца з торфу і вівіяніту; выкарыстоўваецца як мясцовае арганічнае і фасфатнае ўгнаенне.

**ТО́РЫ** (англ. tory) — члены палітычнай партыі ў Англіі ў 17—19 ст., якая выражала інтарэсы буйных землеўладальнікаў і вышэйшага духавенства і на аснове якой склалася партыя *кансерватараў* (параўн. *вігі*).

**ТО́РЫЙ** (н.-лац. thorium, ад ст.-сканд. Thorr = бог грому ў скандынаўскай міфалогіі) — хімічны элемент, радыеактыўны метал, які з'яўляецца сыравінай для прамысловага атрымання ядзернай энергіі.

**ТО́РЫЛІС** (н.-лац. torilis) — травяністая расліна сям. парасонавых з прадаўгаватым лісцем і белымі або ружова-фіялетавымі кветкамі ў парасоніку, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Афрыцы; трапляецца на Беларусі; выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне.

**ТОСТ** (англ. toast, ад лац. panis tostus = падсмажаны хлеб) — 1) кароткая застольная прамова, здравіца ў гонар каго-н., чаго-н.; 2) падсмажаны кавалачак хлеба.

**ТО́СЦЕР** (англ. toaster, ад toast = падсмажваць хлеб) — прыстасаванне для прыгатавання *тостаў* 2.

**ТРААКА́Р** (фр. trois-quarts) — 1) хірургічны інструмент у выглядзе полай трубкі з устаўленай у яе трохграннай іголкай для выпускання вадкасці з поласцей цела; 2) *уст.* доўгі жаночы жакет да каленяў, паўпаліто.

**ТРААСТЫ́Т** [ад фр. L.Troast = прозвішча фр. хіміка (1825—1911)] — структурная састаўная частка сталі, якая ўяўляе сабой высокадысперсную сумесь часцінак *ферыту* і *карбідаў* (у прыватнасці *цэментыту*); па цвёрдасці займае сярэдняе становішча паміж *мартэнсітам* і *сарбітам*.

**ТРАБЕКУ́ЛЫ** (лац. trabecula = невялікая бэлька) — пласцінкі ў рэчыве косці, перагародкі і цяжы, якія ўтвараюць *каркас* органа; пракладкі, па якіх праходзяць крывяносныя сасуды.

**ТРАВЕЛЕРСЧЭ́К** (англ. traveller's cheque) — дарожны *чэк*, па якім за мяжой можна атрымаць грошы ў любым пункце, дзе ёсць *банк*.

**ТРА́ВЕРЗ** (фр. traverse, ад лац. transversus = папярочны) — напрамак, перпендыкулярны курсу судна, самалёта.

**ТРА́ВЕРС**[1] (фр. traverse, ад лац. transversus = папярочны) — 1) папярочнае ўкрыццё (насып) у акопах, траншэях і ходах злучэння, якое засцерагае ад агню з флангаў; 2) папярочная *дамба*, якая ідзе ад берага да сярэдзіны ракі; 3) бакавы рух каня галавой да сценкі манежа (параўн. *ранверс*).

**ТРА́ВЕРС**[2] (фр. traversée = пераезд, пераправа) — пераход альпіністаў па маршруце, які праходзіць па грэбені горнага хрыбта і злучае некалькі вяршынь.

**ТРА́ВЕРСА** (фр. traverse) — папярочная бэлька, перакладзіна для ўмацавання чаго-н., а таксама па-

пярочная перагародка, сценка, пліта спецыяльнага прызначэння.

**ТРАВЕРСІ́РАВАЦЬ** (фр. traverser = перапраўляцца, пераходзіць) — перапраўляцца праз горы па маршруце, які праходзіць па грэбені горнага хрыбта.

**ТРАВЕРЦІ́Н** (іт. travertino) — горная парода, нацёчныя адклады вуглякіслага кальцыю (*кальцыту, араганіту*) з халодных ці гарачых мінеральных крыніц; вапняковы туф.

**ТРАВЕСЦІ́** (фр. travesti) — *тэатр.* сцэнічнае *амплуа*, мужчынская або дзіцячая роля, якая выконваецца пераадзетай жанчынай, радзей — жаночая роля, якая выконваецца мужчынам.

**ТРАВЕСЦІ́Я** (ад фр. travestir = парадзіраваць) — від гумарыстычнай паэзіі, блізкай да *пародыі*, які характарызуецца тым, што сур'ёзны змест увасабляецца ў камічнай форме.

**ТРАВЕСЦІ́РАВАЦЬ** (фр. travestir) — перарабляць мастацкі твор, надаваць яму новы выгляд.

**ТРАВЕ́Я** (фр. travée) — прасторавая ячэйка *нефа* ў раманскай і гатычнай архітэктуры.

**ТРАГАКА́НТ** (гр. tragakantha) — від *астрагала*, пашыраны ў Сярэд. і Паўд. Азіі, а таксама ў Паўд. Еўропе; дае *камедзь*.

**ТРАГА́НТ** (п.-лац. tragantum, ад гр. tragakantha = трагакант) — засохлы сок *трагаканта*; выкарыстоўваецца ў фармацэўтычнай, папяровай, тэкстыльнай, скуранай прамысловасці.

**ТРАГАНТЭ́РЫЙ** (ад гр. trogon = які грызе + *-тэрый*) — выкапнёвы бабёр, які вымер у раннечацвярцічную эпоху.

**ТРАГАПА́НЫ** (н.-лац. tragopan) — птушка сям. фазанавых са стракатым апярэннем, якая водзіцца ў высакагорных лясах Гімалаяў, Індакітая і Паўд. Кітая.

**ТРАГЕ́ДЫЯ** (лац. tragoedia, ад гр. tragodia = казліны спеў) — 1) драматычны твор, які паказвае вострыя жыццёвыя канфлікты, што звычайна вядуць да смерці героя; 2) *перан.* вялікая няшчасце.

**ТРАГІ́ЗМ** (ад гр. tragikos = трагічны) — 1) трагічная аснова мастацкага твора; 2) безвыходнасць, трагічнае становішча.

**ТРА́ГІК** (гр. tragikos = трагічны) — 1) *акцёр*, які выконвае *трагічныя* ролі; 2) *уст.* аўтар *трагедыі*.

**ТРАГІКАМЕ́ДЫЯ** (ад гр. tragikos = трагічны + *камедыя*) — 1) драматычны твор, у якім спалучаюцца характэрныя рысы трагедыі і камедыі; 2) *перан.* гісторыя, падзея, становішча, у якім да сумнага прымешваецца смешнае.

**ТРАГІ́ЧНЫ** (гр. tragikos) — 1) які мае адносіны да *трагедыі*, уласцівы ёй (напр. т. сюжэт, т. канфлікт); 2) здольны перадаваць моцныя пачуцці; разлічаны на эфект (напр. т. талент, т. жэст); 2) *перан.* страшны, катастрафічны (напр. т. выпадак).

**ТРАГЛАБІЁНТЫ** (ад гр. trogle = нара, пячора + *біёнты*) — жывёлы, якія жывуць у пячорах, трэшчынах горных парод.

**ТРАГЛАДЫ́Т** (лац. troglodyta, ад гр. troglodytes = які жыве ў пячоры) — 1) першабытны пячорны

# Т

чалавек; 2) *перан.* грубіян, некультурны чалавек.

**ТРАГО́НЫ** (гр. trogon = які грызе) — атрад птушак з доўгім хвастом, крывой дзюбай і яркім апярэннем; жывуць у трапічных лясах Азіі, Афрыкі і Амерыкі.

**ТРАДУ́КЦЫЯ** (лац. traductio = перамяшчэнне) — *лог.* вывад, у якім пасылкі і заключэнні з'яўляюцца суджэннямі аднолькавай агульнасці.

**ТРАДЫ́ЦЫЯ** (лац. traditio = перадача) — звычай, парадак; правілы паводзін, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

**ТРАДЫЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад *традыцыя*) — прытрымліванне традыцый, звычайна аджыўшых, кансерватыўных.

**ТРАДЭСКА́НЦЫЯ** [н.-лац. tradescantia, ад англ. J.Tradescant = прозвішча лонданскага садоўніка (памёр у 1638 г.)] — травяністая расліна сям. камялінавых з чаргаваным лісцем і дробнымі кветкамі рознай афарбоўкі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ТРАЕКТО́РЫЯ** (с.-лац. traiectorius = які датычыць перамяшчэння) — лінія, якую апісвае ў прасторы ў працэсе руху цела або пункт (напр. т. снарада, т. ракеты).

**ТРАІЛІ́Т** (ад іт. D.Troili = прозвішча іт. вучонага 18 ст.) — мінерал групы *сульфідаў* бронзава-жоўтага колеру, які трапляецца пераважна ў *метэарытах*.

**ТРАЙБАЛІ́ЗМ** (англ. tribalism, ад tribe = племя) — племянны або этнічны *сепаратызм* 1 у грамадстве, дзе ёсць перажыткі рода-племяннога падзелу.

**ТРАК** (англ. track) — звяно гусеніцы трактара, танка і інш.

**ТРАКТ** (польск. trakt, ад лац. tractus) — шырокая дарога, шлях; с т р а ў н і к а в а - к і ш а ч н ы т. — стрававальная сістэма.

**ТРАКТАВА́ЦЬ** (польск. traktować, ад лац. tractare) — 1) тлумачыць, абмяркоўваць; так ці інакш расцэньваць што-н.; 2) частаваць.

**ТРА́КТАР** (англ. tractor, ад лац. trahere = цягнуць) — гусенічная або калёсная самаходная машына для перамяшчэння і прывядзення ў дзеянне прычэпленых да яе сельскагаспадарчых і іншых прылад, а таксама для буксіравання грузаў (напр. тралёвачны т.).

**ТРАКТА́Т** (лац. tractatus = абмеркаванне, разгляд) — 1) навуковая праца, у якой разглядаецца асобнае пытанне ці праблема; 2) міжнародны дагавор, пагадненне (напр. мірны т.).

**ТРАКТРЫ́СА** (фр. tractrice, ад лац. tractus = выцягнены) — *мат.* плоская крывая лінія, для якой даўжыня адрэзка датычнай ад пункту дотыку да пункту перасячэння з дадзенай прамой ёсць пастаянная велічыня.

**ТРАЛ** (англ. trawl) — 1) вялікая конусападобная сетка для лоўлі рыбы з суднаў (*траўлераў*); 2) прыстасаванне для вылоўлівання і знішчэння падводных і наземных мін; 3) гідраграфічная прылада для даследавання паверхні марскога дна, яго флоры і фауны.

**ТРАЛЕ́Й** (англ. trolley) — кантактны провад, па якім электрычны

ток пастулае ў цягавыя рухавікі электратранспарту, напр. трамваяў.

**ТРАЛЕ́ЙБУС** [англ. trolleybus, ад trolley = тралей + лац. (omni)bus = для ўсіх] — гарадская пасажырская бязрэйкавая машына, якая прыводзіцца ў рух электрычным рухавіком, што бярэ энергію ад двух правадоў.

**ТРАЛЕЙКА́Р** (англ. trolleycar, ад trolley = тралей + car = вазок) — самаходная бязрэйкавая грузавая павозка, электрарухавік якой жывіцца ад падвесных кантактных правадоў.

**ТРАЛЯВА́ЦЬ** (ням. treilen = цягнуць) — падцягваць, падвозіць драўніну ад месца нарыхтоўкі да дарогі ці да месца сплаву трактарамі ці валочна-тралёвачнымі машынамі.

**ТРА́МА** (ням. Tram) — апорная бэлька, якая падтрымлівае столь у драўляных будынках.

**ТРАМАНТА́НА** (іт. tramontana, ад tra = праз + montana = гара) — халодны паўночны і паўночна-ўсходні вецер у Італіі і ў паўночнай частцы Іспаніі.

**ТРАМБАВА́ЦЬ** (ад ням. trampeln = тантаць) — ударамі, ціскам рабіць больш шчыльнай якую-н. рыхлую масу і выраўноўваць яе паверхню.

**ТРАМБАГЕ́Н** (ад *тромб* + *ген*) — тое, што і *пратрамбін*.

**ТРАМБАПЕНІ́Я** [ад *трамба(цыты)* + гр. penia = недахоп] — тое, што і *трамбацытапенія*.

**ТРАМБАЦЫТАПЕНІ́Я** (ад *трамбацыты* + гр. penia = недахоп) — змяншэнне колькасці трамбацытаў у перыферычнай крыві.

**ТРАМБАЦЫТО́З** (ад *трамбацыты*) — павелічэнне колькасці трамбацытаў у перыферычнай крыві.

**ТРАМБАЦЫ́ТЫ** (ад гр. thrombos = згустак + *-цыты*) — клетачныя элементы крыві жывёл і чалавека, якія ўдзельнічаюць у згусанні крыві.

**ТРАМБАЦЫТЭМІ́Я** (ад *трамбацыты* + *-змія*) — форма гемарагічнага *дыятэзу*, якая характарызуецца павышаным змяшчэннем у крыві трамбацытаў.

**ТРАМБІ́Н** (ад гр. thrombos = згустак) — *фермент*, які выклікае згусанне крыві; утвараецца з *пратрамбіну* пад уздзеяннем тромбапласціну.

**ТРАМБЛЁР** (англ. trembler) — прыбор сістэмы запальвання карбюратарных рухавікоў унутранага згарання, які падае электрычны ток высокага напружання да свечак запальвання.

**ТРАМБО́З** (гр. thrombos = згустак) — працэс утварэння *тромбаў* у крыві, які можа прывесці да *тромбафлебіту, інфаркту, інсульту*.

**ТРАМБО́Н** (іт. trombone) — медны духавы музычны інструмент, які мае выгляд двойчы выгнутай трубкі з шырокай гарлавінай.

**ТРАМВА́Й** (англ. tramway, ад tram = вагон + way = дарога) — гарадскі пасажырскі транспарт з аднаго-двух вагонаў, якія рухаюцца па рэйках з дапамогай электрычнага рухавіка, што бярэ энергію ад аднаго провада.

# Т

**ТРАМП** (англ. tramp = *літар.* валацуга) — судна, якое перавозіць грузы ў любым напрамку, не на пэўнай лініі (параўн. *лайнер*).

**ТРАМПЛІ́Н** (фр. tremplin) — 1) спартыўнае збудаванне або прыстасаванне для павелічэння шляху палёту спартсмена пры скачках (напр. лыжны т.); 2) *перан.* зыходны пункт для якой-н. дзейнасці.

**ТРАМЭ́ТЭС** (н.-лац. trametes) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на адмерлай і апрацаванай драўніне, радзей на жывых дрэвах лісцевых і хвойных парод.

**ТРА́НЕЦ** (англ. transom) — плоскі зрэз кармы некаторых караблёў, яхт, шлюпак.

**ТРАНЖЫ́РЫЦЬ** (фр. trancher = разразаць) — неразумна, без толку траціць грошы, маёмасць і інш.

**ТРАНЗІ́СТАР** [англ. transistor, ад tran(sfer) = пераносіць + (re)sistor = супраціўленне] — 1) паўправадніковы прыбор, які служыць для ўзмацнення і пераўтварэння электрычных сігналаў; 2) невялікі радыёпрыёмнік на паўправадніках.

**ТРАНЗІ́Т** (лац. transitus = пераход) — 1) правоз пасажыраў і грузаў з аднаго пункта ў іншы праз прамежкавыя пункты; 2) перавозка грузаў без перагрузкі іх на прамежкавых станцыях.

**ТРАНЗІТЫ́ЎНАСЦЬ** (лац. transitivus = пераходны) — *мат.* уласцівасць велічынь, якая заключаецца ў тым, што калі першая велічыня раўняецца другой, а другая трэцяй, то першая раўняецца трэцяй.

**ТРАНЗІ́ЦЫЯ** (лац. transitio = пераход, перамяшчэнне) — *мутацыя*, абумоўленая заменай азоцістай асновы ў малекуле нуклеінавай кіслаты: мяняецца адна пурынавая аснова на другую (*адэнін* на *гуанін* або наадварот) ці адна пірамідынавая аснова на другую (*тымін* на *цытазін* або наадварот).

**ТРАНКВІЛІЗА́ТАР** (ад лац. tranquillus = ціхі, спакойны) — тое, што і *нейралептыкі*.

**ТРАНС** (фр. transe, ад англ. trance) — павышанае нервовае ўзбуджэнне са стратай самакантролю, а таксама зацямненне свядомасці пры *гіпнозе, экстазе* і інш.

**ТРАНС-** (лац. trans = цераз) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «цераз», «за», «па той бок», «праз».

**ТРАНСАЗО́НД** [ад *транс- + а(кіян) + зонд*] — поліэтыленавы паветраны шар з самапіснымі прыладамі для гарызантальнага зандзіравання атмасферы.

**ТРАНСАКІЯ́НСКІ** (ад *транс- + акіян*) — які перасякае акіян (напр. т. параход, т-ая кабельная лінія сувязі).

**ТРАНСА́КЦЫЯ** (лац. transactio = здзелка) — 1) дагавор (палітычны, юрыдычны), які суправаджаецца ўзаемнымі ўступкамі; 2) банкаўская аперацыя, перавод грашовых сродкаў (у т.л. за мяжу) для якіх-н. мэт.

**ТРАНСАРКТЫ́ЧНЫ** (ад *транс- + арктычны*) — звязаны са зносінамі цераз арктычную вобласць.

**ТРАНСБО́РДЭР** (англ. transborder) — прыстасаванне для перамяшчэння сродкаў рэйкавага тран-

спарту з адной каляі на другую, паралельную ёй.

**ТРАНСВЕРСА́ЛЬ** (фр. transversal, ад лац. transversus = папярочны) — прамая, якая перасякае стораны трохвугольніка і іх працяг.

**ТРАНСВЕ́РСІЯ** (ад лац. transversus = павернуты ўбок) — *мутацыя*, абумоўленая заменай пурынавай асновы (*адэін, гуанін*) на пірымідынавую (*тымін, цытазін*) і наадварот.

**ТРАНСГРЭ́СІЯ** (лац. transgressio) — 1) *геал.* наступленне мора на сушу (параўн. *рэгрэсія* 1); 2) *біял.* з'яўленне пры скрыжоўванні ў другім або наступным пакаленнях такіх асобін, у якіх пэўная прыкмета выражана мацней, чым у бацькоўскіх формаў.

**ТРАНСДУ́КЦЫЯ** (лац. transductio = перамяшчэнне) — перанясенне спадчыннага матэрыялу ад аднаго мікраарганізма да другога пры дапамозе *бактэрыяфага* або *актынафага*.

**ТРАНСЕ́КТА** (ад лац. trans = праз + sectio = сячэнне) — вузкая доўгая пляцоўка, на якой вывучаюць колькасныя характарыстыкі відаў і іх змены.

**ТРАНСЕ́ПТ** (англ. transept, ад лац. trans = цераз + septum = агароджа) — *архіт.* адзін ці некалькі папярочных *нефаў*, якія перасякаюць пад прамым вуглом падоўжныя нефы будынка.

**ТРАНСКАНТЫНЕНТА́ЛЬНЫ** (ад *транс-* + *кантынентальны*) — 1) які праходзіць цераз увесь *кантынент*, перасякае яго (напр. т. нафтаправод, т-ая чыгунка); 2) які адносіцца да сувязей паміж кантынентамі (напр. к. рэйс).

**ТРАНСКРЫБІ́РАВАЦЬ** (лац. transcribere = перапісваць) — *лінгв.* рабіць *транскрыпцыю*, передаваць транскрыпцыяй (напр. т. тэкст).

**ТРАНСКРЫ́ПЦЫЯ** (лац. transcriptio = перапісванне) — 1) дакладная перадача на пісьме ўсіх асаблівасцей жывой гаворкі літарамі алфавіта і некаторымі спецыяльнымі знакамі; 2) перадача элементаў аднай мовы пры дапамозе літар іншай мовы; 3) пералажэнне музычнага твора для выканання на іншым інструменце або для іншага складу інструментаў ці галасоў больш творчага характару, чым *аранжыроўка*; вольная апрацоўка твора ў віртуозным стылі; 4) *біял.* біясінтэз *рыбануклеінавай* кіслаты ў жывых клетках, першы этап рэалізацыі генетычнай інфармацыі.

**ТРАНСЛАКА́ЦЫЯ** (ад *транс-* + лац. locatio = размяшчэнне) — абмен участкамі дзвюх або некалькіх *храмасом*, а таксама перанясенне ўчастка храмасомы ў іншае месца той жа храмасомы.

**ТРАНСЛІТАРА́ЦЫЯ** (ад *транс-* + лац. littera = літара) — *лінгв.* перадача тэксту, напісанага адным алфавітам, літарамі іншага алфавіта.

**ТРАНСЛЯ́ТАР** (лац. translator) — прамежкавае ўстройства для ўзмацнення, пераўтварэння і перадачы электрасігналаў сувязі, якія нясуць розную інфармацыю.

**ТРАНСЛЯ́ЦЫЯ** (лац. translatio = перадача) — 1) перадача інфармацыі па радыё і тэлебачанні на адлегласці; 2) *біясінтэз* бялкоў у жывой клетцы шляхам «счытвання» генетычнай інфармацыі.

# Т

**ТРАНСМІ́СІЯ** (лац. transmissio = перасылка, перадача) — 1) сістэма для перадачы вярчэння ад рухавіка да станкоў або іншых механізмаў; 2) перадаванне хвароб галоўным чынам праз насякомых (мух, камароў, маскітаў).

**ТРАНСМІ́ТЭР** (англ. transmitter, ад лац. transmittere = перасылаць, перадаваць) — апарат для аўтаматычнай перадачы электрычных сігналаў, запісаных на перфараванай стужцы.

**ТРАНСНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад *транс-* + *нацыянальны*) — які выходзіць за межы адной *нацыі*, адной дзяржавы, міжнацыянальны.

**ТРАНСПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. transpositio = перастаноўка) — 1) перанясенне чаго-н. (ідэі, вобраза, тэрміналогіі і інш.) з аднаго жанра ў іншы, з адной навукі ў іншую, адпаведна змяняючы, прыстасоўваючы; 2) *мат.* перастаноўка пэўнай сукупнасці элементаў, пры якой мяняюцца месцамі толькі два элементы; 3) перанясенне музычнага твора з адной танальнасці ў другую.

**ТРАНСПАНАВА́ЦЬ** (лац. transponere = перастаўляць) — 1) выконваць *транспазіцыю* 1; 2) выконваць *транспазіцыю* 3.

**ТРАНСПАРА́НТ** (фр. transparent) — 1) ліст з чорнымі лініямі, які падкладваецца пад нелінеенуую паперу, каб пры пісьме былі роўныя радкі; 2) тканіна з малюнкам або тэкстам, нацягнутая на раму.

**ТРА́НСПАРТ** (ад лац. transportare = перамяшчаць) — 1) галіна народнай гаспадаркі, якая ажыццяўляе перавозку пасажыраў і грузаў, а таксама сродкі для перавозкі (напр. чыгуначны т., аўтамабільны т., паветраны т.); 2) партыя грузаў, што прыбылі разам; 3) сукупнасць сродкаў перавозкі спецыяльнага прызначэння (напр. санітарны т.); 4) ваеннае судна для перавозкі грузаў, людзей (напр. мінны т., дэсантны т.).

**ТРАНСПАРТА́БЕЛЬНЫ** (фр. transportable) — такі, які можна *транспартаваць*, зручны для перавозкі.

**ТРАНСПАРТАВА́ЦЬ** (лац. transportare) — перавозіць з аднаго месца ў другое (напр. т. жывёлу, т. фрукты).

**ТРАНСПАРЦЁР** (фр. transporteur, ад лац. transportare = перамяшчаць) — 1) тое, што і *канвеер*; 2) ваенная машына павышанай праходнасці для перавозкі грузаў, зброі і людзей.

**ТРАНСПАРЦІ́Р** (фр. transporteur, ад лац. transportare = перамяшчаць) — прыстасаванне ў выглядзе падзеленага на 180° паўкруга і лінейкі для пабудовы і вымярэння вуглоў на чарцяжах.

**ТРАНСПІРА́ЦЫЯ** (ад *транс-* + лац. spirare = дыхаць, выдыхаць) — выпарэнне вады раслінамі.

**ТРАНСПЛАНТАВА́ЦЬ** (п.-лац. transplantare = перасаджваць) — ажыццяўляць *трансплантацыю*.

**ТРАНСПЛАНТАЛО́ГІЯ** (ад п.-лац. transplantare = перасаджваць + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які займаецца пытаннямі *трансплантацыі*.

**ТРАНСПЛАНТА́Т** (п.-лац. transplantatus = перасаджаны) — тканка

або орган, перасаджаныя ў іншы арганізм шляхам *трансплантацыі*.

**ТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (п.-лац. transplantatio, ад transplantare = перасаджваць) — перасадка з наступным прыжыўленнем тканак і органаў жывёльных і раслінных арганізмаў на другое месца (*аўтатрансплантацыя*) або ў іншы арганізм таго ж віду (*алатрансплантацыя*) ці другога віду (*гетэратрансплантацыя*), або нават іншага роду (*ксенатрансплантацыя*).

**ТРАНСПЛАНТО́ЛАГ** (ад п.-лац. transplantare = перасаджваць + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *трансплантацыі*.

**ТРАНСПО́РТ** (ад лац. transportare = перамяшчаць) — перанос сумы з адной старонкі бухгалтарскай кнігі на другую.

**ТРАНССУДА́Т** (ад *транс-* + лац. sudare = сачыцца) — бедная на бялок (у адрозненне ад *эксудату*) вадкасць, якая прасочваецца з сасудаў у тканкі і поласці цела ў выніку парушэння крова- і лімфазвароту; утварэнне транссудату адбываецца без запаленчай змены тканак.

**ТРАНССУДА́ЦЫЯ** (ад *транс-* + лац. sudare = сачыцца) — працэс утварэння *транссудату*.

**ТРАНСУРА́НЫ** (ад *транс-* + *уран*) — штучна атрыманыя радыеактыўныя хімічныя элементы, якія ў перыядычнай сістэме элементаў размешчаны пасля урану.

**ТРАНСФАКА́ТАР** (ад *транс-* + *фокус*) — аптычнае ўстройства з некалькіх лінзаў, якое ўстанаўліваецца перад фота- або кінааб'ектывам і дазваляе змяняць фокусную адлегласць, даючы магчымасць атрымліваць адбіткі патрэбных памераў.

**ТРАНСФАРМАВА́ЦЬ** (лац. transfotmare) — пераўтвараць, відазмяняць што-н.

**ТРАНСФАРМА́ТАР** (ад лац. transformare = пераўтвараць) — 1) апарат для змянення напружання электрычнага току; 2) артыст, які папераменна выконвае некалькі роляў, хутка змяняючы свой знешні выгляд; 3) фокуснік, які стварае *ілюзію* пераўтварэння адных рэчаў у іншыя; ілюзіяніст (гл. *ілюзіянізм* 2).

**ТРАНСФАРМА́ЦЫЯ** (лац. transformatio) — 1) пераўтварэнне віду, формы, асаблівасцей чаго-н. (напр. т. мастацкіх вобразаў); 2) *біял.* перанясенне спадчыннай інфармацыі з клеткі аднаго *генатыпу* ў клетку іншага; 3) сцэнічны прыём, які заключаецца ў хуткай змене артыстам (*трансфарматарам* 2) сваёй знешнасці; 4) змяненне напружання электрычнага току пры дапамозе *трансфарматара* 1.

**ТРАНСФАРМІ́ЗМ** (ад лац. transformis = пераўтвораны) — *біял.* сістэма ўяўленняў аб змяненні і пераўтварэнні арганічных форм, паходжанні адных арганізмаў ад другіх, якая папярэднічала *дарвінізму*.

**ТРАНСФЕРА́ЗЫ** (ад лац. transferre = пераносіць, пераводзіць) — група *ферментаў*, пад уплывам якіх адбываюцца рэакцыі ўнутрымалекулярнага і міжмалекулярнага пераносу атамаў або груп атамаў у арганізме чалавека, жывёл і раслін.

**ТРАНСФЕРКА́Р** (англ. transfercar) — самаразгружальны элек-

T

траматорны вагон, які выкарыстоўваецца на металургічных заводах для падачы руды і коксу да доменных печаў.

**ТРАНСФЕ́РТ** (фр. transfert, ад лац. transferre = пераносіць, пераводзіць) — 1) *фін.* перавод замежнай *валюты* або перадача золата з адной краіны ў другую; 2) *юр.* перадача права ўладання імяннымі каштоўнымі паперамі (*акцыямі*) адной асобы другой, якая ажыццяўляецца, як правіла, з дапамогай *індасамента*; 3) абмен насельніцтвам паміж дзяржавамі на падставе міжнароднага пагаднення, аўтаматычнае змяненне грамадзянства.

**ТРАНСФЕРЫ́НЫ** (ад лац. transferre = пераносіць, пераводзіць) — складаныя бялкі (*глікапратэіды*), якія пераносяць *іоны* трохвалентнага жалеза ў арганізме; змяшчаюцца ў плазме крыві, малацэ і яечным бялку.

**ТРАНСФІНІ́ТНЫ** (ад *транс-* + *фінітны*) — *мат.* які знаходзіцца за межамі канечнага.

**ТРАНСФЛЮ́КСАР** (ад лац. transfluere = працякаць, выцякаць) — элемент памяці электронна-вылічальных машын, што працуе па прынцыпу пераразмеркавання магнітных патокаў.

**ТРАНСФУ́ЗІЯ** (лац. transfusio = пераліванне) — *мед.* пераліванне крыві.

**ТРАНСФУЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *трансфузія* + *-логія*) — раздзел *гематалогіі*, які вывучае метады пералівання крыві, увядзення прэпаратаў крыві і спосабы папярэджвання магчымых пры пераліванні ўскладненняў.

**ТРАНСЦЭНДЭНТАЛІ́ЗМ** (с.-лац. transcendentalis, ад лац. transcendens, -ntis = які выходзіць за межы) — ідэалістычнае філасофскае вучэнне, паводле якога апрыёрныя формы свядомасці папярэднічаюць вопыту і з'яўляюцца яго ўмовамі.

**ТРАНСЦЭНДЭНТА́ЛЬНЫ** (с.-лац. transcendentalis, ад лац. transcendens, -ntis = які выходзіць за межы) — які датычыць абстрактных, быццам бы не залежачых ад вопыту з'яў (у ідэалістычнай філасофіі Канта).

**ТРАНСЦЭНДЭ́НТНЫ** (лац. transcendens, -ntis = які выходзіць за межы) — *філас.* які знаходзіцца за межамі вопыту, непазнавальны (проціл. *іманентны*).

**ТРАНШЭ́ЛІЯ** (н.-лац. tranzschelia) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на лісці слівы.

**ТРАНШЭ́Я** (фр. tranchee) — 1) вузкі доўгі роў з брустверам, які злучае ў адну лінію ўсе агнявыя пункты абароны; 2) роў, канава для розных гаспадарчых мэт (напр. т. для сіласу).

**ТРАП**[1] (гал. trap) — 1) лесвіца на караблі; прыстаўная лесвіца для пасадкі ў самалёт і выхаду з яго; 2) спецыяльная лесвіца рознага прызначэння (напр. гімнастычны т., тэатральны т.).

**ТРАП**[2] (англ. trap) — апарат для аддзялення нафты ад газу, калі яны выходзяць са свідравіны.

**ТРАПАПА́ЎЗА** (ад гр. tropos = паварот, змяненне + *паўза*) — пераходны слой паміж *трапасферай* і *стратасферай*.

**ТРАПА́Р** (гр. troparion) — малітоўны верш для спеваў у гонар якога-н. праваслаўнага свята або святога.

**ТРАПАСФЕ́РА** (ад гр. tropos = паварот + *сфера*) — ніжні, асноўны слой *атмасферы* да вышыні 8—17 км, у якім тэмпература паветра паніжаецца з вышынёй.

**ТРАПАФІ́ТЫ** (ад гр. tropos = паварот + *-фіты*) — расліны, якія прыстасаваліся да жыцця ў абласцях з рэгулярнай штогадовай зменай вільготнага і сухога перыядаў.

**ТРАПЕ́ЗА** (гр. trapeza = стол) — 1) агульны стол для яды ў манастыры, а таксама прыём яды (абед, вячэра) за такім сталом; 2) памяшканне ў манастыры, дзе адбываецца прыём яды; трапезная.

**ТРАПЕЗІ́ТЫ** (гр. trapezitai, ад trapeza = стол) — мянялы ў Стараж. Грэцыі.

**ТРАПЕ́ЛІЯ** (н.-лац. trapelia) — накіпны лішайнік сям. трапеліевых, які расце на добра асветленых месцах у полі і ў лесе, на вапністых субстратах, пясчаніках, граніце, валунах.

**ТРА́ПЕР** (англ. trapper) — паляўнічы на пушнога звера ў Паўн. Амерыцы, які карыстаецца ў асноўным пасткамі.

**ТРАПЕЦО́ІД** (ад *трапецыя* + *-оід*) — геаметрычная фігура, якая падобна на *трапецыю*, але не мае паралельных старон.

**ТРАПЕЦО́ЭДР** (ад *трапецыя* + *-эдр*) — *мат.* мнагараннік, грані якога маюць выгляд трапецый.

**ТРАПЕ́ЦЫЯ** (гр. trapezion = столік) — 1) *мат.* чатырохвугольнік з дзвюма паралельнымі і дзвюма непаралельнымі старанамі; 2) гімнастычная прылада ў выглядзе перакладзіны, падвешанай на двух тросах.

**ТРАПІДАНЕ́ІС** (н.-лац. tropidoneis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў *планктоне* салёных і саланаватых вадаёмаў, зрэдку ў прэсных.

**ТРАПІ́ЗМЫ** (ад гр. tropos = паварот, напрамак) — роставыя рухі органаў раслін (сцябла, кораня, лістоў), выкліканыя аднабаковым дзеяннем якога-н. раздражняльніка — святла (*фататрапізм*), сілы зямнога прыцяжэння (*геатрапізм*), хімічных рэчываў (*хематрапізм*) і інш. (параўн. *таксісы*).

**ТРАПІ́ЧНЫ** (гр. tropikos = паваротны) — 1) які мае адносіны да *тропікаў*, размешчаны ў тропіках (напр. т. зона); 2) уласцівы тропікам, пашыраны ў тропіках (напр. т. лівень); 3) гарачы, спякотны.

**-ТРАПІЯ, -ТРОПІЯ** (гр. trope = паварот, напрамак) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «паварот», «змена», «пераўтварэнне».

**ТРА́ПЫ** (шв. trapp) — група магматычных горных парод (напр. *базальты, дыябазы*), якія ўтвораны ў выніку вулканічнай дзейнасці на геалагічных платформах.

**ТРАС** (ням. Trass) — горная парода, разнавіднасць вулканічнага *туфу*, якую дабаўляюць да цэменту для моцы і пластычнасці.

**ТРА́СА** (ням. Trasse) — 1) напрамак пралягання канала, лініі сувязі, трубаправода, а таксама руху самалёта, судна і г.д.; 2) шлях, да-

рога; 3) вогненны след, які пакідае за сабой трасіруючая куля.

**ТРАСАЛО́ГІЯ** (ад фр. trace = след + -*логія*) — раздзел *крыміналістыкі*, які займаецца фіксацыяй і вывучэннем слядоў, пакінутых на месцы злачынства.

**ТРАСА́НТ** (ням. Trassant, ад іт. trassare = выпісваць вэксаль) — *фін.* асоба, якая выдае другой асобе пераводны *вэксаль* (*тратту*); вэксаледаўца.

**ТРАСА́Т** (ням. Trassat, ад іт. trassare = выпісваць вэксаль) — асоба, якой даручаецца заплаціць па пераводнаму *вэксалю* (*тратце*).

**ТРАСІ́РАВАЦЬ**[1] (іт. trassare = выпісваць вэксаль) — *фін.* пераводзіць выплату грошай на другую асобу.

**ТРАСІ́РАВАЦЬ**[2] (фр. tracer = праводзіць, абазначаць) — 1) абазначаць *трасу*, 2) пакідаць след пры палёце (пра кулю, снарад і інш.).

**ТРАСТ** (англ. trust) — 1) даверанасць на вядзенне аперацый у гаспадарчай і іншай сферах дзейнасці; 2) аб'яднанне, фонд.

**ТРА́ТТА** (іт. tratta) — *фін.* пераводны вэксаль.

**ТРАТТАРЫ́Я** (іт. trattoria) — рэстаран, карчма ў некаторых краінах Зах. Еўропы.

**ТРАТУА́Р** (фр. trottoir) — дарожка для пешаходаў (з каменных пліт, асфальту, дошак) па баках вуліцы, плошчы.

**ТРАТЫ́Л** (ад *трынітраталуол*) — тое, што і *трынітраталуол*.

**ТРА́ЎЛЕР** (англ. trawler) — марское прамысловае рыбалоўнае судна, забяспечанае глыбакаводнымі невадамі — *траламі*.

**ТРА́ЎМА** (гр. trauma = рана) — 1) пашкоджанне арганізма, выклікане раненнем, ударам, апёкам і інш.; 2) *перан.* нервовае ўзрушэнне, прыгнечанне (псіхічная т.).

**ТРАЎМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. trauma, -atos = рана + -*логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае *траўматычныя* пашкоджанні, звязаныя з імі хваробы і распрацоўвае метады іх лячэння.

**ТРАЎМАТО́ЛАГ** (ад *траўматалогія*) — спецыяліст у галіне траўматалогіі.

**ТРАЎМАТЫ́ЗМ** (ад гр. traumatizo = наношу рану) — распаўсюджанасць *траўм* сярод насельніцтва і яго асобных груп, звязаных з пэўным відам прафесіі, занятку, з якой-н. сферай дзейнасці (напр. вытворчы т., бытавы т.).

**ТРАЎМАТЫ́ЧНЫ** (гр. traumatikos) — звязаны з *траўмай*.

**ТРАФАБЛА́СТ** (ад гр. trophe = ежа + -*бласты*) — знешні слой клетак у зародкаў млекакормячых на стадыі *бластацысты*.

**ТРАФАЛА́КСІС** (ад гр. trophe = ежа + allaksis = абмен) — абмен ежай і выдзяленнямі залоз, які назіраецца ў некаторых грамадскіх жывёл, напр. у мурашак.

**ТРАФАРЭ́Т** (іт. traforetto = прадзіраўленае) — 1) пласцінка з металу, кардону, фанеры, пластмасы, у якой прарэзаны літары або малюнкі, што дазваляе лёгка наносіць іх на плакаты, сцены і г.д.; 2) *перан.* узор, якога слепа прытрымліваюцца; шаблон.

**ТРАФАФІ́Л** (ад гр. trophe = ежа + phyllon = ліст) — ліст вышэйшых раслін, які выконвае функцыю *фотасінтэзу*.

**ТРАФАЦЫ́ТЫ** (ад гр. trophe = ежа + *-цыты*) — клеткі, якія пастаўляюць пажыўныя рэчывы і пластычныя матэрыялы для іншых клетак.

**ТРАФЕ́Й** (лац. trophaeum, ад гр. tropaion = помнік перамогі) — 1) зброя і ваенная маёмасць, захопленая ў пераможанага праціўніка ў час вайны; 2) *перан.* здабыча як сведчанне поспеху ў якой-н. галіне (напр. паляўнічыя трафеі).

**ТРАФІ́ЧНЫ** (н.-лац. trophicus, ад гр. trophikos) — 1) які мае адносіны да *трофікі*; 2) звязаны з расстройствам жыўлення, абмену рэчываў (напр. т-ая язва).

**-ТРАФІЯ** (гр. trophe = ежа, жыўленне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «ежа», «жыўленне».

**ТРАХАТРО́Н** (ад гр. trochos = кола + *-трон*) — многаэлектродны электроннапраменевы прыбор з трахаідальным (гл. *трахоіда*) стужачным электронным пучком (прамянём), які фарміруецца пад дзеяннем узаемна перпендыкулярных магнітнага і электрычнага палёў.

**ТРАХАФО́РА** (ад гр. trochos = кола + phora = нашэнне) — свабоднаплаваючыя лічынка некаторых *малюскаў*, многашчацінкавых кольчатых чарвей, *эхіурыдаў* і *сіпункулідаў*.

**ТРАХЕАБАКТЭРЫЁЗЫ** (ад *трахея* + *бактэрыёз*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца фітапатагеннымі бактэрыямі, што паражаюць сасудзістую сістэму (параўн. *трахеамікозы*).

**ТРАХЕАМІКО́ЗЫ** (ад *трахея* + *-мікоз*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі, што паражаюць сасудзістую сістэму (параўн. *трахеабактэрыёзы*).

**ТРАХЕАТАМІ́Я** (ад *трахея* + *-тамія*) — хірургічнае аперыраванне трахеі з увядзеннем у яе спецыяльнай трубкі; прымяняецца пры звужэнні гартані для ўстанаўлення дыхання.

**ТРАХЕІ́ДЫ** (ад *трахея* + гр. eidos = выгляд) — доўгія вераценападобныя клеткі ў драўніне раслін, якія праводзяць ваду з растворанымі ў ёй рэчывамі.

**ТРАХЕІ́Т** (ад *трахея*) — запаленне слізістай абалонкі трахеі.

**ТРАХЕ́Й** (гр. trochaios = *літар.* які бяжыць) — тое, што і *харэй*.

**ТРАХЕЛАМО́НАС** (н.-лац. trachelomonas) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая часцей трапляецца ў вадаёмах з гумінфікаванай вадой, багатай злучэннямі жалеза.

**ТРАХЕ́Я** (гр. tracheia) — 1) дыхальнае горла ў млекакормячых і чалавека, птушак, паўзуноў, некаторых земнаводных; 2) *мн.* сасуды ў раслін, вертыкальныя рады клетак у драўніне з адтулінамі ў перагародках і адмерлай протаплазмай, па якіх перамяшчаюцца вада і раствор мінеральных солей; разам з трахеідамі складаюць *ксілему*.

**ТРАХІАНДЗЭЗІ́Т** (ад *трахіт* + *андэзіт*) — горная парода, прамеж-

кавая паміж трахітам і андэзітам, у якую як парфіравыя вылучэнні ўваходзяць *андэзін, лабрадор*, радзей *бітаўніт, біятыт, дыяпсід* і інш.

**ТРАХІБАЗА́ЛЬТ** (ад *трахіт* + *базальт*) — базальтавая горная парода, якая складаецца з *піраксену*, шчолачнага палявога *шпату, алівіну* і інш.

**ТРАХІКА́РПУС** (н.-лац. trachycarpus) — *пальма* з веерападобным лісцем, пашыраная ў субтропіках; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ТРАХІЛІ́ДЫ** (н.-лац. trachylida) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл падкласа гідроідных; прадстаўлены толькі *медузамі*.

**ТРАХІЛІ́СКІ** (н.-лац. trochiliscus) — вымерлыя шматклетачныя водарасці аддзела харавых, якія былі пашыраны ў апрэсненых водах прыбярэжных частак мораў у *палеазоі*.

**ТРАХІ́СЦЫЯ** (н.-лац. trochiscia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў глебах, *планктоне* і сярод скопішчаў ніткаватых зялёных водарасцей прэсных і саланаватых вадаёмаў.

**ТРАХІ́Т** (ад гр. trachys = шурпаты) — вулканічная горная парода зярністай структуры і светлай афарбоўкі; выкарыстоўваецца як будаўнічы матэрыял.

**ТРАХІХЛО́РАН** (н.-лац. trachychloron) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая трапляецца ў канавах, лужынах, на дне вадаёмаў, у прыбярэжным *планктоне*, на водных раслінах, у глебе.

**ТРАХО́ЗА** (н.-лац. trochosa) — павук сям. *ліказідаў* карычневай афарбоўкі, з шаравата-жоўтым брушкам, які жыве на сухіх палянах, лугах на паверхні глебы, пад камянямі.

**ТРАХО́ІДА** (гр. trochoeides, ад trochos = кола + eidos = выгляд) — *мат.* плоская крывая, якая апісваецца пунктам, звязаным з акружнасцю, што коціцца без слізгання па другой акружнасці або прамой.

**ТРАХО́МА** (гр. trachoma = шурпатасць) — хранічнае інфекцыйнае запаленне злучальнай тканкі (*кан'юнктывы*) і рагавіцы вачэй; адна з асноўных прычын слепаты.

**ТРОГ** (ням. Trog = *літар.* ночвы) — горная даліна карытападобнай формы, апрацаваная ледніком.

**ТРО́ЛІУС** (н.-лац. trollius) — травяністая расліна сям. казяльцовых з пальчата-рассечаным лісцем; расце на вільготных лясных палянах, узлесках; пярэсна.

**ТРОЛЬ** (шв. troll) — надпрыродная істота ў скандынаўскай міфалогіі (часцей волат), звычайна варожая людзям.

**ТРОМБ**[1] (гр. thrombos) — згустак крыві, які ўтвараецца ў крывяносных сасудах (гл. таксама *трамбоз*).

**ТРОМБ**[2] (іт. tromba = труба) — магутны смерч над сушай у выглядзе цёмнага слупа, што спускаецца з навальнічнай хмары; на сваім шляху робіць катастрафічныя разбурэнні (гл. *тарнада*).

**ТРОМБАКІНА́ЗА** (ад *тромб*[1] + гр. kineo = рухаю) — тое, што і *тромбапласцін*.

**ТРОМБАПЛАСЦІ́Н** (ад *тромб*[1] + гр. plastos = вылеплены) — рэчыва, якое паскарае згусанне крыві; змяшчаецца ў тканкавым соку і крывяных цельцах, бярэ ўдзел у ператварэнні *пратрамбіну* ў *трамбін*.

**ТРОМБАРТЭРЫІ́Т** (ад *тромб*[1] + *артэрыіт*) — запаленне *артэрыі*, якое суправаджаецца яе *трамбозам*.

**ТРОМБАТРАПІ́Н** (ад *тромб*[1] + гр. trope = паварот, змена) — бялок, які выпрацоўваецца ў печані, цыркулюе ў *плазме* крыві, патрэбны для ўтварэння актыўнага *тромбапласціну*.

**ТРОМБАФЛЕБІ́Т** (ад *тромб*[1] + *флебіт*) — запаленне *вены*, якое вядзе да ўтварэння тромба.

**ТРОМБАЭМБАЛІ́Я** (ад *тромб*[1] + гр. embole = укіданне) — закупорка крывяноснага сасуда часткай *тромба*, што адарваўся ад месца свайго ўтварэння і перанесены токам крыві.

**ТРО́МПЫ** (фр. trompe) — *архіт.* трохвугольныя нішападобныя скляпенні, якія выкарыстоўваюцца як пераходныя канструкцыі ад квадратнага ніжняга памяшкання да круглага або многавугольнага верхняга, да купала або яго барабана.

**ТРОН** (гр. thronos) — 1) багата аздобленае крэсла на спецыяльным узвышэнні, дзе садзіцца манарх у час афіцыйных прыёмаў і іншых урачыстых цырымоній; 2) *перан.* сімвал манархічнай улады.

**-ТРОН** [ад *(элек)трон*] — традыцыйнае завяршэнне назваў электравакуумных прыбораў і ўстройстваў.

**ТРОП** (гр. tropos) — слова або моўны выраз, ужытыя ў пераносным, вобразным значэнні (*метафара, метанімія, сінекдаха, алегорыя, гіпербала, літота*).

**ТРО́ПІКІ** [гр. tropikos (kyklos) = паваротнае кола] — 1) зямныя *паралелі*, аддаленыя ад *экватара* на 23°27′ на поўнач (Т.Рака, або паўночны т.) і на поўдзень (Т.Казярога, або паўднёвы т.); 2) гарачы пояс зямнога шара, які знаходзіцца па абодва бакі экватара паміж гэтымі паралелямі.

**-ТРОПІЯ** гл. *-трапія*.

**-ТРОПЫ, -ТРОПНЫ** (гр. trope = паварот, напрамак) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказае на сувязь з паняццямі «паварот», «змена», «пераўтварэнне».

**ТРОС** (гал. tros) — пяньковы або драцяны *канат*, таўсцейшы за 25 мм (напр. буксірны т.).

**ТРОТ** (англ. trot) — від *алюру*, кароткая рысь у каня.

**ТРОФАБІЁЗ** (ад гр. trophe = ежа + *-біёз*) — разнавіднасць *сімбіёзу*, якая назіраецца ў некаторых жывёл (напр. у мурашак, якія харчуюцца выдзяленнямі тлей).

**ТРОФАНЕЎРО́З** (ад гр. trophe = ежа + *неўроз*) — разлад жыўлення органаў і тканак арганізма ў сувязі з паражэннем вегетатыўнай нервовай сістэмы.

**ТРО́ФІКА** (ад гр. trophe = ежа) — уплыў нервовай сістэмы на харчаванне органаў і тканак, на абмен рэчываў і жыццядзейнасць арганізма.

# Т

**-ТРОФЫ, -ТРОФНЫ** (гр. trophe = ежа, жыўленне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «ежа», «жыўленне».

**ТРУБАДУ́Р** (фр. troubadour) — 1) сярэдневяковы паэт-спявак у паўднёвай Францыі, які апяваў радасці жыцця і каханне; 2) *перан.* той, хто што-н. услаўляе, прапагандуе.

**ТРУВЕ́Р** (фр. trouvere) — сярэдневяковы паэт-спявак у паўночнай Францыі, які практыкаваўся ў жанры эпічнай паэзіі.

**ТРУ́ІЗМ** (англ. truism) — агульнавядомая, збітая ісціна, банальнасць.

**ТРУК** (фр. truc) — 1) лоўкі прыём; а к р а б а т ы ч н ы т. — складаны акрабатычны нумар; 2) *перан.* лоўкі ўчынак (напр. дыпламатычны т.).

**ТРУМ** (гал. 't ruim, ад het ruim = памяшканне) — памяшканне ў корпусе судна паміж ніжняй палубай і днішчам (звычайна для грузаў).

**ТРУМО́** (фр. trumeau) — 1) высокае стаячае люстэрка; 2) *архіт.* прасценак, звычайна ўпрыгожаны арнаментам.

**ТРУНА́** (польск. truna, ад с.-в.-ням. truhe) — 1) спецыяльная скрыня, у якой хаваюць нябожчыка; 2) *перан.* пагібель, канец; л е г ч ы ў т р у н у — памерці, т. ч а к а е — пара паміраць.

**ТРУ́ПА** (фр. troupe = натоўп) — калектыў артыстаў тэатра, цырка.

**ТРУ́ФЕЛЬ** (ням. Trüffel) — 1) сумчаты грыб сям. труфелевых, які расце ў багатай перагноем глебе ў мяшаных лясах, дубровах; выкарыстоўваецца як прыправа да стравы; 2) шакаладная цукерка.

**ТРЫ́БА** (лац. tribus) — 1) кожная з трох адміністрацыйна-тэрытарыяльных акруг Стараж. Рыма; 2) *біял.* таксанамічная катэгорыя, якая займае прамежкавае становішча паміж падсямействам і родам.

**ТРЫБАЛО́ГІЯ** (ад гр. tribo = расціраю + *-логія*) — навуковая дысцыпліна, якая вывучае трэнне і знос вузлоў машын і механізмаў.

**ТРЫБАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад гр. tribo = расціраю + *люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя, якая ўзнікае пры трэнні, разломе, расцісканні некаторых цел.

**ТРЫБАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. tribo = расціраю + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння сіл трэння і зносаўстойлівасці паверхняў, якія труцца.

**ТРЫБАНЕ́МА** (н.-лац. tribonema) — ніткаватая жоўта-зялёная водарасць сям. трыбанемавых, якая пашырана пераважна ў прыбярэжнай зоне вадаёмаў на водных раслінах, камянях, часам у глебе.

**ТРЫБАЭЛЕКТРЫ́ЧНАСЦЬ** (ад гр. tribo = расціраю + *электрычнасць*) — узнікненне электрычных зарадаў пры трэнні двух цел адно аб другое.

**ТРЫБРА́ХІЙ** (гр. tribrachys, ад treis = тры + brachys = кароткі) — стапа з трох кароткіх складоў у антычным вершаскладанні.

**ТРЫБУ́Н** (лац. tribunus) — 1) службовая асоба ў Стараж. Рыме, абавязкам якой была абарона правоў *плебеяў*; 2) *перан.* бліскучы

прамоўца, публіцыст, грамадскі дзеяч.

**ТРЫБУ́НА** (с.-лац. tribuna) — 1) узвышэнне для прамоўцы; 2) збудаванне з паступовым узвышэннем радоў з месцамі для публікі, напр. на стадыёне; 2) *перан.* месца, сфера ажыццяўлення чыёй-н. грамадскай дзейнасці.

**ТРЫБУНА́Л** (лац. tribunal = судзілішча) — 1) апеляцыйны суд, які існаваў з 16 ст. у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы; 2) надзвычайны суд часоў Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.; 3) надзвычайны судовы орган па разгляду ваенных злачынстваў, а таксама пасяджэнне гэтага органа.

**ТРЫБУНА́Т** (лац. tribunatus) — урад, годнасць, улада старажытнарымскага *трыбуна*.

**ТРЫ́ВІУМ** (лац. trivium, ад tres = тры + via = шлях) — тры гуманітарныя навукі — *граматыка, рыторыка* і *дыялектыка*, якія былі асноўнымі прадметамі ў сярэдневяковых універсітэтах.

**ТРЫВІЯ́ЛЬНЫ** (фр. trivial, ад лац. trivialis = які знаходзіцца на скрыжаванні дарог) — пошлы, збіты, пазбаўлены свежасці і арыгінальнасці (напр. т. жарт).

**ТРЫГАНА́ЛЬНЫ** (лац. trigonalis, ад гр. trigonon = трохвугольнік) — трохвугольны; т-ая сістэма — сістэма, крышталі якой маюць формы *пірамiды, прызмы*.

**ТРЫГАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. trigonon = трохвугольнік + *-метрыя*) — раздзел *геаметрыі*, які вывучае суадносіны паміж старанамі і вугламі трохвугольніка.

**ТРЫГАТРО́Н** (ад англ. trigger = пускавое ўстройства + *-трон*) — трохэлектродны газаразрадны прыбор з халодным *катодам* і кіруемым іскравым разрадам, які выкарыстоўваецца ў якасці *камутатара* ў розных устройствах.

**ТРЫ́ГЕР** (англ. trigger) — устройства, якое можа доўга знаходзіцца ў адным з двух станаў устойлівай раўнавагі і пераключацца з аднаго стану ў другі скачком па знешнім сігнале; выкарыстоўваецца ў якасці элемента памяці ў лічбавых вылічальных машынах, у *электроніцы* і інш.

**ТРЫГЛІ́Ф** (гр. triglyphos, ад treis = тры + glypho = рэжу) — прамавугольная каменная пліта з трыма вертыкальнымі жалабкамі, размешчаная паміж двума *метопамі* ў *фрызе*[1] 1 дарычнага *ордэра* 2.

**ТРЫГО́Н** (гр. trigonon) — трохвугольнік.

**ТРЫГО́НІЯ** (н.-лац. trigonia, ад гр. trigonon = трохвугольнік) — *малюск* класа двухстворкавых, які жыве ў мелкаводных участках мораў, што амываюць Малайскі архіпелаг.

**ТРЫГОНАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *трыгон* + гр. kephale = галава) — клінападобная форма галавы, якая характарызуецца расшырэннем патылічнай і звужэннем лобнай часткі.

**ТРЫДА́КНА** (н.-лац. tridacna) — буйны *малюск* класа двухстворкавых, які жыве сярод каралавых рыфаў у цёплых водах Індыйскага і Ціхага акіянаў.

**ТРЫДЫМІ́Т** (ад гр. tridymos = трайны) — мінерал класа *сіліка-*

*таў* белага, шаравата-белага колеру, часам бясколерны; выкарыстоўваецца як вогнетрывалы матэрыял.

**ТРЫЕНАФАРО́З** (ад *трыенафарыды*) — глісная хвароба драпежных рыб, якая выклікаецца трыенафарыдамі.

**ТРЫЕНАФАРЫ́ДЫ** (н.-лац. triaenophoridae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, паразітуюць у кішэчніку шчупакоў.

**ТРЫ́ЕР** (фр. trieur) — машына для ачысткі і сарціроўкі насення.

**ТРЫЕ́РА** (гр. trieres) — ваенны карабель з трыма радамі вёслаў, размешчаных адно над другім, у старажытных грэкаў (параўн. *трырэма*).

**ТРЫЁД** (гр. triodos = трохдарожжа) — электронная лямпа з трыма *электродамі*.

**ТРЫЁДМЕТАН** (ад *трыёд* + *метан*) — тое, што і *ёдаформ*.

**ТРЫЁДЗЬ** (ад гр. tri = трох + ode = песня) — хрысціянская богаслужэбная кніга, у якой змешчаны трохпесенныя каноны.

**ТРЫЁЛЬ** (ням. Triole, ад іт. trio = трыо) — трохдольная рытмічная фігура ў музыцы двухдольнага размеру, група з трох нот, роўная па працягласці дзвюм звычайным нотам таго ж напісання.

**ТРЫЗМ** (гр. trismos = скрыгатанне) — сутаргавае сцісканне сківіц, якое ўзнікае пры *эпілепсіі, менінгіце* і іншых хваробах цэнтральнай нервовай сістэмы.

**ТРЫКАТА́Ж** (фр. tricotage) — тканіна машыннай вязкі, а таксама вырабы з яе.

**ТРЫКАЦІ́Н** (фр. tricotine) — тканіна, якая сваім вырабам нагадвае *трыкатаж*.

**ТРЫКЛА́ДЫЙ** (н.-лац. tricladium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца ў чыстай прэснай вадзе на гнілым лісці пераважна дрэвава-кустовых парод, радзей на іншым раслінным субстраце.

**ТРЫКЛІ́НІЙ** (лац. triclinium, ад гр. triklinon) — абедзенны стол з ложамі з трох бакоў для ляжання ў час яды, а таксама сталовая ў старажытнарымскім доме.

**ТРЫКЛІ́ННЫ** (ад гр. tri = трох + klino = нахіляю); т а я  с і с т э м а — адна з крышталеграфічных сістэм, якая аб'ядноўвае два віды *сіметрыі*.

**ТРЫКО́** (фр. tricot) — 1) шарсцяная, паўшарсцяная або баваўняная тканіна з узорным пляценнем для верхняга адзення; 2) трыкатажнае адзенне, якое шчыльна аблягае цела (напр. гімнастычнае т.).

**ТРЫКТРА́К** (фр. trictrac) — гульня, у якой двое гульцоў перасоўваюць па дошцы шашкі насустрач адзін другому адпаведна ачкам, што выпалі на падкідным кубіку.

**ТРЫЛАБІ́ТЫ** (н.-лац. trilobita, ад гр. tri = трох + lobos = частка) — клас вымерлых марскіх членістаногіх з целам, пакрытым панцырам, якія жылі ў *палеазоі*.

**ТРЫЛАТЭРА́ЦЫЯ** (ад гр. tri = трох + лац. lateralis = бакавы) — метад вызначэння апорных геадэзічных пунктаў, які заключаецца ў пабудове на мясцовасці сеткі паслядоўна звязаных паміж сабой

трохвугольнікаў і вымярэнні ў кожным з іх усіх трох старон.

**ТРЫЛЕ́МА** (ад гр. tri = трох + lemma = падстава) — *лог.* 1) суджэнне, у якім прадмету прыпісваюцца тры прыкметы, што выключаюць адна адну; 2) від *сілагізма*, калі ўмоўная пасылка прадугледжвае залежнасць ад асновы не аднаго, а трох заключэнняў, якія выключаюць адно аднаго.

**ТРЫ́ЛЕР** (ад англ. trill = хвалянне) — кніга, радыё- або тэлеперадача, кінафільм, мэта якіх зрабіць эфект моцнага хвалявання, страху.

**ТРЫЛО́ГІЯ** (гр. trilogia) — тры літаратурныя або музычныя творы аднаго аўтара, звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю зместу.

**ТРЫЛЬЁН** (фр. trillion) — лік (і колькасць), роўны тысячы мільярдаў, які на пісьме перадаецца як адзінка з 12 нулямі.

**ТРЫМАРА́Н** [ад гр. tri = трох +*(ката) маран*] — яхта з трыма кілямі.

**ТРЫ́МЕР** (англ. trimmer) — 1) пераcоўная пагрузачная машына для сыпкіх грузаў, якая адкідае іх убок на адлегласць да 30 м; 2) электрычны *кандэнсатар* пераменнай ёмістасці, які выкарыстоўваецца для настройкі контураў высокай частаты ў радыёапаратуры.

**ТРЫМЕ́СТР** (лац. trimestris = трохмесячны, ад tres = тры + mensis = месяц) — частка навучальнага года працягласцю тры месяцы ў вышэйшых навучальных установах ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах.

**ТРЫМЕ́ТР** (гр. trimetron, ад treis = тры + metron = мера) — трохстопны верш любога памеру (*ямб, харэй, дактыль*).

**ТРЫНІТРАТАЛУО́Л** (ад гр. tri = трох + nitron = салетра + *талуол*) — выбуховае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для артылерыйскіх снарадаў, мін, авіябомб і на падрыўных работах.

**ТРЫНІТРАФЕНО́Л** (ад гр. tri = трох + nitron = салетра + *фенол*) — арганічнае злучэнне *араматычнага* рада, выбуховае рэчыва ў форме крышталёў жоўтага колеру, якое з-за шкоднасці вытворчасці і прымянення заменена іншымі выбуховымі рэчывамі, у асноўным *тратылам*; пікрынавая кіслата.

**ТРЫНО́М** (ад гр. tri = трох + *-ном*[1]) — алгебраічны выраз, які складаецца з трох адначленаў, злучаных знакамі плюс або мінус.

**ТРЫ́О** (іт. trio) — 1) інструментальны, вакальны або вакальна-інструментальны ансамбль з трох выканаўцаў, кожны з якіх выступае з самастойнай партыяй; 2) музычны твор для трох галасоў або інструментаў.

**ТРЫП** (фр. tripe) — шарсцяная або баваўняная варсістая тканіна, падобная да *аксаміту*.

**ТРЫПАДЫ́Я** (гр. tripodia) — рытмічная група, якая складаецца з трох стоп у вершы.

**ТРЫПАНАСАМО́ЗЫ** (ад гр. trypanon = свярдзёлак + *сома*) — хваробы чалавека і жывёл, якія выклікаюцца *трыпанасомамі* (напр. сонная хвароба, хвароба Шагаса); у людзей трапляюцца пе-

раважна ў Афрыцы і Паўд. Амерыцы.

**ТРЫПАНАСО́МЫ** (н.-лац. trypanosoma, ад гр. trypanon = свярдзёлак + soma = цела) — група прасцейшых класа жгуцікавых; пашыраны пераважна ў тропіках і субтропіках, паразітуюць у крыві чалавека і жывёл.

**ТРЫ́ПЕР** (ням. Tripper) — тое, што і *ганарэя*.

**ТРЫПЛА́Н** (ад гр. tri = трох + *-план*) — самалёт з трыма плоскасцямі крылаў, размешчанымі паралельна адна над другой па абодва бакі фюзеляжа (параўн. *біплан, маноплан*).

**ТРЫ́ПЛЕКС** (лац. triplex = трайны) — 1) безасколачнае шкло, якое складаецца з двух лістоў звычайнага шкла і слою пракладкі з празрыстай пластмасы паміж імі; 2) канструкцыя, састаў або працэс, якія складаюцца з трох самастойных частак, элементаў, стадый.

**ТРЫ́ПЛЕКС-ПРАЦЭ́С** (ад *трыплекс* + *працэс*) — выраб сталі паслядоўна ў трох плавільных агрэгатах.

**ТРЫПЛЕ́Т** (ад фр. tripler = утройваць, ад лац. triplex = трайны) — 1) сістэма, устройства, якія характарызуюцца наяўнасцю трох частак; 2) трэці экзэмпляр якой-н. рэчы (пераважна рэдкай); 3) удар у більярднай гульні, пры якім шар трапляе ў цэль, адскочыўшы спачатку ад аднаго, потым ад другога борта; 4) тое, што і *кадон*.

**ТРЫПЛІКА́Т** (англ. triplicate) — трэці экзэмпляр гандлёвага распарадчага дакумента.

**ТРЫПЛО́ІД** (ад гр. triploos = трайны + *-оід*) — раслінны арганізм, які змяшчае тры поўныя наборы гамалагічных *храмасом*.

**ТРЫПО́ЛІУМ** (н.-лац. tripolium) — травяністая расліна сям. складанакветных з прадаўгаватым лісцем і шматлікімі кветкавымі кошыкамі; расце ўздоўж чыгунак, на пустках.

**ТРЫПСІ́Н** (ад гр. tripsis = расціранне) — стрававальны *фермент* чалавека і жывёл, які змяшчаецца ў соку падстраўнікавай залозы і ўдзельнічае ў расшчапленні бялкоў.

**ТРЫ́ПСЫ** (ад гр. thrips = шашаль) — атрад насякомых з пузырападобнымі прысоскамі на нагах; жывуць на раслінах, пад апалым лісцем, у грунце, жывяцца сокамі раслін; пузыраногія, махрыстыя.

**ТРЫПТАФА́Н** (ад гр. triptychos = трайны + phanos = светлы, яскравы) — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад многіх бялкоў; з'яўляецца базай для сінтэзу нікацінавай кіслаты.

**ТРЫ́ПТЫХ** (гр. triptychos = трайны) — 1) твор мастацтва з трох карцін, барэльефаў, малюнкаў, аб'яднаных адзінай задумай і выкананых у адным стылі; 2) паэтычны твор з трох адносна самастойных вершаў, аб'яднаных агульнай задумай; 3) трохстворкавы складзень (складны абраз).

**ТРЫРЭ́МА** (лац. triremis = які мае тры рады вёсел) — ваеннае судна з трыма радамі вёсел, размешчаных адно над другім, у старажытных рымлян (параўн. *трыера*).

**ТРЫСЕ́КЦЫЯ** (ад лац. tri = на тры часткі + sectio = рассяканне) — падзел чаго-н. на тры часткі; т. в у г л а — вядомая задача антычнай матэматыкі аб падзеле дадзенага вугла на тры роўныя часткі.

**ТРЫ́СЕЛЬ** (англ. trysail) — косы трохвугольны або чатырохвугольны парус, які ставіцца ззаду мачты.

**ТРЫТАГАНІ́СТ** (ад гр. tritos = трэці + agonistes = акцёр) — трэці з трох акцёраў у старажытнагрэчаскім тэатры, выканаўца другарадных роляў (параўн. *дэйтэрагані́ст, пратагані́ст*).

**ТРЫТАМА́РЫЯ** (н.-лац. tritomaria) — пячоначны мох сям. лафозіевых, які расце на пясчанай глебе, на лясных балотах.

**ТРЫТО́Н**[1] (гр. triton, ад Triton = імя сына бога мора Пасейдона, які, паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, меў чалавечае цела і хвост яшчаркі) — хвастатая земнаводная жывёла сям. саламандравых, падобная да яшчаркі.

**ТРЫТО́Н**[2] (фр. triton, ад гр. tritonos = складзены з трох тонаў) — *муз. інтэрвал*, які мае аб'ём у тры *тоны* (павялічаная *кварта* або паменшаная *квінта*).

**ТРЫТО́Н**[3] (ад *трытый*) — ядро атама трытыю.

**ТРЫ́ТЫЙ** (н.-лац. tritium, ад гр. tritos = трэці) — цяжкі радыеактыўны *ізатоп* вадароду, ядро якога складаецца з *пратона* і двух *нейтронаў*.

**ТРЫУМВІ́Р** (лац. triumvir, ад tres, trium = тры + vir = мужчына) — удзельнік *трыумвірату*.

**ТРЫУМВІРА́Т** (лац. triumviratus, ад tres, trium = тры + vir = муж) — 1) саюз трох палітычных дзеячаў у Старaж. Рыме перыяду заняпаду рэспублікі (1 ст. да н.э.), якія імкнуўся захапіць вярхоўную ўладу; 2) *перан.* тры асобы, якія аб'ядналіся для сумеснай дзейнасці.

**ТРЫУ́МФ** (лац. triumphus) — 1) урачыстая сустрэча палкаводцапераможцы ў Старaж. Рыме; 2) бліскучы поспех, урачыстасць з выпадку выдатнай перамо́гі.

**ТРЫУМФАВА́ЦЬ** (лац. triumphare) — радавацца, весяліцца з прычыны перамогі над кім-н., з повадупоспеху ў чым-н.

**ТРЫУМФА́ЛЬНЫ** (лац. triumphalis) — 1) урачысты, пераможны, які праходзіць з незвычайным уздымам (напр. т-ае пэсце); 2) збудаваны ў гонар якой-н. перамогі, урачыстасці (напр. т-ая арка).

**ТРЫУМФА́ТАР** (лац. triumphator) — 1) палкаводзец-пераможца, якога ўрачыста сустракалі ў Старaж. Рыме; 2) *перан.* той, хто дасягнуў бліскучага поспеху, выдатнай перамогі.

**ТРЫФАЛІЯ́ТА** (ад лац. tres = тры + foliatus = ліcтковы) — дрэвавая або кустовая расліна сям. рутавых, якая выкарыстоўваецца як прышчэпа для ўсіх цытрусавых, а таксама для стварэння жываплотаў.

**ТРЫФО́ЛЬ** (ад лац. tres = тры + folium = ліст) — водная ці балотная травяністая расліна з паўзучым карэнішчам і трайчастым лісцем, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне як жаўцягонны сродак; бабок.

# Т

**ТРЫФО́РЫЙ** (п.-лац. triforium) — вузкая падоўжная галерэя над бакавымі *нефамі* ў раманскай і гатычнай архітэктуры, адкрытая ў цэнтральны неф трайнымі або двайнымі арачнымі праёмамі.

**ТРЫФРА́ГМІЙ** (н.-лац. triphragmium) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на вятроўніку вязалістым.

**ТРЫФТО́НГ** (гр. triphthongos, ад tri = трох + phthongos = галосны гук) — спалучэнне трох галосных гукаў у адным складзе.

**ТРЫХАБАКТЭ́РЫІ** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *бактэрыі*) — ніткаватыя бактэрыі.

**ТРЫХАБЛА́СТЫ** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *-бласты*) — клеткі *эпідэрміса* кораня, з якіх утвараюцца каранёвыя валаскі.

**ТРЫХАГЛО́С** (н.-лац. trichoglossum) — сумчаты грыб сям. геагласавых, які трапляецца на балотах і забалочаных лугах.

**ТРЫХАГРА́МА** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *-грама*) — насякомае сям. *трыхаграматыдаў*, паразіт (яйцаед) іншых насякомых; выкарыстоўваецца ў біялагічнай барацьбе са шкоднікамі сельскагаспадарчых культур.

**ТРЫХАГРАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. trichogrammatidae) — сямейства насякомых надсямейства *хальцыдаў*; паразіты (яйцаеды) многіх насякомых і павукоў; выкарыстоўваюцца ў біялагічнай барацьбе са шкоднікамі сельскагаспадарчых культур.

**ТРЫХАДЗІ́НА** (н.-лац. trichodina) — прасцейшае атрада кругараснічных інфузорый; пашырана ў прэсных і марскіх вадаёмах; паразітуе на скуры, плаўніках і жабрах рыб.

**ТРЫХАДЗІНО́ЗЫ** (ад *трыхадзіна*) — інвазійныя хваробы рыб, якія выклікаюцца трыхадзінамі.

**ТРЫХАДЭ́РМА** (н.-лац. trichoderma) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на багатай арганічнымі рэшткамі глебе.

**ТРЫХАКАЛЕ́Я** (н.-лац. trichocolea) — пячоначны мох сям. трыхакалеевых, які трапляецца на глебе ў сырых і забалочаных яловых лясах.

**ТРЫХАКЛА́ДЫЯ** (н.-лац. trichocladia) — сумчаты грыб сям. мучністарасяных, які развіваецца на раслінах сям. бабовых.

**ТРЫХАЛО́МА** (н.-лац. tricholoma) — шапкавы *базідыяльны* грыб з групы *гіменаміцэтаў*, які расце на пнях, глебе ў лясах.

**ТРЫХАМАНА́ДА** (н.-лац. trichomonas, ад гр. trichoma = валасы) — прасцейшае класа жгуцікавых; паразітуе ў мочапалавых шляхах буйной рагатай жывёлы і чалавека, страваваальным тракце свіней, індыкоў, галубоў.

**ТРЫХАМАНО́З** (ад *трыхаманада*) — інвазійная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца трыхаманадамі.

**ТРЫХАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. trychomyces, ад гр. thriks, -ichos = волас + mykes, -etos = грыб) — клас ніжэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне *канідыямі* і *зіготамі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *паразіты*; трыхаміцэтавыя грыбы.

**ТРЫХАПЕЦЫ́ЦА** (н.-лац. trichopeziza) — сумчаты грыб сям. гіяласцыфавых, які развіваецца пераважна на адмерлым лісці травяністых раслін.

**ТРЫХАПТЭ́РА** (н.-лац. trichoptera) — атрад насякомых; жывуць на сушы каля вады, вечарам масай кружацца над вадой каля берагоў; шыцікі.

**ТРЫХАСПАРЫ́Я** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *спора*) — заразная грыбковая хвароба, якая паражае валасы з утварэннем на іх цвёрдых вузялкоў.

**ТРЫХАСТРАНГІЛЁЗ** (ад *трыхастрангіліды*) — глісная хвароба траваедных жывёл і птушак, якая выклікаецца трыхастрангілідамі.

**ТРЫХАСТРАНГІЛІ́ДЫ** (н.-лац. trichostrongylidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, жывуць у страўніку жвачных, чалавека і птушак.

**ТРЫХАТАМІ́Я** (ад гр. tricha = на тры часткі + *-тамія*) — падзел цэлага на тры часткі (параўн. *дыхатамія*).

**ТРЫХАТЭ́ЦЫЙ** (н.-лац. trichothecium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на глебе, гнілой драўніне і іншых раслінных рэштках.

**ТРЫХАФЕ́Я** (н.-лац. trichophaea) — сумчаты грыб сям. піранемавых, які развіваецца на адмерлых травяністых раслінах сям. злакавых і бабовых.

**ТРЫХАФІТО́Н** (н.-лац. trichophyton) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца ў глебе, выклікае ў чалавека і жывёл грыбковыя хваробы.

**ТРЫХАФІ́ТЫ** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *-фіты*) — расліны, якія выкарыстоўваюць у асноўным ваду глебы (параўн. *амбрафіты*).

**ТРЫХАФІТЫ́Я** (ад гр. thriks, -ichos = волас + phyton = расліна) — інфекцыйная грыбковая хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца *трыхафітонам*; пашкоджвае скуру, валасы, ногці; стрыгучы лішай.

**ТРЫХАЦЫ́СТЫ** (ад гр. thriks, -ichos = волас + *цыста*) — *арганелы* многіх *інфузорый* і некаторых жгуцікавых, здольныя выкідаць нітку з вастрыём на канцы для абароны або нападу.

**ТРЫХАЦЭФАЛЁЗ** (ад гр. thriks, -ichos = волас + kephale = галава) — глісная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца *трыхацэфалідамі*.

**ТРЫХАЦЭФАЛІ́ДЫ** (н.-лац. trichocepholidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у тоўстым кішэчніку жывёл і чалавека; валасагаловы.

**ТРЫХІ́НА** (н.-лац. trichina, ад гр. trichinos = валасяны) — *гельмінт* класа *нематодаў*, лічынкі якога паразітуюць у мышцах свіней і іншых жывёл і з мясной ежай перадаюцца чалавеку.

**ТРЫХІНЕ́ЛА** (н.-лац. trichinella) — тое, што і *трыхіна*.

**ТРЫХІНЕЛЁЗ** (ад *трыхінела*) — тое, што і *трыхіноз*.

**ТРЫХІНО́З** (н.-лац. trichinosis, ад гр. trichinos = валасяны) — глісная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца *трыхінамі*.

**ТРЫ́ХІЯ** (н.-лац. trichia) — слізявік сям. трыхіевых, які развіваецца

на адмерлай драўніне, апалых сухіх галінках і лісці, на моху і на лішайніках.

**ТРЫХІЯ́З** (ад гр. thriks, -ichos = волас) — няправільны рост веек у бок вочнага яблыка, у выніку чаго яны траўміруюць вока.

**ТРЫХО́МЫ** (гр. trichoma = валасы) — выраcты *эпідэрмісу* ў раслін у выглядзе валаскоў, шчацінак і інш.

**ТРЫХО́РД** (ад гр. tri = трох + *-хорд*) — гукарад з трох гукаў у межах *тэрцыі* або *кварты*.

**ТРЫЦІКА́ЛЕ** [ад лац. triticum = пшаніца + (se)cale = жыта] — збожжавая культура, якая з'яўляецца *гібрыдам* пшаніцы і жыта.

**ТРЫЦЫ́КЛ** (ад гр. tri = трох + kyklos = кола) — трохколавы веласіпед, аўтамабіль.

**ТРЫ́ЦЭПС** (лац. triceps = трохгаловы, ад tres = тры + caput = галава) — *анат.* трохгаловая мышца (пляча, голені).

**ТРЫЦЭРА́ТАПС** (ад гр. tri = трох + keras, -atos = рог + ops = твар) — вымерлы паўзун з падатрада рагатых *дыназаўраў*, які жыў у *мезазоі*.

**ТРЫЭ́ДР** (ад гр. tri = трох + *-эдр*) — *мат.* сістэма трох *вектараў*, якія выходзяць з аднаго пункта і не ляжаць у адной плоскасці.

**ТРЫЯ́ДА** (лац. trias, -adis, ад гр. trias, -ados = тройца, траістасць) — 1) адзінства, утворанае трыма асобнымі часткамі, элементамі; 2) філасофскае паняцце, якое азначае траісты рытм руху быцця і мыслення (напр. дыялектычная т.).

**ТРЫЯ́Ж** (фр. triage) — звычай і права ў феадальнай Францыі, паводле якога *сеньёр*[1] мог патрабаваць выдзялення яму часткі абшчынных угоддзяў.

**ТРЫЯЛЕ́Т** (фр. triolet) — верш з васьмі радкоў, дзе аднолькавымі з'яўляюцца першы, чацвёрты і сёмы радкі, а таксама другі і восьмы, пры гэтым ужываюцца толькі дзве рыфмы.

**ТРЫЯНГУЛЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. triangulatio, ад лац. triangulum = трохвугольнік) — метад геадэзічных вымярэнняў на мясцовасці пры дапамозе сістэмы трохвугольнікаў.

**ТРЫЯ́С** (гр. trias = тройца, траістасць) — першы з трох перыядаў *мезазою* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, які пачаўся 230 млн. гадоў таму назад і працягваўся 35 млн. гадоў.

**ТРЫЯ́САВЫ** (ад гр. trias = тройца, траістасць); т. **п е р ы я д** — тое, што і *трыяс*.

**ТРЭБУ́КСІЯ** (н.-лац. trebouxia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. барадынелавых, якая існуе пераважна як *фікабіёнт* лішайнікаў, некаторыя віды трапляюцца ў вільготных месцах на кары дрэў.

**ТРЭГАЛО́ЗА** (англ. trehalose, фр. trehalose, з тур.) — дыцукрыд, утвораны дзвюма рэшткамі глюкозы.

**ТРЭ́ДЖЭН** (англ. trudgen) — спосаб плавання вольным стылем, які па тэхніцы нагадвае *кроль*.

**ТРЭД-ЮНІЁНЫ** (англ. trade-unions, ад trade = рамяство, прафесія + union = аб'яднанне, саюз) — прафесіянальныя саюзы ў Англіі, якія на аснове калектыўнага членства ўваходзяць у лейбарысцкую партыю.

**ТРЭД-ЮНІЯНІ́ЗМ** (англ. trade-unionism) — плынь у рабочым руху, якая лічыць сваёй задачай барацьбу за ажыццяўленне эканамічных патрабаванняў рабочых, не закранаючы асноў капіталізму.

**ТРЭЙБА́РЫЯ** (н.-лац. treubaria) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. трэйбарыевых, якая пашырана ў *планктоне* і *бентасе* прэсных вадаёмаў.

**ТРЭ́ЙДЭР** (англ. trader) — 1) прадстаўнік брокера, які прымае заказы ад імя фірмы на продаж і куплю; 2) работнік брокерскай фірмы, які непасрэдна выконвае заказы кліентаў на куплю-продаж акцый у гандлёвай зале біржы.

**ТРЭ́ЙЛЕР** (англ. trailer, ад trail = цягнуць) — 1) прычэп для перавозкі цяжкіх грузаў; 2) цягач з прычапнымі вазкамі.

**ТРЭК** (англ. track) — 1) спартыўнае збудаванне з кругавой трасай для трэніровак і спаборніцтваў па вела- і мотаспорту; 2) *фіз.* след, які пакідае зараджаная часціца ў рэчыве.

**ТРЭЛЬ** (іт. trillo) — 1) *муз.* пералівістае дрыжачае гучанне, якое ўтвараецца хуткім чаргаваннем двух суседніх тонаў (гл. *мелізмы*); 2) пералівістыя гукі; частыя гукі.

**ТРЭЛЬЯ́Ж** (фр. treillage) — 1) трохстворкавае люстэрка; 2) тонкая агароджа, увітая павойнымі раслінамі.

**ТРЭ́МА** (фр. trema; ад гр. trema = пункт) — дзве кропкі над літарай, што абазначае галосны гук, у пісьменнасцях некаторых еўрапейскіх моў (напр. у французскай), якія паказваюць, што гук трэба вымаўляць асобна ад папярэдняга галоснага гуку.

**ТРЭ́МАЛА** (іт. tremolo) — *муз.* хуткае паўтарэнне аднаго гуку, а таксама чаргаванне некалькіх не суседніх гукаў асобна або ў акордах.

**ТРЭМАЛА́НДА** (іт. tremolando) — *муз.* выкананне *трэмала*.

**ТРЭМАЛІ́Т** (ад ням. Tremola = назва даліны ў Швейцарыі) — мінерал класа *сілікатаў* белага або шаравата-белага колеру; выкарыстоўваецца пераважна ў хімічнай прамысловасці.

**ТРЭ́МАР** (лац. tremor) — дрыжанне, якое адзначаецца ва ўсім целе або яго частках, павеках пры некаторых нервовых захворваннях, хранічным алкагалізме.

**ТРЭМАТАДО́ЗЫ** (ад *трэматоды*) — глісныя хваробы чалавека і жывёл, якія выклікаюцца трэматодамі.

**ТРЭМАТАДО́Н** (н.-лац. trematodon) — лістасцябловы мох сям. дыкрынавых, які расце на глiністай і тарфяністай глебах на схілах лугавых канаў, берагах рэк, азёр і балот.

**ТРЭМАТО́ДЫ** (н.-лац. trematoda, ад гр. trematodes = дзіравы) — клас плоскіх чарвей; арганізмы з лістападобным целам даўжынёй ад 0,1 мм да 1,5 м, якія ўсмоктваюць ежу праз ротавую адтуліну; паразіты рыб, земнаводных, паўзуноў, млекакормячых і чалавека; смактуны.

**ТРЭМЕЛАДО́Н** (н.-лац. tremellodon) — *базідыяльны* грыб сям. дрыжалкавых, які развіваецца на

пнях і адмерлай драўніне хвойных парод.

**ТРЭН** (фр. traine) — тое, што і *шлейф* 1.

**ТРЭНА́Ж** (ад англ. train = выхоўваць, навучаць) — трэніроўка, а таксама комплекс практыкаванняў для трэніроўкі.

**ТРЭНАЖО́Р** (ад *трэнаж*) — вучэбна-трэніровачнае прыстасаванне для выпрацоўкі навыкаў і ўдасканалення тэхнікі кіравання машынай пры падрыхтоўцы лётчыкаў, касманаўтаў, шафёраў.

**ТРЭНД** (англ. trend) — 1) працяглая, працяглая тэндэнцыя змены эканамічных паказчыкаў у эканамічным прагназіраванні; 2) пераважная накіраванасць развіцця грамадскай думкі, стылю ў модзе і г.д.

**ТРЭ́НЕР** (англ. trainer, ад train = выхоўваць, навучаць) — спецыяліст, які вучыць якому-н. віду спорту ці ўдасканальвае ў ім.

**ТРЭ́НЗЕЛЬ** (ням. Trense) — металічныя *цуглі*, пры дапамозе якіх кіруюць канём, націскаючы на язык і куткі рота.

**ТРЭ́НІНГ** (англ. training) — трэніроўка, а таксама выкананне спецыяльнага трэніровачнага рэжыму (напр. т. плыўцоў, т. коней).

**ТРЭНІРАВА́ЦЬ** (ад англ. train = выхоўваць, навучаць) — 1) праводзіць сістэматычныя практыкаванні, каб навучыць каго-н. чаму-н. (напр. т. футбалістаў); 2) практыкуючы, развіваць што-н. (напр. т. памяць).

**ТРЭНТЭПО́ЛІЯ** (н.-лац. trentepohlia) — ніткаватая зялёная водарасць сям. трэнтэполіевых, якая трапляецца на кары дрэў, сцёблах і лісці кустоў і травяністых раслін, на вільготных валунах і скалах.

**ТРЭПА́Н** (фр. trépan < с.-лац. trepanum, ад гр. trypanon = свярдзёлак) — хірургічны інструмент для свідравання косці пры *трэпанацыі*.

**ТРЭПАНАВА́ЦЬ** (фр. trepaner, ад гр. trypao = свідрую) — рабіць *трэпанацыю*.

**ТРЭПАНА́ЦЫЯ** (фр. trepanation, ад с.-лац. trepanum < гр. trypanon = свярдзёлак) — хірургічная аперацыя, звязаная з ускрыццём якой-н. касцявой поласці (напр. т. чэрапа).

**ТРЭПА́НГ** (малайск. tripang) — марская беспазваночная жывёла тыпу іглаckурых, мяса якой ужываецца ў ежу ў свежым або салёна-вэнджаным выглядзе.

**ТРЭПАСТАМА́ТЫ** (н.-лац. trepostomata) — атрад вымерлых галаротых імшанак, якія жылі ў *ардовіку — трыясе*.

**ТРЭ́ПЕЛ** (ням. Tripel, ад Tripoli = назва горада ў Лівіі) — асадачная горная парода белага, светла-шэрага або светла-жоўтага колеру, якая складаецца пераважна з апалу і панцыраў *дыятамей*; выкарыстоўваецца ў будаўніцтве, у нафтавай прамысловасці.

**ТРЭСТ** (англ. trust) — 1) адна з форм арганізацыі прадпрыемстваў, звязаных аднароднасцю прадукцыі або рознымі стадыямі перапрацоўкі сыравіны (напр. будаўнічы т.); 2) манапалістычнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пад адным кіраўніцтвам.

**ТРЭФ** (ст.-яўр. terēfā = нячыстая яда) — недазволеная іудзейскай рэлігіяй страва.

**ТРЭ́ФЫ** (фр. trefle) — картачная масць з малюнкам чорнага крыжыка ў выглядзе трылісніку.

**ТРЭХІСПО́РА** (н.-лац. trechispora) — губавы *базідыяльны* грыб сям. картыцыевых, які расце на адмерлай драўніне лісцевых і хвойных дрэў.

**ТРЭЦІ́РАВАЦЬ** (ням. traitieren, ад фр. traiter = абыходзіцца) — абыходзіцца з кім-н. пагардліва, звысоку.

**ТРЭЧЭ́НТА** (іт. trecento = трыста) — мастацтвазнаўчы і філалагічны тэрмін для абазначэння італьянскай культуры 14 ст., якая падрыхтавала Адраджэнне (параўн. *протарэнесанс*).

**ТРЭШКО́УТ** (гал. trekschuit) — невялікае драўлянае бяспалубнае рачное судна.

**ТСУ́ГА** (н.-лац. tsuga, ад яп. tsuga) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. сасновых, пашыранае ва Усх. Азіі, Гімалаях, Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ТУА́З** (фр. toise) — адзінка даўжыні ў Францыі, роўная 1,949 м.

**ТУАЛЕ́Т** (фр. toilette, ад toile = палатно) — 1) убранне, адзенне (напр. модны т.); 2) прывядзенне ў належны стан свайго выгляду (умыванне, адзяванне, прычэсванне); 3) столік з люстэркам, за якім прычэсваюцца і інш.; 4) прыбіральня.

**ТУАЛЬДЭНО́Р** (фр. toile de nord, ад toile = палатно + nord = поўнач) — лёгкая баваўняная тканіна палатнянага перапляцення шэрага колеру для верхніх мужчынскіх рубашак, спецвопраткі і інш.

**ТУАТА́РА** (ад палінез. tua = на адваротным баку + tara = перпендыкуляр) — тое, што і *гатэрыя*.

**ТУ́БА** (лац. tuba = труба) — 1) медны духавы музычны інструмент самага нізкага рэгістра, які складаецца з шматразова сагнутай трубкі і раструба; 2) тое, што і *цюбік*.

**ТУБАФО́Н** (ад *туба* + *-фон*) — ударны музычны інструмент эстрадных аркестраў, які складаецца з самагучальных званочкаў.

**ТУБЕРКУЛЁЗ** (н.-лац. tuberculosis, ад лац. tuberculum = бугарок) — інфекцыйная хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца мікрабактэрыямі туберкулёзу, або палачкай Коха; паражае лёгкія, косці, суставы, кішэчнік; сухоты.

**ТУБЕРКУЛІ́Н** (ад лац. tuberculum = бугарок) — прэпарат для дыягностыкі *туберкулёзу*.

**ТУБЕ́РКУЛЫ** (лац. tuberculum = бугарок) — бугаркі ў тканках арганізма, выкліканыя туберкулёзнай палачкай.

**ТУБЕРКУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. tubercularia) — недасканалы грыб сям. туберкулярыевых, які развіваецца на адмерлых галінках кустоў і лісцевых дрэў.

**ТУБІ́ФЕРА** (н.-лац. tubifera) — слізявік сям. рэтыкулярыевых, які развіваецца на адмерлай драўніне, апалым лісці, лясным подсціле.

**ТУ́БУС** (лац. tubus = труба) — труба ў аптычных прыборах.

**ТУБЯРО́ЗА** (лац. tuberosus = пакрыты бугаркамі) — травяністая

расліна сям. амарылісавых з белымі духмянымі кветкамі, эфірны алей якой выкарыстоўваецца ў парфумерыі; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ТУГА́Й** (цюрк. tugaj) — пойменны лес, непраходны зараснік у рачных далінах пустыннай і паўпустыннай зон Сярэд. і Цэнтр. Азіі.

**ТУ́ГРЫК** (манг. tögrög) — грашовая адзінка Манголіі, роўная 100 *мунгу*.

**ТУ́ЕР** (фр. toueur) — рачное самаходнае судна для праводкі іншых суднаў на ўчастках з вялікімі скорасцямі цячэння.

**ТУЗ**[1] (польск. tuz, ад с.-в.-ням. tus) — 1) старшая ігральная карта; 2) *перан.* высокапастаўленая, уплывовая асоба (напр. фінансавыя тузы).

**ТУЗ**[2] (ад англ. two = два) — невялікая двухвёславая шлюпка для аднаго весляра.

**ТУ́ЗІН** (польск. tuzin, ад фр. douzaine) — дванаццаць аднолькавых прадметаў; ч о р т а ў т. — трынаццаць (па забабонных уяўленнях — нешчаслівы лік).

**ТУЗЛУ́К** (цюрк. tuzluk) — раствор кухоннай солі для засолу рыбы, ікры і іншых прадуктаў, а таксама скураной сыравіны.

**ТУІ́ДЫУМ** (н.-лац. thuidium) — лістасцябловы мох сям. туідыевых, які расце на ламаччы ў сырых лясах, на вільготных лугах, на камянях.

**ТУ́ЛІЙ** (н.-лац. thulium, ад гр. Thoule = старажытнагрэчаская назва Скандынавіі) — хімічны элемент, метал, які належыць да *лантаноідаў*.

**ТУЛУМБА́С** (тур. tulumbaz) — старадаўні музычны інструмент, разнавіднасць *літаўраў*.

**ТУЛЯРЭМІ́Я** (н.-лац. tularaemia, ад Tulare = назва мясцовасці ў Каліфорніі + гр. haima = кроў) — вострае інфекцыйнае захворванне чалавека і жывёл (галоўным чынам грызуноў), якое характарызуецца агульным атручэннем арганізма, ліхаманкай, паражэннем лімфатычных вузлоў і інш.

**ТУ́МАР** (лац. tumor) — *мед.* пухліна.

**ТУ́МБА** (лац. tumba) — 1) невысокі слупок каля дарогі або тратуара; 2) круглае збудаванне для наклейвання аб'яў, афіш; 3) ніжняя частка пісьмовага стала ў выглядзе невялікай шафкі з шуфлядамі.

**ТУ́МБЛЕР** (англ. tumbler) — механічны пераключальнік у электра- і радыётэхнічных прыборах.

**ТУ́НА** (ісп. tuna) — від *апунцыі*, які культывуюць як харчовую і кармавую расліну ў Міжземнамор'і, Паўд. Афрыцы, Аўстраліі.

**ТУНГ** (кіт. tung) — лістападнае дрэва сям. малачаевых, пашыранае ў Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі, з насення якога здабываюць алей для тэхнічных мэт.

**ТУ́НДРА** (рус. тундра, ад фін. tunturi = *літар.* бязлесая плоская вяршыня) — бязлесая, бедная расліннасцю балоцістая прастора ў прыпалярных абласцях, у зоне вечнай мерзлаты.

**ТУНІ́КА** (лац. tunica) — 1) доўгая свабодная мужчынская і жаночая кашуля, якую насілі пад *тогай*

старажытныя рымляне; 2) касцюм танцоўшчыцы ў выглядзе ліфа і доўгай спадніцы з цюлю; 3) *заал.* знешні покрыў *тунікатаў*.

**ТУНІКА́ТЫ** (лац. tunicatus = які мае абалонку) — падтып марскіх жывёл тыпу хордавых, цела якіх пакрыта *тунікай* 3 (*апендыкулярыі, асцыдыі, пірасомы, сальпы* і інш.).

**ТУНЭ́ЛЬ** (англ. tunnel) — скразны праход, праезд, пракапаны пад зямлёй або прабіты ў гарах.

**ТУПА́ЙІ** (н.-лац. tupaiidae) — сямейства паўмалпаў з кароткімі канечнасцямі, густой поўсцю і пушыстым хвастом; пашыраны ў трапічных і горных лясах Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі.

**ТУР**[1] (фр. tur = круг, ад лац. tornare = кругліць) — 1) адзін круг танца ў зале, а таксама адзін кругавы рух у вальсе; 2) асобны этап якога-н. спаборніцтва, у якім кожны яго ўдзельнік выступае адзін раз; 3) асобны этап якой-н. падзеі, з'явы.

**ТУР**[2] (фр. tour = вежа, ад лац. turris = вежа) — 1) запоўнены зямлёй плецены кошык, які выкарыстоўваўся пры будаўніцтве ўкрыццяў ад куляў і снарадаў; 2) пірамідка з камянёў, складзеная альпіністамі на вяршыні, на якую яны ўзышлі першымі.

**ТУРА́** (фр. tour, ад лац. turris = вежа) — шахматная фігура, якая мае форму вежы; ладдзя.

**ТУРБА-** (лац. turbo = віхор) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «турбіна».

**ТУРБААГРЭГА́Т** (ад *турба-* + *агрэгат*) — злучаныя на адным вале *турбіна* і рабочая машына (электрычны *генератар, кампрэсар* і інш.).

**ТУРБАВА́ЦЬ** (польск. turbować, ад лац. turbare) — 1) непакоіць каго-н., перашкаджаць каму-н.; 2) пастаянна хваляваць, трывожыць, не даваць спакою.

**ТУРБАВЕНТЫЛЯ́ТАР** (ад *турба-* + *вентылятар*) — лопасцевы насос для перамяшчэння газу, якая прыводзіцца ў вярчэнне *турбінай*.

**ТУРБАГЕНЕРА́ТАР** (ад *турба-* + *генератар*) — генератар пераменнага ці пастаяннага току, які прыводзіцца ў дзеянне паравой ці газавай *турбінай*.

**ТУРБАДЫНА́МА** [ад *турба-* + *дынама(машына)*] — *генератар* пастаяннага току (дынамамашына) з прыводам ад *турбіны*.

**ТУРБАДЭТА́НДЭР** (ад *турба-* + *дэтандэр*) — дэтандэр, у якім расшыральнай машынай з'яўляецца *турбіна*, што працуе на сціснутым газе; выкарыстоўваецца ў халадзільнай тэхніцы.

**ТУРБАКАМПРЭ́САР** (ад *турба-* + *кампрэсар*) — цэнтрабежны або восевы кампрэсар, які прыводзіцца ў рух *турбінай*.

**ТУРБА́Н** (фр. turban, ад перс. dulbend = тканіна з крапівы) — галаўны ўбор у народаў Азіі і Паўн. Афрыкі ў выглядзе палотнішча лёгкай тканіны, абматанай вакол галавы.

**ТУРБАПА́ЎЗА** (ад лац. turbo = віхор + *паўза*) — мяжа ў верхняй атмасферы на вышынях каля 105—115 км, вышэй якой роля *турбу-*

# Т

*лентнага* перамешвання кампанентаў атмасферы нязначная.

**ТУРБАПО́МПА** (ад *турба-* + *помпа*) — агрэгат, які складаецца з помпы і *турбіны*, што прыводзіць помпу ў дзеянне.

**ТУРБАРЭАКТЫ́ЎНЫ** (ад *турба-* + *рэактыўны*) — такі, у якім сіла рэактыўнага руху спалучаецца з работай газавай турбіны (напр. т. рухавік, т. самалёт).

**ТУРБА́ЦЫЯ** (польск. turbacja, ад лац. turbatio) — турбота, клопат.

**ТУРБЕЛЯ́РЫІ** (с.-лац. turbellaria) — клас плоскіх чарвей; арганізмы з двухбакова-сіметрычным целам даўжынёй 0,1 мм — 35 см, укрытым раснічкамі; жывуць у морах і прэсных вадаёмах, вільготнай глебе, некаторыя — *паразіты* ігласкурых, малюскаў, ракападобных; раснічныя чэрві.

**ТРУБІДЫМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. turbidus = мутны + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу ў хіміі, заснаваны на вымярэнні інтэнсіўнасці святла, якое аслаблена каламутным асяроддзем.

**ТУРБІ́НА** (фр. turbine) — рухавік, у якім энергія пары, газу або цячэння вады пераўтвараецца ў механічную работу.

**ТУРБО́** (фр. turbot) — донная драпежная рыба сям. камбалавых, якая пашырана ў Міжземным моры і ў Атлантычным акіяне.

**ТУРБУЛЕ́НТНЫ** (лац. turbulentus = бязладны, хаатычны) — хаатычны, віхравы; т. р у х в а д к а с ц і (г а з у) — рух, пры якім адбываецца моцнае перамешванне вадкасці (газу); параўн. *ламінарны*.

**ТУРБУЛЕ́НЦЫЯ** (лац. turbulentia = неспакой, віраванне) — віхравы, беспарадкавы рух часцінак вадкасці або газу.

**ТУ́РГАР** (п.-лац. turgor, ад turgere = набракнуць, напоўніцца) — стан напружання клетачнай абалонкі ў раслін, выкліканы ціскам яе змесціва.

**ТУРМА́** (ням. Turm) — 1) месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, што знаходзяцца пад следствам або прыгавораны судом да пазбаўлення волі; 2) *перан.* месца, дзе жывуць пад прыгнётам.

**ТУРМАЛІ́Н** (фр. tourmaline, ад сінгал. toramalli) — мінерал класа *сілікатаў* чорнага, бурага, ружовага, зялёнага і іншых колераў, які выкарыстоўваецца ў оптыцы, радыётэхніцы і ювелірнай справе.

**ТУРНАДО́ЗЕР** (ад англ. turn = змяненне напрамку + dozer = бульдозер) — машына для перасоўвання рэйкавых пуцей і лентачных канвеераў, якая выкарыстоўваецца ў кар'ерах.

**ТУРНІ́К** (ад фр. tourner = круціцца, вярцецца) — гімнастычны снарад, які складаецца з дзвюх стоек і гарызантальнай металічнай перакладзіны.

**ТУРНІКЕ́Т** (фр. tourniquet) — 1) прыстасаванне ў выглядзе рухомай крыжавіны, што ўстанаўліваецца ў праходах, каб наведвальнікі маглі праходзіць па адным; 2) кроваспыняльны жгут у выглядзе зробленай з матэрыі або скуры пятлі, што скручваецца з дапамогай рычага (палачкі).

**ТУРНІ́Р** (ням. Turnier, ад фр. tourneoi) — 1) спартыўнае спаборніцтва, у якім усе ўдзельнікі маюць паміж сабой па адной ці дзве сустрэчы (напр. шахматны т.); 2) спаборніцтва сярэдневяковых рыцараў.

**ТУРНЭ́** (фр. tournée) — 1) падарожжа па кругавым маршруце; 2) паездка артыстаў на гастролі, а таксама спартсменаў на выступленні.

**ТУРНЭ́ПС** (англ. turnips, ад turnip = рэпа) — расліна сям. крыжакветных, пашыраная ва ўмераных зонах, караняплоды якой ідуць на корм жывёле; кармавая рэпа.

**ТУРНЮ́Р** (фр. tournure) — модная ў канцы 19 ст. прыналежнасць жаночага туалету ў выглядзе падушачкі, якую падкладвалі пад плацце ззаду ніжэй таліі, каб надаць пышнасць фігуры, а таксама шырокая спадніца, прызначаная для нашэння з такой падушачкай.

**ТУРЫ́ЗМ** (фр. tourisme) — падарожжа ў вольны час па сваёй краіне і ў іншыя краіны, калі адпачынак спалучаецца з элементамі спорту і пазнавальнымі задачамі.

**ТУРЫНГІ́Т** (ад ням. Thüringen = назва правінцыі ў Германіі) — мінерал групы хларыдаў падкласа лістовых сілікатаў зеленаватага колеру, складаны *алюмасілікат* жалеза і алюмінію.

**ТУРЫ́СТ** (фр. touriste) — той, хто займаецца *турызмам*.

**ТУРЭ́ЛЬ** (фр. tourelle) — прыстасаванне для кругавога вярчэння кулямёта або гарматы на ваенных самалётах, караблях, танках.

**ТУСТЭ́П** (англ. two-step, ад two = два + step = крок) — бытавы парны танец амерыканскага паходжання з двухдольным памерам, які быў пашыраны ў пач. 20 ст. у Еўропе.

**ТУТ** (ар. tut) — дрэвавая або кустовая расліна сям. тутавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, лісцем якой кормяць шаўкавічных чарвей, а плады ўжываюць у ежу; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; шаўкоўніца.

**ТУ́ТАР** (лац. tutor = абаронца) — *артапедычны* апарат, прызначаны для стварэння нерухомасці сустава і для фіксацыі канечнасці.

**ТУФ** (лац. tufus) — порыстая горная парода вулканічнага ці асадкавага паходжання, якая ўжываецца як будаўнічы матэрыял.

**ТУФАБЕТО́Н** (ад *туф* + *бетон*) — бетон, запаўняльнікам якога з'яўляецца туф.

**ТУФАЛА́ВА** (ад *туф* + *лава*) — вулканічная парода, якая складаецца з лавы, попелу, а таксама ўключэнняў вулканічнага шкла.

**ТУ́ФЛІ** (с.-н.-ням. tuffele) — абутак, які закрывае нагу ніжэй шчыкалаткі.

**ТУ́ЦІ** (іт. tutti = *літар.* усе) — выкананне музычнага твора ўсім саставам аркестра або хору.

**ТУШ**[1] (ням. Tusch) — кароткае ўрачыстае музычнае прывітанне, якое выконваецца часцей за ўсё на духавых інструментах.

**ТУШ**[2] (ням. Tusche) — чорная ці каляровая вадкая фарба для чарчэння або малявання.

# Т

**ТУШАВА́ЦЬ** (ням. tuschen) — наносіць цені на малюнак, пакрываць тушоўкай.

**ТУШЭ́** (фр. touché, ад toucher = чапаць, дакранацца) — 1) спосаб дотыку да клавішаў пры ігры на *фартэпіяна*, які ўплывае на афарбоўку і выразнасць гучання інструмента ў розных выканаўцаў; 2) *сп.* дотык барца абедзвюма лапаткамі да дывана, які абазначае паражэнне; 3) *сп.* укол (удар) у фехтаванні; 4) выпадковы дотык да шара, які лічыцца за ўдар у гульні на більярдзе.

**ТУ́Я** (н.-лац. thuja, ад гр. thuia) — вечназялёнае хвойнае дрэва або куст сям. кіпарысавых з лускападобным лісцем, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ТЫБЕ́ЛЮС** (н.-лац. tibellus) — павук сям. бакаходаў, які трапляецца па берагах вадаёмаў, сярод лісця злакаў і асок, на нізкіх кустах і ў разнатраўі на ўзлесках.

**ТЫ́ГЕЛЬ** (ням. Tiegel) — 1) пасудзіна з вогнетрывалага матэрыялу для плаўкі, варкі, нагрэву розных матэрыялаў; 2) масіўная металічная пліта друкарскіх машын для прыцiскання паперы да пакрытай фарбай друкарскай формы.

**ТЫГМАНА́СТЫЯ** (ад гр. thigma = дотык + *настыі*) — рух органаў раслін у адказ на дотык або трэнне.

**ТЫГМАТРАПІ́ЗМ** (ад гр. thigma = дотык + *трапізмы*) — тое, што і *гаптатрапізм*.

**ТЫГР** (лац. tigris, ад гр. tigris) — буйная драпежная млекакормячая жывёла сям. кашэчых аранжава-жоўтай з чорнымі палосамі афарбоўкі.

**ТЫКО́НД** [ад *ты(тан) + канд(энсатар)*] — ізаляцыйны матэрыял з двухвокісу тытану ў сумесі з глінай, які выкарыстоўваюць як *дыэлектрык* для кандэнсатараў.

**ТЫКСАТРАПІ́Я** (ад гр. thiksis = дотык + *-трапія*) — здольнасць дысперсных сістэм вяртаць зыходную структуру, разбураную механічным уздзеяннем; мае практычнае прымяненне ў тэхналогіі лакафарбавых матэрыялаў, кляёў і інш.

**ТЫЛАПІ́ЛУС** (н.-лац. tylopilus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, знешне падобны да баравіка, але з ружовым гіменафорам, які расце на глебе ў лясах; неядомы; жоўцевы грыб.

**ТЫЛА́ПІЯ** (н.-лац. tilapia) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах Афрыкі і ўсходняга Міжземнамор'я.

**ТЫЛЕНХІ́ДЫ** (н.-лац. tylenchidae) — атрад *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразіты агародных, тэхнічных і дэкаратыўных раслін.

**ТЫЛЕ́ЦЫЯ** (н.-лац. tilletia) — *базідыяльны* грыб сям. тылецыевых, які развіваецца на раслінах сям. злакавых, асаковых.

**ТЫЛЕ́Я** (н.-лац. tillaea) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых з густым лісцем і белымі кветкамі, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; расце на пясчаных берагах рэк.

**ТЫЛІ́ТЫ** (англ. tillite, ад till = валунная гліна) — выкапнёвыя ма-

рэнныя адклады старажытных зледзяненняў Зямлі.

**ТЫ́ЛЬДА** (ісп. tilde) — дыякрытычны знак у выглядзе хвалістай рыскі (~).

**ТЫМІ́Н** (ад гр. thymon = чабор) — арганічнае злучэнне, якое належыць да пірымідынавых асноў, уваходзіць у склад *дэзаксірыбануклеінавай* кіслаты і змяшчаецца ва ўсіх жывых клетках.

**ТЫ́МІЯ** (н.-лац. timmia) — ліставасцябловы мох сям. тыміевых, які расце на балотах.

**ТЫМО́Л** (ад лац. thymum = фіміям + *-ол*) — лекавы прэпарат, які атрымліваюць з некаторых эфірных масел; выкарыстоўваецца як сродак супраць глістоў і мікробаў.

**ТЫМПА́Н** (гр. tympanon = барабан) — 1) старадаўні ўдарны музычны інструмент, род медных талерак або невялікай *літаўры*; 2) *архіт.* трохвугольнае поле франтона з жывапіснымі і скульптурнымі ўпрыгожаннямі.

**ТЫМПАНА́ЛЬНЫ** (ад гр. tympanon = барабан) — барабанны; т-ыя органы — органы слыху ў некаторых насякомых у выглядзе тонкай хітынавай перапонкі на пярэдніх ножках або сегментах брушка, ваганні якой успрымае група адчувальных нерваў.

**ТЫМПАНІ́Я** (ад гр. tympanon = барабан, бубен) — захворванне жвачных жывёл, пры якім збіраецца многа газаў у рубцы, кішэчніку; узнікае пры залішнім паяданні кармоў, што лёгка паддаюцца браджэнню (напр. канюшыны, зялёнай масы бабовых).

**ТЫ́МУС** (лац. thymus) — залоза ўнутранай *сакрэцыі*, размешчаная ў грудной паласці чалавека, што прымае ўдзел у рэгуляцыі росту, мінеральнага абмену і ў фарміраванні спецыфічнага *імунітэту*.

**ТЫМФ, ТЫНФ** (ст.-польск. tymf, tynf, ад A.Tymf = прозвішча арандатара манетных двароў у Польшчы) — старажытная польская сярэбраная манета, якая ў канцы 17—18 ст. была пашырана і на Беларусі.

**ТЫНК** (ням. Tünche) — аддзелачны раствор з сумесі вяжучых рэчываў (вапны, цэменту, гліны, пяску, вады і інш.), якім пакрываюць сцены або столь.

**ТЫНКАВА́ЦЬ** (польск. tynkować, ад с.-в.-ням. tünchen) — пакрываць сцены або столь *тынкам*, каб зрабіць паверхню гладкай.

**ТЫНКТУ́РА** (лац. tinctura) — настой лекавага рэчыва на спірце або эфіры.

**ТЫНФ** гл. *тымф*.

**ТЫНЭ́ЙДЖЭР** (англ. teenager) — юнак або дзяўчына ва ўзросце ад 13 да 19 гадоў.

**ТЫП** (фр. type, ад гр. typos = адбітак, вобраз) — 1) узор, мадэль, форма чаго-н. (напр. т. самалёта, т. машыны); 2) *біял.* адзінка ў сістэматызацыі раслін і жывёл, якая аб'ядноўвае родасныя класы (напр. т. кветкавых раслін, т. членістаногіх); 3) разрад, катэгорыя людзей з характэрнымі агульнымі знешнімі або ўнутранымі рысамі (напр. славянскі т.); 4) *літ.* абагулены мастацкі вобраз якой-н. групы людзей.

# Т

**-ТЫП** (гр. typos = адбітак) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «адбітак», «друк».

**ТЫПААФСЕ́Т** (ад гр. typos = адбітак + *афсет*) — *палігр.* афсетны друк з формаў высокага друку.

**ТЫПА́Ж** (фр. typage) — 1) сукупнасць *тыпаў*, узораў, мадэляў (напр. т. самалётаў); 2) сукупнасць прыкмет якога-н. грамадскага разраду, тыпу людзей (напр. сацыяльны т.); 3) акцёр са знешнасцю, што падыходзіць для пэўнай ролі.

**ТЫПАЛІТАГРА́ФІЯ** (ад гр. typos = адбітак + *літаграфія*) — паліграфічнае прадпрыемства, на якім працэс друкавання выконваецца друкарскім і літаграфскім спосабамі.

**ТЫПАЛО́ГІЯ** (ад гр. typos = адбітак, форма + *-логія*) — навуковы метад, які даследуе ўзаемаадносіны паміж рознымі тыпамі з'яў або прадметаў.

**ТЫПАМАРФІ́ЗМ** (ад *тып* + *-марфізм*) — уласцівасць мінералаў змяняць усе або асобныя свае прыкметы (крышталеграфічныя асаблівасці, характар *агрэгатаў*, афарбоўку, шчыльнасць і інш.) у залежнасці ад умоў утварэння.

**ТЫПАМЕТРЫ́Я** (ад гр. typos = адбітак + *-метрыя*) — друкарская сістэма вымярэння элементаў шрыфту і наборных форм.

**ТЫПІЗА́ЦЫЯ** (ад *тып*) — 1) распрацоўка тыпавых канструкцый або тэхналагічных працэсаў на аснове агульных для шэрагу вырабаў (працэсаў) тэхнічных характарыстык; 2) класіфікацыя па тыпах (напр. т. азёр); 3) адбор тыповага і ўвасабленне ў канкрэтных мастацкіх вобразах, формах.

**-ТЫПІЯ** (гр. typos = адбітак) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з працэсамі друкавання, паліграфіі.

**ТЫПО́ГРАФ** (ад гр. typos = адбітак + *-граф*) — невялікі жук сям. караедаў цёмна-бурага колеру, які наносіць шкоду хвойным дрэвам; пашыраны ў Еўропе і Азіі.

**ТЫПО́МЕТР** (ад гр. typos = адбітак + *-метр*) — прыбор для вызначэння памеру друкарскіх літар; 2) лінейка для вымярэння колькасці радкоў набору.

**ТЫРА́ДА** (фр. tirade, ад іт. tirata) — урывак прамовы, рэпліка, сказаныя прыўзнятым тонам.

**ТЫРА́Ж** (фр. tirage) — 1) колькасць экзэмпляраў якога-н. друкаванага выдання; 2) розыгрыш выйгрышаў у пазыках або латарэях; 3) пагашэнне аблігацыі пазыкі або іншых папер установай, якая іх выпусціла.

**ТЫРАЗІ́Н** (ад гр. tyros = сыр) — араматычная амінакіслата, якая ўваходзіць у склад многіх бялкоў, што выпрацоўваюць у жывёльных арганізмах гармоны, напр. *тыраксін* і *адрэналін*.

**ТЫРАКСІ́Н** (ад гр. thyreos = шчыт + oksys = едкі, кіслы) — *гармон* шчытападобнай залозы, які стымулюе абмен рэчываў, рост і *дыферэнцыяцыю* тканак у арганізме чалавека і жывёл.

**ТЫРАМІ́ЦЭС** (н.-лац. tyromyces) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, ламаччы, адмерлай драўніне.

# Т

**ТЫРА́Н** (гр. tyrannos) — 1) аднаасобны правіцель у Стараж. Грэцыі і гарадах-рэспубліках Італіі 13—16 ст.; 2) жорсткі правіцель, дэспат; 3) *перан.* прыгнятальнік, мучыцель.

**ТЫРА́НА** (ісп. tirana) — іспанскі танец.

**ТЫРАНАЗА́ЎР** (ад гр. tyrannos = тыран + *-заўр*) — буйны драпежны *дыназаўр* з групы *карназаўраў*, які жыў у *мезазоі*.

**ТЫРАНІ́ЧНЫ** (гр. tyrannikos) — жорсткі, дэспатычны.

**ТЫРАНІ́Я** (гр. tyrannia) — 1) праўленне, заснаванае на ўладзе *тырана* 1; 2) праўленне, улада, заснаваная на самавольстве і дэспатызме; 3) *перан.* жорсткае абыходжанне.

**ТЫРА́ТА** (іт. tirata = зацягванне) — *муз.* гамападобны *пасаж*.

**ТЫРАТРО́Н** (ад гр. thyra = дзверы, уваход + *-трон*) — іонны электравакуумны прыбор з катодам, анодам і сеткай, напоўнены інертным газам, вадародам, парай ртуці.

**ТЫРС** (гр. thyrros) — паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, жазло Дыяніса і яго спадарожнікаў, абвітае плюшчом і вінаградным лісцем.

**ТЫРЫ́СТАР** [англ. thyristor, ад гр. thyra = дзверы + англ. (res)istor = супраціўленне] — кіруемы паўправадніковы *вентыль*.

**ТЫРЭАІДЗІ́Н** (ад гр. thyreoeides = шчытападобны) — лекавы прэпарат, які змяшчае *тыраксін*; выкарыстоўваецца пры зніжанай функцыі шчытападобнай залозы.

**ТЫРЭАТАКСІКО́З** (ад гр. thyreos = шчыт + *таксікоз*) — паталагічны стан арганізма, які ўзнікае пры павышанай сакраторнай функцыі шчытападобнай залозы (*гіпертырэозе*).

**ТЫРЭАЦЫ́ТЫ** (ад гр. thyreos = шчыт + -цыты) — клеткі аднаслойнага жалезістага *эпітэлію*, якія высцілаюць фалікулы шчытападобнай залозы.

**ТЫРЭО́З** (гр. thyreos = шчыт) — разлад *сакрэцыі* шчытападобнай залозы.

**ТЫТА́Н**[1] (гр. Titan = імя старажытнагрэчаскага міфалагічнага гіганта, які змагаўся з багамі) — *перан.* чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму.

**ТЫТА́Н**[2] (н.-лац. titanium, ад гр. Titan = імя старажытнагрэчаскага міфалагічнага гіганта, які змагаўся з багамі) — хімічны элемент, цвёрды метал серабрыста-белага колеру.

**ТЫТАНАМАГНЕТЫ́Т** (ад *тытан* + *магнетыт*) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага колеру, разнавіднасць магнетыту; руда жалеза, тытану.

**ТЫТАНТЭ́РЫЙ** (ад *тытан* + *-тэрый*) — буйное няпарнакапытнае млекакормячае з групы *брантатэрыяў*, якое жыло ў *палеагене*.

**ТЫТАНАФАНЕ́ЎС** (ад *тытан* + гр. phoneus = забойца) — буйная драпежная наземная жывёла з групы *дынацэфалаў*, якая жыла ў пермскі перыяд.

**ТЫТАНАЭ́КА** (н.-лац. titanoeca) — павук сям. амаўрабіідаў; жыве пад камянямі, у лясным подсціле і іншых месцах.

# Т

**ТЫТАНІ́Т** (ад *тытан*) — мінерал класа *сілікатаў* бурага, жоўтага ці зеленаватага колеру, які трапляецца ў выглядзе дробных зярнят і выкарыстоўваецца для атрымання тытану.

**ТЫТАНІ́ЧНЫ** (гр. titanikos) — 1) які вызначаецца надзвычайным розумам, вялікім талентам; 2) велізарны па сіле, размаху.

**ТЫ́ТУЛ** (лац. titulus = надпіс) — 1) ганаровае радавое або дараванае дваранскае званне (*барон, граф*, князь і інш.), якое падкрэслівае прывілеяванае становішча асобы; 2) ганаровае званне як прызнанне заслуг у спаборніцтве, дзейнасці (напр. т. чэмпіёна свету па шахматах); 3) элемент кнігі, брашуры, дзе змешчаны загаловак выдання, прозвішча аўтара, назва выдавецтва, адзначаны месца і год выдання; тытульны ліст.

**ТЫТУЛАВА́ЦЬ** (лац. titulare) — называць каго-н. у адпаведнасці з *тытулам*, званнем, чынам.

**ТЫТУ́НЬ** (кр.-тат., тур. tütün) — 1) травяністая расліна сям. паслёнавых, лісце якой багата *нікацінам*; 2) высушанае і дробна нарэзанае лісце гэтай расліны, якое ідзе на курэнне.

**ТЫТЭ́СТАР** (ад англ. tee = чай + tester = які спрабуе) — спецыяліст па *дэгустацыі* чаю.

**ТЫФ** (н.-лац. typhus, ад гр. typhos = зацямненне свядомасці) — умоўнае абазначэнне некаторых вострых інфекцыйных хвароб (напр. брушны т., сыпны т.), якія характарызуюцца высокай тэмпературай цела і парушэннем свядомасці.

**ТЫФЛАПЕДАГО́ГІКА** (ад гр. typhlos = сляпы + *педагогіка*) — састаўная частка *дэфекталогіі*, якая займаецца пытаннямі выхавання і навучання дзяцей са слабым зрокам і сляпых.

**ТЫФЛАТЭ́ХНІКА** (ад гр. typhlos = сляпы + *тэхніка*) — 1) раздзел *тыфлапедагогікі*, які распрацоўвае тэхнічныя сродкі для пераадолення слепаты і разладу зроку; 2) сукупнасць тэхнічных сродкаў, прызначаных для карэкцыі або кампенсацыі *дэфектаў* зроку.

**ТЫФЛІ́Т** (ад гр. typhlon = сляпая кішка) — запаленне сляпой кішкі.

**ТЫФО́ІД** (ад *тыф* + *-оід*) — *уст.* лёгкая форма брушнога тыфу.

**ТЫФО́Н** (гр. Typhon) — 1) стогаловая агнядышная пачвара ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) прыбор на маяках і суднах, які падае сігналы ў час туману.

**ТЫ́ФУЛА** (н.-лац. typhula) — *базідыяльны* грыб сям. рагацікавых, які паразітуе на злакавых, бабовых раслінах.

**ТЫФУЛЁЗЫ** (ад *тыфула*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбамі тыфуламі.

**ТЫХАГЕНЕ́З** (ад гр. tyche = выпадковасць + *-генез*) — эвалюцыя арганізмаў, заснаваная на выпадковых зменах.

**ТЫ́ХІУС** (н.-лац. tychius) — жук сям. даўганосікаў, трапляецца на культурных і дзікарослых бабовых раслінах на палях, лугах, узлесках.

**ТЫЯ-** (гр. theion = сера) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «сера», «серны».

**ТЫЯБАКТЭ́РЫІ** (ад *тыя-* + *бактэрыі*) — бактэрыі, здольныя акісляць серавадарод і іншыя аднаўленыя злучэнні серы; серабактэрыі.

**ТЫЯКО́Л** (н.-лац. thiocolum, ад гр. theion = сера) — 1) сінтэтычны матэрыял, падобны да каўчуку, які ідзе на выраб шлангаў, труб, ізаляцыі, правадоў і інш.; 2) лекавы прэпарат у выглядзе белага або ружовага парашку, які выкарыстоўваецца як адхарквальны сродак.

**ТЫЯМІ́Н** (ням. Thiamin, ад гр. theion = сера + ням. Amin = амін) — вітамін $B_1$, *анеўрын*, водарастваральны *вітамін*, неабходны для нармальнай дзейнасці нервовай сістэмы.

**ТЫЯ́РА** (гр. tiara) — 1) галаўны ўбор старажытных персідскіх і асірыйскіх цароў; 2) галаўны ўбор рымскага папы.

**ТЫЯСПІРТЫ́** (ад *тыя-* + *спірты*) — тое, што і *меркаптаны*.

**ТЫЯСУЛЬФА́ТЫ** (ад *тыя-* + *сульфаты*) — солі тыясернай кіслаты, выкарыстоўваюцца ў фатаграфіі, медыцыне, тэкстыльнай і скураной прамысловасці.

**ТЫЯФЕ́Н** (ад *тыя-* + гр. phaino = свячу) — гетэрацыклічнае злучэнне, бясколерная вадкасць, якая валодае араматычнымі ўласцівасцямі; змяшчаецца разам з бензолам у каменнавугальнай смале; выкарыстоўваецца ў арганічным сінтэзе.

**ТЫЯФЕНО́Л** (ад *тыя-* + *фенол*) — сярністы аналаг фенолу; бясколерная вадкасць з непрыемным пахам; выкарыстоўваецца ў сінтэзе фарбавальнікаў, стабілізатараў сінтэтычных каўчукоў.

**ТЭАБРАМІ́Н** (ад лац. thea = чай + *бром*) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў чаі, зернях какавы і выкарыстоўваецца як сасудапашыральны і мачагонны сродак.

**ТЭАБРО́МА** (н.-лац. theobroma) — вечназялёнае дрэва сям. стэркуліевых, пашыранае ў трапічнай Амерыцы, у пладах якога змяшчаецца шматлікае насенне; адзін з відаў — *какава*.

**ТЭАГО́НІЯ** (гр. theogonia, ад theos = бог + gone = паходжанне) — сукупнасць міфаў аб паходжанні багоў.

**ТЭАДАЛІ́Т** (ням. Theodolit, фр. theodolite, ад. гр. theaomai = разглядаю + dolichos = доўгі) — геадэзічны інструмент для вымярэння на мясцовасці гарызантальных і вертыкальных вуглоў.

**ТЭАДЫЦЭ́Я** (фр. théodicée, ад гр. theos = бог + dike = справядлівасць) — агульнае абазначэнне рэлігійна-філасофскіх *дактрын*, якія імкнуцца ўзгадніць ідэю добрага і ўсемагутнага бога з наяўнасцю зла на зямлі, апраўдаць бога як тварца і правіцеля свету насуперак існаванню цёмных бакоў быцця.

**ТЭАКРА́ТЫЯ** (гр. theokratia, ад theos = бог + kratos = сіла, улада) — форма дзяржаўнага кіравання, калі палітычная ўлада ў краіне належыць духавенству.

**ТЭАЛО́ГІЯ** (гр. theologia, ад theos = бог + logos = вучэнне) — багаслоўе, рэлігійнае вучэнне, якое імкнецца абгрунтаваць рэлігійныя догмы і вераванні.

**ТЭАРЭ́МА** (гр. theorema) — навуковае палажэнне, ісціннасць, якая ўстанаўліваецца доказам.

# Т

**ТЭАРЭТЫЗАВА́ЦЬ** (ад *тэорыя*) — 1) займацца тэарэтычнымі пытаннямі, ствараць тэорыю 2; 2) абстрактна разважаць на тэарэтычныя тэмы без карысці для справы.

**ТЭАРЭ́ТЫК** (гр. theoretikos = які даследуе, аглядае) — той, хто распрацоўвае *тэарэтычныя* пытанні ў якой-н. галіне ведаў.

**ТЭАРЭТЫ́ЧНЫ** (гр. theoretikos = які даследуе, аглядае) — 1) які засноўваецца на *тэорыі*, звязаны з тэорыяй; 2) які займаецца пытаннямі тэорыі (напр. т-ая фізіка).

**ТЭАСО́Ф** (ад *тэасофія*) — паслядоўнік тэасофіі.

**ТЭАСО́ФІЯ** (гр. theosophia, ад theos = бог + sophia = мудрасць) — рэлігійна-містычнае вучэнне аб яднанні чалавечай душы з богам і аб магчымасці непасрэдных зносін з замагільным светам.

**ТЭА́ТР** (фр. théâtre, ад гр. theatron = месца для відовішч) — 1) род мастацтва, спецыфічным сродкам выражэння якога з'яўляецца сцэнічнае дзеянне, ажыццёўленае акцёрамі перад гледачом; 2) установа, якая мае пэўны састаў артыстаў і ставіць спектаклі, а таксама будынак са сцэнай і залай, дзе адбываецца тэатральны паказ; 3) *перан.* месца, дзе разгортваюцца якія-н. значныя падзеі (напр. т. ваенных дзеянняў).

**ТЭАТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *тэатральны*) — прыстасаванне несцэнічнага твора для паказу ў тэатры; увядзенне ў твор элементаў сцэнічнага дзеяння.

**ТЭАТРА́ЛЬНЫ** (лац. theatralis) — 1) які мае адносіны да *тэатра*, звязаны з тэатрам (напр. т-ая зала, т. сезон); 2) прызначаны для тэатра, для падрыхтоўкі акцёраў (напр. т-ая музыка, т-ая студыя); 3) характэрны для работнікаў тэатра (напр. т-ыя прыёмы); 4) *перан.* які вызначаецца тэатральнасцю (напр. т-ая поза).

**ТЭАТРАМА́НІЯ** (ад *тэатр* + *манія*) — празмернае захапленне тэатрам.

**ТЭАФЕДРЫ́Н** (ад лац. thea = чай + *эфедрын*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры бранхіяльнай *астме*.

**ТЭАФІЛІ́Н** (ад лац. thea = чай + гр. phyllon = лісток) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў лісці чайнага куста і выкарыстоўваецца як сасударасшыральны і мачагонны сродак.

**ТЭБАІ́Н** [ад н.-лац. (opium) thebaicum = опіум з ваколіц Фіў, старажытнаегіпецкага мястэчка] — арганічнае злучэнне, *алкалоід*, які змяшчаецца ў *опіуме*; выкарыстоўваецца як сыравіна для вырабу лекавых прэпаратаў.

**ТЭГЕНА́РЫЯ** (н.-лац. tegenaria) — павук сям. лейкавых, які жыве ў жылых памяшканнях і іншых пабудовах.

**ТЭ́ГМЫ** (гр. tegma = аддзел) — групы аднолькава пабудаваных *сегментаў*, якія аб'ядноўваюцца ў аддзелы цела членістаногіх, напр. галава, грудзі, брушка.

**ТЭ́ГУЛА** (лац. tegula = чарапіца) — цвёрдая, звычайна трохвугольная пласцінка, якая адыходзіць ад *мембраны*, што злучае крыло з грудзьмі насякомых.

**ТЭ́ЗА** (фр. thése, ад гр. thesis) — тое, што і *тэзіс*.

**ТЭЗАЎРА́ЦЫЯ** (ад гр. thesauros = скарб) — накапленне золата як скарбу прыватнымі асобамі.

**ТЭЗА́ЎРУС** (гр. thesauros = скарб) — 1) сукупнасць паняццяў з пэўнай галіны навукі, накопленых чалавекам або калектывам; 2) аднамоўны (тлумачальны або тэматычны) слоўнік, які найбольш поўна ахоплівае *лексіку* дадзенай мовы.

**ТЭ́ЗІС** (гр. thesis) — 1) сцверджанне, якое патрабуе абгрунтавання; 2) палажэнне, якое коратка перадае адну з асноўных думак лекцыі, даклада; 3) *літ.* слабая частка стапы (параўн. *арсіс*).

**ТЭІ́ЗМ** (ад гр. theos = бог) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое грунтуецца на разуменні бога як абсалютнай асобы, што стварыла свет і дзейнічае ў ім (параўн. *дэізм, пантэізм*).

**ТЭІ́Н** (фр. théine, ад. н.-лац. thea = чай) — тое, што і *кафеін*.

**ТЭІ́СТ** (ад *тэізм*) — паслядоўнік тэізму.

**ТЭЙІ́ДЫ** (н.-лац. teiidae) — сямейства яшчарак; пашыраны ў Паўд. Амерыцы.

**ТЭЙЛАРЫ́ЗМ** [ад англ. F. Taylor = прозвішча амер. інжынера (1856—1915)] — сістэма арганізацыі працы на прадпрыемствах, заснаваная на рацыяналізацыі вытворчасці, павелічэнні эфектыўнасці выкарыстання тэхнікі, павышэнні інтэнсіўнасці працы рабочых.

**ТЭЙЛЕРЫЁЗЫ** (ад *тэйлерыіды*) — хваробы коней, буйной рагатай жывёлы, авечак, коз, аленяў, якія выклікаюцца тэйлерыідамі.

**ТЭЙЛЕРЫІ́ДЫ** (н.-лац. theileriidae, ад англ. Theiler = прозвішча англ. ветэрынарнага ўрача) — сямейства паразітных прасцейшых атрада *піраплазмідаў*, кровапаразіты коней, буйной рагатай жывёлы, авечак, коз, аленяў.

**ТЭЙЛІ́НГІЯ** (н.-лац. teilingia) — ніткаватая зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, якая трапляецца ў прэсных водах.

**ТЭ́КА** (гр. theke = сховішча, ёмішча) — абалонка рознага паходжання ў раслін і жывёл, напр. створка панцыра *дыятомавых* водарасцей, ёмішча спор у мохападобных, ракавіна ў некаторых *амёб*, хітынавая абалонка ў гідроідных.

**-ТЭКА** (гр. theke = сховішча, ёмішча) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «сховішча», «ёмішча».

**ТЭКАДО́НТЫ** (ад *тэка* + гр. odus, odontos = зуб) — атрад вымерлых паўзуноў падкласа *архазаўраў* з размешчанымі ў асобных ячэйках зубамі; жылі ў *трыясе*, сталі зыходнымі для *дыназаўраў*, *птэразаўраў*, *кракадзілаў*.

**ТЭКАФО́РА** (н.-лац. thecaphora) — *базідыяльны* грыб сям. устылягавых, які развіваецца на суквеццях і іншых органах травяністых раслін.

**ТЭКО́МА** (н.-лац. tecoma, ад малайск. tekka) — кустовая расліна сям. бігноніевых, пашыраная ў тропіках і субтропіках; у Крыме і на Каўказе вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ТЭКС** (ад лац. texo = тку, пляту) — адзінка лінейнай шчыльнасці валокнаў і ніцей, якая вызнача-

ецца адносінамі іх масы да даўжыні.

**ТЭКСАПРЫ́НТ** (ад лац. texo = вырабляю + англ. print = друкаваць) — друкаванне тэксту спосабамі глыбокага і плоскага друку з формаў, атрыманых шляхам фатаграфавання набору.

**ТЭКСАХРО́М** (ад гр. texo = вырабляю + *-хром*) — спосаб атрымання мнагафарбных афсетных друкаваных формаў, падобны да *тэксапрынту*.

**ТЭКСТ** (лац. textum = сувязь, злучэнне) — 1) тое, што напісана або надрукавана (напр. т. рамана, т. дакумента); 2) асноўная частка напісанага або надрукаванага без падрадковых заўваг, спасылак, каментарыяў; 3) словы, на якія напісана музыка (напр. т. песні); 4) друкарскі шрыфт, *кегель* якога роўны 20 *пунктам* (7,52 мм).

**ТЭКСТАВІНІ́Т** (ад лац. textum = тканіна + *вініл*) — від штучнай скуры, што ўяўляе сабой баваўняную тканіну, пакрытую плёнкай *полівінілхларыду*; выкарыстоўваецца для галантарэйных вырабаў, пакрыцця мэблі.

**ТЭКСТАЛІ́Т** (ад лац. textum = тканіна + *-літ*) — пластычны матэрыял з мнагаслойнай спрасаванай тканіны, насычанай сінтэтычнымі смоламі; выкарыстоўваецца для вырабу даўгавечных дэталяў, як электраізаляцыйны матэрыял і інш.

**ТЭКСТАЛО́ГІЯ** (ад *тэкст* + *-логія*) — раздзел *філалогіі*, які займаецца ўстанаўленнем дакладнага тэксту літаратурных помнікаў і гістарычных дакументаў для іх далейшага даследавання і навуковага выдання.

**ТЭКСТО́ЛАГ** (ад *тэксталогія*) — спецыяліст у галіне тэксталогіі.

**ТЭКСТУА́ЛЬНЫ** (ад *тэкст*) — які дакладна, літаральна перадае тэкст; даслоўны.

**ТЭКСТУ́РА** (лац. textura) — асаблівасці будовы цвёрдага рэчыва, абумоўленыя характарам размяшчэння яго састаўных частак (крышталёў, зерняў, слаёў).

**ТЭКСТЫ́ЛЬ** (лац. textile, ад texere = ткаць) — агульная назва ткацкіх вырабаў з натуральных і штучных валокнаў, а таксама пража і сыравіна для іх.

**ТЭКСТЫ́ЛЬНЫ** (лац. textilis) — 1) звязаны з вытворчасцю *тэкстылю* (напр. т-ая фабрыка); 2) зроблены, пашыты з тэкстылю.

**ТЭКТАГЕНЕ́З** [ад гр. tekto(nike) = майстэрства будаўніцтва + *-генез*] — сукупнасць працэсаў развіцця верхніх пластоў Зямлі пад уплывам тэктанічных рухаў.

**ТЭКТАНАФІ́ЗІКА** (ад гр. tekton = будаўнічы + *фізіка*) — раздзел *тэктонікі*, які вывучае фізічныя ўмовы ўзнікнення тэктанічных дэфармацый.

**ТЭКТАНІ́ЧНЫ** (гр. tektonikos) — 1) які мае адносіны да будовы і развіцця зямной кары; 2) які мае адносіны да *тэктонікі* 1, да зрухаў і дэфармацыі зямной кары.

**ТЭ́КТАР** (лац. tectorium = штукатурка) — тое, што і *таркрэт*.

**ТЭКТОНАСФЕ́РА** (ад гр. tekton = будаўнічы + *сфера*) — сфера зямной кары, якая прымае ўдзел у тэктанічных рухах.

**ТЭКТО́НІКА** (гр. tektonike = майстэрства будаўніцтва) — 1) раздзел *геалогіі*, які вывучае будову зямной кары, рух яе ўчасткаў, працэсы гораўтварэння; 2) тое, што і *архітэктоніка* 1.

**ТЭКТЫ́ТЫ** (ад гр. tektos = плаўкі) — невялікія аплаўленыя кавалкі прыроднага шкла, якія, як мяркуюць, з'яўляюцца касмічным рэчывам.

**ТЭЛАБЛА́СТЫ** (ад гр. telos = канец + *-бласты*) — зародкавыя клеткі, з якіх фарміруецца *мезадэрма* ў першаснаротых.

**ТЭЛАДО́НТЫ** (н.-лац. thelodonti) — падклас вымерлых *агнатаў* класа парнаноздравых; жылі ў *ардовіку* — *дэвоне*.

**ТЭЛАЗІЁЗЫ** (ад *тэлазііды*) — глісныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца тэлазіідамі.

**ТЭЛАЗІ́ІДЫ** (н.-лац. thelaziidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у арбітальнай поласці і вывадных пратоках слёзных залоз птушак, буйной рагатай жывёлы, зуброў.

**ТЭЛАМАРФО́З** (ад гр. telos = канец + *-марфоз*) — напрамак *эвалюцыі* арганізмаў у бок вузкай спецыялізацыі.

**ТЭЛАМЕ́РА** (ад гр. telos = канец + meros = частка) — канцавы ўчастак *храмасомы*.

**ТЭЛА́НТРАП** (ад гр. telos = мэта + *-антрап*) — старажытны выкапнёвы чалавек, рэшткі якога знойдзены ў Паўд. Афрыцы разам з *парантрапам*.

**ТЭЛАНТЭ́РА** (н.-лац. telanthera) — тое, што і *альтэрнантэра*.

**ТЭЛАРА́НЕЯ** (н.-лац. telaranea) — пячоначны мох сям. лепідозіевых, які трапляецца на сфагнавых балотах.

**ТЭЛА́РЫІ** (іт. telari, ад tela = палатно) — прыстасаванні для змены дэкарацый у заходнееўрапейскім тэатры 16 — 17 ст.

**ТЭ́ЛАС** (гр. telos = мэта) — канечная мэта чаго-н. у старажытнагрэчаскай філасофіі.

**ТЭЛАФА́ЗА** (ад гр. telos = мэта + *фаза*) — апошняя фаза непрамога дзялення клеткі (*мітозу*), наступная за *анафазай*.

**ТЭЛЕ-** (гр. tele = далёка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «які здзяйсняецца на адлегласці», «які дзейнічае на далёкую адлегласць», «тэлевізійны».

**ТЭЛЕАБАНЕМЕ́НТ** (ад *тэле-* + *абанемент*) — тэлевізійны або тэлефонны абанемент.

**ТЭЛЕАБАНЕ́НТ** (ад *тэле-* + *абанент*) — тэлевізійны або тэлефонны абанент.

**ТЭЛЕАБ'ЕКТЫ́Ў** (ад *тэле-* + *аб'ектыў*) — аб'ектыў з доўгім фокусам для здымкі аддаленых прадметаў у буйным маштабе.

**ТЭЛЕАЗА́ЎР** (ад гр. teleios = дасканалы + *-заўр*) — вялікі выкапнёвы марскі *кракадзіл*.

**ТЭЛЕАЛО́ГІЯ** (ад гр. telos, -leos = мэта, канец + *-логія*) — філасофскае вучэнне, паводле якога ўся гісторыя свету з'яўляецца здзяйсненнем наперад вызначанай богам мэты і ўсё ў развіцці прыроды і грамадства мэтазгодна.

**ТЭЛЕАНГІЭКТАЗІ́Я** (ад гр. telos = мэта, канец + angeion = сасуд +

ektasis = расшырэнне) — прыроджанае або набытае стойкае празмернае расшырэнне дробных сасудаў скуры або слізістых абалонак у форме сінюшна-чырвоных плям, часцей на твары, галёнках.

**ТЭЛЕАПЕРА́ТАР** (ад *тэле-* + *аператар*) — аператар *тэлестудыі*.

**ТЭЛЕАТЭЛЬЕ́** (ад *тэле-* + *атэлье*) — атэлье па ўстаноўцы і рамонту тэлевізараў.

**ТЭЛЕАЎТАМА́ТЫКА** (ад *тэле-* + *аўтаматыка*) — галіна аўтаматыкі, якая ахоплівае тэорыю і прынцыпы пабудовы сістэм кіравання з выкарыстаннем метадаў і сродкаў *тэлемеханікі*.

**ТЭЛЕБІНО́КЛЬ** (ад *тэле-* + *бінокль*) — спецыяльны бінокль, які дае магчымасць ясна бачыць вельмі аддаленыя прадметы.

**ТЭЛЕБО́Л** (н.-лац. thelebolus) — сумчаты грыб сям. аскаболавых, які развіваецца на субстратах, багатых перагноем.

**ТЭЛЕВІ́ЗАР** (ад *тэле-* + лац. visor = які бачыць) — апарат для прыёму зрокавых перадач і іх гукавога суправаджэння.

**ТЭЛЕВІКТАРЫ́НА** (ад *тэле-* + *віктарына*) — жанр тэлевізійнага вяшчання, заснаваны на падачы ведаў у займальнай форме.

**ТЭЛЕГЕНІ́ЧНЫ** (ад *тэле-* + гр. genos = род, паходжанне) — які эфектна выглядае на тэлевізійным экране (параўн. *фотагенічны*).

**ТЭЛЕГО́НІЯ** (ад *тэле* + *-гонія*) — уплыў мужчынскіх палавых гармонаў на жаночы арганізм, які праяўляецца ў з'яўленні ў яе нашчадкаў ад іншага бацькоўскага арганізма прымет, што былі ўласцівы мужчынскай асобіне, з якой яна скрыжоўвалася раней.

**ТЭЛЕГРА́МА** (ад *тэле-* + *-грама*) — 1) паведамленне, перададзенае па *тэлеграфе*; 2) бланк з тэкстам такога паведамлення.

**ТЭЛЕГРА́Ф** (ад *тэле-* + *-граф*) — 1) сістэма сувязі, якая забяспечвае прыём і хуткую перадачу паведамленняў на адлегласць пры дапамозе электрычных сігналаў па правадах; 2) прадпрыемства сувязі, якое ажыццяўляе прыём, перадачу і дастаўку *тэлеграм*.

**ТЭЛЕГРАФІ́Я** (ад *тэле-* + *-графія*) — галіна навукі і тэхнікі, якая вывучае прынцыпы пабудовы тэлеграфнай сувязі, распрацоўвае спосабы перадачы тэлеграфных сігналаў і апаратуру для рэалізацыі гэтых спосабаў, а таксама ацэньвае якасць перадачы інфармацыі па тэлеграфных каналах.

**ТЭЛЕІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *тэле-* + *інфармацыя*) — інфармацыйныя паведамленні, якія перадаюцца па тэлебачанні; перадача такіх паведамленняў.

**ТЭЛЕЙТАСПО́РЫ** (ад гр. teleute = канец + *споры*) — від спораў у іржаўных грыбоў.

**ТЭЛЕКАМЕНТА́ТАР** (ад *тэле-* + *каментатар*) — той, хто выступае па тэлебачанні з каментарыямі па тых ці іншых пытаннях.

**ТЭЛЕКА́МЕРА** (ад *тэле-* + *камера*) — устройства для пераўтварэння аптычнага відарыса аб'екта ў відэасігнал.

**ТЭЛЕКАМУНІКА́ЦЫЯ** (ад *тэле-* + *камунікацыя*) — 1) сувязь, якая ажыццяўляецца пры дапамозе

тэлеграфных і тэлефонных тэхнічных сродкаў; 2) лінія тэлеграфнай або тэлефоннай сувязі.

**ТЭЛЕКІНЕ́З** (ад *тэле-* + *-кінез*) — разнавіднасць *парапсіхалогіі*, перамяшчэнне прадмета без дакранання да яго, толькі напружаннем волі і выпрамяненнем энергіі.

**ТЭЛЕКІНО́** (ад *тэле-* + *кіно*) — дэманстрацыя кінематаграфічных або тэлевізійных фільмаў на тэлеэкране.

**ТЭЛЕ́КІЯ** (н.-лац. telekia) — травяністая расліна сям. складанакветных з буйным лісцем і жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Еўропе і Малой Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ТЭЛЕКО́МПЛЕКС** (ад *тэле-* + *комплекс*) — комплекс тэлевізійных студый, памяшканняў для апаратуры і інш.

**ТЭ́ЛЕКС** [англ. telex, ад tel(egraph) = тэлеграф + ex(change) = абмен] — 1) міжнародная сетка абаненцкага тэлеграфавання, абсталяваная аўтаматычнымі тэлеграфнымі станцыямі; 2) апарат, прызначаны для такой сувязі.

**ТЭЛЕМАРАФО́Н** (ад *тэле-* + *марафон*) — шматгадзінная бесперапынная перадача па тэлебачанні пры ўдзеле грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, артыстаў, гледачоў, каб прыцягнуць увагу да якой-н. праблемы.

**ТЭЛЕМЕ́ТР** (ад *тэле-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння адлегласці аптычным спосабам; дальнамер.

**ТЭЛЕМЕТРЫ́Я** (ад *тэле-* + *-метрыя*) — сукупнасць тэхнічных сродкаў і метадаў вымярэння на адлегласці фізічных велічынь, якія характарызуюць стан падкантрольных аб'ектаў.

**ТЭЛЕМЕХАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *тэле-* + *механізацыя*) — выкарыстанне сродкаў тэлевізійнай сувязі для кіравання вытворчымі працэсамі.

**ТЭЛЕМЕХА́НІКА** (ад *тэле-* + *механіка*) — 1) навука аб кіраванні на адлегласці рознымі аб'ектамі шляхам перадачы кадзіраваных электрычных або радыёсігналаў; 2) галіна *тэхнікі*, якая распрацоўвае і выкарыстоўвае сродкі кадзіравання, перадачы і прыёму інфармацыі па каналах электра- або радыёсувязі.

**ТЭЛЕНО́МУС** (ад *тэле-* + гр. nomos = месца пражывання) — насякомае атрада перапончатакрылых, якое паразітуе ў яйцах матылёў, клапоў, мух і іншых насякомых; выкарыстоўваецца ў біялагічнай барацьбе са шкоднікамі культурных раслін.

**ТЭЛЕПА́ТЫЯ** (ад *тэле-* + *-патыя*) — перадача думак, пачуццяў на адлегласці без пасрэдніцтва органаў пачуццяў.

**ТЭЛЕРАДЫЁЛА** (ад *тэле-* + *радыёла*) — тэлевізар, радыёпрыёмнік і прайгравальнік, скампанаваныя ў адным апараце.

**ТЭЛЕРГО́НЫ** (ад гр. tele = далёка + ergon + уздзеянне) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюцца жывёламі ў навакольнае асяроддзе і ўздзейнічаюць на асобін таго ж або іншага віду.

**ТЭЛЕРЭКО́РДЫНГ** (ад *тэле-* + англ. recording = запіс) — 1) тэлевізійнае абсталяванне для запісу тэлевізійных праграм на кінастужку; 2) запіс тэлевізійнай перадачы.

# Т

**ТЭЛЕРЭПАРТА́Ж** (ад *тэле-* + *рэпартаж*) — рэпартаж з месца падзеі, які перадаецца па тэлебачанні.

**ТЭЛЕРЭПАРЦЁР** (ад *тэле-* + *рэпарцёр*) — журналіст, які вядзе *тэлерэпартаж*.

**ТЭЛЕРЭТРАНСЛЯ́ТАР** (ад *тэле-* + *рэтранслятар*) — рэтранслятар для перадачы тэлевізійных праграм.

**ТЭЛЕСАТЭЛІ́Т** (ад *тэле-* + *сатэліт*) — штучны спадарожнік Зямлі, прызначаны для *рэтрансляцыі* тэлевізійных сігналаў.

**ТЭЛЕСІГНА́Л** (ад *тэле-* + *сігнал*) — 1) сігнал абумоўленай структуры, перададзены каналамі высокачастотнай сувязі; 2) тэлевізійны сігнал.

**ТЭЛЕСІГНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *тэле-* + *сігналізацыя*) — аддзел *тэлекамунікацыі*, які займаецца перадачай сігналаў на значныя адлегласці.

**ТЭЛЕСКАПІ́Я** (ад *тэле-* + *-скапія*) — назіранне за нябеснымі свяцiламі пры дапамозе *тэлескопа*.

**ТЭЛЕСКО́П** (гр. teleskopos = які далёка глядзіць) — 1) астранамічны аптычны прыбор для назірання за нябеснымі свяцiламі; 2) разнавіднасць акварыумнай рыбкі з выпуклымі вачамі.

**ТЭЛЕСПЕКТА́КЛЬ** (ад *тэле-* + *спектакль*) — спектакль, прызначаны для паказу па *тэлевізару*.

**ТЭЛЕСТА́НЦЫЯ** (ад *тэле-* + *станцыя*) — комплекс электроннага абсталявання і збудаванняў, якія служаць для падрыхтоўкі праграм тэлевізійнага вяшчання і іх перадачы шляхам радыёхваляў.

**ТЭЛЕСТУ́ДЫЯ** (ад *тэле-* + *студыя*) — спецыяльна абсталяванае памяшканне, з якога вядуцца перадачы, арганізаваныя *тэлецэнтрам*.

**ТЭЛЕСТЭРЭАСКО́П** (ад *тэле-* + *стэрэаскоп*) — аптычны прыбор, праз які рэльефна выглядае мясцовасць.

**ТЭЛЕТА́ЙП** (англ. teletype, ад гр. tele = далёка + англ. type = адбітак) — літарадрукавальны апарат для прыёму і перадачы тэкстаў па тэлеграфных каналах сувязі.

**ТЭЛЕТАЙПАГРА́МА** (ад *тэлетайп* + *-грама*) — афіцыйнае паведамленне, перададзенае па *тэлетайпу*.

**ТЭЛЕТАЙПСЕ́ТЭР** (ад *тэлетайп* + англ. setter = прыстасаванне для рэгуліроўкі) — прыстасаванне да наборнага радковаадліўнога аўтамата, якое забяспечвае перадачу набору ў выглядзе перфараванай стужкі па лініях тэлеграфнай сувязі.

**ТЭЛЕТЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *тэле-* + *тэрмальны*); т-ыя месцанараджэнні — залежы карысных выкапняў, аддаленыя ад глыбінных магматычных парод, з якімі мяркуецца іх родная сувязь праз гарачыя водныя растворы.

**ТЭЛЕФА́КС** (ад *тэле-* + лац. fac simile = рабі падобнае) — 1) прыём і перадача графічнай дакументаванай інфармацыі сродкамі далёкай сувязі; 2) апарат для такой інфармацыйнай сувязі; 3) паведамленне, перададзенае або прынятае гэтым апаратам.

**ТЭЛЕФАНАГРА́МА** (ад *тэлефон* + *-грама*) — паведамленне, тэкст

якога дыктуецца па тэлефоне і запісваецца пры прыёме.

**ТЭЛЕФАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *тэлефон*) — расшырэнне тэлефоннай сеткі шляхам стварэння тэлефонных вузлоў і ліній сувязі.

**ТЭЛЕФАНІ́Я** (ад *тэле-* + *-фанія*) — аддзел *тэлекамунікацыі*, які забяспечвае абмен інфармацыяй пры дапамозе сродкаў тэлефоннай сувязі.

**ТЭЛЕФАТАГРА́ФІЯ** (ад *тэле-* + *фатаграфія*) — фатаграфаванне аб'ектаў з вялікай адлегласці.

**ТЭЛЕФІКА́ЦЫЯ** (ад *тэле-* + *-фікацыя*) — развіццё і пашырэнне перадавальнай і прымальнай сетак тэлебачання.

**ТЭЛЕФО́Н** (ад *тэле-* + *-фон*) — 1) від сувязі, які дае магчымасць перадаваць вусную размову на адлегласць пры дапамозе электрычных сігналаў па правадах; 2) электраакустычны апарат для перадачы і прыёму моўнай інфармацыі; нумар такога апарата.

**ТЭЛЕФО́РА** (н.-лац. thelephora) — *базідыяльны* грыб сям. тэлефоравых, які расце на пясчанай глебе, гнілой драўніне, на лесасеках.

**ТЭЛЕЦЭ́НТР** (ад *тэле-* + *цэнтр*) — тэлевізійная станцыя, прызначаная для стварэння праграм тэлебачання.

**ТЭЛЕЭКРА́Н** (ад *тэле-* + *экран*) — частка *тэлевізара*, на якой з'яўляецца прынятае адлюстраванне.

**ТЭЛЕЭЛЕКТРАКАРДЫЁГРАФ** (ад *тэле-* + *электракардыёграф*) — прыбор для ранняй дыягностыкі каранарнай недастатковасці сэрца.

**ТЭЛІПТЭ́РЫС** (н.-лац. thelypteris) — папараць сям. тэліптэрысавых з вузкаланцэтным двойчыперыстым лісцем, пашыраная ў лясных і горных раёнах зямнога шара, у т. л. на Беларусі; лекавая расліна.

**ТЭЛІТАКІ́Я** (ад гр. thelys = жаночы + tokos = патомства) — з'ява, якая назіраецца ў некаторых насякомых пры *партэнагенезе*, калі ў патомстве з'яўляюцца толькі самкі.

**ТЭЛІФО́НЫ** (н.-лац. thelyphones) — атрад *арахнідаў*, членістаногія жывёлы даўжынёй да 75 мм з падоўжанымі галавагрудзьмі і членістым брушкам, пашыраныя ў тропіках і субтропіках; начныя драпежнікі, якія паядаюць насякомых.

**ТЭЛІЯСПАРАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. teliosporomycetidae) — падклас *базідыяміцэтаў*, для якога характэрна ўтварэнне ў цыкле развіцця тэліяспораў, што пасля стадыі спакою прарастаюць у *базідыі*; пашыраны па ўсім зямным шары; *паразіты* раслін.

**ТЭЛО́М** (ад гр. telos = канец) — канцавы цыліндрычны ўчастак цела прымітыўных наземных вышэйшых раслін.

**ТЭЛОМЕРЫЗА́ЦЫЯ** [ад гр. telos = канец + (*полі*)*мерызацыя*] — утварэнне палімернага злучэння, калі да некалькіх малекул ненасычанага злучэння далучаецца адна малекула насычанага злучэння.

**ТЭЛУ́Р** (н.-лац. tellurium, ад лац. tellus, -luris = Зямля) — хімічны элемент, крохкі серабрыста-шэры метал; выкарыстоўваецца як дабаўка да сплаваў, для *вулканізацыі* каўчукоў і інш.

# Т

**ТЭЛУРЫ́ДЫ** (ад *тэлур*) — хімічныя злучэнні тэлуру з металамі, крышталічныя рэчывы.

**ТЭЛУ́РЫЙ** (лац. tellus, -luris = Зямля) — прыбор, які наглядна паказвае рух Зямлі вакол Сонца і сутачнае вярчэнне Зямлі вакол сваёй восі.

**ТЭЛУРЫ́ЧНЫ** (ад лац. tellus, -luris = Зямля); т - ы я  л і н і і — цёмныя лініі ў сонечным *спектры*, якія ўзнікаюць пры паглынанні святла атамамі хімічных элементаў, што ўваходзяць у склад зямной атмасферы.

**ТЭ́ЛЬФЕР** (англ. telpher, ад гр. tele = далёка + phero = нясу) — машына для паднімання і гарызантальнага перамяшчэння грузаў, таль (гл. *талі*) з электрычным прыводам.

**ТЭ́МА** (гр. thema) — 1) прадмет апісання, адлюстравання, даследавання, размовы (напр. т. рамана, т. даклада); 2) асноўны матыў музычнага твора (напр. т. з варыяцыямі); 3) *лінгв.* аснова слова на тэматычны галосны (напр. чыта- ў слове чытаю).

**ТЭМА́ТЫКА** (ад гр. thema, -atos = тэма) — сукупнасць, кола *тэм*.

**ТЭМБР** (фр. timbre, ад гр. tympanon = барабан) — акустычная афарбоўка гуку голасу, музычнага інструмента, якая падаецца *абертонамі*; якасць, якая дазваляе адрозніваць гукі аднолькавай вышыні пры выкананні на розных інструментах або рознымі галасамі.

**ТЭМП** (іт. tempo, ад лац. tempus = час) — 1) *муз.* хуткасць выканання музычнага твора, абумоўленая частатой руху метрычных лічыльных адзінак (гл. *метр*[2]); 2) ступень хуткасці ў выкананні чаго-н. (напр. т. бегу, т. будаўніцтва).

**ТЭ́МПЕРА** (іт. tempera) — 1) фарбы, расцёртыя на яечным жаўтку або на сумесі клеявога раствору з алеем; 2) карціна, намаляваная такімі фарбамі.

**ТЭМПЕРАВА́ЦЬ** (фр. tempérer, ад лац. temperare = стрымліваць, лагодзіць) — рабіць *тэмперацыю*.

**ТЭМПЕРА́МЕНТ** (лац. temperamentum = належныя суадносіны частак, суразмернасць) — 1) сукупнасць псіхічных рыс асобы, якія залежаць ад фізіялагічных асаблівасцей арганізма і складаюць пэўны псіхалагічны тып (напр. флегматычны т.); 2) жыццёвая энергія, здольнасць да ўнутранага ўздыму, страснасць.

**ТЭМПЕРАТУ́РА** (лац. temperatura = нармальны стан) — 1) ступень нагрэтасці якога-н. цела, рэчыва; 2) паказчык цеплавога стану жывога арганізма.

**ТЭМПЕРА́ЦЫЯ** (лац. temperatio = правільныя суадносіны, суразмернасць) — *муз.* выраўноўванне інтэрвальных суадносін паміж ступенямі гукавой сістэмы.

**ТЭ́МПЛЕТ** (англ. templet) — плоская *фотамадэль* апарата, машыны, канструкцыі, якая выкарыстоўваецца пры праектаванні складаных прамысловых установак, збудаванняў і інш.

**ТЭМПО́ГРАФ** (ад іт. tempo = тэмп + *-граф*) — прыбор, які рэгіструе ступень хуткасці выканання якой-н. работы.

**ТЭНА́КЛЬ** (ням. Tenakel) — падстаўка для ўмацавання старонкі

рукапісу на друкарскай касе ў час набору.

**ТЭНАНТЫ́Т** [ад англ. S. Tennant = прозвішча англ. хіміка (1761 — 1815)] — мінерал падкласа складаных *сульфідаў* шэра-стальнога колеру.

**ТЭ́НАР** (іт. tenore) — 1) высокі мужчынскі голас (напр. лірычны т., драматычны т.), а таксама спявак, які мае такі голас; 2) духавы музычны інструмент, які ўваходзіць у склад духавога аркестра.

**ТЭНАРДЫ́Т** [ад фр. M. Thenard = прозвішча фр. хіміка (1777 — 1857)] — мінерал класа *сульфатаў*, празрысты, пераважна бясколерны, які лёгка раствараецца ў вадзе і выкарыстоўваецца ў якасці сыравіны для содавай, шкляной і некаторых іншых галін прамысловасці.

**ТЭНАРЫ́Т** [ад іт. M. Tenore = прозвішча іт. батаніка (1780 — 1861)] — мінерал падкласа простых вокіслаў чорнага або шэрага колеру з металічным бляскам; служыць сыравінай для атрымання медзі.

**ТЭНДАВАГІНІ́Т** (ад н.-лац. tendo = сухажылле + лац. vagina = похва) — запаленне сухажыльных похваў (часцей кісці рук), якое развіваецца пры перанапружанні, траўме.

**ТЭНДЭНЦЫ́ЙНЫ** (ад *тэндэнцыя*) — 1) які праводзіць пэўную тэндэнцыю 1; 2) прадузяты, неаб'ектыўны.

**ТЭНДЭ́НЦЫЯ** (с.-лац. tendentia = накіраванасць) — 1) напрамак развіцця чаго-н. (грамадства, эканомікі, культуры і інш.); імкненне, свядомы намер; 2) ідэя, асноўная думка, накіраванасць мастацкага, навуковага і інш. твора; 3) прадузятая думка, якую імкнуцца навязаць чытачу або гледачу.

**ТЭ́НДЭР**[1] (англ. tender) — 1) прычапная частка паравоза, дзе знаходзяцца запасы вугалю і вады; 2) невялікая аднамачтавая *яхта* з 2 — 3 косымі парусамі.

**ТЭ́НДЭР**[2] (англ. tender) — форма выдачы заказаў на пастаўку тавараў або падрадаў на выкананне пэўных работ на падставе прапаноў некалькіх пастаўшчыкоў або падрадчыкаў з мэтай забеспячэння найбольш выгадных камерцыйных або іншых умоў здзелкі для арганізатараў гандлю.

**ТЭНЕ́ЗМЫ** (гр. tenesmos = напружанне) — *мед.* балючыя патугі на выпаражненне або мочапусканне без поўнага выдзялення або наогул без эфекту.

**ТЭ́НЗАР** (ад лац. tensus = напружаны) — *мат.* велічыня, якая задаецца лікамі і законамі іх пераўтварэння; з'яўляецца развіццём і абагульненнем *вектара* 2 і *матрыцы* 2.

**ТЭНЗІЁМЕТР** (ад лац. tensio = нацяжэнне + *-метр*) — прыбор для вымярэння паверхневага нацяжэння вадкасцей.

**ТЭНЗІ́МЕТР** (ад лац. tensus = напружаны + *-метр*) — прыбор для вымярэння ціску насычанай пары.

**ТЭНЗІМЕТРЫ́Я** (ад лац. tensus = напружаны + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння ціску насычанай пары.

**ТЭНЗО́МЕТР** (ад лац. tensus = напружаны + *-метр*) — прыбор

# Т

для вымярэння *дэфармацый*, якія выклікаюцца механічным напружаннем у цвёрдых целах (напр. у дэталях машын, канструкцыях, збудаваннях і інш.).

**ТЭНІІДО́ЗЫ** (ад *тэніідаы*) — гліснымя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца тэніідамі.

**ТЭНІ́ІДЫ** (н.-лац. taeniidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, паразітуюць у кішэчніку драпежных млекакормячых, драпежных птушак, чалавека (напр. бычыны цэпень, свіны цэпень і інш.).

**ТЭ́НІС** (англ. tennis) — спартыўная гульня ў мячык, які перакідваецца ўдарамі ракеткі на спецыяльнай пляцоўцы (*корт*[1]), раздзеленай сеткай; н а с т о л ь н ы т. — тое, што і *пінг-понг*.

**ТЭНІСІ́СТ** (ад *тэніс*) — ігрок у тэніс.

**ТЭНІ́Т** (ад гр. tainia = стужка) — мінерал, які змяшчаецца ў жалезных *метэарытах* і з'яўляецца растворам *нікелю* ў жалезе.

**ТЭНТ** (англ. tent) — парусінавая стрэшка, пад якой хаваюцца ад сонца ці ад дажджу.

**ТЭНТАКУЛІ́ТЫ** (н.-лац. tenticulita) — клас вымерлых *малюскаў*, былі пашыраны ў *сілуры* — *дэвоне*, жылі ў моры.

**ТЭНТРАДЫНІ́ДЫ** (н.-лац. tenthredinidae) — сямейства насякомых атрада перапончатакрылых; жывуць у лясах, садах, на палях, лугах.

**ТЭ́НЫ** (англ. thegn, thane) — служылая знаць, дружыннікі караля ў Англіі ранняга сярэднявякоўя.

**ТЭО́ЛАГ** (ад гр. theos = бог + *-лаг*) — багаслоў, спецыяліст у галіне *тэалогіі*.

**ТЭО́БРА** (іт. tiorba) — струнны шчыпковы музычны інструмент, басовая разнавіднасць *лютні*.

**ТЭО́РЫЯ** (гр. theoria = назіранне, даследаванне) — 1) сістэма навуковых поглядаў, ідэй, якія абагульняюць вопыт, грамадскую практыку і адлюстроўваюць аб'ектыўныя заканамернасці развіцця прыроды і грамадства; 2) сукупнасць палажэнняў якой-н. галіны ведаў (напр. т. ваеннай навукі, т. шахматнай гульні); 3) уласныя меркаванні, погляды на што-н.

**ТЭРАКО́ТА** (іт. terra cotta = *літар.* абпаленая зямля) — жоўтая або чырвоная абпаленая гліна і непаліваныя вырабы з яе; разнавіднасць керамікі.

**ТЭРАМА́РЫ** (іт. terra amara = горкая зямля) — умацаваныя пасяленні бронзавага веку ў Паўн. Італіі, якія будаваліся на палях.

**ТЭРАМІЦЫ́Н** (англ. terramycin, ад лац. terra = зямля + гр. mykes = грыб) — лекавы сродак з групы *антыбіётыкаў*, які ўжываецца пры запаленні лёгкіх, *бруцэлёзе*, *ганарэі* і пры хваробах вачэй.

**ТЭРАМО́РФЫ** (ад гр. ther = звер + *-морфы*) — падклас вымерлых паўзуноў, рэшткі якіх сустракаюцца ў адкладах *палеазою* і *мезазою*; зверападобныя.

**ТЭРАПЕ́ЎТ** (гр. therapeutes) — урач, спецыяліст па ўнутраных хваробах (*тэрапіі* 1).

**ТЕРАПЕ́ЎТЫКА** (гр. therapeutikos = лячэбны) — тое, што і *тэрапія*.

# Т

**ТЭРАПІ́Я** (гр. therapeia) — 1) раздзел *медыцыны*, які вывучае ўнутраныя хваробы і займаецца лячэннем іх лекавымі сродкамі і іншымі нехірургічнымі спосабамі; 2) лячэнне хворага (у адносінах да разнастайных метадаў, напр. гарманальная т.).

**ТЭРАПСІ́ДЫ** (н.-лац. therapsida) — атрад вымерлых паўзуноў падкласа *сінапсідаў* (напр. *дынацэфалы*, *дыцынадонты*), якія жылі ў *мезазоі*.

**ТЭРАРЫЗАВА́ЦЬ** (фр. terroriser, ад лац. terror = страх) — страшыць *тэрорам*, расправай, забойствам.

**ТЭРАРЫ́ЗМ** (фр. terrorisme, ад лац. terror = страх) — палітыка і тактыка *тэрору*.

**ТЭРА́РЫЙ** гл. *тэрарыум*.

**ТЭРАРЫ́СТ** (фр. terroriste, ад лац. terror = страх) — прыхільнік і ўдзельнік актаў *тэрору*.

**ТЭРА́РЫУМ, ТЭРА́РЫЙ** (н.-лац. terrarium, ад лац. terra = зямля) — памяшканне для ўтрымання земнаводных і паўзуноў.

**ТЭРА́СА** (фр. terrasse, ад лац. terra = зямля) — 1) плоская пляцоўка натуральнага або штучнага паходжання на схіле мясцовасці, якая ўтварае ўступ; 2) прыбудаваная да дома адкрытая або зашклёная пляцоўка з дахам.

**ТЭРАТАГЕНЕ́З** (ад гр. teras, -atos = пачвара + -генез) — узнікненне анамалій развіцця ў жывёл і чалавека ў выніку парушэння зародкавага развіцця арганізма.

**ТЭРАТАГЕ́ННАСЦЬ** (ад гр. teras, -atos = пачвара + genesis = паходжанне) — здольнасць фізічнага, хімічнага або біялагічнага фактару (напр. лякарства, віруса і інш.) у перыяд цяжарнасці парушаць развіццё тканак і органаў плода і прыводзіць да ўзнікнення анамалій развіцця.

**ТЭРАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. teras, -atos = пачвара + *-логія*) — раздзелы *медыцыны*, *заалогіі* і *батанікі*, якія вывучаюць *анамаліі*, заганы развіцця і выродлівасці чалавека, жывёл і раслін.

**ТЭРАТО́МА** (ад гр. teras, -atos = пачвара + *-ома*) — дабраякасная пухліна, якая з'яўляецца вынікам парушэння эмбрыянальнага развіцця.

**ТЭРАФІ́ТЫ** (ад гр. theros = лета + *-фіты*) — расліны, якія неспрыяльны перыяд года (халодны ці сухі) перажываюць у выглядзе насення (напр. бусельнік цыкутавы, васілёк сіні).

**ТЭ́РБІЙ** (н.-лац. terbium, ад Ytterby = назва мясцовасці ў Швецыі) — хімічны элемент з сямейства *лантаноідаў*, бліскучы метал, які выкарыстоўваецца ў розных сплавах, *люмінафорах*, пры вырабе шкла, лакаў.

**ТЭРДЭСІЕ́Н** (фр. terre de Sienne = сіенская зямля) — тое, што і *сіена*.

**ТЭР'Е́РЫ** (англ. terriers, ад фр. terrier = нара) — група парод паляўнічых, службовых і пакаёвых сабак; найбольшае практычнае значэнне маюць *фокстэр'еры* і *эрдэльтэр'еры*.

**ТЭ́РЛІК** (цюрк. terlik) — вузкі ў поясе халат з кароткімі рукавамі.

**ТЭРМА-** (гр. therme = цяпло) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «тэмпература», «цяпло».

# Т

**ТЭРМААНЕМО́МЕТР** (ад *тэрма- + анемометр*) — прыбор для вымярэння хуткасці ветру, дзеянне якога асноўваецца на залежнасці цеплааддачы нагрэтага цела ад хуткасці патоку паветра.

**ТЭРМААНТРАЦЫ́Т** (ад *тэрма- + антрацыт*) — антрацыт, падвергнуты цеплавой апрацоўцы; выкарыстоўваецца як металургічная паліва і як паўфабрыкат для вырабу вугальных *электродаў*.

**ТЭРМАБАРАКА́МЕРА** (ад *тэрма- + баракамера*) — герметычная камера, у якой можна змяняць тэмпературу і ціск паветра; выкарыстоўваецца пры вывучэнні ўплыву тэмпературы і ціску на чалавека, жывёл і раслін, для лячэння людзей, трэніроўкі касманаўтаў і інш.

**ТЭРМАБАРО́МЕТР** (ад *тэрма- + барометр*) — тое, што і *гіпсатэрмометр*.

**ТЭРМАБАТАРЭ́Я** (ад *тэрма- + батарэя*) — тэрмаэлектрычнае прыстасаванне са злучаных паслядоўна і паралельна некалькіх тэрмаэлементаў для непасрэднага ператварэння цеплавой энергіі ў электрычную.

**ТЭРМАБАТЫГРА́Ф** (ад *тэрма-* + гр. bathys = глыбіня + *-граф*) — аўтаматычны прыбор для рэгістрацыі тэмпературы вады на глыбіні; выкарыстоўваецца ў акіянаграфічных даследаваннях.

**ТЭРМАГЕНЕРА́ТАР** (ад *тэрма- + генератар*) — машына для непасрэднага ператварэння цеплавой энергіі ў электрычную.

**ТЭРМАГЕ́ННЫ** (ад *тэрма- + -генны*); т ы я б а к т э р ы і — спараносныя бактэрыі, якія ў працэсе жыццядзейнасці выдзяляюць значную колькасць цяпла.

**ТЭРМАГРА́МА** (ад *тэрма- + -грама*) — крывая тэмпературы, запісаная з дапамогай *тэрмографа*.

**ТЭРМАГРА́ФІЯ** (ад *тэрма- + -графія*) — 1) рэгістрацыя змен тэмпературы паветра, вады або якога-н. цела; 2) спосаб размнажэння рукапісных і друкаваных матэрыялаў.

**ТЭРМАДЫНА́МІКА** (ад *тэрма- + дынаміка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае законы цеплавога руху і яго ўплыў на фізічныя ўласцівасці цел.

**ТЭРМАДЫФУ́ЗІЯ** (ад *тэрма- + дыфузія*) — дыфузія састаўных частак раствору або газавай сумесі, абумоўленая розніцай тэмператур.

**ТЭРМАЗІ́Т** (ад гр. thermos = цёплы) — штучны порысты запаўняльнік лёгкіх бетонаў, які атрымліваецца з расплаўленых металургічных шлакаў; шлакавая пемза.

**ТЭРМАЗІТАБЕТО́Н** (ад *тэрмазіт + бетон*) — разнавіднасць лёгкага бетону, у якім запаўняльнікам з'яўляецца тэрмазіт; выкарыстоўваецца для вырабу панэляў, блокаў і перакрыццяў.

**ТЭРМАІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *тэрма- + ізаляцыя*) — ахова жылых, вытворчых збудаванняў, цеплаўстановак, трубаправодаў ад непажаданага цеплавога абмену з навакольным асяроддзем; цеплаізаляцыя.

**ТЭРМАІО́ННЫ** (ад *тэрма- + іон*) — звязаны з выдзяленнем іонаў моцна нагрэтымі цвёрдымі або вадкімі целамі.

**ТЭРМАКА́МЕРА** (ад *тэрма-* + *камера*) — выпрабавальнае прыстасаванне, асноўным элементам якога з'яўляецца *рэзервуар*, унутры якога можна змяняць тэмпературу паветра па зададзенаму рэжыму.

**ТЭРМАКАМПРЭ́СІЯ** (ад *тэрма-* + *кампрэсія*) — зварка металічных вырабаў ціскам пры высокай тэмпературы (напр. пры вырабе *транзістараў*).

**ТЭРМАКАПІ́Р** (ад *тэрма-* + ням. kopieren = капіраваць) — апарат для вырабу копій дакументаў на тэрмаадчувальнай паперы.

**ТЭРМАКАРАТА́Ж** (ад *тэрма-* + *каратаж*) — каратаж, які прымяняецца для вывучэння цеплавых з'яў і працэсаў у зямной кары пры дапамозе апушчанага ў свідравіну тэрмометра супраціўлення.

**ТЭРМАКА́РСТ** (ад *тэрма-* + *карст*) — працэс прасядання грунту, утварэння ўпадзін у выніку раставання лёду ў грунтах і горных пародах, якія захоўвалі мерзлату на працягу многіх гадоў.

**ТЭРМАКА́ЎСТЫКА** (ад *тэрма-* + *каўстыка*) — тое, што і *гальванакаўстыка*.

**ТЭРМАКА́ЎТЭР** (ад *тэрма-* + *каўтэр*) — тое, што і *гальванакаўтэр*.

**ТЭРМАЛАБІ́ЛЬНЫ** (ад *тэрма-* + *лабільны*) — нястойкі супраць дзеяння цяпла.

**ТЭРМА́ЛЬНЫ** (фр. thermal, ад гр. thermos = цёплы) — які мае адносіны да *тэрмаў* 2.

**ТЭРМАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *тэрма-* + *люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя цел ад награвання іх.

**ТЭРМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *тэрма-* + *-метрыя*) — 1) раздзел эксперыментальнай *фізікі*, які вывучае метады вымярэння тэмпературы, спосабы складання і градуіравання тэмпературных шкал; 2) *мед.* вымярэнне тэмпературы цела чалавека.

**ТЭРМАНА́СТЫЯ** (ад *тэрма-* + *настыі*) — рух органаў раслін, які выклікаецца зменай тэмпературы.

**ТЭРМАНЕСТЭЗІ́Я** (ад *тэрма-* + *анестэзія*) — страта адчування тэмпературы.

**ТЭРМАПА́РА** (ад *тэрма-* + *пара*) — тэрмаадчувальны элемент ва ўстройствах для вымярэння тэмпературы ў сістэмах кіравання і кантролю.

**ТЭРМАПА́ЎЗА** (ад *тэрма-* + *паўза*) — слой атмасферы, у якім тэмпература не змяняецца з вышынёй; слой над *тэрмасферай*.

**ТЭРМАПЕНЕТРА́ЦЫЯ** (ад *тэрма-* + гр. tenetro = пранікаю) — тое, што і *дыятэрмія*.

**ТЭРМАПЛА́СТЫ** (ад *тэрма-* + *-пласт*) — *пластмасы*, якія пасля фармавання вырабаў захоўваюць здольнасць да паўторнай перапрацоўкі (параўн. *рэактапласты*).

**ТЭРМАРЭГУЛЯ́ТАР** (ад *тэрма-* + *рэгулятар*) — прыбор для аўтаматычнага падтрымання зададзенай тэмпературы ў розных устаноўках.

**ТЭРМАРЭГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *тэрма-* + *рэгуляцыя*) — сукупнасць фізіялагічных працэсаў, якія забяспечваюць падтрыманне адносна пастаяннай тэмпературы цела чалавека і цеплакроўных (*гамаятэрмных*) жывёл; цеплarэгуляцыя.

# Т

**ТЭРМАРЭЗІ́СТАР** (ад *тэрма-* + *рэзістар*) — паўправадніковы рэзістар, электрычнае супраціўленне якога істотна памяншаецца або ўзрастае з ростам тэмпературы.

**ТЭРМАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *тэрма-* + *рэцэптары*) — рэцэптары ў скуры і слізістых абалонках чалавека і жывёл, якія дазваляюць адчуваць цяпло і холад.

**ТЭРМАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад *тэрма-* + *рэцэпцыя*) — успрыманне *тэрмарэцэптарамі* змен тэмпературы, якое суправаджаецца ўзнікненнем нервовых імпульсаў з наступнай перадачай сігнала ў цэнтральную нервовую сістэму.

**ТЭ́РМАС** (гр. thermos = цёплы) — пасудзіна асобай будовы для падтрымання пастаяннай тэмпературы таго, што ў ёй змешчана.

**ТЭРМАСІФО́Н** (ад *тэрма-* + *сіфон*) — сістэма ахаладжэння рухавікоў, у якой цыркуляцыя вады ў абалонках цыліндраў і ў *радыятары* абумоўліваюцца рознай іх гушчынёй у нагрэтым і ахаладжаным станах.

**ТЭРМАСКО́П** (ад *тэрма-* + *-скоп*) — прыбор для вызначэння рознасці тэмпературы без яе дакладнага вымярэння.

**ТЭРМАСТА́Т** (ад *тэрма-* + *-стат*) — апарат, у якім пры дапамозе аўтаматычных рэгулятараў падтрымліваецца пастаянная тэмпература.

**ТЭРМАСФЕ́РА** (ад *тэрма-* + *сфера*) — слой *атмасферы* вышэй за 80 км, у якім тэмпература ўзрастае з вышынёй да вельмі высокіх значэнняў.

**ТЭРМАТА́КСІС** (ад *тэрма-* + *таксісы*) — рухі свабоднаперамяшчальных прасцейшых арганізмаў пад уплывам аднабаковага цеплавога раздражнення.

**ТЭРМАТА́НК** (ад *тэрма-* + *танк*) — прыстасаванне на судне для вентыляцыі з адначасовым падаграваннем або ахаладжваннем паветра.

**ТЭРМАТРАПІ́ЗМ** (ад *тэрма-* + *трапізмы*) — роставыя рухі органаў раслін (кончыкаў каранёў або сцёблаў) у напрамку да крыніцы цяпла або ад яе.

**ТЭРМАТЭРАПІ́Я** (ад *тэрма-* + *тэрапія*) — лячэнне цяплом.

**ТЭРМАФАСФА́ТЫ** (ад *тэрма-* + *фасфаты*) — фосфарныя ўгнаенні, якія атрымліваюцца ў выніку спякання або сплаўкі фасфатаў са шчолачнымі солямі.

**ТЭРМАФІКСА́ЦЫЯ** (ад *тэрма-* + *фіксацыя*) — апрацоўкаваўняных тканін парай або гарачай вадой для іх зберажэння і паляпшэння якасці.

**ТЭРМАФІ́ЛЫ** (ад *тэрма-* + *-філ*) — арганізмы, якія нармальна развіваюцца пры высокай тэмпературы, напр. некаторыя рыбы, бактэрыі, папаратнікавыя і кветкавыя расліны (параўн. *крыяфілы*).

**ТЭРМАФО́БЫ** (ад *тэрма-* + *-фоб*) — арганізмы, якія не развіваюцца пры высокай тэмпературы, напр. многія беспазваночныя і пазваночныя жывёлы, розныя бактэрыі, водарасці, грыбы, імхі, кветкавыя расліны.

**ТЭРМАФО́Р** (ад *тэрма-* + *-фор*) — прылада для лячэння цяплом; электрычная грэлка.

**ТЭРМАХІ́МІЯ** (ад *тэрма-* + *хімія*) — раздзел фізічнай хіміі, які вывучае цеплавыя рэакцыі і сумежныя хімічныя працэсы.

**ТЭРМАЭЛЕКТРАГЕНЕРА́ТАР** [ад *тэрма-* + *электры(чны)* + *генератар*] — прыстасаванне для непасрэднага ператварэння цяпла ў электрычную энергію.

**ТЭРМАЭЛЕКТРО́НЫ** (ад *тэрма-* + *электрон*) — электроны, якія выпускаюцца моцна нагрэтымі металічнымі целамі.

**ТЭРМАЭЛЕКТРЫ́ЧНЫ** (ад *тэрма-* + *электрычны*) — 1) звязаны з працэсам непасрэднага пераходу цеплавой энергіі ў электрычную ў праваднiках; 2) заснаваны на дзеянні двух розных праваднікоў, якія ўтвараюць замкнуты ланцуг (напр. т. тэрмометр).

**ТЭРМАЭЛЕМЕ́НТ** (ад *тэрма-* + *элемент*) — тое, што і *тэрмапара*.

**ТЭРМАЭМІ́СІЯ** (ад *тэрма-* + *эмісія*) — эмісія *тэрмаэлектронаў*.

**ТЭРМІДО́Р** (фр. thermidor, ад гр. therme = цяпло + doron = дар) — 1) адзінаццаты месяц (з 19/20 ліпеня да 17/18 жніўня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793 — 1805 гг.; 2) контррэвалюцыйны пераварот 9 тэрмідора II г. (27 ліпеня 1794 г.) у Францыі, у выніку якога была ліквідавана якабінская дыктатура і ўстаноўлена панаванне буйной буржуазіі.

**ТЭ́РМІКА** (ад гр. thermos = цёплы) — навука, якая займаецца пытаннямі ўтварэння, акумуляцыі і выдзялення цяпла.

**ТЭ́РМІН** (лац. terminus = канец, мяжа) — 1) пэўны прамежак часу, адведзены для чаго-н.; 2) вызначаная дата, да наступлення якой што-н. павінна адбыцца, закончыцца; 3) слова, якое дакладна абазначае якое-н. паняцце ў навуцы, тэхніцы, мастацтве.

**ТЭРМІНА́Л** (лац. terminalis = які мае адносіны да канца) — 1) адзін з пультаў у складзе вылічальнай сістэмы, які прызначаны для ўводу інфармацыі ў сістэму і вываду інфармацыі з яе; 2) частка порта, дзе апрацоўваюцца кантэйнерныя і пакетаваныя грузы.

**ТЭРМІНАЛО́ГІЯ** (ад *тэрмін* + *-логія*) — раздзел *лексікі*, які ахоплівае тэрміны розных галін ведаў; 2) сукупнасць тэрмінаў якой-н. галіны навукі, тэхнікі, мастацтва або ўсіх тэрмінаў дадзенай мовы.

**ТЭРМІНА́ЛЬНЫ** (лац. terminalis, ад terminus = мяжа, край) — канцавы, канечны (напр. т. стан арганізма).

**ТЭРМІНА́ТАР** (ад лац. terminare = размяжоўваць) — мяжа паміж асветленай Сонцам і цёмнай часткамі нябеснага цела.

**ТЭРМІНІ́ЗМ** (ад лац. terminus = слова, тэрмін) — ідэалістычнае філасофскае вучэнне, якое сцвярджае, што агульныя паняцці — гэта словы, якія не маюць адпаведнасцей у аб'ектыўнай рэальнасці.

**ТЭРМІ́СТАР** [ад *тэрма-* + англ. (res)istor = супраціўленне] — паўправадніковае супраціўленне, велічыня якога ў значнай ступені залежыць ад тэмпературы.

**ТЭРМІ́Т** (ад гр. therme = цяпло, гарачыня) — парашкападобная су-

# Т

месь алюмінію з вокісламі некаторых металаў (звычайна жалеза), якая пры гарэнні дае высокую тэмпературу.

**ТЭРМІ́ТЫ** (фр. termites, ад с.-лац. termes, -mitis = жук-караед) — атрад насякомых; пашыраны пераважна ў тропіках; падобна мурашкам жывуць згуртаваннямі ў вялікіх гнёздах і з'яўляюцца шкоднікамі драўніны.

**ТЭРМІ́ЧНЫ** (ад гр. thermos = цёплы, гарачы) — звязаны з прымяненнем цеплавой энергіі (напр. т-ая апрацоўка металаў).

**ТЭРМІ́Я** (ад гр. thermos = цёплы) — адзінка цяпла, роўная адной *мегакалорыі* ($10^6$ *калорый*).

**-ТЭРМІЯ, -ТЭРМНЫ** (ад гр. therme = цяпло, гарачыня) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «цяпло», «гарачыня».

**ТЭРМО́ГРАФ** (ад *тэрма-* + *-граф*) — метэаралагічны прыбор для аўтаматычнага запісу змен тэмпературы паветра.

**ТЭРМО́МЕТР** (ад *тэрма-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння тэмпературы ў пэўных адзінках (градусах).

**ТЭРМО́ПСІС** (н.-лац. thermopsis, ад гр. thermos = лубін + opsis = выгляд) — травяністая расліна сям. бабовых з трайчастым лісцем і жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Азіі і Паўн. Амерыцы; змяшчае *алкалоіды*, што выкарыстоўваюцца ў медыцыне.

**ТЭ́РМЫ** (лац. thermae, ад гр. therme = цяпло) — 1) грамадскія лазні ў Стараж. Рыме з заламі для спорту, сходаў і інш.; 2) падземныя воды і крыніцы, якія маюць тэмпературу вышэй за 20 °С; 3) лікі, якія характарызуюць энергетычныя ўзроўні атамаў.

**-ТЭРМЫ** (гр. therme = цяпло, гарачыня) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «цяпло», «гарачыня».

**ТЭРНА́РНЫ** (лац. ternarius = трайны); т-ая рыфмоўка — сістэма трайных сугуччаў *клаўзул* 3 у шасцірадковай страфе.

**ТЭРНЕ́ЦЫЯ** (н.-лац. ternetzi) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў азёрах і павольна цякучых рэках Бразіліі, Балівіі, Парагвая.

**ТЭРО́Р** (лац. terror = страх, жах) — насілле, якое даходзіць да фізічнага знішчэння праціўнікаў.

**ТЭРПЕНЦІ́Н** (ням. Terpentin, ад гр. terebinthinos = тэрпенцінавы) — смалістае рэчыва, якое выдзяляецца са ствала хвойных дрэў у месцах разрэзу і пры перагонцы дае *шкіпінар* і *каніфоль*; жывіца.

**ТЭРПЕ́НЫ** (ад гр. terebinthos = тэрпенцінавае дрэва) — арганічныя злучэнні, якія знаходзяцца ў смале хвойных дрэў, эфірным алеі, *шкіпінары* і выкарыстоўваюцца ў медыцыне, парфумерыі і інш.

**ТЭРПІНГІДРА́Т** (ад *тэрпен* + *гідрат*) — лекавы прэпарат, які здабываюць са *шкіпінару*, бясколерны парашок, горкі на смак; выкарыстоўваецца як адхарквальны сродак пры хранічным бранхіце.

**ТЭРПСІХО́РА** (гр. terpsichora = муза танцаў у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* балерына.

**ТЭРЦДЭЦЫ́МА** (іт. terzodecima, ад лац. tertia decima = трынаццa-

тая) — *муз.* 1) інтэрвал, які ахоплівае трынаццаць ступеней дыятанічнага гукарада; 2) трынаццатая ступень двухактаўнага дыятанічнага гукарада.

**ТЭРЦЫ́НА** (іт. terzina, ад terzo = трэці) — вершаваная форма, што складаецца з трохрадковых *строф*, у якіх сярэдні радок кожнай папярэдняй страфы рыфмуецца з двума крайнімі радкамі наступнай.

**ТЭ́РЦЫЯ** (лац. tertia = трэцяя) — 1) *муз. інтэрвал*, які ахоплівае тры ступені дыятанічнага гукарада; 2) друкарскі *шрыфт, кегель* якога роўны 16 пунктам (6 мм); выкарыстоўваецца для набору загалоўкаў.

**ТЭРЦЭ́Т** (іт. terzetto, ад лац. tertius = трэці) — 1) *ансамбль* з трох выканаўцаў, пераважна вакальны; 2) музычная п'еса для трох выканаўцаў; 3) вершаваная *страфа* ў санеце, якая складаецца з трох радкоў; трохрадкоўе.

**ТЭРЫГЕ́ННЫ** (лац. terrigenus = які ўзнік з зямлі); т-ыя адклады — адклады, якія складаюцца з абломкаў горных парод і мінералаў, што знесены з сушы ў моры і акіяны.

**ТЭРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. theridium) — павук сям. цянётнікаў, які жыве на кустах, нізкіх галінках дрэў, высокіх сухіх раслінах.

**-ТЭРЫЙ** (гр. therion = звер) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «выкапнёвая жывёліна».

**ТЭРЫКО́НІК** (фр. terriconique, ад terri = пародны адвал + conique = канічны) — конусападобны адвал пустой пароды на паверхні зямлі каля шахты.

**ТЭРЫЛЕ́Н** (англ. terylene) — назва ў Англіі сінтэтычнага валакна і тканіны з яго, якія на Беларусі называюцца лаўсанам.

**ТЭРЫТАРЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. territorialis) — звязаны з пэўнай зямельнай прасторай, *тэрыторыяй* (напр. т-ыя воды, т-ыя дыялекты).

**ТЭРЫТО́РЫЯ** (лац. territorium, ад terra — зямля) — 1) прастора зямлі з пэўнымі межамі (напр. т. раёна, т. горада); 2) вобласць пашырэння, распаўсюджання якіх-н. з'яў (напр. моўная т.).

**ТЭРЫЯДО́НТЫ** (ад гр. therion = звер + odus, odontos = зуб) — падатрад вымерлых паўзуноў, некаторыя прадстаўнікі якога былі продкамі млекакормячых; вядомы з адкладаў *палеазою* і *мезазою*; зверазубыя.

**ТЭРЫЯЛО́ГІЯ** (ад гр. therion = звер + *-логія*) — тое, што і *мамаліялогія*.

**ТЭРЫЯФА́УНА** (ад гр. therion = звер + *фауна*) — сукупнасць відаў млекакормячых, якія насяляюць пэўную тэрыторыю або жылі ў нейкі перыяд гісторыі Зямлі.

**ТЭРЫЯФІЛІ́Я** (ад гр. therion = звер + *-філія*) — перакрыжаванае апыленне некаторых раслін пры дапамозе млекакормячых (грызуноў і інш.).

**ТЭРЭНКУ́Р** (ням. Terrainkur, ад фр. terrain = мясцовасць + ням. Kur = лячэнне) — метад лячэння дазіраванай у часе і адлегласці хадзьбой па спецыяльна арганізаваных маршрутах; сама дарожка для такой хадзьбы.

# Т

**ТЭСІТУ́РА** (іт. tessitura, ад tessere = ткаць) — вышыннае становішча гуку ў музычным творы адносна дыяпазону пеўчага голасу або інструмента, для якіх твор напісаны.

**ТЭ́СЛА** [харв. W. Tesla = прозвішча харв. фізіка і вынаходцы (1856 — 1943)] — адзінка магнітнай *індукцыі* ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ).

**ТЭСЛА́МЕР** (ад *тэсла* + -метр) — прыбор для вымярэння *індукцыі* або напружанасці магнітнага поля ў немагнітных асяроддзях.

**ТЭСТ** (англ. test = выпрабаванне, даследаванне) — 1) спецыяльнае заданне для выяўлення здольнасцей, схільнасцей, валявых якасцей чалавека; 2) апытальнік для сацыялагічнага абследавання.

**ТЭСТАСТЭРО́Н** (ад лац. testis = мужчынскае яечка + гр. stereos = цвёрды) — гармон мужчынскіх палавых залоз, які абумоўлівае фарміраванне палавых органаў і другасных палавых прымет.

**ТЭСТУДЫНІ́ДЫ** (ад лац. testudo, -dinis = чарапаха) — сямейства паўзуноў атрада чарапах; пашыраны ў трапічных, субтрапічных і часткова ўмераных зонах усіх кантынентаў, акрамя Аўстраліі; наземныя чарапахі.

**ТЭСТЫКУЛЯ́РНЫ** (ад лац. testis, -iculus = мужчынскае яечка) — *мед.* які адносіцца да яечка; семянны.

**ТЭСТЫ́Т** (ад лац. testis = мужчынскае яечка) — тое, што і *архіт.*

**ТЭ́СЦЕР** (англ. tester, ад test = выпрабоўваць, даследаваць) — універсальны вымяральны прыбор, пры дапамозе якога можна вызначыць розныя электрычныя велічыні (напр. актыўнае супраціўленне, сілу электрычнага току або напружанне ў электрычных ланцугах), праверыць радыёлакацыйную станцыю і іншую высокачастотную апаратуру.

**ТЭСЦІ́РАВАЦЬ** (лац. testari = сведчыць) — вызначаць разумовыя здольнасці, схільнасці, валявыя якасці чалавека і іншыя бакі яго асобы пры дапамозе *тэстаў*.

**ТЭТАНІ́Я** (ад гр. tetanos = напружанне, сутарга) — тое, што і *спазмафілія*.

**ТЭ́ТАНУС** (лац. tetanus, ад гр. tetanos = напружанне, сутарга) — 1) працяглае скарачэнне мышцаў чалавека і жывёл пад уздзеяннем рада частых раздражненняў; 2) вострая інфекцыйная хвароба чалавека і жывёл, выкліканая слупняковай палачкай; слупняк.

**ТЭТ-А-ТЭ́Т** (фр. tête-á-tête) — сам-насам, удваіх без сведак.

**ТЭТ-ДЭ-ПО́Н** (фр. tête de pont, ад tête = галава + pont = мост) — умацаванне на беразе воднай перашкоды для прыкрыцця пераправы войск цераз мост.

**ТЭТМЕМО́РУС** (н.-лац. tetmemorus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая пашырана пераважна ў сфагнавых і тарфяных вадаёмах.

**ТЭТРА-** (гр. tetras = чатыры) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «чатыры».

**ТЭТРАБРОМІНДЫ́ГА** (ад *тэтра-* + *броміндыга*) — тое, што і *броміндыга*.

**ТЭТРАГАНА́ЛЬНЫ** (н.-лац. tetragonalis, ад гр. tetragonos = чатырохвугольны) — чатырохвугольны.

**ТЭТРАГНА́ТА** (н.-лац. tetragnatha) — павук сям. тэтрагнатавых, які жыве ў траве і хмызняках па берагах вадёмаў; актыўны драпежнік, знішчае мух, пільшчыкаў, вусачоў.

**ТЭТРАГО́Н** (гр. tetragonon, ад tetras = чатыры + gonia = вугал) — чытырохвугольнік.

**ТЭТРАКЛА́ДЫЙ** (н.-лац. tetracladium) — недасканалы грыб сям. *маніліевых*, які развіваецца ў прэснай вадзе на гнілым лісці.

**ТЭТРАКО́КІ** (ад *тэтра-* + *кокі*) — шарападобныя бактэрыі, якія ўтвараюць сукупнасці, што складаюцца з чатырох клетак, размешчаных на адной плоскасці.

**ТЭТРАЛА́НТАС** (н.-лац. tetrallanthos) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнедэсмавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ТЭТРАЛІ́Н** [ад *тэтра-* + *(нафта)лін*] — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць, якая выкарыстоўваецца як растваральнік тлушчаў, смол.

**ТЭТРАЛО́ГІЯ** (гр. tetralogia) — чатыры літаратурныя або музычныя творы аднаго аўтара, звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю сюжэта.

**ТЭТРАМЕ́РАС** (н.-лац. tetrameres) — *гельмінт* класа *нематодаў*, паразітуе ў слізістай абалонцы страўніка свойскіх птушак.

**ТЭТРАМЕРО́ЗЫ** (ад *тэтрамерас*) — глісныя хваробы птушак, якія выклікаюцца тэтрамерасам.

**ТЭТРА́МЕТР** (гр. tetrametron, ад tetras = чатыры + metron = мера) — верш з чатырох харэічных *дыподый* з *цэзурай* пасля другой і ўсячэннем апошняй у антычным вершаскладанні.

**ТЭТРАНЕЎРУ́ЛА** (ад *тэтра-* + гр. neuron = жыла, нерв) — гіпатэтычная жывёла, якая з'яўляецца прататыпам вышэйшых жывёл, што валодаюць білатэральнай сіметрыяй.

**ТЭТРАНІТРАМЕТА́Н** (ад *тэтра-* + гр. nitron = салетра + *метан*) — бясколерная рухомая вадкасць з рэзкім пахам, атрутная, выбуханебяспечная; выкарыстоўваецца як акісляльнік у вадкіх выбуховых сумесях і ракетным паліве.

**ТЭТРАПЕ́ДЫЯ** (н.-лац. tetrapedia) — каланіяльная або адзіночная водарасць сям. тэтрапедыевых, якая трапляецца ў азёрах.

**ТЭТРАПЛЕГІ́Я** (ад *тэтра-* + гр. plege = удар) — *мед.* паралiч чатырох канечнасцей, звычайна пры пашкоджанні шыйнага аддзела спіннога мозгу.

**ТЭТРАПЛЕ́КТРАН** (н.-лац. tetraplektron) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, рэк, сажалак, лужын, канаў.

**ТЭТРАПО́ДЫ** (гр. tetrapodes) — зборная група наземных пазваночных, пачынаючы з *амфібій* і заканчваючы млекакормячымі; чацвераногія.

# Т

**ТЭТРА́РКУС** (н.-лац. tetrarcus) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. кокабактрэйных, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ТЭТРА́РХ** (лац. tetrarcha, ад гр. tetrarches) — правіцель *тэтрархіі* ў Стараж. Грэцыі і Рымскай імперыі.

**ТЭТРА́РХІЯ** (лац. tetrarchia, ад гр. tetrarchia) — 1) падзел улады паміж чатырма правіцелямі ў Старараж. Грэцыі і Рымскай імперыі; 2) акруга, якая падначальвалася ўладзе *тэтрарха*.

**ТЭТРАСПО́РА** (н.-лац. tetraspora) — каланіяльная зялёная водарасць сям. тэтраспоравых, якая трапляецца ў стаячых вадаёмах (лужах, сажалках, невялікіх азёрах, канавах).

**ТЭТРА́СТРУМ** (н.-лац. tetrastrum) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнедэсмавых, якая трапляецца ў сажалках, рэках і азёрах.

**ТЭТРАТАМАКО́КУС** (н.-лац. tetratomococcus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. дыктыясферыевых, якая пашырана ў *планктоне* азёр, рэк.

**ТЭТРА́ФІС** (н.-лац. tetraphis) — лістасцябловы мох сям. георгіевых, які расце ў цяністых і вільготных лясах на гнілых пнях, ламаччы.

**ТЭТРАХЛАРЭ́ЛА** (н.-лац. tetrochlorella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнедэсмавых, якая пашырана ў *планктоне* азёр, рэк.

**ТЭТРАХО́РД** (гр. tetrachordon, ад tetras = чатыры + chorde = струна) — музычны чатырохступенны гукарад у аб'ёме *кварты* 3.

**ТЭТРАЦЫКЛІ́Н** (ад *тэтра-* + гр. kyklos = абвод, кола) — лекавы сродак з групы антыбіётыкаў, які ўжываецца пры запаленні лёгкіх, *дызентэрыі, коклюшы, бруцэлёзе* і іншых хваробах.

**ТЭТРАЦЫ́КЛУС** (н.-лац. tetracyclus) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. табелярыевых, якая пашырана пераважна ў прэсных вадаёмах паўночных абласцей і гор.

**ТЭТРА́ЭДР** (гр. tetraedron, ад tetras = чатыры + hedra = грань) — правільны чатырохграннік, кожная грань якога мае форму трохвугольніка.

**ТЭТРАЭ́ДРАН** (н.-лац. tetraedron) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысцієвых, якая трапляецца ў *планктоне*, радзей у *бентасе* азёр, сажалак, рэк, вадасховішчаў, саланаватых вадаёмаў.

**ТЭТРАЭДРЫЕ́ЛА** (н.-лац. tetraedriella) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, тарфяных балот, сажалак, лужын.

**ТЭТРАЭДРЫ́Т** (ад гр. tetraedron, ад tetras = чатыры + hedra = грань) — мінерал класа сульфасолей шэрага або чорнага колеру; уваходзіць у склад медных руд.

**ТЭТРО́Д** [ад *тэтра-* + *(электр)од*] — электравакуумная лямпа з чатырма электродамі (*катодам, анодам*, кіруючай і экрануючай сеткамі); выкарыстоўваецца ў *радыёэлектроніцы*.

**ТЭТРО́ЗЫ** (ад гр. tetros = чатыры) — простыя цукры, у малекулах якіх ёсць чатыры атамы вугляроду.

**ТЭТРЫ́Л** (ад *тэтра-* + гр. yle = рэчыва) — выбуховае рэчыва ў выглядзе бела-жаўтаватых крышталёў, нераставральных у вадзе, якія выкарыстоўваюцца для вырабу *дэтанатараў*.

**ТЭУРГІ́Я** (гр. theurgia = цуд) — від *магіі*; дзеянні, пры дапамозе якіх веруючыя намагаюцца паўплываць на волю багоў і духаў, каб змяніць ход падзей.

**ТЭЎТА́НА** (н.-лац. teutana) — павук сям. цянётнікаў, які жыве ў дамах і іншых пабудовах, пад камянямі.

**ТЭФЛО́Н** (англ. teflon) — сінтэтычны *палімер*, цвёрды белы прадукт; выкарыстоўваецца для вырабу валакна і тканін, электраізаляцыйнага матэрыялу, абалонак кабелю і інш.

**ТЭФРЫ́Т** (ад гр. tephra = попел) — магматычная парода, подобная на выгляд да *базальту*.

**ТЭХНА-** (гр. techne = майстэрства) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «тэхналагічны».

**ТЭХНАГЕНЕ́З** (ад *тэхна-* + *-генез*) — пераўтварэнне *біясферы* і яе элементаў пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека, звязанай з прамым ці ўскосным выкарыстаннем тэхнічных сродкаў.

**ТЭХНАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *тэхна-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, які вывучае ўплыў кліматычных умоў на тэхнічныя сродкі.

**ТЭХНАКРА́Т** (ад *тэхна-* + *-крат*) — прадстаўнік *тэхнакратыі*.

**ТЭХНАКРА́ТЫЯ** (ад *тэхна-* + *-кратыя*) — кірунак у грамадскай думцы, які лічыць, што грамадства можа рэгулявацца рацыянальнымі прынцыпамі, што выпрацавалі вучоныя, інжынеры, тэхнікі (*тэхнакраты*).

**ТЭХНАЛО́ГІЯ** (ад *тэхна-* + *-логія*) — 1) сукупнасць метадаў апрацоўкі матэрыялаў у працэсе вытворчасці і іх навуковае апісанне (напр. т. зваркі); 2) *перан.* сукупнасць прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў якой-н. справе, майстэрстве (напр. т. творчасці).

**ТЭХНАСФЕ́РА** (ад *тэхна-* + *сфера*) — сфера выяўлення тэхнічнай дзейнасці чалавека.

**ТЭХНЕ́ЦЫЙ** (н.-лац. technetium, ад гр. technetos = штучны) — штучны радыеактыўны хімічны элемент, які выкарыстоўваецца як *інгібітар* супраць *карозіі*, у ядзернай энергетыцы і інш.

**ТЭХНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. techne = майстэрства) — забеспячэнне тэхнічнымі сродкамі, укараненне іх.

**ТЭ́ХНІК** (гр. technikos = дасведчаны, майстэрскі) — 1) спецыяліст у якой-н. галіне *тэхнікі* з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй; 2) чалавек, які валодае высокай тэхнікай, высокім майстэрствам у якой-н. справе.

**ТЭ́ХНІКА** (гр. technikos = дасведчаны, майстэрскі) — 1) сукупнасць сродкаў, якія ствараюцца для ажыццяўлення працэсаў вытворчасці і абслугоўвання невытворчых патрэб грамадства (напр.

будаўнічая т., ваенная т.); 2) сукупнасць прыёмаў у якой-н. галіне дзейнасці, а таксама валоданне гэтымі прыёмамі (напр. жывапісная т., спартыўная т.).

**ТЭ́ХНІКУМ** (н.-лац. technicum, ад гр. technikos = майстэрскі) — сярэдняя прафесіянальная навучальная ўстанова, якая рыхтуе спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі для розных галін народнай гаспадаркі і культуры.

**ТЭХНІЦЫ́ЗМ** (ад *тэхніка*) — 1) празмернае захапленне тэхнічным бокам якой-н. справы на шкоду яе сутнасці; 2) празмернасць у адлюстраванні тэхнікі, вытворчасці, машын у мастацкіх творах.

**ТЭХНІ́ЧНЫ** (гр. technikos = майстэрскі) — 1) звязаны з *тэхнікай*, яе пашырэннем, вывучэннем і навуковай распрацоўкай (напр. т. прагрэс, т-ыя навукі); 2) звязаны з абслугоўваннем і выкарыстаннем тэхнікі (напр. т-ыя навыкі); 3) які падлягае прамысловай апрацоўцы, выкарыстанню (напр. т-ыя культуры, т-ая вада); 4) які выконвае дапаможныя работы (напр. т. сакратар); 5) які вылучаецца высокім майстэрствам (напр. т. баксёр).

**ТЭХНО́ЛАГ** (ад *тэхналогія*) — спецыяліст па тэхналогіі вытворчасці.

# У

**УАЙТ-СПІРЫ́Т** (англ. white spirit) — лакавы бензін, нафтавая *фракцыя*, бясколерная вадкасць з нярэзкім пахам, сярэдняй лятучасці; выкарыстоўваецца як растваральнік лакаў і фарбаў.

**УА́Н-СТЭП** (англ. one-step = адзін крок) — хуткі маршападобны танец амерыканскага паходжання, які ўзнік на аснове спрошчаных танцавальных рухаў *тустэпа*.

**УБІКВІ́СТЫ** (ад лац. ubique = скрозь) — расліны і жывёлы, здольныя жыць у разнастайных умовах навакольнага асяроддзя (напр. воўк, ліса жывуць у лясах, стэпах, гарах, хвойныя дрэвы — у розных кліматычных паясах).

**УВЕІ́Т** (ад н.-лац. uved = сасудзістая абалонка вока) — запаленне радужнай і сасудзістай абалонак вока.

**УВЕРЦЮ́РА** (фр. ouverture) — 1) музычны ўступ да *оперы, аперэты, балета*, драматычнага спектакля (параўн. *антракт* 2); 2) самастойны музычны твор для аркестра з адной часткі (напр. сімфанічная у.).

**УВІЁЛЕВЫ** [ад лац. u(itra) = звыш, за межамі + viola = фіялетавы колер] — які прапускае ультрафіялетавыя прамяні (напр. у-ае шкло).

**УВІРА́НДРА** (н.-лац. uvirandra) — водная травяністая расліна сям. апанагетанакветных з буйным ліс-

цем, пашыраная ў вадаёмах Мадагаскара; на Беларусі вырошчваецца як акварыумная.

**УВРА́Ж** (фр. ouvrage = праца, твор) — раскошнае мастацкае выданне вялікага фармату, якое звычайна складаецца з гравюр.

**УВУЛЯ́РНЫ** (ад лац. uvula = язычок мяккага паднябення) — *лінгв.* які вымаўляецца пры актыўным удзеле мяккага паднябення і язычка (напр. у-ыя зычныя).

**УДАБНАПІТЭ́К** (ад груз. Udabno = назва паселішча ў Грузіі + *-пітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, рэшткі якой знойдзены ў адкладах *кайназою*.

**УДАНЕЛІ́ДЫ** (н.-лац. udonellida) — атрад плоскіх чарвей класа *турбелярый*; паразітуюць на весланогіх ракападобных, што жывуць на марскіх рыбах.

**УДЭМАНСІЕ́ЛА** (н.-лац. oudemansiella) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на лясным подсціле, пнях, ламаччы, глебе; некаторыя віды ядомыя.

**У́ЗА** (іт. uso = звычай) — паводле звычаю.

**УЗА́НЦЫЯ** (іт. usanza, фр. usance, ад лац. usus = звычай) — *камерц.* правіла, якое вызначае волю кожнага з партнёраў і маецца на ўвазе пры заключэнні гандлёвага дагавору, але прама ў ім не агаворана; гандлёвы звычай.

**УЗА-ТА́РА** (ад іт. uso = звычай + *тара*) — тара, вагу якой прымаюць у памеры, устаноўленым на аснове гандлёвага звычаю.

**УЗДЗЕ́НЬ** (цюрк. uzden = вольны) — 1) незапрыгонены селянін у феадальным Дагестане; 2) катэгорыя феадалаў у Кабардзе і Адыгеі.

**УЗУА́ЛЬНЫ** (лац. usualis) — 1) які вынікае са звычаю, агульнапрыняты; 2) *лінгв.* які адпавядае агульнапрынятаму ўжыванню моўнай адзінкі (слова, фразеалагізма і інш.); параўн. *аказіянальны*.

**УЗУРПА́ТАР** (лац. usurpator) — асоба, якая незаконна захапіла ўладу або прысвоіла чужыя правы на што-н.

**УЗУРПА́ЦЫЯ** (лац. usurpatio) — незаконны захоп улады, прысваенне чужых правоў на што-н.

**УЗУРПІ́РАВАЦЬ** (лац. usurpare) — незаконна захапіць уладу ці прысвоіць чужыя правы на што-н.

**У́ЗУС** (лац. usus) — 1) тое, што прынята, што стала звычайным; звычай; звычка; 2) *лінгв.* агульнапрынятае ўжыванне моўнай адзінкі (слова, фразеалагізма і інш.).

**УЗУФРУ́КТ** (лац. usus-fructus = здабыванне даходаў) — *юр.* права карыстання чужой маёмасцю і даходамі ад яе з умовай захавання яе цэласнасці і гаспадарчага прызначэння.

**УІК-Э́НД** (англ. week-end, ад week = тыдзень + end = канец) — час адпачынку і забаў ад суботы да панядзелка ў Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах; сама паездка з мэтай адпачынку.

**УІТЛЕ́НДЭРЫ** (афрыкаанс uitlander = іншаземец) — англійскія перасяленцы ў канцы 19 ст. у паўднёваафрыканскія рэспублікі Трансвааль і Аранжавую.

**УІТЭНАГЕ́МАТ** (ст.-англ. witena gemot = сход мудрых) — савет знаці ў Англіі 6 — 11 ст.

# У

**УЛА́Н** (польск. ułan, ад тур. ohlan = хлопец, слуга) — салдат лёгкай кавалерыі ў арміях Польшчы (18 — пач. 20 ст.), Расіі (1803 — 1917) і некаторых іншых еўрапейскіх краін.

**УЛЕ́МЫ** (ар. ulama = вучоны) — мусульманскія багасловы і правазнаўцы ў краінах, дзе распаўсюджаны *іслам*.

**УЛО́ТА** (н.-лац. ulota) — лістасцябловы мох сям. артатрыхавых, які пасяляецца пераважна на стваллах дрэў.

**УЛО́ТРЫКС** (н.-лац. ulothrix) — ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых, якая пашырана ў прэсных, марскіх і саланаватых вадаёмах, трапляецца ў глебе.

**УЛУ́С** (цюрк. ulus = народ) — 1) пасяленне, стойбішча ў народаў Цэнтр. і Сярэд. Азіі, Сібіры; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Якуціі ў 18 — пач. 19 ст., што адпавядала раёну.

**У́ЛЬВА** (н.-лац. ulva) — зялёная водарасць сям. улотрыксавых; служыць кормам для многіх насельнікаў мора; марская салата.

**У́ЛЬТРА** (фр. ultra = крайні рэакцыянер, ад лац. ultra = больш, звыш) — прыхільнік, дзеяч найбольш рэакцыйных, крайне правых груповак фашысцкага тыпу ў некаторых краінах.

**УЛЬТРА-** (лац. ultra = больш, звыш) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «звыш, больш за», «крайні», «найвышэйшы», «які знаходзіцца за межамі чаго-н.».

**УЛЬТРААБІСА́ЛЬ** (ад *ультра-* + *абісаль*) — зона найбольшых марскіх глыбінь (больш за 6 км).

**УЛЬТРААКУ́СТЫКА** (ад *ультра-* + *акустыка*) — раздзел акустыкі, які вывучае ультрагукавыя ваганні.

**УЛЬТРАВІ́РУСЫ** (ад *ультра-* + *вірусы*) — вірусы, якія праходзяць праз бактэрыяльныя фільтры.

**УЛЬТРАІМПЕРЫЯЛІ́ЗМ** (ад *ультра-* + *імперыялізм*) — тэорыя, якая прапагандавала магчымасць перарастання імперыялізму ў новую фазу шляхам аб'яднання нацыянальных манаполій у сусветны надтрэст.

**УЛЬТРАМАДЭРНІ́ЗМ** (ад *ультра-* + *мадэрнізм*) — мадэрнізм у яго крайніх праяўленнях.

**УЛЬТРАМАНТА́НСТВА** [фр. ultramontain = *літар.* які знаходзіцца за гарамі (Альпамі — у адносінах да Францыі), ад лац. ultra = далей + montes = горы] — кірунак у каталіцызме, які дамагаецца права папы рымскага ўмешвацца не толькі ў рэлігійныя, але і ў свецкія справы любой каталіцкай дзяржавы.

**УЛЬТРАМАНТА́НЫ** (іт. ultramontani, ад лац. ultra = далей + montes = горы) — прыхільнікі *ультрамантанства*.

**УЛЬТРАМАРЫ́Н** (с.-лац. ultramarinus = заморскі, ад лац. ultra = больш, звыш + marinus = марскі) — мінеральны *пігмент* сіняга колеру, які выкарыстоўваецца для вырабу фарбаў, падсіньвання бялізны і інш.

**УЛЬТРАМЕТАМАРФІ́ЗМ** (ад *ультра-* + *метамарфізм*) — пра-

цэс ператварэння горных парод з такой інтэнсіўнасцю, пры якой яны пераходзяць у расплаўлены стан.

**УЛЬТРАМІКРАСКАПІ́Я** (ад *ультра-* + *мікраскапія*) — метад даследавання высокадысперсных (гл. *дысперсны*) сістэм пры дапамозе *ультрамікраскопа*.

**УЛЬТРАМІКРАСКО́П** (ад *ультра-* + *мікраскоп*) — аптычны прыбор для назірання за вельмі дробнымі часцінкамі, якія не бачны ў звычайным мікраскопе.

**УЛЬТРАМІКРАТО́М** (ад *ультра-* + *мікратом*) — прыбор, пры дапамозе якога атрымліваюць вельмі тонкія зрэзы для цыталагічных даследаванняў.

**УЛЬТРАМІКРО́БЫ** (ад *ультра-* + *мікроб*) — найдрабнейшыя жывыя істоты, нябачныя ў аптычны *мікраскоп*, здольныя, у адрозненне ад вірусаў, развівацца ў штучных пажыўных асяроддзях.

**УЛЬТРАСТРУКТУ́РА** (ад *ультра-* + *структура*) — вельмі дробная, электронна-мікраскапічная структура (клеткі, *храмасомы* і інш.).

**УЛЬТРАФІ́ЛЬТР** (ад *ультра-* + *фільтр*) — фільтр, які не прапускае самых дробных часцінак.

**УЛЬТРАФІЛЬТРА́ЦЫЯ** (ад *ультра-* + *фільтрацыя*) — прапусканне вадкасці праз паўпранікальную мембрану.

**УЛЬТРАФІЯЛЕ́ТАВЫ** (ад *ультра-* + *фіялетавы*) — у-ы я п р а м я н і — не бачныя вокам чалавека электрамагнітныя прамяні, што размяшчаюцца ў спектры паміж фіялетавымі і рэнтгенаўскімі прамянямі.

**УЛЬТРАЦЭНТРЫФУ́ГА** (ад *ультра-* + *цэнтрыфуга*) — прыбор для стварэння з-за хуткага вярчэння *ротара* цэнтрабежных сіл, якія ў сотні тысяч разоў пераўзыходзяць сілу зямнога прыцяжэння; выкарыстоўваецца для раздзялення і даследавання мікрамалекул у біялогіі і хіміі.

**У́ЛЬТЫМА** (іт. ultimo = апошні, крайні) — апошні тэрмін выканання пэўнай здзелкі.

**УЛЬТЫМА́ТУМ** (с.-лац. ultimatum) — 1) у міжнародных зносінах — патрабаванне адной дзяржавы да другой выканаць пэўныя дзеянні ці ўстрымацца ад іх, якое суправаджаецца пагрозай ужыць пэўныя меры ўздзеяння; 2) катэгарычнае патрабаванне чаго-н., якое суправаджаецца пагрозай.

**УЛЬТЫМАТЫ́ЎНЫ** (ад *ультыматум*) — які з'яўляецца ультыматумам, катэгарычны.

**У́МБРА** (лац. umbra = цень) — 1) карычневы мінеральны *пігмент*, які ўжываецца для прыгатавання фарбаў; 2) фарба бура-карычневага колеру.

**УМЛЯ́УТ** (ням. Umlaut) — *лінгв.* прыпадабненне галоснага гуку кораня галоснаму гуку суфікса ў германскіх мовах, г.зн. замена гукаў a, o, u на ä, ö, ü.

**УМФО́РМЕР** (ням. Umformer, ад umformen = ператвараць) — электрычная машына для ператварэння пастаяннага току аднаго напружання ў пастаянны ток іншага напружання.

# У

**УНАНІМІ́ЗМ** (фр. unanimisme = аднадушша, ад лац. unus = адзін + anima = душа) — дэкадэнцкая плынь у французскай літаратуры пач. 20 ст., якая прапагандавала ідэю аднастайнасці чалавецтва незалежна ад класавай дыферэнцыяцыі і рэальных эканамічных умоў.

**УНДЗІ́НА** (ням. Undine, ад лац. unda = хваля) — міфалагічная істота, якая нібыта жыве ў рэчках і азёрах; русалка, наяда.

**УНДЭВІ́Т** [ад лац. unde(cim) = адзінаццаць + *віт(аміны)*] — лекавы вітамінны прэпарат, які выкарыстоўваецца з лячэбна-прафілактычнай мэтай, каб пазбегнуць заўчаснага старэння.

**УНДЭ́ЦЫМА** (лац. undecima = адзінаццатая) — *муз.* 1) інтэрвал, які ахоплівае адзінаццаць ступеняў дыятанічнага гукарада; 2) адзінаццатая ступень двухактаўнага дыятанічнага гукарада.

**УНДЭЦЫМАКО́РД** (ад *ундэцыма* + *акорд*) — *муз.* акорд з шасці разнайменных гукаў, якія размеркаваны па тэрцыях.

**УНДЭЦЫ́Н** (лац. undecim = адзінаццаць) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваюць для лячэння грыбковых захворванняў скуры.

**УНІ-** (лац. unus, uni = адзін) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню слову «адзін».

**УНІВАЛЕ́НТЫ** (ад *уні-* + лац. valens, -ntis = моцны) — адзінкавыя, няспараныя *храмасомы* ў першым дзяленні *меёзу*.

**УНІВЕРБІЗА́ЦЫЯ** (польск. uniwerbizacja, ад лац. unus = адзін + verbum = слова) — *лінгв.* утварэнне аднаго слова са словазлучэння, увядзенне аднаслоўнай назвы (*неалагізма*) замест двухслоўнай (напр. «абісаль» замест «абісальная зона»).

**УНІВЕРСА́Л**[1] (лац. universalis = усеагульны) — 1) чалавек, які валодае разнастайнымі спецыяльнасцямі ў межах сваёй прафесіі; 2) астранамічны або геадэзічны інструмент для вымярэння гарызантальных і вертыкальных вуглоў; 3) закрыты кузаў легкавога аўтамабіля з двума або трыма радамі сядзенняў, з трыма або пяццю дзверцамі і багажным аддзяленнем, размешчаным унутры пасажырскага салона.

**УНІВЕРСА́Л**[2] (польск. uniwersał, ад лац. universalis = усеагульны) — распарадчы акт адміністрацыйна-палітычнага характару, які выдавалі каралі ў 17 — 18 ст. у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім.

**УНІВЕРСАЛІ́ЗМ** (ад *універсальны*) — валоданне разнастайнымі ведамі, звесткамі, навыкамі.

**УНІВЕРСА́ЛІІ** (ад лац. universalis = усеагульны) — 1) філасофскі тэрмін перыяду сярэдневякоўя, які ўжывалі для абазначэння агульных паняццяў у адрозненне ад адзінкавых; 2) *лінгв.* з'явы, уласцівыя ўсім ці многім мовам.

**УНІВЕРСА́ЛЬНЫ** (лац. universalis) — 1) markdown разнабаковы, усеабдымны (напр. у-ыя здольнасці, у. спецыяліст); 2) прыгодны для многіх мэт, з разнастайным прызначэннем (напр. у. станок).

**УНІВЕРСІТЭ́Т** (ням. Universität, ад лац. universitas, -atis = сукупнасць) — 1) вышэйшая навучальная

ўстанова з рознымі факультэтамі, дзе рыхтуюцца спецыялісты па многіх галінах ведаў і вядзецца навукова-даследчая работа; 2) навучальная ўстанова па павышэнню грамадска-палітычных і агульнаадукацыйных ведаў.

**УНІВЕРСІЯ́ДА** [ад *універсі(тэт)* + *(алімп)іяда]* — міжнародныя комплексныя спартыўныя спаборніцтвы студэнцкай моладзі.

**УНІВЕ́РСУМ** (лац. universum = сусвет) — філасофскі тэрмін, які абазначае «усё існуючае», «сусвет як цэлае».

**УНІЁН** (лац. unio, -onis) — саюз, аб'яднанне.

**УНІ́ЗМ** (ад лац. unus = адзін) — кірунак у абстрактным жывапісе, прыхільнікі якога ствараюць *кампазіцыі* з аднародных форм і колераў, што не даюць уяўлення аб рэчаіснасці.

**УНІКА́ЛЬНЫ** (ад лац. unicus = адзіны ў сваім родзе) — вельмі рэдкі, адзіны ў сваім родзе; выключны (напр. у. рукапіс).

**У́НІКУМ** (лац. unicum = адзінае ў сваім родзе, незвычайнае) — 1) вельмі рэдкі прадмет, вялікая рэдкасць; 2) *перан.* выключная ў якіх-н. адносінах асоба.

**УНІНАМІНА́ЛЬНЫ** (ад *уні-* + лац. nomen = імя); у - а я а к р у г а — выбарчая акруга, ад якой выбіраецца адзін дэпутат.

**УНІПАЛЯ́РНЫ** (ад *уні-* + *палярны*) — аднаполюсны; у - а я п р а в о д н а с ц ь — праводнасць току пераважна ў адным напрамку.

**УНІПРЫ́НТ** (ад *уні-* + англ. print = адбітак, друк) — адзін са спосабаў прыгатавання эластычных форм для глыбокага друку.

**УНІСО́Н** (іт. unisono, ад лац. unus = адзін + sonus = гук) — 1) *муз.* аднвчасовае гучанне двух або некалькіх гукаў аднолькавай вышыні; сугучна аднолькавых гукаў у розных актавах (напр. спяваць ва ўнісон); 2) *перан.* зладжанасць якіх-н. учынкаў (напр. дзейнічаць ва ўнісон з кім-н.); 3) *фіз.* роўнасць частот дзвюх крыніц гукавых ваганняў.

**УНІТА́РНЫ** (фр. unitaire, ад лац. unitas = адзінства) — аб'яднаны, адзіны, які ўтварае адно цэлае (напр. у-ая дзяржава).

**УНІТАРЫ́ЗМ** (фр. unitarisme, ад лац. unitas = адзінства) — дзяржаўнае ўладкаванне, якое характарызуецца цэнтралізаваным кіраўніцтвам адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі і адсутнасцю самастойных дзяржаўных утварэнняў.

**УНІТА́РЫІ** (ад лац. unitas = адзінства) — тое, што і *антытрынітарыі*.

**УНІФАРМІ́ЗМ** (ад лац. uniformis = аднастайны) — гіпотэза, паводле якой у геалагічным мінулым дзейнічалі тыя ж сілы і з той жа інтэнсіўнасцю, што і зараз.

**УНІФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. unificare = аб'ядноўваць) — праводзіць *уніфікацыю* (напр. у. правапіс).

**УНІФІКА́ЦЫЯ** (ад с.-лац. unificare = аб'ядноўваць) — звядзенне чаго-н. да адзінай формы, да адзінай нормы (напр. у. напісання).

**УНІФІЛЯ́РНЫ** (ад *уні-* + лац. filum = нітка) — аднанітачны (напр. у. кабель).

# У

**УНІФО́РМА** (фр. uniforme, ад лац. unus = адзін + forma = форма) — форменнае адзенне, аднолькавае для ўсіх людзей якой-н. групы.

**У́НІЯ** (лац. unio = аб'яднанне, адзінства) — 1) аб'яднанне дзвюх або некалькіх дзяржаў пад уладай аднаго манарха; 2) аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на ўмовах прызнання праваслаўнай царквой вяршэнства папы рымскага з захаваннем сваіх абрадаў, напр. Брэсцкая унія 1596 г.; 3) назва розных адміністрацыйных міжнародных саюзаў.

**УНІЯНІ́ЗМ** (ад *уніён*) — імкненне да аб'яднання, зліцця.

**УНІЯ́Т** (ст.-польск. uniata, ад лац. unitas = аб'яднаны) — паслядоўнік царкоўнай уніі; той, хто прытрымліваецца грэка-каталіцкага веравызнання.

**УНТЫ́** (эвенк. unta = абутак) — абутак з футра на мяккай падэшве.

**У́НТЭР-АФІЦЭ́Р** (ням. Unteroffizier) — званне малодшага каманднага саставу ў царскай арміі і некаторых арміях іншых краін.

**УНТЭРТО́Н** (ням. Unterton, ад unter = ніжэйшы + Ton = гук) — *муз.* дадатковы, больш нізкі *тон*, які ўзнікае пры гучанні асноўнага тона і надае яму асаблівае адценне або тэмбр (параўн. *абертон*).

**УНТЭРШАРФЮ́РЭР** (ням. Unterscharführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *фельдфебеля*.

**УНТЭРШТУРМФЮ́РЭР** (ням. Untersturmführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *лейтэнанта*.

**УНЦЫ́НУЛА** (н.-лац. uncinula) — сумчаты грыб сям. мучніста-расяных, які развіваецца на лісці клёна, ясеня, таполі, асіны, вярбы.

**У́НЦЫЯ** (лац. uncia) — 1) мера вагі ў Старaж. Рыме, а таксама ў сучаснай Англіі (роўная 28,35 г) і некаторых краінах Лац. Амерыкі; 2) адзінка аптэкарскай вагі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер (роўная 30 г); 3) манета ў Старaж. Рыме, пазней — у Іспаніі, Італіі і некаторых іншых краінах.

**УРА-** (гр. uron = мача) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да мачы, мачавіны, мочапалавых органаў.

**УРАБАКТЭ́РЫІ** (ад *ура-* + *бактэрыі*) — бактэрыі, якія раскладаюць мачавіну на аміяк і вуглекіслату.

**УРАБІЛІ́Н** (ад *ура-* + лац. bilis = жоўць) — жоўтае фарбавальнае рэчыва з групы жоўцевых *пігментаў*, што ўтвараецца ў кішэчніку; абумоўлівае колер мачы.

**УРАГА́Н** (фр. ouragan, з індз.) — 1) вецер разбуральнай сілы; 2) *перан.* бурнае развіццё чаго-н. (напр. у. пачуццяў).

**УРАГЛЕ́НА** (н.-лац. uroglena) — каланіяльная залацістая водарасць сям. вохраманадавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**УРАГЛЕНО́ПСІС** (н.-лац. uroglenopsis) — каланіяльная залацістая водарасць сям. вохраманадавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**УРАГРА́ФІЯ** (ад *ура-* + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага

даследавання нырак і мочавывадных шляхоў.

**УРАЛО́ГІЯ** (ад *ура-* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы мочапалавых органаў, распрацоўвае метады іх лячэння і прафілактыкі.

**УРАМІ́ЦЭС** (н.-лац. uromyces) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на вышэйшых травяністых раслінах сям. бабовых, складанакветных, малачаевых, лілейных, злакавых.

**УРА́Н** (н.-лац. uranium, ад uranos = неба) — радыеактыўны хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які належыць да *актыноідаў*, выкарыстоўваецца як ядзернае паліва.

**УРАНА́ТЫ** (ад *уран*) — солі уранавай кіслаты.

**УРАНЕ́МА** (н.-лац. uronema) — ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**УРАНІНІ́Т** (ад *уран*) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў, чорнага колеру; руда урану і радыю.

**УРАПО́ДЫ** (ад гр. ura = хвост + pus, podos = нага) — ножкі шостага абдамінальнага сегмента ракаў, якія ўтвараюць разам з анальнай лопасцю (*тэльсонам*) хваставы плаўнік.

**УРАСТЫ́ЛЬ** (ад гр. ura = хвост + stylos = палачка) — косць у некаторых пазваночных жывёл, якая ўтварылася зліццём хваставых пазванкоў (напр. у бясхвостых земнаводных).

**УРАТРАПІ́Н** (ад *ура-* + гр. trope = паварот, змена) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як супрацьмікробны сродак пры лячэнні *халецыстыту, менінгіту, энцэфаліту* і іншых хвароб.

**УРА́ТЫ** (ад гр. uron = мача) — солі мачавой кіслаты.

**УРАЦЫ́Л** (ад гр. uron = мача + лац. acetum = воцат) — арганічнае злучэнне, якое ў нязначнай колькасці змяшчаецца ў жывёльных і раслінных тканках, уваходзіць у склад жыццёва важных злучэнняў.

**УРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. urocystis) — *базідыяльны* грыб сям. тылецыевых, які развіваецца на раслінах сям. злакавых, асаковых, сітавых, лілейных, крыжакветных.

**УРБАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. urbanisation, ад лац. urbanus = гарадскі) — 1) працэс канцэнтрацыі насельніцтва і эканамічнага жыцця ў буйных гарадах; 2) распаўсюджанне гарадскога спосабу жыцця ў сельскай мясцовасці.

**УРБАНІ́ЗМ** (фр. urbanisme, ад лац. urbanus = гарадскі) — 1) кірунак у літаратуры і мастацтве, аб'ектам якога з'яўляецца паказ гарадскога жыцця; 2) кірунак у архітэктуры, паводле якога гарады павінны развівацца без тэрытарыяльных абмежаванняў і шчыльна забудоўвацца вялікімі будынкамі.

**УРЗІ́НІЯ** (н.-лац. ursinia) — травяністая расліна сям. складанакветных з жоўтымі або аранжавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная пераважна ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**У́РНА** (лац. urna) — 1) скрынка з вузкай адтулінай для галасавання; 2) пасудзіна для смецця ў грамадскіх памяшканнях, на вуліцах; 3)

# У

пасудзіна для захавання праху нябожчыкаў пасля *крэмацыі*.

**УРО́ЛАГ** (ад *ура-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *уралогіі*.

**УРО́МЕТР** (ад *ура-* + *-метр*) — прыбор для вызначэння ўдзельнай вагі мачы.

**УРТЫКА́РЫЯ** (ад лац. urtica = крапіва) — захворванне чалавека, звязанае з павышанай адчувальнасцю арганізма да некаторых харчовых прадуктаў, лекавых прэпаратаў, укусаў камароў і інш.; крапіўніца.

**УРУ́К** (цюрк. ürük) — высушаныя з костачкамі дробныя абрыкосы.

**УРЦЭО́ЛУС** (н.-лац. urceolus) — аднаклетачная водарасць сям. паранемавых, якая пашырана пераважна ў стаячых, слабапраточных, часта забалочаных вадаёмах.

**УРЫ́НА** (лац. urina) — мача.

**-УРЫЯ** (гр. uron = мача) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «мача».

**УРЭА́ЗА** (ад гр. uron = мача) — *фермент*, які каталізуе расшчапленне мачавіны на вуглякіслы газ і аміяк.

**УРЭДАСПО́РЫ** (ад лац. uredo = іржа + *споры*) — летнія споры іржаўных грыбоў; развіваюцца на злаках.

**УРЭМА́** (цюрк. urema) — паласа лісцевых лясоў, якая цягнецца ўздоўж ракі, што працякае праз лесастэпавую, стэпавую і паўпустынную зоны.

**УРЭМІ́Я** (ад *ура-* + *-эмія*) — самаатручванне арганізма рэчывамі, якія затрымліваюцца ў ім пры хваробе нырак.

**УРЭТА́Н** (ад *ура-* + *этан*) — лекавы прэпарат, які ўжываецца як заспакойлівы і снатворны сродак.

**УРЭ́ТРА** (гр. urethra) — мочаспускальны канал.

**УРЭТРАСКАПІ́Я** (ад *урэтра* + *-скапія*) — агляд урэтры пры дапамозе *урэтраскопа*.

**УРЭТРАСКО́П** (ад *урэтра* + *-скоп*) — аптычная прылада для агляду ўнутраных сценак урэтры.

**УРЭТРАТАМІ́Я** (ад *урэтра* + *-тамія*) — *мед.* разразанне урэтры пры яе звужэннях.

**УРЭТРЫ́Т** (ад *урэтра*) — запаленне слізістай абалонкі урэтры.

**УСНЕ́Я** (н.-лац. usnea) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. уснеевых, які расце на ствалах і галінах дрэў і кустоў, утвараючы шэрую або шэра-зялёную слаявіну, што звісае ў выглядзе густых барод.

**УСТЫЛЯ́ГА** (н.-лац. ustilago) — *базідыяльны* грыб сям. устылягавых, які паразітуе на завязі, суквеццях раслін сям. злакавых, лілейных, гваздзіковых, драсёнавых, складанакветных.

**УТАПІ́ЗМ** (ад *утопія*) — 1) тэорыі, погляды ўтапічнага сацыялізму; 2) нязбытнасць, нерэальнасць чаго-н. (напр. у. планаў).

**УТАПІ́СТ** (ад *утопія*) — 1) аўтар утопіі; прыхільнік утапічнага сацыялізму; 2) фантазёр, летуценнік.

**УТАПІ́ЧНЫ** (ад *утопія*) — 1) заснаваны на утопіі; 2) які з'яўляецца утопіяй; нерэальны; у. с а ц ы я л і з м — вучэнне аб перабудове грамадства на сацыялістычных асновах, якое зыходзіць не з законаў развіцця грамадства, а з мар аб ідэальным грамадскім ладзе.

Ф

**УТЛЕ́ГАР** (гал. uitlegger) — рангоутнае дрэва (*рангоўт*) на парусных суднах, якое з'яўляецца працягам *бушпрыта* і служыць для мацавання пярэдніх парусоў.

**УТО́ПІЯ** (ад гр. u = не + topos = месца, г. зн. месца, якога няма) — 1) пазбаўленае навуковага абгрунтавання вучэнне аб ідэальным грамадскім ладзе, а таксама літаратурны твор з паказам ідэальнага грамадскага ладу будучага; 2) нерэальны, неажыццявімы на практыцы план; фантазія, мара, якая не можа быць здзейснена.

**УТРАКВІ́СТЫ** (ад лац. sub utraque specie = пад дзвюма постацямі) — прадстаўнікі ўмеранага крыла *гусітаў*, якія патрабавалі прычашчэння не толькі хлебам, але і віном.

**УТРЫ́РАВАЦЬ** (фр. outrer) — падаваць у перабольшаным выглядзе; скажаць з'яву залішнім падкрэсліваннем аднаго якога-н. яе боку, рысы.

**УТЫЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. utilisation, ад лац. utilis = карысны) — выкарыстанне чаго-н. з карысцю, напр. адходаў у якасці сыравіны, паліва, угнаення і інш.

**УТЫЛІТА́РНЫ** (фр. utilitaire, ад лац. utilitas = карысць) — 1) прасякнуты імкненнем да матэрыяльнай выгады, карысці; 2) які мае практычнае значэнне, прыкладны.

**УТЫЛІТАРЫ́ЗМ** (фр. utilitarisme, ад лац. utilitas = карысць) — 1) кірунак у *этыцы*, які лічыць карысць асновай маральнасці і крытэрыем чалавечых паводзін; 2) *перан.* імкненне з усяго мець выгаду, карысць; дробязны *практыцызм.*

**УТЫЛІТАРЫ́СТ** (ад *утылітарызм*) — той, хто кіруецца меркаваннямі утылітарызму.

**УТЫ́ЛЬ** (лац. utilis = карысны) — рэчы, якія ўжо не прыгодны для карыстання, але могуць быць сыравінай для вырабу іншых рэчаў (металалом, папера, анучы і інш.).

**УФАЛО́ГІЯ** (ад англ. UFO < Unkown Fryling Object = неапазнаны лятаючы аб'ект + *-логія*) — збор, сістэматызацыя і аналіз матэрыялаў аб неапазнаных лятаючых аб'ектах.

**УЮ́К** (цюрк. juk = паклажа) — упакаваная паклажа, якая перавозіцца на спіне жывёлы (каня, вярблюда, асла).

# Ф

**ФА** (лац. fa) — чацвёрты гук музычнай *гамы*, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**ФАБІЯНІ́ЗМ** (ад англ. Fabian society = фабіянскае таварыства, ад Fabius Maximus Cunctator = імя старажытнарымскага дзяржаўнага дзеяча і палкаводца, прыхільніка чакальнай тактыкі) — рэфармісцкі рух канца 19 ст. у Англіі, які адмаўляў класавую барацьбу і прапаведаваў мірнае, паступовае пе-

раўтварэнне буржуазнага грамадства ў сацыялістычнае шляхам рэформ.

**ФАБІЯ́НЦЫ** (ад *фабіянізм*) — прыхільнікі, паслядоўнікі фабіянізму.

**ФАБЛІО́** (фр. fabliau, ад лац. fabula = байка) — жанр сярэдневяковай французскай літаратуры: невялікае гумарыстычнае або сатырычнае апавяданне бытавога характару.

**ФА́БРЫКА** (лац. fabrica = майстэрня) — 1) прамысловае прадпрыемства, заснаванае на прымяненні сістэмы машын; 2) *перан.* месца, дзе што-н. ствараецца ў вялікай колькасці.

**ФАБРЫКАВА́ЦЬ** (лац. fabricare) — 1) *уст.* рабіць што-н. фабрычным спосабам; 2) ствараць што-н. дрэнна і ў вялікай колькасці (напр. ф. вершы); 3) *перан.* рабіць і распаўсюджваць што-н. ілжывае, фальшывае (напр. ф. плёткі).

**ФАБРЫКА́НТ** (лац. fabricans, -ntis = які стварае) — 1) уладальнік *фабрыкі*; 2) *перан.* той, хто *фабрыкуе*, распаўсюджвае што-н.

**ФАБРЫКА́Т** (лац. fabricatus = выраблены) — гатовы фабрычны выраб, прадукт вытворчасці.

**ФАБРЫКА́ЦЫЯ** (лац. fabricatio = выраб) — 1) *уст.* вытворчасць вырабаў фабрычным спосабам; 2) стварэнне чаго-н. няякаснага ў вялікай колькасці; 3) *перан.* распаўсюджванне чаго-н. ілжывага, фальшывага.

**ФА́БУЛА** (лац. fabula = байка, апавяданне) — сюжэтная аснова літаратурнага твора, паказ падзей і здарэнняў у іх паслядоўнасці.

**ФАБУРДО́Н** (фр. faux-bourdon) — *муз.* від шматгалосся ў Англіі 12 — 13 ст., у якім галасы рухаліся паралельнымі *тэрцыямі* і *секстамі*.

**ФАВАРЫ́Т** (іт. favorito, ад лац. favor = прыхільнасць) — 1) любімец уплывовай асобы, які карыстаецца яе заступніцтвам; любімец наогул; 2) конь, коннік або каманда ў скачках, што мае найбольшыя шансы на першынство.

**ФАВЕРО́ЛЬ** (фр. faverolle, ад Faverolles = назва мястэчка ў Францыі) — парода мяса-яечных курэй, выведзеная ў Францыі.

**ФАВІ́ЗМ** (ад фр. fauve = дзікі) — плынь у французскім жывапісе 20 ст., якая вызначаецца абагульненнем аб'ёмаў, прасторы, малюнка.

**ФАВО́Р** (лац. favor = прыхільнасць) — прыхільныя адносіны, заступніцтва ўплывовай асобы.

**ФА́ВУС** (лац. favus = пчаліныя соты) — 1) заразная хвароба скуры чалавека, выкліканая паразітычнымі грыбамі; парша; 2) заразная грыбковая хвароба жывёл (сабак, катоў, трусоў, птушак); 3) захворванне раслін (яблыні, грушы, цытрусавых, бульбы і інш.), выкліканае рознымі відамі грыбоў і бактэрый.

**-ФАГ** (гр. phagos = які пажырае) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «пажыральнік», «паглынальнік».

**ФАГАПРАФІЛА́КТЫКА** (ад *фагі* + *прафілактыка*) — выкарыстанне прэпаратаў *бактэрыяфагаў*

для папярэджання некаторых інфекцыйных хвароб.

**ФАГАТЫ́СТ** (ад *фагот*) — музыкант, які іграе на фагоце.

**ФАГАТЭРАПІ́Я** (ад *фагі* + *тэрапія*) — лячэнне інфекцыйных хвароб прэпаратамі *бактэрыяфагаў*.

**ФАГАЦЫТО́З** (ад *фагацыты*) — актыўнае захопліванне і паглынанне фагацытамі чужародных цел, у т. л. і бактэрый.

**ФАГАЦЫ́ТЫ** (ад *фагі* + *-цыты*) — клеткі жывёльнага арганізма, здольныя захопліваць і паглынаць чужародныя часцінкі, у т. л. і бактэрыі.

**ФА́ГІ** (гр. phagos = пажыральнік) — вірусы (*бактэрыяфагі* і *актынафагі*), якія паражаюць *бактэрыі* і *актынаміцэты*.

**-ФАГІЯ** (гр. phagos = які пажырае) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з працэсамі пажырання, паглынання.

**ФАГО́Т** (іт. fagotto) — драўляны духавы язычковы музычны інструмент з канічным каналам і двайной трысцінкай.

**ФАЕ́** (фр. foyer = *літар.* ачаг) — памяшканне ў тэатры, кіно, філармоніі для адпачынку гледачоў перад пачаткам спектакля, фільма, канцэрта або ў час антракта.

**ФАЕ́РКА** (ад ням. Feuer = агонь) — канфорка ў кухоннай пліце.

**ФАЁДЫЯ** (н.-лац. fayodia) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на глебе ў вільготных імшыстых і мяшаных лясах; неядомы.

**ФА́ЗА** (гр. phasis = з'яўленне) — 1) момант, асобная стадыя ў развіцці якой-н. з'явы або працэсу ў прыродзе ці грамадстве, у змене формы ці стану чаго-н. (напр. ф. цвіцення расліны, другая ф. месяца); 2) аднародная састаўная частка фізіка-хімічнай сістэмы, якая сваімі ўласцівасцямі адрозніваецца ад іншых яе частак і аддзелена ад іх паверхняй падзелу; 3) *фіз.* велічыня, якая характарызуе стан вагальнага працэсу ў кожны момант часу; 4) адзін з электрычных ланцугоў у мнагафазавай сістэме пераменнага току.

**ФАЗАІНВЕРТА́Р** (ад *фаза* + *інвертар*) — электратэхнічнае ўстройства, якое пераўтварае ўваходнае напружанне ў два напружанні, ссунутых па фазе на 180°.

**ФАЗАКАМПЕНСА́ТАР** (ад *фазакампенсацыя*) — устройства для выканання фазакампенсацыі.

**ФАЗАКАМПЕНСА́ЦЫЯ** (ад *фаза* + *кампенсацыя*) — ліквідацыя зруху фаз паміж токам і напружаннем у ланцугах пераменнага электрычнага току, што выклікае павелічэнне магутнасці электрычнага рухавіка.

**ФАЗА́Н** [гр. phasianos (ornis) = фасійская птушка, ад Phasis = даўнейшая назва ракі Рыён на Каўказе] — вялікая птушка сям. фазанавых з яркім апярэннем, пашыраная ў Паўд. Еўропе і Азіі; насяляе поймавыя лясы, зараснікі чароту, хмызнякі.

**ФАЗАТРО́Н** (ад *фаза* + *-трон*) — устаноўка для паскарэння руху зараджаных часціц (*пратонаў*, *дэйтронаў*, альфа-часціц), якая ўжы-

ваецца для даследаванняў у галіне фізікі атамнага ядра.

**ФА́ЗІС** (гр. phasis = з'яўленне) — першы момант у развіцці якой-н. з'явы, у змене формы або стану якога-н. цела.

**ФАЗМІ́ДЫ** (ад гр. phasis = з'яўленне, змена) — аднаклетачныя органы, размешчаныя па баках хваставога аддзела ў некаторых круглых чарвей, якія выконваюць асязальную функцыю.

**ФАЗО́МЕТР** (ад *фаза* + *-метр*) — прыбор для вымярэння рознасці фаз паміж напружаннем і токам у ланцугах пераменнага току.

**ФАЗЭ́НДА** (парт. fazenda) — 1) буйны маёнтак, валоданне, плантацыя кавы ў Бразіліі; 2) дом на такой плантацыі; слова пашырылася і на Беларусі ў якасці сіноніма да слова «дача».

**ФАЙ** (фр. faille) — шчыльная рубчастая шаўковая або шарсцяная тканіна.

**ФА́ЙДА** (п.-лац. faida) — феадальная прыватная вайна ў сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**ФАЙДЭШЫ́Н** (фр. faille de Chine = кітайскі фай) — шаўковая тканіна сярэдняй шчыльнасці з дробным рубчыкам, адзін з відаў *фаю*.

**ФАЙЛ** (англ. file) — пайменаваная вобласць даных у ЭВМ.

**ФАЙНШТЭ́ЙН** (ням. Feinstein) — прамежкавы прадукт пры вытворчасці медзі і нікелю з сульфідных руд.

**ФА́ЙНЫ** (польск. fajny, ад ням. fein = першага сорту, далікатны) — *разм.* добры, першасортны.

**ФА́ЙФ-А-КЛО́К** (англ. five-o'clock, ад five-o'clock tea = *літар.* пяцігадзінны чай) — чаяпіцце паміж *ленчам* і абедам (у Англіі і ЗША).

**ФАКАЛІ́Т** (ад гр. phakos = сачавіца + *-літ*) — лінзападобнае магматычнае цела (*інтрузія*), што змяшчаецца ў пластах асадачных парод.

**ФАКА́ЛЬНЫ** (ад лац. focus = ачаг) — які мае адносіны да *фокуса*[1] 1 (напр. ф-ая лінія, ф-ая плоскасць, ф. пункт).

**ФА́КЕЛ** (ням. Fackel) — 1) свяцільня, звычайна ў выглядзе палкі з наматаным на канцы прасмоленым пакуллем; 2) струмень газу або вадкасці, якія маюць выгляд конуса; 3) светлыя, няправільнай формы плямы на паверхні Сонца.

**ФАКЕЛЬЦУ́Г** (ням. Fackelzug, ад Fackel = факел + Zug = працэсія) — факельны паход, працэсія з запаленымі факеламі ў гонар пэўнай падзеі, юбілею, асобы.

**ФАКІ́Р** (ар. faqīr = жабрак) — 1) мусульманскі вандроўны манах, які займаецца жабраваннем; 2) вандроўны фокуснік.

**ФАКО́ТУС** (н.-лац. phacotus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. факотавых, якая пашырана сярод *планктону* прэсных вадаёмаў.

**ФАКС** (ад лац. fac simile = рабі падобнае) — апарат для перадачы або прыёму адлюстравання, тэксту па каналах сувязі з атрыманнем яго копіі (*факсіміле*).

**ФАКСІ́МІЛЕ** (лац. fac simile = рабі падобнае) — дакладная копія рукапісу, дакумента, малюнка, чыйго-н. подпісу пры дапамозе

фотамеханічнай рэпрадукцыі; 2) клішэ-пячатка з чыім-н. подпісам.

**ФАКСТРО́Т** (англ. foxtrot, ад fox = ліса + trot = хуткі крок) — бальны ўмерана хуткі рытмічны танец, які ўзнік з *рэгтайма, тустэпа* і *ўанстэпа* ў ЗША і распаўсюдзіўся ў Еўропе, а таксама музыка да гэтага танца.

**ФАКТ** (лац. factum = зробленае) — 1) сапраўдны, нявыдуманы выпадак, з'ява, здарэнне; 2) рэальнасць, рэчаіснасць, наяўнасць чаго-н.

**ФАКТАГРА́ФІЯ** (ад *факт* + *-графія*) — апісанне фактаў без іх аналізу, абагульнення.

**ФА́КТАР** (лац. factor = які робіць, стварае што-н.) — 1) рухальная сіла, прычына якога-н. працэсу, якая вызначае яго характар або асобныя рысы (напр. ф. нечаканасці, ф. часу); 2) *уст.* пасрэднік, камісіянер; 3) *мат.* сумножнік.

**ФАКТАРЫЯ́Л** (англ. factorial, ад factor = сумножнік < лац. factor = які робіць, стварае што-н.) — здабытак лікаў натуральнага рада ад 1 да якога-н. ліку *n*, г. зн. $1 \cdot 2 \cdot 3 ... \cdot n$.

**ФАКТО́РЫНГ** (англ. factoring) — разнавіднасць пасрэдніцкай дзейнасці, пры якой кампанія-пасрэднік за пэўную плату атрымлівае ад прадпрыемства права сыскваць ад пакупнікоў і залічваць на свой рахунак належную яму суму грошай.

**ФАКТО́РЫЯ** (с.-лац. factoria, ад лац. factor = які робіць, стварае што-н.) — 1) гандлёвы пасёлак еўрапейскіх купцоў у каланіяльных краінах або аддаленых раёнах; 2) пункт, які закупляе прадметы промыслу і гандлюе ў аддаленых прамысловых раёнах.

**ФАКТО́ТУМ** (лац. fac totum = рабі ўсё) — *уст.* даверaная асоба, якая выконвае чыё-н. заданне, даручэнне.

**ФАКТУ́РА** (лац. factura = апрацоўка, будова) — 1) характар апрацоўкі, які вызначае знешні выгляд тканіны, скуры і іншых матэрыялаў (напр. ф. мармуру, ф. шкла); 2) своеасаблівасць мастацкай тэхнікі ў творах мастацтва (напр. ф. верша, ф. жывапісу); 3) рахунак з вопісам адпраўленага тавару.

**ФАКТЫ́СЫ** (фр. factices, ад лац. facticius = штучны) — прадукты апрацоўкі раслінных алеяў серай; выкарыстоўваюцца для змякчэння каўчуку.

**ФАКТЫ́ЧНЫ** (ад *факт*) — які заснаваны на фактах, адпавядае фактам, сапраўдны.

**ФАКУЛЬТАТЫ́Ў** (лац. facultativus = магчымы) — неабавязковы для наведвання, звышпраграмны навучальны курс.

**ФАКУЛЬТАТЫ́ЎНЫ** (лац. facultativus) — неабавязковы, дадатковы (напр. ф. курс лекцый).

**ФАКУЛЬТЭ́Т** (ням. Fakultät, ад лац. facultas, -atis = здольнасць, магчымасць) — аддзяленне вышэйшай навучальнай установы, дзе вывучаецца пэўнае кола навуковых дысцыплін па пэўнай спецыяльнасці.

**ФА́КУС** (н.-лац. phacus) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая пашырана ў мелкіх непраточных вадаёмах або ў прыбярэжнай частцы азёр і рэк, асабліва забруджаных арганічнымі рэчывамі.

# Ф

**ФАЛ** (гал. val) — 1) трос для падымання на караблі парусоў, сігнальных флажкоў і інш.; 2) вяроўка для раскрыцця парашута без удзелу парашутыста, якая прымацоўваецца адным канцом да самалёта, а другім — да выцяжнога кольца.

**ФАЛА́НГА**[1] (гр. phalanks, -ngos) — 1) шчыльна самкнуты строй пяхоты і конніцы ў Стараж. Грэцыі і Македоніі; 2) *перан.* рад, шарэнга каго-н., чаго-н. (напр. ф. раманістаў, ф. чаўноў); 3) вялікая абшчына, камуна ў вучэнні ўтапічнага сацыялізму (гл. *фур'ерызм*); 4) іспанская фашысцкая партыя.

**ФАЛА́НГА**[2] (гр. phalanks, -ngos) — 1) кожная з кароткіх трубчастых костачак пальцаў чалавека і пазваночных жывёл; 2) ядавітая членістаногая жывёла класа *арахнідаў*, якая жыве ў цёплых краінах.

**ФАЛАНГІ́СТЫ** (ісп. falangistas) — члены іспанскай фашысцкай партыі (гл. *фаланга*[1] 4).

**ФАЛАНСТЭ́Р** (фр. phalanstere, ад гр. phalanks = вайсковы табар) — спецыяльны будынак для *фалангі*[1] 3 ва ўтапічным вучэнні французскага сацыяліста Ш. Фур'е (гл. *фур'ерызм*).

**ФАЛА́РЫ** (гр. phalara) — металічныя круглыя бляхі, якія ўпрыгожваюць збрую каня.

**ФА́ЛАС** (гр. phallos) — мужчынскі палавы орган, а таксама яго відарыс, які абагатвараўся некаторымі народамі як сімвал апладатваральнага пачатку прыроды.

**ФА́ЛДА** (польск. fałda, ад ням. Falte) — 1) складка на адзенні; 2) задняе крысо фрака, мундзіра і інш.

**ФАЛЕРЫ́СТ** (ад *фалерыстыка*) — калекцыянер значкоў і розных нагрудных знакаў адрознення.

**ФАЛЕРЫ́СТЫКА** (ад гр. phalaron = металічныя ўпрыгожанні) — 1) дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю ордэнаў, медалёў і іншых знакаў адрознення; 2) калекцыяніраванне значкоў і розных нагрудных знакаў.

**ФАЛІКУЛІ́Н** (ад лац. folliculus = мяшочак) — жаночы палавы гармон з групы *эстрагенаў*, які ўтвараецца ў *фалікулах* яечнікаў.

**ФАЛІКУЛІ́Т** (ад лац. folliculus = мяшочак) — гнойнае запаленне валасянога мяшочка (*фалікулы*).

**ФАЛІ́КУЛЫ** (лац. folliculus = мяшочак) — пузыраватыя ўтварэнні ў органах пазваночных жывёл і чалавека, якія выконваюць розныя функцыі, напр. ф. яечніка, шчытападобнай залозы, валасоў, лімфатычныя вузлы і інш.

**ФА́ЛІНЬ** (гал. vanglijn) — трос, якім *шлюпка* прывязваецца да прыстані або да борта судна.

**ФАЛІ́Я** (парт. folia) — народны танец і танцавальная песня партугальскага паходжання.

**ФАЛІЯ́НТ** (ням. Foliant, ад лац. folium = ліст) — 1) кніга фарматам у палавіну папяровага аркуша (гл. таксама *ін-фоліо*); 2) тоўстая кніга вялікага фармату.

**ФАЛО́ПІЯ** (н.-лац. fallopia) — травяністая расліна сям. драсёнавых з шурпатым сцяблом і зялёнымі кветкамі, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; пустазелле.

# Ф

**ФАЛРЭ́П** (гал. valreep) — *трос*, які замяняе парэнчы пры ўваходных трапах на суднах.

**ФАЛЬБО́НА** (польск. falbana, ад фр. falbala) — палоска матэрыялу, прышытая зборкамі да спадніцы, фартуха і інш.

**ФАЛЬВА́РАК** (польск. folwark, ад ням. Vorwerk) — 1) панская гаспадарка з комплексам будынкаў у феадальнай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; 2) *уст.* невялікая сядзіба пана, хутар.

**ФАЛЬКАНЕ́Т** (іт. falconetto) — старадаўняя дробнакаліберная гармата, што страляла свінцовымі снарадамі.

**ФАЛЬКЛАРЫ́СТ** (ад *фальклары́стыка*) — спецыяліст па *фальклору*.

**ФАЛЬКЛАРЫ́СТЫКА** (ад *фальклор*) — навука, якая вывучае фальклор.

**ФАЛЬКЛО́Р** (англ. folklore) — вусная народная творчасць.

**ФАЛЬСІФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. falsificare) — рабіць *фальсіфікацыю* 1.

**ФАЛЬСІФІКА́Т** (лац. falsificatus = падроблены) — фальшывы, падроблены прадукт, выраб.

**ФАЛЬСІФІКА́ТАР** (ад *фальсіфікацыя*) — той, хто фальсіфікуе што-н.

**ФАЛЬСІФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. falsificatio = падробка) — 1) падробліванне, скажэнне, падмена чаго-н. з мэтай выдаць за сапраўднае; 2) падробленая рэч, якая выдаецца за сапраўдную; падробка.

**ФАЛЬСТА́РТ** (англ. false start = няправільны старт) — *сп. старт*, узяты кім-н. з удзельнікаў спаборніцтва раней, чым патрэбна.

**ФАЛЬЦ** (ням. Falz) — 1) месца змацавання тонкіх металічных лістоў; 2) прамавугольны паз уздоўж краю дошкі, бруса; 3) месца згібу аддрукаваных аркушаў кнігі, брашуры, часопіса пры фальцаванні (гл. *фальцаваць* 3).

**ФАЛЬЦАВА́ЦЬ** (ням. falzen = згібаць) — 1) змацоўваць тонкія металічныя лісты адгінаннем і сумесным абцісканнем іх краёў; 2) выбіраць (выдзёўбваць) пазы ўздоўж краю дошак, брусоў; 3) згінаць, згортваць папяровы аркуш у адпаведным парадку.

**ФАЛЬЦАПАРА́Т** (ням. Falzapparat) — *апарат* для фальцавання, які з'яўляецца часткай ратацыйнай друкарскай машыны.

**ФАЛЬЦГЭ́БЕЛЬ** (ням. Falzhobel) — інструмент у выглядзе калодкі з разцом і абмежавальнымі лінейкамі для выстругвання пазоў уздоўж краю дошак, брусоў.

**ФА́ЛЬЦЭР** (ням. Falzer) — апарат, якім вызначаюць супраціўленне злому паперы або кардону.

**ФАЛЬЦЭ́Т** (іт. falsetto) — 1) *муз.* самы высокі верхні *рэгістр* 2 мужчынскага пеўчага голасу; 2) надта высокі, пісклявы голас.

**ФАЛЬШ** (польск. falsz < ням. Falsch, ад лац. falsus = памылковы) — 1) абман, няпраўда, хлусня; няшчырасць, крывадушнасць; 2) недакладна ўзятая (выкананая) нота ў спевах, падчас ігры на музычным інструменце.

**ФАЛЬШБО́РТ** (ням. Falschbord, ад falsch = несапраўдны + Bord =

борт) — бартавая агароджа палубы на судне.

**ФАЛЬШКІ́ЛЬ** (ням. Falschkiel, ад falsch = несапраўдны + Kiel = кіль) — *мар.* драўляны або металічны брус, які прымацоўваецца пад *кілем* для засцярогі яго ад пашкоджання пры пасадцы на мель, а таксама для надання судну большай устойлівасці.

**ФАЛЬШФЕ́ЕР** (ням. Falschfeuer, ад falsch = несапраўдны + Feuer = агонь) — папяровая гільза, напоўненая піратэхнічным саставам, які гарыць роўным яркім полымем і выкарыстоўваецца на судне для сігналізацыі.

**ФАМІЛІСТЭ́Р** (фр. familistere, ад лац. familia = сям'я) — інтэрнат для рабочых, пабудаваны вучнем Ш. Фур'е Гадэнам па тыпу *фаланстэра* ў горадзе Гізе (Францыя).

**ФАМІ́ЛІЯ** (лац. familia) — 1) род, шэраг пакаленняў, якія маюць аднаго продка; 2) *уст.* сям'я, члены сям'і.

**ФАМІЛЬЯ́РНЫ** (лац. familiaris = сямейны, блізкі) — бесцырымонны, развязны.

**ФАМІТО́ПСІС** (н.-лац. Fomitopsis) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, каранях, адмерлых ствалах, часам на апрацаванай драўніне, выклікае гніль.

**ФАМО́З** (ад н.-лац. phoma = назва паразітычнага грыба) — хвароба раслін, якая выклікаецца грыбам *фома*; паражае капусту, буракі, моркву, кроп, вінаградную лазу і інш.

**ФАМО́ПСІС** (н.-лац. phomopsis) — недасканалы грыб сям. тандастромавых, які развіваецца на лісці і сцёблах травяністых раслін, дрэў і кустоў.

**ФА́МУЛУС** (лац. famulus = раб, слуга) — 1) слуга, збраяносец у сярэдневяковай Еўропе; 2) асістэнт лекара або студэнт, прызначаны выконваць даручэнні прафесара ў замежных універсітэтах.

**ФАНА-** гл. *фона-*.

**ФАНАБЭ́РЫЯ** (польск. fanaberia) — пыхлівасць, зазнайства, ганарыстасць.

**ФАНАГРА́МА** (ад *фана-* + *-грама*) — тэкст, запісаны пры дапамозе *фанографа* на плёнцы, пласцінцы, а таксама плёнка, пласцінка з такім запісам.

**ФАНАГРА́ФІЯ** (ад *фана-* + *-графія*) — апісанне гуказапісу (грампласцінак, магнітных стужак і інш.).

**ФАНАЛО́ГІЯ** (ад *фана-* + *-логія*) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае *фанемы*; 2) сістэма фанем у мове.

**ФАНАСКО́П** (ад *фана-* + *-скоп*) — апарат для вывучэння гукавых асаблівасцей маўлення і спосабаў утварэння гукаў пры дапамозе галасавога апарата.

**ФАНАТЫ́ЗМ** (фр. fanatisme, ад лац. fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — сляпая адданасць сваім вераванням або перакананням, злучаная з крайняй нецярпімасцю да чужых поглядаў і імкненняў.

**ФАНА́ТЫК** (лац. fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — чалавек, слепа адданы сваім вераванням або перакананням і нецярпімы да чужых поглядаў і імкненняў.

**ФАНАТЫ́ЧНЫ** (лац. fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — уласцівы *фанатыку*, прасякнуты *фанатызмам*.

**ФАНАТЭ́КА** (ад *фана-* + *-тэка*) — 1) гуказапісы, сабраныя і пэўным чынам сістэматызаваныя; 2) установа, якая збірае і зберагае *фанаграмы*.

**ФАНА́ЦЫЯ** (фр. phonation, ад гр. phone = гук) — гучанне голасу і гукаў мовы.

**ФАНГСБО́Т** (гал. vangsboot, ад vangst = лоўля + boot = лодка, судна) — судна для зверабойнага промыслу і для дапаможных патрэб.

**ФАНДА́НГА** (ісп. fandango) — іспанскі парны народны танец, які выконваецца пад акампанемент гітары і кастаньет.

**ФАНЕ́МА** (гр. phonema = гук) — *лінгв.* найменшая гукавая адзінка мовы, якая ў розных пазіцыях выконвае сэнсаадрознівальную функцыю.

**ФАНЕНДАСКО́П** (ад гр. phone = гук + endon = унутры + *-скоп*) — медыцынскі прыбор з рэзанатарам для выслухоўвання сэрца і лёгкіх.

**ФАНЕ́РА** (ням. Furnier, ад фр. fournir = накладваць) — ліставы драўняны матэрыял са склееных тонкіх пласцін дрэва з перакрыжаваным размяшчэннем валокнаў драўніны.

**ФАНЕРАГА́МЫ** (ад гр. phaneros = яўны + gamos + шлюб) — кветкавыя расліны з бачнымі органамі палавога размнажэння (параўн. *крыптагамы*).

**ФАНЕРАЗО́Й** (ад гр. phaneros = яўны + *-зой*) — інтэрвал часу, на працягу якога сфарміраваліся тоўшчы горных парод *палеазою, мезазою* і *кайназою*.

**ФАНЕРАФІ́ТЫ** (ад гр. phaneros = яўны + -МІфіты) — расліны, у якіх не адміраюць на зіму пупышкі ўзнаўлення, размешчаныя высока над зямлёй.

**ФАНЕ́ТЫКА** (гр. phonetikos = гукавы) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае гукі мовы, іх спалучальнасць і пазіцыйныя змяненні; 2) гукавы састаў мовы.

**ФАНЕТЫ́ЧНЫ** (гр. phonetikos = гукавы) — які мае адносіны да *фанетыкі*; гукавы (напр. ф. лад мовы).

**ФА́НЗА** (кіт. fan-czi) — 1) сялянская хата на каркасе з драўляных слупоў у Кітаі, Карэі; 2) кітайская шаўковая тканіна, падобная да *тафты*.

**ФАНІ́ЗМ** (ад гр. phone = гук) — узнікненне слыхавых уяўленняў пры аптычных, смакавых і іншых неакустычных раздражненнях.

**-ФАНІЯ, -ФОНІЯ** (ад гр. phone = гук) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «гучанне».

**ФАНО́ГРАФ** (ад *фана-* + *-граф*) — апарат для запісу гукаў і ўзнаўлення запісанага механічным спосабам.

**ФАНО́МЕР** (ад *фана-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння сілы гуку або шуму.

**ФАНО́Н** (ад гр. phone = гук) — *квант*, часцінка, порцыя гуку.

**ФАНТАЗЁР** (ад *фантазіраваць*) — чалавек, які любіць фантазіраваць, строіць няздзейсныя планы.

# Ф

**ФАНТАЗІ́РАВАЦЬ** (ад *фантазія*) — 1) аддавацца фантазіі; марыць; 2) выдумляць што-н. непраўдападобнае, тое, чаго не можа быць.

**ФАНТА́ЗІЯ** (гр. phantasia = уяўленне) — 1) мара, выдумка; 2) творчае ўяўленне (напр. паэтычная ф.); 3) жанр інструментальнай музыкі, для якога характэрна імправізацыйнасць, свабодная трактоўка формы (напр. ф. на народныя тэмы).

**ФАНТА́Н** (іт. fontana, ад лац. fons, -ntis = крыніца) — 1) струмень вады або якой-н. вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам (напр. ф. нафты); 2) архітэктурнае збудаванне, якое служыць асновай ці абрамленнем для струменяў вады; 3) *перан.* невычэрпны паток чаго-н. (напр. ф. красамоўства).

**ФАНТАСМАГО́РЫЯ** (ад гр. phantasma = прывід, здань + agoreuo = гавару) — 1) прывіды, вычварныя фантастычныя малюнкі, што бачацца чалавеку ў хваравітым стане; 2) фантастычныя карціны, фігуры, якія атрымліваюцца з дапамогай розных аптычных прыстасаванняў.

**ФАНТА́СТ** (гр. phantastes) — 1) чалавек з багата развітай *фантазіяй*; фантазёр, летуценнік; 2) пісьменнік, мастак, які стварае фантастычныя сюжэты і вобразы.

**ФАНТА́СТЫКА** (гр. phantastike = здольнасць уяўляць) — 1) штосьці непраўдападобнае, нерэальнае, заснаванае на творчым уяўленні, на фантазіі; 2) літаратурныя творы, у якіх апісваюцца выдуманыя, фантастычныя падзеі.

**ФАНТАСТЫ́ЧНЫ** (гр. phantastikos) — 1) які не існуе ў рэчаіснасці, выдуманы; 2) незвычайны, чарадзейны, непраўдападобны.

**ФАНТО́М** (фр. fantôme, ад гр. phantasme = прывід, здань) — 1) прывід, здань; 2) мадэль цела або яго часткі ў натуральную велічыню, якая служыць наглядным дапаможнікам.

**ФАНТО́Ш** (фр. fantoche, ад іт. fantoccio = лялька) — тое, што і *марыянетка*.

**ФА́НТЫ** (польск. fanty, ад ням. Pfand = заклад) — гульня, удзельнікі якой у якасці штрафу выконваюць розныя жартаўлівыя заданні, што выпадаюць па жэрабю ўладальніку аддадзенага ў заклад прадмета, а таксама прадметы, аддадзеныя ў заклад пры гэтай гульні.

**ФАНТЫНА́ЛІС** (н.-лац. fontinalis) — лістасцябловы мох сям. фантыналіевых, які расце прымацавана да камянёў, каранёў і ствалоў дрэў у стаячых і праточных вадаёмах.

**ФАНФА́РА** (іт. fanfara) — 1) медны духавы сігнальны музычны інструмент у выглядзе падоўжанай трубы; 2) музычная фраза, сігнал, які выконваецца на такім інструменце і апавяшчае аб пачатку парада ці ўрачыстасці.

**ФАНФАРАНА́ДА** (фр. fanfaronnade) — паводзіны *фанфарона*, хвальба, выхвалянне.

**ФАНФАРО́Н** (ісп. fanfarron, ад ар. farfar = легкаважны) — хвалько, выхваляка.

**ФА́РА** (фр. phare) — яркі ліхтар з рэфлектарам на аўтамабілі, мата-

цыкле, паравозе, трактары і інш. для асвятлення шляху.

**ФАРА́ДА** [ад англ. M. Faraday = прозвішча англ. фізіка (1791 — 1867)] — адзінка вымярэння электрычнай ёмістасці ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная электрычнай ёмістасці праваднік, патэнцыял якога павялічваецца на 1 *вольт* пры перадачы яму электрычнага зараду ў 1 *кулон*.

**ФАРАДМЕ́ТР** (ад *фарада* + -метр) — прыбор для вымярэння электрычнай ёмістасці.

**ФАРАДЫЗА́ЦЫЯ** (ад *фарада*) — прымяненне пераменнага току нізкай частаты ў лячэбных і дыягнастычных мэтах.

**ФАРАДЭ́Й** [англ. M. Faraday = прозвішча англ. фізіка (1791 — 1867)] — адзінка колькасці электрычнасці, якая выкарыстоўваецца ў электрахіміі (роўная $9{,}65 \cdot 10^4$ *кулонаў*).

**ФАРАМІНІФЕ́РЫ** (н.-лац. foraminifera) — падклас прасцейшых класа саркодавых; уключае каля 20 тысяч марскіх сучасных і выкапнёвых відаў.

**ФАРАНДО́ЛА** (фр. farandole) — старадаўні правансальскі народны танец.

**ФАРАНІ́ДЫ** (н.-лац. phoronida) — клас тыпу шчупальцавых; марскія донныя жывёлы з каўбасападобным целам даўжынёй ад 0,6 да 45 см.

**ФАРАО́Н** (гр. pharaon, ад ст.-егіп. Per'ō = вялікі дом) — 1) тытул старажытнаегіпецкіх цароў; 2) *перан.* зневажальная клічка паліцэйскага; 3) старадаўняя гульня ў карты.

**ФА́РБА** (польск. farba, ад ням. Farbe) — 1) каляровае рэчыва, якім афарбоўваюць прадметы; 2) колер, барва (напр. фарбы восені); 3) *перан.* сродкі мастацкага апісання; з г у ш ч а ц ь ф а р б ы — перабольшваць.

**ФАРБАВА́ЦЬ** (ад *фарба*) — пакрываць што-н. фарбай; надаваць колер, афарбоўку.

**ФАРБАПУ́ЛЬТ** (ад *фарба* + *пульт*) — пнеўматычны апарат для распылення сціснутым паветрам фарбавальных саставаў пры малярных работах.

**ФАРБІ́ТЫС** (н.-лац. pharbitis) — павойная травяністая расліна сям. бярозкавых з буйнымі кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ў тропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФАРВА́КУУМ** (ад ням. vor = перад + *вакуум*) — *фіз.* папярэдняе разрэджванне пры атрыманні вакуума ў дзве ступені.

**ФАРВА́ТЭР** (гал. vaarwater, ад varen = плаваць + water = вада) — 1) водны шлях для бяспечнага праходу суднаў, звычайна вызначаны сігнальнымі знакамі (бакенамі, вехамі, буямі); 2) *перан.* сфера якога-н. уплыву, асноўная лінія, кірунак дзейнасці, творчасці.

**ФАРДЫ́ЗМ** [ад англ. H.Ford = прозвішча амер. аўтамабільнага прамыслоўца (1863 — 1947)] — сістэма арганізацыі працы, заснаваная на стандартызацыі, тыпізацыі і канвеерызацыі вытворчых працэсаў; была ўведзена на аўтазаводах ЗА ў 1-й чвэрці 20 ст.

**ФАРЗІ́ЦЫЯ** (н.-лац. forsythia) — лістападная кустовая расліна сям.

маслінавых з адзіночнымі ярка-жоўтымі кветкамі, пашыраная ва Усх. Азіі і Паўд.-Усх. Еўропе; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФАРКА́МЕРА** (ад англ. fore = пярэдні + *камера*) — невялікая камера ў дызельных і ракетных рухавіках, у якой адбываецца папярэдняе, перад уваходам у асноўную камеру, змешванне і гарэнне кампанентаў вадкага паліва.

**ФАРМАВА́ЦЬ** (лац. formare) — надаваць чаму-н. пэўную форму.

**ФАРМАЗО́Н** (польск. farmazon, ад фр. franc-maçon = масон) — тое, што і *франкмасон*.

**ФАРМАКАГЕНЕ́ТЫКА** (ад гр. pharmakon = лякарства + генетыка) — вучэнне аб спадчыннай зменлівасці арганізма пад уплывам лекавых рэчываў.

**ФАРМАКАГНО́ЗІЯ** (ад гр. pharmakon = лякарства + gnosis = веды) — раздзел *фармацыі*, які вывучае рэчывы расліннага і жывёльнага паходжання, што маюць лекавыя ўласцівасці.

**ФАРМАКАЛО́ГІЯ** (ад гр. pharmakon = лякарства + *-логія*) — навука аб уздзеянні лекавых рэчываў на арганізм чалавека і жывёл; лякарствазнаўства.

**ФАРМАКАПЕ́Я** (ад гр. pharmakon = лякарства + poieo = раблю) — афіцыйны звод правіл, якім кіруюцца *фармацэўты* пры падрыхтоўцы, захоўванні і назначэнні лякарстваў, а таксама пералік лекавых рэчываў, якія павінны знаходзіцца ў аптэцы.

**ФАРМАКАТЭРАПІ́Я** (ад гр. pharmakon = лякарства + *тэрапія*) — лячэнне лекавымі сродкамі.

**ФАРМАКАХІ́МІЯ** (ад гр. pharmakon = лякарства + *хімія*) — раздзел хіміі, які вывучае фізіка-хімічныя ўласцівасці лекавых рэчываў, метады іх аналізу і спосабы захоўвання.

**ФАРМАКО́ЛАГ** (ад *фармакалогія*) — спецыяліст у галіне фармакалогіі.

**ФАРМАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. formalis = які датычыць формы) — прадстаўленне якой-н. галіны ведаў у выглядзе сістэмы доказаў або вылічэння.

**ФАРМАЛІ́ЗМ** (фр. formalisme, ад лац. formalis = які датычыць формы) — 1) *фармальнае* стаўленне да чаго-н. на шкоду справе; 2) кірунак у эстэтыцы, мастацтве, літаратуры, філасофіі, які надае асноўнае значэнне *форме*, яе знешняму выражэнню.

**ФАРМАЛІ́Н** (ад *фармальдэгід*) — водны раствор фармальдэгіду з едкім удушлівым пахам; выкарыстоўваецца як сродак для дэзінфекцыі, для дублення скур і інш.

**ФАРМАЛІ́СТ** (ад лац. formalis = які датычыць формы) — 1) той, хто фармальна ставіцца да чаго-н. са шкодай для справы; 2) паслядоўнік *фармалізму* 2.

**ФАРМАЛЬДЭГІ́Д** [ад лац. form(ica) = мурашка + *альдэгід*] — арганічнае злучэнне, самы просты *аліфатычны* альдэгід; бясколерны газ з рэзкім пахам; выкарыстоўваецца ў вытворчасці пластмас, смол, лекавых рэчываў, у папяро-

вай і тэкстыльнай прамысловасці; мурашыны альдэгід, метанал.

**ФАРМА́ЛЬНЫ** (лац. formalis) — 1) звязаны з *формай*, уласцівы форме; 2) афіцыйны, законны, зроблены па форме; 3) зроблены для прыліку, такі, дзе захавана толькі знешняя форма.

**ФАРМА́НТ** (лац. formans, -ntis = які ўтварае, фарміруе) — *лінгв.* 1) тое, што і *афікс*; 2) частка слова (прыстаўка, суфікс, інфікс), якая служыць для словаўтварэння і словазмянення.

**ФАРМА́НТА** (лац. formans, -ntis = які ўтварае, фарміруе) — дадатковае адценне гуку, якое надае гучанню музычнага інструмента або голасу асаблівую афарбоўку-тэмбр.

**ФАРМА́Т** (фр. format, ад лац. formatus = сфармаваны) — памер (вышыня і даўжыня) кнігі, папяровага аркуша, карткі і г. д.

**ФАРМАТЫ́Ў** (фр. formatif, ад лац. formatus = сфармаваны) — тое, што і *афікс*.

**ФАРМА́ЦЫЯ** (лац. formatio = утварэнне, від) — 1) пэўная стадыя ў развіцці грамадства, а таксама структура грамадства на гэтай стадыі з уласцівым толькі ёй спосабам вытворчасці; 2) сістэма поглядаў, унутраны склад; 3) комплекс генетычна звязаных горных парод аднаго часу і спосабу ўтварэння; 4) расліннае згуртаванне, якое характарызуецца адным або некалькімі агульнабіялагічнымі відамі.

**ФАРМАЦЫ́Я** (п.-лац. pharmacia, ад гр. pharmakeia = прымяненне лякарства) — раздзел *медыцыны*, які вывучае пытанні здабывання, апрацоўкі, вырабу, захавання і выдачы лекавых сродкаў.

**ФАРМАЦЭ́ЎТ** (гр. pharmakeutes = які робіць лякарства) — аптэчны спецыяліст з вышэйшай або сярэдняй фармацэўтычнай адукацыяй.

**ФАРМАЦЭ́ЎТЫКА** (гр. pharmakeutike) — комплекс дысцыплін, якія вывучаюць пытанні здабычы, апрацоўкі, вырабу, захоўвання і водпуску лекавых сродкаў.

**ФАРМІ́ДЫУМ** (н.-лац. phormidium) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая пашырана ў вадзе, на глебе і ў глебе, на скалах і інш.

**ФАРМІРАВА́ЦЬ** (рус. формировать, ад лац. formare) — 1) арганізоўваць, ствараць, састаўляць (напр. ф. дывізію, ф. урад, ф. тварны састаў); 2) выпрацоўваць у каго-н. адпаведныя рысы характару, светапогляд і інш.

**ФАРМІЯ́ТЫ** (ад лац. formica = мурашка) — солі і эфіры мурашынай кіслаты; выкарыстоўваюцца ў арганічным сінтэзе як дубільнікі, растваральнікі і інш.

**ФАРМО́ЗА** (н.-лац. formosa) — рыба атрада карпазубых, якая пашырана ў вадаёмах на паўднёвым усходзе ЗША.

**ФАРМУЛЯВА́ЦЬ** (польск. formułować, ад лац. formula = форма, правіла, палажэнне) — коратка і дакладна выражаць якую-н. думку, рашэнне.

**ФАРМУЛЯ́Р** (ням. Formular, ад лац. formula = форма, правіла) — 1) асобная кніга або бланк, куды заносяцца асноўныя звесткі аб стане, эксплуатацыі якога-н. механіз-

ма, збудавання; 2) бібліятэчная ўліковая картка.

**ФАРПО́СТ** (ням. Vorposten) — 1) тое, што і *аванпост*; 2) *перан*. перадавы пункт, апора чаго-н.

**ФАРС** (фр. farce) — 1) сярэдневяковая *камедыя* на фальклорнай аснове ў краінах Зах. Еўропы; 2) лёгкая камедыя-вадэвіль з чыста знешнімі жартаўлівымі прыёмамі; 3) *перан*. грубы, цынічны жарт; 4) *перан*. ганебнае відовішча (напр. судовы ф.).

**ФАРСА́Ж** (фр. forçage) — паскарэнне, узмацненне якога-н. працэсу, напр. цягі рухавіка.

**ФАРСІ́РАВАЦЬ** (фр. forcer) — 1) узмацняць, паскараць што-н.; 2) *ваен*. пераадольваць водную перашкоду пад агнём праціўніка.

**ФАРСТЭРЫ́Т** (ад ням. Vorster = прозвішча нямецкага вучонага) — мінерал класа сілікатаў, празрысты, бясколерны; выкарыстоўваецца для вырабу вогнетрывалай цэглы.

**ФАРСУ́НКА** (ад англ. force-pump = нагнятальная помпа) — прыстасаванне для распыльвання вадкасцей (напр. паліва ў рухавіках унутранага згарання) або парашкападобных матэрыялаў.

**ФАРТРА́Н** [ад англ. for(mula) tran(slator)] — фармальная мова для апісання *алгарытмаў* на электронна-вылічальнай машыне.

**ФАРТУ́НА** (лац. fortuna, ад Fortuna = імя багіні шчасця, лёсу, удачы ў старажытнарымскай міфалогіі) — 1) удача, поспех; шчаслівы лёс; 2) *уст*. багацце, маёмасць.

**ФАРТУ́Х** (польск. fartuch, ад ням. Vortuch) — 1) заслона пэўнага крою, якую надзяваюць спераду на адзенне, каб засцерагчы яго ад забруджвання; 2) покрыўка, чахол для машыны, механізма, тэхнічнага прыстасавання.

**ФА́РТЫНГ** (англ. farthing) — самая дробная англійская манета, роўная 1/4 *пенса*, якая была ва ўжытку да 1968 г.

**ФАРТЫ́СІМА** (іт. fortissimo) — *муз*. 1) мацней, больш гучна, чым *фортэ*; 2) месца ў музычным творы, якое выконваецца такім чынам.

**ФАРТЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. fortificatio = умацаванне) — 1) ваенная навука, якая вывучае формы, сродкі і спосабы ўмацавання вайсковых пазіцый і абароны ад сродкаў паражэння; 2) галіна ваенна-інжынернай справы, якая займаецца ўзвядзеннем умацаванняў, а таксама самі гэтыя ўмацаванні.

**ФАРТЭПІЯ́НА** (іт. fortepiano, ад forte = гучны + piano = ціхі) — струнны ўдарна-клавішны музычны інструмент; разнавіднасці ф. — *раяль* і *піяніна*.

**ФАРТЭ́ЦЫЯ** (польск. forteca, ад іт. fortezza) — невялікае ўмацаванне, крэпасць.

**ФАРФЕ́ЙТЫНГ** (англ. forfeiting) — прадастаўленне банкам у часовае карыстанне часткі ўласнага або прыцягненага капіталу.

**ФАРФО́Р** (тур. farfur, ад перс. fahfūr) — маса з высакаякаснай белай гліны, а таксама пасуда, дэкаратыўныя вырабы, ізалятары з такой масы.

**ФАРШ** (фр. farce) — дробна нарэзанае мяса для прыгатавання розных відаў ежы, а таксама любая

дробна нарэзаная начынка (напр. свіны ф., грыбны ф.).

**ФАРШЛА́Г** (ням. Vorschlag, ад vor = перад + Schlag = удар) — 1) *муз.* меладычнае ўпрыгожанне з аднаго або двух хутка выкананых перад асноўнай нотай гукаў (гл. *мелізмы*); 2) *мар.* вяроўка для нацягвання пярэдняга паруса.

**ФАРШМА́К** (ням. Vorschmack) — страва са здробненага селядца ці мяса, запечаных з бульбай, цыбуляй і інш.

**ФАРШТА́Т** (ням. Vorstadt, ад vor = перад + Stadt = горад) — пасяленне па-за межамі горада або крэпасці; прадмесце.

**ФАРШТЭ́ВЕНЬ** (гал. voorsteven, ад vor = спераду + steven = стаяк) — насавая частка судна, якая з'яўляецца працягам *кіля*.

**ФАРЫНАТО́М** (ад лац. farina = мука + гр. tome = разразанне) — прыбор для папярочнага разразання зярнят пшаніцы або ячменю з мэтай вызначэння іх шклопадобнасці, якая з'яўляецца важкай прыкметай для ацэнкі мукамольна-хлебапечных якасцей зярнят.

**ФАРЫНГА́ЛЬНЫ** (ад гр. pharynks, -ngos = глотка); *лінгв.* ф. з ы ч н ы — зычны гук, які ўтвараецца дзякуючы збліжэнню кораня языка са сценкай глоткі, напр. у арабскай мове.

**ФАРЫНГАСКАПІ́Я** (ад гр. pharynks, -ngos = глотка + *-скапія*) — *мед.* агляд глоткі пры дапамозе *фарынгаскопа* з дыягнастычнай мэтай.

**ФАРЫНГАСКО́П** (ад гр. pharynks, -ngos = глотка + *-скоп*) — прыбор для агляду глоткі.

**ФАРЫНГІ́Т** (ад гр. pharynks, -ngos = глотка) — вострае або хранічнае запаленне слізістай абалонкі глоткі.

**ФАРЫСЕ́Й** (гл. pharisaios, ад ст.-яўр. parusz = аддзелены) — 1) член рэлігійна-палітычнай секты ў Стараж. Іудзеі, што абараняла інтарэсы заможных слаёў насельніцтва і вызначалася фанатызмам і крывадушшам; 2) *перан.* ханжа, крывадушнік.

**ФАРЫСЕ́ЙСТВА** (ад *фарысей*) — паводзіны фарысея, крывадушнасць.

**ФАРЭ́ЙТАР** (ням. Vorreiter) — кучар, які сядзіць на першым кані пры запрэжцы цугам.

**ФАРЭ́ЛЬ** (ням. Forelle) — ручная і азёрная рыба сям. ласасёвых; стронга.

**ФАС** (фр. face, ад лац. facies = твар) — 1) выгляд спераду, з твару; 2) бок абароннага збудавання, павернуты да праціўніка.

**ФА́СА** (польск. fasa, ад ням. Fass = бочка) — драўляная дзежка з клёпак, якая служыць для захоўвання розных прадуктаў.

**ФАСАВА́ЦЬ** (польск. fasować, ад ням. fassen) — раскладваць, разважваць тавар на пэўныя часткі і запакоўваць іх, рыхтуючы да продажу.

**ФАСА́Д** (фр. façade) — знешняя пярэдняя частка будынка.

**ФАСАМБРО́НІЯ** (н.-лац. fossombronia) — пячоначны мох сям. кадоніевых, які расце на аголенай пясчанай і балотнай глебах, па краях канаў, на палях.

**ФАСГЕ́Н** (ад гр. phos = святло + *-ген*) — ядавіты бясколерны газ з

удушлівым пахам гнілога сена, які выкарыстоўваюць у арганічным сінтэзе; атрутнае рэчыва ўдушлівага дзеяння.

**ФАСЕ́Т** (фр. facette) — 1) скошаная бакавая грань чаго-н., напр. люстэрка; 2) грань адшліфаванага каменя; 3) рагавіца кожнага з асобных вочак, з якіх складаецца складанае вока членістаногіх; фасетка.

**ФАСІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. fossilis = выкапнёвы) — працэс ператварэння рэштак вымерлых жывёл і раслін у выкапнёвы стан шляхам замяшчэння арганічных рэчываў мінеральнымі.

**ФАСІ́ЛІІ** (ад лац. fossilis = выкапнёвы) — рэшткі і сляды жыццядзейнасці арганізмаў геалагічнага мінулага ў горных пародах; акамянеласці.

**ФАСІ́ЛЬНЫ** (лац. fossilis) — выкапнёвы, які адносіцца да выкапнёвых жывёл і раслін.

**ФА́СКА** (ад фр. facette = грань) — скошаная частка рабра, канта на драўляных, металічных і іншых вырабах.

**ФА́СКУМ** (н.-лац. phascum) — лістасцяблovы мох сям. потыевых, які расце на агаленнях пясчанай глебы на палях, схілах, пустэчах.

**ФАСО́ЛЯ** (польск. fasola < лац. phaseolus, ад гр. phaseolos) — травяністая расліна сям. бабовых з трайчастым лісцем і белымі, ружовымі або фіялетавымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў розных кліматычных зонах, а таксама яе насенне, якое выкарыстоўваецца для ежы.

**ФАСО́Н** (фр. façon) — 1) крой, мадэль, форма якога-н. адзення, абутку; 2) *перан.* пэўны спосаб, манера; т р ы м а ц ь ф. — захоўваць неабходныя нормы паводзін для падтрымання рэпутацыі.

**ФАСТРЫ́ГА** (польск. fastryga, ад с.-в.-ням. vast = моцна + rige = рад) — 1) шво вялікімі шыўкамі, якім часова, папярэдне сшываецца матэрыял; 2) нітка, якой *фастрыгуюць*.

**ФАСТРЫГАВА́ЦЬ** (польск. fastrygować, ад с.-в.-ням. vast = моцна + rige = рад) — 1) шыць, сшываць рэдкімі шыўкамі, фастрыгаю, намячаючы лінію швоў; 2) шыць рэдкімі шыўкамі, рыхтуючы да прымеркі (напр. ф. паліто).

**ФАСФАГІ́ПС** (ад *фосфар* + *гіпс*) — прамысловыя адходы пры атрыманні фосфарнай кіслаты і фосфарных угнаенняў.

**ФАСФАРАСЦЭ́НЦЫЯ** (ад гр. phosphoros = светланосны + лац. escentia = суфікс, які абазначае слабае дзеянне) — 1) свячэнне некаторых рэчываў (напр. сярністых злучэнняў цынку, барыю, стронцыю) пасля спынення іх абпраменьвання; адна з разнавіднасцей *люмінесцэнцыі*; 2) свячэнне, якое выконваецца пэўнымі бактэрыямі (напр. ф. мора).

**ФАСФАРО́ЛІЗ** (ад *фосфар* + *-ліз*) — зваротны ферментатыўны працэс расшчаплення глюказідных сувязей некаторых біялагічна важных злучэнняў (*крухмалу, глікагену, цукрозы, нуклеазідаў*) пры дапамозе неарганічнага *фасфату*.

**ФАСФАРЫ́ТЫ** (ад *фосфар*) — асадачныя горныя пароды, насычаныя *фасфатамі*; выкарыстоўваюцца для вырабу мінеральных угнаенняў.

**ФАСФАТА́ЗЫ** (ад *фасфаты*) — гідралітычныя *ферменты*, якія каталізуюць адшчапленні фосфарнай кіслаты з арганічных злучэнняў; змяшчаюцца ва ўсіх клетках арганізма чалавека, жывёл і раслін.

**ФАСФА́ТЫ** (ад *фосфар*) — солі фосфарнай кіслаты; выкарыстоўваюцца як угнаенне, а таксама ў тэхніцы і медыцыне.

**ФАСФАТЫ́ДЫ** (ад *фосфар*) — арганічныя рэчывы з групы *ліпаідаў*, якія з'яўляюцца асноўнай састаўной часткай клетачных структур арганізмаў.

**ФАСФЕ́Н** (ад гр. phos = святло + phaino = паказваю) — зрокавае адчуванне колеру, якое ўзнікае ў чалавека без уздзеяння святла на вока, пры механічных, хімічных і электрычных раздражненнях сятчаткі або зрокавых участкаў кары галаўнога мозгу.

**ФАСФІ́ДЫ** (ад *фосфар* + гр. eidos = выгляд) — хімічныя злучэнні фосфару з металамі; выкарыстоўваюцца як паўправадніковыя матэрыялы.

**ФАСЦЫЁЛА** (н.-лац. fasciola) — *гельмінт* сям. *фасцыялідаў*; паразітуе ў жоўцевых пратоках печані, жоўцевым пузыры авечак, буйной рагатай жывёлы, іншых траваедных і чалавека.

**ФА́СЦЫІ** (лац. fascia = павязка) — 1) пучкі прутоў, перавязаныя рамянямі, з уваткнутымі ў іх сякеркамі як сімвал улады цароў, потым вышэйшых *магістратаў* у Стараж. Рыме; 2) тонкія абалонкі са злучальнай тканкі, якія пакрываюць асобныя мышцы або іх групы, а таксама некаторыя органы.

**ФАСЦЫ́КУЛА** (лац. fasciculus = пучок, звязка) — звязка дакументаў рознага зместу, размешчаных у парадку рэгістрацыйных нумароў.

**ФАСЦЫЯЛЁЗЫ** (ад *фасцыёла*) — глісныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца *фасцыялідамі*.

**ФАСЦЫЯЛІ́ДЫ** (н.-лац. fasciolidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*; паразітуюць у жоўцевых пратоках печані, жоўцевым пузыры авечак, буйной рагатай жывёлы, ласёў, аленяў, казуль і чалавека.

**ФАСЦЫЯ́ЦЫЯ** (ад лац. fascia = павязка) — выродлівая дэфармацыя парасткаў раслін, пры якой яны становяцца пляскатымі, шабленадобнымі.

**ФАТ** (фр. fat, ад лац. fatuus = дурны) — самазадаволены *франт*, пусты, пошлы чалавек.

**ФАТА́** (цюрк. fata, ад санскр. pata = тканіна) — галаўны ўбор нявесты ў выглядзе лёгкай белай накідкі з кісей, карункаў і інш.

**ФАТАГРАФІ́ЗМ** (ад *фатаграфія*) — знешне дакладнае, але ідэйна не асэнсаванае адлюстраванне рэчаіснасці.

**ФАТАГРА́ФІЯ** (ад гр. phos, -otos = святло + *-графія*) — 1) спосаб атрымання адбіткаў прадметаў на святлоадчувальных матэрыялах; 2) здымак, атрыманы такім спосабам; 3) майстэрня па вырабу фотаздымкаў.

**ФАТАЛІ́ЗМ** (фр. fatalisme, ад лац. fatalis = наканаваны; фатальны) — вера ў непазбежны лёс, у тое, што

# Ф

ўсё прадвызначана нейкай таямнічай сілай.

**ФАТАЛІ́СТ** (ад *фаталізм*) — чалавек, які верыць у непазбежнасць лёсу.

**ФАТА́ЛЬНЫ** (лац. fatalis) — непазбежны, наканаваны лёсам.

**ФА́ТАМ** (англ. fathom) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 6 англійскім *футам* (1,8288 м); марскі сажань.

**ФА́ТА-МАРГА́НА** (іт. fata Morgana = фея Маргана, якая, паводле брэтонскіх паданняў, жыве на марскім дне і падманвае падарожнікаў прывіднымі зданямі) — разнавіднасць *міражу*, пры якім узнікаюць несапраўдныя, уяўныя адлюстраванні прадметаў, што знаходзяцца за гарызонтам.

**ФАТА́РЫЙ** (ад гр. phos, -otos = святло) — святлолячэбны кабінет для правядзення групавога светлавога і цеплавога абпраменьвання лячэбнага і прафілактычнага характару.

**ФАТО́ЛІЗ** (ад гр. phos, -otos = святло + *-ліз*) — распад вадкіх, цвёрдых або газападобных рэчываў пад уздзеяннем святла.

**ФАТО́МЕТР** (ад гр. phos, -otos = святло + *-метр*) — прыбор для вымярэння светлавых велічынь (сілы святла, асветленасці, яркасці).

**ФАТО́Н** (ад гр. phos, -otos = святло) — элементарная часціца светлавой энергіі, квант электрамагнітнага поля; адна з нейтральных элементарных часціц з нулявой масай і *спінам* 1.

**ФАТО́НІКА** (ад *фатон*) — навука, якая вывучае магчымасці сувязі з дапамогай светлавых прамянёў.

**ФА́ТУМ** (лац. fatum) — няўхільны, немінучы лёс, наканаванне.

**ФАТЫ́ГА** (польск. fatyga < фр. fatigue, ад лац. fatigare = мучыць) — турботы, клопат.

**ФАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. phathos = сказаны); ф а т ы ч н а е м а ў л е н н е — кантактны від маўлення, гаварэнне з мэтай падтрымання кантакту.

**ФА́УНА** (н.-лац. fauna, ад лац. Fauna = імя старажытнарымскай багіні палёў і лясоў) — сукупнасць усіх відаў жывёл якой-н. тэрыторыі або пэўнага адрэзка часу, што гістарычна склалася за перыяд існавання Зямлі.

**ФАУНІ́СТЫКА** (ад *фауна*) — раздзел *заалогіі* і *зоагеаграфіі*, які вывучае фауну наогул і размяшчэнне жывёл на пэўных тэрыторыях зямнога шара.

**ФАУСТПАТРО́Н** (ням. Faustpatrone, ад Faust = кулак + Patrone = патрон) — ручная рэактыўная зброя, якая складаецца з міны і адкрытага з двух бакоў ствала.

**ФАЎ́ТЫ** (ням. Fauten = пустоты) — парушэнні нармальнай будовы дрэва, адхіленне ад нормы ў знешняй форме ствала і розныя пашкоджанні драўніны, якія змяняюць якасць і абмяжоўваюць выкарыстанне яе.

**ФАЎН** (лац. Faunus = імя бога палёў, гор і лясоў, апекуна пастухоў у старажытнарымскай міфалогіі) — амерыканская малпа з роду *капуцынаў* з двума чубкамі на цемені.

**ФАХВЕ́РК** (ням. Fachwerk, ад Fach = панэль + Werk = збудаванне) — 1) каркас агараджальнай канструкцыі, пераважна сцяны прамысловых будынкаў; 2) драўляны каркас малапавярховых, пераважна грамадзянскіх будынкаў з прамежкамі, закладзенымі цэглай.

**ФАЦЫ́ДЫЙ** (н.-лац. phacidium) — сумчаты грыб сям. фацыдыевых, якi развiваецца на iглiцы сеянцаў i маладняку хвоi.

**ФА́ЦЫЯ** (лац. facies = выгляд) — 1) комплекс умоў утварэння асадачнай горнай пароды; 2) горная парода, што ўтварылася на працягу абмежаванага часу на тэрыторыі з аднолькавымi ўмовамi; 3) асадачны пласт горнай пароды, якi мае аднолькавы склад, фiзiка-хiмiчныя ўласцiвасцi i аднолькавую выкапнёвую фауну i флору.

**ФАЦЭ́ЛIЯ** (н.-лац. phacelia) — травянiстая расліна сям. вадалiснiкавых з перыста-рассечаным лiсцем i шматлiкiмi ружова-блакiтнымi кветкамi ў коласападобных суквеццях, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы; на Беларусi вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФАЦЭ́Т** (польск. facet, ад лац. facetus = вясёлы, дасцiпны) — *разм.* камiчны, забаўны чалавек.

**ФАЦЭ́ТНЫ** (польск. facetny, ад лац. facetus) — *разм.* смешны, забаўны.

**ФАЦЭ́ЦЫЯ** (лац. facetia = жарт, досцiп) — 1) жартоўнае апавяданне, часта антыклерыкальнага зместу, распаўсюджанае на Захадзе ў эпоху Адраджэння i ў Расii ў канцы 17 ст.; 2) *разм.* пацеха; смехата.

**ФАШЫ́ЗМ** (iт. fascismo, ад лац. fascis = вязка прутоў, пучок) — iдэалагiчная форма адкрытай ваяўнiчай тэрарыстычнай дыктатуры, якая ажыццяўляе палiтыку шавiнiзму, расiзму, агрэсii.

**ФАШЫ́НА** (iт. fascina, ад лац. fascis = вязка прутоў, пучок) — пучок хворасту для ўмацавання насыпаў, плацiн, дарог i г. д.

**ФАШЫ́СТ** (iт. fascista) — прыхiльнiк *фашызму*, член фашысцкай арганiзацыi.

**ФАЭТО́Н** (гр. Phaethon = iмя сына бога сонца ў старажытнагрэчаскай мiфалогii) — 1) *уст.* лёгкi чатырохколавы экiпаж з адкiдным верхам; 2) кузаў аўтамабiля з мяккiм верхам (тэнтам), якi можна адкiдаць; 3) акiянiчная птушка сям. весланогiх, якая добра лятае, але дрэнна плавае i з цяжкасцю перамяшчаецца па сушы.

**ФАЯЛÍТ** (ад Faial = назва вострава ў групе Азорскiх астравоў) — мiнерал класа *сiлiкатаў* цёмна-жоўтага, зеленавата-чорнага колеру.

**ФАЯ́НС** (фр. faience, ад Faenza = назва iтальянскага горада) — маса з высакаякаснай белай глiны з прымессю каалiту, кварцу i палявога шпату, а таксама керамiчныя вырабы з такой масы.

**ФЕАДА́Л** (с.-лац. feudalis = феадальны) — прадстаўнiк пануючага класа пры *феадалiзме*, памешчык-прыгоннiк.

**ФЕАДАЛÍЗМ** (ад с.-лац. feudalis = феадальны) — грамадска-эканамiчная *фармацыя* 1, заснаваная на манапольнай уласнасцi феадалаў на зямлю i сродкi вытворчасцi i

# Ф

няпоўнай уласнасці на прыгонных сялян.

**ФЕАДА́ЛЬНЫ** (с.-лац. feudalis)— які адносіцца да *феадалізму*, уласцівы яму.

**ФЕАДАТА́РЫЙ** (лац. feudatarius) — тое, што і *васал*.

**ФЕАФІ́СЦЫЯ** (н.-лац. phaeophyscia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які расце пераважна на кары дрэў лісцевых парод, радзей на апрацаванай драўніне і камянях.

**ФЕАЦЭ́РАС** (н.-лац. phaeoceros) — мох сям. антацэротавых, які трапляецца каля дарог, канаў, на вільготнай глебе на палях.

**ФЕГАПТЭ́РЫС** (н.-лац. phegopteris) — папараць сям. тэліптэрысавых з доўгім двойчыперыстым лісцем, пашыраная ў Паўн. паўшар'і; на Беларусі зрэдку трапляецца ў лясах, сярод хмызняку ў далінах рэк; дэкаратыўная расліна.

**ФЕДА́Н** (ар. faddān) — зямельная мера ў Егіпце, роўная 0,42 га.

**ФЕ́ДЫНГ** (англ. fading, ад fade = паступова затухаць, заміраць) — кароткачасова неўпарадкаваная або перыядычна змяняльная інтэнсіўнасць сігналаў, якія прымаюцца радыёпрыёмнікам.

**ФЕДЭРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад фр. féldéraliser = аб'ядноўваць у *федэрацыю*, ад лац. foedus, -deris = дагавор, саюз) — увядзенне *федэральнага* ладу ў якой-н. краіне.

**ФЕДЭРАЛІ́ЗМ** (фр. fédéralisme, ад лац. foedus, -deris = дагавор, саюз) — 1) форма дзяржаўнага ладу, заснаваная на аб'яднанні дзяржаў у адзін саюз з захаваннем пэўнай самастойнасці гэтых дзяржаў; 2) палітычны рух за стварэнне такога дзяржаўнага ладу.

**ФЕДЭРАЛІ́СТЫ** (фр. fédéralistes, ад лац. foedus, -deris = дагавор, саюз) — прыхільнікі федэралізму.

**ФЕДЭРА́ЛЬНЫ** (фр. fédéўral, ад лац. foedus, -deris = дагавор, саюз) — 1) які звязаны з *федэрацыяй* (напр. ф-ая дзяржава, ф. канцлер); 2) тое, што і *федэратыўны*.

**ФЕДЭРА́ТЫ** (лац. foederatus = аб'яднаны ў саюз) — 1) пасяленцы на граніцы Рымскай імперыі і Візантыі, якія прымалі ўдзел у войнах за атрыманую імі зямлю і плату; 2) добраахвотнікі рэвалюцыйнай арміі ў перыяд Французскай рэвалюцыі 1789 — 1794 гг.; 3) салдаты і афіцэры Парыжскай камуны 1871 г.

**ФЕДЭРАТЫ́ЎНЫ** (фр. fédératif, ад лац. foederatus = аб'яднаны ў саюз) — пабудаваны на аснове *федэрацыі*.

**ФЕДЭРА́ЦЫЯ** (лац. foederatio = саюз, аб'яднанне) — 1) саюзная дзяржава, якая складаецца з аб'яднаных у адно цэлае асобных дзяржаў, што валодаюць пэўнай юрыдычнай і палітычнай самастойнасцю; 2) саюз асобных таварыстваў, арганізацый (напр. Міжнародная шахматная ф.).

**ФЕЕРВЕ́РК** (ням. Feuerwerk) — 1) каляровыя агні, рознакаляровыя асвятляльныя ракеты, якія запускаюць у час свят, урачыстасцей; 2) *перан.* імклівы паток чаго-н. (напр. ф. слоў).

**ФЕЕРВЕ́РКЕР** (ням. Feuerwerker) — унтэр-афіцэр артылерыі ў арміі царскай Расіі.

**ФЕЕРЫ́ЧНЫ** (фр. féerique) — 1) які з'яўляецца *феерыяй* (напр. ф-ая камедыя); 2) *перан.* чароўны, казачны.

**ФЕЕ́РЫЯ** (фр. féerie, ад fée = фея, чараўніца) — 1) тэатральны спектакль або цыркавое прадстаўленне з казачным сюжэтам і выкарыстаннем розных сцэнічных эфектаў; 2) *перан.* чароўнае, казачнае відовішча.

**ФЕЙХО́А** (н.-лац. feijoa, ад ісп. feijoa) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. міртавых з разгалістай густой кронай, пашыраная ў субтропіках, а таксама кісла-салодкія ягады гэтай расліны з сунічна-ананасным пахам; на Беларусі вырошчваецца ў аранжарэях, пакоях як дэкаратыўная.

**ФЕКА́ЛІІ** (н.-лац. faecalia, ад лац. faex, -ecis = асадак, адстой) — сумесь цвёрдых і вадкіх спаражненняў чалавека.

**ФЕЛАГЕ́Н** (ад гр. phellos = корак + *-ген*) — другасная ўтваральная тканка ў раслін, частка *перыдэрмы*.

**ФЕЛАДО́Н** (н.-лац. phellodon) — *базідыяльны* грыб сям. яжоўнікавых, які расце на глебе ў хвойных, рэдка ў лісцевых лясах.

**ФЕЛАДЭНДРО́Н** (н.-лац. phellodendron, ад гр. phellos = корак + dendron = дрэва) — буйное лістападнае дрэва сям. рутавых, пашыранае на Далёкім Усходзе; выкарыстоўваецца ў коркавай і мэблевай прамысловасці.

**ФЕЛАДЭ́РМА** (ад гр. phellos = корак + *дэрма*) — унутраны слой покрыўнай тканкі ў раслін (*перыдэрмы*).

**ФЕЛА́ХІ** (ар. fallāh = селянін, земляроб) — аседлыя сяляне-земляробы ў краінах Аравійскага паўвострава і ў Егіпце (параўн. *бедуіны*).

**ФЕЛЕ́МА** (ад гр. phellos = корак) — другасная покрыўная тканка дрэвавых і некаторых травяністых раслін; выкарыстоўваецца на выраб коркаў.

**ФЕЛІ́НУС** (н.-лац. phellinus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. гіменахетавых, які расце на жывой і адмерлай драўніне лісцевых і хвойных парод дрэў, кустоў, выклікае гніль.

**ФЕЛО́НІЯ** (англ. felony, ад лац. fello, -onis = бунтаўшчык) — 1) правіннасць *васала* перад *сеньёрам* у феадальным праве; 2) цяжкае злачынства ў сучасным праве Англіі і ЗША.

**ФЕЛЬД'Е́ГЕР** (ням. Feldjäger) — ваенны або ўрадавы *кур'ер* для дастаўкі важных, сакрэтных папер.

**ФЕЛЬДМА́РШАЛ** (ням. Feldmarschall) — вышэйшае генеральскае званне ў арміях некаторых краін.

**ФЕЛЬДФЕ́БЕЛЬ** (ням. Feldwebel) — званне старшага унтэр-афіцэра ў пяхотных, артылерыйскіх і інжынерных часцях армій некаторых краін.

**ФЕЛЬДЦЭХМЕ́ЙСТЭР** (ням. Feldzeugmeister) — галоўны начальнік артылерыі ў арміях некаторых краін 18 — 19 ст.

**ФЕЛЬДШПАТО́ІДЫ** (ад ням. Feldspat = палявы шпат + *-оід*) — група пародаўтваральных мінералаў класа *сілікатаў* (*нефелін, лейцыт, лазурыт* і інш.) з адносна меншай колькасцю крэменязёму ў параўнанні з палявымі шпатамі.

# Ф

**ФЕЛЬЕТАНІ́СТ** (ад *фельетон*) — аўтар фельетонаў.

**ФЕЛЬЕТО́Н** (фр. feuilleton, ад feuille = ліст, аркуш) — кароткі газетны або часопісны артыкул гумарыстычнага або сатырычнага зместу на надзённую тэму.

**ФЕЛЬЗІ́Т** (ням. Felsit) — горная парода кіслага саставу, эфузіўны аналаг граніту.

**ФЕ́ЛЬЧАР** (ням. Feldscher) — медыцынскі работнік з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

**ФЕЛЬЯ́НЫ** (фр. feuillants) — члены буржуазнага канстытуцыйна-манархічнага палітычнага клуба перыяду Французскай рэвалюцыі 1789 — 1794 гг.

**ФЕЛЮ́ГА** (іт. feluca, ад ар. fulūk = лодка) — невялікае паруснае бяспалубнае прамысловае судна на Міжземным, Чорным, Азоўскім і Каспійскім морах.

**ФЕМІ́ДА** (гр. Themis, -idos = імя багіні правасуддзя ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* правасуддзе.

**ФЕМІНІЗА́ЦЫЯ** (фр. féminisation, ад лац. femina = жанчына) — 1) развіццё ў асобін мужчынскага полу жаночых другасных палавых прымет (напр. голасу, прапорцый шкілета і інш.); 2) узрастанне ролі жанчын, іх перавага ў якіх-н. галінах грамадскага жыцця.

**ФЕМІНІ́ЗМ** (фр. féminisme, ад лац. femina = жанчына) — палітычны рух за ўраўнаванне жанчын у правах з мужчынамі.

**ФЕМІНІ́СТ** (фр. féministe, ад лац. femina = жанчына) — прыхільнік *фемінізму*.

**ФЕН**[1] (англ. fan) — электрычны прыбор для сушкі валасоў.

**ФЕН**[2] (гр. phaino = выяўляю) — *біял.* генетычна абумоўленая, непадзельная на састаўныя кампаненты без страты якасці прымета.

**ФЕНАБАРБІТА́Л** (ад гр. phaino = выяўляю + *барбітал*) — лекавы прэпарат, які ўжываецца як снатворны, супакойлівы і процісутаргавы сродак.

**ФЕНАГЕНЕ́ТЫКА** (ад гр. phaino = выяўляю + *генетыка*) — раздзел генетыкі, які вывучае праяўленне дзеяння *генаў* і іх сукупнасці ў працэсе развіцця асобіны.

**ФЕНАКІ́Т** (ад гр. phenaks, -akos = падманшчык) — мінерал класа *сілікатаў*, празрысты, бясколерны або белага колеру; руда *берылію*.

**ФЕНАКО́Д** (ад гр. phenaks, -akos = падманшчык + odus = зуб) — млекакормячая капытная жывёла з групы *кандылятраў*, знешне падобная на драпежніка, якая жыла ў *палеагене*.

**ФЕНАКО́ПІЯ** (ад гр. phaino = выяўляю + *копія*) — няспадчыннае змяненне *фенатыпу* арганізма, якое знешне падобнае да аналагічнага спадчыннага змянення (*мутацыі*); параўн. *генакопія*.

**ФЕНАЛО́ГІЯ** (ад гр. phaino = выяўляю + *-логія*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае сезонныя з'явы ў жывой прыродзе, тэрміны іх надыходу і прычыны, што вызначаюць гэтыя тэрміны.

**ФЕНАМЕНАЛІ́ЗМ** (ад гр. phainomenon = тое, што з'яўляецца) — суб'ектыўна-ідэалістычнае вучэнне, паводле якога пазнанне мае справу не з аб'ектамі матэрыяль-

нага свету, што існуюць незалежна ад свядомасці, а толькі з сукупнасцю элементарных пачуццёвых кампанентаў (*феноменаў*).

**ФЕНАМЕНАЛО́ГІЯ** (ад гр. phainomenon = тое, што з'яўляецца + *-логія*) — 1) суб'ектыўна-ідэалістычны кірунак у філасофіі, паводле якога свядомасць мае свой незалежны ад рэчаіснасці змест, а прадметы аб'ектыўнай рэальнасці (*феномены*) з'яўляюцца толькі сімваламі гэтага зместу; 2) ідэалістычнае вучэнне пра феномены свядомасці і формы развіцця духу.

**ФЕНАМЕНА́ЛЬНЫ** (ад гр. phainomenon = тое, што з'яўляецца) — 1) выключны, рэдкі, незвычайны; выдатны па сваіх якасцях; 2) які мае адносіны да *феномена* [1].

**ФЕНАПЛА́СТЫ** [ад *фено(лы)* + *-пласт*]— пластычныя матэрыялы на аснове фенола-фармальдэгідных смолаў; выкарыстоўваюцца ў вытворчасці прасаваных вырабаў, літых і слаістых матэрыялаў, ахоўных пакрыццяў.

**ФЕНАСПЕ́КТР** (ад гр. phaino = выяўляю + *спектр*) — *біял.* графічнае адлюстраванне сезоннага развіцця аднаго віду або згуртаванняў раслін.

**ФЕНАТЫ́П** (ад гр. phaino = выяўляю + *-тып*) — сукупнасць уласцівасцей і прыкмет арганізма, якія склаліся ў працэсе яго індывідуальнага развіцця.

**ФЕНАЦЭЦІ́Н** (ад гр. phaino = выяўляю + лац. acetum = воцат) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як болесуцішальны і гарачкапаніжальны сродак.

**ФЕ́НЕК** (н.-лац. fennecus) — млекакормячае сям. воўчых, знешне падобнае на невялікую лісіцу, якое водзіцца ў Паўн. Афрыцы, на Сінайскім і Аравійскім паўастравах.

**ФЕНЕСТРЫ́ДЫ** (н.-лац. fenestrida) — атрад вымерлых галаротых імшанак, якія жылі ў *ардовіку* — пермі.

**ФЕНЕ́ТЫКА** (ад гр. phaino = выяўляю) — раздзел *біялогіі*, які вывучае з'яўленне і размеркаванне *фенаў* [2].

**ФЕ́НІІ** (англ. Fanias, ад ст.-ірл. fene = назва даўніх жыхароў Ірландыі) — ірландскія рэвалюцыянеры, барацьбіты за незалежнасць Ірландыі ад Англіі ў 50 — 60-х гг. 19 ст.

**ФЕ́НІКС** (гр. phoiniks) — 1) казачная птушка ў міфалогіі старажытных народаў (фінікійцаў, егіпцян і інш.), якая ў старасці спальвала сябе, а потым зноў узнікала з попелу; 2) *перан.* сімвал вечнага абнаўлення.

**ФЕНІ́Л** (ад гр. phaino = асвятляю) — араматычны вуглевадарод, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое ўваходзіць у склад каменнавугальнай смалы; выкарыстоўваецца як цепланосьбіт.

**ФЕНІЛАЛАНІ́Н** (ад *феніл* + *аланін*) — адна з незаменных амінакіслот, якая выяўлена ў арганізме чалавека, жывёл і раслін у свабодным стане і ў складзе бялкоў.

**ФЕНІЛАМІ́Н** [ад *феніл* + *амін*(ы)] — тое, што і *анілін*.

**ФЕНІЛБЕНЗО́Л** (ад *феніл* + *бензол*) — тое, што і *дыфеніл*.

**ФЕНІЛКЕТАНУРЫ́Я** [ад *феніл(аланін)* + *кетоны* + *-урыя*] —

спадчыннае захворванне, звязанае з парушэннем абмену фенілаланіну ў арганізме, якое праяўляецца ў адставанні фізічнага і псіхічнага развіцця.

**ФЕНО́ЛАГ** (ад *феналогія*) — спецыяліст у галіне феналогіі.

**ФЕНОЛФТАЛЕІ́Н** [ад *фенол* + *(на)фталін*] — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў аналітычнай хіміі як індыкатар, у медыцыне як слабільнае.

**ФЕНО́ЛЫ** (ад гр. phaino = асвятляю + *-ол*) — арганічныя злучэнні, вытворныя бензолу ў выніку замены атама вадароду ў бензольным ядры *гідраксілам* (*карболавая* кіслата, *гідрахінон* і інш.); выкарыстоўваюцца для дэзінфекцыі, пры вырабе сінтэтычных смолаў, выбуховых рэчываў.

**ФЕНО́МЕН** (гр. phainomenon = тое, што з'яўляецца) — 1) выключная, рэдкая, незвычайная з'ява; выключны ў якіх-н. адносінах чалавек; 2) у ідэалістычнай філасофіі тое, што дадзена ў пачуццях і не дасягаецца розумам; 3) філасофскае паняцце, якое абазначае з'яву, дадзеную нам у вопыце, пачуццёвым пазнанні.

**ФЕ́НХЕЛЬ** (ням. Fenchel, ад лац. foeniculum = кроп) — травяністая расліна сям. парасонавых з перыста-рассечаным лісцем і дробнымі жоўтымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і, Крыме, на Каўказе і ў Сярэд. Азіі; на Беларусі культывуецца як лекавая.

**ФЕО́Д** (с.-лац. feodum, ад ст.-в.-ням. fëhu-ôd = маёмасць) — зямля, пасада або даход, які ў сярэднявяковай Еўропе атрымліваў *васал* ад *сеньёра* як спадчыннае ўладанне за ваенную ці адміністратыўную службу.

**ФЕРА-** (лац. ferrum = жалеза) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «жалеза», «жалезны».

**ФЕРАБО́Р** (ад *фера-* + *бор*) — сплаў жалеза з борам, які выкарыстоўваецца пры вырабе сталі з меншым змяшчэннем у ёй кіслароду.

**ФЕРАВАЛЬФРА́М** (ад *фера-* + *вальфрам*) — сплаў жалеза з вальфрамам, які выкарыстоўваецца пры вырабе інструментальных і некаторых канструкцыйных сталей.

**ФЕРАВАНА́ДЫЙ** (ад *фера-* + *ванадый*) — сплаў жалеза з ванадыем, які выкарыстоўваецца ў якасці дамешку пры вырабе легіраваных (гл. *легіраваць*) сталей.

**ФЕРАГРАНА́ТЫ** (ад *фера-* + *гранаты*) — *ферыты* натрыю і *лантаноідаў*, якія маюць кубічную структуру мінерала гранату.

**ФЕРАГРА́ФІЯ** (ад *фера-* + *-графія*) — тое, што і *магнітаграфія*.

**ФЕРАЗО́НД** (ад *фера-* + *зонд*) — *фіз.* устройства для вымярэння напружанасці магнітнага поля; выкарыстоўваецца ў магнітнай *дэфектаскапіі*, пры пошуках карысных выкапняў, у даследаванні магнетызму планет.

**ФЕРАЛІ́ТНЫ** [ад *фера-* + *ал(юміній)* + *-літ*]; ф - ы я г л е б ы — глебы вільготных лясоў і саваннаў трапічнага пояса, якія змяшчаюць многа жалеза і алюмінію.

**ФЕРАЛІТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *фера-* + *-літ*) — працэс глыбокага выветрывання горных парод ва ўмовах вільготнага трапічнага і субтрапічнага клімату, што суправаджаецца накапленнем жалезістых утварэнняў.

**ФЕРАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *фера-* + *магнетызм*) — *фіз.* сукупнасць магнітных уласцівасцей рэчываў (*ферамагнетыкаў*), у якіх магнітныя моманты суседніх атамаў (іонаў) арыентаваны ў адным напрамку, што прыводзіць да самаадвольнай (*спантаннай*) намагнічанасці рэчываў (параўн. *дыямагнетызм, парамагнетызм*).

**ФЕРАМАГНЕ́ТЫКІ** (ад *фера-* + *магнетыкі*) — *фіз.* рэчывы (жалеза, нікель, кобальт, некаторыя сплавы), здольныя намагнічвацца нават у слабых магнітных палях дзякуючы ферамагнітнай упарадкаванасці ў размяшчэнні іх атамных магнітных момантаў.

**ФЕРАМАГНІ́ТНЫ** (ад *фера-* + *магнітны*) — *фіз.* з моцна выражанымі магнітнымі ўласцівасцямі (напр. *ферамагнетыкі*).

**ФЕРАМАЛІБДЭ́Н** (ад *фера-* + *малібдэн*) — сплаў жалеза з малібдэнам, які выкарыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) інструментальных і нержавеючых сталей.

**ФЕРАМА́РГАНЕЦ** (ад *фера-* + *марганец*) — сплаў жалеза з марганцам, які выкарыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) сталі для павышэння яе механічных уласцівасцей.

**ФЕРАМО́НЫ** (ад гр. phero = нясу + hormao = прыводжу ў рух) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюцца жывёламі ў навакольнае асяроддзе і з'яўляюцца нюхальнымі сігналамі для іншых асобін таго ж віду.

**ФЕРАНІ́КЕЛЬ** (ад *фера-* + *нікель*) — сплаў жалеза з нікелем, які выкарыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) спецыяльных сталей.

**ФЕРАНІО́БІЙ** (ад *фера-* + *ніобій*) — сплаў жалеза з ніобіем, які выкарыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) нержавеючых, гарачаўстойлівых сталей.

**ФЕРАНЬЕ́РКА** (фр. ferroniere) — жаночае ўпрыгожанне з каштоўнымі камянямі, якое надзяваецца на лоб.

**ФЕРАСІЛІ́ЦЫЙ** (ад *фера-* + *сіліцый*) — сплаў жалеза з крэмніем, які выкарыстоўваецца для выдалення са сталі кіслароду і ўзбагачэння яе крэмніем.

**ФЕРА́ТЫ** (ад лац. ferrum = жалеза) — солі не выдзеленай у свабодным стане жалезнай кіслаты.

**ФЕРАТЫ́ПІЯ** (ад *фера-* + *-тыпія*) — спосаб утварэння фатаграфічных адбіткаў на метале (брошцы, медальёне і інш.).

**ФЕРАТЫТА́Н** (ад *фера-* + *тытан*) — сплаў жалеза з тытанам, які выкарыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) спецыяльных сталей, для выдалення са сталі кіслароду і азоту.

**ФЕРАФО́СФАР** (ад *фера-* + *фосфар*) — сплаў жалеза з фосфарам, які выкарыстоўваецца як дамешак пры легіраванні (гл. *легіраваць*) сталі і чыгуну.

**ФЕРАХРО́М** (ад *фера-* + *хром*) — сплаў жалеза з хромам, які выка-

рыстоўваецца пры легіраванні (гл. *легіраваць*) высокаякаснай сталі і гарачаўстойлівых сплаваў.

**ФЕРАШПІНЕ́ЛІ** (ад *фера-* + *шпінелі*) — *ферыты* з крышталічнай структурай мінерала шпінелі.

**ФЕРАЭЛЕ́КТРЫКІ** (ад *фера-* + *электрык*) — назва *сегнетаэлектрыкаў* у англамоўнай літаратуры.

**ФЕРГУСАНІ́Т** [ад англ. Ferguson = прозвішча амер. хіміка (1750 — 1774)] — мінерал, складаны вокісел *ніобію, танталу, тытану*, ітрыевых рэдкіх зямель цёмна-бурага або чорнага колеру.

**ФЕРЗЬ** (перс. ferz = палкаводзец) — самая моцная фігура ў шахматнай гульні.

**ФЕ́РМА**[1] (англ. farm, фр. ferme) — 1) прыватнае сельскагаспадарчае прадпрыемства на ўласнай або арандаванай зямлі; 2) дзяржаўнае або кааператыўнае прадпрыемства, занятае жывёлагадоўляй (напр. жывёлагадоўчая ф., малочная ф.).

**ФЕ́РМА**[2] (фр. ferme) — канструкцыя са злучаных паміж сабой металічных, жалезабетонных ці драўляных брусоў (напр. ф. маста).

**ФЕРМА́ТА** (іт. fermata = *літар.* прыпынак) — музычны знак у нотным пісьме, які становіцца над нотай, акордам або паўзай і абазначае павелічэнне іх працягласці ў залежнасці ад характару твора, намераў і густу выканаўцы.

**ФЕРМЕНТАЛО́ГІЯ** (ад *ферменты* + *-логія*) — раздзел *біяхіміі*, які вывучае ферменты.

**ФЕРМЕНТАПА́ТЫІ** (ад *ферменты* + *-патыя*) — тое, што і *энзімапатыі*.

**ФЕРМЕНТА́ЦЫЯ** (лац. fermentatio = браджэнне) — біяхімічны працэс перапрацоўкі сыравіны пад уздзеяннем *ферментаў* (напр. ф чайных лістоў).

**ФЕРМЕ́НТЫ** (лац. fermentum = закваска) — арганічныя бялковыя рэчывы, якія выпрацоўваюцца ў жывых клетках і рэгулююць абмен рэчываў у арганізме.

**ФЕ́РМЕР** (англ. farmer) — уладальнік або арандатар *фермы*[1] 1.

**ФЕ́РМІ** [іт. fermi, ад E. Fermi = прозвішча іт. фізіка (1901 — 1954)] — адзінка даўжыні, якая прымянялася ў ядзернай фізіцы.

**ФЕРМІЁН** [ад іт. E. Fermi = прозвішча іт. фізіка (1901 — 1954)] — элементарная часціца (*электрон, пратон, нейтрон* і інш.) або квазічасціца з паўцэлым *спінам*.

**ФЕ́РМІЙ** [н.-лац. fermium, ад E. Fermi = прозвішча іт. фізіка (1901 — 1954)] — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент, які належыць да *актыноідаў*.

**ФЕРМУА́Р** (фр. fermoir, ад fermer = замыкаць, загароджваць) — 1) засцежка, спражка, звычайна ўпрыгожаная чым-н., на альбоме, кнізе, каралях, а таксама каралі з такой засцежкай-упрыгожаннем; 2) долата для мастацкага разьбярства, ціснення скуры.

**ФЕРНАМБУ́К** (ісп. Fernambuco = назва порта ў Бразіліі) — дрэва сям. бабовых з жоўта-чырвонай каштоўнай драўнінай, якая пры высыханні робіцца цёмна-чырвонай, пашыранае ў Бразіліі; выкарыстоўваецца для вырабу каштоў-

най мэблі і для атрымання чырвонай фарбы.

**ФЕРНАНДЫНЕ́ЛА** (н.-лац. fernandinella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. хларакокавых, якая трапляецца ў вадаёмах на цвёрдых субстратах або як *эпіфіт* і ў глебе.

**ФЕРО́МЕТР** (ад *фера-* + *-метр*) — устройства для вызначэння імгненных значэнняў *індукцыі* і напружанасці магнітнага поля ў ферамагнітных узорах пры іх намагнічванні.

**ФЕРТО́ІНГ** (гал. vertuiing) — *мар.* спосаб пастаноўкі судна на два якары ў месцах, дзе бываюць моцныя прылівы і адлівы, пераменныя ветры.

**ФЕРТЫ́ЛЬНАСЦЬ** (ад лац. fertilis = урадлівы) — здольнасць арганізма нараджаць патомства (параўн. *стэрыльнасць* 2).

**ФЕРТЫ́ЛЬНЫ** (лац. fertilis) — урадлівы, пладаносны; пладавіты, плодны, здольны да дзетанараджэння (параўн. *стэрыльны* 2).

**ФЕРУГІНЕ́УМ** (н.-лац. ferrugineum) — разнавіднасць мяккай пшаніцы з чырвоным асцістым коласам і чырвоным зернем.

**ФЕ́РУЛА** (н.-лац. ferula, ад лац. ferula = парастак, лаза) — травяністая расліна сям. парасонавых з рассечаным лісцем і жоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і і Сярэд. Азіі; лекавая, прыпраўная і кармавая.

**ФЕРУ́ЛА** (лац. ferula = лаза, розга) — 1) лінейка, якой даўней білі па далоні вучняў за якую-н. правіннасць; 2) *перан.* пільны нагляд, суровы рэжым.

**ФЕРЫМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *ферыт* + *магнетызм*) — сукупнасць магнітных уласцівасцей рэчываў (*ферымагнетыкаў*), у якіх магнітныя моманты суседніх атамаў (іонаў) накіраваны насустрач адзін аднаму і ўзаемна не скампенсаваны.

**ФЕРЫМАГНЕ́ТЫКІ** (ад *ферыт* + *магнетыкі*) — рэчывы, якія валодаюць самаадвольнай намагнічанасцю дзякуючы ферымагнітнай упарадкаванасці ў размяшчэнні іх атамных магнітных момантаў (напр. *ферыты*).

**ФЕРЫ́Т** (ад лац. ferrum = жалеза) — 1) цвёрды раствор вугляроду, які з'яўляецца састаўной часткай сталі і чыгуну; 2) хімічнае злучэнне вокіслу жалеза з вокісламі іншых металаў, якое выкарыстоўваецца для вырабу электрамагнітных элементаў, што прымяняюцца ў розных галінах тэхнікі.

**ФЕ́СКА** (тур. fes, ад Fes = назва горада ў Марока) — чырвоная шапачка ў выглядзе ўсечанага конуса з кутасом, якая з'яўляецца часткай нацыянальнага касцюма ў некаторых краінах Блізкага Усходу і Паўн. Афрыкі.

**ФЕСТО́Н** (фр. feston, ад іт. festone) — 1) жывапісная або скульптурная аздоба ў выглядзе зубчастага або хвалістага ўзору, гірлянды; 2) адзін з выступаў круглай або зубчастай формы, якімі аблямоўваюцца краі фіранкі, шторы, сукенкі.

**ФЕСТЫВА́ЛЬ** (фр. festival, ад лац. festivus = святочны) — грамадская ўрачыстасць, масавае свята з паказам лепшых твораў му-

зычнага, тэатральнага, эстраднага, цыркавога або іншага віду мастацтва (напр. ф. мастацкіх фільмаў).

**ФЕТА́ЛЬНЫ** (ад лац. fetus = заплоднены) — тое, што і *эмбрыянальны*.

**ФЕТАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. fetus = патомства + *-метрыя*) — вызначэнне памераў плода і яго асобных частак (напр. шляхам *рэнтгенаграфіі*).

**ФЕТР** (фр. feutre) — лепшы гатунак лямцу, які ідзе на выраб капелюшоў, валёнак.

**ФЕ́ТЫ** (гр. thetes) — немаёмасная частка свабоднага насельніцтва ў Стараж. Грэцыі.

**ФЕТЫ́Ш** (фр. fétiche, ад парт. feitiço = чары) — 1) прадмет, які, паводле ўяўленняў вернікаў, надзелены звышнатуральнай сілай і служыць аб'ектам рэлігійнага культу; 2) *перан.* аб'ект сляпога пакланення.

**ФЕТЫШЫ́ЗМ** (фр. fétichisme, ад парт. feitiço = амулет) — 1) рэлігійнае пакланенне матэрыяльным прадметам — *фетышам*; т а в а р н ы ф. — арэчаўленне вытворчых адносін, якое ўзнікае ў таварнай гаспадарцы, заснаванай на прыватнай уласнасці; 2) *перан.* сляпое пакланенне чаму-н.

**Ф'ЕФ** (фр. fief) — тое, што і *феод*.

**ФЕХРА́ЛЬ** [ад лац. fe(rrum) = жалеза + хр(ом) + *ал(юміній)*] — гарачаўстойлівы сплаў з жалеза, хрому і алюмінію.

**ФЕХТАВА́ЦЬ** (ням. fechten) — займацца адзінаборствам на шпагах, рапірах і інш.

**ФЕХТМА́ЙСТАР** (ням. Fechtmeister) — *уст.* настаўнік фехтавання.

**ФЕЦЫЯ́ЛЫ** (лац. fetiales) — жрацы ў Стараж. Рыме, якія выконвалі рэлігійныя абрады пры абвяшчэнні вайны або заключэнні міру.

**ФЕШЭНЕ́БЕЛЬНЫ** (англ. fashionable, ад fashion = фасон, мода) — элегантны, вытанчана-прыгожы, які адпавядае патрабаванням высокага густу і моды (напр. ф-ая гасцініца).

**ФЕ́Я** (фр. fee) — 1) істота жаночага полу, здольная рабіць цуды, чараўніца ў заходнееўрапейскай міфалогіі; 2) *перан.* чароўная жанчына.

**ФЁН** (ням. Fohn) — сухі цёплы вецер, што дзьме з гор у даліны, у асноўным у Альпах, на Каўказе.

**ФІ** (англ. fee) — тое, што і *феод*.

**ФІБЕРГЛА́С** (англ. fiberglass, ад fiber = валакно + glass = шкло) — пластычны матэрыял, які складаецца з шкловалакністага напаўняльніка, змацаванага сінтэтычнай смалой, і вызначаецца трываласцю і лёгкасцю; выкарыстоўваецца пераважна для вырабу спартыўнага інвентару.

**ФІ́БРА** (лац. fibra = валакно) — 1) *уст.* валакно расліннай або жывёльнай тканкі; 2) *перан.* сімвал душэўных сіл (напр. ненавідзець усімі фібрамі душы); 3) гнуткая моцная папяровая маса, апрацаваная хімічным спосабам і спрасаваная, якая з'яўляецца ізаляцыйным матэрыялам, замяняе скуру пры вырабе чамаданаў і інш.

**ФІБРААДЭНО́МА** (ад. лац. fibra = валакно + *адэнома*) — *мед.* дабраякасная пухліна са злучальнай і жалезістай тканкі.

**ФІБРАБЛА́СТЫ** (ад. лац. fibra = валакно + *-бласты*) — разнавіднасць клетак злучальнай тканкі жывёл і чалавека, якія прымаюць удзел ва ўтварэнні міжклетачнага рэчыва і *фібрацытаў*.

**ФІБРАІ́Н** (ад. лац. fibra = валакно) — валакністае бялковае рэчыва, якое з'яўляецца важнейшай састаўной часткай натуральнага шоўку.

**ФІБРАЛІ́Т** (ад. лац. fibra = валакно + *-літ*) — будаўнічы цеплаізаляцыйны або канструкцыйны матэрыял у форме прасаваных пліт з раслінных валокнаў, драўляных стружак, кастрыцы і іншых валакністых матэрыялаў, звязаных звычайна цэментам.

**ФІБРАМІЁМА** (ад. лац. fibra = валакно + *міёма*) — *мед.* дабраякасная пухліна, якая складаецца з мышачнай і злучальнай тканкі.

**ФІБРАЦЫ́ТЫ** (ад. лац. fibra = валакно + *-цыты*) — разнавіднасць клетак злучальнай тканкі жывёл і чалавека, якія ўяўляюць сабой астатачна дыферэнцыраваныя *фібрабласты*.

**ФІБРО́З** (ад. лац. fibra = валакно) — *мед.* паталагічны працэс развіцця валакністай злучальнай тканкі ў арганізме (напр. ф. печані, нырак, сардэчнай мышцы, сценак крывяносных сасудаў.

**ФІБРО́МА** (ад. лац. fibra = валакно + *-ома*) — *мед.* дабраякасная пухліна з валакністай злучальнай тканкі.

**ФІБРЫ́ЛЫ** (лац. fibrilla = валаконца) — ніткападобныя ўтварэнні ўнутры клетак або ў міжклетачным рэчыве жывёльнага арганізма, напр. *нейрафібрылы, міяфібрылы*.

**ФІБРЫЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. fibrilla = валаконца); ф. с э р ц а — разначасовае і разрозненае скарачэнне асобных валокнаў мышцы сэрца, не здольнае падтрымліваць яго эфектыўную работу.

**ФІБРЫ́Н** (ад лац. fibra = валакно) — нерастваральнае бялковае рэчыва, якое ўтвараецца пры згусанні крыві.

**ФІБРЫНАГЕ́Н** (ад *фібрын* + *-ген*) — растваральны бялок плазмы крыві, які ператвараецца пры яе згусанні ў фібрын.

**ФІБРЫНАЛІЗІ́Н** (ад *фібрын* + *лізін*) — бялковы прэпарат фермента, які растварае фібрын; выкарыстоўваецца як лекавы сродак пры *трамбозах, інфаркце* міякарда, *тромбафлебітах*.

**ФІБРЫНО́ЗНЫ** (ад *фібрын*) — звязаны з запаленчым працэсам, які характарызуецца выдзяленнем поту з наяўнасцю ў ім фібрыну.

**ФІБРЫНО́ЛІЗ** (ад *фібрын* + *-ліз*) — фізіялагічны працэс растварэння фібрыну пад уплывам *фібрыналізіну*.

**ФІ́БУЛА** (лац. fibula) — металічная засцежка для верхняга адзення ў выглядзе брошкі, якая ўжывалася ў старажытных народаў Еўропы, Азіі і Афрыкі.

**ФІ́ГА** (польск. figa < фр. figue, ад лац. ficus) — 1) субтрапічнае дрэва сям. тутавых, а таксама плод гэтага дрэва; смакоўніца; 2) *разм.* дуля, кукіш.

**ФІГАРО́** (фр. Figaro = імя героя камедыі П. Бамаршэ «Севільскі цырульнік») — 1) *перан.* спрытны,

# Ф

дасціпны, вынаходлівы чалавек; 2) кароткая вольнага крою жаночая кофтачка, якую надзяваюць на сукенку або блузку.

**ФІГЛІ-МІГЛІ** (польск. figle-migle) — жарты, хітрыкі, махінацыі, якія пускаюцца ў ход для дасягнення чаго-н.

**ФІГЛЯР** (польск. figlarz = жартаўнік) — 1) *уст.* фокуснік, штукар, акрабат; 2) *перан.* штукар, крыўляка.

**ФІГУРА** (лац. figura = вобраз, форма) — 1) форма, абрысы чаго-н.; 2) знешнія абрысы чалавечага цела; 3) постаць чалавека або жывёлы ў скульптуры або жывапісе; 4) *перан.* чалавек як носьбіт якіх-н. уласцівасцей (напр. палітычная ф.); 5) *перан.* важная, значная асоба (напр. буйная ф. у навуцы); 6) становішча цела, прадмета (у танцы, пры палёце); 7) гральная фішка (напр. шахматная ф.); 8) *мат.* сукупнасць пунктаў на плоскасці або ў прасторы (геаметрычная ф.); 9) *муз.* меладычны або рытмічны элемент, які ўскладняе і ўпрыгожвае музычны твор; 10) моўны зварот, які надае мове асаблівую выразнасць (напр. стылістычная ф.).

**ФІГУРАВАЦЬ** (лац. figurare = рабіць выгляд, уяўляць) — 1) прысутнічаць, знаходзіцца дзе-н., прымаючы ў чым-н. удзел (напр. ф. на мітынгу); 2) называцца, упамінацца (напр. ф. у фельетоне).

**ФІГУРАЛЬНЫ** (ад лац. figura = вобраз, форма) — вобразны, іншасказальны.

**ФІГУРАНТ** (фр. figurant, ад лац. figurans, -ntis = які прадстаўляе) — 1) танцоўшчык, які выступае ў *кардэбалеце*; 2) драматычны акцёр, які іграе ролі без слоў, статыст; 3) *перан.* крыўляка, пазёр.

**ФІГУРАЦЫЯ** (лац. figuratio = наданне формы; вобразнае выяўленне) — ускладненне музычнай фактуры твора меладычнымі або рытмічнымі элементамі.

**ФІГУРЫСТ** (ад *фігура*) — спартсмен, які займаецца фігурным катаннем на каньках.

**ФІДУЦЫЯ** (лац. fiducia) — здзелка, дагавор, заснаваныя на даверы.

**ФІДУЦЫЯРНЫ** (ад *фідуцыя*) — заснаваны на даверы; ф - а я э м і с і я — частка банкнотнай *эмісіі*, якая не забяспечана залатым запасам эмісійнага банка.

**ФІДЫТЫП** (гр. pheidition) — грамадскія абеды паўнапраўных грамадзян у старажытнай Спарце.

**ФІДЭІЗМ** (фр. fidéisme, ад лац. fides = вера) — кірунак у *філасофіі*, які падмяняе веды *рэлігіяй*, імкнецца паставіць веру над розумам.

**ФІДЭІКАМІС** (лац. fideicommissum, ад fides = давер + comittere = яднаць) — даручэнне спадчынадаўца спадчынніку выдаць частку маёмасці трэцяй асобе, а таксама сама гэта маёмасць (у рымскім праве).

**ФІДЭІСТ** (ад *фідэізм*) — паслядоўнік фідэізму.

**ФІДЭЛЬ** (ням. Fiedel, ад лац. fides = струна) — старадаўні струнны смычковы музычны інструмент, папярэднік *віёлы*.

**ФІДЭР** (англ. feeder, ад feed = жывіць) — 1) провад, які перадае электраэнергію на сілкавальныя пункты або злучае радыёперадатчык (прыёмнік) з антэнай; 2) пры-

стасаванне для аўтаматычнай падачы ў машыну сыравіны раўнамернымі порцыямі (напр. шкламасы ў шклофармавальную машыну).

**ФІЕ́ЛЬДЫ** (нарв. fjeld) — платападобныя вяршыні горных масіваў на Скандынаўскім паўвостраве, пакрытыя ледзікамі або тундравай расліннасцю.

**ФІЕ́СТА** (ісп. fiesta, ад лац. festus = святочны) — рэлігійнае свята ў Іспаніі.

**ФІЁРД** (нарв. fjord) — вузкі глыбокі марскі заліў з высокімі і скалістымі берагамі, які глыбока ўразаецца ў сушу.

**ФІ́ЖМЫ** (ад ням. Fischbein = кітовы вус) — 1) шырокі каркас з кітовага вуса ў выглядзе абруча, які надзяваўся пад спадніцу і надаваў пышнасць фігуры; 2) шырокая спадніца на такім каркасе як частка жаночага ўбору 18 — пач. 19 ст.

**ФІЗАДЭ́РМА** (н.-лац. physoderma) — ніжэйшы грыб сям. кладахітрыдыевых, які паразітуе на вышэйшых, пераважна балотных раслінах.

**ФІЗА́ЛІС** (н.-лац. physalis, ад гр. physalis = пузыр) — травяністая расліна сям. паслёнавых з суцэльным лісцем і дробнымі жоўтымі або белаватымі кветкамі, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках Амерыкі; дае плады, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне, кандытарскай вытворчасці і кулінарыі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФІЗА́РУМ** (н.-лац. physarum) — слізявік, які развіваецца на адмерлых галінках, ствалах, апалым лісці, подсціле, на шапкавых грыбах.

**ФІЗАСТЫ́ГМА** (н.-лац. physostigma, ад гр. physa = пузыр + stigma = пункт) — дрэвападобная *ліяна* сям. бабовых, якая расце ў трапічных лясах Зах. Афрыкі; дае *фізастыгмін*.

**ФІЗАСТЫГМІ́Н** (ад *фізастыгма*) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў насенні фізастыгмы; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ФІЗАСТЭ́ГІЯ** (н.-лац. physostegia) — травяністая расліна сям. ясноткавых з зубчастым лісцем і бэзава-ружаватымі кветкамі ў коласападобных суквеццях, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФІЗАЦЭФАЛЁЗ** (н.-лац. physocephalus) — глісная хвароба свіней, якая выклікаецца паразітычнай нематодай фізацэфалус сям. *тэлазііdaў*.

**ФІЗІЁЛАГ** (ад *фізіялогія*) — спецыяліст у галіне фізіялогіі.

**ФІ́ЗІК** (гр. physikos = знаўца прыроды) — спецыяліст у галіне *фізікі*.

**ФІ́ЗІКА** (гр. physike) — 1) навука, якая вывучае агульныя ўласцівасці і будову матэрыяльнага свету, а таксама законы руху матэрыі (напр. тэарэтычная ф., атамная ф.); 2) раздзел гэтай навукі, прысвечаны вывучэнню будовы і агульных уласцівасцей якой-н. формы матэрыі (напр. ф. Зямлі, ф. мора, ф. крышталёў); 3) спецыяльная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем гэтай навукі, а таксама падручнік па гэтай дысцыпліне.

# Ф

**ФІЗІКАЛІ́ЗМ** (ад *фізіка*) — адна з канцэпцый *неапазітывізму*, паводле якой ісціннасць палажэння любой навукі залежыць ад магчымасці перакласці яго мовай фізікі.

**ФІЗІКАХІ́МІЯ** (ад *фізіка* + *хімія*) — навука, якая вывучае залежнасці паміж фізічнымі ўласцівасцямі і хімічнай будовай субстанцыі, а таксама фізічныя з'явы, звязаныя з працяканнем хімічных працэсаў.

**ФІЗІ́ЧНЫ** (гр. physikos) — 1) які мае адносіны да *фізікі*, уласцівы галіне з'яў, якімі займаецца фізіка (напр. ф-ыя законы, ф-ыя працэсы); 2) прызначаны для вывучэння фізікі (напр. ф-ая лабараторыя); 3) звязаны са станам чалавечага арганізма, працай мышцаў (напр. ф-ае выхаванне); 4) звязаны з уздзеяннем на цела, арганізм (напр. ф-ае пакаранне).

**ФІЗІЯ-** (ад гр. physis = прырода) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на прыналежнасць да прыроды.

**ФІЗІЯГНО́МІКА** (гр. physiognomike) — вучэнне аб праяўленні чалавека ў рысах твару і формах цела.

**ФІЗІЯГРА́ФІЯ** (ад *фізія-* + *-графія*) — навука, якая вывучае зямную паверхню, яе клімат, раслінны і жывёльны свет; фізічная геаграфія.

**ФІЗІЯКРА́ТЫ** (фр. physiocrates, ад гр. physis = прырода + kratos = улада) — французскія эканамісты 2-й пал. 18 ст., якія лічылі, што толькі праца земляроба з'яўляецца прадукцыйнай і стварае прыбавачную вартасць.

**ФІЗІЯЛО́ГІЯ** (гр. physiologia = навука аб прыродзе) — 1) навука аб жыццядзейнасці і функцыях жывых арганізмаў, асобных органаў і тканак; 2) жыццёвыя працэсы, якія адбываюцца ў арганізме ці яго органах (напр. ф. кровазвароту, ф. стрававання).

**ФІЗІЯНАМІ́СТ** (фр. physionomiste, ад гр. physis = прырода + gnomon = які ведае) — асоба, якая па міміцы твару ўмее распазнаваць характар і ўнутраны стан чалавека.

**ФІЗІЯНО́МІЯ** (фр. physionomie, ад гр. physis = прырода + onomon = які ведае) — 1) твар чалавека; выраз твару, грымаса (напр. кіслая ф.); 2) *перан.* індывідуальны выгляд, адметныя рысы каго-н., чаго-н.

**ФІЗІЯТРЫ́Я** (ад *фізія-* + *-ятрыя*) — тое, што і *фізіятэрапія*.

**ФІЗІЯТЭРАПЕ́ЎТ** (ад *фізіятэрапія*) — спецыяліст у галіне фізіятэрапіі.

**ФІЗІЯТЭРАПІ́Я** (ад *фізія-* + *тэрапія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае ўздзеянне на арганізм розных фізічных фактараў, прыродных (вада, паветра, сонечнае святло і цеплыня) і штучных (электрычны ток, магнітнае поле), а таксама распрацоўвае метады лячэння хвароб фізічнымі сродкамі.

**ФІЗЭ́ЛА** (н.-лац. physella) — малюск класа бруханогіх, які жыве ў вадаёмах Паўн. Амерыкі; з акварыумаў рыбаводаў-аматараў пашырыўся ў вадаёмах Еўропы.

**ФІКАБІЁНТ** (ад гр. phykos = водарасць + *біёнт*) — водарасць, якая ўваходзіць у склад вегетатыўнага цела (*талому*) лішайніка.

**ФІКАБІЛІ́НЫ** (ад гр. phykos = водарасць + лац. bilis = жоўць) — арганічныя *пігменты*, якія ўваходзяць у склад хромапратэідаў сіне-зялёных і чырвоных водарасцей (*фікаэрытрын* і *фікацыянін*).

**ФІКАЛО́ГІЯ** (ад гр. phykos = водарасць + *-логія*) — тое, што і *альгалогія*.

**ФІКАМІКО́ЗЫ** (ад гр. phykos = водарасць + *мікоз*) — хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца грыбамі парадку мукаральных; на Беларусі найбольш хварэюць буйная рагатая жывёла, свінні, авечкі.

**ФІКАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. phycomycetes, ад гр. phykos = водарасць + mykes, -etos = грыб) — клас ніжэйшых грыбоў, які выдзяляўся раней і ўключаў два падкласы — *зігаміцэты* і *ааміцэты*, што зараз разглядаюцца як самастойныя класы.

**-ФІКАЦЫЯ** (ад лац. facere = рабіць) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «ўладкаванне», «распаўсюджанне».

**ФІКАЦЫЯНІ́Н** (ад гр. phykos = водарасць + kyanos = цёмна-сіні) — сіні *пігмент* сіне-зялёных і некаторых чырвоных водарасцей.

**ФІКАЭРЫТРЫ́Н** (ад гр. phykos = водарасць + erythros = чырвоны) — чырвоны пігмент чырвоных і некаторых сіне-зялёных водарасцей.

**ФІКС** (фр. fixe, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — 1) устаноўленая цана на тавары; 2) дакладна вызначаная сума ўзнагароды, аплаты за які-н. від работы.

**ФІКСАВА́ЦЬ** (фр. fixer, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — 1) адзначаць на паперы або замацоўваць у свядомасці (напр. ф. у памяці); 2) канчаткова ўстанаўліваць, замацоўваць, вызначаць (напр. ф. заработную плату, ф. тэрмін); 3) засяроджваць, накіроўваць (напр. ф. погляд на чым-н.); 4) замацоўваць у пэўным становішчы (напр. ф. рэйку); 5) праводзіць *фіксацыю* 4; 6) рабіць *фіксацыю* 5.

**ФІКСА́Ж** (фр. fixage, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — хімічны раствор, які прымяняецца для апрацоўкі праяўленых адбіткаў на *негатыве* або *пазітыве*.

**ФІКСА́ТАР** (фр. fixateur, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — 1) прыбор або прыстасаванне для рэгулявання, замацоўвання чаго-н.; 2) хімічнае рэчыва, якім фіксуюць клеткі, тканкі, органы для захавання іх прыжыццёвай структуры.

**ФІКСАТУА́Р** (фр. fixatoire, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — памада для прыгладжвання валасоў, якая надае мужчынскай прычосцы адпаведную форму.

**ФІКСАТЫ́Ў** (фр. fixatif, ад лац. fixus = нерухомы, нязменны) — раствор, якім пакрываюць каранданшныя малюнкі, чарцяжы, каб захаваць іх ад псавання.

**ФІКСА́ЦЫЯ** (фр. fixation, ад лац. fixus = цвёрды, нерухомы, моцны) — 1) замацаванне чаго-н. у пэўным становішчы; 2) замацаванне ў пісьмовым выглядзе звестак, думак; 3) засяроджанне на чым-н. увагі; 4) апрацоўка *фіксатарам* 2 клетак, тканак, органаў для кансервацыі іх структуры; 5) апрацоў-

# Ф

ка *фіксажам* праяўленых адбіткаў на *негатыве* або *пазітыве*.

**ФІКС-ПУ́НКТ** (ням. Fixpunkt) — *пункт* геаметрычнай фігуры, які пры бесперапынным адбіцці або пераўтварэнні гэтай фігуры пераходзіць сам у сябе.

**ФІКТЫ́ЎНЫ** (фр. fictif, ад лац. fictio = выдумка) — выдуманы, несапраўдны; падроблены, фальшывы (напр. ф-ая хвароба, ф-ыя дакументы); ф. к а п і т а л — *капітал*, які існуе ў выглядзе каштоўных папер (акцый, аблігацый і інш.), што ўласнай вартасці не маюць, але даюць права на пэўны даход.

**ФІ́КУС** (н.-лац. ficus) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. тутавых з суцэльным глянцавым лісцем і дробнымі беспялёсткавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках; у ліку відаў — *баньян, інжыр, сікамор*; на Беларусі вырошчваецца як пакаёвая.

**ФІ́КЦЫЯ** (лац. fictio = выдумка) — нешта несапраўднае, наўмысна выдуманае з пэўнымі мэтамі.

**ФІКЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад лац. fictio, -onis = выдумка) — ідэалістычная філасофская канцэпцыя, паводле якой наша ўяўленне пра свет з'яўляецца сукупнасцю *ілюзій, фікцый*.

**-ФІЛ** (ад гр. philos = сябра, прыхільнік) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «аматар», «прыхільнік».

**ФІ́ЛА** (гр. phyle = племя) — племя ў Стараж. Грэцыі, якое складалася з трох *фратрый*; пазней тэрытарыяльная адзінка.

**ФІЛАГЕНЕ́З** (гр. phyle = племя + *-генез*) — працэс развіцця арганічнага свету або асобных яго формаў з моманту ўзнікнення жыцця.

**ФІЛАГЕНЕ́ТЫКА** (гр. phyle = племя + *генетыка*) — навука, якая вывучае заканамернасці развіцця жывёльнага і расліннага свету.

**ФІЛАГЕНІ́Я** (гр. phyle = племя + *-генія*) — тое, што і *філагенез*.

**ФІЛАДРО́МУС** (н.-лац. philodromus) — павук сям. бакаходаў, які жыве на нізкіх раслінах і кустах, ствалах дрэў, адкрытых месцах.

**ФІЛАДЭ́НДРАН** (н.-лац. philodendron, ад гр. phyllon = ліст + dendron = дрэва) — вечназялёная дрэвападобная або травяністая расліна сям. ароідных з лазячымі сцёбламі і буйным перыстым лісцем, пашыраная ў трапічных лясах Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як лісцева-дэкаратыўная.

**ФІЛАКА́КТУС** (ад гр. phyllon = ліст + *кактус*) — гібрыдная форма, атрыманая ад скрыжоўвання *эпіфілума* з буйнакветкавымі *цэрэусамі* і пашыраная ў тропіках Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; дае ядомыя плады.

**ФІЛАКАРТЫ́СТ** (ад *філакартыя*) — чалавек, які займаецца філакартыяй.

**ФІЛАКАРТЫ́Я** (ад гр. philos = сябар + chartes + аркуш паперы) — калекцыяніраванне ілюстраваных паштовак.

**ФІЛАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. phyllocarida) — надатрад вышэйшых ракападобных.

**ФІЛАКЛА́ДЫЙ** (ад гр. phyllon = лісток + kladion = галінка) — лістападобна расшыраная галінка, якая выконвае функцыі лісця.

**ФІЛАКСЕ́РА** (ад гр. phyllon = лісток + kseros = сухі) — насякомае падатрада тлей, якое паразітуе на раслінах, пераважна на вінаградзе.

**ФІЛАКТЫ́НІЯ** (н.-лац. phyllactinia) — сумчаты грыб сям. мучністарасяных, які развіваецца на лісці бярозы і ляшчыны.

**ФІЛАЛО́ГІЯ** (гр. philologia, ад phileo = люблю + logos = вучэнне) — сукупнасць навук, якія вывучаюць мову і літаратуру якога-н. народа або групы народаў (напр. класічная ф., славянская ф., беларуская ф.).

**ФІЛАМА́ТЫ** (гр. philomathes = аматар ведаў) — члены тайнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое існавала ў 1817 — 1823 гг. і аб'ядноўвала моладзь Беларусі, Літвы і Польшчы.

**ФІЛАМЕ́НА** (н.-лац. filomenae) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Парагвая; вядома як акварыумная.

**ФІЛАМЕ́НТЫ** (лац. filamentum = нітка) — унутрыклетачныя цытаплазматычныя ніцепадобныя бялковыя структуры.

**ФІЛАНО́ТЫС** (н.-лац. philonotis) — лістасцяблові мох сям. бартраміевых, які расце на забалочаных глебах, на схілах мокрых канаў, на вільготных лугах.

**ФІЛА́НТ** (н.-лац. philanthus, ад гр. philanthes = кветкалюбны) — насякомае сям. рыючых восаў; корміцца нектарам, палюе на пчол, прыносячы шкоду пчалярству; пчаліны воўк.

**ФІЛАНТРО́П** (гр. philanthropos, ад phileo = люблю + anthropos = чалавек) — той, хто займаецца *філантропіяй*, дабрачынец.

**ФІЛАНТРО́ПІЯ** (гр. philanthropia) — дапамога бедным, дабрачыннасць.

**ФІЛАПО́ДЫІ** (ад гр. phyle = від + *-подыі*) — ніцепадобныя, не злучаныя паміж сабой *псеўдаподыі* некаторых саркодавых.

**ФІЛАРМО́НІЯ** (фр. philharmonie, ад гр. phileo = люблю + harmonia = гармонія) — установа, якая займаецца арганізацыяй канцэртаў і прапагандай музычнай культуры, а таксама будынак, дзе яна размяшчаецца.

**ФІЛАРЭ́ТЫ** (гр. philaretos = аматар дабрачыннасці) — члены тайнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое існавала ў 1820 — 1823 гг. і было філіялам таварыства *філаматаў*.

**ФІЛАСАФЕ́МА** (гр. philosophema) — 1) філасофская праблема; 2) думкі, выказванні якога-н. *філосафа*.

**ФІЛАСО́ФІЯ** (гр. philosophia, ад phileo = люблю + sophia = мудрасць) — 1) навука аб найбольш агульных законах развіцця прыроды, грамадства і мыслення; 2) метадалагічныя прынцыпы якой-н. навукі (напр. ф. права, ф. мовазнаўства); 3) погляды, перакананні; канцэпцыя; 4) *перан.* абстрактныя разважанні.

**ФІЛАСТЫ́КТА** (н.-лац. phyllosticta) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які развіваецца на

лісці і рэдка на пладах раслін сям. ружавых і бабовых.

**ФІЛАСТЫКТО́З** (ад *філастыкта*) — хвароба раслін, якая выклікаецца філастыктай.

**ФІЛАТА́КСІС** (ад гр. phyllon = ліст + taksis = размяшчэнне па парадку) — размяшчэнне лістоў на сцябле расліны.

**ФІЛАТЭЛІ́СТ** (ад *філатэлія*) — чалавек, які займаецца філатэліяй.

**ФІЛАТЭЛІ́Я** (фр. philatelie, ад гр. phileo = люблю + ateleia = вызваленне ад аплаты) — калекцыяніраванне і вывучэнне паштовых і гербавых марак, паштовых знакаў, а таксама папяровых грашовых знакаў розных краін.

**ФІЛАФАНІ́СТ** (ад *філафанія*) — чалавек, які займаецца філафаніяй.

**ФІЛАФАНІ́Я** (ад гр. phileo = люблю + *-фанія*) — калекцыяніраванне гукавых, у асноўным музычных, запісаў.

**ФІЛАФО́РА** (ад гр. phyllon = лісток + phoros = які нясе) — чырвоная водарасць сям. філафоравых, якая пашырана ў морах цёплых і ўмераных зон.

**ФІЛАХІНО́Н** (ад гр. phyllon = лісток + *хіноны*) — вітамін К, які ў арганізме прымае ўдзел у сінтэзе *пратрамбіну* ў печані; змяшчаецца ў зялёных частках раслін.

**ФІЛАХО́РА** (н.-лац. phyllachora) — сумчаты грыб сям. філахоравых, які паразітуе на лісці злакаў.

**ФІЛЕ́** [1] (фр. filet) — 1) мяса вышэйшага гатунку з сярэдняй часткі тушы (каля хрыбетніка); 2) наогул кусок мяса або рыбы, ачышчаны ад касцей.

**ФІЛЕ́** [2] (фр. file) — вышыўка на сетцы з нітак або ажурная вязка.

**ФІ́ЛЕР** (венг. filler) — разменная манета Венгрыі, роўная 1/100 *форынта.*

**ФІЛЁБІУС** (н.-лац. phyllobius) — жук сям. даўганосікаў; пашкоджвае пладовыя і лясныя дрэвы і кусты; даўганосік ліставы.

**ФІЛЁНГА** (ням. Fullung) — 1) тонкая дошка або фанера, якая ўстаўляецца ў дзвярную, паркетную або іншую раму; 2) вузкая палоска, якая аддзяляе афарбаваную панэль ад верхняй часткі сцяны.

**ФІЛЁР** (фр. fileur, ад filer = выследжваць) — тайны паліцэйскі агент, сышчык, шпік.

**ФІЛІГРАНАГРА́ФІЯ** (ад *філігрань* + *-графія*) — раздзел *палеаграфіі*, які вывучае вадзяныя знакі на паперы для вызначэння сапраўднасці гістарычных дакументаў і іх датавання.

**ФІЛІГРАНАЛО́ГІЯ** (ад *філігрань* + *-логія*) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю паперы і вадзяных знакаў на ёй.

**ФІЛІГРА́ННЫ** (ад *філігрань*) — 1) зроблены ў выглядзе філіграні або які мае на сабе філігрань (напр. ф-ая папера); 2) *перан.* вельмі дакладны, да самых дробязей прадуманы, старанна і тонка выкананы.

**ФІЛІГРА́НЬ** (фр. filigrane, ад іт. filigrano) — 1) вадзяны знак на паперы; 2) ювелірны выраб з тонкага дроту накшталт карункаў.

**ФІЛІКАЛЁЗ** (ад н.-лац. filicollis) — глісная хвароба свойскіх і дзікіх вадаплаўных птушак, якая

выклікаецца паразітычным скрэбенем філіколісам.

**ФІЛІ́ПІКА** (гр. philippika, ад Philipp + імя македонскага цара, супраць якога выступаў з прамовамі старажытнагрэчаскі аратар Дэмасфен) — *перан.* гнеўнае выкрывальнае выступленне супраць каго-н.

**ФІЛІ́РАВАЦЬ** (фр. filer = цягнуць) — 1) пры спяванні або ігры на музычным інструменце цягнуць гук, паступова ўзмацняючы яго, а затым аслабляючы, зводзіць на нішто; 2) падстрыгаць, слізгаючы лязом раскрытых нажніц па валасах у напрамку ад канцоў да каранёў.

**ФІЛІ́СТЭР** (ням. Philister) — чалавек з абывацельскім, мяшчанскім кругаглядам і ханжаскімі паводзінамі.

**ФІЛІСТЭ́РСТВА** (ад *філістэр*) — погляды і паводзіны філістэра, абывацельская коснасць і ханжаства.

**ФІЛІ́Т** (ад гр. phyllon = ліст) — метамарфічная горная парода, якая характарызуецца дробнай зярністасцю і тонкай сланцаватасцю.

**ФІ́ЛІЯ** (лац. filia) — 1) тое, што і *філіял*; 2) аддзяленне каталіцкай або лютэранскай царквы.

**-ФІЛІЯ** (гр. phileo = люблю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «схільнасць», «любоў да чаго-н.».

**ФІЛІЯ́Л** (с.-лац. filialis = сыноўні) — самастойнае аддзяленне буйной установы ці арганізацыі (напр. ф. музея).

**ФІЛІЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. filialis) — які мае адносіны да *філіяла,* з'яўляецца філіялам.

**ФІЛІЯ́ЦЫЯ** (фр. filiation, ад лац. filius = сын) — развіццё чаго-н. у паслядоўнай сувязі, у прамой залежнасці ад папярэдняга.

**ФІЛО́ДЫЙ** (ад гр. phyllon = ліст + eidos = выгляд) — відазменены чаранок ліста, які выконвае функцыю ліставой пласцінкі (напр. у аўстралійскай акацыі).

**ФІЛО́ІДЫ** (ад гр. phyllon = ліст + *-оід*) — лістападобныя вырасты ў ніжэйшых і вышэйшых споравых раслін.

**ФІЛО́ЛАГ** (гр. philologos) — спецыяліст у галіне *філалогіі.*

**ФІЛО́М** (ад гр. phyllon = ліст) — агульны тэрмін для абазначэння ўсіх органаў ліставога паходжання (лістоў, калючак, спарафілаў і інш.).

**ФІЛО́САФ** (гр. philosophos) — 1) спецыяліст у галіне *філасофіі*, мысліцель, які распрацоўвае пытанні светапогляду; 2) *перан.* чалавек, які ўдумліва адносіцца да жыцця.

**ФІЛС** (ар. fils) — разменная манета Алжыра і Ірака, роўная 1/1000 *дынара.*

**ФІ́ЛУМ** (ад гр. phyle = племя, род, від) — група арганізмаў з агульным планам будовы.

**ФІЛУМЕНІ́СТ** (ад гр. phileo = люблю + лац. lumen = святло) — той, хто займаецца *філуменіяй.*

**ФІЛУМЕНІ́Я** (ад гр. phileo = люблю + лац. lumen = святло) — калекцыяніраванне запалкавых этыкетак.

# Ф

**ФІЛЬДЭКО́С** (фр. fil d'Ecosse = шатландская нітка) — кручаная баваўняная пража, якая ідзе на трыкатажныя вырабы (гл. таксама *фільдэперс*).

**ФІЛЬДЭПЕ́РС** (фр. fel de Perse = персідская нітка) — шаўковая пража, падобная да *фільдэкосу*, але лепш апрацаваная, якая ідзе на трыкатажныя вырабы.

**ФІЛЬЕ́РА** (фр. filière, ад fil = валакно, нітка) — 1) прыстасаванне ў прадзільнай машыне ў выглядзе каўпачка або дыска з адтулінамі, праз якія праціскаецца расплаўленая ці раствораная маса, утвараючы штучныя ніткі; 2) металічная пласцінка з калібраванымі адтулінамі ў валачыльным стане, праз якія цягнецца і шліфуецца дрот.

**ФІЛЬМ** (англ. film = *літар*. плёнка) — твор кінамастацтва для паказу на экране; кінафільм (напр. каляровы ф., гукавы ф.).

**ФІЛЬМАГРА́ФІЯ** (ад *фільм* + *-графія*) — галіна ведаў, якая вывучае метады і прынцыпы апісання фільмаў у даведачных работах.

**ФІЛЬМАКО́ПІЯ** (ад *фільм* + *копія*) — копія кінафільма, прызначаная для дэманстравання ў кінатэатрах.

**ФІЛЬМАСКО́П** (ад *фільм* + *-скоп*) — праекцыйны апарат для дэманстрацыі *дыяфільмаў*.

**ФІЛЬМАСТА́Т** (ад *фільм* + *-стат*) — металічная шафа, дзе зберагаюцца рулоны кінафільмаў.

**ФІЛЬМАТА́ЙП** (ад англ. film = плёнка + type = адбітак) — фотанаборная машына з ручной устаноўкай шрыфтавога шаблону і фотаматэрыялу.

**ФІЛЬМАТЭ́КА** (ад *фільм* + *-тэка*) — 1) збор кінастужак; 2) установа, дзе захоўваюцца фільмы.

**ФІЛЬМАФО́Н** (ад *фільм* + -фон) — апарат для запісу гуку на кінаплёнку і ўзнаўлення яго.

**ФІЛЬМПА́К** (англ. filmpack, ад film = плёнка + pack = пакет) — святлонепранікальная каробка з негатыўнай фотаплёнкай.

**ФІЛЬМ-СПЕКТА́КЛЬ** (ад *фільм* + *спектакль*) — экранізацыя тэатральнага спектакля, зробленая з улікам сродкаў кінамастацтва.

**ФІЛЬТР** (фр. filtre, ад с.-лац. filtrum = лямец) — 1) прыстасаванне для ачысткі вадкасцей і газаў ад непатрэбных прымесей (напр. ф. процівагаза); 2) прыбор для затрымкі пэўных прамянёў, электрамагнітных або гукавых хваляў і інш.

**ФІЛЬТРА́Т** (фр. filtrat, ад с.-лац. filtrum = лямец) — вадкасць, прапушчаная праз *фільтр*.

**ФІЛЬТРА́ЦЫЯ** (фр. filtration, с.-лац. filtrum = лямец) — 1) прапусканне вадкасцей або газаў праз *фільтр* з мэтай ачысткі ад непатрэбных сумесей; 2) натуральнае прасочванне вадкасцей або газаў праз порыстыя рэчывы; 3) *перан.* адбор.

**ФІЛЬТРПРЭ́С** (ад *фільтр* + *прэс*) — фільтр, у якім працэс фільтравання праходзіць пад высокім ціскам.

**ФІЛЬЦ** (ням. Filz = поўсць) — 1) поўсцепадобная засцілка, утвораная на паверхні суконных тканін пры валянні; 2) устарэлая назва тэхнічных сартоў поўсці для пракладак у машынабудаванні.

**ФІЛЭ́ЛІНЫ** (ад гр. phileo = люблю + Hellenes = эліны) — прыхільнікі барацьбы грэчаскага народа супраць турэцкага іга ў 20-я гады 19 ст.

**ФІЛЭМБРЫЯГЕНЕ́З** (ад гр. phyle = племя, род, від + *эмбрыягенез*) — змена, якая адбываецца ў працэсе эмбрыянальнага развіцця арганізма, захоўваецца ў дарослай асобіны і перадаецца нашчадкам; па стадыі, на якой адбываюцца гэтыя змены, адрозніваюць *анабалію, архалаксіс* і *дэвіяцыю* 3.

**ФІЛЯРЫЯТО́ЗЫ** (ад *філярыяты*) — глісныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца філярыятамі.

**ФІЛЯРЫЯ́ТЫ** (н.-лац. filariata) — падатрад *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у брушной поласці, падскурнай клятчатцы, крывяносных сасудах, сухажыллі, у арбітах вачэй, насавых поласцях коней, буйной рагатай жывёлы, птушак, іншых пазваночных жывёл і чалавека.

**ФІМІЯ́М** (гр. thymiama) — 1) духмянае рэчыва для курэння ў час рэлігійных абрадаў, а таксама пахучы дым, які ўзнікае пры згаранні гэтага рэчыва; 2) *перан.* ліслівая ўзнёслая пахвала; к у р ы ц ь ф. — празмерна ўсхваляць каго-н.

**ФІМО́З** (гр. phimosis = сцісканне) — звужэнне крайняй плоці ў выніку запаленчых працэсаў.

**ФІ́НА** (ням. Finne) — лічынка стужачнага чарвяка, якая паразітуе ў розных органах чалавека і жывёл.

**ФІНА́Л** (іт. finale, ад лац. finalis = канечны, канцавы) — 1) завяршэнне, канец чаго-н.; 2) заключная частка музычнага або тэатральнага спектакля (сімфоніі, оперы і інш.); 3) заключная частка спартыўных спаборніцтваў.

**ФІНАЛІ́ЗМ** (ад лац. finalis = канечны, канцавы) — тое, што і *тэлеалогія*.

**ФІНА́ЛЬНЫ** (лац. finalis) — канечны, канцавы; заключны.

**ФІНАНСІ́СТ** (ад *фінансы*) — 1) спецыяліст па вядзенню фінансавых аперацый; 2) уладальнік капіталу, банкір.

**ФІНА́НСЫ** (фр. finances, ад лац. finantia = даход) — 1) грашовыя сродкі, якія маюцца ў распараджэнні дзяржавы, а таксама сістэма іх фарміравання і выкарыстання; 2) *разм.* грошы, грашовыя сродкі.

**ФІНВА́Л** (ням. Finnwal) — буйная марская млекакормячая жывёла падатрада бяззубых кітоў.

**ФІ́НІК** (гр. phoiniks, -nikos) — плод фінікавай пальмы.

**ФІНІМЕ́ТР** (ад лац. finis = мяжа + *-метр*) — *манометр* са шкалой, які паказвае колькасць і ціск газу ў кіслародных і іншых балонах.

**ФІНІ́ТНЫ** (лац. finitus) — канечны, звязаны з канечным лікам (напр. ф. алгарытм).

**ФІНІТЫ́ЗМ** (ад лац. finitus = канечны) — філасофская канцэпцыя, якая адмаўляе аб'ектыўна-рэальны змест катэгорыі бесканечнага, зыходзячы з таго, што чалавек заўсёды мае справу толькі з канечнымі рэчамі.

**ФІНІ́ФЦЬ** (ад гр. chymeyton, ад chymeyo = змешваю) — *эмаль* для пакрыцця металічных вырабаў і для нанясення ўзору на фарфор.

# Ф

**ФІ́НІШ** (англ. finish) — 1) заключная частка спартыўных спаборніцтваў на хуткасць; 2) канечны пункт спартыўнага бегу на хуткасць; 3) некаторая адлегласць на дыстанцыі перад канечным пунктам.

**ФІНО́ЗЫ** (ад *фіна*) — глісныя хваробы чалавека і жывёл, якія выклікаюцца лічынкамі стужачных чарвей (*фінамі*).

**ФІНТ** (ням. Finte, іт. finta) — падманны рух, фальшывы выпад (у спорце); в ы к і н у ц ь ф. — зрабіць што-н. хітрае, нечаканае.

**ФІНЬШАМПА́НЬ** (фр. fine champagne, ад Champagne = назва вобласці ў Францыі) — гатунак *каньяку*.

**ФІРА́НКА** (польск. firanka, ад ням. Fürhang) — аздобная заслона на акно, звычайна з празрыстай тканіны.

**ФІ́РМА** (іт. firma = подпіс) — 1) прамысловае ці гандлёвае прадпрыемства, якое мае правы юрыдычнай асобы і ставіць перад сабой камерцыйныя мэты; 2) вытворчае аб'яднанне сумежных прадпрыемстваў (напр. гандлёвая ф.); 3) *перан.* знешні выгляд, прыкрыцце чаго-н.

**ФІРМА́Н** (перс. ferman) — указ султанаў, шахаў або іншых гасудароў у краінах Блізкага і Сярэд. Усходу.

**ФІРМАЦЫ́Т** (ад лац. firmatus = узмоцнены) — празрыстае кварцавае шкло.

**ФІРН** (ням. Firn) — буйназярністы снег, які ўтвараецца ў гарах у выніку частага замярзання і адтавання.

**ФІСГАРМО́НІЯ** (ням. Fisharmonium, ад гр. physa = мех + harmonia = гармонія) — язычковы клавішны духавы музычны інструмент, які гучыць падобна да аргана.

**ФІСІДЭ́НС** (н.-лац. fissidens) — лістасцябловы мох сям. фісідэнтавых, які расце на забалочаных, тарфяных лугах, на гліністай глебе, каранях дрэў.

**ФІСК** (лац. fiscus = кошык) — 1) імператарская *казна* ў Стараж. Рыме; 2) дзяржаўная казна ў буржуазнай юрыдычнай літаратуры.

**ФІСКА́Л** (лац. fiscalis = казённы) — 1) чыноўнік у Расіі 18 ст., які назіраў за законнасцю ў галіне фінансавых і судовых дзеянняў урада, устаноў і асоб; 2) *перан.* даносчык, паклёпнік.

**ФІСКА́ЛЬНЫ** (лац. fiscalis = казённы) — які мае адносіны да *фіску*, які служыць справе фіску, казны.

**ФІСКАМІ́ТРЫУМ** (н.-лац. physcomitrium) — лістасцябловы мох сям. фунарыевых, які расце на вільготнай гліністай глебе, на іле сажалак, на вільготных палях, па берагах рэк.

**ФІСКО́НІЯ** (н.-лац. physconia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які расце на лісцевых дрэвах, аголенай драўніне.

**ФІСТА́ШКА** (фр. pistache) — дрэва сям. анакардыевых з перыстым лісцем, пашыранае пераважна ў Міжземнамор'і, Сярэд. Азіі, Цэнтр. Амерыцы, а таксама плод гэтага дрэва, які мае форму невялікага арэха.

**ФІ́СТУЛА** (лац. fistula = труба, канал) — 1) старая назва адна-

ствольных, а пазней і шматствольных *флейт*; 2) тое, што і *фальцэт*; 3) *мед*. свішч або штучны канал ад якой-н. поласці ці хворага органа на паверхню цела.

**ФІСТУЛАГРА́ФІЯ** (ад *фістула* + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання свішчоў.

**ФІ́СЦЫЯ** (н.-лац. physcia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які расце на кары дрэў, аголенай драўніне, камяністых субстратах.

**ФІТА́** (гр. theta) — перадапошняя літара кірыліцкага алфавіта, якая служыла для перадачы гука «ф» у словах грэчаскага паходжання ў беларускай пісьменнасці да 18 ст., у рускай — да 1918 г.

**ФІТА-** (ад гр. phyton = расліна) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «расліна».

**ФІТАБЕ́НТАС** (ад *фіта-* + *бентас*) — сукупнасць раслін, якія жывуць на дне неглыбокіх вадаёмаў.

**ФІТАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае жыццё раслін.

**ФІТАГАРМО́НЫ** (ад *фіта-* + *гармоны*) — фізіялагічна актыўныя рэчывы, якія ўтвараюцца ў раслінах у вельмі малой колькасці і рэгулююць рост раслін, павялічваюць іх укараненне; да фітагармонаў належаць *ауксіны, вітаміны, цытакініны, гіберэліны* і інш.

**ФІТАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *фіта-* + *геаграфія*) — раздзел батанічнай геаграфіі, які вывучае заканамернасці пашырэння раслін на зямной паверхні.

**ФІТАГЕЛЬМІНТАЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *гельмінталогія*) — раздзел гельмінталогіі, які вывучае хваробы раслін, выкліканыя паразітычнымі *нематодамі*.

**ФІТАГЕЛЬМІНТО́ЗЫ** (ад *фіта-гельмінты*) — хваробы раслін, узбуджальнікі якіх фітагельмінты.

**ФІТАГЕЛЬМІ́НТЫ** (ад *фіта-* + *гельмінты*) — гельмінты класа *нематодаў*, якія выклікаюць хваробы раслін.

**ФІТАГЕ́ННЫ** (ад *фіта-* + *-генны*) — раслінная паходжання (напр. ф-ыя горныя пароды).

**ФІТАІНДЫКА́ТАРЫ** (ад *фіта-* + *індыкатары*) — расліны, характэрныя для пэўных экалагічных умоў, якія могуць якасна або колькасна ацэньвацца па прысутнасці гэтых раслін, напр. трыснёг у пустынных месцах сведчыць аб наяўнасці падземных водаў, палын халодны паказвае на прысутнасць у мацерыковых пародах вальфраму; індыкатарныя расліны.

**ФІТАКЛІ́МАТ** (ад *фіта-* + *клімат*) — сукупнасць атмасферных умоў, у якіх жывуць расліны.

**ФІТАЛА́КА** (н.-лац. phytolacca, ад гр. phyton = расліна + іт. lacca = лак) — травяністая расліна сям. лаканосавых, якая паходзіць з Паўн. Амерыкі; з'яўляецца сыравінай для здабывання *алкалоідаў*, эфірнага алею.

**ФІТАЛЕ́ЙМЫ** (ад *фіта-* + гр. leimma = рэшткі) — абвугленыя або слаба змененыя рэшткі старажытных раслін у выглядзе лістоў, сцёблаў, пладоў, насення, шышак.

**ФІТАМАРФО́ЗЫ** (ад *фіта-* + *-марфоз*) — выкапнёвыя ўтварэнні

і адбіткі, якія нагадваюць рэшткі раслін, але сваім паходжаннем абавязаны жывёльным арганізмам або фізіка-хімічным працэсам.

**ФІТАМА́СА** (ад *фіта-* + *маса*) — агульная маса жывога і мёртвага арганічнага рэчыва раслін, якая прыходзіцца на адзінку паверхні або аб'ёму месцапражывання.

**ФІТАМАСТЫГІ́НЫ** (н.-лац. phytomastigina) — падклас жгуцікавых тыпу прасцейшых; пашыраны ў марскіх і прэсных вадаёмах; на Беларусі найбольш трапляюцца віды з родаў *вальвокс, гоніум, хламідамонас, цэрацыум, эўглена*; раслінныя жгуціканосцы.

**ФІТАНО́МУС** (ад *фіта-* + гр. nomos = ежа) — жук сям. даўганосікаў; шкоднік кармавых бабовых траў (люцэрны і канюшыны); даўганосік травяны.

**ФІТАНЦЫ́ДЫ** (ад гр. phyton = расліна + *-цыды*) — лятучыя рэчывы, якія ўтвараюцца многімі вышэйшымі раслінамі (цыбуляй, часнаком, хрэнам, цытрусавымі і інш.) і здольныя стрымліваць рост бактэрый, грыбоў і прасцейшых.

**ФІТАПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *палеанталогія*) — тое, што і *палеабатаніка*.

**ФІТАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *паталогія*) — навука пра хваробы раслін і меры барацьбы з такімі хваробамі.

**ФІТАПЛАНКТО́Н** (ад *фіта-* + *планктон*) — сукупнасць раслін, пераважна водарасцей, якія свабодна плаваюць у верхніх слаях вадаёмаў.

**ФІТАСТЭРЫ́НЫ** (ад *фіта-* + *стэрыны*) — арганічныя рэчывы з групы *стэроідаў*, стэрыны расліннага паходжання.

**ФІТАТРО́Н** (ад *фіта-* + гр. thronos = месцазнаходжанне) — памяшканне са штучным кліматам для вырошчвання раслін з мэтай вывучэння ўплыву на іх тэмпературы, вільготнасці і інш. (параўн. *кліматрон*).

**ФІТАТЭРАПІ́Я** (ад *фіта-* + *тэрапія*) — лячэнне лекавымі раслінамі.

**ФІТАФА́ГІ** (ад *фіта-* + *-фаг*) — жывёлы, якія кормяцца толькі расліннай ежай (напр. многія насякомыя).

**ФІТАФЕНАЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *феналогія*) — раздзел феналогіі, які вывучае сезонныя з'явы ў жыцці раслін.

**ФІТАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *фіта-* + *фізіялогія*) — навука аб жыццёвых працэсах раслін і іх органаў.

**ФІТАФТАРО́ЗЫ** (ад *фіта-* + гр. phthoros = знішчэнне, пагібель) — хваробы раслін, пераважна бульбы, памідораў і іншых паслёнавых, якія выклікаюцца грыбам *фітафтора*.

**ФІТАФТО́РА** (н.-лац. phytophthora) — ніжэйшы грыб класа *ааміцэтаў*, які паразітуе на сельскагаспадарчых, дэкаратыўных і дзікарослых раслінах, выклікае гніль, плямістасць.

**ФІТАЦЭНАЛО́ГІЯ** ( ад *фітацэноз* + *-логія*) — тое, што і *геабатаніка*.

**ФІТАЦЭНАТЫ́ПЫ** ( ад *фітацэноз* + *тып*) — сукупнасць відаў раслін, якія займаюць аднолькавае найбольш стойкае і тыповае для іх

становішча ў раслінных згуртаваннях (*фітацэнозах*).

**ФІТАЦЭНО́З** (ад *фіта-* + *-цэноз*) — сукупнасць відаў раслін на тэрыторыі з больш-менш аднароднымі кліматычнымі, грунтавымі і іншымі ўмовамі, што знаходзяцца ў складаных узаемаадносінах як паміж сабой, так і з навакольным асяроддзем (напр. сасновы лес, дуброва і г. д.).

**-ФІТЫ** (гр. phyton = расліна) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на прыналежнасць да раслін.

**ФІУМА́РЫ** (іт. fiumara) — невялікія рэчкі ў краінах Міжземнамор'я, якія ўлетку перасыхаюць, а ў перыяд зімовых дажджоў робяцца паўнаводнымі.

**ФІЦІ́Н** (ад гр. phyton = расліна) — арганічнае злучэнне *фосфару*, якое знаходзіцца ў некаторых раслінах і выкарыстоўваецца як лекавы сродак пры розных захворваннях нервовай сістэмы, *гіпатаніі, астэамаляцыі, туберкулёзе* і інш.

**ФІ́ЦІНГ** (англ. fitting, ад fit = мантіраваць) — фасонная дэталь (*муфта*, трайнік, *ніпель* і інш.), пры дапамозе якой злучаюцца на разьбе трубы.

**ФІШ** (англ. fish) — снасць на судне, пры дапамозе якой падымаецца якар.

**ФІ́ШКА** (фр. fiche) — кружок або кубік, які служыць для падліку ачкоў у розных гульнях.

**ФІЯ́КР** (фр. fiacre) — наёмны лёгкі *экіпаж*, які выкарыстоўваўся ў гарадах Зах. Еўропы.

**ФІЯ́Л** (гр. phiale) — 1) шырокая неглыбокая чаша з тонкімі сценкамі і злёгку загнутымі ўнутр берагамі, якая ўжывалася старажытнымі грэкамі для бытавых і культавых патрэб; 2) невялікая вежа, увянчаная востраканцовай пірамідай.

**ФІЯЛЕ́ТАВЫ** (ням. violett < фр. violet, ад лац. viola = фіялка) — сіні з чырванаватым адценнем, колеру фіялкі.

**ФІЯЛЕ́Я** (н.-лац. phialea) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які развіваецца на рэштках травяністых раслін, на ігліцы, шышках, грыбах (сыраежках).

**ФІЯ́ЛКА** (ст.-польск. fijałka, ад лац. viola) — травяністая расліна сям. фіялкавых з фіялетавымі кветкамі, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; лекавая і дэкаратыўная.

**ФІЯРЫТУ́РА** (іт. fioritura = *літар.* цвіценне) — 1) арнаментальны пасаж, які ўпрыгожвае мелодыю; 2) *перан.* што-н. дабаўленае, прыдадзенае для ўпрыгожання, ажыўлення чаго-н.

**ФІЯ́СКА** (іт. fiasco) — поўны правал, няўдача.

**ФЛАБАФЕ́НЫ** (ад гр. phloos = кара + baphe = афарбоўка, колер) — арганічныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў кары і ў пладах раслін.

**ФЛАВАНО́ІДЫ** (ад лац. flavus = жоўты + *-оід*) — фенольныя злучэнні, у аснове структуры якіх ляжыць шкілет, што складаецца з вугляродных адзінак.

**ФЛАВАПРАТЭІ́ДЫ** (ад лац. flavus = жоўты + *пратэіды*) — складаныя бялкі, якія змяшчаюць жоўты *рыбафлавін* і ўдзельніча-

юць у клетачным дыханні раслінных і жывёльных арганізмаў.

**ФЛАВО́НЫ** (ад лац. flavus = жоўты) — арганічныя *гетэрацыклічныя* злучэнні, жоўтыя цвёрдыя рэчывы; выкарыстоўваюцца як фарбавальнікі.

**ФЛАГ** (ням. Flagge, гал. vlag) — прымацаваны да дрэўка або да шнура кавалак матэрыялу адпаведнай формы і колеру, часта з гербам, эмблемай дзяржавы або арганізацыі.

**ФЛАГАПІ́Т** (ад гр. phlogopos = вогненны) — мінерал класа *сілікатаў* жаўтаватага, карычневага, зеленаватага колеру; выкарыстоўваецца як электраізаляцыйны матэрыял.

**ФЛАГ-АФІЦЭ́Р** (ад *флаг* + *афіцэр*) — афіцэр у штабе камандуючага буйным злучэннем ваенных караблёў, які выконвае абавязкі *ад'ютанта* і загадвае сігнальнай справай на флагманскім караблі.

**ФЛАГЕЛА́НТЫ** (лац. flagellans, -ntis = які бічуецца) — рэлігійныя аскеты-фанатыкі, якія ў 13 — 15 ст. прапаведавалі самабічаванне як сродак выкуплення ад грахоў і разглядаліся як рух, варожы каталіцкай царкве.

**ФЛАГЕЛА́ТЫ** (лац. flagellatus = забяспечаны бічом) — аднаклетачныя і каланіяльныя арганізмы, што маюць жгуцікі, пры дапамозе якіх рухаюцца; жывуць у вадзе або паразітуюць у арганізме чалавека і жывёл; жгуцікавыя.

**ФЛАГІСТО́Н** (ад гр. phlogistos = гаручы) — бязважкая вадкасць асобага роду, якая, паводле ўяўленняў хімікаў 18 ст., нібыта змяшчаецца ва ўсіх здольных гарэць рэчывах.

**ФЛАГ-КАПІТА́Н** (ад *флаг* + *капітан*) — начальнік штаба камандуючага буйным злучэннем ваенных караблёў.

**ФЛА́ГМАН** (ням. Flaggmann, гал. vlagman) — 1) камандуючы буйным злучэннем ваенных караблёў (атрадам ці эскадрай); 2) карабель, на якім знаходзіцца камандуючы; самы буйны карабель *флатыліі*.

**ФЛАГШТО́К** (ням. Flaggenstock, гал. vlagstok) — шост для пад'ёму *флага*.

**ФЛАЖАЛЕ́Т** (фр. flageolet) — 1) старадаўні драўляны духавы музычны інструмент, падобны да *флейты*; 2) гук, які атрымліваецца на струнных музычных інструментах ад лёгкага дотыку пальцам да некаторых пунктаў струны.

**ФЛАКО́Н** (фр. flacon) — невялікая бутэлечка, пераважна для духоў, адэкалону.

**ФЛАКУЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. flacculus = жмуток) — з'яўленне вялікіх скапленняў часцінак у працэсе *каагуляцыі* асадкаў.

**ФЛАМА́СТЭР** (англ. flowmaster) — карандаш, у якім пішучым элементам з'яўляецца порысты стрыжань, насычаны фарбавальнікам.

**ФЛАМЕ́НКА** (ісп. flamenco = *літар*, фламандзец; цыган) — жвавы рытмічны танец іспанскіх цыганоў, а таксама музыка да гэтага танца.

**ФЛАМІ́НГА** (парт. flamingo, ад лац. flamma = полымя) — трапічная і субтрапічная вадзяная птуш-

ка з бледна-ружовым апярэннем, доўгай шыяй і высокімі нагамі.

**ФЛАМІ́НЫ** (лац. flamines = *літар.* падпальшчыкі агню) — жрацы храмаў розных багоў у Стараж. Рыме (напр. ф. Марса, Юпітэра).

**ФЛАМУЛІ́НА** (н.-лац. flammulina) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на глебе ў лясах; зімовы грыб.

**ФЛАНГ** (фр. flanc) — 1) правы ці левы край рада, строю, фронту ў размяшчэнні і пастраенні войск; 2) правая або левая старана шахматнай дошкі (напр. каралеўскі ф., ферзевы ф.).

**ФЛАНДР** (фр. Flandre = Фландрыя) — парода трусоў мясашкуркавай накіраванасці, выведзеная ў Бельгіі.

**ФЛАНЕ́ЛЬ** (фр. flanelle) — мяккая баваўняная або шарсцяная тканіна палатнянага перапляцення, звычайна з пушыстым рэдкім ворсам.

**ФЛА́НЕЦ** (ням. Flansch) — злучальная частка трубаправодаў, валоў у выглядзе дыска з адтулінамі для балтоў.

**ФЛАНЁР** (фр. flaneur) — той, хто прагульваецца без мэты, бяздзейнічае.

**ФЛАНІ́РАВАЦЬ** (ням. flanieren, ад фр. flaner) — прагульвацца, хадзіць без мэты, бяздзейнічаць.

**ФЛАНК** (фр. flanc) — бакавы ўчастак палявога або крапаснога ўмацавання, прызначаны для прыкрыцця яго з бакоў і для падоўжнага абстрэлу подступаў да суседніх умацаванняў.

**ФЛАНКЁР** (фр. flanqueur) — дазорны ў складзе бакавой або галоўнай аховы ў *кавалерыі* 18 — 19 ст.

**ФЛАНКІ́РАВАЦЬ** (фр. flanquer) — 1) весці агонь уздоўж лініі фронту ў фланг баявых парадкаў праціўніка, што рухаецца; 2) прыкрываць подступы да баявой пазіцыі з *флангаў*; 3) *уст.* выконваць баявыя прыёмы пікай, седзячы на кані; 4) знаходзіцца, размяшчацца па баках чаго-н.

**ФЛАРАГРА́ФІЯ** (ад *флора* + *-графія*) — раздзел *фларалогіі*, які займаецца апісаннем *таксонаў* рэгіянальных флор, складаннем фларыстычных зводак, гербарыяў.

**ФЛАРАЛО́ГІЯ** (ад *флора* + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае відавы склад флор, аналізуе яго, вызначае структуры флор, шляхі іх рацыянальнага выкарыстання і аховы.

**ФЛАРТЫ́МБЕРС** (англ. floortimber, ад floor = падлога + timber = бэлька) — ніжняя частка *шпангоута* на драўляным судне.

**ФЛАРЫДЗІ́Н** (ад англ. Florida = назва паўвострава ў ЗША) — гліна з прымессю вокісаў кальцыю, магнію, шчолачы; выкарыстоўваецца пры ачышчэнні нафтапрадуктаў і перапрацоўцы тлушчаў.

**ФЛАРЫ́ЗМ** (ад лац. flos, floris = кветка) — мастацтва камбінаванага засушвання раслін для стварэння карцін.

**ФЛАРЫ́СТ** (ад *флора*) — мастак, які стварае свае творы з засушаных раслін (галінак, кветак, моху).

**ФЛАРЫ́Н** (іт. florino, ад с.-лац. florenus) — 1) старадаўняя фларэнтыйская залатая або сярэбраная манета, прынятая пазней за ўзор у

многіх еўрапейскіх краінах; 2) грашовая адзінка Нідэрландаў, роўная 100 *цэнтам*; галандскі *гульдэн*.

**ФЛАРЫ́СТЫКА** (ад лац. flos, floris = кветка) — раздзел *батанікі*, які займаецца сістэматычным апісаннем усіх відаў раслін, што растуць у пэўнай краіне, вобласці, раёне і складаюць *флору* дадзенай тэрыторыі.

**ФЛАРЭА́ЛЬ** (фр. floreal, ад лац. floreus = багаты кветкамі) — восьмы месяц (з 20 — 21 красавіка па 19 — 20 мая) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793 — 1805 гг.

**ФЛАТ** (англ. flat) — друкарская папера ў лістах, а не ў рулонах.

**ФЛАТА́ЦЫЯ** (англ. flotation = *літар.* плаванне) — метад абагачэння карысных выкапняў, заснаваны на ўсплыванні здробненых частак выкапня, у той час калі пустая парода асядае на дне абагачальнага прыстасавання.

**ФЛАТЫ́ЛІЯ** (фр. flottille) — 1) злучэнне ваенных суднаў, прызначаных для дзеянняў на рэках, азёрах, у прыбярэжнай паласе мора; 2) атрад караблёў спецыяльнага прызначэння (напр. кітабойная ф.).

**ФЛА́ТЭР** (англ. flutter) — небяспечныя *вібрацыі* крыла або хваставога апярэння самалёта, што ўзнікаюць у час палёту і прыводзяць да разбурэння самалёта.

**ФЛАЭ́МА** (ад гр. phloios = кара, лыка) — сукупнасць раслінных тканак, па якіх перадаюцца арганічныя рэчывы ад лістоў да каранёў; луб.

**ФЛЕБАГРА́МА** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *-грама*) — крывая запісу пульсавых ваганняў вен у чалавека і жывёл.

**ФЛЕБАГРА́ФІЯ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *-графія*) — метад рэнтгенаграфічнага даследавання вен.

**ФЛЕБАЛІ́Т** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *-літ*) — венозны камень, які ўтвараецца пры *тромбафлебіце* ў выніку прарастання *тромба* злучальнай тканкай і адкладання ў ім солей вапняку.

**ФЛЕБАЛО́ГІЯ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які займаецца вывучэннем хвароб *вен* і іх лячэннем.

**ФЛЕБАСФІГМАГРА́ФІЯ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *сфігмаграфія*) — метад рэгістрацыі ваганняў венознай сценкі пры дапамозе *флебасфігмографа*.

**ФЛЕБАСФІГМО́ГРАФ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *сфігмограф*) — прыбор для рэгістрацыі ваганняў венознай сценкі.

**ФЛЕБАТАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + *тон* + *-метрыя*) — вымярэнне ўнутрывеннага ціску.

**ФЛЕБАТО́МУСЫ** (ад гр. phleps, -ebos = жыла + tomos = уедлівы) — тое, што і *маскіты*.

**ФЛЕБІ́Т** (ад гр. phleps, -ebos = жыла) — запаленне *вены*.

**ФЛЕ́БІЯ** (н.-лац. phlebia) — губавы *базідыяльны* грыб сям. карцыевых, які расце ў лясах на ствалах і галінках дрэў, на апрацаванай драўніне будынкаў.

**ФЛЕ́ГМА** (фр. phlegma = вадкасць, макрота) — 1) *уст.* слізь, макрота; 2) незвычайны спакой, абыякавасць да ўсяго; 3) густая

маса, якая застаецца пасля фракцыйнай перагонкі вадкай сумесі.

**ФЛЕГМАТЫ́ЗМ** (ад *флегма*) — незвычайны спакой, амаль поўная абыякавасць да ўсяго, вяласць.

**ФЛЕГМА́ТЫК** (гр. phlegmatikos = запаленчы) — чалавек з ураўнаважаным, але інертным тыпам вышэйшай нервовай дзейнасці.

**ФЛЕГМАТЫ́ЧНЫ** (гр. phlegmatikos = запаленчы) — 1) які характарызуецца марудлівасцю, спакоем, ураўнаважанасцю, слабым праяўленнем эмоцый (напр. ф. тэмперамент); 2) вялы, з павольнай успрымальнасцю і слабай актыўнасцю (напр. ф. чалавек).

**ФЛЕГМО́НА** (гр. phlegmone = запаленне) — гнойнае запаленне падскурнай міжмышачнай клятчаткі.

**ФЛЕ́ЙТА** (ням. Flöte, ад praванс. flaut) — драўляны духавы музычны інструмент высокага *рэгістра* ў выглядзе цыліндрычнай трубкі з адтулінамі і клапанамі.

**ФЛЕЙТЫ́СТ** (ад *флейта*) — музыкант, які іграе на флейце.

**ФЛЕЙЦ** (ням. Flöz = слой, пласт) — плоскі шырокі *пэндзаль* з мяккага воласу, якім у жывапісе і малярнай справе згладжваюць свежапафарбаваную паверхню.

**ФЛЕКСАГРА́ФІЯ** (ад лац. flexus = выгнуты + *-графія*) — спосаб ратацыйнага высокага друку з выкарыстаннем эластычных гумовых друкарскіх форм і сінтэтычных хуткавысыхальных фарбаў.

**ФЛЕ́КСАР** (н.-лац. flexor, ад лац. flexo = выгінаю) — *анат.* мышца, якая згінае сустаў.

**ФЛЕКСАТО́Н** (ням. Flexaton, ад лац. flexio = выгіб + гр. tonos = павышэнне голасу) — ударны музычны інструмент, які складаецца са стальной гібкай пласцінкі і двух шарыкаў на гібкіх ножках, прымацаваных да аднаго канца гэтай пласцінкі.

**ФЛЕ́КСІЯ** (лац. flexio = згінанне, выгіб) — 1) *фізіял.* згібанне, напр. канечнасці, тулава і г. д. (проціл. *экстэнзія*); 2) *лінгв.* канчатак.

**ФЛЕКСУ́РА** (лац. flexura = выгіб, крывізна) — 1) ступенепадобны выгіб слаёў горных парод у выніку дэфармацыі зямной кары; 2) *мед.* крывізна кішкі.

**ФЛЕЦ** (ням. Flöz) — гарызантальны пласт карыснай горнай пароды.

**ФЛЕШ** (фр. flèche) — старадаўняе палявое ўмацаванне (роў, акоп) у выглядзе павернутага да праціўніка тупога вугла (параўн. *рэдан* 1).

**ФЛЕЯГЕ́НА** (н.-лац. phleogena) — *базідыяльны* грыб сям. флеягенавых, які развіваецца на адмерлай кары лісцевых, рэдка хвойных дрэў.

**ФЛЁКС** (н.-лац. phlox, ад гр. phloks = полымя) — травяністая расліна сям. сінюхавых з яркімі пахучымі кветкамі розных колераў у буйным суквецці, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФЛЁР** (ням. Flor) — 1) тонкая, празрыстая, пераважна шаўковая тканіна; 2) *перан.* напаўпразрыстае покрыва, заслона, смуга.

**ФЛЁРДАРА́НЖ** (фр. fleur d'oranger = апельсінавы колер) — белыя

кветкі памяранцавага дрэва або штучныя кветкі такога ж выгляду, якімі прыбіраюць маладую да шлюбу.

**ФЛІБУСЦЬЕ́РЫ** (фр. flibustiers, ад гал. vrijbuiter = пірат) — 1) марскія разбойнікі ў 17 — 18 ст., якія выкарыстоўваліся Англіяй і Францыяй у барацьбе з Іспаніяй за калоніі; 2) наогул *піраты*, марскія разбойнікі, кантрабандысты.

**ФЛІ́ГЕЛЬ** (ням. Flügel = крыло) — жылая прыбудова пры галоўным будынку, а таксама невялікі дом на двары вялікага будынка.

**ФЛІ́ГЕЛЬ-АД'ЮТА́НТ** (ням. Flügeladjutant) — афіцэр у свіце цара, які выконваў абавязкі *ад'ютанта*, або афіцэр для даручэнняў пры камандуючым арміяй у царскай Расіі.

**ФЛІ́КЕР-ЭФЕ́КТ** (ад англ. flicker = мігцець + *эфект*) — *фіз.* нераўнамернае ў часе выпусканне электронаў нагрэтай металічнай паверхняй у сувязі з траплябнем на яе пабочных атамаў.

**ФЛІКТЭ́НА** (гр. phlyktaina = прышч) — пухірок на скуры з мутным змесцівам, характэрны для *стрэптадэрміі*.

**ФЛІ́КЦІС** (н.-лац. phlyctis) — накіпны лішайнік сям. флікцісавых, пашыраны пераважна ў абласцях з цёплым кліматам на кары дрэў.

**ФЛІНТГЛА́С** (англ. flintglass, ад flint = крэмень + glass = шкло) — гатунак аптычнага шкла з высокім паказчыкам праламлення.

**ФЛІРТ** (англ. flirt) — какецтва, лёгкае заляцанне.

**ФЛІШ** (ням. Flysch, ад fliessen = цячы) — серыя марскіх адкладаў, якая характарызуецца рытмічным чаргаваннем слаёў некалькіх разнавіднасцей асадачных горных парод.

**ФЛО́КЕНЫ** (ням. Flocken) — дэфекты ўнутранай будовы сталі ў выглядзе тонкіх звілістых трэшчын.

**ФЛО́КУЛЫ** (лац. flocculus = жмуток) — светлыя і цёмныя плямы, якія заўважаюцца на Сонцы ў монахраматычным святле пэўнай даўжыні хвалі, напр. у праменях кальцыю і вадароду.

**ФЛОР** (англ. floor) — папярочная бэлька на дне судна, да канцоў якой мацуюцца *шпангоуты*.

**ФЛО́РА** (н.-лац. flora, ад лац. Flora = імя багіні кветак і вясны ў старажытнарымскай міфалогіі) — 1) сукупнасць усіх відаў раслін якой-н. мясцовасці ці якога-н. геалагічнага перыяду; 2) сукупнасць бактэрыяльных відаў, што насяляюць кішэчнік.

**ФЛОРАГЕНЕ́ТЫКА** (ад *флора* + *генетыка*) — раздзел *батанікі* і *фларалогіі*, які вывучае гісторыю і сучаснае развіццё флор зямнога шара ў сувязі з эвалюцыяй раслін той або іншай флоры ў пэўных геагістарычных умовах.

**ФЛОРАГЛЮЦЫ́Н** (ад гр. chloros = жоўта-зялёны + glykys = салодкі) — арганічнае злучэнне, трохатамны *фенол*, бясколернае або жаўтаватае крышталічнае рэчыва.

**ФЛОРЫМІЦЫ́Н** (ад. гр. chloros = жоўта-зялёны + *-міцын*) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які

ўжываецца як проціtуберкулёзны сродак.

**ФЛОТ** (фр. flotte, гал. vloot) — 1) сукупнасць суднаў па тыпу, прыналежнасці, раёну плавання (напр. парусны ф., ваенна-марскі ф., прамысловы ф., гандлёвы ф.); 2) тое, што і *авіяцыя* 2.

**ФЛУ́ЕР** (рум. fluier) — духавы музычны інструмент тыпу *флейты*, пашыраны ў Малдове і балканскіх краінах.

**ФЛЮАРАГРА́ФІЯ** [ад *флюар(эсцэнцыя)* + *-графія*] — метад *рэнтгенадыягностыкі*, які заключаецца ў фатаграфаванні рэнтгенаўскага адлюстравання органаў чалавечага цела з флюарэсцыруючага экрана на плёнку.

**ФЛЮАРАСКО́П** [ад *флюар(эсцэнцыя)* + *-скоп*] — просты прыбор для назірання *люмінесцэнцыі*, выкарыстоўваецца ў розных галінах тэхнікі і ў медыцыне.

**ФЛЮАРО́З** (ад лац. fluorum = фтор) — хранічная хвароба зубоў і касцявой сістэмы, якая выклікаецца залішнім ужываннем *фтору* з вадой і харчовымі прадуктамі.

**ФЛЮАРО́МЕТР** [ад *флюар(эсцэнцыя)* + *-метр*] — 1) прыбор для вымярэння працягласці флюарэсцэнцыі; 2) прыстасаванне для вызначэння інтэнсіўнасці *люмінесцэнцыі*.

**ФЛЮАРЫ́Т** (ад лац. fluor = цячэнне) — мінерал класа *фтарыдаў* жоўтага, фіялетавага, зялёнага колеру, часам бясколерны, празрысты; выкарыстоўваецца ў металургіі, хімічнай, аптычнай і керамічнай прамысловасці.

**ФЛЮАРЭСЦЭ́НЦЫЯ** (ад лац. fluor = цячэнне + -escentia = суфікс, які абазначае слабае дзеянне) — свячэнне некаторых рэчываў пасля таго, як асвятляльныя прамяні спыняюць дзеянне; адна з разнавіднасцей *люмінесцэнцыі*.

**ФЛЮВІЯГЛЯЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. fluvius = рэчка + glacialis = ледзяны) — выкліканы дзеяннем талых ледніковых водаў (напр. ф-ыя адклады).

**ФЛЮГЕЛЬГО́РН** (ням. Flügelhorn, ад Flügel = крыло + Horn = рог) — духавы музычны інструмент.

**ФЛЮ́ГЕР** (ням. Flügel = крыло) — 1) рухомы прыбор, які ўказвае на кірунак ветру; 2) *перан.* непастаянны чалавек, які хутка мяняе свае погляды і перакананні.

**ФЛЮІ́Д** (лац. fluidus = цякучы) — 1) вадкасць, якая выцякае з магматычнага ачага; 2) гіпатэтычная вадкасць, якой да 18 ст. тлумачылі з'явы цеплыні, магнетызму, электрычнасці; 3) паводле ўяўленняў спірытаў, «псіхічны ток», які нібыта вылучаецца чалавекам.

**ФЛЮКТУА́ЦЫЯ** (лац. fluctuatio = ваганне) — 1) самаадвольнае, выпадковае адхіленне якой-н. велічыні (фізічнай, біялагічнай, сацыяльна-эканамічнай і інш.) ад яе сярэдняга значэння; 2) пераліванне вадкасці, якая сабралася ў якой-н. поласці і адчуваецца пры абмацванні.

**ФЛЮКТУІ́РАВАЦЬ** (лац. fluctuari = вагацца) — 1) дапускаць самаадвольныя выпадковыя адхіленні ад сярэдняга значэння якой-н. велічыні; 2) пералівацца (пра вад-

касць, што сабралася ў якой-н. поласці).

**ФЛЮС**[1] (ням. Fluss) — нарыў пад надкосніцай, выкліканы хворым зубам, у сувязі з чым падпухае шчака.

**ФЛЮС**[2] (ням. Flüsse) — 1) рэчыва, якое дабаўляецца да руды пры плаўцы для аддзялення шлаку ад металу; 2) рэчыва, якое выкарыстоўваецца пры зварцы для ачысткі паверхні металу ад вокіслаў; 3) рэчыва, якім запаўняюцца поры гліняных і фарфоравых вырабаў пры абпальванні для надання ім трываласці.

**ФЛЮ́ТБЕТ** (ням. Flutbett, ад Flut = паток + Bett = пасцель, ложа) — штучная падводная аснова грэбляў і іншых гідратэхнічных збудаванняў.

**ФЛЯ́ЕР** (англ. flier) — конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на кароткіх дыстанцыях (параўн. *стаер* 2).

**ФЛЯ́КІ** (польск. flaki, ад ням. Fleck = кавалак чаго-н.) — 1) кішкі, вантробы, трыбухі жывёлы; 2) страва, прыгатаваная з кішак, рубца і інш.

**ФЛЯНС** (ням. Pflanze) — 1) калíва расады; 2) бакавы парастак, пасынак.

**ФЛЯНСАВА́ЦЬ** (ням. pflanzen) — садзіць, рассаджваць *флянсы*; 2) абломваць непатрэбныя бакавыя парасткі.

**ФОБ** (англ. fob, ад free on board = свабодна на борце) —знешнегандлёвы дагавор, звязаны з марской перавозкай тавараў, калі прадавец абавязаны за ўласны кошт даставіць груз на судна, пасля чаго ўсе затраты пераносяцца на пакупніка (гл. таксама *сіф*).

**-ФОБ** (гр. phobos = страх) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «ненавіснік», «праціўнік».

**ФО́БІЯ** (гр. phobos = страх) — неадчэпны, назойлівы страх пры некаторых псіхічных захворваннях.

**-ФОБІЯ** (гр. phobos = страх) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «нецярпімасць», «боязь».

**ФОГТ** (ням. Vogt, ад п.-лац. vocatus = абаронца) — службовая асоба ў сярэдневяковай Зах. Еўропе, якая загадвала пэўнай адміністрацыйнай акругай; суддзя ў манастырскай вотчыне.

**ФОК** (гал. fok) — *мар.* ніжні прамы парус на пярэдняй мачце судна або трохвугольны парус на судне з адной мачтай.

**ФОК-МА́ЧТА** (гал. fok-mast) — *мар.* пярэдняя мачта ў насавой частцы судна.

**ФОК-РЭ́Я** (гал. fok-ra) — *мар.* ніжняя *рэя* на *фок-мачце*.

**ФОКСТЭР'Е́Р** (англ. fox-terrier, ад fox = ліса + terrier = тэр'ер) — парода паляўнічых сабак групы *тэр'ераў*, якая выкарыстоўваецца для палявання ў норах на лісіц, барсукоў і іншых невялікіх звяроў.

**ФО́КУС**[1] (лац. focus = ачаг) — 1) пункт, дзе сыходзяцца адбітыя ад выпуклага або ўвагнутага люстра ці пераломленыя лінзай прамяні; 2) пастаянны пункт, які мае асаблівыя ўласцівасці ў адносінах да любога пункта на крывой; 3) ачаг хваробнага працэсу ў арганізме; 4)

*перан.* цэнтр якіх-н. з'яў, уласцівасцей, падзей.

**ФО́КУС**[2] (ад ням. Hokuspokus) — 1) лоўкі прыём, заснаваны на малавядомых гледачам фізічных ці хімічных з'явах або проста на спрытнасці рук; 2) складанасць, сакрэт чаго-н.; 3) *перан. мн.* хітрасці, выдумкі; капрызы, прычуды.

**ФОЛ** (англ. foul = несумленны) — грубы, недазволены прыём у спартыўнай гульні.

**ФО́ЛДЭР** (ад англ. fold = складка) — 1) няспытая кніжачка, буклет, брашура, часцей за ўсё рэкламная; 2) фальцавальная машына (гл. *фальцаваць* 1).

**ФО́ЛІЕВЫ** (ад англ. folium = ліст); ф-а к і с л а т а — водарастваральны *вітамін*, які ў якасці *кафермента* ўдзельнічае ў рэакцыях сінтэзу азоцістых злучэнняў, у працэсе кроваўтварэння.

**ФО́ЛІО** [ад лац. (in)folio = у аркуш] — 1) кніга або часопіс памерам у *аркуш* або палову аркуша; 2) правая і левая старонкі ў рахунковай кнізе, што маюць адзін і той жа парадкавы нумар.

**ФО́ЛІС** (лац. follis = грашовы мяшок) — манета краін Еўропы ў старажытнасці і сярэднія вякі.

**ФО́ЛЬГА** (польск. folga, ад лац. folium = ліст) — 1) вельмі тонкі металічны ліст (з волава, свінцу, алюмінію, бронзы) для вырабу *кандэнсатараў, электродаў*, а таксама для ўпакоўкі харчовых прадуктаў; 2) тонкая папера, пакрытая металічным парашком, якая ўжываецца для ціснення пераплётаў.

**ФО́ЛЬКЕТЫНГ** (дацк. folketing) — ніжняя палата парламента (*рыгсдага*) у Даніі да 1953 г. (верхняя *ландстынг*); з 1953 г. — аднапалатны парламент у Даніі.

**ФО́ЛЬКЛАНД** (англ. folkland = народная зямля) — асноўная форма абшчыннага землеўладання ў сярэдневяковай Англіі.

**ФО́ЛЬКСШТУРМ** (ням. Volkssturm) — тэрарыстычнае апалчэнне, створанае ў фашысцкай Германіі ў 1944 г. на базе татальнай мабілізацыі ўсіх мужчын ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў.

**ФО́МА** (н.-лац. phoma) — недасканалы грыб сям. сфероідных, які развіваецца ў глебе, на адмерлым лісці і гнілойігліцы, у вадаёмах.

**ФО́МЕС** (н.-лац. fomes) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на аслабленых дрэвах, сухастоі, ламаччы і пнях лісцевых парод у лясах і парках.

**ФОН**[1] (фр. fond, ад лац. fundus = аснова) — 1) асноўны колер карціны; 2) задні план карціны, які садзейнічае вылучэнню асноўных частак адлюстравання; 3) *перан.* агульная аснова, на якой хто-н. або што-н. вылучаецца; 4) пабочны шум, трэск, якім часам суправаджаецца радыёперадача, дэманстрацыя кінафільма і інш.

**ФОН**[2] (гр. phone = гук) — адзінка гучнасці; для чыстага *тона* супадае з *дэцыбелам*.

**-ФОН** (гр. phone = гук) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «гук».

**ФОНА-, ФАНА-** (гр. phone = гук) — першая састаўная частка

складаных слоў, якая адпавядае паняццю «гук».

**ФОНАКАРДЫЯГРА́МА** (ад *фона-* + *кардыяграма*) — графічная рэгістрацыя гукавых з'яў, выкліканых дзейнасцю сэрца.

**ФОНАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *фона-* + *кардыяграфія*) — метад даследавання сардэчна-сасудзістай сістэмы, які заключаецца ў графічнай рэгістрацыі гукавых з'яў, выкліканых дзейнасцю сэрца.

**ФОНАМЕТРЫ́Я** (ад *фона-* + *-метрыя*) — вымярэнне сілы гуку або шуму.

**ФОНАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *фона-* + *рэцэптары*) — спецыялізаваныя клеткі, якія ажыццяўляюць ператварэнне механічнай энергіі гукавых ваганняў у біяэлектрычны патэнцыял і забяспечваюць успрыняцце жывёламі і чалавекам гукавых сігналаў.

**ФОНАСТЭНІ́Я** (ад *фона-* + *астэнія*) — разлад голасу, які выяўляецца ў яго ахрыпласці або поўнай адсутнасці.

**ФОНД** (фр. fond, ад лац. fundus = аснова) — 1) рэсурсы, запасы, рэзервы чаго-н. (напр. зямельны ф., насенны ф., жыллёвы ф.); 2) грашовыя сродкі, прызначаныя для якой-н. мэты (напр. ф. заработнай платы, ф. матэрыяльнага заахвочвання); 3) каштоўныя паперы, якія даюць прыбытак у выглядзе вызначанага працэнта; 4) сховішча рукапісаў, гістарычных дакументаў, старадрукаў; 5) арганізацыя для аказання матэрыяльнай дапамогі творчым работнікам (напр. літаратурны ф.).

**ФО́НІКА** (гр. phonikos = які гучыць) — гукавая арганізацыя паэтычнай мовы; сродкі, якія надаюць вершаванай мове мілагучнасць, узмацняюць яе эмацыянальнасць і выразнасць.

**-ФОНІЯ** гл. *-фанія*.

**ФОНІЯТРЫ́Я** (ад гр. phone = гук + *-ятрыя*) — раздзел *отарыналарынгалогіі*, які вывучае фізіялогію і паталогію галасавога апарату чалавека.

**-ФОР** (гр. phoros = які нясе) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які нясе».

**ФО́РА** (іт. fora = наперад) — 1) выгук усхвалення ў італьянскім тэатры, якім просяць выканаўцу паўтарыць нумар праграмы; тое, што і *біс*; 2) перавага, ільгота, якая даецца больш слабаму ўдзельніку спаборніцтваў; д а ц ь ф о р у — пераўзысці, апярэдзіць каго-н. у чым-н.

**ФОРАМІНІФЕ́РЫ** (н.-лац. foraminifera, ад лац. foramen, -minis = дзірка, адтуліна + fero = няcу) — атрад прасцейшых жывёл падкласа караняножак; уключае каля 20 тысяч марскіх сучасных і выкапнёвых відаў.

**ФО́РВАРД** (англ. forward = *літар.* пярэдні) — ігрок нападзення ў футболе, хакеі; нападаючы.

**ФО́РГЕШЫХТЭ** (ням. Vorgeschichte = перадгісторыя) — цэласнае адлюстраванне падзей, чалавечых лёсаў, што склаліся да завязкі, у літаратурным творы.

**ФОРД** [ад англ. H. Ford = прозвішча амер. аўтамабільнага прамыслоўца (1863 — 1947)] — марка легкавых і грузавых аўтамабіляў, якія выпускаюць заводы амерыканскай фірмы «Форд».

**ФОРДЭВІ́НД** (гал. voordewind) — 1) курс паруснага судна, які супадае з напрамкам ветру; 2) паварот паруснага судна носам па ветры; 3) спадарожны вецер, што дзьме ў карму.

**ФО́РДЭК** (ням. Vordeck) — складны пад'ёмны верх у *экіпажы*.

**ФО́РЗАЦ** (ням. Vorsatz) — падвойны ліст шчыльнай паперы, які злучае вокладку і кніжны блок.

**ФОР'ІНЖЭ́КТАР** (ад ням. vor = спераду, перад + *інжэктар*) — прыбор для папярэдняга паскарэння элементарных часціц перад упусканнем іх у камеру асноўнага паскаральніка.

**ФО́РМА** (лац. forma) — 1) знешні выгляд, абрыс прадмета; 2) *філас.* знешняе выражэнне якога-н. зместу; 3) узор, паводле якога робяцца якія-н. прадметы; прыстасаванне для надання прадметам пэўных знешніх рыс; 4) устаноўлены спосаб, парадак правядзення чаго-н.; 5) аднастайнае адзенне для асоб пэўных катэгорый (напр. школьная ф., ваенная ф.); 6) выгляд, будова, структура чаго-н., абумоўленая зместам; 7) знешні бок мастацкага твора, сістэма мастацкіх сродкаў і прыёмаў; 8) *лінгв.* сродак выражэння граматычных катэгорый; 9) *мат.* аднародны мнагачлен ад некалькіх пераменных; 10) *паліг.* друкарскі набор, заключаны ў раму, а таксама паверхня з рэльефным адбіткам, прызначаная для друкавання.

**ФО́РМУЛА** (лац. formula = форма, правіла, палажэнне) — 1) дакладнае вызначэнне якога-н. правіла, закона, палажэння; 2) *мат.* рад велічынь, выражаных лічбамі і літарамі і злучаных матэматычнымі знакамі; 3) скарочанае абазначэнне саставу якога-н. хімічнага злучэння пры дапамозе літар і лічбаў (напр. ф. вады, ф. сульфату натрыю).

**ФО́РПІК** (англ. forepeak, гал. voorpiek) — насавы адсек на караблі, размешчаны непасрэдна каля *фарштэўня*.

**ФОРС** (польск. forsa, ад фр. force = сіла) — самахвальства, франтаватасць, імкненне здзівіць прысутных раскошай, манерамі і інш.

**ФО́РСІНГ** (англ. forcing, ад force = нагнятаць) — фарсіраваны бой у *боксе*, які характарызуецца безупыннымі атакамі.

**ФОРС-МАЖО́Р** (фр. force majeure = неадольная перашкода) — надзвычайныя абставіны, якія вымушаюць дзейнічаць інакш, чым меркавалася; акалічнасць, якую немагчыма прадухіліць або ліквідаваць.

**ФОРТ** (фр. fort, ад лац. fortis = моцны) — умацаванне доўгатэрміновага або часовага характару, якое з'яўляецца часткай крэпасці ці самастойным апорным пунктам, прызначаным для абароны.

**ФО́РТКА** (ст.-польск. fortka, forta < с.-в.-ням. pforte, ад лац. porta) — 1) невялікія дзверы ў варотах, агароджы; 2) створка дзвярэй, варот, акон; 3) шкляныя дзверцы ў акне для праветрывання памяшкання.

**ФО́РТЭ** (іт. forte) — *муз.* моцна, на поўную сілу гуку (проціл. *піяна*).

# Ф

**ФО́РТЭЛЬ, ФАРТЭ́ЛЬ** (польск. fortel, ад ням. Vorteil) — выхадка, выбрык.

**ФО́РУМ** (лац. forum = плошча) — 1) плошча ў Стараж. Рыме, дзе збіраўся народ, адбываліся сходы, суды і інш., а таксама народны сход, суд на гэтай плошчы; 2) масавы прадстаўнічы сход, з'езд; 3) *перан.* месца выступленняў, вялікіх сходаў.

**ФО́РХЕНД** (англ. forehand, ад fore = наперад + hand = рука) — удар у *тэнісе*, калі правая рука, якая трымае ракетку, звернута закрытай далонню ўперад.

**ФО́РЫНТ** (венг. forint) — грашовая адзінка Венгрыі, роўная 100 *філерам.*

**ФОСФАГЛЮКАМУТА́ЗА** (ад *фосфар* + гр. glykys = салодкі + лац. muto = змяняю) — *фермент*, які каталізуе рэакцыю міжмалекулярнага пераносу лішкаў фосфарнай кіслаты ў абмене вугляводаў.

**ФОСФАЛІПА́ЗЫ** (ад *фосфар* + *ліпазы*) — тое, што і *лецыніназы.*

**ФОСФАЛІПІ́ДЫ** (ад *фосфар* + гр. lipos = тлушч + eidos = выгляд) — тое, што і *фасфатыды.*

**ФОСФАПРАТЭІ́ДЫ** (ад *фосфар* + *пратэіды*) — складаныя бялкі, пры расшчапленні якіх разам з амінакіслотамі вызваляецца фосфарная кіслата.

**ФО́СФАР** (лац. phosphorus, ад гр. phosphoros = святланосны) — хімічны элемент, які існуе ў трох разнавіднасцях (белы, чырвоны, чорны ф.) і выконвае важную ролю ў жыццядзейнасці раслінных і жывёльных арганізмаў; выкарыстоўваецца ў запалкавай прамысловасці, металургіі, медыцыне, пры вырабе фосфарных угнаенняў і інш.

**ФОСФАРАБАКТЭРЫ́Н** (ад *фосфар* + *бактэрыі*) — бактэрыяльнае ўгнаенне, якое ўтрымлівае споры бактэрый, здольных пераводзіць арганічныя фосфарныя злучэнні глебы ў даступныя для раслін формы.

**ФОСФАРАСКО́П** [ад *фосфар(эсцэнцыя)* + *-скоп*] — прыбор для назірання фасфарэсцэнцыі.

**ФОСФАРЫЛА́ЗЫ** (ад *фосфар*) — *ферменты*, якія каталізуюць расшчапленні і зваротны сінтэз гліказідных сувязей асобных біялагічна важных злучэнняў (*глікагену, крухмалу* і інш.); выконваюць важную ролю ў вугляводным абмене.

**ФОТ** (гр. phos, -otos = святло) — адзінка вымярэння шчыльнасці светлавога патоку або ступені асветленасці якой-н. паверхні ў СГС сістэме адзінак, роўная асветленасці, якую ставарае светлавы паток у 1 *люмен*, раўнамерна размеркаваны па плошчы 1 см$^2$.

**ФО́ТА** [ад *фата(графія)*] — тое, што і *фатаграфія.*

**ФОТА-** (гр. phos, -otos = святло) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «які дзейнічае пры дапамозе святла», «заснаваны на дзеянні святла», «фатаграфічны».

**ФОТААБ'ЕКТЫ́Ў** (ад *фота-* + *аб'ектыў*) — аб'ектыў фатаграфічнага апарата.

**ФОТААПАРАТУ́РА** (ад *фота-* + *апаратура*) — прыстасаванні, апа-

раты, неабходныя для фатаграфавання.

**ФОТААТЭЛЬЕ́** (ад *фота-* + *атэлье*) — атэлье, дзе робяць па заказу фотаздымкі і фатаграфіі.

**ФОТААФСЕ́ТНЫ** (ад *фота-* + *афсет*) — выкананы друкарскай тэхнікай, у якой тэкст або ілюстрацыі перанесены на металічныя пласцінкі пры дапамозе *фатаграфіі*.

**ФОТАБАКТЭ́РЫІ** (ад *фота-* + *бактэрыі*) — бактэрыі, якія выдзяляюць рэчывы, што свецяцца пры злучэнні іх з кіслародам і служаць адной з прычын свячэння вады і рыб (гл. *біялюмінесцэнцыя*).

**ФОТАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *фота-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае ўздзеянне святла на жывыя арганізмы, уключаючы працэс *фотасінтэзу, фотатаксісу, фотатрапізму* і інш.

**ФОТАГАЗЕ́ТА** (ад *фота-* + *газета*) — газета, звычайна насценная, якая складаецца з фатаграфій і подпісаў да іх.

**ФОТАГЕЛІЁГРАФ** (ад *фота-* + *геліёграф*) — астранамічны інструмент для фатаграфавання Сонца.

**ФОТАГЕ́Н** (ад гр. phos, -otos = святло + *-ген*) — *уст.* мінеральнае масла, атрыманае перагонкай нафты, смалы, якое ўжывалася для асвятлення.

**ФОТАГЕНІ́ЧНЫ** (ад гр. phos, -otos = святло + genos = род, паходжанне) — выразны, які добра перадаецца на фотаздымку, кінаплёнцы (напр. ф. твар); параўн. *тэлегенічны*.

**ФОТАГРАВЮ́РА** (ад *фота-* + *гравюра*) — тое, што і *геліягравюра*.

**ФОТАГРАММЕ́ТРЫЯ** (ад гр. phos, -otos = святло + gramma = запіс + *-метрыя*) — вызначэнне формы, памераў і размяшчэння розных аб'ектаў у прасторы на аснове вымярэнняў іх фатаграфічных відарысаў, што атрыманы наземным шляхам або з лятальных апаратаў (гл. *аэрафотаграмметрыя*).

**ФОТАДАКУМЕ́НТ** (ад *фота-* + *дакумент*) — *фатаграфія*, якая адлюстроўвае рэальны факт і мае гістарычнае, юрыдычнае, навуковае значэнне.

**ФОТАДЫЁД** (ад *фота-* + *дыёд*) — двухэлектродны паўправадніковы прыбор, дзеянне якога грунтуецца на выкарыстанні *фотаэфекту*.

**ФОТАІАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *фота-* + *іанізацыя*) — іанізацыя газу, выкліканая электрамагнітным выпраменнем.

**ФОТАІЛЮСТРА́ЦЫЯ** (ад *фота-* + *ілюстрацыя*) — ілюстрацыя чаго-н. у выглядзе фатаграфічнага здымка.

**ФОТАІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *фота-* + *інфармацыя*) — інфармацыя, якая ажыццяўляецца сродкамі *фатаграфіі*, прадстаўленая ў фотаздымках.

**ФОТАКА́ДР** (ад *фота-* + *кадр*) — асобны здымак на фотаплёнцы.

**ФОТАКА́МЕРА** (ад *фота-* + *камера*) — 1) частка фотаапарата, якая з'яўляецца святлонепранікальнай каробкай з аб'ектывам: 2) тое, што і *фотаапарат*.

# Ф

**ФОТАКАРЭСПАНДЭ́НТ** (ад *фота- + карэспандэнт*) — *фатограф*, які робіць здымкі для якоган. перыядычнага выдання.

**ФОТАКАРЭСПАНДЭ́НЦЫЯ** (ад *фота- + карэспандэнцыя*) — карэспандэнцыя для часопіса або газеты ў выглядзе фатаграфічных здымкаў.

**ФОТАКАТО́Д** (ад *фота- + катод*) — катод фотаэлемента, які выпраменьвае электроны пад дзеяннем святла.

**ФОТАКЕРА́МІКА** (ад *фота- + кераміка*) — упрыгожанні на керамічных вырабах, нанесеныя спосабам *фатаграфіі*.

**ФОТАКО́ПІЯ** (ад *фота- + копія*) — копія дакумента, рукапісу, зробленая фатаграфічным спосабам.

**ФОТАКСІЛАГРА́ФІЯ** (ад *фота- + ксілаграфія*) — *гравюра* на дрэве, выкананая шляхам перанясення малюнка на паверхню дошкі фатаграфічным спосабам з далейшым гравіраваннем штрыхоў ад рукі.

**ФОТАЛАБАРАТО́РЫЯ** (ад *фота- + лабараторыя*) — лабараторыя, дзе робіцца апрацоўка фатаграфічных пласцінак, плёнак, фатаграфій.

**ФОТАЛІНАТЫ́П** (ад *фота- + лінатып*) — фотанаборная машына, пабудаваная як лінатып, у якой адліўны апарат заменены фатаграфічным устройствам.

**ФОТАЛІТАГРА́ФІЯ** (ад *фота- + літаграфія*) — літаграфія, заснаваная на выкарыстанні *фатаграфіі*.

**ФОТАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *фота- + люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя, якая ўзнікае пры асвятленні некаторых рэчываў (гл. *флюарэсцэнцыя, фосфарасцэнцыя*).

**ФОТАМАНТА́Ж** (ад *фота- + мантаж*) — мантаж фатаграфічных здымкаў, аб'яднаных агульнай тэмай.

**ФОТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *фота- + -метрыя*) — раздзел фізічнай *оптыкі*, які займаецца вымярэннем светлавых велічынь (асветленасці, яркасці, сілы святла, светлавога патоку) і энергетычных характарыстык электрамагнітнага выпучэння.

**ФОТАМЕХА́НІКА** (ад *фота- + механіка*) — сукупнасць спосабаў атрымання *рэпрадукцый* у паліграфіі з дапамогай фатаграфічных і хімічных працэсаў.

**ФОТАНА́СТЫЯ** (ад *фота- + настыі*) — рух органаў раслін, выкліканы зменай інтэнсіўнасці асвятлення (напр. раскрыванне або закрыванне вяночка кветак).

**ФОТАНІМО́ГРАФ** (ад *фота- +* гр. onyma = імя + *-граф*) — фотанаборная машына для набору асобных радкоў подпісаў, загалоўкаў, надпісаў на картах і інш.

**ФОТАО́ПТЫКА** (ад *фота- + оптыка*) — аптычныя прылады, якія выкарыстоўваюцца ў *фатаграфіі*.

**ФОТАПАНАРА́МА** (ад *фота- + панарама*) — *фатаграфія*, якая характарызуецца вялікім вуглом поля зроку ў гарызантальным напрамку.

**ФОТАПАНО́** (ад *фота- + пано*) — *фатаграфія* вялікіх памераў, якая мае дэкаратыўнае прызначэнне.

**ФОТАПЕРЫЯДЫ́ЗМ** (ад *фота-* + *перыяд*) — фізіялагічныя змяненні ў жывёл і раслін, звязаныя са зменай дня і ночы.

**ФОТАРЭАКТЫВА́ЦЫЯ** (ад *фота-* + фр. reactif = які процідзейнічае) — аслабленне шкоднага ўплыву ультрафіялетавых прамянёў пры дзеянні на арганізм бачнага святла.

**ФОТАРЭАКТЫ́Ў** (ад *фота-* + *рэактыў*) — рэчыва, якое выкарыстоўваецца для хімічнай апрацоўкі плёнкі і фотапаперы.

**ФОТАРЭАЛІ́ЗМ** (ад *фота-* + *рэалізм*) — тое, што і *гіперрэалізм*.

**ФОТАРЭЗІ́СТАР** (ад *фота-* + *рэзістар*) — паўправадніковы прыбор, праводнасць якога змяняецца ў залежнасці ад яго асветленасці.

**ФОТАРЭЛЕ́** (ад *фота-* + *рэле*) — рэле, якое дзейнічае пры дапамозе *фотаэлемента*.

**ФОТАРЭПАРТА́Ж** (ад *фота-* + *рэпартаж*) — рэпартаж у выглядзе фотаздымкаў.

**ФОТАРЭПАРЦЁР** (ад *фота-* + *рэпарцёр*) — фатограф, які займаецца *фотарэпартажам*.

**ФОТАРЭПРАДУ́КЦЫЯ** (ад *фота-* + *рэпрадукцыя*) — узноўлены фатаграфічным спосабам відарыс плоскаснага арыгінала (малюнка, чарцяжа і інш.).

**ФОТАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *фота-* + *рэцэптары*) — святлоўспрымальныя ўтварэнні (спецыяльныя клеткі, органы), здольныя паглынаць святло і выклікаць фотабіялагічныя працэсы ў арганізмах (*фотаперыядызм, фотатаксіс, фотатрапізм*, зрок і інш.).

**ФОТАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад *фота-* + *рэцэпцыя*) — успрыманне святла *фотарэцэптарамі*.

**ФОТАСЕНСІБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *фота-* + *сенсібілізацыя*) — наданне несвятлоадчувальным рэчывам здольнасці да фотахімічных пераўтварэнняў.

**ФОТАСЕ́ТЕР** (ад *фота-* + англ. setter = рэгулюючае прыстасаванне) — фотанаборная машына, пабудаваная як радкаадлівальная машына *інтэртып*.

**ФОТАСІ́НТЭЗ** (ад *фота-* + *сінтэз*) — працэс утварэння зялёнымі раслінамі арганічных рэчываў з вуглякіслага газу і вады пры дапамозе светлавой энергіі, якая паглынаецца хларафілам.

**ФОТАСКУЛЬПТУ́РА** (ад *фота-* + *скульптура*) — скульптура, выкананая паводле фатаграфічных здымкаў, якія паказваюць прадмет з розных бакоў.

**ФОТАСТА́Т** (ад *фота-* + *-стат*) — апарат для капіравання дакументаў, малюнкаў, чарцяжоў, тэкстаў фатаграфічным спосабам.

**ФОТАСФЕ́РА** (ад *фота-* + *сфера*) — ніжні слой сонечнай атмасферы, які ўтварае бачную паверхню Сонца.

**ФОТАСХЕ́МА** (ад *фота-* + *схема*) — група аэрафотаздымкаў, сумешчаных па агульных контурах і змантіраваных на агульнай аснове.

**ФОТАТА́КСІС** (ад *фота-* + *таксіс*) — рухальная рэакцыя раслінных і прасцейшых жывёльных арганізмаў у адказ на дзеянне святла (гл. таксама *геліятаксіс*).

# Ф

**ФОТАТАПАГРА́ФІЯ** (ад *фота-* + *тапаграфія*) — спосаб стварэння тапаграфічных карт на аснове апрацоўкі фотаздымкаў мясцовасці.

**ФОТАТРАНЗІ́СТАР** (ад *фота-* + *транзістар*) — паўправадніковы прыбор транзістарнага тыпу, заснаваны на выкарыстанні ўнутранага *фотаэфекта*.

**ФОТАТРАНСФАРМА́ТАР** (ад *фота-* + *трансфарматар*) — прыбор для атрымання фотаплана мясцовасці ў пэўным маштабе ў час аэрафотаздымкі.

**ФОТАТРАПІ́ЗМ** (ад *фота-* + *трапізмы*) — змена напрамку росту органаў раслін у адносінах да святла, якое падае з аднаго боку (гл. таксама *геліятрапізм*).

**ФОТАТРО́ФЫ** (ад *фота-* + *-трофы*) — тое, што і *аўтатрофы*.

**ФОТАТРЫЯНГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *фота-* + *трыянгуляцыя*) — метад вызначэння становішча апорных пунктаў шляхам вымярэння аэрафотаздымкаў на фотаграмметрычных прыборах.

**ФОТАТЫ́ПІЯ** (ад *фота-* + *-тыпія*) — 1) спосаб плоскага друку са шкляной або металічнай пласціны, на якой фатаграфічным шляхам нанесены тэкст; 2) адбітак, атрыманы такім спосабам.

**ФОТАТЫРЫ́СТАР** (ад *фота-* + *тырыстар*) — магутны тырыстар, пераход якога з аднаго ўстойлівага стану ў другі ажыццяўляецца ў выніку ўздзеяння на яго светлавога струменю.

**ФОТАТЭАДАЛІ́Т** (ад *фота-* + *тэадаліт*) — геадэзічны інструмент, прызначаны для фотаздымкі мясцовасці з мэтай складання планаў, профіляў.

**ФОТАТЭ́КА** (ад *фота-* + *-тэка*) — сістэматызаваны збор, архіў фатаграфій або фатаграфічных негатываў.

**ФОТАТЭЛЕГРА́МА** (ад *фота-* + *тэлеграма*) — тэлеграма, перададзеная фотатэлеграфам.

**ФОТАТЭЛЕГРА́Ф** (ад *фота-* + *тэлеграф*) — апарат, пры дапамозе якога перадаюць на адлегласць фатаграфіі і іншыя відарысы.

**ФОТАТЭЛЕГРА́ФІЯ** (ад *фота-* + *тэлеграфія*) — сістэма дакументальнай электрычнай сувязі, якая забяспечвае ўзнаўленне на адлегласці нерухомых адлюстраванняў (чарцяжоў, фатаграфій і інш.).

**ФОТАТЭРАПІ́Я** (ад *фота-* + *тэрапія*) — выкарыстанне з лячэбнай мэтай інфрачырвоных, бачных і ультрафіялетавых прамянёў; святлолячэнне.

**ФОТАФІ́ЛЫ** (ад *фота-* + *-філ*) — святлалюбныя жывёлы, актыўнасць якіх звязана з пэўнай ступенню асветленасці.

**ФОТАФІ́ЛЬМ** (ад *фота-* + *фільм*) — фільм, які складаецца з нерухомых кадраў-фатаграфій.

**ФОТАФІ́НІШ** (ад *фота-* + *фініш*) — прыбор, які складаецца з секундамераў і кіназдымачнага апарата, прызначаны для дакладнага вызначэння фінішу ўдзельнікаў спартыўных спаборніцтваў.

**ФОТАФО́БІЯ** (ад *фота-* + *-фобія*) — павышаная адчувальнасць вока да асвятлення; святлабоязь.

**ФОТАФО́БЫ** (ад *фота-* + *-фоб*) — ценялюбныя жывёлы (напр. глебавыя беспазваночныя).

**ФОТАФО́РЫ** (ад *фота-* + *-фор*) — органы свячэння (галоўным чынам у глыбакаводных жывёл).

**ФОТАХІ́МІЯ** (ад *фота-* + *хімія*) — раздзел хіміі, які вывучае хімічныя працэсы ў рэчывах пад уздзеяннем светлавой энергіі.

**ФОТАХРАМІ́ЗМ** (ад *фота-* + гр. chroma = колер) — здольнасць рэчыва абарачальна набываць або змяняць афарбоўку пад дзеяннем аптычнага выпрамянення.

**ФОТАХРО́МІЯ** (ад *фота-* + *-хромія*) — каляровая *фатаграфія*, якая перадае натуральную афарбоўку прадмета.

**ФОТАХРОНАМЕТРА́Ж** (ад *фота-* + *хронаметраж*) — адзін са спосабаў вывучэння затрат рабочага часу на выкананне асобных элементаў вытворчай аперацыі.

**ФОТАХРО́НІКА** (ад *фота-* + *хроніка*) — хроніка падзей, якая знайшла адлюстраванне ў фатаграфіях.

**ФОТАЦЫНКАГРА́ФІЯ** (ад *фота-* + *цынкаграфія*) — фотамеханічны спосаб прыгатавання цынкавых *клішэ* для друку.

**ФОТАЭКСПАНО́МЕТР** (ад *фота-* + *экспанометр*) — тое, што і *экспанометр*.

**ФОТАЭЛЕКТРО́ННЫ** (ад *фота-* + *электрон*) — звязаны з працэсам пераўтварэння слабага святла ў электрычныя сігналы або імпульсы дастатковай велічыні (напр. ф-ыя прыборы).

**ФОТАЭЛЕКТРЫ́ЧНЫ** (ад *фота-* + *электрычны*) — звязаны з працэсам непасрэднага пераходу светлавой энергіі ў электрычную (напр. ф. эфект).

**ФОТАЭЛЕМЕ́НТ** (ад *фота-* + *элемент*) — прыбор, які пераўтварае светлавую энергію ў электрычную.

**ФОТАЭМІ́ТЭР** (ад *фота-* + лац. emittere = вылучаць) — тое, што і *фотакатод*.

**ФОТАЭМУ́ЛЬСІЯ** (ад *фота-* + *эмульсія*) — святлоадчувальны слой на фотаматэрыялах (фотапласцінках, плёнках, паперы).

**ФОТАЭФЕ́КТ** (ад *фота-* + *эфект*) — з'ява непасрэднага пераўтварэння светлавой энергіі ў электрычную.

**ФРА** (іт. fra, ад лац. frater = брат) — часціца, якая ўжываецца перад іменем каталіцкага манаха ў Італіі.

**ФРАГІЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. fragilaria) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая пашырана ў *бентасе, планктоне* прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмаў.

**ФРАГМАПЛА́СТ** (ад гр. phragmos = перагародка + *-пласт*) — унутрыклетачная пласцінка, зачатак клетачнай сценкі, які ўзнікае пры дзяленні клетак большасці раслін.

**ФРАГМЕ́НТ** (лац. fragmentum = абломак, кавалак) — частка твора мастацтва (карціны, скульптуры), урывак тэксту, музычнага твора.

**ФРАГМЕНТА́РНЫ** (ад *фрагмент*) — 1) які складаецца з фрагментаў, з'яўляецца фрагментам чаго-н.; 2) *перан.* адрывачны, няпоўны.

# Ф

**ФРАГМЕНТА́ЦЫЯ** (фр. fragmentation, ад лац. fragmentum = abломак, кавалак) — распаданне на дробныя часткі; ф. м і я к а р д а — шматкратны разрыў клетак сардэчнай мышцы; 2) разрыванне *храмасомы* або *храматыды* на часткі.

**ФРАГМІ́ДЫЙ** (н.-лац. phragmidium) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на раслінах сям. ружавых.

**ФРА́ЕР** (ням. Freier = жаніх) — *разм.* франтаваты, пусты чалавек.

**ФРА́ЗА** (гр. phrasis = выраз) — 1) інтанацыйна аформленае спалучэнне слоў, якое выказвае думку; 2) *перан.* напышлівы, беззместоўны выраз (пустая ф.); 3) невялікая і адносна закончаная частка мелодыі.

**ФРАЗЕАЛАГІ́ЗМ** (ад *фразеалогія*) — спалучэнне слоў, якое характарызуецца пастаянным лексічным складам, устойлівай граматычнай будовай і вядомым для носьбітаў дадзенай мовы значэннем, у большасці выпадкаў пераносна-вобразным (напр. «заварыць кашу», «лезці на ражон»); параўн. *ідыёма*.

**ФРАЗЕАЛО́ГІЯ** (ад гр. phrasis, -seos = выраз + *-логія*) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае ўстойлівыя моўныя звароты; 2) устойлівыя звароты ў якой-н. мове, у мове пісьменніка, асобнага твора.

**ФРАЗЁР** (фр. phraseur, ад гр. phrasis = выраз) — чалавек, які любіць гаварыць напышлівыя фразы.

**ФРАЗІ́РАВАЦЬ** (фр. phraser, ад гр. phrasis = выраз) — выдзяляць у вымаўленні або пры музычным выкананні выразныя месцы *фраз*.

**ФРАК** (фр. frac) — мужчынскі парадны вячэрні *сурдут* з выразанымі спераду поламі і вузкімі доўгімі фалдамі ззаду (напр. ф. дырыжора).

**ФРАКТУ́РА** (лац. fractura = надлом) — 1) *мед.* пералом; 2) адзін з відаў гатычнага *шрыфту*; 3) почырк гатычнага малюнка.

**ФРА́КЦЫЯ** (лац. fractio = разломванне) — 1) група членаў якой-н. партыі ў парламенце, грамадскай арганізацыі або адасобленая групоўка ўнутры палітычнай партыі; 2) частка сыпкага або кускавога цвёрдага рэчыва, выдзеленага дробнай перагонкай з вадкасці, раствору (напр. ф. нафты); 3) частка зярністага матэрыялу, выдзеленая пры сартаванні чаго-н. (напр. буйная ф. пяску); 4) састаўная частка глебы, пароды.

**ФРАКЦЫЯНІ́РАВАЦЬ** (фр. fractionner, ад лац. fractio = разломванне) — падвяргаць раздзяленню на *фракцыі* газ, вадкую сумесь і інш.

**ФРАМБЕ́ЗІЯ** (н.-лац. framboesia, ад фр. framboise = маліна) — хранічнае інфекцыйнае захворванне, якое характарызуецца паражэннямі скуры, касцей, суставаў; сустракаецца ў трапічных краінах.

**ФРАМУ́ГА** (польск. framuga < ням. Brandbogen, ад Brand = пажар + Bogen = лук) — верхняя створка акна або дзвярэй.

**ФРАНДЗЁР** (фр. frondeur) — 1) удзельнік *фронды*; 2) *перан.* той, хто *франдзіруе*, выказвае незадаволенасць чым-н.

**ФРАНДЗІБО́ЛА** (фр. frondibale) — сярэдневяковая кідальная машына, якая выкарыстоўвалася пры асадзе крэпасцей.

**ФРАНДЗІ́РАВАЦЬ** (фр. fronder) — выражаць незадаволенасць з-за жадання супярэчыць.

**ФРАНК** (фр. franc) — грашовая адзінка Францыі, Бельгіі, Швейцарыі і некаторых іншых краін, роўная 100 *сантымам*.

**ФРА́НКА** (іт. franco) — гандлёвае пагадненне, пры якім частка затрат на транспартаванне тавараў аплачваецца прадаўцом.

**ФРАНКАФІ́Л** (ад с.-лац. Francus = француз + *-філ*) — прыхільнік Францыі, французаў і ўсяго французскага.

**ФРАНКІ́РАВАЦЬ, ФРАНКАВА́ЦЬ** (іт. francare = вызваляць) — аплачваць наперад перавозку і даставку паштовых адпраўленняў, багажу, грузаў.

**ФРА́НКІЯ** (н.-лац. frankia) — *бактэрыі*, якія могуць жыць у *сімбіёзе* з вольхай, абляпіхай і іншымі раслінамі, на каранях якіх садзейнічаюць узнікненню клубеньчыкаў і спрыяюць фіксацыі малекулярнага азоту.

**ФРАНКЛІНІЗА́ЦЫЯ** (ад англ. W. Franklin = прозвішча амер. вучонага 18 ст.) — адзін з метадаў электралячэння.

**ФРАНКМАСО́Н** (фр. franc maçon = *літар.* вольны муляр) — тое, што і *масон*.

**ФРАНСЕ́Я** (н.-лац. franceia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ФРАНТ** (польск. frant < чэш. frant, ад František = імя ўласнае) — чалавек, які любіць модна прыбірацца; моднік.

**ФРАНТА́ЛЬНЫ** (фр. frontal, ад лац. frontalis) — 1) накіраваны ў бок фронту праціўніка (гл. *фронт* 2), лабавы (напр. ф. удар); 2) размешчаны ў пярэдняй частцы чаго-н. (напр. ф-ая сцяна); 3) звернуты тварам да гледача (у выяўленчым, тэатральным мастацтве); 4) *перан.* агульны, адначасовы для ўсіх (напр. ф-ае апытванне).

**ФРАНТО́ЛІЗ** (ад *фронт* + гр. lysis = распад) — размыванне атмасфернага фронту і яго паступовае знікненне.

**ФРАНТО́Н** (фр. fronton) — трохвугольная або цыркульная верхняя частка фасада будынка, абмежаваная схіламі даху па баках і карнізам знізу, а таксама ўпрыгожанне ў той жа форме над вокнамі або дзвярамі.

**ФРАНТЫСПІ́С** (с.-лац. frontispicium, ад лац. frons, -ntis = лоб + spicere = глядзець) — 1) малюнак, змешчаны перад першай старонкай кнігі або зверху старонкі перад пачаткам тэксту; 2) *архіт.* галоўны *фасад* будынка.

**ФРАНТЫ́Т** (ад лац. frons, -ntis = лоб) — запаленне (*сінуіт*) слізістай абалонкі лобнай пазухі.

**ФРАНЦІРО́Р** (фр. franc-tireur, ад franc = вольны + tireur = стралок) — французскі партызан.

**ФРА́НЦЫЙ** (н.-лац. francium, ад фр. France = Францыя) — радыеактыўны хімічны элемент, які належыць да шчолачных металаў.

# Ф

**ФРАНЦЫСКА́НЦЫ** (с.-лац. franciscani) — манахі каталіцкага жабрацкага *ордэна*, заснаванага ў пачатку 13 ст. у Італіі Францыскам Асізскім.

**ФРАНШЫ́ЗА** (фр. franchise = вольнасць, прывілей) — мяжа адхілення колькасці пастаўленага тавару ад адзначанай у дагаворы.

**ФРАПІ́РАВАЦЬ** (фр. frapper = *літар*. біць, ударацъ) — *уст*. непрыемна паражаць, здзіўляць.

**ФРАТО́ЛА** (іт. frottola) — даўняя італьянская шматгалосная песня пераважна любоўна-лірычнага характару.

**ФРА́ТРЫЯ** (гр. phratria) — падраздзяленне племені, якое з'яўлялася ў старажытных грэкаў сукупнасцю некалькіх родаў, што мелі агульнага родапачынальніка.

**ФРА́У** (ням. Frau = пані) — ветлівы зварот да замужняй жанчыны або форма ветлівага ўпамінання пра яе ў Германіі.

**ФРАУНГО́ФЕРАЎ** [ад ням. J. Fraunhofer = прозвішча ням. фізіка (1787 — 1826)]; ф - ы лініі — цёмныя лініі ў *спектры* Сонца, выкліканыя паглынаннем святла пэўных даўжынь хваляў атмасферай Сонца, а некаторых — атмасферай Зямлі.

**ФРАХТ** (ням. Fracht) — перавозка грузаў водным шляхам, а таксама груз, які перавозіцца, і плата за перавозку.

**ФРАХТАВА́ЦЬ** (ням. frachten) — наймаць судна для перавозкі грузаў.

**ФРА́ШКА** (польск. fraszka = дробязь, жарт) — польская вершаваная *мініяцюра* жартоўнага ці сатырычнага зместу, блізкая да *эпіграмы*.

**ФРО́НДА** (фр. fronde) — 1) грамадскі рух у Францыі сярэдзіны 17 ст. супраць *абсалютызму*; 2) *перан*. незадаволенасць чым-н.

**ФРОНТ** (фр. front, ад лац. frons, -nits = лоб) — 1) воінскі строй шарэнгай; 2) звернуты да праціўніка бок войск; 3) месца ваенных дзеянняў (у процілегласць тылу); 4) буйное вайсковае аб'яднанне пад кіраўніцтвам аднаго камандуючага; 5) аб'яднанне якіх-н. грамадскіх сіл для барацьбы за агульныя мэты (напр. народны ф.); 6) пэўная галіна гаспадарчай, грамадскай, культурнай і іншай дзейнасці (напр. культурны ф., працоўны ф.); 7) зона падзелу паміж рознымі паветранымі масамі ў атмасферы.

**ФРОНТАГЕНЕ́З** (ад *фронт* + *-генез*) — утварэнне атмасфернага фронту.

**ФРУ** (шв. fru) — ветлівы зварот да замужняй жанчыны або форма ветлівага ўпамінання пра яе ў скандынаўскіх краінах.

**ФРУКТ** (лац. fructus) — 1) ядомы плод некаторых дрэў і кустоў; 2) *перан*. тып, суб'ект (пра чалавека з адмоўнымі якасцямі).

**ФРУКТО́ЗА** (ад лац. fructus = плод) — арганічнае злучэнне класа *монацукрыдаў*, вуглявод, які маецца ў пладах, мёдзе; выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці і медыцыне.

**ФРУКТЫДО́Р** (фр. fructidor, ад лац. fructus = плод) — дванаццаты месяц (з 18 — 19 жніўня да 17 — 18 верасня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793 — 1805 гг.

**ФРУЛА́НІЯ** (н.-лац. frullania) — пячоначны мох сям. фруланіевых, які трапляецца на кары ствалоў лісцевых дрэў.

**ФРУСТРА́ЦЫЯ** (лац. frustratio = ашуканства, няўдача) — 1) зрыў, крушэнне планаў, намераў, надзей; 2) псіхалагічны стан, які ўзнікае ў сітуацыі расчаравання, неажыццяўлення якой-н. значнай для чалавека мэты, патрэбнасці.

**ФРУСТУ́ЛІЯ** (н.-лац. frustulia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў донных адкладах азёр, балотах, на скалах.

**ФРЫВО́ЛЬНЫ** (фр. frivole, ад лац. frivolus = дурны, пусты) — легкадумны, блізкі да непрыстойнага (напр. ф-ыя размовы).

**ФРЫГА́НА** (гр. phryganon = хвораст) — нізкарослая расліннасць з калючых кустоў і шматгадовых траў у краінах Міжземнамор'я.

**ФРЫГІ́ДНАСЦЬ** (ад лац. frigidus = халодны) — палавая халоднасць.

**ФРЫГО́ЛЬДЭРЫ** (англ. freeholders, ад free = вольны + holder = трымальнік) — катэгорыя землеўладальнікаў у сярэдневяковай Англіі, якія валодалі зямлёй пажыццёва або спадчынна на падставе феадальнага вольнага трымання (параўн. *капігольдэры, мізгольдэры*).

**ФРЫГО́РЫЯ** (ад лац. frigus = холад) — адзінка колькасці холаду, якая выкарыстоўваецца ў халадзільнай тэхніцы.

**ФРЫДРЫХСДО́Р** (ням. Friedrichsdor) — даўняя пруская залатая манета.

**ФРЫЗ**[1] (фр. frise) — 1) сярэдняя гарызантальная частка *антаблемента* паміж *архітравам* і *карнізам*; 2) дэкаратыўная *кампазіцыя* ў выглядзе гарызантальнай паласы на верхняй частцы сцяны ў сярэдзіне ці звонку будынка; 3) абрамовачная арнаментальная паласа дывана, падлогі ці прадмета прыкладнога мастацтва.

**ФРЫЗ**[2] (фр. frise) — *уст.* грубая варсістая шарсцяная тканіна, падобная да *байкі*.

**ФРЫ́ЗЕР** (англ. freezer, ад freeze = замарожваць) — машына для ўзбівання і замарожвання сумесі паўфабрыкатаў у вытворчасці марожанага.

**ФРЫЗО́Н** (фр. frison = завіток) — пушыстыя валокны, якімі кокан шаўкапрада прымацоўваецца да навакольных прадметаў; з'яўляюцца адходамі шоўкаматальнай вытворчасці, якія выкарыстоўваюцца для шоўкапрадзення.

**ФРЫЗУ́РА** (фр. frisure) — *уст.* прычоска, завітыя валасы.

**ФРЫКАДЭ́ЛЬКА** (ням. Frikadelle) — клёцка з сечанага мяса або рыбы, звараная ў булёне.

**ФРЫКАСЭ́** (фр. fricassée) — нарэзанае дробнымі кавалачкамі смажанае або варанае мяса ў соусе.

**ФРЫКАТЫ́Ў** (фр. fricatif, ад лац. fricare = церці) — *лінгв.* шчылінны зычны гук (напр. з, с, ф, х).

**ФРЫКАТЫ́ЎНЫ** (фр. fricatif, ад лац. fricare = церці) — *лінгв.* які ўтвараецца шляхам трэння паветра ў шчыліне паміж зблізканымі моўнымі органамі (напр. ф. зычны гук).

# Ф

**ФРЫКА́ЦЫЯ** (ад лац. fricare = церці) — трэнне паветра пры ўтварэнні *фрыкатыўных* гукаў.

**ФРЫКЦЫЁН** (ад лац. frictio = трэнне) — муфта для валоў, якая перадае вярчальны рух пры дапамозе сіл трэння паміж дыскамі, што прыціскаюцца адзін да аднаго.

**ФРЫ́КЦЫІ** (лац. frictio = трэнне) — *дэфекты* на фатаграфічным адлюстраванні, якія выпікаюць праз механічнае дзеянне (трэнне, ціск і інш.) на слой *эмульсіі*.

**ФРЫКЦЫ́ЙНЫ** (ад лац. frictio = трэнне) — які дзейнічае пры дапамозе сіл трэння (напр. ф-ая перадача).

**ФРЫ́МЕР** (фр. frimaire, ад frimas = іней) — трэці месяц (з 21 — 23 лістапада да 20 — 22 снежня) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793 — 1805 гг.

**ФРЫСО́ЙЛЕРЫ** (ад англ. free = свабодны + soil = зямля) — члены фермерскай партыі ў ЗША ў сярэдзіне 19 ст., якія выступалі за свабодную зямлю і працу, свабоду слова.

**ФРЫСТА́ЙЛ** (англ. freestyle) — скорасны спуск на горных лыжах па ўзгорыстай трасе, спуск з гор з выкананнем розных фігур, скачкі з двухметровага трампліна з выкананнем сальта, піруэтаў.

**ФРЫТРЭ́ДЭРСТВА** (ад *фрытрэдэры*) — кірунак у эканамічнай тэорыі, якому характэрна патрабаванне свабоды гандлю і неўмяшання дзяржавы ў прыватнапрадпрымальніцкую дзейнасць.

**ФРЫТРЭ́ДЭРЫ** (ад англ. free trade = свабодны гандаль) — прыхільнікі *фрытрэдэрства*.

**ФРЫЦЮ́Р** (фр. friture) — глыбокі слой алею або жывёльнага тлушчу, у якім смажаць кулінарныя вырабы.

**ФРЫШАВА́ЦЬ** (ням. frischen) — *тэх.* узнаўляць вокіслы металаў.

**ФРЭАТАФІ́ТЫ** (ад гр. phrear, -atos = калодзеж + *-фіты*) — расліны, якія існуюць за кошт вільгаці грунтавых водаў дзякуючы глыбока пранікаючай у грунт каранявой сістэме (напр. люцэрна, вярблюджая калючка).

**ФРЭГА́Т** (іт. fregata) — 1) трохмачтавае парусное ваеннае быстраходнае судна (18 — 19 ст.); 2) ваенны карабель пераходнага тыпу паміж лёгкім крэйсерам і эскадраным мінаносцам у флоце Англіі і ЗША 1939 — 1945 гг., які прызначаўся для супрацьлодачнай і супрацьпаветранай абароны транспартных і баявых суднаў; 3) вялікая трапічная марская птушка атрада веслаλогіх з вельмі доўгімі крыламі; большую частку жыцця праводзіць у паветры.

**ФРЭ́ЗА** (фр. fraise) — 1) рэжучы інструмент для апрацоўкі паверхні металаў, дрэва, пластмас і інш.; 2) машына для рэзкі торфу, рыхлення грунту і інш. (напр. дарожная ф.).

**ФРЭЙДЫ́ЗМ** [ад ням. S. Freud = прозвішча аўстр. урача і псіхолага (1856 — 1939)] — філасофская і псіхалагічная *канцэпцыя*, якая тлумачыць з'явы культуры і сацыяльнага жыцця праяўленнем бессвядомых (асабліва палавых) інстынктаў.

**ФРЭ́ЙЛЕН** (ням. Fräulein = панна) — ветлівы зварот да незамужняй жанчыны або форма ветлівага ўпамінання пра яе ў немцаў і некаторых іншых народаў.

**ФРЭ́ЙЛІНА** (ням. Fräulein) — дзяўчына дваранскага паходжання, якая знаходзіцца пры царыцы, каралеве, прынцэсе.

**ФРЭ́КЕН** (шв. fröken) — зварот да незамужняй жанчыны або форма ветлівага ўпамінання пра яе ў скандынаўскіх краінах.

**ФРЭНАЛО́ГІЯ** (ад гр. phren = розум, душа + *-логія*) — антынавуковая тэорыя аб наяўнасці сувязі псіхалагічных і маральных асаблівасцей чалавека з формай яго чэрапа.

**ФРЭ́НЗЛІ, БРЭ́НЗЛІ** (польск. frędzla, ад ням. Fränsel) — рад ніткак ці шнуркоў, злучаных па некалькі разам, якія звісаюць па краях фіранак, хустак, сурвэт як аздоба.

**ФРЭНЧ** [англ. french, ад French = імя англ. генерала (1852 — 1925)] — куртка ваеннага крою з чатырма накладнымі кішэнямі.

**ФРЭО́НЫ** (фр. freons) — тэхнічная назва фтор- і хлорарганічных злучэнняў, якія выкарыстоўваюцца як халадзільныя *агенты* ў некаторых халадзільніках.

**ФРЭ́СКА** (іт. fresco = свежы) — малюнак вадзянымі фарбамі, нанесенымі на свежаатынкаваную сцяну.

**ФТА́ЛЕВЫ** [ад *(на)фт(а)* + *ал(ей)*]; ф - я к і с л а т а — арганічнае злучэнне *араматычнага* рада, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое атрымліваецца акісленнем некаторых вуглевадародаў переважна *нафталіну*, выкарыстоўваецца пры вырабе сінтэтычных *палімераў*.

**ФТАРАПЛА́СТЫ** (ад *фтор* + *-пласт*) — сінтэтычныя *палімеры*, якія ўтрымліваюць фтор.

**ФТАРЫ́ДЫ** (ад *фтор*) — злучэнні фтору з іншымі элементамі (напр. ф. урану).

**ФТОР** (гр. phthoros = разбурэнне, гібель) — хімічны элемент, бледна-жоўты ядавіты газ з рэзкім пахам, які належыць да *галагенаў*.

**ФТОРСІЛІКА́ТЫ** (ад *фтор* + *сілікаты*) — тое, што і крэмнефтарыды.

**ФТЫВАЗІ́Д** (ад гр. phthisis = сухоты + лац. acidus = едкі) — лекавы *прэпарат*, процітуберкулёзны сродак.

**ФТЫЗІЯ́ТР** (ад гр. phthisis = сухоты + iater = урач) — спецыяліст па *фтызіятрыі*.

**ФТЫЗІЯТРЫ́Я** (ад гр. phthisis = сухоты + *-ятрыя*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае прычыны развіцця *туберкулёзу*, распрацоўвае метады яго лячэння і прафілактыкі.

**ФТЫРЫЯ́З** (ад гр. phtheir = вош) — *мед.* скурная хвароба, вашывасць.

**ФУ́ГА** (іт. fuga, ад лац. fuga = бег, уцёкі) — 1) паслядоўнае паўтарэнне адной музычнай тэмы некалькімі галасамі; 2) музычны твор, заснаваны на такім паўтарэнні.

**ФУГАВА́ЦЬ** (польск. fugować, ад ням. fugen = прыганяць, дапасаваць) — 1) раўняць паверхню дошак *фуганкам*; 2) выраўноўваць па вышыні зубы пілы.

# Ф

**ФУГА́НАК** (ням. Fügebank) — доўгі *гэбель*, спуск.

**ФУГА́С** (фр. fougasse) — зарад выбуховага рэчыва, які ўзрываецца ў зямлі або пад вадой.

**ФУГА́ТА** (іт. fugato) — музычная тэма ў стылі *фугі*, якая з'яўляецца часткай *санаты* або *сімфоніі*.

**ФУГЕ́ТА** (іт. fughetta) — невялікая *фуга*.

**ФУГІТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад лац. fugitivus = які паляцеў) — тэрмадынамічная *функцыя*, якая выкарыстоўваецца замест парцыяльнага ціску ва ўраўненнях ідэальнага газу для апісання ўласцівасцей рэальных газавых сумесей.

**ФУЖЭ́Р** (фр. fougère) — вялікі *бакал* на высокай ножцы.

**ФУЗАРЫЁЗЫ** (ад *фузарый*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца грыбам фузарыем.

**ФУЗА́РЫЙ** (н.-лац. fusarium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на бабовых, злаках, бульбе, ільне, выклікае хваробы раслін, атручванне жывёл і чалавека.

**ФУЗАРЫЯТАКСІКО́З** (ад *фузарый* + *таксікоз*) — атручэнне жывёл і чалавека, якое ўзнікае ад паядання кармоў, пашкоджаных фузарыем.

**ФУЗЕ́Я** (польск. fuzja, ад фр. fusil = стрэльба) — старадаўняя крамянёвая гладкаствольная стрэльба.

**ФУЗІКЛА́ДЫЙ** (н.-лац. fusicladium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які паразітуе на лісці, маладых галінках і пладах яблыні, грушы, таполі, асіны.

**ФУЗІЛЁР** (фр. fusilier) — *гіст.* салдат, узброены *фузеяй*.

**ФУ́ЗІЯ** (фр. fusion = зліццё, ад лац. fusio = плаўленне) — 1) паглынанне манаполіямі слабейшых канкурэнтаў шляхам зліцця прадпрыемстваў; 2) *лінгв.* зліццё *марфем*, якое суправаджаецца зменай іх марфемнага складу.

**ФУЗО́ЛА** (н.-лац. fusola) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ФУЗУЛІНІ́ДЫ** (н.-лац. fusulinida) — атрад вымерлых *фармініферах*, якія жылі ў каменнавугальным і пермскім перыядах (гл. *палеазой*).

**ФУКО́ІДЫ** (ад лац. fucus = лішайнік + *-оід*) — тое, што і *фітамарфозы*.

**ФУКС** (ням. Fuchs = ліса) — 1) выпадкова ўдачна выйграны шар у більярднай гульні; 2) *разм.* выпадковасць, нечаканасць.

**ФУКСІ́Н** (ад *фуксія*) — ярка-чырвоная анілінавая *фарба*, якая выкарыстоўваецца для фарбавання паперы, скуры і інш.

**ФУ́КСІЯ** (н.-лац. fuchsia, ад Fuchs = прозвішча ням. батаніка 16 ст.) — дрэвавая або кустовая расліна сям. кіпрэйных з яркімі, пераважна чырвонымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФУ́КУС** (лац. fucus, ад гр. phykos) — марская бурая водарасць класа цыкласпоравых, якая пашырана пераважна ў паўночных морах; выкарыстоўваецца для атрымання ёду, калійных солей, як угнаенне і корм.

**ФУЛЕ́** (фр. foule) — шарсцяная варсістая тканіна для жаночага паліто.

**ФУЛІ́ГА** (н.-лац. fuligo) — слізявік сям. фізаравых, які развіваецца на гнілых пнях, на кары галінак, на сухім лісці. -

**ФУЛЬГУРА́ЦЫЯ** (лац. fulguratio = бліскавіца) — адзін з метадаў унутранага (праз *цыстаскоп*) лячэння пухлін мачавога пузыра токам высокай частаты.

**ФУЛЬГУРЫ́Т** (ад лац. fulgur = маланка) — пакручастае шклопадобнае трубчастае ўтварэнне, якое атрымалася з пясчынак, што сплавіліся ад удару маланкі ў пясок.

**ФУЛЯ́Р** (фр. foulard) — 1) лёгкая, мяккая шаўковая тканіна; 2) *уст.* хустка або насоўка з гэтай тканіны.

**ФУМАРО́ЛЫ** (іт. fumarole, ад лац. fumus = дым) — газападобныя гарачыя выдзяленні з трэшчын на схілах або каля падножжа вулканаў.

**ФУ́МЕЛЬ** (ням. Fummel) — шавецкі інструмент, што ўжываецца для надання абутку бліскучай і гладкай паверхні.

**ФУМІГА́НТЫ** (лац. fumigans, -ntis = які акурвае, дыміць) — хімічныя рэчывы (*інсектыцыды, акарыцыды, фунгіцыды, гербіцыды* і інш.) для знішчэння шкоднікаў сельскагаспадарчых раслін, узбуджальнікаў і пераносчыкаў хвароб.

**ФУМІГА́ТАР** (ад лац. fumigare = акурваць, дыміць) — машына для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі сельскагаспадарчых культур спосабам *фумігацыі*.

**ФУМІГА́ЦЫЯ** (фр. fumigation, ад лац. fumigare = акурваць, дыміць) — абкурванне ядавітай парай або газамі (*фумігатамі*) раслін, заражаных шкоднікамі, а таксама памяшканняў з мэтай дэзінфекцыі.

**ФУНА́РЫЯ** (н.-лац. funaria) — лістасцябловы мох сям. фунарыевых, які расце на вільготных палях, лугах, на пажарышчах, паблізу жылля.

**ФУНГІЦЫДЗІ́Н** (ад лац. fungus = грыб + caedere = забіваць) — тое, што і *ністацін*.

**ФУНГІЦЫ́ДЫ** (ад лац. fungus = грыб + *-цыды*) — хімічныя рэчывы для барацьбы з грыбковымі і бактэрыяльнымі хваробамі сельскагаспадарчых раслін.

**ФУНДАВА́ЦЬ** (польск. fundować, ад лац. fundare = закладваць, засноўваць) — 1) частаваць каго-н. за свой кошт, купляць што-н. каму-н. у падарунак; 2) даваць грошы на заснаванне чаго-н. (напр. касцёла, школы).

**ФУНДА́ЛЬНЫ** (ад лац. fundus = дно); ф - ы я з а л о з ы — трубчастыя залозы ў слізістай абалонцы дна страўніка пазваночных жывёл і чалавека.

**ФУНДА́МЕНТ** (лац. fundamentum = аснова) — 1) падмурак, аснова якога-н. збудавання, машыны і інш.; 2) *перан.* база, аснова ведаў, пачуццяў, дзеянняў.

**ФУНДАМЕНТАЛІ́ЗМ** (ад лац. fundamentum = аснова) — крайне кансерватыўная плынь у *пратэстантызме*, якая выступала супраць крытычнага перагляду ўстарэлых рэлігійных паняццяў.

# Ф

**ФУНДАМЕНТА́ЛЬНЫ** (с.-лац. fundamentalis) — 1) трывалы, моцны, вялікі (напр. ф. будынак); 2) асноўны, галоўны (напр. ф-ая бібліятэка); 3) грунтоўны, салідны, глыбокі па зместу (напр. ф. твор).

**ФУНДА́ТАР** (лац. fundator) — той, хто засноўвае што-н. або дае грошы на заснаванне.

**ФУНДЗІ́РАВАЦЬ** (ням. fundieren, ад лац. fundare = закладваць, засноўваць) — абгрунтоўваць.

**ФУНДУ́К** (тур. funduk) — від ляшчыны, ляшчыннік, які расце на поўдні, а таксама арэхі, плады гэтай расліны; ламбардскі арэх.

**ФУНІКУЛЁР** (фр. funiculaire, ад лац. funiculus = канат, вяроўка) — горная канатная дарога для перавозкі пасажыраў на крутых пад'ёмах на невялікую адлегласць.

**ФУНІ́КУЛЮС** (лац. funiculus = канат, вяроўка) — ножка семяпачатка, якая адыходзіць ад *плацэнты* ўнутры завязі.

**ФУ́НКІЯ** (н.-лац. funkia, ад ням. Funk = прозвішча ням. батаніка) — травяністая расліна сям. лілейных з чаранковым лісцем рознай афарбоўкі і формы з фіялетавымі або белымі кветкамі, пашыраная ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ФУ́НКЦЫЯ** (лац. functio = выкананне) — 1) прызначэнне, роля, задача аб'екта ў пэўнай сістэме адносін (напр. ф. матора, ф. сэрца); 2) роля грамадскай арганізацыі або групы ў адносінах да грамадства (напр. ф. дзяржавы, ф. сям'і); 3) абавязак, кола дзейнасці, работа (напр. службовыя ф-ыі); 4) *мат.* залежная пераменная велічыня, якая змяняецца ўслед за змяненнем другой велічыні, што называецца *аргументам* (напр. лінейная ф., алгебраічная ф.); 5) *фізіял.* спецыфічная дзейнасць органа або арганізма.

**ФУНКЦЫЯНА́Л** (с.-лац. functionalis = які датычыць функцыі) — матэматычнае правіла, паводле якога кожнай *функцыі* з якога-н. класа функцый ставяць у адпаведнасць дзейсны або комплексны лік.

**ФУНКЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. functionalis = які датычыць функцыі) — кірунак у *архітэктуры* 20 ст., які характарызуецца ўвагай да *функцыянальнага* прызначэння будынкаў, эканамічнасцю, занядбаннем дэкаратыўных элементаў.

**ФУНКЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (с.-лац. functionalis, ад лац. functio, -onis = выкананне) — які адносіцца да *функцыі*, належыць да яе (напр. ф. аналіз).

**ФУНКЦЫЯНЕ́Р** (фр. functionnaire, ад лац. functio = выкананне) — асоба, якая выконвае пэўную *функцыю*; актывіст грамадскай арганізацыі.

**ФУНКЦЫЯНІ́РАВАЦЬ** (ад лац. functio, -onis = выкананне) — выконваць свае *функцыі*, дзейнічаць, працаваць.

**ФУНТ**[1] (польск. funt < ням. Pfund, ад лац. pondus = вага, гіра) — старая мера вагі ў многіх краінах, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы (ад 317,6 да 560 г).

**ФУНТ**[2] (англ. pound, ад лац. pondus = вага, гіра) — грашовая адзінка Англіі, Лівана, Судана і некаторых іншых краін (напр. ф. стэрлінгаў).

# Ф

**ФУ́РА** (польск. fura, ад ням. Fuhre) — 1) вялікая крытая павозка для перавозкі грузаў; 2) крыты кузаў на калёсах, машыне і інш.

**ФУРА́Ж** (фр. fourrage) — корм для коней, скаціны, птушак.

**ФУРАЖЫ́Р** (фр. fourrageur) — 1) асоба, якая адказвае за захоўванне і выдачу *фуражу* (напр. ф. эскадрона); 2) *уст.* ваеннаслужачы, які прызначаўся для нарыхтоўкі фуражу.

**ФУРГО́Н** (фр. fourgon) — 1) крытая конная павозка; 2) закрыты кузаў на аўтамашынах, прычэпах для перавозкі грузаў.

**ФУР'Е́Р** (фр. fourrier) — ваеннаслужачы малодшага каманднага саставу ў некаторых арміях, які займаецца раскватараваннем войска і забеспячэннем *роты, эскадрона* правіянтам і *фуражом*.

**ФУР'ЕРЫ́ЗМ** [ад фр. K. Fourier = прозвішча фр. мысліцеля (1772 — 1837)] — канцэпцыя ўтапічнага *сацыялізму*, распрацаваная Ш. Фур'е і яго паслядоўнікамі.

**ФУРКА́ЦЫЯ** (ад п.-лац. furcatus = раздзелены) — пабудова вучэбнага плана старшых класаў сярэдняй школы з ухілам да пэўных навучальных дысцыплін у шэрагу краін; адрозніваюць *біфуркацыю* (пры вылучэнні двух напрамкаў) і *поліфуркацыю* (пры большай колькасці напрамкаў).

**ФУРЛО́НГ** (англ. furlong) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 220 *ярдам*, або 201,168 м.

**ФУ́РМА** (ад ням. Form = форма) — устройства для падачы сціснутага паветра ў металургічныя печы і *агрэгаты*.

**ФУ́РМАН** (польск. furman, ад ням. Fuhrmann) — чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжанай павозцы.

**ФУРНІТУ́РА** (фр. fourniture) — дапаможныя матэрыялы ў якой-н. вытворчасці, напр. гузікі, кнопкі, кручкі ў кравецкай справе.

**ФУРО́Р** (лац. furor = раз'юшанасць, нястрымнасць) — шумны поспех, які выклікае ўсеагульнае адабрэнне.

**ФУ́РУЙЯ** (венг. furulya) — духавы музычны інструмент тыпу падоўжнай *флейты*.

**ФУРУ́НКУЛ** (лац. furunculus) — гнойнае запаленне валасянога мяшочка і сальнай залозы; скула.

**ФУРУНКУЛЁЗ** (ад *фурункул*) — хвароба, пры якой на целе з'яўляецца мноства фурункулаў.

**ФУРФУРО́Л** (ад лац. furfur = вотруб'е + *-ол*) — арганічнае *гетэрацыклічнае* злучэнне, якое здабываецца пераважна з вотруб'я і сланечнікавай лузгі і выкарыстоўваецца як растваральнік пры вырабе смол.

**ФУРЦЫ́ЛА** (н.-лац. furcilla) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая пашырана ў невялікіх вадаёмах са значнай колькасцю арганічных рэчываў.

**ФУ́РЫЯ** (лац. furia = імя кожнай з трох багінь помсты ў старажытнарымскай міфалогіі) — *перан.* злосная, сварлівая жанчына.

**ФУРЫЯ́НТ** (чэш. furiant = горды) — чэшскі народны парны танец.

# Ф

**ФУСТ** (іт. fusto) — *архіт.* ствол, стрыжань калоны.

**ФУТ** (англ. foot = ступня) — англійская мера даўжыні, роўная 0,3048 м; ужывалася раней і ў некаторых іншых краінах, напр. у Расіі.

**ФУ́ТАКС** (англ. futtock) — *мар.* састаўная частка *шпангоўта* драўлянага судна.

**ФУТАРА́Л** гл. *футляр.*

**ФУТАРО́ЎКА** (ад ням. Futter = падкладка) — цагляная або іншая выкладка, якая засцерагае ўнутраную паверхню металургічных печаў ці катлоў, бакаў ад дзеяння тэмпературы або хімічных рэчываў.

**ФУТБО́Л** (англ. football, ад foot = ступня + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом на спецыяльнай пляцоўцы (полі) з варотамі, у якой кожная з каманд ударамі ног (ці галавы) імкнецца забіць мяч у вароты праціўніка.

**ФУТБО́ЛКА** (ад *футбол*) — спартыўная трыкатажная кашуля з рукавамі.

**ФУТЛЯ́Р, ФУТАРА́Л** (ням. Futteral) — скрынка ці чахол для захавання якога-н. прадмета ад псавання ці пашкоджання.

**ФУ́ТРА** (польск. futro, ад ням. Futter) — 1) шкура пушнога звера: 2) вырабленая шкура пушных жывёл; 3) адзенне, пашытае з вырабленых шкур пушных жывёл.

**ФУТРАВА́ЦЬ** (ням. füttern = падкладаць) — 1) рабіць абліцоўку металургічных печаў, катлоў, бакаў, агрэгатаў вогнетрывалымі або хімічна стойкімі матэрыяламі; 2) падшываць *футрам* вопратку; 3) абшываць дошкамі, абшалёўваць.

**ФУТУРАЛО́ГІЯ** (ад лац. futurum = будучыня + *-логія*) — галіна навуковых ведаў, якая займаецца прагназіраваннем сацыяльных працэсаў.

**ФУТУРО́ЛАГ** (ад *футуралогія*) — сацыёлаг, які займаецца футуралогіяй.

**ФУТУРЫ́ЗМ** (іт. futurismo, ад лац. futurus = будучы) — кірунак у еўрапейскім мастацтве пач. 20 ст., які ў імя стварэння «мастацтва будучага» адмаўляў рэалізм і культурную спадчыну.

**ФУТШТО́К** (ад англ. foot = фут + ням. Stock = палка) — рэйка або мерны шост з дзяленнямі, пры дапамозе якіх вымяраюць невялікія глыбіні мора, возера, ракі.

**ФУ́ХТЭЛЬ** (ням. Fuchtel) — 1) плоскі бок клінка халоднай зброі, напр. шаблі; 2) удар шабляй, шпагай і іншай халоднай зброяй плазам.

**ФУЭТЭ́** (фр. fouette) — фігура класічнага жаночага танца, якая складаецца з паварота на пальцах адной нагі пры адначасовым кругавым руху ў паветры другой нагі.

**ФЫНЬ** (кіт. fyn) — дробная разменная манета Кітая, роўная 1/100 *юаня.*

**ФЭСТ** (польск. fest, ад лац. festum) — 1) царкоўнае, прастольнае свята (часцей каталіцкае); 2) наогул свята з кірмашамі і гуляннем.

**ФЮЗЕЛЯ́Ж** (фр. fuselage) — корпус лятальнага апарата для размяшчэння экіпажа, пасажыраў і грузаў.

**ФЮЗЕ́Н** (фр. fusain) — састаўная частка выкапнёвага вугалю, якая залягае лінзамі і слаямі ў вугальных пластах.

**ФЮ́РЭР** (ням. Führer = правадыр) — назва правадыра нацысцкай партыі ў фашысцкай Германіі Гітлера.

**Ф'Ю́ЧЭРС** (англ. futures, мн. ад future = будучыня) — від біржавых аперацый па куплі-продажу з агаворкай аб пастаўках на наступны тэрмін (звычайна ад тыдня да некалькіх гадоў) па курсу на момант заключэння кантракта.

# Х

**ХААНАЦЫ́ТЫ** (ад гр. choane = лейка + *-цыты*) — жгуцікавыя клеткі губак, якія ўтвараюць гастральны слой.

**ХААНЕФО́РА** (н.-лац. choanephora) — ніжэйшы грыб сям. тамнідыевых, які паразітуе на кветках і пладах агародных і костачкавых пладовых культур.

**ХАА́НЫ** (гр. choane = лейка) — унутраныя адтуліны поласці носа ў чалавека і пазваночных жывёл, якія злучаюць поласць носа з насаглоткай.

**ХАБАНЭ́РА** (ісп. habanera, ад Habana = Гавана) — кубінскі народны танец з павольнымі дакладнымі рухамі імправізацыйнага характару, а таксама музыка да гэтага танца.

**ХААТЫ́ЧНЫ** (ад *хаос*) — бязладны, пазбаўлены парадку, стройнасці, арганізаванасці.

**ХА́БАР** (цюрк. chabar, ад ар. habar = паведамленне) — грошы або рэчы, што даюцца службовай асобе як подкуп з мэтай атрымання якой-н. выгады.

**ХАБЕРТЫЁЗ** (ад *хабертыя*) — глісная хвароба жвачных жывёл, якая выклікаецца хабертыяй.

**ХАБЕРТЫ́Я** (н.-лац. chabertia) — *гельмінт* класа *нематодаў*, паразітуе ў арганізме жвачных жывёл.

**ХАДЖ** (ар. chadj) — паломніцтва ў Медыну і Мекку да мусульманскай святыні, што з'яўляецца праяўленнем вялікай набожнасці.

**ХАДЖЫ́** (ар. chadji) — ганаровы *тытул* мусульманіна, які зрабіў *хадж* (звычайна ставіцца перад імем).

**ХАДЫ́С** (ар. chadis) — мусульманскае паданне аб учынках і выслоўях прарока Магамета.

**ХАЗМАГА́МІЯ** (ад гр. chasma = пашча + *-гамія*) — апыленне, якое адбываецца ў кветках з каронкай, што раскрываецца ў час цвіцення.

**ХАЙВЭ́Й** (англ. highway, ад high = інтэнсіўны, галоўны + way = шлях, дарога) — вялікая аўтамабільная дарога, *шасэ, аўтамагістраль* з аднабаковым рухам.

**ХА́ЙРЫНГ** (англ. highring) — адна з формаў сярэднетэрміновага крэдытавання экспарту без перада-

чы права ўласнасці на тавар арандатару.

**ХАКЕ́Й** (англ. hockey) — спартыўная камандная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе або з мячом на траве.

**ХА́КІ** (хіндзі khāki = колер гразі) — 1) прыродныя паглыбленні сярод *такыраў*, якія ў перыяд дажджу запаўняюцца вадой і ператвараюцца ў непралазную гразь; 2) шаравата-зялёны колер; 3) тканіна шаравата-зялёнага колеру і форменнае адзенне з яе.

**ХА́КІ-КЕ́МПБЕЛ** (ад *хакі* + англ. campbell, ад Campbell = прозвішча англ. птушкавода) — парода качак мяса-яечнага напрамку прадукцыйнасці, выведзеная ў Англіі.

**ХА́ЛА** (ст.-яўр. challā = белы хлеб) — віты белы хлеб прадаўгаватай формы.

**ХАЛАГО́Л** (англ. cholagogue, ад гр. cholagogos = жаўцягонны) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры жоўцекамянёвай хваробе, *халецыстытах, гепатахалецыстытах*.

**ХА́ЛАЗА** (гр. chalaza = бугарок) — аснова семязавязі, месца прымацавання яе да семяножкі.

**ХАЛА́ЗІЯН** (гр. chalazion = градзінка, зацвярдзенне) — пухлінападобнае ўтварэнне ў храстку павека велічынёй з гарошыну без прыкмет вострага запалення.

**ХАЛАКО́СТ** (англ. holocaust, ад гр. holos = цалкам + kausis = спаленне) — знішчэнне людзей спальваннем.

**ХАЛАНГІ́Т** (ад гр. chole = жоўць + angeion = сасуд) — запаленне жоўцевых пратокаў.

**ХАЛА́Т** (ар. chalat) — 1) верхняе хатняе або рабочае адзенне; 2) верхняе адзенне ў некаторых азіяцкіх народаў (напр. бухарскі х.).

**ХАЛВА́** (цюрк. halva) — салодкі кандытарскі выраб у выглядзе цвёрдай масы з расцёртага сланечніку, арэхаў і інш.

**ХАЛЕМІ́Я** (ад гр. chole = жоўць + *-емія*) — накапленне ў крыві і тканках састаўных частак жоўці, атручванне арганізма жоўцевымі кіслотамі.

**ХАЛЕНЗІ́М** (ад гр. chole = жоўць + enksymos = растворапы) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як жаўцягонны сродак пры *гепатытах, халецыстытах* і захворваннях страўнікава-кішачнага тракту.

**ХАЛЕ́РА** (лац. cholera < гр. cholera, ад chole = жоўць) — вострая інфекцыйная кішачная хвароба, якая суправаджаецца рвотай, паносам; узбуджальнікі — *вібрыёны*.

**ХАЛЕ́РЫК** (лац. cholericus < гр. cholerikos, ад chole = жоўць) — неўраўнаважаны чалавек, які лёгка ўзбуджаецца пад уздзеяннем якіх-н. уражанняў.

**ХАЛЕСТЭРЫ́Н** (ад гр. chole = жоўць + *стэрын*) — арганічнае тлушчападобнае рэчыва з групы стэрынаў, якое змяшчаецца ў нервовай і тлушчавай тканках, печані чалавека і жывёл і адыгрывае важную ролю ў жыццядзейнасці арганізма.

**ХАЛЕСТЭРЫНЭМІ́Я** (ад *халестэрын + -эмія*) — павышанае змяшчэнне халестэрыну ў крыві.

**ХАЛЕЦЫСТАГРА́ФІЯ** (ад гр. chole = жоўць + kystis = пузыр +

*-графія*) — метад штучнага кантрастнага рэнтгеналагічнага абследавання жоўцевага пузыра.

**ХАЛЕЦЫСТЫ́Т** (ад гр. chole = жоўць + kystis = пузыр) — запаленне жоўцевага пузыра.

**ХА́ЛІ-ГА́ЛІ** (англ. hully-gully) — групавы амерыканскі бальны танец, які мае шматлікія варыянты кампазіцый, а таксама музыка да гэтага танца.

**ХАЛІ́ЗМ** (англ. holism, ад гр. holos = цэлы, увесь) — кірунак сучаснай ідэалістычнай філасофіі, які разглядае цэласнасць свету як вынік творчай актыўнасці нейкага містычнага поля цэласнасці.

**ХАЛІКАТЭ́РЫІ** (ад гр. chaliks, -ikos = галька + therion = звер) — група млекакормячых, якія знешне нагадвалі коней, але з больш доўгімі пярэднімі нагамі і кіпцюрамі замест капытоў; жылі ў *палеагене*.

**ХАЛІ́Н** (ад гр. chole = жоўць) — біяарганічнае злучэнне, якое ўваходзіць у склад *лецыцінаў*, што належаць да фасфатыдаў; змяшчаецца ў раслінах і жывёлах, у арганізме неабходна для нармальнага абмену тлушчаў.

**ХАЛІНЕРГІ́ЧНЫ** [ад *(ацэтыл)халін* + гр. ergon = дзеянне] — які ўзбуджаецца ацэтылхалінам, чуллівы да ацэтылхаліну (параўн. *адрэнергічны*).

**ХАЛІ́Ф** (ар. chalīfa = спадчыннік, наступнік) — тытул вярхоўнага правіцеля ў шэрагу краін мусульманскага Усходу, які аб'ядноўваў у сваіх руках духоўную і свецкую ўладу.

**ХАЛІФА́Т** (ад *халіф*) — 1) сістэма мусульманскага феадальнага кіравання, пры якой халіф спалучаў свецкую ўладу з духоўнай; 2) феадальная дзяржава, створаная ў выніку арабскага заваявання, якую ўзначальваў халіф.

**ХАЛІЯ́МБ** (гр. choliambos = кульгавы ямб) — шасцістопны *ямб* з харэічным перабоем на апошняй стапе, характэрны для антычнай камічнай і трагікамічнай паэзіі.

**ХАЛКАЛІ́Т** (ад гр. chalkos = медзь + *-літ*) — тое, што і *энеаліт*.

**ХАЛТУ́РА** (с.-лац. chartularium = памінальны спіс нябожчыкаў) — 1) пабочны, звычайна лёгкі заработак; 2) нядобрасумленная, неахайная, выкананая без ведання справы работа.

**ХАЛЦЭДО́Н** (гр. chalkedon) — мінерал класа *сілікатаў*, валакністая разнавіднасць *кварцу*; вядомы разнавіднасці — чырвоны х. (*карнеол*), зялёны (*хрызапраз, геліятроп*), буры (*сардэр*), паласаты (*агат, онікс, сердалік*) і інш.; паўкаштоўны камень.

**ХАЛЬКАЗІ́Н** (ад гр. chalkos = медзь) — мінерал класа *сульфідаў* свінцова-шэрага колеру з металічным бляскам; руда для атрымання медзі.

**ХАЛЬКАПІРЫ́Т** (ад гр. chalkos = медзь + *пірыт*) — мінерал класа *сульфідаў* латунна-жоўтага колеру з металічным бляскам; медны калчадан.

**ХАЛЬЦЫ́ДЫ** (н.-лац. chalcidoidea) — надсямейства насякомых атрада перапончатакрылых; большасць унутраныя або вонкавыя паразіты насякомых і павукоў, ёсць шкоднікі раслін; многія яйцаеды выкарыстоўваюцца ў біялагіч-

# Х

най барацьбе са шкоднікамі сельскагаспадарчых культур.

**ХАМАМІ́ЛА** (н.-лац. chamomilla) — травяністая расліна сям. складанакветных з перыстым лісцем і белымі або жоўтымі кветкамі ў кветкавых кошыках, пашыраная ў Еўразіі і Афрыцы; расце каля жылля, у пасевах, абапал дарог; лекавая.

**ХАМА́РБІЯ** (н.-лац. hammarbya) — травяністая расліна сям. ятрышнікавых з дробнымі жаўтавата-зялёнымі кветкамі ў гронках, пашыраная ва ўмерана халодных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка на тарфяных балотах.

**ХАМЕЛЕО́Н** (лац. chamaeleon, ад гр. chamaileon) — 1) паўзун атрада яшчарак, здольны мяняць афарбоўку скуры пры раздражненні, перамене колеру навакольнага асяроддзя і г. д.; 2) *перан.* чалавек, які лёгка мяняе свае погляды ў залежнасці ад абставін.

**ХАМЕРО́ПС** (н.-лац. chamaerops, ад гр. chamai = на зямлі + rops = куст) — *пальма* з веерападобным лісцем, пашыраная ў Зах. Міжземнамор'і; дае валакно, з якога вырабляюць канаты, вяроўкі; вырошчваецца як дэкаратыўная ў Крыме, на Каўказе.

**ХАМЕСІФО́Н** (н.-лац. chamaesiphon) — аднаклетачная сіне-зялёная водарасць сям. хамесіфонавых, якая пашырана пераважна ў стаячых і праточных прэсных водах, бедных пажыўнымі рэчывамі.

**ХАМЕФІ́ТЫ** (ад гр. chamai = на зямлі + *-фіты*) — расліны, пупышкі ўзнаўлення якіх размешчаны каля паверхні глебы і часта зімуюць пад снегам; характэрны для халоднага клімату (напр. брусніцы, чарніцы, чабор звычайны, барвенак малы).

**ХАМСІ́Н** (ар. chamsīn) — сухі, гарачы паўднёвы вецер на паўночным усходзе Афрыкі, які прыносіць многа пяску і пылу.

**ХАН** (цюрк. chan) — тытул феадальнага правіцеля ў некаторых цюркскіх і мангольскіх народаў у сярэднія вякі.

**ХАНАТРЫ́ХІ** (н.-лац. chonotricha) — падклас раснічных *інфузорый*; эктакаменсалы марскіх і прэснаводных вышэйшых ракападобных.

**ХАНДРА́** [ад гр. (hypo)chondria = вантробы] — маркотны, сумны настрой; туга.

**ХАНДРАБЛА́СТЫ** (ад гр. chondros = храсток + *-бласты*) — клеткі, якія ўдзельнічаюць у перыферычным росце храстка.

**ХАНДРАЛО́ГІЯ** (ад гр. chondros = храсток + *-логія*) — вучэнне пра храсткі.

**ХАНДРАФО́РЫ** (н.-лац. chondrophora) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл падкласа гідроідных; прадстаўлены адзіночнымі буйнымі плаваючымі *паліпамі*, на якіх развіваюцца дробныя паліпы і *медузы*.

**ХАНДРАЦЫ́ТЫ** (ад гр. chondros = храсток + *-цыты*) — клеткі храстковай тканкі, якія ўтвараюцца з *хандрабластаў* у працэсе развіцця храстка.

**ХАНДРО́МА** (ад гр. chondros = храсток + *-ома*) — дабраякасная пухліна з храстковай тканкі.

**ХАНДРЫЁМА** (ад гр. chondrion = зярнятка) — сукупнасць *хандрыя-*

*сомаў* (*мітахондрый*), якія змяшчаюцца ў адной клетцы.

**ХАНДРЫ́ЛА** (н.-лац. chondrilla, ад гр. chondrille) — травяністая расліна сям. складанакветных з прадаўгаватым лісцем і мяцёлчатым суквеццем, пашыраная ва ўмераных зонах; на Беларусі, пераважна на Палессі, расце на пясках у далінах рэк, барах і на абочынах дарог.

**ХАНДРЫ́Т**[1] (ад гр. chondros = храсток) — запаленне храстка.

**ХАНДРЫ́Т**[2] (ад гр. chondros = зерне) — *метэарыт*, які складаецца з вялікай колькасці круглых мінеральных утварэнняў.

**ХАНДРЫЯМІ́ТЫ** (ад гр. chondrion = зярнятка + mitos = нітка) — тое, што і *мітахондрыі*.

**ХАНДРЫЯСО́МЫ** (ад гр. chondrion = зярнятка + *сома*) — тое, што і *мітахондрыі*.

**ХАНІНГАВА́ЦЬ** (англ. honing) — абточваць цыліндрычныя паверхні *хонам*.

**ХА́НЦШЫЯ** (н.-лац. hantzschia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. ніцшыевых, якая пашырана пераважна ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**ХАО́С** (гр. chaos) — 1) бязмерная прастора, бязмежная першабытная маса, з якой, паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, утварылася пасля ўсё існуючае; 2) *перан*. беспарадак, неразбярыха.

**ХА́РА** (н.-лац. chara, ад лац. chara = дзікая капуста) — мнагаклетачная водарасць сям. харавых, якая пашырана ў чыстых прэсных і саланаватых вадаёмахрознага тыпу.

**ХАРАКІ́РЫ** (яп. hara-kira, ад hara = жывот + kiru = рэзаць) — самазабойства шляхам успорвання жывата, прынятае ў японскіх самураяў.

**ХАРА́КТАР** (гр. charakter) — 1) сукупнасць псіхічных асаблівасцей чалавека, якія выяўляюцца ў паводзінах; 2) цвёрдая воля, настойлівасць у дасягненні чаго-н.; 3) уласцівасць чаго-н., якая-н. якасць; 4) мастацкі вобраз, які абагульняе тыповыя рысы пэўнай групы людзей.

**ХАРАКТАРАЛО́ГІЯ** (ад *характар* + *-логія*) — вучэнне аб характары чалавека.

**ХАРАКТАРЫЗАВА́ЦЬ** (ад charakterizo = адзначаю) — даваць *характарыстыку*, вызначаць адметныя рысы, асаблівасці каго-н. або чаго-н.

**ХАРАКТАРЫ́СТЫКА** (гр. charakteristikos = які адрозніваецца) — 1) апісанне, вызначэнне істотных, адметных рыс, асаблівасцей каго-н. або чаго-н.; 2) апісанне характару, учынкаў якога-н. персанажа ў мастацкім творы; 3) пісьмовы водзыў, заключэнне аб працоўнай і грамадскай дзейнасці асобы; 4) *мат*. цэлая частка дзесятковага *лагарыфма*; 5) графічны паказчык чаго-н.

**ХАРАКТРО́Н** [ад гр. charak(ter) = знак, адлюстраванне + *-трон*] — электроннапрамянёвая трубка, якая выкарыстоўваецца для вывядзення інфармацыі з вылічальных машын.

**ХАРАКТЭ́РНЫ** (ад гр. charakter = знак, рыса) — 1) які мае рэзка выражаныя асаблівасці; 2) уласцівы

толькі дадзенаму прадмету або асобе.

**ХАРА́Л** [п.-лац. (cantus) choralis = харавое песнапенне] — 1) рэлігійнае многагалосае песнапенне, распаўсюджанае пераважна ў пратэстантаў і каталікаў; 2) музычная п'еса ў такой форме.

**ХАРАЛО́ГІЯ** (ад гр. choros = месца + *-логія*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае *арэалы* распаўсюджання асобных відаў, родаў і сямействаў жывёл і раслін.

**ХАРАФІ́ТЫ** (н.-лац. charophyta) — аддзел водарасцей; мнагаклетачныя кусцістыя арганізмы, вонкавым выглядам падобныя да вышэйшых раслін — хвашча і рагалісніка, для якіх характэрна размнажэнне вегетатыўнае і палавое (*аагамія*); пашыраны ў чыстых прэсных і саланаватых водах.

**ХАРАЦЫДЫЁПСІС** (н.-лац. characidiopsis) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. харацыдыёпсавых, якая трапляецца ў невялікіх стаячых вадаёмах, зрэдку ў грунце.

**ХАРАЦЫЁПСІС** (н.-лац. characiopsis) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. харацыёпсавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах і ў глебе.

**ХАРА́ЦЫУМ** (н.-лац. characium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. харацыевых, якая пашырана ў прэсных, радзей саланаватых водах і ў глебе.

**ХАРАЦЫЯХЛО́РЫС** (н.-лац. characiochloris) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларангіелавых, якая пашырана ў прэсных водах.

**ХАРДАФО́НЫ** (ад гр. chorde = струна + *-фон*) — струнныя музычныя інструменты.

**ХАРДО́МЕТР** (ад гр. chorde = струна + *-метр*) — прыбор для вымярэння таўшчыні струн.

**ХА́РДТАП** (ад англ. hard = цвёрды + top = верх) — закрыты кузаў легкавога аўтамабіля без бакавых стоек.

**ХА́РТЫЯ** (лац. charta, ад гр. chartes) — 1) старадаўні рукапіс, а таксама матэрыял (папірус або пергамент), на якім ён напісаны; 2) дакумент, які пацвярджаў якія-н. правы і вольнасці ў сярэднія вякі; 3) назва дакументаў важнага грамадска-палітычнага значэння.

**ХАРУ́НЖЫ, ХАРУ́ЖЫ** (польск. chorąży) — 1) сцяганосец у войску сярэдневяковай Польшчы; 2) асоба, якая кіравала арганізацыяй баярскага і шляхецкага апалчэння ў Вялікім княстве Літоўскім; 3) малодшы афіцэрскі чын у казацкім войску; 4) харунжы (адпавядае званню малодшага лейтэнанта) у сучаснай польскай арміі.

**ХАРЧ** (тат. charč, тур. harč, ад ар. harğ) — 1) тое, што спажываюць, чым жывяцца; прыпасы ежы; 2) корм для жывёлы; 3) *перан.* тое, што з'яўляецца крыніцай роздуму, разважанняў.

**ХАРЧО́** (груз. charso) — каўказская страва з бараніны з вострымі прыправамі.

**ХАРЫЁН** (гр. chorion = перапонка, абалонка) — 1) знешняя абалонка зародкаў паўзуноў, птушак, млекакормячых, чалавека на пачатковых стадыях іх развіцця; 2) другасная абалонка яйцаклеткі

беспазваночных і некаторых ніжэйшых пазваночных жывёл.

**ХАРЫЗМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. charisma = прызванне, божы дар) — выключна адораны, таленавіты.

**ХАРЫСПО́РА** (н.-лац. chorispora) — травяністая расліна сям. крыжакветных з зубчастым лісцем і ліловымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Еўропе, Зах. і Цэнтр. Азіі; на Беларусі расце каля дарог.

**ХА́РЫУС** (фін. harjus, ад нарв. harr) — рыба атрада ласосепадобных, якая пашырана ў рэках Еўропы.

**-ХАРЫЯ, -ХОРЫЯ** (гр. choreo = прасоўваюся) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «пашырэнне», «распаўсюджанне».

**ХАРЫЯ́МБ** (гр. choriambos) — чатырохстопная вершаваная стапа, утвораная спалучэннем *харэя* і *ямба*.

**ХАРЭАГРА́ФІЯ** (ад гр. choreia = танец + *-графія*) — 1) мастацтва пастаноўкі танцаў і балетных спектакляў; 2) запіс танцавальных рухаў пры дапамозе сістэмы ўмоўных знакаў.

**ХАРЭ́Й** (гр. choreios, ад choreia = танец) — 1) двухскладовая вершаваная стапа з націскам на першым складзе; 2) трохдольная антычная стапа з двух складоў — доўгага і кароткага.

**ХАРЭ́Я** (гр. choreia = танец) — нервовая хвароба, якая характарызуецца адвольным паторгваннем канечнасцей, хуткімі некаардынаванымі рухамі.

**ХАСЕМА́НІЯ** (н.-лац. hasemania) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах трапічных лясоў Бразіліі; вядома як акварыумная.

**ХАСІДЫ́ЗМ** (ад ст.-яўр. chasid = набожны) — рэлігійна-містычная плынь у *іудаізме*, якая ўзнікла ў 18 ст. як выражэнне пратэсту веруючых яўрэяў супраць засілля *рабінаў*.

**ХА́ЎБЕК** (англ. half-back, ад half = напалову + back = абаронца) — паўабаронца ў *футболе* і *хакеі*.

**ХАЎТА́ЙМ** (англ. half-time, ад half = напалову + time = час) — палавіна гульні (45 мінут) у *футболе* і *хакеі*.

**ХАЎТУ́РЫ** (с.-лац. chartularium = памінальны спіс нябожчыкаў) — абрад провадаў нябожчыка для пахавання, а таксама жалобны стол, абед па нябожчыку.

**ХАЧБО́Т** (англ. hatch-boat, ад hatch = люк + boat = лодка) — невялікае парусное грузавое судна з люкамі і палубай, якую пры патрэбе можна разбіраць.

**ХЕ́ДАР** [1] (англ. header) — рабочая частка збожжаўборачнага камбайна.

**ХЕ́ДАР** [2] (ст.-яўр. cheder = хата) — яўрэйская пачатковая рэлігійная школа для хлопчыкаў.

**ХЕДЖ** (англ. hedge) — тэрміновая здзелка, заключаная для страхоўкі ад магчымага змянення цэн.

**ХЕ́ДЖЭР** (англ. hedger) — прадпрыемства, банк, фермер або іншы гаспадарчы суб'ект, які ажыццяўляе *хедж*.

**ХЕДЛА́ЙНЕР** (англ. head-liner, ад head-line = даваць загаловак) — фотанаборная машына з ручной

# Х

установаўкай шрыфтавых *шаблонаў* і фотаматэрыялу.

**ХЕДЫ́Ў** (тур. chedīw, ад перс. chadiv) — тытул спадчынных правіцеляў Егіпта ў 1867—1914 гг.

**ХЕЙЛІ́Т** (ад гр. cheīlos = губа) — *мед.* запаленне чырвонай каймы, слізістай абалонкі і скуры губ.

**ХЕЙМВЕ́Р** (ням. Heimwehr, ад Heim = дамашні ачаг + Wehr = абарона) — контррэвалюцыйныя атрады ў Аўстрыі, якія дзейнічалі ў 1918 г. з мэтай задушыць рэвалюцыйны рабочы рух.

**ХЕЙРАКА́НЦЫУМ** (н.-лац. cheiracanthium) — павук сям. *клубіянідаў*, які жыве на злаках, чароце па берагах вадаёмаў і ў забалочаных месцах.

**ХЕЛАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. chele = кляшня + *-метрыя*) — тое, што і *комплексанаметрыя*.

**ХЕЛА́ТЫ** (ад гр. chele = кляшня) — комплексныя злучэнні, у якіх ліганд (гл. *ліганды*) далучаны да цэнтральнага атама металу дзвюма або большай колькасцю кавалентных сувязей.

**ХЕЛІЦЭ́РЫ** (ад гр. chele = кляшня + keras = рог) — першая пара галаўных, звычайна клешнепадобных, канечнасцей у членістаногіх жывёл падтыпу хеліцэравых.

**ХЕМА-** (лац. chemia, ад гр. chemeia = уменне плавіць метал) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «хімія», «хімічны».

**ХЕМАГЕ́ННЫ** (ад *хема-* + *-генны*) — звязаны з хімічнымі рэакцыямі (напр. х-ыя адклады ў вадаёмах).

**ХЕМАНА́СТЫЯ** (ад *хема-* + *настыі*) — рух органа расліны ў адказ на дзеянне хімічнага раздражняльніка.

**ХЕМАРА́СА** (ад *хема-* + *раса*) — унутрывідавая таксанамічная катэгорыя на ўзроўні *папуляцый* або іх груп, якая істотна адрозніваецца па якой-н. характарыстыцы абмену рэчываў.

**ХЕМАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *хема-* + *рэцэптары*) — рэцэптары, якія ўспрымаюць хімічныя раздражненні, у тым ліку змены ў абмене рэчываў.

**ХЕМАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад *хема-* + *рэцэпцыя*) — успрыманне аднаклетачным арганізмам або спецыялізаванымі клеткамі *(хемарэцэптарамі)* мнагаклетачнага арганізма хімічных раздражняльнікаў, якія прысутнічаюць у знешнім або ўнутраным асяроддзі; ляжыць у аснове *хематаксісу, хематрапізму* і іншых рэакцый жывога арганізма на хімічны састаў навакольнага асяроддзя.

**ХЕМАСІ́НТЭЗ** (ад *хема-* + *сінтэз*) — працэс утварэння некаторымі мікраарганізмамі арганічных рэчываў з вуглекіслаты і іншых неарганічных рэчываў за кошт хімічнай энергіі.

**ХЕМАСІСТЭМА́ТЫКА** (ад *хема-* + *сістэматыка*) — раздзел сістэматыкі, які вывучае разнастайнасць хімічнага складу арганізмаў з мэтай выкарыстання гэтых дадзеных для класіфікацыі.

**ХЕМАСО́РБЦЫЯ** (ад *хема-* + *сорбцыя*) — разнавіднасць сорбцыі, пры якой часцінкі паглынаемага рэчыва і паглынальніка хімічна ўзаемадзейнічаюць.

**ХЕМАСТЭРЫЛЯ́НТЫ** (ад *хема-* + лац. sterilis = бясплодны) — хімічныя прэпараты з групы *пестыцыдаў*, якія выклікаюць стэрылізацыю насякомых.

**ХЕМАТАКСАНО́МІЯ** (ад *хема-* + *таксаномія*) — тое, што і *хемасістэматыка*.

**ХЕМАТА́КСІС** (ад *хема-* + *таксіс*) — рух прасцейшых арганізмаў і клетак, што вольна рухаюцца *(сперматазоідаў, лейкацытаў)*, пад уплывам хімічных раздражняльнікаў.

**ХЕМАТРАПІ́ЗМ** (ад *хема-* + *трапізм*) — змена напрамку росту органаў раслін пад уздзеяннем хімічных рэчываў.

**ХЕМАТРО́НІКА** (ад *хема-* + *-трон*) — навукова-тэхнічны кірунак, што займаецца распрацоўкай і прымяненнем прыбораў і ўстройстваў аўтаматыкі, вымяральнай і вылічальнай тэхнікі, дзеянне якіх заснавана на электрахімічных працэсах.

**ХЕМАТРО́ФЫ** (ад *хема-* + *-трофы*) — тое, што і *аўтатрофы*.

**ХЕМАТЭРАПІ́Я** (ад *хема-* + *тэрапія*) — тое, што і *хіміятэрапія*.

**ХЕМІГРА́МУСЫ** (н.-лац. hemigrammus) — рыбы сям. харацынідаў атрада карпападобных, якія пашыраны ў вадаёмах Паўд. Амерыкі; вядомы як акварыумныя рыбы.

**ХЕМІЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *хема-* + *люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя, якая ўзнікае пры некаторых хімічных рэакцыях (напр. свячэнне фосфару пры павольным акісленні).

**ХЕМІТРО́Н** (ад *хема-* + *-трон*) — разнавіднасць электронна-прамянёвай трубкі, якая выкарыстоўваецца, напр., для візуальнага атрымання інфармацыі пры ўзаемадзеянні чалавека з электронна-вылічальнай машынай.

**ХЕНАМЕ́ЛЕС** (н.-лац. chaenomeles) — кустовая расліна сям. ружавых са скурыстым лісцем і буйнымі чырвонымі, ружовымі або белымі кветкамі, пашыраная ў Кітаі і Японіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ХЕНАРЫ́НУМ** (н.-лац. chaenorhinum) — травяністая расліна сям. залознікавых з прадаўгавата-ланцэтным лісцем і светла-ліловымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Сярэд. Азіі, на Каўказе і ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі заносная.

**ХЕНАТЭ́КА** (н.-лац. chaenotheca) — накіпны сумчаты лішайнік сям. каліцыевых, які расце на кары дрэў, раслінных рэштках і гнілой драўніне.

**ХЕ́РАС** (ад ісп. Jeres de la Frontera = назва горада ў Іспаніі) — сорт белага моцнага вінаграднага віна.

**ХЕРУВІ́М** (гр. cheroubeim, ад ст.-яўр. kerūbīm) — *анёл* вышэйшага чыну ў хрысціянскай рэлігіі.

**ХЕ́СКЕР-ПІ́КЕР** (англ. husker-picker) — сельскагаспадарчая машына для ўборкі на полі спелых пачаткаў кукурузы.

**ХЕ́СКЕР-ШРЭ́ДЭР** (англ. husker-shredder) — машына для апрацоўкі кукурузы — вылушчвання пачаткаў і здраблення сцёблаў у так званае кукурузнае сена.

# Х

**ХЕТАГНА́ТЫ** (ад гр. chaite = грыва + gnathos = сківіца) — тып марскіх драпежных пазваночных жывёл, якія захопліваюць здабычу пры дапамозе двух пучкоў шчацінак-кручкоў.

**ХЕТАСФЕРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. chaetosphaeridium) — мнагаклетачная зялёная водарасць сям. хетасферыдыевых, якая трапляецца ў стаячых і праточных прэсных вадаёмах.

**ХЕТАФО́РА** (н.-лац. chaetophora) — мнагаклетачная ніткаватая зялёная водарасць сям. хетафоравых, якая пашырана пераважна ў чыстых стаячых і праточных вадаёмах.

**ХЕТ-ТРЫ́К** (англ. hat trick); з р а б і ц ь х. — тройчы ў адной гульні (хакеі, футболе) паразіць вароты праціўніка адным і тым жа гульцом.

**ХЕТЭТЫ́ДЫ** (н.-лац. chaetetida) — падклас вымерлых беспазваночных жывёл класа каралавых паліпаў, якія жылі ў *ардовіку* — *неагене*.

**ХІ́ДЖРА** гл. *гіджра*.

**ХІЕНАДО́КСА** (н.-лац. chionodoxa) — цыбульная расліна сям. лілейных з падоўжаным лісцем і блакітнымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Малой Азіі і на востраве Крыт; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ХІЁНАСФЕ́РА** (ад гр. chion = снег + *сфера*) — слой *атмасферы*, у сярэдзіне якога магчымы пастаянны дадатны баланс цвёрдых атмасферных ападкаў.

**ХІЁНАФІ́ЛЫ** (ад гр. chion = снег + *-філ*) — расліны і жывёлы, якія засяляюць вобласці з глыбокаснежнымі зімамі і маюць характэрныя прыстасаванні для пражывання ў гэтых умовах.

**ХІ́ЛАДУС** (н.-лац. chilodus) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў стаячых вадаёмах на поўначы Паўд. Амерыкі; вядома як акварыумная.

**ХІЛАКО́РУС** (н.-лац. chilocorus) — жук сям. божых каровак; жыве ў лясах на лісцевых дрэвах і кустах; драпежнік *какцыдаў*, пераважна шчытовак (выкарыстоўваецца ў біялагічнай барацьбе з імі).

**ХІЛАСЦЫ́ФУС** (н.-лац. chiloscyphus) — пячоначны мох сям. сафакалеевых, які трапляецца на вільготнай глебе ў лясах, на балотах, на гнілой драўніне.

**ХІ́ЛЕР** (англ. healer = лекар) — урач, які лечыць біятокамі, малітвамі, замовамі, а таксама аперацыямі без хірургічных інструментаў (параўн. *экстрасэнс*).

**ХІЛЁБІУС** (н.-лац. hylobius) — жук сям. даўганосікаў, які пашыраны ў лясах; шкодзіць маладым хваёвым культурам.

**ХІЛІЯ́ЗМ** (гр. chiliasmos, ад chilias = тысяча) — вучэнне аб тысячагадовым зямным царстве Хрыста, якое павінна наступіць перад канцом свету.

**ХІЛІЯ́СТЫ** (гр. chiliastai) — паслядоўнікі *хіліязму*.

**ХІ́ЛУС** (гр. chylos = сок) — вадкасць, якая змяшчаецца ў лімфатычных сасудах кішэчніка жывёл і чалавека; уяўляе сабой *лімфу*, узбагачаную кропелькамі тлушчу.

**ХІЛЯ́РЫІ** (ад гр. chelos = губа) — рудыментарная пара канечнасцей

сёмага сегмента галавагрудзей мечахвостаў.

**ХІМАЗІ́Н** (ад гр. chymos = сок) — *фермент*, які змяшчаецца ў страўніку маладых млекакормячых і абумоўлівае згусанне малака.

**ХІМАТРЫПСІ́Н** (ад гр. chymos = сок + *трыпсін) — фермент*, які выпрацоўваецца клеткамі падстраўнікавай залозы і расшчапляе бялкі ежы.

**ХІМЕ́РА** (лац. chimaera, ад гр. Chimaira) — 1) старажытнагрэчаская міфічная пачвара з ільвінай галавой, казліным тулавам і змяіным хвастом; 2) *перан*. мара, якая не можа здзейсніцца; неажыццявімая фантазія; 3) марская рыба сям. хімеравых з цыліндрычным тулавам, доўгім хвастом і вялікімі плаўнікамі; 4) раслінны арганізм, які складаецца з генетычна неаднародных тканак.

**ХІМІЗА́ЦЫЯ** (ад *хімія*) — выкарыстанне хімічнай тэхналогіі і хімічных прадуктаў у тэхніцы, прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

**ХІ́МІК** (ад *хімія*) — спецыяліст у галіне хіміі, а таксама работнік хімічнай прамысловасці.

**ХІМІКА́ЛІІ** (н.-лац. chemicalia, ад лац. chemia < гр. chemeia = уменне плавіць метал) — хімічныя прэпараты, а таксама хімічныя вырабы.

**ХІ́МІЯ** (лац. chemia, ад гр. chemeia = уменне плавіць метал) — 1) навука, якая вывучае будову, склад, уласцівасці і ператварэнні рэчываў (аналітычная х., неарганічная х., арганічная х., фізічная х.); 2) хімічныя сродкі, матэрыялы, растворы; 3) якасны, хімічны састаў чаго-н. (напр. х. нафты, х. крыві).

**ХІМІЯТЭРАПІ́Я** (ад *хімія + тэрапія*) — лячэнне інфекцыйных хвароб хімічнымі прэпаратамі.

**ХІММАТАЛО́ГІЯ** [ад *хім(ія) + мата- + -логія*] — навука, якая вывучае ўласцівасці, якасць і рацыянальнае выкарыстанне гаручых і змазачных матэрыялаў у тэхніцы.

**ХІ́МУС** (п.-лац. chymus, ад гр. chymos = сок) — змесціва тонкіх кішак жывёл і чалавека, утваранае з ежы пад уплывам стрававальных сокаў.

**ХІ́НА** (перуан. kina = кара) — тое, што і *хінін*.

**ХІНАЗО́Л** (ад *хінін + -ол*) — арганічнае *гэтэрацыклічнае* злучэнне, цвёрды крышталічны прадукт, лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як антысептычны сродак для дэзінфекцыі рук, прамывання ран і інш.

**ХІНАЛІ́Н** (ад *хінін* + лац. oleum = алей) — арганічнае *гетэрацыклічнае* злучэнне, бясколерная, часцей жаўтаватая вадкасць з рэзкім пахам; выкарыстоўваецца як растваральнік, пры вырабе некаторых фарбавальнікаў, лекавых прэпаратаў.

**ХІНАЯ́НА** (санскр. hynajana = малая калясніца) — адзін з двух кірункаў у *будызме*, паслядоўнікі якога лічаць магчымым дасягненне *нірваны* толькі праз манаства.

**ХІНІДЗІ́Н** (ням. Chinidin) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў кары хіннага дрэва; выкарыстоўваецца ў медыцыне для лячэння *арытміі* сэрца.

**ХІНІ́Н** (ням. Chinin < іт. chinina, ад перуан. kina = кара) — *алкалоід*, белы крышталічны горкі на смак

парашок, які атрымліваецца з кары хіннага дрэва і выкарыстоўваецца ў медыцыне для лячэння малярыі і ў акушэрскай практыцы.

**ХІНО́НЫ** (ад перуан. kina = кара) — арганічныя араматычныя злучэнні, афарбаваныя крышталічныя рэчывы з рэзкім пахам; выкарыстоўваюцца пры вырабе фарбавальнікаў.

**ХІ́НТЭРЛАНД** (ням. Hinterland, ад hinter = за, ззаду + Land = краіна) — раён, які прылягае да прамысловага, гандлёвага цэнтра, порта і г.д.

**ХІ́ПІ** (англ. hippie) — 1) групы моладзі ў некаторых краінах, якія адмаўляюць існуючыя маральныя асновы, грамадскія нормы паводзін і вядуць валацужніцкае жыццё; 2) *перан.* чалавек, які вядзе сябе экстравагантна, знарок неахайна і прэтэнцыёзна апранаецца.

**ХІРАМА́НТ** (ад гр. cheir = рука + mantis = варажбіт) — той, хто займаецца *хірамантыяй*.

**ХІРАМА́НТЫЯ** (ад гр. cheir = рука + manteia = варажба) — варажба па лініях і абрысах далоні.

**ХІРАНАМІ́ДЫ** (н.-лац. chironomidae) — сямейства насякомых атрада двухкрылых, лічынак якіх называюць «матыль» і выкарыстоўваюць на корм для рыб, а таксама як прынаду пры лоўлі рыб.

**ХІРАТЭ́РЫЙ** (ад гр. cheir = рука + therion = звер) — жывёлы канца *палеазою* і пачатку *мезазою*, вядомыя па адбітках слядоў, што нагадваюць адбіткі рукі чалавека.

**ХІРО́Т** (ад гр. cheir, -ros = рука) — паўночнаамерыканская яшчарка з чэрвепадобным целам, без задніх канечнасцей, якая жыве ў зямлі.

**ХІРУ́РГ** (лац. chirurgus, ад гр. cheirurgos = рукадзельнік) — спецыяліст у галіне *хірургіі*.

**ХІРУ́РГІ** (гр. cheirurgos = рукадзельнік) — сямейства рыб атрада акунепадобных; пашыраны ў трапічных морах.

**ХІРУРГІ́Я** (лац. chirurgia, ад гр. cheirurgia = ручная праца) — галіна *медыцыны*, якая ажыццяўляе лячэнне хвароб аперацыйным шляхам.

**ХІТ** (англ. hit = удача, поспех) — вельмі модная песня, спектакль, фільм, кніга і г.д., што карыстаюцца поспехам.

**ХІТАНАМІ́ЦЭС** (н.-лац. chitonomyces) — сумчаты грыб сям. пейрычылавых, які з'яўляецца паразітам вадзяных павукоў, плывунчыкаў, плывунцоў і іншых насякомых.

**ХІТО́Н** (гр. chiton) — 1) доўгая і шырокая сарочка, часцей без рукавоў, у старажытных грэкаў, якая падпяразвалася з напускам; 2) касцюм танцоўшчыцы класічнага балета з глыбокімі разрэзамі па баках.

**ХІТО́НЫ** (ад гр. chiton = панцыр) — род панцырных *малюскаў*, пашыраных у морах ад Арктыкі да Антарктыкі; у большасці цела пакрыта ракавінкай з васьмі чарапіцападобна размешчаных пласцінак.

**ХІТ-ПАРА́Д** (ад англ. hit = удача, поспех + parade = парад) — 1) газетна-часопісны або радыё-тэлевізійны спіс выканаўцаў, якія ўзнагароджаны і выбраны чытачамі,

слухачамі або гледачамі; 2) апублікаванне гэтага ганаровага спісу ў нарысе, інтэрв'ю, рэпартажы або тэлеперадачы ў парадку атрыманых ацэнак.

**ХІТРЫДЫЯМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. chytridiomycetes) — клас ніжэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне *зааспорамі* або ў выніку *ізагаміі, гетэрагаміі, аагаміі*; пашыраны па ўсім зямным шары; большасць паразітуе на водарасцях, грыбах, некаторыя паразіты вышэйшых раслін (напр. бульбы, капусты).

**ХІТЫНАЗО́І** (н.-лац. chitinozoa) — група марскіх выкапнёвых жывёльных арганізмаў, рэшткі якіх выяўлены ў адкладах *ардовіку, сілуру*, ніжняга *дэвону*.

**ХІЦІ́Н** (лац. chitinum, ад гр. chiton = панцыр, абалонка) — арганічнае рэчыва групы вугляводаў, якое ўваходзіць у склад знешняга покрыва членістаногіх, а таксама абалонак клетак грыбоў, некаторых відаў водарасцяў.

**ХІЯ́ЗМ** (гр. chiasmos = перакрыжаванне) — 1) перакрыжаванне зрокавых нерваў на ніжняй паверхні прамежкавага мозгу пазваночных; 2) від сінтаксічнага *паралелізму*, пры якім у другой палавіне фразы члены сказа стаяць у адваротным парадку.

**ХІЯ́ЗМА** (н.-лац. chiazma, ад гр. chiasmos = перакрыжаванне) — форма перакрыжавання кан'югуючых гамалагічных *храмасом* у *меёзе*, якая абумоўлівае абмен іх участкамі.

**ХІЯСТАНЕЎРЫ́Я** (ад гр. chiasmos = перакрыжаванне + neuron = нерв) — перакрыжаванне *каннектываў* многіх бруханогіх *малюскаў*, якое адбываецца ў сувязі з паваротам вантробнага мяшка на 180°.

**ХЛАА́ЗМА** (гр. chloasma = зелень) — пігментныя плямы, пераважна на твары (у час цяжарнасці, пры некаторых захворваннях).

**ХЛАМІ́ДА** (гр. chlamys, -ydos) — 1) прамавугольны плашч з засцежкай на правым плячы ў старажытных грэкаў і рымлян; 2) *перан.* нязграбная доўгая адзежына.

**ХЛАМІДАБАКТЭ́РЫІ** (ад гр. chlamys, -ydos = плашч + *бактэрыі*) — група бактэрый, клеткі якіх утвараюць ланцужкі, пакрытыя слізістым чахлом; жывуць у забруджаных вадаёмах, сцёкавых водах.

**ХЛАМІДАМАНА́ДА** (ад гр. chlamys, -ydos = плашч + monas, -ados = адзінка) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая пашырана пераважна ў стаячых прэсных вадаёмах з вялікай колькасцю арганічных рэчываў.

**ХЛАМІДАСПО́РЫ** (ад гр. chlamys, -ydos = плашч + *споры*) — таўстасценныя клеткі некаторых грыбоў, якія ўтвараюцца ў выніку распадзення *гіфаў*, грыбніцы і дапамагаюць перажыць неспрыяльныя ўмовы.

**ХЛАМІ́ДЫІ** (н.-лац. chlamydia) — шарападобныя *бактэрыі*, якія з'яўляюцца паразітамі птушак, млекакормячых і чалавека.

**ХЛАРАКО́КУМ** (н.-лац. chlorococcum) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларакокавых, якая пашырана ў глебе, водных і наземных *біятопах*.

# Х

**ХЛАРА́Л** [ад *хлор* + *ал(каголь)*] — бясколерная масляністая вадкасць з рэзкім пахам, якая атрымліваецца ў выніку хларавання спірту; выкарыстоўваецца пры вырабе *інсектыцыдаў*.

**ХЛАРАЛГІДРА́Т** (ад *хларал* + *гідрат*) — бясколернае крышталічнае рэчыва гаркаватага смаку, якое выкарыстоўваецца як снатворны і процісутаргавы сродак.

**ХЛАРАЛО́БІЯН** (н.-лац. chlorolobion) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая трапляецца ў *планктоне* на рэштках жывёл і ў глебе.

**ХЛАРАНГІЁПСІС** (н.-лац. chlorongiopsis) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларандыёпсавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**ХЛАРАПЛА́НА** (н.-лац. chloroplana) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хлорасарцынавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах і ў глебе.

**ХЛАРАПЛА́СТЫ** (ад гр. chloros = зялёны + *-пласт*) — зялёныя *пластыды* ў клетках раслін, якія ўтрымліваюць *хларафіл*, *карацін*, *ксантафіл* і ўдзельнічаюць у працэсе *фотасінтэзу* (параўн. *храмапласты*).

**ХЛАРАПРЭ́Н** (фр. chloroprene) — арганічнае злучэнне хлору, вытворнае *бутадыену*, выкарыстоўваецца для атрымання сінтэтычнага каўчуку.

**ХЛАРАСПЛЕ́НІУМ** (н.-лац. chlorosplenium) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які развіваецца на адмерлай драўніне ў лясах і парках.

**ХЛАРА́ТЫ** (ад *хлор*) — солі хлорыстай кіслаты (напр. х. калію).

**ХЛАРАФІ́Л** (ад гр. chloros = зялёны + phyllon = лісток) — зялёны *пігмент* раслін, з дапамогай якога яны паглынаюць сонечную энергію і ажыццяўляюць *фотасінтэз*.

**ХЛАРАФІ́ТУМ** (н.-лац. chlorophytum) — травяністая расліна сям. лілейных з лінейным лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў трапічных лясах Паўд. Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ХЛАРАФО́РМ** (фр. chloroforme, ад гр. chloros = зялёны + лац. formica = мурашка) — арганічнае злучэнне, лятучая вадкасць з прыкрым пахам, якая ўтрымлівае *хлор* і выкарыстоўваецца для *наркозу*.

**ХЛАРАФО́С** [ад *хлор* + *фос-(фар)*] — белае крышталічнае ядавітае рэчыва, якое раствараецца ў вадзе і выкарыстоўваецца для барацьбы са шкоднымі насякомымі.

**ХЛАРАХІ́ТРЫУМ** (н.-лац. chlorochytrium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларахітрыевых, якая пашырана ў прэсных і марскіх водах.

**ХЛАРО́З** (н.-лац. chlorosis, ад гр. chloros = бледна-зялёны) — 1) адна з форм малакроўя, якая характарызуецца недахопам жалеза ў арганізме; бледная немач; 2) хвароба раслін, выкліканая недахопам у глебе жалеза, пры якой лісце жаўцее і бялее.

**ХЛАРЫ́ДЫ** (н.-лац. chloridum, ад гр. chloros = зялёны) — злучэнні хлору з іншымі элементамі (напр.

хларыд кальцыю, хларыд натрыю).

**ХЛАРЫ́Н** (ад *хлор*) — род штучнага валакна з *полівінілхларыду*, з якога робяць фільтры для кіслот, рыбалоўныя сеткі і інш.

**ХЛАРЫТО́ІД** (ад *хларыты* + *-оід*) — пародаўтваральны мінерал, *алюмасілікат* з групы крохкіх слюд.

**ХЛАРЫ́ТЫ** [ад гр. chloritis (lithos) = зялёны камень] — 1) група слюдападобных мінералаў, якія ўтрымліваюць хлорыстыя злучэнні; 2) солі хлорыстай кіслаты, якія выкарыстоўваюцца для адбельвання тканін, цэлюлозы, паперы.

**ХЛАРЭ́ЛА** (н.-лац. chlorella, ад гр. chloros = бледна-зялёны) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах, на вільготным грунце, зрэдку ў морах.

**ХЛАРЭМІ́Я** (ад *хлор* + *-эмія*) — абавязковая прысутнасць хлору ў крыві ў выглядзе яго злучэнняў.

**ХЛАРЭНХІ́МА** [ад *хлар(афіл)* + *-энхіма*] — тканка раслін, клеткі якой змяшчаюць фотасінтэтычныя структуры.

**ХЛОР** (н.-лац. chlorum, ад гр. chloros = жоўта-зялёны) — хімічны элемент з групы *галагенаў*, газ жоўта-зялёнага колеру; шырока распаўсюджаны ў прыродзе ў выглядзе розных злучэнняў (*гальвіт*, *сільвін* і інш.); выкарыстоўваецца для адбелкі тканін, абеззаражвання вады.

**ХЛОРАГАГЕ́ННЫ** (ад гр. chloros = зялёны + *-генны*); х - ы я к л е т к і — буйныя клеткі перытаніяльнага *эпітэлію* многашчацінiстых кольчацаў.

**ХЛОРАМІ́НЫ** (ад *хлор* + *аміны*) — хімічныя злучэнні, аміны, якія змяшчаюць хлор; выкарыстоўваюцца для дэзінфекцыі і адбельвання.

**ХЛОРАМІЦЭТЫ́Н** (ад гр. chloros = зялёны + mykes, -etos = грыб) — прыродны *антыбіётык* з шырокім антыбактэрыяльным дзеяннем.

**ХЛОРАСАРЦЫ́НА** (н.-лац. chlorosarcina) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. хлорасарцынавых, якая пашырана ў стаячых і ціхаплынных прэсных водах, у складзе слаявіны лішайнікаў і ў глебе.

**ХЛОРАЦЭТАФЕНО́Н** (ад *хлор* + *ацэтон* + гр. phaino = свячу) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое належыць да слёзатачывых атрутных рэчываў.

**ХЛОРБЕНЗО́Л** (ад *хлор* + *бензол*) — арганічнае злучэнне, *араматычны* галагеназмяшчальны вуглевадарод, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік, пры вырабе некаторых лакаў, фарбавальнікаў.

**ХЛОРГАРМІ́ДЫУМ** (ад *хлор* + *гармідыум*) — тое, што і *гармідыум*.

**ХЛОРПІКРЫ́Н** (ад *хлор* + гр. pikros = горкі) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць з рэзкім пахам, якая прымяняецца для дэзінфекцыі глебы і як атрутнае рэчыва.

**ХЛОРЭТЫ́Л** (ад *хлор* + *этыл*) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоў-

ваецца для мясцовага абязбольвання і пры кароткачасовым *наркозе*.

**ХНА** (ар. chena) — чырвона-жоўтая фарба раслінна паходжання, якая выкарыстоўваецца для афарбоўкі шэрсці, а таксама валасоў, ногцяў і інш.

**ХО́БІ** (англ. hobby) — захапленне чым-н., любімы занятак у вольны час.

**ХОЛ** (англ. hall) — вялікае памяшканне, звычайна ў грамадскіх будынках, прызначанае для адпачынку, чакання.

**ХОЛАБАЗІДЫЯМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. holobasidiomycetidae) — падклас базідыяміцэтаў, для якога характэрна наяўнасць цэласнай, аднаклетачнай, цыліндрычнай або булавападобнай *базідыі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін.

**ХО́ЛДЗІНГ** (англ. holding, ад hold = затрымліваць) — парушэнне правіл у *боксе*, якое заключаецца ў захопліванні рук або тулава праціўніка.

**ХО́ЛДЗІНГ-КО́МПАНІ** (англ. holding company) — *кампанія*, якая сама не мае вытворчых прадпрыемстваў, а валодае *акцыямі* іншых кампаній.

**ХОЛЬД** (венг. hold) — мера плошчы ў Венгрыі, роўная 0,432 га.

**ХО́МІНГ** (ад англ. home = вяртацца дамоў) — прыроджаная рэакцыя жывёл *(інстынкт)*, якая абумоўлівае вяртанне іх на свой участак жыхарства, туды, дзе яны нарадзіліся.

**ХОН** (англ. hone) — інструмент у выглядзе металічнай галоўкі з абразіўнымі брускамі, якім *хонінгуюць*.

**ХОНДРАДЫСТРАФІ́Я** (ад гр. chondros = храсток + *дыстрафія*) — прыроджаная хвароба касцёва-храстковай сістэмы.

**ХОНДРАСАРКО́МА** (ад гр. chondros = храсток + *саркома*) — злаякасная пухліна на храстковай тканцы, разнавіднасць саркомы.

**ХО́ПЕР** (англ. hopper, ад hop = скакаць) — самаразгружальны вагон з кузавам у выглядзе бункера для перавозкі вугалю, руды і іншых сыпкіх грузаў.

**ХОР** (лац. chorus, ад гр. choros) — 1) група або калектыў спевакоў, якія выконваюць разам вакальныя творы; 2) музычная п'еса, прызначаная для выканання пеўчым калектывам; 3) адначасовае гучанне многіх гукаў.

**-ХОРД** (гр. chorde = струна) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «струна», «дрот», «гучанне».

**ХО́РДА** (лац. chorda, ад гр. chorde = струна) — 1) *мат.* прамая, што злучае дзве кропкі якой-н. крывой лініі; 2) *анат.* восевы шкілет хордавых жывёл і ў зародка чалавека.

**ХОРМА́ЙСТАР** (ад *хор* + *майстар*) — кіраўнік хору, харавы *дырыжор*.

**ХО́РЫ** (гр. choros = хор) — адкрытая *галерэя* або балкон у верхняй частцы параднай залы або царкоўнага будынка (першапачаткова для размяшчэння хору, музыкантаў).

**-ХОРЫЯ** гл. *-харыя*.

**ХО́СПІС** (англ. hospice, ад лац. hospitium = гасціннасць) — 1) заезны дом, які ўтрымліваецца хрысціянскімі абшчынамі або манахамі; гасцініца; 2) прытулак, багадзельня; спецыяльная клініка для безнадзейна хворых.

**ХО́СТА** (н.-лац. hosta) — тое, што і *функія*.

**ХО́ТА** (ісп. jota) — іспанскі народны парны *танец* у хуткім тэмпе, а таксама музыка да гэтага танца.

**ХРААМО́НАС** (н.-лац. chroomonas) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. крыптаманадавых, якая пашырана ў прэсных і мінералізаваных вадаёмах.

**ХРАМА-** гл. *хрома-*.

**ХРАМАГЕ́ННЫ** (ад *храмагены*) — які выдзяляе фарбавальнік або выклікае афарбоўванне; х-ы я б а к т э р ы і — бактэрыі, якія ў працэсе росту на розных пажыўных асяроддзях утвараюць афарбаваныя прадукты абмену *(пігменты)*.

**ХРАМАГЕ́НЫ** (ад *храма-* + -ген) — бясколерныя рэчывы ў клетках раслінных і жывёльных тканак, якія набываюць колер пры акісленні.

**ХРАМАНСІ́ЛЬ** [ад *хром* + н.-лац. nan(ganum) = марганец + sil(icium) = крэмній] — канструкцыйная сярэднелегіраваная сталь, якая змяшчае *хром, марганец, крэмній*; выкарыстоўваецца ў самалёта- і машынабудаванні.

**ХРАМАПЛА́СТЫ** (ад *храма-* + *-пласт*) — *пластыды* ў клетках раслін, афарбаваныя пігментамі *караціноідамі* ў жоўты, аранжавы, чырвоны, часам карычневы колер; уласцівы пераважна даспелым пладам (шыпшына, памідоры, перац); параўн. *хларапласты*.

**ХРАМАСКО́П** (ад *храма-* + -скоп) — прыбор для атрымання каляровага адлюстравання сумяшчэннем двух або трох чорна-белых фатаграфічных адлюстраванняў, якія асвятляюцца па-рознаму афарбаваным святлом.

**ХРАМАСО́МЫ** (ад *храма-* + *сома*) — пастаянныя састаўныя часткі клетачнага ядра жывёльных і раслінных арганізмаў, носьбіты спадчыннага рэчыва.

**ХРАМАСФЕ́РА** (ад *храма-* + *сфера*) — слой сонечнай атмасферы, якая знаходзіцца над *фотасферай*.

**ХРАМАТА-** (гр. chroma, -atos = колер, фарба) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «звязаны з афарбоўкай, колерам».

**ХРАМАТАГРА́ФІЯ** (ад *храмата-* + *-графія*) — метад раздзялення і аналізу сумесей, заснаваны на размеркаванні іх кампанентаў паміж дзвюма фазамі, нерухомай і рухомай, якая праходзіць праз нерухомую.

**ХРАМАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *храмата-* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор біхрамату калію.

**ХРАМАТАСКО́П** (ад *храмата-* + *-скоп*) — разнавіднасць нерухомага *калейдаскопа* з афарбаванымі каменьчыкамі і шкельцамі, прымацаванымі да валка, які круціцца.

**ХРАМАТАФО́РЫ** (ад *храмата-* + *-фор*) — 1) пігментныя клеткі ў

скураным покрыве жывёл і чалавека; 2) бялковае цела *пратаплазмы* клетак водарасцяў.

**ХРАМАТО́ГРАФ** (ад *храмата-* + *-граф*) — прыбор, які выкарыстоўваецца пры *храматаграфіі*.

**ХРАМАТРО́ПЫ** (ад *храма-* + *-тропы*) — штучныя арганічныя фарбавальнікі, якія выкарыстоўваюцца пераважна ў тэкстыльнай прамысловасці.

**ХРАМА́ТЫ** (ад гр. chroma, -atos = колер, фарба) — солі хромавай кіслаты, афарбаваныя ў жоўты колер; выкарыстоўваюцца пераважна ў тэкстыльнай і скуранай прамысловасці.

**ХРАМАТЫ́ДЫ** (ад гр. chroma, -atos = колер, фарба + eidos = выгляд) — ніці (звычайна дзве), з якіх складаецца нармальная *храмасома*.

**ХРАМАТЫ́ЗМ** (гр. chromatismos = фарбаванне) — 1) уласцівасць белага праменя раскладацца на прамяні рознага колеру; 2) *муз.* узыходны і сыходны меладычны рух на паўтонах, разнавіднасць *альтэрацыі* 1 (параўн. *дыятоніка*).

**ХРАМАТЫ́ПІЯ** (ад *храма-* + *-тыпія*) — *уст.* многакаляровы друк.

**ХРАМАТЫ́ЧНЫ** (гр. chromatikos = каляровы) — 1) заснаваны на *храматызме*; каляровы; 2) пабудаваны на 12 паўтонах тэмпераванай музычнай сістэмы.

**ХРАМАФІ́ННЫ** (ад *хром* + лац. affinus = сваяцкі); х - а я с і с т э м а — тое, што і *адрэналавая* сістэма.

**ХРАМАФО́РЫ** (ад *храма-* + *-фор*) — групы атамаў, якія абумоўліваюць афарбоўку арганічных злучэнняў.

**ХРАМАФО́Т** [ад *храма-* + *фат(аграфія)*] — спосаб капіравання паўтонавых *негатываў* на цынк або камень з выкарыстаннем спецыяльнага капіравальнага апарата.

**ХРАМАЦІ́Н** (ад гр. chroma, -atos = колер, фарба) — *біял.* рэчыва ядра жывёльнай і расліннай клеткі, здольнае афарбоўвацца пры гісталагічнай апрацоўцы (проціл. *ахрамацін*).

**ХРАМЕ́ЛЬ** [ад *хром* + *(нік)ель*] — гарачаўстойлівы сплаў хрому і нікелю, які выкарыстоўваецца для вырабу награвальных прыбораў.

**ХРАМІ́Т** (ад *хром*) — 1) мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага колеру; хромавая руда; 2) вогнетрывалы матэрыял з хромістага жалеза; выкарыстоўваецца ў металургіі.

**-ХРАМІЯ, -ХРОМІЯ** (ад гр. chroma = колер, фарба) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «афарбоўка».

**ХРАМУЛІ́НА** (н.-лац. chromulina) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. храмулінавых, якая пашырана ў невялікіх стаячых вадаёмах.

**ХРАНА-** гл. *хрона-*.

**ХРАНАГРА́МА** (ад *храна-* + *-грама*) — лацінскі верш, у якім вялікія літары падабраны з рымскіх лічбаў так, што ўтвараюць год падзеі, якая апісваецца ў творы.

**ХРАНАГРА́ФІЯ** (гр. chronographia) — 1) паслядоўнае ў часе апісанне падзей; 2) гістарычны твор,

дзе матэрыял пададзены ў каляндарнай паслядоўнасці.

**ХРАНАЗО́НА** (ад *храна-* + *зона*) — падраздзяленне агульнай стратыграфічнай *шкалы*, падпарадкаванае геалагічнаму ярусу.

**ХРАНА́КСІЯ** (ад *храна-* + гр. aksia = вартасць, працяглаець) — мінімальны час, за які электрычны ток пэўнай сілы павінен уздзейнічаць на жывую тканку, каб выклікаць фізіялагічную рэакцыю.

**ХРАНАЛАГІЗА́ЦЫЯ** (ад *храналогія*) — устанаўленне часу існавання чаго-н.

**ХРАНАЛО́ГІЯ** (лац. chronologia, ад гр. chronos = час + logos = вучэнне) — 1) дапаможная гістарычная дысцыпліна, што ўстанаўлівае гістарычныя даты, час з'яўлення дакументаў і інш.; 2) пералік падзей у парадку іх паслядоўнасці ў часе; 3) паслядоўнасць з'яўлення чаго-н. у часе.

**ХРАНАСКО́П** (ад *храна-* + *-скоп*) — прыбор для вымярэння надзвычай малых прамежкаў часу (да адной тысячнай долі секунды).

**ХРАНІКА́ЛЬНЫ** (ад *хроніка*) — які мае адносіны да хронікі, змяшчае ў сабе хроніку, з'яўляецца хронікай; дакументальна дакладны.

**ХРАНІКЁР** (фр. chroniquer) — супрацоўнік газеты, радыёвяшчання, часопіса, які дае інфармацыю ў аддзел *хронікі*.

**ХРАНІ́ЧНЫ** (гр. chronikos) — зацяжны, пастаянны; такі, які цягнецца доўгі час (напр. х-ая хвароба).

**ХРАНО́ГРАФ** (ад *храна-* + *-граф*) — 1) помнік старажытнай пісьменнасці, які змяшчае гістарычную *хроніку* якіх-н. краін або асобнай дзяржавы; 2) прыбор для дакладнай рэгістрацыі моманту якога-н. назірання і для вымярэння кароткіх інтэрвалаў часу.

**ХРАНО́МЕТР** (ад *храна-* + *-метр*) — вельмі дакладны гадзіннік.

**ХРОМ** (гр. chroma = колер, фарба) — 1) хімічны элемент, цвёрды метал шэра-стальнога колеру, які выкарыстоўваецца для вырабу цвёрдых сплаваў, для пакрыцця металічных вырабаў; 2) соль хромавай кіслаты, якая выкарыстоўваецца як жоўтая, аранжавая, чырвоная ці зялёная фарба; 3) сорт мяккай тонкай скуры.

**-ХРОМ** (гр. chroma = колер, фарба) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «колер», «фарба».

**ХРОМА-**, **ХРАМА-** (гр. chroma = колер, фарба) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «звязаны з афарбоўкай, з колерам».

**ХРОМАГРАВЮ́РА** (ад *хрома-* + *гравюра*) — многакаляровы адбітак, зроблены літаграфскім спосабам.

**ХРОМАЛІТАГРА́ФІЯ** (ад *хрома-* + *літаграфія*) — 1) літаграфічны спосаб друкавання некалькімі фарбамі; 2) адбітак, зроблены такім спосабам.

**ХРОМАПРАТЭІ́ДЫ** (ад *хрома-* + *пратэіды*) — складаныя бялкі, якія змяшчаюць афарбаваныя небялковыя кампаненты.

**ХРОМАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *хрома-* + *фатаграфія*) — каляровая фатаграфія.

# Х

**ХРОМАЦЫСТАСКАПІ́Я** (ад *хрома-* + *цыстаскапія*) — метад функцыянальнага абследавання нырак пры дапамозе фарбавальніка індыгакарміну.

**-ХРОМІЯ** гл. *-храмія*.

**ХРОНА-, ХРАНА-** (гр. chronos = час) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню слову «час».

**ХРОНАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *хрона-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае біялагічныя рытмы, працяканне розных біялагічных працэсаў у часе.

**ХРОНАКСІМЕ́ТР** (ад *хранаксія* + *-метр*) — прыбор для вымярэння хранаксіі.

**ХРОНАКСІМЕ́ТРЫЯ** (ад *хранаксія* + *-метрыя*) — вызначэнне хранаксіі пры дапамозе *хронаксіметра*.

**ХРОНАМЕТРА́Ж** (фр. chronometrage, ад гр. chronos = час + metreo = мераю) — вымярэнне затрат часу на што-н.

**ХРОНАФАТАГРА́МА** (ад *хрона-* + *фота-* + *-грама*) — серыя здымкаў асобных фаз руху ўсёй фігуры аб'екта (гл. *цыклаграфія*).

**ХРО́НІКА** (гр. chronika = летапіс) — 1) запіс гістарычных падзей у храналагічнай паслядоўнасці; летапіс; 2) літаратурны твор, у якім паслядоўна выкладаецца гісторыя грамадскіх, палітычных і іншых падзей; 3) кароткае паведамленне аб бягучых падзеях у газеце, па радыё; 4) дакументальны кінафільм аб падзеях бягучага жыцця.

**ХРУСТА́ЛЬ** (гр. krystallos = крышталь) — шкло высокай якасці, якое мае асобы бляск і здольнасць моцна праламляць святло, а таксама вырабы з такога шкла; г о р н ы х. — бясколерны празрысты мінерал, від кварцу.

**ХРЫЗА-** (гр. chrysos = золата) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які мае залаты колер, залацістае адценне».

**ХРЫЗАБЕРЫ́Л** (ад *хрыза-* + *берыл*) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў, каштоўны празрысты камень зялёнага або залацістажоўтага колеру са шкляным бляскам.

**ХРЫЗАКА́ПСА** (н.-лац. chrysocapsa) — каланіяльная залацістая водарасць сям. хрызакапсавых, якая пашырана ў *планктоне* невялікіх вадаёмаў.

**ХРЫЗАКО́КУС** (н.-лац. chrysococcus) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. храмулінавых, якая пашырана ў *планктоне* невялікіх стаячых вадаёмаў.

**ХРЫЗАКО́ЛА** (ад *хрыза-* + гр. kolla = клей) — мінерал класа *сілікатаў* блакітнага, зялёна-сіняга колеру, разнавіднасць *монтамарыланіту*, медная руда.

**ХРЫЗАЛІ́Т** (гр. chrysolithos, ад chrysos = золата + lithos = камень) — мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *алівіну*, празрысты каштоўны камень залаціста-зялёнага колеру.

**ХРЫЗАМАНА́ДЫ** (ад *хрыза-* + гр. monas, -ados = адзінка) — група ніжэйшых водных арганізмаў, якія жывуць пераважна ў *планктоне* прэсных вадаёмаў і мораў.

**ХРЫЗАМІ́КСА** (н.-лац. chrysomyxa) — *базідыяльны* грыб сям.

меламп̆соравых, якія развіваецца на хвойных дрэвах.

**ХРЫЗАНТЭ́МА** (н.-лац. chrysanthemum < гр. chrysanthemon, ад chrysos = золата + anthemon = кветка) — травяністая расліна сям. складанакветных з пышнымі махрыстымі кветкамі рознай афарбоўкі, пашыраная ў Міжземнамор'і; некаторыя віды культывуюцца як дэкаратыўныя.

**ХРЫЗАПІ́КСІС** (н.-лац. chrysopyxis) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. хрызакапсавых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**ХРЫЗАПРА́З** (гр. chrysoprasos, ад chrysos = золата + prasios = светлазялёны) — мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *халцэдону*, паўкаштоўны камень яблычна-зялёнага колеру.

**ХРЫЗАСТЭФАНАСФЕ́РА** (н.-лац. chrysostephanosphaera) — каланіяльная залацістая водарасць сям. хрызакапсавых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ХРЫЗАСФЕРЭ́ЛА** (н.-лац. chrysosphaerella) — каланіяльная залацістая водарасць сям. сінуравых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ХРЫЗАТЫ́Л** (ад *хрыза-* + гр. tilos = валакно) — мінерал класа *сілікатаў*, валакністая разнавіднасць *серпенціну* зеленавата-жоўтага колеру.

**ХРЫЗАЭЛЕФАНТЫ́Н** (ад *хрыза-* + гр. elephantinos = сланоеы) — старажытнагрэчаская скульптура з золата (валасы, адзенне) і сланоеай косці (цела) на драўляным каркасе.

**ХРЫЗІДА́ЛІС** (н.-лац. chrysidalis) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. вохраманадавых, якая трапляецца ў неглыбокіх вадаёмах.

**ХРЫСЦІЯ́НСТВА** (ад гр. Christos = *літар*. памазаннік) — адна з сусветных рэлігій (нараўне з *будызмам* і *ісламам*), якая ўзнікла ў пач. 1 ст. і стала адной з найбольш пашыраных рэлігій на Зямлі.

**ХРЭСТА́МАТЫЯ** (гр. chrestomatheia, ад chrestos = карысны + mathos = веданне) — вучэбны дапаможнік, які ўяўляе сабой зборнік выбраных твораў або ўрыўкаў з іх.

**ХУЛАХУ́П** (англ. hula-hoop, ад hula = назва палінезійскага танца + hoop = абруч) — 1) гімнастычны абруч, які круцяць вакол тулава; 2) фізічныя практыкаванні, кручэнне абруча вакол цела без дапамогі рук.

**ХУЛІГА́Н** (англ. hooligan, ад Hooligan = прозвішча сям'і злачынцаў, якія жылі ў Лондане ў 18 ст.) — той, хто груба парушае грамадскі парадак, учыняе бясчынствы

**ХУНВЕЙБІ́НЫ** (кіт. hunwejbin) — удзельнікі створаных у 1966 г. у час т.зв. «культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі атрадаў з вучняў сярэдніх школ і студэнтаў, якія выкарыстоўваліся для барацьбы з праціўнікамі Мао Цзэ-дуна.

**ХУ́НТА** (ісп. junta = *літар*. сход, аб'яднанне) — 1) назва розных грамадска-палітычных аб'яднанняў і груповак у Іспаніі і краінах Лац. Амерыкі; 2) выканаўчы ўрадавы орган у некаторых лацінаамерыканскіх краінах; 3) ваенны

рэакцыйны ўрад, які прыйшоў да ўлады ў выніку дзяржаўнага пераароту.

**ХУНХУ́ЗЫ** (кіт. hung hu-cy = чырвоныя бароды) — удзельнікі грабежніцкіх банд у Кітаі пач. 20 ст.

**ХУРА́Л** (манг. chural) — выбарны орган вярхоўнай і мясцовай улады ў Манголіі.

**ХУРМА́** (цюрк. hurma, ад перс. hurmā = фінік) — дрэвавая або кустовая расліна сям. эбенавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, а таксама аранжава-чырвоны салодкі плод гэтай расліны.

**ХЭНД** (англ. hand = далонь) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 10,16 см.

**ХЭ́ПЕНІНГ** (англ. happening = якое здараецца) — від сцэнічнага дзеяння, што зарадзіўся ў 1950-я гады ў ЗША, для якога характэрны парадаксальнасць і наўмысная бязмэтавасць, разлік на шырокую імправізацыю.

# Ц

**ЦАІЗІ́Т** (ад славен. Zois = прозвішча славен. асветніка) — мінерал класа *сілікатаў* у выглядзе зярністых агрэгатаў шэрага, зялёнага, ружовага, чырвонага або бурага колеру са шкляным бляскам, структурай аналагічны *эпідоту*.

**ЦА́ЛЯ** (польск. cal, ад ням. Zoll) — 1) мера даўжыні ў даўняй Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім, роўная 2,54 см; 2) мера таўшчыні дошак, роўная 16 мм.

**ЦА́НГА** (ням. Zange) — прыстасаванне для зажыму цыліндрычных або прызматычных прадметаў у металарэжучых станках, прыборах і інш.

**ЦАНІКЕ́ЛІЯ** (н.-лац. zannichellia) — водная травяністая расліна сям. цанікеліевых з вузкалінейным лісцем, пашыраная ў розных кліматычных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка ў рэках, азёрах, ручаях.

**ЦАПАНЛА́К** (ням. Zaponlack) — празрысты цэлюлозны лак для пакрыцця металічных вырабаў.

**ЦА́ПФА** (ням. Zapfen) — 1) частка вала ці восі, якая апіраецца на падшыпнік; 2) невялікі цыліндрычны выступ на сярэдзіне ствала гарматы.

**ЦВІК** (польск. ćwiek, ад с.-в.-ням. zwëc) — 1) завостраны жалезны шпень з плешкай на тупым канцы, прызначаны для змацавання чаго-н.; 2) *перан.* галоўнае, значнае ў чым-н.

**ЦВІН** (англ. twine = кручаная нітка) — паўшарсцяная тканіна з кручанымі ніткамі асновы для жаночых летніх паліто.

**ЦВІНГЛІЯ́НСТВА** [ад ням. U. Zwingli = прозвішча дзеяча Рэфармацыі ў Швейцарыі (1484—1531)] — адна з плыняў у *Рэфармацыі*; узнікла ў 16 ст. у Швейца-

рыі і Германіі, пазней злілася з *кальвінізмам*.

**ЦВІНДЭ́К** (англ. tween-deck) — *мар.* памяшканне паміж дзвюма палубамі судна, прызначанае для каманды, пасажыраў, грузаў.

**ЦВІНТА́Р** (польск. cmentarz < лац. caementarius, ад гр. koimeterion) — 1) царкоўны двор ці агароджанае месца пры царкве; 2) могілкі пры царкве.

**ЦВІНТАРЭ́Й** (н.-лац. centaurium) — травяністая расліна сям. гарычкавых з простым лісцем і ружовымі або белымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; расце на лугах, узлесках, сярод хмызняку; лекавая.

**ЦЕЛАТРЭ́МА** (н.-лац. thelotrema) — накіпны лішайнік сям. целатрэмавых, які расце на кары старых лісцевых дрэў, радзей на хвойных.

**ЦІК** [1] (фр. tic) — міжвольныя скарачэнні мышцаў твару, шыі і рук як вынік захворванняў нервовай сістэмы.

**ЦІК** [2] (гал. tijk, англ. tick) — шчыльная льняная або баваўняная тканіна, звычайна паласатая, якая ўжываецца для абіўкі мэблі, для пашыўкі чахлоў і інш.

**ЦІК** [3] (англ. teak) — дзікарослае дрэва сям. вербенавых з моцнай драўнінай, якое расце ў лясной паласе Індыі, Індакітая.

**ЦІЛАХРЫ́ЗІС** (н.-лац. tylochrysis) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. лагініевых, якая трапляецца ў вадаёмах на нітках водарасцей *мужоцыя, эдагоніум, мікраспора, трыбанема*.

**ЦІР** [1] (фр. tir) — закрытае ці паўзакрытае памяшканне для вучэбнай і трэніровачнай стральбы з ручной агнястрэльнай і пнеўматычнай зброі.

**ЦІР** [2] (гал. teer) — састаў смалы, *каніфолі* і інш., якім змазваюць стаячы *такелаж* і *рангоўт* на караблях.

**ЦІСДА́ЛІЯ** (н.-лац. teesdalia) — травяністая расліна сям. крыжакветных з перыстым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў густых гронках, пашыраная ў Еўропе і Малой Азіі.

**ЦІ́ТЛА** (гр. titlos = надпіс) — надрадковы знак у старажытнагрэчаскай, стараславянскай і ўсходнеславянскай пісьменнасці, які ставіўся над словамі, напісанымі скарочана, або над літарамі, калі яны абазначалі лічбы.

**ЦІТР** (фр. titre = якасць, характарыстыка) — 1) уступны надпіс або тлумачальны тэкст у кінафільме (параўн. *субцітр*); 2) *хім.* ступень канцэнтрацыі раствору (у грамах рэчыва на 1 $см^3$ раствору).

**ЦНАТЛІ́ВЫ** (польск. cnotliwy) — 1) строгі ў маральных адносінах; 2) які не страціў нявіннасці.

**ЦНО́ТА** (польск. cnota) — 1) маральная чысціня; строгасць у маральных адносінах; 2) дзявочая нявіннасць.

**ЦО́КАЛЬ** (іт. zoccolo) — 1) ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, слупа, помніка, якая размешчана непасрэдна на фундаменце і крыху выступае; 2) металічная частка электрычнай лямпачкі, якая служыць для замацавання яе ў патроне.

# Ц

**ЦУГ** (польск. cug, ад ням. Zug) — 1) доўгі рад, чарада жывёл, штушак, машын, якія рухаюцца адна за адной; 2) запрэжка, у якой коні ідуць гужам або парамі адзін за адным.

**ЦУ́ГЛІ** (польск. cugle, ад ням. Zügel) — два змацаваныя (накшталт ланцуга) жалезныя звяны, якія закладаюцца ў рот каню пры закілзванні.

**ЦУГТРАМБО́Н** (ад ням. Zug = ход + *трамбон*) — *уст.* трамбон з рассоўным трубчастым каленам, рухам якога змяняецца вышыня гуку.

**ЦУГЦВА́НГ** (ням. Zugzwang, ад Zug = ход + Zwang = прымус) — вымушаны, нявыгадны ход у шахматнай гульні.

**ЦУ́КАР** (польск. cukier < ням. Zucker < іт. zuchero, ад ар. sukkar) — 1) пажыўны харчовы прадукт, белае крышталічнае рэчыва, салодкае на смак, якое вырабляецца з цукровых буракоў або цукровага трыснягу; 2) адно з арганічных злучэнняў, пераважна з групы вугляводаў; 3) *перан.* той, хто прыносіць асалоду.

**ЦУКА́ТЫ** (польск. cukaty < іт. succade, ад лац. sucus = сок) — зацукраваныя фрукты.

**ЦУКЕ́РКА** (польск. cukierka, ад cukier = цукар) — салодкі кандытарскі выраб у выглядзе плітачкі, шарыка і інш.

**ЦУКРА́ЗА** (ад *цукар*) — *фермент*, які расшчапляе *цукрозу* на *глюкозу* і *фруктозу*.

**ЦУКРАМЕ́ТР** (ад *цукар* + *-метр*) — прыбор для вымярэння канцэнтрацыі цукру ў растворах.

**ЦУКРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *цукар* + *-метрыя*) — устанаўленне працэнта цукру або цукрыстых рэчываў у растворах.

**ЦУКРАМІЦЭ́ТЫ** (ад *цукар* + *-міцэты*) — сумчатыя грыбы (дрожджы) сям. цукраміцэтавых, якія развіваюцца ў глебе, на кветках, пладах, харчовых прадуктах; выкарыстоўваюцца ў хлебапячэнні, пры вытворчасці кефіру, кумысу, квасу, піва і іншых напіткаў; цукровыя грыбы.

**ЦУКРО́ЗА** (ад *цукар*) — арганічнае злучэнне класа *дыцукрыдаў*, цукар, які змяшчаецца ў раслінах; у прамысловасці атрымліваецца з цукровага трыснягу і цукровых буракоў.

**ЦУКРЫ́ДЫ** (ад *цукар* + гр. eidos = выгляд) — вугляводы, якія пры *гідролізе* распадаюцца на *монацукрыды*; падзяляюцца на *алігацукрыды* і *поліцукрыды*.

**ЦУНА́МІ** (яп. cunami) — гіганцкія ўсёразбуральныя хвалі, якія ўзнікаюць на паверхні акіяна ў час падводных землетрасенняў.

**ЦЫБЕЦІ́Н** (н.-лац. zibethum, ад ар. zabād = пена) — рэчыва з рэзкім пахам *мускусу*, якое здабываюць з залоз *вівер*, выкарыстоўваецца ў парфумерыі.

**ЦЫБО́РЫЯ** (н.-лац. ciboria) — сумчаты грыб сям. склератыніевых, які развіваецца на суквеццях вольхі і асіны.

**ЦЫБУ́ЛЯ** (ст.-польск. cybula < с.-в.-ням. zibolle, ад лац. cepulla) — 1) травяністая расліна сям. цыбулевых з адзіночнай буйной цыбулінай і трубчастымі лістамі, пашыраная ў розных кліматычных зо-

нах, а таксама ядомыя трубчастыя лісты або галоўкі гэтай расліны; 2) назва некаторых травяністых цыбульных раслін сям. лілейных (напр. ц. мядзведжая, ц. заячая).

**ЦЫВІЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. civilisation, ад лац. civilis = грамадзянскі) — 1) узровень развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры, дасягнуты якой-н. грамадскай фармацыяй; 2) сучасная сусветная культура, прагрэс, асвета; 3) ступень грамадскага развіцця, наступная пасля варварства.

**ЦЫВІЛІ́СТЫКА** (ад лац. civilis = грамадзянскі) — грамадзянскае права; навука грамадзянскага права.

**ЦЫВІ́ЛЬНЫ** (польск. cywilny, ад лац. civilis) — 1) грамадзянскі, неваенны; 2) які мае адносіны да невайсковых людзей, уласцівы ім.

**ЦЫГА́РА** (фр. cigare, ад ісп. cigarro) — туга скручанае ў трубачку для курэння тытунёвае лісце.

**ЦЫГАРЭ́ТА** (фр. cigarette, ад cigare < ісп. cigarro = цыгара) — маленькая тонкая *цыгара*; папяроса без муштука.

**ЦЫГЕ́ЙКА** (ад ням. Ziege = каза) — *футра*, выробленае са шкуры авечкі цыгейскай пароды.

**-ЦЫД** (лац. caedo = забіваю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «знішчэнне».

**ЦЫДУ́ЛКА** (польск. cedułka, ад с.-лац. cedula) — *разм.* невялічкая запіска, пісулька.

**-ЦЫДЫ** (лац. caedo = забіваю) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «знішчаць».

**ЦЫКА́ДА** (лац. cicada) — хобатнае насякомае атрада раўнакрылых, самцы якога ўтвараюць характэрнае стракатанне; корміцца сокамі раслін, шкодзіць збожжавыя культуры, пладовыя дрэвы.

**ЦЫКЛ** (гр. kyklos = круг) — 1) сукупнасць узаемазвязаных з'яў, працэсаў, якая складае замкнёны круг развіцця (напр. вытворчы ц., ц. развіцця лічынкі); 2) закончаны рад лекцый, канцэртаў, аб'яднаных агульнай тэмай; 3) шэраг мастацкіх твораў, якія складаюць закончанае цэлае і аб'яднаны агульнай тэматыкай; 4) пэўная група навук (прыродазнаўчых, грамадскіх, тэхнічных).

**ЦЫКЛА-** (гр. kyklos = круг) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «круг», «кола».

**ЦЫКЛАБУТА́Н** (ад *цыкла-* + *бутан*) — бясколерны, са слабым пахам газ.

**ЦЫКЛАГЕКСА́Н** (ад *цыкла-* + гр. heks = шэсць) — арганічнае злучэнне, насычаная вуглевадародам бясколерная з характэрным пахам вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік і як сыравіна пры вырабе сінтэтычных валокнаў.

**ЦЫКЛАГЕНЕ́З** (ад *цыклон* + *-генез*) — узнікненне і развіццё цыклону.

**ЦЫКЛАГРА́МА** (ад *цыкла-* + *-грама*) — фатаграфічны здымак светлага рухомага пункта.

**ЦЫКЛАГРА́ФІЯ** (ад *цыкла-* + *-графія*) — метад вывучэння рухаў чалавека шляхам фатаграфавання

запаленых лямпачак, умацаваных на рухомых частках цела; у выніку атрымліваецца *хронафатаграма*.

**ЦЫКЛАДРО́М** (ад *цыкла-* + *-дром*) — тое, што і *веладром*.

**ЦЫКЛАКАНВЕ́РТАР** (ад *цыкла-* + *канвертар*) — пераўтваральнік электрычнай энергіі частаты крыніцы сілкавання ў энергію пераменнага току зменнай частаты перыядычным пераключэннем сустрэчна-паралельна злучаных вентыляў.

**ЦЫКЛАМАРФО́З** (ад *цыкла-* + *-марфоз*) — перыядычныя сезонныя змены ў будове цела асобных пакаленняў жывёл, не звязаныя з характарам размнажэння.

**ЦЫКЛАМЕ́Н** (н.-лац. cyclamen, ад гр. kyklaminos) — травяністая шматгадовая расліна сям. першацветных з буйнымі белымі, ружовымі або чырвонымі адзіночнымі кветкамі, пашыраная ў гарах Міжземнамор'я і Цэнтр. Еўропы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; альпійская фіялка; драква.

**ЦЫКЛАПАРАФІ́НЫ** (ад *цыкла-* + *парафін*) — тое, што і *нафтэны*.

**ЦЫКЛАПІ́ЧНЫ** (ад *цыклоп*) — масіўны, вельмі вялікі (звычайна пра будынкі, збудаванні).

**ЦЫКЛАПІ́Я** (ад гр. kyklops = круглавокі) — рэдкі парок развіцця, наяўнасць толькі аднаго вока, што змяшчаецца на сярэдняй лініі твару.

**ЦЫКЛАПРАПА́Н** (ад *цыкла-* + *прапан*) — арганічнае злучэнне, вуглевадарод *аліцыклічнага* рада, газ; прымяняецца ў хірургіі як агульны *анестэтык*.

**ЦЫКЛАСТЭ́ФАНАС** (н.-лац. cyclostephanos) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. таласіязіравых, якая пашырана ў *планктоне* азёр і рэк.

**ЦЫКЛАТРО́Н** (ад *цыкла-* + *-трон*) — спецыяльны складаны прыбор для павелічэння энергіі руху зараджаных ядзерных часціц.

**ЦЫКЛАТЫ́МІЯ** (ад *цыкла-* + гр. thymos = душа) — псіхічнае захворванне *(псіхоз)*, лёгкая форма *цыклафрэніі*.

**ЦЫКЛАТЭ́ЛА** (н.-лац. cyclotella) — аднаклетачная каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. таласіязіравых, якая пашырана пераважна ў *планктоне* прэсных, радзей саланаватых вадаёмаў, вельмі рэдка ў морах.

**ЦЫКЛАФРЭНІ́Я** (ад *цыкла-* + гр. phren = розум) — псіхічнае захворванне *(псіхоз)*, якое характарызуецца перыядычным разладжаннем настрою — прыступамі ўзбуджэння і дэпрэсіі, што змяняюць адно аднаго; маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз.

**ЦЫКЛАХЕ́НА** (н.-лац. cyclachaena) — травяністая расліна сям. складанакветных з зубчастым лісцем і дробнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Амерыцы; на Беларусі трапляецца як заносная; пустазелле.

**ЦЫКЛІ́Т** (ад *цыкл*) — тое, што і *іназіт*.

**ЦЫКЛІ́ЧНЫ** (ад *цыкл*) — 1) які складае цыкл, адбываецца па цыклах; 2) які мае кальцавую будову, структуру; ц-ыя злучэнні — арганічныя злучэнні *(аліцыклічныя, араматычныя, ге-*

*тэрацыклічныя)*, у якіх атамы звязаны ў цыкл (проціл. *ацыклічны*).

**ЦЫКЛО́ЗА** (н.-лац. cyclosa) — павук-крыжавік, які жыве ў лясах, лоўчыя сеткі нацягвае паміж ніжнімі галінкамі дрэў.

**ЦЫКЛО́ІДА** (гр. kykloeides = кругападобны) — *мат.* крывая лінія, што апісваецца пэўным пунктам круга, які коціцца без слізгання па нерухомай прамой лініі.

**ЦЫКЛО́Н** (гр. kyklon = які верціцца) — 1) буйнамаштабны атмасферны віхор з паніжэннем ціску ад перыферыі да цэнтра, які суправаджаецца вялікай воблачнасцю і ападкамі (параўн. *антыцыклон*); 2) апарат, заснаваны на выкарыстанні сіл інерцыі, для ачысткі паветра або газу ад узважаных у іх цвёрдых часцінак.

**ЦЫКЛОНАГЕНЕ́З** (ад *цыклон* + *-генез*) — працэс узнікнення і развіцця цыклонаў у атмасферы.

**ЦЫКЛО́П** (гр. kyklops = круглавокі) — 1) волат з адным вокам пасярэдзіне лба ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) драпежны рачок падкласа веслаяогіх, які жыве пераважна ў прэсных вадаёмах.

**ЦЫ́КЛЯ** (ад ням. Ziehklinge) — сталёвая пласціна з вострым кантам, якая прымяняецца для канчатковай даводкі і зачысткі драўляных вырабаў.

**ЦЫКО́РЫЯ** (н.-лац. cichorium, ад гр. kichorion) — 1) травяністая расліна сям. складанакветных з тоўстым коранем і блакітнымі кветкавымі кошыкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі трапляецца на лугах, каля дарог; харчовая і лекавая; 2) парашок з карэння гэтай расліны, які дадаюць для смаку і паху ў каву, а таксама напітак, прыгатаваны з гэтага парашку.

**ЦЫКУ́ТА** (н.-лац. cicuta) — водна-балотная травяністая расліна сям. парасонавых з доўгачаранковым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі трапляецца па берагах рэк і азёр, ускрайках балот; ядавітая.

**ЦЫЛІ́НДР** (гр. kylindros) — 1) геаметрычнае цела, абмежаванае цыліндрычнай паверхняй і дзвюма паралельнымі плоскасцямі, якія яе перасякаюць; 2) частка рухавіка, дзе ходзіць поршань; 3) высокі цвёрды мужчынскі капялюш з палямі.

**ЦЫЛІНДРАСПЕ́РМУМ** (н.-лац. cylindrospermum) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць класа гармагоніевых, якая трапляецца на вільготнай глебе, імхах, у абрастаннях на дне і ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ЦЫЛІНДРАСПО́РЫЙ** (н.-лац. cylindrosporium) — недасканалы грыб сям. анабенавых, які развіваецца на лісці вішні, чарэшні, пладах і лісці суніц і іншых раслін.

**ЦЫЛІНДРАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. cylindrocystis) — зялёная водарасць сям. мезатэніевых, якая пашырана пераважна ў водах з нізкай кіслотнасцю, у вільготных месцах і сярод імхоў.

**ЦЫЛІ́НДРЫЙ** (н.-лац. cilindrium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на апалым лісці або адмерлай драўніне.

**ЦЫМАТАПЛЕ́ЎРА** (н.-лац. cymatopleura) — аднаклетачная *дыя-*

*томавая* водарасць сям. сурырэлавых, якая пашырана пераважна ў *бентасе*, радзей *планктоне* прэсных, часам саланаватых вадаёмаў.

**ЦЫМБА́ЛЫ** (польск. cymbały < лац. cymbalum, ад гр. kymbalon) — народны струнны ўдарны музычны інструмент; уяўляе сабой драўляны корпус трапецападобнай формы, над верхняй дэкай якога нацягнуты стальныя струны; гук здабываецца ўдарамі палачак.

**ЦЫМБЕ́ЛА** (н.-лац. cymbella) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана пераважна на дне і ў абрастаннях прэсных вадаёмаў.

**ЦЫ́МУС** (яўр. cymes) — 1) салодкая ежа, прыгатаваная з морквы; 2) *перан.* самае смачнае; самая сутнасць, самае цікавае.

**ЦЫ́НА** (н.-лац. cinna) — травяністая расліна сям. злакавых з пляскатым лісцем і аднакветкавымі каласкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Амерыцы і Еўразіі; на Беларусі трапляецца рэдка ў яловых і мяшаных вільготных цяністых лясах.

**ЦЫНВАЛЬДЫ́Т** (ад ням. Zinnwald = назва гор) — мінерал групы слюд чорнага, зялёнага або карычневага колеру са шкляным бляскам.

**ЦЫНЕРА́РЫЯ** (н.-лац. cinerarium, ад лац. cinerarius = папялісты) — травяністая расліна сям. складанакветных з буйным серабрыста-шэрым апушаным лісцем і featured рознакаляровымі кветкамі ў суквеццях, якая паходзіць з Канарскіх астравоў; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЦЫНІ́ЗМ** (гр. kynismos) — нахабнасць, бессаромнасць, пагардлівыя адносіны да агульнапрынятых правіл маралі.

**ЦЫ́НІК** (лац. cinicus, ад гр. kynikos) — чалавек неэтычны, які кпіць над агульнапрынятымі звычаямі, прыніжае прызнаныя вартасці.

**ЦЫ́НІЯ** (н.-лац. zinnia, ад Zinn = прозвішча ням. батаніка 18 ст.) — травяністая расліна сям. складанакветных з буйнымі яркімі кветкавымі кошыкамі розных колераў, пашыраная ў Цэнтр. і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЦЫНК** (ням. Zink) — хімічны элемент, коўкі метал сінявата-белага колеру; шырока распаўсюджаны ў прыродзе.

**ЦЫНКАГРА́ФІЯ** (ад *цынк + -графія*) — 1) *палігр.* выраб *клішэ* высокага друку, пры якім капіруюць на цынкавую (або з магніевых сплаваў) пласціну; 2) прадпрыемства або цэх па вырабу такіх клішэ.

**ЦЫНКІ́Т** (ням. Zinkit) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў чырвонага колеру; цынкавая руда.

**ЦЫНКЛІДО́ТУС** (н.-лац. cinclidotus) — лістасцябловы мох сям. цынклідотавых, які трапляецца ў Зах. Дзвіне.

**ЦЫНКЛІ́ДЫУМ** (н.-лац. cinclidium) — лістасцябловы мох сям. мніевых, які зрэдку трапляецца на глыбокіх багнавых балотах.

**ЦЫНУ́БЕЛЬ** (ням. Zahnhobel, ад Zahn = зуб + Hobel = гэбель) — *гэбель* з зубчастым лязом, які ўжываецца для нанясення шурпатасці на драўляныя часткі пры склейванні.

**ЦЫО́Н, ЦЫО́НУС** (н.-лац. cionus) — жук сям. даўганосікаў з кароткім шарападобным целам у густых валасках зверху; жыве ў лясах, па абочынах дарог, у садах, парках.

**ЦЫ́ПЕЛЬ** (польск. cypel, ад ням. Zipfel) — востры клінападобны канец чаго-н., выступ у чым-н. (як напр. каса ў рацэ, клін матэрыі).

**ЦЫРА́ТА** (польск. cerata, ад лац. ceratus = васкаваны) — тканіна, пакрытая з аднаго або з абодвух бакоў саставам, што робіць яе непрамакальнай; выкарыстоўваецца для засцілання сталоў і інш.

**ЦЫРК** (лац. circus = *літар.* кола) — 1) від мастацтва, які ўключае *акрабатыку*, *эквілібрыстыку*, жангліраванне, *клаунаду*, *эксцэнтрыку*, дрэсіроўку жывёл і інш.; 2) будынак з *арэнай* і *амфітэатрам*, дзе адбываюцца цыркавыя прадстаўленні; 3) тое, што і *кар*.

**ЦЫРКА́ДНЫ** (ад лац. circa = каля + dies = дзень) — *біял.* звязаны з перыядам, які займае каля сутак часу (гл. *цыркарытмы*).

**ЦЫРКАРА́МА** (ад лац. circus = кола + horama = выгляд, відовішча) — кінатэатр з панарамным экранам, які акружае глядзельную залу.

**ЦЫРКАРЫ́ТМЫ** (ад лац. circa = каля + *рытмы*) — група біялагічных рытмаў з перыядамі, блізкімі да геафізічных канстант — сонечных сутак, месячных сутак, месячнага месяца і астранамічнага года.

**ЦЫРКО́Н** (ням. Zirkon, ад ар. zarkun = залацісты) — мінерал класа *сілікатаў* жоўтага, чырвонага, аранжавага і бурага колераў з алмазным бляскам; выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе і тэхніцы.

**ЦЫРКО́НІЙ** (ад *цыркон*) — хімічны элемент, серабрыста-белы, цвёрды, тугаплаўкі метал, які прымяняецца ў тэхніцы.

**ЦЫ́РКУЛЬ** (лац. circulus = круг) — інструмент з дзвюх рассоўных ножак для вычэрчвання акружнасцей, лінейных вымярэнняў і пераносу размераў на чарцёж.

**ЦЫРКУЛЯВА́ЦЬ** (польск. cyrkulować, ад лац. circulare = рабіць круг) — рабіць кругавы рух, кругаварот.

**ЦЫРКУЛЯ́Р** (ням. Zirkular, ад п.-лац. circularis = кругавы) — пісьмовае распараджэнне, якое рассылаецца падведамасным установам або падначаленым службовым асобам.

**ЦЫРКУЛЯ́РНЫ** (п.-лац. circularis) — кругавы, звязаны з рухам па крузе (напр. ц. душ, ц-ая піла).

**ЦЫРКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. circulatio) — 1) кругаварот, цячэнне вадкасцей ці газаў па замкнутых сістэмах (напр. ц. крыві ў арганізме); 2) крывая, якая апісваецца суднам пры адхіленні руля на які-н. вугал.

**ЦЫРКУМВАЛЯЦЫ́ЙНЫ** (ад лац. circumvallo = акружаю валам) — які мае адносіны да замкнутай лініі ўмацаванняў вакол асаджанай крэпасці, якія будаваліся тымі, хто асаджаў, каб перашкодзіць праціўніку атрымаць падмацаванні звонку.

**ЦЫРКУМФЛЕ́КС** (лац. circumflexus) — *лінгв.* узыходна-зыходны танічны *акцэнт* у старажытнагрэчаскай мове.

# Ц

**ЦЫРО́З** (гр. kirros = рыжы) — *мед.* зморшчванне і перабудова структуры органа ў выніку разрастання ў ім злучальнай тканкі (напр. ц. печані), што парушае дзейнасць органа.

**ЦЫРУ́ЛЬНІК** (польск. cyrulik < с.-лац. cirurgicus, ад гр. cheirurgos) — майстар, які займаецца галеннем, стрыжкай валасоў.

**ЦЫРЦЭ́Я** (лац. Circe, ад гр. Kirke = імя німфы-чараўніцы ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* жанчына-чараўніца.

**ЦЫ́РЫК** (манг. cyryk) — салдат мангольскай арміі.

**ЦЫРЫМАНІЯ́Л** (лац. caeremoniale = кніга абрадавых правіл) — афіцыйна прыняты парадак урачыстых прыёмаў, шэсцяў і інш. (напр. ц. адкрыцця алімпіяды).

**ЦЫРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** (лац. caeremonialis) — які адбываецца згодна з *цырыманіялам*, урачысты (напр. ц-ае шэсце).

**ЦЫРЫМОНІМА́ЙСТАР** (ням. Zeremoniemeister) — 1) вышэйшы прыдворны чын, які назірае за выкананнем дварцовага *цырыманіялу*; 2) распарадчык *цырымоніі, цырыманіялу*.

**ЦЫРЫМО́НІЯ** (лац. caeremonia) — 1) прыняты парадак правядзення якога-н. абраду, урачыстасці (напр. шлюбная ц.); 2) *перан.* умоўнасці ў паводзінах, манернасць.

**ЦЫРЫФІ́ЛУМ** (н.-лац. cirriphyllum) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які расце ў лясах на глебе і камлях дрэў.

**ЦЫСО́ІДА** (гр. kissoeides = плюшчападобны) — алгебраічная крывая трэцяга парадку: $x^3 = y^2 (a - x)$.

**ЦЫ́СТА** (гр. kystis = пузыр) — шчыльная абалонка вакол некаторых аднаклетачных жывёльных і раслінных арганізмаў, якая засцерагае іх пры неспрыяльным навакольным асяроддзі ці ў пэўныя моманты іх жыццёвага цыкла.

**ЦЫСТАГРА́ФІЯ** (ад гр. kystis = пузыр + *-графія*) — рэнтгенаграфічны метад даследавання мачавога пузыра.

**ЦЫСТАДЫ́НІУМ** (н.-лац. cystodinium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. дынакокавых, якая пашырана ў невялікіх стаячых вадаёмах, радзей у моры.

**ЦЫСТАДЭ́РМА** (н.-лац. cystoderma) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. шампіньёнавых, які расце на глебе ў лясах, часта сярод імхоў, рэдка на гнілой драўніне; ядомы.

**ЦЫСТАЗІ́РА** (н.-лац. cystoseira, ад гр. kystis = пузыр + seira = шнур) — марская бурая водарасць класа цыкласпоравых у выглядзе галіністага куста; пашырана пераважна ў Атлантычным і Індыйскім акіянах.

**ЦЫСТАЗО́ІД** (ад гр. kystis = пузыр + *-оід*) — паліпападобны прыдатак паліморфнай калоніі *сіфанафор*.

**ЦЫСТАІДЭ́І** (н.-лац. cystoidea, ад гр. kystis = пузыр + лац. ideus = падобны на ...) — клас вымерлых марскіх жывёл тыпу ігласкурых, якія жылі ў *ардовіку* — *дэвоне*.

**ЦЫСТАЛГІ́Я** (ад гр. kystis = мачавы пузыр + algos = боль) — час-

тае, хваравітае мочаспусканне пры адсутнасці аб'ектыўных прыкмет захворвання мачавога пузыра.

**ЦЫСТАПАРА́ТЫ** (н.-лац. cystoporata) — атрад вымерлых галаротых імшанак, якія жылі ў *ардовіку* — пермі.

**ЦЫСТАСКАПІ́Я** (ад гр. kystis = пузыр + *-скапія*) — метад даследавання ўнутранай паверхні мачавога пузыра з дапамогай *цыстаскопа*.

**ЦЫСТАСКО́П** (ад гр. kystis = пузыр + *-скоп*) — *эндаскоп* для агляду поласці мачавога пузыра.

**ЦЫСТО́ПУС** (н.-лац. cystopus) — ніжэйшы грыб сям. цыстопавых, які паразітуе найбольш на раслінах сям. складанакветных і крыжакветных.

**ЦЫ́СТРА** (фр. cistre) — старадаўні шчыпковы музычны інструмент з корпусам грушападобнай формы і серпавіднай галоўкай, падобны да сучаснай мандаліны; у 19 ст. выцеснены гітарай.

**ЦЫСТЫ́Н** (ад гр. kystis = пузыр) — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад бялкоў жывёльнага і расліннага паходжання; паходзіць з *цыстэіну*.

**ЦЫСТЫ́Т** (ад гр. kystis = пузыр) — запаленне слізістай абалонкі мачавога пузыра.

**ЦЫСТЫЦЭ́РК** (ад гр. kystis = пузыр + kerkos = хвост) — лічынка *саліцёраў*, што мае форму круглага пузыра і паразітуе ў арганізме жывёл і чалавека.

**ЦЫСТЫЦЭРКО́З** (ад *цыстыцэрк*) — глісная хвароба жывёл і чалавека, выкліканая цыстыцэркамі, якая характарызуецца корчамі, парушэннем псіхікі, стратай зроку і інш.

**ЦЫСТЫЦЭРКО́ІД** (ад *цыстыцэрк* + *-оід*) — форма *фін* стужкавых чарвей, што мае выгляд пузыра з адзіным *сколексам* і хвастападобным адросткам.

**ЦЫСТЭІ́Н** (ад гр. kystis = пузыр) — серазмяшчальная амінакіслата, якая ўваходзіць у склад большасці бялкоў і выконвае важную ролю ў рэгуляцыі абмену рэчываў у арганізме.

**ЦЫСТЭ́РНА** (лац. cisterna) — *рэзервуар* для захоўвання і перавозкі вадкасцей.

**ЦЫСТЭРЦЫЯ́НЦЫ** (ад лац. Cistercium = назва мясцовасці ў Францыі, зараз Citeaux) — члены каталіцкага манаскага *ордэна*, заснаванага ў канцы 11 ст. каля г. Дыжона ў Францыі.

**ЦЫ́СУС** (н.-лац. cissus) — кустовая або травяністая расліна сям. вінаградавых з паветранымі каранямі, падоўжаным сэрцападобным лісцем і непрыкметнымі зялёнымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як лісцева-дэкаратыўная ў пакоях і аранжарэях.

**ЦЫТА-** (гр. kytos = ёмішча, клетка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да раслінных або жывёльных клетак.

**ЦЫТАВА́ЦЬ** (польск. cytować, ад лац. citare) — прыводзіць *цытату*.

**ЦЫТАГЕНЕ́ТЫКА** (ад *цыта-* + *генетыка*) — раздзел генетыкі, які вывучае заканамернасці спадчыннасці і зменлівасці на ўзроўні клеткі і храмасом.

# Ц

**ЦЫТАДЫЯГНО́СТЫКА**[1] (ад *цыта-* + *дыягностыка*) — распазнаванне хваробы шляхам мікраскапічнага даследавання клетачных элементаў тканкі цела.

**ЦЫТАДЫЯГНО́СТЫКА**[2] (ад лац. cito = хутка, тэрмінова + *дыягностыка*) — тэрміновая дыягностыка (звычайна гісталагічная) на аперацыйным стале.

**ЦЫТАДЭ́ЛЬ** (іт. cittadella = маленькі горад) — 1) найбольш умацаваная ўнутраная частка горада або крэпасці, прыстасаваная да самастойнай абароны, а таксама крэпасць наогул; 2) *перан.* апора.

**ЦЫТА́ЗА** (ад гр. kytos = ёмішча, клетка) — тое, што і *алексін*.

**ЦЫТАЗІ́Н** (ад гр. kytos = ёмішча, клетка) — арганічнае азотазмяшчальнае рэчыва, якое змяшчаецца ва ўсіх жывых клетках у складзе нуклеінавых кіслот і нуклеатыдаў.

**ЦЫТАКІНЕ́З** (ад *цыта-* + *-кінез*) — працэс дзялення цела мацярынскай клеткі з утварэннем дзвюх дачынных клетак.

**ЦЫТАЛІЗІ́Н** (ад *цыта-* + *лізін*) — рэчыва, якое ўтвараецца ў крыві пры ўвядзенні ў арганізм чужародных клетак.

**ЦЫТАЛО́ГІЯ** (ад *цыта-* + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае будову, развіццё і функцыі раслінных клетак.

**ЦЫТАМАРФО́З** (ад *цыта-* + *-марфоз*) — структурныя змены *цытаплазмы* ў працэсе клетачнага развіцця.

**ЦЫТАПЛА́ЗМА** (ад *цыта-* + *плазма*) — пазаядзерная частка *пратаплазмы* жывёльнай або раслíннай клеткі (параўн. *карыяплазма*).

**ЦЫТАПЛАЗМАТАМІ́Я** (ад *цытаплазма* + *-тамія*) — тое, што і *цытакінез*.

**ЦЫТАПЛАЗМО́Н** (ад *цытаплазма*) — сукупнасць матэрыяльных носьбітаў цытаплазматычнай спадчыннасці *(плазмагенаў)*, што змяшчаюцца ў цытаплазме і яе структурах (параўн. *пластом*).

**ЦЫТАСПАРО́З** (ад *цытаспора*) — хвароба дрэў, якая выклікаецца грыбам цытаспорай; усыханне галін і ствалоў дрэў.

**ЦЫТАСПО́РА** (н.-лац. cytospora) — недасканалы грыб сям. танкастромавых, які развіваецца на сухіх ствалах, галінах і парастках дрэў, радзей на сцёблах і лісці травяністых раслін.

**ЦЫТАСТАТЫ́ЧНЫ** (ад *цыта-* + гр. statikos = які прыпыняе) — які мае адносіны да лекавых сродкаў, што блакіруюць дзяленне клетак і выкарыстоўваюцца пераважна для лячэння злаякасных пухлін.

**ЦЫТАСТО́М** (ад *цыта-* + гр. stoma = рот) — адтуліна ў аднаклетачных арганізмаў, праз якую ежа трапляе ў цела.

**ЦЫТА́ТА** (лац. citatum, ад citare = заклікаць) — даслоўная вытрымка з якога-н. тэксту.

**ЦЫТАТАКСІ́НЫ** (ад *цыта-* + *таксіны*) — спецыфічныя антыцелы бялковай прыроды, што накіравана дзейнічаюць на пэўныя клеткі, органы і сістэмы арганізма; утвараюцца ў адказ на дзеянні *антыгенаў* адміраючых клетак уласнага арганізма, а таксама пры *імунізацыі*.

**ЦЫТАТАМІ́Я** (ад *цыта-* + *-тамія*) — тое, што і *цытакінез*.

**ЦЫТАТРАПІ́ЗМ** (ад *цыта-* + гр. trope = паварот, напрамак) — з'ява ўзаемапрыцягвання або ўзаемавыштурхоўвання клетак.

**ЦЫТАФА́ГІ** (н.-лац. cytophagales) — палачкападобныя *бактэрыі*, якія пашыраны ў глебе, марскіх і прэсных водах; удзельнічаюць у разбурэнні раслінных рэшткаў, хіцінавага покрыва насякомых і ракападобных.

**ЦЫТАФА́РЫНКС** (ад *цыта-* + гр. pharinks = глотка) — клетачная глотка, якая ідзе ў прасцейшых ад *цытастома* ў глыбіню *эндаплазмы*.

**ЦЫТАХІ́МІЯ** (ад *цыта-* + *хімія*) — раздзел *цыталогіі*, які вывучае хімічны склад клеткі і яе частак, а таксама хімічныя і абменныя працэсы, на якіх грунтуецца яе жыццядзейнасць.

**ЦЫТАХРАМІ́Я** (ад лац. citus = хуткі + *-храмія*) — від чатырохкаляровага друку, пры якім асаблівую ўвагу ўдзяляюць чорнаму *кліштэ*, якое адкрывае дэталі адлюстравання, нейтральныя тоны і блакітныя цені, а астатнія тры клішэ (жоўтае, чырвонае і сіняе) служаць толькі для перадачы на друкарскім адбітку яскравых каляровых тонаў.

**ЦЫТАХРО́МЫ** (ад *цыта-* + *-хром*) — складаныя бялкі з групы *хромапратэідаў*, якія прымаюць удзел у працэсах тканкавага дыхання.

**ЦЫТАЭКАЛО́ГІЯ** (ад *цыта-* + *экалогія*) — галіна *біялогіі*, якая вывучае заканамернасці змен на клетачным узроўні ў працэсе прыстасавання арганізмаў да ўмоў навакольнага асяроддзя.

**ЦЫТВО́РА, ЦЫТВА́Р** (ням. Zitver, ад ар. zidwār) — высушаныя суквецці цытворнага (сантанінавага) палыну; выкарыстоўваюцца як сродак супраць глістоў.

**-ЦЫТОЗ** (гр. kytos = клетка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «клетка».

**ЦЫТО́ЛІЗ** (ад *цыта-* + *-ліз*) — разбурэнне жывёльных і раслінных клетак шляхам поўнага або частковага іх растварэння.

**ЦЫ́ТРА** (ням. Zither, ад гр. kithara = кіфара) — струнны шчыпковы музычны інструмент у выглядзе плоскай драўлянай прамавугольнай з адным фігурна выразаным бокам скрынкі, на якой размешчаны грыф з металічнымі ладамі і струнамі.

**ЦЫТРАВАНІЛІ́Н** (ад лац. citrus = лімоннае дрэва + *ванілін*) — парашок ад галаўнога болю.

**ЦЫТРАВАНІ́ЛЬ** (ад лац. citrus = лімоннае дрэва + *ваніль*) — тое, што і *цытраванілін*.

**ЦЫТРА́ЛЬ** [ад лац. citrus = лімоннае дрэва + *аль(дэгід)*] — арганічнае злучэнне, альдэгід, жоўтая вадкасць з лімонным пахам; выкарыстоўваецца ў парфумерыі, харчовай прамысловасці, медыцыне.

**ЦЫТРАМО́Н** (ад лац. citrus = лімоннае дрэва) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры галаўных болях, неўралгіі.

**ЦЫТРА́ТЫ** (ад лац. citrus = лімоннае дрэва) — солі або эфіры лімоннай кіслаты.

# Ц

**ЦЫТРО́Н** (іт. citrone, ад лац. citrus = лімоннае дрэва) — 1) вечназялёная кустовая цытрусавая расліна сям. рутавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, а таксама буйны жоўты ці аранжавы плод гэтай расліны, падобны на лімон; 2) сорт цукерак з памадкаю.

**ЦЫ́ТРУС** (лац. citrus = лімоннае дрэва) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. рутавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках (у ліку відаў — *апельсін*, *грэйпфрут*, *лімон*, *мандарын* і інш.), а таксама плод гэтай расліны.

**ЦЫТРЫ́Н** (лац. citrinus = лімонны) — мінерал жоўтага колеру, разнавіднасць *кварцу*.

**-ЦЫТЫ** (гр. kytos = клетка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «клеткі».

**ЦЫФЕ́ЛІЙ** (н.-лац. cyphelium) — накіпны сумчаты лішайнік сям. каліцыевых, які расце на кары хваёвых дрэў і гнілой драўніне.

**ЦЫФЕРБЛА́Т** (ням. Zifferblatt) — пласцінка з дзяленнямі ў гадзінніку і іншых вымяральных прыборах, па якой рухаецца стрэлка.

**ЦЫХЛАЗО́МА** (н.-лац. cichlasoma) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў вадаёмах Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; вядома як акварыумная.

**ЦЫЦА́НІЯ** (н.-лац. zizania) — водная травяністая расліна сям. злакавых з лінейным лісцем і буйнымі каласковымі мяцёлкамі, пашыраная ва Усх. Азіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца ў вадаёмах у рыбных і паляўнічых гаспадарках як каштоўная кармавая расліна для рыб, вадаплаўных птушак, водных жывёл.

**ЦЫЦЫНАБО́Л** (н.-лац. cicinnobolus) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які паразітуе на мучніста-расяных, радзей перанаспоравых грыбах.

**ЦЫ́ЦЭРА** [ад лац. Cicero = імя старажытнарымскага пісьменніка, філосафа і палітыка (106—43 да н.э.)] — адзін з буйных друкарскіх шрыфтоў, *кегель* якога роўны 12 *пунктам* (4,5 мм); шрыфтам такога памеру ўпершыню былі надрукаваны ў 1467 г. лісты Цыцэрона.

**ЦЫЯ́Н** (гр. kyanos = сіні) — бясколерны ядавіты газ з рэзкім пахам, які складаецца з азоту і вугляроду.

**ЦЫЯНАБАКТЭ́РЫІ** (н.-лац. cyanobacteria) — адна са старажытных груп *аўтатрофных* арганізмаў, пазбаўленых марфалагічна аформленага ядра.

**ЦЫЯНАДЫ́КЦЫЯН** (н.-лац. cyanodictyon) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. мікрацысціевых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ЦЫЯНАМІ́Д** (ад *цыян* + *амід*) — хімічнае злучэнне, вытворнае ад цыяніставоднай кіслаты, бясколернае крышталічнае рэчыва.

**ЦЫЯНА́РКУС** (н.-лац. cyanarcus) — аднаклетачная сіне-зялёная водарасць сям. кокабактрэйных, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ЦЫЯНАТЫ́ПІЯ** (ад *цыян* + *-тыпія*) — *палігр.* капіраванне на святлоадчувальнай паперы, што змяшчае вытворныя цыяну.

**ЦЫЯНАТЭ́КА** (н.-лац. cyanotheca) — аднаклетачная сіне-зялёная

водарасць сям. дэрмакарпавых, якая трапляецца ў вадаёмах у слізі некаторых зялёных і сіне-зялёных водарасцей.

**ЦЫЯНІ́ДЫ** (ад *цыян*) — солі цыяніставадароднай (сінільнай) кіслаты.

**ЦЫЯНІЗА́ЦЫЯ** (ад *цыян*) — 1) насычэнне вугляродам і азотам паверхневага слоя стальных вырабаў для павышэння іх цвёрдасці; 2) працэс атрымання золата і серабра з руд шляхам растварэння іх у растворах цыяністых шчолачаў.

**ЦЫЯНІ́НЫ** (ад гр. kyanos = сіні) — арганічныя злучэнні, фарбавальнікі, якія характарызуюцца яркім і чыстым колерам; выкарыстоўваюцца ў каляровай *фатаграфіі*.

**ЦЫЯНКАБАЛАМІ́Н** (ад *цыян* + *кабаламін*) — водарастваральны вітамін, які змяшчаецца ў печані, нырках, яйках, соі; мае вялікае значэнне ў кроваўтварэнні; вітамін $B_{12}$.

**ЦЫЯНО́З** (гр. kyanos = сіні) — сіняватая афарбоўка скуры, абумоўленая недахопам насычэння крыві кіслародам; сінюшнасць.

**ЦЫЯНО́МЕТР** (ад гр. kyanos = сіні + *-метр*) — прыбор для вызначэння колеру яснага неба.

**ЦЭАЛІ́ТЫ** (ад гр. zeo = кіплю + *-літ*) — група мінералаў класа *сілікатаў*, водазмяшчальныя *алюмасілікаты* пераважна *кальцыю, натрыю, калію*, радзей *барыю, стронцыю*; штучныя цэаліты выкарыстоўваюцца для ачышчэння вады, фарбавання і інш.

**ЦЭ́ГЛА** (польск. cegła, ад с.-в.-ням. ziegel) — штучны будаўнічы матэрыял у выглядзе прамавугольных брускоў з гліны і іншай мінеральнай сыравіны.

**ЦЭ́ДРА** (іт. cedro = цытрон) — верхні слой лімоннай ці апельсінавай лупіны, а таксама высушаная і расцёртая лупіна, якая ўжываецца як вострая прыправа.

**ЦЭДЭ́НТ** (лац. cedens, -ntis = які ўступае) — *крэдытор*, які ўступае свае права патрабавання іншай асобе.

**ЦЭЗАЛЬПІ́НІЯ** [н.-лац. caesalpinia, ад іт. A.Cesalpino = прозвішча іт. батаніка (1519—1603)] — дрэвавая або кустовая расліна сям. бабовых з перыстым лісцем і двухбаковымі прамяністымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ЦЭ́ЗАР, ЦЭ́САР** (лац. caesar, ад Caesar = імя старажытнарымскага дыктатара Юлія Цэзара) — 1) *тытул* старажытнарымскіх і візантыйскіх імператараў; 2) *уст.* манарх, уладар.

**ЦЭЗАРАПАПІ́ЗМ** (ад *цэзар* + *папа*) — форма праўлення, пры якой кіраўнік свецкай улады адначасова і кіраўнік царквы.

**ЦЭЗАРЫ́ЗМ** (фр. césarisme, ад лац. caesar = цар) — аднаасобная *дыктатура* ў спалучэнні з фармальным прызнаннем правоў народа.

**ЦЭ́ЗІЙ** (н.-лац. caesium, ад лац. caesius = блакітны) — хімічны элемент, вельмі мяккі светлы метал з залаціста-жоўтым адценнем; выкарыстоўваецца гал. ч. у вытворчасці фотаэлементаў.

# Ц

**ЦЭЗУ́РА** (лац. caesura) — 1) паўза ў вершаваным радку, абавязковая для пэўнага вершаванага памеру; 2) кароткая паўза ў музычнай мелодыі паміж асобнымі часткамі.

**ЦЭЙНЕРЫ́Т** (ад ням. Zeiner = прозвішча ням. хіміка) — штучны мінерал класа *фасфатаў* зеленаватага колеру, радыеактыўны, водны *арсенат* урану і медзі.

**ЦЭЙС** (ням. K.Zeiss = прозвішча ням. оптыка-механіка 19 ст.) — аптычны прыбор фірмы «Цэйс» (звычайна пра бінокль).

**ЦЭЙТЛУ́ПА** (ням. Zeitlupe, ад Zeit = час + Lupe = лупа) — кіназдымачны апарат для скораснай здымкі.

**ЦЭЙТНО́Т** (ням. Zeitnot, ад Zeit = час + Not = патрэба) — 1) недахоп часу на абдумванне чарговых хадоў пры гульні ў шашкі, шахматы з гадзіннікам; 2) *перан.* недахоп часу ў якой-н. справе.

**ЦЭЙТРА́ФЕРНЫ** (ад ням. Zeit = час + raffen = падбіраць) — звязаны з кіназдымкай, якая праводзіцца адзінкавымі кадрамі з роўнымі інтэрваламі (напр. пры паказе працэсу распускання кветкі).

**ЦЭЙХГА́УЗ** (ням. Zeughaus, ад Zeug = зброя + Haus = дом) — *уст.* вайсковы склад зброі і абмундзіравання.

**ЦЭ́ЛА** (лац. cella) — тое, што і *наас*.

**ЦЭЛАБІЁЗА** [ад *цэлю(лоза)* + гр. bios = жыццё] — вуглявод з групы *дыцукрыдаў*, які змяшчаецца ў соку некаторых дрэў; з'яўляецца асноўнай структурнай адзінкай цэлюлозы.

**ЦЭЛАБЛА́СТУЛА** (ад гр. koilos = пусты + *бластула*) — лічынка некаторых гідроідных, губак іігласкурых, блізкая па будове да бластулы.

**ЦЭЛАІДЫ́Н** [ад *цэл(юлоза)* + гр. eidos = выгляд] — чыстая нітрацэлюлоза, прыгатаваная з *калодыю*, якая ідзе на выраб фатаграфічнай паперы.

**ЦЭЛАМАДУ́КТЫ** (ад *цэлом* + гр. ductus = праход) — каналы ў жывёл, якія злучаюць цэлом са знешнім асяроддзем.

**ЦЭЛАМАМІ́ЦЭС** (н.-лац. coelomomyces) — ніжэйшы грыб сям. бластакладыевых, які паразітуе на лічынках камароў.

**ЦЭЛАСТА́Т** (ад лац. caelum = неба + *-стат*) — астранамічны прыбор з двума плоскімі люстэркамі, з якіх адно нерухомае, а другое рухаецца пры дапамозе гадзіннікавага механізма, што дае магчымасць вывучаць бачны рух нябесных свяцілаў, які назіраецца ў выніку сутачнага вярчэння Зямлі.

**ЦЭЛА́СТРУМ** (н.-лац. coelastrum) — цэнабіяльная зялёная водарасць сям. цэластравых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ЦЭЛАСФЕ́РЫУМ** (н.-лац. coelosphaerium) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. цэласферыевых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ЦЭЛАТЭ́КС** [ад *цэлю(лоза)* + лац. tex = плецены] — адзін з замяняльнікаў скуры.

**ЦЭЛАТЭ́ЛІЙ** (ад лац. cellula = клетка + гр. thele = сасок, адростак) — *эпітэлій*, які высцілае дру-

гасную поласць цела чалавека і жывёл.

**ЦЭЛАФА́Н** [ад *цэлю(лоза)* + гр. phanos = светлы] — тонкая празрыстая плёнка з цэлюлозы, якая выкарыстоўваецца для ўпакоўкі.

**ЦЭЛЕСЦІ́Н** (ад лац. caelestis = нябесны) — мінерал класа *сульфатаў* блакітнага колеру са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца ў харчовай і хімічнай прамысловасці, металургіі.

**ЦЭЛІБА́Т** (лац. caelibatus, ад caelebs = нежанаты) — абавязковая бязшлюбнасць, устаноўленая для каталіцкага духавенства ў 11 ст.

**ЦЭЛО́ЗІЯ** (н.-лац. celosia) — травяністая расліна сям. амарантавых з падоўжаным лісцем і дробнымі белымі, жоўтымі, ружовымі або чырвонымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЦЭЛО́М** (гр. koiloma = яма) — поласць паміж сценкай цела і ўнутранымі органамі ў жывёл і чалавека.

**ЦЭЛУЛО́ІД** (ад лац. cellula = клетка + *-оід*) — цвёрдае пластычнае, лёгкае на загаранне рэчыва на аснове *нітрацэлюлозы*; выкарыстоўваецца для вырабу небіткога шкла, лакаў.

**ЦЭЛУРАЗА́ЎРЫ** (ад гр. koilos = полы + ura = хвост + *-заўр*) — група драпежных *дыназаўраў*, якія жылі ў *мезазоі* і характарызаваліся канструктыўнай лёгкасцю шкілета, бо большасць касцей у іх мела поласці ўнутры.

**ЦЭЛЬ** (ням. Ziel) — месца, куды накіроўваецца стрэл, удар, кідок (параўн. *мішэнь* 1).

**ЦЭЛЬЗІЯ́Н** [н.-лац. celsian, ад A.Celsius = прозвішча шв. астранома і фізіка (1701—1744)] — мінерал, калій-барыевы палявы *шпат*.

**ЦЭ́ЛЬСІЙ** [н.-лац. celsisus, ад A.Celsius = прозвішча шв. астранома і фізіка (1701—1744)] — тэрмометр са стоградуснай шкалой ад пункта раставання лёду да пункта кіпення вады.

**ЦЭЛЮЛА́ЗА** (ад лац. cellula = клетка) — *фермент*, які гідралізуе *цэлюлозу*; змяшчаецца ў плесневых грыбах, некаторых бактэрыях, асабліва тых, што жывуць у страўніку жвачных жывёл.

**ЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад лац. cellula = клетка) — высокамалекулярны вуглярод з групы *поліцукрыдаў*, асноўная састаўная частка абалонак раслінных клетак; выкарыстоўваецца для вырабу паперы, штучнага шоўку, выбуховых сродкаў і інш.; клятчатка.

**ЦЭЛЮЛЯ́РНЫ** (ад лац. cellula = клетка) — клетачны; які складаецца з клетак.

**ЦЭМЕ́НТ** (лац. caementum = друз) — 1) мінеральнае парашкападобнае рэчыва, здольнае ўтвараць з вадой аднародную масу, якая з цягам часу пераходзіць у каменепадобны стан; ужываецца ў вытворчасці бетону і будаўнічых раствораў; 2) *анат.* касцявая тканка, якая пакрывае корань і шыйку зуба; 3) *перан.* тое, што злучае, аб'ядноўвае.

**ЦЭМЕНТА́ЦЫЯ** (ад *цэмент*) — 1) спосаб умацавання грунтоў, бе-

# Ц

тонных кладак увядзеннем у іх пад ціскам вадкага цэментнага раствору; 2) насычэнне паверхневых слаёў сталі вугляродам для павелічэння іх цвёрдасці; 3) працэс здабывання металаў з раствораў хімічным аднаўленнем больш электраадмоўнымі металамі.

**ЦЭМЕНТЫ́Т** (ад *цэмент*) — хімічнае злучэнне жалеза з вугляродам, структурная састаўная частка сталей і чыгуноў, якая надае ім цвёрдасць і крохкасць.

**-ЦЭН** (гр. kainos = новы) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «новы».

**ЦЭНАГЕНЕ́ЗЫ** (ад гр. kainos = новы + *-генез*) — прыстасавальныя прыметы зародка або лічынкі, якія знікаюць у дарослых асобін (напр. пладовыя абалонкі, пупавіна ў вышэйшых жывёл і чалавека).

**ЦЭНАКА́РПІІ** (ад гр. kainos = агульны + karpos = плод) — плады, якія фарміруюцца на аснове *гінецэя*.

**ЦЭНАКО́КУС** (н.-лац. coenococcus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. радыякокавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ЦЭНАСА́РК** (ад гр. koinos = агульны + sarkos = мяса) — мяккая абалонка, якая пакрывае калонію каралавых *паліпаў*.

**ЦЭНАХЛО́РЫС** (н.-лац. coenochloris) — каланіяльная зялёная водарасць сям. радыякокавых, якая пашырана ў *планктоне* і *бентасе* азёр, сажалак, вадасховішчаў, рэк.

**ЦЭНАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. coenocystis) — каланіяльная зялёная водарасць сям. радыякокавых, якая пашырана ў *планктоне*, радзей у *бентасе* сажалак, азёр і вадасховішчаў.

**ЦЭНЗ** (лац. census) — 1) перыядычны перапіс маёмасці грамадзян у Стараж. Рыме для падзелу іх на падатковыя разрады; 2) умовы, якія абмяжоўваюць карыстанне тымі ці іншымі палітычнымі правамі (узрост, аселасць, узровень адукацыі, пэўны кошт маёмасці і інш.); 3) умова, неабходная для ўнясення прадпрыемства ў пэўны спіс, рэестр; 4) *экан.* статыстычны перапіс.

**ЦЭ́НЗАР** (лац. censor) — 1) службовая асоба ў Стараж. Рыме, якая сачыла за паступленнем падаткаў, перыядычна праводзіла перапісы маёмасці; 2) службовая асоба, якая ажыццяўляе *цэнзуру* 1.

**ЦЭНЗІ́ВА** (п.-лац. censiva, ад лац. census = перапіс) — спадчыннае сялянскае зямельнае трыманне ў сярэдневяковай Францыі.

**ЦЭНЗІТА́РЫЙ** (лац. censitarius) — сярэдневяковы селянін (трымальнік *цэнзівы*), які плаціў натуральны або грашовы аброк (*талья, чынш*).

**ЦЭНЗУ́РА** (лац. censura) — 1) пасада *цэнзара* 1 у Стараж. Рыме; 2) дзяржаўны нагляд за ідэйным зместам друкаваных выданняў, тэле- і радыёперадач, тэатральных пастановак і інш.; 3) установа, якая займаецца наглядам і кантролем за друкаванай прадукцыяй.

**ЦЭНО́БІЙ** (гр. koinobios = сумеснае жыццё) — цэнакарпны сухі плод, які распадаецца на 4 долі, напр. у губакветных, бурачнікавых.

**ЦЭНО́З** (гр. koinos = агульны) — любое згуртаванне арганізмаў; адрозніваюць *зоацэнозы, фітацэнозы, мікрабіяцэнозы* і інш.; часта цэнозам называюць *біяцэноз*.

**-ЦЭНОЗ** (гр. koinos = агульны) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «сукупнасць».

**ЦЭНТ**[1] (англ. cent, ад лац. centum = сто) — дробная манета ў ЗША, Канадзе, Галандыі і шэрагу іншых краін, роўная 1/100 грашовай адзінкі *(долара, гульдэна* і інш.).

**ЦЭНТ**[2] (лац. centum = сто) — адзінка частотнага інтэрвалу ў *акустыцы*, роўная 1/1200 *актавы*.

**ЦЭНТА́Л** (англ. cental, ад лац. centum = сто) — адзінка вагі ў англійскай сістэме мер, роўная 100 *фунтам*.

**ЦЭНТА́ЎР** (лац. centaurus, ад гр. kentauros) — тое, што і *кентаўр*.

**ЦЭ́НТНЕР** (ням. Zentner, ад с.-лац. centenarius = які змяшчае сто адзінак) — адзінка вымярэння вагі, роўная 100 кг.

**ЦЭНТО́Н** (лац. cento, -tonis = адзенне ці коўдра з рознакаляровых абрэзкаў) — верш, складзены з урыўкаў твораў аднаго ці некалькіх паэтаў.

**ЦЭНТР** (лац. centrum, ад гр. kentron = вастрыё цыркуля) — 1) пункт дакладна ў сярэдзіне фігуры; 2) сярэдзіна, сярэдняя частка чаго-н.; 3) частка, звычайна сярэдняя, горада, пасёлка, дзе размешчаны асноўныя адміністрацыйныя ўстановы; 4) месца сканцэнтравання якой-н. дзейнасці; 5) горад, буйны населены пункт, які мае адміністрацыйнае, культурнае значэнне для якой-н. мясцовасці, краіны; 6) вышэйшы орган кіравання якой-н. дзейнасцю; 7) стальны конус, які прызначаны для падтрымкі загатовак пры іх апрацоўцы на станку.

**ЦЭНТРАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. centraliser, ад лац. centralis = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — праводзіць *цэнтралізацыю*.

**ЦЭНТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. centralis = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — сканцэнтроўванне чаго-н. у адным *цэнтры*, аб'ядноўванне ў адным месцы, у адных руках (напр. ц. кіраўніцтва, ц. капіталу).

**ЦЭНТРАЛІ́ЗМ** (ад лац. centralis = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — сістэма кіравання, пры якой мясцовыя ўстановы падпарадкаваны вышэйстаячым, а ўся сістэма кіруецца *цэнтральнымі* органамі, адзіным *цэнтрам*.

**ЦЭНТРА́ЛЬ** (лац. centralis = сярэдні) — галоўная, цэнтральная магістраль.

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ** (лац. centralis = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — 1) які з'яўляецца *цэнтрам*; 2) які знаходзіцца, размешчаны ў сярэдзіне, у цэнтры; 3) галоўны, кіруючы; 4) які прыводзіць у дзеянне, абслугоўвае ўсю сістэму.

**ЦЭНТРАМЕ́РА** (ад *цэнтр* + гр. meros = частка) — участак *храмасомы*, які ўтрымлівае разам дзве ніткі (*храматыды*).

**ЦЭНТРАНЕ́ЛА** (н.-лац. centronella) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая трапляецца ў *планктоне* пераважна эўтрофных вадаёмаў.

# Ц

**ЦЭНТРАПЛА́Н** (ад *цэнтр* + *-план*) — сярэдняя частка крыла самалёта.

**ЦЭНТРАСО́МА** (ад *цэнтр* + *сома*) — участак *цытаплазмы* вакол *цэнтрыёлі*.

**ЦЭНТРАСФЕ́РА** (ад *цэнтр* + *сфера*) — тое, што і *цэнтрасома*.

**ЦЭНТРЫЁЛЬ** (ад *цэнтр*) — цыліндрычная структура, якая ўтварае клетачны цэнтр усіх жывёльных і некаторых раслінных клетак.

**ЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *цэнтр*) — ідэйна-палітычная плынь, якая ўзнікла перад 1-й сусветнай вайной у 2-м Інтэрнацыянале і імкнулася згладзіць супярэчнасці паміж рэфармісцкім і рэвалюцыйным напрамкамі.

**ЦЭНТРЫКЛІНА́ЛЬ** (ад *цэнтр* + гр. klino = нахіляю) — форма залягання горных парод, у якой пласты нахілены так, што лініі іх падзення накіраваны ў бок аднаго цэнтра, а лініі распасціраиня апісваюць каля яго дугі.

**ЦЭНТРЫТРА́КТУС** (н.-лац. centritractus) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. сцыядавых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных і саланаватых вадаёмаў.

**ЦЭНТРЫФУ́ГА** (ням. Zentrifuge, ад лац. centrum = сярэдзіна + fuga = бег) — 1) апарат для механічнага раздзялення сумесі на састаўныя часткі дзеяннем цэнтрабежных сіл; 2) устаноўка для трэніроўкі пілотаў-касманаўтаў.

**ЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад *цэнтр*) — які размяшчаецца па кругу, у выглядзе круга адносна вертыкальнай восі ў цэнтры галоўнага збудавання.

**ЦЭНТУМВІ́РЫ** (лац. centumviri, ад centum = сто + vir = муж, мужчына) — калегія суддзяў у Стараж. Рыме, якая кіравала грамадзянскімі справамі.

**ЦЭНТУРЫЁН** (лац. centurio, -onis) — начальнік *цэнтурыі* 1, сотнік у войску Стараж. Рыма.

**ЦЭНТУ́РЫЯ** (лац. centuria) — 1) частка *легіёна*, ваеннае падраздзяленне ў Стараж. Рыме, першапачаткова колькасцю ў сто чалавек; 2) група грамадзян у Стараж. Рыме, якая мела аднолькавы маёмасны *цэнз*.

**ЦЭНТЫФО́ЛІЯ** (лац. centifolia = стопялёсткавая) — махровая садовая ружа.

**ЦЭНУ́Р, ЦЭНУ́РУС** (ад гр. koinos = агульны + ura = хвост) — адзін з тыпаў *фіны*, што ўяўляе сабой буйны пузыр, на сценках якога ўтвараецца многа *сколексаў*.

**ЦЭПЕЛІ́Н** [ням. F.Zeppelin = прозвішча ням. канструктара (1838—1917)] — *дырыжабль* з металічным каркасам, які абцягнуты тканінай.

**ЦЭРАПА́ДУС** (ад лац. cerasus = вішня + padus = чаромха) — міжвідавы гібрыд стэпавай вішні і японскай чаромхі.

**ЦЭРАПЛА́СТЫКА** (ад лац. cera = воск + *пластыка*) — *скульптура* з воску.

**ЦЭРАСТЭ́РЫЯС** (н.-лац. cerasterias) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацыставых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ЦЭРАТАДО́Н** (н.-лац. ceratodon) — лістасцябловы мох сям. дытрыхавых, які расце на агаленай глебе, вогнішчах, камянях, гнілой

драўніне, саламяных дахах, камлях дрэў.

**ЦЭРА́ТАПСЫ** (ад гр. keras, -atos = рог + ops = твар, фізіяномія) — група раслінаедных быкападобных пазваночных мелавога перыяду (гл. *мезазой*), якія мелі ад аднаго да некалькіх рагоў на галаве; рагатыя *дыназаўры*.

**ЦЭРАТАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. ceratocystis) — сумчаты грыб сям. афіястомавых, які паразітуе на раслінах.

**ЦЭРАТО́ПТЭРЫС** (н.-лац. ceratopteris) — вадзяная папараць сям. адыянтавых, пашыраная ў тропіках; на Беларусі вядома як акварыумная расліна.

**ЦЭРАТЫНЕ́ЛА** (н.-лац. ceratinella) — павук сям. павукоў-пігмеяў, пашыраны ў Еўропе, у т.л. і на Беларусі.

**ЦЭРАТЫ́ТЫ** (ад гр. keras, -atos = рог) -— група выкапнёвых *малюскаў* класа галаваногіх з плоскаспіральнай ракавінай, якія існавалі ў морах ад пермі да *трыясу*.

**ЦЭРА́ТЫУМ** (н.-лац. ceratium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. перыдыніевых, якая пашырана ў марскіх і прэсных водах.

**ЦЭ́РБЕР** (лац. Cerberus, ад гр. Kerberos) — 1) люты трохгаловы сабака з хвастом і грывай са змей у старажытнагрэчаскай міфалогіі, які ахоўваў уваход у падземнае царства Аіда; 2) *перан*. злосны, люты вартавы.

**ЦЭРВІКА́ЛЬНЫ** (ад лац. cervix, -icis = шыя) — *анат*. шыйны.

**ЦЭРВІЦЫ́Т** (ад лац. cervix, -icis = шыя) — запаленне шыйкі маткі.

**ЦЭРКА́РЫЯ** (н.-лац. cercaria, ад гр. kerkos = хвост) — лічынка *трэматодаў*, мае цела даўжынёй 0,3—1 мм і добра развіты хвост.

**ЦЭРКАСПАРО́ЗЫ** (ад *цэркаспора*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі *цэркаспорамі*.

**ЦЭРКАСПАРЭ́ЛА** (н.-лац. cercosporella) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на хлебных злаках.

**ЦЭРКАСПО́РА** (н.-лац. cercospora) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які паразітуе на травяністых сельскагаспадарчых і пладовых культурах.

**ЦЭ́РКІ** (гр. kerkos = хвост) — парныя прыдаткі 11-га сегмента брушка насякомых, гамалагічныя канечнасцям.

**ЦЭРУСІ́Т** (ад лац. cerussa = бялілы) — мінерал класа *карбанатаў* белага колеру з шараватым, жаўтаватым або буpаватым адценнямі; свінцовая руда.

**ЦЭРЦЫ́ДЫЯ** (н.-лац. cercidia) — павук-крыжавік, які жыве сярод нізкіх раслін у месцах, дзе ёсць мох, сухія раслінныя рэшткі.

**ЦЭ́РЦЫС** (н.-лац. cercis) — лістападнае дрэва сям. бабовых з акруглым лісцем і ружова-пурпуровымі кветкамі ў пучках, пашыранае ў Паўн. Амерыцы, Міжземнамор'і і Азіі.

**ЦЭ́РЫЙ** (н.-лац. cerium, ад лац. Ceres = Цэрэра, назва планеты) — хімічны элемент сям. *лантаноідаў*, мяккі метал шэрага колеру, які лёгка акісляецца і гарыць на паветры; выкарыстоўваецца для вырабу дугавых электродаў, каменьчыкаў для запальнічак і інш.

# Ц

**ЦЭРЫЯНТА́РЫІ** (н.-лац. ceriantharia) — атрад падкласа каралавых паліпаў; пашыраны пераважна ў трапічных морах.

**ЦЭРЭБРАЗІ́ДЫ** (ад лац. cerebrosus = мазгавы + гр. eidos = выгляд) — група складаных *ліпідаў*, якія змяшчаюцца ў мембранах нервовых клетак, асабліва багата імі бялковае рэчыва мозгу.

**ЦЭРЭБРА́ЛЬНЫ** (фр. cerebral, ад лац. cerebrum = мозг) — 1) *анат.* звязаны з мозгам і яго дзейнасцю; мазгавы; 2) тое, што і *рэтрафлексны*.

**ЦЭРЭБРАСПІНА́ЛЬНЫ** (ад лац. cerebrum = мозг + spinalis = хрыбетны) — які мае адносіны да галаўнога або спіннога мозгу (напр. ц. менінгіт).

**ЦЭРЭБРАСТЭНІ́Я** (ад лац. cerebrum = мозг + *астэнія*) — слабасць і павышаная ўзбуджальнасць галаўнога мозгу.

**ЦЭРЭЗІ́Н** (фр. ceresine, ад лац. cera = воск) — сумесь цвёрдых вуглевадародаў, якая падобна на воск і выкарыстоўваецца як ізаляцыйны матэрыял, у медыцыне і інш.

**ЦЭРЭЗІ́Т** (ад лац. cera = воск) — сумесь солі маслянай кіслаты з вапнай; выкарыстоўваецца як дамешка да цэменту пры будаўнічых работах.

**ЦЭРЭ́НА** (н.-лац. cerrena) — губавы базідыяльны грыб сям. порыевых, які расце пераважна ў сырых мясцінах на пнях і адмерлай драўніне.

**ЦЭРЭ́УС** (лац. cereus = пяшчотны, гнуткі) — дрэвападобная або кустовая расліна сям. кактусавых з галінастым мясістым сцяблом,ігольчастымі калючкамі і белымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЦЭ́САР** гл. *цэзар.*

**ЦЭ́СІЯ** (лац. cessio) — уступка патрабавання ў абавязацельстве другой асобе, перадача каму-н. сваіх правоў на што-н.

**ЦЭСІЯНА́РЫЙ** (фр. cessionnaire) — асоба, якая становіцца крэдыторам у выніку перадачы ёй права патрабавання.

**ЦЭСТАДО́ЗЫ** (ад цэстоды) — глісныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца цэстодамі.

**ЦЭСТО́ДЫ** (н.-лац. cestoda, ад гр. kestos = вышыты пояс + eidos = выгляд) — клас плоскіх чарвей; арганізмы з пляскатым, стужкападобным, расчлененым на ўчасткі целам даўжынёй ад 0,5 мм да 30 м; паразіты пазваночных жывёл і чалавека; стужачныя чэрві.

**ЦЭТА́Н** (ад гр. ketos = кіт) — насычаны вуглевадарод, састаўная частка нафты.

**ЦЭ́ТЛІК** (польск. cetlik, ад ням. Zettel) — *разм.* распіска, квітанцыя, квіток.

**ЦЭТРА́РЫЯ** (н.-лац. cetraria, ад лац. cetra = маленькі скураны шчыт) — ліставаты або кусцісты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які расце на ствалах і галінах дрэў, на глебе, валунах.

**ЦЭТРЭ́ЛІЯ** (н.-лац. cetrelia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. пармеліевых, які трапляецца на ствалах і галінах дрэў, на абамшэлых валунах.

# Ц

**-ЦЭФАЛ** (гр. kephale = галава) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «галава».

**ЦЭФАЛАЗІЕ́ЛА** (н.-лац. cephaloziella) — пячоначны мох сям. цэфалозіевых, які расце на аголенай глебе, тарфяных балотах.

**ЦЭФАЛАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. cephalocarida) — падклас ракападобных; жывуць на пясчаным дне ў Атлантычным і Ціхім акіянах.

**ЦЭФАЛАПО́ДЫ** (н.-лац. cephalopoda, ад гр. kephale = галава + pus, podos = нага) — клас марскіх драпежных *малюскаў*, уключае падкласы чатырохжаберных (*наўтылус*) і двухжаберных (*актаподы* і *дэкаподы*); арганізмы з целам, прыкметна раздзеленым на тулава і буйную галаву, на якой у большасці размешчана восем шчупальцаў; галаваногія.

**ЦЭФАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. kephale = галава) — працэс адасаблення галавы і ўключэння аднаго або больш сегментаў тулава ў галаўны аддзел у жывёл у працэсе іх гістарычнага развіцця.

**-ЦЭФАЛІЯ** (гр. kiphale = галава) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «галава».

**ЦЭФАЛО́ЗІЯ** (н.-лац. cephalozia) — пячоначны мох сям. цэфалозіевых, які расце на вільготнай пясчанай і глiністай глебах, на гнілой драўніне.

**ЦЭФАЛО́МЕТР** (ад гр. kephale = галава + *-метр*) — прылада для вымярэння лінейных памераў чэрапа; выкарыстоўваецца ў *антрапалогіі*.

**ЦЭФАЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. cephalaria) — травяністая расліна сям. варсянкавых з перыста-рассечаным лісцем і белымі, жоўтымі або блакітнымі кветкамі ў галоўчатых суквеццях, пашыраная ў Пaўд. Еўропе, Сярэд. Азіі і Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; галаўчатка.

**ЦЭФЕІ́ДЫ** (н.-лац. cepheides, ад гр. Kepheus = назва сузор'я Цэфея) — зоркі, бляск якіх перыядычна змяняецца, што звязана з ваганнямі памераў зоркі і тэмпературы яе паверхні.

**ЦЭХ** (польск. cech, ад ням. Zeche) — 1) гарадская арганізацыя рамеснікаў адной прафесіі ў сярэдневяковай Еўропе, у т.л. і на Беларусі; 2) аддзяленне фабрыкі ці завода, у якім выпрацоўваецца пэўная прадукцыя або заканчваецца які-н. цыкл вытворчасці.

**ЦЭХІ́Н** (іт. zechino, ад zecca = манетны двор) — старадаўняя венецыянская залатая манета, якая абарачалася і ў іншых краінах Еўропы.

**ЦЭХШТЭ́ЙН** (ням. Zechstein) — верхняе падраздзяленне пермскай сістэмы, якое характарызуецца марскімі адкладамі вапняку, даламітаў.

**ЦЭЦЫ́ДЫЙ** (н.-лац. cecidium < гр. kekudion, ад kekis, -kidos = чарнільны арэшак) — тое, што і *галы*.

**ЦЭЦЭ́** (афрыкаанс tsetse) — афрыканская жывародная муха, якая корміцца крывёю жывёл і чалавека і з'яўляецца пераносчыкам узбуджальнікаў соннай хваробы.

**ЦЮБА́Ж** (фр. tubage) — метад апаражнення жоўцевага пузыра ад

яго змесціва (пераважна пры хранічным *халецыстыце*) без дапамогі зонда, шляхам прыёму хворым сульфату магнію.

**ЦЮБЕЦЕ́ЙКА** (цюрк. tjubetej) — круглая або вастраверхая шапачка з вышыванымі або тканымі ўзорамі.

**ЦЮ́БІК** (ад фр. tube = трубачка) — мяккая трубачка з металу, пластмасы для мазі, клею, пасты, змесціва якой дастаецца выцісканнем.

**ЦЮ́БІНГ** (англ. tubing) — металічная ці жалезабетонная пліта ў выглядзе *сегмента*, якая з'яўляецца часткай воданепранікальнага цыліндрычнага мацавання шахт і тунеляў.

**ЦЮК** (гал. tjuk) — вялікі звязаны пакунак тавару; вялікая звязка чаго-н.

**ЦЮЛЬ** (фр. tulle) — лёгкая празрыстая сятчастая тканіна.

**ЦЮЛЬПА́Н** (іт. tulipano) — цыбульная травяністая расліна сям. лілейных з буйнымі кветкамі рознай формы і афарбоўкі, пашыраная ў Паўд. Еўропе, Малой і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЦЮФЯ́К** (тат. tušek) — гнуткае пакрыццё каля мастоў, плацін для засцярогі рэчышча ракі і берагоў ад размыву.

# Ч

**ЧАБА́Н** (кр.-тат. čoban, ад перс. šuban) — пастух авечых атар.

**ЧАБУРЭ́К** (цюрк. čeburek) — страва народаў Усходу ў выглядзе піражка з тонка раскачанага прэснага цеста, начыненага баранінай.

**ЧАДРА́** (тур. čadyr, ад перс. čadar) — лёгкае пакрывала ў жанчын-мусульманак, у якое яны пры выхадзе з дому захутваюцца з галавы да ног, пакідаючы толькі шчыліну для вачэй.

**ЧАЙ** (цюрк. čaj, ад кіт. čhā) — 1) высушаныя і асобым спосабам апрацаваныя лісты вечназялёнага чайнага дрэва, на якіх настойваюць духмяны напітак; 2) гарачы напітак, настоены на лісці гэтай расліны; 3) працэс піцця такога напітку.

**ЧАЙНВО́РД** (ад англ. chain = ланцуг + word = слова) — задача-галаваломка на адгадванне слоў, размешчаных у клетачках такім чынам, што апошняя літара папярэдняга слова з'яўляецца першай літарай наступнага.

**ЧАЙХАНА́** (перс. čaj-chane, ад кіт. čhā = чай + перс. chane = памяшканне) — чайная ў краінах Сярэд. Азіі і ў Іране.

**ЧАКО́НА** (ісп. chacona) — 1) народны іспанскі танец, вядомы з 16 ст., які суправаджаецца спевамі і гукамі *кастаньетаў*; 2) музычны твор у рытме гэтага танца.

# Ч

**ЧАЛМА́** (цюрк. čalma) — мужчынскі галаўны ўбор у мусульман у выглядзе доўгага кавалка тканіны, абкручанага некалькі разоў вакол галавы.

**ЧАМАДА́Н** (перс. jāmadan) — дарожная скрынка са скуры, дэрмаціну, фібры ці кардону з вечкам і ручкай для рэчаў, багажу пасажыра.

**ЧАМБУ́Р** (цюрк. čumbur) — повад аброці.

**ЧАНТЭ́ЗІМА** (іт. centesimo, ад cento = сто) — разменная манета Італіі, Сан-Марына, Ватыкана, роўная 1/100 *ліры*[2].

**ЧАПАРА́ЛЬ** (ісп. chaparal) — тып субтрапічнай кустарнікавай расліннасці ў Паўн. Амерыцы.

**ЧАПРА́К** (тур. čaprak) — 1) найбольш тоўстая і моцная частка скуры са спіны жывёлы, што ідзе на выраб падэшвы і для тэхнічных патрэб; 2) подсцілка пад сядло, гунька.

**ЧАРГА́** (цюрк. čarga) — 1) пэўны парадак у следаванні, руху чаго-н.; 2) месца ў парадку следавання; 3) адзін з участкаў будоўлі, якая ўводзіцца ў строй па частках; 4) група людзей, якія стаяць адзін за адным для атрымання чаго-н.; 5) рад выстралаў з кулямёта, аўтамата.

**ЧА́РДА́Ш** (венг. csárdás, ад csarda = шынок, карчма) — 1) венгерскі парны народны танец, а таксама музыка да гэтага танца; 2) музычная п'еса ў рытме гэтага танца.

**ЧАРЛЬСТО́Н** (англ. charleston, ад Charleston = назва горада на паўднёвым усходзе ЗША) — амерыканскі бальны танец, разнавіднасць хуткага *факстрота*, а таксама музыка да гэтага танца.

**ЧАРТЫ́ЗМ** (англ. chartism) — масавы рэвалюцыйны рух англійскіх рабочых у 30 — 40 гг. 19 ст. за палітычныя правы і паляпшэнне эканамічнага становішча.

**ЧАРТЫ́СТЫ** (англ. chartists) — удзельнікі чартысцкага руху, прыхільнікі *чартызму*.

**ЧА́РТЭР** (англ. charter) — 1) тое, што і *хартыя*; 2) дагавор паміж уладальнікам судна і тым, хто яго фрахтуе, на арэнду ўсяго судна або яго часткі на пэўны рэйс або тэрмін.

**ЧАСУЧА́** (кіт. če-su-ča) — шчыльная шаўковая тканіна палатнянага перапляцення.

**ЧА́УІШ** (тур. čauš) — 1) *гіст.* турэцкі пасол; 2) сорт буйнога вінаграду.

**ЧАЧВА́Н** (перс. čašm-band = павязка для вачэй) — густая валасяная сетка, якая апускаецца з верхняй часткі *паранджы* на твар.

**ЧО́МПІ** (іт. ciompi) — наёмныя работнікі воўнаткацкай прамысловасці ў Фларэнцыі і іншых гарадах Італіі, якія ў 1378 г. паўсталі супраць купцоў, уладальнікаў мануфактур і ўрада.

**ЧОП** (ст.-польск. czop, ад с.-в.-ням. zapfe) — 1) вялікая драўляная ці металічная пасудзіна, якая формай нагадвае бак, чан; 2) затычка.

**ЧУІНГА́М** (англ. chewinggum) — жавальная гумка.

**ЧУМ** (комі cum) — лёгкае пераноснае жыллё конусападобнай формы ў некаторых народаў Поўначы, зробленае з жэрдак, абцягнутых скурамі жывёл.

# Ч

**ЧУМІ́ЗА** (кіт. cumiza) — злакавая расліна, якая вырошчваецца ў Азіі і Афрыцы як зерневая і кармавая культура.

**ЧУФА́** (ісп. chufa) — травяністая расліна сям. асаковых з лінейным лісцем і міндалепадобнымі клубнямі, што ўжываюцца ў харчовай і кандытарскай прамысловасці; культывуецца ў Міжземнамор'і, Малой і Сярэд. Азіі, Афрыцы, Закаўказзі; земляны міндаль.

**ЧЫ́ЗЕЛЬ** (англ. chisel = долата) — цяжкі *культыватар* для глыбокага рыхлення глебы.

**ЧЫ́КСЫ** (англ. cheeks = *літар.* шчокі) — прыстасаванні на верхняй частцы мачты, якія служаць для падтрымлівання канцоў стаячага *такелажу*.

**ЧЫНА́РА** (цюрк. činar) — дрэва сям. платанавых, пашыранае на Балканскім паўвостраве, у Крыме, Закаўказзі, Сярэд. Азіі; усходні платан.

**ЧЫНКВЕЧЭ́НТА** (іт. cinquecento = пяцьсот) — італьянская назва 16 ст., якую ўжываюць гісторыкі культуры для абазначэння перыяду найбольшага росквіту італьянскага Адраджэння.

**ЧЫНШ** (польск. czynsz, ад ням. Zins) — натуральны і грашовы збор, які зямельныя ўласнікі бралі з прыгонных сялян (на Беларусі ў 15—19 ст.).

**ЧЫ́ПСЫ** (англ. chips, ад chip = луска) — хрусткія кавалачкі падсмажанай бульбы.

**ЧЫХУА́ХУА** (ісп. chihuahua, ад Chihuahua = назва мексіканскага штата) — парода маленькіх дэкаратыўных сабак, выведзеная ў Мексіцы.

**ЧЫЧЫСБЕ́Й** (іт. cicisbeo) — пастаянны спадарожнік багатай замужняй жанчыны ў Італіі 18 ст., які суправаджаў яе на прагулках, забавах, відовішчах і інш.

**ЧЫЧЭРО́НЕ** (іт. cicerone, ад лац. Cicero, -ronis = Цыцэрон) — экскурсавод у краінах Зах. Еўропы, пераважна ў Італіі.

**ЧЭЙН** (англ. chain = *літар.* ланцуг) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 22 *ярдам* або 20,1168 м.

**ЧЭК** (англ. check) — 1) дакумент, у якім даецца распараджэнне банку выдаць ці пералічыць прад'яўніку пэўную суму грошай з бягучага рахунку асобы, што падпісала гэты дакумент; 2) квітанцыя касы аб прыёме грошай ад пакупніка, якая прад'яўляецца прадаўцу для атрымання тавару.

**ЧЭКМЕ́НЬ** (тур. čekmen = сукно; доўгая вопратка) — старадаўняе верхняе мужчынскае адзенне каўказскага тыпу ў выглядзе паўкафтана, пашытага ў талію са зборкамі ззаду.

**ЧЭЛЕ́СТА** (іт. celesta, ад лац. caelestis = нябесны) — пласцінчаты ўдарна-клавішны музычны інструмент, які знешне нагадвае невялікае *піяніна* або *фісгармонію*; пры гранні на ім утварае прыемныя меладычныя гукі, падобныя на звон званочкаў.

**ЧЭ́МБАЛА** (ад іт. clavicembalo) — адна з назваў *клавесіна*.

**ЧЭМПІЁН** (англ. champion, фр. champion, ад лац. campio = б'юся, змагаюся) — пераможца ў спар-

тыўных спаборніцтвах, гульнях на першынство, а таксама асоба або каманда, удастоеныя такога звання.

**ЧЭМПІЯНА́Т** (фр. championnat) — спаборніцтва на званне *чэмпіёна* ў якім-н. відзе спорту або ў спартыўных гульнях.

**ЧЭ́СТЭР** (англ. Chester = назва мясцовасці ў Англіі) — сорт вострага цвёрдага сыру.

# Ш

**ШААПІ́РАВАЦЬ** (ад ням. M.Schoop = прозвішча швейц. інжынера) — пакрываць прадметы металічным слоем шляхам распылення расплаўленага металу.

**ША́БАШ, ША́БАС** (ст.-яўр. šabbath = субота) — 1) суботняе свята, прадпісанае *іудаізмам*; 2) начное зборышча ведзьмаў і ведзьмакоў, якія, паводле сярэдневяковых павер'яў, учынялі шалёны разгул; 3) *перан.* зверскі ўчынак; варожы разгул.

**ША́БЕР** (ням. Schaber) — рэжучы інструмент, які служыць для падгонкі паверхняў металічных вырабаў, для выраўноўвання, ачысткі паверхні металу і для выскрабання малюнкаў у літаграфскай і гравіравальнай справе.

**ШАБЛО́Н** (ням. Schablone = узор) — 1) профіль, контур, абрыс, які з'яўляецца ўзорам для іншых вырабаў; 2) інструмент для праверкі правільнасці формы і памеру гатовых вырабаў; 3) чарцёж архітэктурнай дэталі ў натуральную велічыню; 4) *перан.* збіты ўзор, які слепа пераймаюць; штамп.

**ШАБО́Т** (фр. chabotte) — чыгунная аснова кавадла механічнага молата.

**ШАВІЁТ** (англ. cheviot, ад Cheviot = назва нагор'я ў Англіі) — лёгкая, мяккая, крыху ворсістая шарсцяная ці паўшарсцяная тканіна, з якой шыюць верхнюю вопратку.

**ШАВІНІ́ЗМ** (фр. chauvinisme) — крайняе праяўленне *нацыяналізму*, накіраванае на прапаганду нацыянальнай і расавай выключнасці, на ўзвялічванне сваёй нацыі, прапаведзь пагарды да іншых народаў і распальванне нацыянальнай варожасці.

**ШАВІНІ́СТ** (фр. chauviniste) — прыхільнік *шавінізму*.

**ШАВЯЛЮ́РА** (фр. chevelure) — пышныя густыя валасы на галаве (звычайна ў мужчыны).

**ШАДАТЭ́ЛА** (н.-лац. chodatella) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**ША́ЙБА** (ням. Scheibe) — 1) круглая металічная пласцінка з адтулінай пасярэдзіне, якая падкладваецца пад гайку ці пад галоўку *вінта*; 2) спартыўная прылада для гульні

# Ш

ў *хакей* у выглядзе гумавага ці пластмасавага плоскага дыска.

**ША́ЙРЫ** (англ. Shire) — парода буйных цяжкавозных коней, выведзеная ў Англіі.

**ШАЙТА́Н** (ар. sajtan, ад ст.-яўр. sātān) — злы дух, сатана ў мусульманскай міфалогіі.

**ШАКА́Л** (цюрк. šakal, ад перс. šaqāl) — драпежная жывёла сям. сабачых, якая харчуецца пераважна мерцвячынай; пашырана ў Паўд.-Усх. Еўропе, Паўд. і Сярэд. Азіі, Паўн. Афрыцы.

**ШАКАЛА́Д** (ням. Schokolade, ад ісп. chocolate) — 1) кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зерня какавы з цукрам; 2) напітак на малацэ з парашку гэтага вырабу.

**ШАКІ́РАВАЦЬ** (фр. choquer) — бянтэжыць, ставіць каго-н. у няёмкае становішча сваімі паводзінамі, парушаючы правілы прыстойнасці.

**ШАЛА́НДА** (фр. chaland, ад ар. šalandi) — 1) невялікая баржа для пагрузкі і разгрузкі суднаў; 2) парусная пласкадонная рыбацкая лодка на Чорным моры.

**ШАЛА́Ш** (цюрк. šalaš) — будан, часовая невялікая пабудова для жылля з жэрдак, пакрытых галінкамі, саломай і інш.

**ШАЛЕ́** (фр. chalet) — 1) невялікі сялянскі дом у гарах Швейцарыі; 2) невялікі загарадны дом у некаторых замежных краінах.

**ША́ЛІ** (польск. szale, ад ням. Schale) — вагі, якія маюць дзве сіметрычна размешчаныя часткі ў выглядзе талерак, на адной з якіх кладзецца груз для ўзважвання, а на другой гіры.

**ШАЛО́Т** (фр. échalote) — травяністая расліна сям. лілейных з ядомымі цыбулінай і лісцем, пашыраная ў Паўд.-Зах. Азіі; на Беларусі вырошчваецца вельмі рэдка.

**ШАЛФЕ́Й** (ад лац. salvia = якая лечыць) — травяністая расліна сям. ясноткавых з духмянымі фіялетавымі, чырвонымі або белымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; на Беларусі вядома як лекавая, эфіраалейная, дэкаратыўная.

**ШАЛЬ** (фр. châle, ад перс. šāl) — доўгая вузкая вязаная або тканая хустка, якой пакрываюць плечы і галаву або захутваюць шыю.

**ШАЛЬМАВА́ЦЬ** (ням. schelmen) — 1) ганьбаваць, знеслаўляць каго-н.; 2) хітрыць, падманваць.

**ШАЛЯВА́ЦЬ** (польск. szalować, ад ням. beschalen) — абіваць тонкімі дошкамі сцены будынка.

**ШАМАЗІ́Т** (фр. chamosite, ад Chamoson = назва мясцовасці ў Швейцарыі) — мінерал класа *сілікатаў* шаравата-зялёнага або чорнага колеру; жалезная руда.

**ШАМА́Н** (эвенк. saman = узбуджаны чалавек) — чараўнік, знахар у народаў, рэлігія якіх засноўваецца на веры ў духаў.

**ШАМБЕР'Е́Р** (фр. chambrière) — доўгі хлыст, які выкарыстоўваецца ў цырку для дрэсіроўкі коней.

**ШАМО́Т** (фр. chamotte) — вогнетрывалая гліна або каалін, апаленыя пры высокай тэмпературы да спякання, а таксама керамічныя вырабы з іх.

**ШАМПА́НСКАЕ** (ад фр. champagne = віно з правінцыі Champagne) — высакасортнае пеністае вінаграднае віно, якое насычана вуглякіслым газам.

**ШАМПА́НЬ** (фр. champagne, ад Champagne = назва правінцыі ў Францыі) — парода трусоў, выведзеная ў Індыі і ўдасканаленая ў Францыі, у правінцыі Шампань.

**ШАМПІНЬЁН** (фр. champignon) — шапкавы базідыяльны грыб сям. шампіньёнавых, які расце на лугах, палях, агародах, у лясах, садах; ядомы.

**ШАМПУ́НЬ** (англ. shampooing = мыццё галавы) — мыльная духмяная вадкасць або крэм для мыцця галавы.

**ШАМПУ́Р** (груз. sampuri) — металічны пруток для смажання *шашлыка* на агні.

**ШАНАВА́ЦЬ** (польск. szanować, ад ням. schonen) — 1) беражліва адносіцца да каго-н., чаго-н.; 2) адносіцца з пашанай, павагай да каго-н., чаго-н. (напр. ш. народныя традыцыі).

**ША́НДРА** (інд. sandra, ад санскр. kandras = бліскучы) — травяністая расліна сям. ясноткавых з дробнымі белымі кветкамі, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Афрыцы; зрэдку трапляецца на Беларусі; лекавая, эфіраалейная, фарбавальная.

**ША́НЕЦ** (польск. szaniec, ад ням. Schanze) — часовае палявое ўмацаванне з вала і рова, якое выкарыстоўвалася ў арміях еўрапейскіх краін у 17—19 ст.

**ШАНЖА́Н** (фр. changeant) — тканіна, якая мае ўласцівасць пераліваіцца рознымі колерамі.

**ША́НКЕР** (фр. chancre, ад лац. cancer = рак) — інфекцыйная венерычная хвароба, якая суправаджаецца з'яўленнем язваў на месцы заражэння; ц в ё р д ы  ш. — першае бачнае праяўленне захворвання сіфілісам; м я к к і  ш. — самастойнае венерычнае захворванне, выкліканае стрэптабацылай.

**ШАНС** (фр. chance) — верагоднасць поспеху, удачы, ажыццяўлення чаго-н.

**ШАНСАНЕ́ТКА** (фр. chansonnette = песенька) — 1) эстрадная песенька жартаўлівага, часта фрывольнага зместу; 2) спявачка, якая выконвае такія песні ў кабарэ, рэстаране і інш.

**ШАНСАНЬЕ́** (фр. chansonnier) — французскі эстрадны спявак, выканаўца *шансонаў* 2, часта аўтар тэксту і музыкі.

**ШАНСО́Н** (фр. chanson) — 1) французская песня ва ўсіх яе гістарычных і жанравых разнавіднасцях; 2) сучасная эстрадная песня (з рэпертуару *шансанье*).

**ШАНТА́Ж** (фр. chantage) — запалохванне пагрозай выкрыцця або паведамлення якіх-н. непажаданых звестак з мэтай вымагання чаго-н.

**ШАНТАЖЫ́РАВАЦЬ** (ад *шантаж*) — дабівацца чаго-н. у каго-н. шляхам шантажу.

**ШАНТАЖЫ́СТ** (ад *шантаж*) — той, хто займаецца шантажом, вымагальнік.

**ШАНТА́Н** [фр. (café) chantant = кафэ са спевамі] — тое, што і *кафэшантан*.

**ША́НЦАВЫ** (польск. szańcowy, ад szaniec < ням. Schanze = акоп) —

# Ш

*ваен.* які служыць для акопвання, для капання траншэй і інш. (напр. ш-ая лапата, ш. інструмент).

**ШАПАКЛЯ́К** (фр. chapeau-claque) — складная шляпа-цыліндр са спружынамі ў тулы, якія ўтрымліваюць яе ў раскрытым становішчы.

**ШАПІРО́ГРАФ** (ням. Schapirograph) — устройства для размнажвання машынапісных і рукапісных матэрыялаў, удасканалены *гектограф*.

**ШАПІТО́** (фр. chapiteau) — вялікая разборная брызентавая палатка для цыркавых выступленняў, а таксама перасоўны цырк, які выступае ў такой палатцы.

**ШАПТАЛА́** (перс. šaftālū = персік) — сушаныя на сонцы абрыкосы або персікі з костачкамі.

**ШАРАБА́Н** (фр. char-à-bancs) — 1) адкрыты чатырохколавы экіпаж з папярочнымі сядзеннямі ў некалькі радоў; 2) тое, што і *кабрыялет*.

**ШАРАВА́РЫ** (венг. salavári < цюрк. šalvar, ад перс. šalvār) — доўгія шырокія штаны, сабраныя каля шчыкалатак, а таксама шырокія спартыўныя штаны.

**ШАРА́ДА** (фр. charade) — загадка, у якой загаданае слова падзяляецца на часткі з наданнем ім значэнняў самастойных слоў.

**ШАРАЛЕ́** (фр. Charolais = назва раёна ў Францыі) — парода буйной рагатай жывёлы мяснога на прамку прадукцыйнасці, выведзеная ў Францыі.

**ШАРБЕ́Т** (тур. šerbet, ад ар. šarab) — 1) усходні фруктовы прахаладжальны напітак; 2) густая салодкая маса, прыгатаваная з фруктаў, кавы або шакаладу з цукрам (часта з арэхамі); 3) малочная пахучая памадка розных колераў з драблёнымі арэхамі.

**ШАРВА́РКІ** (ням. Scharwerk) — феадальныя павіннасці па будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў, панскіх будоўляў у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім 15—18 ст.

**ШАРЖ** (фр. charge) — сатырычная ці гумарыстычная выява (звычайна партрэт), у якой пры захаванні знешняга падабенства зменены і падкрэслены найбольш характэрныя рысы мадэлі; разнавіднасць *карыкатуры*.

**ШАРЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. charger) — апісваць, адлюстроўваць каго-н. або што-н. у манеры *шаржа*.

**ШАРЛАТА́Н** (фр. charlatan) — падманшчык, махляр, невук, які выдае сябе за знатака.

**ШАРЛА́Х** (ням. Scharlach) — фарба ярка-чырвонага колеру.

**ШАРЛО́ТКА** (фр. charlotte) — салодкая страва з запечанага цеста або сухароў са слаямі яблыкаў.

**ШАРМ** (фр. charme) — чароўнасць, прывабнасць.

**ШАРНІ́Р** (ням. Scharnier, ад фр. charnière) — рухомае злучэнне дэталей, якое дазваляе ім паварочвацца толькі вакол агульнай восі або агульнага пункта.

**ШАРТРЭ́З** (фр. Chartres = назва французскага горада) — сорт моцнага духмянага *лікёру*.

**ШАРФЮ́РЭР** (ням. Scharführer) — званне ў СС у фашысцкай Герма-

нії, якое адпавядала званню *фельдфебеля*.

**ШАРХЕ́БЕЛЬ** (ням. Schärfhobel) — стругальны інструмент *(гэбель)* для першаснай апрацоўкі драўніны (да неабходнай таўшчыні) і для надання паверхні ўвагнутага профілю.

**ШАРЫЯ́Т** (ар. šarāt) — звод мусульманскіх прававых і рэлігійных норм і правілаў, заснаваных на *каране* (параўн. *адат*).

**ШАРЭ́НГА** (ст.-польск. szeręg, ад венг. sereg) — строй, у якім ваеннаслужачыя размешчаны адзін побач з другім тварам у адзін бок па прамой лініі.

**ШАР'Я́Ж** (фр. charriage) — *геал.* вялікае, палогае насоўванне горных парод на іншыя пароды ў выніку тэктанічных рухаў.

**ШАСІ́** (фр. châssis) — 1) асноўная частка аўтамабіля і іншых машын, на якой умацаваны рухавік, механізмы, кузаў; 2) узлётна-пасадачнае ўстройства самалёта (верталёта).

**ШАСЭ́** [1] (фр. chaussee) — аўтамабільная дарога, пакрытая асфальтам, мошчаная шчэбенем або іншым цвёрдым пакрыццём; шаша.

**ШАСЭ́** [2] (фр. pas chasse, ад chasser = гнаць) — адзін з самых пашыраных рухаў у бальных танцах у выглядзе спалучэння трох слізгаючых падбіваючых крокаў, якія выконваюцца па схеме: крок, прыставіць, крок.

**ШАТЭ́Н** (фр. châtain) — мужчына з цёмна-русымі (каштанавымі) валасамі.

**ШАЎРО́** (фр. chevreau = *літар.* казляня) — мяккая тонкая скура хромавага дублення, выробленая са шкур коз.

**ШАЎРО́Н** (фр. chevron) — галунная нашыўка ў выглядзе вугла на рукаве адзення салдат і малодшых афіцэраў.

**ШАЎРЭ́Т** (фр. chevrette = козачка) — падробленая пад *шаўро* скура хромавага дублення, выробленая са шкур авечак.

**ША́ФА** (польск. szafa, ад ням. Schaff) — 1) від мэблі ў выглядзе высокай стаячай скрынкі з дзверцамі; 2) скрынка са створкай або дзверцамі, якая служыць для сушкі, выпечкі і іншых мэт.

**ША́ФЕР** (ням. Schaffer) — удзельнік вясельнага абраду, які ў час вянчання трымае вянец над галавой жаніха (нявесты).

**ШАФЁР** (фр. chauffeur) — вадзіцель аўтамашыны.

**ШАФРА́Н** (с.-лац. safranum, ад ар. za'farān) — 1) травяністая расліна сям. касачовых з вузкім лісцем і сінявата-фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; 2) высушаныя рыльцы кветак гэтай расліны, якія выкарыстоўваюцца ў парфумерыі і як харчовая прыправа; 3) сорт яблыкаў.

**ШАХ** (перс. šāh = кароль) — 1) тытул манарха ў некаторых краінах Усходу; 2) нападзенне якой-н. фігуры на караля праціўніка ў шахматнай гульні.

**ША́ХЕР-МА́ХЕР** (ням. Schacher und Macher) — *разм.* махлярская здзелка, лоўкая ашуканская аперацыя.

# Ш

**ШАХІНША́Х** (перс. šāh-in-šāh = *літар.* кароль каралёў) — тытул манархаў у Іране з часоў Сасанідаў (дынастыя іранскіх шахаў 224—651 гг.).

**ША́ХМАТЫ** (перс. šāh mat = шах памёр) — 1) гульня двух партнёраў на раздзеленай на 64 светлыя і цёмныя клеткі дошцы 16 белымі і 16 чорнымі фігурамі з мэтай аб'явіць *мат* каралю праціўніка; 2) набор фігур для такой гульні.

**ША́ХТА** (ням. Schacht) — 1) горна-прамысловае прадпрыемства, якое вядзе здабычу карысных выкапняў падземным спосабам; 2) месца здабычы карысных выкапняў, а таксама правядзення якіх-н. падземных работ; 3) вертыкальная падоўжаная поласць у некаторых канструкцыях (напр. ліфтавая ш.).

**ШАЦІРАВА́ЦЬ** (ням. schattieren = адценьваць) — накладаць цені на малюнак (напр. *штрыхамі*).

**ША́ШКА** (кабард. šascho) — халодная зброя ў выглядзе доўгага, злёгку сагнутага клінка.

**ШАШЛЫ́К** (цюрк. šišlik) — страва з кавалачкаў мяса (часцей бараніны), нанізаных на металічны стрыжань *(шампур)* і засмажаных разам з кольцамі цыбулі.

**ШВА́БРА** (ням. Schwabber) — прыстасаванне (мятла) з мачалы, вяровак і інш. для мыцця падлогі.

**ШВА́ГЕР** (ням. Schwager) — брат жонкі або муж сястры ці жончынай сястры.

**ШВАНК** (ням. Schwank = *літар.* жарт) — жанр нямецкай гарадской літатаруры 13—17 ст., кароткае гумарыстычнае апавяданне ў вершах або прозе.

**ШВАРТО́Ў** (гал. zwaartouw) — *мар.* трос або ланцуг для прывязвання судна да прычальных прыстасаванняў.

**ШВАХ** (ням. schwach) — дрэнна, кепска.

**ШВЕЙЦА́Р** (ням. Schweizer) — вартаўнік ля ўваходных дзвярэй у пад'ездах устаноў, гасцініц, рэстаранаў.

**ШВЕ́ЛЕР** (ням. Schweller) — стальная бэлька, якая мае ў сячэнні форму літары П.

**ШВЕ́РМЕР** (ням. Schwärmer) — феерверачная *ракета*, якая пакідае зігзагападобны вогненны след.

**ШВЕРТ** (ням. Schwert = *літар.* меч) — высоўны плоскі *кіль* 1 на малых парусных суднах для павелічэння супраціўлення *дрэйфу*.

**ШВЕРТБО́Т** (ням. Schwertboot, ад Schwert = *літар.* меч + Boot = шлюпка) — парусная *яхта* з высоўным *кілем (швертам)*.

**ШВІ́ЦКІ** (ад ням. Schwyz = назва кантона ў Швейцарыі); ш - а я п а р о д а (ж ы в ё л а) — парода буйной рагатай жывёлы мяса-малочнага напрамку прадукцыйнасці, выведзеная ў Швейцарыі.

**ШКАДАВА́ЦЬ** (ст.-польск. szkodować, ад szkoda < ст.-в.-ням. scado) — 1) адчуваць жаль, спагаду да каго-н.; 2) берагчы, апшчаджаць; 3) смуткаваць, бедаваць з прычыны чаго-н.

**ШКАЛА́** (лац. scala = лесвіца) — 1) лінейка з дзяленнямі ў вымяральных прыборах (напр. ш. тэрмометра); 2) рад велічынь, размешчаных у сыходным або ўзыходзячым парадку (напр. ш. заработнай платы).

**ШКАЛЯ́Р** (польск. szkolarz, ад с.-лац. scholaris) — 1) *студэнт* у сярэдневяковай Еўропе, у т.л. ў Вялікім княстве Літоўскім; 2) вучань, школьнік; 3) *перан.* дарослы чалавек з абмежаваным узроўнем ведаў.

**ШКАНТ** (фр. scante) — устаўны шып для злучэння дэталей сталярных вырабаў.

**ШКА́НЦЫ** (гал. schans) — сярэдняя частка верхняй палубы ваеннага карабля паміж *грот-мачтай* і *бізань-мачтай*, дзе адбываюцца афіцыйныя *цырымоніі*.

**ШКАРЛЯТЫ́НА** (польск. szkarlatyna < іт. scarlattina, ад п.-лац. scarlatum = ярка-чырвоны колер) — інфекцыйная хвароба, пераважна ў дзяцей, якая суправаджаецца болем у горле і чырванаватай высыпкай.

**ШКАРПЭ́ТКА** (польск. szkarpetka, ад іт. scarpetta) — трыкатажны выраб, кароткая панчоха, якая не даходзіць да калена.

**ШКАТУ́ЛКА** (польск. szkatułka, ад іт. scatola) — скрыначка з вечкам для дробных, звычайна каштоўных рэчаў.

**ШКАФУ́Т** (гал. schavot) — частка верхняй палубы судна паміж *фок-мачтай* і *грот-мачтай*.

**ШКВАЛ** (англ. squall) — 1) нечаканы моцны парыў ветру, часцей за ўсё пры навальніцах; 2) *перан.* што-н. раптоўнае, інтэнсіўнае (напр. ш. агню).

**ШКЕ́НЦЕЛЬ** (гал. schenkel) — кароткі стальны або пяньковы карабельны *трос* з блокам ці кольцам на канцы.

**ШКІЛЕ́Т** [гр. skeleton (soma) = высахлае цела] — 1) сукупнасць касцей, якія ствараюць цвёрдую аснову цела чалавека і жывёл; 2) аснова, каркас чаго-н. (напр. ш. абгарэлай машыны, ш. твора).

**ШКІ́ПЕР** (гал. schipper, англ. skipper) — 1) *уст.* капітан камерцыйнага судна; 2) асоба, адказная за маёмасць на ваенным караблі; 3) капітан несамаходнага рачнога судна.

**ШКІПІНА́Р** (ст.-польск. szpikanard, ад лац. spica nardi = лаванда) — празрыстая ці жаўтаватая гаручая вадкасць з едкім пахам, якая здабываецца перагонкай смалы хвойных дрэў і прымяняецца ў медыцыне і лакафарбавай вытворчасці.

**ШКІЎ** (гал. schijf) — кола, на якое надзяваецца пас, дзякуючы чаму перадаецца рух з аднаго вала на другі.

**ШКО́ДА** (ст.-польск. szkoda, ад ст.-в.-ням. scado) — 1) урон, страта; 2) патрава, зробленая жывёлай.

**ШКО́ЛА** (лац. schola, ад гр. schole) — 1) навучальная ўстанова, якая ажыццяўляе агульную адукацыю і выхаванне маладога пакалення, а таксама будынак, дзе гэта ўстанова размяшчаецца; 2) сістэма адукацыі, вывучка, набыты вопыт (напр. ш. жыцця, ш. ігры на баяне); 3) кірунак у навуцы, літаратуры, мастацтве, звязаны пераемнасцю прынцыпаў і метадаў (напр. ш. крытычнага рэалізму).

**ШКОТ** (гал. schoot) — снасць, якая мацуецца да вуглоў парусоў і служыць для расцягвання парусоў і кіравання імі ў час руху судна.

# Ш

**ШЛАГ** (ням. Schlag = удар) — 1) *мар.* віток снасці або троса вакол *шпіля, кнехта* і інш.; 2) поўны абарот *штурвала*.

**ШЛАГБА́УМ** (ням. Schlagbaum) — перакладзіна для адкрывання і закрывання шляху на чыгуначных пераездах і заставах.

**ШЛАК** (ням. Schlacke) — 1) адкіды, якія ўтвараюцца пры пераплаўцы руды або пры згаранні каменнага вугалю; 2) *мн.* адходы фізіялагічных працэсаў, якія адбываюцца ў арганізме (не засвоены бялок і іншыя рэчывы).

**ШЛАКАБЕТО́Н** (ад *шлак* + *бетон*) — лёгкі бетон, прыгатаваны з сумесі цэменту, шлаку і пяску.

**ШЛАКАБЛО́К** (ад *шлак* + *блок*) — будаўнічы матэрыял кубічнай формы, які вырабляецца са шлаку з прымессю цэменту.

**ШЛАМ** (ням. Schlamm) — 1) асадак у выглядзе дробных цвёрдых часцінак, які ўтвараецца пры адстойванні або фільтраванні вады; 2) асадак пры *электролізе* некаторых металаў; 3) нерастваральныя адклады з вады ў паравых катлах у выглядзе глею і цвёрдых кавалкаў.

**ШЛАНГ** (ням. Schlange) — гнуткая гумавая або прарызіненая труба для адводу, пералівання вадкасцей, газаў.

**ШЛАФРО́К** (ням. Schlafrock) — *уст.* дамашні халат.

**ШЛЕЙФ** (ням. Schleife) — 1) доўгі падол жаночай сукенкі, які цягнецца ззаду; 2) *перан.* след, паласа ў паветры, на зямлі, на вадзе ад руху чаго-н. (напр. ш. дыму, ш. пылу, ш. пены); 3) сельскагаспадарчая прылада для выраўнования глебы, валакуша; 4) паласа адкладанняў, якая ахінае ніжнюю частку ўзгорка, узвышша.

**ШЛІР** (ням. Schlier = гразь) — мінеральнае скапленне ў вывержаннай горнай пародзе, якая адасобілася ў магматычную стадыю і адрозніваецца ад астатняй масы горнай пароды іншымі колькаснымі суадносінамі частак або структурай.

**ШЛІФ** (ням. Schliff) — адшліфаваная з абодвух бакоў тонкая празрыстая пласцінка мінералу або горнай пароды для даследавання пад мікраскопам.

**ШЛІФАВА́ЦЬ** (польск. szlifować, ад ням. schleifen) — 1) апрацоўваць да гладкасці якую-н. паверхню; 2) *перан.* удасканальваць, паляпшаць што-н. (напр. ш. стыль артыкула).

**ШЛІХ** (ням. Schlich) — асадак з зерняў цяжкіх мінералаў, які атрымліваецца пры прамыўцы вадою рыхлых ці здробненых горных парод і руд з мэтай здабычы золата, плаціны, алмазаў і інш.

**ШЛІ́ХТА** (ням. Schlichte) — 1) клейкі, ліпкі раствор, якім прамочваюць аснову тканіны, каб надаць ёй трываласць і гладкасць; 2) тое, што і *штабель*.

**ШЛІХТАВА́ЦЬ** (ням. schlichten) — 1) прамываць, насычаць аснову тканіны *шліхтай*; 2) збіраць што-н. у *штабель* (шліхту) (напр. ш. дошкі).

**ШЛІХТУ́БЕЛЬ** (ням. Schlichthobel) — стругальны інструмент (*гэбель*) з двайным лязом, прызначаны для чыстага стругання.

**ШЛІЦ** (ням. Schlitz) — 1) прорэзь для адвёрткі ў галоўцы шрубы, 2) разрэз на спінцы ці на баках пінжака, паліто і інш.

**ШЛЫК** [кр.-тат. (ba)šlyk = башлык] — высокая футравая шапка.

**ШЛЮЗ** (ням. Schleuse) — 1) гідратэхнічнае збудаванне ў выглядзе адной ці некалькіх камер для пераводу суднаў з адной часткі ракі (канала) у другую, якая мае іншы ўзровень вады; 2) адтуліна з засаўкай у плаціне, праз якую выпускаецца вада; 3) прыстасаванне ў выглядзе шырокага нахіленага жолаба для прамывання залатаноснага пяску ці здробненай руды.

**ШЛЮП** (гал. sloep) — 1) трохмачтавы карабель з прамымі парусамі ў парусным флоце 18—19 ст.; 2) аднамачтавае марское судна з *кліверам.*

**ШЛЮПБЭ́ЛЬКА** (гал. sloepbalk) — *мар.* металічная *бэлька*, да якой падвешваюцца *шлюпкі*, каб спускаць іх на ваду і падымаць на борт.

**ШЛЮ́ПКА** (рус. шлюпка, ад гал. sloep = шлюп) — невялікае бяспалубнае парусна-грабное або маторнае судна з моцным корпусам (напр. выратавальная ш.).

**ШЛЮС** (ням. Schluss) — сціскание сядла каленямі як умова моцнай пасадкі кавалерыстаў.

**ШЛЯ́ГА** (ням. Schlag) — прылада, ударамі якой трамбуюць ці ўшчыльняюць глебу, пясок, каменне і інш.

**ШЛЯ́ГЕР** (ням. Schlager) — новая модная, вельмі папулярная ў які-н. перыяд песня, мелодыя.

**ШЛЯК** (польск. szlak, ад ням. Schlag) — аблямоўка на тканіне, хустцы, шаліку і інш.

**ШЛЯ́МБУР** (ням. Schlagbohrer, ад schlagen = біць + Bohrer = свердзел) — інструмент у выглядзе стальной трубкі з зазубрынамі на канцы для прабівання адтулін у каменных або бетонных частках збудаванняў.

**ШЛЯХ** (ст.-польск. szlach, ням. Schlag) — 1) шырокая дарога, гасцінец, тракт; 2) прастора, па якой адбываецца рух, перамяшчэнне каго-н., чаго-н. (напр. паветраны ш., водны ш., чыгуначны ш.); 3) *перан.* вялікі перыяд развіцця чаго-н. (ш., пройдзены чалавецтвам); 4) *перан.* напрамак дзейнасці, развіцця чаго-н.; 5) орган у выглядзе каналаў, якія забяспечваюць жыццядзейнасць арганізма (дыхальныя шляхі).

**ШЛЯ́ХТА** (польск. szlachta, ад ст.-в.-ням. slahta) — дробнапамеснае дваранства ў Польшчы, Беларусі, Літве ў 14 — пач. 20 ст.

**ШЛЯ́ХЦІЦ** (польск. szlachcic, ад szlachta < ст.-в.-ням. slahta) — дробнапамесны дваранін у Польшчы, Беларусі, Літве ў 14 — пач. 20 ст.

**ШЛЯЯ́** (польск. szleja < чэш. šle, ад ст.-в.-ням. silo) — частка *збруі* ў выглядзе рэменя, які ідзе ад хамута і агібае ўсё тулава каня.

**ШМА́ЛЕЦ** (ням. Schmalz) — гусіны тлушч.

**ШМАРАВА́ЦЬ** (польск. smarować, ад ням. schmieren) — націраць, намазваць каго-н. або што-н.; церці, ачышчаючы што-н.

# Ш

**ШМУЦРО́ЛЬ** (ням. Schmutzrolle, ад Schmutz = бруд + Rolle = рулон) — *рулон* паперы ў ратацыйнай друкарскай машыне, што засцерагае ад забруджвання яе чысты бок у час друкавання на зваротным баку.

**ШМУЦТЫ́ТУЛ** (ням. Schmutztitel, ад Schmutz = бруд + Titel = загаловак) — 1) *палігр.* папяровы аркуш у пачатку кнігі (перад *тытулам* 3) або перад яе часткамі ці раздзеламі, на якім звычайна змяшчаюць кароткі загаловак кнігі, эпіграф, прысвячэнне і інш.; 2) дадатковы тытул у старадруках, які змяшчаўся перад тытульным лістом і засцерагаў яго ад забруджвання.

**ШНАПС** (ням. Schnaps) — *разм.* гарэлка.

**ШНІ́ЦЭЛЬ** (ням. Schnitzel) — тонкая адбіўная ці рубленая катлета.

**ШНО́РКЕЛЬ** (ням. Schnorkel) — устройства ў выглядзе трубы з двума каналамі (для забору свежага паветра і выкіду адпрацаваных газаў), якое забяспечвае работу дызеляў падводнай лодкі, калі яна ідзе на невялікай глыбіні і верхняя частка ўстройства выходзіць на паверхню мора.

**ШНУР** (польск. sznur, ад ням. Schnur) — 1) тонкая вяровачка, звітая з некалькіх кручаных нітак; 2) вяроўка, намазаная мелам або вугалем, якая служыць цеслярам для адбівання прамой лініі на бярвеннях; 3) электрычны провад, які складаецца з некалькіх ізаляваных жыл; 4) вузкая палоска зямлі; 5) *перан.* чарада птушак.

**ШНЭК** (ням. Schnecke = смоўж) — транспарцёр, прызначаны для бесперапыннага перамяшчэння насыпных, цестападобных і іншых грузаў, рабочым органам якога з'яўляецца вінт, вінтавы канвеер.

**ШНЭ́КА** (нарв. snekke) — невялікае вёслава-парусное судна на Белым моры і каля Мурманскага ўзбярэжжа.

**ШНЭ́ЛЕР** (ням. Schneller = спуск) — *уст.* прыстасаванне да спускавога механізма ручной агнястрэльнай зброі, што аблягчае спуск курка.

**ШОК** (фр. choc = *літар.* удар, штуршок) — агульнае цяжкае расстройства функцый арганізма ў выніку псіхічнай або фізічнай траўмы.

**ШО́МПАЛ** (ад ням. Stempel) — металічны пруток для чысткі і змазвання канала ствала агнястрэльнай зброі (вінтоўкі, рэвальвера і інш.).

**ШО́ПА** (польск. szopa, ад ням. Schuppen) — павець.

**ШОП-СЦЮ́АРДЫ** (англ. shop-stewards) — фабрычныя старасты ў Англіі, выбарныя прадстаўнікі рабочых на прадпрыемствах; выконваюць значную ролю ў арганізацыі эканамічнай і палітычнай барацьбы рабочага класа.

**ШО́РТГАРН** (англ. shorthorn, ад short = кароткі + horn = рог) — парода буйной рагатай жывёлы мяснога і мяса-малочнага напрамкаў прадукцыйнасці, выведзеная ў Англіі ў 18 ст.

**ШО́РТЫ** (англ. shorts, ад short = кароткі) — кароткія штаны.

**ШО́РЫ** (польск. szory, ад с.-в.-ням. geschirre) — 1) конская *збруя* без дугі і хамута; 2) бакавыя шчыткі, прымацаваныя да аброці, каб запрэжаны конь не мог глядзець убок; 3) *перан.* тое, што перашкаджае, абмяжоўвае ў чым-н.; трымаць у шорах — прымушаць паводзіць каго-н. пэўным чынам.

**ШО́ТЫ** (фр. shott, ад ар. šatt = бераг ракі) — невялікія паглыбленні ў пустынях на паўночным захадзе Афрыкі, пакрытыя слаямі солі; у час дажджоў запаўняюцца вадой.

**ШО́У** (англ. show) — 1) пышнае сцэнічнае відовішча з удзелам майстроў эстрады, цырка і інш.; 2) *перан.* што-н. паказное, разлічанае на шумны знешні эфект (напр. палітычнае ш.).

**ШПА́ГА** (іт. spada) — халодная колючая зброя з прамым вузкім і доўгім клінком; скрыжаваць шпагі — пачаць паядынак, бой, спрэчку.

**ШПАГА́Т** (ням. Spagat) — 1) тонкая трывалая вяровачка для звязвання, упакоўкі чаго-н.; 2) фігура ў гімнастыцы, пры якой гімнаст садзіцца, выцягваючы ногі да поўнага датыкання іх да падлогі так, што яны ўтвараюць адну прамую лінію.

**ШПАКЛЯВА́ЦЬ** (ням. spachteln) — замазваць спецыяльнай замазкай шчыліны і няроўнасці паверхні перад яе фарбаваннем, паліроўкай.

**ШПА́ЛА** (рус. шпала, ад гал. spalk = падпорка) — брус, які кладзецца ўпоперак чыгуначнага насыпу як апора пад рэйкі.

**ШПАЛЕ́РЫ** (ням. Spalier, ад іт. spalliera) — 1) узорыстая папера для абклейкі сцен; 2) шарэнгі салдат па абодва бакі руху каго-н. або чаго-н.; 3) роўныя рады дрэў, кустоў па абодва бакі дарогі; 4) бязворсавыя насценныя дываны або абівачныя тканіны з сюжэтнымі або пейзажнымі выявамі, выканаными ўручную.

**ШПАНГО́ЎТЫ** (гал. spanthout, ад spant = бэлька + hout = дрэва) — папярочныя выгнутыя брусы ў корпусе карабля ці самалёта, якія забяспечваюць трываласць бартоў і днішча.

**ШПА́НДЫР** (ад ням. Spannriemen) — рамень, якім шавец прымацоўвае сваю работу да нагі.

**ШПАРГА́ЛКА** (польск. szpargał, ад лац. sparganum) — 1) лісток паперы з запісамі, якім карыстаюцца тайна ад выкладчыка ў час экзаменаў; 2) запіска, паперка з тэкстам, падрыхтаваная адной асобай для выступлення другой асобы.

**ШПАТ** [1] (ням. Spat) — назва групы мінералаў, якія не маюць металічнага бляску і пры ўдары раскolваюцца на кавалкі правільнай, геаметрычнай формы (напр. палявы ш., плавіковы ш., вапнавы ш.).

**ШПАТ** [2] (ням. Spat) — хранічнае запаленне скакальнага сустава ў каня ці рабочага вала (параўн. *артрыт*).

**ШПАТЭ́ЛЬ** (ням. Spatel) — 1) інструмент тынкоўшчыка, мастака ў выглядзе лапатачкі для накладвання і выраўноўвання шпаклёўкі, раўнамернага накладвання фарбы на палатно ці расціранне на палітры; 2) медыцынскі інструмент, які мае форму лапатачкі і выкарыс-

тоўваецца пры хірургічных аперацыях, для агляду зева і інш.

**ШПА́ЦЫР** (польск. spacer, ад ням. Spazier) — прагулка на свежым паветры.

**ШПАЦЫРАВА́ЦЬ** (польск. spacerować, ад ням. spazieren) — прагульвацца на свежым паветры.

**ШПА́ЦЫЯ** (лац. spatium = прастора, прамежак) — 1) металічны брусочак, які прымяняецца ў друкарскай справе пры ручным наборы для запаўнення прабелаў паміж словамі, утварэння абзацаў і інш.; 2) адлегласць паміж двума *шпангоўтамі* на судне.

**ШПЕГ** (польск. szpieg < чэш. špeh, ад ням. Späher) — тайны *агент*, які сочыць за кім-н.; шпік.

**ШПЕ́РГЕЛЬ** (н.-лац. spergula) — травяністая расліна сям. гваздзіковых з белымі кветкамі на доўгіх кветаножках, у паўпарасоніках, якая расце ў лясах, на лугах, аблогах, як пустазелле палёў, агародаў, садоў; свінакроп.

**ШПІГ** (польск. szpik, ад ням. Speck) — прасоленае падскурнае свіное сала (у кавалках).

**ШПІГА́Т** (гал. spuigat) — адтуліна ў *фальшбоце* або на палубе судна для выдалення за борт вады.

**ШПІЁН** (ням. Spion) — засакрэчаны *агент*, які выведвае дзяржаўныя і ваенныя тайны і выдае іх іншай дзяржаве.

**ШПІК** (польск. szpik, ад ням. Speck) — *анат.* касцявы мозг.

**ШПІЛЬ** (ням. Spille) — вертыкальнае востраканцовае завяршэнне будынка ў выглядзе выцягнутых уверх конуса або піраміды.

**ШПІ́ЛЬКА** (ням. Spill = іголка) — 1) засцежка для вопраткі, адзін канец якой хаваецца ў кручкаватае паглыбленне (галоўку); 2) заколка для валасоў у жаночай прычосцы; 3) *мн.* высокія тонкія абцасы ў жаночых туфлях, а таксама туфлі на такіх абцасах.

**ШПІ́ЛЬМАН** (ням. Spielmann) — вандроўны спявак, музыкант, акцёр, акрабат у сярэдневяковай Германіі (параўн. *гістрыён* 2, *жанглёр* 1).

**ШПІНА́Т** (ням. Spinat) — травяністая расліна сям. лебядовых з ядомым лісцем, пашыраная ў Еўразіі, Паўн. Амерыцы.

**ШПІНГАЛЕ́Т** (фр. espagnolette) — металічная засаўка для акон, дзвярэй.

**ШПІ́НДЭЛЬ** (ням. Spindel) — 1) вал металарэзнага станка, які перадае вярчэнне інструменту або загатоўцы дэталі; 2) верацяно ў прадзільнай машыне; 3) вось якога-н. механізма, прыстасавання (катушкі, суднавага шпіля і інш.).

**ШПІНЕ́ЛІ** (ням. Spinell) — група мінералаў класа вокіслаў і гідравокіслаў чырвонага, сіняга або зялёнага колеру; выкарыстоўваюцца як руда жалеза, хрому, марганцу, празрыстыя разнавіднасці — у ювелірнай справе.

**ШПІТА́ЛЬ** (польск. szpital < ням. Spital, ад лац. hospitale) — вялікая бальніца, звычайна ваенная.

**ШПІЦ** [1] (ням. Spitz) — парода пакаёвых дэкаратыўных сабак з доўгай пушыстай поўсцю.

**ШПІЦ** [2] (ням. Spitze) — *уст.* тое, што і *шпіль*.

**ШПІЦРУ́ТЭН** (ням. Spitzrute) — гібкі прут, якім даўней паганялі каня, а ў царскай Расіі білі салдат, злачынцаў.

**ШПІЯНА́Ж** (ням. Spionage) — збіранне, выкраданне ці выведванне дзяржаўных і ваенных тайн з мэтай перадачы іх іншай дзяржаве.

**ШПЛІНТ** (ням. Splint) — сагнуты папалам драцяны стрыжань, які выкарыстоўваецца ў машынабудаванні для замацавання дробных дэталей і папярэджвання самаадкручвання гаек.

**ШПО́НА** (ням. Span = трэска) — 1) аднаслаёвая фанера; 2) *паліго.* металічная пласцінка, якая служыць для павелічэння інтэрвалу паміж радкамі ў друкарскім наборы.

**ШПО́НКА** (польск. szponga, ад ням. Spange) — злучальная дэталь у якім-н. механізме, якая засцерагае ад перамяшчэння асобных яго частак.

**ШПОР** (гал. spoor) — *мар.* ніжні канец *мачты, стэньгі, бушпрыта.*

**ШПО́РА** (ням. Sporn) — 1) металічная дужка з зубчастым або гладкім кольцам, якая прымацоўваецца да бота наезніка і служыць для кіравання канём; 2) рагавы выступ на нагах самцоў некаторых птушак.

**ШПРО́ТЫ** (ням. Sprotten) — дробная марская рыба сям. селядцоў, а таксама кансервы з гэтай рыбы;ількі.

**ШПРУХ** (ням. Spruch = выказванне) — жанр сярэдневяковай нямецкай паэзіі павучальнага характару (кароткая байка, прымаўка, загадка).

**ШПРЫНГ** (ням. Spring) — *трос,* прывязаны адным канцом да якара або якарнага ланцуга, а другім да судна, каб утрымліваць карабель у пэўным становішчы.

**ШПРЫЦ** (ням. Spritze) — медыцынскі інструмент у выглядзе цыліндра з поршнем і трубчастай іголкай для ўколаў.

**ШПРЭ́НГЕЛЬ** (ням. Sprengwerk) — дапаможная стрыжнёвая *канструкцыя,* якую далучаюць да асноўнай канструкцыі, каб узмацніць яе.

**ШПРЭХШТАЛМА́ЙСТАР** (ням. Sprechstallmeister) — работнік, адказны за ход прадстаўлення ў нямецкім і рускім цырку (да 1917 г.).

**ШПУ́ЛЬКА** (польск. szpulka, ад ням. Spule) — драўляны або металічны *цыліндр,* на які што-н. намотваецца (ніткі, шнур, дрот і інш.).

**ШПУ́ЛЯ** (польск. szpula, ад ням. Spule) — 1) насадка з драўніны ці кардону, якая надзяваецца на верацяно для намотвання на яе пражы; 2) стрыжань для намотвання дроту, кабелю, а таксама сам намотаны дрот, кабель.

**ШПУНТ** (польск. szpunt, ад ням. Spund) — 1) падоўжны выступ ці паз для злучэння дошак, брусоў, блокаў і інш.; 2) корак для затыкання бочкі з півам або вінам.

**ШПУНТУ́БЕЛЬ** (ням. Spundhobel) — сталярны інструмент, прызначаны для выстругвання *шпунтоў* 1.

**ШПУР** (ням. Spur) — 1) прасвідраваны ў горным масіве вузкі канал, у які ўкладваецца зарад выбуховага рэчыва для адбойкі ці

# Ш

здрабнення горнай пароды; 2) адтуліна ў горне шахтавай печы, праз якую выпускаюць прадукты плаўлення.

**ШПЭ́ЙЗА** (ням. Speise = ежа) — пабочны або прамежкавы прадукт у вытворчасці некаторых каляровых металаў (сплаў *арсенідаў* і *антыманідаў* медзі, нікелю, кобальту і інш.).

**ШРАМ** (ням. Schramme) — след на скуры ад раны ў выглядзе паласы або рубца.

**ШРАПНЕ́ЛЬ** [англ. shrapnel, ад H.Shrapnel = прозвішча англ. вынаходцы (1761—1842)] — артылерыйскі снарад, набіты круглымі кулямі, якія прызначаны для паражэння жывой сілы праціўніка.

**ШРАПШЫ́РЫ** (англ. Sropshires) — парода мясных кароткавоўнавых авец, выведзеная ў 19 ст. у графствах Шрапшыр і Страфардшыр у Англіі.

**ШРАФІРАВА́ЦЬ** (ням. schraffieren) — наносіць *штрыхі* на план, картасхему і інш.

**ШРОТ** (ням. Schrot) — 1) дробныя свінцовыя шарыкі, якія разам з порахам служаць зарадам для паляўнічых стрэльбаў; 2) адходы пасля выціскання алею з насення алейных раслін, якія ідуць на корм жывёле.

**ШРОТ-ЭФЕ́КТ** (ад *шрот* + *эфект*) — невялікія выпадковыя ваганні электрычнага току ў электронных лямпах, якія ўзнікаюць у выніку нераўнамернасці выпускання *электронаў* напаленым *катодам*.

**ШРУ́БА** (польск. śruba, ад ням. Schraube) — шпень са спіральнай нарэзкай.

**ШРУБЦЫ́НГА** (ням. Schraubzwinge) — прыстасаванне для замацоўвання дэталі ў час апрацоўкі.

**ШРЫФТ** (ням. Schrift) — 1) камплект друкарскіх літар і іншых знакаў, неабходных для набору, якія адрозніваюцца памерам і формай, нахілам, насычанасцю (напр. курсіўны ш., светлы ш.); г а т ы ч н ы ш. — шрыфт, які характарызуецца вузлаватасцю і зломам літар; 2) форма, малюнак, характар напісаных ці намаляваных літар.

**ШРЭ́ДЭР** (англ. shredder) — тое, што і *хескер-шрэдэр*.

**ШРЭДЭРЫЕ́ЛА** (н.-лац. schroederiella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнедэсмавых, якая пашырана ў *планктоне* азёр і вадасховішчаў.

**ШРЭДЭ́РЫЯ** (н.-лац. schroederia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. харацыевых, якая пашырана пераважна ў *планктоне* непраточных вадаёмаў.

**ШТАБ** (ням. Stab) — 1) орган кіравання войскамі, а таксама памяшканне, дзе ён размешчаны (напр. ш. батальёна, ш. дывізіі, генеральны ш.); 2) *перан.* кіруючы орган чаго-н. (напр. ш. добраахвотнай народнай дружыны).

**ШТА́БА** (польск. sztaba, ад ням. Stab) — жалезная паласа для запірання дзвярэй, завала, засаўка.

**ШТАБ-АФІЦЭ́Р** (ням. Stabsoffizier) — старшы афіцэрскі чын (палкоўнік, падпалкоўнік, маёр, капітан 1-га рангу, капітан 2-га

рангу) у арміях царскай Расіі і некаторых замежных краін.

**ШТА́БЕЛЬ** (ням. Stapel) — роўна, у пэўным парадку складзены рад ці некалькі радоў чаго-н. (напр. ш. дроў, ш. дошак).

**ШТАБ-КВАТЭ́РА** (ад *штаб* + *кватэра*) — месца, дзе размяшчаецца вайсковы штаб.

**ШТАБ-РО́ТМІСТР** (ад *штаб* + *ротмістр*) — афіцэрскі чын у *кавалерыі* і *жандармерыі*, ніжэйшы рангам за ротмістра, роўны званню *штабс-капітана* ў пяхоце і іншых войсках у арміях царскай Расіі і некаторых замежных краін.

**ШТАБС-КАПІТА́Н** (ням. Stabskapitän) — афіцэрскі чын у пяхоце, артылерыі і інжынерных войсках, рангам вышэй паручніка і ніжэй капітана ў арміях царскай Расіі і некаторых замежных краін.

**ШТАБС-ФЕЛЬДФЕ́БЕЛЬ** (ням. Stabsfeldwebel) — унтэр-афіцэрскае званне, ніжэйшае рангам за *фельдфебеля* ў арміях царскай Расіі і некаторых замежных краін.

**ШТАБСШАРФЮ́РЭР** (ням. Stabsscharführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *штабс-фельдфебеля*.

**ШТАГ** (гал. stag) — *мар.* канат, *трос*, які ўтрымлівае ад падзення *мачту, стэньгу* і інш.

**ШТАКРО́ЗА** (ням. Stockrose, ад Stock = сцябло + Rose = ружа) — дэкаратыўная садовая расліна сям. мальвавых з буйнымі кветкамі розных колераў у коласападобнай гронцы, пашыраная ў Міжземнамор'і, Сярэд. і Цэнтр. Азіі.

**ШТАЛМА́ЙСТАР** (ням. Stallmeister) — 1) адзін з прыдворных чыноў у царскай Расіі; 2) устарэлая назва рэжысёра *манежа*, які вядзе цыркавую праграму.

**ШТАМ** (ням. Stamm = род, племя) — чыстая культура мікраарганізмаў, вылучаная з якой-н. пэўнай крыніцы (хворай жывёліны або чалавека), якая прымяняецца для прыгатавання вакцыны і сывараткі.

**ШТАМБ** (ням. Stamm = ствол) — частка ствала пладовага дрэва ад кораня да кроны.

**ШТАМП** (ням. Stampfe, ад іт. stampa = пячатка) — 1) форма для вырабу вялікай колькасці аднолькавых прадметаў спосабам ціску або чаканкі; 2) прамавугольная пячатка з назвай і адрасам установы, прадпрыемства, арганізацыі; 3) *перан.* збіты моўны выраз.

**ШТА́НГА** (ням. Stange) — 1) металічны прут як састаўная частка многіх інструментаў, механізмаў (напр. адбойная ш., буравая ш.); 2) бакавая стойка (часам і верхняя перакладзіна) футбольных і хакейных варот; 3) спартыўны снарад у выглядзе металічнага прута з дыскамі на абодвух канцах для заняткаў цяжкай атлетыкай.

**ШТАНГЕНІНСТРУМЕ́НТ** (ад ням. Stange = стрыжань + *інструмент*) — інструмент для вымярэння лінейных памераў (дыяметраў, даўжынь і г.д.).

**ШТАНГЕНРЭ́ЙСМУС** (ням. Stangenreissmass, ад Stange = стрыжань + Reissmass = рэйсмус) — інструмент (*штанга* 1 з рухомай рамкай) для размечвання ліній, нанясення рысак, вымярэння вышыні ўступаў на розных вырабах.

# Ш

**ШТАНГЕНЦЫ́РКУЛЬ** (ням. Stangenzirkel, ад Stange = стрыжань + Zirkel = цыркуль) — інструмент для лінейных вымярэнняў (таўшчыні, шырыні адтулін) металічных дэталей.

**ШТАНДА́Р** [1] (польск. sztandar < ням. Standarte, ад ст.-фр. estendard) — сцяг адпаведнага колеру, часта з гербам, як знак дзяржавы, вайсковай часці, якой-н. арганізацыі.

**ШТАНДА́Р** [2] (ням. Ständer = стойка) — падваліна будынка.

**ШТАНДАРТЭНФЮ́РЭР** (ням. Standartenführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню палкоўніка.

**ШТАНДО́РТ** (ням. Standort = месцаразмяшчэнне) — самае зручнае, выгаднае ў эканамічных адносінах размяшчэнне прадпрыемства.

**ШТА́ПЕЛЬ** (ням. Stapel) — тканіна са штучнага валакна, блізкага па даўжыні да баваўняных або шарсцяных валокнаў.

**ШТАТ** [1] (ням. Staat = дзяржава) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з унутраным самакіраваннем у ЗША, Аўстраліі, Індыі, краінах Лац. Амерыкі.

**ШТАТ** [2] (лац. status = стан, становішча) — 1) пастаянны склад супрацоўнікаў якой-н. установы, арганізацыі; 2) дакумент, палажэнне аб складзе супрацоўнікаў і пасад ва ўстанове.

**ШТАТГА́ЛЬТЭР** (ням. Statthalter, ад statt = замест + Halter = кіраўнік) — 1) намеснік манарха ў Нідэрландах у 15—16 ст.; 2) галава выканаўчай улады ў Галандыі да канца 18 ст.; 3) правіцель вобласці ў Германіі да 1918 г.

**ШТАТЫ́Ў** (ням. Stativ, ад лац. stativus = нерухомы) — 1) падстаўка для лабараторных прыбораў (напр. ш. мікраскопа); 2) складная трынога для фотаапарата, кінакамеры, тэадаліта і іншых геадэзічных або астранамічных прыбораў.

**ШТОК** (ням. Stock) — 1) металічны цыліндрычны прут, які злучае поршань рухавіка з паўзуном, напр. у паравой машыне, поршневым насосе; 2) адна з форм залягання горных парод, часцей масіўна-крышталічных, гіпсу, каменнай солі, радзей рудных выкапняў.

**ШТО́КВЕРК** (ням. Stockwerk, ад Stock = сцябло + Werk = утварэнне) — тоўстая рудная жыла, ад якой адгаліноўваецца многа пражылак.

**ШТО́ЛЬНЯ** (ням. Stollen) — гарызантальны або нахілены праход у шахце, прызначаны для абслугоўвання падземных работ, які мае выхад на паверхню.

**ШТО́ПАР** (ням. Stopper) — 1) прылада ў выглядзе прутка з завостраным вінтападобным канцом для выцягвання коркаў з бутэлек; 2) імклівы рух самалёта ўніз па вінтавой лініі.

**ШТО́РА** (фр. store) — занавеска на акно.

**ШТОРМ** (гал. storm) — моцная бура на моры з сілай ветру каля 9 балаў.

**ШТОРМТРА́П** (ад *шторм* + *трап*) — спецыяльная вяровачная лесвіца з драўлянымі перакладзінамі, якая спускаецца за борт для

прыёму і высадкі людзей у час шторму.

**ШТОС** (ням. Stoss) — 1) старадаўняя азартная картачная гульня; 2) *сп.* адзін з прыёмаў у фехтаванні.

**ШТОФ** [1] (ням. Stof) — 1) старая руская мера аб'ёму вадкасці, роўная 1,23 л; 2) шкляная бутэлька такой ёмістасці.

**ШТОФ** [2] (ням. Stoff) — шчыльная аднакалярована дэкаратыўная тканіна з буйным тканым узорам, якая ідзе на абіўку мэблі, на парцьеры і інш.

**ШТРА́Ф** (ням. Strafe) — грашовае спагнанне як мера ўздзеяння на асоб, вінаватых у парушэнні пэўных правіл.

**ШТРУ́КСЫ** (польск. sztruksy, ад ням. Struck) — штаны асобага крою з *вельвету*.

**ШТРЫ́ПКА** (ням. Strippe) — кавалак тасьмы, які прышываецца знізу да калашыны штаноў і працягваецца пад ступню ці абутак.

**ШТРЫПС** (англ. strips) — стальная паласа, якая з'яўляецца загатоўкай для вырабу зварных труб.

**ШТРЫХ** (ням. Strich) — 1) тонкая рыса, лінія; 2) *перан.* характэрная ўласцівасць чаго-н.

**ШТРЭЙКБРЭ́ХЕР** (ням. Streikbrecher, ад Streik = забастоўка + brechen = ламаць) — асоба, якая ідзе на працу ў час забастоўкі і гэтым самым перашкаджае яе правядзенню.

**ШТРЭК** (ням. Strecke) — гарызантальная падземная горная выпрацоўка ўздоўж пласта карыснага выкапня.

**ШТУДЗІ́РАВАЦЬ** (ням. studieren, ад лац. studere = вучыцца, старанна займацца) — старанна вывучаць што-н.

**ШТУК** (ням. Stuck) — тое, што і *стука*.

**ШТУ́КА** (польск. sztuka, ад с.-в.-ням. stücke) — 1) асобная рэч, прадмет з шэрагу аднародных; 2) рулон тканіны (напр. ш. палатна); 3) *перан.* выхадка, выбрык, незвычайны ўчынак.

**ШТУКАВА́ЦЬ** (польск. sztukować, ад ням. stücken) — 1) закрываць, забіваць чым-н. адтуліну, дзірку; 2) *перан.* выдумляць, майстраваць, вынаходзіць што-н. (напр. ш. розныя цацкі).

**ШТУ́НДА** (ням. Stunde) — евангелічна-баптысцкая *секта*, якая ўзнікла ў Расіі ў сярэдзіне 19 ст.

**ШТУРВА́Л** (гал. stuurwal) — рулявое кола самалёта, судна, аўтамабіля і інш.

**ШТУРМ** (ням. Sturm) — 1) рашучая атака крэпасці, горада, апорнага пункта або ўмацаванай пазіцыі праціўніка; 2) *перан.* рашучыя дзеянні, накіраваныя на дасягненне чаго-н. (напр. ш. космасу, ш. навукі).

**ШТУРМАВА́ЦЬ** (ням. stürmen) — 1) праводзіць *штурм* 1; 2) *перан.* рашуча дзейнічаць з мэтай дабіцца жаданых вынікаў (напр. ш. горную вяршыню).

**ШТУ́РМАН** (гал. stuurman) — спецыяліст па ваджэнні караблёў, самалётаў.

**ШТУРМБАНФЮ́РЭР** (ням. Sturmbannführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *маёра*.

# Ш

**ШТУ́РММАН** (ням. Sturmmann) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню *яфрэйтара*.

**ШТУРТРО́С** (гал. stuurtros, ад stuur = стырно + tros = трос) — *трос* на судне, які ідзе ад *штурвала* да *румпеля* руля і служыць для павароту руля.

**ШТУФ** (ням. Stufe) — кавалак мінерала, руды, узяты для даследавання, калекцыі, узору.

**ШТУ́ЦЭР** (ням. Stutzen) — 1) даўняя ваенная стрэльба з вінтавымі нарэзамі ў ствале; 2) паляўнічая наразная стрэльба вялікага калібру; 3) невялікі патрубак з вонкавай разьбой для злучэння труб паміж сабой, для далучэння іх да рэзервуараў, апаратаў і інш.

**ШТЫБ** (ням. Staub = пыл) — дробны ці здробнены каменны вугаль з памерам часцінак менш за 6 мм; выкарыстоўваецца як паліва.

**ШТЫК** (польск. sztych, ад ням. Stich) — 1) колючая і рэжучая халодная зброя, якая насаджваецца на канец ствала вінтоўкі, карабіна, аўтамата; 2) узброены салдат (як адзінка падліку пяхоты); 3) пласт зямлі на глыбіню палатна рыдлёўкі.

**ШТЫЛЕ́Т** (польск. sztylet, ад іт. stiletto) — кінжал з тонкім і вострым лязом, звычайна трохгранным.

**ШТЫЛЬ** (гал. stil) — адсутнасць ветру на моры; м ё р т в ы ш. — поўная адсутнасць ветру.

**ШТЫР** (ням. stier = нерухомы) — цыліндрычны стрыжань з канічным канцом, а таксама радыёантэна ў выглядзе доўгага тонкага стрыжня.

**ШТЫ́РБАРТ** (гал. stuurboord, ад stuur = стырно + boord = борт) — *мар.* правы борт судна.

**ШТЫФТ** (ням. Stift) — тонкі стрыжань, пераважна з галоўкай на канцы, для нерухомага злучэння дзвюх дэталей машыны.

**ШТЫ́ХЕЛЬ** (ням. Stichel) — разец для гравіроўкі і абточвання дробных дэталей у дакладнай механіцы, гадзіннікавай справе.

**ШТЫ́ХМАС** (ням. Stichmass) — 1) інструмент для вымярэння ўнутраных памераў дэталей машын; 2) вымяральная стужка для абмеру капыла і ступні ў абутковай вытворчасці.

**ШТЭ́ВЕНЬ** (гал. steven) — частка корпуса судна, якой завяршаецца *каркас* судна на носе і карме.

**ШТЭ́ЙГЕР** (ням. Steiger) — *уст.* горны майстар у рудніках.

**ШТЭЙН** (ням. Stein = *літар.* камень) — прамежкавы або пабочны прадукт, які атрымліваецца пры плаўцы руд каляровых металаў.

**ШТЭЙНГУ́Т** (ням. Steingut) — тонкі *фаянс*.

**ШТЭ́КЕР** (ням. Stecker) — металічны кантактны стрыжань, які служыць аднаполюснай вілкай штэпсельнага (гл. *штэпсель*) злучэння.

**ШТЭ́МПЕЛЬ** (ням. Stempel) — пячатка з выпуклым адваротным надпісам або малюнкам, а таксама адбітак, зроблены такой пячаткай (напр. паштовы ш.).

**ШТЭ́ПСЕЛЬ** (ням. Stöpsel) — прыстасаванне ў выглядзе металічнай вілкі ў пластмасавым кор-

пусе для падключэння ў электрычную сетку электрычных прыбораў.

**ШТЭРТ** (гал. staart = хвост, кароткі канат) — *мар.* тонкі кароткі канец *троса*.

**ШУА́НЫ** (фр. chouans) — удзельнікі контррэвалюцыйных паўстанняў у Паўн.-Зах. Францыі ў час Французскай рэвалюцыі і да 1803 г.

**ШУ́ДРЫ** (санскр. šudry) — самая нізкая з чатырох *варн* у Старaж. Індыі, да якой належала беднае насельніцтва.

**ШУ́ЛА, ШУЛО́** (літ. šùlas) — замацаванае ў сцяне вертыкальна бервяно; слуп, да якога прымацоўваецца створка варот.

**ШУ́ЛЕР** (польск. szuler, ад чэш. šuliř = ашуканец) — 1) ігрок, які ў картачнай гульні выкарыстоўвае махлярскія, ашуканскія прыёмы; 2) *перан.* падманшчык, махляр, ашуканец.

**ШУНГІ́Т** (ад рус. Шунга = назва мясцовасці ля Анежскага возера) — мінерал чорнага або матавашэрага колеру, падобны на *антрацыт, графіт*.

**ШУНТ** (англ. shunt = адгалінаванне) — электрычны або магнітны ланцуг, які ўключаецца паралельна асноўнаму ланцугу вымяральнага прыбора для аслаблення току.

**ШУРФ** (ням. Schurf) — вертыкальная шахта невялікай глыбіні для разведкі карысных выкапняў, падрыўных работ і інш.

**ШУ́ТЭ** (ням. Schütte) — хвароба ігліцы хвойных дрэў, якая выклікаецца патагеннымі грыбамі.

**ШУ́ФЕЛЬ** (ням. Schaufel) — шырокая, глыбокая лапата для перасыпання сыпучых рэчываў.

**ШУФЛЯ́ДА** (польск. szuflada, ад ням. Schublade) — 1) скрынка стала, камоды, шафы; 2) аконная каробка, у якую ўстаўляюцца рамы.

**ШУЦБУ́НД** (ням. Schutzbund = *літар.* саюз абароны) — ваенізаваная арганізацыя сацыял-дэмакратычнай партыі Аўстрыі ў 1920—30-я гады, якая была разгромлена ўрадавымі войскамі ў 1934 г.

**ШУ́ЦМАН** (ням. Schutzmann) — паліцэйскі ў Германіі.

**ШХЕ́РЫ** (шв. skär = скала) — скалістыя астравы побач з моцна зрэзанымі марскімі берагамі; прыбярэжны марскі раён, у склад якога ўваходзяць такія астравы.

**ШХУ́НА** (англ. schooner) — парусное судна з косымі парусамі.

**ШЧЫГРЫ́Н** (ням. chagrin, ад тур. cagri = шкура з спіны жывёл) — 1) вырабленая мяккая шурпатая казліная, авечая або конская скура; 2) тканіна, папера, якая знешнім выглядам нагадвае такую скуру; выкарыстоўваецца для абіўкі, пераплётаў і інш.

**ШЧЫГУ́ЛЬНЫ** (польск. szczegulny) — 1) які шчыльна прылягае, у абцяжку (аб адзенні, абутку); 2) зграбны, ладны; 3) *перан.* асаблівы, нязвыклы, выключны.

**ШЫ́БА** (польск. szyba, ад с.-в.-ням. schībe) — кавалак шкла, устаўлены ў аконную раму.

**ШЫ́БЕР** (ням. Schieber = засланка) — засаўка, засланка ў дымаходах заводскіх печаў, кацельных установак, у газаправодах і г.д.

# Ш

**ШЫБЛЯ́К** (серб. šibljak = кустоўе) — кустовая расліннасць, утвораная лістападнымі відамі, якія здольны пераносіць працяглую летнюю засуху; сустракаецца ў перадгор'ях і нізкагор'ях Міжземнамор'я, Крыма і Каўказа.

**ШЫЗАГАНІ́Я** (ад гр. schizo = раздзяляю, расшчапляю + *-ганія*) — адна з форм бясполага размнажэння ў прасцейшых і некаторых водарасцях, пры якім адбываецца шматразовае дзяленне ядра.

**ШЫЗАФРЭ́НІК** (ад *шызафрэнія*) — хворы на шызафрэнію.

**ШЫЗАФРЭНІ́Я** (ад гр. schizo = раздзяляю, расшчапляю + phren = розум, думка) — псіхічнае захворванне, якое характарызуецца паступовым зніжэннем разумовай дзейнасці і парушэннем звязнасці псіхічных працэсаў.

**ШЫЗАЦУКРАМІЦЭ́ТЫ** (ад гр. schizo = раздзяляю, расшчапляю + *цукраміцэты*) — сумчатыя грыбы сям. цукраміцэтавых, якія пашыраны пераважна ў тропіках; развіваюцца ў соках пладовых раслін.

**ШЫЗО́НТ** (ад гр. schizo = раздзяляю, расшчапляю) — стадыя падрыхтоўкі да *шызаганіі* ў некаторых прасцейшых.

**ШЫЗО́ТРЫКС** (н.-лац. Schizothrix) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. шызотрыксавых, якая пашырана на глебе, скалах і ў вадаёмах.

**ШЫІ́ЗМ** (ад ар. ši'a = група прыхільнікаў) — напрамак у *ісламе*, які прымае *каран*, але не прызнае суну — мусульманскае свяшчэннае паданне, што дапаўняе палажэнні карана.

**ШЫІ́Т** (ад ар. ši'a = група прыхільнікаў) — паслядоўнік *шыізму*.

**ШЫК** (фр. chic) — паказная раскоша, франтаватасць, форс.

**ШЫКАВА́ЦЬ** (польск. szykować, ад с.-в.-ням. schicken) — 1) жыць з *шыкам*, фарсіць; 2) рыхтаваць, падрыхтоўваць.

**ШЫКА́РНЫ** (рус. шикарный, ад фр. chicard) — 1) раскошны, багаты, пышны (напр. ш-ае ўбранне); 2) вельмі прыгожы, цудоўны (напр. ш. букет).

**ШЫ́ЛІНГ** (англ. shilling) — 1) англійская манета, роўная 1/20 фунта *стэрлінгаў* (да пераходу на дзесяцічную грашовую сістэму ў 1971 г.); 2) грашовая адзінка Аўстрыі, роўная 100 грошам.

**ШЫ́ЛЬДА** (ням. Schild) — дошка з надпісам назвы ўстановы, прадпрыемства, арганізацыі і інш.

**ШЫ́МІ** (англ. shimmy = *літар.* кашуля) — 1) бальны танец амерыканскага паходжання, падобны на *фокстрот*; 2) самаваганне насавога кола трохколага шасі самалёта пры руленні, разбегу.

**ШЫМПАНЗЭ́** (фр. chimpanzé, ад кангалезскага cim-penze) — чалавекападобная малпа, якая жыве ў лясах трапічнай Афрыкі.

**ШЫ́НА** (польск. szyna, ад ням. Scheine) — 1) металічная паласа, набітая на полаз для лепшага слізгання і большай трываласці; 2) гумавая пакрышка з напоўненай паветрам камерай, якая надзяваецца на вобад кола; 3) прыстасаванне з дошчачак і бінтоў для накладвання павязкі пры пераломе.

**ШЫНГА́РДЫ** (англ. shin-guards) — 1) скураныя або брызента-

выя шчыткі, якія надзяваюць у спартыўных гульнях на нозі для засцярогі іх ад магчымых удараў; 2) спецыяльныя рукавіцы без пальцаў, якія замяняюць «баксёрскія бінты».

**ШЫНЕ́ЛЬ** (рус. шинель, ад фр. chenille) — форменнае паліто асобага пакрою, са складкай на спіне і хлясцікам.

**ШЫ́НКА** (польск. szynka, ад ням. Schinken) — свіны кумпяк, адпаведным чынам прыгатаваны для ўжывання.

**ШЫНО́К** (польск. szynk, ад ням. Schenke) — карчма, невялікі пітны дом, дзе прадавалі спіртныя напіткі.

**ШЫНШЫ́ЛА** (ісп. chinchilla) — паўднёваамерыканскі грызун, падобны на вавёрку, які мае каштоўнае футра.

**ШЫНЬЁН** (фр. chignon) — жаночая прычоска з сабраных на патыліцы валасоў, звычайна накладных.

**ШЫ́РМА** (ням. Schirm) — 1) перасоўная перагародка з драўляных створак або з абцягнутых тканінай ці паперай рам; 2) *перан.* усё, што служыць для прыкрыцця сапраўдных мэт, спраў.

**ШЫРСТРЭ́К** (англ. sheer-strake, ад sheer = крывізна борта + strake = пояс) — верхні пояс бартавой абшыўкі корпуса судна.

**ШЫФАНЬЕ́Р** (фр. chiffonnier) — шафа для бялізны і дробных рэчаў.

**ШЫ́ФЕР** (ням. Schiefer) — пліткі або лісты з шэрага глiністага сланцу для пакрыцця даху.

**ШЫФЕРВЕ́ЙС** (ням. Schieferweiß, ад Schiefer = сланец + Weiß = белая фарба) — устарэлая назва свінцовага бяліла.

**ШЫФО́Н** (фр. chiffon = ануча) — тонкая баваўняная або шаўковая тканіна для жаночага адзення.

**ШЫФР** (фр. chiffre, ад с.-лац. cifra < ар. sifr = нуль) — 1) сістэма ўмоўных знакаў (лічбаў, літар і інш.) для сакрэтнага пісьма; 2) *код*, які выкарыстоўваецца пры механізаванай апрацоўцы дадзеных на лічыльна-перфарацыйных і электронна-вылічальных машынах; 3) бібліятэчны рэгістрацыйны знак на кнігах.

**ШЫФРАГРА́МА** (ад шыфр + *-грама*) — шыфраваная *тэлеграма, радыёграма, тэлефанаграма*.

**ШЫФРА́ТАР** (ад *шыфр*) — устройства для кадзіравання сігналаў у тэлемеханіцы, сувязі, радыёлакацыі і інш.

**ШЫ́ХТА** (ням. Schicht) — сумесь руды, металу, вугалю і інш., якую загружаюць у металургічную печ для плаўкі.

**ШЭВАЛЬЕ́** (фр. chevalier = рыцар, кавалер) — дваранскі тытул у феадальнай Францыі.

**ШЭ́ВЕР** (англ. shaver) — металарэзны інструмент для *шэвінгавання* ў выглядзе зубчастага кола з рэзальнымі кантамі на зубцах.

**ШЭВІНГАВА́ННЕ** (англ. shaving, ад shave = стругаць) — чыставая апрацоўка незагартаваных стальных зубчастых колаў *шэверам*.

**ШЭ́ДУЛА** (англ. schedule = апісанне, ад лац. schedula = лісток паперы) — разрады, на якія падзяляюцца крыніцы даходу пры абкладанні іх падаходным падаткам у

некаторых краінах (Англіі, Італіі і інш.).

**ШЭДЭ́ЎР** (фр. chef-d'oeuvre) — узорны, выдатны твор літаратуры, мастацтва, майстэрства.

**ШЭЕЛІ́Т** [ад шв. K.Scheele = прозвішча шв. хіміка (1742—1786)] — мінерал класа вальфраматаў і малібдатаў у выглядзе белых або шэрых крышталёў; руда вальфраму.

**ШЭЗЛО́НГ** (фр. chaise longue) — лёгкае рассоўнае крэсла з пакатай спінкай і прадаўгаватым сядзеннем, у якім можна адпачываць паўлежачы.

**ШЭЙК** (англ. shake = трэсціся) — сучасны англійскі парны бытавы танец імправізацыйнага характару; распаўсюджаны ў многіх краінах.

**ШЭ́ЙПІНГ** (англ. shaping) — 1) наданне пэўнай формы, фасону; 2) трэніроўка на трэнажорах у аздараўленчых мэтах і для паляпшэння фігуры.

**ШЭЙХ** (ар. šejch = старац) — 1) галава роду, а таксама старэйшына абшчыны ў арабскіх краінах; 2) прадстаўнік вышэйшага духавенства ў мусульман, багаслоў і праведнік.

**ШЭЙХ-УЛЬ-ІСЛА́М** (ар. šejch-ul-islām) — тытул галавы мусульманскага дваранства.

**ШЭЙХЦЭ́РЫЯ** (н.-лац. scheuchzeria) — травяністая расліна сям. шэйхцэрыевых з аблісцелым сцяблом і кветкамі ў гронках, пашыраная ва ўмераных і халодных зонах; на Беларусі трапляецца на сфагнавых балотах.

**ШЭЛА́К** (гал. schellak) — смалістае рэчыва, якое здабываецца з маладых парасткаў некаторых трапічных раслін; выкарыстоўваецца ў вытворчасці лаку, пластмасы, сургучу і інш.

**ШЭ́ЛЕГ** (польск. szeląg, ад ням. Schilling) — даўняя манета вартасцю ў паўтроша.

**ШЭ́ЛЬМА** (польск. szelma, ад ням. Schelm) — махляр, круцель, хітрун.

**ШЭЛЬТЭРДЭ́К** (англ. shelter-deck, ад shelter = навес + deck = палуба) — навясная лёгкая палуба на судне, размешчаная вышэй верхняй палубы.

**ШЭЛЬФ** (англ. shelf) — прыбярэжная частка дна Сусветнага акіяна, мацерыковая водмель.

**ШЭ́НКЕЛЬ** (ням. Schenkel) — унутраная, звернутая да каня, частка нагі конніка ад калена да шчыкалаткі, якая дапамагае кіраваць канём.

**ШЭ́ПІНГ** (англ. shaping-machine) — папярочна-стругальны станок.

**ШЭ́РАГ** (польск. szereg, ад венг. sereg) — 1) сукупнасць аднародных прадметаў, размешчаных адзін за другім, у адну лінію; 2) сукупнасць чаго-н., што ідзе адно за другім у пэўным парадку; 3) пэўная, звычайна невялікая колькасць чаго-н.; 4) сукупнасць людзей, аб'яднаных якімі-н. адносінамі.

**ШЭРЛ** (ням. Schorl) — чорны жалезісты *турмалін*.

**ШЭРЫ́Ф** [1] (англ. sheriff) — службовая асоба ў Англіі, ЗША і Ірландыі, якая выконвае ў сваёй акрузе адміністрацыйныя і судовыя функцыі.

**ШЭРЫ́Ф** [2] (ар. šarīf) — асоба знатнага паходжання ў мусульманскіх краінах, што вядзе свой радавод ад заснавальніка *ісламу* Магамета.

**ШЭФ** (фр. chef) — 1) кіраўнік, начальнік у адносінах да падначаленых; 2) прадпрыемства, установа або арганізацыя, якая пастаянна дапамагае іншым калектывам.

**ШЭ́ФЕН** (ням. Schöffen) — прысяжны ў феадальным і буржуазным судзе, які вырашае справы сумесна з суддзёй.

# Э

**ЭА-** (гр. eos = ранішняя зорка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «ранні», «першапачатковы».

**ЭАА́НТРАП** (ад *эа-* + *-антрап*) — назва выкапнёвага чалавека, косці якога знойдзены ў Паўд. Англіі.

**ЭАЗІ́Н** (ад гр. eos = ранішняя зорка) — арганічны фарбавальнік, які атрымліваюць сінтэтычна; выкарыстоўваецца для вырабу чарніла, лакаў, афарбоўкі біялагічных прэпаратаў у розныя адценні чырвонага колеру.

**ЭАЗІНАФІЛІ́Я** (ад *эазін* + *-філія*) — павелічэнне колькасці *эазінафілаў* у крыві.

**ЭАЗІНАФІ́ЛЫ** (ад *эазін* + *-філ*) — адна з форм зярністых *лейкацытаў*, у *цытаплазме* якіх змяшчаюцца *гранулы* 2, што афарбоўваюцца кіслымі фарбавальнікамі, напр. *эазінам* (параўн. *базафілы, нейтрафілы*).

**ЭАЗО́АН** (ад *эа-* + гр. zoon = жывёліна) — неарганічныя мінеральныя ўтварэнні, адкрытыя ў канцы 19 ст. у Паўн. Амерыцы і памылкова прынятыя за рэшткі старажытнейшых жывёл *(фармамініфер)*.

**ЭАЗО́ЙСКІ** (ад *эа-* + гр. zoe = жыццё); э - а я  э р а — другая найстаражытнейшая *эра* ў геалагічнай гісторыі Зямлі.

**ЭАЗУ́ХІІ** (н.-лац. eosuchia) — атрад паўзуноў падкласа *лепідазаўраў*, якія вымерлі ў пачатку *трыясу*.

**ЭАКРАНА́РТЫЙ** (н.-лац. eocronartium) — *базідыяльны* грыб сям. аўрыкулярыевых, які паразітуе на імхах.

**ЭАЛАСО́МЫ** (н.-лац. aeolosomatidae) — сямейства кольчатых чарвей класа малашчацінкавых; пашыраны ў азёрах, рэках, сажалках, балотах.

**ЭАЛІ́Т** (ад *эа-* + *-літ*) — 1) устарэлая назва эпохі каменнага веку *(палеаліту)*; 2) камень з вострымі краямі, падобны на штучна апрацаваны камень.

**Э́АС** (гр. eos = ранішняя зорка, ад Eos = імя багіні ранішняй зоркі ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — ранішняя зорка (у паэзіі).

**ЭАЦЭ́Н** (ад *эа-* + *-цэн*) — сярэдняя эпоха *палеагену*.

# Э

**ЭАЦЭ́НАВЫ** (ад *эа-* + *-цэн*); з-ая эпоха — тое, што і *эацэн*.

**ЭБАНІ́Т** (англ. ebonite, ад гр. ebenos = чорнае дрэва) — цвёрдае чорнае рэчыва з вулканізаваных каўчукавых сумесей, якое ўжываецца як ізаляцыйны матэрыял і для іншых мэт.

**ЭБЕ́Н** (гр. ebenos) — чорнае дрэва сям. эбенавых, пашыранае ў тропіках, а таксама драўніна гэтага дрэва, якая выкарыстоўваецца для вырабу мэблі, музычных інструментаў.

**ЭБЕ́НАВЫ** (ад гр. ebenos = чорнае дрэва) — зроблены з *эбену* (напр. э-ая шкатулка).

**ЭБЕРТЫ́СТЫ** [ад фр. J.Hébert = прозвішча дзеяча Французскай рэвалюцыі (1757—1794)] — група левых *якабінцаў*, якія абаранялі інтарэсы гарадской беднаты.

**ЭБУЛІЁМЕТР** (ад лац. ebullio = выкіпаю + *-метр*) — тое, што і *эбуліяскоп*.

**ЭБУЛІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. ebullio = выкіпаю + *-метрыя*) — тое, што і *эбуліяскапія*.

**ЭБУЛІЯСКАПІ́Я** (ад лац. ebullio = выкіпаю + *-скапія*) — метад даследавання, заснаваны на вымярэнні павышэння тэмпературы кіпення раствору якога-н. рэчыва ў параўнанні з тэмпературай кіпення чыстага растваральніка.

**ЭБУЛІЯСКО́П** (ад лац. ebullio = выкіпаю + *-скоп*) — прыбор для вызначэння малекулярнай масы растворанага рэчыва метадам *эбуліяскапіі*.

**ЭВАКУА́ЦЫЯ** (п.-лац. evacuatio = апаражненне) — вываз насельніцтва, устаноў, прадпрыемстваў, маёмасці з мясцовасці, якую можа захапіць вораг або якой пагражае стыхійнае бедства, а таксама вываз раненых, хворых і матэрыяльных каштоўнасцей з месца баёў.

**ЭВАКУІ́РАВАЦЬ** (лац. evacuare = апаражняць) — праводзіць *эвакуацыю*.

**ЭВАЛЬВА́ЦЫЯ** (фр. evaluation, ад value = цана, вартасць) — ацэньванне, аблічэнне.

**ЭВАЛЬВЕ́НТА** (лац. evolvens, -ntis = які разгортвае) — *мат.* плоская крывая, апісаная вольным канцом ніткі, што замацавана ў пэўным пункце іншай крывой *(эвалюты)* і намотваецца на гэтую крывую.

**ЭВАЛЬВЕНТО́МЕТР** (ад *эвальвента* + *-метр*) — прыбор для вымярэння пагрэшнасцей эвальвентнага профілю зуба зубчатага кола ў сячэнні, перпендыкулярным яго восі.

**ЭВАЛЮ́ТА** (лац. evoluta = разгорнутая) — *мат.* плоская крывая, што з'яўляецца асновай для пабудовы па пэўных правілах іншай крывой — *эвальвенты*.

**ЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ** (ад *эвалюцыя*) — непарарыўны, паступовы; э-ая тэорыя — вучэнне аб гістарычным развіцці жывой прыроды.

**ЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. evolutio = разгортванне) — працэс развіцця чаго-н., змянення ад аднаго стану да другога; бесперапынная колькасная змена чаго-н., якая падрыхтоўвае якасную змену (напр. э. жывёльнага свету, э. мастацтва, э. светапогляду); параўн. *рэвалюцыя*.

**ЭВАЛЮЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *эвалюцыя*) — вучэнне, паводле якога ўсё існуючае знаходзіцца ў працэсе пастаяннага развіцця, у стане эвалюцыі.

**ЭВАЛЮЦЫЯНІ́СТ** (ад *эвалюцыянізм*) — прыхільнік эвалюцыянізму.

**ЭВАПАРА́ТАР** (ад лац. evaporare = выпарваць) — *тэх.* прыбор для выпарвання вадкасцей з розных рэчываў; выпарнік.

**ЭВАПАРА́ЦЫЯ** (лац. evaporatio) — выпарванне, выпарэнне.

**ЭВАПАРО́МЕТР** (ад лац. evaporare = выпарваць + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці вады, якая выпараецца з паверхні вадаёма і грунту.

**ЭВА́РХА** (н.-лац. evarcha) — павук сям. скакуноў, які жыве ў разнатраўі на ўзлесках, паблізу вадаёмаў.

**ЭВЕ́КЦЫЯ** (лац. evectio = адхіленне) — адно з перыядычных адхіленняў у руху Месяца пад уздзеяннем сілы прыцяжэння Сонца.

**ЭВЕНТУА́ЛЬНЫ** (с.-лац. eventualis, ад лац. eventus = выпадак) — магчымы пры пэўных умовах, акалічнасцях (напр. э-ае супрацоўніцтва).

**ЭВЕ́РНІЯ** (н.-лац. evernia) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. усніевых, які расце на кары дрэў, агаленай драўніне, глебе.

**ЭВІ́КЦЫЯ** (лац. evictio = вяртанне судовым шляхам сваёй уласнасці) — *юр.* пазбаўленне валодання, канфіскацыя рэчы на законнай падставе.

**ЭВО́РЗІЯ** (лац. evorsio = разбурэнне) — разбуральная дзейнасць вады ў час яе вертыкальнага падзення.

**ЭГАІ́ЗМ** (фр. égoïsme, ад лац. ego = я) — сябелюбства, клопат толькі аб сваіх інтарэсах.

**ЭГАІ́СТ** (фр. égoïste, ад лац. ego = я) — чалавек, якому ўласцівы *эгаізм*, сябелюб.

**ЭГАЛІТА́РНЫ** (фр. égalitaire, ад égalité = роўнасць) — заснаваны на ўраўняльным падзеле прыватнай уласнасці.

**ЭГАЛІТАРЫ́ЗМ** (фр. égalitarisme, ад égalite = роўнасць) — *утапічная* тэорыя, якая прапаведуе ўсеагульную ўраўняльнасць як прынцып арганізацыі грамадскага жыцця.

**ЭГАТЫ́ЗМ** (фр. égotisme = самаўлюбёнасць, ад лац. ego = я) — перабольшаная думка пра сваю асобу, пра свае вартасці і значэнне; самаўлюбёнасць.

**ЭГАФУТУРЫ́ЗМ** (ад лац. ego = я + *футурызм*) — адзін з кірункаў рускага футурызму, што выявіўся ў паэзіі пач. 20 ст.

**ЭГАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад лац. ego = я + *цэнтр*) — 1) суб'ектыўна-ідэалістычны філасофскі і маральны прынцып, паводле якога *індывідуум* лічыцца цэнтрам Сусвету; 2) крайняя форма праяўлення *эгаізму, індывідуалізму*.

**ЭГІ́ДА** (гр. aigis, -gidos) — шчыт Зеўса ў старажытнагрэчаскай міфалогіі як сімвал заступніцтва і гневу багоў; п а д  э г і д а й — пад чыім-н. заступніцтвам, абаронай.

**ЭГІЛО́ПС** (н.-лац. aegilops) — травяністая расліна сям. злакавых, якая з'яўляецца бліжэйшым родзі-

# Э

чам пшаніцы; расце пераважна ў стэпах і паўпустынях Еўразіі.

**ЭГІРЫ́Н** (ад ст.-сканд. Egir = імя бога мора ў скандынаўскай міфалогіі) — пародаўтваральны мінерал групы *піраксенаў* падкласа ланцужковых сілікатаў.

**ЭГРЭ́Т** (фр. aigrette = грэбень, султан) — пяро ці пучок пёраў, якія тырчаць уверх як упрыгожанне жаночых галаўных убораў.

**ЭГУТЭ́Р** (фр. égoutteur) — валік папераробнай машыны, якім выраўноўваюць паверхню папяровага палатна і часткова выціскаюць з яго ваду, а часам выдаўліваюць на паперы вадзяныя знакі.

**ЭДАГО́НІУМ** (н.-лац. oedogonium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. эдагоніевых, якая пашырана пераважна ў невялікіх прэсных вадаёмах.

**ЭДАФІ́ЧНЫ** (ад гр. edaphos = глеба); э-ыя фактары — глебавыя ўмовы, якія ўплываюць на жыццё і пашырэнне жывёл.

**ЭДАФО́Н** (ад гр. edaphos = грунт, зямля) — сукупнасць усіх жывых істот, што жывуць у грунце.

**ЭДО́МЕТР** (ад гр. edaphos = грунт, зямля + *-метр*) — прыбор для вымярэння шчыльнасці грунту.

**-ЭДР** (гр. edra = грань, старана) — канцавая частка назваў многагранnікаў.

**ЭДЫ́КТ** (лац. edictum) — 1) праграма дзейнасці старажытнарымскіх *магістратаў*, якая абʼяўлялася імі пры ўступленні на пасаду; 2) асобай важнасці ўказ, пастанова вярхоўнай улады ў розных дзяржавах.

**ЭДЫ́КУЛА** (лац. aedicula, ад aedes = пакой) — *архіт.* невялікі дэкаратыўны будынак або дэталь яго ў выглядзе дзвюх калон, якія падтрымліваюць *франтон*.

**ЭДЫ́Л** (лац. aedilis) — 1) службовая асоба ў Стараж. Рыме, якая ажыццяўляла нагляд за будаўніцтвам і ўтрыманнем храмаў, дарог, рынкаў і інш.; 2) *перан.* важная службовая асоба.

**ЭДЫФІКА́ТАРЫ** (лац. aedificator = будаўнік) — асноўныя расліны, якія вызначаюць будову і відавы склад расліннага згрупавання.

**ЭДЫ́ЦЫЯ** (лац. editio = выданне) — навуковае выданне помнікаў пісьменнасці, твораў класікаў літаратуры, фальклору і інш.

**ЭДЭЛЬВЕ́ЙС** (ням. Edelweiß, ад edel = высакародны + weiß = белы) — травяністая расліна сям. складанакветных з суквеццем, падобным на белую зорку, пашыраная ў гарах Еўразіі (акрамя Каўказа).

**ЭДЭ́М** (ст.-яўр. eden = рай) — 1) біблейскі рай; 2) *перан.* прыгожая мясцовасць, дзе можна бясклапотна і шчасліва жыць.

**ЭЖЭ́КТАР** (фр. éjecteur) — 1) прыстасаванне, дзеянне якога заснавана на выкарыстанні *эжэкцыі*; 2) механізм у агнястрэльнай зброі, які аўтаматычна выкідвае гільзу выстраленага патрона пры адкрыцці затвора.

**ЭЖЭ́КЦЫЯ** (фр. éjection) — працэс змешвання двух асяроддзяў (вады і пяску, пары і вады і інш.), пры якім адно асяроддзе, будучы пад ціскам, уздзейнічае на другое

і, цягнучы за сабой, выштурхоўвае яго ў неабходным напрамку.

**Э́ЗАМУС** (н.-лац. esomus) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў дэльце ракі Ганг; вядома як акварыумная.

**ЭЗАТЭРЫ́ЧНЫ** (гр. esoterikos = унутраны) — тайны, зразумелы толькі для азнаёмленых; э - ы я в е д ы — тайнае вучэнне, вядомае толькі вузкаму колу выбраных асоб.

**ЭЗАФАГАСКАПІ́Я** (ад гр. oisophagos = стрававод + *-скапія*) — агляд стрававода пры дапамозе *эзафагаскопа*.

**ЭЗАФАГАСКО́П** (ад гр. oisophagos = стрававод + *-скоп*) — трубка з аптычнымі і асвятляльнымі сістэмамі, якая выкарыстоўваецца ў медыцынскай практыцы для даследавання стрававода.

**ЭЗАФАГАТАМІ́Я** (ад гр. oisophagos = стрававод + *-тамія*) — хірургічная аперацыя рассячэння або пераразання сценкі стрававода для ўскрыцця яго прасвету або пранікнення праз яго ў навакольную прастору.

**ЭЗАФАГІ́Т** (ад гр. oisophagos = стрававод) — *мед.* запаленне слізістай абалонкі стрававода.

**ЭЗЕРЫ́Н** (англ. eserine, ад афр. eser) — тое, што і *фізастыгмін*.

**ЭЗО́ПАЎСКІ** (ад гр. Aisopos = імя старажытнагрэчаскага байкапісца 6 ст. да н.э.) — багаты *алегорыямі*, намёкамі з мэтай скрыць сэнс выказвання (напр. э-ая мова, э. стыль).

**Э́ЙДАС** (гр. eidos = выгляд) — тэрмін, які ў старажытнагрэчаскай філасофіі абазначаў «тое, што бачна», бачную сутнасць, субстанцыяльную ідэю, форму.

**ЭЙДАФО́Р** (ад гр. eidos = выгляд + *-фор*) — праектар для павелічэння тэлевізійнага адлюстравання на буйным насценным экране.

**ЭЙДЭТЫ́ЗМ** (ад гр. eidos = выгляд) — разнавіднасць вобразнай памяці, якая праяўляецца ў здольнасці захоўваць яркія вобразы прадметаў на працягу доўгага часу пасля спынення іх уздзеяння на органы пачуццяў.

**ЭЙДЭ́ТЫКА** (гр. eidetikos = які ведае) — ідэалістычнае вучэнне аб «ідэальных формах» з'яў свядомасці, якія разглядаюцца па-за сувяззю з аб'ектыўнай рэальнасцю.

**ЭЙЗЕНА́ХЦЫ** (ад ням. Eisenach = назва ням. горада) — члены сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Германіі, створанай у 1869 г. на з'ездзе ў г. Эйзенаху; у 1875 г. аб'ядналіся з ласальянцамі ў Нямецкую сацыялістычную рабочую партыю.

**ЭЙКАНА́Л** (ад гр. eikon = адлюстраванне) — *функцыя*, якая вызначае даўжыню аптычнага шляху паміж двума адвольна выбранымі пунктамі, адзін з якіх належыць прасторы прадметаў, другі — прасторы адлюстраванняў.

**ЭЙНШТЭ́ЙН** [ням. A. Einstein = прозвішча ням. фізіка (1879—1955)] — спецыяльная адзінка энергіі, якая прымяняецца ў *фотахіміі*.

**ЭЙНШТЭ́ЙНІЙ** [н.-лац. einsteinium, ад ням. A.Einstein = прозвішча ням. фізіка (1879—1955)] — штучна атрыманы *радыеактыўны* хімічны элемент, які належыць да *актыноідаў*.

# Э

**ЭЙФАРЫ́Я** (гр. euphoria, ад eu = добра + phoreo = пераношу) — стан прыўзнятага настрою, бестурботнасці, здаволення, які не адпавядае аб'ектыўным умовам.

**ЭЙХО́РНІЯ** (н.-лац. eichornia) — папараць з бліскучым лісцем у разетках і буйнымі фіялетава-блакітнымі кветкамі ў коласападобным суквецці, якая расце на паверхні азёр, балот, сажалак у тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі культывуецца ў акварыумах; водны гіяцынт.

**ЭКА-** (гр. oikos = жыллё, асяроддзе) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае адносіны да *экалогіі*.

**ЭКАБІЯМО́РФЫ** (ад *эка-* + гр. bios = жыццё + *-морфы*) — тое, што і *экаморфы*.

**ЭКАГЕНЕ́З** (ад *эка-* + *-генез*) — гістарычны працэс змянення асаблівасцей арганізмаў, звязаны са зменамі экалагічных умоў.

**ЭКАКЛІ́МАТ** (ад *эка-* + *клімат*) — клімат, уласцівы пэўнаму асяроддзю, залежны ад характару расліннасці, тыпу глебы, жывых арганізмаў, што насяляюць гэта асяроддзе.

**ЭКАЛО́ГІЯ** (ад *эка-* + *-логія*) — 1) раздзел *біялогіі*, які вывучае ўзаемадзеянне раслінных і жывёльных арганізмаў паміж сабой і навакольным асяроддзем; 2) стан навакольнага асяроддзя, які склаўся ў выніку безгаспадарчага выкарыстання прыродных рэсурсаў і зараз пагражае існаванню людзей; с а ц ы я л ь н а я э. — раздзел *сацыялогіі*, у якім разглядаюцца праблемы ўзаемаадносін чалавека і асяроддзя.

**ЭКАМО́РФЫ** (ад *эка-* + *-морфы*) — жыццёвыя формы раслін у іх адносінах да ўмоў знешняга асяроддзя.

**ЭКАНАМА́ЙЗЕР** (англ. economizer) — 1) прыстасаванне для награвання вады ў кацельных устаноўках, паветра ў цеплаабменных апаратах цеплынёй дымавых газаў ці адпрацаванай парай; 2) прыстасаванне ў *карбюратары* рухавіка ўнутранага згарання, якое служыць для абагачэння гаручай сумесі пры максімальнай нагрузцы.

**ЭКАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *эканоміка* + *-метрыя*) — вывучэнне эканамічных з'яў і працэсаў сродкамі матэматычнага і статыстычнага аналізу.

**ЭКАНАМІ́ЗМ** (ад *эканомія*) — плынь у рускім сацыял-дэмакратычным руху ў канцы 19 — пач. 20 ст., прыхільнікі якой абмяжоўвалі рабочы рух эканамічнай барацьбой, лічачы палітычную барацьбу справай ліберальнай буржуазіі.

**ЭКАНАМІ́ЧНЫ** (гр. oikonomikos = гаспадарчы) — 1) які датычыць *эканомікі* або палітычнай *эканоміі*; 2) атрыманы ў выніку рацыянальнага выкарыстання метадаў працы, новых матэрыялаў; 3) матэрыяльны, грашовы; 4) выгадны ў гаспадарчых адносінах.

**ЭКАНО́М** (гр. oikonomos) — загадчык гаспадаркі.

**ЭКАНО́МІКА** (гр. oikonomike, ад oikos = жыллё + nomos = закон) — 1) сукупнасць вытворчых адносін на пэўным этапе развіцця грамадства; 2) народная гаспадарка краіны, вобласці, раёна, якой-н. галіны

грамадскай дзейнасці (напр. э. Беларусі, э. гандлю); 3) навуковая дысцыпліна, якая вывучае тую ці іншую галіну гаспадаркі (напр. э. бульбаводства).

**ЭКАНО́МІЯ** (гр. oikonomia = загадванне гаспадаркай) — 1) ашчаднасць, беражлівасць пры расходаванні чаго-н.; 2) *уст.* памешчыцкая гаспадарка капіталістычнага тыпу; 3) выгада, якая атрымліваецца пры ашчадным расходаванні чаго-н.

**ЭКАСЕ́З** (фр. écossaise, ад écossais = шатландскі) — шатландскі народны танец тыпу *кадрылі*, які з канца 17 ст. атрымаў шырокае распаўсюджанне як бальны, а таксама музыка да гэтага танца.

**ЭКАСІСТЭ́МА** (ад *эка-* + *сістэма*) — адзіны прыродны *комплекс*, утвораны жывымі арганізмамі і ўмовамі іх існавання, што звязаны паміж сабой абменам рэчываў і энергіі (параўн. *біягеацэноз*).

**ЭКАСФЕ́РА** (ад *эка-* + *сфера*) — слой *атмасферы*, што з'яўляецца фізіялагічнай мяжой для палётаў у адкрытай кабіне лятальнага апарата.

**ЭКАТО́П** (ад *эка-* + гр. topos = месца, становішча) — сукупнасць прыродных фактараў (кліматычных, грунтавых), якая характарызуе пэўную аднародную частку зямлі.

**ЭКАТЫ́П** (ад *эка-* + *тып*) — група асобін якога-н. віду, якія прыстасаваны да існавання ў пэўным месцы засялення і адрозніваюцца ад іншых груп асобін таго ж віду спадчынна замацаванымі асаблівасцямі.

**ЭКАЦЫ́Д** (ад *эка-* + *-цыд*) — знішчэнне жыллёвага асяроддзя народа прымяненнем *дэфаліянтаў*, *гербіцыдаў*, разбурэннем дамб і іншых збудаванняў.

**ЭКВАЛА́ЙЗЕР** (англ. equalizer) — *тэх.* радыёэлектроннае ўстройства ў высакакласных стэрэафанічных комплексах, рэгулятар частотных характарыстык гуку, тэмбру.

**ЭКВА́ТАР** (лац. aequator = які выраўноўвае) — уяўная лінія, якая дзеліць зямны шар на два паўшар'і — паўночнае і паўднёвае, а таксама прылеглая да гэтай лініі мясцовасць; м а г н і т н ы  э. — лінія, якая злучае ўсе пункты Зямлі, дзе нахіленне роўна нулю; н я б е с н ы  э. — вялікі круг нябеснай сферы, які падзяляе яе на два паўшар'і.

**ЭКВАТАРЫЯ́Л** (фр. equatorial, ад лац. aequator = які выраўноўвае) — лінзавы або люстэркавы *тэлескоп*, які мае дзве восі вярчэння, што дазваляе вызначаць знаходжанне любога свяціла на нябеснай сферы адносна нябеснага *экватара*.

**ЭКВАТАРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *экватар*) — які мае адносіны да экватара, размешчаны на экватары ці каля яго, уласцівы раёнам, размешчаным каля экватара.

**ЭКВІВАЛЕ́НТ** (лац aequivalens, -ntis = раўназначны, раўнацэнны) — 1) што-н. раўназначнае чаму-н., здольнае поўнасцю замяніць яго; 2) тавар, які выражае вартасць іншых тавараў, на якія ён абменьваецца.

# Э

**ЭКВІВАЛЕ́НТНАСЦЬ** (ад *эквівалентны*) — уласцівасць эквівалентнага.

**ЭКВІВАЛЕ́НТНЫ** (ад *эквівалент*) — раўназначны, раўнацэнны (напр. э. абмен).

**ЭКВІЛІБРЫ́СТ** (ад лац. aequilibris = які знаходзіцца ў раўнавазе) — 1) цыркавы артыст, гімнаст, які займаецца *эквілібрыстыкай*; 2) *перан.* чалавек, які праяўляе незвычайную спрытнасць, выкрутлівасць у паводзінах, спрэчках.

**ЭКВІЛІБРЫ́СТЫКА** (ад лац. aequlibritas = раўнавага) — 1) жанр цыркавога мастацтва, заснаваны на ўменні выканаўцы рабіць складаныя акрабатычныя практыкаванні, захоўваць раўнавагу ў разнастайных становішчах; 2) *перан.* уменне лёгка прыстасоўвацца, лавіраваць у розных абставінах.

**ЭКВІЛІНЕА́РНЫ** (ад лац. aequus = роўны + linearis = лінейны) — адпаведны па колькасці радкоў з арыгіналам (аб вершаваным перакладзе).

**ЭКВІПАЛЕ́НТНЫ** (лац. aequipollens, -ntis) — раўнасільны, раўназначны.

**ЭКВІПАТЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. aequus = роўны + *патэнцыяльны*) — аднолькавы з чым-н. у адносінах велічыні *патэнцыяла*; э - а я п а в е р х н я — паверхня, ва ўсіх пунктах якой аднолькавы патэнцыял.

**ЭКВІРЫТМІ́Я** (ад лац. aequus = роўны + *рытм*) — дакладная перадача перакладчыкам рытмічных асаблівасцей кожнага асобнага верша арыгінала.

**ЭКДЫЗО́НЫ** (ад гр. ekdysis = лінька) — стэроідныя *гармоны*, якія стымулююць ліньку і *метамарфозу* ў насякомых.

**Э́КЕР** (фр. équeree = вугламер) — геадэзічны інструмент для пабудовы на мясцовасці вуглоў пэўнай велічыні.

**ЭКЗА-** (гр. ekso = па-за, звонку) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «знешні», «вонкавы».

**ЭКЗАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *экза-* + *біялогія*) — тое, што і *астрабіялогія*.

**ЭКЗАГА́МІЯ** (ад *экза-* + *-гамія*) — 1) характэрны для першабытнаабшчыннага ладу звычай, які забараняў шлюбы паміж мужчынамі і жанчынамі аднаго роду, *фратрыі* (параўн. *эндагамія* 1); 2) зліццё *(кан'югацыя)* палавых клетак рознага паходжання, *аўтбрыдзінг* (параўн. *эндагамія* 2).

**ЭКЗАГЕ́ННЫ** (ад *экза-* + *-генны*) — абумоўлены знешнімі прычынамі (проціл. *эндагенны*); э - ы я п р а ц э с ы — геалагічныя працэсы, якія адбываюцца на паверхні Зямлі (выветрыванне, эрозія, дзейнасць ляднікоў і інш.).

**ЭКЗАГЕНО́ТА** (ад *экза-* + *ген*) — сукупнасць генаў, якія перададзены клеткай-донарам клетцы-рэцэпіенту ў бактэрый (параўн. *эндагенота*).

**ЭКЗАДЭ́РМА** (ад *экза-* + *дэрма*) — слой клетак пад *эпіблемай* раслін.

**ЭКЗАКА́РПІЙ** (ад *экза-* + гр. karpos = плод) — знешні слой каляплодніка раслін (напр. скурка ягады вінаграду); параўн. *эндакарпій*.

**ЭКЗАКРЫ́ННЫ** (ад *экза-* + гр. krino = аддзяляю) — знешнесакраторны; э - ы я залозы — залозы, якія выдзяляюць прадукты сваёй дзейнасці на паверхню цела або ў яго пустоты (слінныя, потавыя, сальныя, малочныя і іншыя залозы); параўн. *эндакрынны*.

**ЭКЗАЛЬТАВА́НЫ** (лац. exaltare) — які знаходзіцца ў стане *экзальтацыі*, прасякнуты ёю.

**ЭКЗАЛЬТА́ЦЫЯ** (лац. exaltatio) — 1) крайне ўзбуджаны стан, хваравітая ўзбуджанасць; 2) *фізіял.* узрастанне амплітуды біяэлектрычных патэнцыялаў пад уплывам якіх-н. уздзеянняў.

**ЭКЗА́МЕН** (лац. examen = выпрабаванне) — 1) праверка ведаў па якім-н. вучэбным прадмеце; 2) *перан.* якое-н. выпрабаванне, праверка (напр. баявы э., жыццёвы э.).

**ЭКЗАМЕНАВА́ЦЬ** (лац. examinare) — правяраць веды па якім-н. вучэбным прадмеце на *экзамене*.

**ЭКЗАМЕНА́ТАР** (лац. examinator = які пытае) — той, хто прымае *экзамен*, ацэньвае чые-н. веды.

**ЭКЗАНТЭ́МА** (гр. eksanthema, ад eks = звонку + anthema = цвіценне) — скурны высып пры ўздзеянні на скуру фізічных, хімічных, біялагічных фактараў, пры функцыянальным расстройстве нервовай сістэмы, пры інфекцыйных захворваннях і інш. (параўн. *энантэма*).

**ЭКЗАПАДЫ́Т** (ад *экза-* + гр. pus, podos = нага) — знешняя галінка, якая адыходзіць ад *базіпадыта*.

**ЭКЗАРА́ЦЫЯ** (лац. exaratio = выворванне) — разбурэнне горных парод глетчарным ледніком, які спаўзае.

**ЭКЗАРТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. ex = з, ад + articulus = сустаў) — аперацыя з мэтай вычлянення канечнасці або яе часткі па лініі сустаўнай шчыліны, без хірургічнага ўмяшання (параўн. *ампутацыя*).

**ЭКЗА́РХ** (гр. eksarchos = кіраўнік, галава) — 1) галава жрацоў пры храме ў Стараж. Грэцыі; 2) намеснік імператара ў якой-н. вобласці Візантыйскай імперыі; 3) галава царкоўнай акругі ў праваслаўнай царкве.

**ЭКЗАРХА́Т** (ад гр. eksarchos = начальнік, галава) — 1) ваенна-адміністрацыйная адзінка ў Візантыйскай імперыі, якая знаходзілася пад уладай *экзарха*; 2) царкоўная акруга ў праваслаўнай царкве, якая знаходзіцца пад уладай экзарха.

**ЭКЗАСТО́З** (ад *экза-* + гр. osteon = косць) — адзіночныя або шматлікія касцёва-храстковыя разрастанні на паверхні косці.

**ЭКЗАСФЕ́РА** (ад *экза-* + *сфера*) — знешняя абалонка зямной *атмасферы*, якая пачынаецца з вышыні ў некалькі соцень кіламетраў.

**ЭКЗАТАКСІ́НЫ** (ад *экза-* + *таксіны*) — таксіны, якія выдзяляюцца мікробамі ў асяроддзе, што іх акружае (напр. таксіны дыфтэрыйнай палачкі); параўн. *эндатаксіны*.

**ЭКЗАТРО́ФНЫ** (ад *экза-* + *-трофны*) — які датычыць паразітычных арганізмаў, што жывуць на паверхні арганізма-жывіцеля.

# Э

**ЭКЗАТЫ́ЧНЫ** (гр. eksotikos) — 1) далёкі, чужаземны, не звычайны для гэтай мясцовасці (напр. э-ыя расліны); 2) *перан.* дзівосны, вычварны, які здзіўляе сваёй незвычайнасцю.

**ЭКЗАТЭРМІ́ЧНЫ** (ад *экза-* + *тэрмічны*) — звязаны з вылучэннем, аддачай цяпла (напр. э-ая рэакцыя).

**ЭКЗАТЭРЫ́ЧНЫ** (гр. eksoterikos = знешні) — агульнадаступны, прызначаны для неазнаёмленых.

**ЭКЗАФТА́ЛЬМ** (ад *экза-* + гр. ophthalmos = вока) — выпінанне вочнага яблыка з арбіты пры базедавай хваробе і пры змене яго формы, утварэнні пухліны ззаду вока і інш.

**ЭКЗАХО́РДА** (н.-лац. exochorda) — лістападная кустовая расліна сям. ружавых з простым лісцем і белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Цэнтр. Азіі і Карэі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭКЗЕГЕ́ЗА** (гр. eksegesis = тлумачэнне) — 1) філалагічнае тлумачэнне літаратурных тэкстаў, пераважна *антычных*; 2) тлумачэнне біблейскіх тэкстаў.

**ЭКЗЕГЕ́ТЫ** (гр. eksegetes = кіраўнік, тлумачальнік) — 1) тлумачальнікі *аракулаў*, часам законаў і звычаяў у Стараж. Грэцыі; 2) філолагі, якія займаліся *экзегезай*; пазней — багасловы-схаласты, якія тлумачылі біблейскія тэксты.

**ЭКЗЕГЕ́ТЫКА** (гр. eksegetikos = які тлумачыць) — 1) правілы і прыёмы *экзегезы* 1 (параўн. *герменеўтыка*); 2) раздзел багаслоўя, у якім тлумачацца біблейскія тэксты.

**ЭКЗЕКВАТУ́РА** (ад лац. exsequare = выконваць) — 1) дазвол, выдадзены замежнаму консулу ўрадам дзяржавы, у якую ён прызначаны, на выкананне службовых функцый; 2) пастанова судовых органаў дадзенай краіны аб выкананні рашэння замежнага суда.

**ЭКЗЕКУ́ТАР** (лац. exsecutor = выканаўца) — 1) чыноўнік, які загадваў гаспадарчымі справамі і наглядаў за знешнім парадкам у якой-н. дзяржаўнай установе царскай Расіі; 2) той, хто ўчыняе *экзекуцыю* 1.

**ЭКЗЕКУ́ЦЫЯ** (лац. exsecutio = выкананне) — 1) цялеснае пакаранне; 2) выкананне прыгавора (аб пакаранні смерцю або цялесным пакаранні); 3) прымяненне карных мер адной дзяржавы ў адносінах да другой.

**ЭКЗЕРЦЫРГА́ЎЗ** (ням. exerzierhaus) — *уст.* будынак у якім адбывалася страявое навучанне салдат.

**ЭКЗЕРЦЫ́ЦЫІ** (лац. exercitium = практыкаванне) — *уст.* практыкаванні для развіцця і ўдасканалення якой-н. тэхнікі (напр. ваенныя э.).

**ЭКЗІ́НА** (англ. exine, ад гр. ekso = па-за, звонку) — знешняя абалонка ў пылковых зерняў кветкавых і споравых раслін.

**ЭКЗІСТЭ́НЦЫЯ** (п.-лац. exsistentia = існаванне) — асноўная катэгорыя *экзістэнцыялізму*, якая абазначае ўнутранае быццё чалавека, тое непазнавальнае, *ірацыянальнае*, у выніку чаго чалавек з'яўляецца канкрэтнай непаўторнай асобай.

**ЭКЗІ́НА** (англ. exine, ад гр. ekso = па-за, звонку) — знешняя абалонка ў пылковых зерняў кветкавых і споравых раслін.

**ЭКЗІСТЭ́НЦЫЯ** (п.-лац. exsistentia = існаванне) — асноўная катэгорыя *экзістэнцыялізму*, якая абазначае ўнутранае быццё чалавека, тое непазнавальнае, *ірацыянальнае*, у выніку чаго чалавек з'яўляецца канкрэтнай непаўторнай асобай.

**ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІ́ЗМ** (ад п.-лац. existentia = існаванне) — суб'ектыўна-ідэалістычная плынь у сучаснай філасофіі, якая прызнае рэальным толькі існаванне чалавека і яго перажыванні, прапаведуе крайні *індывідуалізм*.

**ЭКЗО́СМАС** (ад *экза-* + *осмас*) — *біял.* прасочванне (*дыфузія*) вадкасцей і некаторых раствораных рэчываў з клеткі ў знешняе асяроддзе (проціл. *эндосмас*).

**ЭКЗО́ТЫ** (ад гр. eksotikos = далёкі, чужаземны) — расліны або жывёлы, завезеныя з іншых краін у раёны, дзе іх раней не было.

**ЭКЗО́ТЫКА** (гр. eksotikos = далёкі, чужаземны) — 1) сукупнасць характэрных прадметаў, з'яў, рыс, уласцівых далёкім краінам, раёнам (напр. незвычайная прырода, звычаі, мастацтва паўднёвых краін з пункту гледжання жыхароў поўначы); 2) *перан.* нешта вычварнае, незвычайнае.

**ЭКЗУ́ВІЙ** (ад лац. exuere = знімаць) — покрыва, якое скідаецца насякомымі пры ліньцы.

**ЭКЗЭ́МА** (гр. ekzema) — захворванне скуры, якое суправаджаецца свербам і з'яўленнем высыпкі, гнойных пухіроў, струпоў.

**ЭКЗЭМПЛІФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. exemplificatio, ад лац. exemplum = узор + facere = рабіць) — тлумачэнне чаго-н. метадам прыкладаў; пацвярджэнне дакументамі.

**ЭКЗЭМПЛЯ́Р** (лац. exemplar = узор) — 1) асобны прадмет з шэрагу аднародных прадметаў, асобная адзінка чаго-н. (напр. э. кнігі); 2) асобны прадстаўнік якой-н. пароды, віду, разнавіднасці (пра жывёл і раслін); 3) *перан.* асоба, якая вызначаецца незвычайнымі або адмоўнымі ўласцівасцямі.

**ЭКЗЭРСІ́С** (фр. exercice, ад лац. exercitium = практыкаванне) — музычны твор, прызначаны для трэніровак тэхнікі выканання.

**ЭКІВО́К** (фр. equivoque, ад лац. aequivocus = двухзначны) — двухсэнсоўнасць, двухсэнсоўны намёк, выкрунтас.

**ЭКІПА́Ж** (фр. équipage) — 1) агульная назва лёгкіх рысорных пасажырскіх павозак; 2) каманда, асабовы састаў карабля, самалёта, танка; 3) берагавая воінская часць марской пяхоты, якая часта служыць для папаўнення флоцкіх каманд.

**ЭКІПІ́РАВАЦЬ** (фр. équiper) — 1) забяспечваць каго-н., што-н. усім неабходным; 2) падрыхтоўваць рухомы чыгуначны састаў да новага *рэйсу*.

**ЭКІПІРО́ЎКА** (ад фр. équiper = забяспечваць) — 1) працэс забяспечвання каго-н., чаго-н. усім неабходным; 2) усё неабходнае для таго, каб *экіпіраваць* каго-н., што-н.; амуніцыя.

**ЭКЛАГІ́Т** (ад гр. ekloge = выбар) — крышталічная горная парода, якая складаецца пераважна з *піраксену* і *граніту*.

# Э

**ЭКЛАМПСІ́Я** (гр. eklampsis = успышка) — 1) захворванне, якое ўскладняе працяканне цяжарнасці, роды і суправаджаецца сутаргавымі прыступамі, непрытомнасцю і інш.; 2) *уст.* тое, што і *спазмафілія*.

**ЭКЛЕКТЫ́ЗМ** (ад гр. eklektikos = які выбірае) — механічнае аб'яднанне розных, часта нават супрацьлеглых прынцыпаў, поглядаў, мастацкіх элементаў і г.д.

**ЭКЛЕ́КТЫК** (гр. eklektikos = які выбірае) — асоба, якой уласцівы *эклектызм*.

**ЭКЛЕ́КТЫКА** (гр. eklektikos = які выбірае) — 1) тое, што і *эклектызм*; 2) *перан.* адсутнасць арыгінальнасці і самастойнасці.

**ЭКЛЕКТЫ́ЧНЫ** (ад *эклектыка*) — які мае адносіны да *эклектызму*, прасякнуты эклектызмам.

**ЭКЛЕ́Р** (фр. eclair) — піражнае з заварнога цеста з крэмам унутры.

**ЭКЛЕСІ́Я** (гр. ekklesia) — народныя зборы ў дэмакратычных дзяржавах Стараж. Грэцыі.

**ЭКЛЕСІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. ekklesia = царква + *-логія*) — раздзел багаслоўя, у якім змяшчаецца набор аргументаў аб святасці, сабornасці, непагрэшнасці і апостальскай вернасці царквы і яе рашаючай ролі ў выратаванні вернікаў.

**ЭКЛІ́МЕТР** (ад гр. ekklima = адхіленне + *-метр*) — геадэзічны інструмент для вымярэння вуглоў нахілу на мясцовасці.

**ЭКЛІ́ПТЫКА** (гр. ekleiptike = зацьменне) — 1) *астр.* вялікі круг нябеснай *сферы*, па якім адбываецца бачны гадавы рух Сонца; 2) плоскасць, у якой рухаецца Зямля вакол Сонца.

**ЭКЛО́ГА** (лац. ecloga, ад гр. ekloge = выбар) — 1) адзін з відаў антычнай, а пасля і еўрапейскай паэзіі аб жыцці пастухоў, блізкі да *ідыліі* і *пастаралі*; 2) зборнік законаў Візантыі, выдадзены ў 8 ст.

**ЭКО́ЛАГ** (ад *экалогія*) — спецыяліст па экалогіі.

**ЭКРА́Н** (фр. écran) — 1) заслона, якая засцерагае ад уздзеяння шкодных прамянёў, магнітнага поля, гарачыні, святла і інш. (напр. радыяцыйны э.); 2) паверхня для ўзнаўлення светлавых адбіткаў (э. тэлевізара); 3) *уст.* нацягнутая на раму белая тканіна для дэманстрацыі фільмаў, дыяпазітываў і інш.; 4) *перан.* кінамастацтва.

**ЭКРАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *экран*) — увасабленне на экране якога-н. твора тэатральнага мастацтва ці мастацкай літаратуры, не прызначанага спецыяльна для кіно.

**ЭКС-** (лац. ex = з, ад) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае рух знутры наверх або адпавядае паняццю «былы».

**ЭКСАЛЬТА́ДАС** (ісп. exaltados) — партыя левых *лібералаў* у перыяд Іспанскай рэвалюцыі 1820—1823 гг.

**ЭКСГА́ЎСТАР** (англ. exhauster, ад лац. exhaurire = выцягваць) — *вентылятар* для адсмоктвання пылу, газаў, стружак на прадпрыемстве, для ўтварэння вакууму ў чым-н.

**ЭКСГІБІЦЫЯНІ́ЗМ** (ад лац. exhibitio = выстаўленне) — 1) палавая ненармальнасць, якая праяўляецца ў публічным выстаўленні палавых органаў з мэтай палавога задавальнення; 2) празмерная схільнасць да самарэкламы, самалюбавання.

**ЭКСГУМА́ЦЫЯ** (ад *экс-* + лац. humus = зямля) — даставанне трупа з месца пахавання для судоова-медыцынскага даследавання.

**ЭКСЕ́ДРА** (гр. eksedra) — паўкруглая *ніша* з сядзеннямі ўздоўж сцен для сходаў і размоў у антычнай архітэктуры.

**ЭКСІ́ДЫЯ** (н.-лац. exidia) — *базідыяльны* грыб сям. дрыжалкавых, які развіваецца на гнілой драўніне, сухіх галінках дрэў.

**ЭКСІКА́ТАР** (н.-лац. exsiccator, ад лац. exsiccare = высушваць) — прыбор для абязводжвання розных прэпаратаў.

**ЭКСІКА́ЦЫЯ** (н.-лац. exsiccatio, ад лац. exsiccare = высушваць) — высушванне.

**ЭКСІТО́Н** [ад лац. excitare = узбуджаць + *(электр)он*] — узбуджаны стан сістэмы электронаў у паўправадніках і *дыэлектрыках*, звязаны з утварэннем пары электрон — дзірка.

**ЭКСІТРО́Н** (ад лац. excitare = узбуджаць + *-трон*) — кіроўны ртутны *вентыль* з аднаразовым запальваннем катоднай плямы, якое падтрымліваецца дзяжурнымі анодамі.

**ЭКСКАВА́ТАР** (англ. excavator, ад лац. excavare = выдзёўбваць) — самаходная машына з каўшом для вымання, пераносу на іншае месца або пагрузкі на транспарт грунту.

**ЭКСКАВА́ЦЫЯ** (лац. excavatio = выдзёўбванне) — 1) выманне і перамяшчэнне пароды, грунту пры дапамозе *экскаватара*, экскаватарных машын; 2) *анат.* паглыбленне.

**ЭКСКАРЫЯ́ЦЫЯ** (ад лац. excoriare = здзіраць скуру) — паверхневы *дэфект* скуры, які ўтвараецца ў выніку расчэсвання, пры механічных пашкоджаннях і інш.

**ЭКСКЛЮЗІ́ЎНЫ** (англ. exclusive = выключны) — выключны, прадастаўлены толькі для пэўнай арганізацыі або асобы, напр. права на вытворчасць чаго-н. або на распаўсюджанне інфармацыйных матэрыялаў.

**ЭКСКРЭМЕ́НТЫ** (лац. excrementum = выдзяленне) — прадукты выпаражнення чалавека і жывёл; кал, мача.

**ЭКСКРЭ́ТЫ** (лац. excretum = выдзеленае) — канечныя прадукты абмену рэчываў, выдзеленыя арганізмам (мача, кал, пот і інш.).

**ЭКСКРЭ́ЦЫЯ** (п.-лац. excretio) — дзейнасць залоз і іншых органаў, накіраваныя на вывядзенне з арганізма розных непатрэбных або шкодных рэчываў; выдзяленне.

**Э́КСКУРС** (лац. excursus) — адступленне ад галоўнай тэмы выкладання для асвятлення пабочнага або дадатковага пытання (напр. э. у мінулае).

**ЭКСКУ́РСІЯ** (лац. excursio = паездка) — калектыўнае наведванне музея, выстаўкі, гістарычнага помніка, выдатных мясцін з вучэбнай або культурна-асветніцкай мэтай, а таксама група ўдзельнікаў такога наведвання.

**ЭКСЛІ́БРЫС** (лац. ex libris = з кніг) — па-мастацку афармлены кніжны знак, наклеены або адціснуты на адвароце вокладкі, які ўказвае на прыналежнасць кнігі пэўнаму ўладальніку.

**ЭКС-МІНІ́СТР** (ад *экс-* + *міністр*) — былы міністр.

**ЭКСО́Д** (гр. eksodos = выхад) — заключная частка *трагедыі* ў ан-

тычным тэатры, урачысты адыход акцёраў са сцэны.

**ЭКСПАЗЕ́** (фр. exposé) — 1) кароткі змест якога-н. дакумента, твора; вытрымка з іх; 2) кароткае паведамленне прадстаўніка ўрада па пытанню бягучай палітыкі ў парламенце.

**ЭКСПАЗІ́МЕТР** [ад *экспазі(цыя)* + *-метр*] — тое, што і *экспанометр*.

**ЭКСПАЗІТУ́РА** (ням. Expositur, ад лац. expositurus = які збіраецца выставіць) — тое, што і *агентура*.

**ЭКСПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. expositio = выкладанне, паказ) — 1) размяшчэнне выставачнага матэрыялу, *экспанатаў* для агляду (музейная э.); 2) уступная частка літаратурнага твора, у якой апісваюцца абставіны, што папярэднічаюць пачатку дзеі, развіццю сюжэта; 3) першы раздзел музычнага твора (санаты, фугі), дзе выкладаецца яго асноўная тэма; 4) колькасць асвятлення, якую атрымлівае святлоадчувальны матэрыял у час фатаграфавання або кіназдымкі; 5) час, на працягу якога аб'ектыў фотаапарата застаецца адкрытым у час фатаграфавання (напр. кароткая э.).

**ЭКСПАНАВА́ЦЬ** (лац. exponere = выстаўляць напаказ) — 1) паказваць які-н. прадмет на выстаўцы, у музеі; 2) дзейнічаць святлом на фотаплёнку, кінаплёнку; 3) ставіць шахматную фігуру пад удар у час гульні.

**ЭКСПАНА́Т** (лац. exponatus = выстаўлены напаказ) — прадмет, выстаўлены для агляду ў музеі ці на выстаўцы.

**ЭКСПА́НДЭР** (англ. expander, ад лац. expandere = расшыраць) — 1) радыётэхнічнае ўстройства, якое «пашырае» *дыяпазон* паміж моцнымі і слабымі гукавымі сігналамі; 2) пнеўматычны рухавік, які дзейнічае пад уплывам сціснутага газу; 3) інструмент для расшырэння канцельных труб.

**ЭКСПАНЕ́НТ** (лац. exponens, -ntis = які выстаўляе напаказ) — 1) асоба або арганізацыя, якая выстаўляе на выстаўцы свае экспанаты; 2) *мат.* паказчык ступені.

**ЭКСПАНЕ́НТА** (лац. exponens, -ntis = які выстаўляе напаказ) — *мат.* паказальная функцыя, г.зн. функцыя выгляду $y = a^x$, дзе x — незалежны пераменны.

**ЭКСПАНО́МЕТР** (ад лац. exponere = выстаўляць, паказваць + *-метр*) — прылада для вызначэння *экспазіцыі* пры фота- і кіназдымцы.

**ЭКСПАНСІ́ЎНЫ** (фр. expansif, ад лац. expansio = расшырэнне, распаўсюджанне) — нястрыманы, які бурна выражае свае пачуцці.

**ЭКСПА́НСІЯ** (лац. expansio = расшырэнне, распаўсюджанне) — 1) распаўсюджанне чаго-н. за першапачатковыя межы; 2) імкненне імперыялістычных дзяржаў да захопу калоній, рынкаў збыту і інш.; 3) пашырэнне сферы ўплыву.

**ЭКСПАНСІЯНІ́ЗМ** (фр. expansionnisme, ад лац. expansio = расшырэнне, распаўсюджанне) — імкненне да *экспансіі*, правядзенне палітыкі экспансіі.

**Э́КСПАРТ** (англ. export, ад лац. exportare = вывозіць) — 1) вываз тавараў за мяжу для рэалізацыі іх на знешнім рынку (проціл. *імпарт* 1); 2) агульная колькасць або агульны кошт тавараў, вывезеных якой-н. краінай, а таксама сам вывезены тавар.

**ЭКСПАРТАВА́ЦЬ** (лац. exportare = вывозіць) — вывозіць тавары за мяжу для рэалізацыі іх на знешнім рынку (проціл. *імпартаваць*).

**ЭКСПАРЦЁР** (фр. exporteur, ад лац. exportare = вывозіць) — краіна, установа або асоба, што займаюцца *экспартам* 1 (проціл. *імпарцёр*).

**ЭКСПАТРЫЯВА́ЦЬ** (с.-лац. expatriare, ад лац. ex = з + patria = радзіма) — праводзіць *экспатрыяцыю*.

**ЭКСПАТРЫЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. expatriatio, ад лац. ex = з + patria = радзіма) — добраахвотнае або прымусовае высяленне каго-н. за межы радзімы, звязанае звычайна з пазбаўленнем грамадзянства.

**ЭКСПЕДЗІ́РАВАЦЬ** (лац. expedire = адпраўляць) — адпраўляць па прызначэнню карэспандэнцыю, тавар і інш.

**ЭКСПЕДЫ́ТАР** (ням. Expeditor, ад лац. expedire = адпраўляць) — асоба, якая займаецца *экспедыцыяй* 1.

**ЭКСПЕДЫ́ЦЫЯ** (лац. expeditio) — 1) адпраўка і рассылка чаго-н. (карэспандэнцыі, тавараў і інш.); 2) установа або аддзел установы, прадпрыемства, які займаецца адпраўкай і рассылкай карэспандэнцыі, тавараў і інш. (напр. э. выдавецтва); 3) паездка, паход групы асоб з якім-н. спецыяльным заданнем, а таксама ўдзельнікі гэтай паездкі, паходу (напр. палярная э., дыялекталагічная э.); 4) ваенная аперацыя, якая праводзіцца параўнальна невялікімі ўзброенымі сіламі, а таксама ўзброеныя сілы, прызначаныя для такой аперацыі.

**ЭКСПЕ́РТ** (лац. expertus = вопытны) — спецыяліст, якога запрашаюць для правядзення *экспертызы* па якім-н. спрэчным ці няясным пытанні, напр. у судовай практыцы.

**ЭКСПЕРТЫ́ЗА** (фр. expertise, ад лац. expertus = вопытны) — вывучэнне спецыялістам (*экспертам*) пытанняў, для вырашэння якіх патрэбны спецыяльныя веды ў галіне навукі, тэхнікі, мастацтва і г.д. (напр. бухгалтарская э., судовая э.).

**ЭКСПЕРЫМЕ́НТ** (лац. experimentum) — 1) навуковы вопыт, дослед; 2) наогул вопыт, выпрабаванне, праверка (смелы э.).

**ЭКСПЕРЫМЕНТАВА́ЦЬ** (лац. experimentare) — рабіць *эксперыменты*; праводзіць навуковыя доследы.

**ЭКСПЕРЫМЕНТА́ЛЬНЫ** (ад *эксперымент*) — які заснаваны, грунтуецца на эксперыменце, з'яўляецца эксперыментам.

**ЭКСПЕРЫМЕНТА́ТАР** (с.-лац. experimentator) — той, хто праводзіць навуковыя доследы; той, хто *эксперыментуе*.

**ЭКСПІРАТО́РНЫ** (ад лац. expirare = выдыхаць) — заснаваны на *экспірацыі*, звязаны з экспірацыяй (напр. э. націск).

**ЭКСПІРА́ЦЫЯ** (лац. expiratio) — выдых; выдыханне (параўн. *інспірацыя*).

**ЭКСПЛАЗІ́ВЫ** (фр. explosif = выбуховы, ад лац. explodere = выганяць з шумам) — выбуховыя рэчывы.

**ЭКСПЛАЗІ́ЎНЫ** (фр. explosif, ад лац. explodere = выганяць з шумам) — *лінгв.* выбухны (зычны).

**ЭКСПЛАЗІ́Я** (фр. explosion = выбух, ад лац. explodere = выганяць з шумам) — 1) выкід вулканічнага

матэрыялу на паверхню Зямлі, які суправаджаецца выбухам, выдзяленнем газаў і інш.; 2) *лінгв.* фаза артыкуляцыі выбухнога зычнага.

**ЭКСПЛАНТА́Т** (ад лац. explantare = выкараняць) — частка органа або тканкі, якая выкарыстоўваецца для *эксплантацыі*.

**ЭКСПЛАНТА́ЦЫЯ** (лац. explantatio = вырыванне з коранем) — 1) адлучэнне ад арганізма пэўнай яго часткі з мэтай перасадкі на іншы арганізм; 2) эксперыментальны метад вырошчвання тканкі паза арганізмам.

**ЭКСПЛІКАВА́ЦЬ** (лац. explicare = тлумачыць) — забяспечваць *экспілікацыяй* 1.

**ЭКСПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. explicatio = тлумачэнне) — 1) тлумачэнне ўмоўных абазначэнняў на планах, картах; легенда; 2) кароткае пісьмовае суправаджэнне экспазіцыі музея або выстаўкі; 3) рэжысёрскі план спектакля, оперы, балета і інш.

**ЭКСПЛІЦЫ́ТНЫ** (ад лац. explicite = яўна, адкрыта) — яўна выражаны, які знешне праяўляецца, відавочны (проціл. *імпліцытны*).

**ЭКСПЛУАТАВА́ЦЬ** (фр. exploiter) — 1) падвяргаць *эксплуатацыі* 1; 2) рацыянальна выкарыстоўваць што-н. (напр. э. машыны).

**ЭКСПЛУАТА́ТАР** (фр. exploiteur) — той, хто *эксплуатуе* 1 іншых, прысвойвае сабе вынікі чужой працы.

**ЭКСПЛУАТА́ЦЫЯ** (фр. exploitation) — 1) прысваенне прадуктаў чужой працы ўласнікамі сродкаў вытворчасці; 2) выкарыстанне прыродных багаццяў, зямлі, прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, будынкаў і інш.

**ЭКСПО́** [фр. expo(sition) = выстаўка] — сусветная выстаўка (звычайна з лічбай, якая ўказвае год) (напр. Экспо-99).

**ЭКСПРАПРЫЯ́ТАР** (фр. expropriateur, ад с.-лац. exproprіatio = адбіранне ўласнасці) — той, хто ажыццяўляе *экспрапрыяцыю*.

**ЭКСПРАПРЫЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. expropriatio) — 1) прымусовае адбіранне маёмасці, сродкаў вытворчасці ў аднаго класа другім; 2) наогул прымусовае адбіранне чаго-н.

**ЭКСПРО́МТ** (лац. expromtus = гатовы) — 1) твор (паэтычны, музычны), створаны адразу, у момант выканання; 2) кароткая прамова, сказаная без папярэдняй падрыхтоўкі; 3) невялікая музычная п'еса, напісаная ў свабоднай форме.

**ЭКСПРЭ́С** (англ. express, ад лац. expressus = узмоцнены) — поезд, параход або аўтобус, якія ідуць з найбольшай скорасцю і робяць прыпынкі толькі на буйных станцыях або наогул іх не робяць.

**ЭКСПРЭ́С-АНА́ЛІЗ** (ад лац. expressus = узмоцнены + *аналіз*) — сукупнасць метадаў колькаснага хімічнага аналізу, якія даюць магчымасць хутка кантраляваць пэўны вытворчы або тэхналагічны працэс.

**ЭКСПРЭ́С-ІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *экспрэс* + *інфармацыя*) — навуковая або навукова-тэхнічная інфармацыя, якая аператыўна публікуецца ў друку.

**ЭКСПРЭСІ́ЎНЫ** (фр. expressif, ад лац. expressus = выразны) — выразны, надзелены *экспрэсіяй*.

**ЭКСПРЭ́СІЯ** (лац. expressio = выражэнне) — выразнасць; сіла вы-

ражэння пачуццяў, перажыванняў (напр. э. слова, э. колеру).

**ЭКСПРЭСІЯНІ́ЗМ** (фр. expressionisme, ад expression = выражэнне < лац. expressio = выражэнне) — мадэрнісцкі кірунак у літаратуры і мастацтве першай пал. 20 ст., для якога асноўнай мэтай было выражэнне суб'ектыўнага стану чалавека; характарызаваўся ірацыяналізмам, фантастычнасцю вобразаў.

**ЭКСТА́З** (гр. ekstasis = захапленне, раз'юшанасць) — найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця.

**Э́КСТРА** (лац. extra = звыш меры, занадта) — самы высокі, самы лепшы (пра сорт тавару; напр. масла э.).

**ЭКСТРА-** (лац. extra = звыш, па-за) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню словам «звыш», «па-за», «дадаткова».

**ЭКСТРААКУЛЯ́РНЫ** (ад *экстра-* + лац. ocularis = вочны) — якому ўласціва бачыць без дапамогі вачэй (напр. э. зрок).

**ЭКСТРААРДЫНА́РНЫ** (лац. extraordinarius, ад extra = звыш, па-за + ordinarius = звычайны) — 1) надзвычайны, рэдкі (напр. э-ая сустрэча); 2) *уст.* пазаштатны; э. п р а ф е с а р — прафесар без кафедры (параўн. *ардынарны* 2).

**ЭКСТРАВАГА́НТНЫ** (фр. extravagant) — незвычайны, які разыходзіцца з агульнапрынятымі звычаямі (напр. э. учынак).

**ЭКСТРАВАЗА́Т** (ад *экстра-* + лац. vas = сасуд) — кроў, якая выліваецца з крывяносных сасудаў у тканкі або пустоты арганізма чалавека і жывёл.

**ЭКСТРАВЕРТЫ́ЎНЫ** (ад *экстра-* + лац. vertere = паварочваць) — павернуты вонкі.

**ЭКСТРАГАВА́ЦЬ** (лац. extrahere = выцягваць, здабываць) — рабіць *экстракцыю*.

**ЭКСТРАГЛЯЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *экстра-* + лац. glacialis = ледзяны) — тое, што і *перыгляцыяльны*.

**ЭКСТРАДЫ́ЦЫЯ** (ад *экс-* + лац. traditio = перадача) — выдача замежнай дзяржаве асобы, якая ўчыніла злачынства.

**ЭКСТРАЗАНА́ЛЬНЫ** (ад *экстра-* + гр. zone = пояс); э - а я р а с л і н н а с ц ь — прыродная раслыннасць, якая знаходзіцца за межамі ўтвараемай ёю раслыннай зоны, па-за сваім асноўным арэалам.

**ЭКСТРАКЛА́С** (ад *экстра-* + *клас*) — вышэйшы клас, разрад, *кваліфікацыя* і інш.

**ЭКСТРА́КТ** (лац. extractus = выцягнуты, здабыты, атрыманы) — 1) лекавы *прэпарат*, атрыманы выцяжкай з раслінных або жывёльных тканак і раствораны ў спірце ці вадзе; 2) прадукт, які атрымліваецца шляхам згушчэння сокаў ягад, пладоў (напр. малінавы э.).

**ЭКСТРА́КТАР** (лац. extractus = які выцягвае) — 1) *апарат* для здабывання рэчываў з сумесей пры дапамозе апрацоўкі іх рознымі растваральнікамі; 2) прыстасаванне для даставання, выцягвання чаго-н. (напр. ружэйны э.).

**ЭКСТРАКТЫ́ЎНЫ** (ад лац. extractus = выцягнуты, здабыты, атрыманы) — 1) атрыманы шляхам *экстракцыі* (э-ыя рэчывы); 2) які мае ўласцівасці *экстракту*.

**ЭКСТРА́КЦЫЯ** (лац. extractio = выцягванне, здабыванне) — 1)

раздзяленне цвёрдых ці вадкіх сумесей пры дапамозе апрацоўкі іх living рознымі растваральнікамі; 2) аперацыя выдалення зуба.

**ЭКСТРАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *экстра-* + *лінгвістыка*) — галіна мовазнаўства, якая вывучае сукупнасць этнічных, сацыяльных, геаграфічных і іншых фактараў, непарыўна звязаных з развіццём і функцыяніраваннем мовы.

**Э́КСТРАННЫ** (ад лац. extra = звыш, па-за) — 1) паспешны, тэрміновы (напр. э-ая тэлеграма); 2) надзвычайны, непрадугледжаны (напр. э-ая справа).

**ЭКСТРАПАЛІ́РАВАЦЬ** (ад *экстра-* + лац. polire = рабіць гладкім) — праводзіць *экстрапаляцыю*.

**ЭКСТРАПАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *экстра-* + лац. polire = рабіць гладкім) — 1) пашырэнне вывадаў, атрыманых пры вывучэнні адной часткі з'явы, на іншыя яе часткі; 2) *мат.* вылічэнне па шэрагу дадзеных значэнняў матэматычнага выражэння іншых значэнняў яго, якія знаходзяцца па-за гэтым радам (проціл. *інтэрпаляцыя* 1).

**ЭКСТРАСІСТАЛІ́Я** (ад *экстра-* + *сістала*) — узнікненне пазачарговага ўдару сэрца, від *арытміі*.

**ЭКСТРАСЭ́НС** (ад лац. extra = звыш меры, самы лепшы + sensus = пачуцце, адчуванне) — чалавек, які валодае асобымі біяэнергетычнымі магчымасцямі і звышпачуццёвымі здольнасцямі, якія найчасцей выкарыстоўваюцца для дыягностыкі і лячэння хвароб (параўн. *хілер*).

**ЭКСТРАСЭНСО́РНЫ** (ад *экстрасэнс*) — звышпачуццевыя формы ўспрымання, якія практыкуюцца *парапсіхалогіяй*.

**ЭКСТРУ́ДЗІНГ-ПРАЦЭ́С** (ад англ. extrude = выціскаць, прасаваць + *працэс*) — апрацоўка ціскам розных матэрыялаў, каб змяніць іх форму, надаць ім іншыя механічныя ўласцівасці і г.д.

**ЭКСТРУ́ЗІЯ** (лац. extrusio) — 1) выхад вязкай лавы з кратэра *вулкана* на паверхню Зямлі ў форме купала або слупападобнага ўзняцця; 2) апрацоўка матэрыялаў ціскам, што ствараецца спецыяльнымі прэсамі.

**ЭКСТРЭМА́ЛЬ** (ад лац. extremus = крайні) — *мат.* інтэгральная крывая *дыферэнцыяльнага* ўраўнення Эйлера.

**ЭКСТРЭМА́ЛЬНЫ** (лац. extremus = крайні) — крайні па сваім праяўленні, напр. па складанасці, цяжкасці, небяспецы і г.д. (напр. працаваць у э-ых умовах).

**ЭКСТРЭМІ́ЗМ** (фр. extrémisme, ад лац. extremus = крайні) — схільнасць да крайніх поглядаў і крайніх мер, пераважна ў палітыцы.

**ЭКСТРЭМІ́СТ** (ад *экстрэмізм*) — прыхільнік экстрэмізму.

**ЭКСТРЭ́МУМ** (лац. extremum = край, канец) — *мат.* найбольшае і найменшае значэнні якой-н. *функцыі*; ужываецца для аб'яднання паняццяў *максімуму* і *мінімуму*.

**ЭКСТЫ́НКЦЫЯ** (лац. exstinctio = гашэнне) — аслабленне святла ў *атмасферы* ў выніку рассейвання і паглынання яго.

**ЭКСТЫРПА́ТАР** (ад лац. exstirpare = вырываць з коранем) — 1) хірургічны інструмент для *экстырпацыі*; 2) *культыватар* для глыбокага рыхлення глебы і знішчэння пустазелля.

**ЭКСТЫРПА́ЦЫЯ** (лац. exstirpatio = выкараненне, знішчэн-

не) — поўнае выдаленне хірургічным шляхам якога-н. органа або пухліны разам з *капсулай* 1 (параўн. *рэзекцыя*).

**ЭКСТЭМПАРА́ЛЕ** (лац. extemporalis = непадрыхтаваны) — класнае пісьмовае практыкаванне, якое заключаецца ў перакладзе з роднай мовы на замежную без папярэдняй падрыхтоўкі.

**ЭКСТЭ́НЗАР** (лац. extensor, ад extendere = расцягваць) — *анат.* мышца, якая разгінае якую-н. частку цела (параўн. *флексар*).

**ЭКСТЭ́НЗІЯ** (лац. extensio = расцягванне) — разгінанне канечнасцей або іншай часткі цела (проціл. *флексія* 1).

**ЭКСТЭНСІ́ЎНЫ** (лац. extensivus = расшыральны, працяглы) — звязаны толькі з колькасным павелічэннем без паляпшэння якасці (напр. э-ае расшырэнне рынкаў); проціл. *інтэнсіўны* 1.

**ЭКСТЭРАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. exter = знешні + *рэцэптары*) — рэцэптары, якія ўспрымаюць раздражненні знешняга асяроддзя; размешчаны на паверхні цела, уключаючы і слізістую абалонку носа, поласці рота і паверхні языка (параўн. *інтэрарэцэптары*).

**ЭКСТЭРАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад лац. exter = знешні + *рэцэпцыя*) — успрыманне цэнтральнай нервовай сістэмай імпульсаў, якія перадаюцца ад знешняга асяроддзя пры дапамозе *экстэрарэцэптараў* (параўн. *інтэрарэцэпцыя*).

**ЭКСТЭР'Е́Р** (фр. extérieur, ад лац. exterior = знешні) — знешні выгляд і склад цела жывёлы (параўн. *інтэр'ер* 3).

**ЭКСТЭ́РН** (лац. externus = знешні, вонкавы, староннi) — асоба, якая здае экзамены ў навучальнай установе без навучання ў ёй.

**ЭКСТЭРНА́Т** (ад лац. externus = знешні, вонкавы, староннi) — здача экзаменаў у навучальнай установе без навучання ў ёй.

**ЭКСТЭРЫТАРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *экс-* + *тэрытарыяльны*) — які, як дыпламатычны прадстаўнік іншай краіны, карыстаецца асобнымі прывілеямі (недатыкальнасць асобы і жылля, непадлегласць мясцовым судам, вызваленне ад падаткаў і інш.).

**ЭКСТЭРЫЯРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. exterior = знешні) — пераход знутры наверх.

**ЭКСУДА́Т** (лац. exsudatum) — вадкасць, якая выдзяляецца пры запаленні ў выніку выхаду вадкай часткі, бялкоў і клетак крыві з дробных капілярных сасудаў і збіраецца ў тканках або поласцях цела (э. бывае серозны, гнойны, крывяністы і інш.); параўн. *транссудат*.

**ЭКСУДАТЫ́ЎНЫ** (лац. exsudativus) — які мае адносіны да *эксудату*, які суправаджаецца *эксудацыяй*.

**ЭКСУДА́ЦЫЯ** (лац. exsudatio) — працэс утварэння *эксудату*.

**ЭКСУМБРЭ́ЛА** (ад *экс-* + лац. umbra = цень) — знешні выпуклы бок парасона *медуз*.

**ЭКСФАЛІЯ́ЦЫЯ** (лац. exfoliatio) — *мед.* лускападобнае лушчэнне скуры.

**ЭКСЦЫ́ЗІЯ** (лац. excisio) — *мед.* вырэзванне кавалка якой-н. тканкі.

**ЭКСЦЫТАТЫ́ЎНЫ** (лац. excitatus) — моцны, рэзкі, яскравы; узбуджальны.

# Э

**ЭКСЦЫТА́ЦЫЯ** (лац. excitatio) — узбуджэнне пачуццяў, збянтэжанне.

**ЭКСЦЭ́НТРЫК** (фр. excentrique < с.-лац. excentricus = эксцэнтрычны, ад лац. ex = з, па-за + centrum = цэнтр) — 1) цыркавы або эстрадны комік, які выконвае смешныя, забаўныя нумары, што вызначаюцца рознымі нечаканасцямі; 2) металічны дыск, насаджаны на вал так, што пры вярчэнні цэнтр вала не супадае з цэнтрам дыска.

**ЭКСЦЭ́НТРЫКА** (с.-лац. excentricus, ад лац. ex = з, па-за + centrum = цэнтр) — 1) уласцівасць *эксцэнтрычнага*; 2) жанр тэатральнага, цыркавога спектакля, пабудаваны на выкарыстанні эксцэнтрычных прыёмаў.

**ЭКСЦЭНТРЫСІТЭ́Т** (ням. Exzentrizität, ад лац. ex = з, па-за + centrum = цэнтр) — 1) пастаянная дадатная велічыня, якая характарызуе *эліпс* і *гіпербалу* і роўная адносінам адлегласці паміж фокусамі дадзенага канічнага сячэння да адлегласці паміж вяршынямі; 2) адлегласць паміж воссю вярчэння *эксцэнтрыка* і яго цэнтрам.

**ЭКСЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (фр. excentrique < с.-лац. excentricus, ад лац. ex = з, па-за + centrum = цэнтр) — 1) заснаваны на рэзкіх гукавых або зрокавых кантрастах, незвычайных, смешных прыёмах (напр. э. трук); 2) незвычайны, дзіўны, вельмі своеасаблівы (напр. э. учынак); 3) *мат.* які не мае агульнага цэнтра, адхіляецца ад яго (проціл. *канцэнтрычны*).

**ЭКСЦЭРПІ́РАВАЦЬ** (лац. excerpare = выбіраць) — выбіраць словы, фрагменты з тэксту.

**ЭКСЦЭ́РПЦЫЯ** (лац. excerptio = выбіранне, выбарка) — выбарка чаго-н. з тэксту.

**ЭКСЦЭ́С** (лац. excessus = выхад; ухіленне) — 1) крайняе праяўленне чаго-н., няўстрыманасць; 2) парушэнне нармальнага ходу чаго-н., напр. грамадскага парадку.

**ЭКС-ЧЭМПІЁН** (ад *экс-* + *чэмпіён*) — былы чэмпіён.

**ЭКСЭ́РГІЯ** (ад *экс-* + гр. ergon = работа) — найбольшая работа, якую можа выканаць фізічная сістэма пры пераходзе з дадзенага стану ў стан раўнавагі з навакольным асяроддзем.

**ЭКТА-** (гр. ektos = звонку, знадворку) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «знешні, знадворны».

**ЭКТАБЛА́СТ** (ад *экта-* + гр. blastos = зародак) — тое, што і *эктадэрма*.

**ЭКТАГЕНЕ́З** (ад *экта-* + *-генез*) — агульная назва кірункаў у эвалюцыйным вучэнні, якія разглядаюць гістарычнае развіццё жывой прыроды як прамое прыстасаванне арганізмаў да навакольнага асяроддзя (проціл. *аўтагенез*).

**ЭКТАДЭ́РМА** (ад *экта-* + *дэрма*) — 1) знешні зародкавы лісток мнагаклетачных жывёльных арганізмаў і чалавека (параўн. *энтадэрма* 1); 2) знадворны слой сценкі цела кішачнаполасцевых (параўн. *энтадэрма* 2).

**ЭКТАЗІ́Я** (ад гр. ektasis = расцягненне) — *мед.* расцягненне, расшырэнне поласцевых органаў, напр. бронхаў, сасудаў, страўніка.

**ЭКТАМЕЗЕНХІ́МА** (ад *экта-* + *мезенхіма*) — частка мезенхімы большасці мнагаклетачных жывёл.

**ЭКТАПАРАЗІ́ТЫ** (ад *экта-* + *паразіты*) — арганізмы, якія паразітуюць на паверхні цела чалавека, жывёл або раслін.

**ЭКТАПІ́Я** (ад гр. ektopos = змешчаны) — *мед.* змяшчэнне ўнутраных органаў чалавека і жывёл.

**ЭКТАПЛА́ЗМА** (ад *экта-* + *плазма*) — перыферычны слой *цытаплазмы* клетак.

**ЭКТАТРО́ФНЫ** (ад *экта-* + *-трофны*) — тое, што і *экзатрофны*.

**Э́КТЫМА** (гр. ekthyma = гнойны прышч) — вірусная хвароба авечак і коз, якая суправаджаецца ўтварэннем струпоў, пераважна ў вобласці губ.

**ЭКТЫПАГРА́ФІЯ** (ад гр. ektypos = выпуклы + *-графія*) — пісьмо для сляпых, якое грунтуецца на розных камбінацыях выпуклых кропак.

**ЭКУМЕНІ́ЗМ** (ад гр. oikumene = Сусвет) — рух за аб'яднанне хрысціянскіх цэркваў, які ўзнік у пач. 20 ст.; лічыць сваёй мэтай выпрацоўку агульнахрысціянскай сацыяльнай праграмы, прыгоднай для вернікаў розных краін.

**ЭКЮ́**[1] (фр. écu) — старадаўняя французская залатая або сярэбраная манета з малюнкам геральдычнага шчыта, якая чаканілася ў 13—18 ст.

**ЭКЮ́**[2] (англ. ECU, ад European Currency Unit = еўрапейская валютная адзінка) — рэгіянальная міжнародная грашовая адзінка, якая з 13 сакавіка 1979 г. выкарыстоўваецца краінамі — удзельніцамі Еўрапейскай валютнай сістэмы (ЕВС).

**ЭЛАДЭ́Я** (н.-лац. elodea, ад гр. helodes = балотны) — водная травяністая расліна сям. жабнікавых з доўгімі плывучымі каранямі, прадаўтаватым лісцем і адзіночнымі белымі кветкамі на доўгіх кветаножках, якая засмечвае сажалкі і іншыя прэснаводныя вадаёмы; пашырана пераважна ў Амерыцы; некаторыя віды вырошчваюцца ў акварыумах.

**ЭЛАКАТО́ТРЫКС** (н.-лац. elakothrix) — каланіяльная зялёная водарасць сям. элакатотрыксавых, якая пашырана ў *планктоне* або на раслінах у прэсных вадаёмах, на вільготным грунце і ў глебе.

**ЭЛАКВЕ́НЦЫЯ** (лац. eloquentio) — *уст.* аратарскае майстэрства.

**ЭЛАНГА́ЦЫЯ** (лац. elongatio, ад longus = далёкі) — *астр.* бачная вуглавая адлегласць планеты ад Сонца.

**ЭЛАСМАТЭ́РЫЙ** (ад гр. elasma = пласцінка + *-тэрый*) — вельмі буйны вымерлы насарог з масіўным купалападобным рогам на ілбе, з пласцінчатай зубной эмаллю, які жыў у Еўразіі ў раннечацвярцічную эпоху.

**ЭЛАСО́МА** (н.-лац. elassoma) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў балотных лясных вадаёмах на поўдні ЗША; вядома як акварыумная.

**ЭЛАСТАГРА́ФІЯ** (ад н.-лац. elasticus = пругкі + *-графія*) — друкаванне з эластычных друкарскіх форм фарбамі, якія хутка высыхаюць.

**ЭЛАСТАМЕ́РЫ** (ад н.-лац. elasticus = пругкі + -мер) — *палімеры* з высокаэластычнымі ўласцівасцямі ў шырокім дыяпазоне тэмператур (напр. натуральны і сінтэтычны *каўчукі*).

# Э

**ЭЛАСТАМЕ́ТРЫЯ** (ад н.-лац. elasticus = пругкі + *-метрыя*) — метады вызначэння эластычнасці гумы.

**ЭЛА́СТЫК** (н.-лац. elasticus = пругкі) — 1) ніткі з сінтэтычных валокнаў, з якіх вырабляюць панчохі, шкарпэткі, што маюць уласцівасць расцягвацца; 2) сінтэтычная тканіна з рызінавымі ніткамі, якая выкарыстоўваецца на паясы, падвязкі і інш.

**ЭЛАСТЫ́ЧНЫ** (н.-лац. elasticus = пругкі) — 1) пругкі, гнуткі; здольны расцягвацца і вяртацца ў ранейшы стан (напр. э-ая падушка, э-ая спружына); 2) *перан.* мяккі, плаўны, павольны (напр. э-ыя рухі); 3) *перан.* здольны лёгка прыстасоўвацца да чаго-н.

**ЭЛАСЦІ́Н** (ад н.-лац. elasticus = пругкі) — бялок з групы *склерапратэінаў*, які ўваходзіць у склад эластычных валокнаў сценак артэрый, скуры і інш.

**ЭЛАТЫ́Ў** (н.-лац. elativus, ад лац. elatus = узняты ўверх) — *лінгв.* 1) абсалютная найвышэйшая ступень параўнання; 2) зыходны склон.

**ЭЛАФАМІ́ЦЭС** (н.-лац. elaphomyces) — сумчаты грыб сям. элафаміцэтавых, які расце на пясчаной глебе ў хвойных лясах.

**ЭЛАЯПЛА́СТЫ** (ад гр. elaion = алей + plastos = вылеплены) — лейкапласты расліннай клеткі, якія назапашваюць тлушч і крухмал.

**ЭЛЕАБЛА́СТ** (ад гр. elaion = алей + *-бласты*) — 1) скапленне буйных, багатых тлушчам клетак у заднім канцы зародка ў *сальпаў*, 2) *рудымент* хваста і *хорды*.

**ЭЛЕА́ТЫ** (гр. eleatai, ад Elea = назва горада) — прадстаўнікі старажытнагрэчаскай філасофскай школы 6—5 ст. да н.э., якія ўпершыню процiпаставілі мысленне пачуццёваму ўспрыманню, выказалі думку пра нязменную сутнасць сапраўднага быцця і ілюзорнасць усіх змен паміж рэчамі.

**ЭЛЕАЦЫ́ТЫ** (ад гр. elaion = алей + *-цыты*) — змененыя белыя крывяныя цельцы кольчатых чарвей, узбагачаныя запаснымі тлушчавымі рэчывамі.

**ЭЛЕВА́ТА** (іт. elevato = высокі) — 1) *муз.* узнёсла; 2) характар выканання музычнага твора.

**ЭЛЕВА́ТАР** (лац. elevator = які падымае) — 1) збудаванне для захоўвання вялікай масы збожжа з механічным абсталяваннем для прыёму, ачысткі, сушкі зерня; 2) грузапад'ёмнае прыстасаванне для вертыкальнага перамяшчэння сыпкіх рэчываў або штучных прадметаў.

**ЭЛЕВА́ЦЫЯ** (фр. elevation = падвышэнне, ад лац. elevare = паднімаць) — вялікія і плаўныя скачкі танцоўшчыка ў класічным балеце, калі ён нібыта замірае ў паветры.

**ЭЛЕВО́НЫ** (англ. elevon, ад лац. elevare = паднімаць) — рухомыя паверхні ў задняй частцы крыла самалёта, якімі карыстаюцца для кіравання палётам.

**ЭЛЕГА́НТНЫ** (фр. elegant, ад лац. elegans, -ntis = вытанчаны) — 1) зграбны, прыгожы (напр. э. касцюм); 2) з густам апрануты (напр. э-ая жанчына).

**ЭЛЕ́ГІЯ** (лац. elegia < гр. elegeia, ад elegos = жалобны напеў) — 1) лірычны верш або музычны твор, прасякнуты журботным настроем; 2) *перан.* сум, журба.

**ЭЛЕ́КТАР** (фр. electeur, ад лац. elector = які выбірае) — выбар-

шчык у Францыі ў перыяд Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.

**ЭЛЕКТАРА́ЛЬНЫ** (ад лац. elector = які выбірае) — выбарны, выбарчы.

**ЭЛЕКТАРА́Т** (ад лац. elector = які выбірае) — кола выбаршчыкаў, што галасуе за якую-н. палітычную партыю на парламенцкіх, прэзідэнцкіх або муніцыпальных выбарах.

**ЭЛЕКТРА-** (ад гр. elektron = янтар) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню слову «электрычны».

**ЭЛЕКТРААКУ́СТЫКА** (ад *электра-* + *акустыка*) — раздзел прыкладной акустыкі, які займаецца пераўтварэннем гукавых ваганняў у электрычныя і наадварот, а таксама запісам і аднаўленнем гукаў з дапамогай электрычных прыбораў.

**ЭЛЕКТРААНА́ЛІЗ** (ад *электра-* + *аналіз*) — метад колькаснага вызначэння або аддзялення металаў, які грунтуецца на *электролізе*.

**ЭЛЕКТРААНАЛЬГЕЗІ́Я** (ад *электра-* + *анальгезія*) — пазбаўленне болевай адчувальнасці арганізма пры дапамозе электрычнасці.

**ЭЛЕКТРААРГА́Н** (ад *электра-* + *арган*) — электрамузычны інструмент, які па сваёй будове і гучанню падобны на арган.

**ЭЛЕКТРААРМАТУ́РА** (ад *электра-* + *арматура*) — сукупнасць устройстваў, якімі замацоўваюць электрычныя лямпы, падводзяць да іх ток, засцерагаюць ад пашкоджанняў, размяркоўваюць святло і інш.

**ЭЛЕКТРААЎТАМА́ТЫКА** (ад *электра-* + *аўтаматыка*) — сукупнасць электрычных устройстваў або сістэм кіравання тэхнічнымі працэсамі, што дзейнічае без непасрэднага ўдзелу чалавека.

**ЭЛЕКТРАГАСТРАГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + *гастра-* + *-графія*) — метад функцыянальнага даследавання страўніка, заснаваны на рэгістрацыі электрычных патэнцыялаў, што з'яўляюцца ў яго мышцах.

**ЭЛЕКТРАГІТА́РА** (ад *электра-* + *гітара*) — гітара з электрычным узмацненнем гуку (звычайна ў *джазе*, эстрадным ансамблі).

**ЭЛЕКТРАГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + *-графія*) — *палігр.* сукупнасць электрычных і магнітных спосабаў друкавання.

**ЭЛЕКТРАДАМКРА́Т** (ад *электра-* + *дамкрат*) — грузапад'ёмны механізм з электрычным прыводам.

**ЭЛЕКТРАДЫНА́МІКА** (ад *электра-* + *дынаміка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае законы руху і ўзаемадзеяння электрычных зарадаў і звязаных з імі з'яў (параўн. *электрастатыка*).

**ЭЛЕКТРАДЫНАМО́МЕТР** (ад *электра-* + *дынамометр*) — прыбор для вымярэння сілы электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАДЫФУ́ЗІЯ** (ад *электра-* + *дыфузія*) — дыфузія зараджаных часціц (*іонаў*) у газе, вадкасці пад дзеяннем знешняга электрычнага поля.

**ЭЛЕКТРАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад *электра-* + *дыягностыка*) — метад даследавання функцый нерваў і мышцаў пры дапамозе электрычнага току.

# Э

**ЭЛЕКТРАДЫЯ́ЛІЗ** (ад *электра-* + *дыяліз*) — ачышчэнне калоідных раствораў ад прымесей нізкамалекулярных злучэнняў у выніку *дыфузіі* ў электрычным полі.

**ЭЛЕКТРАІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *электра-* + *ізаляцыя*) — 1) адасабленне праводніка матэрыяламі з вельмі вялікім электрычным супраціўленнем; 2) тэхнічнае ўстройства, якое адасабляе праваднік ад навакольных прадметаў.

**ЭЛЕКТРАІНСТРУМЕ́НТ** (ад *электра-* + *інструмент*) — ручны інструмент, што прыводзіцца ў дзеянне ўманціраваным у яго корпус электрычным рухавіком.

**ЭЛЕКТРАІНТЭГРА́ТАР** (ад *электра-* + *інтэгратар*) — матэматычная машына, якая прызначана для лічбавага рашэння (інтэгравання) дыферэнцыяльных ураўненняў.

**ЭЛЕКТРАКААГУЛЯ́ТАР** (ад *электра-* + *каагулятар*) — хірургічны прыбор для *электракаагуляцыі*.

**ЭЛЕКТРАКААГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *электра-* + *каагуляцыя*) — прыпяканне тканак электрычным токам з мэтай знішчэння хвароблівага ўтварэння.

**ЭЛЕКТРАКАЛАРЫ́ФЕР** (ад *электра-* + *каларыфер*) — прыбор для награвання паветра цяплом, якое выдзяляецца ў выніку прытоку электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАКАМІ́Н** (ад *электра-* + *камін*) — абагравальны бытавы прыбор, які дзейнічае на электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАКАРДЫЁГРАФ** (ад *электра-* + *кардыёграф*) — прыбор, пры дапамозе якога ажыццяўляецца *электракардыяграфія*.

**ЭЛЕКТРАКАРДЫЯГРА́МА** (ад *электра-* + *кардыяграма*) — графічны адбітак работы сэрца, зроблены *электракардыёграфам*.

**ЭЛЕКТРАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + *кардыяграфія*) — метад даследавання фізіялагічных уласцівасцей сэрца шляхам графічнай рэгістрацыі электрычных імпульсаў, якія ўзнікаюць у сардэчнай мышцы.

**ЭЛЕКТРАКАРУ́НД** (ад *электра-* + *карунд*) — штучны карунд, які атрымліваецца ў выніку электраплаўкі *баксіту*, натуральнага карунду або гліназёму.

**ЭЛЕКТРАКА́РЫ** (ад *электра-* + англ. car = возік) — цялежка з электрычным рухавіком, які жывіцца ад акумулятараў, для ўнутрызаводскіх і ўнутрывакзальных перавозак грузаў.

**ЭЛЕКТРАКА́ЎСТЫКА** (ад *электра-* + гр. kaustikos = пякучы, едкі) — тое, што і *гальванакаўстыка*.

**ЭЛЕКТРАКРА́Н** (ад *электра-* + *кран*) — пад'ёмны кран, які дзейнічае пры дапамозе электрарухавіка.

**ЭЛЕКТРАЛІ́НІЯ** (ад *электра-* + *лінія*) — устройства з проваду, кабелю і электраарматуры для перадачы электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАЛІ́ТЫ** (ад *электра-* + гр. lytos = растваральны) — рэчывы, у якіх перанос электрычнага току ажыццяўляецца рухам *іонаў*.

**ЭЛЕКТРАЛІТЫ́ЧНЫ** (ад *электроліз*) — звязаны з прымяненнем электролізу, з яго вынікамі (напр. э-ая ванна, э. цынк).

**ЭЛЕКТРАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *электра-* + *люмінесцэнцыя*) —

люмінесцэнцыя, якая ўзнікае пад уздзеяннем электрычнага поля.

**ЭЛЕКТРАМАБІ́ЛЬ** (ад *электра-* + лац. mobilis = рухомы) — *аўтамабіль*, які прыводзіцца ў рух электрычнай энергіяй.

**ЭЛЕКТРАМАГІСТРА́ЛЬ** (ад *электра-* + *магістраль*) — магістраль для перадачы электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *электра-* + *магнетызм*) — сукупнасць магнітных з'яў, якія ўзнікаюць ад дзеяння электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАМАГНІ́Т** (ад *электра-* + *магніт*) — прыстасаванне з жалезнага стрыжня, абматанага ізаляваным дротам, па якім праходзіць электрычны ток і намагнічвае гэты стрыжань.

**ЭЛЕКТРАМАНО́МЕТР** (ад *электра-* + *манометр*) — манометр, у якім рабочыя органы змяняюць свае электрычныя параметры прапарцыянальна прыкладзенаму да іх ціску.

**ЭЛЕКТРАМАТО́Р** (ад *электра-* + *матор*) — рухавік, які пераўтварае электрычную энергію ў механічную.

**ЭЛЕКТРАМЕГАФО́Н** (ад *электра-* + *мегафон*) — электраакустычны мегафон.

**ЭЛЕКТРАМЕТАЛУ́РГІЯ** (ад *электра-* + *металургія*) — галіна металургіі, якая займаецца здабываннем металаў і розных сплаваў пры дапамозе электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *электра-* + *-метрыя*) — сукупнасць прыёмаў і метадаў электрычных вымярэнняў.

**ЭЛЕКТРАМЕХА́НІКА** (ад *электра-* + *механіка*) — галіна *электратэхнікі*, якая займаецца пабудовай і эксплуатацыяй электрарухавікоў, электрамашын, механізмаў, што працуюць на электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАМІЯГРА́МА** (ад *электра-* + гр. mys, myos = мышца + *-грама*) — запас біяэлектрычных патэнцыялаў, якія ўзнікаюць у шкілетных мышцах у час іх работы.

**ЭЛЕКТРАМІЯГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + гр. mys, myos = мышца + *-графія*) — метад даследавання органаў руху графічным рэгістраваннем біяэлектрычных патэнцыялаў шкілетных мышцаў.

**ЭЛЕКТРАНАРКО́З** (ад *электра-* + *наркоз*) — наркоз, выкліканы дзеяннем электрычнага току на цэнтральную нервовую сістэму.

**ЭЛЕКТРАО́ПТЫКА** (ад *электра-* + *оптыка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае ўплыў электрычнасці на аптычныя ўласцівасці рэчыва.

**ЭЛЕКТРАО́СМАС** (ад *электра-* + *осмас*) — рух вадкасцей (вады, водных раствораў) у капілярах пад уплывам прыкладзенай розніцы *патэнцыялаў*.

**ЭЛЕКТРАПРА́С** (ад *электра-* + *прас*) — прас, які награваецца электрычнай энергіяй.

**ЭЛЕКТРАРЭНТГЕНАГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + *рэнтгенаграфія*) — метад рэнтгенаграфіі з атрыманнем рэнтгенаўскага адлюстравання на заражанай паўправадніковай пласцінцы з пераносам яго на звычайную паперу.

**ЭЛЕКТРАРЭТЫНАГРА́ФІЯ** (ад *электра-* + лац. retina = сетка + *-графія*) — запіс пры дапамозе *асцылографа* біяэлектрычных патэнцыялаў сятчаткі вока, што ўзнікаюць у час дзеяння на яе святла.

**ЭЛЕКТРАСІГНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *электра-* + *сігналізацыя*) — сістэма *сігналаў*, якая перадаецца пры дапамозе электрычнай энергіі.

**ЭЛЕКТРАСІ́НТЭЗ** (ад *электра-* + *сінтэз*) — атрыманне хімічных злучэнняў пры дапамозе *электролізу*.

**ЭЛЕКТРАСІСТЭ́МА** (ад *электра-* + *сістэма*) — сукупнасць электрастанцый, электрычных сетак і спажыўцоў электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАСКО́П** (ад *электра-* + *-скоп*) — прыбор для выяўлення электрычных зарадаў у якім-н. целе.

**ЭЛЕКТРАСТА́ЛЬ** (ад *электра-* + *сталь*) — высакасортная сталь, выплаўленая ў электрапечы.

**ЭЛЕКТРАСТА́НЦЫЯ** (ад *электра-* + *станцыя*) — прадпрыемства, якое выпрацоўвае электрычную энергію.

**ЭЛЕКТРАСТА́ТЫКА** (ад *электра-* + *статыка*) — раздзел *фізікі*, які вывучае ўласцівасці электрычнасці, наэлектрызаваных цел у адносна нерухомым стане (параўн. *электрадынаміка*).

**ЭЛЕКТРАСТРЫ́КЦЫЯ** (ад *электра-* + лац. strictio = сцягванне) — *фіз.* змена аб'ёму *дыэлектрыкаў* пад дзеяннем на іх электрычнага поля.

**ЭЛЕКТРАСТЫМУЛЯ́ТАР** (ад *электра-* + *стымулятар*) — медыцынскі прыбор для *электрастымуляцыі*.

**ЭЛЕКТРАСТЫМУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *электра-* + *стымуляцыя*) — узбуджэнне, аднаўленне электрычным токам жыццядзейнасці арганізма або яго органа.

**ЭЛЕКТРАТАБЛО́** (ад *электра-* + *табло*) — шчыт з электрычнымі сігнальнымі сістэмамі інфармацыйнага прызначэння.

**ЭЛЕКТРАТА́КСІС** (ад *электра-* + *таксісы*) — рух мікраарганізмаў, іх клетак і *арганоідаў* пад уздзеяннем электрычнага току; адна з форм — *гальванатаксіс*.

**ЭЛЕКТРАТА́ЛЬ** (ад *электра-* + *таль*) — тое, што і *тэльфер*.

**ЭЛЕКТРАТО́Н** (ад *электра-* + гр. tonos = напружанне) — стан узбуджанасці нервовай тканкі цела ў месцы дотыку электродаў у час прапускання пастаяннага току.

**ЭЛЕКТРАТРА́Л** (ад *электра-* + *трал*) — электрычнае ўстройства, якое выкарыстоўваецца пры прамысловай лоўлі рыбы.

**ЭЛЕКТРАТРА́НСПАРТ** (ад *электра-* + *транспарт*) — транспарт, які працуе на электрацязе.

**ЭЛЕКТРАТРАПІ́ЗМ** (ад *электра-* + гр. tropos = паварот) — роставыя рухі органаў раслін (сцябла, лісцяў і інш.), абумоўленыя ўздзеяннем электрычнасці.

**ЭЛЕКТРАТРА́ЎМА** (ад *электра-* + *траўма*) — траўма ад электрычнага току ад нязначных болевых адчуванняў да абвуглівання тканак і смерці.

**ЭЛЕКТРАТЫ́НТА** (ад *электра-* + іт. tinta = колер, каларыт) — разнавіднасць гравюрнага друку, які грунтуецца на выкарыстанні электрычнага току для траўлення пласцінак.

**ЭЛЕКТРАТЫПІ́Я** (ад *электра-* + *-тыпія*) — тое, што і *гальванапластыка*.

**ЭЛЕКТРАТЭ́ЛЬФЕР** (ад *электра-* + *тэльфер*) — механізм для ўнутрыцэхавага транспартавання грузаў падвешанай манарэйкай пры дапамозе электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАТЭРАПІ́Я** (ад *электра- + тэрапія*) — выкарыстанне электрычнага току, электрычных і магнітных палёў для лячэння; электралячэнне.

**ЭЛЕКТРАТЭРМІ́Я** (ад *электра- + -тэрмія*) — галіна *электратэхнікі*, якая вывучае выкарыстанне электраэнергіі для награвання і расплаўлення розных матэрыялаў.

**ЭЛЕКТРАТЭ́ХНІКА** (ад *электра- + тэхніка*) — галіна навукі і тэхнікі, звязаная з выкарыстаннем электраэнергіі для практычных мэт.

**ЭЛЕКТРАФА́КС** (ад *электра-* + лац. fax = святло, полымя) — электрафатаграфічны спосаб капіравання і друку, пры якім праяўленае адлюстраванне замацоўваецца непасрэдна на фотапаўправадніковым слоі, нанесеным на паперу, цынк і інш.

**ЭЛЕКТРАФАРЭ́З** (ад *электра-* + гр. phoros = які нясе) — 1) перамяшчэнне зараджаных калоідных часцінак пад уздзеяннем знешняга электрычнага поля; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці, фізіятэрапіі (параўн. *анафарэз*, *катафарэз*); 2) тое, што і *іонтафарэз*.

**ЭЛЕКТРАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *электра- + фатаграфія*) — спосаб фатаграфічнага ўзнаўлення адлюстраванняў, заснаваны на ператварэнні прамянёвай энергіі ў электрычную.

**ЭЛЕКТРАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *электра- + фізіялогія*) — раздзел фізіялогіі, які вывучае электрычныя з'явы, што адбываюцца ў жывым арганізме.

**ЭЛЕКТРАФІ́ЛЬТР** (ад *электра- + фільтр*) — апарат для ачысткі газаў ад пылу і іншых цвёрдых прымесей пры дапамозе электрычнасці.

**ЭЛЕКТРАФО́Н** (ад *электра- + -фон*) — устройства для ўзнаўлення гуку, запісанага на грампласцінках.

**ЭЛЕКТРАФО́Р** (ад *электра- + -фор*) — прасцейшы электрастатычны прыбор для атрымання электрычных зарадаў шляхам *індукцыі*.

**ЭЛЕКТРАФТА́ЛЬМІЯ** (ад *электра- + -афтальмія*) — запаленне вочнага яблыка, выклікане вельмі яркім штучным святлом, напр. у час павольных кіназдымак і электразваркі.

**ЭЛЕКТРАХІ́МІЯ** (ад *электра- + хімія*) — раздзел фізічнай хіміі, які вывучае сувязь паміж электрычнымі і хімічнымі працэсамі.

**ЭЛЕКТРАШО́К** (ад *электра- + шок*) — метад лячэння псіхічных расстройстваў шляхам раздражнення мозгу дазіраванымі разрадамі электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *электра- + энергетыка*) — галіна энергетыкі, якая ахоплівае *генерацыю*, перадаванне і выкарыстанне электрычнай энергіі.

**ЭЛЕКТРАЭНЕ́РГІЯ** (ад *электра- + энергія*) — энергія электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАЭНЦЭФАЛАГРА́МА** (ад *электра- + энцэфалаграма*) — графічнае адлюстраванне біятокаў галаўнога мозгу, зробленае *электраэнцэфалографам*.

**ЭЛЕКТРАЭНЦЭФАЛАГРА́ФІЯ** (ад *электра- + энцэфалаграфія*) — метад даследавання дзейнасці галаўнога мозгу, які грунтуецца на графічным запісе электрычных *патэнцыялаў* мозгу, што ўзнікаюць у

нервовых клетках у працэсе іх жыццядзейнасці.

**ЭЛЕКТРАЭНЦЭФАЛО́ГРАФ** (ад *электра-* + *энцэфалограф*) — прыбор для запісу электрычных *патэнцыялаў* мозгу, якія ўзнікаюць у нервовых клетках у працэсе іх жыццядзейнасці.

**ЭЛЕКТРАЭРО́ЗІЯ** (ад *электра-* + *эрозія*) — разбурэнне праваднікa пад дзеяннем электрычных токаў.

**ЭЛЕКТРО́БУС** [ад *электра-* + лац. (omni)bus = для ўсіх] — *аўтобус*, рухавік якога жывіцца электрычным токам ад акумулятарных батарэй.

**ЭЛЕКТРО́ГРАФ** (ад *электра-* + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі электрычнага стану атмасферы, які ўяўляе сабой самапісны *электрометр*.

**ЭЛЕКТРО́Д** (ад *электра-* + гр. hodos = дарога) — 1) праваднік, якім канчаецца які-н. участак электрычнага ланцуга; 2) састаўная частка гальванічнага элемента, матэрыял якога непасрэдна ўдзельнічае ў электрахімічнай рэакцыі; 3) праваднік у выглядзе сеткі або пласціны, змешчаны ўнутры электрычнай лямпы з мэтай стварэння электрычнага поля і ўздзеяння на ток, напр. анод, катод.

**ЭЛЕКТРО́ЛІЗ** (ад *электра-* + *-ліз*) — хімічны працэс распаду рэчыва на састаўныя часткі пры праходжанні праз яго электрычнага току.

**ЭЛЕКТРО́МЕТР** (ад *электра-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння электрычнага напружання, электрычнага патэнцыялу.

**ЭЛЕКТРО́Н** (гр. elektron = янтар) — 1) элементарная часціца атама з адмоўным зарадам; 2) сплаў алюмінію з магніем, які мае вялікую трываласць і пластычнасць; выкарыстоўваецца ў авіябудаванні.

**ЭЛЕКТРОНАГРА́ФІЯ** (ад *электрон-* + *-графія*) — метад даследавання будовы рэчыва, заснаваны на *дыфракцыі* электронаў, якія пранізваюць рэчыва.

**ЭЛЕКТРО́Н-ВОЛЬТ** (ад *электрон-* + *вольт*) — адзінка энергіі ў атамнай і ядзернай фізіцы, роўная энергіі, якую набывае электрон, праходзячы розніцу патэнцыялаў у 1 вольт.

**ЭЛЕКТРО́НІКА** (ад *электрон*) — раздзел *фізікі*, які вывучае электронныя працэсы ў вакууме, газах, цвёрдых целах; галіна тэхнікі, якая займаецца распрацоўкай, вытворчасцю і выкарыстаннем электронных прыбораў.

**ЭЛЕ́КТРУМ** (лац. electrum, ад гр. elektron = янтар) — мінерал класа самародных металаў, прыродны цвёрды раствор золата і серабра.

**ЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЬ** (фр. électriser, ад н.-лац. electricus = электрычны) — 1) перадаваць якому-н. целу электрычны зарад; 2) *перан.* даводзіць каго-н. да ўзбуджанага стану (напр. э. аўдыторыю).

**ЭЛЕКТРЫЗА́ЦЫЯ** (ад фр. électriser = электрызаваць, ад н.-лац. electricus = электрычны) — 1) перадача якому-н. целу электрычнага зараду; 2) лячэнне электрычным токам; 3) змена якасці, стану чаго-н. электрычным токам (напр. э. він).

**ЭЛЕ́КТРЫК** (н.-лац. electricus = электрычны) — спецыяліст у галіне *электратэхнікі*.

**ЭЛЕКТРЫ́К** (фр. électrique, ад н.-лац. electricus = электрычны) — блакітны колер з шэрым адценнем (напр. сапфір колеру э.).

**ЭЛЕ́КТРЫКА** (н.-лац. electricus = электрычны, ад гр. elektron = янтар) — *разм.* электрычнасць; электрычнае асветленне.

**ЭЛЕКТРЫ́НА** [ад *элек(трон)* + *(ней)трына*] — гіпатэтычная элементарная часціца з электрычным зарадам, што роўны зараду электрона, і нулявой масай спакою.

**ЭЛЕКТРЫФІКА́ЦЫЯ** [ад *электры(чнасць)* + *-фікацыя*] — 1) шырокае прымяненне электрычнай энергіі ў вытворчасці і ў побыце; 2) перавод чаго-н. на электрычную энергію (напр. э. чыгуначных ліній).

**ЭЛЕКТРЫ́ЧНАСЦЬ** (ад н.-лац. electricus = электрычны) — 1) *фіз.* сукупнасць з'яў, у якіх выяўляецца існаванне, рух і ўзаемадзеянне электрычных зарадаў (напр. атмасферная э.); 2) раздзел *фізікі*, які вывучае электрычныя з'явы; 3) энергія электрычнага току, якая выкарыстоўваецца ў гаспадарчых і бытавых мэтах.

**ЭЛЕКТРЫ́ЧНЫ** (н.-лац. electricus) — 1) які мае адносіны да электрычнасці, уласцівы ёй (напр. э. зарад, э. ток); 2) які выпрацоўвае электрычнасць, перадае яе (напр. э-ая станцыя); 3) які дзейнічае пры дапамозе электрычнасці (напр. э. матор); 4) які выконваецца пры дапамозе электрычнасці (напр. э-ая зварка); 5) які служыць для вырабу апаратуры, што працуе на электрычнасці (напр. э-ая прамысловасць); 6) які мае орган, што ўтварае разрады электрычнасці (напр. э. скат).

**ЭЛЕКТРЭ́Т** (англ. electret) — *дыэлектрык*, даведзены да васковага стану і зацвярдзелы ў электрычным полі, які здольны сам ствараць электрычнае поле і пасля спынення *электрызацыі*.

**ЭЛЕКТЫ́ЎНЫ** (фр. électif, ад лац. electus = выбраны) — выбарчы.

**ЭЛЕМЕ́НТ** (лац. elementum = стыхія, першапачатковае рэчыва) — 1) простае рэчыва, якое хімічнымі спосабамі ўжо нельга раскласці на больш дробныя; 2) састаўная частка чаго-н.; дэталь якога-н. механізма; 3) доля чаго-н. у чым-н. (напр. усходнія элементы ў паэзіі); 4) член сацыяльнай групы (напр. прагрэсіўныя элементы грамадства, злачынныя элементы).

**ЭЛЕМЕНТА́РНЫ** (лац. elementarius) — 1) зыходны, пачатковы (напр. э-ая матэматыка); 2) прасцейшы, нескладаны (напр. э-ая схема); 3) асноўны, самы неабходны (напр. э-ыя ўмовы); 4) звязаны з вызначэннем саставу элементаў у чым-н., найменшы (напр. э-ыя часціцы).

**ЭЛЕМЕ́НТЫ-ІНДЫКА́ТАРЫ** (ад *элемент* + *індыкатар*) — прыродныя хімічныя элементы, характэрныя для пэўных геалагічных аб'ектаў і працэсаў, а таксама месцаў знаходжання карысных выкапняў.

**ЭЛЕ́НІУМ** (лац. elenium, ад гр. elenion = чысцец) — лекавы прэпарат, які ўжываюць пры неўрозах, псіхічных хваробах, пашкоджаннях галаўнога і спіннога мозгу і ў хірургічнай практыцы.

**ЭЛЕРО́Н** (фр. aileron, ад aile = крыло) — рухомы закрылак на задняй частцы крыла самалёта, які засцерагае самалёт ад крэну пры паваротах.

**ЭЛЕЎСІ́НА** (н.-лац. eleusine) — расліна сям. злакавых, пашыраная

ў тропіках і субтропіках; важная харчовая і кармавая культура.

**ЭЛЕЎТЭРАКО́К** (н.-лац. eleutherococcus, ад гр. eleutheros = вольны + kokkos = костачка) — кустовая расліна сям. араліевых з пакрытымі калючкамі галінкамі і дробнымі жаўтаватымі або лілаватымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая (па дзеянню блізкая да *жэньшэня*).

**ЭЛЕФАНТЫЯ́З** (ад гр. elephas, -antos = слон) — прыроджаная (спарадычная, сямейная) або набытая хвароба, якая характарызуецца стойкім павелічэннем асобных частак цела (рук, ног, твару і інш.); слановасць.

**ЭЛІ́ЗІУМ** [лац. elysium, ад гр. Elysion (pedion) = Елісейскія палі] — 1) у антычнай міфалогіі месца, дзе знаходзяцца душы «праведнікаў» пасля смерці; 2) *перан.* рай.

**ЭЛІ́ЗІЯ** (лац. elisio = выштурхоўванне) — *лінгв.* пропуск канцавога галоснага гуку ў слове, калі наступнае слова пачынаецца з галоснага.

**ЭЛІКСІ́Р** (фр. élixir, ад ар. al-iksir = філасофскі камень) — 1) выцяжка з раслін ці моцны настой чаго-н. на спірце, якія ўжываецца ў медыцыне і касметыцы (напр. зубны э.); 2) фантастычны напітак, які марна шукалі алхімікі як сродак, што нібыта зможа прадоўжыць чалавечае жыццё («э. жыцця»); 3) *жарт.* незвычайны, цудадзейны напітак.

**ЭЛІМІНАВА́ЦЬ** (лац. eliminare = выганяць) — рабіць *элімінацыю* (напр. э. перашкоду, э. невядомы член з ураўнення).

**ЭЛІМІНА́ЦЫЯ** (лац. eliminatio = выдаленне) — 1) выдаленне, ліквідацыя чаго-н.; 2) *мат.* выключэнне невядомага з сістэмы ўраўненняў; 3) гібель арганізмаў па розных прычынах.

**ЭЛІ́МУС** (н.-лац. elymus) — травяністая расліна сям. злакавых з пляскатым або згорнутым лісцем і паніклым лінейным коласам, пашыраная ў нетрапічных зонах; пырэйнік.

**ЭЛІНВА́Р** [ад фр. él(asticité) invar(iable) = нязменная пругкасць] — сплаў на аснове *нікелю*, пругкасць якога пры змене тэмпературы амаль не мяняецца; выкарыстоўваецца для вырабу *камертонаў*, гадзіннікавых спружын, механічных *вібратараў*.

**Э́ЛІНГ** (гал. helling) — 1) збудаванне на беразе са спецыяльным нахільным фундаментам (стапелем), дзе закладваецца і будуецца корпус судна; 2) памяшканне для *дырыжабляў* і *аэрастатаў*, 3) памяшканне на воднай станцыі для захоўвання спартыўных суднаў.

**ЭЛІНІ́ЗМ** (гр. hellinismos, ад Hellen = грэк) — 1) эпоха росквіту змешанай грэка-ўсходняй культуры, якая наступіла пасля заваяванняў Аляксандрам Македонскім на Усходзе; 2) *лінгв.* слова ці словазлучэнне, запазычанае са старажытнагрэчаскай мовы.

**ЭЛІО́НІКА** [ад *эл(ектрон)* + *іон*] — раздзел *электронікі*, які вывучае з'явы, звязаныя з узаемадзеяннем электронных і іонных пучкоў з рэчывам і прымяненнем гэтых пучкоў у тэхналагічных працэсах вырабу электронных прыбораў.

**Э́ЛІПС, Э́ЛІПСІС** (гр. elleipsis = пропуск) — 1) *мат.* замкнёная

крывая лінія, сума адлегласцей кожнага пункта якой ад двух' дадзеных пунктаў застаецца заўсёды пастаяннай, а таксама абрысы прадмета, якія напамінаюць такую крывую; 2) *лінгв.* рытарычная фігура, якая заключаецца ў пропуску якога-н. члена сказа, што лёгка падразумяваецца.

**ЭЛІПСО́ГРАФ** (ад *эліпс* + *-граф*) — інструмент для вычэрчвання эліпса.

**ЭЛІПСО́ІД** (ад *эліпс* + *-оід*) — *мат.* паверхня, якая ўтвараецца пры вярчэнні эліпса вакол адной з яго восей.

**ЭЛІПТЫ́ЧНЫ** (гр. elleiptikos) — які мае форму *эліпса*, адносіцца да эліпса (напр. э-ыя галактыкі, э-ая геаметрыя).

**ЭЛІ́ТА** (фр. élite) — 1) адборныя расліны або жывёлы, пакінутыя для вывядзення сорту ці пароды (напр. э. пшаніцы); 2) лепшыя прадстаўнікі якой-н. часткі грамадства (напр. тэатральная э.); 3) група асоб, якая ажыццяўляе кіруючыя функцыі ў грамадстве (правячая э.).

**ЭЛІ́ТРЫ** (н.-лац. elytrae, ад гр. elytron = футляр, ножны) — надкрыллі, ушчыльненыя пярэднія крылы насякомых.

**ЭЛЬ**[1] (англ. ale) — светлае, густое і моцнае англійскае піва з ячменнага соладу.

**ЭЛЬ**[2] (ад ням. Ellbogen = локаць) — адзінка даўжыні ў Аўстрыі, Галандыі, Англіі (ад 68,78 да 114 см).

**ЭЛЬДАРА́ДА** (ісп. el dorado = залатая краіна) — 1) міфічная краіна, багатая на золата і каштоўныя камяні, якую шукалі на тэрыторыі Лац. Амерыкі іспанскія заваёўнікі; 2) *перан.* краіна казачных багаццяў і цудаў.

**ЭЛЬЗЕВІ́Р** [гал. Elsevier = прозвішча сям'і гал. выдаўцоў 16 — пач. 18 ст.; найбольш вядомыя Ладэвейк (1540—1617), Ісаак (1596—1751)] — 1) кніга, надрукаваная ў галандскіх друкарнях 16 — пач. 18 ст., што належала сям'і друкароўвыдаўцоў Эльзевіраў; 2) старажытны, вельмі вытанчаны друкарскі шрыфт.

**ЭЛЬСГО́ЛЬЦЫЯ** (н.-лац. elsholtzia) — травяністая расліна сям. ясноткавых з чаранковым лісцем і дробнымі ліловa-пурпуровымі кветкамі ў густых коласападобных суквеццях, пашыраная пераважна ва Усх. Азіі; на Беларусі трапляецца адзін від паблізу жылля (народныя назвы — меліса, падтынная мята).

**ЭЛЬФ** (ням. Elf, ад англ. elf) — добразычлівы да людзей дух прыроды ў заходнееўрапейскай міфалогіі.

**ЭЛЮ́ВІЙ** (н.-лац. eluvium, ад лац. eluere = вымываць) — прадукты выветрывання горных парод у выглядзе дробных вуглаватых часцінак і абломкаў, якія паступова пераходзяць у карэнныя пароды.

**ЭЛЮЕ́НТ** (лац. eluens, -ntis = які вымывае) — растваральнік, які выцясняе пэўныя рэчывы з храматаграфічнай калоны.

**ЭЛЮЯВА́ЦЬ** (лац. eluere = вымываць) — вымываць рэчывы з храматаграфічнай калоны.

**ЭМА́ЛЬ** (фр. émail) — 1) шклопадобная маса для пакрыцця металічных прадметаў з мэтай захаваць іх ад акіслення, а таксама глазура для пакрыцця мастацкіх вырабаў; 2) паверхня з такога рэчыва ці слой яго на чым-н., а таксама мас-

тацкі выраб, пакрыты такой масай; 3) цвёрдае рэчыва, якое пакрывае знешнюю частку зубоў.

**ЭМАЛЬЕ́Р** (фр. émailleur) — майстар па вырабу *эмалі*.

**ЭМА́Н** (лац. emano = выцякаю) — адзінка *радыеактыўнасці*, роўная $10^{10}$ кюры/л.

**ЭМАНА́ЦЫЯ** (лац. emanatio = выцяканне) — 1) выпраменьванне, выдзяленне чаго-н. (напр. э. газаў); 2) тое, што выпраменьваецца, выдзяляецца; 3) першапачатковая назва *радону*.

**ЭМАНО́МЕТР** (ад лац. emanare = выцякаць + *-метр*) — прыбор для вымярэння *эманацыі* рэчываў.

**ЭМАНСІПА́ЦЫЯ** (лац. emancipatio) — вызваленне ад залежнасці, прыгнёту, забабонаў; ураўноўванне ў правах (напр. э. жанчын).

**ЭМАНСІПІ́РАВАЦЬ** (лац. emancipare) — праводзіць *эмансіпацыю*.

**ЭМАТЫВІ́ЗМ** (ад англ. emotive = які выклікае эмоцыі) — этычная тэорыя лагічнага *пазітывізму*, якая сцвярджае, што маральныя суджэнні і паняцці не з'яўляюцца ні ісціннымі, ні лжывымі, а служаць толькі для выражэння *эмоцый*.

**ЭМАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад *эмоцыі*) — 1) выкліканы эмоцыямі, напоўнены эмоцыямі (напр. э-ая прамова); 2) здольны жыва рэагаваць на што-н.; не разважны, нястрыманы (напр. э. характар).

**ЭМБАЛАТЭ́РЫЙ** (ад гр. embole = таран + *-тэрый*) — вельмі буйное няпарнакапытнае млекакормячае з групы *брантатэрыяў*, якое жыло ў *алігацэнавую* эпоху ў Цэнтр. Азіі і мела на мордзе касцявы выраст, падобны да тарана.

**ЭМБАЛІ́Я** (н.-лац. embolia, ад лац. embolus = клін < гр. embolos = нешта ўстаўленае) — закупорванне крывяноснага сасуда якой-н. густой часцінкай, занесенай крывёю; бывае пры пароках сэрца, тромбафлебіце і інш.

**ЭМБА́РГА** (ісп. embargo) — 1) забарона на ўвоз у краіну ці вываз за яе межы золата або іншаземнай валюты, асобных відаў тавараў, напр. зброі; 2) затрыманне суднаў і грузаў, якія належаць іншай дзяржаве, у сувязі з палітычнымі ўскладненнямі.

**ЭМБЛЕ́МА** (гр. emblema = рэльефная аздоба) — умоўнае або сімвалічнае выражэнне якога-н. паняцця, ідэі (напр. пяць кольцаў — э. Алімпійскіх гульняў).

**ЭМБРЫЁЛАГ** (ад *эмбрыялогія*) — спецыяліст па эмбрыялогіі.

**ЭМБРЫЁН** (гр. embryon) — 1) зародак чалавека або жывёлы; 2) *перан.* зараджэнне, пачатковая стадыя чаго-н.

**ЭМБРЫЯАДАПТА́ЦЫЯ** (ад *эмбрыён* + *адаптацыя*) — прыстасаванне зародка або лічынкі да ўмоў іх існавання, якія не праяўляюцца ў асаблівасцях будовы дарослага арганізма.

**ЭМБРЫЯГЕНЕ́З** (ад *эмбрыён* + *-генез*) — працэс *эмбрыянальнага* развіцця арганізмаў.

**ЭМБРЫЯЛО́ГІЯ** (ад *эмбрыён* + *-логія*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае *эмбрыянальнае* развіццё арганізмаў.

**ЭМБРЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад *эмбрыён*) — 1) які мае адносіны да эмбрыёна; зародкавы; 2) *перан.* які знаходзіцца ў самым пачатку свайго развіцця.

**ЭМБРЫЯТАКСІ́ЧНАСЦЬ** (ад *эмбрыён + таксічнасць*) — здольнасць некаторых хімічных рэчываў пры пранікненні ў арганізм цяжарнай жанчыны выклікаць гібель эмбрыёна.

**ЭМБРЫЯТАМІ́Я** (ад *эмбрыён + -тамія*) — акушэрская аперацыя, якая заключаецца ў рассячэнні плода ў поласці маткі і выдаленні яго па частках.

**Э́МЕР** (ням. Emmer) — від пшаніцы з ломкім коласам; полба звычайная.

**ЭМЕРГЕ́НЦЫ** (лац. emergens, -ntis = які выбіваецца) — паверхневыя нарасці на розных органах раслін, якія ўтвараюцца *эпідэрмісам* і тканкамі, што знаходзяцца пад ім (напр. шыпы руж, шыпшыны).

**ЭМЕРДЖЭ́НТНЫ** (англ. emergence = узнікненне, ад лац. emergere = з'яўляцца); э - а я э в а л ю ц ы я — ідэалістычная канцэпцыя, якая разглядае развіццё як скачкападобны працэс, пры якім узнікненне новых якасцей абумоўлена ўмяшаннем ідэальных сіл.

**ЭМЕРЫТУ́РА** (ад лац. emeritus = заслужаны) — *пенсія* звольненым у адстаўку дзяржаўным служачым, дапамога ўдовам, сіротам у некаторых краінах, напр. у Польшчы, царскай Расіі.

**ЭМЕРЫЦЭЛО́ПСІС** (н.-лац. emericellopsis) — сумчаты грыб сям. еўроцыевых, які развіваецца ў глебе і ў вадзе.

**ЭМЕТРАПІ́Я** (ад гр. emmetros = суразмерны + ops, opos = вока) — пераламляльная здольнасць вока, пры якой чалавек добра бачыць і далёкія і блізкія прадметы (параўн. *гіперметрапія* і *міяпія*).

**ЭМІГРА́НТ** (лац. emigrans, -ntis) — асоба, якая перасялілася са сваёй краіны ў чужую па палітычных, эканамічных, рэлігійных ці іншых прычынах (параўн. *імігрант* 1).

**ЭМІГРА́ЦЫЯ** (лац. emigratio) — 1) перасяленне людзей з краіны, дзе яны жылі, у чужую краіну па палітычных, эканамічных, рэлігійных ці іншых прычынах і пражыванне там пасля перасялення (параўн. *іміграцыя*); 2) сукупнасць ураджэнцаў іншай краіны, якія пражываюць у дадзенай краіне ў якасці яе грамадзян; 3) тое, што і *дыяспара*.

**ЭМІГРЫ́РАВАЦЬ** (лац. emigrare) — перасяляцца са сваёй краіны ў чужую па палітычных, эканамічных, рэлігійных ці іншых прычынах (параўн. *імігрыраваць*).

**ЭМІ́ЛІЯ** (н.-лац. emilia) — травяністая расліна сям. складанакветных з ярка-чырвонымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках Азіі, Афрыкі, Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭМІНЕ́НЦЫЯ** (лац. eminentia = перавага, дасканаласць) — 1) *тытул* духоўных *курфюрстаў* і *гросмайстра* ордэна *госпітальераў*, які існаваў да 17 ст.; 2) тытул каталіцкіх епіскапаў і кардыналаў.

**ЭМІ́Р** (ар. amir = уладар) — тытул правіцеля ў некаторых мусульманскіх краінах Усходу і Афрыкі.

**ЭМІРА́Т** (ад *эмір*) — 1) феадальная дзяржава, на чале якой стаіць эмір; 2) сістэма дзяржаўнага кіравання ў феадальных мусульманскіх краінах.

**ЭМІСА́Р** (лац. emissarius = пасланец) — асоба, якую пасылаюць неафіцыйна ў іншую краіну з сакрэтным палітычным даручэннем.

# Э

**ЭМІСІ́ЙНЫ** (ад *эмісія*) — 1) звязаны з *эмісіяй* 1; э. б а н к — банк, які валодае манапольным правам выпуску папяровых грошай і каштоўных папер; 2) які дзейнічае пры дапамозе *эмісіі* 2 (напр. электронная э.).

**ЭМІ́СІЯ** (лац. emissio = выпуск) — 1) выпуск у абарачэнне папяровых грошай і каштоўных папер (напр. інфляцыйная э.); 2) выпрамяненне электронаў або іонаў цвёрдых ці вадкіх цел пад уздзеяннем награвання, асвятлення і інш.

**ЭМІТАВА́ЦЬ** (лац. emittere = выпускаць) — 1) выпускаць у абарачэнне папяровыя грошы, каштоўныя паперы; 2) *фіз.* выпраменьваць *электроны* або *іоны* пад уздзеяннем награвання, асвятлення і інш.

**ЭМІТЭ́НТ** (лац. emittens, -ntis = які выпускае) — дзяржава, банк або ўстанова, якая выпускае ў абарот папяровыя грошы, каштоўныя паперы.

**ЭМІ́ТЭР** (англ. emitter, ад лац. emittere = выпускаць) — 1) выпраменьвальнік; 2) *электрод*, які з'яўляецца крыніцай *электронаў* у выніку награвання яго, дзеяння электрычнага поля і інш.

**-ЭМІЯ, -ЕМІЯ** (гр. haima = кроў) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «захворванне крыві».

**ЭМО́ЦЫІ** (фр. emotion, ад лац. emovere = хваляваць) — душэўныя перажыванні, пачуцці, хваляванні (напр. э. радасць, э. страху).

**ЭМПІЕ́МА** (гр. empyema = нарыў, гнайнік) — скапленне гною ў якой-н. поласці арганізма (напр. э. плеўры, э. жоўцевага пузыра).

**ЭМПІРЫ́ЗМ** (фр. empirisme, ад гр. empeiria = вопыт) — філасофскі кірунак, які прызнае пачуццёвае ўспрыманне і вопыт адзінай крыніцай пазнання і прыніжае значэнне лагічнага аналізу і тэарэтычных абагульненняў.

**ЭМПІ́РЫК** (гр. empeirikos) — паслядоўнік *эмпірызму*.

**ЭМПІРЫ́ЧНЫ** (гр. empeirikos) — 1) які мае адносіны да *эмпірызму*, уласцівы эмпірызму; 2) заснаваны на *эмпірыі*; вопытны.

**ЭМПІРЫ́Я** (гр. empeiria = вопыт) — 1) чалавечы вопыт, успрыманне знешняга свету органамі пачуццяў; 2) назіранне ў натуральных умовах у адрозненне ад *эксперыменту*.

**ЭМПІРЫЯКРЫТЫЦЫ́ЗМ** (ад гр. empeiria = вопыт + *крытыцызм*) — суб'ектыўна-ідэалістычная плынь у філасофіі канца 19 — пач. 20 ст., якая адмаўляла існаванне аб'ектыўнай рэчаіснасці і разглядала вопыт як суму перажыванняў чалавека.

**ЭМПІРЫЯМАНІ́ЗМ** (ад гр. empeiria = вопыт + *манізм*) — разнавіднасць *эмпірыякрытыцызму*, якая зводзіла фізічнае да псіхічнага, сцвярджала, што свет з'яўляецца адзіным арганізаваным вопытам.

**ЭМПІРЫЯСІМВАЛІ́ЗМ** (ад гр. empeiria = вопыт + *сімвалізм*) — разнавіднасць *эмпірыякрытыцызму*, якая разглядала свет як сукупнасць *сімвалаў* вопыту.

**ЭМПІРЭ́Й** (ад гр. empyros = вогненны) — 1) паводле ўяўлення старажытных грэкаў і ранніх хрысціян, самая высокая частка неба, напоўненая агнём і святлом, дзе жывуць багі, святыя; 2) *перан.* сфера мар, летуценнасці; л у -

н а ц ь  у  э м п і р э я х — аддавацца далёкім ад жыцця марам, летуценням.

**Э́МУ** (парт. ema, з моў Акіяніі) — вялікая птушка групы бескілявых з буравата-шэрым апярэннем і доўгімі трохпальцымі нагамі; аўстралійскі *страус*.

**ЭМУЛЬГАВА́ЦЬ** (лац. emulgere = даіць) — наносіць эмульсію на якую-н. паверхню для засцярогі яе ад пашкоджання.

**ЭМУЛЬГА́ТАРЫ** (ад лац. emulgere = даіць) — рэчывы, якія садзейнічаюць утварэнню *эмульсій* і павышэнню іх устойлівасці (напр. мыла, жэлацін).

**ЭМУЛЬСІ́Н** (ад лац. emulsus = выдаены) — бялковае рэчыва, якое змяшчаецца ў *міндалі*.

**ЭМУ́ЛЬСІЯ** (н.-лац. emulsio, ад лац. emulgere = даіць) — 1) вадкасць, у якой нерастваральныя ў вадзе эфірныя алеі, бальзамы і іншыя вадкасці знаходзяцца ў выглядзе драбнюткіх кропелек; 2) святлоадчувальны слой на фотапласцінках, плёнках, паперы.

**ЭМУЛЯ́ЦЫЯ** (англ. emulation) — саперніцтва, імкненне перасягнуць у чым-н. адзін другога.

**ЭМФА́ЗА** (гр. emphasis = выразнасць) — эмацыянальна-экспрэсіўнае вылучэнне часткі выказвання шляхам інтанацыі, паўтарэння, парадку слоў і г.д.

**ЭМФАТЫ́ЧНЫ** (гр. emphatikos) — 1) *лінгв.* які вымаўляецца з асобым напружаннем (э-ыя гукі); 2) эмацыянальна выразны (э-ая гаворка).

**ЭМФІЗЭ́МА** (гр. emphysema = уздуцце) — *мед.* празмернае накапленне паветра ў якіх-н. органах, тканках арганізма (напр. э. лёгкіх, падскурная э.).

**ЭМФІТЭ́ЎЗІС** (лац. emphyteusis) — асобны від спадчыннага доўгатэрміновага карыстання чужой зямлёй у радзе краін.

**ЭНАЛІ́ДЫ** (ад гр. enalios = марскі) — падводныя расліны, якія растуць на глеістых узбярэжжах мораў.

**ЭНА́НТ** (гр. enantios = процілеглы) — разнавіднасць сінтэтычнага валакна з *поліамідаў*, выкарыстоўваецца для вырабу *корду*, электраізаляцыйных матэрыялаў, тэкстыльных вырабаў.

**ЭНАНТЫЯМАРФІ́ЗМ** (ад гр. enantios = процілеглы + *-марфізм*) — уласцівасць некаторых крышталёў існаваць у *мадыфікацыях*, якія з'яўляюцца люстранымі адбіткамі адзін другога.

**ЭНАНТЫЯМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. enantios = процілеглы + *-метрыя*) — від *ізамерыі* хімічных злучэнняў, малекулы якіх асіметрычныя.

**ЭНАНТЭ́МА** (ад гр. en = у, на + anthema = высыпка) — высыпка на слізістых абалонках рота, носа, унутраных органаў, якая назіраецца пры некаторых інфекцыйных захворваннях (параўн. *экзантэма*).

**ЭНАПЛІ́ДЫ** (н.-лац. enoplida) — атрад чарвей класа *нематодаў*, жывуць у морах, прэсных вадаёмах і ў глебе.

**ЭНАРГІ́Т** (ад гр. enarges = відавочны, ясны) — мінерал падкласа складаных *сульфідаў* ад чорнага да сталёва-шэрага колеру; руда медзі і мыш'яку.

**ЭНАТЭ́РА** (н.-лац. oenothera, ад гр. oinotheras) — травяністая расліна сям. скрыпнёвых з зубчастым лісцем і буйнымі жоўтымі пахучы-

# Э

мі кветкамі ў аблісцелых суквеццях, пашыраная ў Амерыцы; на Беларусі заносная; лекавая і дэкаратыўная; аслінік.

**ЭНАФТА́ЛЬМ** (ад гр. en = у, на + ophthalmos = вока) — западанне вочнага яблыка ў вочную яму пры траўмах вока, пры *атрафіі* тлушчавай клятчаткі вочнай ямы і інш. (параўн. *экзафтальм*).

**ЭНА́ЦЫІ** (ад лац. enatus = які вырас) — нарасты на восевым органе некаторых вышэйшых раслін, напр. папаратнікаў.

**ЭНВІРО́НІКА** (ад англ. environs = акружэнне) — комплекс навукова-тэхнічных ведаў пра ўплыў навакольнага асяроддзя на чалавека і абарону ад яго.

**ЭНГАРМАНІ́ЗМ** (ад гр. enarmonios = злучаны ў гармонію, ад en = у, на + harmonia = сугучнасць) — атаясамліванне гукаў (інтэрвалаў, акордаў і інш.), якія маюць аднолькавую вышыню, але розную назву.

**ЭНДА-** (гр. endon = унутры) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «ўнутраны».

**ЭНДАГА́МІЯ** (ад *энда-* + *-гамія*) — характэрны для першабытнаабшчыннага ладу звычай, які дазваляў шлюб толькі паміж членамі адной грамадскай групы (племені, часам роду); параўн. *экзагамія* 1; 2) зліццё палавых клетак блізкароднасных асобін, *інбрыдзінг* (параўн. *экзагамія* 2).

**ЭНДАГЕ́ННЫ** (ад *энда-* + *-генны*) — які тлумачыцца ўнутранымі прычынамі (проціл. *экзагенны*); э-ы я працэсы — геалагічныя працэсы, якія адбываюцца ў нетрах Зямлі і абумоўлены яе ўнутранай энергіяй, сілай цяжару і сіламі, якія ўзнікаюць пры вярчэнні Зямлі.

**ЭНДАГЕНО́ТА** (ад *энда-* + *ген*) — сукупнасць генаў *рэцыпіента* пры ўсіх формах пераносу генетычнага матэрыялу ў бактэрый (параўн. *экзагенота*).

**ЭНДАДЭ́РМА** (ад *энда-* + *дэрма*) — 1) слой клетак у сцёблах і каранях раслін, які акружае ўсе ўнутраныя тканкі; 2) тое, што і *энтадэрма* 2.

**ЭНДАЗААХО́РЫЯ** (ад *энда-* + *заахорыя*) — спосаб распаўсюджання насення раслін жывёламі разам з калам апошніх.

**ЭНДАКА́РД, ЭНДАКА́РДЫЙ** (ад *энда-* + гр. kardia = сэрца) — слой *эпітэлію*, які высцілае ўнутры поласць сэрца.

**ЭНДАКАРДЫ́Т** (ад *эндакард*) — запаленне эндакарда.

**ЭНДАКА́РПІЙ** (ад *энда-* + гр. karpos = плод) — унутраная частка плода ў раслін (напр. костачка ў пладах вішні, слівы і інш.); параўн. *экзакарпій*.

**ЭНДАКІНЕМАТАГРА́ФІЯ** (ад *энда-* + *кінематаграфія*) — кінематаграфіраванне поласцей цела чалавека і жывёл, якое выкарыстоўваюць з мэтай *дыягностыкі*.

**ЭНДАКРЫНАЛО́ГІЯ** (ад *энда-* + гр. krino = аддзяляю + *-логія*) — раздзел *фізіялогіі* і *медыцыны*, які вывучае будову і функцыі *эндакрынных* залоз, распрацоўвае метады лячэння хвароб, выкліканых парушэннем іх дзейнасці.

**ЭНДАКРЫНАПА́ТЫЯ** (ад *энда-* + гр. krino = аддзяляю + *-патыя*) — агульная назва хвароб, якія выклікаюцца парушэннем дзейнасці *эндакрынных* залоз.

**ЭНДАКРЫ́ННЫ** (ад *энда-* + гр. krino = аддзяляю) — унутранасакраторны; э - ы я з а л о з ы — залозы, якія выдзяляюць прадукты сваёй дзейнасці непасрэдна ў кроў або лімфу (*гіпофіз*, *эпіфіз*, наднырачнікі і іншыя залозы); параўн. *экзакрынны*.

**ЭНДАКРЫНО́ЛАГ** (ад *энда-* + гр. krino = аддзяляю + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *эндакрыналогіі*.

**ЭНДАЛІ́МФА** (ад *энда-* + *лімфа*) — вадкасць, якая запаўняе *лабірынт* унутранага вуха.

**ЭНДАМЕТРЫ́Т** (ад *энда-* + *метрыт*) — запаленне слізістай абалонкі маткі.

**ЭНДАМІ́КСІС** (ад *энда-* + *-міксіс*) — *рэарганізацыя* ў *інфузорый* ядзернага апарата, якая адбываецца без *кан'югацыі*.

**ЭНДАМІТО́З** (ад *энда-* + *мітоз*) — разнавіднасць мітозу, пры якой адбываецца кратнае павелічэнне колькасці *храмасом* у ядрах клетак раслінных і жывёльных арганізмаў без парушэння цэласнасці ядзернай абалонкі.

**ЭНДАМІ́ЦЭС** (н.-лац. endomyces) — сумчаты грыб сям. эндаміцэтавых, які развіваецца ў глебе, на шапкавых грыбах і пладах памідораў.

**ЭНДАО́СТ** (ад *энда-* + гр. osteon = косць) — валакністая абалонка, якая пакрывае косць з боку ўнутрымазгавой поласці.

**ЭНДАПАРАЗІ́ТЫ** (ад *энда-* + *паразіты*) — паразіты, якія жывуць унутры жывёльнага або расліннага арганізма (напр. глісты).

**ЭНДАПЛА́ЗМА** (ад *энда-* + *плазма*) — унутраны, прылеглы да ядра слой *цытаплазмы* жывёльных і раслінных клетак.

**ЭНДАПО́ФІЗЫ** (ад *энда-* + гр. apophysis = адростак) — адросткі ўнутранай паверхні панцыра ракападобных, якія служаць для прымацавання мускульных пучкоў.

**ЭНДАРАДЫЁЗО́НД** (ад *энда-* + *радыёзонд*) — мініяцюрнае радыёперадавальнае ўстройства ў выглядзе *пілюлі*, якая лёгка глытаецца чалавекам і перадае інфармацыю аб ціску, тэмпературы, кіслотнасці і іншых працэсах у страўніку і кішэчніку.

**ЭНДАРТЭРЫ́Т** (ад *энда-* + *артэрыіт*) — запаленне ўнутранай абалонкі *артэрыі*.

**ЭНДАСАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *энда-* + гр. soma = цела); э - ы я о р г а - н ы — органы, не звязаныя непасрэдна з навакольным асяроддзем.

**ЭНДАСІМБІЁЗ** (ад *энда-* + *сімбіёз*) — сімбіёз арганізмаў аднаго віду.

**ЭНДАСКАПІ́Я** (ад *энда-* + *-скапія*) — агляд унутраных поласцей арганізма (страўніка, стрававода, мачавога пузыра і інш.) *эндаскопам*.

**ЭНДАСКО́П** (ад *энда-* + *-скоп*) — прыбор для *эндаскапіі*.

**ЭНДАСПЕ́РМ** (ад *энда-* + гр. sperma = насенне) — тканка ў насенні раслін, у якой адкладваюцца запасныя пажыўныя рэчывы, што выкарыстоўваюцца зародкам у працэсе яго развіцця.

**ЭНДАСТЫ́ЛЬ** (ад *энда-* + гр. stylos = палачка) — канаўка, размешчаная на брушным баку глоткі ў *ланцэтніка*, лічынак *міног*.

**ЭНДАТАКСІ́НЫ** (ад *энда-* + *таксіны*) — таксіны, якія вызваляюцца пры распадзе мікробаў (параўн. *экзатаксіны*).

# Э

**ЭНДАТРО́ФНЫ** (ад *энда-* + *-трофны*); э-ы я арганізмы — тое, што і *эндапаразіты*.

**ЭНДАТЭ́ЛІЙ** (ад *энда-* + гр. thele = сасок) — клеткі, якія высцілаюць унутраную паверхню крывяносных і лімфатычных сасудаў.

**ЭНДАТЭРМІ́ЧНЫ** (ад *энда-* + *тэрмічны*) — які паглынае цяпло; э-ы я рэакцыі — хімічныя рэакцыі, якія адбываюцца з убіраннем цяпла (напр. разлажэнне вапняку на нягашаную вапну і вуглякіслы газ).

**ЭНДАТЭРМІ́Я** (ад *энда-* + *-тэрмія*) — тое, што і *дыятэрмія*.

**ЭНДАЭКАГЕНЕ́З** (ад *энда-* + *экагенез*) — *біял.* ператварэнне *фітацэнозу* пад уплывам змены асяроддзя самім фітацэнозам.

**ЭНДО́СМАС** (ад *энда-* + *осмас*) — *біял.* прасочванне (*дыфузія*) вадкасцей і некаторых раствораных рэчываў са знешняга асяроддзя ў клетку (проціл. *экзосмас*).

**Э́НДСЫ** (англ. ends = *літар.* канцы) — абрэзкі дошак да 2,4 м даўжыні (параўн. *дылены*).

**Э́НДШПІЛЬ** (ням. Endspiel, ад Ende = канец + Spiel = ігра) — заключная стадыя шахматнай або шашачнай партыі (параўн. *дэбют* 2, *мітэльшпіль*).

**ЭНДЫ́ВІЙ** (н.-лац. endivia) — травяністая расліна сям. складанакветных, якая пашырана пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі інтрадукавана як салатная расліна; цыкорыя салатная.

**ЭНДЭМІ́ЗМ** (ад гр. endemos = мясцовы) — пашыранасць раслін і жывёл толькі ў пэўнай мясцовасці.

**ЭНДЭ́МІКІ** (ад гр. endemos = мясцовы) — расліны або жывёлы, пашыраныя толькі ў пэўнай мясцовасці (параўн. *касмапаліты* 2).

**ЭНДЭМІ́ЧНЫ** (ад гр. endemos = мясцовы) — мясцовы, уласцівы пэўнай мясцовасці або пашыраны ў ёй (напр. э-ыя формы фауны, э-ыя захворванні).

**ЭНДЭМІ́Я** (ад гр. endemos = мясцовы) — абумоўленае прыроднымі фактарамі пастаяннае існаванне інфекцыйнай хваробы ў пэўнай мясцовасці.

**ЭНЕАЛІ́Т** (ад лац. aeneus = медны + *-літ*) — пераходны перыяд ад *неаліту* да бронзавага веку, калі ўпершыню з'явіліся медныя прылады працы; медны век.

**ЭНЕРВА́ЦЫЯ** (ад лац. enervare = стамляць) — нервовае знясіленне.

**ЭНЕРГАБАЛА́НС** (ад *энергія* + *баланс*) — баланс здабывання, перапрацоўкі, транспартавання, размеркавання і ўжывання ўсіх відаў энергетычных рэсурсаў і энергіі ў народнай гаспадарцы.

**ЭНЕРГАСІСТЭ́МА** (ад *энергія* + *сістэма*) — сукупнасць крыніц энергіі і ўстройстваў для яе перадачы і размеркавання.

**ЭНЕРГЕТЫ́ЗМ** (ад гр. energetikos = які датычыць энергіі) — ідэалістычная плынь у філасофіі прыродазнаўства канца 19 — пач. 20 ст., якая лічыць першаасновай свету *энергію*.

**ЭНЕРГЕ́ТЫК** (ад *энергетыка*) — спецыяліст у галіне энергетыкі.

**ЭНЕРГЕ́ТЫКА** (гр. energetikos = які датычыць энергіі) — 1) галіна гаспадаркі, якая ахоплівае энергетычныя рэсурсы, выпрацоўку, пераўтварэнне, перадачу і выкарыстанне розных відаў энергіі; 2) раздзел *фізікі*, які вывучае ўласцівасці энергіі (напр. ядзерная э.).

**ЭНЕ́РГІЯ** (гр. energeia = дзеянне, дзейнасць) — 1) мера руху матэрыі і яе здольнасць выконваць работу; 2) *перан.* рашучасць і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты.

**ЭНЗАО́ТЫЯ** (н.-лац. enzootia, ад гр. en = у, на + zoon = жывёліна) — пашырэнне інфекцыйнай хваробы жывёл на абмежаванай тэрыторыі або *акваторыі* (параўн. *панзаотыя*, *эпізаотыя*).

**ЭКЗІМАЛО́ГІЯ** (ад *энзімы* + *-логія*) — тое, што і *ферменталогія.*

**ЭНЗІМАПА́ТЫІ** (ад *энзімы* + *-патыя*) — спадчынныя захворванні, абумоўленыя адсутнасцю якога-н. *фермента* або зняненнем яго актыўнасці.

**ЭНЗІ́МЫ** (ням. Enzyme, ад гр. en = у, унутры + zyme = закваска) — тое, што і *ферменты.*

**ЭНІГМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. ainigma, -atos = загадка) — незразумелы, загадкавы.

**ЭНКАЛІ́ПТА** (н.-лац. encalypta) — лістасцябловы мох сям. энкаліптавых, які расце на камянях, старых мураваных і бетонных сценах.

**ЭНКАМ'Е́НДА** (ісп. encomienda = даручэнне) — форма эксплуатацыі індзейскага насельніцтва ў іспанскіх калоніях у Амерыцы 16—18 ст.: індзейцы плацілі аброк, адбывалі паншчыну на рудніках, у маёнтках.

**ЭНКАМІЯСТЫ́ЧНЫ** (ад лац. encomium = усхваленне) — *кніжн.* хвалебны, панегірычны.

**ЭНКА́ЎСТЫКА** (гр. enkaustike, ад enkaio = выпальваю) — жывапіс, які выконваецца расплаўленымі васковымі фарбамі.

**ЭНКЛА́Ў** (фр. enclave) — тое, што і *анклаў.*

**ЭНКЛІ́ЗА** (гр. enklisis) — *лінгв.* прымыканне склада ці слова да папярэдняга слова са стратай націску і ўтварэннем адзінага фанетычнага слова.

**ЭНКЛІ́ТЫКА** (гр. enklitike) — *лінгв.* слова, якое не мае ўласнага націску і стаіць пасля націскнога слова, да якога яно прымыкае, утвараючы разам з ім адно фанетычнае цэлае (напр. «там жа», «узяць бы»).

**ЭНКЛІТЫ́ЧНЫ** (гр. enklitikos) — які мае адносіны да *энклітыкі*, з'яўляецца энклітыкай.

**ЭНСТАТЫ́Т** (ад гр. enstates = працаўнік) — мінерал групы *піраксенаў* зеленаватага, жаўтаватага колеру, бывае бясколерны.

**ЭНТА-** (гр. entos = унутры) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «унутраны, унутры».

**ЭНТА́ДА** (н.-лац. entada) — расліна сям. бабовых; *ліяна* з двойчыперыстаскладаным лісцем, якая ў трапічных лясах дасягае вяршалін дрэў.

**ЭНТАДЭ́РМА** (ад *энта-* + *дэрма*) — 1) унутраны зародкавы лісток мнагаклетачных жывёл і чалавека (параўн. *эктадэрма* 1); 2) унутраны слой сценкі цела кішачнаполасцевых (параўн. *эктадэрма* 2).

**ЭНТА́ЗІС** (гр. entasis = напружанне) — патаўшчэнне ствала калоны ў яго сярэдняй частцы, якое стварае ўражанне напружанасці і сцірае аптычную ілюзію ўвогнутасці ствала.

**ЭНТАЙКІ́Я** (ад *энта-* + гр. oikia = дом, сям'я) — разнавіднасць *сінайкіі*, калі адзін з партнёраў жыве ўнутры другога, але перыядычна

выходзіць і харчуецца знешняй ежай.

**ЭНТА́ЛЬПІЯ** (ад гр. enthalpo = награваю) — тэрмадынамічная *функцыя*, роўная суме ўнутранай *энергіі* і здабытку аб'ёму на ціск.

**ЭНТАМА-** (гр. entomon = насякомае) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «насякомае».

**ЭНТАМАБРЫІ́ДЫ** (н.-лац. entomobryidae) — сямейства нагахвостак; жывуць у нізкім травастоі, хмызняку, лясным подсціле, гнілой драўніне, пад камянямі, пад карой і інш.

**ЭНТАМАЛО́ГІЯ** (ад *энтама-* + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае насякомых.

**ЭНТАМАСПО́РЫЙ** (н.-лац. entosporium) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці сеянцаў і саджанцаў грушы, радзей яблыні.

**ЭНТАМАФА́ГІ** (ад *энтама-* + *-фаг*) — жывёлы, якія харчуюцца насякомымі.

**ЭНТАМАФА́УНА** (ад *энтама-* + *фауна*) — сукупнасць відаў насякомых, якія насяляюць пэўную тэрыторыю або жылі ў нейкі перыяд гісторыі Зямлі.

**ЭНТАМАФІЛІ́Я** (ад *энтама-* + *-філія*) — перакрыжаванае апыленне раслін пры дапамозе насякомых; насякомаапыленне (параўн. *арнітафілія*).

**ЭНТАМАФТО́РА** (н.-лац. entomophthora) — ніжэйшы грыб сям. энтамафторавых, які з'яўляецца паразітам насякомых.

**ЭНТАМО́ЗЫ** (ад гр. entomon = насякомае) — інвазійныя хваробы сельскагаспадарчых жывёл, якія выклікаюцца паразітаваннем у іх арганізме насякомых або іх лічынак.

**ЭНТАМО́ЛАГ** (ад *энтамалогія*) — спецыяліст па энтамалогіі.

**ЭНТАРЫ́ЗА** (н.-лац. entorrhiza) — *базідыяльны* грыб сям. тылецыевых, які развіваецца на раслінах сям. сітавых і асаковых.

**ЭНТАСТАДО́Н** (н.-лац. entosthodon) — лістасцябловы мох сям. фунарыевых, які расце на палях, схілах канаў, абочынах дарог.

**ЭНТРАПІ́Я** (гр. entropia = паварот, ператварэнне) — 1) фізічная велічыня, якая характарызуе цеплавы стан цела або сістэмы цел; 2) мера няпэўнасці сітуацыі з канчатковым або цотным лікам зыходаў у тэорыі інфармацыі; 3) *мед*. заварот павек унутр.

**ЭНТУЗІЯ́ЗМ** (гр. enthusiasmos) — высокая ступень натхнення, душэўны ўздым.

**ЭНТУЗІЯ́СТ** (гр. enthusiastes) — чалавек, ахоплены *энтузіязмам*, натхнёны чым-н.

**ЭНТЫЛО́МА** (н.-лац. entyloma) — *базідыяльны* грыб сям. тылецыевых, які развіваецца на раслінах сям. злакавых, складанакветных, казяльцовых, парасонавых.

**ЭНТЫМЕ́МА** (гр. enthymema) — няпоўнасцю (скарочана) прыведзены *аргумент* (меркаванне, вывад, доказ і г.д.), адсутныя часткі якога падразумяваюцца як відавочныя.

**ЭНТЭЛЕ́ХІЯ** (гр. entelecheia = здзяйсненне) — паняцце філасофіі Арыстоцеля, якое абазначае ажыццяўленне якой-н. магчымасці быцця, а таксама рухаючы фактар гэтага ажыццяўлення.

**ЭНТЭЛО́ДАН** (ад гр. enteles = закончаны + odus, odontos = зуб) — вялікая свінападобная жывёла *па-*

*леагенавага* перыяду, якая жыла ў Паўн. паўшар'і і мела найбольш поўны (закончаны) зубны рад для млекакормячых.

**ЭНТЭРА-** (гр. enteron = кішка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая ўказвае на сувязь з кішэчнікам.

**ЭНТЭРАБАКТЭ́РЫІ** (ад *энтэра-* + *бактэрыі*) — сямейства палачкападобных бактэрый; жывуць пераважна ў кішэчным тракце чалавека і жывёл, вадзе і глебе.

**ЭНТЭРАБІЁЗ** (ад *энтэра-* + *-біёз*) — глісная хвароба чалавека, якая выклікаецца паразітаваннем дробных белых чарвей (вастрыц) і характарызуецца скурным зудам у вобласці задняга праходу.

**ЭНТЭРАВІ́РУСЫ** (ад *энтэра-* + *вірусы*) — род вірусаў сям. *пікарнавірусаў*, кішэчныя вірусы жывёл і чалавека.

**ЭНТЭРАКАЛІ́Т** (ад *энтэра-* + *каліт*) — агульнае паражэнне тонкага і тоўстага кішэчніка.

**ЭНТЭРАКІНА́ЗА** (ад *энтэра-* + *кіназа*) — *фермент* кішэчнага соку, якіператварае неактыўнае рэчыва, што выпрацоўваецца падстраўнікавай залозай, у *трыпсін*.

**ЭНТЭРАКО́КІ** (ад *энтэра-* + *кокі*) — шарападобныя *бактэрыі*, якія жывуць у кішэчніку жывёл і чалавека і выклікаюць *энтэрыты*, *каліты*, *эндакардыт*.

**ЭНТЭРАПТО́З** (ад *энтэра-* + *-птоз*) — апусканне органаў у брушной поласці.

**ЭНТЭРАСЕПТО́Л** (ад *энтэра-* + septos = гнойны + *-ол*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры кішэчных захворваннях.

**ЭНТЭРАЦЫ́ТЫ** (ад *энтэра-* + *-цыты*) — клеткі прызматычнага *эпітэлію*, размешчаныя ў адзін слой на паверхні варсінак тонкага кішэчніка жывёл і чалавека.

**ЭНТЭРЫ́Т** (ад гр. enteron = кішка) — запаленне слізістай абалонкі тонкіх кішак.

**ЭНУКЛЕА́ЦЫЯ** (ад лац. enucleare = даставаць ядро з арэха) — *аперацыя* па выдаленню вочнага яблыка пры ўнутрывочнай злаякаснай пухліне.

**ЭНУРЭ́З** (ад гр. enurio = выпускаю мачу) — нетрыманне мачы пры прыроджаных *анамаліях* мачавой сістэмы, захворваннях і пашкоджаннях нервовай сістэмы.

**-ЭНХІМА** (гр. enchyma = *літар.* налітая, сакаўная) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае жывую тканку.

**ЭНХІТРЭІ́ДЫ** (н.-лац. enchytraeidae) — сямейства кольчатых чарвей класа малашчацінкавых; пашыраны ў глебе і водах.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ́ЗМ** (фр. encyclopedisme, ад гр. enkyklopaideia = круг ведаў) — шырокая ўсебаковая *адукацыя*, дасведчанасць у розных галінах ведаў.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ́СТ** (фр. encyclopediste) — 1) усебакова адукаваны чалавек, дасведчаны ў розных галінах ведаў; 2) член групы перадавых французскіх мысліцеляў, аб'яднаных вакол «Энцыклапедыі», якую ў 1751—1780 гг. выдавалі Д.Дзідро і Ж.Д'Аламбер.

**ЭНЦЫКЛАПЕ́ДЫЯ** (фр. encyclopedie, ад гр. enkyklopaideia = круг ведаў) — навуковы даведачны дапаможнік у форме слоўніка, дзе звычайна даюцца асноўныя звесткі па ўсіх або па асобных галінах ведаў.

# Э

**ЭНЦЫ́КЛІКА** (лац. encyclicus, ад гр. enkyklios = кругавы) — афіцыйнае пасланне рымскага папы да ўсіх католікаў або да вернікаў якой-н. адной краіны па пытаннях рэлігіі, маралі, палітыкі, выхавання і інш.

**ЭНЦЭ́ЛІЯ** (н.-лац. encoelia) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які развіваецца на адмерлых галінках дрэў і кустоў.

**ЭНЦЭФАЛАГРА́МА** (ад гр. enkephalos = мозг + *-грама*) — тое, што і *электраэнцэфалаграма*.

**ЭНЦЭФАЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. enkephalos = мозг + *-графія*) — метад рэнтгенаграфічнага даследавання галаўнога мозгу, пры якім у поласць чэрапа ўводзяць паветра, кісларод або спецыяльныя рэчывы, што даюць выразны цень на *рэнтгенаграмах*.

**ЭНЦЭФАЛАМАЛЯ́ЦЫЯ** (ад гр. enkephalos = мозг + malasso = змякчаю) — утварэнне ў галаўным мозгу амярцвелых участкаў у выніку паражэння сасудаў мозгу.

**ЭНЦЭФАЛАМІЭЛІ́Т** (ад гр. enkephalos = мозг + myelos = спінны мозг) — запаленне галаўнога і спіннога мозгу.

**ЭНЦЭФАЛАПА́ТЫЯ** (ад гр. enkephalos = мозг + *-патыя*) — захворванне галаўнога мозгу, звязанае з атручваннем, інфекцыяй, траўмай або іншым незапаленчым паражэннем.

**ЭНЦЭФАЛІ́Т** (ад гр. enkephalos = мозг) — запаленне галаўнога мозгу.

**ЭНЦЭФАЛО́ГРАФ** (ад гр. enkephalos = мозг + *-граф*) — прыбор для рэнтгенаграфічнага даследавання галаўнога мозгу.

**ЭО́ЛАВЫ** (ад гр. Aiolos = імя бога, уладыкі вятроў у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — абумоўлены дзейнасцю ветру (напр. э-ыя наносы, э-ыя ўтварэнні).

**ЭО́Н** (гр. aion = век) — найбольшае падраздзяленне геалагічнай гісторыі Зямлі, якое аб'ядноўвае некалькі *эр*.

**ЭПАЛЕ́Т** (фр. epaulette, ад epaule = плячо) — парадны афіцэрскі пагон, упрыгожаны махрамі, пазументамі і інш. у арміях некаторых краін.

**ЭПАНАГО́ГА** (гр. epanagoge = падвышэнне) — зборнік грэка-рымскага або візантыйскага права, выдадзены ў канцы 9 ст.

**ЭПАНАЛЕ́ПСІС** (гр. epanalepsis = паўтарэнне) — тое, што і *анадыплозіс*.

**ЭПАНІ́М** (гр. eponymos = які мае імя, назву) — 1) першы з дзевяці *архонтаў*, імем якога абазначаўся год у старажытных афінян; 2) асоба, якая дае чаму-н. сваё імя.

**ЭПАПЕ́Я** (гр. epopoiia) — 1) самая буйная форма эпічнай літаратуры; 2) *перан.* шэраг значных падзей, якія ўтвараюць адно цэлае (напр. э. партызанскай барацьбы).

**ЭПА́РХ** (гр. eparchos) — граданачальнік Канстанцінопаля ў часы Візантыйскай імперыі, які ажыццяўляў судова-паліцэйскія функцыі.

**Э́ПАС** (гр. epos = слова, апавяданне) — 1) гераічныя народныя паданні (напр. былінны э.); 2) апавядальны жанр мастацкай літаратуры ў адрозненне ад *лірыкі* ці *драмы*.

**ЭПАТА́Ж** (фр. épatage) — скандальная выхадка.

**ЭПАЦІ́РАВАЦЬ** (фр. epater = здзіўляць) — уражваць, здзіўляць незвычайнымі паводзінамі, скандальнымі ўчынкамі, парушэннем агульнапрынятых норм і правіл.

**ЭПЕЙРАГЕНЕ́З** (ад гр. epeiros = суша + *-генез*) — *геал.* павольныя падніманні і апусканні зямной кары, якія адбываюцца пастаянна пад уплывам працэсаў, што развіваюцца ў падкорных масах.

**ЭПЕЙРАГЕНІ́ЧНЫ** (ад гр. epeiros = суша + genos = паходжанне); э - ы я р у х і — тое, што і *эпейрагенез*.

**ЭПЕЙРАФАРЭ́З** (ад гр. epeiros = суша + phoreo = пераношу) — гарызантальнае перамяшчэнне мацерыкоў, абумоўленае працэсамі, што адбываюцца ў нетрах Зямлі.

**ЭПЕНДЫ́МА** (гр. ependyma = верхняе адзенне) — тонкая абалонка, што высцілае жалудачкі галаўнога мозгу і цэнтральны канал спіннога мозгу.

**ЭПЕНТЭ́ЗА** (гр. epenthesis = устаўка) — *лінгв.* з'яўленне дадатковага гуку ў складзе слова.

**ЭПІ-** (гр. epi = на, над, пры, пасля) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае размяшчэнне зверху ці каля чаго-н., следаванне за чым-н.

**ЭПІАЙКІ́Я** (ад *эпі-* + гр. oikia = дом, сям'я) — разнавіднасць *сінойкіі*, калі партнёр жыве на скуры другога (напр. вусаногія ракі на скуры кітоў і акул).

**ЭПІБАЛІ́Я** (ад гр. epibole = пакрыва, абрастанне) — адна з форм *гаструляцыі*.

**ЭПІБІЁЗ** (ад *эпі-* + *-біёз*) — пасяленне адных арганізмаў на паверхні другіх.

**ЭПІБЛЕ́МА** (гр. epiblema = пакрывала) — покрыўная тканка маладых каранёў раслін, якая мае такое ж паходжанне, як і *эпідэрміз* наземных органаў; па меры росту адмірае і замяняецца *экзадэрмай*.

**ЭПІБРАНХІЯ́ЛЬНЫ** (ад *эпі-* + гр. branchia = жабры); э - ы я б у г а р к і — размешчаныя каля жабраў органы хімічнага адчування ў боканервовых малюскаў.

**ЭПІГЕНЕ́З** (ад *эпі-* + *-генез*) — вучэнне аб зародкавым развіцці арганізмаў як працэсе, які ажыццяўляецца шляхам паслядоўных новаўтварэнняў.

**ЭПІГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (ад *эпі-* + *генетычны*) — які ўтварыўся ў выніку другасных працэсаў (напр. э-ыя радовішчы, э-ыя даліны).

**ЭПІГО́Н** (гр. epigonos = нашчадак) — паслядоўнік якога-н. навуковага, палітычнага, мастацкага кірунку, які прымяняе ідэі сваіх папярэднікаў і нічога не ўносіць новага сам.

**ЭПІГРА́МА** (гр. epigramma = надпіс) — 1) надпіс на помніку, будынку ў старажытных грэкаў, які тлумачыў значэнне прадмета; 2) паэтычны жанр панегірычна-дыдактычнага характару ў старажытнай беларускай літаратуры; 3) кароткі сатырычны верш, у якім дасціпна высмейваецца пэўная асоба ці грамадская з'ява.

**ЭПІ́ГРАФ** (гр. epigraphe = надпіс) — 1) надпіс на помніку ў старажытных грэкаў; 2) *цытата*, якая змяшчаецца ў пачатку твора ці асобнага раздзела і выражае асноўную ідэю твора.

**ЭПІГРА́ФІКА** (ад гр. epigraphe = надпіс) — дапаможная гістарычная і філалагічная дысцыпліна,

якая вывучае старажытныя надпісы на камені, метале, гліне і інш.

**ЭПІДО́Т** (фр. epidote, ад гр. epidotos = прырошчаны) — мінерал класа *сілікатаў* зялёнага або бурага колеру; другасны каштоўны камень.

**ЭПІДУРЫ́Т** (ад *эпі-* + лац. durus = цвёрды) — запаленчы працэс на знешняй паверхні цвёрдай абалонкі спіннога мозгу, які выклікаецца часцей за ўсё *стафілакокам*.

**ЭПІДЫДЫМІ́Т** (ад гр. epididymis = прыдатак яечка) — запаленне прыдатка яечка ў чалавека, якое выклікаецца мікробамі, траўмаю.

**ЭПІДЫЯСКО́П** (ад *эпі-* + гр. diaskopiaomai = гляджу праз што-н.) — аптычны прыбор для праектавання на экран чарцяжоў, малюнкаў, табліц з кніг і *дыяпазітываў*.

**ЭПІДЭМІЁЛАГ** (ад *эпідэміялогія*) — спецыяліст у галіне эпідэміялогіі.

**ЭПІДЭ́МІЯ** (гр. epidemia, ад epi = на, сярод + demos = народ) — шырокае распаўсюджанне якой-н. інфекцыйнай хваробы.

**ЭПІДЭМІЯЛО́ГІЯ** (ад *эпідэмія* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае прычыны ўзнікнення і заканамернасці пашырэння эпідэмій, распрацоўвае меры іх прафілактыкі і ліквідацыі.

**ЭПІДЭРМАФІТО́Н** (н.-лац. epidermophyton) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які з'яўляецца ўзбуджальнікам *эпідэрмафіціі*.

**ЭПІДЭРМАФІЦІ́Я** (ад *эпідэрміс* + гр. phyton = расліна) — грыбковая хвароба, якая паражае пераважна скуру падэшваў і далоняў чалавека, а таксама ногці; выклікаецца *эпідэрмафітонам*.

**ЭПІДЭ́РМІС** (ад *эпі-* + *дэрма*) — 1) знешні, паверхневы слой скуры чалавека і жывёл, які складаецца з *эпітэлію*; 2) покрыўная тканка ліст, сцябла, кораня і іншых органаў раслін.

**ЭПІЗААТАЛО́ГІЯ** (ад *эпізаотыя* + *-логія*) — галіна *ветэрынарыі*, якая вывучае заканамернасці ўзнікнення, пашырэння эпізаотый і распрацоўвае меры барацьбы з імі.

**ЭПІЗААХО́РЫЯ** (ад *эпі-* + *заахорыя*) — спосаб распаўсюджання насення і пладоў раслін жывёламі, калі насенне шчацінкамі, кручкамі прымацоўваецца да поўсці.

**ЭПІЗАДЫ́ЧНЫ** (гр. epeisodios = устаўны, дадатковы) — нерэгулярны, несістэматычны, не звязаны з цэлым.

**ЭПІЗАО́ТЫЯ** (ад *эпі-* + гр. zoon = жывёла) — пашырэнне інфекцыйнай хваробы жывёл на значнай тэрыторыі (параўн. *энзаотыя*, *панзаотыя*).

**ЭПІЗО́Д** (гр. epeisodion = устаўка, дадатак) — 1) выпадак, здарэнне, адзін з момантаў у ходзе падзей; 2) адносна закончаная частка мастацкага твора.

**Э́ПІКА** (гр. epikos = эпічны, ад epos = слова, апавяданне) — сукупнасць *эпічных* твораў.

**ЭПІКА́НТУС** (ад *эпі-* + гр. kanthos = унутраны вугал вока) — асобая складка ля ўнутранага вугла вока, якая ўтворана скурай верхняга павека і прыкрывае слёзны бугарок; характэрна для мангалоіднай расы.

**ЭПІКА́РД, ЭПІКА́РДЫЙ** (ад *эпі-* + гр. kardia = сэрца) — *анат.* унутраны лісток *перыкарда*.

**ЭПІКАРДЫ́Т** (ад *эпікард*) — *мед.* запаленне эпікарда.

**ЭПІКО́КУМ** (н.-лац. epicoccum) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці жоўтага лубіну.

**ЭПІКО́ТЫЛЬ** (ад *эпі-* + гр. kotyle = паглыбленне) — частка сцябла ў расткоў раслін паміж семядолямі і першымі лістамі.

**ЭПІКРУ́ЗА** (гр. epikrusis = выхад) — канцавая частка тактаметрычнага перыяду, што адкрываецца *анакрузай.*

**ЭПІКРЫ́З** (гр. epikrisis = вызначэнне) — заключэнне ўрача ў гісторыі хваробы, якое тлумачыць прычыны хваробы, яе праходжанне, лячэнне і зыход.

**ЭПІКУРЭ́ЕЦ** (гр. epikureios) — 1) паслядоўнік *эпікурэізму,* 2) *перан.* чалавек, які вышэй за ўсё ставіць асабістае задавальненне і асалоду.

**ЭПІКУРЭІ́ЗМ** (ад гр. epikureios) — 1) філасофска-этычнае вучэнне, якое заснавана на сістэме поглядаў старажытнагрэчаскага філосафа Эпікура, для якога разумная асалода — найвышэйшая радасць; 2) светапогляд, які ўзнік на глебе скажонага тлумачэння вучэння Эпікура як імкненне да задавальнення пачуццёвых інстынктаў і дасягнення асабістых выгад; 3) *перан.* схільнасць да пачуццёвага задавальнення, распешчанага жыцця.

**ЭПІЛЕ́ПСІЯ** (гр. epilepsia) — хранічная хвароба галаўнога мозгу, якая выклікае сутаргавыя прыступы са стратай прытомнасці; падучая хвароба.

**ЭПІЛЕ́ПТЫК** (гр. epileptikos) — чалавек, які хварэе на *эпілепсію.*

**ЭПІЛІМНІЁН** (ад *эпі-* + гр. limnion = азярцо) — верхні слой вады ў азёрах.

**ЭПІЛО́Г** (гр. epilogos) — 1) заключная частка літаратурнага твора, у якой коратка паведамляецца пра далейшы лёс герояў; 2) заключная сцэна ў оперы; 3) *перан.* канец, развязка чаго-н.

**ЭПІЛЯ́ЦЫЯ** (фр. epilation, ад лац. ex = з + pilus = волас) — выдаленне валасоў з лячэбнай або касметычнай мэтай.

**ЭПІМАРФО́З** (ад *эпі-* + *-марфоз*) — 1) развіццё, пры якім зародак расце і паступова, без рэзкіх змен, ператвараецца ў дарослы арганізм; 2) адзін са спосабаў *рэгенерацыі*, пры якім з пашкоджанага ўчастка цела без істотнай перабудовы ўзнаўляецца страчаны орган.

**ЭПІО́РНІС** (ад *эпі-* + гр. ornis = птушка) — вымерлая гіганцкая страусападобная птушка, якая жыла на Мадагаскары і была знішчана ў 17 ст. чалавекам.

**ЭПІПАДЫ́Т** (ад *эпі-* + гр. pus, podos = нага) — жаберны прыдатак на дзвюхгалінкавай канечнасці ў ракападобных.

**ЭПІПАЛЕАЛІ́Т** (ад *эпі-* + *палеаліт*) — пераходны перыяд ад эпохі палеаліту да *неаліту.*

**ЭПІСКО́П** (гр. episkopos = які глядзіць на што-н.) — аптычны прыбор для праектавання на экран адлюстравання непразрыстых малюнкаў або прадметаў пры дапамозе адбітага ад іх святла.

**ЭПІСО́МЫ** (ад *эпі-* + *сома*) — генетычныя элементы, здольныя да самастойнага размнажэння ў *цытаплазме.*

**ЭПІСТА́З** (гр. epistasis = перашкода) — узаемадзеянне паміж дамі-

нантнымі генамі з розных пар *алеляў*, пры якім адзін *ген*, які называецца эпістатычным, падаўляе праяўленне другога.

**ЭПІ́СТАЛА** (лац. epistola, ад гр. epistole = пісьмо) — 1) літаратурны твор, напісаны ў форме пісем; 2) *уст.* доўгі, звычайна нудны ліст.

**ЭПІСТАЛАГРА́ФІЯ** (ад *эпістала* + *-графія*) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае тыпы і віды асабістых пісем старажытнага свету і сярэдніх вякоў.

**ЭПІСТАЛЯ́РНЫ** (ад *эпістала*) — 1) які датычыць літаратурных твораў, напісаных у форме пісем (напр. э. раман); 2) які з'яўляецца сукупнасцю чыіх-н. пісем (напр. э-ая спадчына Янкі Купалы).

**ЭПІСТРАФА́** (гр. epistrophe = вярчэнне) — стылістычная фігура, заснаваная на паўтарэнні аднаго і таго ж слова або выразу на пачатку і ў канцы ці толькі ў канцы *строф*.

**ЭПІСТРАФЕ́Й** (ад гр. epistrepho = вярчуся) — другі шыйны пазванок у наземных пазваночных жывёл і чалавека.

**ЭПІСТЫ́ЛЬ** (гр. epistylion) — тое, што і *архітраў*.

**ЭПІСТЭМАЛО́ГІЯ** (ад гр. episteme = веданне + *-логія*) — тое, што і *гнасеалогія*.

**ЭПІТАКСІ́Я** (ад *эпі-* + гр. taksis = размяшчэнне) — арыентаваны рост аднаго *монакрышталя* на паверхні другога.

**ЭПІТАЛА́МА** (гр. epithalamios = вясельны) — 1) віншавальная песня маладым у старажытных грэкаў і рымлян; 2) верш, напісаны з выпадку шлюбу.

**ЭПІТАЛА́МУС** (ад *эпі-* + *таламус*) — частка прамежкавага мозгу, якая складаецца з *эпіфізу* і ядзер вуздэчкі.

**ЭПІТА́ФІЯ** [гр. epitaphios (logos) = надмагільнае слова] — 1) надпіс на надмагільнай пліце; 2) кароткі верш, напісаны з выпадку чыёй-н. смерці.

**ЭПІТРАХО́ІДА** (ад *эпі-* + *трахоіда*) — *мат.* замкнутая крывая, якая апісвае знешні або ўнутраны пункт круга, што верціцца, не слізгаючы, па знешнім баку іншага, нерухомага круга.

**ЭПІТЭ́КА** (ад *эпі-* + *-тэка*) — знешні вапняковы валік на ніжнім краі цела каралавага паліпа.

**ЭПІТЭЛІЁМА** (ад *эпітэлій* + *-ома*) — зборная назва для абазначэння розных эпітэліяльных пухлін, пераважна скуры.

**ЭПІТЭ́ЛІЙ** (ад *эпі-* + гр. thele = сасок) — 1) *анат.* тканка, якая пакрывае паверхню цела чалавека і жывёл, высцілае сценкі поласцей і ўнутраных полых органаў; 2) *біял.* покрыва з танкасценных клетак, якое высцілае некаторыя ўнутраныя поласці раслін.

**ЭПІТЭ́МІЯ** (н.-лац. epithemia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. эпітэміевых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых вадаёмах.

**ЭПІТЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *эпі-* + *тэрмальны*); э-ыя месцанараджэнні — залежы карысных выкапняў, адкладзеныя з гарачых мінеральных раствораў на ўмеранай глыбіні пры адносна нізкай тэмпературы (менш за 200 °C).

**ЭПІ́ТЭТ** (гр. epitheton = *літар.* прыдатак) — від простага тропа, вобразнае азначэнне, якое дае да-

датковую мастацкую характарыстыку прадмета ў выглядзе скрытага параўнання.

**ЭПІ́ФАРА** (гр. epiphora = паўтарэнне) — стылістычны прыём, звязаны з паўтарэннем у канцы вершаваных радкоў аднаго і таго ж слова, рытмічнай канструкцыі, выразу (параўн. *анафара*).

**ЭПІФА́УНА** (ад *эпі-* + *фауна*) — сукупнасць водных арганізмаў, якія жывуць на дне вадаёмаў (параўн. *інфауна*).

**ЭПІФЕНО́МЕН** (ад *эпі-* + *феномен*) — 1) суправаджальная, другарадная з'ява; 2) свядомасць у ідэалістычнай філасофіі, што разглядаецца як суправаджальны прадукт дзейнасці вышэйшай нервовай сістэмы, як вынік пасіўнага адлюстравання рэчаіснасці.

**ЭПІФІ́З** (гр. epiphysis = нарасць, шышка) — 1) верхні мазгавы прыдатак; шышкападобная залоза ў пазваночных жывёл і чалавека; 2) сустаўны канец доўгіх трубчастых касцей (параўн. *дыяфіз*).

**ЭПІФІ́ЛУМ** (н.-лац. epiphyllum) — кустападобная расліна сям. кактусавых з лістападобнымі сцёбламі без калючак і буйнымі чырвонымі, белымі, ружовымі або жоўтымі кветкамі, пашыраная ў вільготных трапічных лясах Паўд. Амерыкі і Мексікі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭПІФІ́ЛЫ** (ад *эпі-* + *-філ*) — расліны, якія пасяляюцца на лісці іншых раслін, пераважна вечназялёных (напр. водарасці, імхі).

**ЭПІФІТО́ЦЫЯ** (ад *эпі-* + гр. phyton = расліна) — пашырэнне інфекцыйнай хваробы раслін у пэўнай гаспадарцы, раёне, вобласці або краіне.

**ЭПІФІ́ТЫ** (ад *эпі-* + *-фіты*) — расліны, якія жывуць на іншых раслінах, пераважна на ствалах і галінках дрэў, але выкарыстоўваюць іх толькі як месца пасялення.

**ЭПІФРА́ГМА** (ад *эпі-* + гр. phragma = перагародка) — плеўка з застылай слізі, якой пры неспрыяльных умовах многія бруханогія малюскі закупорваюць вусці ракавіны.

**ЭПІХЛЁЭ** (н.-лац. epichloe) — сумчаты грыб сям. спарыннёвых, які паразітуе на злаках, узбуджае іх хваробы.

**ЭПІЦЫ́КЛ** (ад *эпі-* + *цыкл*) — *мат.* акружнасць, цэнтр якой раўнамерна рухаецца па другой акружнасці.

**ЭПІЦЫКЛО́ІДА** (ад *эпі-* + *цыклоіда*) — *мат.* крывая, якая апісваецца пунктам акружнасці, што звонку датыкаецца да нерухомай акружнасці і коціцца па ёй без слізгання.

**ЭПІЦЭ́НТР** (ад *эпі-* + *цэнтр*) — 1) вобласць на зямной паверхні, размешчаная непасрэдна пад ачагом землетрасення ці пад ачагом выбуху; 2) *перан.* месца, дзе з найбольшай сілай праяўляюцца якія-н. з'явы, падзеі.

**ЭПІ́ЧНЫ** (гр. epikos) — 1) які мае адносіны да *эпасу*; напісаны ў жанры эпасу, з'яўляецца эпасам (напр. э. твор); 2) уласцівы эпасу (напр. э. стыль); 3) *перан.* велічнаспакойны, вытрыманы (напр. э. тон).

**ЭПО́Д** (гр. epodos) — лірычны верш у антычным вершаскладанні, у якім доўгія радкі чаргуюцца з кароткімі.

**ЭПО́НЖ** (фр. eponge = губка) — баваўняная або шаўковая тканіна з

пражы фасоннага кручэння, якая мае губчатую паверхню, нібы пакрытую вузельчыкамі.

**ЭПО́ХА** (гр. epoche = прыпынак) — 1) перыяд часу ў развіцці прыроды, грамадства, навукі і г.д., які адрозніваецца ад другога такога ж перыяду значнымі зменамі, падзеямі (напр. э. Адраджэння); 2) частка геалагічнага перыяду (напр. верхняя э. мелавога перыяду мезазойскай эры); 3) *астр*. момант, з якога пачынаецца адлік часу, звязаны з рухам якога-н. нябеснага цела.

**ЭПСАМІ́Т** (англ. epsomite, ад Epsom = назва англ. горада) — мінерал класа *сульфатаў* белага колеру, часам бясколерны, які выкарыстоўваецца ў медыцыне, хімічнай прамысловасці для атрымання магніевых прэпаратаў; горкая соль.

**Э́ПУЛІС** (ад *эпі-* + гр. ulon = ясна) — дабраякасная пухліна дзясен, якая назіраецца часцей за ўсё пры пастаянным раздражненні тканкі дзясен.

**ЭПЮ́Р** (фр. épure = чарцёж) — 1) чарцёж праекцый, кропак, ліній, фігур, цел на плоскасці; 2) графік залежнасці адной велічыні ад другой (напр. у тэорыі машын і механізмаў э. адлюстроўвае змену хуткасці або паскарэння па даўжыні стрыжня).

**Э́РА** (лац. aera) — 1) момант, з якога вядзецца летазлічэнне і сама сістэма летазлічэння (напр. новая э.); 2) вялікі гістарычны перыяд, які карэнным чынам адрозніваецца ад папярэдняга (напр. э. касманаўтыкі); 3) самая буйная адзінка храналагічнага падзелу геалагічнай гісторыі Зямлі (напр. мезазойская э., палеазойская э.); падраздзяляецца на геалагічныя перыяды.

**ЭРА́РЫЙ** (лац. aerarium, ад aes = медзь, грошы) — дзяржаўная казна ў Старaж. Рыме.

**Э́РАС** (гр. eros, ад Eros = імя бога кахання ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — моцнае пачуццё, цяга; каханне.

**ЭРАТАМА́НІЯ** (ад гр. eros, -otos = каханне + *манія*) — хваравіта павышаная палавая ўзбуджальнасць; псіхічнае расстройства на *эратычнай* глебе.

**ЭРАТЫ́ЗМ** (фр. erotisme, ад гр. eros, -otos = каханне) — празмерная пачуццёвасць, павышаная палавая ўзбуджальнасць; празмерная цікавасць да палавых пытанняў.

**ЭРАТЫ́ЧНЫ**[1] (гр. erotikos) — пачуццёвы, прасякнуты залішняй пачуццёвасцю; звязаны з *эратызмам*.

**ЭРАТЫ́ЧНЫ**[2] (лац. erraticus = блукальны, вандроўны); э - ы я в а л у н ы — валуны, якія прынесены ледніком здалёк і па саставу адрозніваюцца ад мясцовых горных парод.

**Э́РБІЙ** (н.-лац. erbium, ад шв. Ytterby = назва шв. горада) — хімічны элемент, бліскучы метал, які належыць да *лантаноідаў*.

**ЭРВІ́НІІ** (н.-лац. erwinia) — палачкападобныя *бактэрыі* сям. *энтэрабактэрый*; узбуджальнікі мокрай гнілі клубняў бульбы, караняплодаў морквы і буракоў, цыбулін.

**ЭРГ**[1] (гр. ergon = праца, работа) — адзінка работы (энергіі) у СГС сістэме адзінак, роўная рабоце, выкананай сілай у 1 *дыну* на шляху ў 1 см.

**ЭРГ**[1] (ар. 'irk = жыла) — тып пясчанага масіву ў пустынях Паўн. Афрыкі.

**ЭРГАГРА́ФІЯ** (ад гр. ergon = работа + *-графія*) — графічная рэгістрацыя работы асобнай мышцы або іх груп *эрграфам*.

**ЭРГАКАЛЬЦЫФЕРО́Л** [ад *эрга(стэрын)* + *кальцый* + гр. phero = нясу] — тлушчарастваральны проціpахітычны вітамін $Д_2$, неабходны для нармальнага росту касцей, які садзейнічае засваенню кальцыю, што змяшчаецца ў прадуктах харчавання; у арганізмах утвараецца з эргастэрыну.

**ЭРГАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. ergon = работа + *-метрыя*) — метад вымярэння працаздольнасці асобнай мышцы або групы мышцаў у арганізме і функцыянальных змен у арганізме ў час фізічнай нагрузкі.

**ЭРГАНО́МІКА** (ад гр. ergon = работа + nomos = закон) — галіна ведаў, якая вывучае чалавека і яго дзейнасць ва ўмовах сучаснай вытворчасці з мэтай аптымізацыі прылад, умоў і працэсу працы.

**ЭРГАСТАПЛА́ЗМА** (ад гр. ergastikos = дзейны + *плазма*) — унутрыклетачны *арганоід*, на паверхні якога змяшчаюцца асаблівыя зярняты (*гранулы*) рыбануклеінавай кіслаты — *рыбасомы*; прымае ўдзел у сінтэзе бялку.

**ЭРГА́СТУЛ** (лац. ergastulum = турма, месца працы) — турма для рабоў у Стараж. Рыме, пераважна падземная, у якой вязні, закутыя ў кайданы, выконвалі асабліва цяжкую работу.

**ЭРГАСТЭ́РЫЙ** (гр. ergasterion) — майстэрня ў Стараж. Грэцыі, дзе працавалі рабы.

**ЭРГАСТЭРЫ́Н** (ад фр. ergot = спарыш + гр. stereos = цвёрды) — арганічнае рэчыва, цыклічны спірт групы *стэрынаў*, які ад дзеяння ультрафіялетавых прамянёў ператвараецца ў антырахітычны вітамін $Д_2$; змяшчаецца ў дражджах, грыбах, злаках.

**ЭРГАТАМІ́Н** (ад фр. ergot = спарыш + *аміны*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры матачных кровацячэннях, *атаніі* маткі, *мігрэні*.

**ЭРГАТЫ́ЗМ** (ад фр. ergot = спарыш) — атручванне жывёлы і чалавека зернем злакаў, мукой, зерневымі адходамі, пашкоджанымі спарыннёй.

**ЭРГАТЫ́Н** (ад фр. ergot = спарыш) — лекавы прэпарат, ачышчаны рэдкі *экстракт* злакаў, які з'яўляецца адным з кроваспынляльных сродкаў.

**ЭРГАТЫ́Ў** (ад гр. ergates = дзеючая асоба) — *лінгв.* склон дзеючай асобы ў мовах (тыпу грузінскай), якія адрозніваюць склон дзеяча (суб'екта пераходнага дзеяслова) і недзеяча (аб'екта пераходнага дзеяслова і суб'екта непераходнага).

**ЭРГАТЫ́ЎНЫ** (ад *эргатыў*); э - а я к а н с т р у к ц ы я — сінтаксічная канструкцыя сказа з пераходным дзеясловам, калі назоўнік, што абазначае рэальную дзеючую асобу (агенс), стаіць у эргатыве, а аб'ект — у абсалютным склоне.

**ЭРГО́ГРАФ** (ад гр. ergon = праца, работа + *-граф*) — прыбор для графічнага запісу ступені фізічнай працаздольнасці чалавека.

**ЭРГО́МЕТР** (ад гр. ergon = праца, работа + *-метр*) — прыбор для выканання механічнай работы пры даследаванні працаздольнасці і

# Э

функцыянальных змен, якія адбываюцца ў арганізме чалавека ў працэсе працы.

**ЭРДЭЛЬТЭР'ЕР** (англ. Airedale terrier) — парода службовых сабак з групы *тэр'ераў*, выведзеная ў Англіі.

**ЭРЗАЦ** (ням. Ersatz = замена) — непаўнацэнны заменнік чаго-н., *сурагат*.

**ЭРКЕР** (ням. Erker) — *архіт*. паўкруглы, трохвугольны або мнагагранны зашклёны выступ у сцяне будынка.

**ЭРЛ** (англ. earl) — прадстаўнік родавай знаці ў Англіі перыяду ранняга сярэдневякоўя.

**ЭРЛІФТ** (англ. airlift, ад air = паветра + lift = падымаць) — устройства для пад'ёму вадкасці з дапамогай скампрэсаванага паветра; выкарыстоўваецца пры здабыванні нафты і вады з буравых свідравін.

**ЭРМАНДАДЫ** (ісп. hermandades) — саюзы іспанскіх гарадоў і сялянскіх абшчын у перыяд сярэдневякоўя, якія ўзнікалі для самаабароны ў час войн і для абароны вольнасцей.

**ЭРМІТАЖ** (фр. ermitage = келля) — 1) загарадны будынак, паркавы павільён; 2) музей мастацтва ў Санкт-Пецярбургу, заснаваны ў 1764 г.

**ЭРОЗІЯ** (лац. erosio = раз'яданне) — 1) разбурэнне паверхні зямлі вадой, ветрам (напр. э. глебы); 2) разбурэнне паверхні металаў (іржаўленне, акісленне); 3) *мед*. утварэнне язваў на паверхні эпітэлію.

**ЭРОТЫКА** (гр. erotika = любоўны пачатак) — 1) павышаная пачуццёвасць, пачуццёвы элемент у чым-н.; 2) творы мастацтва і літаратуры, насычаныя пачуццёвасцю, прысвечаныя апісанню яе.

**ЭРСТЭД** [дацк. H.Oersted = прозвішча дацк. фізіка (1777—1851)] — абсалютная адзінка напружанасці магнітнага поля ў СГС сістэме адзінак, роўная 79,58 *ампер* на метр.

**ЭРСТЭДМЕТР** (ад *эрстэд* + *-метр*) — *магнітометр* для вымярэння напружанасці магнітнага поля.

**ЭРУДЫТ** (лац. eruditus = адукаваны, вучоны) — асоба, якая вылучаецца вялікай *эрудыцыяй*.

**ЭРУДЫЦЫЯ** (лац. eruditio = вучонасць) — начытанасць, глыбокія і ўсебаковыя веды, дасведчанасць у адной ці некалькіх галінах навукі.

**ЭРУПТЫЎНЫ** (лац. eruptus) — вывержаны, вулканічнага паходжання; э - ы я з о р к і — пераменныя зоркі, змена бляску якіх носіць характар успышак.

**ЭРУПЦЫІ** (лац. eruptio = вывяржэнне) — успышкі на Сонцы; маюць выгляд яркіх кропак на фоне *фотасферы*.

**ЭРЦГЕРЦАГ** (ням. Erzherzog) — тытул членаў былой аўстрыйскай імператарскай фаміліі да 1918 г.

**ЭРЫГАНІДЫУМ** (н.-лац. erigonidium) — павук сям. павукоў-пігмеяў, які жыве на кустах, у траве паблізу вадаёмаў.

**ЭРЫГОН** (н.-лац. erigone) — павук сям. павукоў-пігмеяў, які пашыраны ў Еўропе.

**ЭРЫЁМЕТР** (ад гр. erion = воўна + *-метр*) — прыбор для вымярэння таўшчыні валасінак воўны, а таксама ваўняных нітак.

**ЭРЫЗІПЕЛОІД** (ад гр. erysipelas = шалёнасць + *-оід*) — інфекцый-

ная хвароба, якая паражае пераважна свіней, зрэдку чалавека пры кантакце з хворай жывёлінай.

**ЭРЫЗІ́ФЭ** (н.-лац. erysiphe) — сумчаты грыб сям. мучніста-расяных, які развіваецца на раслінах сям. складанакветных, бабовых, ясноткавых і злакавых.

**ЭРЫ́СТЫКА** (гр. eristike) — майстэрства спрачацца, умельства палемізаваць з праціўнікам, выкарыстоўваючы яго промахі.

**ЭРЫТРАБЛА́СТЫ** (ад гр. erythros = чырвоны + *-бласты*) — адна з прамежкавых стадый развіцця *эрытрацытаў* у пазваночных жывёл і чалавека.

**ЭРЫТРАДЭРМІ́Я** (ад гр. erythros = чырвоны + derma = скура) — запаленне значнай часткі скуры з пачырваненнем, шалушэннем, ацёкам і *інфільтрацыяй*.

**ЭРЫТРАЗО́НУС** (н.-лац. erythrozonus) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў лясных вадаёмах Зах. Гвіяны; вядома як акварыумная.

**ЭРЫТРАМІЦЫ́Н** (ад гр. erythros = чырвоны + *-міцын*) — *антыбіётык*, які затрымлівае рост устойлівых да пеніцыліну форм узбуджальнікаў хвароб.

**ЭРЫТРАМІ́Я** [ад *эрытр(ацыты)* + *-эмія*] — тое, што і *паліцытэмія*.

**ЭРЫТРАСПЕ́РМУМ** (ад гр. erytros = чырвоны + sperma = семя) — разнавіднасць мяккай пшаніцы з белым асцістым коласам і чырвоным зернем.

**ЭРЫТРАФО́РЫ** (ад гр. erythros = чырвоны + *-фор*) — ярка афарбаваныя чырвоныя пігментныя клеткі скуры ніжэйшых пазваночных і некаторых беспазваночных, напр. ракападобных.

**ЭРЫТРАЦЫТО́З** (ад *эрытрацыты*) — часовае нязначнае павелічэнне колькасці эрытрацытаў у адзінцы аб'ёму крыві.

**ЭРЫТРАЦЫ́ТЫ** (ад гр. erythros = чырвоны + *-цыты*) — чырвоныя крывяныя цельцы, якія ўтрымліваюць *гемаглабін* і ўдзельнічаюць у пераносе кіслароду і вуглякіслага газу ў арганізме (параўн. *лейкацыты*).

**ЭРЫТРЫ́Н** (ад гр. erythros = чырвоны) — мінерал, *арсеніт* кобальту; кобальтавая руда.

**ЭРЫТРЫ́Т** (ад гр. erythros = чырвоны) — чатырохатамны спірт, бясколернае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці, парфумерыі, медыцыне і інш.

**ЭРЫТЭ́МА** (гр. erythema = чырвань) — пачырваненне асобных участкаў скуры ў выніку прыліву крыві і расшырэння сасудаў.

**Э́РЭ** (сканд. ore) — разменная манета Швецыі, Нарвегіі і Даніі, роўная 1/100 *кроны*[2] 1.

**ЭРЭ́Б** (гр. Erebos) — падземнае царства цемры ў старажытнагрэчаскай міфалогіі.

**ЭРЭЙТАФО́БІЯ** (ад гр. ereutho = раблю чырвоным + *-фобія*) — неадчэпны страх пачырванець перад субяседнікам.

**ЭРЭ́КТАР** (англ. erector, ад лац. erigere = падымаць, напружваць) — 1) перасоўнае прыстасаванне для механізаванага ўстанаўлівання *цюбінгаў* або *блокаў* пры будаванні тунэляў, шахт; 2) *анат.* мышца, якая выпрамляе якую-н. частку цела, напр. тулава (гл. *эрэкцыя* 2).

**ЭРЭ́КЦЫЯ** (лац. erectio = выпрамленне, набуханне) — 1) набу-

ханне і зацвярдзенне мужчынскага палавога члена пры палавой узбуджанасці; 2) выпрамленне якой-н. часткі цела, напр. тулава.

**ЭРЭМАГО́Н** (н.-лац. eremogone) — травяністая расліна сям. гваздзіковых з вузкалінейным лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная пераважна ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ЭРЭМУ́Р, ЭРЭМУ́РУС** (н.-лац. eremurus, ад гр. eremos = адзінокі + ura = хвост) — травяністая расліна сям. лілейных з доўгім прыкаранёвым лісцем і шматкветкавай буйной гронкай белага, жоўтага або ружовага колеру, пашыраная ў Паўд.-Усх. Еўропе і ў стэпах, паўпустынях Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭРЭТЫ́ЗМ** (гр. erethisma) — павышаная нервова-псіхічная ўзбуджальнасць і раздражняльнасць.

**ЭСЕ́НЦЫЯ** (лац. essentia = сутнасць) — 1) моцны настой або раствор чаго-н., які перад выкарыстаннем разбаўляюць вадой; 2) *перан.* тое, што і *квінтэсенцыя* (напр. э. фактаў).

**ЭСКА́ДРА** (фр. escadre) — буйное злучэнне ваенных караблёў або самалётаў.

**ЭСКАДРО́Н** (фр. escadron) — падраздзяленне кавалерыйскага палка, якое адпавядае пяхотнай роце.

**ЭСКАДРЫ́ЛЛЯ** (фр. escadrille) — падраздзяленне ваеннай *авіяцыі*, якое складаецца з некалькіх звенняў самалётаў і ўваходзіць у склад авіяцыйнага палка.

**ЭСКАЛА́ДА** (фр. escalade) — *уст.* авалоданне сцяной крэпасці пры дапамозе штурмавых лесвіц.

**ЭСКАЛА́ТАР** (англ. escalator, ад лац. scala = лесвіца) — прыстасаванне ў выглядзе рухомай лесвіцы для пад'ёму і спуску людзей на розныя ўзроўні (напр. э. метрапалітэна).

**ЭСКАЛА́ЦЫЯ** (англ. escalation) — пашырэнне, нарошчванне, павелічэнне чаго-н. (напр. э. вайны).

**ЭСКАЛО́П** (фр. escalope) — падсмажаны кавалак мяккага нятлустага мяса (звычайна свініны) прадаўгаватай формы.

**ЭСКАМАТАВА́ЦЬ** (фр. escamoter) — *уст.* непрыкметна, спрытна прысвойваць або падмяняць што-н.

**ЭСКАПА́ДА** (фр. escapade) — 1) учынак, паводзіны, якія пярэчаць агульнапрынятым нормам; 2) паездка са здарэннямі.

**ЭСКАПІ́ЗМ** (ад англ. escape = бегчы, ратавацца) — імкненне асобы адысці ад рэальнага жыцця ў свет ілюзій, фантазій.

**ЭСКА́РП** (фр. escarpe, ад іт. scarpa = укус) — *ваен.* 1) задні (унутраны) спадзісты схіл знешняга рова ўмацавання (параўн. *контрэскарп* 1); 2) супрацьтанкавая перашкода ў выглядзе крутога зрэзу ўзгорка, звернутага ў бок ворага (параўн. *контрэскарп* 2).

**ЭСКАРТАВА́ЦЬ** (фр. escorter) — суправаджаць каго-н. у якасці *эскорта*.

**ЭСКВА́ЙР** (англ. esquire, ад лац. scutarius = шчытаносец) — 1) ганаровы дваранскі тытул у Англіі, які перадаецца ў спадчыну і прысвойваецца па займаемай кім-н. пасадзе ці спецыяльным патэнтам; 2) форма ветлівага звароту ў Англіі і ЗША.

**Э́СКЕР** (ірл. esker) — узгорак або града, складзеная знізу азёрнымі (гліна, пясок, галька, гравій), зверху ледніковымі (галечнікі, валуны) пародамі.

**ЭСКІ́З** (фр. esquisse) — 1) папярэдні накід малюнка, карціны; накід, план літаратурнага ці музычнага твора; 2) малюнак, па якім ствараецца дэкарацыя, тэатральны касцюм і інш.

**ЭСКІМО́** (фр. esquimau = эскімоскі) — марожанае, глазураванае шакаладам.

**ЭСКО́РТ** (фр. escorte, ад іт. scorta) — 1) ваенны канвой, ахова, суправаджэнне (напр. ганаровы э.); 2) група ваенных суднаў, прызначаная для аховы транспартных суднаў пры марскім пераходзе.

**ЭСКУ́ДА** (парт., ісп. escudo = *літар.* герб, шчыт) — грашовая адзінка Партугаліі, роўная 100 *сентава*, Чылі, роўная 100 *сентэсіма*.

**ЭСКУЛА́П** (лац. Aesculapius, ад гр. Asklepios = імя бога лячэння ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — жартаўлівая назва ўрача, медыка.

**ЭСПА́ДА** (ісп. espada = шпага; тарэра, узброены шпагай) — тое, што і *матадор*.

**ЭСПАДО́Н** (фр. espadon, ад ісп. espada = шпага) — вялікі цяжкі меч, які трымалі дзвюма рукамі.

**ЭСПАДРО́Н** (фр. espadon, ад ісп. espada = шпага) — *шпага* для фехтавання, а таксама спартыўная барацьба з гэтай зброяй.

**ЭСПА́НДЭР** (англ. expander, ад лац. expandere = распасціраць, расцягваць) — спартыўны снарад з дзвюх ручак, злучаных некалькімі рызінавымі шнуркамі або спружынамі, для развіцця мышцаў рук, грудзей і спіны.

**ЭСПАНЬЁЛКА** (ад фр. espagnol = іспанскі) — кароткая і вузкая клінападобная бародка.

**ЭСПА́РТА** (ісп. esparto) — 1) травяністая расліна з роду кавылю сям. злакаў, пашыраная ў Паўд.-Зах. Еўропе і Паўн. Афрыцы; 2) валакністы матэрыял з лістоў гэтай расліны; 3) сорт паперы, выраблены з гэтага матэрыялу.

**ЭСПАРЦЭ́Т** (фр. esparcette) — травяністая расліна сям. бабовых з перыстым лісцем і белымі, ружовымі або пурпуровымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца зрэдку як кармавая.

**ЭСПЕРА́НТА** (Esperanto = псеўданім урача Л.Заменгофа, ад фр. esperer = спадзявацца) — штучная міжнародная мова, створаная ў 1887 г. варшаўскім урачом Л.Заменгофам.

**ЭСПЛАНА́ДА** (фр. esplanade) — 1) незабудаванае месца паміж крапаснымі сценамі і гарадскімі збудаваннямі; 2) плошча, участак зямлі перад якім-н. вялікім будынкам; 3) шырокая вуліца з алеямі пасярэдзіне.

**ЭСТАКА́ДА**[1] (фр. estacade) — надземнае збудаванне маставога тыпу ў месцы перасячэння шляхоў для пропуску транспарту, пешаходаў, пракладвання інжынерных камунікацый і інш.

**ЭСТАКА́ДА**[2] (фр. estocade, ад estoc = шпага) — прамы перпендыкулярны ўдар *рапірай*, *шпагай*, *эспадронам* пры фехтаванні.

**ЭСТА́МП** (фр. estampe) — адбітак з *гравюры*, зроблены мастаком або майстрам-гравёрам.

# Э

**ЭСТА́НСІЯ** (ісп. estancia) — буйны маёнтак, звычайна жывёлагадоўчы, у Аргенціне, Чылі.

**ЭСТАФЕ́ТА** (фр. estafette, ад іт. stafetta, ад staffa = стрэмя) — 1) *уст.* тэрміновая пошта, данясенне, адпраўленыя конным пасланцом; 2) спаборніцтва спартыўных каманд па бегу ці плаванню са зменай удзельнікаў на дыстанцыі і перадачай умоўнага прадмета; 3) умоўны прадмет, які перадаецца пры такіх спаборніцтвах; 4) *перан.* жыццёвыя традыцыі (э. пакаленняў).

**ЭСТО́МП** (фр. estompe) — 1) растушоўка са згорнутага ў выглядзе цыгары кавалка скуры або паперы; 2) малюнак, зроблены пры дапамозе такой растушоўкі.

**ЭСТРАГЕ́НЫ** (ад *эструс* + *-ген*) — 1) жаночыя палавыя *гармоны* (*эстрадыёл*, *эстрыёл*, *эстрон*), якія выпрацоўваюцца *фалікуламі* яечнікаў, плацэнтай, часткова карой наднырачнікаў і семеннікамі; 2) арганічныя злучэнні, якія выяўляюць біялагічнае дзеянне жаночага гармона; 3) прэпараты, у склад якіх уваходзяць жаночыя палавыя гармоны або іх хімічныя аналагі.

**ЭСТРАГО́Н** (фр. estragon) — травяністая расліна роду пальноў з суцэльным лісцем і жоўтымі кветкавымі кошыкамі, пашыраная ў дзікім стане ў Еўразіі; вырошчваецца ў садах і агародах як вострапрыправўная і лекавая; тархун.

**ЭСТРА́ДА** (фр. estrade, ад ісп. estrado = памост) — 1) пляцоўка для канцэртных выступленняў (адкрытая э.); 2) від мастацтва, які ўключае малыя формы драматургіі, вакальнага мастацтва, музыкі, харэаграфіі і г.д.

**ЭСТРАДЫЁЛ** [ад *эструс* + гр. dia = праз + *(алкаг)оль*] — асноўны жаночы палавы гармон пазваночных жывёл і чалавека з групы *эстрагенаў*, які выпрацоўваецца ў яечніках, плацэнце, семенніках; выклікае развіццё другасных жаночых палавых прымет.

**ЭСТРЫЁЛ** [ад *эструс* + *(алкаг)оль*] — жаночы палавы гармон з групы *эстрагенаў*, канечны прадукт метабалізму *эстрадыёлу* і *эстрону*.

**ЭСТРО́Н** (ад *эструс*) — тое, што і *фалікулін*.

**Э́СТРУС** (н.-лац. oestrus, ад гр. oistros = страсць) — адна са стадый палавога цыкла млекакормячых; цечка.

**ЭСТУА́РЫЙ** (лац. aestuarium, ад aestus = хваляванне) — лейкападобнае расшыранае вусце ракі, якая ўпадае ў мора або акіян.

**ЭСТЫВА́ЦЫЯ** (ад лац. aestivus = летні) — летняя *дыяпаўза*.

**ЭСТЭЗІЁМЕТР** (ад гр. aisthesis = пачуццё, адчуванне + *-метр*) — прыбор для вымярэння адчувальнасці скуры да ціску або дотыку.

**ЭСТЭЗІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. aisthesis = пачуццё, адчуванне + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае будову органаў пачуццяў.

**ЭСТЭЗІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. aisthesis = пачуццё, адчуванне + *-метрыя*) — вымярэнне адчувальнасці скуры да ціску або дотыку пры дапамозе *эстэзіёметра*.

**ЭСТЭМЕНАЗУ́Х** (ад гр. estemmenos = вянцаносны + suchos = кракадзіл) — буйная раслінаедная пазваночная жывёліна пермскага перыяду (гл. *палеазой*), якая адносілася да *дынацэфалаў* і мела чэрап з касцявымі вырастамі.

**ЭСТЭ́Т** (гр. aisthetes = які ўспрымае, адчувае) — 1) прыхільнік адарванага ад жыцця «чыстага мастацтва»; 2) прыхільнік усяго прыгожага, вытанчанага.

**ЭСТЭ́ТЫКА** (гр. aisthetikos = які адчувае, успрымае; пачуццёвы) — 1) навука аб прыгожым, аб ідэйнай сутнасці і формах прыгожага ў мастацкай творчасці, у прыродзе і ў жыцці; 2) чыя-н. сістэма поглядаў на мастацтва (напр. э. Чарнышэўскага); 3) прыгажосць, мастацкасць чаго-н. (напр. э. архітэктуры).

**ЭСТЭТЫКАТЭРАПІ́Я** (ад *эстэтыка* + *тэрапія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае ўплыў эстэтычных фактараў на здароўе чалавека.

**ЭСХАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. eschatos = апошні + *-логія*) — сукупнасць рэлігійных уяўленняў пра канчатковы лёс свету і чалавека.

**ЭСЭ́** (фр. essai = спроба) — *нарыс*, публіцыстычны *эцюд*, які трактуе літаратурныя, філасофскія, сацыяльныя праблемы ў вольнай форме.

**ЭСЭІ́СТ** (фр. essayiste) — пісьменнік, які распрацоўвае жанр *эсэ*.

**ЭТАГРА́МА** (ад гр. ethos = звычай + *-грама*) — больш або менш поўны пералік «мовы», поз, жэстаў і мімікі, уласцівы таму або іншаму віду жывёл.

**ЭТАЖЭ́РКА** (фр. étagère) — адкрытая шафка на ножках у выглядзе некалькіх паліц, размешчаных адна над другой.

**ЭТАЛО́ГІЯ** (ад гр. ethos = звычай + *-логія*) — навука, якая вывучае асаблівасці паводзін арганізмаў ва ўсіх іх праяўленнях.

**ЭТАЛО́Н** (фр. étalon) — 1) дакладны ўзор устаноўленай адзінкі вымярэння (напр. э. вагі); 2) *перан*. узор, стандарт для параўнання з чым-н. (напр. э. прыстойнасці).

**ЭТА́Н** (ад гр. aither = эфір, паветра) — бясколерны гаручы газ, які знаходзіцца ў прыродным і свяцільным газе.

**ЭТАНО́Л** [ад *этан* + *(алкаг)оль*] — этылавы спірт.

**ЭТА́П** (фр. étape) — 1) момант, стадыя ў развіцці якога-н. працэсу (напр. э. бою); 2) асобная частка шляху, дыстанцыі ў спартыўных спаборніцтвах (напр. э. велагонкі); 3) прыпынак на шляху руху; п а э т а п у — знаходзіцца пад канвоем у час перасылкі арыштантаў.

**Э́ТАС** (гр. ethos) — абазначэнне характару асобы або з'явы ў антычнай філасофіі.

**ЭТАТЫ́ЗМ** (фр. étatisme, ад etat = дзяржава) — кірунак палітычнай думкі, які разглядае дзяржаву як вышэйшы вынік і мэту грамадскага развіцця.

**Э́ТВЕШ** [венг. L.Eötvös = прозвішча венг. фізіка (1848—1919)] — адзінка *градыенту* сілы цяжару ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная змяненню паскарэння свабоднага падзення на $10^{-9}$ см/с$^2$ на кожны сантыметр.

**ЭТНАБАТА́НІКА** (ад *этнас* + *батаніка*) — раздзел батанікі, які вывучае выкарыстанне раслін рознымі *этнічнымі* групамі насельніцтва зямнога шара.

**ЭТНАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *этнас* + *геаграфія*) — раздзел *этнаграфіі*, які вывучае размяшчэнне этнічных супольнасцей, асаблівасці іх рассялення і тэрытарыяльных узаемаадносін у цеснай залежнасці ад сацыяльна-эканамічных, палітычных, прыродных і іншых фактараў.

# Э

**ЭТНАГЕНЕ́З** (ад *этнас* + *-генез*) — паходжанне якога-н. народа.

**ЭТНАГРАФІ́ЗМ** (ад гр. ethnos = народ + grapho = пішу) — наяўнасць *этнаграфічных* рыс, асаблівасцей, апісанняў, дэталей дзе-н. (у кнізе, п'есе і інш.).

**ЭТНАГРА́ФІЯ** (ад *этнас* + *-графія*) — 1) навука, якая вывучае матэрыяльную і духоўную культуру народаў; 2) сукупнасць асаблівасцей быту, нораваў, звычаяў, культуры якога-н. народа або мясцовасці (напр. э. Палесся).

**ЭТНАЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *этнас* + *лінгвістыка*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае ўзаемасувязь мовы і *этнічных* фактараў.

**ЭТНАЛО́ГІЯ** (ад *этнас* + *-логія*) — навука, якая вывучае агульныя заканамернасці развіцця чалавечай культуры; народазнаўства.

**ЭТНАНІ́МІКА** (ад *этнас* + гр. onyma = імя, назва) — раздзел *анамастыкі*, які вывучае паходжанне і функцыяніраванне *этнонімаў*.

**ЭТНАНІ́МІЯ** (ад *этнас* + гр. onyma = імя, назва) — сукупнасць назваў народаў, народнасцей і іншых *этнічных* супольнасцей.

**ЭТНАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *этнас* + *псіхалогія*) — адна з галін сацыяльнай псіхалогіі, якая вывучае асаблівасці псіхічнага складу рас і народаў.

**Э́ТНАС** (гр. ethnos = племя, народ) — гістарычна ўзнікшы від устойлівай сацыяльнай групоўкі людзей, прадстаўленай племем, народнасцю, нацыяй.

**ЭТНАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *этнас* + лац. centrum = сярэдзіна) — схільнасць чалавска ацэньваць усе жыццёвыя з'явы праз прызму каштоўнасці сваёй *этнічнай* групы, якая лічыцца эталонам.

**ЭТНІ́ЧНЫ** (гр. ethnikos = народны) — які адносіцца да пэўнага народа, яго побыту, нораваў, звычаяў, культуры.

**ЭТНО́НІМ** (ад *этнас* + гр. onyma = імя, назва) — назва нацыі, народа, народнасці, племені і іншых этнічных супольнасцей.

**Э́ТРАПЛЮС** (н.-лац. etroplus) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах Індыі, Шры Ланкі; вядома як акварыумная.

**ЭТУА́ЛЬ** (фр. étoile = зорка) — *уст.* модная спявачка ў заходнееўрапейскім тэатры лёгкага жанру.

**Э́ТЫКА** (лац. ethica, ад гр. ethikos = звязаны са звычаямі) — 1) вучэнне аб маралі як адна з форм ідэалогіі; 2) нормы паводзін чалавека ў грамадстве, мараль пэўнай грамадскай або прафесійнай групы.

**ЭТЫКЕ́Т** (фр. étiquette) — прынятэы парадак паводзін чалавека ў якім-н. асяроддзі, у грамадстве.

**ЭТЫКЕТА́Ж** (фр. étiquetage) — выраб *этыкетак* для экспанатаў (у музеі, на выстаўцы і інш.).

**ЭТЫКЕ́ТКА** (фр. etiquette) — *ярлык*, наклейка на чым-н. (на тавары, упакоўцы, экспанаце і г.д.) з абазначэннем цаны, сорту, назвы і інш.

**ЭТЫ́Л** (ад гр. aither = паветра + hyle = матэрыял, рэчыва) — група з атамаў вугляроду і вадароду, якая ўваходзіць у састаў многіх арганічных злучэнняў (напр. хлорысты э.).

**ЭТЫЛАЦЭТА́Т** (ад *этыл* + *ацэтат*) — складаны *эфір*, бясколер-

ная лёгкая вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік пры вырабе лакаў, кінаплёнкі, бяздымнага пораху і інш.

**ЭТЫЛБЕНЗО́Л** (ад *этыл* + *бензол*) — арганічнае злучэнне, вуглевадарод *араматычнага* рада, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца для вырабу *стыролу*, а таксама як дабаўка да маторнага паліва.

**ЭТЫЛЕ́Н** (ад *этыл*) — бясколерны гаручы газ, які складаецца з вугляроду і вадароду.

**ЭТЫЛЕНГЛІКО́ЛЬ** [ад *этылен* + гр. glykys = салодкі + *(алкаг)оль*] — арганічнае злучэнне, найпрасцейшы двухатамны спірт, выкарыстоўваецца пры вырабе сінтэтычных смол, штучнага валакна і інш.

**ЭТЫЛЕНДЫХЛАРЫ́Д** (ад *этылен* + *ды-* + *хлор*) — тое, што і *дыхлорэтан*.

**ЭТЫМАЛО́ГІЯ** (гр. etymologia, ад etymon = ісціна, сапраўднае значэнне слова + logos = вучэнне) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне слоў; 2) паходжанне слова і яго роднасныя адносіны да іншых слоў.

**ЭТЫМО́Н** (гр. etymon = ісціна) — зыходнае слова, ад якога паходзіць існуючае ў дадзенай мове слова.

**ЭТЫ́ЧНЫ** (гр. ethikos) — які адпавядае правілам *этыкі*, нормам паводзін.

**ЭТЫЯЛІ́РАВАНЫ** (ад фр. étioler = рабіць бледным, кволым); э-ыя раслiны — расліны, якія выраслі пры нястачы святла, у цемнаце.

**ЭТЫЯЛО́ГІЯ** (ад гр. aitia = прычына + *-логія*) — раздзел *паталогіі*, які вывучае прычыны і ўмовы ўзнікнення хвароб.

**ЭТЫЯЛЯ́ЦЫЯ** (ад фр. étioler = рабіць бледным) — страта раслінамі зялёнай афарбоўкі (*хларафілу*) пры вырастанні іх у цемнаце або ва ўмовах недастатковага асвятлення.

**ЭТЭРНІ́Т** (ад лац. aeternus = вечны) — дахавы матэрыял (*шыфер*), які вырабляецца з сумесі *азбесту* і *цэменту*.

**ЭТЭРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад гр. aither = эфір + *-фікацыя*) — атрыманне складаных *эфіраў* з кіслот і спіртоў.

**ЭЎАСКАМЦЭ́ТЫ** (н.-лац. euascomycetidae) — падклас *аскаміцэтаў*, для якога характэрна фарміраванне *аскаў* у тыповых пладовых целах (*апатэцыях*, *перытэцыях*, *клейстатэцыях*); пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін, жывёл і чалавека; пладасумчатыя грыбы.

**ЭЎА́СТРУМ** (н.-лац. euastrum) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, якая пашырана пераважна ў вадаёмах з павышанай кіслотнасцю.

**ЭЎБАКТЭ́РЫІ** (н.-лац. eubacteriales) — парадак *бактэрый*, для якіх характэрна наяўнасць усіх тыповых прыкмет *пракарыётаў*, тыповымі прадстаўнікамі з'яўляюцца *псеўдаманады*, *энтэрабактэрыі*, *бацылы*, *спірылы* і інш.; пашыраны ў вадзе і глебе, некаторыя паразіты раслін, жывёл і чалавека.

**ЭЎГЕНО́Л** (ад гр. eugenes = шляхетны + *-ол*) — арганічнае рэчыва, састаўная частка гваздзіковага алею, а таксама іншых эфірных алеяў; выкарыстоўваецца ў зубалячэбнай практыцы як болесуцішальны сродак, а таксама ў парфумернай прамысловасці.

# Э

**ЭЎГЛЕ́НА** (н.-лац. euglena) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая пашырана пераважна ў невялікіх прэсных вадаёмах, балотах, на мокрым грунце.

**ЭЎДАРЫ́НА** (н.-лац. eudorina) — каланіяльная зялёная водарасць сям. вальвоксавых, якая пашырана ў невялікіх стаячых вадаёмах.

**ЭЎДЫЁМЕТР** (ад гр. eudios = ясны, чысты + *-метр*) — прыбор для даследавання газаў.

**ЭЎДЫЯЛІ́Т** (ад гр. eu = добра + dialytos = схільны да распаду) — мінерал класа *сілікатаў* чырвонага або ружовага колеру; руда *цырконію*.

**ЭЎДЭМАНІ́ЗМ** (гр. eudaimonismos, ад eudaimonia = шчасце) — этычны прынцып, які асновай маральнасці лічыць імкненне чалавека да асабістага шчасця.

**ЭЎКАКО́НЕІС** (н.-лац. eucocconeis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. ахнантавых, якая пашырана пераважна ў прэсных водах.

**ЭЎКАЛІ́ПТ** (н.-лац. eucalyptus, ад гр. eu = добра + kalyptos = пакрыты) — вечназялёнае дрэва сям. міртавых, пашыранае ў тропіках і субтропіках; хутка расце і дасягае вялікіх памераў; змяшчае эфірныя алеі, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне, парфумерыі і тэхніцы.

**ЭЎКА́ПСІС** (н.-лац. eucapsis) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. глеякапсавых, якая пашырана ў *планктоне* непраточных вадаёмаў і на тарфяных балотах.

**ЭЎКАРЫЁТЫ** (ад гр. eu = добра + karyon = ядро) — арганізмы, якія ўтрымліваюць у сваіх клетках марфалагічна аформленае ядро (адна- і мнагаклетачныя раслінныя і жывёльныя арганізмы і грыбы); параўн. *пракарыёты*.

**ЭЎКЛА́З** (ад гр. eu = добра + klasis = ломка, расколванне) — рэдкі каштоўны камень сіняга колеру, якія напамінае *аквамарын*.

**ЭЎКО́МІЯ** (н.-лац. eucommia, ад гр. eu = добра + kommi = камедзь) — лістападнае дрэва сям. эўкомiевых, пашыранае ў горных раёнах Зах. і Цэнтр. Кітая, Закаўказзі, Сярэд. Азіі; дае *гутаперчу* і лекавы прэпарат ад *гіпертаніі*.

**ЭЎКСЕРАФІ́ТЫ** (ад гр. eu = добра + *ксерафіты*) — расліны засушлівых месцапрабыванняў.

**ЭЎНО́ЦЫЯ** (н.-лац. eunotia) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. эўноцыевых, якая пашырана пераважна ў прэсных водах, бедных вапнай, сярод вільготных імхоў, на мокрых схілах.

**ЭЎПАТРЫ́ДЫ** (гр. eupatridai = людзі шляхетнага паходжання) — родавая *арыстакратыя* ў Атыцы (Старaж. Грэцыя).

**ЭЎРО́ЦЫУМ** (н.-лац. eurotium) — сумчатыя грыб сям. эўроцыевых, які развіваецца на раслінных і цукрыстых субстратах, пластмасе, цэлафане, гуме, паразітуе на жывёлах і чалавеку.

**ЭЎРЫ-** (ад гр. eurys = шырокі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «шырокі», «вялізны», «разнастайны».

**ЭЎРЫБА́ТНЫ** (ад *эўры-* + гр. bathos = глыбіня) — рознаглыбінны; э - ы я ж ы в ё л ы — вадзяныя жывёлы, якія жывуць на розных глыбінях (параўн. *стэнабатны*).

**ЭЎРЫБІЁНТНЫ** (ад *эўрыбіёнты*); э - ы я а р г а н і з м ы — тое, што і *эўрыбіёнты*.

**ЭЎРЫБІЁНТЫ** (ад *эўры-* + *біёнты*) — жывёлы, расліны, якія могуць жыць у розных умовах навакольнага асяроддзя (напр. буры мядзведзь жыве ва ўмовах халоднага і цёплага клімату, у сухіх і вільготных раёнах); параўн. *стэнабіёнты.*

**ЭЎРЫГАЛІ́ННЫ** (ад *эўры-* + гр. hals = соль); э - ы я арганізмы — марскія арганізмы, якія могуць жыць ва ўмовах значных ваганняў салёнасці вады (параўн. *стэнагалінны*).

**ЭЎРЫГІГРАБІЁНТНЫ** (ад *эўры-* + гр. hydros = вільготны + *біёнты*); э - ы я жывёлы — жывёлы, здольныя выносіць шырокія ваганні вільготнасці паветра.

**Э́ЎРЫКА** (гр. heureka = я знайшоў; паводле падання, так усклікнуў Архімед, калі адкрыў названы яго імем закон) — вокліч радасці пры якім-н. адкрыцці, рашэнні складанай задачы, пры якой-н. новай думцы.

**ЭЎРЫ́НХІУМ** (н.-лац. eurhynchium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які расце на глебе ў лясах.

**ЭЎРЫПТЭРЫ́ДЫ** (н.-лац. eurypterida) — група вымерлых водных членістаногіх класа мерастомавых, якія жылі ў ардовіку — пермі (гл. *палеазой*).

**ЭЎРЫ́СТЫКА** (ад гр. heurisko = знаходжу) — 1) сістэма лагічных прыёмаў і правіл тэарэтычнага даследавання; 2) метад навучання пры дапамозе навадных пытанняў.

**ЭЎРЫТМІ́Я** (гр. eurythmia = рытмічнасць) — раўнамернасць *рытму* ў музыцы, танцы.

**ЭЎРЫТО́ПНЫ** (ад *эўры-* + гр. topos = месца); э - ы я арганізмы — расліны і жывёлы, якія могуць існаваць у розных *біятопах*, ландшафтных ці фізіка-геаграфічных раёнах (зонах) (напр. хвоя звычайная, ядловец, верас; яшчарка жывародная, ліс, воўк); параўн. *стэнатопны.*

**ЭЎРЫТЭ́РМНЫ** (ад *эўры-* + *-тэрмны*); э - ы я жывёлы — жывёлы, здольныя жыць пры значных ваганнях тэмпературы асяроддзя (параўн. *стэнатэрмны*).

**ЭЎРЫФА́ГІ** (ад *эўры-* + *фагі*) — тое, што і *паліфагі.*

**ЭЎРЫФА́ГІЯ** (ад *эўры-* + *-фагія*) — тое, што *паліфагія* 1.

**ЭЎРЫФО́ТНЫ** (ад *эўры-* + гр. photos = святло); э - ы я жывёлы — жывёлы, здольныя выносіць шырокія ваганні светлавых умоў.

**ЭЎРЫХО́РНЫ** (ад *эўры-* + гр. choreo = распаўсюджваюся); э - ы я жывёлы — жывёлы, якія маюць шырокую экалагічную амплітуду, пашыраны па ўсім зямным шары.

**ЭЎРЫЭДАФІ́ЧНЫ** (ад *эўры-* + гр. edaphos = зямля); э - ы я арганізмы — арганізмы, здольныя існаваць на самых розных грунтах (параўн. *стэнаэдафічны*).

**ЭЎСТАТЫ́ЧНЫ** (гр. eustathes = спакойны, пастаянны); э - ы я ваганні — агульная павольная змена ўзроўню Сусветнага акіяна ад змены яго ёмістасці ці ад колькасці вады ў ім.

**ЭЎТРО́ФНЫ** (ад гр. eutrophia = добрае харчаванне); э - ы я азёры — вадаёмы з вялікім утрыманнем пажыўных рэчываў.

**ЭЎТРО́ФЫ** (ад гр. eutrophia = добрае харчаванне) — расліны, якія развіваюцца нармальна толькі

на багатых пажыўнымі рэчывамі глебах (параўн. *алігатрофы*, *мезатрофы*).

**ЭЎТЭ́КТЫКА** (ад гр. eutektos = легкаплаўкі) — сумесь двух або некалькіх рэчываў у такіх суадносінах, пры якіх тэмпература плаўлення яе ніжэйшая, чым тэмпература плаўлення сумесі гэтых самых рэчываў у іншых суадносінах.

**ЭЎФАНІ́Я** (гр. euphonia = мілагучнасць) — 1) гарманічны падбор гукаў у тэксце мастацкага твора; 2) узнікненне ў мове нехарактэрных для яе спалучэнняў гукаў.

**ЭЎФАРЫ́Я** (гр. euphoria) — тое, што і *эйфарыя*.

**ЭЎФАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. eu = добра + photos = святло); э - а я з о - н а — самы верхні слой тоўшчы Сусветнага акіяна, які добра асвятляецца сонцам.

**ЭЎФЕМІ́ЗМ** (гр. euphemismos, ад eu = добра + phemi = гавару) — слова або выраз, якім замяняюць непажаданы, грубы або непрыстойны выраз.

**ЭЎФІЛІ́Н** (ад гр. eu = добра + phyllon = зелле) — лекавы прэпарат, сасударасшыральны і мачагонны сродак.

**ЭЎФУІ́ЗМ** (англ. euphuism, ад гр. euphyes = вытанчаны) — штучны, манерны, напышлівы стыль мовы.

**Э́ФА** (н.-лац. echis) — змяя сям. гадзюкавых, пашыраная ў пустынях і паўпустынях Паўн. Афрыкі, Паўд., Паўд.-Зах. і Сярэд. Азіі; ядавітая.

**ЭФЕ́БІЯ** (ад гр. ephebos = юнак) — дзяржаўная арганізацыя ў Афінах і Спарце для падрыхтоўкі юнакоў да грамадзянскай службы.

**ЭФЕ́БЫ** (гр. epheboi) — юнакі ў Стараж. Грэцыі, якія навучаліся вайсковаму майстэрству і наведвалі школы *рытараў*, *філосафаў*.

**ЭФЕ́ДРА** (н.-лац. ephedra, ад гр. ephedra) — кустовая расліна класа *гнетапсідаў* з лускападобным лісцем, пашыраная ў стэпах і пустынях Еўразіі, Паўн. Афрыкі, Амерыкі; дае *эфедрын*.

**ЭФЕДРЫ́Н** (ад *эфедра*) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў эфедры; выкарыстоўваецца ў медыцыне пры бранхіяльнай астме, паніжэнні крывянога ціску і інш.

**ЭФЕ́КТ** (лац. effectus) — 1) вынік якога-н. дзеяння (напр. э. лячэння); 2) моцнае ўражанне ад каго-н., чаго-н. (зрабіць э.); 3) сродак стварэння моцнага ўражання (напр. шумавы э., светлавы э.).

**ЭФЕ́КТАРЫ** (лац. effector = стваральнік, тварэц) — органы, якія ажыццяўляюць тое або іншае дзеянне ў адказ на раздражненне.

**ЭФЕКТЫ́ЎНЫ** (лац. effectivus) — які прыводзіць да патрэбных вынікаў, дзейсны (напр. э. метад).

**ЭФЕМЕ́РНЫ** (гр. ephemerios = аднадзённы) — 1) мімалётны, недаўгавечны (напр. э-ае існаванне); 2) уяўны, невыканальны (напр. э-ая мера).

**ЭФЕМЕРО́ІДЫ** (ад *эфемеры* + *-оід*) — травяністыя расліны, якія завяршаюць сваю вегетацыю ўсяго за некалькі тыдняў, а астатнюю частку года знаходзяцца ў стане спакою ў выглядзе бульбін, цыбулін ці карэнішчаў (параўн. *эфемеры*).

**ЭФЕМЕ́РУМ** (н.-лац. ephemerum) — лістасцябловы мох сям. эфемеравых, які расце на вільготнай аголенай глебе, па схілах канаў.

**ЭФЕМЕ́РЫ** (гр. ephemeros = аднадзённы) — травяністыя расліны з кароткім перыядам развіцця, які працягваецца ўсяго некалькі тыдняў; захоўваюцца ў выглядзе насення, напр. вяснянка веснавая, незабудка драбнакветная (параўн. *эфемероіды*).

**ЭФЕМЕРЫ́ДЫ** (гр. ephemeris, -idos = дзённік) — 1) штодзённыя запісы важнейшых падзей, якія вяліся пры двары Аляксандра Македонскага; 2) астранамічныя звесткі (напр. каардынаты зор, планет) для пэўных момантаў часу; 3) крылатыя насякомыя, якія жывуць вельмі нядоўга, адзін або некалькі дзён.

**ЭФЕ́НДЗІ** (тур. efendi) — пачцівы зварот да мужчын у Турцыі.

**ЭФЕРЭ́НТНЫ** (лац. efferens, -ntis) — які выносіць; э - ы я нервовыя валокны — нервовыя валокны, па якіх узбуджэнне перадаецца з цэнтральнай нервовай сістэмы да тканак (параўн. *аферэнтны*).

**ЭФЕ́С** (ням. Gefäß) — ручка, дзяржанне шаблі, шашкі, шпагі, якая насаджваецца на шыйку клінка.

**ЭФІ́Р** (гр. aither) — 1) бясколерная лятучая вадкасць з рэзкім пахам, якая ўтвараецца пры злучэнні спірту з кіслотамі і выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфумерыі, прамысловасці (напр. этылавы э.); 2) самы верхні чысты і празрысты слой паветра, дзе, паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, размяшчаюцца багі; 3) вобразная назва асяроддзя, дзе распаўсюджваюцца радыёхвалі; в ы й с ц і ў э. — пачаць перадачы па радыё.

**ЭФІРАМА́НІЯ** (ад *эфір* + *манія*) — хваравітая цяга да эфіру.

**ЭФІЯ́ЛЬТ** (н.-лац. ephialtes) — насякомае сям. *іхнеўманідаў*, якое трапляецца найчасцей у лясах і на высечках; адкладвае яйцы ў лічынкі вусачоў, златак, шкляніц і іншых шкодных насякомых, спрыяе аздараўленню лесу.

**ЭФО́Р** (гр. ephoros) — адзін з пяці выбраных на год народным сходам прадстаўнікоў у Стараж. Грэцыі, якія кіравалі палітычным жыццём дзяржавы.

**ЭФУЗІЁМЕТР** (ад *эфузія* + *-метр*) — прыбор для аўтаматычнага вызначэння і рэгістрацыі шчыльнасці газаў шляхам вымярэння хуткасці іх выцякання праз малую адтуліну.

**ЭФУЗІ́ЎНЫ** (ад лац. effusio = разліванне) — выверждавы; э - ы я пароды — магматычныя горныя пароды, якія ўтварыліся ў выніку застывання лавы на паверхні Зямлі (*андэзіт*, *базальт*, *абсідыян* і інш.).

**ЭФУ́ЗІЯ** (лац. effusio) — 1) выліванне *магмы* на паверхню Зямлі ў працэсе вулканічнай дзейнасці; 2) павольнае пранікненне газаў праз малыя адтуліны.

**ЭХЕВЕ́РЫЯ** (н.-лац. echeveria) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых з сакаўным зялёным лісцем і чырвонымі, чырвона-жоўтымі або аранжавымі кветкамі, пашыраная ў пустынных, паўпустынных і горных раёнах Цэнтр. Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭХІ́Н** (гр. echinos = вожык) — *архіт.* частка *капітэлі* дарычнай калоны ў выглядзе круглай у плане падушкі з выпуклым крываліннейным профілем.

**ЭХІНАДО́РУС** (н.-лац. echinodorus) — травяністая расліна сям.

шальнікавых з ланцэтным лісцем і кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі культывуецца як акварыумная і аранжарэйная.

**ЭХІНАКАКО́З** (ад *эхінакок*) — глісная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца паразітаваннем лічынак эхінакока.

**ЭХІНАКА́КТУС** (н.-лац. echinocactus, ад гр. echinos = вожык + kaktos) — расліна сям. кактусавых з шарападобным калючым сцяблом і жоўтымі, радзей чырвонымі, кветкамі, пашыраная ў пустынях Мексікі і паўднёвых штатаў ЗША; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭХІНАКО́К** (н.-лац. echinococcus, ад гр. echinos = вожык + kokkos = зерне) — *гельмінт* сям. *саліцёраў*, паразітуе ў кішэчніку сабак, ваўкоў, лісоў, катоў, а ў лічынкавай стадыі і ў чалавека.

**ЭХІНАПЛУТЭ́УС** (ад гр. echinos = вожык + лац. pluteus = шчыт) — лічынка марскіх вожыкаў.

**ЭХІНАРЫ́НХ** (ад гр. echinos = вожык + rynchos = морда, дзюба) — паразітычны калючагаловы чарвяк, які жыве ў кішэчніку пазваночных жывёл і чалавека, выклікаючы вялікія болі.

**ЭХІНАСТАМАТЫДО́ЗЫ** (ад *эхінастаматыды*) — глісныя хваробы птушак, радзей млекакормячых, якія выклікаюцца эхінастаматыдамі.

**ЭХІНАСТАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. echinostomatidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразітуюць у страваватьным тракце жывёл і чалавека.

**ЭХІНАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. echonocystis) — травяністая расліна сям. гарбузовых з тонкімі разгалінаванымі сцёбламі, доўгачаранковым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭХІНАЦЭ́Я** (н.-лац. echinacea) — травяністая расліна сям. складанакветных з шурпатым ланцэтным лісцем і пурпуровымі або чырвона-карычневымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭХІНО́ПСІС** (н.-лац. echinopsis) — травяністая расліна сям. кактусавых з шарападобным калючым сцяблом і белымі духмянымі кветкамі, што раскрываюцца ўвечары, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭХІНУ́РА** (н.-лац. echonuria) — *гельмінт* сям. *акуарыідаў*, паразітуе ў арганізме вадаплаўных птушак.

**ЭХІНУРЫЁЗ** (ад *эхінура*) — глісная хвароба качак, гусей, лебедзяў і іншых вадаплаўных птушак, якая выклікаецца эхінурай.

**ЭХІУРЫ́ДЫ** (н.-лац. echiurida, ад гр. echis = гадзюка + ura = хвост) — клас кольчатых чарвей; жывуць на вялікіх глыбінях у акіянах.

**ЭЦЫ́ДЫЙ** (н.-лац. aecidium) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на многіх сельскагаспадарчых і дэкаратыўных раслінах.

**ЭЦЮ́Д** (фр. étude) — 1) эскізная замалёўка часткі будучага жывапіснага твора, выкананая з натуры; 2) вучэбнае маляванне з натуры (пайсці на эцюды); 3) музычны твор віртуознага характару; 4) невялікі твор літаратурнага, навуковага характару, прысвечаны адна-

му пытанню; 5) практыкаванне ў музычнай, тэатральнай, шахматнай тэхніцы.

**ЭШАЛАНІ́РАВАЦЬ** (фр. échelonner) — размяшчаць войскі ў глыбіню, паэшалонна.

**ЭШАЛО́Н** (фр. échelon) — 1) частка размешчанага ў глыбіню баявога парадку войск або паходнай калоны; 2) чыгуначны састаў або іншы транспартны сродак для масавых перавозак спецыяльнага прызначэння.

**ЭШАФО́Т** (фр. échafaud) — памост для пакарання смерцю; плаха.

**ЭШО́ЛЬЦЫЯ** (н.-лац. eschscholzia) — травяністая расліна сям. макавых з шыза-зялёным лісцем і адзіночнымі жоўтымі, белымі, аранжавымі або ружовымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЭШЭВЕ́НЫ** (фр. echevins) — службовыя асобы з адміністрацыйнай і судовай функцыямі ў гарадах феадальнай Францыі.

**ЭШЭЛЕ́ТЫ** (фр. echelette) — *фіз.* асобы від дыфракцыйных рашотак, якія валодаюць здольнасцю канцэнтраваць большую частку падаючага на іх струменю выпрамянення.

**ЭЯКУЛЯ́Т** (лац. eiaculatus = выкінуты) — *сперма*, вывержаная самцом у час палавога акта.

**ЭЯКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. eiaculatio) — вывяржэнне семені, сакрэту семянных пузыркоў і прастаты ў самцоў жывёл і ў мужчын.

# Ю

**ЮА́НЬ** (кіт. juan = акруглы) — грашовая адзінка Кітая, роўная 100 *фыням*.

**ЮБЕ́Я** (н.-лац. jubaea) — дрэва сям. пальмавых з ядомымі пладамі, з соку якіх выпрабляецца віно; расце на ўзбярэжжы Чылі; сланова пальма.

**ЮБІЛЕ́Й** [п.-лац. iubilaeus (annus) = юбілейны год, ад ст.-яўр. jōbēl = баран] — гадавіна якой-н. падзеі, дзейнасці якой-н. асобы, існавання ўстановы, горада, а таксама святкаванне гэтай гадавіны.

**ЮВЕЛІ́Р** (ням. Juwelier, ад ст.-ням. jubelierer) — 1) майстар, які вырабляе рэчы з дарагіх металаў і каштоўных камянёў; 2) гандляр каштоўнымі рэчамі, упрыгожаннямі.

**ЮВЕЛІ́Т** (ад гал. juweel) — пластмаса, якая выкарыстоўваецца для прыгатавання вырабаў, што імітуюць рог, чарапаху, янтар.

**ЮВЕНА́ЛІІ** (лац. Juvenalia) — святкаванне ў гонар багіні маладосці ў Стараж. Рыме.

**ЮВЕНАЛО́ГІЯ** (ад лац. iuvenis = малады + *-логія*) — навука, якая вывучае рэзервы чалавечага арганізма і шляхі захавання прымет маладосці на працягу шматгадовага жыцця.

**ЮВЕНА́ЛЬНЫ** (лац. iuvenalis = юны) — непалаваспелы (параўн. *пубертатны*).

**ЮВЕНІ́ЛЬНАСЦЬ** (лац. iuvenilis = юны) — узроставы стан раслін у

перыяд ад з'яўлення парастка да пачатку цвіцення.

**ЮВЕНІ́ЛЬНЫ** (лац. iuvenilis = юны); ю - ы я ф а з ы — непалаваспелыя (лічынкавыя і німфальныя) фазы развіцця жывёл.

**Ю́ГЕНДСТЫЛЬ** (ням. Jugendstil) — нямецкая назва стылю «мадэрн».

**Ю́ГЕР** (лац. iugerum) — зямельная мера паверхні ў Стараж. Рыме, роўная 2942 $м^2$.

**ЮДАІ́ЗМ** (п.-лац. iudaismus, ад лац. iudaicus = яўрэйскі) — 1) манатэістычная рэлігія, распаўсюджаная пераважна сярод яўрэяў; *іудаізм*; 2) моўны зварот, выраз, які ўласцівы яўрэйскай мове.

**ЮДАФІ́Л** (ад лац. iudaeus = яўрэй + *-філ*) — прыхільнік усяго яўрэйскага.

**ЮДАФО́Б** (ад лац. iudaeus = яўрэй + *-фоб*) — ненавіснік яўрэяў; антысеміт.

**ЮЗ** [англ. D.Hughes = прозвішча амер. вынаходцы (1831—1900)] — літарадрукавальны тэлеграфічны апарат.

**Ю́КА** (ісп. iuca, з індз.) — вечназялёная дрэўная расліна сям. лілейных, якая пашырана ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы, а таксама валокны гэтай расліны, з якіх выраблююць канаты, рагожы і інш.

**ЮЛІЯ́НСКІ** (лац. iulianus, ад Julius Caesar = Юлій Цэзар) — звязаны з сістэмай летазлічэння, якую ўвёў рымскі імператар Юлій Цэзар (гл. *каляндар* 2).

**ЮМІ́ЗМ** [ад англ. D.Hume = прозвішча англ. філосафа (1711—1776)] — суб'ектыўна-ідэалістычнае вучэнне аб пачуццёвым вопыце, прынцыпах *агнастыцызму*, створанае Д.Юмам і яго паслядоўнікамі.

**Ю́НГА** (ням. Junge = юнак) — падлетак на судне, які рыхтуецца стаць матросам.

**ЮНГЕРМА́НІЯ** (н.-лац. jungermannia) — пячоначны мох сям. юнгерманіевых, які трапляецца на гнілой драўніне ў вільготных і забалочаных лясах, на аголенай глебе па берагах рэк і ручаёў.

**ЮНГШТУ́РМ** (ням. Jungsturm) — арганізацыя рэвалюцыйнай нямецкай моладзі, створаная ў 1924 г. для барацьбы з фашызмам.

**ЮНІЁР** (лац. iunior = малодшы) — спартсмен ад 18 да 20 гадоў, які ўдзельнічае ў спаборніцтвах сваёй узроставай групы.

**Ю́НКЕР** (ням. Junker = малады дваранін) — 1) выхаванец ваеннага вучылішча, якое рыхтавала афіцэраў у царскай Расіі; 2) памешчык у былой Прусіі.

**ЮПІ́ТЭР** (лац. Juppiter = імя вярхоўнага бога ў старажытнарымскай міфалогіі) — магутны электрычны асвятляльны прыбор, які выкарыстоўваецца пры кіназдымках.

**ЮРА́** (фр. Jura = назва гор у Францыі і Швейцарыі) — другі перыяд *мезазою* ў гісторыі Зямлі, які працягваўся 55—58 млн. гадоў.

**Ю́РСКІ** (ад *юра*); ю. п е р ы я д — тое, што і *юра*.

**ЮРТ** (цюрк. iurt) — сукупнасць уладанняў асобных татарскіх ханстваў.

**Ю́РТА** (цюрк. jurt) — пераноснае жыллё з конусападобным дахам у качавых народаў Азіі.

**ЮРЫДЫЗА́ЦЫЯ** (ад *юрыдычны*) — наданне прававога характару якім-н. фактам, адносінам; пе-

рабольшанае падкрэсліванне юрыдычнага боку якога-н. пытання.

**ЮРЫДЫ́ЧНЫ** (лац. iuridicus = судовы) — 1) звязаны з праважымі нормамі і іх практычным прымяненнем (напр. ю-ая дапамога); 2) звязаны з вывучэннем права (напр. ю-ая адукацыя); 3) які мае адносіны да арганізацыі работы ў галіне права (напр. ю-ая кансультацыя, ю-ыя органы).

**ЮРЫСДЫ́КЦЫЯ** (лац. iurisdictio = судаводства) — 1) права праводзіць суд, рашаць прававыя пытанні; 2) круг паўнамоцтваў судовага або адміністрацыйнага органа па прававой ацэнцы канкрэтных фактаў і прымяненню прадугледжаных законам санкцый.

**ЮРЫСКО́НСУЛЬТ** (лац. iurisconsultus = правазнавец) — службовая асоба юрыдычнай службы міністэрства, ведамства, прадпрыемства, установы, арганізацыі па практычных пытаннях права і абароны інтарэсаў гэтай арганізацыі ў юрыдычных органах.

**ЮРЫСПРУДЭ́НЦЫЯ** (лац. iurisprudentia = веданне права) — 1) сукупнасць навук аб праве, правазнаўства; 2) практычная дзейнасць *юрыста*.

**ЮРЫ́СТ** (с.-лац. iurista) — спецыяліст у галіне *юрыспрудэнцыі*, дзеяч судовых органаў.

**ЮСТЫ́ЦЫЯ** (лац. iustitia = справядлівасць) — 1) правасуддзе, судаводства; 2) сістэма судовых устаноў.

**ЮСЦІРАВА́ЦЬ** (ням. justieren = выняраць, ад лац. iustus = правільны) — вывяраць механізм, прыбор (напр. ю. мікраскоп).

**ЮТ** (гал. hut = хата) — кармавая надбудова судна, дзе размешчаны жылыя каюты і службовыя памяшканні.

**Ю́ФЕРС** (гал. juffers) — металічнае або драўлянае прыстасаванне для нацягвання снасцей стаячага *такелажу* на невялікіх прамысловых суднах.

**ЮХТ** (цюрк. juft, ад перс. ǰuft = пара) — спецыяльна выробленая і дубленая скура коней, кароў, свіней.

**ЮЮ́БА** (н.-лац. jujuba, ад ар. iuiuba) — калючая кустовая расліна сям. крушынавых з зубчастым лісцем, дробнымі жоўта-зялёнымі кветкамі і ядомымі пладамі, пашыраная ў гарах Паўд.-Усх. Еўропы, Паўд. і Усх. Азіі.

# Я

**ЯВА́НТРАП** (ад яв. Java = назва вострава ў Малайскім архіпелагу + *-антрап*) — выкапнёвы чалавек неандэртальскага тыпу, рэшткі якога знойдзены на Яве.

**ЯГДТА́Ш** (ням. Jagdtasche, ад Jagd = паляванне + Tasche = сумка) — паляўнічая сумка для дзічыны.

**Я́ГЕЛЬ** (саам. jiegel) — кусцісты шэры лішайнік, які з'яўляецца асноўным кормам для паўночных аленяў зімой.

**ЯГУА́Р** (ням. Jaguar, ад тупі-гуарані jagoara) — драпежны звер сям. кашэчых з чырванавата-жоў-

тай поўсцю ў чорныя плямы, які водзіцца ў Амерыцы.

**ЯДВА́Б** (польск. jedwab < чэш. hedvábi, ад ст.-в.-ням. gotawebbi) — *уст.* і *паэт.* шоўк.

**ЯЗМІ́Н** (н.-лац. jasminus, ад перс. iāsāmīn) — кустовая расліна сям. каменяломнікавых з трайчастым лісцем і белымі духмянымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЯК** (тыбецк. gjak) — буйная жвачная рагатая жывёла з доўгай шэрсцю на ніжняй частцы цела, якая водзіцца ў высакагорных раёнах Цэнтр. Азіі.

**ЯКАБІ́НІЯ** (н.-лац. jacobinia) — вечназялёная травяністая расліна сям. акантавых з суцэльным лісцем і ружовымі, чырвонымі, жоўтымі, белымі або аранжавымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЯКАБІ́НЦЫ** (ад ст.-яўр. Jakob = імя святога) — 1) прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычных слаёў Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.; якія займалі памяшканне ў манастыры святога Якава ў Парыжы; дыктатура якабінцаў, устаноўленая 31 мая — 2 чэрвеня 1793 г., была звергнута буйной буржуазіяй 9 тэрмідора (27 ліпеня 1794 г.; гл. *тэрмідор*); 2) *перан.* вальнадумцы.

**ЯЛ** (гал. jol) — вёсельна-парусная марская шлюпка з дзвюма, трыма або чатырма парамі вёсел.

**ЯЛЕ́Й** (гр. elaion = алей) — 1) аліўкавы алей, які ўжываецца ў царкоўнай службе; 2) *перан.* што-н. прыкра-ўгодлівае.

**ЯМ** (цюрк. jam) — *гіст.* паштовая станцыя на тракце, дзе праезджыя мянялі коней.

**ЯМБ** (гр. iambos) — двухскладовая вершаваная стапа з націскам на другім складзе.

**ЯМС** (англ. yams) — травяністая расліна з багатымі на крухмал клубнямі, якая расце ў тропіках і субтропіках.

**Я́НКІ** (англ. yankee) — мянушка амерыканцаў, ураджэнцаў ЗША.

**ЯНО́Т** (рус. енот, ад лац. geneta) — драпежны звярок сям. сабачых з цёмна-жоўтым густым футрам, пашыраны ў Амерыцы; акліматызаваны ў Беларусі.

**ЯНСЕНІ́ЗМ** [ад гал. C.Jansen = прозвішча гал. багаслова (1585—1638)] — рэлігійная рэфармісцкая плынь у каталіцкай царкве 17—18 ст., блізкая да *кальвінізму*.

**Я́НСКІ** [англ. K.Jansky = прозвішча амер. вучонага і вынаходцы (1905—1950)] — адзінка спектральнай шчыльнасці струменю выпучэння, якая прымяняецца ў радыёастраноміі.

**ЯНТА́Р** (літ. gintaras) -- *бурштын*, акамянелая празрыстая смала хвойных дрэў жоўтага колеру розных адценняў.

**Я́НУС** (лац. Janus = імя бога часу, усякага пачатку і канца ў старажытнарымскай міфалогіі) — *перан.* двурушнік.

**ЯНЫЧА́Р** (тур. yeničeri = новае войска) — 1) салдат рэгулярнай прывілеяванай пяхоты ў султанскай Турцыі (да 1826 г.); 2) *перан.* узброены ахоўнік дэспатычнай улады, карнік, кат.

**ЯРА́НГА** (чукоц. jarany) — пераноснае круглае жыллё народаў Поўначы, сцены і канічны дах яко-

га складаюцца з драўлянага каркаса, пакрытага аленевымі шкурамі.

**ЯРД** (англ. yard) — адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 91,44 см.

**ЯРЛ** (ст.-сканд. earl) — 1) знатны чалавек у сярэдневяковай Скандынавіі, а пазней галава вобласці, што падпарадкоўвалася непасрэдна каралю; 2) тытул галоўнакамандуючага марскімі сіламі ў Швецыі 12—13 ст.

**ЯРЛЫ́К** (цюрк. jarlyk) — 1) грамата ханаў Залатой Арды і крымскіх ханаў (13—15 ст.); 2) лісток на чым-н. з назвай рэчы, указаннем нумара, месца вырабу, цаны або іншых звестак (напр. багажны я.); 3) *перан.* уласцівасць, якасць, якая прыпісваецца каму-н. па традыцыі, звычцы (напр. вешаць я.).

**ЯРМО́ЛКА** (польск. jarmulka, ад тур. jahmurluk) — шапачка без аколышка з мяккага матэрыялу, якая шчыльна прылягае да галавы.

**ЯСА́К** (цюрк. jasaq) — даніна, якую ў старажытнасці плацілі падначаленыя народы татарскім ханам.

**ЯСЫ́Р** (тур. esir) — *гіст.* нявольнік, палонны.

**ЯТАГА́Н** (тур. jatagan) — сякучая халодная зброя з выгнутым лязом, распаўсюджаная ад 16 ст. у турках, арабаў і персаў.

**ЯТРАГЕ́НІЯ** (ад гр. iatros = урач + *-генія*) — хвароба, якая ўзнікае як рэакцыя на няправільна зразуметыя хворым словы або паводзіны ўрача, прачытаную медыцынскую літаратуру.

**ЯТРАМЕХА́НІКА** (ад гр. iatros = урач + *механіка*) — кірунак у *медыцыне* 16—18 ст., прадстаўнікі якога спрабавалі растлумачыць усе фізіялагічныя і паталагічныя з'явы на аснове законаў механікі.

**ЯТРАХІ́МІЯ** (ад гр. iatros = урач + *хімія*) — кірунак у *медыцыне* 16—18 ст., прадстаўнікі якога разглядалі працэсы, што адбываюцца ў арганізме, як хімічныя з'явы, хваробы — як вынік парушэння хімічнай раўнавагі.

**-ЯТРЫЯ** (гр. iatreia = лячэнне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае пэўную галіну медыцыны.

**ЯФРЭ́ЙТАР** (ням. Gefreiter) — першае воінскае званне, якое прысвойваецца салдату.

**Я́ХАНТ** (ст.-польск. jachant < с.-в.-ням. jāchant, ад лац. hyacinthus < гр. hyakinthos) — 1) даўнейшая назва *рубіна* і *сапфіра*; 2) ювелірна апрацаваны кавалачак гэтых камянёў (напр. пярсцёнак з яхантам).

**Я́ХТА** (англ. yacht, ад гал. jacht) — парусное або маторнае судна для воднага спорту і прагулак.

**ЯХТ-КЛУ́Б** (англ. yacht-club) — спартыўная арганізацыя, якая аб'ядноўвае спартсменаў, што займаюцца водным спортам (парусным, вёсельным, маторным), а таксама будынак, дзе знаходзіцца гэта арганізацыя.

**ЯХТСМЕ́Н** (англ. yachtsman) — спартсмен, які займаецца водным спортам на *яхтах*.

**Я́ШМА** (тур. yešim, ад ар. yašm) — горная асадачная парода чырвонага, зялёнага, шэрага, белага або чорнага колеру, якая складаецца з дробных зерняў *кварцу*; выкарыстоўваецца як дэкаратыўны камень і ў мастацкіх вырабах.

Даведачнае выданне

**БУЛЫКА**
**Аляксандр Мікалаевіч**
СЛОЎНІК ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ

У 2 тамах

Том 2. М—Я

Адказны за выданне *Л.В.Календа*

Рэдактары: *Г.І.Дайлідава, І.У.Саламевіч*

Мастацкі рэдактар *У.М.Жук*

Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*

Карэктары: *Н.У.Бохан, С.В.Рабец, А.В.Семенчукова, В.П.Спірыдонава, В.М.Чудакова*

Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання: *С.А.Макаёнак* (заг. рэдакцыі), *І.У.Грыцэль, А.У.Гурыновіч, В.Б.Юньская, І.В.Касцюкевіч, І.М.Кузьмянкова, С.М.Хаустовіч*

Падпісана да друку 24.09.99. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера газетная. Гарнітура Таймс. Друк высокі. Ум. друк. арк. 38,64. Ум. фарб.-адб. 38,64. Ул.-выд. арк. 50,54. Тыраж 5000 экз. Заказ 3600.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 31.12.97. Рэспубліка Беларусь. 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце ВПП імя Я.Коласа. Рэспубліка Беларусь. 220005, г. Мінск, вул. Чырвоная, 23.

ISBN 985-11-0153-2

9 789851 101531

